# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

## ТОМ ЧАЦВЁРТЫ

### БЕЛАРУСЬ У СКЛАДЗЕ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ

*(канец XVIII - пачатак XX ст.)*




МІНСК УП "ЭКАПЕРСПЕКТЫВА" 2005

УДК 947.6
ББК 63.4 (4Беи)
Г 51



Рэдактары тома:
В. Яноўская, С. Рудовіч

Аўтары:
М. Біч, В. Яноўская, С. Рудовіч, В. Панюціч, А. Філатава,
А. Кіштымаў, М. Сакалова, У. Філякоў, Я. Насытка,
С. Кузняева, А. Ціхаміраў, Н. Анофранка, А. Ерашэвіч

Г 51 **Гісторыя** Беларусі: У 6 т. Т. 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII– пачатак XX ст.) / М. Біч, В. Яноўская, С. Рудовіч і інш.; Рэдкал.: М.Касцюк (гал.рэд.) і інш. – Мн.: Экаперспектыва, 2005. – 519 с.; іл.

ISBN 985-469-104-7.

У чацвёртым томе разглядаецца мінулае нашай Бацькаўшчыны ў перыяд знаходжання беларускіх зямель у складзе Расійскай імперыі: з канца XVIII ст. да 1917 г. У гэты час на тэрыторыі Беларусі адбываліся падзеі агульнарасійскага, еўрапейскага і нават сусветнага маштабаў.

Разлічана на навукоўцаў, аспірантаў, студэнтаў, выкладчыкаў гісторыі, усіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

**УДК 947.6**
**ББК 63.4 (4Беи)**

ISBN 985-469-104-7 (Т. 4)
ISBN 985-6598-19-2

# УСТУП

Чацвёрты том шасцітомнай "Гісторыі Беларусі" ахоплівае адрэзак часу з канца XVIII ст. да 1917 г. – перыяд знаходжання беларускіх зямель у складзе Расійскай імперыі. Гэта адметны, непаўторны, разам з тым складаны і супярэчлівы этап айчыннай гісторыі. Яго складанасць і супярэчлівасць абумоўліваліся дзвюма буйнамаштабнымі акалічнасцямі.

Па-першае, Беларусь у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст. вызвалілася з улоння гэтай магнацка-шляхецкай рэспублікі і апынулася ў складзе зусім іншай дзяржавы – абсалютысцкай Расійскай імперыі. Аднак яшчэ на працягу доўгага часу тутэйшае грамадства заставалася носьбітам пэўных палітычных, сацыяльных, духоўных, культурна-цывілізацыйных каштоўнасцей, якія сфарміраваліся ў папярэднія стагоддзі ў значнай меры пад уплывам агульнаеўрапейскіх працэсаў. Такім чынам, Беларусь аказалася месцам гістарычнай сустрэчы і ўзаемадзеяння еўрапеізаваных норм жыцця з тымі сацыяльна-палітычнымі і культурнымі стандартамі, што панавалі ў еўрапейска-азіяцкай імперыі Раманавых. З гэтага часу асноўнай тэндэнцыяй стала паступовая пераарыентацыя Беларусі з заходняга на ўсходні вектар развіцця. Вядома, уніфікацыя царызмам беларускіх зямель з агульнаімперскай сацыякультурнай прасторай не была аднамомантным актам. Гэта быў доўгі, супярэчлівы, шмат у чым драматычны працэс, які фактычна працягваўся да 1917 г., што і прадвызначыла адну з найважнейшых асаблівасцей беларускай гісторыі ў XIX – пачатку XX ст.

Па-другое, у адзначаны перыяд у Беларусі дасягнуў апагею крызіс традыцыйнага феадальна-прыгонніцкага грамадства і пачалася яго трансфармацыя ў прынцыпова новую якасць – індустрыяльную цывілізацыю. Як і паўсюдна, працэс мадэрнізацыі выклікаў тут глыбокія структурныя зрухі ў сацыяльна-эканамічнай сферы, суправаджаўся кардынальнымі мадыфікацыямі грамадска-палітычных адносін, духоўнага жыцця, маралі, побыту людзей. Але паколькі Расійская імперыя ўвасабляла сабой даганяючы тып мадэрнізацыі, гэта не магло не адбіцца на тэмпах, формах і выніках дадзенага глабальнага працэсу на беларускіх землях.

З мэтай як мага больш поўна і адэкватна адлюстраваць эвалюцыю беларускага соцыуму з канца XVIII да пачатку XX ст. аўтары тома імкнуліся выявіць і прааналізаваць агульныя і асаблівыя, заканамерныя і выпадковыя, аб'ектыўныя і суб'ектыўныя фактары, якія, з аднаго боку, прадвызначылі ўключанасць краю ў агульнарасійскі і (праз пасрэдніцтва Расіі) агульнаеўрапейскі гістарычны кантэкст, з другога – фарміравалі перадумовы для станаўлення Беларусі як самастойнага суб'екта гісторыі.

Структура дадзенага тома адпавядае прынятай у гістарычнай навуцы перыядызацыі айчыннай гісторыі XIX – пачатку XX ст. Кніга складаецца з трох раздзелаў.

У першым раздзеле, які ахоплівае перыяд з канца XVIII ст. да сярэдзіны XIX ст., асвятляецца саслоўная, нацыянальная, канфесіянальная палітыка царызму ў новадалучаных землях. Упершыню аналізуюцца тагачасныя дэмаграфічныя працэсы, з пазіцый сучаснай навуковай метадалогіі разглядаюцца развіццё эканомікі, нацыянальны і грамадска-палітычны рух. Асобны параграф прысвечаны падзеям французска-расійскай вайны 1812 г., палітыцы Напалеона ў дачыненні да Беларусі.

У другім раздзеле (60 – 90-я гг. XIX ст.) паказаны зрухі ў развіцці прамысловасці, сельскай гаспадаркі на аснове ўкаранення капіталістычных адносін пасля адмены прыгоннага права. Раскрыты сацыяльна-класавыя трансфармацыі, пачатак фарміравання грамадскай супольнасці. З улікам сучасных навуковых уяўленняў аналізуецца гісторыя паўстання 1863 – 1864 гг., розных плыней грамадскага руху, развіццё адукацыі і культуры, асвятляецца гісторыя канфесіянальнага жыцця ў Беларусі.

Трэці раздзел прысвечаны даследаванню суадносін паміж рэфармісцкімі і рэвалюцыйнымі шляхамі пераўтварэння беларускага грамадства пачатку XX ст. Падрабязна аналізуюцца новыя з'явы ў эканоміцы, хістанні і супярэчнасці палітыкі царызму ў Беларусі напярэдадні яго краху, шмат месца адведзена ўзнікненню і дзейнасці палітычных партый і арганізацый. Значная ўвага нададзена гісторыі беларускага нацыянальна-палітычнага і культурна-асветніцкага руху, барацьбе за аднаўленне беларускай дзяржаўнасці, высвятленню асаблівасцей нацыятворчых працэсаў. Упершыню ў падагульняючай працы па гісторыі Беларусі паказаны пачатак фарміравання беларускай дыяспары. У заключным раздзеле асвятляецца становішча Беларусі ва ўмовах сістэмнага крызісу Расійскай імперыі, выкліканага Першай сусветнай вайной і Лютаўскай рэвалюцыяй 1917 г.

## Гістарыяграфія

Гістарыяграфічная спадчына па гісторыі Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. даволі багатая. Важнейшыя праблемы, якія цікавілі даследчыкаў раней і застаюцца ў полі зроку сучасных гісторыкаў, гэта палітыка царызму ў Беларусі пасля далучэння яе да Расійскай імперыі, паўстанні XIX ст. і іх уплыў на развіццё гістарычнага працэсу, іншыя грамадскія рухі, сацыяльна-эканамічнае становішча, развіццё культуры, фарміраванне класаў буржуазнага грамадства, Беларусь у вайне 1812 г. і ў перыяд Першай сусветнай вайны. У апошнія гады прыярытэтнымі напрамкамі ў даследаванні гісторыі Беларусі ў складзе Расійскай імперыі становяцца пытанні нацыятворчых і дэмаграфічных працэсаў, станаўлення грамадзянскай супольнасці, канфесіянальнай гісторыі, развіцця прадпрымальніцтва, фарміравання беларускай дыяспары.

Палітыка Кацярыны II і Паўла I у дачыненні да Беларусі, стварэнне тут новых органаў улады асвятляюцца ў шэрагу прац дарэвалюцыйнага даследчыка П. Жуковіча[1]. Каштоўнасць іх заключаецца ў вялікім фактычным матэрыяле, сабраным аўтарам. П. Жуковіч адзначаў, што Кацярына II не пас-

[1] *Жукович П.* Управление и суд в Западной России в царствование Екатерины II // Журнал министерства народного просвещения (далей – ЖМНП). 1914. №2. С.265–315; №3. С.88–120; №4. С.314–355; №5. С.1–43; *Ён жа.* Сословный состав населения Западной России в царствование Екатерины II // ЖМНП. 1915. №1. С.76–109; № 2 С. 257–321; №5. С.130–178; *Ён жа.* Западная Россия в царствование императора Павла I // ЖМНП. 1916. № 6. С.183–226; № 8. С.207–263; № 9. С.186–275.

пела распаўсюдзіць фактычнае дзеянне сістэмы абласнога судова-адміністрацыйнага кіравання на землі, далучаныя пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, але яна змагла ўсё ж "закласці грунтоўны фундамент для ўзвядзення сваёй сістэмы". Шэраг аспектаў, прысвечаных дадзенай праблеме, аналізуе сучасны даследчык Я. Анішчанка[1].

Значнае месца ў гісторыі Беларусі XIX ст. займае французска-расійская вайна 1812 г. У расійскай дасавецкай гістарыяграфіі перавага аддавалася адлюстроўванню ваенных дзеянняў. У вялікай масе літаратуры вылучаліся даследаванні ваенных гісторыкаў Д. Бутурліна, А. Міхайлоўскага-Данілеўскага, М. Багдановіча і інш.[2] У другой палове XIX – пачатку XX ст. з'явіўся шэраг прац, у якіх разглядалася становішча беларуска-літоўскіх зямель пад французскай акупацыяй у 1812 г.[3]

Вайне 1812 г. прысвечана даследаванне беларускага савецкага гісторыка Я. Карнейчыка[4]. Ён засярodзіў сваю ўвагу на ваенных дзеяннях і партызанскай барацьбе на тэрыторыі Беларусі, закрануў дзейнасць французскіх акупацыйных улад і Часовага ўрада ВКЛ.

У 90-я гг. XX ст. з'явіўся шэраг артыкулаў беларускіх даследчыкаў з новымі поглядамі на вайну 1812 г. Яе перасталі называць "айчыннай", перагледжаны ацэнкі партызанскага руху ў Беларусі, даследуецца дзейнасць французскіх акупацыйных улад, Часовага ўрада ВКЛ. Уведзены такі аспект, як дзейнасць царскіх улад на неакупіраванай частцы тэрыторыі Беларусі[5].

Пытанні нацыянальнай палітыкі Расійскай імперыі на тэрыторыях, далучаных у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай, у дарэвалюцыйны час амаль не даследаваліся. У пачатку XX ст. канцэптуальныя аспекты праблемы з манархісцкіх пазіцый паспрабаваў разгледзець Л. Ціхаміраў. Ён адзначаў, што вялікія дзяржавы далучаюць да сваёй тэрыторыі не толькі розныя плямёны, але і "цэлыя нацыянальнасці, нярэдка абломкі былой дзяржаўнасці"[6]. Менавіта яны і ўносяць у дзяржаўнае жыццё мноства элементаў разнадумнасці, спрэчак і нават унутранай барацьбы. Таму асноўнай задачай нацыянальнай палітыкі, на яго погляд, з'яўляецца стварэнне ўнутранага адзінства дзяржавы, для чаго патрэбны: аднадумнасць, агульнасць веры, інтарэсаў, сумеснай матэрыяльнай працы, культурных і навуковых асноў развіцця, адна дзяржаўная мова (якая, праўда, не падаўляла б мясцовыя, а развівала іх)[7].

---

[1] *Анішчанка Я.К.* Беларусь у часы Кацярыны II. Мн., 1996.

[2] *Бутурлин Д. П.* История нашествия императора Наполеона на Россию в 1812 году. СПб., 1823–1824. Ч. 1–2; *Михайловский-Данилевский А. И.* Описание Отечественной войны в 1812 году. СПб., 1839. Ч.1–4; *Богданович М. И.* История Отечественной войны 1812 года по достоверным источникам. СПб., 1859–1860. Т. 1–3

[3] *Кудринский Ф. А.* Вильна в 1812 году. Вильно, 1912; *Бернацкий Н.* События в Вильно в 1812 году. Вильно, 1912; *Орловский Е. Ф.* Гродненская губерния в 1812 году. Гродно, 1912; *Краснянский В.Г.* Минский департамент Великого княжества Литовского. СПб., 1902; *Ён жа.* Борисов и Борисовский уезд в Отечественную войну 1812 года. Гродно, 1913; *Глыбовский В.И.* 1812 год в Витебской губернии. Витебск, 1910; *Добровольский В. К.* Витебская губерния в Отечественную войну. Витебск, 1912; *Цехановецкий В.П.* Краткое описание военных действий в Витебской губернии во время Отечественной войны 1812 года. Витебск, 1892; *Бриллиантов Л.И.* Година тяжелого испытания и великой неувядаемой славы русского народа. Город Могилев во власти французов. Могилев, 1912; *Лунин А.П.* 1812 год. Наполеон в пределах Могилевской губернии. Могилев, 1912; *Чистяков С.Д.* Борисовцы в Могилеве на Днепре. Эпизод из Отечественной войны. СПб., 1897.

[4] *Корнейчик Е.* Белорусский народ в Отечественной войне 1812 г. Мн., 1962.

[5] Французская рэвалюцыя і лёсы свету. Мн., 1999; Французска-руская вайна 1812 г.: еўрапейскія дыскурсы і беларускі погляд. Мн., 2003.

[6] *Тихомиров Л.А.* Монархическая государственность. СПб., 1992. С.646.

[7] Там жа. С.646–652.

Канчатковым вынікам такой палітыкі павінна быць "зліццё ўсіх народнасцей дзяржавы ў адну вялікую нацыю"[1].

Савецкая гістарыяграфія таксама нячаста звярталася да гэтай праблемы. У манаграфіі Т. Бурмістравай[2] у адпаведнасці з марксісцка-ленінскай тэорыяй праз прызму нацыянальнай палітыкі партыі бальшавікоў разгледжаны і некаторыя аспекты палітыкі царскага ўрада на далучаных тэрыторыях. У якасці адпраўнога пункта нацыянальнай палітыкі самадзяржаўя даследчыца называе заканадаўчы акт Аляксандра II "Высочайше утвержденные 26 марта 1870 года правила о мерах образования населяющих Россию инородцев"[3]. Згодна з гэтым дакументам народы Поўначы, Сібіры, Сярэдняй Азіі, татары, яўрэі названы "неполноправными инородцами". Сярод асноўных кірункаў нацыянальнай палітыкі царызму Т. Бурмістрава вылучыла наступныя: абмежаваныя магчымасці эканамічнага развіцця нацыянальных меншасцей, палітычны і культурны прыгнёт, правядзенне "прымусовай русіфікацыі", уціск неправаслаўных канфесій.

У канцы XIX–XX ст. выйшаў шэраг манаграфічных даследаванняў, а таксама зборнікаў артыкулаў, прысвечаных нацыянальным меншасцям. У іх закраналіся і пытанні нацыянальнай палітыкі царскага ўрада[4].

Цікавы погляд на гэту праблему выказаны амерыканскім даследчыкам Т. Віксам[5]. На яго думку, нават у другой палове XIX ст. у Расійскай імперыі наогул не было такой з'явы, як "нацыянальная палітыка". Назіралася толькі некаторая спецыфіка палітычных, адміністрацыйных або мясцовых патрабаванняў, якія дапамагалі царскаму ўраду, абапіраючыся на пануючую рускую нацыю, уцягваць рэгіёны і нярускае насельніцтва ў імперскае жыццё.

Сярод сучасных расійскіх даследчыкаў выклікае цікавасць праца Б. Міронава[6], які вылучыў два этапы нацыянальнай палітыкі: да і пасля 1863 г. (з пераходным перыядам паміж 1830 і 1863 гг.). Аўтар лічыць, што да 1830 г. палітыка царскага ўрада была талерантнай да нацынальных асаблівасцей і прагматычнай. Абставіны змяніліся пасля паўстання 1830–1831 гг., якое аўтар традыцыйна для расійскай гістарыяграфіі называе "польскім". З гэтага часу нацыянальная палітыка ўрада стала больш жорсткай. Аднак толькі ў заходніх землях імперыі яна прыняла форму рэпрэсій і была скіравана на скасаванне іх адміністрацыйна-палітычнай аўтаноміі. Да другога, на думку

---

[1] *Тихомиров Л.А.* Монархическая государственность. С.652.

[2] *Бурмистрова Т.Ю.* Ленинская политика пролетарского интернационализма в период образования РСДРП (1894–1903 гг.). Л., 1962;

[3] Там жа. С.83.

[4] *Гессен Ю.* История евреев в России. СПб., 1914; *Голицын Н.Н.* История русского законодательства о евреях: В 2 т. СПб., 1886. Т.1. 1649 – 1825; *Дубнов С.М.* Новейшая история еврейского народа (1789–1881). СПб., 1914; *Дубнов С.М.* Новейшая история еврейского народа: В 3 т. Рига, 1937–1938; *Оршанский И.* Евреи в России. СПб., 1872; *Клиер Дж.* Россия собирает своих евреев: Происхождение еврейского вопроса в России. 1772–1825. М., 2000; *Stanislawski M.* Tsar Nicolas 1 and the Jews. The transformation of Jewish society in Russia. 1825 – 1855. Philadelphia, 1983; *Кузняева С.* Еврейские общины Беларуси в конце XVIII – начале XX века. Мн., 1998; *Анищенко Е.* Черта оседлости. Мн., 1998; *Мухлинский А.* Исследование о происхождении и состоянии литовских татар. СПб., 1857; *Kryczynski S.* Tatarzy litewscy: Proba monografii historycno-etnograficnej. Warszawa, 1938; *Tyszkiewicz J.* Tatarzyna na Litwie i w Polsce: Stydia z dziejow XIII–XVIII w. Warszawa, 1989; *Tyszkiewicz J.* Z historii tatarow polskich. 1794–1944. Pultusk, 1998; *Думін С.У., Канапацкі І.Б.* Беларускія татары. Мінулае і сучаснасць Мн., 1993; *Канапацкі І.Б., Смолік А.І.* Гісторыя і культура беларускіх татар. Мн., 2000; Нацыянальная палітыка расійскага самадзяржаўя ў канцы XVIII – пачатку XIX стагоддзяў. Мн., 1995.

[5] *Weeks T.* Nation and State in Late imperial Russia. Illinois, 1996.

[6] *Миронов Б.Н.* Социальная история России: В 2 т. СПб., 1999. Т.1.

Б. Міронава, таксама "польскага" паўстання 1863–1864 гг. нацыянальная палітыка не мела культурна-моўнай накіраванасці, а яе жорсткасць праяўлялася толькі ў адносінах да польскіх сепаратыстаў і тых, хто іх падтрымліваў. З 1863 г. палітыка, накіраваная на адміністрацыйную інтэграцыю нацыянальных ускраін з усёй імперыяй, стала ўсеагульнай, і да яе далучылася моўна-культурная уніфікацыя ў форме русіфікацыі. Гэту праблему закранаюць расійскі гісторык Л. Гарызонтаў[1] і беларускі даследчык А. Смалянчук[2].

Вывучэнне сацыяльна-эканамічных праблем заўсёды з'яўлялася адным з вядучых напрамкаў гістарыяграфіі. Але разгляд эканамічнага мінулага Беларусі як асобнай тэрыторыі пачаўся толькі ў савецкі час. Нягледзячы на ідэалагічныя абмежаванні, што перашкаджалі шматбаковаму погляду на гістарычную рэчаіснасць, беларуская савецкая гістарыяграфія налічвае некалькі даволі грунтоўных калектыўных і манаграфічных прац. Першым значным даследаваннем абагульняючага характару стала манаграфія М. Доўнар-Запольскага "Народное хозяйство Белоруссии в 1861–1914 гг."[3] У ёй вучоны зрабіў спробу навукова абгрунтаваць свой ранейшы тэзіс аб эканамічнай своеасаблівасці беларускіх губерняў Беларусі ў пачатку XX ст. Прынцыпова важнай з'яўляецца выснова аўтара адносна характарыстыкі другой паловы XIX – пачатку XX ст. як аб часе індустрыялізацыі беларускіх зямель[4]. Аднак гэтыя погляды вучонага сталі ў 20-я – пачатку 30-х гг. аб'ектам знішчальнай крытыкі і на доўгі час засталіся па-за ўвагай афіцыйнай савецкай гістарыяграфіі.

Яшчэ ў працах дасавецкіх гісторыкаў, эканамістаў, статыстыкаў нарадзілася традыцыя разглядаць Беларусь як поле барацьбы паміж расійскім і польскім капіталам. З некаторымі карэкціроўкамі гэта сцвярджэнне перайшло і ў гістарыяграфію савецкага часу. Такога тэзісу, напрыклад, прытрымліваўся А. Цвікевіч, які лічыў, што "развіццё грамадзка-культурнага жыцця на Беларусі ўвесь час знаходзілася ў беспасрэднай залежнасьці ад барацьбы польскага і расійскага капіталу за беларускі рынак"[5]. Аднак гэта сцвярджэнне не мае дастатковых гістарычных аспоў. Наадварот, эканоміка Беларусі дамінавала на сваім рынку, займала адметную нішу на ўсерасійскім рынку і магла самастойна ўдзельнічаць у міжнародным падзеле працы[6].

Агульным для работ, у якіх закранаюцца пытанні эканамічнай гісторыі Беларусі, з'яўляецца ўстанаўленне непарыўнай сувязі паміж развіццём рыначных, капіталістычных адносін і эвалюцыяй грамадства. Прамысловае развіццё Беларусі асвятляецца ў працах Д. Дудкова[7], Н. Раманоўскага[8],

---

[1] *Горизонтов Л.Е.* Парадоксы имперской политики: поляки в России и русские в Польше. М., 1999.

[2] *Смалянчук А.Ф.* Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях 1864–1917 г. Гродна, 2001.

[3] *Довнар-Запольский М.В.* Народное хозяйство Белоруссии в 1861–1914 гг. Мн., 1926.

[4] *Доўнар-Запольскі М.В.* Гісторыя Беларусі. Мн., 1994. С.386–389.

[5] *Цьвікевіч А.* "Западно-руссизм": Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Мн., 1993. С. 5.

[6] *Киштымов А.* Вопросы экономического развития Беларуси и белорусская национальная идея в начале XX в. // Białoruskie Zeszyty Historyczne – (Беларускі гістарычны зборнік). Nr. 17. Białystok, 2002. С. 88–118.

[7] *Дудкоў Д.А.* Аб развіцці капіталізму ў Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. Мн., 1932.

[8] *Романовский Н.Т.* Развитие мануфактурной промышленности в Белоруссии (вторая половина XVIII – первая половина XIX века). Мн., 1966.

М. Болбаса[1]. Гэта тэма закранута таксама ў манаграфіях, прысвечаных гісторыі пралетарыяту Беларусі.

Гісторыя рабочага класа была адной з вядучых тэм у беларускай гістарыяграфіі XX ст. У 20–80-я гг. убачылі свет дзесяткі манаграфій, сотні артыкулаў, у якіх разглядаліся розныя аспекты гэтай праблемы. Іх аўтары паказалі перадумовы і ўмовы фарміравання пралетарыяту, яго структуру і склад, прававое і эканамічнае становішча. У даследаваннях прыводзяцца статыстычныя паказчыкі, якія характарызуюць дынаміку і размах асноўных формаў рабочага руху. Варта заўважыць, што амаль да сярэдзіны 80-х гг. XX ст. эканамічная і палітычная барацьба рабочых Беларусі асвятлялася пераважна пры дапамозе ілюстрацыйна-апісальнага метаду. Апрача таго, вузкае кола выкарыстаных крыніц не дазваляла іх аўтарам даць поўную карціну рабочага руху Беларусі на рубяжы XIX–XX стст. Гэтыя недахопы ў значнай ступені былі пераадолены ў даследаваннях М. Біча, Э. Савіцкага ў падагульняючым выданні па гісторыі рабочага класа Беларусі[2]. Аўтары названых прац фактычна нанова, па першакрыніцах даследавалі рабочы рух ад рэформы 1861 г. да Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Пры асвятленні многіх пытанняў яны шырока выкарысталі розныя статыстычныя выданні і перыядычны друк канца XIX – пачатку XX ст., а таксама новыя архіўныя дакументы.

Прыкметнае месца ў работах гісторыкаў XX ст. займала і асвятленне ідэйна-арганізацыйнага росту рабочага руху пад уплывам распаўсюджвання марксізму, дзейнасці сацыял-дэмакратычных арганізацый, а таксама рэвалюцыйныя сувязі рабочых Беларусі і Расіі[3].

У гісторыка-эканамічных працах знайшлі адлюстраванне асноўныя рысы эканамічнай палітыкі царызму ў Беларусі. Большасць з іх, нягледзячы на відавочны ідэалагічны адбітак часу, падкрэсліваюць адметнасці рэальнага становішча беларускай эканомікі. Гэта сведчанне таго, што ўплыў эканамічнай палітыкі самадзяржаўя значна саступаў яго палітычнаму дамінаванню.

Савецкая гістарыяграфія шмат дзесяцігоддзяў зыходзіла з тэзісу аб каланіяльным становішчы Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. Цалкам у рэчышчы такіх поглядаў напісана кніга І. Саладкова[4] і калектыўная манаг-

[1]*Болбас М.Ф.* Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861). Мн., 1966; *Ён жа.* Промышленность Белоруссии. 1860–1900. Мн., 1978.

[2]*Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг. Мн., 1983; *Савицкий Э.М.* Революционное движение в Белоруссии (август 1914 – февраль 1917 г.). Мн., 1981; *Ён жа.* Рабочее движение в Беларуси (июль 1907 – февраль 1917 гг.). Мн., 1995; История рабочего класса Белорусской ССР: В 4 т. Т.1. Рабочий класс Белоруссии в период капитализма. Мн., 1984.

[3]*Мяшкоў М.М., Шкляр М.Я., Скарабагаты В.У.* Бальшавікі Беларусі ў першай рускай рэвалюцыі. Мн., 1955; *Шаціла В.У.* Рэвалюцыйная барацьба ў Мінску ў гады першай рускай рэвалюцыі (1905–1907 гг.). Мн., 1956; *Бугаев Е.И.* Возникновение большевистских организаций и образование Компартии Белоруссии. М., 1959; *Воранава А.І.* Рабочы рух у Беларусі напярэдадні і ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг. Мн., 1960; *Солодков Т.Е.* Борьба трудящихся Белоруссии против царизма. Мн., 1967; *Ефремова О.И.* Роль ленинской "Искры" в распространении марксизма в Белоруссии. Мн., 1980; *Диренок Е.Д.* Полесская организация большевиков в борьбе против царизма (1903–март 1917). Мн., 1971; *Солошенко В.И.* Большевики в борьбе с мелкобуржуазными партиями в Белоруссии (1903 – март 1917 ). Мн., 1981; *Кузняев А.А.* На пути к Октябрю. Мн., 1970; *Бич М.О.* Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883–1903 гг. Мн., 1973; *Филяков В.Г.* Революционные связи рабочих Белоруссии и России в конце XIX – начале XX в. (1895 – 1907 гг.). Мн., 1987.

[4] *Солодков И.И.* Социально-экономическое положение Белоруссии до Великой Октябрьской социалистической революции (конец XIX – начало XX в.). Мн., 1957.

рафія "Экономика Белоруссии в эпоху империализма"[1] . І толькі ў 1965 г. В. Цімашэнка змагла даць прынцыпова іншы адказ на гэта складанае пытанне[2]. У апошняе дзесяцігоддзе з'явіліся новыя абгрунтаваныя доказы эканамічнай самадастатковасці Беларусі[3].

Абсалютызацыя гістарычнай ролі рабочага класа ў савецкай гістарычнай навуцы вызначыла звужэнне тэматыкі даследаванняў і адсутнасць разумення гістарычна абумоўленай ролі рынку і рыначных адносін у грамадстве. Аднак нават і на гэтым фоне своеасаблівымі рэліктамі свабоднага гістарычнага мыслення вызначаліся працы М. Улашчыка[4] і серыя артыкулаў В. Цімашэнкі[5].

Гісторыі гандлю і рыначных адносін у Беларусі прысвечаны манаграфіі В. Шведа[6] і Х. Бейлькіна[7]. Абедзве працы змяшчаюць вялікі фактычны матэрыял, але яго рэпрэзентатыўнасць аўтары ацэньваюць не заўсёды крытычна. Нельга пагадзіцца і з некаторымі высновамі аўтараў, напрыклад, аб тым, што скасаванне прыгону было "заканамерным вынікам" развіцця гандлю[8], а сельскагаспадарчы рынак нібыта мае дачыненне да стварэння "аб'ектыўных умоў для буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі і яе перарастання ў сацыялістычную"[9].

Сацыяльна-эканамічную гісторыю гарадоў Беларусі першай паловы XIX ст. даследавалі В. Чапко[10] і А. Люты[11]. Працы ўтрымліваюць багаты гістарычны матэрыял, таму вельмі каштоўныя для даследчыкаў гэтай праблематыкі. Аднак шэраг супярэчнасцей, якія сустракаюцца як у асобных частках кожнай манаграфіі, так і пры параўнанні іх, не дае падставы цалкам пагаджацца з аўтарскімі высновамі.

У 1997 г. З. Шыбека, які пачаў вывучэнне гісторыі гарадоў з Мінска канца XIX – пачатку XX ст.[12], выдаў абагульняючую манаграфію "Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX стагоддзяў)"[13]. У даследаванні пры дапамозе сучасных гісторыка-матэматычных метадаў дадзены комплексны нарыс ур-

---

[1] Экономика Белоруссии в эпоху империализма. Мн., 1963.

[2] *Тимошенко В.В.* Была ли Белоруссия при царизме колонией в экономическом смысле? // История СССР. 1965. №1. С.38–50.

[3] *Киштымов А.Л.* Экономические достижения Беларуси в XIX – начале XX в. // Гісторыя Беларусі ў еўрапейскім кантэксце. Мн., 2002. С.22–52.

[4] *Киштымов А.Л.* Исторические особенности экономического развития Беларуси XX века в научных трудах Н.Н.Улащика // М.М.Улашчык і праблемы беларускай гістарыяграфіі, крыніцазнаўства і археаграфіі (да 90-х угодкаў вучонага). Мн., 1997. С. 136–144.

[5] *Тимошенко В.В.* Роль банков в льноторговле дореволюционной Белоруссии (1900–1914 гг.) // Вопросы развития народного хозяйства Белоруссии и Прибалтики. Мн., 1963. С. 151–158; *Яна ж.* Была ли Белоруссия при царизме колонией в экономическом смысле? // История СССР. 1965. № 1. С. 38–50; *Яна ж.* Кредитная система Белоруссии в начале XX в. // Исторические записки. М., 1965. Т. 78. С. 63–84.

[6] *Швед В.В.* Торговля в Белоруссии в период кризиса феодализма (1830–1850-е годы). Гродно, 1995.

[7] *Бейлькин Х.Ю.* Сельскохозяйственный рынок Белоруссии. 1861–1914 гг. Мн.,1989.

[8] *Швед В.В.* Торговля в Белоруссии в период кризиса феодализма (1830–1850-е годы). С.83.

[9] *Бейлькин Х.Ю.* Сельскохозяйственный рынок Белоруссии. 1861–1914 гг. С. 238.

[10] *Чепко В.В.* Города Белоруссии в первой половине XIX века. Экономическое развитие. Мн., 1981.

[11] *Лютый А.М.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. Мн., 1987.

[12] *Шибеко З.В.* Минск в конце XIX – начале XX в. Очерк социально-экономического развития. Мн., 1985.

[13] *Шыбека З.* Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX стагоддзяў). Мн., 1997.

банізацыі Беларусі на працягу амаль 50 гадоў. Гэта праца – першае манаграфічнае даследаванне сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі, якое цалкам знаходзіцца ў рэчышчы новых поглядаў сучаснай гістарычнай навукі.

Праблема суадносін дзяржаўнай эканамічнай палітыкі і прыватнай эканамічнай ініцыятывы з'яўляецца адным з ключавых месцаў ва ўсім коле складанай і шмат у чым новай для сучасных беларускіх гісторыкаў праблемы гісторыі беларускага рынку. Гістарыяграфія эканамічнай палітыкі самаўладдзя прайшла шлях ад апалагетыкі царскіх часоў да пагромнай крытыкі ў працах савецкіх гісторыкаў і толькі ў апошняе дзесяцігоддзе стала прадметам больш узважанага аналізу з пазіцый эканамічнай мэтазгоднасці і магчымасцей[1].

Сярод тэм, на якія распаўсюджвалася ідэалагічная забарона савецкіх часоў, была ацэнка гістарычнай ролі носьбітаў эканамічнай ініцыятывы – прадпрымальнікаў. Між тым вывучэнне гістарычнага партрэта беларускага прадпрымальніцтва дазваляе на падставе параўнальнага аналізу адлюстраваць уплыў агульнасусветных, еўрапейскіх і расійскіх тэндэнцый на сацыяльна-эканамічную гісторыю Беларусі, не пакідаючы ў баку яе рэгіянальныя асаблівасці, бо менавіта ва унікальным вопыце прадпрымальнікаў увасобіліся мясцовыя, тыповыя для Беларусі эканамічныя рысы.

У цэлым аб'яднання фактычнага і апісальнага матэрыялу, назапашанага беларускай гістарыяграфіяй, і сапраўднага навуковага асэнсавання эканамічнага становішча Беларусі XIX – XX стст. пакуль што не адбылося. Шэраг прынцыповых пытанняў па-ранейшаму застаюцца ў разрадзе дыскусійных або наогул не даследаваных. Да іх адносяцца: тэхнічны і прамысловы пераварот у Беларусі і роля навукова-тэхнічных навацый у развіцці яе эканомікі; шляхі зносін; гісторыя крэдытнай і банкаўскай справы; асаблівасці развіцця беларускага рынку і яго месца ва ўсерасійскай і сусветнай гаспадарках. Адсутнічаюць абагульняючыя навуковыя манаграфіі па гісторыі ўнутранага і знешняга гандлю Беларусі, урбанізацыйных працэсаў, эканамічнай эвалюцыі беларускага маёнтка. Гістарыяграфія да гэтага часу не змагла пераадолець мяжу 1861 г. і разглядаць эканамічную гісторыю ў агульным рэчышчы падзей канца XVIII – пачатку XX ст.

У перыядызацыі аграрнай гісторыі савецкія даследчыкі прытрымліваліся марксісцкага, фармацыйнага прынцыпу. Канец XVIII ст. – 1850-я гг. характарызаваліся як перыяд глыбокага і ўсебаковага крызісу феадальна-прыгонніцкага ладу і зараджэння ў эканоміцы (прамысловасці і сельскай гаспадарцы) Беларусі капіталістычных адносін[2]. Сялянская рэформа 1861 г. была агульнапрызнана ў савецкай гістарыяграфіі як пачатак капіталістычнай фармацыі. Гэтым пытанням нададзена ўвага ў манаграфіях М. Улашчыка, М. Фрыдман[3]. Важнейшыя сацыяльна-эканамічныя аспекты станаўлення капіталістычнага ладу ў беларускай вёсцы, развіццё сельскагаспадарчага рынку, змены ў структуры землеўладання і землекарыстання, формы і роля феадальна-прыгонніцкіх перажыткаў, сацыяльнае разлажэн-

---

[1] *Киштымов А.Л.* Экономика Белоруссии XIX – начала XX в.: государственная политика и частная инициатива // Экономическая история России XIX–XX вв.: современный взгляд. М., 2000. С. 132–145; *Ён жа.* Частная и государственная собственность в экономике Беларуси начала XX века // Собственность в XX столетии. М., 2001. С. 224–237.

[2] *Кернажыцкі К.І.* Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. Мн., 1935; *Ён жа.* Аграрная рэформа ў Бабруйскім старостве і эканамічнае становішча яго насельніцтва з XVII да паловы XIX ст. Мн., 1931; *Чепко В.В.* Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX в. Мн., 1966; *Козловский П.Г.* Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII – первой половине XIX в. Мн., 1982.

[3] *Улащик Н.Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. М., 1965; *Фридман М.Б.* Отмена крепостного права в Белоруссии. Мн., 1958.

не сялянства, фарміраванне класаў аграрнай буржуазії і сельскагаспадарчага пралетарыяту даследаваны ў кнігах Д. Дудкова, Л. Ліпінскага, Х. Бейлькіна[1].

Праблемы сацыяльна-эканамічнага развіцця беларускай парэформеннай вёскі з'явіліся прадметам даследаванняў В. Панюціча[2]. У яго працах асвятляюцца пазямельная палітыка царскага ўрада, прадукцыйныя сілы сельскай гаспадаркі, дыферэнцыяцыя сялянства, выкарыстанне наёмнай працы ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Вывучаюцца дэмаграфія сялянскага насельніцтва, аграрнае перанасяленне, адыходніцтва, сацыяльная арганізацыя сялян, сямейныя падзелы.

Вялікую ўвагу гісторыкаў прыцягвалі хваляванні сялян. Адным з першых даследчыкаў сялянскага руху ў Беларусі быў У. Пічэта[3]. У пачатку 30-х гг. даследаванне гэтай тэмы працягваў К. Кернажыцкі[4].

У 50–80-я гг. тэматыка сялянскага руху выйшла на адно з першых месцаў у беларускай гістарыяграфіі. Асабліваи увагі сярод іх заслугоўвае кніга К. Шабуні[5]. Аўтар упершыню ў беларускай гістарыяграфіі ўжыў статыстычны метад вывучэння сялянскіх хваляванняў, дапоўніўшы і ўдасканаліўшы яго ў адпаведасці з асаблівасцямі беларускай вёскі. Распрацаваная ім методыка падліку выступленняў не страціла свайго значэння і сёння.

Сялянскі рух на зыходзе прыгонніцкай эпохі даследавала В. Чапко[6]. Шэраг манаграфій і навуковых артыкулаў прысвечаны сялянскаму руху ў Беларусі ў пачатку XX ст.[7] Але ўсе яны мелі істотны недахоп – недастатковую базу крыніц, што не давала магчымасці скласці поўнае, аб'ектыўнае ўяўленне пра сялянскі рух. Не была раскрыта спецыфіка і размах сялянскай барацьбы па рэгіёнах Беларусі. Гэты хіб у пэўнай ступені быў пераадолены ў даследаванні У. Крука[8]. У аснову яго працы пакладзены статыстычны метад вывучэння сялянскага руху з класіфікацыяй яго па формах, аналізам па адпаведных рэгіёнах.

---

[1]*Дудкоў Д.А.* Аб развіцці капіталізму ў Беларусі ў другой палове XIX і пачатку XX стагоддзя. Мн., 1932; *Липинский Л.П.* Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии (II половина XIX в.). Мн., 1971; *Ён жа.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии. Мн., 1978; *Бейлькин Х. Ю.* Сельскохозяйственный рынок Белоруссии. 1861–1914 гг.

[2]*Панютич В.П.* Из истории формирования пролетариата Белоруссии. 1861–1914 гг. Мн., 1969; *Ён жа.* Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861 – 1900 гг. Мн., 1990; *Ён жа.* Наемный труд в сельском хозяйстве Беларуси. 1861–1914 гг. Мн., 1996.

[3]*Пічэта У. І.* Сялянскія рухі на Беларусі пасля аграрнай рэформы 1861 г.// Полымя. 1929. № 8, 9, 11, 12; *Пичета В. И.* Крестьянское и рабочее движение в Белоруссии в эпоху 1905 года // Працы Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску. 1926. №11; *Ён жа.* Крестьянское движение в Белоруссии в 1905 году // Працы Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску. 1926. №12.

[4]*Кернажыцкі К.І.* Да гісторыі аграрнага руху на Беларусі перад імперыялістычнай вайной. Мн., 1932.

[5] *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905 –1907 гг. Мн., 1962.

[6]*Чепко В.В.* Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. Мн., 1972.

[7]*Чапко В.У.* Сялянскі рух у Беларусі ў 1905–1907 гг. // Весці АН БССР. Сер. грамад навук. 1956. №1; *Липинский Л., Лукьянов Е.* Крестьянское и солдатское движение в Белоруссии (1900–1907 гг.). Мн., 1968; *Яны ж.* Крестьянское движение в Белоруссии в период между двумя революциями (июнь 1907 – февраль 1917 гг.). Мн., 1964; *Липинский Л.П.* Классовая борьба в белорусской деревне. 1907–1914. Мн., 1981; *Ён жа.* Крестьянское движение в Белоруссии в 1914–1917 гг. Мн., 1975.

[8]*Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. Мн., 1993.

Апошняя абагульняючая праца па гісторыі сялянства Беларусі цалкам засталася ў рэчышчы састарэлых метадаў і схем савецкай гістарыяграфіі[1].

Разам з тым беларускія гісторыкі-аграрнікі робяць спробы пераасэнсаваць ранейшыя погляды на гістарычны шлях сялянства і гісторыю сельскай гаспадаркі. У. Сосна падрабязна разгледзеў фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст[2]. Складаным пытанням структурнай перабудовы сельскай гаспадаркі Беларусі пад уплывам аграрнага крызісу канца XIX ст. прысвечана манаграфія Х. Бейлькіна[3].

Па гісторыі народанасельніцтва Беларусі XIX – пачатку XX ст. спецыяльныя працы ў беларускай гістарыяграфіі пакуль адсутнічаюць. У дасавецкай літаратуры дэмаграфічная гісторыя Беларусі (у межах пяці заходніх губерняў) прадстаўлена ў працах па Еўрапейскай Расіі або па Расійскай імперыі ў цэлым.

Каштоўнай масавай статыстычнай крыніцай для вучоных былі матэрыялы рэвізій насельніцтва XVIII – першай паловы XIX ст. Першыя працы, дзе прыведзены некаторыя дэмаграфічныя звесткі па Усходняй Беларусі, з'явіліся ў канцы XVIII ст.[4] У пачатку XIX ст. выйшаў шэраг манаграфій вядомых эканамістаў і статыстыкаў І. Германа, К. Германа, Е. Зяблоўскага, прысвечаных аналізу даных 1–6-й рэвізій аб падатных і непадатных саслоўях[5]. Насельніцтва паводле 7–10-й рэвізій стала прадметам вывучэння К. Арсеньева, П. Кепена, А. Трайніцкага[6]. Некаторыя аўтары, не абмяжоўваючыся канстатацыяй колькасных паказчыкаў, робяць параўнальны аналіз дынамікі ўсяго насельніцтва і асобных яго катэгорый, спрабуюць даць сваю ацэнку дэмаграфічнай сітуацыі па рэгіёнах. Так, М. Бунге на падставе вынікаў 7–9-й рэвізій (1815–1851) зрабіў выснову, што марудныя тэмпы росту насельніцтва заходніх губерняў перш за ўсё звязаны з высокай тут удзельнай вагой панскіх сялян, сацыяльна-эканамічнае становішча і ўмовы ўзнаўлення якіх былі вельмі неспрыяльнымі[7].

Тым самым быў пакладзены пачатак дыскусіі, якая не страціла актуальнасці да нашых дзён. Сутнасць яе заключаецца ў пытанні: ці "вымірала" пры-

---

[1]Гісторыя сялянства Беларусі.: У 3 т. Т.2. Ад рэформы 1861 г. да сакавіка 1917 г. Мн., 2002.

[2]*Сосна У.А.* Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. Мн., 2000.

[3] *Бейлькин Х.Ю.* Аграрный кризис конца XIX века и структурная реконструкция сельского хозяйства Беларуси. Мн., 2001.

[4] *Storch.* Statistische Übersicht der Staatspalterschaften des Russischen Reichs nach ihren merwurdigten Kulturverhaltnissen in Tabellen. Riga, 1795; *Плешеев С.И.* Обозрение Российской империи в нынешнем ее новоустроенном состоянии. СПб., 1787.

[5]*Герман И.Ф.* О народонаселении в России // Статистический журнал. СПб., 1806. Т.1. Ч.1. С.29–44; Ч.II. С.11–32; *Герман К.Ф.* Статистические исследования относительно Российской империи. Ч.1. О народонаселении. СПб., 1819; *Зябловский Е.Ф.* Статистическое описание Российской империи в нынешнем ее состоянии. СПб., 1808; *Ен жа.* Российская статистика. СПб., 1842. Ч.1.

[6]*Арсеньев К.И.* Статистические очерки России. СПб., 1848; *Кеппен П.И.* Девятая ревизия. Исследования о числе жителей в России в 1851 году. СПб., 1857; *Тройницкий А.Г.* Крепостное население России по X народной переписи. СПб., 1861.

[7] *Бунге Н.Х.* Изменения сословного состава населения России в промежутках времени между 7 и 8, 8 и 9 ревизиями // Экономический указатель. 1857. №44.

гоннае сялянства або былі іншыя прычыны зніжэння яго колькасці, асабліва ў 50-я гг. XIX ст.(міжсаслоўныя пераходы, рэкруцкія наборы і інш.).

Меркаванні выказваліся розныя. Сярод савецкіх вучоных пераважала думка, што запаволеныя тэмпы росту насельніцтва Расіі ў першай палове XIX ст. звязаны з узмацненнем эксплуатацыі сялян, перш за ўсё панскіх, што спараджала павышаную іх смяротнасць і нізкі натуральны прырост. У прыватнасці, В. Яцунскі[1], прааналізаваўшы дынаміку росту насельніцтва Расіі па рэгіёнах за першую і другую паловы XIX ст., заўважыў кардынальную розніцу паміж дэмаграфічнымі паказчыкамі гэтых перыядаў у заходніх губернях. Ён адзначыў, што нізкія тэмпы росту першай паловы XIX ст. змяніліся ў рэгіёне бурным усплёскам пасля адмены прыгону. Такі дэмаграфічны "выбух" аўтар тлумачыць больш спрыяльнымі ўмовамі вызвалення сялян Беларусі і Літвы.

У цэлым у савецкі час вывучэнню гісторыі народанасельніцтва да сярэдзіны 50-х гг. не надавалася значнай увагі. У 1956 г. выйшла манаграфія А. Рашына, цалкам заснаваная на пісьмовых крыніцах[2]. Грунтоўнасцю, глыбокім крыніцазнаўчым аналізам усіх відаў уліку насельніцтва дарэвалюцыйнай Расіі, перш за ўсё рэвізій, вызначаюцца манаграфіі расійскага гісторыка У. Кабузана, напісаныя пераважна на аснове архіўных матэрыялаў[3].

Некаторыя праблемы дэмаграфічнай гісторыі Беларусі першай паловы XIX ст. закранаюцца ў працах беларускіх гісторыкаў пры вывучэнні пэўных сацыяльна-эканамічных аспектаў. Так, М. Улашчык на падставе грунтоўнага аналізу матэрыялаў рэвізій дэталёва прасачыў дынаміку колькасці і прававое становішча ўсіх катэгорый сельскага насельніцтва ў заходнім рэгіёне Беларусі і Літвы – Ковенскай, Віленскай і Гродзенскай губернях[4].

Дынаміка колькасці насельніцтва гарадоў Беларусі, яго саслоўны і канфесіянальны склад на працягу першай паловы XIX ст. знайшлі адлюстраванне ў манаграфіі А. Лютага[5]. Некаторыя дэмаграфічныя даныя аб сельскім насельніцтве Беларусі першай паловы XIX ст. змешчаны ў кнізе В. Чапко[6]. Дэмаграфічная характарыстыка сельскага насельніцтва гэтага ж перыяду зроблена А. Каралёвай у калектыўнай манаграфіі, прысвечанай гісторыі сялянства Беларусі[7].

Пры асвятленні дэмаграфічных пытанняў другой паловы XIX ст. аўтарамі звычайна выкарыстоўваюцца матэрыялы перапісу 1897 г. На іх аснове

---

[1] *Яцунский В.К.* Изменения в размещении населения Европейской России в 1724–1916 гг. // История СССР. 1957. №1.

[2] *Рашин А.Г.* Население России за 100 лет. (1801–1913 гг.). М., 1956.

[3] *Кабузан В.М.* Народонаселение России в XVIII – первой половине XIX в. (по материалам ревизий); *Ён жа.* Изменения в размещении населения России в XVII – первой половине XIX в. (По материалам ревизий). М. 1971. М., 1963.

[4] *Улащик Н.К.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии.

[5] *Лютый А.М.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX века.

[6] *Чепко В.В.* Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в.

[7] Гісторыя сялянства Беларусі. Мн., 1997. Т.1.

У. Ігнатоўскі паказаў саслоўны склад насельніцтва[1]. В. Панюціч грунтоўна даследаваў дынаміку колькасці, міграцыі, адыходныя промыслы, пісьменнасць, нацыянальны склад сельскага насельніцтва[2]. Нацыянальны склад пралетарыяту Беларусі ў канцы XIX ст. спрабаваў вызначыць М. Біч[3]. Паколькі перапіс 1897 г. не дае па гэтым пытанні прамых звестак, то аўтар выкарыстаў методыку У. Леніна, ужытую ім у адносінах да Пецярбурга, дзе ў ходзе перапісу праводзілася апытанне рабочых аб іх нацыянальнай прыналежнасці. Атрыманыя М. Бічом лічбы, на нашу думку, можна лічыць толькі прыблізнымі, бо ва ўмовах існавання ў Беларусі дробнай вытворчасці і наяўнасці "мяжы аселасці" нацыянальны склад пралетарыяту быў некалькі іншым. М. Біч даследаваў таксама саслоўны, веравызнальны і нацыянальны склад насельніцтва Беларусі паводле перапісу 1897 г.[4] Звесткі аб зменах у канфесіянальным падзеле насельніцтва Беларусі на працягу XIX ст. прыводзяцца А. Філатавай і В. Яноўскай[5].

У манаграфіі З. Шыбекі "Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX стагоддзяў)" прасочваецца дынаміка колькасці насельніцтва гарадоў і мястэчак, паказана роля ў гэтым працэсе натуральнага і механічнага прыросту. Даецца аналіз нацыянальнага складу гараджан, вызначаюцца месца і роля сялянства ў структуры горада. Колькасць, структура, узнаўленне і іншыя характарыстыкі насельніцтва Беларусі паводле перапісу 1897 г. (а таксама перапісаў 1926, 1959 і 1970 гг.) знайшлі адлюстраванне ў працах А. Ракава[6]. Пытанні ўзнаўлення насельніцтва другой паловы XIX – пачатку XX ст. закранаюцца ў манаграфіях Л. Шахоцькі[7]. Сялянскія перасяленні з Беларусі даследаваў П. Верашчагін[8].

На матэрыялах перапісаў грунтуецца даследаванне польскага гісторыка П. Эберхарда, прысвечанае дэмаграфічнай сітуацыі ў Беларусі ў 1897–1989 гг.[9] Адной з задач даследавання з'яўляецца паказ дынамікі колькасці польскага насельніцтва на беларускіх землях. Аднак пытанне вырашаецца ў шэрагу выпадкаў некалькі тэндэнцыйна. У прыватнасці, аўтар значна завышае колькасць палякаў у Гродзенскай губерні паводле перапісу 1897г., адносячы да іх усіх католікаў рэгіёна.

Вывучэнне гісторыі саслоўяў у Расійскай імперыі пачалося ў сярэдзіне XIX ст. Даследчыкі ў асноўным разглядалі шляхі фарміравання саслоўяў у дапятроўскія часы або гісторыю асобнага саслоўя. Сярод даследаванняў,

---

[1] *Игнатовский В.* Белоруссия. Территория, население, экономика, важнейшие моменты истории. Мн., 1924.

[2] *Панютич В.П.* Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861–1900 гг.

[3] *Біч М.В.* Нацыянальны склад прамысловага пралетарыяту Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1972. № 4.

[4] Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Мн., 1994. Ч.1.

[5] Канфесіі на Беларусі (канец XVIII–XX ст.). Мн., 1998; *Яноўская В.В.* Хрысціянская царква ў Беларусі ў 1863–1914 гг. Мн., 2002.

[6] *Раков А.А.* Население БССР. Мн., 1969; *Ён жа.* Белоруссия в демографическом измерении. Мн., 1974.

[7] *Шахотько Л.П.* Рождаемость в Белоруссии. Мн., 1975; *Яна ж.* Воспроизводство населения Белорусской ССР. Мн., 1985.

[8] *Верещагин П.Д.* Крестьянские переселения из Белоруссии (вторая половина XIX в.). Мн., 1976.

[9] *Эберхард П.* Дэмаграфічная сітуацыя на Беларусі 1897–1989. Мн., 1997.

прысвечаных дваранству, вылучаюцца працы М. Яблачкава[1], С. Корфа[2] і А. Рамановіча-Славацінскага[3]. У гэтых работах аналізуюцца заканадаўчыя акты па афармленню дваранства як саслоўя, яго структура, сістэма кіравання, удзел дваранства ў грамадскім і палітычным жыцці. Характэрная рыса тагачаснай расійскай гістарыяграфіі – перанос на Беларусь тых ацэнак і палажэнняў, што былі ўласцівы для Расіі ў цэлым, ігнараванне мясцовай спецыфікі.

У савецкай гістарыяграфіі 70–80-х гг. XX ст. асаблівай увагі заслугоўвае грунтоўная праца А. Карэліна[4], у якой аўтар разглядае эвалюцыю расійскага дваранства як саслоўя ў цэлым. Узаемаадносіны паміж дваранствам і самадзяржаўем у другой палове XIX ст. аналізуюцца ў манаграфіі беларускай даследчыцы С. Самбук[5]. Яна лічыла, што толькі адсутнасць гнуткасці з боку царызму, які не жадаў ісці на ўступкі ў нацыянальным пытанні польскаму паместнаму дваранству, і сацыяльная накіраванасць паўстання 1863–1864 гг. прымусілі частку польскіх памешчыкаў часова перайсці ў дэмакратычны лагер[6].

Дваранству Беларусі прысвечаны даследаванні С. Лугаўцовай і Г. Туміловіч[7]. Гэтыя працы ў асноўным засяроджваюць увагу на разборы шляхты ў першай палове XIX ст. Новым даследаваннем у беларускай гістарыяграфіі з'яўляецца манаграфія А. Жытко[8]. Аўтар паспрабаваў вызначыць гістарычную ролю і месца дваранства ў сацыяльна-эканамічным жыцці Беларусі ад скасавання прыгону да пачатку Першай сусветнай вайны.

Традыцыйным застаецца погляд польскіх гісторыкаў Л. Жытковіча, І. Сікорскай-Кулешы, Х. Дылянговай, І. Рыхліковай і іншых[9] на вышэйшае саслоўе заходніх губерняў, якое разглядаецца як "польская шляхта". Становішча татар-дваран у беларуска-літоўскіх губернях даследавана ў манаграфіі літоўскай даследчыцы Т.Байрашаўскайтэ[10].

Выразнай вяхой палітычнай гісторыі Беларусі XIX ст. было шляхецкае паўстанне 1830–1831 гг. Сярод дарэвалюцыйных прац, прысвечаных паўстанню, вылучаюцца манаграфіі Ф. Сміта[11] і А. Пузырэўскага[12]. Яны

[1] *Яблочков М.* История дворянского сословия в России. СПб., 1876.

[2] *Корф С.А.* Дворянство и его сословное управление за столетие 1762–1855 годов. СПб., 1906.

[3] *Романович-Словатинский А.* Дворянство в России. Киев, 1912.

[4] *Корелин А.П.* Дворянство в пореформенной России. 1861–1904 гг. М., 1979.

[5] *Самбук С.М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века. Мн., 1980.

[6] Там жа. С. 21, 22.

[7] *Луговцова С.Л.* Политика российского самодержавия по отношению к дворянству Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX века. Мн., 1997; *Тумилович Г.Н.* Дворянство Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в.: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1995; *Туміловіч Г.М.* Палітыка царызму ў адносінах да дробнай шляхты Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. // Нацыянальная палітыка расійскага самадзяржаўя ў канцы XVIII – пачатку XIX стагоддзяў. Мн., 1995. С.114–128.

[8] *Жытко А.П.* Дваранства Беларусі перыяду капіталізму. 1861–1914 гг. Мн., 2003.

[9] *Żytkowicz L.* Rządy Repnina na Litwie w latach 1794-7. Wilno, 1938; *Sikorska-Kulesza J.* Drobna szlachta w zachodniej Białorusi na Litwie w XIX w. Warszawa, 1990; *Rychlikowa I.* Carat wobec polskiej szlachty na ziemlach zabranych w latach 1772–1831 // Kwartalnik historyczny. 1991. N3.

[10] *Bairasanskaite T.* Lietuvos totarial XIX amziuje. Vilnius, 1995.

[11] *Смит Ф.* История польского восстания и войны 1830–1831 годов: В 3 т. СПб., 1863–1864.

[12] *Пузыревский А.К.* Польско-русская война 1831 г.: В 2 т. СПб., 1890.

трактавалі паўстанне больш як расійска-польскую вайну і засяроджвалі ўвагу на баявых дзеяннях паміж расійскай арміяй і паўстанцамі. У савецкі час гісторыя гэтага паўстання не адносілася да ліку прыярытэтных тэм. Яна асвятлялася толькі ў шэрагу артыкулаў і кандыдацкай дысертацыі І. Варанкова[1].

Дастаткова грунтоўна гісторыя паўстання 1830—1831 гг. распрацавана ў польскай гістарыяграфіі. Ф. Уратноўскі, І. Лялевель, М. Махнацкі С. Дангель, В. Токаж і іншыя гісторыкі ў розныя часы даследавалі гэту праблему[2]. У сучаснай беларускай гістарыяграфіі паўстанню прысвечана даследаванне В. Гарбачовай[3], напісанае на базе шырокага кола крыніц. Асобныя аспекты гэтай праблемы аналізуюцца ў кнізе В. Шведа[4]. У адрозненне ад расійскіх даследчыкаў большасць сучасных беларускіх гісторыкаў не лічыць паўстанне 1830–1831 гг. толькі польскім і ацэньвае яго як адзін з этапаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху.

Вывучэнне грамадскага руху на тэрыторыі Расійскай імперыі пачалося ў канцы XIX – пачатку XX ст. Ліберальныя гісторыкі і гісторыкі сацыял-дэмакратычнага напрамку сабралі шмат фактычнага матэрыялу па імперыі ў цэлым, а таксама распрацавалі шэраг канцэпцый, якія на пэўны час вызначылі рамкі даследаванняў дадзенага феномена[5].

Што тычыцца грамадскага руху ўласна ў Беларусі, то яго вывучэнне пачалося пасля 1917 г. У 20-х гг. было апублікавана шмат мемуарнай літаратуры[6]. У 1924 г. убачыў свет зборнік "Беларусь", у якім былі змешчаны артыкулы аб розных плынях у грамадскім руху Беларусі канца XIX ст.[7] У тым жа годзе ў часопісе "Полымя" быў надрукаваны артыкул У. Пічэты "Формы нацыянальнага і апазіцыйнага руху на Беларусі"[8]. У складзеным У. Ігнатоўскім і выдадзеным у 1924 г. сістэматычным курсе па гісторыі Беларусі ўвага засяроджвалася на гісторыі беларускага нацыянальна-палітычнага і культурнага руху, разглядалася дзейнасць такіх партый, як Бунд, БСГ, ППС. Аднак паступова пад уздзеяннем палітычнай кан'юнктуры тэматыка даследаванняў грамадскага руху пачала звужацца і засяродзілася на праблемах рэвалюцыйнага (г.зн. сацыял-дэмакратычнага і народніцкага) руху і

[1] *Воронков И.А.* Польское восстание 1830–1831 г. в Литве и Белоруссии: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. М., 1951; *Ён жа:* Восстание 1830–1831 г. в Белоруссии // Вестник Московского университета. Серия IX. История. 1966. № 2. С. 44–56; *Воронков И.А.* Позиция польских повстанческих властей по вопросу их отношений к царскому правительству, русскому, украинскому, белорусскому, литовскому народам в период восстания 1830–1831 гг. // Славяне в эпоху феодализма. М., 1978. С. 228–238.

[2] *Wrotnowski F.* Historia powstania w 1831 roku na Wołyniu, Podolu, Żmudzi i Litwie. T. 1. Lipsk, 1875; *Lelewel J.* Pamiętnik z roku 1830–31. Warszawa, 1924; *Mochnacki M.* Powstanie narodu polskiego w r. 1830–1831. T. 1–2. Paryż, 1833–1834. *Dangel S.* Rok 1831 w Mińszczyźnie. Warszawa, 1925. *Tokarz W.* Wojna polsko-rosyjska 1830 i 1831. Warszawa, 1930.

[3] *Гарбачова В.В.* Паўстанне 1830–1831 гг. на Беларусі. Мн., 2001.

[4] *Швед В.В.* Паміж Польшчай і Расіяй: грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772 – 1863 гг.). Гародня, 2001.

[5] *Сватиков С.Г.* Общественное движение в России (1700 – 1895). Ростов н/Д, 1905; Общественные движения в России в начале 20 века. СПб., 1909.

[6] *Бич М.О.* Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883–1903 годах. Мн., 1973. С.5–7.

[7] *Дыла Я.* Сацыялістычны рух на Беларусі. Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя; *Сосіс І.* Асноўныя моманты ў гісторыі жыдоўскага рабочага руху; *Пічэта У.* Класавыя супярэчнасці ў Беларусі напярэдадні рэвалюцыі; *Бонч-Асмалоўскі А.* Ліберальна-апазіцыйны рух на Беларусі; *Бурбіс А.* Беларуская сацыялістычная грамада ў першым перыядзе яе працы (1903–1907).

[8] Полымя. 1924. №2.

паўстання 1863–1864 гг.[1]. Гэта тэндэнцыя захоўвалася ў беларускай гістарыяграфіі да апошняга часу[2].

Ліберальны і кансерватыўны рух асвятляўся вельмі вузка і супярэчліва. Так, у лібералізме беларускія гісторыкі савецкага часу бачылі, як правіла, разнавіднасць буржуазнай ідэалогіі і адносілі нараджэнне лібералізму ў Расійскай імперыі (і ў Беларусі ў тым ліку) да другой паловы XIX ст., г. зн. да часу хуткага развіцця капіталістычных адносін. Лічылася, што ён не пакінуў бачнага следу ў айчыннай гісторыі, паколькі аказаўся слабым, а яго палітычныя структуры былі аморфнымі і далёкімі ад жыцця. Праблема гісторыі кансерватыўнага руху наогул не ставілася, а кансерватызм атаясамліваўся з рэакцыйнымі палітычнымі мерамі, якія прадпрымала царская бюракратыя. Што тычылася сацыялістычнага руху ў шырокім сэнсе, то замест даследавання яго рэальнай гісторыі навукоўцы вымушаны былі даваць рэтраспектыву дагматычнага марксісцкага ўяўлення аб гісторыі гэтага феномена. Аднак дзякуючы багатаму фактычнаму матэрыялу, выкарыстанню аўтарамі архіўных крыніц узгаданыя вышэй працы не страцілі свайго значэння да сённяшняга часу.

У канцы 80-х – пачатку 90-х гг. у айчыннай гістарыяграфіі выявілася тэндэнцыя да перагляду гэтых стэрэатыпаў. Узніклі новыя падыходы ў вывучэнні кансерватызму як цэласнага грамадскага руху, лібералізм ужо не разглядаецца як вузкакласавая буржуазная плынь[3]. Пашырылася тэматычнае поле вывучэння грамадскіх рухаў – даследчыкі звярнулі ўвагу на гісторыю легальных грамадскіх аб'яднанняў[4]. Фарміраванне сістэмы грамадскіх рухаў і сеткі добраахвотных грамадскіх аб'яднанняў стала разглядацца як фактар фарміравання грамадзянскай супольнасці ў Беларусі[5].

Як адзначалася вышэй, адной з праблем, што найбольш цікавіла даследчыкаў грамадскага руху, з'яўлялася паўстанне 1863 – 1864 гг. Тым не менш многія пытанні застаюцца спрэчнымі да гэтага часу. Літаратура, прысвечаная паўстанню (пераважна польскіх і расійскіх аўтараў) багатая, аднак супярэчлівая ў канцэптуальных адносінах. Не страцілі свайго значэння да нашых дзён працы ўдзельнікаў і сучаснікаў паўстання, апублікаваныя ў апошняй трэці XIX – па-

---

[1] *Агурский С.Х.* Очерки по истории революционного движения в Белоруссии (1863 – 1917). Мн., 1928; *Вітко́ўскі Я.* Паўстанне 1863 г. і расійскі рэвалюцыйны рух пачатку 60-х гадоў. Мн., 1939; *Поташ М.А.* Бальшавізм і дробнабуржуазныя партыі ў рэвалюцыі 1905 года. Мн., 1930 і інш.

[2] *Солошенко В.И.* Из истории распространения марксизма в Белоруссии (1883 – 1904). Мн., 1963; *Бич М.О.* Развитие социал-демократического движения в Белоруссии (1883 – 1903). Мн., 1973; *Ён жа.* Рабочее движение Белоруссии в 1861 – 1904 гг. Мн., 1983; *Самбук С.М.* Революционные народники Белоруссии (70-е – начало 80-х годов XIX в.); *Яна ж.* Общественно-политическая мысль Белоруссии во второй половине XIX в. Мн., 1976; *Лосинский Н.Б.* Революционно-народническое движение в Белоруссии. 1870 – 1884. Мн., 1983; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии до 1917 года. Мн., 1973; *Лушчыцкі І.М.* Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі Беларусі ў другой палове XIX ст. Мн., 1958.

[3] *Шалькевич В.Ф.* Общественно-политическая и философская мысль Беларуси в первой половине XIX века: Дис. ...д-ра ист. наук. Мн, 1993; *Сакалова М.* Пачатак ліберальнага руху на Беларусі // Штогоднік Ін-та гісторыі НАН Беларусі. Мн, 1999. С. 48–56; *Яна ж.* Кансерватызм на Беларусі ў XIX ст. // Беларускі гістарычны часопіс. 1997. № 1. С. 22–34; *Смалянчук А.* Палякі Беларусі і Літвы ў рэвалюцыі 1905–1907 гг. Гародня, 2000.

[4] *Хартановіч М., Карзенка Г.У.* Навуковыя ўстановы і таварыствы на тэрыторыі Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст. // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1982. № 4. С. 40–42; *Анішчанка Я.К.* Царызм і легальныя культурна-асветніцкія арганізацыі на Беларусі ў пачатку XX стагоддзя // Навіны Бел. Акад. навук. 1992. № 45–46. С. 25–29.

[5] *Соколова М.А.* Общественные объединения и движения в Беларуси в конце XVIII – начале XX века: проблемы становления гражданского общества. Мн., 2002.

чатку XX ст.[1] Іх аўтары карысталіся не толькі ўласнымі ўспамінамі, але і унікальнымі дакументамі, многія з якіх да нашага часу не дайшлі.

Пачатак станаўлення беларускай гістарыяграфіі аб паўстанні і К. Каліноўскім адносіцца да 1920-х гг. У папулярнай літаратуры ў той час Каліноўскі характарызаваўся як нацыянальны герой, першы беларускі рэвалюцыянер і кіраўнік сялянскага антыпамешчыцкага паўстання. Грунтоўны навуковы аналіз падзей паўстання і поглядаў К. Каліноўскага ў беларускай гістарыяграфіі ўпершыню дадзены ў артыкулах і манаграфіі У. Ігнатоўскага[2]. Ён характарызаваў паўстанне як буржуазна-дэмакратычнае, а Каліноўскага – як беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата, ідэолага левых "чырвоных", які па пэўных пытаннях вымушаны быў ісці на кампраміс з "белымі" – шляхецка-кансерватыўнай плынню сярод паўстанцаў. Даследчык паказаў, што сялянства ў масе за паўстанцамі не пайшло і часта, асабліва ў Віцебскай і Магілёўскай губернях, ставілася да іх варожа.

У той жа час беларускі савецкі гісторык С.Агурскі заяўляў, што паўстанне 1863 г. было арганізавана польскімі памешчыкамі і каталіцкім духавенствам і праходзіла пад польскімі шавіністычнымі лозунгамі, называў Каліноўскага "міфічным героем", "польскім шавіністам"[3]. У 30-я гг. у савецкай Беларусі К. Каліноўскі ацэньваўся як "ідэолаг беларускай і польскай шляхты", г.зн. як рэакцыйны дзеяч[4].

Для прац 50-х гг. характэрны наступныя вывады і ацэнкі: К. Каліноўскі – правадыр сялянскага паўстання, стваральнік вольнага беларускага друку, буйнейшы прадстаўнік перадавой грамадскай думкі Беларусі XIX ст., якая развівалася пад магутным уплывам рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў. Разам з тым адмаўлялася прызнаная ў першыя пасляваенныя гады наяўнасць у праграме К. Каліноўскага лозунга барацьбы за дзяржаўную самастойнасць Літвы і Беларусі, а сам гэты лозунг абвяшчаўся рэакцыйным.

У навуковай літаратуры 1960-х гг. замацаваліся вывады пра тое, што паўстанне 1863–1864 гг. па складу ўдзельнікаў было пераважна шляхецкім, а па змесце праграмы – буржуазна-дэмакратычным. Расійскі даследчык А. Смірноў прызнаў і станоўча ацаніў пастаноўку К. Каліноўскім пытання аб утварэнні самастойнай Літоўска-Беларускай рэспублікі[5]. З іншага боку, у 1960-х гг. выклікала сумненне наяўнасць у паўстанні рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні на чале з К.Каліноўскім і выстаўленне ім патрабавання дзяржаўнай самастойнасці Літвы–Беларусі[6]. У другім томе "Гісторыі Беларускай ССР" (Мн., 1972) пазіцыі беларускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў па нацыянальным пытанні напярэдадні і ў час паўстання не асвятляліся. Дыскусія па гэтых праблемах узнавілася ў 1990-х гг.[7]

---

[1] *Авейде О.* Записки о польском восстании 1863 года. Варшава, 1866; *Ратч В.* Сведения о польском мятеже 1863 года в Северо-Западной России. Вильно, 1867; *Giller A.* Historia Powstania Narodu Polskiego w 1861–1864 r. Paryż, 1867; T.1. *Giejsztor J.* Pamiętniki z lat 1857–1865. Wilna, 1913. T.1–2; *Janowski J.* Pamiętniki o powstniu Styczniowym. Łwów, 1923, T. 1; Warszawa, 1925. T.2.

[2] *Ігнатоўскі У.М.* 1863 год на Беларусі. Нарыс падзей. Мн., 1930.

[3] *Біч М.В.* К.Каліноўскі і паўстанне 1863 г. у працах беларускіх савецкіх гісторыкаў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. №3. С.110.

[4] Там жа. С.111.

[5] *Смирнов А.Ф.* Революционные связи народов России и Польши. М., 1962; *Ён жа.* Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии. М., 1963.

[6] *Миско М.В.* Об освещении характера восстания 1863 г. в Литве и Белоруссии в некоторых работах советских авторов // Славянская историография. М., 1966. С. 141–175.

[7] *Казбярук У.* Маякі і міражы // ЛіМ. 1990, 7 снеж.; *Біч М.В.* Хай народзіцца ісціна // ЛіМ. 1991. 22 лют.; *Ён жа.* У крывым люстэрку. К.Каліноўскі: праўда і вымыслы // Настаўніцкая газета. 1991. 17; 24; 27 ліп.; *Ён жа.* Нацыянальнае і аграрнае пытанне ў час паўстання 1863 – 1864 гг. // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 3.

У польскай і расійскай (у тым ліку савецкай) гістарыяграфіі паўстанне 1863–1864 гг. у Польшчы, Літве і Беларусі традыцыйна вызначаецца як польскае. Тым самым ігнаруюцца істотныя яго асаблівасці ў беларуска-літоўскім рэгіёне і найперш тое, што напярэдадні і ў ходзе паўстання тут упершыню дастаткова выразна праявілася плынь беларускага нацыянальна-вызваленчага руху на чале з К. Каліноўскім. Таму ў шэрагу публікацый беларускіх гісторыкаў і ў дадзенай кнізе яно ў дачыненні да тэрыторыі Літвы – Беларусі не называецца польскім.

Гістарыяграфічны аналіз канфесіянальнай гісторыі Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. паказвае, што найбольшая ўвага гэтай праблеме надавалася ў дарэвалюцыйны час. Але не ўвесь перыяд і не ўсе канфесіі сталіся аб'ектам даследаванняў у роўнай ступені. Найбольш публікацый было прысвечана становішчу праваслаўнай, уніяцкай і каталіцкай канфесій у XIX ст., іх узаемаадносінам.

Сярод прац па гісторыі праваслаўнай царквы ў Беларусі ў першай палове XIX ст. вылучаюцца творы С. Рункевіча, В. Ізвекава, Г. Шавельскага[1]. Гэтыя аўтары, абапіраючыся на вялікую колькасць архіўных крыніц, спрабавалі даць ацэнку становішча праваслаўнай царквы як да 1839 г., так і пасля далучэння да яе уніятаў.

60-я гг. XIX ст. характарызаваліся замацаваннем пазіцый праваслаўнай царквы на беларускіх землях. Каталіцкія касцёлы, скасаваныя пасля паўстання 1863—1864 гг., у большасці сваёй пераўтвараліся ў праваслаўныя храмы. Ішло актыўнае будаўніцтва новых цэркваў, ствараліся новыя прыходы, насельніцтва пераходзіла (дзе пад прымусам, а дзе ў выніку шантажу і падману, часам добраахвотна) з каталіцтва ў праваслаўе. Гэтыя працэсы знайшлі адлюстраванне ў працах Г. Кіпрыяновіча і А. Мілавідава[2]. Даследаванне А. Мілавідава ўключае ў сябе вялікі фактаграфічны матэрыял, але наскрозь прасякнута духам адданасці царызму, ухвалення яго палітыкі і тых метадаў, якімі карыстаўся генерал-губернатар М. Мураўёў для яе ажыццяўлення. Гістарычны нарыс Кіпрыяновіча насіў папулярны характар. Тым не менш навуковую каштоўнасць маюць змешчаныя ў кнізе табліцы, якія ўтрымліваюць звесткі па ўсіх беларускіх губернях пра колькасць цэркваў, манастыроў, манахаў, царкоўных школ, папячыцельстваў паводле даных Свяцейшага Сінода за 1895 г.

Гісторыя праваслаўных манастыроў у Беларусі ў XVIII – пачатку XX ст. даволі падрабязна разглядаецца ў кнізе "Православные русские обители. Полное иллюстрированное описание всех православных русских монастырей в Российской империи и на Афоне" (1910), а таксама ў працах В. Звярынскага і А. Паўлоўскага[3]. Гэтыя выданні маюць фактаграфічны характар і амаль свабодныя ад ідэалагічнага налёту, які толькі зрэдку прасочваецца.

---

[1] *Извеков В.Д.* Исторический очерк состояния православной церкви в Литовской епархии за время с 1839–1889. М., 1889; *Рункевич С.* История Минской архиепископии (1793–1832 гг.). СПб., 1893; *Шавельский Г.* Последнее воссоединение с православной церковию униатов Белорусской епархии (1833 – 1839 гг.). СПб., 1910.

[2] *Киприанович Г.Я.* Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего до нашего времени. Вильна, 1895; *Миловидов А.И.* Заслуги графа М.Н. Муравьева для православной церкви в Северо-Западном крае. Харьков, 1900.

[3] *Зверинский В.В.* Материалы для историко-топографического исследования о православных монастырях в Российской империи: В 3 т. СПб., 1890–1897; *Павловский А.А.* Всеобщий иллюстрированный путеводитель по монастырям и святым местам Российской империи и Афона. Н. Новгород, 1907.

Шэраг прац[1], прысвечаных гісторыі асобных манастыроў, дапаўняюць, а ў асобных выпадках даюць магчымасць удакладніць звесткі, што знаходзяцца ў вышэйназваных працах.

Адзіным значным даследаваннем расійскай дасавецкай гістарыяграфіі па гісторыі каталіцкай царквы ў Расіі з'яўляецца праца Д. Талстога[2], які засяродзіў сваю ўвагу на палітыцы царскага ўрада ў адносінах да каталіцкай і уніяцкай цэркваў, а таксама на ўзаемадачыненнях паміж Расійскай імперыяй і Рымскай курыяй.

Расійская гістарыяграфія па праблеме каталіцкай царквы ў Беларусі ў 60-я гг. XIX – пачатку XX ст. таксама даволі сціплая, бо каталіцтва лічылася адным з "іншаземных веравызнанняў" у Расійскай імперыі і прыцягвала ўвагу даследчыкаў толькі ў сувязі з важнымі дзяржаўнымі падзеямі. Такімі падзеямі ў азначаны перыяд былі ўдзел каталіцкага духавенства ў паўстанні 1863 – 1864 гг., спробы русіфікацыі касцёла, дзейнасць прадстаўнікоў рымска-каталіцкага духавенства і наогул асоб каталіцкага веравызнання ў Дзяржаўнай думе. Сюды неабходна дадаць праблему ўзаемаадносін дзвюх галоўных хрысціянскіх канфесій (праваслаўнай і каталіцкай), цікавасць з боку даследчыкаў да тых ці іншых прадстаўнікоў каталіцкага духавенства.

Асабліва значным з'яўляецца пытанне "распалячвання" каталіцкай царквы. У ім сканцэнтравалася ўся палітыка царскага ўрада ў адносінах да каталіцызму і да польскага пытання ў Беларусі ў цэлым. Па дадзенай праблеме засталася дастаткова вялікая колькасць публікацый, але галоўным чынам у выглядзе артыкулаў сучаснікаў падзей у перыядычным друку. Да больш буйных работ адносяцца творы А. Уладзімірава, І. Карнілава, Д. Чыхачова[3]. Практычна ўсе гэтыя публікацыі тычыліся ідэалагічнага аспекту праблемы. Адны аўтары падтрымлівалі ідэю русіфікацыі касцёла, іншыя выступалі супраць яе.

Да гістарыяграфіі канфесій далучаюцца публікацыі аб ролі хрысціянства ў нацыянальным адраджэнні беларусаў, дзейнасці святароў – прыхільнікаў беларускай нацыянальнай ідэі. Першымі гістарыёграфамі гэтых праблем сталі самі беларускія ксяндзы, якія ў 1920 – 1930-я гг. жылі ў Заходняй Беларусі (А. Станкевіч, В. Гадлеўскі і інш.)[4]. А. Станкевіч, напрыклад, імкнуўся абараніць у сваіх творах правы беларускага народа на нацыянальную незалежнасць, абгрунтоўваючы іх, з аднаго боку, нацыяналь-

---

[1] *Довгялло Д. И.* Виленская Свято-Духова обитель. Вильна, 1910; *Жудро Ф.* Белыничский Рождество-Богородицкий монастырь. Могилев, 1894; *Ён жа.* Спасский монастырь в Могилеве. Могилев, 1892; *Иеромонах Сергий.* Витебский Марков Свято-Троицкий мужской монастырь. Витебск, 1887; *Сапунов А.* Полоцкий Спасо-Ефросиньевский девичий монастырь. Историческое описание. Вильна, 1888; *Строганов П.* Патриарший Бизюков монастырь. Опыт церковно-исторического исследования. Могилев, 1914; *Щербицкий О.В.* Свято-Троицкий монастырь. Вильна, 1883.

[2] *Толстой Д.А.* Римский католицизм в России: В 2 т. СПб., 1876. Т.2.

[3] *Владимиров А.П.* История располячивания западно-русского костела. М, 1896; *Корнилов И.* Стоит ли вводить русский язык в костелы западных губерний. СПб., 1897; *Чихачев Д.* К вопросу о располячении костела в прошлом и настоящем. СПб., 1913.

[4] *Станкевіч А.* Беларускі хрысціянскі рух (Гістарычны нарыс). Вільня, 1939; *Ён жа.* Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення. Вільна, 1934; *Ён жа.* З жыцця і дзейнасці Казіміра Сваяка. Вільня, 1936; *Ён жа.* Магнушэўскі – Паўлюк Багрым – Баброўскі (Да вытокаў беларускага адраджэння). Вільня, 1937; *Ён жа.* Родная мова ў святынях. Вільня, 1929; *Ён жа.* Хрысціянства і беларускі народ (спроба сінтэзы). Вільня, 1940; *Ён жа.* У чэсць 950-годдзя хрышчэння Беларусі. Вільня, 1938; *Гадлеўскі В.* (псеўданім Вінцук Скальманоўскі). Незалежнасць Беларусі і Каталіцкі касцёл // Крыніца. 1921. 3 крас.; *Ён жа.* Аб беларускіх казаннях у палове XIX веку // Крыніца. 1921. 16 крас.

най прыродай беларуса, з другога – хрысціянскімі агульначалавечымі ідэаламі.

Больш багатая польская гістарыяграфія XIX – XX стст. па гісторыі канфесій. Праца С. Шантыра[1] насычана цікавым фактычным матэрыялам. Гісторыя каталіцкіх ордэнаў у Беларусі даследавана ў працах С. Заленскага і І. Гіжыцкага (псеўданім Валыняк)[2]. Для польскіх даследчыкаў дарэвалюцыйнага часу характэрна тое, што яны канцэнтравалі сваю ўвагу на адмоўным стаўленні ўрада Расійскай імперыі да каталіцкай і уніяцкай цэркваў. Пры гэтым станоўчыя моманты, аб'ектыўныя прычыны, што выклікалі змены ў канфесіянальнай палітыцы, проста абміналіся. Падобныя погляды засталіся і нават узмацніліся ў 20–30-я гг. XX ст. (падчас II Рэчы Паспалітай).

Даволі вялікая гістарыяграфічная спадчына засталася па праблеме уніяцкай царквы[3]. У ёй разгледжаны меры, якія прымаў царскі ўрад па падрыхтоўцы да скасавання уніяцкай царквы і яе далучэння да праваслаўя.

Нягледзячы на мэтазгоднасць вывучэння канфесіянальнай гісторыі, такога напрамку ў гістарыяграфіі савецкай Беларусі не існавала. Толькі ў некаторых працах па гісторыі Беларусі закраналіся асобныя сюжэты з гісторыі праваслаўнай царквы і каталіцкага касцёла[4]. Але яны таксама, як і падручнікі, асобныя кнігі і брашуры, што выдаваліся ў рэчышчы навуковага атэізму[5], не адлюстроўвалі з належнай глыбінёй і паўнатой складанае канфесіянальнае становішча, якое існавала ў Беларусі. Асобныя бакі праблемы разглядаліся ў літаратуры, што выходзіла за межамі Савецкага Саюза[6].

Сучасная беларуская і расійская гістарыяграфія паступова рухаецца ў напрамку вывучэння асобных пытанняў канфесіянальнай гісторыі Беларусі. Ажыццяўляюцца дысертацыйныя даследаванні, выдаюцца кнігі, дзе

---

[1] *Szantyr S.* Wiadomosci do dziejów kosciola i religii katolickiej panowaniu rossyjskiemu podleglyuch: W 2 cz. Poznan, 1843. Cz. 1–2.

[2] *Załęski S.* Jezuity w Polsce. Kraków, 1908; *Wołyniak.* Notatka o niektorych naszych siedzibach trynitarskich. Kraków, 1912; *Wołyniak.* Wiadomosci o dominikanach prowincji Litewskiej: W 2 cz. Kraków, 1917; *Wołyniak.* Wykaz klastorow dominikanskich prowincji Ruskiej: W 2 cz. Kraków, 1923; *Wołyniak.* Z przeszlosci Karmelitow na Litwie i Rusi: W 2 cz. Krakow, 1918.

[3] *Бобровский П.О.* Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I. СПб., 1890; П.І.Б. Противодействие базилианского ордена стремлению белого духовенства к реформе русской греко-униатской церкви. Вильно, 1887; *Горкчко П.С.* Из истории воссоединения униатов в Белоруссии. 1780 – 1805 гг. Киев, 1902; *Ён жа.* Материалы для истории воссоединения униатов в Белоруссии. 1780–1795 годов. Могилев, 1903; *Киприанович Г.Я.* Жизнь Иосифа Семашки митрополита Литовского и Виленского и воссоединение западнорусских униатов с православною церковию в 1839 г. Изд. 2. Вильно, 1897; *Коялович М.* История воссоединения западнорусских униатов старых времен. Мн., 1999; *Ён жа.* О почившем митрополите Литовском Иосифе. СПб., 1869. *Чистович И.* Пятидесятилетие (1839 – 1889) воссоединения с православной церковию западнорусских униатов. СПб., 1889;

[4] *Самбук С. М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века. Мн., 1980; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 2. Мн., 1972.

[5] *Кирюшин П.М.* Антинародная роль реакционного католического духовенства. Мн., 1948; *Ён жа.* Ватикан на службе реакции. Мн., 1950; Атеизм в наступлении. Мн., 1973; *Докторов В.Г.* Католицизм сегодня. Мн., 1984; *Залескі А.І.* Рэакцыйная сутнасць Ватыкана і капіталізма. Мн., 1959; Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии. Мн., 1978; *Круглов А. А.* Развитие атеизма в Белоруссии (1917–1987). Мн., 1989; *Корзун М. С.* Русская православная церковь на службе эксплуататорских классов. Мн., 1984; *Надольскі Р.* Праўда аб сектантах. Мн., 1960; Документы обличают: Реакционная роль религии и церкви на территории Белоруссии. Мн., 1964.

[6] *Касяк І.* З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу. Нью-Ёрк, 1956; *Станкевіч Ян.* З гісторыі Беларусі. Мюнхен, 1958.

аналізуюцца тыя ці іншыя бакі праблемы[1]. Распачата даследаванне асобных аспектаў з гісторыі праваслаўнай і рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі хрысціянскім духавенствам[2]. Перавыдаюцца творы XIX – пачатку XX ст., у якіх ёсць звесткі і па гісторыі хрысціянскіх канфесій Беларусі[3]. Сярод сучасных даследаванняў вылучаюцца працы польскіх гісторыкаў Б. Кумара, П. Гаха, С. Літака[4].

Беларуская літаратура, мастацтва, навука XIX – пачатку XX ст. не былі прадметам спецыяльных даследаванняў у дасавецкі перыяд. Толькі некаторыя звесткі прыватнага характару пададзены ў працы А. Кіркора, у адпаведным томе шматтомнага выдання "Живописная Россия"[5]. Сістэматычнае вывучэнне духоўнай культуры беларускага народа пачалося пасля 1917 г., прычым найбольш значныя даследаванні з'явіліся ў пасляваенны перыяд. Працы Л. Дробава, М. Кацара, А. Кулагіна, Я. Сахуты, У. Чантурыя, М. Яніцкай і іншых у галіне жывапісу, архітэктуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва далі магчымасць з большай паўнатой і глыбінёй разгледзець працэсы ў развіцці нацыянальнага мастацтва. Своеасаблівым вынікам усіх гэтых даследаванняў стала выданне фундаментальнай шасцітомнай "Гісторыі беларускага мастацтва", трэці том якой цалкам прысвечаны беларускаму выяўленчаму мастацтву і архітэктуры канца XVIII – пачатку XIX ст.[6]

Вялікія набыткі ў вывучэнні беларускай літаратуры маюць літаратуразнаўцы. У XX ст. убачылі свет дзесяткі манаграфій, сотні артыкулаў, прысвечаных творчасці пісьменнікаў, развіццю розных літаратурных жанраў. У гэтых даследаваннях раскрываецца нацыянальная спецыфіка айчыннай літаратуры, яе роля і значэнне ў паглыбленні грамадскай свядомасці, выхаванні нацыянальнага самаадчування, патрыятызму і гуманізму, паказаны ўвесь патэнцыял беларускай духоўнай культуры ў галіне мастацкага слова, яе

---

[1]Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XX ст.); *Янoўская В.В.* Хрысціянская царква ў Беларусі ў 1863–1914 гг.; *Блинова Т. Б.* Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990; *Марозава С.* Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі (1596–1839). Гродна, 1996; *Яна ж.* Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1569–1839 гады); *Горизонтов Л. Е.* Парадоксы имперской политики: поляки в России и русские в Польше. М., 1999; *Смалянчук А.* Палякі Беларусі і Літвы ў рэвалюцыі 1905–1907 гг. Гродня, 2000; *Гарбацкі А.А.* Стараабраднiцтва на Беларусі ў канцы XVII – пачатку XX ст. Брэст, 1999; *Снапкоўская С.В.* Адукацыйная палітыка і школа на Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст. Мн., 1998; *Забаўскі М.М.* Грамадска-палітычная барацьба ў Беларусі ў ходзе выбараў і дзейнасці Расійскай Дзяржаўнай думы I–IV скліканняў (1906–1917 гг). Мн., 2000; *Шимукович С.Ф.* Деятельность благотворительных учреждений по социальной защите населения Беларуси (90-е гг. XIX в. – июль 1914 г.): Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 2000; *Филатова Е.Н.* Конфессиональная политика царского правительства в Беларуси. 1772–1860 гг.: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 2001.

[2] *Василевич В.* Историческое обозрение монастырей Минской епархии. Дис. ... канд. богословия. Жировицы, 2000; Иеродиакон Павел. Монастыри Могилевской епархии. Жировицы, 1998; *Завальнюк У.* Каталіцкі касцёл у Беларусі ў XX ст. // Беларускі гістарычны часопіс. 2000. №4. С. 37–43.

[3] Полное собрание исторических сведений о всех бывших в древности и ныне существующих монастырях и примечательных церквах в России. М., 2000; *Смолич И.К.* История русской церкви. 1700–1917. Ч. 2. М., 1997.

[4] *Kumor B.* Ustroj i organizacja kosciola polskiego w okresie niewoli narodowej. 1772–1918. Kraków, 1980; *Litak S.* Kósciol lacinski w Rzeczypospolitej okolo 1772 roku. Lublin, 1996; *Gach P.P.* Kasaty zakonow na ziemiach dawniej Rzeczypospolitej i Sląska. 1773–1914. Lublin, 1984.

[5]Живописная Россия. Т.3. Ч.1. Литовское Полесье. Ч.2. Белорусское полесье. СПб., 1882.

[6]*Дробов Л.М.* Беларускія мастакі XIX ст. Мн., 1971; *Ён жа.* Живопись Белоруссии XIX – начала XX в. Мн., 1974; *Чантурия В.А.* Архитектурные памятники Белоруссии. Мн., 1982; *Кацер М.С.* Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Мн., 1969; *Яніцкая М.М.* Беларускае мастацкае шкло: XIX – пачатак XX ст. Мн., 1984; Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Т.3. Канец XVIII – пачатак XX ст. Мн., 1989.

ідэйна-эстэтычнае багацце і непаўторнасць[1]. Асобна трэба адзначыць "Гісторыю беларускай літаратуры XX ст." у чатырох тамах. Першы том[2] выдання ахоплівае пачатак мінулага стагоддзя. Дзякуючы новым падыходам, творчаму пераасэнсаванню спадчыны папярэднікаў, аўтары паказалі, што беларуская літаратура ўнесла істотны ўклад у працэс пераходу ад сістэмы этнічных уяўленняў да сучаснага мыслення, абумоўленага дынамікай жыцця, актыўным умяшаннем працоўных мас у ход гісторыі, і тым самым вызначыла шляхі фарміравання нацыянальнай свядомасці ў айчыннай літаратуры, руху яе да вышэйшай фазы – нацыянальнай ідэі. І хоць у асноўнай масе ў творчасці асобных паэтаў з народа беларуская літаратура яшчэ толькі падыходзіла да гэтага вышэйшага рубяжа, інтуітыўна ў вобразах роднай прыроды, сялянскага побыту, роздумах аб жыцці, яна заклала трывалыя пачаткі гэтай ідэі, вызначальныя прынцыпы яе фарміравання, якія атрымалі пасля развіццё і канкрэтызацыю ў творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, В. Ластоўскага і іншых аўтараў у наступныя дзесяцігоддзі XX ст.

Драматургія пачатку мінулага стагоддзя дала штуршок зараджэнню і развіццю нацыянальнага тэатра. Дэталёва прааналізаваны працэсы фарміравання і развіцця беларускага тэатральнага і музейнага мастацтва ў шэрагу грунтоўных даследаванняў[3].

Гаворачы пра развіццё айчыннай культуры ў XIX ст. і асабліва ў пачатку XX ст., нельга не адзначыць ролю газеты "Наша ніва" – своеасаблівай энцыклапедыі эпохі нацыянальнага станаўлення і культурна-асветнага руху. Роля гэтага выдання і цесна звязаная з ім праблема нацыянальнага і культурнага развіцця Беларусі як адна з самых вострых у грамадска-палітычным жыцці пачатку XX ст. атрымала неадназначную інтэрпрэтацыю навукоўцаў. У жорсткай палеміцы скрыжаваліся меркаванні абаронцаў і праціўнікаў права народа на вольнае культурнае развіццё. Даследчыкі гэтага пытання прыбягалі або да празмернай ідэалізацыі, або да замоўчвання асобных гістарычных фактаў і падзей таго часу. Вялікую шкоду прынесла блытаніна ва ўжыванні тэрміна "нацыяналізм", які выкарыстоўваўся ў карыслівых, антынавуковых мэтах[4]. Цяпер ўжо агульнапрызнана, што газета "Наша ніва" з'яўлялася арганізуючым цэнтрам нацыянальнай культуры, і ў прыватнасці літаратуры. На яе старонках адбыўся дэбют усіх славутых беларускіх пісьменнікаў-класікаў[5]. Без аналізу культуралагічных матэрыялаў "Нашай нівы" нельга ўявіць панараму культурнага жыцця Беларусі пачатку XX ст.

Разглядаючы пытанні па гісторыі навукі, сістэмы адукацыі ў Беларусі ў XIX – пачатку XX ст., варта адзначыць фундаментальныя выданні, створа-

---

[1] *Александровіч С.Х.* Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960; *Александровіч С.Х.* Кнігі і людзі. Мн., 1976; *Мальдзіс А.* Падарожжа ў XIX ст. Мн., 1969; *Ён жа.* На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980; *Кісялёў Г.В.* Героі і музы. Гісторыка-літаратурныя нарысы. Мн., 1982.

[2] Гісторыя беларускай літаратуры XX ст.: У 4 т. Мн., 1999. Т.1.

[3] Гісторыя беларускага тэатра: У 3 т. Мн., 1983. Т.1. Беларускі тэатр ад вытокаў да кастрычніка 1917 г.; Музыкальный театр Белоруссии. Дооктябрьский период. Мн., 1990.

[4] *Сидоревич А.* Антон Луцкевич: главы из книги // Неман. 1990. №7. С.101–109.

[5] *Станкевіч Я.* Беларускае нацыянальнае адраджэнне (1902 – 1915): Нашаніўцы – людзі і плыні // Бацькаўшчына. 1957. № 6–7, 9–12; *Bergmanowa A.* Białoruski tygodnik "Nasya Niwa" (10.XI.1906–7.VIII.1915) // Kwartalnik Historyczny. R.LXXIX. 1972. № 3; *Семашкевіч Р.* Выпрабаванне любоўю. Мн., 1982; *Забайскі М.* Барацьба на два франты (З гісторыі газеты "Наша Ніва") // Старонкі гісторыі Беларусі. Мн., 1992; Янка Купала і "Наша Ніва": Міжнар. навук. канферэнцыя 7–8 кастр. 1996. Мн., 1997.

ныя на падставе абагульнення шматлікіх артыкулаў і спецыяльных даследаванняў[1]. У іх прааналізаваны асноўныя тэндэнцыі і этапы ў развіцці гуманітарных навук. Аўтары прасачылі працэс зараджэння і развіцця навуковай думкі ў галіне мовазнаўства, гісторыі, эканомікі, разгледжаны развіццё асветы, педагагічнай думкі і адукацыі, этнаграфіі, фалькларыстыкі, горадабудаўніцтва. Упершыню комплексна даследавана развіццё прыродазнаўчых навук.

Непрацяглы, але насычаны падзеямі перыяд Першай сусветнай вайны стаў аб'ектам адлюстравання ўжо ў публікацыях яе сучаснікаў і сведкаў. Савецкая гістарыяграфія вайны засяроджвалася пераважна на вывучэнні баявых дзеянняў, знешняй палітыкі Расіі і міжнародных адносінах, рэвалюцыйнага і ў першую чаргу сацыялістычнага руху ў кантэксце выспявання перадумоў Кастрычніцкай рэвалюцыі[2]. У цэнтры ўвагі сучасных расійскіх і заходніх даследчыкаў Першай сусветнай вайны знаходзяцца розныя аспекты праблемы "вайна, чалавек і грамадства" (пытанне аб узрастанні ва ўмовах вайны ролі насілля, зараджэнні таталітарных тэндэнцый у грамадстве; аб маргіналізацыі вялікіх груп насельніцтва ў выніку мабілізацыі, дэпартацый і бежанства; аб сацыяльна-класавым расколе грамадства і нарастанні партыйна-ідэалагічнай нецярпімасці; аб разгортванні ў гады вайны нацыянальных рухаў, распадзе імперый і ўтварэнні новых нацыянальных дзяржаў і г.д.). Падсумаванне напрацовак расійскіх гісторыкаў апошняга дзесяцігоддзя па гэтай тэматыцы зроблена ў капітальным выданні[3], але сюжэты, звязаныя з Беларуссю, у ім амаль не фігуруюць.

У Беларусі першыя працы навукова-публіцыстычнага і мемуарнага характару А. Луцкевіча, А. Цвікевіча, Я. Варонкі, Я. Канчара, А. Бурбіса, Ф. Турука, З. Жылуновіча, К. Езавітава, В. Гадлеўскага і іншых удзельнікаў беларускага нацыянальнага руху былі прысвечаны галоўным чынам праблеме дзяржаўна-палітычнага і культурнага самавызначэння беларусаў, пастаўленай на парадак дня ходам сусветнай вайны і Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Асвятленне беларускага нацыянальнага руху і яго складаных узаемадачыненняў з рэвалюцыйна-класавай барацьбой пераважала ў адпаведных раздзелах падагульняючых прац па гісторыі Беларусі, створаных у 1920-х гг. У. Ігнатоўскім і М. Доўнар-Запольскім[4]. Пры гэтым у "Кароткім нарысе гісторыі Беларусі" У. Ігнатоўскага была выказана каштоўная з метадалагічнага пункту гледжання думка, што Першая сусветная вайна "ломіць старыя рамкі жыцця і пачынае сабою новы перыяд гісторыі як Расіі, так і Беларусі"[5]. Аднак погляд на вайну як на самастойны, цэласны этап айчыннай гісторыі не знайшоў увасаблення ні ў савецкай, ні ў постсавецкай беларускай гістарыяграфіі. У адпаведнасці з афіцыйнымі ўстаноўкамі савецкага часу Першая сусветная вайна звычайна разглядалася ў сувязі з гісторыяй Кастрычніцкай рэвалюцыі – як яе пярэдадзень і паскаральнік. Традыцыя такога

---

[1] Очерки истории науки и культуры Беларуси. Мн., 1996; Асвета і педагагічная думка ў Беларусі са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985.

[2] Первая мировая война: Указатель литературы 1914 – 1993 / Сост. В.И. Бабенко, Т.М. Демина. М., 1994; *Козенко Б.Д.* Отечественная историография Первой мировой войны // Новая и новейшая история. 2001. №3. С.3–27.

[3] Мировые войны XX века: В 4 кн. Кн.1. Первая мировая война: Ист. очерк. М., 2002.

[4] *Ігнатоўскі У.М.* Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Выд.5. Мн., 1991; *Доўнар-Запольскі М.В.* Гісторыя Беларусі. Мн., 1994.

[5] *Ігнатоўскі У.М.* Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. С.174.

ўспрымання вайны была закладзена ў беларускай гістарыяграфіі працамі А. Чарвякова, В. Кнорына, В. Шчарбакова і іншых аўтараў[1].

У 1930-я гг. усталявалася таксама схема перыядызацыі айчыннай гісторыі, у адпаведнасці з якой першыя гады вайны і прывязаную да іх Лютаўскую рэвалюцыю адасаблялі ад наступнага гістарычнага перыяду. У выніку штучна парушалася цэласнасць рэвалюцыйнага працэсу 1917 г. у Расіі. Пры гэтым фарміраваўся ўсечаны вобраз і больш маштабнай з'явы – Першай сусветнай вайны.

З сярэдзіны XX ст. вайна 1914 – 1918 гг. апынулася "ў цені" не толькі Кастрычніцкай рэвалюцыі, але і Другой сусветнай вайны, даследаванне якой стала выглядаць больш актуальным. Таму ў пасляваенныя дзесяцігоддзі адносна сістэматызаванае асвятленне гісторыі Беларусі часоў вайны з кайзераўскай Германіяй рабілася толькі ў калектыўных падагульняючых працах[2]. Некаторыя карэктывы былі зроблены толькі ў 90-я гг.[3] У іншых тагачасных публікацыях беларускіх гісторыкаў перыяд Першай сусветнай вайны разглядаўся выключна ў плане вывучэння рэвалюцыйнага руху і дзейнасці бальшавіцкай партыі[4]. Спецыяльнае даследаванне гэтых сюжэтаў ажыццёўлена ў манаграфіі Э. Савіцкага, дзе аналізуецца таксама сацыяльна-эканамічнае становішча беларускіх губерняў у першыя гады вайны (жнівень 1914 – люты 1917 г.)[5].

Асноўны пласт савецкай, як і постсавецкай гістарычнай літаратуры, тэматыка якога храналагічна ўпісваецца ў рамкі Першай сусветнай вайны, прысвечаны рэвалюцыйным падзеям 1917 г.[6] На матэрыялах беларускіх губерняў і Заходняга фронту гэта тэма асвятлялася ў манаграфіях І. Саладкова, І. Ігнаценкі, В. Гняўко, М. Смальянінава, П. Башко[7], а таксама ў калектыўнай працы па гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі[8]. У названых даследаваннях адпаведна прынятым у савецкай гістарыяграфіі падыхо-

[1] *Чарвякоў А.* За Савецкую Беларусь. Мн., 1927; *Кнорин В.* 1917 год в Белоруссии и на Западном фронте. Мн., 1925; *Ён жа.* Заметки к истории диктатуры пролетариата в Белоруссии (К десятилетию провозглашения БССР). Мн., 1934; *Шчарбакоў В.* Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі і белапольская акупацыя. Мн., 1930; і інш.

[2] История Белорусской ССР. Мн., 1961; Т.1. Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т.2.

[3] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1.

[4] *Саладкоў І.Е.* Бальшавікі Беларусі ў перыяд першай сусветнай вайны і другой рускай рэвалюцыі (1914 – сак. 1917 гг.). Мн., 1957; *Ён жа.* Борьба трудящихся Белоруссии против царизма (1907 – 1917 гг.). Мн., 1967; *Липинский Л.П., Лукьянов Е.П.* Крестьянское движение в Белоруссии в период между двумя революциями (июнь 1907 – февраль 1917 г.); *Липинский Л.П.* Крестьянское движение в Белоруссии в 1914 – 1917 гг.; *Салошенко В.И.* Большевики в борьбе с мелкобуржуазными партиями в Белоруссии (1903 – март 1917 гг.). Мн., 1981.

[5] *Савицкий Э.М.* Революционное движение в Белоруссии (авг.1914 – февр.1917 гг.). Мн., 1981.

[6] Февральская буржуазно-демократическая революция 1917 г. в России (советская историография 70–80-х годов): Научно-аналитический обзор. М., 1987; *Могильницкий Б.Г.* Революция 1917 г.: новые подходы // Проблемы истории и исторического познания. Томск, 2001. С.18–29.

[7] *Солодков И.И.* Большевики Белоруссии в период подготовки и проведения Великой Октябрьской социалистической революции (март 1917–февраль 1918). Мн., 1957; *Игнатенко И.М.* Беднейшее крестьянство – союзник пролетариата в борьбе за победу Октябрьской революции в Белоруссии (1917–1918 гг.). Мн., 1962; *Ён жа.* Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии. Мн., 1986; *Гневко В.Г.* Рабочий класс Белоруссии в борьбе за победу Октября. Мн., 1973; *Смольянинов М.М.* Революционное движение солдатских масс на Западном фронте в 1917 г. Мн., 1981; *Башко П.К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии (март – октябрь 1917 г.). Мн., 1987.

[8] Победа Советской власти в Белоруссии. Мн., 1967.

дам прасочвалася абвастрэнне сацыяльна-эканамічных праблем, паказвалася радыкалізацыя масавых настрояў і нарастанне барацьбы паміж рознымі палітычнымі сіламі, што прывяло ўвосень 1917 г. да захопу ўлады бальшавікамі. Аўтар новага даследавання гэтых працэсаў М. Сяменчык адыходзіць ад гістарыяграфічных традыцый савецкага часу[1].

Да разгледжанага блока далучаюцца працы В. Круталевіча, М. Сташкевіча, У. Казлякова, С. Рудовіча, у якіх аналізуюцца розныя аспекты нацыянальна-дзяржаўнага самасцвярджэння беларусаў у гады вайны і рэвалюцыі[2].

З 1980-х гг. акрэслілася цікавасць даследчыкаў да вывучэння міжнароднага кантэксту падзей у Беларусі ў перыяд Першай сусветнай вайны. Наватарскай у гэтым сэнсе была дысертацыйная праца А. Бабкова. Аўтар упершыню ў гістарыяграфіі прааналізаваў планы розных грамадска-палітычных сіл Германіі адносна Беларусі, даследаваў акупацыйны рэжым, эканамічную палітыку немцаў на занятай тэрыторыі, паспрабаваў даць ацэнку іх захадам у нацыянальна-культурнай сферы[3]. Аналагічны спектр пытанняў разглядаецца ў даследаванні Дз. Мігуна[4]. Новай тэмай для айчыннай гістарыяграфіі стала вывучэнне гісторыі бежанства перыяду вайны[5].

У адрозненне ад савецкай гістарыяграфіі сучасная навука па-іншаму ставіцца да праблемы суадносін паміж вайной і рэвалюцыяй: усведамляецца неабходнасць даследаваць расійскую рэвалюцыю ў кантэксце больш маштабнай, глабальнай з'явы – Першай сусветнай вайны[6].

Спроба падсумавання даследаванняў па гісторыі Беларусі ў гады Першай сусветнай вайны зроблена эміграцкім гісторыкам Ю. Весялкоўскім. Аднак выдадзены ім гістарычны нарыс грунтуецца толькі на даступных аўтару публікацыях і ахоплівае галоўным чынам перыяд 1917–1920 гг.[7]

Такім чынам, гістарычная навука мае важкія набыткі ў вывучэнні гісторыі Беларусі перыяду яе знаходжання ў складзе Расійскай імперыі. Пераймаючы эстафету ад савецкіх гісторыкаў, у цэнтры ўвагі якіх былі сацы-

---

[1] *Сяменчык М.Я.* Грамадска-палітычнае жыццё на Беларусі ў перыяд Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый (сак. 1917 – сак. 1918 г.). Ч.1–2. Мн., 2001.

[2] *Круталевич В.А.* Рождение Белорусской Советской Республики (На пути к провозглашению республики. Октябрь 1917 – декабрь 1918 г.). Мн., 1975; *Ён жа.* История Беларуси: становление национальной державности (1917 – 1922 гг.). Мн., 2003; *Сташкевич Н.С.* Приговор революции: Крушение антисоветского движения в Белоруссии. 1917–1925. Мн., 1985; *Козляков В.Е.* Национальный вопрос и неонароднические партии. Начало XX в. – конец 20-х гг. (На материалах России, Беларуси, Украины). Мн., 2001; *Рудовіч С.* Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе. Мн., 2001.

[3] *Бабков А.М.* Политика германского империализма в Белоруссии в годы Первой мировой войны: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1983.

[4] *Мигун Д.А.* Германия и Беларусь: Уроки истории (1914–1922 годы). Мн., 2001.

[5] *Бабков А.М.* Беженцы в Белоруссии в годы первой мировой войны (1915–1916) // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь. Новыя канцэпцыі і падыходы. Ч.1: Гісторыя Беларусі. Мн., 1994. С.131–138; Бежанства 1915 года. Беласток, 2000; *Утгоф В.С.* Белорусские беженцы Первой мировой войны в 1914 – 1922 гг.: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. СПб., 2003.

[6] *Вада Х.* Российские революции 1917 г. как комплекс революций в эпоху мировых войн // Россия в XX веке: Историки мира спорят. М., 1994. С.143–146.; *Рудовіч С.* Беларусь у Першай сусветнай вайне і рэвалюцыі 1917 г.: актуальныя праблемы даследаванняў // Гісторыя, якой няма ў падручніках. Мн., 2002.

[7] *Весялкоўскі Ю.* Беларусь у Першай сусветнай вайне (Гіст. нарыс). Беласток; Лондан. 1996.

яльна-эканамічныя працэсы, гісторыя класавай барацьбы і рэвалюцыйнага руху, сучасныя даследчыкі значна пашырылі тэматычны дыяпазон і ўзбагацілі гістарыяграфію распрацоўкамі такіх сюжэтаў, як палітыка царызму адносна розных катэгорый насельніцтва Беларусі, станаўленне грамадзянскай супольнасці, развіццё прадпрымальніцтва, гісторыя грамадскіх (у тым ліку нацыянальных) рухаў, дэмаграфічная і канфесіянальная гісторыя. Аб'ём і разнастайнасць назапашаных ведаў ставіць на парадак дня неабходнасць іх сістэматызацыі і падагульнення з мэтай стварэння цэласнай панарамы гістарычнага працэсу ў Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XX ст.

## Крыніцы

Гісторыя Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст., як і іншых перыядаў, вывучаецца на падставе шматлікіх разнастайных гістарычных крыніц. Аднак незалежна ад тыпу класіфікацыі дадзеных крыніц найбольшае значэнне сярод іх, безумоўна, маюць пісьмовыя. Менавіта яны складаюць падмурак гістарычных даследаванняў і з'яўляюцца асновай гістарычнай навукі.

Важную групу гістарычных крыніц складаюць помнікі заканадаўства канца XVIII – пачатку XX ст. Гэта законы, маніфесты, палажэнні, указы, рэскрыпты ўрада Расійскай імперыі, якія дазваляюць прасачыць яго палітыку на тэрыторыі Беларусі. Асноўнай публікацыяй дадзеных крыніц, безумоўна, з'яўляецца "Полное собрание законов Российской империи"[1].

Разам з агульнаімперскімі зводамі законаў на тэрыторыі Беларусі да 1840 г. дзейнічаў і "Статут Великого Княжества Литовского" 1588 г.

Зводы законаў дапаўняюцца тэматычнымі зборамі заканадаўчых актаў. Сярод іх – зборнікі, для якіх спецыяльна падбіраліся дакументы, што маюць дачыненне да розных галін жыцця заходніх губерняў[2]. Шэраг дакументальных зборнікаў прысвечаны прававому статусу яўрэйскага насельніцтва[3]. Іншыя даюць магчымасць прааналізаваць заканадаўчую палітыку ўрада адносна розных канфесій[4]. Цікавасць выклікаюць зборнікі матэрыялаў, што ўтрымліваюць юрыдычныя акты, якія нарматыўна замацоўвалі саслоўны падзел расійскага грамадства, вызначалі прававы статус дваранства[5].

---

[1] Полное собрание законов Российской империи (далей – ПСЗ): Собр. 1-е с 1649 по 12 декабря 1825 г.: В 45 т. СПб., 1830–1849; Собр. 2-е с 12 декабря 1825 г.: В 55 т. СПб., 1830–1885; Собр. 3-е с 1 марта 1881 г.: В 33 т. СПб., 1885–1916.

[2] *Рубинштейн С.Ф.* Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губерниям Западной России, Белоруссии и Малороссии за 240 лет с 1652 по 1892 г. Вильно, 1894; *Никотин И.А.* Столетний период (1772–1872) русского законодательства в воссоединенных от Польши губерниях и законодательство о евреях (1649–1876): В 2 т. Вильно, 1886; Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при Екатерине II (1792–1796). Вильно, 1903.

[3] Полный хронологический сборник законов и положений, касающихся евреев. СПб., 1874; *Оршанский И.Г.* Русское законодательство о евреях. СПб., 1877.

[4] *Белоголов И.* Акты и документы, относящиеся к устройству и управлению римско-католической церкви в России. Петроград, 1915. Т. 1; Акты и грамоты об устройстве и управлении римско-католической церкви в империи Российской и Царстве Польском. СПб., 1849; Законоположения и правительственные распоряжения до римско-католической церкви в России, относящиеся со времени царствования царей Петра и Иоанна Алексеевичей. С 1669 по 1867 г. Вильно, 1868; Алфавитный указатель действующих и руководственных канонических постановлений, указов, определений и распоряжений Св. Прав. Синода (1721–1901 гг. включительно) и гражданских законов, относящихся к духовному ведомству православного исповедания. СПб., 1902; Сборник правительственных сведений о раскольниках. Лондон, 1860; Собрание постановлений по части раскола. СПб., 1875.

[5] *Громачевский С.Г.* Ограничительные законы по землевладению в Западном крае. СПб., 1904; *Блосфельдт Г.* Сборник законов о российском дворянстве. 1901–1902 гг. СПб., 1903; *Он жа.* Российское дворянство. Указания и разъяснения. 1901–1910 гг. СПб., 1910.

Вялікую групу дакументаў, без якіх немагчыма вывучэнне ніводнай праблемы па гісторыі Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст., складаюць матэрыялы справаводства цэнтральных і мясцовых органаў дзяржаўнай улады. Дадзеныя дакументы (і апублікаваныя, і неапублікаваныя) розняцца як па форме, так і па зместу. Апрацоўка гэтага велізарнага дакументальнага пласта, які з'яўляецца крыніцазнаўчым фундаментам для кожнага гістарычнага даследавання, пачалася яшчэ ў XIX – пачатку XX ст. У выніку з'явіліся зборнікі дакументаў, якія не страцілі навуковай каштоўнасці да нашых дзён[1].

Для гісторыкаў, якія цікавяцца асобнымі праблемамі гісторыі Беларусі XIX – пачатку XX ст., вялікую каштоўнасць уяўляюць тэматычныя зборнікі матэрыялаў афіцыйнага справаводства, падборкі дакументальных дадаткаў, што суправаджалі тыя ці іншыя манаграфічныя выданні.

Важную ролю для вывучэння ўплыву напалеонаўскіх войнаў 1805 – 1815 гг. на развіццё гістарычных падзей у Беларусі і Літве маюць тэрытарыяльна-тэматычныя падборкі дакументаў і матэрыялаў, падрыхтаваныя вядомым расійскім гісторыкам К. Ваенскім[2]. Да 100-гадовага юбілею вайны 1812 г. Віленскай археаграфічнай камісіяй быў выдадзены зборнік дакументаў, асноўнае месца ў якім займаюць дакументальныя матэрыялы аб дзейнасці Барысаўскай падпрэфектуры за ліпень–лістапад 1812 г.[3] Другія выданні змясцілі дакументы аб дзейнасці Віленскага генерал-губернатарства за 1812–1813 гг.[4] Значную цікавасць уяўляюць матэрыялы ВВА, змешчаныя ў шматтомным серыйным выданні[5], якія дазваляюць прасачыць падрыхтоўку расійскага ўрада да вайны 1812 г., у тым ліку і ў Беларусі, а таксама ход ваенных дзеянняў.

Значны ўклад у вывучэнне падзей вайны 1812 г. на Віцебшчыне ўнеслі дакументальныя публікацыі членаў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, створанай у 1909 г. па ініцыятыве Е. Раманава, А. Сапунова, В. Арсеньева[6]. Дакументы Віцебскага губернскага архіва аб падзеях напярэдадні і ў час вайны 1812 г. у Віцебскай губерні выдала выкладчыца Віцебскага жаночага духоўнага вучылішча М. Мельнікава[7].

---

[1] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-западной Руси. Вильна, 1867. Т.2; Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов: В 39 т. Вильно, 1865–1915. Т. 16, 1889; Т. 31, 1906; Т. 37, 1912; Архив Государственного совета. СПб., 1869; Т. 1. Ч. 1. *Энгель А.* Описание дел, хранящихся в архиве Виленского генерал-губернаторства. Вильна, 1869; Т. 1. Ч. 1. *Ён жа.* Архив Виленского генерал-губернаторства. Т. 2. Ч. 1. Вильно, 1870.

[2] Акты, документы и материалы для политической и бытовой истории 1812 года, собранные и изданныя по поручению е. и. в. великого князя Михаила Александровича. СПб., 1909–1912. Т. 1–3.

[3] Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов; Т. 37. Документы и материалы, относящиеся к истории Отечественной войны 1812 года. Вильно, 1912.

[4] Акты и документы архива Виленского, Ковенского и Гродненского генерал-губернаторского управления, относящиеся к истории 1812–1813 гг: В 2 ч. Вильна, 1912–1913 (Виленский временник. Кн. 5. Ч. 1. 1912; Ч. 2. 1913).

[5] Отечественная война 1812 года: Материалы Военно-ученого архива Главного штаба. Отд. 1. Переписка русских правительственных лиц и учреждений: В 21 т. СПб., 1901–1914; Война 1813 года: Материалы Военно-ученого архива. Отд. 1. Переписка русских и союзных правительственных лиц и учреждений: В 3 т. СПб.; Пг., 1914–1917.

[6] *Арсеньев В.С.* Документы 1813 года из дел Витебского губернского правления. Витебск, 1910; *Ён жа.* Документы о французских военнопленных 1812–1813 гг. в Витебской губернии: из дел, находящихся в архиве Витебской ученой архивной комиссии. Витебск, 1910; *Ён жа.* Из документов 1812 г. Предписание Витебского генерал-губернатора городецкому нижнему земскому суду о правилах для земской полиции, как встречать государя императора и других особ императорского дома, также и проходящие полки. Витебск, 1910.

[7] *Мельникова М.А.* 1812 год в Витебской губернии. Материалы для истории Отечественной войны, извлеченные из Витебского губернского архива. Витебск, 1911.

Некаторыя звесткі пра царкоўна-рэлігійныя падзеі ў Беларусі, узаемаадносіны і змену статусу канфесій пасля далучэння да Расійскай імперыі ўтрымліваюць два тамы апісання дакументаў канцылярыі мітрапалітаў грэка-уніяцкіх цэркваў[1]. Акрамя гісторыі уніяцкай царквы ў Беларусі, Літве і Украіне яны закранаюць узаемаадносіны паміж уніяцкай і каталіцкай канфесіямі, асабліва ў канцы XVIII – першай чвэрці XIX ст. Разам з анатацыямі даюцца ўрыўкі, а часам і поўныя тэксты асобных дакументаў.

Цікавыя дакументальныя матэрыялы, прысвечаныя падзеям 1830–1831 гг. у Беларусі, змешчаны ў дадатках да кнігі Д. Кропатава, які да вышэй азначаных падзей звяртаецца ў сувязі з напісаннем жыццянарыса М. Мураўёва. Дакументы расказваюць аб ходзе паўстання ў Дзісенскім павеце, дзеяннях А. Гелгуда, Д. Хлапоўскага, Ф. Роланда. Прыводзяцца прадпісанні М. Мураўёва па аднаўленню дзейнасці афіцыйнай улады пасля задушэння паўстання, меркаванні магілёўскага губернатара аб ходзе і прычынах паўстання[2].

Выданне дакументальных зборнікаў працягвалася і ў паслякастрычніцкі перыяд. Шэраг тэматычных і зборнікаў дакументаў агульнага характару, прысвечаных сацыяльна-палітычнай, эканамічнай гісторыі і культуры Беларусі, быў надрукаваны ў 30-я гг. і ў другой палове XX ст.[3]

Да 100-годдзя паўстання 1863–1864 гг. калектывам расійскіх, польскіх, літоўскіх і беларускіх даследчыкаў быў падрыхтаваны і выдадзены шматтомны збор дакументаў і матэрыялаў. Дзве кнігі з гэтай серыі прысвечаны падзеям у Літве і Беларусі[4].

Важнай крыніцай па гісторыі рэвалюцыйных падзей 1905–1907 гг. з'яўляюцца хронікі рабочага руху. Першымі, часта невядомымі аўтарамі гэтых хронік былі ўдзельнікі і сведкі падзей[5]. У 1955 г. архіўнае кіраўніцтва БССР і Інстытут гісторыі АН БССР выдалі зборнік дакументаў і матэрыялаў па гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Беларусі ў 1905–1907гг.[6]

Цікавыя матэрыялы можна знайсці ў зборніках дакументаў па праблеме развіцця грамадскіх рухаў у Беларусі, выдадзеных у розныя часы ў Беларусі, Расіі і Польшчы[7]. Шэраг зборнікаў утрымлівае дакументаль-

---

[1] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов: В 2 т. Т.1. (1400–1700). СПб., 1897; Т. 2. (1701–1839). СПб., 1907.

[2] *Кропотов Д. А.* Жизнь графа М. Н. Муравьева в связи с событиями его времени и до назначения его губернатором в Гродно. Биографический очерк. СПб., 1874. С. 447–549.

[3] Матэрыялы па гісторыі мануфактуры на Беларусі ў часы распада феадалізма (1796–1840 гг.): У 2 т. Мн., 1934. Т.1; Мн., 1935. Т.2; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах: У 2 т. Мн., 1936. Т.1; Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі (1772–1903 гг.) Мн., 1940. Т.2; Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3 (1900–1917 гг.). Мн., 1953; Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1979. Т. 4; Белоруссия в эпоху капитализма: В 2 т. Мн., 1983. Т.1; Мн., 1990. Т.2.

[4] Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861 – 1862 гг. Документы и материалы. М., 1964; Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. Документы и материалы. М., 1965.

[5] 1905 год на Аршанщчыне. Орша. 1926; Революционные события в Гомеле и Гомельской области в годы первой русской революции 1905–1907 гг.: Соб. документов и материалов. Гомель, 1955.

[6] Революционное движение в Белоруссии. 1905–1907 гг. Мн. 1955.

[7] Архив "Земли и воли" и "Народной воли": Сб. док. / Ред. и предисл. С.Н.Волка. М., 1932; Архивные материалы муравьевского музея в Вильно, относящиеся к последнему восстанию 1863–1864 гг. в пределах Северо-Западного края: В 2 ч. Вильно, 1913–1915. Ч. 1. 1913; Ч. 2. 1915; Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: Сб. документов / Под общ. ред. В. Дьякова. М.; Вроцлав, 1965.; Восстание 1863 года и русско-польские революционные связи 60-х годов: Сб. ст. и материалов / Акад. наук СССР. Ин-т истории; Под ред. В. Королюка и С. Миллера. М., 960; К 100-летию героической борьбы "за нашу и вашу свободу": Сб. ст. и материалов о восстании 1863 года / Под ред. В. А. Дьякова и др. М., 1964; Archiwum filomatow. Cz. 1: Korespondencja filomatow. 1815–1823: W 5 t. Kraków, 1913.

ныя сведчанні аб дзейнасці нелегальных палітычных партый у Беларусі[1].

Дакументальныя публікацыі па праблеме Першай сусветнай вайны пачалі з'яўляцца ўжо ў ходзе вайны[2]. У міжваенныя дзесяцігоддзі XX ст. па-за межамі Беларусі былі апублікаваны дакументальныя зборнікі аб ваенным заканадаўстве немцаў на акупіраванай тэрыторыі[3], іх палітыцы ў школьнай справе[4].

Увядзенне ў навуковы ўжытак вялікай колькасці дакументаў і матэрыялаў суправаджалася больш актыўнай публікацыяй шэрагу даследаванняў, садзейнічала пераасэнсаванню і істотнаму ўдакладненню некаторых раней зробленых высноў.

Выключна важнай, а ў шэрагу выпадкаў і адзінай крыніцай для вывучэння гістарычных працэсаў, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў азначаны перыяд, з'яўляюцца статыстычныя матэрыялы (архіўныя і друкаваныя). Іх накапленню і захаванню паспрыяла ўтварэнне дзяржаўных статыстычных устаноў – з 1834 г. Статыстычнага аддзялення Міністэрства ўнутраных спраў, а з 22 снежня 1852 г. – Статыстычнага камітэта МУС, які ў 1857 г. быў перайменаваны ў Цэнтральны статыстычны камітэт (ЦСК) і дзейнічаў да 1917 г. За гэты час ён выдаў шмат матэрыялаў сацыяльна-эканамічнага, дэмаграфічнага і іншага характару. Апрача публікацый МУС статыстычныя матэрыялы друкаваліся таксама ў выданнях дзяржаўных устаноў, якія ведалі фінансамі, шляхамі зносін, вайсковымі справамі і інш. Пры гэтым варта адзначыць, што ёсць асобныя праблемы, якія цалкам грунтуюцца на аналізе матэрыялаў статыстыкі, перш за ўсё гісторыка-дэмаграфічныя.

Асноўнай дэмаграфічнай крыніцай першай паловы XIX ст. з'яўляюцца матэрыялы рэвізій, як апублікаваныя[5], так і архіўныя, змешчаныя ў фондзе Дэпартамента розных падаткаў і збораў (ф.571) Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбургу (РДГА). Рэвізіі не былі ўсеагульнымі аднадзённымі перапісамі, а працягваліся па некалькі гадоў. Яны праводзіліся ў сувязі з увядзеннем у Расіі падушнага падатку, таму распаўсюджваліся толькі на падатныя саслоўі, прычым большасць з іх не ўлічвала жаночы пол. У зводных рэвізскіх матэрыялах (акладных кнігах і пераліковых ведамасцях) звесткі аб непадатных саслоўях (дваранах, духавенстве і інш.), сабраныя нерэвізскім шляхам, заносіліся "для аднаго толькі ліку". Пры гэтым статыстычныя даныя адносна дваран можна лічыць больш-менш дакладнымі толькі з 30-х гг. XIX ст.

У парэформенны час на змену рэвізіям прыйшоў бягучы адміністрацыйна-паліцэйскі падлік насельніцтва. Ён праводзіўся чынамі паліцыі, якія "па гарадскіх кварталах і сельскіх станах" збіралі звесткі на падставе спісаў жыхароў населеных месцаў. Гэтыя матэрыялы раскіданы па розных крыніцах.

[1] Socjaldemokracja Krolewstwa Polskiego i Litwy. Materialy i dokumenty. 1893–1904. M., 1934; Первый съезд РСДРП. Документы и материалы. М., 1958; Еврейское рабочее движение. Обзор, материалы и документы. М. 1928; Переписка В.И. Ленина и редакции газеты "Искра" с социал-демократическими организациями в России в 1900–1903 гг.: Сб. документов. М., 1969–1970. Т. 1–3.

[2] *Авербах О.И.* Законодательные акты, вызванные войною 1914 года с Германиею, Австро-Венгриею и Турциею. Вильна, 1915; Problem Litwy podczas wojnz: Zbiór dokumentów, uchwał, odezw i t.p. / Zebrał i do druku przygotował L.A[bramowicz]. Warszawa, 1918.

[3] *Haser S.* Okupacja niemiecka na Litwie w latach 1915–1918: Stosunki prawne. Lwów, 1936.

[4] *Zemke H.* Der Oberbefehleshaber Ost und das Schulwesen im verwaltungsbereich Litauen wahnend des Weltkrieges. Berlin, 1936.

[5] Переписи населения России. Итоговые материалы подворных переписей и ревизий населения России (1646–1858). Вып. IV–X. М., 1972.

Значная іх колькасць змешчана ў штогадовых справаздачах губернатараў, якія знаходзяцца ў фондах Камітэта міністраў (ф.1263), Савета міністраў (ф.1281) і Дэпартамента агульных спраў МУС (ф.1284) РДГА. Разнастайная дэмаграфічная статыстыка знаходзіцца ў фондах губернскіх статкамітэтаў мясцовых архіваў і Цэнтральнага статыстычнага камітэта. (ф.1290) РДГА. Акрамя таго, звесткі аб колькасці і складзе насельніцтва са справаздач начальнікаў губерняў у выглядзе табліц публікаваліся ў "Памятных книжках" і "Обзорах губерний" за адпаведныя гады. "Памятные книжки" Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай, Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Сувалкскай губерняў змяшчалі і статыстычныя звесткі аб развіцці прамысловасці, гандлю, вучэбных устаноў, даведкі аб пасадах мясцовых чыноўнікаў, духавенства, іх адукацыі. Свае памятныя кніжкі таксама штогод друкавала Віленская вучэбная акруга і пагубернскія дырэкцыі народных вучылішч.

Каштоўнай і адзінай крыніцай для даследавання натуральнага руху насельніцтва з'яўляюцца матэрыялы царкоўнага ўліку (метрычныя кнігі і кліравыя ведамасці). Выпіскі з метрычных кніг царкоўных прыходаў і кансісторый паступалі ў цэнтральныя духоўныя ведамствы – Свяцейшы Сінод і Дэпартамент духоўных спраў іншаземных веравызнанняў. З 1867 па 1910 г. зводныя даныя аб колькасці шлюбаў, нованароджаных і памерлых па губернях і паветах публікаваліся ў перыядычных выданнях[1]. Яны ж змешчаны ў архіўных і апублікаваных матэрыялах губернатарскіх справаздач.

Найбольш поўныя дэмаграфічныя звесткі, як вядома, даюць навукова арганізаваныя перапісы, якія ў шэрагу краін Еўропы сталі праводзіцца з пачатку XIX ст. У Расіі, з яе бюракратычнымі перашкодамі, такі перапіс удалося здзейсніць толькі ў 1897 г. У яго аснове ляжаў праект П. Сямёнава Цян-Шанскага. Улічвалася пастаяннае, наяўнае і прыпіснос насельніцтва, распрацоўка ж вялася пераважна па наяўным насельніцтве. З-за нізкай адукаванасці жыхароў асноўную працу выконвалі перапісчыкі. Перапісныя лісты запаўняліся за 10–30 дзён да дня перапісу. Затым на крытычную дату – 9 лютага (28 студзеня) – перапісчыкі ўносілі неабходныя папраўкі і дапаўненні.

У перапісныя лісты было ўнесена 14 пытанняў, шэраг з якіх аб'яднаны або сфармуляваны неадназначна: узрост; пол; сямейнае становішча; саслоўе; веравызнанне; стан або званне; адносіны да галавы сям'і ці гаспадаркі; месца нараджэння; месца прыпіскі; месца пастаяннага пражывання; адзнака аб часовым пражыванні ці адсутнасці; родная мова; пісьменнасць ці вучоба; заняткі, рамяство, промысел, пасада ці служба (з вылучэннем галоўнага і дадатковага занятку і адносін да воінскага абавязку). Аб'яднанне пытанняў пра ўменне чытаць і навучанне або заканчэнне курсу вучобы не дазволіла высветліць узровень адукацыі. Заблытаным аказалася і пытанне аб занятках. Адсутнасць жа пытання пра нацыянальнасць і падмена яго звесткамі аб роднай мове і сёння прыводзіць да розных навуковых маніпуляцый аб этнічным складзе насельніцтва Беларусі таго часу. Але нягледзячы на гэтыя і іншыя недахопы, Першы ўсеагульны перапіс насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г. – адзіная больш-менш дакладная крыніца, якая дае шырокі спектр дэмаграфічных характарыстык народанасельніцтва канца XIX ст. Параўнанне вынікаў перапісу з лічбамі бягучага адміністрацыйнага падліку

---

[1] Статистический временник Российской империи. Серия II. Вып. 8–25. СПб., 1872 – 1884; Серия III. Вып. 3–25. СПб., 1884–1890; Статистика Российской империи. СПб.; Пг., 1890–1916. Т. 11–93.

па стану на 1 студзеня 1897 г. паказвае, што апошні некалькі завышаў агульную колькасць насельніцтва.

Абсалютная большасць матэрыялаў перапісу 1897 г. была апрацавана і выдадзена асобнымі кнігамі па кожнай губерні, у тым ліку і пяці беларускіх[1]. Неапрацаванымі засталіся бланкі перапісу двух найменняў, што знаходзяцца ў фондзе статкамітэта РДГА:"Звесткі аб населеных пунктах", "Ведамасці падліку насельніцтва"[2].

Асаблівую цікавасць уяўляюць спісы населеных месц, якія былі складзены на ўсе без выключэння паселішчы, нават тыя, дзе пражываў адзін чалавек. Пры гэтым указваліся іх юрыдычная прыналежнасць, геаграфічнае становішча, колькасць жыхароў мужчынскага і жаночага полу, наяўнасць культавых збудаванняў, вучэбных і медыцынскіх устаноў, прамысловых прадпрыемстваў, прыдарожнай інфраструктуры (паштовых станцый, пастаялых двароў, шынкоў, піцейных кропак і інш.), гандлёвых лавак, перыядычных кірмашоў і г.д.

Для аналізу змяненняў колькасці і складу насельніцтва ў пачатку XX ст. асноўнай крыніцай, як і ў другой палове XIX ст., з'яўляюцца матэрыялы адміністрацыйна-паліцэйскага ўліку насельніцтва, вынікі якога за кожны год пачынаючы з 1904 г. публікаваліся ў перыядычных статыстычных даведніках[3].

Не менш важную ролю адыгрываюць статыстычныя матэрыялы і для вывучэння сацыяльна-эканамічных праблем. З развіццём прамысловасці ў першай палове XIX ст. былі складзены некалькі спісаў мануфактур і прамысловых прадпрыемстваў Расійскай імперыі, куды папалі звесткі і пра Беларусь. У другой палове XIX ст. новай з'явай стала выданне даведнікаў аб фабрычных і заводскіх прадпрыемствах, а з пачатку XX ст. – даведнікаў акцыянерных кампаній і гандлёвых дамоў. З развіццём банкаўскай справы з'явіўся комплекс архіўных і друкаваных матэрыялаў па гэтым пытанні, які ахоплівае перыяд з 60-х гг. XIX ст. па 1917 г.

Дынаміка урбанізацыйных працэсаў у Беларусі знайшла сваё адлюстраванне ў даведніках па стану гарадскога насельніцтва і гарадской гаспадаркі, сярод якіх паўнатой і дасканаласцю вылучаецца "Сборник сведений о настоящем состоянии городского хозяйства в главнейших городах России"[4] і даведнікі "Города России" за 1904 і 1910 гг.[5]

Сярод статыстычных матэрыялаў варта назваць публікацыі вынікаў усерасійскіх сельскагаспадарчых перапісаў 1916 і 1917 гг.[6], а таксама статыстычны зборнік "Россия в мировой войне 1914–1918 гг. (в цифрах)"[7].

---

[1] Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. Вып. IV, V, XI, XXII, XXIII. СПб., 1903–1904.

[2] Па 35 беларускіх паветах: ф.1290, воп. 11, спр. 149–194; 215–272; 524–547; 1293–1369.

[3] Ежегодник России.1904–1910. СПб., 1905–1911; Статистический ежегодник России 1911–1915. СПб., 1912–1916.

[4] Сборник сведений о настоящем состоянии городского хозяйства в главнейших городах России / Сост. П.Алабин и П.Коновалов. Самара, 1889.

[5] Города России в 1904 году. СПб., 1906; Города России в 1910 году. СПб., 1914.

[6] Предварительные итоги Всероссийской сельскохозяйственной переписи 1916 г. Вып.1: Европейская Россия. Поуездные, погубернские и порайонные итоги. Пг., 1916; Погубернские итоги Всероссийской сельскохозяйственной и поземельной переписи 1917 года по 52 губерниям и областям // Труды ЦСМ. 1921. Т.5. Вып.1.

[7] Россия в мировой войне 1914–1918 гг. (в цифрах). М., 1925.

Нельга абысціся без статыстычных даных і пры вывучэнні канфесіянальнай сітуацыі ў краі. Аднак апрацаваных матэрыялаў па тэматыцы існуе няшмат. У 1897 г. магістрам багаслоўя І. Праабражэнскім на падставе штогодных справаздач обер-пракурораў Свяцейшага Сінода быў складзены зборнік "Отечественная церковь по статистическим данным с 1840–41 по 1890–91 гг." У ім змешчаны статыстычныя звесткі адносна колькасці праваслаўных цэркваў (як прыходскіх, так і прыпісных) па ўсіх праваслаўных прыходах Расійскай імперыі, колькасць прыхаджан у іх, а таксама даныя пра тых, хто перайшоў у праваслаўе з іншых канфесій[1].

У XIX ст. адбылося станаўленне статыстыкі як навуковай дысцыпліны і менавіта ў працах статыстыкаў, а не гісторыкаў дадзена першая спроба навуковага асэнсавання эканамічнай гісторыі Беларусі XIX – пачатку XX ст. Беларускія матэрыялы сустракаюцца ў публікацыях эканамістаў і статыстыкаў, прысвечаных агульнарасійскім пытанням і значна радзей праблемам рэгіянальнага характару – эканоміцы так званага Паўночна-Заходняга краю, або эканамічных аглядаў стану эканомікі басейнаў Заходняй Дзвіны, Дняпра і Нёмана.

Сістэматычныя пагубернскія апісанні эканомікі выкладзены ў ваенна-тапаграфічных даведніках. Сярод іх найбольшую каштоўнасць уяўляюць "Военно-статистическое обозрение Российской Империи" (СПб., 1848–1852) і "Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба" (СПб., 1861–1864), якія складаліся асобна для кожнай губерні.

Своеасаблівымі крыніцамі з'яўляюцца працы з храналагічным пералікам баявых дзеянняў у часы паўстанняў 1830–1831 і 1863–1864 гг.[2], а таксама выступленні на пасяджэннях дзяржаўных дум[3].

Нягледзячы на наяўнасць дастаткова вялікай колькасці друкаваных матэрыялаў, шмат матэрыялаў справаводства цэнтральных і мясцовых органаў дзяржаўнай улады яшчэ застаюцца неапрацаванымі. Знаходзяцца яны пераважна ў архівасховішчах Мінска, Гродна, Вільні, Санкт-Пецярбурга, Масквы, часткова Украіны. Іх асноўная маса ўзнікла ў выніку дзейнасці бюракратычнага апарата Расійскай імперыі на беларускіх землях, а таксама ў ходзе адміністрацыйнага кіравання імі з Пецярбурга і Вільні. У матэрыялах мясцовай адміністрацыі асаблівае значэнне маюць штогадовыя справаздачы губернатараў. Яны ўтрымліваюць разнастайныя матэрыялы, якія характарызуюць жыццё беларускіх губерняў з усіх бакоў. З 1870 г. да гэтых справаздач пачалі рабіць падрабязныя статыстычныя дадаткі, якія атрымалі назву "Обзоров губерний". З канца 1870-х гг. губернскія справаздачы і агляды пачалі друкавацца.

Шмат карысных звестак па гісторыі грамадскага руху ў Беларусі можна знайсці ў фондах РДГА. Так, у фондах канцылярыі міністра ўнутраных спраў захоўваюцца штодзённыя данясенні губернатараў аб здарэннях у Віленскай, Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай і Гродзенскай губернях. У справаз-

[1] Отечественная церковь по статистическим данным с 1840–41 по 1890–91 гг. СПб, 1897.

[2] Bitwy i potyczki stoczone przez wojsko polskie w r. 1831 zestanie E.Callier. Poznan, 1887; Bitwy i potyczki. 1863–1864 opracjwal S.Zieliński. Rapperswilu, 1913; *Миловидов А. И.* Перечень боевых столкновений русских войск с польскими повстанцами в кампании 1863–1864 гг. в пределах Северо-Западного края, с указанием времени, места боев, численности и командного состава русских и повстанческих отрядов, равно и потерь с обеих сторон. Вильно, 1915.

[3] Сборник речей П.А.Столыпина, произнесенных в заседаниях Государственного Совета и Государственной думы (1906 – 1911). СПб., 1911; *Сапунов А.П.* Речи в Государственной думе 3-го созыва. СПб., 1912.

дачах губернатараў і генерал-губернатараў пра стан Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай губерняў даецца разгорнутае апісанне грамадскіх настрояў у беларускіх губернях.

Разнастайныя аспекты грамадскага жыцця (выбары ў дваранскія сходы, арганізацыя "сямейных вечароў", стварэнне "грамадскіх сходаў", даныя аб выдавецкай дзейнасці) знайшлі адлюстраванне ў справах, якія знаходзяцца ў фондах Мінскага, Віцебскага і Магілёўскага і Гродзенскага губернскіх грамадзянскіх губернатараў (НГАБ). У гэтым жа архіве можна знайсці каштоўныя звесткі аб дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў у фондах губернскіх прысутніцтваў па справах аб таварыствах і саюзах. У НГАБ захоўваюцца таксама фонды асобных грамадскіх арганізацый: Таварыства мінскіх урачоў, Віцебскага мясцовага кіраўніцтва Чырвонага Крыжа, камітэтаў папячыцельства аб народнай цвярозасці, кіраўніцтва віцебскага губернскага таварыства, Беларускага вольнага эканамічнага таварыства, Таварыства паляпшэння народнай працы і інш.

У гістарычных архівах Вільнюса, Санкт-Пецярбурга і Масквы знаходзяцца справы аб дзейнасці нелегальных канспіратыўных гурткоў. Шмат карыснай інфармацыі аб дзейнасці рэвалюцыйных арганізацый і рабочых гурткоў другой паловы XIX ст. у Беларусі можна знайсці ў "Обзорах важнейших дознаний, производившихся в жандармских управлениях империи по государственным преступлениям" і іншых справаздачах "для службовага карыстання"[1].

Цікавыя і разнастайныя матэрыялы па саслоўнай і нацыянальнай палітыцы царскага ўрада знаходзяцца ў шэрагу архіваў. Найбольш каштоўныя дакументы захоўваюцца ў РДГА – фондах дэпартамента агульных спраў МУС, канцылярыі міністра ўнутраных спраў, яўрэйскага камітэта, дэпартамента Герольдыі. Даследаваць гэту праблему дапамагаюць таксама матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Літвы (НГА Літвы); і НГАБ у Мінску (фонды Магілёўскага дваранскага дэпутацкага схода, канцылярый Мінскага, Віцебскага губернскіх прадвадзіцеляў дваранства, канцылярыя Віцебскага губернскага дваранскага дэпутатскага сходу, Рэчыцкага і Слуцкага гарадавых магістратаў, Гарадоцкай і Лепельскай гарадскіх дум, Віцебскай рамеснай управы, Аршанскай гарадской управы і інш.).

Шмат разнастайных і цікавых дакументаў, якія даюць магчымасць прааналізаваць канфесіянальную палітыку на тэрыторыі Беларусі, утрымліваецца ў РДГА. Найбольш аб'ёмнымі і навукова значнымі з'яўляюцца фонды канцылярый Свяцейшага Сінода і обер-пракурора Свяцейшага Сінода, Дэпартамента духоўных спраў іншаземных веравызнанняў, Рымска-каталіцкай духоўнай калегіі Міністэрства ўнутраных спраў, Генеральнай евангеліцка-лютэранскай канцылярыі. Каштоўныя матэрыялы, што дазваляюць стварыць аб'ектыўную карціну канфесіянальнай сітуацыі ў заходняй частцы Беларусі, знаходзяцца ў НГА Літвы (фонды Віленскай праваслаўнай духоўнай кансісторыі, Літоўскага епархіяльнага вучылішчнага савета, Літоўскай праваслаўнай духоўнай семінарыі, Літоўскай праваслаўнай архіепіскапскай канцылярыі, Віленскай рымска-каталіцкай духоўнай кансісторыі, Евангеліцка-лютэранскай царквы, стараверскай абшчыны Віленскай губерні). Разрозненыя, але не менш цікавыя і інфармацыйна на-

[1] Обзор важнейших дознаний, производившихся в жандармских управлениях империи по государственным преступлениям за 1897 год. СПб, 1902; Революционное движение в России в 1894–1905 годах в докладах министра А. Муравьева. СПб., 1906.

сычаныя дакументальныя матэрыялы захоўваюцца ў аддзелах рукапісаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу (фонды 629 – Ратч В. Ф.; 52 – Бацюшкавы П. М. і С. М.; 1000 – Збор асобных паступленняў) і бібліятэкі Акадэміі навук Літвы – фонды Літоўскай праваслаўнай кансісторыі, Курыі Віленскай мітраполіі, Віленскага капітула, Сінода евангелікаў-рэфарматараў Літвы. Значная колькасць матэрыялаў па дадзенай праблеме ўтрымліваецца ў архівах Мінска і Гродна.

Велізарная па аб'ёму і дастаткова інфарматыўная таксама наяўная база архіўных крыніц па гісторыі Беларусі перыяду Першай сусветнай вайны. Дакументы расійскага і германскага галоўнакамандаванняў, штабоў, злучэнняў і часцей, спецыяльных служб утрымліваюць шматлікія звесткі аб стратэгічным, тактычным планаванні ваенных аперацый, ходзе баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі, маральна-баявым стане войскаў, удзеле вайскоўцаў у палітычных рухах і партыях, адносінах да рэвалюцыйных падзей і інш. Аднак абсалютная большасць гэтых дакументаў знаходзіцца па-за межамі Рэспублікі Беларусь і практычна недаступная для беларускіх даследчыкаў.

Сярод айчынных архівасховішчаў значную колькасць крыніц па перыяду Першай сусветнай вайны ўтрымлівае НГАБ у Мінску. У фондах мясцовых органаў царскай адміністрацыі (губернскіх праўленняў, канцылярый губернатараў, судовых, паліцэйскіх, ваенных устаноў), органаў гарадскога, земскага і саслоўнага самакіравання, гаспадарча-эканамічных, культурна-асветных, дабрачынных арганізацый утрымліваюць дакументы аб ходзе мабілізацыі ў беларускіх губернях, мерах царызму па ўстанаўленню і падтрыманню тут рэжыму ваеннага становішча, адносінах розных сацыяльных пластоў да вайны, правядзенні рэквізіцый, стане гаспадаркі, вымушаных міграцыях насельніцтва і інш. У гэтых дакументах утрымліваецца таксама інфармацыя аб грамадска-палітычных, нацыянальных арганізацыях, нарастанні ў гады вайны апазіцыйных і рэвалюцыйных настрояў.

Становішча ў заходняй частцы Беларусі пад нямецкай акупацыяй у пэўнай ступені адлюстроўваюць дакументы віленскіх беларускіх арганізацый у фондзе Беларускага музея імя І. Луцкевіча. Частка гэтага фонду захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ).

Нягледзячы на шматлікія страты архіўных спраў у ходзе падзей XIX і XX стст., тыя матэрыялы, якія захаваліся дагэтуль, у цэлым дазваляюць даволі падрабязна адлюстраваць сацыяльна-эканамічныя, палітычныя, культурныя працэсы, што адбываліся ў Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XX ст.

Каштоўнай крыніцай па гісторыі Беларусі з'яўляецца мемуарная літаратура. У ёй адлюстроўваецца шырокі спектр сацыяльна-эканамічных, палітычных, культурных, этнаканфесіянальных працэсаў. Цікавасць да мемуараў удзельнікаў розных палітычных і ваенных падзей, прадстаўнікоў вядомых магнацкіх родаў, духавенства, расійскіх чыноўнікаў і ваенных, якія жылі ў Беларусі і Літве ў канцы XVIII–XIX ст. або знаходзіліся некаторы час на яе тэрыторыі, узнікла яшчэ ў другой палове XIX ст.

Успаміны, дзённікі, лісты, напісаныя прадстаўнікамі дваранскага саслоўя, закранаюць не толькі прыватнае жыццё дзеючых асоб, але і палітычныя падзеі краю: удзел аўтараў у тайных таварыствах, вайне 1812 г., паўстаннях 1794, 1830 – 1831 гг. (або ў падаўленні гэтых паўстанняў), працы ў мясцовай адміністрацыі і інш. Гэта літаратура выдадзена ў розныя часы ў выдавецтвах Санкт-Пецярбурга, Вільні, Львова, Варшавы, Кракава (пераважна на польскай мове).

Успаміны аднаго з удзельнікаў тайнай арганізацыі "Віленская асацыяцыя" (1796–1797) прыора віленскіх дамініканцаў Ф. Цяцерскага распавядаюць пра допыты членаў групы, якія вёў віленскі губернатар Фрызель, высылцы і іх жыцці ў Сібіры[1]. У зборнік мемуараў іншых тайных арганізацый – філаматаў і філарэтаў – увайшлі ўспаміны і дзённікі І. Дамейкі, Т. Красінскага, О. Слізня, М. Чарноцкага, Т. Зана, Э. Масальскага, Ф. Малеўскага[2].

С. Мараўскі ўспамінаў, як былі арыштаваны члены тайнага таварыства "Национальное масонство" М. Ромер, маршалак І. Завіша, С. Вагнер, Чаркоўскі, К. Празор і адпраўлены ў Петрапаўлаўскую крэпасць, але пазней іх адпусцілі[3].

Асобны зборнік успамінаў прысвечаны падзеям 1830–1831 гг.[4] У ім распавядаецца пра ваенныя дзеянні на тэрыторыі Беларусі і Літвы, стварэнне паўстанцкіх камітэтаў, удзел у паўстанні каталіцкага духавенства і іншых слаёў насельніцтва.

Шэраг мемуараў сведчыць пра змены, што адбываліся ў палітыцы царскага ўрада на тэрыторыі Беларусі пасля лістападаўскага паўстання. Так, Г. Стэцкі адзначаў, што калі раней губернскі маршалак практычна быў незалежны ад губернатара і мог непасрэдна звяртацца да імператара з просьбай аб аўдыенцыі, то пасля паўстання ён пераўтвараецца ў сляпога выканаўцу яго ўказаў[5]. Другі аўтар мемуараў – Г. Пузыніна – адзначала, што пасля падаўлення паўстання быццам страшэнны ўраган пранёсся па краі, вырываючы з дамоў цэлыя сем'і. Грамадства страціла ўплывовыя імёны: Е. Сапегу, двух Плятэраў, Т. Пуслоўскага, А. Гарэцкага, А. Валовіча і інш.[6]

Дастаткова рэдкімі, а таму вельмі каштоўнымі і цікавымі з'яўляюцца ўспаміны простых сялян-беларусаў[7]. Пра жыццё жанчын-шляхцянак расказваюць успаміны Е. Фелінскай[8]. Спецыфікай гэтых успамінаў з'яўляецца прэзентацыя беларускага шляхецкага грамадства пачатку XIX ст. праз жаночыя вобразы. Паслядоўнае апісанне этапаў жыцця, перамяшчэння па сацыяльнай лесвіцы дазваляе скласці ўяўленне не толькі пра штодзённае жыццё шляхцянак таго часу, але і прасачыць, як змяняліся функцыі, правы і адносіны да іх з боку тагачаснага грамадства.

Мемуарная спадчына з'яўляецца вельмі важнай крыніцай даследавання гісторыі Беларусі напярэдадні і падчас вайны 1812 г. Аднак большасць звестак, прысвечаных адлюстраванню баявых дзеянняў ці ваенна-паходнаму быту войскаў, характарызуецца пэўнай супярэчлівасцю і фрагментарнасцю. Што тычыцца дзейнасці акупацыйных органаў улады, створаных Напалеонам на тэрыторыі Беларусі, успаміны ўраджэнцаў Беларусі, якія складалі аснову марыянетачнага апарату кіравання, тых, хто зна-

[1] Pamiętnik xiędza Ciecierskiego przeora dominikanów Wilenskich. Lwow, 1865.

[2] Z filareckiego świata. Warszawa, 1924.

[3] *Morawski S.* Kilka lat młodościi w Wilnie (1818–1825). Warszawa, 1924.

[4] Powstanie 1831 r. na Litwie. Wilno, 1931.

[5] Wspomnienia moejej mlodości napisane przez Henryka Olechnowicza Steckiego. Lwow, 1895.

[6] Z Guntherów Gabriela Puzynina. W Wilnie i w dworach Litewskich. 1815–1843. Warszawa, 1928.

[7] *Чебодько П.Я.* К характеристике русско-польских отношений в Белоруссии в 1-й половине XIX века. Из воспоминаний белоруса Я.А. Чебодько. Киев, 1910.

[8] Pamiętniki z życia Ewy Felinskiej: W 3 t. Wilno, 1856.

ходзіўся на акупіраванай тэрыторыі[1], а таксама французскіх чыноўнікаў[2] з'яўляюцца унікальнай крыніцай для вывучэння сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў краі.

Пра паводзіны, настроі і адносіны розных слаёў насельніцтва да войскаў "Вялікай арміі" можна даведацца з мемуарнай спадчыны тых, хто знаходзіўся ў напалеонаўскай[3] або ў расійскай[4] арміі.

У пачатку XX ст. выйшлі з друку тэматычныя мемуарныя анталогіі, прысвечаныя падзеям 1812 г. У. Харкевіч апублікаваў рукапісныя дзённікі, запіскі і ўспаміны 29 удзельнікаў вайны 1812 г.[5] Матэрыялы з урыўкаў больш як 84 мемуараў і дзённікаў удзельнікаў вайны 1812 г. і сучаснікаў-іншаземцаў (у перакладзе на рускую мову) увайшлі ў юбілейны зборнік успамінаў прадстаўнікоў "Вялікай арміі"[6].

У 90-я гг. XX ст. у тэматычных зборніках былі апублікаваны дзённікі і ўспаміны расійскіх генералаў і афіцэраў з грунтоўным навукова-даведачным апаратам[7]. У 1995 г. А. Грыцкевіч падрыхтаваў і выдаў у перакладзе на

---

[1] *Балинский*. Отрывок из записок помещика Виленской губернии // *Корева А.* Виленская губерния: Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. СПб., 1861. Приложение № 2. С. 756 – 783; Archiwum domowe. Ułamek z pamiętników J. Szczytta // Kronika Rodzinna. Warszawa, 1884. S. 107–111; *Коркозевич М.* Воспоминания о нашествии французов на Россию в 1812 году // Минские губернские ведомости. 1869. № 45–46.; Вестник Западной России. 1869. Т. 4. Кн. 12. С. 111 – 124; *Лавринович М.* Вильна в 1812 году // Исторический вестник. 1897. Т. 70. №12. С.870 – 909; *Арнольди К.К.* Французы в Могилеве-на-Днепре 1812 г. (рассказ очевидца) // Русская старина. 1873. № 8. С. 233–237; *Романовский А. М.* Французы в Чаусах в 1812 году (из воспоминаний очевидца) // Русская старина. 1877. Т. 20. №12. С. 688–696; Записки игумена Ореста // Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1867. Т. 2. Приложение; *Добрынин Г.* Истинное повествование или жизнь Г. Добрынина. СПб., 1872; *Jackowski Ig.* Powieść z czasu mojego czyli przygody litewskie. Wyd. 2. Poznań, 1858; Записка графа Хрептовича о событиях войны 1812 года // Военный журнал. 1859. № 1. С. 36–45.

[2] Записки маркиза Пасторэ о 1812 годе. // Русский архив. 1900. № 12. С. 481–548; Souvenirs de guerre du général baron Pouget publiés par M[me] de Boisdeffre née Pouget. Paris, 1895; *Военский К. А.* Вильна в 1812 году. Из воспоминаний графа Гогендорпа, бывшего генерал-губернатора Великого княжества Литовского и генерала Рох-Годара, Виленского военного губернатора в 1812 году. СПб., 1912.

[3] Мемуары князя Сангушки // Исторический вестник. 1898. Т. 73. № 8. С. 671–700; № 9. С. 1062–1084; Ze wspomnień Józefa hr. Krasińskiego 1783–1841 // Biblioteka Warszawska. 1912. T. 3. S. 46–86, 209–242, 409–433; Napoléon en 1812: Mémoires historiques et militaires sur la campagne de Russie, par le comte Roman Sołtyk, ex-régimentaire, général de brigade d'artillerie polonaise, officier supérieur a l'état-major de Napoelon. Paris, 1836 ; Записки генерала К. И. Колачковского о войне 1812 года // Военно-исторический сборник. 1911. №2. С. 15–54; *Коленкур А.* Мемуары: Поход Наполеона в Россию. Смоленск, 1991; Из записок графа Ф Сегюра // Русский архив. 1908. Кн. 2. №5. С. 40–70; Поход Наполеона в Россию в 1812 году. М.,1912; Mémoires du général baron de Marbot. V. 3. Polotsk-la Bérésina-Leipzig-Waterloo. Paris, 1891; *Бургонь А.Ж.* Пожар Москвы и отступление французов. 1812 год. Воспоминания сержанта Бургоня. СПб., 1898.; *Ен жа.* К эпохе 1812 года. Из дневника сержанта Бургонь // Могилевская старина. 1900. Вып. 1. С. 3–6.

[4] *Бутенев А. П.* Воспоминания русского дипломата. // Русский архив. 1881. №5. С. 30 – 84; *Давыдов Д. В.* Военные записки. М., 1982; *Ермолов А.П.* Записки А. П. Ермолова. 1798–1826. М., 1991.

[5] *Харкевич В. И.* 1812 год в дневниках, записках и воспоминаниях современников: Материалы Военно-ученого архива Главного штаба: В 4 вып. Вильна, 1900 –1907.

[6] Французы в России: 1812 год по воспоминаниям современников-иностранцев: В 3 ч. М, 1912.

[7] 1812 год. Военные дневники. М., 1990; 1812 год: Воспоминания воинов русской армии: Из собрания Отдела письменных источников Государственного исторического музея. М., 1991; 1812–1814. Секретная переписка генерала П. И. Багратиона. Личные письма генерала Н. Н. Раевского. Записки генерала М. С. Воронцова. Дневники офицеров русской армии: Из собраний Государственного исторического музея. М., 1992; 1812 год в воспоминаниях современников. М., 1995.

беларускую мову тэксты памятных запісак М. Агінскага, надрукаваныя ў яго ўспамінах і пададзеныя Аляксандру I у 1811 г.[1]

У 2003 г. у выніку творчага супрацоўніцтва французскага гісторыка Ф. Бакура і беларускага вучонага А. Яноўскага ўбачыў свет рукапіс польскага генерала М. Сакальніцкага[2], у якім даецца шырокая панарама ваенна-палітычнай сітуацыі напярэдадні вайны 1812 г.

Для гісторыкаў, якія займаюцца канфесіянальнымі пытаннямі, каштоўнай крыніцай з'яўляюцца мемуары, перапіска вядомых праваслаўных іерархаў падчас далучэння уніяцкай царквы да праваслаўнай. Некаторыя з іх маюць цікавыя дакументальныя дадаткі. Сярод іх – прамовы магілёўскага праваслаўнага архіепіскапа Георгія (Каніскага), успаміны літоўскага мітрапаліта І. Сямашкі, полацкага архіепіскапа В. Лужынскага, мінскага архіепіскапа А. Зубко, перапіска полацкага епіскапа Смарагда, дзённік першага мітрапаліта ўсіх рыма-каталіцкіх цэркваў у Расійскай імперыі С. Богуша-Сестранцэвіча[3]. Выклікае цікавасць і такое каштоўнае выданне, як дзённік мінскага праваслаўнага архіепіскапа М. Галубовіча. Кніга падрыхтавана і выдадзена на польскай (мова арыгіналу) і беларускай мовах з каментарыямі літаратуразнаўцам Я. Янушкевічам[4].

Багатая звесткамі мемуарная літаратура[5] і публіцыстычныя творы дзеячаў грамадскіх рухаў[6]. Актыўнае вывучэнне і збор крыніц па гісторыі рэва-

---

[1] *Грыцкевіч А.* Памятныя запіскі Міхаіла Клеафаса Агінскага Аляксандру I у 1811 годзе // Адраджэнне: Гістарычны альманах. Вып. 1. Мн., 1995. С. 195–223.

[2] *Сокольницкий М.* "Исполнено по высочайшему повелению...": Рапорт, поданный Наполеону начальником его контрразведки, польским генералом Михалом Сокольницким, с рекомендациями "о способах избавления Европы от влияния России...". Мн., 2003.

[3] Слова и речи Георгия Конисского, архиепископа Могилевского. Могилев, 1892; Записки Иосифа митрополита Литовского, изданные Императорской Академией наук по завещанию автора: В 3 т. СПб., 1883; Записки Василия Лужинского архиепископа Полоцкого. Казань, 1885; Семь проповедей синодального члена митрополита Литовского и Виленского Иосифа, говоренных при важнейших случаях служения и о греко-униатской церкви в Западном крае России. Воспоминания архиепископа Антония. СПб., 1889; Письма епископа Полоцкого Смарагда к князю Н.Н.Хованскому// Русский архив. 1891. Кн. 8. С. 427–440; Дневник Сестренцевича, первого митрополита всех римско-католических церквей в России. Ч. 1. СПб., 1914; Ч. IV. Петроград, 1916; Ч. V. Петроград, 1917.

[4] *Янушкевіч Я.* Дыярыуш з XIX стагоддзя. Мн., 2003.

[5] *Арсеньев К.К.* За четверть века (1871–1894). Пг., 1915; *Багдановіч А.* Да гісторыі партыі
"Народная воля" ў Мінску і Беларусі // Маладосць. 1995. № 11. С. 215–239; № 12. С. 208–229;
*Бонч-Асмалоўскі А.* Ліберальна-апазіцыйны рух на Беларусі // Беларусь. Нарысы гісторыі,
эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху. Мн., 1924. С. 169–176; *Бурбіс А.* Беларуская Са-
цыялістычная Грамада ў першым перыядзе яе працы (1903–1907) // Беларусь. Нарысы гісто-
рыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху. С. 177–181; *Зіміонка А.* Сацыялістычны
рух на Беларусі. Партыя сацыялістычных рэвалюцыянераў // Беларусь. Нарысы гісторыі,
эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху С. 148–168; *Воинов Ф.* Путевые записки, или
воспоминания о пребывании в Минской губернии в феврале 1865 года по 1 мая 1866 года.
СПб., 1891; Воспоминания Николая Ираклиевича Воронова о путешествии по Западному
краю. Владимир, 1906.; *Жылуновіч З.* Менскае таварыства прыгожых мастацтваў // Полымя.
1924. № 3. С. 160–166; *Корнилов И. П.* Воспоминания о польском мятеже 1863 года в Севе-
ро-Западном крае (По рассказам генерал-адъютанта Гонецкого). СПб, 1900; *Ломачевский А.И.*
Из воспоминаний жандарма: В 2 ч. СПб., 1880; *Мошковский К.* Рукопись в тюрьме // Рус. ар-
хив. 1909. № 4. С. 483–564; *Gieisztort J.* Pamiętniki z lat 1857–1865. Wilno, 1913.; *Helenjusz E.*
(Eustachy Iwanowski) Wsopnienia lat minionych: W 2 t. Krakow, 1876.; *Kozmian K.* Pamiętniki: W
3 t. Wroclaw, 1972; *Odyniec A.E.* Wspomnienia z przeszlosci opowiadane Deotyme. Warszawa,
1884; *Pawlowicz E.* Wspomnienia z nad Wilji i Niemna. Lwow, 1895; *Pigon S.* Glosy sprzed wieku.
Skise z dziejow procesu filareckiego. Wilno., 1924; *Wojnillowicz E.* Wspomnienia. 1817–1828:
W 2 cz. Wilno, 1931.

[6] Избранные произведения прогрессивных польских мыслителей: В 3 т. М., 1956; *Калиновский К.* Из печатного и рукописного наследия Мн., 1988; *Михайловский Н.М.* Полное собрание сочинений: В 10 т. СПб., 1906–1914; Публицистика белорусских народников: Нелегальные издания белорусских народников (1881–1884). Мн., 1983; *Grabowski M.* Korespondencja literacka: W 2 t. Wilno, 1842–1843.

люцыйнага руху пачалося пасля Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 г. Мемуары ўдзельнікаў апазіцыйнага і рэвалюцыйнага руху ў Беларусі друкаваліся на старонках такіх часопісаў, як "Былое" (1917–1926), "Пролетарская революция" (1921–1941), "Каторга и ссылка" (1921–1935), "Красная летопись" (1922–1934, 1936–1937), "Красный архив" (1922–1941).

Шматлікія публікацыі мемуарнага характару ўключаюць шэраг крыніц па гісторыі Першай сусветнай вайны. Яны належаць пяру военачальнікаў[1], дыпламатаў[2], грамадскіх і палітычных дзеячаў[3].

Вялікі інфармацыйны матэрыял утрымліваюць разнастайныя органы перыядычнага друку. Аналіз перыядычных выданняў адыгрывае важную ролю ў разуменні працэсу развіцця грамадскіх рухаў. Перш за ўсё гэта часопіс "Вестник Западной России", газеты "Минский листок", "Наша ніва" і іншыя, а таксама нелегальныя выданні палітычных партый і груповак ("Накануне. Социально-революционный обзор", "Община", "Русский рабочий", "Самоуправление.Орган соц-рев.", "Искра" і інш).

Увагі заслугоўвае перыёдыка, што выходзіла падчас вайны 1812 г. у Варшаве, Вільні, Мінску[4]. У "Мінскай часовай газеце", якая выдавалася на польскай мове, публікаваліся пастановы Камісіі Часовага ўрада ВКЛ, часовых уладных структур Мінска, распараджэнні кіраўніцтва Мінскага дэпартамента; перадрукоўваліся матэрыялы з газеты "Kuryer Litewski" і паведамленні з замежнай прэсы. Шмат матэрыялаў было прысвечана асвятленню падзей з тэатра ваенных дзеянняў і хронікі мясцовага жыцця: апісанню святкаванняў і ўрачыстасцей з нагоды дня нараджэння французскага імператара, інфармаванні аб перамогах напалеонаўскай арміі і г.д. Аднак трэба мець на ўвазе, што ў артыкулах гэтых афіцыйных перыядычных выданняў, якія адлюстроўвалі грамадскія настроі, часам перабольшваліся прыклады патрыятычнага запалу мясцовых жыхароў, фальсіфікаваліся баявыя поспехі напалеонаўскіх войскаў.

Шмат каштоўных звестак па гісторыі канфесій у Беларусі, іх узаемаадносінах утрымліваецца ў духоўным перыядычным друку, перш за ўсё праваслаўнага кірунку, які падтрымліваўся дзяржавай асабліва пачынаючы з 60-х гг. XIX ст. Калі ў пачатку тых гадоў, згодна звесткам обер-пракурора Свяцейшага Сінода, ва ўсёй Расійскай імперыі выдаваліся толькі чатыры часопісы (пры духоўных акадэміях), то ўжо ў 1866 г. спіс праваслаўных духоўных перыядычных выданняў вырас да 37. У пачатку XX ст. у Расіі выдавалася больш за 500 выданняў духоўнага зместу.

Перыядычныя выданні праваслаўнай царквы ў беларуска-літоўскіх епархіях былі прадстаўлены "Епархиальными ведомостями": Літоўскімі (1863–1917); Мінскімі (1869–1917); Полацкімі (1874–1916); Магілёўскімі (1883–1916); Гродзенскімі (1901–1915). Нярэдкай з'явай была публікацыя

[1] *Брусилов А.А.* Мои воспоминания. М., 2001; *Лукомский А.С.* Очерки из моей жизни // Вопросы истории. 2001. №1–12; *Данилов Ю.Н.* На пути к крушению: Очерки из последнего периода русской монархии. М., 1992; *Гинсбург П.* Из моей жизни. М., 1922; *Людендорф Э.* Мои воспоминания о войне 1914–1918 гг. М., 1923–1924. Т.1–2.

[2] *Палеолог М.* Царская Россия накануне революции. М.; Пг., 1923; *Сазонов С.Д.* Воспоминания. М., 1991.

[3] *Jankowski Cz.* Z dnia na dzień: Warszawa 1914 – 1915 Wilno. Wilno, 1923; *Луцкевіч А.* За дваццаць пяць гадоў (1903–1928): Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацыяў. Мн., 1991; *Віталь-Дубейкаўская Ю.* Мае ўспаміны. Вільня, 1994.

[4] Gazeta Warszawska. 1812. № 79–104. Kuryer Litewski. 1812. № 49–99. Tymczasowa gazeta Mińska. Za pozwoleniem zwierchnosci. 1812. № 1–25.

на старонках "Епархиальных ведомостей" рэцэнзій на навуковыя працы, што тычыліся канфесіянальнай гісторыі краю. З задавальненнем змяшчалі яны на сваіх старонках працы, прысвечаныя гісторыі Беларусі, калі тыя ўпісваліся ў рамкі афіцыйнай канцэпцыі. Друкаваліся матэрыялы краязнаўчага характару: па гісторыі канкрэтнага населенага пункта, царквы ці манастыра, пра асобныя гістарычныя падзеі і г.д.[1]

Для вывучэння гістарычных падзей падчас Першай сусветнай вайны важную ролю адыгрываюць расійскія перыядычныя выданні ("Новый экономист", "Национальные проблемы", "Дело народа", "Новое время", "День"), германскія ("Zeitung der 10. Armee", "Grodner Zeitung", "Die Watcht im Osten"), польскія ("Dziennik Wileński", "Dziennik Miński"), беларускія ("Наша ніва", "Гоман", "Беларускі шлях") і інш. Іх колькасць асабліва ўзрасла на неакупіраванай тэрыторыі Беларусі пасля падзення царызму, дасягнуўшы некалькіх дзесяткаў назваў.

Асабліва каштоўнай крыніцай для вывучэння розных аспектаў гісторыі Беларусі пачатку XX ст. з'яўляецца газета "Наша ніва". Сацыяльнай базай выдання і аб'ектам яе ўвагі з'яўляўся працоўны народ, перш за ўсё сялянства. Пры аналізе і ацэнцы большасці публікацый звяртаюць на сябе ўвагу іх форма і стыль, якія вынікалі з арыентацыі на сялян і абумоўліваліся наяўнасцю цэнзуры. Некаторая зададзеная спрошчанасць і народная вобразнасць пісьма, своеасаблівая інфармацыйнасць многіх артыкулаў сведчылі аб разуменні супрацоўнікамі рэдакцыі асветніцкіх задач, гаварылі аб іх высокім журналісцкім майстэрстве, здольнасці наладзіць шчыры дыялог з чытачамі.

Апублікаваныя ў "Нашай ніве" матэрыялы – аўтарытэтныя крыніцы па гісторыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, гісторыі літаратуры і мастацтва, этнаграфіі, рэлігіязнаўству. Важнай крыніцай па гісторыі нацыянальнай культуры з'яўляецца і архіў газеты, рукапісная спадчына Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча і інш., у тым ліку сёння невядомых аўтараў і дзеячаў нацыянальнага руху, перапіска рэдакцыі са сваімі аўтарамі. Важна падкрэсліць, што лісты чытачоў, а таксама шматлікія артыкулы з'яўляюцца каштоўнай крыніцай і для вывучэння працэсу этнічнага самаўсведамлення беларусаў, асаблівасцей іх нацыянальнага характару.

У цэлым наяўная база гістарычных крыніц (друкаваных і рукапісных) з улікам іх перакрыжаванай верыфікацыі дае магчымасць дасканала даследаваць гістарычныя працэсы, што адбываліся ў Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XX ст.

## Нацыятворчыя працэсы ў Беларусі

У апошнія гады беларускія гуманітарыі, у тым ліку гісторыкі, даволі актыўна займаліся даследаваннямі, прысвечанымі праблемам нацыі і этнасу. Між тым да сённяшняга дня так і не выпрацавана паслядоўная канцэпцыя фарміравання беларускай нацыі. Не далі вычонныя і вычарпальнага азначэння тэрміна "нацыя". Ды і агульнапрызнаных "ісцін" у інтэрпрэтацыях нацыі і этнасу зусім няшмат.

---

[1] Из записки о Ветринской православной церкви Лепельского уезда // Полоцкие епархиальные ведомости за 1875 год. Витебск, 1876; Исторический очерк православия в Гродненской губернии // Гродненские епархиальные ведомости за 1901 год. Гродно, 1902; Коронование Жировицкой чудотворной иконы в 1730 г. // Гродненские епархиальные ведомости за 1901 год; *Коялович М.* Состояние православного духовенства на западной окраине России в связи с некоторыми вопросами, касающимися всего русского духовенства // Литовские епархиальные ведомости за 1882 год. Вильна, 1883; *Жудро Ф.* Спасский монастырь в Могилеве // Могилевские епархиальные ведомости за 1891 год. Могилев, 1892.

**Эвалюцыя поглядаў на праблему фарміравання нацыі.** Падыходы да распрацоўкі гісторыі этнасу, як і нацыі, залежаць ад разумення гістарычнага працэсу, што, у сваю чаргу, грунтуецца на той ці іншай канцэптуальнай мадэлі гісторыі. У савецкай гістарыяграфіі непадзельна панаваў фармацыйны падыход, тэарэтыка-ідэалагічную аснову якога складаў марксізм, камбінаваны з эвалюцыяніскімі ідэямі Л. Моргана. Стадыяльныя тыпы "гістарычных супольнасцей" – плямёны, народнасці, нацыі – разглядаліся ў адпаведнасці з сацыяльна-эканамічнымі фармацыямі. Класічнае для савецкай гістарыяграфіі азначэнне нацыі было сфармулявана І. Сталіным у кнізе "Нацыяналізм і нацыянальнае пытанне". "Нацыя, – згодна яго сцвярджэнню, – гэта гістарычна складзеная ўстойлівая супольнасць людзей, якая ўзнікла на базе агульнасці мовы, тэрыторыі, эканамічнага жыцця і псіхічнага складу, што праяўляецца ў агульнасці культуры". Пры гэтым аб наяўнасці нацыі можна было сцвярджаць толькі ў тым выпадку, калі меліся ўсе вышэй азначаныя крытэрыі.

Выкарыстанне гэтай мадэлі стварала шмат невырашальных праблем для даследчыкаў гісторыі беларускай нацыі, бо зразумела, што наяўнасці ўсіх неабходных кампанентаў нацыі ў "чыстым выглядзе" ў XIX ст. у беларусаў не было. Выхад быў знойдзены ў 60-я гг. XX ст., калі ў навуковым дыскурсе пашырыліся паняцці "этнас" і "этнічная група". Пануючым у беларускай гістарыяграфіі становіцца ўяўленне аб тым, што нацыятворчыя працэсы ў Беларусі XIX ст. адбываліся на аснове этнакультурнага адраджэння і ў выніку "развіцця рыначных, капіталістычных адносін, якія ў сваю чаргу сталі эканамічнай асновай фарміравання беларускай нацыі"[1]. Найбольш істотнымі прыкметамі нацыі вызначаліся: агульнасць эканамічнага жыцця і мовы, а таксама нацыянальны рух як праяўленне нацыянальнай самасвядомасці[2].

Такім чынам, абазначыўся адыход ад жорсткай фармацыйнай парадыгмы ў напрамку больш гнуткай тэорыі мадэрнізацыі, заснаванай на вэбераўскім разуменні традыцыйнага і індустрыяльнага грамадстваў. Нацыя стала разглядацца як інтэгрыраваны ўнутраным рынкам, сродкамі камунікацыі і культурным развіццём феномен новага часу. Найбольш адпаведнай такому падыходу азначэння нацыі падаецца дэфініцыя чэшскага даследчыка М. Гроха. Нацыя, на яго думку, гэта "вялікая сацыяльная група, аб'яднаная на аснове шэрагу аб'ектыўных узаемаадносін (эканамічных, палітычных, лінгвістычных, культурных, рэлігійных, геаграфічных, гістарычных) і іх суб'ектыўнага адлюстравання ў супольнай свядомасці. Большасць з іх можа быць узаемазамяняльнымі – некаторыя адыгрываюць асабліва важную ролю ў працэсе фарміравання адной нацыі, а для другой з'яўляюцца толькі аднымі з фактараў кансалідацыі. Але сярод іх тры з'яўляюцца незаменнымі: (1) "памяць" аб агульным мінулым...; (2) шчыльнасць лінгвістычных і культурных сувязяў, якія забяспечваюць больш высокую ступень сацыяльнай камунікацыі ў межах групы, чым за яе рамкамі; (3) уяўленне аб роўнасці ўсіх прадстаўнікоў такой групы"[3].

**Абуджэнне гістарычнай памяці.** У межах вызначанага падыходу першую фазу працэсу фарміравання беларускай нацыі можна аднесці на пачатак XIX ст., калі абуджалася цікавасць да гістарычнай культуры мясцо-

---

[1] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. С. 336.

[2] Там жа. С. 337, 341, 349.

[3] *Hroch M.* From National Movement to the Fully Formed Nation: The Nation Building Process in Europe// Mapping the Nation. New York; London, 1996. P. 79.

вых этналінгвістычных супольнасцей[1]. У той час, калі Варшава страчвала моц дзяржаўнага ўплыву на Беларусь, а Пецярбург такую моц у адносінах да яе яшчэ толькі набіраў, у асяроддзі беларускай шляхты ўмацоўваліся настроі і пачуцці патрыятызму, які можна назваць "мясцовым".



А. Кіркор

Важнай праявай такога патрыятызму было захапленне фальклорам, мовай, звычаямі і традыцыямі простага народа. Імкненне да іх сур'ёзнага вывучэння ляжала ў аснове дзейнасці і творчасці пісьменнікаў, этнографаў, фалькларыстаў Я. Баршчэўскага, В. Рэута, В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Сыракомлі, Я. Чачота, А. Кіркора, П. Шпілеўскага і інш. З часам многія прыхільнікі, шукальнікі народнай песні пераходзілі да самастойнай творчасці, выкарыстоўваючы народныя сюжэты, стыль і мову. Сучасная навука разглядае зварот да фальклорнай спадчыны як важны крок на шляху сцвярджэння нацыянальнай самасвядомасці, усведамлення свайго гістарычнага аблічча, месца ў свеце.

На гэтай фазе "культурнага накаплення", "залатога часу" лексікографаў, граматыкаў, філолагаў і літаратараў беларуская мова стала галоўным элементам нацыянальнай ідэнтычнасці, а нацыянальная ідэя грунтавалася перш за ўсё на сцвярджэннях аб старажытнасці, спрадвечнасці этнічнай культуры, на імкненні спраецыраваць існуючыя этнакультурныя межы як мага глыбей у мінулае, ідэнтыфікаваць продкаў са славутымі народамі, добра вядомымі па старажытных пісьмовых і фальклорных крыніцах.

Моўны крытэрый быў пакладзены і ў аснову вызначэння этнічных межаў рассялення беларусаў. Першая спроба ў гэтым належыць вядомаму чэшскаму славісту П Шафарыку. Выкарыстаўшы матэрыялы П. Кепена, А. Бадзянскага, З. Даленгі-Хадакоўскага, а таксама свае асабістыя даныя, ён склаў карту рассялення славянскіх народаў. Тэрыторыю кампактнага пражывання беларусаў склалі: Мінская і Магілёўская губерні (цалкам), большая частка Віцебскай і Гродзенскай і часткова Віленская губерня. Усяго на гэтых абшарах у той час пражывала 2726,0 тыс. беларусаў, з якіх 2376,0 (87,2 %) былі праваслаўнымі і каля 350 тыс. (12,8 %) католікамі[2]. На поўначы мяжа рассялення беларусаў даходзіла да Люцына, уключаючы Невельскі, Веліжскі, Себежскі паветы; на захадзе – за Беласток, да Бельска. Недахоп звестак не дазволіў Шафарыку вызначыць дакладную мяжу беларускага этнасу на ўсходзе, поўдні і паўночным захадзе, таму на гэтых напрамках яна была праведзена па былых рубяжах Вялікага княства Літоўскага.

---

[1] *Біч М.В.* Беларускае адраджэнне ў 19 – пачатку 20 стагоддзя. Гістарычныя асаблівасці, узаемаадносіны з іншымі народамі. Мн., 1993.

[2] *Safarik P.* Slowanski narodopis. Praga, 1842. S. 30.

У канцы XVIII – першай палове XIX ст. пачынаюць складвацца эканамічныя перадумовы фарміравання беларускай нацыі: працэсы урбанізацыі, фарміраванне рынку і сеткі дарог. У другой палове XIX ст. нацыятворчыя працэсы развіваліся ў яшчэ больш цеснай сувязі з сур'ёзнымі трансфармацыямі эканамічнага жыцця[1]. Стварэнне чыгуначнай сеткі, рост гандлю, пашырэнне рынычных адносін, узмацненне сацыяльнай мабільнасці, развіццё сродкаў камунікацыі актывізавалі працэсы этнакультурнай кансалідацыі. Калі канец XVIII – 50-я гг. XIX ст. толькі стваралі эканамічныя ўмовы фарміравання беларускай нацыі, другая палова XIX ст. забяспечыла эканамічную аснову для яе станаўлення, то ў пачатку XX ст. народная гаспадарка Беларусі была ў стане выканаць ролю эканамічнай складанай часткі нацыянальнай дзяржаўнасці[2].



Тыпы беларусаў.
Малюнак другой паловы XIX ст.

Рынак не толькі аб'ядноўваў эканамічныя намаганні асобных індывідаў, але і ставіў апошніх перад неабходнасцю засваення "высокай" (пісьмовай) культуры на агульнанацыянальнай мове. Аднак у часы, калі "высокая" беларускамоўная культура толькі нараджалася, ролю моўнага інтэгратара мясцовага соцыуму ў значнай ступені брала на сябе руская або польская мова. Гэта сур'ёзна дэфарміравала працэс кансалідацыі беларускага этнасу ў нацыю, спрыяла асіміляцыйным тэндэнцыям. Важныя сацыяльныя вынікі мела нараджэнне фабрычна-заводскай прамысловасці і чыгуначнай сістэмы. Адбывалася фарміраванне пралетарыяту і буржуазіі, у тым ліку і яго эліты – прадпрымальнікаў. Пры гэтым у Беларусі дадзеныя сацыяльныя пласты рэкрутаваліся пераважна з небеларускага паводле этнічнай ідэнтыфікацыі асяроддзя і з'яўляліся хутчэй апанентамі, чым удзельнікамі працэсу фарміравання беларускай нацыі. Адсутнасць дзяржаўных, мытных і нават адміністрацыйных межаў паміж беларускай этнічнай тэрыторыяй і суседнімі рэгіёнамі мела вынікам тое, што інтэграцыя соцыуму рынкам адбывалася ў больш шырокіх межах. Яна хутчэй размывала, чым выяўляла тэрытарыяльныя і сацыякультурныя характарыстыкі патэнцыяльнай беларускай нацыі.

Усе гэтыя працэсы прывялі да актывізацыі нацыянальнага руху. Разам з тым ён набываў больш папулісцкі характар, што было выклікана рэакцыяй ніжэйшых пластоў насельніцтва на рэаліі мадэрнізацыі развіцця капіталістычных адносін. Як адзначаў Б. Андэрсан, прыход нацыяналізму ў сучасным сэнсе слова быў звязаны з палітычным хрышчэннем ніжэйшых класаў[3]. Беларускі нацыянальны рух набываў форму лідэрства інтэлектуа-

---

[1] *Киштымов А.* Экономические достижения Беларуси в XIX – начале XX в. // Гісторыя Беларусі ў еўрапейскім кантэксце. Мн., 2002. С.22–23.

[2] *Киштымов А.* Вопросы экономического развития Беларуси и белорусская национальная идея в начале XX в. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Nr. 17. Białystok, 2002.

[3] *Андерсон Б.* Воображаемые сообщества. М., 2001. С. 71.

лаў, якія імкнуліся ўзрушыць сілы народа і скіраваць іх на падтрымку нацыянальнай ідэі.

У другой палове 50-х гг. XIX ст. у час грамадскага абуджэння ў Расійскай імперыі назіралася далейшае развіццё беларускага нацыянальна-культурнага руху сярод інтэлігенцыі Вільні, Мінска, Віцебска (гурткі А. Кіркора, В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Вярыгі-Дарэўскага). Беларускае нацыянальнае пытанне ў сувязі с польскім, літоўскім, украінскім ставілася на сходках зямляцтваў і гурткоў рэвалюцыйнай моладзі з ліку ўраджэнцаў заходніх губерняў, якія займаліся ў розных навучальных установах Пецярбурга. Падаўленне паўстання 1863–1864 гг. і масавыя рэпрэсіі ў адносінах да яго ўдзельнікаў, жорсткі рэжым выключных законаў надоўга затрымалі развіццё нацыянальнага руху. На мяжы 70–80-х гг. у вышэйшых установах Пецярбурга і іншых гарадоў утварыліся гурткі студэнтаў-беларусаў рэвалюцыйна-дэмакратычнага і ліберальнага кірункаў[1]. Падпольна, на гектографе яны выдалі шэраг публіцыстычных твораў, дзе абвяшчалі існаванне беларусаў як "асобнай галіны славянскага племені"[2].

У 1891 г. Ф. Багушэвіч у прадмове да зборніка "Дудка беларуская" сфармуляваў беларускую нацыянальную ідэю, якая грунтавалася на гістарычнай традыцыі ВКЛ і асэнсаванні беларускай мовы як вызначальнага індыкатара беларускай нацыі (Беларусь знаходзіцца там, "дзе наша мова жывець"; "не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі")[3].

У канцы 90-х гг. сярод навучэнцаў Мінска па ініцыятыве гімназістаў А. і І. Луцкевічаў утварыўся гурток з мэтай вывучэння Беларусі і распрацоўкі беларускага нацыянальнага пытання. У 1902 г. В. Іваноўскі і браты Луцкевічы заснавалі "Круг беларускай народнай асветы і культуры" ў Пецярбургу, дзе яны вучыліся. Зімой 1902–1903 гг. на аснове нацыянальна-культурных гурткоў беларускай моладзі Мінска, Вільні, Пецярбурга была ўтворана Беларуская сацыялістычная грамада (І. і А. Луцкевічы, А. Пашкевіч, К. Кастравіцкі, А. Бурбіс, В. Іваноўскі, Ф. Умястоўскі). Легальным органам БСГ стала газета "Наша доля", якая пачала друкавацца ў Вільні з верасня 1906 г. кірыліцай і лацінкай (адно выданне прызначалася для беларусаў праваслаўных, другое – для католікаў), але была забаронена ўладамі ў студзені 1907 г. У лістападзе 1906 г. БСГ пачала выдаваць другую газету – "Наша ніва", якая амаль дзесяцігоддзе з'яўлялася палітычным і культурным цэнтрам нацыятворчага працэсу. Важную ролю ў развіцці беларускага нацыянальна-культурнага руху адыграла дзейнасць кнігавыдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца", заснаванай у маі 1906 г. у Пецярбургу па ініцыятыве Б. Эпімаха-Шыпілы.

Менавіта вакол БСГ, "Нашай нівы" і беларускіх выдавецтваў гурталіся нацыянальна свядомыя беларускія сілы[4]. Ідэя дзяржаўнасці Беларусі як гарантыі вольнага развіцця народа, яго культуры стымулявала творчасць вядучых культурных дзеячаў, такіх, як Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, Я. Лёсік, А. Гарун, В. Ластоўскі. Важны ўклад у вывучэнне народнай культуры і мовы зрабілі Е. Раманаў, Я. Карскі, М. Нікіфароўскі, М. Доўнар-Запольскі. Паступовa і мэтанакіравана намаганнямі беларускай

---

[1] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. С. 349–354.

[2] Публицистика белорусских народников. Мн., 1983. С. 19–56, 68–71, 81–85, 120–121.

[3] *Багушэвіч* **Ф.** Творы. Мн., 1991. С.17.

[4] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. С. 435.

інтэлігенцыі, у першую чаргу пісьменнікаў і публіцыстаў, стваралася навуковае беларусазнаўства[1].

Беларуская нацыянальная ідэя вызначала і культурна-асветніцкую дзейнасць інтэлігенцыі, якая актывізавалася пасля рэвалюцыі 1905–1907 гг. Дзякуючы яе намаганням з'явіліся беларускі тэатр і друк. У 1908–1914 гг. выйшлі ў свет 77 беларускіх кніг агульным тыражом 226 600. У гэты ж час дзейнічала шэсць беларускіх выдавецтваў[2]. У пачатку XX ст. з'явілася значная колькасць тэкстаў, якія стварылі канон нацыянальнай культуры, і было сфарміравана ўласнае бачанне гісторыі народа[3].

Такім чынам, на рубяжы XIX–пачатку XX ст. практычна склаўся ўвесь „будаўнічы набор" беларускай нацыі. Аднак некаторыя яго элементы пакуль толькі пазначылі сваю прысутнасць і існавалі хутчэй як патэнцыял, не выяўляючы ў поўнай меры ні свае магчымасці, ні рэальную сілу ў будучым. Сваю ролю тут адыгралі і палітызацыя канфесіянальных падзелаў (праваслаў'я і каталіцтва), і канфлікт буйных палітычных сіл – польскага і расійскага нацыяналізму. Прычым за апошнім стаяла моц Расійскай імперыі, для якой фарміраванне беларускай (як і ўкраінскай) нацыі ўяўлялася крайне непажаданым, бо ставіла пад пагрозу адзінства яе этнакультурнага ядра. Усё гэта ўскладняла працэс ідэнтыфікацыі лакальнай супольнасці. „Вобраз ідэальнай Айчыны ўяўляў сабой складаную ідэалагічную канструкцыю. Ён уключаў – у больш ці менш утапічным ключы – сацыяльныя і палітычныя адносіны, якія павінны былі зрабіць Радзіму шчаслівай, а таксама вызначылі „правільныя", „справядлівыя" параметры гэтай Айчыны, г. зн. якой павінна быць нацыянальная тэрыторыя і хто павінен на ёй жыць", – заўважае А.Мілер[4]. Да таго ж этнічныя і культурныя характарыстыкі беларусаў нярэдка станавіліся аб'ектам дыскусій нацыянальных актывістаў.

На рубяжы XIX–XX стст. беларуская нацыянальная ідэя канкурыравала з канцэпцыямі заходнерусізму і краёвасці, кожная з якіх стварыла сваю іерархію ідэнтычнасцей і каштоўнасцей.

Сутнасць заходнерусізму можна вызначыць наступнымі словамі М. Каяловіча: "Расійскі народ складаецца з трох пляменьняў: вялікарусаў, маларосаў і беларусаў. Гэта – факт расійскага жыцця; даўно ён існуе, і, безумоўна, будзе існаваць далей, пакуль у Расіі будзе просты народ...Усе мы, расійскія інтэлігенцкія людзі, навучаліся размаўляць і размаўляем адной і той самай літаратурнай расійскай мовай... Бязглузда было б нам дзяліцца на племянныя групы. А тым больш праводзіць гэты падзел у народ"[5]. Сутнасным элементам гэтай канцэпцыі з'яўлялася таксама ўпэўненасць у тым, што палітычная незалежнасць Беларусі – гэта шкодная утопія[6].

У канцы 1912 г. у выданнях "Kurier Krajowy"і "Вечерняя газета", якія знаходзіліся пад кантролем віленскага беларускага кола (браты А. і І. Луцкевічы, В. Ластоўскі і інш.), была сфармулявана ідэя палітычнай нацыі, з'яўленне якой звязана таксама з феноменам так званай краёвасці.

---

[1] *Філякоў У.* "Падымайся з нізы, сакаліная сям'я...". Пра станаўленне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў // Беларуская думка. 1993. 2. С. 60–64.

[2] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. С. 432.

[3] *Токць С.* Нацыятворчыя працэсы на Гарадзеншчыне ў 19 – пачатку 20 ст. у святле тэорыі мадэрнізацыі// Гістарычны альманах. Т. 6. Гародня, 2002. С. 130–152.

[4] *Миллер А.О.* О дискурсивной природе национализма // Pro et Contra. 4. С.145.

[5] Цыт. па: *Цьвікевіч А.* "Западно-руссизм". Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. С.199–200.

[6] *Коялович М.* Лекции по истории западной России. М. 1884; *Ён жа.* История русского самосознания. М. 1893; і інш.

Асноўным пастулатам краёвай ідэалогіі было сцвярджэнне, што ўсе карэнныя народы Беларуска-літоўскага краю ўтвараюць адзіную нацыю, да якой належыць кожны, хто адчувае сябе грамадзянінам краю, незалежна ад сацыяльнага паходжання і культурнай арыентацыі. Першымі з прапагандай краёвых поглядаў выступілі Р. Скірмунт, К. Скірмунт, М. Ромэр і інш. Як сцвярджае А. Смалянчук[1], кіраўнікі беларускага руху (браты А. і І. Луцкевічы і В. Ластоўскі) не толькі прынялі гэту ідэю, але і актыўна яе прапагандавалі. А. Луцкевіч спадзяваўся, што папулярызацыя ідэі палітычнай нацыі на польскай і рускай мовах паспрыяе далучэнню да беларускага руху як русіфікаваных, так і паланізаваных беларусаў.

Адным з актаў супрацоўніцтва краёўцаў было ўтварэнне ў канцы 1915 г. у акупіраванай немцамі Вільні Часовай Рады Канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага. Гэта арганізацыя аб'ядноўвала дзеячаў розных нацыянальна-культурных рухаў, а ініцыятыва яе стварэння належала беларусам. Аднак выпрабавання часам яна не вытрымала. Абвастрэнне міжэтнічных адносін (асабліва польска-літоўскіх) і радыкалізацыя беларускага руху, якая адбылася пасля Лютаўскай рэвалюцыі, знішчылі падмурак Канфедэрацыі. Адрадзіўшыся ў 1917 г., Беларуская сацыялістычная грамада ўспрымала беларускі этнас як сялянска-рабочы, прадстаўнікам іншых колаў амаль немагчыма было заваяваць давер сацыялістаў. Аднак ідэя дзяржаўнасці гістарычнай Літвы яшчэ ў 1917 г. дамінавала ў беларускім руху на захад ад лініі фронту. Такім чынам, у пачатку XX ст. ідэя палітычнай нацыі не стала падмуркам беларускага руху, хаця вельмі актыўна выкарыстоўвалася беларусамі.

Суіснаванне канфліктуючых уяўленняў аб гістарычным лёсе беларускай нацыі вызначала ў гэты перыяд логіку і тэмпы фарміравання нацыянальнай свядомасці і шырэй – нацыянальнай кансалідацыі. Паміж момантам, калі нацыя была "ўяўлена" прадстаўнікамі эліты, і момантам, калі адпаведная гэтаму нацыянальная ідэнтычнасць зацвердзілася сярод супольнасці і атрымала палітычнае афармленне, прайшоў пэўны час, што спарадзіла меркаванні асобных даследчыкаў аб "замаруджаным" развіцці беларускай нацыі. Трэба адзначыць, што ў другой палове XIX ст. беларускі нацыяналізм толькі ўсталёўваўся як мабілізацыйны рэсурс палітычнага дзеяння ў барацьбе з іншымі, як старымі (рэлігійны і дынастычны), так і новымі (класавая барацьба) формамі палітычнага дыскурса. Толькі з часу падзей 1917 г. праблемы Беларусі як асобнай этнатэрытарыяльнай адзінкі ("беларускае пытанне") выносяцца ў цэнтр грамадскай барацьбы. Менавіта гэты час стаў лёсавызначальным для нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі беларускага этнасу і яго палітычна-дзяржаўнага самавызначэння[2].

Рэвалюцыя стварыла шырокія магчымасці для разгортвання і арганізацыйна-палітычнага афармлення беларускага нацыянальнага руху. У канцы сакавіка 1917 г. у Мінску быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт, заменены ў ліпені Цэнтральнай радай беларускіх арганізацый, якая ў кастрычніку была пераўтворана ў Вялікую Беларускую раду. Пачалі ўзнікаць новыя нацыянальныя партыі і арганізацыі – Беларуская народная партыя сацыялістаў, Беларуская народная грамада, Хрысціянска-дэмакратычная злучнасць беларусаў. Аднак у ходзе расійскіх рэвалюцый 1917 г. не ўдалося дасягнуць такога вырашэння беларускай праблемы, якое ў найбольшай ступені адпавядала б інтарэсам насельніцтва краю[3].

---

[1] *Смалянчук А.* Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864–1917. Гродна, 2001.

[2] *Рудовіч С.С.* Час выбару. Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе. Мн., 2001. С. 6.

[3] Там жа.

## РАЗДЗЕЛ I

# БЕЛАРУСЬ НА СХІЛЕ ФЕАДАЛЬНА-ПРЫГОННІЦКАЙ ЭПОХІ (канец XVIII – 50-я гг. XIX ст.)

## ГЛАВА 1

## ПАЛІТЫЧНАЕ СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСІ Ў СКЛАДЗЕ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ

### 1. Новыя органы і рэжым улады

**Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел.** Яшчэ да канчатковага падпісання дакументаў аб падзелах Рэчы Паспалітай Кацярына II ажыццяўляла меры, скіраваныя на папярэднюю падрыхтоўку новых зямель да адміністрацыйных перамен па ўзору Расійскай імперыі. Аб гэтым сведчыць шэраг дакументаў 1772, 1792, 1794 гг.[1] Для правядзення такіх перамен на пасады генерал-губернатараў і губернатараў прызначаліся ваенныя. Яны маглі разлічваць на падтрымку расійскіх войскаў, якія ўжо знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі і Літвы.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. да Расійскай імперыі былі далучаны паўночна-ўсходнія землі Беларусі, што раней уваходзілі ў склад Полацкага, Віцебскага і Мсціслаўскага ваяводстваў. Новая тэрыторыя ўвайшла ў склад Пскоўскай (Пскоўская, Велікалуцкая, Дзвінская, Полацкая правінцыі) і Магілёўскай (Магілёўская, Аршанская, Рагачоўская, Віцебская правінцыі) губерняў, якія былі аб'яднаны ў генерал-губернатарства. Губернскімі гарадамі сталі Магілёў і Апочка[2]. Але Апочка быў невялікім горадам, таму губернскае праўленне неўзабаве перанеслі ў Полацк.

У 1775 г. было прынята "Устанаўленне кіравання губерняў Усерасійскай імперыі". Згодна з ім Расійская імперыя падзялялася на губерні, якія інакш называліся намесніцтвамі, з колькасцю насельніцтва ад 300 тыс. да 400 тыс. чалавек мужчынскага полу. Губерні, у сваю чаргу, дзяліліся на паветы з насельніцтвам ад 20 тыс. да 30 тыс. чалавек мужчынскага полу[3].

У жніўні 1776 г. замест Пскоўскай была заснавана Полацкая губерня (з аддзяленнем яе ад велікарускіх правінцый). Магілёўская ж губерня пакідалася без змен. Вясной 1777 г. гэтыя губерні былі падзелены на паветы. У склад Магілёўскай губерні ўвайшлі Магілёўскі, Чавускі, Старабыхаўскі, Аршанскі, Бабінавіцкі, Сенненскі, Мсціслаўскі, Чэрыкаўскі, Копыскі, Клімавіцкі, Рагачоўскі і Беліцкі паветы, у склад Полацкай – Полацкі, Дрысенскі, Себежскі, Невельскі, Дынабургскі, Рэжыцкі, Люцынскі, Веліжскі, Гарадоцкі і Суражскі паветы. У сувязі з гэтым мястэчкі Дрыса, Люцын, Сураж, Чавусы, Копысь, Бабінавічы, Клімавічы і Беліца атрымалі статус гара-

---

[1] Полное собрание законов Российской империи с 1649 г. (далее – ПСЗРИ). СПб., 1830. Т.XIX. С. 507, 511, 531; Т.XXIII. С. 388, 389, 572–574, 595.

[2] ПСЗРИ. Т. XIX. С. 602

[3] Там жа. С. 234–271.

доў і сталі павятовымі цэнтрамі. З 1778 г. Магілёўская і Полацкая губерні называліся намесніцтвамі[1].

Для ўладкавання межаў губерняў, а таксама ў ваенных і гаспадарчых мэтах узнікла неабходнасць правядзення іх апісання, вымярэння і картаграфавання. На працягу 1772–1774 гг. былі складзены два камеральныя апісанні: агульнае – на далучаную ўсходнебеларускую тэрыторыю і спецыяльнае – на казённыя вёскі. Агульнае апісанне дало адміністрацыі губерняў статыстычную характарыстыку тэрыторыі, а спецыяльнае – вызначыла зямельны фонд, які з'яўляўся крыніцай даходаў для казны, а таксама мог быць выкарыстаны для падараванняў[2]. У 1783–1785 гг. у Магілёўскай і Полацкай губернях было праведзена генеральнае межаванне, якое скасавала папярэднія правы на валоданне зямлёй і дакументальна афармляла правы новай улады на далучаныя землі[3].

У 1793 г., пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, да Расіі, акрамя ўкраінскіх, адышлі наступныя беларускія землі: рэшткі Полацкага ваяводства (на левым беразе Заходняй Дзвіны), Віцебскага і Аршанскага паветаў Віцебскага ваяводства; Мінскі, Мазырскі – Мінскага ваяводства; частка Рэчыцкага павета (па правым беразе Дняпра); усходнія часткі Навагрудскага і Слонімскага ваяводстваў; Сініцкі павет Слуцкага княства; усходнія часткі Браслаўскага і Ашмянскага паветаў – Віленскага і Пінскі павет Брэсцкага ваяводстваў. Указам ад 13 красавіка 1793 г. рэшткі Полацкага ваяводства былі далучаны да Полацкага намесніцтва, а ўсе землі ад яго мяжы да р. Бярэзіны – да Магілёўскага; Мазырскі павет быў далучаны да Чарнігаўскай губерні, а на астатняй тэрыторыі ўтворана Мінская губерня[4].

Указам Сената ад 3 мая 1793 г. генерал-губернатару Ц.Туталміну было загадана заснаваць Мінскае намесніцтва ў складзе акруг: Мінскай, Віцебскай, Пастаўскай, Докшыцкай, Дзісенскай, Барысаўскай, Ігуменскай, Бабруйскай, Мазырскай, Давыд-Гарадоцкай, Пінскай, Нясвіжскай і Слуцкай[5].

У сувязі з падаўленнем паўстання 1794 г. і канчатковым, трэцім падзелам Рэчы Паспалітай Кацярына II загадала ліфляндскаму, эстляндскаму і літоўскаму генерал-губернатару князю М.Рэпніну падзяліць рэшткі Вялікага княства Літоўскага на тры часткі з цэнтрамі ў Вільні, Гродне і Коўне (або ў Кейданах). Кожная з гэтых частак была даверана камандзірам карпусоў, якія, у сваю чаргу, даручылі кіраванне паветамі камандзірам сваіх палкоў. Апошнія павінны былі наладзіць сувязі з мясцовым насельніцтвам праз спецыяльных камісараў[6].

У чэрвені 1795 г. у Гродне быў створаны часовы орган кіравання тэрыторыяй Літвы і Заходняй Беларусі – Вярхоўнае праўленне Літвы. Яго структуру складалі чатыры аддзяленні: казённае (кіраўнік – палкоўнік І. Фрызель), крымінальнае (брыгадзір І. Русакоў), грамадзянскае (надворны са-

---

[1] *Рубинштейн С.Ф.* Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губерниям Западной России, Белоруссии и Малороссии за 240 лет, с 1652 по 1892. Вильно, 1897. С.120, 122.

[2] *Анішчанка Я.К.* Камеральнае апісанне – крыніца па сацыяльна-эканамічнай гісторыі Усходняй Беларусі (1772–1774 гг.) // Весці Акадэміі навук БССР. Сер. грамад. навук. 1988. № 3. С.77.

[3] *Анішчанка Я.К.* Генеральнае межаванне на Беларусі. Мн., 1996. С.13, 14, 132.

[4] ПСЗРИ. Т. XXIII. СПб., 1830. С.419.

[5] Там жа. С. 427.

[6] Там жа. С. 573.

ветнік Н.Волкаў) і эканамічнае (прэм'ер-маёр Літке)[1]. Гэты папярэдні этап у кіраванні новымі землямі быў неабходны для іх уніфікацыі з расійскімі, што складала цалкам акрэсленую праграму ўнутранай палітыкі Кацярыны II.

14 снежня 1794 г. было загадана падзяліць новадалучаныя землі на Віленскую і Слонімскую губерні і скласці штаты прысутніцкіх месцаў паводле "Устанаўлення для кіравання губерняў Усерасійскай імперыі" 1775 г. У жніўні 1796 г. губерні перайменаваны ў намесніцтвы: Віленскае ў складзе 11 паветаў (Віленскага, Завілейскага, Трокскага, Браслаўскага, Ашмянскага, Ковенскага, Упіцкага, Вількамірскага, Цельшаўскага, Расіенскага і Шавельскага) і Слонімскае – васьмі паветаў (Слонімскага, Навагрудскага, Гродзенскага, Ваўкавыскага, Лідскага, Брэсцкага, Кобрынскага, Пружанскага)[2].

Такі падзел праіснаваў толькі да канца 1796 г., калі Павел I правёў новую адміністрацыйна-тэрытарыяльную рэформу. Указам ад 12 снежня 1796 г. на тэрыторыі Беларусі і Літвы былі створаны наступныя губерні: Беларуская (яна аб'яднала Магілёўскае і Полацкае намесніцтвы), Мінская (з далучаным да яе Рэчыцкім паветам) і Літоўская (у яе склад увайшлі Слонімскае і Віленскае намесніцтвы)[3].

З-за таго, што кіраваць вялікімі па памерах губернямі было нязручна, Аляксандр I у 1801 г. увёў новы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел. Згодна з ім Беларуская губерня была падзелена на Магілёўскую і Віцебскую (абедзве губерні ўвайшлі ў склад Беларускага генерал-губернатарства); Літоўская – на Віленскую і Гродзенскую губерні (увайшлі ў склад Літоўскага ваеннага губернатарства)[4].

**Органы кіравання ў губернях і паветах**. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і ўключэння беларуска-літоўскіх зямель у склад Расійскай імперыі царскі ўрад пачаў распаўсюджваць на іх сваю сістэму мясцовага дзяржаўнага кіравання. Яна стваралася па аналогіі з расійскімі губернямі. Галоўнай асобай у губернях быў генерал-губернатар, які лічыўся намеснікам цара і ўзначальваў мясцовую адміністрацыю падпарадкаваных яму тэрыторый. У час знаходжання ў Пецярбургу ён засядаў у Сенаце, у тым дэпартаменце, да якога адносіліся справы яго губерні. Фактычна генерал-губернатар быў надзелены неабмежаванымі паўнамоцтвамі. Яму падпарадкоўваліся вайсковыя і грамадзянскія губернатары (або правіцелі).

У абавязак грамадзянскага губернатара, які камандаваў мясцовым гарнізонам, уваходзіў нагляд за зборамі падаткаў, рэкрутаў, ходам следства, заключэннем казённых падрадаў і паставак, падтрыманнем грамадскага парадку і інш.[5] Персанальны склад вышэйшай адміністрацыі набіраўся з рускіх саноўнікаў і чыноўнікаў. Аднак канчатковае рашэнне прымаў генерал-губернатар, таму ўлада грамадзянскіх губернатараў ў канцы XVIII–першай палове XIX ст. была даволі абмежаванай. Да таго ж адбываліся іх частыя персанальныя змены.

У кожнай губерні, як, дарэчы, і выканаўчы орган, дзейнічала губернскае праўленне ў складзе "общего присутствия" і канцылярыі. Гаспадарчай і фінансавай справай кіравала казённая палата, якую ўзначальваў віцэ-губер-

---

[1] ПСЗРИ. Т. XXIII. С.574; *Милютин Д.М.* Гродно в 1794, 1795 и 1796 г. Гродно, 1905. С.64.

[2] ПСЗРИ. Т. XXIII. С.845, 922.

[3] ПСЗРИ. Т. XXIV. СПб., 1830. . С.229.

[4] Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1972. Т.1. С.447, 448.

[5] *Григорьев В.* Реформы местного управления при Екатерине II (Учреждения о губерниях 7 ноября 1775 г.). СПб., 1919. С.214.

натар. Яна займалася раскладам і зборам падаткаў, кіраваннем і наглядам за казённай маёмасцю. У губернях дзейнічалі і такія органы кіравання, як рэкруцкія ўправы, прыказ грамадскай апекі, межавая кантора і інш[1].

Галоўным органам павятовай улады лічыўся ніжні земскі суд, які адначасова выконваў адміністрацыйна-паліцэйскія і судовыя функцыі. Узначальваў яго земскі спраўнік. У адрозненне ад расійскіх губерняў, ён не выбіраўся, а прызначаўся Сенатам. У склад суда ўваходзілі два-тры засядацелі, прызначаныя ад дваран. Ніжні земскі суд сачыў за падтрыманнем парадку ў павеце, забяспечваў своечасовую выплату жыхарамі падаткаў і выканання імі розных павіннасцей[2].

Паміж указам аб стварэнні губерняў і прызначэннем генерал-губернатараў і губернатараў праходзіў час (ад года да двух), за які адміністрацыі патрэбна было падабраць чыноўнікаў, правесці сходы па выбару кандыдатаў на саслоўныя пасады. Не давяраючы мясцовым жыхарам, улады нярэдка запрашалі чыноўнікаў з расійскіх і маларасійскіх губерняў. Так, у 1795 г. у мінскіх губернскіх установах працавала па восем чалавек з Архангельскага і Аланецкага намесніцтваў, адзін – з Цвярскога і два – з Магілёўскага[3]. У 1796 г. віленскі і слонімскі генерал-губернатар князь М.Рэпнін прызначыў на канцылярскія пасады чыноўнікаў і студэнтаў з Маларосіі. Але прыезжыя службоўцы нядоўга заставаліся ў краі, дзе для іх усё было чужое – мова, звычаі, вера і дзе да іх дрэнна ставілася мясцовае насельніцтва.

У сувязі з недахопам рускіх чыноўнікаў Кацярына II дазваляла прызначаць на адміністрацыйныя пасады ў новаўтвораных губернях мясцовых жыхароў. Чыноўнікаў неабходна было "выбіраць з тых, хто непахісная вернасці, пры валоданні ўласнасцю і пры іншых якасцях мелі чыны польскія "[4].

Мясцовая шляхта атрымала правы выбіраць сваіх прадстаўнікоў у органы мясцовага кіравання і суда, аналагічныя з правамі расійскага дваранства. На беларуска-літоўскія губерні таксама была распаўсюджана расійская (уведзеная яшчэ Пятром I) 14-класная сістэма чыноў і рангаў.

У канцы XVIII ст. у беларускіх гарадах налічвалася больш за 1,9 тыс. служачых грамадзянскіх устаноў (каля 1,5 % ад агульнай колькасці гараджан)[5]. У адрозненне ад праваслаўных рускіх чыноўнікаў – выхадцаў з розных саслоўяў (дваран, мяшчан, духавенства) мясцовыя ўраджэнцы былі толькі дваранамі і ў асноўным каталікамі. Пры гэтым памеснае дваранства імкнулася пазбягаць канцылярскай службы, якую лічыла справай неганаровай, а чын атрымлівала за ваенную службу ці выбраныя дваранскія пасады[6].

**Змены ў судовай сістэме**. На далучанай тэрыторыі ў якасці судовага заканадаўства працягваў дзейнічаць Статут ВКЛ 1588 г., які быў перакладзены па загаду генерал-пракурора Сената А.Вяземскага ў 1780 г. на рускую мову[7]. Для найвышэйшай апеляцыі ў 1774 г. пры юстыц-калегіі ліфляндскіх, эстляндскіх і фінлядскіх спраў Сената быў створаны Беларускі дэпартамент, які праіснаваў да 1780 г. Да гэтага часу вышэйшай апеляцыйнай уста-

---

[1] *Żytkowicz L.* Rządy Repnina na Litwie w latach 1794–97. Wilno, 1938. S.159–162.

[2] *Юхо Я.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992. С.242, 243.

[3] *Смородский А.П.* Столетие Минской губернии. 1793–1893. Мн., 1893. С.56.

[4] Там жа. С.26.

[5] *Лютый А.М.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX века. Мн., 1987. С.56.

[6] *Зайончковский П.А.* Правительственный аппарат самодержавной России в XIX в. М., 1987. С.27.

[7] *Анішчанка А.К.* Прававы статус беларускіх земляў у палітыцы адміністрацыі Кацярыны II // Весці Акадэміі навук Беларусі. Сер. гуманітар. навук. № 2. 1994. С.64, 65.

новай у ВКЛ быў Галоўны Літоўскі трыбунал, які знаходзіўся ў Вільні. З далучэннем да Расіі Вільні трыбунал быў скасаваны. Аднак ад часоў ВКЛ заставалася яшчэ шмат незакончаных спраў. Таму ў канцы 1796 г. для таго, каб іх завяршыць, быў створаны Грамадзянскі дэпартамент старых літоўскіх спраў[1]. У лютым 1797 г. быў заснаваны Галоўны літоўскі суд, які распаўсюджваў сваю дзейнасць на Літоўскую губерню. Ён ажыццяўляў кантроль за дзейнасцю грамадзянскага і крымінальнага судаводства ніжэйшых судоў і таксама з'яўляўся апеляцыйнай інстанцыяй для магістратаў і ратуш. Пасля губернскай рэформы 1801 г. галоўныя суды былі адкрыты ў кожнай губерні ў складзе крымінальнага і грамадзянскага дэпартаментаў.

Паводле "Устанаўлення..." 1775 г. на новадалучаных землях уводзіліся павятовыя суды са шляхецкай апекай, у губернях – верхнія земскія суды для шляхты; ніжэйшыя і верхнія расправы для вольных сялян; гарадавыя і губернскія магістраты. Акрамя таго, у губернскіх гарадах былі крымінальная і грамадзянская палата і губернскі пракурор, які кантраляваў іх дзейнасць[2]. Расійскі ўрад адмяніў на тэрыторыі смяротнае пакаранне і не дазваляў судам разглядаць справы тых асоб, якія не мелі ў паветах нерухомай маёмасці.

Замест земскіх судоў спачатку ва Усходняй Беларусі, а потым у іншых губернях былі створаны губернскія і правінцыяльныя земскія суды, якія з 1773 г. пачалі называць павятовымі. У далейшым ім былі перададзены і функцыі гродскіх судоў (пасля іх скасавання). Падкаморскія суды, скасаваныя ў 1772 г. ва Усходняй Беларусі, а на астатніх тэрыторыях у 1795 г., былі адноўлены Паўлам І у 1797 г. і праіснавалі да 1832 г.

Даўжэй за ўсё ў беларуска-літоўскіх губернях са старой судовай сістэмы пратрымаліся гродскія (у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях да 1795 г., у Віленскай і Гродзенскай да 1831 г.), кампрамісныя і эксдывізорска-таксатарскія суды (да 1840 г.).

Спалучэнне бюракратычнага і саслоўнага элементаў у мясцовым кіраванні найбольш яскрава выявілася ў судовай сістэме. Урад прызначаў на пасады ў губернскіх і павятовых судовых установах толькі саветнікаў і канцылярскіх чыноўнікаў. Усе астатнія пасады замяшчаліся па выбару дваранства. Аднак пры гэтым урад пільна сачыў, каб на пасады суддзяў, спраўнікаў, засядацеляў выбіраліся асобы, верныя расійскай уладзе.

У канцы XVIII – першай трэці XIX ст. у беларуска-літоўскіх губернях сістэма судаводства захавала пэўныя адрозненні ад расійскай. У грамадзянскім судаводстве дзейнічалі нормы Статута ВКЛ, сеймавых канстытуцый, а справаводства вялося на польскай мове. Крымінальнае ж судаводства ажыццяўлялася згодна з агульнаімперскімі законамі і на рускай мове. І гэта нягледзячы на заяўленне расійскіх улад, што "суд і расправа ўнутраных тых правінцый, у асабістых справах, могуць правадзіцца па іх законах і звычках, і іх мовай, ва ўсіх тых выпадках, якія не датычацца ўлады нашай "[3].

**Адносіны да шляхты**. У Рэчы Паспалітай шляхта была самым прывілеяваным саслоўем. Яна перыядычна збіралася на сеймікі, на якіх выпрацоўвала і адстойвала свае мясцовыя інтарэсы перад цэнтральнымі ўладамі, выбірала і зацвярджала кандыдатаў на адміністрацыйныя пасады, вызначала памеры добраахвотнага абкладання. Праз сваіх прадстаўнікоў

---

[1] Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792 – 1796). Вильно, 1903. С.XXXVI, CXXXVII.

[2] ПСЗРИ. Т.XIX. С.239, 240, 243, 246.

[3] Там жа. С.509.

удзельнічала ў выбранні караля на вальным сейме і магла яму не падпарадкоўвацца, нават да ўзброеных выступленняў (канфедэрацый).

З пераходам да Расійскай імперыі шляхта страціла свае палітычныя правы, але ўсё ж заставалася прывілеяваным саслоўем. Перш за ўсё яна, пад пагрозай пазбаўлення нерухомай маёмасці, як і іншыя станы насельніцтва, павінна была прынесці прысягу на вернасць расійскай імператрыцы. Прысяга прыносілася калектыўна ў публічных месцах. У 1778–1785 гг. пры паступленні на расійскую службу шляхціц павінен быў даваць пісьмовае абавязацельства аб няўхільным паслушэнстве расійскім уладам[1].

Звычайнай практыкай у імперыі з'ўлялася і тое, што вышэйшае саслоўе новых зямель павінна было пацвярджаць свае правы на прывілеі і таму пачынаючы з 1772 г. шляхце належала прадставіць у губернскія гарады дакументы аб сваім паходжанні. Даволі проста гэта было зрабіць для магнатаў і буйной шляхты, бо яны мелі свае прыватныя архівы, і вельмі цяжка для прадстаўнікоў дробнай шляхты, якая ў канцы XVIII ст. складала каля 95 % ад агульнай колькасці саслоўя[2]. Значная яе частка не мела не толькі неабходных дакументаў, але і грошай для іх пошукаў у дзяржаўных архівах. Тым больш што пасля падзелаў Рэчы Паспалітай частка дакументаў засталася на тэрыторыях, якія адышлі да Прусіі або Аўстрыйскай імперыі.

З 1772 г. шляхта, якая мела дакументы, пацвярджала сваё паходжанне ў земскіх судах, а з 1785 г. – у губернскіх вывадовых камісіях. Асобы, якія пацвердзілі сваё паходжанне, уносіліся ў дваранскія радавыя кнігі. Напрыклад, у 1775 г. 463 чалавекі з Полаччыны пацвердзілі сваё шляхецтва і па рашэнню беларускага генерал-губернатара З.Чарнышова былі выключаны са спісу асоб, якія плацілі падаткі. Больш цяжкай гэта справа аказалася для дубровенскай шляхты, хоць яна і мела неабходныя дакументы, датаваныя 1508 і 1650 гг., аднак з прычыны змен уладальнікаў Дубровенскага графства справа зацягнулася амаль на 20 гадоў. Паводле ўрадавых звестак 1795 г., 1096 асоб мужчынскага полу з беларускіх губерняў чакалі пацвярджэння Герольдыі і выключэння іх з падатковай рэвізіі[3].

Царскі ўрад, абвясціўшы дваранства "першынствуючым" расійскім саслоўем, юрыдычна замацаваў яго пануючыя пазіцыі ў сістэме абсалютысцкай дзяржавы. Сацыяльны, юрыдычны і палітычны статус дваранскага саслоўя Расійскай імперыі ўпершыню ў найбольш поўным выглядзе быў зафіксаваны Кацярынай II у "Даравальнай грамаце дваранству" (1785). Усе пазнейшыя заканадаўчыя акты па гэтым пытанні ўносілі толькі некаторыя папраўкі і дапаўненні, у залежнасці ад патрабаванняў часу. Асновай палітычнай і эканамічнай магутнасці дваранства з'ўлялася валоданне не толькі зямлёй, але і прыгоннымі, на што не мелі правоў іншыя саслоўі. Дваранства было вызвалена ад усялякіх падаткаў, цялесных пакаранняў, магло быць асуджана толькі роўнымі сабе. Пры Кацярыне II амаль усе саслоўі атрымалі свае ўстановы. Аднак калі дзейнасць гарадскіх устаноў абмяжоўвалася горадам, а сельскіх – воласцю, то дваранскіх – паветамі і губернямі.

---

[1] *Анішчанка Я.К.* Прававы статус беларускіх земляў у палітыцы адміністрацыі Кацярыны II // Весці Акадэміі навук Беларусі. Сер. гуманітар. навук. 1994. № 2. С.68.

[2] *Тумилович Т.Н.* Дворянство Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в.: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1995. С.5.

[3] *Rychlikowa I.* Carat wobiec polskiej szlachty na ziemiach zabranych w latach 1772–1831 // Kwartalnik historyczny. T. XCVIII. № 3.1991. S.64, 66, 69, 70.

Ва ўсіх новаўтвораных губернях і паветах дваранству было дазволена кожныя тры-чатыры гады збіраць сходы (сеймікі)[1]. У іх функцыі ўваходзіла выбранне губернскіх і павятовых прадвадзіцеляў дваранства (маршалкаў), а таксама прадстаўнікоў у саслоўныя суды і ўстановы, раскладка земскіх павіннасцей, вырашэнне гаспадарчых і грамадскіх спраў мясцовага жыцця.

Па прадстаўленню генерал-губернатара З.Чарнышова Сенат дапусціў у 1773 г. да выбараў у дваранскія сходы асоб, якія валодалі не менш чым 10 рэвізскімі душамі. Права голасу і выбрання на пасаду атрымалі ўладальнікі 20 і больш сялян. З цягам часу парадак выбараў мяняўся. У 1805 г. права голасу атрымалі дваране, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту, валодалі ў губернях нерухомымі маёнткамі не менш за восем дамоў і атрымлівалі 150 руб. даходу ў год. З 1817 г. у Гродзенскай губерні тэрмінам на тры гады дазволілі ўдзельнічаць у выбарах дваранам, якія страцілі свае дакументы ў час вайны 1812 г. і не былі да гэтага часу запісаны ў дваранскія кнігі[2].

Галоўную ролю сярод абраных асоб адыгрывалі дваранскія маршалкі. На пасадах іх зацвярджаў імператар з ліку двух выбраных кандыдатаў. Асноўным іх абавязкам было загадванне справамі дваранскай карпарацыі. Пасады маршалкаў не аплачваліся, таму на іх звычайна выбіралі заможных памешчыкаў. У Гродзенскай губерні і паветах, напрыклад, маршалкамі ў розны час былі князь К.Друцкі-Любецкі, граф К.Грабоўскі, князь К.Святаполк-Чацвярцінскі, граф В.Пуслоўскі і інш[3].

Для прадстаўнікоў жа дробнай шляхты выбранне ў нізавыя выканаўчыя органы, суды і паліцыю з'яўлялася магчымасцю паправіць сваё матэрыяльнае становішча, таму яны імкнуліся заняць там адпаведныя пасады. Так, па выбарах 1785 г. у Полацкім, Віцебскім, Дрысенскім, Суражскім і Гарадоцкім паветах з 20 засядацеляў павятовых і ніжніх земскіх судоў 11 чалавек мелі ў сярэднім да 30 душ прыгонных[4].

Асобна паўстала пытанне аб правах татарскай шляхты. З прычыны не зусім акрэсленага становішча татараў у Рэчы Паспалітай мясцовае дваранства не жадала дапускаць іх да выбараў. Але ўсё ж літоўскі ваенны губернатар Л.Бенігсен палічыў, што татары, "если они суть дворяне и владеют собственными имениями", павінны прыняць удзел у выбарах[5].

У выніку рэвізіі 1811 г. выявілася, што да шляхецкага саслоўя прыпісалася каля 200 тыс. чалавек, сярод якіх былі мяшчане, дваравыя, невядомых саслоўяў людзі з беларуска-літоўскіх губерняў. Ім удалося прыпісацца да дваранства толькі таму, што яны былі каталікамі і уніятамі і размаўлялі па-польску. З іншага боку, у гэтых жа губернях заставаліся людзі, якія пацвердзілі дваранскае паходжанне, але працягвалі плаціць падаткі ў казну. Таму пры правядзенні новай рэвізіі, згодна з указам Сената ад 20 студзеня 1816 г., павінны былі пакідаць у дваранстве толькі тых, хто быў запісаны да саслоўя ў 1795 г., а астатнім неабходна было пацвярджаць сваё паходжанне дакументамі.

---

[1] Instrukcja o sejmikach i urzędowaniu z wyborów. Wilno, 1839.

[2] *Никотин И.А.* Столетний период (1772–1872) русского законодательства в воссоединенных от Польши губерниях и законодательство о евреях (1649 – 1876). Т.2. С.354–356.

[3] Ateneum Wilienski. Wilno, 1924. Cz. II. S.424–428.

[4] *Анішчанка Я.* Дваранскія выбары ў Полацкім намесніцтве 1789 г. // Весці Акадэміі навук Беларусі. Серыя грамад. навук. № 3–4. 1992. С.55.

[5] *Байрашаускайте Т.* Литовские татары в дворянских собраниях XIX в. // Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі. Мн., 1996. С.135.

Новы ўказ ад 23 жніўня 1817 г. зноў нагадаў губернскім уладам пра неабходнасць хутчэйшага разбору чыншавай шляхты. Дробная шляхта, асабліва чыншавая, якая магла мець зямлю, але без прыгонных, або знаходзіцца на службовых і чыншавых землях, трапляла ў спісы падатковага насельніцтва і павінна была плаціць падаткі. Губернскае кіраўніцтва імкнулася паскорыць выкананне гэтага ўказа. Аднак у 1823 г. віцебскі, магілёўскі і смаленскі генерал-губернатар князь М.Хаванскі вымушаны быў адзначыць, што губернскія і павятовыя маршалкі дакладна не ведаюць колькасці шляхты. На яго думку, на працягу 1816–1819 гг. у некаторых паветах праверку праходзіла толькі чыншавая шляхта, частка астатніх спрабавала зрабіць гэта, але не закончыла, а іншыя наогул не прадстаўлялі дакументаў[1].

Такім чынам, у канцы XVIII – першай чвэрці XIX ст. царскі ўрад імкнуўся уніфікаваць беларускія землі на ўзор расійскіх – як па адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле, так і ў губернска-павятовым кіраванні, і ў адносінах да вышэйшага саслоўя – шляхты. Гэта ўдалося зрабіць часткова і толькі ў адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле, які стаў такім жа, як і ва ўсёй імперыі. Недахоп расійскіх чыноўнікаў, якіх улады вымушаны былі замяняць мясцовымі, прыводзіў да таго, што гэтыя чыноўнікі, як і іншыя прадстаўнікі шляхецкага саслоўя беларуска-літоўскіх губерняў, не імкнуліся выконваць загады расійскіх улад, удзельнічалі ў гэты час у розных тайных таварыствах, былі на баку Напалеона ў час вайны 1812 г.

## 2. Насельніцтва

Пасля ўключэння беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі падворная (падымная) сістэма падаткаабкладання, што існавала ў Рэчы Паспалітай, была заменена на падушную. Яна дзейнічала ў імперыі з 1722 г. і ахоплівала асоб мужчынскага полу падатных саслоўяў. З мэтай уліку падатнага насельніцтва ў Беларусі былі распаўсюджаны перапісы (рэвізіі), якія фактычна насілі фіскальны характар. З 1719 па 1858 г. у Расіі было праведзена 10 рэвізій. Беларусь ахапілі шэсць апошніх: 5-я (1796), 6-я (1811), 7-я (1815), 8-я (1833), 9-я (1851), 10-я (1858).

Рэвізіі ўлічвалі не ўсе катэгорыі жыхароў. У імянныя спісы (рэвізскія казкі) заносіліся толькі тыя саслоўі і групы насельніцтва, якія павінны былі плаціць падаткі, – сяляне, мяшчане, купцы і інш. Збор статыстычнай інфармацыі аб прывілеяваных саслоўях і групах (дваранах, духавенству, дзяржаўных служачых) ажыццяўляўся нерэвізскім шляхам – праз губернскія канцылярыі, духоўныя ўстановы, ваеннае ведамства і звычайна прымяркоўваўся да тэрміну правядзення рэвізій.

Нягледзячы на шэраг недахопаў (утойванне памешчыкамі часткі рэвізскіх душ, ухіленні ад рэвізіі сярод мяшчан, пропускі ў імянных спісах з-за няўважлівасці перапісчыкаў і г.д.), рэвізіі канца XVIII – першай паловы XIX ст. з'яўляюцца адзінай найбольш поўнай дэмаграфічнай крыніцай. Дадатковымі крыніцамі служаць матэрыялы царкоўнага (метрычныя кнігі і спісы прыхаджан, або кліравыя ведамасці) і адміністрацыйна-паліцэйскага ўліку насельніцтва, (апошні, аднак, да канца 50-х гг. XIX ст. ахопліваў толькі гарадскіх жыхароў).

---

[1] *Rychlikowa I.* Carat wobiec polskiej szlachty na ziemiach zabranych w latach. 1772–1831. S. 77, 78.

**Дынаміка колькасці насельніцтва.** На момант заканчэння 5-й рэвізіі на тэрыторыі Беларусі (прыкладна ў сучасных яе межах) пражывала 2636 тыс. чалавек. Дынаміка колькасці насельніцтва краю на працягу першай паловы XIX ст. паказана ў табл. 1.

*Табліца 1.* **Дынаміка колькасці насельніцтва Беларусі***

| Год | Усё насельніцтва, тыс. | Сельскае | | Гарадское | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | колькасць | % | колькасць | % |
| 1796 | 2636,0 | 2543,5 | 96,5 | 92,5 | 3,5 |
| 1811 | 2981,0 | 2859,0 | 95,9 | 122,0 | 4,1 |
| 1815 | 2909,0 | 2814,0 | 96,7 | 95,0 | 3,3 |
| 1833 | 2826,0 | 2674,3 | 94,6 | 151,7 | 5,4 |
| 1851 | 3479,0 | 3235,4 | 93,0 | 243,6 | 7,0 |
| 1858 | 3398,0 | 3113,0 | 91,6 | 285,0 | 8,4 |

* *Лютый А.М.* Социально-экономическое развитие Белоруссии во второй половине XVIII – первой половине XIX в. (К проблеме генезиса капитализма): Дис. ... д-ра ист. наук. Мн., 1990. С. 272; Переписи населения России. Итоговые материалы подворных переписей и ревизий населения России (1648–1858). М., 1972. Вып. IV–XII.

Як вынікае з табл. 1, за 60 гадоў насельніцтва Беларусі павялічылася нязначна; з 2636 тыс. да 3398 тыс. чалавек, або на 28,9 %. Павелічэнне колькасці жыхароў краю адбывалася цалкам за кошт натуральнага прыросту. Міграцыі з іншых рэгіёнаў імперыі перакрываліся большай колькасцю выбыўшых. Лік апошніх заўсёды пераважаў. Так з 1815 па 1842 г. з пяці заходніх губерняў выехала 7770, а прыехала 3470 рэвізскіх душ[1].

Франка-расійская вайна 1812 г. вызвала ў Беларусі зацяжны дэмаграфічны крызіс У 1815 г. у параўнанні з перадваенным годам агульная колькасць насельніцтва паменшылася на 72 тыс. чалавек, у тым ліку сельскага – на 45 тыс., гарадскога – на 27 тыс. Стагнацыя народнай гаспадаркі, якая доўга не магла аправіцца ад наступстваў вайны, працягвалася і ў 20-я гг. XIX ст., асабліва ва ўсходняй частцы краю. Усяго з 1815 па 1833 г. насельніцтва скарацілася на 83 тыс. чалавек (2,8 %), у тым ліку сельскае – на 5 %.

Пасля адноснай стабілізацыі эканомікі ў 30–40-я гг. XIX ст. адбываецца і рост насельніцтва. З 1833 па 1851 г. яно вырасла на 23,1 %, у тым ліку сельскае – на 21, гарадское – на 60,6 %. 50-я гг. характарызаваліся новай хваляй скарачэння як сельскага, так і ўсяго насельніцтва.

Даныя табл. 1 таксама сведчаць, што тэмпы росту гарадскога і сельскага насельніцтва кардынальна адрозніваліся. Калі з 1796 па 1858 г. сельскае насельніцтва павялічылася ўсяго на 22,4 %, то гарадское – у 3,1 раза (з 92,5 да 285 тыс.). Рост колькасці жыхароў вёскі забяспечваўся выключна іх натуральным прыростам. Унутраная міграцыя з гарадоў у сельскую мясцовасць фактычна адсутнічала.

У адрозненне ад сельскага колькасць гарадскога насельніцтва павялічвалася пераважна за кошт міграцый туды розных саслоўных катэгорый мясцовага сельскага жыхарства: вольных людзей, панцырных баяр, аднадворцаў, шляхты, дзяржаўных сялян. Усе яны ў адпаведнасці з шэрагам указаў урада маглі запісвацца ў купцы і мяшчане.

[1] РДГА, ф.571, воп.9, спр.18, арк.199–203; спр.24, арк. 305–309.

Важнай крыніцай папаўнення гарадскіх саслоўных груп было яўрэйскае насельніцтва. У канцы XVIII ст. яго ўдзельная вага ў гарадах не перавышала 30–35 %[1]. На падставе шэрагу ўказаў яўрэі высяляліся з сельскай мясцовасці. Так, указ Сената ад 19 кастрычніка 1807 г. устанавіў трохгадовы тэрмін высялення, але працэс зацягнуўся на гады. Сенацкі ўказ ад 11 красавіка 1822 г. забараняў яўрэям пражываць у вёсках з 1825 г. Толькі к пачатку 40-х гг. яўрэйскае насельніцтва Беларусі ў асноўным было гвалтоўна перасялена ў гарады і мястэчкі, чым тлумачыцца значны рост колькасці гараджан паміж1833 і 1842 гг.

На рост ліку гараджан паўплывала таксама значнае павелічэнне адміністрацыйнага апарату. З канца XVIII ст. да пачатку 60-х гг. XIX ст. колькасць чыноўнікаў павялічылася ў 7 разоў (з 1,9 да 13,5 тыс.), а іх удзельная вага сярод гараджан – з 1,5 да 5,2 %. За адзначаны перыяд з 2,8 да 8,4 % павялічылася ў гарадах і ўдзельная вага вайскоўцаў, а іх колькасць вырасла у 7,8 раза (з 2,8 да 21,8 тыс.).

Сярод 42 беларускіх гарадоў у канцы XVIII ст. да буйных (звыш 10 тыс. жыхароў) адносіўся толькі Віцебск, асноўная ж маса гараджан пражывала ў дробных гарадах з насельніцтвам да 2 тыс. чалавек. У канцы 50-х гг. XIX ст. буйных гарадоў налічвалася ўжо 9, дзе пражывала 45,3 % гараджан. Вырасла колькасць сярэдніх гарадоў з насельніцтвам звыш 5 тыс. чалавек (19,5 % гараджан).

У цэлым для дэмаграфічнай сітуацыі першай паловы XIX ст. характэрным было зніжэнне ўдзельнай вагі сельскіх жыхароў (з 96,5 да 91,6 %), павелічэнне долі гараджан (з 3,5 да 8,4 %) і апераджальныя тэмпы росту апошніх, што сведчыла аб хуткіх урбанізацыйных працэсах у Беларусі. У параўнанні з сярэднімі паказчыкамі па Еўрапейскай Расіі, дзе колькасць гарадскога насельніцтва з 1825 па 1858 г. вырасла на 62 %, беларускія гарады павялічылі колькасць свайго насельніцтва на 90 %[2]. У пэўнай ступені такі рост быў абумоўлены нізкімі зыходнымі данымі колькасці жыхароў беларускіх гарадоў у канцы XVIII ст.

**Саслоўная структура**. Расійскае феадальнае грамадства афіцыйна падзялялася на чатыры саслоўі: дваране, духавенства, гарадскія і сельскія абывацелі, аднак фактычна яно мела больш складаную структуру. Унутры кожнага саслоўя былі асобныя групы, якія адрозніваліся прававым становішчам і адносінамі да маёмасці. Акрамя таго, мелася мноства нешматлікіх асобных саслоўных груп і катэгорый насельніцтва.

Найбольш шматлікім саслоем было сялянства. Па юрыдычнаму стану ў Беларусі вылучаліся тры вялікія групы сялян – прыватнаўласніцкія, дзяржаўныя (казённыя) і вольныя. Абсалютную большасць складалі прыватнаўласніцкія. Да іх адносіліся памешчыцкія (панскія), царкоўныя і тыя, што належалі асобным мяшчанам і розным ведамствам (гарадам, дабрачынным арганізацыям, Вольнаму эканамічнаму таварыству і г.д.). У канцы XVIII ст., паводле даных 5-й рэвізіі, прыватным уладальнікам належала 94,5 % усяго сялянства, з іх абсалютная большасць (87,0 %) знаходзілася пад уладай памешчыкаў (табл. 2).

---

[1] *Анішчанка Я.К.* Яўрэі ўсходняй Беларусі ў канцы XVIII ст. паводле ўрадавага ўліку // Весці Акадэміі навук Беларусі. Сер. гуманітар. навук. 1993. №4. С.66–67.

[2] *Лютый А.М.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX века. С.37–38, 43, 52, 60.

*Табліца 2.* **Колькасць і ўдзельная вага асноўных катэгорый сялян Беларусі, тыс.***

| Разрады сялян | 5-я рэвізія (1796–1808) | | 7-я рэвізія (1815–1825) | | 8-я рэвізія (1833–1851) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | колькасць | % | колькасць | % | колькасць | % |
| Памешчыцкія | 1950 | 87,0 | 1683 | 80,9 | 1989 | 75,7 |
| Дзяржаўныя | 167,0 | 7,5 | 244,8 | 11,8 | 542,0 | 20,6 |
| Царкоўныя і манастырскія | 77,3 | 3,5 | 112,6 | 5,4 | 10,2 | 0,4 |
| Вольныя | 45,9 | 2,0 | 18,3 | 0,9 | 64,2 | 2,5 |
| Іншыя | – | – | 20,4 | 1,0 | 21,7 | 0,8 |
| Усяго | 2240,2 | 100 | 2079,1 | 100 | 2627,1 | 100 |

* Гісторыя сялянства Беларусі: У 3 т. Мн., 1997. Т.1. С.276; *Сосна У.А.* Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. Мн., 2000. С.31. Для атрымання агульнай колькасці кожнай катэгорыі сялян прыведзеныя А.Г. Каралёвай і У.А. Сосна даныя па рэвізскіх (мужчынскіх) душах падвоены і акруглены да тысяч.

Гэта быў час масавай раздачы царызмам дзяржаўных зямель Беларусі расійскім вяльможам, чыноўнікам і ваенным чынам. Палітыка Кацярыны II і Паўла I была накіравана на пашырэнне памешчыцкага землеўладання. Усяго з 1772 па 1801 г. у прыватнае ўладанне было падаравана 208 720 рэвізскіх душ, з іх 140 тыс. – ва Усходняй Беларусі[1]. Пры Аляксандры I палітыка масавых раздач казённых зямель, населеных сялянамі, у прыватнае спадчыннае ўладанне была прыпынена, хаця асобныя факты мелі месца на працягу ўсяго дарэформеннага часу.

На працягу першай паловы XIX ст. удзельная вага панскіх сялян няўхільна зніжалася: з 87,0 % у 1796 г. да 75,7 % у 1851 г. (на 11,3 %). Дынаміка іх абсалютнай колькасці мела хвалепадобны характар. Два значныя спады адбыліся ў першай чвэрці і ў 50-я гг. XIX ст. За апошняе дзесяцігоддзе існавання прыгону колькасць памешчыцкіх сялян зменшылася на 6,0 % – з 1989,5 тыс. у 1851 г. да 1869,7 тыс. чалавек у 1858 г.[2] Зніжэнне абсалютнай колькасці і ўдзельнай вагі прыгоннай часткі насельніцтва было выклікана значнымі рэкруцкімі наборамі, міжсаслоўнымі пераходамі, канфіскацыямі памешчыцкіх маёнткаў, нізкім натуральным прыростам. Апошні фактар быў непасрэдна звязаны з панскім усеўладдзем у сваіх маёнтках якія, непамерна павышаючы колькасць павіннасцей, даводзілі сваіх сялян да галечы. У такіх неспрыяльных сацыяльна-эканамічных умовах, калі смяротнасць часта перавышала ўзровень нараджальнасці, узнаўленне насельніцтва прыгоннай беларускай вёскі ішло вельмі марудна. Дэмаграфічныя працэсы ў асяроддзі гэтай самай шматлікай часткі грамадства вызначалі тэндэнцыі развіцця і ўсяго насельніцтва.

Значная частка зямель у Беларусі, населеных сялянамі, належала царкве, перш за ўсё каталіцкай. У пачатку 90-х гг. XVIII ст. у ВКЛ каталіцкаму і

[1] *Чепко В.В.* Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. С.23–24.

[2] Падлічана па: *Тройницкий А.* Крепостное население России по X народной переписи. С.28–29, 30, 32.

уніяцкаму духавенству належала каля 10 % сялян[1]. Паводле даных 7-й рэвізіі, колькасць царкоўных сялян склала 112,6 тыс. чалавек, або 5,4 % сялянскага саслоўя[2]. Пасля ліквідацыі ў 30-я гг. шэрагу каталіцкіх манастыроў і перадачы духоўных уладанняў у арэнду памешчыкам, а таксама секулярызацыі царкоўных уладанняў у 40-я гг. колькасць духоўных сялян рэзка скарацілася: у сярэдзіне XIX ст. – да 10,2 тыс. (0,4 %). Паводле даных 10-й рэвізіі, у 1858 г. налічвалася толькі 3987 рэвізскіх душ, падуладных цэрквам і манастырам.

Пасля памешчыцкіх другое па колькасці месца займалі дзяржаўныя сяляне. Яны належалі казне, плацілі аброк, былі асабіста вольнымі, мелі права мяняць сваю саслоўную прыналежнасць і месца жыхарства. Склад гэтай групы сельскага насельніцтва быў вельмі стракатым і неаднародным. Усяго налічвалася больш за два дзесяткі найменняў сялян, падуладных казне. Найбольш шматлікімі былі староцінскія, паезуіцкія, паманастырскія, вольныя хлебаробы, канфіскаваныя і інш. Указ Сената ад 15 мая 1840 г. скасаваў разнародныя найменні сялян, якія належалі Міністэрству дзяржаўных маёмасцей, і надаў ім агульную назву – дзяржаўныя сяляне[3].

У 1796 г. у Беларусі налічвалася прыкладна 167 тыс. дзяржаўных сялян, што складала 7,5 % ад усіх сялян (гл. табл.2). На працягу першай паловы XIX ст. іх колькасць і ўдзельная вага няўхільна павялічваліся, асабліва ў 30–40-я гг., калі адбылося падваенне абодвух паказчыкаў. Да пачатку 50-х гг. XIX ст. дзяржаўныя сяляне ўжо складалі 20,6 % сялянскага саслоўя, а іх колькасць павялічылася ў 3,2 раза і склала 542 тыс. чалавек. Гэта стала вынікам урадавай палітыкі ў 40–50-я гг., накіраванай на папаўненне дзяржаўнай вёскі шляхам пераводаў у казну канфіскаваных па розных прычынах ці шляхам куплі панскіх маёнткаў і секулярызацыі царкоўных уладанняў, далучэння да дзяржаўных сялян аднадворцаў, якія жылі на казённых землях, а таксама вольных людзей[4].

Вольныя людзі засталіся з часоў Рэчы Паспалітай, дзе яны складалі 10 % насельніцтва. Гэта былі незапрыгоненыя сяляне, якія не належалі ні памешчыкам, ні царкве, ні дзяржаве, ні іншым уласнікам і мелі права свабоднага перамяшчэння. Па сацыяльнаму і нацыянальнаму саставу вольныя людзі складалі самую неаднародную катэгорыю сельскіх жыхароў. Да іх адносіліся зямяне, баяры, частка слуг панцырных, збеглыя з Расіі стараабрадцы, ахрышчаныя яўрэі, іншаземцы, татары, шляхціцы, якія пражывалі на ўласніцкай зямлі, адпушчаныя на волю сяляне і інш.[5]

Царскі ўрад спачатку вырашыў пакінуць за імі ўсе правы. Указам ад 13 кастрычніка 1783 г. вольным людзям дазвалялася па іх жаданні выбіраць месца жыхарства і род заняткаў, запісвацца ў купцы і мяшчане, паступаць на дзяржаўную службу. Згодна з новымі правіламі, устаноўленымі царскім урадам ад 14 жніўня 1840 г., вольныя людзі, якія пастаянна жылі ў гарадах, прыпісваліся да гарадской грамады, а паселеныя на казённых землях – да дзяржаўных сялян зураўнаваннем у правах і ўплатай тых жа падаткаў, што і

---

[1] *Bardach J., Lesnodorski B., Pietrzak M.* Historia panstwa i prawa polskiego. Warszawa, 1985. S.264.

[2] *Сосна У.А.* Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. С.31.

[3] ПСЗ. Собр. 2-е. Т.15. №13471.

[4] *Улащик М.М.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. М., 1965. С.57; *Чепко В.В.* Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX в. С.73; *Сосна У.А.* Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. С.20–34, 76, 109–112.

[5] ПСЗ. Собр. 1-е. Т. 21. №15853.

апошнія[1]. Да Міністэрства дзяржаўных маёмасцей, паводле закона ад 23 мая 1847 г., былі аднесены і вольныя, якія мелі ўласныя землі, а для паселеных на панскіх землях уводзіліся абавязковыя дагаворы з уладальнікамі, дзе агаворваўся тэрмін пражывання ў дадзеным маёнтку. Тым самым без дазволу памешчыка нельга было змяніць месца жыхарства.

Колькасць вольных людзей увесь час вагалася. З аднаго боку, яны былі вялікім рэзервам для папаўнення іншых саслоўяў і груп, перш за ўсё казённых сялян і мяшчан. З другога боку, паводле ўказа ад 1 жніўня 1857 г., вольныя людзі папаўнялі свае шэрагі за кошт аднадворцаў, што жылі на памешчыцкай зямлі, якіх, паводле перапісу 1842–1843 гг., у пяці заходніх губернях налічвалася 9321 душа мужчынскага полу, і гэта колькасць увесь час узрастала з-за пераводаў у аднадворцы беззямельнай шляхты[2].

Прывілеяваным саслоўем было дваранства. Яго ўнутраная структура вызначалася значнай дыферэнцыяцыяй. У апошнія гады існавання Рэчы Паспалітай доля шляхты складала каля 10–12 % усяго насельніцтва[3]. У канцы XVIII – пачатку XIX ст. толькі 5–6 % буйных і сярэдніх дваран валодалі зямлёй і прыгоннымі, абсалютная ж большасць саслоўя (95 %) уяўляла сабой дробную беззямельную шляхту[4], якая арандавала зямлю ў буйных землеўладальнікаў і апрацоўвала яе сваімі рукамі. Пэўная частка беззямельнай шляхты наймалася на службу да магнатаў, перабіралася ў гарады.

Паводле няпоўных даных, у 1796 г. колькасць дваранства складала 137,5 тыс. чалавек, або 5,2 % ад усяго насельніцтва Беларусі (табл. 3). Да 1816 г., па меры ўдасканалення ўліку непадатных саслоўяў, колькасць зафіксаваных у гістарычных дакументах дваран дасягнула 196,7 тыс. чалавек пры ўдзельнай вазе 6,7 %.

*Табліца 3.* **Дынаміка і ўдзельная вага дваранства Беларусі***

| Год | Колькасць, тыс. чалавек | % |
|---|---|---|
| 1796 | 137,5 | 5,2 |
| 1816 | 196,7 | 6,7 |
| 1833 | 173,8 | 6,2 |
| 1851 | 186,4 | 6,6 |
| 1858 | 196,7 | 5,8 |

* *Тумілові Г.* Дваранства на Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. // Беларускі гістарычны часопіс. 1997. №4. С.55.

"Разбор шляхты" 30–40-х гг. XIX ст., які заключаўся ў пераводзе пэўнай яе часткі, што дакументальна не магла пацвердзіць свайго дваранскага паходжання, у дзве занава створаныя падатныя саслоўныя групы – аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў, быў прычынай скарачэння дваранства з 1816 па 1833 г. на 22,9 тыс. чалавек. Пераводы шляхты ў іншыя саслоўныя

[1] ПСЗ. Собр. 2-е Т. 15. №13811; Т.XX. №21242.

[2] *Сосна У.А.* Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. С.89–91, 96–97.

[3] *Bardach J., Lesnodorski B., Pietrzak M.* Historia panstwa i prawa polskiego. S.264; *Грыцкевіч А.* Беларуская шляхта // Спадчына. 1993. №1. С.13.

[4] *Тумилович Г.Н.* Дворянство Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в.: Автореф.дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1995. С.16–17.

групы не былі беспаваротнымі. Урад пакінуў ёй магчымасць вярнуцца ў стан дваранства ў выпадку прадстаўлення адпаведных дакументаў і зацвярджэння Герольдыяй.

У сувязі з гэтым колькасць дваранства па гадах значна адрозніваецца, хаця тэндэнцыя да скарачэння яго ўдзельнай вагі і якаснага стану бясспрэчная. Да канца 50-х гг. XIX ст. удзельная вага дваран Беларусі знізілася з 10–12 % да 5–6 %, але пры гэтым павялічыўся працэнт (з 5–6 да 14) сярэдніх і буйных дваран – землеўладальнікаў[1]. У цэлым удзельная вага дваранства краю ў канцы 50-х гг. XIX ст. працягвала заставацца самай высокай у імперыі: у Віленскай губерні – 6,04 %, у Мінскай – 6,03, у Гродзенскай – 4,7, у Магілёўскай – 4,2, у Віцебскай – 3,8, у той жа час у сярэднім па Еўрапейскай Расіі – 1,5 %[2].

Другім прывілеяваным саслоўем было духавенства. У апошнія гады існавання Рэчы Паспалітай яно складала прыкладна 1,0 % насельніцтва. Да скасавання уніі ў Беларусі самым шматлікім было уніяцкае духавенства, другое па колькасці месца займала каталіцкае. У канцы 50-х гг. абсалютную большасць ужо складала праваслаўнае духавенства. У 1858 г. у пяці заходніх губернях пражывала 27 717 духоўных асоб і членаў іх сем'яў, з іх 21 721 – у сельскай мясцовасці і 5996 – у гарадах. Па канфесіях духавенства размяркоўвалася наступным чынам: праваслаўнае – 83,3 %, каталіцкае – 11,0, іудзейскае – 5,0, мусульманскае – 0,4, пратэстанцкае – 0,3 %[3]. За паўстагоддзе ўдзельная вага духавенства ў складзе насельніцтва знізілася да 0,6 %.

Неаднародным па структуры было і саслоўе "гарадскіх абывацеляў". Колькасць мяшчан у канцы XVIII ст. складала 78,9 тыс. чалавек, ці 80 % усіх гараджан. Да 30-х гг. XIX ст. яна амаль падвоілася – 154, 6 тыс., да 82,2 % узрасла іх удзельная вага. У канцы 50-х гг. XIX ст. мяшчан у беларускіх гарадах налічвалася 196,8 тыс., але іх доля знізілася да 75,2 %, што было выклікана павелічэннем удзельнай вагі іншых груп насельніцтва. У шэрагу гарадоў мяшчане перавышалі 90 %, а ў 13 гарадах (з 42) працэнт дадзенага саслоўя вагаўся ад 80 да 90[4].

У канцы XVIII ст. у беларускіх гарадах налічвалася да 5,2 тыс. чалавек, якія займаліся гандлем. У іх ліку – мяшчане, рамеснікі, сяляне. Гільдзейскае купецтва не перавышала 200 чалавек (0,2 %). Да 30-х гг. XIX ст. колькасць купцоў трох гільдый у гарадах вырасла да 3,5 тыс. чалавек (1,9 %), а да канца 50-х гг. – да 5,0 тыс. (2,0 %). Асноўную частку з іх складалі купцы трэцяй гільдыі, першай гільдыі набіралася крыху больш за 150 чалавек (2,4 % ад усіх купцоў). У сувязі з павышэннем у 50-я гг. падаткаў на купецкія працэнтныя зборы і выездам купцоў, якія мелі значны капітал, у буйныя гарады Цэнтральнай Расіі, колькасць купцоў першай гільдыі ў гэты час некалькі паменшылася.

Паводле даных 9-й рэвізіі, у 1851 г. у пяці заходніх губернях налічвалася 6053 гільдзейскія купцы, з іх 209 – першай, 189 – другой і 5655 – трэцяй гільдыі. Большасць трымальнікаў купецкага капіталу (66,2 %) былі яўрэі, у тым ліку першай гільдыі – 87,6, другой – 75,7, трэцяй – 65,1 %[5]. У 1861 г.

---

[1] *Тумилович Г.Н.* Дворянство Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. С.17.

[2] Статистические таблицы Российской империи. Вып. 2. Наличное население империи за 1858 год. С.295–296.

[3] Там жа С.268–269.

[4] *Лютый А.М.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX века. С.61, 62.

[5] *Кеппен П.* Девятая ревизия. Исследования о числе жителей в России в 1851 г. СПб., 1857. С.182–183.

колькасць купцоў у краі, якія аб'явілі свой капітал, павысілася да 6 988 чалавек[1].

**Этнаканфесіянальны склад**. У этнаканфесіянальных адносінах насельніцтва Беларусі было стракатым. На тэрыторыі ВКЛ у апошняй трэці XVIII ст. уніяты складалі прыблізна 39,0 % насельніцтва, католікі – 38,0, праваслаўныя – 6,5, стараверы – 4,0, пратэстанты – 1,6 %[2]. Амаль кожная з пералічаных канфесій уключала прадстаўнікоў розных этнічных груп: беларусаў, палякаў, украінцаў, немцаў, латышоў, рускіх. Што тычыцца іудзеяў і мусульман, то іх цалкам можна атаясамліваць адпаведна з яўрэямі і татарамі.

Пасля далучэння да Расійскай імперыі пануючай канфесіяй у краі стала праваслаўе. У 1858 – 1859 гг. 58,1 % насельніцтва пяці заходніх губерняў вызнавала праваслаўную веру, у тым ліку ў Магілёўскай – 71,9, Віцебскай – 72,8, Мінскай – 71,9, Віленскай – 21,5 %. Католікі складалі 29,9 % і пражывалі пераважна ў Віленскай губерні, іудзеяў было 9,8, старавераў – 1,6, пратэстантаў – 0,4 і магаметан – 0,1 %[3].

Большасць беларусаў у канцы XVIII ст. належала да уніяцкай канфесіі, доля якой сярод вясковага насельніцтва даходзіла да 80 %. Пасля скасавання уніі сітуацыя змянілася. Паводле даных П. Шафарыка, у 1840 г. на тэрыторыі пяці заходніх губерняў пражывала 2726,0 тыс. беларусаў, з іх 87,2 % былі праваслаўнымі і 12,8 % – католікамі[4]. У канцы 50-х гг. XIX ст., паводле няпоўных даных, у пяці заходніх губернях зафіксавана 2790,0 тыс. беларусаў, што складала 69,7 % усяго насельніцтва. З іх 2345,9 тыс. (84,1 %) спавядалі праваслаўную веру і 444,1 тыс. (15,9 %) каталіцкую. Па губернях удзельная вага беларусаў была наступнай: Віленская – 46,9 %, Віцебская – 59,8, Гродзенская – 57,8, Мінская – 64,6, Магілёўская – 81,7 %[5].

Другой па колькасці этнічнай супольнасцю ў Беларусі ў дадзены перыяд былі яўрэі. У пяці заходніх губернях у канцы 50-х гг. іх пражывала 463,2 тыс. чалавек. У гэты ж час палякаў налічвалася 442,3, рускіх – 141,6, татар – 6,2 тыс. чалавек.

**Дэмаграфічны крызіс.** Як вынікае з табл. 1 і 2, у канцы XVIII – першай палове XIX ст. у пэўныя перыяды адбывалася зніжэнне колькасці не толькі сялянскага, але і ўсяго насельніцтва Беларусі. Такая з'ява была характэрна для многіх рэгіёнаў Расійскай імперыі і Еўрапейскай Расіі ў цэлым, але найбольш праявілася ў заходніх губернях.

Большасць дарэвалюцыйных і савецкіх гісторыкаў бачыла прамую залежнасць паміж марудным прыростам, а то і дэпапуляцыяй насельніцтва, з яго нізкім натуральным прыростам у сувязі з высокай удзельнай вагой прыгонных сялян, эксплуатацыя якіх, па меры пераводу памешчыкамі сваіх гаспадарак на капіталістычны лад, ростам паншчыны і аброку, увесь час узмацнялася[6].

---

[1] *Рыжкова С.А.* Численность гильдейского купечества Беларуси во второй половине XVIII – первой половине XIX века // Айчынная і сусветная гісторыя: сучасныя погляды і метады даследаванняў. Мн., 2000. Ч.2. С.122.

[2] Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XXст.). С.5.

[3] Статистические таблицы западно-русского края по исповеданиям. СПб., 1864.

[4] *Safarik P.* Slowanski Narodopis. Praha, 1842. S.26.

[5] Статистические таблицы западно-русского края по исповеданиям.

[6] *Бунге Н.Х.* Изменения сословного состава населения России в промежутках времени между 7 и 8, 8 и 9 ревизиями // Экономический указатель. 1857. №44. С.1022–1030; *Яцунский В.К.* Изменения в размещении населения Европейской России в 1724–1916 гг. // История СССР. 1957. №1. С.206–207, 212; і інш.

Сапраўды з 1838 па 1850 г. у кожнай з чатырох заходніх губерняў натуральны прырост быў самым нізкім у Еўрапейскай Расіі – не перавысіў 1 %, а ў Магілёўскай губерні колькасць насельніцтва нават зменшылася на 1 %. У Беларускім рэгіёне быў і адзін з самых высокіх паказчыкаў памешчыцкіх сялян – 50–70 на 100 чалавек насельніцтва. Такое становішча захавалася і ў 50-я гг. Паводле даных 10-й рэвізіі, у заходніх губернях была найбольшая вага прыгоннага насельніцтва, асабліва ў Мінскай і Магілёўскай губернях, адпаведна 60,7 і 64,7 %[1].

Дэмаграфічная сітуацыя значна пагаршалася ў гады неўраджаяў, голаду і эпідэмій. Таму галоўнай прычынай зацяжных дэмаграфічных спадаў у Беларусі як у насляваенны час, так і ў мірныя 40–50-я гг., трэба лічыць нізкі натуральны прырост прыгоннага насельніцтва, выкліканы наступствамі вайны 1812 г. і масавымі эпідэміямі 30–50-х гг. Так, з 1833 па 1847 г., паводле разлікаў А. Заблоцкага, на 100 памерлых у Беларусі і Літве прыпадала 124 нованароджаных, у той час як у Цэнтральным земляробчым раёне – 133, у Паўночным – 134, у Паўночна-Усходнім – 137, у Левабярэжнай Украіне – 129, у Правабярэжнай Украіне – 136, у Новарасіі – 164, у Ніжнім Паволжы і Прыўраллі – 149[2]. Паводле даных праваслаўных прыходаў, за 1844–1860 гг. сярэднегадавы натуральны прырост склаў: у Беларусі – 0,7 %, у Сярэднім Паволжы – 1,2, у Прыўраллі – 1,5, у Цэнтральным прамысловым раёне – 0,8, у Левабярэжнай Украіне – 1,0, у Правабярэжнай Украіне – 1,0 %[3].

Яшчэ больш яскравыя звесткі даюць царкоўныя матэрыялы па Магілёўскай епархіі з 1804 па 1849 г.: за 46 гадоў на 100 памерлых прыходзілася больш за 190 нованароджаных толькі ў трох выпадках (у 1816, 1824 і 1837 гг.). Сярэдні прырост – ад 150 да 190 – нованароджаных назіраўся за 13 гадоў. Невысокі прырост – да 156 нованароджаных – за 19 гадоў. Акрамя таго, адзначаны 11 гадоў, калі смяротнасць перавышала нараджальнасць: 1807, 1808, 1812, 1813, 1822, 1823, 1831, 1835, 1845, 1846, 1848[4]. Як правіла, усе гэтыя гады адзначаліся як неўраджайныя і галодныя[5].

На прырост насельніцтва адмоўна ўплывалі эпідэмічныя хваробы. Ад адной толькі халеры ў 1831 г. у пяці заходніх губернях памер 39 551 чалавек, а з 1847 па 1859 г. – 76 864 чалавекі[6]. Высокая эпідэмічная смяротнасць у спалучэнні з узрастаючай эксплуатацыяй сялянства, ростам паншчыны і аброку надавалі прыгоннаму сялянству характар застойнай дэмаграфічнай групы, якая вымірала, калі не ў папуляцыйным, то ва ўсякім разе ў сацыяль-

---

[1] *Тройницкий А.* Крепостное население России. С. 49.

[2] *Яцунский В.К.* Изменения в размещении населения Европейской России в 1724–1916 гг. С.205.

[3] *Архангельский Г.И.* Влияние неурожаев на браки, рождаемость и смертность в Европейской России // Сборник сочинений по судебной медицине, судебной психотерапии, медицинской полиции, общественной гигиене, эпидемиологии, медицинской географии и медицинской статистике. СПб., 1872. Т. 1.

[4] *Корсаков С.* Законы народонаселения в России // Материалы для статистики Российской империи. СПб., 1841. Отд. 1. С. 274–277, 301, 311; *Заблоцкий А.П.* Движение народонаселения в России с 1838 по 1847 г. // Сборник статистических сведений о России. СПб., 1851. Кн. 2. С.74–75, 78–79; *Кайпша Е.И.* Движение народонаселения в России с 1848 по 1852 г. // Сборник статистических сведений о России. СПб., 1858, Кн. III. С.442–443, 450–451; *Кабузан В.М.* Изменения в размещении населения России в XVIII– первой половине XIX в. (по материалам ревизий). М., 1971. С. 157.

[5] Падлічана па: *Соловцов И.* Историческое и статистическое обозрение неурожаев в России // Сборник статистических сведений о России. СПб., 1858. Кн.III. С.470–473.

[6] *Архангельский Г.И.* Холерные эпидемии в Европейской России в 50-летний период. 1823–1872. СПб., 1874. С.116, 145, 162, 173, 181, 168, 191, 193, 195, 196.

на-дэмаграфічным сэнсе[1]. Знаходжанне асноўнай масы насельніцтва на мяжы дэпапуляцыі сведчыла аб існаванні татальнага крызісу прыгоннай сістэмы. Адным з вызначальных быў дэмаграфічны крызіс.

**Ахова здароўя**. На далучаных да Расіі беларускіх землях медыцынская справа стала перабудоўвацца на расійскі лад. У губернях былі арганізаваны прыказы грамадзянскай апекі, якія адкрывалі бальніцы, сіроцкія дамы, шпіталі, лазарэты. У Магілёве і Полацку прыказы з'явіліся ў 1781 г., у Віцебску і Мінску – у 1796 г., у Гродне – у 1805 г., у Вільні – у 1808 г. Згодна ўказу ад 19 студзеня 1797 г. ствараліся губернскія ўрачэбныя ўправы, на якіх ускладаліся абавязкі прымаць меры супраць эпідэмічных хвароб, сачыць за якасцю прадуктаў харчавання, праводзіць судова-медыцынскую экспертызу, кантраляваць дзейнасць аптэк і асоб малодшага медперсаналу. Указам ад 30 студзеня 1797 г. у губернскіх гарадах уводзіліся пасады старэйшых і малодшых акушэрак, а ў павятовых гарадах – павятовых акушэрак[2].

Бальніцы адкрываліся спачатку толькі ў губернскіх гарадах. У 1799 г. пачала працаваць мінская бальніца на 25 ложкаў. З 1802 г. у Магілёве дзейнічалі выхаваўчы і спавівальны дамы, з 1804 г. – бальніца ў Віцебску на 12 ложкаў. У 20-х гг. XIX ст. па хадайніцтву ваеннага камандавання для лячэння ваенных чыноў адкрыліся бальніцы ў павятовых гарадах Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў, а пазней – Віленскай і Гродзенскай[3]. Цывільным асобам месца ў іх не знаходзілася: яны пастаянна былі перапоўнены вайскоўцамі. Таму для лячэння цывільнага насельніцтва губернскія праўленні адкрывалі лячэбніцы, аднак з-за недахопу сродкаў былі адкрыты толькі дзве – у Гродне і Оршы[4].

Са стварэннем у 1837 г. Міністэрства дзяржаўных маёмасцей медыцынскія ўстановы сталі з'яўляцца у дзяржаўных маёнтках. Былі сфарміраваны акругі, па дзве-тры на губерню, куды прызначаліся ўрачы і фельчары, будаваліся бальніцы па адной-дзве на губерню. У казённых вёсках уводзіліся пасады валасных фельчараў, пазней яны сталі з'яўляцца і ў панскіх. Указ Сената ад 19 студзеня 1835 г. дазваляў памешчыкам звыш штата за свой кошт трымаць дадатковых лекараў з правам казённай службы. У 30–40-я гг. XIX ст. узнік шэраг бальніц для лячэння сялян: у Слуцкім павеце – у маёнтках Радзівіла і Вітгенштэйна, у Барысаўскім – у маёнтку Храптовіча і інш. У Магілёўскай губерні ў 1844 г. дзейнічалі шэсць бальніц у панскіх і адна ў казённым маёнтку[5].

Разам з бальніцамі ў гарадах адкрываліся аптэкі. Большасць з іх былі прыватнымі, або так званымі вольнымі, і толькі ў губернскіх гарадах функцыяніравалі аптэкі прыказа грамадзянскай апекі. Усяго да 1861 г. у Беларусі працавала 15 казённых і 70 вольных аптэк. Яны меліся ў кожным горадзе і некаторых буйных мястэчках[6].

У цэлым за перадрэформенны час у Беларусі былі зроблены толькі першыя крокі на шляху арганізацыі медыцынскай дапамогі насельніцтву. Не

---

[1] *Перковский А.Л.* Кризис демографического воспроизводства крепостного крестьянства России в первой половине XIX столетия // Брачность, рождаемость, смертность в России и в СССР. М., 1977. С.189.

[2] РДГА, ф.1296, воп.1, кн.19, арк.268–270, 275.

[3] РДГА, ф.1281, воп.11, спр. 20, арк.12, 47; ф.1287, воп.11, спр.1377, арк.6, 9, 17.

[4] *Крючок Г.Р.* Очерки истории медицины Белоруссии. Мн., 1976. С.85.

[5] *Дихтяр С.Р.* Материалы из истории медицинской организации Белоруссии. Очерки по медико-санитарному делу в XIX в. Мн., 1927. С.13; РДГА, ф.1297, воп.244, спр.110, арк.29.

[6] *Крючок Г.Р.* Очерки истории медицины Белоруссии. С.87, 88.

хапала ні лячэбных устаноў, ні медперсаналу. Тыя лекары, якія меліся, былі бездапаможнымі перад масавымі эпідэмічнымі хваробамі (халера, тыф, скарлатына, воспа і інш.), смяротнасць ад якіх даходзіла да 50 %. Плата за лякарствы і знаходжанне ў бальніцах далёка не ўсім жадаючым дазваляла карыстацца медыцынскай дапамогай. Насельніцтва працягвала лячыцца традыцыйнымі народнымі сродкамі. Некаторыя станоўчыя зрухі ў ахове здароўя народных мас адбыліся ў другой палове XIX ст.

Такім чынам, дэмаграфічнае развіццё Беларусі ў першай палове XIX ст. адбывалася ў складаных сацыяльна-эканамічных і палітычных умовах. Заняпад эканомікі, выкліканы франка-расійскай вайной 1812 г., неўраджаі, голад, эпідэміі, высокая смяротнасць, адсутнасць належнай медыцынскай дапамогі, рост феадальных павіннасцей – прычыны, якія абумовілі вельмі марудныя тэмпы росту насельніцтва, а ў асобныя перыяды і яго скарачэнне. Разам з тым адбываўся працэс нівеліроўкі шматлікіх дробных феадальных груп насельніцтва, зліцця іх з асноўнымі саслоўямі (хаця гэты працэс яшчэ не быў канчаткова завершаны). Вектар унутранай міграцыі цалкам быў накіраваны з вёскі ў горад. Эміграцыя фактычна адсутнічала. Крызіс у дэмаграфічнай сферы сведчыў аб татальным крызісе прыгоннай сістэмы.

## 3. Канфесіянальна-нацыянальная палітыка царскага ўрада

**Адносіны царскага ўрада да канфесій**. У канцы XVIII ст. на землях Вялікага княства Літоўскага, якія адышлі да Расійскай імперыі, пражывала каля 39 % уніятаў, 38 – католікаў, 10 – іудзеяў, 6,5 – праваслаўных, 4 – старавераў, астатнія 2,5 % прыходзіліся на пратэстантаў, мусульман і караімаў[1]. На далучаных землях царскі ўрад дазволіў дзейнасць усіх канфесій, але гэта верацярпімасць была адноснай. Замест існуючага тут каталіцтва ён імкнуўся зацвердзіць пануючае ў Расійскай імперыі праваслаўе, хаця на тэрыторыі Віленшчыны і Гродзеншчыны яно практычна адсутнічала, а на Віцебшчыне і Міншчыне было нешматлікім.

Пры гэтым трэба адзначыць, што Кацярына II, Павел I і Аляксандр I, дэкларуючы пануючую ролю праваслаўнай царквы ў імперыі, не звярталі асаблівай увагі на цяжкі матэрыяльны стан і недахопы адукацыі яе духавенства і ва ўнутраных губернях Расіі. Для распаўсюджвання праваслаўя на далучаных землях неабходны былі добра адукаваныя праваслаўныя святары і манахі для місіянерскай дзейнасці, якіх не хапала і ў самой імперыі. Праваслаўнымі вернікамі на гэтых землях былі бедная шляхта, мяшчане і прыгонныя сяляне. У 1781 г. беларускі генерал-губернатар З. Чарнышоў звярнуў увагу Кацярыны II на тое, што ў Беларусі ёсць каля 2 тыс. чалавек праваслаўнай шляхты, але настолькі бедных, што яны не маглі прымаць удзел у дваранскіх выбарах[2]. Прыхаджане не мелі дастатковых сродкаў на ўтрыманне праваслаўных цэркваў і духавенства, якое знаходзілася ў матэрыяльнай залежнасці ад памешчыкаў-католікаў.

Паколькі уніяцкая царква была падпарадкавана духоўнай уладзе Папы Рымскага, то ўрад спачатку не аддзяляў яе ад каталіцтва ("рымскія католікі абодвух абрадаў"). Вернікамі гэтай канфесіі таксама былі прыгонныя сяляне, мяшчане і дробная шляхта. Таму, як і праваслаўе, уніяцтва не з'яўлялася, нягледзячы на колькасную перавагу у верніках, уплывовай канфесіяй у

[1] Alma mater Vilnensis. London, 1951. S.66.

[2] *Rychlikowa J.* Carat wobiec polskiej szlachty na ziemiach zabranych w latach 1772–1831 r. S.61.

краі. Для праваслаўных іерархаў было відавочным, што павялічыць колькасць вернікаў нешматлікай праваслаўнай царквы можна за кошт уніяцкай.

На працягу 70-х гг. XVIII ст. беларускі (магілёўскі) праваслаўны епіскап Георгій Каніскі неаднаразова паведамляў Кацярыне II аб жаданні некаторых уніяцкіх святароў і прыходаў перайсці ў праваслаўе. У 80-я гг. улады дазволілі праваслаўным свяшчэннікам займаць месцы ва уніяцкіх прыходах. Выкарыстаўшы гэты дазвол, епіскап Георгій на працягу 1781 – 1783 гг. паведаміў у Свяцейшы Сінод аб далучэнні да праваслаўя 95 уніяцкіх цэркваў з амаль 413 тыс. прыхаджан і 130 свяшчэннікамі і царкоўнаслужыцелямі. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што ў асноўным далучаліся тыя прыходы, дзе ўладальнікамі сталі рускія (П.Завадоўскі, І.Міхельсон, І.Рымскі-Корсакаў, Р.Пацёмкін і інш.)[1]. Вядома, што праваслаўнаму архірэю прасцей было дамовіцца з памешчыкам-праваслаўным, чым з каталікам.

22 красавіка 1794 г. Кацярына II выдала ўказ аб ліквідацыі ўсялякіх перашкод да вяртання уніятаў у праваслаўную веру. Пры яго выкананні кіраўніцтва намесніцтваў яўна перастаралася. Так, полацкі намеснік М. Лапацін не толькі аддаваў распараджэнні аб наглядзе за выкананнем указа, але збіраў уніяцкіх свяшчэннікаў і імкнуўся іх пераканаць. Акрамя таго, ён прасіў полацкага уніяцкага архіепіскапа І. Лісоўскага, каб той благаславіў сваіх свяшчэннікаў на пераход да праваслаўя, што, вядома, выклікала скаргі з боку апошняга ў Пецярбург. Акрамя таго, пачаліся хваляванні уніяцкага духавенства і вернікаў. Усяго ў 1795 г. у Магілёўскай праваслаўнай епархіі было далучана да праваслаўя 105 уніяцкіх цэркваў з 34 святарамі і каля 120 тыс. прыхаджан. У 1795–1796 гг. у Мінскай епархіі праваслаўнымі сталі 124 уніяцкіх царквы, 39 капліц, 15 свяшчэннікаў і каля 85 тыс. прыхаджан.

Палітыка ўрада была непаслядоўнай. У верасні 1795 г. тым уніяцкім свяшчэннікам, якія засталіся без прыходаў і не пажадалі выехаць за мяжу, была прызначана пажыццёвая пенсія (ад 50 да 100 руб.), што ўспрымалася уніяцкім духавенствам і вернікамі як узнагарода за вернасць уніі[2].

На некаторы час праваслаўнае духавенства пакінула уніяцкую царкву ў спакоі. Аднак у гэты перыяд урад не ставіў перад сабой мэту поўнага скасавання уніяцкай царквы. Хутчэй за ўсё гэта была рэакцыя з яго боку на палітычныя абставіны. Практычная перадача духоўнай улады над уніяцкай царквой у рукі каталіцкага мітрапаліта С.Богуша-Сестранцэвіча прывяла да таго, што уніяцкае духавенства разгарнула агітацыю за вяртанне сваіх былых прыхаджан. Каталіцкі дэпартамент, старшынёй якога быў каталіцкі мітрапаліт, займаўся і духоўнымі справамі уніятаў, пры адсутнасці ў дэпартаменце членаў гэтай канфесіі. 15 сакавіка 1801 г. старшыня гэтага дэпартамента каталіцкі епіскап Беніслаўскі ўнёс прапанову аб дазволе уніятам пераходзіць у каталіцтва. Пачаліся масавыя пераходы з уніяцтва ў каталіцтва. Так, у 1803 г. у Полацкай уніяцкай епархіі перайшло ў каталіцтва каля 100 тыс. (паводле іншых звестак, каля 200 тыс.) уніятаў. У Дзісенскім і Вілейскім паветах Мінскай губерні – каля 20 тыс. і г.д. Акрамя таго, у гэты перыяд (аб чым сведчаць і назвы спраў у архівах) царква называлася не грэка-каталіцкай, а рымска-уніяцкай[3].

---

[1] *Горючко П.С.* Из истории воссоединения униатов в Белоруссии. Киев, 1902. С.24, 25.

[2] Там жа. С.40, 42; *Рункевич С.* История Минской архиепископии (1793–1833 гг.). СПб., 1893.

[3] НГАБ у Мінску, ф.3367, воп.1, спр.2; *Бобровский П.О.* Русская греко-униатская церковь в царствование Александра I. СПб., 1890. С.29, 30; *Киприанович Г.Я.* Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве. Вильно, 1895. С.170; Записки Иосифа митрополита Литовского. СПб., 1883. Т.I. С.55.

У рэскрыпце ад 4 ліпеня 1803 г., забараняючы пераходы ў каталіцтва, Аляксандр I указаў беларускаму ваеннаму губернатару І.Міхельсону, што "калі вера пануючая не дазваляе сабе ніякіх прымусовых сродкаў, то ... вера цярпімая не павінна іх выкарыстоўваць". Нягледзячы на тое што і ў далейшым урад неаднаразова прымаў указы, якія забаранялі каталіцкаму духавенству далучаць уніятаў (5 мая, 4 і 6 ліпеня, 20 і 27 жніўня 1803 г., 26 ліпеня 1806 г., 25 кастрычніка 1807 г.)[1], яны, відаць, не выконваліся.

26 ліпеня 1806 г. былі зацверджаны прапановы каталіцкага мітрапаліта С.Богуша-Сестранцэвіча і полацкага уніяцкага архіепіскапа І.Лісоўскага. Згодна з імі было вырашана уніятаў, якія перайшлі ў каталіцтва, не лічыць у Магілёўскай каталіцкай епархіі, а вярнуць іх пад уніяцкае кіраўніцтва, і "уніятаў не прымаць у рымскі абрад ні пад якім выглядам". 25 кастрычніка 1807 г. зноў былі пацверджаны ўрадам усе ўказы, якія захавалі цэласнасць уніяцкай царквы. 8 жніўня 1810 г. быў выдадзены ўказ аб тэрміне даўнасці для тых, хто пакінуў уніяцтва. Сенат вызначаў яго з 1798 г.[2]

З канца XVIII ст. і уніяцкая царква даволі актыўна ўмешвалася ў справы праваслаўя, што выклікала скаргі з боку апошняга. Указам ад 28 жніўня 1797 г. уніяцкім святчэннікам было забаронена праводзіць агітацыю сярод праваслаўных вернікаў аб пераходзе іх ва уніяцтва. Нягледзячы на гэта, на працягу з 1800 г. да 20-х гг. XIX ст., асабліва ў Мінскай праваслаўнай епархіі, разглядаўся шэраг спраў аб спакушэнні праваслаўных да уніі[3].

Насельніцтва, з'яўляючыся непісьменным і давяраючы свайму духавенству, наўрад ці магло разабрацца ў гэтых пераходах. Праваслаўная і уніяцкая паствы змешваліся, блыталіся інтарэсы духавенства гэтых канфесій і ўзмацнялася ўзаемная варожасць. Органы дзяржаўнай улады на розных узроўнях атрымлівалі скаргі, вялі следствы, якія расцягваліся на доўгія гады.

**Змяненне царкоўнай структуры**. У канцы XVIII – пачатку XIX ст. у Расійскай імперыі працягвалася ўмяшанне свецкай улады ў справы царквы з мэтай пераўтварэння ўсёй царкоўнай структуры ў разнавіднасць дзяржаўнага апарату. Таму і на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў царскі ўрад імкнуўся паставіць пад свой кантроль не толькі каталіцызм і уніяцтва, якія знаходзіліся пад духоўным кіраўніцтвам Папы Рымскага, але таксама пратэстанцкія і нехрысціянскія канфесіі, якія наогул у той час нікому не падпарадкоўваліся. Гэта адбывалася шляхам стварэння сеткі прыходаў, набліжэння межаў епархій да межаў губерняў, падпарадкавання духоўным праўленням і кансісторыям. І калі праваслаўныя і стараверы былі падпарадкаваны Свяцейшаму Сіноду, то ўсе астатнія (у канчатковым выніку) – Дэпартаменту духоўных спраў замежных веравызнанняў Міністэрства ўнутраных спраў.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. на далучанай да Расійскай імперыі тэрыторыі Усходняй Беларусі працягвалі сваю дзейнасць, з дазволу ўрада, Полацкае уніяцкае архіепіскапства і Магілёўская (Беларуская) праваслаўная епархія. Паколькі каталіцкія парафіі гэтай тэрыторыі ўваходзілі ў склад Віленскага каталіцкага епіскапства (цэнтр якога заставаўся за межамі імперыі), то для іх была створана ў 1773 г. Беларуская каталіцкая епархія (з цэнтрам у Магілёве), а ў 1782 г. – Магілёўскае

---

[1]Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Вильна, 1889. Т.XVI. С.15, 16; XCI, XXXI, XXXV, XXXIII.

[2]Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т.XVI. С. CXXVII.

[3]НГАБ у Мінску, ф.136, воп.1, спр.4986, арк.1; ф.3219, воп.1, спр.40, арк.1.

архіепіскапства, у склад якога акрамя касцёлаў і кляштараў Беларускай і Кіеўскай губерняў увайшлі і тыя касцёлы, якія былі ў межах Расійскай імперыі.

З далучэннем у 1793 г. новых тэрыторый была заснавана Мінская праваслаўная епархія, а пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г. – Інфлянцкая і Пінская каталіцкія епархіі. У 1798 г. адбыліся новыя тэрытарыяльныя змены каталіцкіх епархій: Магілёўскае архіепіскапства працягвала існаванне, а на тэрыторыі Міншчыны, Віленшчыны і Гродзеншчыны былі створаны новыя Мінская і Віленская епархіі.

Для уніятаў Мінскай і Літоўскай губерняў у 1798 г. было створана Брэсцкае уніяцкае епіскапства. У 1810 г. тэрытарыяльная структура уніяцкай царквы набыла наступны выгляд: мітрапаліцкая – з цэнтрам у Вільні, архіепіскапская – у Полацку і епіскапская – у Брэсце.

**Стан духавенства.** Спецыфіка духавенства ў беларуска-літоўскіх губернях, у адрозненне ад губерняў Цэнтральнай Расіі, заключалася ў тым, што ўсё каталіцкае, мусульманскае, кальвініецкае, значная частка уніяцкага і праваслаўнага духавенства належала да дваранскага саслоўя і карысталася яго правамі. Сярод вышэйшага каталіцкага і уніяцкага духавенства былі прадстаўнікі магнатаў і буйной шляхты (І.Масальскі, Ю.Касакоўскі, І.Булгак), чые сем'і па традыцыі аддавалі малодшых сыноў царкве, каб не драбіць маёнткі. Іншая частка прыходскага уніяцкага, праваслаўнага і лютэранскага духавенства адносілася да духоўнага саслоўя, якое ў гэты перыяд канчаткова сфарміравалася як прывілеяванае і ў адрозненне ад іншых, дастаткова закрытае. Апошняе найперш тычылася праваслаўных і уніяцкіх святароў, бо свае прыходы яны атрымлівалі ў асноўным па спадчыне ад бацькі да сына або дзякуючы шлюбу з дачкой святара.

Як сам прыход, так і матэрыяльнае становішча духавенства залежала ад ктітараў (або патронаў), якімі былі памешчыкі. Даходы свяшчэннікаў і прычту залежалі ад платы з боку прыхаджан, грашыма або прадуктамі, за адпраўленне шлюбаў, хрышчэнні, пахаванні.

**Міжканфесіянальныя адносіны.** Адносіны паміж канфесіямі выяўляліся ў распаўсюджванні на тэрыторыі Беларусі змешаных шлюбаў і цесна звязаных з імі пераходаў з аднаго веравызнання ў іншае. Згодна з рашэннямі Варшаўскага сейма 1768 г. і трактатам 1775 г. паміж Рэччу Паспалітай і Расійскай імперыяй хрысціянам розных канфесій было дазволена ўступаць у змешаныя шлюбы, дзеці ад якіх павінны былі выхоўвацца: хлопчыкі – у веры бацькі, дзяўчынкі – у веры маці.

Пасля далучэння Усходняй Беларусі да Расійскай імперыі змешаныя шлюбы з каталічкамі або уніяткамі пачалі заключаць і рускія чыноўнікі, што прыязджалі на працу ў новыя губерні. Іх дзеці таксама выхоўваліся па вышэйназванаму прынцыпу. Іерархія праваслаўнай царквы палічыла такое становішча недапушчальным. У 1777 г. па ініцыятыве магілёўскага праваслаўнага епіскапа Георгія (Каніскага) рускім чыноўнікам было абвешчана, што яны могуць уступаць у змешаныя шлюбы толькі згодна з рашэннем Свяцейшага Сінода ад 18 жніўня 1721 г., паводле якога дзеці ад такіх шлюбаў павінны былі выхоўвацца выключна ў праваслаўнай веры. Згодна з новым сенацкім указам 1783 г. праваслаўным, якія збіраліся ўступаць у змешаны

шлюб, належала абавязкова атрымаць дазвол ад праваслаўнай кансісторыі[1]. Гэтыя ўказы зноў былі пацверджаны ў 1805 г.[2]

На працягу першай паловы XIX ст. царскія ўлады неаднаразова нагадвалі, што змешаныя шлюбы павінны заключацца ў праваслаўнай царкве, хаця не забаранялася паўтараць іх і ў іншым храме. Дзяцей ад іх належала выхоўваць у праваслаўнай веры. Аднак на месцах гэта часта парушалася. Нават адстаўному расійскаму генерал-маёру, уладальніку шклоўскага маёнтка І. Енакіеву давялося ў 1847 г. апраўдвацца перад губернатарам у сувязі з тым, што (як данёс прыходскі праваслаўны святар) жонка генерала – каталічка хрысціла дзяцей па рымска-каталіцкаму абраду[3].

Самыя вялікія спрэчкі як паміж канфесіямі, так і паміж канфесіямі і царскім урадам адбываліся ў сувязі з пераходамі. За пераход у праваслаўе дзяржава абяцала плаціць грошы (ад 15 да 30 руб. срэбрам) або вызваляць ад крымінальнай адказнасці. Практычна ўсе канфесіі імкнуліся перацягнуць да сябе вернікаў з іншых веравызнанняў, таму мелі месца пераходы не толькі ў праваслаўе, каталіцтва, уніяцтва або пратэстанцтва, але і ў стараверства, а таксама з хрысціянства ў іудаізм, што выклікала асабліва вострую рэакцыю з боку ўрада. Спакушэнне ў нехрысціянскае веравызнанне каралася пазбаўленнем усіх правоў, маёмасці і катаржнымі работамі ў цытадэлях тэрмінам ад 8 да 10 гадоў. Толькі пануючай канфесіі давалася права агітаваць да пераходу[4].

Нягледзячы на гэта, выпадкі змены хрысціянскай веры на нехрысціянскую працягваліся. У 1818 г., напрыклад, улады выявілі ў мястэчку Лёзна некалькі былых хрысціянак, якія паддаліся спакушэнню з боку яўрэяў і перайшлі ў іудаізм[5].

Змены веравызнання былі звязаны і з недахопам царкоўных будынкаў. Таму пры неабходнасці (хрышчэнне дзіцяці, пахаванне) вернікі вымушаны былі звяртацца ў суседнія храмы, якія неабавязкова адносіліся да іх канфесіі. Дзеці католікаў, ахрышчаныя ва уніяцкай царкве (што было дазволена Папам Рымскім), траплялі ў яе метрычныя кнігі ўжо як уніяты. Праваслаўныя ў некаторых мясцовасцях Віленскай губерні з-за недахопу праваслаўных храмаў пераходзілі ў стараверства.

Пераходы адбываліся не толькі па ініцыятыве царскага ўрада або вышэйшага духавенства, але і добраахвотна, калі па прыватных абставінах чалавеку неабходна было змяніць веру. Так, на працягу 1844–1852 гг. у дамініканскім кляштары г.Навагрудка, з дазволу міністра ўнутраных спраў, былі ахрышчаны шэсць татарак-мусульманак, якія збіраліся выйсці замуж за хрысціян[6].

---

[1] *Климов Н.Ф.* Постановление по делам православной церкви и духовенства в царствование императрицы Екатерины II. Вып.1. СПб., 1902. С.80, 81.

[2] *Белоголов И.* Акты и документы, относящиеся к устройству и управлению римско-католической церкви в России. Пг., 1915. Т.1, С.288–291.

[3] НГАБ у Мінску, ф.1297, воп.1, спр.18401, арк.1, 5.

[4] РДГА у С.-Пецярбургу, ф.821, воп.150, спр.801, арк.1, адв., 3 адв., 4–6, 9 адв.

[5] РДГА у С.-Пецярбургу, ф.1282, воп.2, спр.200, арк.1, 3.

[6] Канфесіі на Беларусі (канец XVIII–XX ст.). С.149.



Мінск у 30-я гг. XIX ст.
Базыльянскія муры. Літаграфія В. Сташчанюка

Вядомы таксама факт, калі два яўрэі г. Беліцы, якія жадалі карыстацца правамі мяшчан хрысціян, добраахвотна перайшлі ў стараверства[1].

Змешаныя шлюбы, пераходы з аднаго веравызнання ў іншае выклікалі скаргі і ўзаемныя папрокі духавенства розных канфесій. Сярод насельніцтва гэта прыводзіла не толькі да скаргаў, але часам да боек. Напрыклад, у 1833 г., як пісаў обер-пракурору Свяцейшага Сінода полацкі праваслаўны епіскап Смарагд, калі на кірмаш у мястэчку сабраліся мужыкі, якія перайшлі ў праваслаўе, так і уніяты: "...апошнія пачалі называць першых пярэваратнямі, а першыя называлі сябе рускімі, пачалі біць уніятаў, называючы іх палякамі бязглуздымі"[2].

Лёгкасць пераходаў, калі жыхары адной вёскі (асабліва ў канцы XVIII – самым пачатку XIX ст.) добраахвотна маглі за кароткі час перайсці ў праваслаўе, вярнуцца зноў ва уніяцтва, а потым перайсці ў каталіцызм, і пры гэтым заставаліся той жа царкоўны будынак і святар, прыводзіла да сцірання адрозненняў паміж асноўнымі канфесіямі ў Беларусі. Гэта было праявай індыферэнтнасці вернікаў у рэлігійным жыцці, абумоўленай іх непісьменнасцю і слабай адукаванасцю святароў.

**Нацыянальная палітыка**. Імкнучыся ідэалагічна абгрунтаваць далучэнне Беларусі і Літвы, царскі ўрад трактаваў іх як "старажытныя рускія землі, населеныя рускімі" праваслаўнымі жыхарамі. Кацярына II неаднаразова падкрэслівала, што, далучыўшы Беларусь да Расіі, яна не захапіла ніводнага ка-

[1] Собрание постановлений по части раскола. СПб., 1875. С.241.

[2] *Шавельский Т.* Последнее возсоединение с православной церковью униатов Белорусской епархии (1833–1839 гг.). СПб., 1910. С.12 (прил.).

валка польскай зямлі, што "не толькі ў Полацку, але і ва ўсёй Літве ўсе справы ва ўсіх судах у XVII ст. вяліся на рускай мове, што гады адзначаліся ад стварэння (свету. – *А.Ф.*) па грэцкаму вылічэнню, што цэрквы іх былі звычайна будаваны алтаром на ўсход". У іншым месцы яна сцвярджала, што "не атрымала ніводнага вяршка польскай зямлі, а ўзяла тое, што самі палякі называюць Чырвонай Руссю. Што тычыцца Літвы, дык яна ніколі не была Польшчай"[1]. Падобным чынам выказваліся і вышэйшыя царскія чыноўнікі. Граф Безбародзька, напрыклад, даводзіў вярхоўнаму правіцелю Літвы князю М.Рэпніну, што "сяляне ў Літве і ў нас адну мову і звычаі ў суседстве маюць"[2].

Пачынаючы вывучаць тэрыторыю, расійскія даследчыкі ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. адзначалі, што ў Беларусі і Літве жылі "палякі і літва, рымска-каталіцкага закона, з якіх малая колькасць грэчаскага веравызнання, іншыя уніяты", расіяне, латышы, татары і яўрэі[3]. Вызначэнне нацыянальнай прыналежнасці адукаванага чалавека было ў той час звязана з дзяржавай, канфесіяй і тэрыторыяй, дзе нарадзіўся. Рэч Паспалітая інакш называлася "Польшчай", таму жыхароў на ўсёй тэрыторыі гэтай былой дзяржавы нярэдка вызначалі як "палякаў". Насельніцтва былога Вялікага княства Літоўскага лічылася "літоўскім". З іншага боку, "літоўцамі" называлі жыхароў "Літвы", да якой адносілі тэрыторыю Міншчыны, Віленшчыны і Гродзеншчыны. Тэрмін "беларусы" ўжывалі да насельніцтва "Беларусі", пад якой разумелі толькі Віцебшчыну і Магілёўшчыну.

Шляхта Беларусі і Літвы вызначала сваю нацыянальную прыналежнасць як "польскую". Яна не вылучала сябе з польскай культуры і карысталася польскай мовай. Такая самаідэнтыфікацыя шляхты ўзмацнілася ў час падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння да Расійскай імперыі. Яна старалася адрозніваць сябе ад рускіх чыноўнікаў, вайскоўцаў, новых землеўладальнікаў. У меншай ступені гэта тычылася магнатаў, якія (як і руская арыстакратыя) былі даволі касмапалітычнымі, імкнуліся да еўрапейскай культуры і карысталіся французскай мовай.

З канца XVIII ст. у фармулярных спісах чыноўнікаў, духавенства была графа: "якой нацыі". Ураджэнцы Беларусі адказвалі – "беларускай", а Літвы – "літоўскай". І калі этнічных літоўцаў на Ковеншчыне звалі "жмудзінамі", то на Віленшчыне і Гродзеншчыне – "літоўцамі". Так называлі на гэтай тэрыторыі і беларусаў. Напрыклад, у спісе чыноўнікаў-базыльян Віленскай уніяцкай мітрапаліцкай епархіі за 1815 г. чатыры чалавекі назваліся "ўраджэнцамі літоўскімі", 14 – аднеслі сябе да "літоўскай нацыі", два – да "польскай", адзін – да "беларускай", адзін – "ураджэнец валынскі" і адзін – "ураджэнец самагіцкі"[4].

Нацыянальнае самавызначэнне было абцяжарана канфесіянальным аспектам. Па рэлігійнаму крытэрыю католікаў і уніятаў называлі "палякамі", а праваслаўных і старавераў – "рускімі". Пры змяненні веравызначэння мяняліся прозвішча і нацыянальная прыналежнасць чалавека. Асабліва яскрава гэта назіралася пры пераходах з нехрысціянскіх канфесій у хрысціянскія і наадварот. У чэрвені 1820 г., напрыклад, у парафіяльным касцёле мястэчка

---

[1] *Цьвікевіч А.* "Западно-руссизм". Нарысы з гісторыі грамадскай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. С.10.

[2] Там жа. С. 11.

[3] *Плещеева.* Обозрение Российской империи в нынешнем ея новоустроенном состоянии. СПб., 1790. С.95, 96; *Зябловский Е.* Землеописание Российской империи для всех состояний. СПб., 1810. С.89, 115.

[4] Описание документов архива западно-русских униатских митрополитов. 1701–1839. СПб., 1907. Т.2. С.695.

Ула прыняў каталіцтва рабін Маісей Шнеерсон, які пры хрышчэнні атрымаў імя Ляон Юлевіч. У сувязі з пераходам у 1818 г. з каталіцтва ў іудаізм Людвіка Кестовіч стала Дворай Абрамавай[1].

Пра нацыянальнае самавызначэнне ў першай палове XIX ст. непісьменнага сялянства гаварыць не даводзіцца. Сяляне часцей за ўсё называлі сябе "тутэйшымі", або "мужыкамі", і даволі скептычна ставіліся да спроб вызначаць іх як рускіх ці беларусаў[2].

У акрэслены перыяд царскі ўрад яшчэ не праводзіў мэтанакіраванай палітыкі русіфікацыі ў беларуска-літоўскіх губернях. Для ажыццяўлення русіфікацыі патрабавалася значна большая колькасць рускіх чыноўнікаў, настаўнікаў з добрым валоданнем рускай мовай, праваслаўных святароў і манахаў для місіянерскай дзейнасці. Такіх людзей не хапала і ва ўнутраных губернях імперыі. Да таго ж у гэты час Расія вяла бясконцыя войны, таму вырашэнне нацыянальных праблем у вызначаны перыяд царскі ўрад пускаў у асноўным на самацёк.

Абмежаванні ўводзіліся толькі ў адносінах да аднаго народа – яўрэяў. У часы Рэчы Паспалітай яўрэі не былі запрыгонены і не атрымалі права сяліцца на зямлі. У выніку гэтага яны прывыклі пастаянна перамяшчацца і займацца часовай дзейнасцю. Гэта з'ява супярэчыла парадкам у Расійскай дзяржаве, дзе ўсе саслоўі рэгістраваліся і пражывалі ў адным канкрэтным месцы. Асноўная частка яўрэйскага насельніцтва жыла ў гарадах і таму запісвалася ў лік мяшчан або купцоў. Каб забяспечыць паступленне падаткаў, урад пакінуў кагал у якасці органа абшчыннага яўрэйскага самакіравання.

Царскія ўлады імкнуліся зберагчы інтарэсы свайго карэннага насельніцтва. Калі яўрэйскія купцы пачалі канкурыраваць з маскоўскімі, то Кацярына II указам ад 23 снежня 1791 г. забараніла яўрэям запісвацца ў купецтва ва ўнутраных расійскіх гарадах. Яўрэі атрымалі дазвол жыць толькі ў Беларусі і Наварасійскім краі. З гэтага ўказа пачалося фарміраванне "мяжы аседласці" яўрэйскага насельніцтва[3].

Новы закон – "Палажэнне аб уладкаванні яўрэяў" ад 9 снежня 1804 г. – захоўваў мяжу аседласці, адмяняў падвоены падатак з фабрыкантаў, рамеснікаў і землеўладальнікаў. Выбарчыя пасады ў гарадскім самакіраванні было дазволена займаць толькі адукаваным яўрэям, якія ведалі рускую, польскую або нямецкую мову. Па гандлёвых справах яўрэі маглі прыязджаць ва ўнутраныя губерні, але толькі па асобных пашпартах. "Палажэнне..." прадугледжвала новую дыскрымінацыйную меру – ссяленне да 1 студзеня 1808 г. яўрэйскага сельскага насельніцтва ў гарады і мястэчкі. Гэта акцыя мела цяжкія наступствы для яўрэяў, паколькі многія з іх гублялі сродкі для існавання (арэнду зямлі, корчмаў і г.д.). Пастаўленыя ў безвыходнае становішча, некаторыя яўрэйскія сем'і з Магілёўскай, Віцебскай губерняў прасілі перасяліць іх у Наварасійскі край для заняткаў земляробствам. Многія распрадавалі маёмасць і выязджалі тайна[4]. Але і ў дадзеным выпадку палітыка ўрада, як вынікае з вышэйсказанага, абмяжоўвала хутчэй саслоўныя, а не нацыянальныя правы.

---

[1] НГАБ у Мінску, ф.1781, воп.3, спр.51, арк.101; РДГА у С.-Пецярбургу, ф.821, воп.150, спр.801, арк.9 адв.

[2] *Богданович А.Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895. С.5.

[3] *Клиер Д.* Значение евреев Белоруссии в истории еврейского народа Российской империи (1772–1855) // Наш радавод. Кн.4 (Частка 3). Гродна, 1992. С.610, 611.

[4] *Кандель Ф.* Очерки времен и событий. Ч.2. С.12, 23, 24, 27, 88, 89.

На працягу 1772–1825 гг. канфесіянальная і нацыянальная палітыка царскага ўрада ў беларуска-літоўскіх губернях не была выразна акрэслена. Канкрэтныя праявы гэтай палітыкі мяняліся ў залежнасці ад патрабаванняў часу або суб'ектыўнага меркавання імператараў. Аднак нязменнай заставалася яе сутнасць: замацаванне Расіі на новадалучаных землях, усталяванне пануючай ролі праваслаўя на гэтай тэрыторыі, падпарадкаванне ўсіх катэгорый мясцовага насельніцтва ўладзе расійскіх імператараў.

## 4. Вайна 1812 г. і Беларусь

Галоўнымі прычынамі вайны 1812 г. былі канфлікты паміж Францыяй і Расіяй з-за кантынентальнай блакады Англіі і сутыкненне прэтэнзій Напалеона на сусветнае панаванне з імкненнямі царызму да еўрапейскай гегемоніі. З прычыны разрыву традыцыйных сувязей з Англіяй знешні гандаль Расіі за 1808 – 1812 гг. скараціўся на 43 %. Блакада разладзіла фінансавую сістэму. Ужо з 1809 г. бюджэтны дэфіцыт узрос у параўнанні з 1801 г. з 12,2 млн да 157,5 млн руб., амаль у 13 разоў[1]. Царскі ўрад нават патураў кантрабанднаму гандлю з Англіяй, а 31 снежня 1810 г. прыняў забароны на тавары, "увазныя па сушы", што ўдарыла галоўным чынам па французскім гандлі. Напалеон расцаніў гэта як парушэнне ўмоў Тыльзіцкага дагавора 1807 г.[2]

Акрамя таго, згодна з гэтым дагаворам, Напалеон стварыў з польскіх зямель, якія належалі Прусіі, Вялікае герцагства Варшаўскае – у якасці свайго плацдарма на выпадак вайны з Расіяй. Ён пагражаў Аляксандру I, што гатовы аднавіць Польшчу ў межах 1772 г. Такія пагрозы абвастрылі расійска-французскія адносіны, тым больш што і царызм жадаў далучыць да Расіі не толькі Варшаўскае герцагства, але і ўсе землі былой Рэчы Паспалітай.

Аляксандр I выказваў намеры "даць канстытуцыю і асобнае палажэнне Польскаму каралеўству, далучыўшы гэты тытул да кароны Расіі". Імператар лічыў неабходным пачаць выкананне гэтага праекта з правінцый, якія належаць Расіі, "прыняўшы тытул Вялікага герцага Літоўскага"[3]. Каб аслабіць саюзніцу Напалеона Аўстрыйскую імперыю, Аляксандр I прапанаваў ідэю "ўсталявання славянскага царства" для народаў Балкан. Сутыкнуліся расійска-французскія інтарэсы і на Блізкім Усходзе. Царызм імкнуўся да захопу Канстанцінопаля, а Напалеон жадаў зберагчы Турцыю ў процівагу Расіі[4].

К пачатку 1810 г. адносіны паміж Францыяй і Расіяй абвастрыліся і яны пачалі рыхтавацца да новай вайны. Узрос ваенны бюджэт Францыі, яе войска папоўнілася навабранцамі: 12(24) лютага 1812 г. Напалеон заключыў дагавор з Прусіяй, а 2(14) сакавіка – з Аўстрыяй. Прусія абавязалася даць яму 20 тыс. салдат, Аўстрыя – 30 тыс. Армія Варшаўскага герцагства ўжо ў сакавіку 1811 г. налічвала 60 тыс. чалавек. Супраць Расіі Напалеон, такім чынам, здолеў выставіць 647 158 чалавек войска і 1372 гарматы[5].

Таксама павялічыліся і ваенныя выдаткі Расіі, якія склалі ў 1811 г. 113,7 млн руб. (і гэта толькі на сухапутныя войскі). У жніўні 1810 г. было вырашана пабудаваць ваенныя цытадэлі ў Бабруйску і Дынабургу і ваенны лагер каля Дрысы, а каля Барысава – масты праз Бярэзіну. Расійскае

---

[1] *Злотников М.Ф.* Континентальная блокада и Россия. М.; Л., 1966. С.339.

[2] *Троицкий Н.А.* 1812 великий год России. М., 1988. С.30.

[3] Беседы и частная переписка между императором Александром I и кн. Адамом Чарторыйским. СПб., 1912. С.107.

[4] *Троицкий Н.А.* 1812 великий год России. С.29, 31.

[5] Там жа. С.35, 36, 48.

войска на заходняй мяжы імперыі складалася з трох армій і трох асобных карпусоў. Першая Заходняя армія на чале з ваенным міністрам М. Барклаем дэ Толі, налічвала 120,2 тыс. чалавек і 580 гармат. Яна дыслацыравалася ў раёне Вільні і прыкрывала пецярбургскі кірунак. Другая Заходняя армія (49,4 тыс. чалавек і 180 гармат) знаходзілася каля Беластока і засланяла маскоўскі напрамак. Яе камандзірам быў генерал ад інфантэрыі князь П. Баграціён. Трэцяя Заходняя армія (44,2 тыс. чалавек і 168 гармат) на чале з генералам ад кавалерыі А. Тармасавым знаходзілася каля г.Луцка і закрывала кіеўскі напрамак. Акрамя таго, пад Рыгай знаходзіўся асобны корпус генерал-лейтэнанта І. Эсена (38,1 тыс. чалавек), каля Тарапца – рэзервовы корпус генерал-ад'ютанта Я. Мелера-Закамельскага (27,5 тыс. чалавек) і войскі генерал-лейтэнанта Ф. Эртэля (37,5 тыс. чалавек)[1].

**Адступленне расійскіх армій і баявыя дзеянні на тэрыторыі Беларусі летам 1812 г.** 10 (22) чэрвеня 1812 г. Напалеон прыбыў у Вілкавішкі (Літва), дзе паведаміў сваім салдатам аб пачатку вайны. У ноч на 12(24) чэрвеня пачалася пераправа войскаў праз Нёман. Адразу быў заняты г. Коўна. Вечарам аб пачатку вайны даведаўся Аляксандр І, які знаходзіўся ў Вільні. 13 (25) чэрвеня 1812 г. цар падпісаў маніфест аб пачатку вайны з Францыяй і адбыў у Свянцяны. Барклай дэ Толі, удакладніўшы колькасць войскаў праціўніка, праз тры дні пачаў адступленне ў напрамку Свянцян. 16 (28) чэрвеня практычна праз гадзіну пасля адыходу з Вільні апошніх расійскіх войскаў у горад увайшла французская дывізія Бруйера. У той жа дзень сюды прыехаў і Напалеон.

З Гродзенскай губерні і Беластоцкай вобласці пачалася эвакуацыя казённай маёмасці, архіваў, зброі, ад'язджалі рускія чыноўнікі. 16 (28) чэрвеня Гродна пакінулі казакі генерала М.Платава, якія прыкрывалі 2-ю Заходнюю армію. Яны адступілі праз Шчучын на Ліду. У Гродна ўвайшла польская кавалерыя князя Ю.Панятоўскага, якая ваявала ў складзе напалеонаўскіх войскаў.

17 (29) чэрвеня 2-я армія Баграціёна выступіла з Ваўкавыска праз Навагрудак у напрамку Мінска з мэтай злучэння з 1-й арміяй. Яна адыходзіла з баямі і сутычкамі каля вёсак Вароны, Закрэўшчына, Гудзевічы, мястэчак Вішнева і Карэлічы. Каля мястэчка Мір 27–28 чэрвеня (9–10 ліпеня) казакі генерала Платава зрабілі засаду, у якую трапілі тры палкі польскай дывізіі Ражнецкага.

Эвакуацыя казённай маёмасці, архіўных спраў, казны з Мінска пачалася запознена – толькі 24 чэрвеня (6 ліпеня). Праваслаўнае духавенства горада на чале з архірэем Серафімам, забраўшы царкоўныя каштоўнасці, выехала ў Смаленск. Губернатар П.Добрынскі з чыноўнікамі накіраваўся ў Барысаў, а потым у Рэчыцу. 26 чэрвеня (8 ліпеня) войскі французскага маршала Л. Даву занялі Мінск[2].

1 (13) ліпеня П. Баграціён у Слуцку даведаўся, што маршал Даву з Мінска накіраваўся ў напрамку Барысава. Гэта перакрывала шлях 2-й арміі на Віцебск, дзе планавалася злучэнне расійскіх армій. Баграціён накіраваў войска праз Нясвіж–Слуцк–Бабруйск на Магілёў. 3 (15) ліпеня каля мястэчка Раманава яго казакі ўступілі ў бой з французскай конніцай, у выніку якога былі знішчаны два палкі непрыяцеля.

---

[1] *Троицкий Н.А.* 1812 великий год России. С.37, 63.

[2] *Краснянский В.Г.* Минский департамент Великого княжества Литовского. СПб., 1902. С.3, 4.




Падзеі вайны 1812 г. у Беларусі. Чэрвень–жнівень

1-я расійская армія прайшла праз Свянцяны да Дрысенскага лагера, дзе была ўжо 26 чэрвеня (8 ліпеня). Але агляд лагера паказаў, што ён не закрые шлях ні на Пецярбург, ні на Маскву. 3 (15 ліпеня) Барклай дэ Толі выступіў з Дрысы да Віцебска. 13 (25) ліпеня 2-гі пяхотны корпус на чале з генералам Остэрманам-Талстым уступіў у бой з французскай кавалерыяй каля мяс-

тэчка Астроўна. На наступны дзень расійскія войскі стрымлівалі націск французаў каля в. Кукавячына. Пераканаўшыся ў немагчымасці злучыцца ў Віцебску з Баграціёнам, Барклай дэ Толі загадаў войску адыходзіць да Смаленска, куды павінна была прыбыць і 2-я расійская армія. Надзеі Напалеона на генеральную бітву пад Віцебскам, таксама як і пад Вільняй, не спраўдзіліся. І ён вырашыў ісці на Маскву.

Пераправіўшыся каля Бабруйска праз Бярэзіну, войска Баграціёна накіравалася да Магілёва, аднак 8 (20) ліпеня маршал Даву заняў горад. Праз некалькі дзён каля в. Салтанаўка і мястэчка Дашкаўка (паблізу Магілёва) адбыліся баі. Расійскаму ар'ергарду пад камандаваннем генерала М. Раеўскага ўдалося затрымаць французаў, што дазволіла Баграціёну з асноўнымі сіламі пераправіцца каля Новага Быхава праз Дняпро. Затым 2-я армія праз Чэрыкаў і Мсціслаў адышла да Смаленска.

У тыя ж дні 3-я армія генерала Тармасава пачала наступленне на поўнач і ўступіла ў Гродзенскую губерню. 15 (27) ліпеня яна атакавала праціўніка каля Кобрына, дзе знаходзіліся саксонскія войскі на чале з генералам Кленгелем. У ходзе бою ён быў захоплены ў палон. Затым расійскія войскі занялі Пружаны. Супраць арміі Тармасава выступілі аб'яднаныя сілы саксонскага корпуса Ж. Рэнье і аўстрыйскага корпуса К. Шварцэнберга. 31 ліпеня (12 жніўня) адбыўся бой пад Гарадзечна. Улічваючы перавагу сіл непрыяцеля, А.Тармасаў адступіў у Валынскую губерню.

У Віцебскай губерні расійскаму корпусу графа П.Вітгенштэйна, які павінен быў дзейнічаць у тыле французскай арміі і ахоўваць шляхі да Пецярбурга, супрацьстаялі 2-гі французскі корпус маршала Ш.Н. Удзіно і 6-ты – маршала Л. Гув'ен Сен-Сіра, якія ўтрымлівалі правы бераг Дзвіны, прыкрывалі Віцебск і шляхі зносін з Вільняй. Для прыкрыцця Мінска і Магілёва і нейтралізацыі незахопленай Бабруйскай крэпасці Напалеон вылучыў дывізію генерала Я. Дамброўскага. Армію Тармасава стрымлівалі саксонскі корпус Рэнье і аўстрыйскі – Шварцэнберга.

**Утварэнне новых органаў улады.** Газета "Kurier Litewski" ад 8 і 10 ліпеня 1812 г. паведамляла, што Вільня вельмі ўрачыста сустракала Напалеона. Аднак французскі пасол у Расіі А.Каленкур засведчыў, што імператар быў незадаволены сустрэчай: відныя літоўцы пазбягалі яго, ніхто не прадстаўляўся, як ні стараліся зрабіць гэта палякі, што прыбылі разам з арміяй. Наогул аб жыхарах Літвы склалася ўражанне, што "яны занадта холадна адносяцца да польскай справы, былі мала схільныя да ахвяраў і вельмі незадаволеныя абмежаваннямі, звязанымі з вайной"[1].

Аднак усё ж значная частка літоўска-беларускай шляхты спадзявалася на аднаўленне пры дапамозе Напалеона Польшчы ў межах 1772 г. Пры адступленні расійскіх войскаў у гарадах Літвы і Беларусі ствараліся часовыя саветы або камітэты для аховы правіянцкіх крамаў і грамадскага парадку. Яны ж клапаціліся, каб гэтыя крамы былі захаваны, нягледзячы на загады расійскіх улад. Так, часовы савет у Мінску пастараўся, каб правіянцкія крамы горада (у іх знаходзілася каля 300 тыс. фунтаў мукі, вялікая колькасць аўса, 1,5 тыс. фунтаў пораху, маёмасць для лазарэтаў) не былі спалены. Часовая камісія Пінска затрымала эвакуацыю казённых рэчаў і грошай, якія потым былі перададзены французам[2].

Па меры акупацыі тэрыторыі Беларусі на змену расійскай адміністрацыі прыходзіла французская. 22 чэрвеня (4 ліпеня) прызначаны Ж. Банапартам

---

[1] *Коленкур А.* Мемуары. Поход Наполеона в Россию. М., 1943. С.93.

[2] *Краснянский В.Г.* Минский департамент Великого княжества Литовского. С.7, 8.

гродзенскім губернатарам генерал Ражнецкі сабраў у Гродне канфедэрацыю, савет якой утварыў чатыры аддзелы: правіянцкі, паліцэйскі, фінансавы і палітычны. Ад Савета канфедэрацыі залежала кіраванне ўсёй губерні. Ён падтрымліваў адносіны з французскім камандаваннем па пытаннях збору правіянту і стварэння лазарэтаў, аднак праіснаваў усяго 15 дзён. У сувязі са стварэннем часовага ўрада Савет быў скасаваны[1].

У французскай арміі шырока распаўсюдзілася марадзёрства. З гэтай прычыны Напалеон, знаходзячыся ў Глыбокім, 8 (20) ліпеня загадаў салдат, вінаватых у рабаванні жыхароў, судзіць і расстрэльваць. У Магілёве за рабаўніцтва былі расстраляны чатыры салдаты[2]. Аднак спыніць марадзёрства не ўдалося.

Указам Напалеона ад 19 чэрвеня (1 ліпеня) 1812 г. быў створаны Часовы ўрад Вялікага княства Літоўскага. Яго кампетэнцыя распаўсюджвалася на Віленскую, Гродзенскую, Мінскую і Беластоцкую губерні. Урад складаўся з пяці членаў і генеральнага сакратара. Камісіі Часовага ўрада было даверана кіраванне фінансамі краю, дастаўкай правіянту, арганізацыя мясцовага апалчэння і паліцэйскіх фарміраванняў. Таксама былі створаны губернскія падпарадкаваныя камісіі Часовага ўрада[3].

Члены ўрада былі і старшынямі камітэтаў: харчавання і магазінаў – Ст. Солтан; паліцыі – К. Прозар; фінансаў – Ю. Серакоўскі; ваеннага – князь А. Сапега; судовага – граф Ф. Ельскі; унутраных спраў – граф А. Патоцкі; народнай асветы і рэлігіі – рэктар Віленскага універсітэта Я. Снядэцкі; сакратаром – Ю. Касакоўскі. Пры Часовым урадзе знаходзіўся французскі імперскі камісар Л. Біньён.

Праз два тыдні пасля ўказу губерні былі перайменаваны ў дэпартаменты, а губернскія камісіі заменены адміністрацыяй дэпартаментаў, на чале якіх былі пастаўлены французскія губернатары і інтэнданты. Паветы перайменавалі ў падпрэфектуры. Іх камісіі павінны былі выконваць усе загады французскіх военачальнікаў. Падпрэфектуры дзяліліся на дыстрыкты, а тыя – на кантоны. Акрамя таго, існавала і сельская адміністрацыя. Гарады кіраваліся муніцыпалітэтамі, якія былі падпарадкаваны падпрэфектам.

Віцебская і Магілёўская губерні не былі падпарадкаваны Часоваму ўраду, імі кіраваў ваенны губернатар А. Шарпанцье.

Адным з першых дакументаў, што прыняў Часовы ўрад, быў Акт аб далучэнні Вялікага княства Літоўскага да Генеральнай канфедэрацыі Польшчы, утворанай 16(28) чэрвеня ў Варшаве. Яго абвясцілі 2(14) ліпеня ў кафедральным саборы Вільні. Гэтым актам выяўлялася імкненне "злучыць у адзінае палітычнае цэлае скасаваныя часткі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага і вярнуць старажытнай Айчыне нашай волю і ўладанні". Неўзабаве Часовы ўрад прыняў правілы аб сейміках для выбрання паслоў на сейм варшаўскай Генеральнай канфедэрацыі. У час выбарчых сеймікаў павінна была працягвацца падпіска аб далучэнні да акта Генеральнай канфедэрацыі[4].

Статут ВКЛ 1588 г. і часовыя правілы, прынятыя ўрадам 29 чэрвеня (11 ліпеня), ляглі ў аснову судаводства ў дэпартаментах. У губернях былі заснаваны галоўныя суды, у паветах – павятовыя для разгляду крымінальных

---

[1] *Орловский Е.Ф.* Гродненская губерния в 1812 г. Гродно, 1912. С.20, 22, 24.

[2] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильно, 1867. Т.2. С. XXXV.

[3] Сборник императорского русского исторического общества (далей – СИРИО). СПб., 1909. Т.128. С.133.

[4] Виленский временник. Кн. IV. Ч.2. Вильно, 1913. С.21.

і грамадзянскіх спраў. Палітычныя злачынствы разглядаліся спецыяльнай камісіяй, якая знаходзілася ў Мінску. Асобныя ваенна-следчыя камісіі займаліся злачынствамі, учыненымі французскімі салдатамі.

Для правядзення фінансавых разлікаў ураду неабходна было прывесці ў парадак грашовую сістэму. Да вайны ў беларуска-літоўскіх губернях карысталіся ў асноўным папяровымі асігнацыямі, курс якіх пастаянна падаў. З прыходам французскіх войскаў на тэрыторыі краю пачалі хадзіць грошы розных краін. Таму было вырашана за асноўную манетную адзінку прыняць спачатку толькі польскі злоты, а пазней – і французскі франк. Так, за залаты галандскі чырвонец давалі 20 злотых, за срэбны рускі рубель – 6 злотых і 20 грошаў, за французскі напалеандор у 40 франкаў – 64 злотыя і г.д. 4 рублі асігнацыямі былі прыраўняны да 1 рубля срэбрам[1].

**Акупацыйны рэжым**. Кожны акупацыйны рэжым у першую чаргу клапоціцца аб патрэбах сваёй арміі, мала звяртаючы ўвагі на мясцовае насельніцтва. Французскай арміі патрэбны былі афіцэры і салдаты, харчаванне, коні і фураж. Стварэнне войска і збор правіянту сталі асноўным кірункам дзейнасці Часовага ўрада ВКЛ. Указам Напалеона ад 19 чэрвеня (1 ліпеня) было аб'яўлена аб стварэнні пяці пяхотных палкоў на чале з А.Хадкевічам, К.Тызенгаўзам, А.Біспінгам, К.Пжэздзецкім і С.Чапскім і палка стральцоў пад камандаваннем Ю.Касакоўскага. Палкі павінны былі фарміравацца за кошт саміх палкоўнікаў. Нягледзячы на матэрыяльныя і арганізацыйныя складанасці, удалося сфарміраваць для французскай арміі полк лёгкаконнай гвардыі, шэсць палкоў пяхоты, полк стральцоў агульнай колькасцю каля 15 тыс. чалавек. Але гэта не задаволіла Напалеона[2].

Паводле ўказу Часовага ўрада ад 13 (25) ліпеня Віленскі дэпартамент павінен быў прадставіць 3 тыс. рэкрутаў, Мінскі – 3 тыс., Гродзенскі – 2,5 тыс., Беластоцкі – 1,5 тыс. Нягледзячы на зварот урада да сялян, у якім абяцалася, што тэрмін службы будзе толькі шэсць гадоў і за яе будуць плаціць грошы, у рэкруты паступалі слаба. У большасці выпадкаў сяляне супраціўляліся набору ў войска. І самі памешчыкі не былі зацікаўлены ў тым, каб аддаць сваіх лепшых прыгонных. У такіх умовах урад вымушаны быў адпраўляць у войска нават марадзёраў з Варшаўскага герцагства і дэзерціраў з расійскай арміі[3].

Для абароны насельніцтва ад марадзёраў у паветах пачалі ствараць жандармерыю, а ў буйных гарадах – народную гвардыю. Яны павінны былі выконваць паліцэйскую службу, аказваць узброеную дапамогу адміністрацыі, затрымліваць бадзяг, марадзёраў і дэзерціраў[4]. Афіцэры і валанцёры ў жандармерыю і народную гвардыю набіраліся з шляхты шляхам прымусовай мабілізацыі ва ўзросце ад 19 да 38 гадоў. Начальнік галоўнага штаба французскай арміі Берцье прызначыў у кожны дэпартамент камендантаў, якім былі падпарадкаваны народная гвардыя, жандармерыя і мясцовыя войскі[5].

Стварэнне народнай гвардыі і жандармерыі ішло марудна. У Мінску, напрыклад, гвардыя так і не была створана, а корпус жандараў складаўся толькі з 70 чалавек (замест 107) на чале з ігуменскім павятовым

---

[1] Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Вильно, 1912. Т.37. С.XXXII.

[2] Zarys dziejów wojskowosci Polskiej do roku 1864, m.2. Warszawa, 1966. S.343.

[3] *Военский К.* Вильна в 1812 г. С.16.

[4] *Skowroniek J.* Z magnackiego gniazda. Warszawa, 1992. S.7 297; Виленский временник. Кн.V. Ч.2. С.33.

[5] Виленский временник. Кн.V. Ч.2. С.32.

маршалкам Л.Ашторпам. У Магілёве ў народную гвардыю ўступілі 400 шляхціцаў[1].

Каб павялічыць набор у корпус жандараў, у кастрычніку быў вызначаны новы ўзрост уступаючых – ад 18 да 50 гадоў, акрамя таго, устанаўлівалася плата па 1 злотаму за дзень службы. Часовы ўрад заклікаў таксама ўсіх гарадскіх абывацеляў, домаўладальнікаў, купцоў і рамізнікаў такога ж узросту ўступаць у народную гвардыю[2]. Усяго за час дзейнасці Часовага ўрада ВКЛ было сабрана 5600 павятовых жандараў і 1400 чалавек народнай гвардыі[3].

Адной з найважнейшых функцый Часовага ўрада з'яўлялася пастаўка харчавання і фуражу для французскай арміі. Напалеон абвясціў аб рэквізіцыях, неабходных для папаўнення запасаў фуражу і харчавання. З беларуска-літоўскіх губерняў павінны былі сабраць 3 млн пудоў жыта, 1,5 млн чвэрцяў аўса, 2,5 млн пудоў сена, 2,5 млн пудоў саломы і 60 тыс. галоў рагатай жывёлы[4]. Устаноўленыя аб'ёмы паставак былі непасільныя для насельніцтва. Так, Барысаўскі павет, у якім абкладанню падлягалі 46 590 душ, павінен быў паставіць 2306 бочак жытняй мукі, 415 бочак ячнай крупы, 4604 бочкі аўса, 53 316 пудоў сена і саломы, 14 526 гарнцаў гарэлкі, 875 пудоў солі[5].

Зборы правіянту з насельніцтва суправаджаліся пагрозамі з боку французскіх улад. Так, у патрабаваннях да віцебскага магістрата ваенны губернатар Шарпанцье пагражаў, што "калі праз дзве гадзіны не будзе дастаўлена на бойню патрабуемая ад горада жывёла, горад падвергнецца ваеннай экзекуцыі"[6].

Каб папоўніць казну, Часовы ўрад у ліпені абавязаў насельніцтва да сярэдзіны жніўня выплаціць усе нядоімкі па падатках, устаноўленых расійскімі ўладамі. Было абкладзена падаткамі і духавенства: пэўнымі сумамі ў залатых чырвонцах, у залежнасці ад пасады і працэнтным зборам ад прыбытку[7].

Насельніцтва некаторых мясцовасцей абкладалася кантрыбуцыямі. Напрыклад, па патрабаванню мінскага губернатара Бранікоўскага жыхары мястэчка Глыбокае павінны былі выплаціць 24 тыс. франкаў кантрыбуцыі[8].

25 ліпеня Часовы ўрад загадаў падпрэфектам прыняць на сябе кіраўніцтва ўсімі былымі казённымі маёнткамі, а таксама тымі, якія былі пакінуты іх рускімі ўладальнікамі. Для гэтага ствараліся спецыяльныя люстрацыйныя камісіі[9].

**Партызанскі рух**. З пачаткам ваенных дзеянняў насельніцтва паветаў, праз якія праходзілі расійскія і французскія войскі, хавалася ад іх са сваёй рухомай маёмасцю ў лясах, пазбягаючы рабаўніцтва і гвалту. Прыгонныя сяляне не спяшаліся вяртацца дамоў і пасля адыходу войскаў, не зважаючы ўвагі на загады Часовага ўрада, якія прадпісвалі ім прыступіць да выканання сваіх павіннасцей. Нярэдка яны аб'ядноўваліся ў партызанскія атрады і выступалі як супраць французскіх рабаўнікоў, так і супраць сваіх памешчыкаў. Толькі за верасень 1812 г. першы дэпартамент Мінскага галоўнага суда раз-

---

[1] *Краснянский В.Г.* Минский департамент Великого княжества Литовского. С.15; *Чистяков С.* Борисовцы в Могилеве на Днепре. 1811–1812 гг. СПб., 1897. С.128.

[2] Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т.37. С. XIX.

[3] Zarys dziejow wojskowosci Polskiej. S.343.

[4] *Харкевич В.* 1812 г. Березина. СПб., 1893. С.5.

[5] Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т.37. С.XXI, XXII.

[6] *Добровольский В.К.* Витебская губерния в отечественную войну. Витебск, 1912. С.113.

[7] Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т.37. С.CXXIX, XXXI.

[8] *Краснянский В.Г.* Минский департамент Великого княжества Литовского. С.45.

[9] Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т.37. С.XXXII.

гледзеў 28 крымінальных спраў, сярод якіх 25 – аб выступленні сялян супраць памешчыкаў[1].

У ліпені 1812 г. сяляне в. Трасцянец Ігуменскага павета забілі свайго пана В.Гласко і членаў его сям'і (12 чалавек, у тым ліку дзяцей), разрабавалі маёмасць і падзялілі яе між сабою, а забітых спалілі разам з домам. Ігуменскім уладам яны заявілі, што гэта зрабілі французы. Аднак злачынства было раскрыта. Сяляне вёсак Стараселле, Мажаны, Клеўкі, Есьмоны Барысаўскага павета аб'ядналіся ў лесе ў некалькі атрадаў і нападалі на хлебныя магазіны, свірны, кладовыя мясцовых памешчыкаў, рабавалі і палілі іх хаты. Памешчыкі звярнуліся за дапамогай да ваеннага губернатара г. Барысава. У канцы ліпеня сялянскія атрады былі разбіты, а ўдзельнікі выступленняў трапілі пад суд[2].

Некаторыя партызанскія атрады беларускіх сялян у барацьбе з французскімі акупантамі ўзаемадзейнічалі з расійскімі войскамі. Да іх ліку належаў атрад М. Маркава, сфарміраваны з сялян в. Жарцы Полацкага павета, якая знаходзілася на нейтральнай паласе паміж корпусам Удзіно і Вітгенштэйна. Атрад удзельнічаў у вызваленні Полацка. М.Маркаў і некалькі яго паплечнікаў атрымалі расійскія баявыя ўзнагароды[3].

Такім чынам, партызанскі рух у Беларусі і Літве меў некаторыя асаблівасці ў параўнанні з захопленай тэрыторыяй цэнтральных губерняў Расіі. Асноўны напрамак дзейнасці мясцовых партызан быў накіраваны не на дапамогу расійскаму войску, а супраць сваіх паноў і марадзёраў.

**Становішча на неакупіраванай тэрыторыі Беларусі**. Французамі была захоплена не ўся тэрыторыя Беларусі. У Полацкім павеце Віцебскай губерні знаходзіўся расійскі корпус Вітгенштэйна. Не былі заняты Рэчыцкі, Мазырскі паветы, частка Бабруйскага павета Мінскай, Беліцкі павет Магілёўскай губерняў. Асноўнымі абавязкамі мінскага губернатара П. Добрынскага была дастаўка харчавання і фуражу для Бабруйскай крэпасці і 2-га рэзервовага корпуса генерал-лейтэнанта Эртэля, які стаяў у Мазыры. У Мазыры дзейнічала следчая камісія, у якую паступалі справы аб дээерцірах і розных падазроных асобах. Адрэзаны ад расійскай арміі камендант Бабруйскай крэпасці генерал-маёр Г. Ігнацьеў аб'явіў сябе ваенным губернатарам. У сувязі з выпадкамі непадпарадкавання з боку сялян расійскаму войску ён ад імя Аляксандра I загадваў памешчыкам, сялянам і яўрэям Бабруйскага павета вярнуцца дамоў, а чыноўнікам і асобам, якія займалі выбарныя пасады, – да свайго месца працы. За невыкананне загадаў расійскіх улад, а таксама за дастаўку французам правіянту і фуражу пагражала смяротнае пакаранне. У выпадку з'яўлення непрыяцеля жыхары павінны былі хавацца ў лясах, а харчовыя запасы знішчаць. Памешчыкам пад пагрозай смяротнай кары забаранялася даваць сялянам зброю. Аб'яўлялася таксама, што ад расійскіх войскаў нікому крыўды не будзе[4].

У незахопленых паветах Віцебскай губерні праводзіўся рэкруцкі набор, які выклікаў хваляванні. У Полацкім, Гарадзецкім і Невельскім паветах многія сяляне не падпаракоўваліся сваім памешчыкам. Імкненне сялян "да неабмежаванай вольнасці і незалежнасці" расійскія ўлады прыпісвалі ўплывам "непрыяцельскіх войскаў"[5].

---

[1] Отечественная война и русское общество. 1812 г. М., 1912. Т.V. С.89.

[2] *Краснянский В.Г.* Минский департамент Великого княжества Литовского. С.45, 50; Отечественная война и русское общество. Т. V. С.89.

[3] Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С.463, 464, 469.

[4] Отечественная война 1812 г. Отдел I. Т.XIV. СПб., 1910. С.220–222, 227.

[5] Отечественная война и русское общество. 1812 г. Т.V. С.90, 91.

**Баявыя дзеянні ў Беларусі восенню 1812 г.** У верасні–лістападзе 1812 г. тэрыторыя Беларусі зноў стала арэнай баявых дзеянняў асноўных сіл расійскай і французскай армій. Галоўнай мэтай расійскага камандавання ў гэты час з'яўлялася акружэнне і знішчэнне рэшткаў "Вялікай арміі" Напалеона ў раёне верхняга і сярэдняга цячэння ракі Бярэзіны. У цэнтры стратэгічных разлікаў абодвух бакоў апынуўся Барысаў.




Падзеі вайны 1812 г. у Беларусі. Кастрычнік–снежань

У пачатку верасня на Валынь перамясцілася Дунайская армія адмірала П.Чычагова і злучылася з 3-й арміяй Тармасава, што забяспечыла іх значную колькасную перавагу над корпусам Шварцэнберга і Рэнье (60 тыс. чалавек супраць 43 тыс.). Аб'яднаныя расійскія арміі пад камандаваннем Чычагова перайшлі ў наступленне і 30 верасня (12 кастрычніка) занялі Брэст. 18(30) кастрычніка, па загаду з Пецярбурга, Чычагоў праз Пружаны і Слонім накіраваўся на Мінск, пакінуўшы ў Брэсце вайсковую групу Ф. Остэн-Сакена. Актыўнымі дзеяннямі яна затрымала карпусы Рэнье і Шварцэнберга, што дазволіла Чычагову адарвацца ад іх. 1(13) лістапада недалёка ад Стоўбцаў ён пераправіўся праз Нёман. Войскі праціўніка на шляху да Мінска (пераважна польскія) былі разрозненыя і нешматлікія (усяго каля 9 тыс. чалавек). Камандавалі імі Ф.Касецкі, М.Бранікоўскі і Я.Дамбpoўcкі. Затрымаць Чычагова яны не змаглі і адступілі да Барысава. 4(16) лістапада расійскія войскі без бою занялі Мінск, дзе захапілі вялікія запасы харчавання, падрыхтаваныя для арміі Напалеона. 9(21) лістапада Чычагоў з боем узяў Барысаў.

У пачатку кастрычніка ў раёне Полацка пачаў наступленне і корпус П.Вітгенштэйна, павялічаны к гэтаму часу з 15 тыс. да 40 тыс.чалавек. Войскі праціўніка (карпусы Удзіно і Віктора), якія супрацьстаялі яму, налічвалі каля 25 тыс чалавек. Пасля паражэнняў пад Полацкам і Чашнікамі (Лепельскі павет) яны адступілі ў раён мястэчка Чарэя (Сенненскі павет).

У пачатку лістапада ў межы Беларусі вярнуліся галоўныя сілы Напалеона, якія адступалі з Масквы па спустошанай Смаленскай дарозе. Колькасць іх у выніку няспынных баёў, страшэннага голаду і холаду скарацілася да 60–70 тыс. чалавек. З іх больш за палову былі небаяздольныя. 9(21) лістапада Напалеон пакінуў Оршу і накіраваўся на Барысаў, загадаўшы корпусу Удзіно заняць мястэчка Бобр, выйсці ў авангард французскай арміі і выбіць Чычагова з Барысава. Корпус Віктора атрымаў заданне перакрыць шлях войску Вітгенштэйна, якое з Лепельскага павета накіроўвалася на злучэнне з Чычаговым. Гэтыя загады Удзіно і Віктор выканалі.

Войскі Напалеона непасрэдна праследаваў казацкі корпус генерала М. Платава. З флангаў на іх пастаянна нападалі партызаны. Асноўныя ж сілы расійскай арміі на чале з галоўнакамандуючым М. Кутузавым рухаліся паралельна Смаленскай дарозе, але на некалькі дзесяткаў кіламетраў на поўдзень. Яны са спазненнем 12–14 (24–26) лістапада пераправіліся каля мястэчка Копысь Аршанскага павета цераз Дняпро і, не сустракаючы супраціўлення непрыяцеля, ішлі на захад праз мястэчкі Круглае–Смалявічы–Ракаў–Валожын і г.д. У акружэнні французаў у раёне Барысава армія Кутузава не ўдзельнічала.

Напалеону ўдалося дэзінфармаваць расійскае камандаванне адносна выбранага ім месца пераправы праз Бярэзіну. Яно паверыла імітацыі падрыхтоўкі пераправы каля в. Ухалод (ніжэй Барысава), куды і адвёў Чычагоў амаль усю сваю армію. Не паспелі своечасова выйсці да Барысава і асноўныя сілы Вітгенштэйна. У такіх умовах корпус Удзіно змог навесці два масты каля в. Студзёнка (на поўнач ад Барысава), праз якія 14 (26) лістапада пачаўся пераход найбольш баяздольных французскіх часцей. Яны замацаваліся на правым беразе Бярэзіны. Збіць французаў з подступаў да мастоў не ўдалося нават асноўным сілам Чычагова. Пераправа працягвалася пад шквальным агнём расійскіх гармат да раніцы 17(29) лістапада, калі па загаду Напалеона масты былі ўзарваны. На Бярэзіне загінула каля 20 тыс. французаў і да 50 тыс. трапілі ў палон (у большасці небаяздольныя). Пераправіліся не больш за 10 тыс. чалавек. Яны адступалі на Вільню праз Зембін –



Пераправа праз Бярэзіну. 1812 г.

Плешчаніцы – Маладзечна. Пасля бою, які тут адбыўся, і гэта войска, за выключэннем гвардыі, страціла баяздольнасць. 23 лістапада (5 снежня) у Смаргоні Напалеон пакінуў яго, даручыўшы камандаванне І. Мюрату, і спешна ад'ехаў у Парыж. Большая частка французскіх фарміраванняў на чале з Мюратам працягвала адступленне на Вільню, адкуль яны былі выгнаны расійскімі войскамі 28 лістапада (10 снежня) на тэрыторыю Прусіі. Польскі корпус Ю. Панятоўскага са Смаргоні адступаў на Варшаву. Праследаваў яго генерал М. Міларадавіч. Яго войска ў канцы лістапада ўступіла ў Гродна. Карпусы Шварцэнберга і Рэнье, якія размяшчаліся ў раёне Ваўкавыска, Слоніма і Пружан, у пачатку снежня таксама адышлі ў Герцагства Варшаўскае. Іх праследавала армія С. Тучкова. Такім чынам, да пачатку снежня 1812 г. уся тэрыторыя Беларусі была вызвалена ад французскіх акупантаў.

10 (22) снежня ў Вільню прыехаў Аляксандр І. М. Кутузаў раіў яму выдаць указ аб канфіскацыі маёнткаў беларуска-літоўскіх паноў, якія падтрымлівалі Напалеона, і перадачы іх у якасці ўзнагароды рускім генералам і афіцэрам, што вызначыліся ў вайне. Аднак цар не пайшоў на такі крок. Шукаючы прымірэння з краем, ён спецыяльным маніфестам абвясціў амністыю ўсім жыхарам Літвы–Беларусі, хто ўдзельнічаў у вайне супраць Расіі, пры ўмове вяртання на радзіму.

**Вынікі вайны для Беларусі**. Вайна 1812 г. нанесла Беларусі велізарныя людскія, матэрыяльныя і культурныя страты. Амаль абязлюдзелі многія гарады, мястэчкі і вёскі, якія апынуліся ў зоне баявых дзеянняў і руху войскаў. Бясконцыя рэквізіцыі і рабаванні разбурылі гаспадарку. Многія паветы былі ахоплены голадам, масавымі эпідэміямі. У Гродзенскай губерні колькасць коней, у параўнанні з даваеннай, склала каля 40 %, валоў, кароў і свіней – крыху больш за палову. Пасяўныя плошчы зменшыліся на 50 %. У грашовым вылічэнні страты Беларусі ад вайны, паводле няпоўных звестак, складалі каля 52 млн руб. серабром.

Нягледзячы на ваенныя бедствы, беларуска-літоўскія губерні ў 1813 – 1814 гг. не былі вызвалены ад рэкруцкіх набораў і паставак на патрэбы расійскай арміі. Цар выбачыў здраду мясцовым памешчыкам, што пайшлі на службу да акупантаў, але нічога не зрабіў для сялян, нават тых, якія змагаліся ў партызанскіх атрадах на баку расійскіх войскаў. Наадварот, прыгон памешчыкаў у беларускай вёсцы пасля вайны рэзка ўзмацніўся.

## 5. Палітычны рух. Паўстанне 1830–1831 гг.

**Тайныя таварыствы.** Вынікі Венскага кангрэса 1815 г., наданне аўтаноміі і канстытуцыі Царству (Каралеўству) Польскаму выклікалі ў адукаваных колах Літвы і Беларусі адпаведныя спадзяванні і надзеі на далучэнне беларуска-літоўскіх зямель да Царства Польскага. Гэтыя надзеі падмацавала стварэнне ў 1817 г. асобнага Літоўскага корпуса з ураджэнцаў беларуска-літоўскіх і ўкраінскіх губерняў. Яго ўзначаліў галоўнакамандуючы польскім войскам, вялікі князь Канстанцін Паўлавіч. Штандарам была зацверджана "Пагоня" Вялікага княства Літоўскага, змешчаная на двухгаловым срэбным арле. "Са стварэннем Літоўскага корпуса з'явілася надзея на далучэнне да Царства Польскага хаця б Літвы", – пісаў у верасні 1817 г. князь Любецкі да князя А.Чартарыйскага[1].

Важным момантам у гэтых адносінах было выступленне Аляксандра I на Варшаўскім сейме 1818 г., у якім ён падкрэсліў, што аднаўленне Польшчы "вызначана ўрачыстымі дагаворамі". У прыватных размовах цар абяцаў, што не пройдзе і двух гадоў, як да Каралеўства Польскага будуць далучаны Літва, Валынь і Падолія[2].


Т. Зан

Рост польскіх патрыятычных настрояў у Літве і Беларусі ў той час быў адлюстраваны ў мясцовых і літаратурных выданнях. У школах настаўнікі заклікалі вучняў вывучаць польскую гісторыю. Бургамістры ў гарадах і мястэчках звярталіся да насельніцтва з адозвамі, у якіх гаварылася аб хуткім далучэнні да Польшчы. Такія ж настроі былі шырока распаўсюджаны сярод студэнтаў Полацкай езуіцкай акадэміі. Калі прафесар акадэміі Глазко выступіў супраць гэтых настрояў, заявіўшы, што "тут не Польшча, а Расія", у адказ з Вільні і Варшавы прагучалі ў яго адрас пратэсты і абвінавачанні ў "абскурантызме"[3].

У канцы 1817 г. сярод студэнтаў Віленскага універсітэта ўзнікла тайнае таварыства філаматаў, у склад якога ўвайшлі 12 чалавек (Т. Зан, Я. Чачот, А. Міцкевіч, І. Дамейка і інш.). Вакол сябе яны стварылі некалькі легальных і паўлегальных студэнцкіх гурткоў ("Саюз літаратараў", "Саюз натуралістаў"). У маі

[1] *Moscicki H.* Projekty polaczenia Litwy z Krolestwem Polskim, 1813–1830. Warszawa, 1928, S.14.

[2] *Предтеченский А.В.* Очерки общественно-политической истории России в первой четверти XIX века. М.; Л., 1957. С.341.

[3] *Moscicki H.* Projekty polaczenia Litwy z Krolestwem Polskim, 1813–1830. S.14, 15.

1820 г. па просьбе Т.Зана рэктар універсітэта дазволіў загарадныя сходкі студэнтаў дзеля "карыснай забавы". Удзельнікі іх атрымалі назву "прамяністых". Сходкі мелі культурна-асветніцкі і забаўляльны характар. З ліку "прамяністых" Т.Зан выбраў 40 чалавек і ў верасні заснаваў тайнае таварыства філарэтаў, мэтай якога была вызначана "ўзаемная дапамога ў нястачы, у набыцці ведаў і ў замацаванні духоўнасці". Арганізацыю падзялілі на шэсць аддзяленняў, якія адпавядалі факультэтам універсітэта. На чале іх паставілі філаматаў, што быццам аб'ядноўвала гэтыя таварыствы ў адно цэлае, у якім філарэты знаходзіліся на ніжэйшай ступені. Таемнай мэтай таварыства з'яўляліся падрыхтоўка і аб'яднанне сіл для аднаўлення Польшчы[1].



Партрэт А. Міцкевіча.
Мастак В. Ваньковіч. 1828 г.

У 1819 г. былі створаны два таварыствы вучнямі Свіслацкай гімназіі. У склад аднаго з іх увайшлі Д.Шаеўскі, І.Янкоўскі, Л.Малахоўскі і інш. Яны збіраліся перад заняткамі, зачытвалі свае творы. Пры гэтым лічылі неабходным "сваёй працай удасканаліць айчынныя мовы і памножыць творы польскага красамоўства". Другое таварыства атрымала назву "маральнага". У складзе яго былі вучні Я.Абрамовіч, І.Качальскі, М. Забела і інш. Яны таксама займаліся польскай мовай, пісалі сачыненні і вершы на гістарычныя тэмы[2].

У пачатку 20-х гг. у піярскім вучылішчы Полацка таксама была ўтворана тайная група пад назвай "Таварыства філарэтаў". Яго заснавальнікамі былі выкладчыкі вучылішча, былыя студэнты Віленскага універсітэта Брадовіч і Львовіч[3].

28 красавіка 1822 г. папячыцель Віленскай навучальнай акругі князь А.Чартарыйскі загадаў стварыць камітэт для даследавання дзейнасці тайных таварыстваў. Для правядзення следства ў Вільню прыбыў у 1823 г. сенатар М.Навасільцаў. Па яго загаду было арыштавана каля 100 чалавек. Пасля вынясення прысуду ў 1824 г. 20 чалавек былі высланы ў Пецярбург і ў аддаленыя губерні Расіі (А.Міцкевіч, Ю. Яжоўскі, Ф.Малёўскі і інш.), а найбольш актыўныя (Т.Зан, Я.Чачот, А.Сузін) павінны былі адбываць турэмнае зняволенне з наступнай высылкай на Урал[4].

Філамат М.Рукевіч, які ў 1823 г. за недахопам улік быў адпушчаны на волю, стаў адным з арганізатараў у мястэчку Бранск Беластоцкага павета тайнага таварыства "Ваенныя сябры". У ім былі аб'яднаны афіцэры Літоўскага корпуса, мясцовая шляхта і чыноўнікі, вучнёўская моладзь. Таварыства мела тры сту-

---

[1] *Вержбовский Ф.* К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819–1823. Варшава, 1898. С.20, 21, 24, 26, 38–40, 41.

[2] Там жа. С.7, 11, 13, 14.

[3] Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С. 568.

[4] *Вержбовский Ф.* К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819–1823. С. 58.

пені: "Ваенныя сябры" – кіраўнікі таварыства і афіцэры; "Згода" – грамадзянскія асобы і "Заране"– вучні Свіслацкай і Беластоцкай гімназій. Мэта таварыства была вызначана як "дабрабыт усяго грамадства". Кіраўнікі "Ваенных сяброў" раней належалі да навагрудскай масонскай ложы "Вузел адзінства", з членамі якой быў добра знаёмы А.Міцкевіч.

У 1819 г. у Каралеўстве Польскім была заснавана тайная арганізацыя "Нацыянальнае масонства", якая паставіла перад сабой такія задачы, як падрыхтоўка да аднаўлення незалежнасці Польшчы і правядзенне ў ёй рэформаў. Для канспіратыўнай дзейнасці былі выкарыстаны масонскія ложы. Арганізацыя змагла аб'яднаць да 200 чалавек і стварыць правінцыяльныя ложы. У маі 1821 г. на яе аснове было створана "Патрыятычнае таварыства", на чале якога стаяў Цэнтральны камітэт. Ён праводзіў актыўную агітацыйную работу для распаўсюджання ідэй таварыства. Для вярбоўкі новых членаў у Вільню быў накіраваны эмісар Аборскі. На базе віленскага аддзялення "Нацыянальнага масонства" ён стварыў "Патрыятычнае таварыства", у склад якога ўвайшлі прыхільнікі ідэі аднаўлення Польшчы ў межах да 1772 г. У склад рады таварыства на чале з М.Рамерам увайшлі князь К.Радзівіл, І.Вайніловіч, К.Навамейскі і А.Солтан. Але гэта арганізацыя не змагла наладзіць цесныя сувязі з Варшавай і практычна бяздзейнічала. З яе раскрыццём да следства былі прыцягнуты каля 40 чалавек з Мінскай, Віленскай, Гродзенскай губерняў і Беластоцкай вобласці, большасць з якіх была апраўдана[1].

У рускіх дзекабрысцкіх тайных арганізацыях "польскае пытанне" выклікала вострую рэакцыю, асабліва абяцанні Аляксандра І вярнуць палякам землі, якія адышлі да Расіі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. Так, у створаным у 1816 г. "Саюзе ўратавання" (членамі якога былі М. і А. Мураўёвы, С.Трубяцкой, П.Пестэль і інш.) палічылі гэтыя выказванні за непавагу з боку імператара да нацыянальнага гонару Расіі і яе дзяржаўных інтарэсаў. Тэрытарыяльнае пытанне ставілася і пры перагаворах у пачатку 20-х гг. паміж дзекабрыстамі і польскім "Патрыятычным таварыствам". Вясной 1824 г. П.Пестэль інфармаваў у Пецярбургу кіраўнікоў "Паўночнага таварыства" аб выніках перагавораў па пытаннях, звязаных з прызнаннем незалежнасці Польшчы і далучэннем да яе "польскіх губерняў". Такая ідэя не спадабалася кіраўнікам таварыства, якія лічылі далучаныя землі "старажытнай маёмасцю нашай"[2].

У снежні 1825 г. па ініцыятыве афіцэраў К.Ігельстрома і А.Вягеліна Літоўскі піянерскі батальён адмовіўся прысягаць імператару Мікалаю І. За гэта, а таксама за ўдзел у тайных таварыствах капітан К.Ігельстром, паручнік А.Вягелін, М.Рукевіч, М.Вільканец і іншыя былі спачатку асуджаны да смяротнай кары, якую пазней замянілі на розныя тэрміны катаргі або вайсковай службы на Каўказе.[3]

Разгром дзекабрыстаў у Расіі прывёў да росту апазіцыйнага руху ў Царстве Польскім. Ідэі ўзброенага паўстання супраць самадзяржаўя, якія існавалі ў польскіх тайных таварыствах, знайшлі водгук і сярод студэнцкай моладзі Віленскага універсітэта.

---

[1] *Ольшанский П.* Декабристы и польское национально-освободительное движение. М., 1959. С.43, 45, 49; Государственные преступления в России в XIX в. СПб., 1906. Т.1. С.75, 76; Исторические записки. М., 1957. Т.60. С.297.

[2] *Ольшанский П.* Декабристы и польское национально-освободительное движение. С.77, 78.

[3] Там жа. С.198.

У 1827 г. ва універсітэце было ўтворана тайнае таварыства "Сармацкае племя" (або "Прыхільнікі Айчыны"), мэтай якога з'яўлялася аднаўленне Польшчы як самастойнай і незалежнай дзяржавы. Членамі яго былі студэнты К.Зах, Грантоўскі, Лісоўскі і інш. У 1828 г. улады раскрылі таварыства. Яго члены ў большасці былі аддадзены ў салдаты і адпраўлены на Каўказ[1].

**Паўстанне 1830–1831 гг.** На тэрыторыі Каралеўства Польскага адбывалася далейшая ідэалізацыя Рэчы Паспалітай, аднаўленне якой у былых межах да 1772 г. было асноўнай мэтай для тайных арганізацый. Рэвалюцыя ў Францыі, нацыянальна-вызваленчыя рухі ў Бельгіі, Італіі паскорылі набліжэнне паўстання ў Каралеўстве Польскім. У ноч на 29 лістапада 1830 г. пачалося паўстанне ў Варшаве. Паміж арыстакратычным лагерам, які ўзначаліў князь А. Чартарыйскі, і адноўленым "Патрыятычным таварыствам" пачалася барацьба за кіраўніцтва паўстаннем. 2 снежня А.Чартарыйскі ад імя Адміністрацыйнага савета, які захапіў кіраўніцтва паўстаннем, звярнуўся з заклікам да палякаў, у якім нагадваў, што царскі ўрад павінен дакладна прытрымлівацца канстытуцыі 1815 г. і далучыць да Каралеўства Польскага былыя ўсходнія правінцыі Рэчы Паспалітай. 3 снежня "Патрыятычнае таварыства" прад'явіла Адміністрацыйнаму савету шэраг патрабаванняў, сярод якіх было і патрабаванне, каб савет заклікаў жыхароў Літвы, Беларусі і Украіны далучыцца да паўстання.

Замест савета быў створаны Часовы ўрад, у склад якога ўвайшлі А.Чартарыйскі, І Лялевель, Ю.Нямцэвіч і інш. Урад аб'явіў аб скліканні сейма і ўстанаўленні дыктатуры галоўнакамандуючага польскіх войскаў Ю.Хлапіцкага. 18 снежня пачаў працаваць сейм, які аб'явіў паўстанне ўсенародным, а 20 снежня быў прыняты "Маніфест польскага народа". Ён адзначыў, што польскі народ паўстаў, каб "вярнуць сваю незалежнасць і старажытную магутнасць" і дасягнуць "злучэння" са сваімі братамі, якія пакутуюць пад прыгнётам "пецярбургскага кабінета".

Дыктатар, які быў праціўнікам вайны з Расіяй, накіраваў адно пасольства да Мікалая І для пачатку перагавораў, а другое – за падтрымкай да еўрапейскіх двароў. Мікалай І адмовіўся ўступаць у перагаворы і 18 студзеня 1831 г. Ю.Хлапіцкі зняў з сябе паўнамоцтвы дыктатара. 29 студзеня рашэннем сейма быў створаны Нацыянальны ўрад на чале з А.Чартарыйскім. Галоўнакамандуючым польскага войска быў прызначаны М.Радзівіл.

У сваю чаргу царскі ўрад прымаў меры, каб абмежаваць распаўсюджванне паўстання ў заходніх губернях. У снежні 1830 г. Заходняя Беларусь, Літва і Заходняя Украіна былі аб'яўлены на ваенным становішчы і на гэтых тэрыторыях павялічана колькасць войска. На маёнткі памешчыкаў, якія з'ехалі ў Каралеўства Польскае, быў накладзены арышт, звольнены многія з мясцовых чыноўнікаў.

Сярод насельніцтва пачаўся збор грошай і зброі для падтрымкі паўстання, распаўсюджваліся атрыманыя з Польшчы лістоўкі. Адна з іх утрымлівала зварот Нацыянальнага ўрада ад 25 студзеня 1831 г. да жыхароў Літвы, Валыні і Падоліі. У дакуменце паведамлялася, што польскі сейм і ўрад абвясцілі цэласнасць Польшчы, і ўзгадваліся тыя часы, калі іх продкі разам хадзілі на Маскву, не шкадуючы свайго жыцця і маёнткаў для выратавання агульнай Айчыны[2].

У студзені 1831 г. пры падтрымцы эмісараў з Варшавы быў створаны Віленскі цэнтральны паўстанцкі камітэт, у склад якога ўвайшлі С. Шумскі,

---

[1] РДГА у С.-Пецярбургу, ф.735, воп.10, спр.55, арк.1–6 адв., 16–16 адв.

[2] Вестник Московского государственного университета. Серия IX. История. 1966. №2. С.46–48.

А. Гарэцкі, М. Балінскі, В. Пяткевіч, Л. Замбржыцкі, Э. Рэмер, Ю. Грабніцкі. Камітэт распрацаваў план паўстання, згодна з якім для падрыхтоўкі паўстання на месцах было вырашана стварыць тайныя павятовыя паўстанцкія камітэты. У паветы былі накіраваны прадстаўнікі камітэта.

У лютым Цэнтральны камітэт сабраў у Вільні прадстаўнікоў павятовых камітэтаў. Было вырашана пачаць паўстанне з Віленскай губерні, дзе знаходзілася невялікая колькасць царскіх войскаў (3 тыс. у Вільні і інвалідныя каманды ў павятовых гарадах). У Гродзенскай губерні і Беластоцкай вобласці гэтых войскаў было значна больш[1].

У канцы сакавіка 1831 г. пачалося паўстанне ў Літве і Заходняй Беларусі. Віленскі Цэнтральны камітэт не змог кантраляваць ход гэтага паўстання. У кожным павеце быў створаны свой павятовы ўрад, які ўзначальвалі мясцовыя памешчыкі (П.Важынскі – у Ашмянскім павеце, В.Барткевіч – у Свянцянскім, І.Гяцэвіч – у Вілейскім і г.д.).

Урад кожнага павета прыводзіў насельніцтва да прысягі, у чым яму дапамагала каталіцкае духавенства, аб'яўляў рэкруцкі набор у войска, выдаваў розныя звароты да насельніцтва. Напрыклад, у Ашмянскім, Вілейскім, Дзісенскім паветах кіраўнікі паўстання заклікалі насельніцтва "ўзяцца за зброю, каб здабыць Айчыну і свабоду", абяцалі пасля перамогі скараціць тэрмін службы ў войску і надзяліць правамі, якія маюць сяляне і памешчыкі ў вольных краях[2].

У красавіку паўстанне ахапіла ўсю Віленскую губерню, але сувязь паміж паветамі была перарвана. Таму Віленскі Цэнтральны камітэт вырашыў пачаць падрыхтоўку да захопу Вільні і стварыць аб'яднанае войска на чале з К.Залускім, кіраўніком паўстання Упіцкага павета. У дапамогу яму быў створаны спецыяльны камітэт, якому былі падпарадкаваны войскі сямі паветаў. Залускі разаслаў загады ў Віленскі, Свянцянскі, Браслаўскі, Ашмянскі, Троцкі, Вількамірскі і Упіцкі паветы аб неабходнасці сканцэнтраваць паўстанцкія войскі да 24 красавіка каля Вільні. Але замест 15–20 тыс. чалавек (такое войска спадзяваліся сабраць) падышло ўсяго каля 7 тыс. Таму было вырашана перанесці захоп горада на пазнейшы тэрмін[3].

Паўстанне распаўсюдзілася і на Мінскую губерню. Некаторыя з памешчыкаў Барысаўскага павета збіралі зброю і стваралі атрады. Да сярэдзіны мая паўстанне ахапіла Мазырскі і Рэчыцкі паветы. Паўстанцкі кіраўнік Оўручскага павета В.Галавінскі ўступіў у пачатку мая на тэрыторыю Мазырскага павета і захапіў усе паштовыя станцыі. Сумесна з ім дзейнічаў і атрад мазырскага памешчыка Кеневіча. У чэрвені яны адышлі ў бок Оўручскага павета. У Рэчыцкім павеце паўстанцы атрадаў Аскіркі і Крушэўскага дзейнічалі ў мястэчках Нароўлі, Барбарова. Усяго ў атрадах Пінскага, Мазырскага і Рэчыцкага паветаў налічвалася каля 1300 чалавек[4].

У канцы мая на тэрыторыю беларуска-літоўскіх губерняў уступіў атрад генерала Д. Хлапоўскага (каля 700 чалавек), які быў пасланы з Польшчы для падтрымкі. Да яго далучылася яшчэ некаторая частка паўстанцкіх атрадаў, у хуткім часе атрад налічваў каля 5 тыс. чалавек[5]. Неўзабаве з Польшчы прыйшоў і 12-тысячны корпус генералаў А.Гелгуда і Г.Дэмбінскага, які

---

[1] *Пузыревский А.* Польско-русская война 1831 г. СПб., 1890. Т.1. С.102.

[2] Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С.375.

[3] *Смит Ф.* История польского восстания и войны 1830–31 года. СПб., 1863. Т.2. С.364, 368.

[4] Вестник Московского государственного университета. Серия IX. История. 1966. №2. С.55.

[5] *Смит Ф.* История польского восстания и войны 1830–31 года. Т.2. С.265, 266.

пачаў наступленне на Вільню, куды накіроўваўся і атрад Д.Хлапоўскага. Камандаваў аб'яднанымі войскамі А.Гелгуд. 11 чэрвеня 1831 г. ён сфарміраваў Часовы паўстанцкі ўрад, старшынёй якога быў абраны Т.Пінкевіч.

Згодна з інструкцыяй, якую атрымалі з Варшавы, было пачата фарміраванне "паспалітага рушання". Усе жыхары мужчынскага полу ад 18 да 45 гадоў павінны былі мець агнястрэльную зброю або касу. Ад двух сялян або мяшчан неабходна было прадставіць аднаго рэкрута, а кожны шляхціц указанага ўзросту павінен быў уступіць у войска. Аб'яднаныя сілы каля Вільні склалі каля 24 тыс. чалавек. 19 чэрвеня пачаўся штурм горада. Але сілы былі няроўнымі, і дрэнна ўзброеным паўстанцам давялося адступіць[1].

У маі – жніўні 1831 г. у Гродзенскай губерні паўстанцкім рухам былі ахоплены Лідскі, Навагрудскі, Пружанскі, Кобрынскі і Слонімскі паветы. У мястэчку Картуз-Бяроза ў канцы мая ксёндз Камінскі арганізаваў атрад з 30 чалавек, але ён хутка быў разбіты. У маёнтку Плянты стварыў свой атрад Т.Пуслоўскі, які ўзяў Драгічын, але хутка з яго быў выбіты і потым разбіты ў Пінскім павеце. У Навагрудскім павеце ў ліпені стварыў атрад павятовы маршалак дваранства Ю.Кашыц. 9 ліпеня паўстанцы ўзялі мястэчка Беліца, а потым Навагрудак. 15 ліпеня гэты атрад злучыўся з атрадам Г.Дэмбінскага і яны адышлі ў бок Белавежскай пушчы.

Некалькі атрадаў дзейнічалі ў Слонімскім павеце: Ю.Незабытоўскага (600 чалавек), Сівіцкага і Вронскага. Яны таксама перамясціліся ў Белавежскую пушчу, дзе ўжо дзейнічалі атрады К.Нямцэвіча, Я.Дылінскага і інш. Туды ж у сярэдзіне ліпеня прыбыў атрад Д.Хлапоўскага. Супраць іх былі выстаўлены ўзмоцненыя сілы расійскага войска на чале з генераламі Баленам і Саваіні. Не маючы надзеі на поспех, аб'яднаныя сілы паўстанцаў 19 ліпеня рушылі ў Польшчу.

Некалькі атрадаў (М.Гедройца, М.Шыманскага, С.Панкоўскага) яшчэ дзейнічалі ў Налібоцкай пушчы. Аднак вестка аб узяцці расійскімі войскамі 8 верасня Варшавы, 9 кастрычніка – Модліна, а 21 кастрычніка – Замосця вымусіла паўстанцаў, якія яшчэ заставаліся ў лясах, разысціся.

Рэпрэсіўныя меры супраць асоб, якія прымалі ўдзел у ваенных дзеяннях на баку паўстанцаў, пачаліся яшчэ да падаўлення паўстання. Указам Мікалая I ад 22 сакавіка 1831 г. Сенатам быў зацверджаны парадак "аб ажыццяўленні і выкананні прысуду над бунтаўшчыкамі". Згодна з ім шляхту, якая прымала ўдзел у паўстанні са зброяй, належала судзіць ваенным судом і прыгавор выконваць на месцы, маёнткі браць у казну, дзяцей асуджаных аддаваць у ваенныя кантаністы, прадстаўнікоў падатных саслоўяў адпраўляць на вайсковую службу ў Сібір. Сялянам жа, якія пасля выхаду ўказа вярталіся да свайго памешчыка, давалася дараванне.

Указам 6 мая 1831 г. былі выдзелены тры разрады "злачынцаў": да першага аднасілі кіраўнікоў, да другога – тых, хто ўдзельнічаў у баявых дзеяннях, да трэцяга – усіх іншых. Маёнткі абвінавачаных секвестраваліся. Ад секвестру былі пазбаўлены тыя, хто сам з'явіўся на працягу месяца пасля публікацыі ўказа і пакаяўся або даказаў, што яго прымусілі далучыцца да паўстання. Да следства за ўдзел у паўстанні ў беларуска-літоўскіх губернях было прыцягнута 2878 чалавек. З іх 1091 чалавек (38 %) пражывалі ў Віленскай, 931 (32,3 %) – у Гродзенскай, 837 (29, 8 %) – у Мінскай губернях. З Віцебскай губерні было 15 чалавек, а з Магілёўскай – 4. Сярод іх было 336 памешчыкаў, 103 прыватныя служачыя, 86 студэнтаў, 73 афіцэры, 6 ад-

[1] *Смит Ф.* История польского восстания и войны. Т.2. С.265, 266.

надворцаў, 627 сялян[1]. Усяго канфіскавана маёнткаў: у Віленскай губерні – 118 (больш за 25 тыс. прыгонных мужчынскага полу); у Гродзенскай – 70 (28,6 тыс.); у Мінскай – 22 (15,5 тыс.); у Віцебскай – 6 (15 тыс.) і ў Магілёўскай – адзін маёнтак (1,5 тыс.)[2].

**Курс на русіфікацыю**. Паўстанне 1830 – 1831 гг. выклікала рэзкую перамену палітычнага курсу царскага ўрада ў Беларусі, Літве і Правабярэжнай Украіне. Пераканаўшыся ў палітычнай нядобранадзейнасці мясцовага дваранства, урад Мікалая I зрабіў стаўку на поўную уніфікацыю дзевяці заходніх губерняў з Цэнтральнай Расіяй, г.зн. на русіфікацыю іх як адзіную надзейную гарантыю ўтрымання гэтай тэрыторыі ў складзе Расійскай імперыі. У верасні 1831 г. у Пецярбургу быў створаны Заходні камітэт для выпрацоўкі палітыкі ўрада ў дзевяці заходніх губернях адносна сістэмы кіравання, суда, асветы, культуры, шляхецкага саслоўя і інш.

Для абмежавання польскага ўплыву праз асвету і мову яшчэ ў лютым 1831 г. было забаронена выкарыстоўваць у справаводстве Гродзенскай і Віленскай губерняў польскую мову. У 1832 г. быў закрыты Віленскі універсітэт. Указам 1836 г. забаранялася выкладаць у навучальных установах польскую мову як самастойны прадмет[3].

Шляхта з'яўлялася тым галоўным элементам, які актыўна ўдзельнічаў у паўстанні, звязваючы свае спадзяванні на паляпшэнне эканамічнага і сацыяльнага становішча з аднаўленнем Польшчы ў межах 1772 г. У 1816 г. у Віцебскай і Магілёўскай губерні налічвалася 28 тыс., у Мінскай, Віленскай і Гродзенскай – 110,5 тыс. шляхты. Царскі ўрад неаднаразова спрабаваў скараціць колькасць шляхты, асабліва немаёмаснай, шляхам высялення на ўкраінскія і крымскія землі. У 1825 г. дробная зямельная шляхта была абкладзена натуральнымі павіннасцямі нароўні з дзяржаўнымі сялянамі. Паводле ўказа 19 кастрычніка 1831 г. шляхта, не зацверджаная ў дваранскім званні, пераводзілася з дваран у разрад аднадворцаў або грамадзян. Пры гэтым значная колькасць дробнай шляхты не змагла прадставіць дакументы аб сваім паходжанні, таму яе колькасць сярод беларускага і літоўскага насельніцтва зменшылася (з 6,2 % у 1816 г. да 5,5 % у 1834 г.)[4].

У мясцовыя адміністрацыйныя органы заходніх губерняў прызначалі расійскіх чыноўнікаў, а мясцовых жыхароў прымалі толькі з пасведчаннямі аб іх "добранадзейнасці", зацверджанымі губернатарамі. Для заахвочвання рускіх да пераезду ім давалася перавага ў аплаце і павышэнні па службе.

Указам ад 25 чэрвеня 1840 г. было адменена дзеянне Статута ВКЛ на ўсе галіны гаспадарчага і палітычнага жыцця. Усе судовыя, адміністрацыйныя акты павінны былі складацца толькі на рускай мове[5].

**Ліквідацыя уніяцкай царквы.** Мікалай I, каб узмацніць пазіцыі імперыі ў заходніх губернях, стаў на шлях скасавання уніяцкай царквы. Мэтай гэтага мерапрыемства было павелічэнне колькасці праваслаўнага насельніцтва як сацыяльнай апоры расійскіх улад.

У канцы 1827 г.– пачатку 1828 гг. з'явіўся праект скасавання уніяцкай царквы, падпісаны міністрам народнай асветы і галоўным кіраўніком дэпар-

---

[1] *Горбачева О.В.* Восстание 1830-31 гг. на Беларуси: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1995. С.16.

[2] Белоруссия в эпоху феодализма: У 4 т. Мн., 1979. Т.4. С.121.

[3] Там жа. С.83, 84; Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С.58.

[4] Kwartalnik Histaryczny. T.XCVIII. Warszawa,1991. № 3. S.59; *Самбук С.М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века. М., 1980. С.14, 20.

[5] Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С.584, 585.

тамента замежных веравызнанняў А.Шышковым. Асноўная яго ідэя заключалася ў тым, каб пазбавіць уніятаў ад уплыву каталіцтва шляхам скасавання часткі базыльянскіх кляштараў, стварэння асобнай ад каталіцкай грэка-уніяцкай духоўнай калегіі; адкрыцця новых навучальных устаноў для перападрыхтоўкі юнакоў у праваслаўных традыцыях. Таксама прадугледжвалася ліквідаваць залежнасць уніяцкага духавенства ад памешчыкаў-католікаў, якія, з'яўляючыся кцітарамі, аказвалі не толькі матэрыяльную дапамогу царкве, але і ўплывалі на выбар кандыдатуры святара ў сваім маёнтку[1].

Указам ад 28 красавіка 1828 г. была заснавана асобная ад каталіцкай грэка-уніяцкая духоўная калегія. Адначасова замест чатырох уніяцкіх епархій створаліся дзве – Беларуская і Літоўская. Улады звярнулі ўвагу і на адукацыю уніяцкага духавенства. Забаранялася накіроўваць юнакоў-уніятаў на вучобу ў Рым і Галоўную каталіцкую семінарыю ў Вільню; тыя, хто там ужо вучыліся, былі адкліканы. Было прызнана мэтазгодным адкрыццё грэка-уніяцкай акадэміі ў Полацку. Каб паменшыць уплыў польскай мовы на уніяцкіх вернікаў, паступіў загад выключыць яе з казанняў і навучання Закону Божаму і карыстацца мясцовымі гаворкамі[2].

За ўдзел базыльянскіх манахаў у паўстанні 1830–1831 гг. 2/3 іх кляштараў было ліквідавана (з 83 засталося толькі 23), адначасова скасоўвалася ўлада правінцыялаў ордэна. Урад дазволіў манахам скасаваных кляштараў, якія раней былі католікамі, вярнуцца ў каталіцызм. Да 1836 г. з ордэна адышло каля 200 базыльян[3].

Адной з мер па ўмацаванні праваслаўя ў Беларусі было адкрыццё ў 1833 г. трэцяй праваслаўнай епархіі – Полацкай, епіскап якой Смарагд (А. Кржыжаноўскі) далучыў на працягу 1833–1836 гг. да праваслаўя звыш 120 тыс. уніятаў[4].

Наступным крокам было стварэнне ў 1836 г. Сакрэтнага камітэта па уніяцкіх справах. Абгрунтоўваючы неабходнасць далучэння уніяцкай царквы да праваслаўнай, міністр унутраных спраў Д. Блудаў адзначыў на пасяджэнні камітэта, што уніятаў неабходна ператвараць з "напаўпаляка – рымскіх католікаў, у верных сыноў нашай царквы і Расіі і тым самым паставіць моцны заслон варожым пакушэнням злачынцаў, якія яшчэ мараць аб раздзяленні"[5].

23 лютага 1838 г. памёр уніяцкі мітрапаліт І. Булгак, які быў апошняй перашкодай у справе скасавання уніі. Грэка-уніяцкую калегію ўзначаліў літоўскі епіскап І.Сямашка, які разам з епіскапамі В.Лужынскім, А.Зубко падтрымалі ідэю ліквідацыі уніяцтва.

У маі 1838 г. у заходнія губерні па загаду цара быў накіраваны надворны саветнік В.Скрыпіцын, які павінен быў наглядаць за настроем уніяцкага духавенства і прыхаджан. У сваім дакладзе обер-пракурору Свяцейшага Сінода ён адзначыў, што ў 573 цэрквах уніяцкіх епархій былі зроблены іканастасы, богаслужэнне вялося даволі правільна; маскоўскія служэбнікі былі амаль ва ўсіх цэрквах, духавенства ведала, што іх продкі былі праваслаўнымі. Уніяцкіх прыхаджан ён падзяліў умоўна на тры разрады: добранадзейныя (толькі уніяты Літоўскай епархіі – 633 прыходы); пакорлівыя

---

[1] *Морошкин М.Я.* Воссоединение унии // Вестник Европы. 1892. №4. С.621, 622, 628–639.

[2] Записки Иосифа Митрополита Литовского. СПб., 1883. Т.1. С.393, 394.

[3] Studia Teologiczna. №5-66. 1988. S.266.

[4] *Сапунов А.* Витебская старина. Витебск, 1888. Т.5. С.CXXV, CXXVI.

[5] РДГА у С.-Пецярбургу. ф.797, воп.87, арк.1 адв., 8 адв., 9.

(усе паветы Мінскай губерні і амаль усе Віцебскай і Магілёўскай губерняў 441 прыход), падазроныя (паўночныя паветы Віцебскай губерні – Себежскі, Полацкі, Лепельскі і Дрысенскі, Дзісенскі павет Мінскай, Сенненскі і Мсціслаўскі – Магілёўскай губерняў)[1].

Каб пазбегнуць хваляванняў, прымаліся ўрадавыя меры. Генерал-губернатары павінны былі наглядаць за станам губерняў. У студзені 1839 г. у Віцебскую губерню быў накіраваны 29-ы казачы полк. 12 лютага 1839 г. у Полацку ў прысутнасці вышэйшага уніяцкага духавенства быў падпісаны Саборны Акт з просьбай аб далучэнні уніяцкай царквы да праваслаўнай. Пастанова Свяцейшага Сінода была зацверджана Мікалаем І. Усе святочныя багаслужэнні з гэтай нагоды прайшлі ў Беларусі і Літве спакойна, не выклікаючы сур'ёзных пратэстаў. На былых уніяцкіх святароў былі распаўсюджаны ўсе тыя пастановы, якія тычыліся праваслаўнага духавенства[2].

Нягледзячы на шэраг мерапрыемстваў па ўзмацненню працэсу русіфікацыі ў заходніх губернях, 6 красавіка 1841 г. віленскі ваенны губернатар, гродзенскі, мінскі і беластоцкі генерал-губернатар Ф.Міркавіч у справаздачы Мікалаю І адзначаў, што мясцовыя жыхары "наогул маюць да карэнных рускіх нейкую непрыязнасць і няшчырасць... Імкненне іх да падтрымкі духа ў кірунку польскай народнасці ставіць пастаянную перашкоду да зліцця пачуццяў і ўсталявання ўзаемнага даверу ... Каталіцкае духавенства, пахваляючыся тут багаццем, усталёўвае ў масе рашучае паняцце, што яно ёсць пануючае, – і да таго часу, пакуль уплыў гэты будзе ў сіле, праваслаўнае духавенства, знаходзячыся ў беднасці, ніколі не прыдбае таго значэння, якое яму належыць"[3]. Такая выснова генерал-губернатара наконт праведзеных рэформаў сведчыла аб тым, што палітыка русіфікацыі не дасягнула той мэты, якую ставілі перад сабой царскія ўлады.

## 6. Грамадскі рух у 30–50-я гг.

**Кансерватыўная плынь.** Пасля паўстання 1830–1831 гг. шырокае распаўсюджанне атрымалі кансерватыўныя погляды. Ідэалогія кансерватызму аформілася ў Еўропе ў канцы XVIII ст. як рэакцыя на рацыяналізм і падзеі Вялікай Французскай рэвалюцыі. Кансерватары атакавалі змест ліберальных канцэпцый, заснаваных на дактрыне натуральнага права, ставілі пад сумненне пытанне ідэі натуральнага стану, грамадскага дагавора, прынцыпы суверэннасці народа і правоў чалавека; асноўнымі для іх былі паняцці "гісторыя", "жыццё", "нацыя"[4]. Гістарычнае развіццё, з іх пункту гледжання, кіравалася божай воляй, таму чалавек павінен падпарадкоўвацца законам маралі, якія даў Бог; рэлігія для іх наогул была найважнейшай асновай грамадства[5]. Разам з рэлігіяй вялікую ролю ў падтрыманні балансу і парадку ў грамадстве кансерватызм адводзіў саслоўна-карпаратыўным формам грамадскага жыцця. Гарадская і сялянская абшчыны, цэх, саслоўная іерархія ў цэлым выконвалі, па іх меркаванні, сувязную ролю паміж індывідам і дзяр-

[1] *Шавельский Г.* Последнее воссоединение с православной церковью униатов Белорусской епархии (1833–1834). С.274–277.

[2] Там жа. С.297, 301, 355, 360, 378.

[3] *Миркович Ф.Я.* 1789–1886. Его жизнеописание, составленное по собственным его запискам, воспоминаниям близких людей и подлинным документам. СПб., 1889. Т.1. С.258–261.

[4] The Conservative Tradition in European Thought. N.Y., 1970; *Манхейм К.* Консервативное мышление: Избранные произведения. М., 1994.

[5] *Токвиль А.* О демократии в Америке. М., 1897.С. 241

жавай, прадухілялі іх узаемную адчужанасць; роўнасць жа, якая разбурае гэту іерархію, робіць індывіда бездапаможным перад тварам цэнтральнай улады і прыводзіць да дэзарганізацыі жыцця грамадства і дзяржавы, да хаосу. Наогул парадак і стабільнасць – асноўныя каштоўнасці для кансерватараў.

У грамадскім жыцці Беларусі ў першай палове XIX ст. кансерватызм праяўляўся перш за ўсё ў адносінах да рэлігіі, нацыянальных ідэй, а таксама ў крытыцы лібералізму. Так, у адным з артыкулаў часопіса "Dziennik Wilenski " адзначалася, што заклік да роўнасці і братэрства прывёў у Еўропе да спусташэнняў і кровапраліцця, а слова "лібэральнасць" пасыпана попелам пажарышчаў [1]. Мясцовая арыстакратыя "ішла за духавенствам, не ўдавалася ў спрэчкі, брала прыклад з французскай раялісцкай эміграцыі..., чытала Р. Шатабрыяна..., выконвала каталіцкія абрады" і " практычна ніякімі іншымі спосабамі не дэманстравала свае погляды"[2]. Надзвычай папулярнымі былі і ідэі французскага палітычнага дзеяча і філосафа, аднаго з заснавальнікаў кансерватыўнай дактрыны Ж. дэ Местра (1753–1821), які быў прыхільнікам аўтакратыі і рэлігійнага правідэнцыялізму, лічыў, што дзеянні людзей вызначаны " божай рукой"[3]. Тыя ж ідэі распаўсюджваліся прафесарамі Полацкай езуіцкай акадэміі і часопісам "Miesięcznik Połocki" (1818–1820). У ліпені 1812 г. граф дэ Местр прысутнічаў на ўрачыстым акце Полацкай езуіцкай акадэміі [4].

Шырокае распаўсюджанне сярод адукаваных пластоў Беларусі атрымала ў гэты час ідэя рамантычнага правідэнцыяльнага нацыяналізму (польскага месіянізму), якая, як правіла, спалучалася з ідэалізацыяй даўніны, традыцый і бытавых асаблівасцей народнасці.

У выніку дзейнасці А. Міцкевіча і яго сяброў – студэнтаў Віленскага універсітэта, асабліва гуртка "прамяністых", у Беларусі распаўсюджваліся ідэі польскай нацыянальнай выключнасці. Каля 1820 г. у Вільні пачаў сваю літаратурную дзейнасць відны ідэолаг польскага месіянізму А. Тавяньскі, з якім цесна зблізіўся А. Міцкевіч у 1840-х гг. [5] Прасякнутая духам месіянізму "Кніга народа польскага і польскага пілігрымства" А. Міцкевіча была вельмі папулярнай сярод вучнёўскай моладзі. Пад яе ўплывам знаходзіліся нават такія радыкальна настроеныя дзеячы, як Ф. Савіч, А. Рэніер і інш. Знаходзячыся ў турме, Ф. Савіч напісаў "Споведзь каючагася грэшніка", якая вельмі нагадвала вышэйназваную працу А. Міцкевіча не толькі па форме, але і сваёй містычнай афарбоўкай: праніклівы апафеоз вольнасці спалучаўся са зваротамі да ўсявышняга[6].

Феадальны рамантызм, прапаведзь каталіцкай рэлігійнасці і крытыка рацыяналізму XVIII ст. запоўнілі старонкі мастацка-публіцыстычных выданняў, якія выходзілі ў Вільні, Гродне і Віцебску ў 30–50-х гг. ("Niezabudka", " Znicz" "Atheneum", "Ondyna", "Rubon"). Гэтыя выданні знаходзіліся

---

[1] Dziennik Wilenski. 1816. T. III. S. 77–90; *Chmielowski P.* Liberalism i obskurantysm na Litwie i Rusi (1815–1823). Warszawa, 1898. S.43.

[2] *Chmielowski P.* Liberalism i obskurantysm na Litwie i Rusi (1815–1823). S.20.

[3] The Conservative Tradition in European jhonght. P. 25.

[4] *Chmielowski P.* Liberalism i obskurantysm na Litwie i Rusi (1815–1823). S.36.

[5] *Кареев Н.* История Западной Европы в новое время: В 7т. Т.4: Первая треть XIX века. СПб., 1913. С. 420; *Кутейников Н.* Мицкевич и виленские филареты // Исторический вестник. 1884. № 2.

[6] *Heleniusz E.* Wspomnienie lat minionych . Kraków, 1876; *Смірноў А.* Францішак Савіч. Мн., 1961. С. 108–109.

пад уплывам кансерватыўных літаратараў і грамадскіх дзеячаў Г. Ржавускага, М. Грабоўскага, І. Галавінскага, Л. Штырмера. Ідэолагам групы быў Г. Ржавускі (1791–1886), крайні кансерватар, раяліст і рэлігійны традыцыяналіст. Філасофія Г. Ржавускага была заснавана на канцэпцыях Ж. дэ Местра і Л. дэ Бональда ( 1754–1845)[1]. Г. Ржавускі і яго прыхільнікі імкнуліся нейтралізаваць " прагрэсіўныя ідэі ў заходнім краі" , адлюстроўваць "здаровыя ўяўленні аб свеце"[2]. У артыкуле "Аб законах цывілізацыі народаў", змешчаным у чацвёртым томе часопіса "Atheneum", Г. Ржавускі прапагандаваў ідэі дэ Местра аб ролі божага прадвызначэння ў развіцці цывілізацыі. У тым жа духу быў напісаны артыкул Т. Шчанеўскага " Аб філасофіі", прысвечаны "Філасофіі духа" Гегеля[3]. Выдаўцы часопіса "Atheneum" гаварылі аб неабходнасці распаўсюджвання каталіцкага пункту гледжання на розныя праблемы, адзінстве філасофіі і каталіцызму, што адлюстроўвала кансерватыўную платформу часопіса. Такі ж характар мелі гродзенскі часопіс "Ondyna" і віленскія "Pamietniki Umyslowe"[4]. Кансерватыўная грамадскасць Віцебска гуртавалася вакол часопіса "Rubon", рэдактарам якога быў К. Буйніцкі. У канцы 40-х гг. ён абвясціў сябе прыхільнікам кансерватыўнай ідэалогіі. "Богабаязнасць, павага да закона і мясцовых улад, любоў да радзімы, патрыярхальная прастата" – вось асноўныя каштоўнасці, якія абараняў часопіс[5]. К. Буйніцкі імкнуўся абараняць законы езуітаў, якія стаялі на варце старапольскіх звычаяў. Ідэі К. Буйніцкага, часткова запазычаныя з артыкула Г. Ржавускага "Цывілізацыя і рэлігія", у сваёй варожасці да прагрэсу, супрацьпастаўленні славянскага і заходнееўрапейскага свету зближалі яго з рускімі славянафіламі.

**Ліберальны рух**. У 30–50-я гг. грамадскія дзеячы часцей, чым у першай трэці XIX ст., звярталіся да ліберальнай дактрыны, якая выяўлялася ў той час у імкненні да вызвалення асобы ад абмежаванняў, якія накладваюцца традыцыяй, грамадскай структурай ці законам, а таксама ў веры ў паступовасць прагрэсу і паслядоўнасць усіх яго стадый. Асноўнымі патрабаваннямі лібералізму ў вобласці дзяржаўнага ладу былі: канстытуцыйны прадстаўнічы парадак, пашырэнне мясцовага самакіравання, свабода асобы ад дзяржаўнай апекі, адмена саслоўных прывілегій, удзел народа ў правасуддзі, усталяванне прамога падаходнага падатку і палітычныя свабоды (свабода слова, сходаў і саюзаў). У эканамічнай вобласці прынцып свабоды лібералы разумелі як свабоду гандлю і працы, неўмяшанне дзяржавы ў эканамічную дзейнасць уласнікаў.

У 1838 г. у Вільні выйшла кніга юрыста Ф. Бохвіца (1799–1856) "Obraz mysli", у 1842 г. – "Obraz mysli mojej o celach istnenia człowieka", а ў 1847 г. – "Pomysły o wychowaniu człowieka". Вера ў прагрэс, звязаная з развіццём прыродазнаўчых навук і прамысловасці, надзея на тое, што пазбавіцца беднасці і голаду можна шляхам пашырэння кола ўласнікаў і надзялення ўсіх роўнымі правамі, патрабаванне вызвалення сялян ад прыгону, забес-

---

[1] Л. дэ Бональд лічыў, што чалавек няздольны адкрываць новыя ісціны, усё духоўнае жыццё, як і сацыяльныя парадкі, маюць сваім заснаваннем непахісную традыцыю, якая выражае божую волю.

[2] *Inglot M.* Polskie casopisma literackie ziem litewsko-ruskich w latach 1832–1851. Warszawa, 1966. S. 81, 83, 117, 118.

[3] Там жа. S. 121.

[4] Там жа. S. 108–223.

[5] Там жа. S.195.

пячэнне недатыкальнасці асобы і права ўласнасці – вось асноўныя ідэі яго твораў[1].

Менавіта гэтыя прынцыпы ляжалі ў аснове дзейнасці мясцовых памешчыкаў, якія імкнуліся перабудаваць сваю гаспадарку на капіталістычны лад. У 1837 г. Віленскі губернскі дваранскі сход выступіў з праектам адмены прыгоннага права. Памешчыкі прапанавалі выбраць камісію для вывучэння магчымасцей паляпшэння побыту сялян Віленскай губерні. Аднак іх ініцыятыва была катэгарычна адхілена віленскім генерал-губернатарам Ф. Мірковічам. Ён растлумачыў "дзёрзкай шляхце", што дваранскі сход не мае паўнамоцтваў "высоўваць пастулаты аб змене грамадскага парадку, у прыватнасці адмены прыгону сялян; вызваленне апошніх залежыць толькі ад жадання і волі" імператара[2]. Нягледзячы на гэта "тлумачэнне", праз некаторы час дваранскі сход Мінскай губерні абмеркаваў прапанову Э. Аскеркі, А. Яленскага і С. Бярновіча аб ліквідацыі асабістай залежнасці сялян ад памешчыкаў і накіраванні адпаведнай просьбы цару. Падобны гэтаму праект унесла ў пачатку 40-х гг. частка дваранства Гродзенскай губерні. Асобныя памешчыкі вызвалялі сваіх сялян ад прыгону (напрыклад, канонік А. Цывіньскі вызваліў ад прыгону 436 сялян свайго маёнтка ў Вілейскім павеце[3]).

Тымі, хто імкнуўся перабудаваць сваю дзейнасць, не парушаючы існуючых законаў, былі сфармуляваны асноўныя прынцыпы так званай праграмы "арганічнай працы". Апошняя разумелася як паступовая, легальная дзейнасць, а сама праграма супрацьпастаўлялася планам рэвалюцыйнай узброенай барацьбы і нелегальнай актыўнасці. Вельмі істотным элементам праграмы арганічнай працы была прапаганда прагрэсіўных метадаў апрацоўкі зямлі, развіцця прамысловасці і гандлю. Ліберальная частка дваран патрабавала часовага вызвалення ад падаткаў тых памешчыкаў, якія мелі ці будавалі фабрыкі, і заснавання ў Вільні агранамічнага інстытута, імкнулася арганізаваць таварыства, якое давала б памешчыкам субсідыі для будаўніцтва фабрык, выказвалася за стварэнне спрыяльных умоў, каб заахвоціць гарадскіх прадпрымальнікаў да стварэння фабрык. Гэту легальную апазіцыю так званых "арганічнікаў", якія імкнуліся выкарыстаць яшчэ існуючыя легальныя магчымасці для дасягнення сваіх мэт, узначальвалі віленскі губернскі прадвадзіцель дваранства Э.Мастоўскі і віцебскі губернскі прадвадзіцель Л. Шадурскі. У пачатку 40-х гг. Э. Мастоўскі прапаноўваў даць дваранству права выбіраць начальнікаў паліцыі і членаў судоў, абмежаваць паўнамоцтвы паліцэйскай улады.

Ліберальныя ідэі абмяркоўваліся ў дваранскіх салонах і гуртках – у графа Р. Тышкевіча, у Э. Мастоўскага. Салон Манюшкі ў Вільні наведваў вядомы публіцыст, пісьменнік, аўтар вельмі папулярнай сярод апазіцыйных колаў Беларусі драмы "Іардан" Э. Жэлігоўскі (1816–1864). Вакол віленскага дваранскага грамадства (канонік Л. Трынкоўскі, адвакат С. Казакевіч, дваранін Э. Ромер, публіцыст А. Балінскі), якое ў следчых дакументах па справе Ш. Канарскага атрымала назву "віленскага арыстакратычнага таварыства", групаваліся памяркоўна-ліберальныя колы тагачаснай Беларусі: гурткі

[1] *Inglot M.* Polskie casopisma literackie ziem litewsko-ruskich w latach 1832–1851.Warszawa, 1966. S. 51–52.

[2] *Janulaitis A.* Lietuvos bajrai ir ju seimeliai XIX anz. Kaunas, 1936. S. 544–576; Федор Яковлевич Миркович 1879–1866. СПб., 1889. С. 122, 127, 277.

[3] *Bilgorajski F.* Pamiętniki o sprawie chłopskiej w 1863 roku. Wroclaw, 1956. S. 10–11; *Fajnhaus D.* Ruch konspiracyjny na Litwie i Białorusi. 1846–1848. Warszawa,1965. S.198–199.

Я. і Н. Еланскіх у Мазырскім, Л. Орды – у Кобрынскім, Ажэшкі – у Пінскім паветах. Ідэолагам гэтых колаў быў ксёндз Л. Трынкоўскі, які выступаў у абарону сялян, крытыкаваў саслоўны эгаізм шляхты і заклікаў кіравацца ў адносінах да сялян "законамі розуму", лічыць іх братамі, роўнымі сабе людзьмі. Яго праца "Geniusz wiekow, czyli postep oswiaty – zwalczane i do zwalczenia przesady" друкавалася ў зборніках "Pisma rozmaite" (1838) і "Biruta"(1837)[1].

У тайных студэнцкіх і вучнёўскіх арганізацыях вельмі моцнымі былі ваенна-змоўніцкія традыцыі і нацыянальна-рамантычныя ідэі. Расійскую дзяржаву ўдзельнікі гэтых гурткоў разглядалі як дзяржаву захопніцкую, таму ніякіх сродкаў барацьбы акрамя змовы і ўзброенага паўстання яны не прызнавалі. Характэрнай для іх была ўвага да палітычных (перш за ўсё – дзяржаўны лад) і этычных ( спачуванне прыгнечаным, нянавісць да самавольства і інш.) пытанняў. Аднак і сярод членаў гэтых арганізацый распаўсюджваліся ліберальныя каштоўнасці, перш за ўсё ідэя грамадзянскай роўнасці. Так, Ф. Савіч, арганізатар гуртка студэнтаў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі (1836–1838), сцвярджаў, што "ўсе людзі маюць аднолькавыя правы ў дачыненні да свабоды і роўнасці. Паколькі зараз адны людзі прыгнятаюцца іншымі, то гэта супярэчыць прыродзе, і таму неабходна ўсяліць усім думку аб тым, што кожны чалавек мае права кіраваць і таму павінна быць рэспубліка", людзі "не павінны па законах справядлівасці займаць у грамадстве месца, якое не адпавядае іх здольнасцям, адукацыі і патрэбам чалавецтва"[2].

Разам з тым у канцы 30-х гг. XIX ст. сярод студэнцкай моладзі пачалі вызначацца людзі з памяркоўнымі ліберальнымі поглядамі і так званыя радыкалы. Найбольш аўтарытэтным прадстаўніком першых быў М. Лавіцкі, які лічыў неабходным знішчэнне саслоўнай няроўнасці, распаўсюджанне асветы сярод шырокіх народных мас, усталяванне народнага кіравання і г.д. Радыкалы адрозніваліся ад іх не столькі ўяўленнямі аб прынцыпах пабудовы справядлівага грамадства, колькі антыпамешчыцкай накіраванасцю і спробамі знайсці падтрымку ў сялян і рамеснікаў. Так, Ф. Савіч лічыў, што ўсіх памешчыкаў "трэба павесіць, усіх выразаць"; члены гуртка Ф. Савіча імкнуліся пазнаёміцца з рамеснікамі і "заснаваць паміж імі ў дэмакратычным духу таварыства". Такіх жа поглядаў прытрымліваліся члены гуртка Р. Брынка і Н. Навіцкага ў Слуцкім павеце[3].

Н. Навіцкі (былы член таварыства філаматаў, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.) стаў адным з найбліжэйшых памочнікаў Ш. Канарскага, калі апошні ў 1835–1838 гг. паспрабаваў аб'яднаць апазіцыйныя колы Беларусі, Літвы і Украіны ў адну арганізацыю "Садружнасць польскага народа", бо, паводле меркавання Ш.Канарскага , "нельга розніцца і парушаць еднасць... У Польшчы адзіны павінен быць дух і адзінае цела, каб увесь народ... злучыць адным таварыствам, ... дабівацца ўсеагульнай свабоды"[4]. Такая агульная фармулёўка зрабіла магчымым далучэнне да "Садружнасці" як студэнтаў-радыкалаў, якія групаваліся вакол Ф. Савіча, так і памяркоўных

---

[1] ДГА Літвы, ф. 439, воп.2, спр. 2 "Аб Віленскім арыстакратычным таварыстве", спр. 4 "Аб Пінскай арганізацыі", спр. 5 "Аб Гродзенскай арганізацыі", спр. 7 "Аб Мазырскай арганізацыі"; *Смірноў А.* Францішак Савіч. С. 81; *Fajnhaus D.* Ruch konspiracyjny na Litwie i Białorusi. 1846–1848. S. 54–56

[2] ДГА Літвы, ф. 439, воп 2, спр. 6, арк. 24

[3] ДГА РФ, ф.109, воп 1, спр. 76, ч. 1, арк. 77, 84, 82; ЦГА Літвы. ф. 439, воп. 2, спр. 2, арк. 3,6, 7, 10; ДГА Літвы. ф. 378, воп 216, спр. 3, арк. 70–72,139, 140–141; *Мышковсий К.* Рукопись в тюрьме // Русский архив. 1909. №4. С. 548, 553.

[4] *Мышковский К.* Рукопись в тюрьме. С. 494.

ліберралаў ( Л. Трынкоўскага, С. Казакевіча і інш.), тым больш што асноўнай мэтай дзейнасці Ш. Канарскага была падрыхтоўка новага паўстання. Аднак хутка "карбанарскія[1] і лялевелеўскія"[2] выказванні Ш. Канарскага прывялі да разыходжання з памяркоўнай часткай членаў "Садружнасці", якія запатрабавалі ад'езду Ш. Канарскага за мяжу і перадачы ў іх рукі кіраўніцтва арганізацыяй.

Інакш ставілася да дзейнасці і поглядаў Ш. Канарскага радыкальна настроеная моладзь. Яго дасведчанасць у тэарэтычных спрэчках эмігранцкіх колаў была вельмі істотнай для ідэйных пошукаў студэнцкай моладзі ў сітуацыі, калі "яшчэ Чартарыйскі лічыўся за добрага... Міцкевіч страчваў паступова давер", а дыскусіі тэарэтыкаў замежных таварыстваў былі не зусім зразумелымі[3]. " З'яднанне з Канарскім удзесяцярыла нашы сілы", – успамінаў пазней Ф. Савіч[4]. Пад уплывам дзейнасці Ш. Канарскага ўзнікалі новыя гурткі, аднак большасць з іх на самай справе былі, паводле слоў польскага даследчыка М. Вержгоўскага, "эфемерыдамі канспірацыі "[5], бо існавалі яны нядоўга, ніякай выразнай праграмы не мелі, а члены іх былі вельмі нешматлікімі. Такімі былі, напрыклад, гурткі І. Багдановіча і І. Вазнякоўскага ў Вільні[6], удзельнікі якіх ( падлеткі і студэнты) чыталі А. Міцкевіча і Ш. Канарскага, марылі аб незалежнасці Польшчы і рыхтаваліся "выступіць, калі пачнецца агульнаеўрапейская рэвалюцыя"[7]. У 1838 г. быў арыштаваны Ш. Канарскі і выкрыты нелегальныя студэнцкія гурткі.

Страх перад рэвалюцыйным рухам прымушаў улады ўзмацніць нагляд за " напрамкам розумаў" жыхароў Беларусі. Пастаянна вяліся пошукі палітычных змоў і тайных таварыстваў, жандары не спыняліся нават перад фабрыкацыяй палітычных спраў[8]. Аднак спыніць развіццё апазіцыйнага грамадскага руху не ўдалося, што паказалі падзеі другой паловы 40-х гг. у Беларусі.

У 1845–1848 гг. рэвалюцыйным рухам была ахоплена амаль уся Еўропа. Акрамя рэвалюцый у Францыі, Італіі, Германіі, Аўстрыі, Венгрыі адбыліся народныя выступленні ў Познані, Сілезіі, Галіцыі, Букавіне, Малдавіі, Валахіі, Ірландыі, Грэцыі, якія насілі нацыянальна-вызваленчы і дэмакратычны характар. Гэтыя падзеі, якія ўвайшлі ў гісторыю пад назвай "вясны народаў", аказалі значны ўплыў на грамадскі рух у Беларусі. Сацыяльны неспакой ахапіў усе слаі насельніцтва – "як адукаваны клас, так і народ"[9]. Пад

---

[1] Карбанарыі – члены вузка загаворшчыцкай тайнай арганізацыі, якая існавала ў Італіі і Францыі ў першай трэці XIX ст. – імкнуліся стварыць універсальную дэмакратычную рэспубліку шляхам усеагульнай рэвалюцыі. Стракатасць сацыяльнага складу карбанарыяў знайшла адлюстраванне ў нявызначанасці іх лозунгаў, у якіх рэспубліканскі дэмакратызм спалучаўся з манархічнымі дэкларацыямі і антыклерыкалізм з рэлігійна-містычнымі ідэямі. Апошнія знайшлі выражэнне і ў структуры арганізацый карбанарыяў з іх ложамі – вентамі, масонскай абраднасцю, складанай іерархіяй і рамантычнай сімволікай. Ш. Канарскі прымаў удзел у паходзе карбанарыяў у Савою.

[2] *Bortnowski W.* Glos w dyskusji nad referatem Boleslawa Lopuszanskiego // Zwiazki rewolucjonistow polskich i rosyjskich w 19 w. Warszawa, 1972. S. 73.

[3] *Мышковский К.* Рукопись в тюрьме. С 494.

[4] *Смірноў А.* Франц Савіч. С.90.

[5] *Wierzghowski M.* Z dziejow polskich organizacji spiskowych w zaborze rosyjskim (1837–1841) // Przeglad Historyczny. 1961. N1. S. 36.

[6] Членам гуртка І. Вазнякоўскага быў пятнаццігадовы Ю. Бакшанскі.

[7] *Wierzghowski M.* Z dziejow polskich organizacji spiskowych w zaborze rosyiskim (1837–1841). S.36–38.

[8] *Ломачевский А.И.* Из воспоминаний жандарма. Ставрополь, 1880; Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. С. 289.

[9] ДГА РФ . ф. 109 1, эксп. Спр. 51, ч. 3, арк. 3.

уздзеяннем сялянскіх выступленняў у Галіцыі ў 1846 г. радыкалізаваліся погляды апазіцыйна настроеных прадстаўнікоў "адукаванага класа". "Бойня 1846 года аказала моцны ўплыў на наша ўсведамленне – настрой быў ... дэмакратычны, калі не анархічны", пачаў распаўсюджвацца ўжо не канстытуцыяналізм, а рэспубліканізм, папулярнай стала ідэя народнага паўстання, ці, іншымі словамі, дэмакратычнай рэвалюцыі[1]. Так, у 1847 г. радыкал Ю. Бакшанскі (1824–1863) звярнуўся да смаргонскіх сялян з заклікам выступіць разам з мяшчанамі і салдатамі супраць сваіх паноў[2].

Сітуацыя сацыяльнага неспакою разам з актывізацыяй польскай эміграцыі прывялі да ажыўлення дзейнасці нелегальнай апазіцыі Беларусі. Асноўнай мэтай нелегальных гурткоў, дзейнасць якіх у Беларусі прыпала на час "вясны народаў", Брацкага саюза літоўскай моладзі (1846–1849) і Мінскай тайнай арганізацыі (1848–1849), было вызваленне народа з-пад прыгнёту царызму і аднаўленне Польшчы ў межах 1772 г. шляхам узброенага паўстання. Іх ідэалогія вызначалася спалучэннем нацыянальнага рамантызму і лібералізму, што было характэрна ў той час для еўрапейскіх ліберальных рухаў. Брацкі саюз літоўскай моладзі ставіў сабе за мэту не толькі адраджэнне Польшчы, але і абвяшчэнне рэспублікі, роўнасць усіх грамадзян перад законам незалежна ад поглядаў, веравызнання і нацыянальнасці. Ліберальныя ідэі – ад радыкальных да памяркоўных– разам з ідэяй незалежнасці Польшчы і захавання польскай культуры былі асновай светапогляду і членаў Мінскага тайнага гуртка (М. Бокіа, П. Вейштарт, Э. Даватц і інш.). Радыкальна настроеныя яго члены знаходзіліся пад уплывам ідэй З. Серакоўскага, які ў той час быў "апосталам містычна-патрыятычнага руху"[3]. І. Агрызка, У. Спасовіч, Б. Дыбоўскі, Ф. Далеўскі ставілі за мэту "перарабіць існуючы нездавальняючы парадак на лепшы" (іх дэвізам былі "любоў у якасці прынцыпу, парадак у якасці асновы, прагрэс у якасці мэты"[4]). Яны з'яўляліся прыхільнікамі памяркоўнай плыні, блізкай да пазіцый "арганічнікаў". Погляды У. Спасовіча развіваліся ў напрамку класічнай ліберальнай дактрыны, аб чым сведчыць яго трактоўка праблем уласнасці. "Пераход ад калектыўнай формы ўласнасці да прыватнай паклаў пачатак вызваленню чалавека, – пісаў ён. – Цяпер ужо не прыналежнасць да пэўнай супольнасці і прывязанасць да зямлі, а асабістая індывідуальнасць становіцца для чалавека вытокам яго правоў" [5].

У час надзей і чаканняў, звязаных з "вясной народаў", назіралася развіццё публіцыстыкі; ствараліся грамадска-літаратурныя часопісы, вакол якіх групавалася прагрэсіўная інтэлігенцыя. Такімі выданнямі для грамадскасці Беларусі сталі часопісы "Gwiazda" (1846–1849, Кіеў) і "Pamiętnik Naukovo-Literacki" (1849–1851, Вільня). Заснавальнікамі часопіса "Gwiazda" былі выхадцы са збяднелай шляхты, былыя "палітычныя злачынцы", якія раней былі сасланы на Каўказ за сувязі з Саюзам польскага народа і Ш. Канарскім і прадстаўнікі "працоўнай інтэлігенцыі" – служачыя, урачы, настаўнікі. Відавочна, што гэта вызначыла радыкальна-ліберальны напрамак

---

[1] *Gieisztor A.* Pamiętniki. Warsawa, 1913 .T. 1. S. 89

[2] *Fajnhaus D.* Ruch konspiracyjny na Litwie I Białorusi. 1846–1848. S. 213–217, 220–228, 234–237, 269; *Мохнач Н.* Идейная борьба в Белоруссии в 30–40-е годы 19 в. Мн.,1971. С. 97–102.

[3] *Sliwowska W.* Polskie kolka studenckie w Moskwie i Petersburgu w czterdziestych latach XIX w. // Przegląd Historyszny. 1961. №1. S.231.

[4] Biblioteka Warsawska. 1907. T. II. S. 226

[5] ДГА Літвы. ф. 1267, воп. 1, спр. 67, арк. 4.

часопіса, які ў 1849 г. быў забаронены[1]. Праграма часопіса "Pamiętnik Naukowa-Literacki" была сфармулявана ў лістах А. Савы (Э. Жалігоўскага) выдаўцу і рэдактару Р. Падбярэзскаму: часопіс павінен быў стаць жывым словам грамадскага жыцця, займацца справамі " сацыяльнымі з меркаваннем аб жыцці ўнутраным", паказваць адносіны розных пластоў грамадскасці паміж сабой і тое, як яны ставяцца да ідэі прагрэсу[2]. Пытанні аб сялянах, іх матэрыяльным і маральным стане, унутраным жыцці, звычаях і адносінах да вышэйшых класаў таксама павінны былі абмяркоўвацца на старонках часопіса. У 1851 г. часопіс быў забаронены, а Р. Падбярэзскі арыштаваны за сувязь з Польскім дэмакратычным таварыствам[3].

З вясны 1848 г. у сувязі з рэвалюцыйнымі падзеямі ў Еўропе на тэрыторыі заходніх губерняў пачалі сканцэнтроўвацца войскі, і за насельніцтвам быў уведзены строгі паліцэйска-адміністрацыйны нагляд. Надзвычайныя ўрадавыя меры па абароне парадку, масавыя перамяшчэнні войскаў, прызывы ў армію, якія непасрэдна закранулі многія сем'і, звесткі аб падзеях у суседніх краінах і адмене там прыгону параджалі сярод сялян чуткі аб невядомай вайне: хутка прыйдуць на Літву французскія войскі, "але не ваяваць, а вешаць памешчыкаў"; пяць дзяржаў ідуць на Расію, каб даць вольнасць сялянам[4]. Віленскі генерал-губернатар Ф. Міркові даносіў у сакавіку 1848 г. у 3-е аддзяленне : "Звесткі аб падзеях, якія адбываюцца ў Еўропе, скажоныя... разносяцца з хуткасцю... , і зараз сяляне і памешчыкі толькі і заняты разважаннямі аб тым, што робіцца за мяжой. На жаль, ні ў адным класе жыхароў падзеі не зрабілі таго ўражання, якое б адпавядала пачуццю вернападданіцкай вернасці"[5].

Усё гэта вымусіла царскую адміністрацыю прыняць меры для "навядзення парадку" ў рэгіёне. Выкрыццё тайных гурткоў, забарона часопісаў ліберальнага напрамку, жорсткія паліцэйскія рэпрэсіі новага віленскага генерал-губернатара А. Бібікава, які змяніў у 1850 г. Ф.Мірковіча, страта надзей на заваяванне незалежнасці на некалькі гадоў уцягнулі грамадства Беларусі ў стан апатыі і нават маральнага крызісу. З. Вішнеўскі, адзін з агентаў 3-га аддзялення, даносіў у 1851 г., што ў Літве і Беларусі пануе "зняменне духу і трывога", грамадская думка "блукае, шукаючы ў аддаленай будучыні якіх-небудзь надзей, звязаных з падзеямі за мяжой – у Германіі ці Францыі і дзейнасцю Дэмакратычнага камітэта ў Лондане", аб "самастойнай, асобнай ад еўрапейскіх рухаў, дзейнасці" не думаюць[6].

Аднак ідэйныя пошукі працягваліся: ішоў працэс крышталізацыі памяркоўнай і радыкальнай плыняў у ліберальным руху. Памяркоўныя лібералы не верылі, што масы здольныя на эфектыўныя грамадзянскія дзеянні, таму не народнае паўстанне, а "арганічная праца" і прапаганда ліберальных каштоўнасцей у легальным друку былі для іх сродкамі руху наперад па шляху прагрэсу. Менавіта погляды гэтых колаў прадстаўляла газета " Slowo", якая выдавалася І. Агрызка і Э. Жалігоўскім у 1858–1859 гг. у Пецярбургу пры

[1] *Chmiełowski P.* Z dziejow postepu i reakcji u nas // Prawda, Ksiega zbiorowa dla uczczenia 25 letniej dzialalanosci A. Świętochowskiego. Lwów,1899. S. 97; *Inglot M.* Połskie czasopisma literackie ziem litewsko-ruskich w latach 1832–1851. S. 272.

[2] Pamiętnik Naukowo-Literacki. T.II. Z. 4. S.112–113.

[3] *Fajnhaus D.* Ruch konspiracyjny na Litwie i Białorusi. 1846–1848. Warszawa, 1965. S. 245–246.

[4] ДГА РФ ф. 109 . 1 эксп., спр. 51, ч.5, арк. 52.

[5] Там жа, арк. 75.

[6] ДГА Літвы ф.378, спр. 32, арк. 56; *Fajnhaus D.* Ruch konspiracyjny na Litwie i Białorusi. 1846–1848. S. 342.

садзейнічанні вядомага рускага ліберала М. Кавеліна.[1] Радыкалы, якія самавызначаліся ў гэты час як рэвалюцыйныя дэмакраты, лічылі, што рэспубліканскі лад можа ўсталявацца толькі шляхам рэвалюцыі "для народу і праз народ"[2], а таму абмяркоўвалі ў эміграцыі планы падрыхтоўкі народнага ўзброенага паўстання.

Такім чынам, асноўнай тэндэнцыяй развіцця грамадскіх рухаў і грамадскай думкі Беларусі ў 30–50-х гг. XIX ст. быў пераход ад палітыкаманіі[3] да "арганічнай працы" і спроб знайсці вырашэнне істотных сацыяльных супярэчнасцей у межах ліберальнай і кансерватыўнай дактрын, што склаліся к таму часу. Захаванне саслоўнай іерархіі, рэпрэсіі і жорсткі паліцэйскі рэжым стрымлівалі працэс фарміравання грамадскіх рухаў у Беларусі. Разам з тым паражэнне паўстання 1830–1831 гг., рэвалюцыйныя падзеі 1846–1848 гг. у Еўропе паказалі неабходнасць грамадскіх пераўтварэнняў (да гэтага часу ўвага засяроджвалася ў асноўным на імкненні да змены дзяржаўнага ладу, на палітычным паўстанні) і стварылі новае поле для пошуку канкрэтных шляхоў барацьбы за ажыццяўленне сацыяльных і палітычных ідэалаў.

# ГЛАВА 2

# САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ. КРЫЗІС ФЕАДАЛЬНА-ПРЫГОННІЦКАЙ СІСТЭМЫ

## 1. Сельская гаспадарка. Рэформа П. Кісялёва. Становішча сялян

**Зямельная ўласнасць, землеўладанне і гаспадарка памешчыкаў**. Умовы развіцця панскай гаспадаркі пры феадалізме ў многім вызначаліся пазямельнымі адносінамі. У канцы XVIII ст. у Беларусі панскае землеўладанне, якое склалася ў часы Вялікага княства Літоўскага, было непадзельна пануючае. У апошняй чвэрці гэтага ж стагоддзя, з улікам з колькасці акладных падатковых адзінак – дымоў[4], феадалам, што валодалі прыгоннымі, належала тут 74,9 % агульнай зямельнай плошчы. Пераважную большасць усіх зямель (63,1 %) складала іх уласная зямля[5]. Зямельная ўласнасць, рэалізаваная эканамічна ў выглядзе феадальнай рэнты, з'яўлялася асновай феадалізму[6]. Уласнасць на зямлю ў спалучэнні з пазаэканамічным прымусам забяспечвала феадалу магчымасць эксплуатацыі асабіста залежных ад яго сялян.

---

[1] *Sliwowska W.* Polskie kolka studenckie w Moskwie i Petersburgu w czterdziestych Latach XIX w. S. 233–235.

[2] *Sidorowicz-Czerniewska K.* Sprawa Emisarjucza Michala Wołłowicza z r. 1833. Grodno, 1934. S. 100.

[3] Агульную назву "палітыкаманіі" атрымалі ў той час меркаванні, што аднаўленне незалежнай Польшчы – галоўная ўмова вырашэння ўсіх праблем, падпарадкаванне сацыяльных пытанняў гэтай мэце, вера часткі грамадства ў тое, што ўзброенае паўстанне – вайна супраць Расіі – лепшы спосаб вырашэння ўсіх супярэчнасцей.

[4] Дым – падатковая адзінка ў Вялікім княстве Літоўскім, якая складалася з 3–5 двароў.

[5] *Козловский П.Г.* Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII – первой половине XIX в. С.70, 77.

[6] *Маркс К.* Капитал // *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. 2-е изд. Т.25. Ч.2. С.183, 184.

Пасля далучэння тэрыторыі Беларусі да Расійскай імперыі царскі ўрад праводзіў палітыку насаджэння рускага памеснага землеўладання ў краі. Былыя дзяржаўныя і духоўныя ўладанні, канфіскаваныя маёнткі мясцовых памешчыкаў, якія адмовіліся прысягнуць на вернасць новай уладзе, а таксама ўдзельнікаў паўстання 1794, 1830–1831 гг. і рэвалюцыйнага руху ў 30–40-я гг. XIX ст. раздаваліся расійскім вяльможам, ваенным і грамадзянскім чыноўнікам. У 1772–1801 гг. у пяці беларуска-літоўскіх губернях ім падаравалі 250,4 тыс. рэвізскіх (мужчынскіх) душ сялян. Так, графу Завадоўскаму дасталася Магілёўская эканомія (25 860 сялян), генерал-аншэфу князю Пацёмкіну – Крычаўскае староства (14 250 душ), генерал-фельдмаршалу графу Румянцаву – Гомельскае староства (11 100 прыгонных), генерал-фельдмаршалу графу Чарнышову – Чачэрскае староства (5 100 сялян)[1].

Раздача дзяржаўных і канфіскаваных прыватных маёнткаў рускім тытулаваным дваранам з'яўлялася для царскага ўрада сродкам умацавання яго сацыяльнай апоры ў заходніх землях. Падараванне казённай зямлі свецкім феадалам пагаршала прававое і маёмаснае становішча сялян, якія пазбаўляліся магчымасці звяртацца са скаргамі на сваіх уладальнікаў у дзяржаўны суд і залежалі ад іх самавольства. Атрыманыя маёнткі можна было прадаць іншым асобам, у тым ліку мясцовым дваранам. На лаяльную шляхту Беларусі, што прысягнула на вернасць царызму, распаўсюджваліся манапольныя пазямельныя правы расійскага дваранства.

За ўдзел паланізаваных памешчыкаў у паўстанні 1830–1831 гг. на тэрыторыі пяці беларуска-літоўскіх губерняў было канфіскавана мноства іх маёнткаў з 64,7 тыс. душ сялян[2]. Найбольшая колькасць такіх маёнткаў (188 з 54,9 тыс. душ) знаходзілася ў Віленскай і Гродзенскай губернях. Частка іх (каля 25 тыс. душ) пазней была вернута ўладальнікам, што пакаяліся і скарыліся[3].

Як слушна адзначыў П.Казлоўскі, падараванні і канфіскацыі адлюстроўвалі сутнасць царскай аграрнай палітыкі канца XVIII – першай паловы XIX ст. на беларускіх землях. Царызм падтрымліваў мясцовых прыгоннікаў, дапамагаў ім ва ўмацаванні феадальнай уласнасці і эксплуатацыі сялян[4].

Да часу адмены прыгону ўдзельная вага панскай зямельнай уласнасці заставалася вельмі высокай. У 1859 г. у маёнтках сярэдне- і буйнапамесных уласнікаў (больш за 100 рэвізскіх душ прыгонных) пяці губерняў[5] налічвалася 16 071,1 тыс. дзесяцін прыдатнай зямлі, або 66,8 % усёй яе плошчы[6]. Па адносных памерах панскай зямельнай уласнасці Беларусь да канца другой трэці XIX ст. займала першае месца ў Еўрапейскай Расіі[7].

---

[1] *Жукович П.* О русском землевладении в Северо-Западном крае со времени присоединения его к России. СПб., 1895. С.8; *Ён жа.* Западная Россия в царствование императора Павла // Журнал Министерства народного просвещения. 1916. №8. С.214, 215, 219; *Чепко В.В.* Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX века. Мн., 1966. С.11.

[2] Историческое обозрение 50-летней деятельности Министерства государственных имуществ. СПб., 1888. Ч.2. Отд.2. С.80.

[3] *Улащик Н.Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. М., 1965. С.55—56.

[4] *Козловский П.Г.* Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII – первой половине XIX в. С.115.

[5] Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай, Гродзенскай, Віленскай.

[6] Военно-статистический сборник / Под. ред. Н.Н. Обручева. СПб., 1871. Вып.IV. "Россия". С.188, 203.

[7] *Панютич В.П.* Помещичье землевладение в Белоруссии во второй половине XIX в. // Проблемы аграрной истории (XIX – 30-е годы XX в.). Мн., 1978. Ч.II. С.70.

Сярод панскай зямельнай уласнасці значна пераважала буйная, латыфундыяльная феадальная ўласнасць (маёнткі, дзе было звыш 500 душ прыгонных). У апошняй чвэрці XVIII ст. на яе долю ва ўсходніх паветах прыпадала 74,6 % прыватнаўласніцкай зямлі, у заходніх і цэнтральных – у сярэднім 68,5 %[1]. У далейшым у сувязі з драбленнем і канфіскацыяй часткі латыфундыяльных уладанняў царскімі ўладамі памеры буйнапамеснай зямельнай уласнасці прыкметна зменшыліся. У 1859 г. у пяці заходніх губернях яна склала 44,2 % панскай зямлі. Да латыфундыстаў належала толькі 4,4 % дваран, што валодалі сялянамі, 23,3 % сярэдняй шляхты (100 – 500 душ прыгонных) мелі 39 % зямлі, 72,3 % дробнай (менш за 100 душ) – 16,8 %[2]. Да канца разгледжанага перыяду ў Мінскай губерні самыя буйныя ўладанні належалі князю П.Вітгенштэйну (каля 950 тыс. дзесяцін зямлі), князю А.Радзівілу (у фальварках 150,6 тыс. дзесяцін)[3], у Магілёўскай губерні князю Ф. Паскевічу (звыш 200 тыс.дзесяцін)[4].

Паводле звестак В.Чапко, у 40–50-я гг. XIX ст. у пяці заходніх губернях налічвалася 9 тыс. панскіх маёнткаў. Больш чым 6700 з іх (73,2 %) былі дробныя (20–100 рэвізскіх душ сялян). Амаль ва ўсіх маёнтках вялася ўласная гаспадарка, існавала фальварковая ворная зямля[5].

Рост таварнай прадукцыі ў панскай гаспадарцы, асабліва павелічэнне вытворчасці збожжа на продаж, патрабаваў пашырэння плошчы фальварковай ворнай зямлі. Яна павялічвалася не толькі за кошт асваення новых зямель, але і ў выніку захопу сялянскіх угоддзяў. У многіх маёнтках замест традыцыйна належачых сялянам 2/3 такой зямлі ім адводзілі ад 2/5 да 1/3, іншы раз і менш. Паводле даных інвентароў 800 маёнткаў, у 40-я гг. XIX ст. у Гродзенскай губерні панскія гаспадаркі з фальварковай ворнай зямлёй памерам звыш 1/3 усіх ворных зямель уладання склалі больш за 3/4 іх агульнага ліку, у Мінскай – 62 %, у Віцебскай – звыш паловы гаспадарак[6]. У апошнія гады перад адменай прыгону ўдзельная вага фальварковай ворнай зямлі хутка павялічвалася. У 1859 г. у маёнтках сярэдне- і буйнапамесных уласнікаў Магілёўскай губерні яна займала ўжо 65 % ворных угоддзяў, Віцебскай – 63, Мінскай 56 %[7]. Хуткае пашырэнне плошчы фальварковай ворнай зямлі абумовіла значнае ўзмацненне феадальнага прыгнёту сялянства, павелічэнне адпрацовачных павіннасцей.

Галоўнай прадукцыйнай сілай панскай гаспадаркі з'яўляліся прыгонныя сяляне. У пяці беларуска-літоўскіх губернях у 1795 г. (5-я рэвізія) яны складалі 84,8 % усяго сялянства, або 75,1 % народанасельніцтва, у 1858 г.

---

[1] *Козловский П.Г.* Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII – первой половине XIX в. С.70, 86.

[2] *Тройницкий А.* Крепостное население в России по Х народной переписи. С.45.

[3] Акрамя таго, частка зямель А.Радзівіла знаходзілася ў карыстанні прыгонных сялян.

[4] Приложения к трудам Редакционных комиссий для составления Положения о крестьянах, выходящих из крепостной зависимости. СПб., 1860. Т.V, VI; Список землевладельцев Минской губернии за 1876 год. Мн., 1877. С.131; *Улащик Н.Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. С.118.

[5] *Чепко В.В.* Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX века. С.13, 14.

[6] Там жа. С.14–15.

[7] Приложения к трудам Редакционных комиссий для составления Положения о крестьянах, выходящих из крепостной зависимости. Т.VI.

(10-я рэвізія) – адпаведна 70,9 і 57,6 %[1]. Змяншэнне ўдзельнай вагі прыгонных сялян тлумачыцца крызісам феадальна-прыгонніцкай сістэмы, абумоўленымі ім частымі неўраджаямі, голадам у панскай вёсцы.

Асновай гаспадаркі памешчыкаў было ворнае земляробства. З другой паловы XVIII ст. пануючай сістэмай яго стала папарнае трохполле. З пашырэннем пасеваў бульбы ў многіх маёнтках яно замянялася чатырохполлем. З развіццём танкаруннай авечкагадоўлі, галоўным чынам на захадзе Беларусі, у некаторых панскіх гаспадарках з'явілася шматполле, з травасеяннем. Шырэй ужываліся новыя агратэхнічныя прыёмы (зяблевае ворыва, прапалка, вапнаванне глебы), паляпшалася ўгнаенне палёў.

У абсалютнай большасці гаспадарак памешчыкаў апрацоўка зямлі і ўборка ўраджаю вяліся цяглавай сілай, прымітыўнымі прыладамі (саха, драўляная барана, серп, каса) і працай прыгонных сялян. Удасканаленыя прылады (плугі, жалезныя бароны), сеялкі, жняяркі, сенакасілкі сустракаліся рэдка. У 40 – 50-я гг. XIX ст. у панскіх фальварках шырокае распаўсюджанне атрымалі толькі машыны для абмалоту і апрацоўкі зерня – малацілкі, веялкі.

Разам з тым ужо ў канцы XVIII ст. у магнацкай сельскай гаспадарцы Заходняй Беларусі наёмная рабочая сіла склала 17,2 %, Усходняй Беларусі – 7,4 % усёй рабочай сілы[2]. Скарыстанне машын і наёмнай працы ў панскай сельскай гаспадарцы сведчыць аб фарміраванні капіталістычнага ўкладу ў нетрах феадалізму, спробе перабудовы перадавых маёнткаў у буржуазным кірунку. Аднак у эпоху позняга феадалізму наёмная праца не ўяўляла яшчэ альтэрнатывы паншчыне, а толькі спадарожнічала ёй.

Вынікам панавання папарнага трохпалля і ў цэлым слабай тэхнічнай узброенасці земляробства былі пераважна збожжавы характар паляводства, невысокая ўраджайнасць.

У структуры панскіх пасеваў першае месца займала азімае жыта, якое з'яўлялася галоўнай харчовай і рыначнай культурай. Сярод яравых пераважалі авёс і ячмень. З тэхнічных культур сеялі лён, каноплі, з канца 20-х гг. XIX ст. на панскіх палях пачалі саджаць бульбу. Ураджайнасць збожжавых некалькі ўзрасла. Калі ў канцы XVIII ст. у панскіх гаспадарках усіх катэгорый яна склала ў сярэднім сам-3, то ў 30–40-я гг. XIX ст. – сам-3,5.[3] Аднак абвастрэнне крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы да канца 50-х гг. абумовіла паніжэнне ўраджайнасці ў сярэднім да сам-2,8. Скарацілася пасяўная плошча, знізіліся зборы збожжавых культур. Калі ў першым дзесяцігоддзі XIX ст. у панскіх маёнтках пяці губерняў высявалі збожжа прыкладна 4,3 млн чвэртак[4], а збор іх дасягаў 16 млн чвэртак, то напярэдадні рэформы 1861 г. – адпаведна 3,2 і 9 млн чвэртак[5]. У 1858–1860 гг. у параўнанні з 1843 – 1847 гг. сярэднегадавыя пасевы бульбы ў панскіх фальварках Вілен-

---

[1] *Кабузан В.М.* Изменения в размещении населения России в XVIII – первой половине XIX в. (по материалам ревизий). М., 1971. С.112–113, 172–173.

[2] Материалы научной сессии по теме "Разложение крепостнической системы и процесс формирования капиталистического уклада в сельском хозяйстве Белоруссии и Литвы». Вильнюс; Мн., 1975. С.31.

[3] Гэта значыць, што агульны збор збожжавых перавышаў іх пасеў адпаведна ў 3 і 3,5 раза.

[4] Чвэрць – старажытнаруская мера сыпучых рэчываў, роўная 8 чацвярыкам. 1 чацвярык роўны 8 гарнцам, 1 гарнец – 3,28 літра.

[5] *Козловский П.Г., Мелешко. В.И., Панютич В.П.* и др. Основные этапы развития сельскохозяйственного производства в Белоруссии во второй половине XVIII – начале XX в. // Проблемы аграрной истории. Ч.II. С.9–10.

скай і Гродзенскай губерняў зменшыліся з 241,2 тыс. да 157,7 тыс. чвэртак (на 34,6 %)[1].

Земляробства ўсё больш падпарадкоўвалася попыту ўнутранага і знешняга рынкаў, набывала таварны характар. Да канца XVIII ст. з магнацкіх латыфундый заходніх і цэнтральных паветаў на іх паступала больш за 3/4 вытворчасці жыта. Самай таварнай галіной магнацкага прадпрымальніцтва было вінакурства – манаполія мясцовых дваран. Звыш 90 % атрыманай гарэлкі прадавалі на ўнутраным рынку. З магнацкіх маёнткаў на ўсходзе Беларускага рэгіёна вывозілі галоўным чынам лён, пяньку, а таксама лес і прадукты перапрацоўкі драўніны[2]. У 40-я гг. XIX ст. на землях буйных землеўласнікаў Беларусі на продаж адпраўлялі 70–80 % сабранага жыта і 45–55 % – ячменю, аўса, гароху, бульбы[3].

Другой па значнасці галіной панскай гаспадаркі была жывёлагадоўля. Разводзілі пераважна прадукцыйную жывёлу – кароў, свіней, авечак. Многія памешчыкі заводзілі пародзістую малочную і мясную жывёлу. Землеўладальнікі, што пачалі скарыстоўваць у фальварках наёмную працу, набывалі валоў і коней. З ростам суконнай вытворчасці ў 30–40-я гг. XIX ст. у заходніх паветах значнае развіццё атрымала гандлёвая панская мерыносавая авечкагадоўля. На рубяжы гэтых дзесяцігоддзяў у Гродзенскай губерні налічвалася 500–600 тыс. танкарунных авечак[4]. Распаўсюджвалася і таварная мяса-малочная жывёлагадоўля.

З пашырэннем рыначных, таварна-грашовых адносін у Беларусі паступова складвалася раённая спецыялізацыя сельскай гаспадаркі (лён – у паўночных паветах, каноплі – ва ўсходніх, бульба – у заходніх і цэнтральных, жывёлагадоўля – на захадзе і Палессі).

Узрастала вотчыннае прадпрымальніцтва. Поруч з вінакурнямі ў маёнтках ствараліся суконныя, палатняныя, шкляныя, гарбарныя, паташныя і іншыя мануфактуры, другія прадпрыемствы. З 1796 па 1860 г. у Беларусі колькасць вотчынных мануфактур павялічылася з 51 да 70 (27,1 %), а іх валавая прадукцыя – з 353 тыс. да 757 тыс. руб. (у 2,1 раза). У канцы 20-х гг. XIX ст. з'явіліся першыя панскія фабрыкі. Да сялянскай рэформы 1861 г. колькасць іх узрасла з 2 да 18, а валавая прадукцыя – са 151 тыс. да 850 тыс. руб. (у 5,6 раза)[5]. На прамысловых прадпрыемствах скарыстоўвалася як паншчынная праца прыгонных, так і наёмная праца (сваіх сялян і пабочных асоб).

**Дзяржаўныя маёнткі.** Дзяржаўная зямельная ўласнасць у Беларусі ў гэты перыяд значна ўступала панскай. У апошняй чвэрці XVIII ст. на яе долю прыпадала каля 18 % усяго зямельнага фонду. У фактычным жа ўладанні феадальнай дзяржавы знаходзілася толькі 7,5 % агульнай зямельнай плошчы[6]. Астатнія дзяржаўныя землі былі аддадзены ў арэнду, заклад, кіраванне свецкім і духоўным феадалам.

---

[1] *Улащик Н.Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. С.164.

[2] *Козловский П.Г.* Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. Мн., 1974. С.96, 98, 173; *Мелешко В.И.* Из истории аграрных отношений Восточной Белоруссии в период упадка Речи Посполитой // Acta Baltico-Slawica. Białystok, 1967. T. V. S. 75.

[3] *Чепко В.В.* Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX века. С.29.

[4] *Улащик Н.Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. С.200.

[5] *Болбас М.Ф.* Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.). Мн., 1966. С.67, 71, 84, 86, 97.

[6] *Козловский П.Г.* Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII – первой половине XIX в. С.70, 77; Историческое обозрение 50-летней деятельности Министерства государственных имуществ. Ч.II. Отд.2. С.75–76, 80–82.

З далучэннем тэрыторыі Беларусі да Расійскай імперыі дзяржаўны зямельны фонд яшчэ больш зменшыўся. Як ужо адзначалася, царскі ўрад раздаваў казённыя землі разам з сялянамі расійскім саноўнікам. Пасля другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай Кацярына II падаравала ў Мінскай, Слонімскай і Віленскай губернях былыя каралеўскія і старасцінскія маёнткі з 40,4 тыс. душ, Павел I у Літоўскай губерні – з 19,8 тыс. душ[1]. У 1810–1816 гг. расстройства дзяржаўных фінансаў прымусіла царызм прадаць многія казённыя маёнткі ў прыватныя рукі[2]. Аднак у далейшым у казну перайшлі канфіскаваныя землі ўдзельнікаў паўстання 1830–1831 гг. Дзяржаўны зямельны фонд у 30-я – пачатку 40-х гг. XIX ст. папоўніўся таксама за кошт секулярызацыі царкоўных і манастырскіх уладанняў. У выніку да часу рэформы дзяржаўных сялян (канец 60-х гг.) у пяці заходніх губернях казне належала столькі зямлі (4472 тыс. дзесяцін, або 18,7 %)[3], колькі яна прыкладна мела ў апошняй чвэрці XVIII ст.

З раздачай дзяржаўных зямель колькасць казённых сялян у Беларусі ў апошняй трэці XVIII ст. зменшылася прыкладна ў тры разы і склала 76,4 тыс. рэвізскіх душ, ці 5,5 % народанасельніцтва[4]. У далейшым з пашырэннем дзяржаўнай зямельнай уласнасці і натуральным прыростам насельніцтва колькасць іх тут узрасла. У 1866 г. яна дасягнула 266 тыс. душ мужчынскага полу, што складала 21,1 % сялянскага, або 15,5 % усяго насельніцтва[5].

Амаль усе дзяржаўныя маёнткі здаваліся з публічных таргоў у доўгатэрміновую арэнду (на 24 гады і больш) чыноўнікам, дробнай шляхце. Фальварковая гаспадарка вялася працай казённых сялян. У пачатку XIX ст. частка дзяржаўных зямель была перададзена самім сялянам на правах грашовай арэнды. Пры гэтым фальваркі ліквідаваліся. Земляробства, жывёлагадоўля, уся гаспадарка дзяржаўных маёнткаў да 40-х гг. XIX ст. знаходзіліся на той жа ступені развіцця, што і ў панскіх фальварках.

**Абеззямеленне і расслаенне сялянства.** Сяляне атрымлівалі ў карыстанне ад феадала зямельны надзел, за які абавязаны былі адбываць паншчыну або плаціць грашовы аброк. З развіццём фальваркова-паншчыннай гаспадаркі ішоў працэс абеззямелення сялянства. У 90-я гг. XVIII ст. у Заходняй і Цэнтральнай Беларусі налічвалася 17,8 тыс., або 7 % сялян (агароднікаў і халупнікаў), якія не мелі палявога надзелу[6]. Абеззямеленне сялян найбольшых памераў дасягнула перад адменай прыгону. З сярэдзіны 40-х да пачатку 60-х гг. XIX ст. у Гродзенскай губерні плошча сялянскай надзельнай зямлі зменшылася з 760 тыс. да 602,6 тыс. дзесяцін, г.зн. на 20,7 %,

---

[1] *Жукович П.* О русском землевладении в Северо-Западном крае со времени присоединения его к России. С.9; *Ён жа.* Западная Россия в царствование императора Павла. С.218, 219.

[2] *Сосно В.А.* Складывание сословия государственных крестьян в Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. // Вопросы истории. Межведомственный сборник. Мн., 1981. Вып.8. С.62.

[3] Военно-статистический сборник. Вып.IV. С.203.

[4] *Сосно В.А.* Формирование сословия государственных крестьян в Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в.: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1983. С.14.

[5] Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 год. СПб., 1868. С.184 – 225.

[6] Материалы научной сессии по теме «Разложение крепостнической системы и процесс формирования капиталистического уклада в сельском хозяйстве Белоруссии и Литвы». С.41.

у Віленскай – на 15 %[1]. У апошняй толькі за восем перадрэформенных гадоў каля 100 тыс. дзесяцін надзельнай зямлі было далучана да панскіх фальварковых угоддзяў[2]. Памешчыкі захоплівалі лепшыя надзельныя ўчасткі, каб у будучым прымусіць сялян адпрацоўваць за зямлю або ператварыць іх у пастаянных наёмных рабочых-парабкаў. У выніку напярэдадні рэформы 1861 г. у маёнтках сярэдне- і буйнапамесных уласнікаў пяці заходніх губерняў землі, што знаходзіліся ў сялянскім карыстанні, складалі толькі 26,6 % панскай зямлі[3].

З развіццём таварна-грашовых адносін, абеззямеленнем часткі сялянскіх двароў, пры розным забеспячэнні іх рабочай і прадукцыйнай жывёлай паглыблялася маёмасная дыферэнцыяцыя сялянства. У другой палове 50-х гг. XIX ст. у маёнтках сярэдне-і буйнапамесных уласнікаў і дзяржаўных уладаннях Беларусі было звыш 100 тыс. беззямельных сялян-бабылёў абодвух полаў[4]. Апрача таго, тут налічвалася прыкладна столькі ж малазямельных сялян-агароднікаў. Для большасці беззямельных і малазямельных асноўнай крыніцай існавання з'яўлялася наёмная праца. Паступова складвалася эканамічна ўстойлівая група гаспадарак, якая рэзка вылучалася з іх агульнай масы. Вылучалася праслойка заможнага сялянства, якое мела вялікія надзелы і значную колькасць жывёлы. Іншы раз заможныя сяляне ў якасці падрадчыкаў арандавалі ў феадальнай дзяржавы і ўладальнікаў маёнткаў зямлю і прамыслова-гандлёвыя прадпрыемствы (корчмы, млыны, лаўкі і інш.), займаліся гандлем, дзе эксплуатавалася наёмная праца сялянскай беднаты. Маёмаснае расслаенне сялянства складала аснову для распаўсюджання найму. Да таго ж у 1830 г. у казённых маёнтках заходніх губерняў урад дазволіў аддаваць у работнікі да заможных гаспадароў беззямельных сялян-кутнікаў[5]. Пазней такое права атрымалі і заможныя панскія сяляне. На панскіх землях Віленскай губерні ў канцы 40-х гг. XIX ст. сялянскія гаспадаркі, што звярталіся да найму парабкаў, складалі 7–8 % ад іх агульнай колькасці, у Гродзенскай губерні ў канцы 50-х гг. – каля 10 %[6]. Наёмная праца, але ў меншых памерах, ужывалася таксама на панскіх фальварковых землях. Яшчэ шырэй наёмную рабочую сілу скарыстоўвалі на казённай вёсцы. У дзяржаўных маёнтках толькі першай губерні ў сярэдзіне 50-х гг. гадоў штогод працавала па найме 17–19 тыс. дзяржаўных сялян[7]. Гэта сведчыць аб працэсе сацыяльнага расслаення сялянства, хоць наёмная праца пераважна была прымусовая, па загаду памешчыкаў і ўлад. Сацыяльнае расслаенне сялянства Беларусі пачалося ў другой палове XVIII ст. і да

[1] *Хилюта В.А.* Землепользование и землевладение бывших помещичьих крестьян Гродненской губ. в середине XIX века (40-е – начало 70-х гг.): Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1982. С.16; История Литовской ССР. Вильнюс, 1978. С.208.

[2] *Улащик Н.Н.* Обезземеливание крестьян Литвы и Западной Белоруссии накануне отмены крепостного права // Революционная ситуация в России в 1859–1861 гг. М., 1960. С.55.

[3] Военно-статистический сборник. Вып.IV. С.188, 199.

[4] Падлічана па: РДГА, ф.1290, воп.6, спр.19, арк.3–7, 9–10; *Дружинин Н.М.* Государственные крестьяне и реформа П.Д.Киселева. М., 1958. Т.2. С.182; *Шпаков М.Ф.* Реализация реформы 1861 г. в Могилевской губ. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. 1963. Вильнюс, 1965. С.568–569.

[5] ПСЗ. Собр. 2-е. Т.5. №4148.

[6] *Улащик Н.Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. С.332, 336.

[7] *Корева А.* Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Виленская губ. СПб., 1861. С.498–499.

сярэдзіны XIX ст., як вынікае з прыведзеных даных, дасягнула значнай велічыні.

**Рост паншчыны. Дзяржаўныя падаткі і павіннасці сялянства.** З пашырэннем плошчы фальварковай ворнай зямлі адбываўся перавод сялян з аброчных у паншчынныя. Да сярэдзіны XIX ст. у параўнанні з апошнім дзесяцігоддзем XVIII ст. удзельная вага паншчыннага сялянства ў панскіх маёнтках Беларусі павялічылася з 77 да 97 %[1]. Казённыя сяляне да 40-х гг. XIX ст. таксама адбывалі паншчыну. Гэта тармазіла разлажэнне феадальна-прыгонніцкіх і развіццё капіталістычных адносін як у фальварковай, так і ў сялянскай гаспадарцы, але не магло спыніць яго.

На працягу першай паловы XIX ст. памер паншчыны, што прыпадала на сялянскую гаспадарку, узрос у сярэднім у 1,5 – 2 разы. У 30–40-я гг. у большасці маёнткаў найбольш пашырана была паншчына ў 6 дзён у тыдзень з сялянскай гаспадаркі. Павялічыліся нормы згонаў (гвалтаў), іншых работ. У многіх маёнтках існавала ўрочная сістэма паншчыннай працы. Нявыкананыя за дзень работы пераносіліся на другі тэрмін. Захоўваліся шматлікія павіннасці па абслугоўванні панскага двара і натуральны аброк ("даніна") – абавязак даваць землеўладальніку прадукты сваёй гаспадаркі: палатно, птушку, яйкі, мёд, а таксама грыбы, ягады і інш. Многія памешчыкі аддавалі сваіх прыгонных у наём падрадчыкам па кантрактах на будаўнічыя і дарожныя работы, адпраўлялі на нарыхтоўку і сплаў лесу[2].

Апрача павіннасцей за карыстанне зямлёй сяляне неслі дзяржаўныя грашовыя і натуральныя павіннасці. Да першых належалі падушны падатак, земскі збор, якія ў 40-я гг. XIX ст. складалі 5–7 руб. з сялянскага двара. Заплаціць такую суму сялянскай беднаце часта было не пад сілу. Сяляне адбывалі дарожную, кватэрную (пастойную) натуральныя павіннасці, абавязаны былі перавозіць ваенныя грузы. Новым для Беларусі відам цяжкай павіннасці стала рэкруцкая павіннасць, што забірала з сялянскіх сямей маладых, здаровых работнікаў. Кожны рэкрут прыпадаў на 200 сялянскіх двароў. Забеспячэнне яго ляжала на абавязку сельскай грамады[3].

**Сялянская гаспадарка**. У сялянскай гаспадарцы, як і ў панскай, панавала папарнае трохполле. Сяляне аралі зямлю сахой, рыхлілі яе галоўным чынам драўлянай бараной. Сеялі ўручную, збожжа і траву ўбіралі сярпом і касой, малацілі цэпам. Удасканаленыя прылады працы і машыны практычна адсутнічалі. Структура пасеваў збожжавых культур на сялянскіх палях амаль не адрознівалася ад фальварковай. Але ў сялян большую плошчу займалі тэхнічныя расліны – лён і каноплі. Сяляне паўночнай часткі Беларусі сеялі лён не толькі для сябе, але і на продаж. У другой палове гэтага перыяду пасля хлеба найбольш важным прадуктам сялянскага харчавання стала бульба.

Пры дрэнным угнаенні глебы і нярэдка горшай якасці сялянскай зямлі ў параўнанні з фальварковай яе ўраджайнасць была нізкая. Звычайна ўраджай на надзельных палях складаў сам-2–3[4]. Пры такой ураджайнасці з зямель-

---

[1] Материалы научной сессии по теме «Разложение крепостнической системы и процесс формирования капиталистического уклада в сельском хозяйстве Белоруссии и Литвы». С.35; *Чепко В.В.* Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX века. С. 117.

[2] Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С.480–483.

[3] *Чепко В.В.* Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX века. С.136–138.

[4] Материалы научной сессии по теме «Разложение крепостнической системы и процесс формирования капиталистического уклада в сельском хозяйстве Белоруссии и Литвы». С.66; *Козловский П.Г., Мелешко В.И., Панютич В.П.* и др. Основные этапы развития сельскохозяйственного производства в Белоруссии во второй половине XVIII – начале XX в. С.7.



Сельскагаспадарчыя прылады (саха, барана) на двары селяніна. XIX ст.

нага надзелу, які меўся ў большасці сялян (8–12 дзесяцін на двор ва ўсходніх, цэнтральных і 12–15 дзесяцін у заходніх паветах), у многіх выпадках немагчыма было пракарміць сялянскую сям'ю. Нізкі агратэхнічны ўзровень земляробства ва ўмовах панавання паншчыннай сістэмы выклікаў частыя неўраджаі.

У цэлым павялічвалася пагалоўе сялянскай рабочай і прадукцыйнай жывёлы. Адначасова рост яго ў сялянскіх дварах запавольваўся тым, што феадалы захоплівалі грамадскія лугі. Немалыя страты былі ад эпізаотый, што паўтараліся даволі часта.

Сяляне, як і раней, займаліся рознымі промысламі (вырабам для сябе льняных і суконных тканін для адзення, аўчын, драўляных хатніх прадметаў, вазоў, саней, простых прылад працы). Прамысловыя заняткі яны звычайна спалучалі з сельскагаспадарчымі, з апрацоўкай зямельнага надзелу. У многіх панскіх і дзяржаўных маёнтках зімой, у вольны ад земляробчых работ час, амаль усе сяляне з дазволу ўладальніка ішлі на лесараспрацоўкі. Шырокае распаўсюджанне атрымалі адыходныя промыслы – работы на будаўніцтве дарог, крэпасцей і асабліва сплаў лесу, возніцтва. У 40-я гг. XIX ст. толькі з Магілёўскай губерні адыходзілі на дарожна-будаўнічыя работы да 10 тыс. сялян. На пабудове Кіева-Брэсцкай шашы ў Гродзенскай губерні працавала каля 3 тыс. чалавек. У 30-я гг. у Беларусі на сплаве лесу было занята 50–60 тыс. чалавек, у 40–50-я гг. – да 150 тыс.[1] Промыслы, асабліва адыходныя, садзейнічалі пранікненню таварных адносін у сялянскую гаспадарку. Яны з'яўляліся для асноўнай масы сялянства амаль адзінай крыніцай атрымання грашовых сродкаў для выплаты падаткаў і закупкі неабходных

[1] Материалы научной сессии по теме «Разложение крепостнической системы и процесс формирования капиталистического уклада в сельском хозяйстве Белоруссии и Литвы». С.73; Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губ. / Сост. П. Бобровский.СПб., 1863. Ч.1. С.215.

тавараў. Аднак неземляробчай прамысловай дзейнасці сялян перашкаджала паншчынная сістэма з вельмі высокай нормай адпрацовачных павіннасцей.

**Рэформа П.Кісялёва ў дзяржаўных маёнтках.** Крызіс феадальна-прыгонніцкіх формаў гаспадаркі, узмацненне сялянскага руху прымусілі царызм правесці некаторыя змены ў сістэме феадальнай эксплуатацыі сялянства. У снежні 1839 г. пачалася перабудова адміністрацыйна-гаспадарчага кіравання дзяржаўнай вёскай заходніх губерняў. Яна з'яўлялася састаўной часткай агульнарасійскай рэформы П.Кісялёва. Праводзілася люстрацыя, г.зн. падрабязнае апісанне маёнткаў і вызначэнне памераў сялянскага землекарыстання і павіннасцей. Уводзіўся падушны надзел, роўны 3 дзесяцінам ворнай зямлі і 1 дзесяціне сенажацей. На аснове маёмаснай няроўнасці на дзяржаўнай вёсцы сяляне былі падзелены на цяглых, напаўцяглых, агароднікаў і бабылёў. Цягламу двару паншчына вызначалася памерам у шэсць дзён на тыдзень, паўцягламу – тры дні. Агароднікі за карыстанне агародамі і пашамі павінны былі выконваць розныя дваровыя работы, а ў выпадку неабходнасці прыцягвацца і на паншчыну. Бабылі працавалі ў маёнтку за натуральную ці грашовую плату.

Рэформа палепшыла становішча дзяржаўных сялян. У выніку праведзенай люстрацыі павіннасці казённых сялян Віцебскай і Магілёўскай губерняў зменшыліся на 62–65 %, Гродзенскай і Мінскай – на 30–35; зямельныя надзелы ў апошніх губернях павялічыліся на 32–36, у Магілёўскай – на 15 %. З 1844 г. у дзяржаўных уладаннях Беларусі ліквідаваліся фальваркі, сяляне пераводзіліся з паншчыны на грашовы аброк. Памеры яго адпавядалі даходу, які атрымлівала казна па інвентарах і арэндных кантрактах. Пазней былі адменены даніна і дадатковыя адпрацовачныя павіннасці. Перавод на аброк істотна змяніў эканамічны стан сялян: яны атрымалі большую свабоду для гаспадарчай дзейнасці. Была спынена таксама здача дзяржаўных маёнткаў у арэнднае карыстанне[1].

**Інвентары панскіх маёнткаў.** У 1844 г. Мікалай I зацвердзіў Палажэнне, згодна з якім у гэтым жа годзе ва ўсіх заходніх губернях былі створаны губернскія дваранскія камітэты для складання абавязковых інвентароў панскіх маёнткаў. Камітэты павінны былі перагледзець старыя інвентары ў маёнтках, а там, дзе яны адсутнічалі, – скласці новыя. Увядзенне ў дзеянне перагледжаных і складзеных упершыню інвентароў у Беларусі пачалося ў 1845 г. Павіннасці сялян у іх вызначаліся адпаведна колькасці і якасці надзельнай зямлі, але не маглі перавышаць 1/3 валавога даходу з пазямельных участкаў. Інвентары фіксавалі і велічыню надзелаў з мэтай некалькі абмежаваць сялянскія павіннасці. Зямля, што знаходзілася ў фактычным карыстанні сялян, захоўвалася за імі. Разам з тым для цяглага двара вызначаліся нормы надзелу ад 4,75 да 9 дзесяцін. Такая гаспадарка абавязана была адпрацаваць у тыдзень на паншчыне тры дні з канём (мужчынская паншчына) і адзін дзень без яго (жаночая паншчына). Фурманачная павіннасць выконвалася ў лік паншчынных дзён. Памешчыкам было забаронена самавольна вызначаць згонныя дні, а таксама абкладаць сялян натуральнымі паборамі[2].

Інвентарная рэформа выклікала незадавальненне памешчыкаў, якія ўвогуле выступілі супраць умяшання дзяржавы ва ўнутрыпамеснае размяркаванне ўгоддзяў і рэгламентацыю сялянскіх павіннасцей. Яны ўсяляк тар-

---

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С.487–488.

[2] *Чепко В.В.* Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. С.58–59; Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С.488.

мазілі перагляд старых і ўвядзенне новых інвентароў. Уваходзячы ў інвентарныя камітэты, памешчыкі дабіліся па многіх маёнтках не толькі захавання ранейшых прыгонніцкіх павіннасцей, але часта і іх павелічэння. Увядзенне абавязковых інвентароў ішло павольна. Царскі ўрад, баючыся абвастрыць адносіны з мясцовымі памешчыкамі, не асабліва падганяў іх. У панскіх уладаннях Заходняй і Цэнтральнай Беларусі абавязковыя інвентары былі складзены і ўведзены ў другой палове 40-х гг. XIX ст. Ва ўсходніх паветах яны былі ўведзены ў частцы маёнткаў. Тут інвентары некалькі разоў пераглядаліся і выпраўляліся. Перагляд і выпраўленне іх ва Усходняй Беларусі зацягнуліся да 1857 г., калі пачалася падрыхтоўка адмены прыгону. У сувязі з гэтым неабходнасць ва ўвядзенні абавязковых інвентароў у маёнтках зусім адпала. У цэлым інвентарная рэформа, выкліканая крызісам прыгонніцкага ладу, засталася незавершанай і не аблегчыла становішча панскіх сялян. Вынікам яе было абвастрэнне класавай барацьбы на панскай вёсцы[1].

Такім чынам, у Беларусі, як і ва ўсёй Расійскай імперыі, прыгонніцкая сістэма гаспадаркі, асновай якой з'яўлялася феадальная ўласнасць на зямлю, да сярэдзіны XIX ст. прыйшла ў заняпад. Яна стала тормазам для далейшага развіцця прадукцыйных сіл, што ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. вяло да станаўлення капіталістычнага ўкладу ў нетрах феадалізму. У 40–50-я гг. XIX ст. феадальна-прыгонніцкі спосаб вытворчасці аказаўся ў стане глыбокага крызісу. Адначасова павялічвалася феадальная эксплуатацыя большай часткі сялянства, становішча яго пагаршалася. Вынікам гэтага былі масавыя сялянскія хваляванні.

## 2. Антыпрыгонніцкі рух сялян

Сялянскі рух, які з'яўляўся адным з найважнейшых фактараў разлажэння і крызісу прыгонніцтва, у першай палове XIX ст. узрастаў. Гэта ў першую чаргу было выклікана ўзмацненнем феадальна-прыгонніцкага ўціску, што знайшло сваё адлюстраванне ў павелічэнні феадальных павіннасцей, захопе ці скарачэнні сялянскіх надзелаў, гвалтоўным перасяленні сялян на горшыя, неўрадлівыя землі, пераводзе на вотчынныя фабрыкі, ператварэнні вольных людзей у прыгонных, у жорсткім абыходжанні з імі памешчыкаў, аканомаў, арандатараў казённых маёнткаў (пасэсараў). Узмацненню феадальнага прыгнёту сялянства аказвала ўсё больш рашучы адпор.

Формы сялянскага руху былі разнастайныя: скаргі, "іскі аб волі", адмова ад выканання павіннасцей, уцёкі, падпалы панскіх і дзяржаўных будынкаў, супраціўленне землеўласнікам, аканомам, пасэсарам, а таксама паліцыі і войску, забойства памешчыкаў, іх служачых.

Сялянства не абмяжоўвалася барацьбой за змякчэнне прыгонніцкага ўціску. Яно ішло значна далей – выступала за поўную ліквідацыю прыгоннай залежнасці. У першай палове XIX ст. у Беларусі, як і ў іншых рэгіёнах Расійскай імперыі, барацьба прыгонных за "волю" з'яўлялася вядучым кірункам сялянскага руху. У апошнія перадрэформенныя гады назіраўся рост выступленняў сялян за знішчэнне прыгону, вольных людзей – за зям-

[1] *Чепко В.В.* Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. С.59; *Улащик Н.Н.* Введение обязательных инвентарей в Белоруссии и Литве // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. 1958. Таллин, 1959. С. 262, 267, 272–274, 276–277; *Короткевич А.Т., Лысенко М.Г.* Инвентарный вопрос в Восточной Белоруссии в период кризиса крепостничества // Уч. зап. Полоцк. гос. пед. ин-та. 1958. Вып.1. С.50–62.

лю ў сувязі з выгнаннем іх з маёнткаў. Масавы антыпрыгонніцкі рух сялянства аказваў істотнае ўздзеянне на памешчыкаў і палітыку ўрада. Барацьба сялян стрымлівала імкненне першых да бязмежнага павелічэння феадальных павіннасцей, а іншы раз прымушала змякчаць прыгонніцкі ўціск, ідучы на ўступкі. Супраціўленне сялянства сур'ёзна тармазіла панскую каланізацыю на ўскраіны Расійскай імперыі[1].

**Хваляванні сялян у 1800–1839 гг.**[2] У гэтыя гады ў Беларусі зафіксавана (акрамя ўцёкаў) 160 выступленняў сялян. Імі было ахоплена 147 маёнткаў, звыш 200 паселішчаў у 40 паветах[3]. З адзначаных маёнткаў 109 з'яўляліся панскімі і 31 – дзяржаўны[4]. У 37 выпадках для падаўлення сялянскіх хваляванняў выклікалася войска. Найбольшая колькасць выступленняў сялян (44) прыпадае на 1818–1823 гг. У 1830– 1832 гг. адбылося 18 хваляванняў, у 1812–1814 гг. і 1833–1835 гг. – па 13, у 1803–1805 гг. – 12. Шэраг сялянскіх выступленняў вылучаўся ўпартасцю і вялікім напалам барацьбы: 28 хваляванняў працягваліся больш за два гады. У некаторых з іх сяляне змагаліся з уладальнікамі маёнткаў і ўладамі на працягу многіх гадоў[5].

Сялянства супраціўлялася ўзмацненню феадальна-прыгонніцкага ўціску, змагалася з панскім самавольствам. Як ужо адзначалася, пратэст сялян выяўляўся ў розных формах. Найбольш пашыранай пасіўнай формай сялянскага руху ў Беларусі ў разгледжаны час з'яўляліся прашэнні, скаргі, а таксама "іскі аб волі" ці змяншэнні памераў павіннасцей. Усіх іх, паводле далёка не поўных даных, улічана 83. Пераважная большасць (56) зыходзіла з панскіх маёнткаў[6]. Скаргі падаваліся губернатару, маршалку, пракурору, іншы раз – у Правячы Сенат або на імя цара. У іх сяляне ўказвалі на цяжар павіннасцей, частыя перасяленні, катаванні, якія ўчынялі над імі памешчыкі і арандатары маёнткаў. Як правіла, скаргі прызнаваліся несправядлівымі, а скаржнікі сурова караліся. Асабліва жорсткая расправа была з тымі, хто праяўляў упартасць у адстойванні сваіх патрабаванняў. Скаргі адлюстроўвалі наіўную веру сялян у тое, што ўлады і цар могуць выступіць у іх абарону, супраць непамернай эксплуатацыі і бясчынстваў землеўласнікаў, іх аканомаў, пасэсараў.

Калектыўныя "іскі аб волі" ці змяншэнні велічыні павіннасцей падавалі панскія сяляне мястэчак і некаторых вёсак, якія раней з'яўляліся мяшчанамі або дзяржаўнымі сялянамі. Іх хваляванні былі найбольш значнымі ся-

---

[1] История крестьянства России с древнейших времен до 1917 г. М., 1993. Т.3. С.419, 424.

[2] У адзначаны перыяд назіраўся працэс разлажэння феадальна-прыгонніцкай сістэмы, які ў 40–50-я гг. XIX ст. прывёў да крызісу феадальных адносін. Гэта пакладзена ў аснову перыядызацыі сялянскага руху ў Беларусі ў 1800–1860 гг.

[3] У сучасных граніцах Беларусі ўлічаны і сялянскія выступленні ў паветах, цэнтры якіх знаходзяцца за яе межамі.

[4] Чатыры маёнткі належалі царкве, адзін – манастыру. У двух выпадках саслоўная прыналежнасць уладальнікаў маёнткаў у крыніцах не вызначана.

[5] Падлічана па: Крестьянское движение в России в 1796–1825 гг.: Сб. документов / Под ред. С.Н. Валка. М., 1961. С.840–910; Крестьянское движение в России в 1826–1849 гг.: Сб. документов / Под ред. А.В.Предтеченского. М., 1961. С.704–759; *Мельцер М.Д.* Из истории крестьянского движения в Белоруссии в 1-й четверти XIX века // Уч.зап. Белгосуниверситета. Сер. ист. 1950. Вып.10. С.67–87; *Лысенко М.Г.* Крестьянское движение в Восточной Белоруссии в 1825–1860 гг. (по материалам Могилевской губ.) // Уч.зап. Полоцк. гос.пед. ин-та. 1958. Вып.II. С.4–11; *Игнатович И.И.* Крестьянское движение в России в первой четверти XIX века. М., 1963. С.70–72, 82–83, 95–96, 354–374, 422–429; *Улащик Н.Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. С.417–436; *Чепко В.В.* Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. С.103–110, 117–119, 121, 123, 126–150, 155–158, 169, 184, 186.

[6] Там жа.

лянскімі выступленнямі гэтага перыяду і нярэдка працягваліся шмат гадоў. Сяляне або адмаўляліся выконваць паншчынныя і іншыя павіннасці, спасылаючыся на тое, што яны вольныя, або патрабавалі выканання павіннасцей згодна з інвентарамі маёнткаў XVIII ст., г.зн. у меншых памерах. У "ісках аб волі" сяляне даказвалі сваё свабоднае паходжанне ці незаконнае запрыгоньванне іх памешчыкамі, нярэдка спасылаліся ў агульнай форме на вялікакняжацкія або каралеўскія ўказы, канстытуцыйныя акты, іншыя як быццам існуючыя дакументы.

Як актыўная форма сялянскай барацьбы найбольшае распаўсюджанне ў Беларусі атрымала адмова ад выканання ўзросшых феадальных павіннасцей, перш за ўсё паншчыны, а таксама распараджэнняў памешчыкаў, аканомаў, пасэсараў, мясцовых улад. Паводле звестак адзначаных вышэй крыніц, такія хваляванні адбыліся ў 75 маёнтках Беларускага рэгіёна. Сяляне звычайна спасылаліся на інвентары панскіх уладанняў, зазначаючы, што патрабаванні іх уладальнікаў перавышаюць памер павіннасцей, прадугледжаны гэтымі дакументамі. У асобных выпадках яны патрабавалі пераводу з паншчыны на грашовы аброк. Часта такія выступленні адбываліся ў здадзеных у арэнду маёнтках, дзе сяляне пратэставалі супраць вымаганняў арандатараў. Асабліва значныя хваляванні супраць выканання феадальных павіннасцей адбыліся ў 1808–1809 гг. у Слуцкім, Ігуменскім і Рэчыцкім паветах Мінскай губерні[1].

Хваляванні ў беларускай вёсцы не заціхалі і ў час вайны 1812 г. Сяляне выступалі супраць памешчыкаў, у першую чаргу апалячаных, у якіх яны бачылі прыхільнікаў Напалеона і сваіх спрадвечных прыгнятальнікаў. Акадэмік Я. Тарле адзначыў, што Беларусь у ліпені і жніўні 1812 г. была ахоплена бурнымі сялянскімі хваляваннямі, якія месцамі пераходзілі ў адкрытыя паўстанні. Памешчыкі ў паніцы беглі ў Вільню, Віцебск, Магілёў, Мінск, прасілі ўзброенай дапамогі супраць сялян, а таксама аб правядзенні карных экспедыцый[2]. У прыватнасці, у Віцебскай губерні сялянскі рух назіраўся ў Полацкім, Гарадоцкім, Суражскім паветах. Тут мноства сялян перастала падпарадкоўвацца сваім уладальнікам, выганяла іх з маёнткаў, граміла сядзібы, разбірала панскую маёмасць. Земская (сельская) паліцыя не магла іх уціхамірыць[3].

Пасля вайны беларускія сяляне, якія зведалі цяжар акупацыі і ўдзельнічалі ў барацьбе супраць французаў, спадзяваліся атрымаць вызваленне ад прыгоннай залежнасці, чакалі, што ўрад палепшыць іх становішча. Аднак прыгнёт, павіннасці павялічваліся. Імкнучыся кампенсаваць прынесеныя вайной страты і ўзняць разбураную гаспадарку, памешчыкі ўзмацнілі прыгонніцкую эксплуатацыю сялян. Апрача таго, апалячаныя памешчыкі, якія падтрымлівалі Напалеона, помсцілі сваім прыгонным за іх удзел у вызваленчай вайне. Нездавальненне і абурэнне сялян выявіліся ў масавых выступленнях, колькасць якіх асабліва ўзрасла ў канцы другога – пачатку трэцяга дзесяцігоддзя XIX ст.

У 1800 – 1839 гг. у Беларусі былі зафіксаваны і сялянскія выступленні, што праяўляліся ў рэзкіх, наступальных формах: забойства памешчыкаў, іх аканомаў і арандатараў маёнткаў – 10 выпадкаў, разгром маёнткаў, падпалы будынкаў – 8, напад на памешчыкаў, пасэсараў – 4. Характэрна, што 9 з 10 за-

[1] *Чепко В.В.* Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. С.107–109.

[2] *Тарле Е.В.* Нашествие Наполеона на Россию. 1812 год. М., 1938. С.175.

[3] *Игнатович И.И.* Крестьянское движение в России в первой четверти XIX века. С.84.

бойстваў, усе разгромы маёнткаў і падпалы будынкаў адбыліся ў панскай вёсцы.

Сяляне часта ўцякалі ад сваіх прыгнятальнікаў. У час неўраджаяў і голаду гэта сацыяльная з'ява набывала масавы характар. У прыватнасці, у сувязі з неўраджаем збожжа і голадам тысячы сялян Магілёўскай і Віцебскай губерняў у 1822–1824 гг. накіраваліся ў суседнія Смаленскую, Кіеўскую і Валынскую губерні. Віцебскія памешчыкі звярнуліся да міністра ўнутраных спраў з просьбай прыняць рашучыя меры супраць уцёкаў сялян, якія, паводле іх слоў, "уцякаюць бесперастанку, не толькі па адным, але сем'ямі і цэлымі вёскамі". Пытанне аб уцёках усходнебеларускіх сялян разглядалася на пасяджэнні Камітэта міністраў. Царскі ўрад у 1822 г. задаволіў хадайніцтва памешчыкаў усходніх паветаў Беларусі аб вяртанні гэтых сялян іх уладальнікам. У канцылярыі гродзенскага губернатара ў 1813 – 1839 гг. таксама налічвалася да 160 спраў аб уцёках прыгонных[1].

**Сялянскія хваляванні ў 1840 – 1860 гг.** З павелічэннем памераў паншчыны, узмацненнем панскага прыгнёту і свавольства ва ўмовах крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы сялянскі рух значна ўзрос. За гэтыя гады ў Беларусі адзначана (акрамя ўцёкаў) 350 выступленняў сялян, якія ахапілі 330 маёнткаў, 380 паселішчаў у 39 паветах. З гэтых маёнткаў 307 былі панскія, 17 – дзяржаўныя і 6 належалі царкве. Такім чынам, абсалютная большасць сялянскіх хваляванняў прыпадае на панскія ўладанні. 32 выступленні падаўлены ваеннай сілай. Найбольшая колькасць выступленняў (90) назіралася перад адменай прыгону – у 1858–1860 гг. Як і раней, многія хваляванні сялян вылучаліся ўпартасцю і вялікім напалам барацьбы: 20 выступленняў працягваліся больш чым два гады. Некаторыя сяляне змагаліся з памешчыкамі і ўладамі шмат гадоў[2]. Самай распаўсюджанай формай сялянскага руху ў Беларусі ў 40–50-я гг. XIX ст. заставаліся прашэнні, скаргі, колькасць якіх намнога ўзрасла. Сяляне падавалі таксама "іскі аб волі" або змяншэнні велічыні павіннасцей. Усіх іх згодна са звесткамі названых вышэй крыніц

---

[1] Крестьянское движение в России в 1796–1825 гг. С.896; *Чепко В.В.* Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. С.124–125; *Игнатович И.И.* Крестьянское движение в России в первой четверти XIX века. С.447; *Мельцер М.Д.* Из истории крестьянского движения в Белоруссии в 1-й четверти XIX века. С.75.

[2] Падлічана па: Крестьянское движение в России в 1826–1849 гг. С.762–813; Крестьянское движение в России в 1850–1856 гг.: Сб. документов / Под ред. С.Б. Окуня. М., 1962. С.684–731; Крестьянское движение в России в 1857 – мае 1861 гг.: Сб. документов / Под ред. С.Б. Окуня и К.В. Сивкова. М., 1963. С.570–679; *Гесэн У.* Барацьба сялянства на Беларусі напярэдадні 19 лютага 1861 г. // Савецкая краіна. 1932. №6. С.23–26; *Мельцэр М.Д.* Да гісторыі сялянскага руху на тэрыторыі Беларусі перад сялянскай рэформай 1861 года // Вуч. зап. Сер. гіст. 1948. Вып.6. С.10–21; *Палонскі А.* Сялянскі рух у Гродзенскай губ. перад рэформай 1861 г.: Зб. навуковых работ. Мн., 1952. С.28–37, 41–46; *Неупокоев В.* Крестьянские волнения в помещичьей деревне Литвы накануне объявления рескрипта от 20 ноября 1857 года (1832–1857 гг.) // Уч. зап. Сер. обществ. наук. Вильнюс, 1954. Т.1. С.129, 143–145, 149; *Короткевич А.Т.* Антифеодальное крестьянское движение в Витебской губ. в период кризиса крепостничества // Уч. зап. Минской партшколы. 1957. Вып.1. С.122–124, 130, 132; *Дружинин Н.М.* Государственные крестьяне и реформа П.Д. Киселева. Т.2. С.502–503; *Лысенко М.Г.* Крестьянское движение в Восточной Белоруссии в 1825–1860 гг. (по материалам Могилевской губ.). С.15, 17–22; *Фридман М.Б.* Отмена крепостного права в Белоруссии. Мн., 1958. С. 52–59; *Фірсава Е.І.* Сялянскі рух на Беларусі ў 40–50-я гады XIX стагоддзя // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1960. №1. С.58, 60, 62, 64–65; *Лазутка С.А.* Революционная ситуация в Литве 1859–1862 гг. М., 1961. С.83–87; *Улащик Н.Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. С. 440–442, 444–445; *Конюхова Т.А.* Крестьянское движение в государственной деревне Виленской и Ковенской губерний в период реформы П.Д. Киселева (1840–1857 гг.) // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1966. Таллин, 1971. С.415–418; *Чепко В.В.* Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. С.177–190, 215–216, 220–222, 242–256, 260–262.

зафіксавана 152, у тым ліку апошніх – 19. Абсалютная большасць выступленняў (144) прыпадала на панскія маёнткі. Важна падкрэсліць, што прыведзеныя лічбы далёка не поўныя. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць той факт, што па канцылярыі гродзенскага губернатара з канца 40–50-х гг. XIX ст. захавалася каля 400 спраў аб сялянскіх скаргах. У справах канцылярыі віцебскага губернатара за 1843–1858 гг. маецца да 80 розных скаргаў сялян. Колькасць іх асабліва павялічылася пасля апавяшчэння 20 лістапада 1857 г. рэскрыпта цара на імя віленскага генерал-губернатара У. Назімава аб вызваленні сялян ад прыгоннай залежнасці. Прашэнні, скаргі, "іскі аб волі" падаваліся павятовым уладам, у губернскія і цэнтральныя ўстановы, часам – на імя цара. Але ўсе прашэнні пераходзілі ў найніжэйшыя інстанцыі, пападалі да мясцовых улад, якія каралі сялян, саджалі ў турму[1].

Пошукі волі, імкненне вызваліцца ад прыгоннай залежнасці, панскай улады былі характэрнай рысай сялянскага руху ў Беларусі ў гэты перыяд. Сялянства прагна прыслухоўвалася да чутак аб волі, горача ўспрымала весткі аб сялянскіх хваляваннях у суседніх рэгіёнах, рэвалюцыйных падзеях на Захадзе. Пошукі волі ўсё часцей становяцца падставай для выступленняў беларускіх сялян. Некаторыя з іх працягваліся гадамі. Нярэдка сяляне патрабавалі пераводу іх з паншчыны на аброк ці перадачы ў казённае ведамства. Такія патрабаванні адзначаны ў 12 маёнтках[2].

Як і раней, масавай формай сялянскага пратэсту з'яўляліся ўцёкі. У перадрэформеннае дваццацігоддзе толькі злоўленых збеглых па кожнай з заходніх губерняў штогод налічвалася па некалькі соцень чалавек, а ў час галаду і іншых бедстваў колькасць іх значна павялічвалася. У Віленскай губерні ў пачатку 40-х гг. кожны год паліцыя затрымлівала ад 1700 да 2000 і больш уцекачоў. У Гродзенскай губерні у 1855 г. было затрымана 900 збеглых, у 1856 г. – 1082. Каля 3/4 іх з'яўляліся мясцовымі панскімі сялянамі, што ўцякалі ад сваіх уладальнікаў з-за катаванняў і голаду[3]. Паводле няпоўных даных, у Магілёўскай губерні ў 1855 г. затрымана 786 збеглых сялян, у 1857 г. – 1016[4].

Часта ўцёкі сялян былі выкліканы чуткамі аб дараванні волі, перадачы іх у казну. У жніўні-верасні 1841 г. каля 1200 панскіх сялян Беліцкага павета Магілёўскай губерні пакінулі маёнткі і з сем'ямі, рухомай маёмасцю накіраваліся ў Херсонскую, Екацярынаслаўскую губерні і Бесарабію. Масавыя ўцёкі іх былі выкліканы чуткамі аб царскім маніфесце, згодна з якім перасяленцы на поўдні быццам бы атрымаюць волю, зямлю, пэўныя льготы. З гэтай нагоды ў адзначаным годзе прыгонныя ўцякалі таксама з суседняга Рэчыцкага павета Мінскай губерні. Для затрымання збеглых былі пасланы воінскія каманды. Большую частку сялян затрымалі ў Чарнігаўскай губерні. Арганізатары ўцёкаў былі пакараны шпіцрутэнамі, высланы на катаргу або ў арыштанцкія роты. Многія сяляне, якія ўдзельнічалі ў самавольным перасяленні, былі высечаны розгамі. Аднак уцёкі працягваліся. У 1845 г. у сувязі з неўраджаем, голадам і пагалоскай аб магчымасці пазбавіцца ад пры-

---

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С.562; *Чепко В.В.* Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. С.179, 180.

[2] Падлічана паводле даных адзначаных вышэй крыніц.

[3] *Улащик Н.Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. С.447.

[4] *Шпаков М.Ф.* Реализация реформы 1861 г. в Могилевской губ. С.563.

гоннай залежнасці беларускія сяляне самавольна масава накіраваліся на Каўказ[1].

У выніку частых неўраджаяў невыносным было становішча сялян Віцебскай губерні. У сярэдзіне 40-х гг. неўраджаі тут працягваліся тры гады запар. Шырокае распаўсюджанне атрымалі чуткі, што сам цар дарує волю сялянам і што тыя з іх, хто адпрацуе тры гады на будаўніцтве Мікалаеўскай чыгункі, будуць вызвалены ад прыгоннай залежнасці і паселены за межамі губерні, якую як неўраджайную ўлады мяркуюць запусціць пад лес. Пад іх уздзеяннем у сакавіку – маі 1847 г. хваляванні ахапілі да 10 тыс. віцебскіх сялян. У Дрысенскім, Себежскім, Полацкім, Лепельскім і іншых паветах прыгонныя ўцякалі ў Пецярбург спачатку асобнымі сем'ямі, невялікімі групамі, а затым рушылі цэлымі вёскамі, вялікімі партыямі ў некалькі соцень чалавек. Мясцовыя ўлады з дапамогай паліцыі беспаспяхова спрабавалі спыніць гэты паток уцекачоў. Сяляне, узброеныя дубінамі, косамі, сякерамі, пікамі, стрэльбамі, уступалі ў сутычкі, з якіх нярэдка выходзілі пераможцамі, і накіроўваліся далей. Для спынення хваляванняў віцебскіх сялян і расправы над імі былі выкарыстаны значныя воінскія сілы. Пасланыя войскі затрымалі сялян, супраціўленне іх было зломлена. Усяго з уцёкаў вернута 6 тыс. чалавек. Звыш 100 з іх аддалі пад ваенны суд, каля 4 тыс. высеклі розгамі[2].

Масавы рух сялян Віцебскай губерні ў 1847 г. з'яўляўся адным з найбуйнейшых сялянскіх выступленняў у Расіі 40-х гг. XIX ст. Ён адрозніваецца ад звычайных уцёкаў сялян як па маштабах, так і па сваім характары. Тысячныя натоўпы аб'яднаных збеглых прыгонных ператвараліся ў атрады паўстанцаў, што са зброяй у руках змагаліся супраць царскіх войскаў і паліцыі. Рух віцебскіх сялян паўплываў на сялян іншых мясцовасцей Беларусі. У 1847 – 1848 гг. многія з іх у Магілёўскай, Мінскай і Віленскай губернях уцякалі ад сваіх памешчыкаў на пабудову той жа Мікалаеўскай чыгункі[3].

Сярод актыўных формаў барацьбы сялян па-ранейшаму найбольш пашыранымі з'яўляліся масавыя адмовы ад выканання павіннасцей і распараджэнняў памешчыкаў, аканомаў, мясцовых улад. Выступленні такога тыпу выяўлены ў 146 маёнтках. Пераважная большасць адмоў ад выканання павіннасцей (69 з 88) была накіравана выключна супраць адбывання паншчыны. Нярэдка хваляванні набывалі ўпарты, працяглы характар і ўсё часцей заканчваліся сутычкамі з прадстаўнікамі мясцовай улады, паліцыяй і войскам.

З другой паловы 40-х гг. XIX ст. сялянскі рух у Беларусі ўзмацніўся таксама з увядзеннем у панскіх уладаннях абавязковых інвентароў. Такое хваляванне ўспыхнула ў красавіку 1856 г. у Гомельскім маёнтку князя Паскевіча, дзе мелася каля 40 тыс. сялян. Інвентары тут не аблегчылі становішча прыгонных, павіннасці іх засталіся ранейшымі. Сярод сялян шэрагу вёсак распаўсюдзіліся чуткі, што інвентары хлуслівыя, і яны адмовіліся

[1] *Лысенко М.Г.* Крестьянское движение в Восточной Белоруссии в 1825–1860 гг. (по материалам Могилевской губ.). С.12–14; *Мельцэр М.Д.* Да гісторыі сялянскага руху на тэрыторыі Беларусі перад сялянскай рэформай 1861 года. С.12.

[2] *Короткевич А.Т.* Антифеодальное крестьянское движение в Витебской губ. в период кризиса крепостничества. С.126–129; *Слупский Ф.* О волнениях крестьян Витебской губ. // Памятная книжка Витебской губ. на 1866 год. Витебск, 1866. С.110–117.

[3] *Короткевич А.Т.* Антифеодальное крестьянское движение в Витебской губ. в период кризиса крепостничества С.129; *Лысенко М.Г.* Крестьянское движение в Восточной Белоруссии в 1825–1860 гг. (по материалам Могилевской губ.). С.14; *Неупокоев В.* Крестьянские волнения в помещичьей деревне Литвы накануне объявления рескрипта от 20 ноября 1857 года (1832–1857 гг.). С.139.

адбываць паншчыну, плаціць аброк, падпарадкоўвацца мясцовым уладам. У маёнтак былі накіраваны два батальёны войскаў, і з дапамогай экзекуцый хваляванне спынілі[1]. У некаторых месцах увядзенне інвентароў суправаджалася скарачэннем сялянскіх надзелаў, павелічэннем павіннасцей. Абеззямеленне сялян пры правядзенні інвентарнай рэформы зафіксавана ў дзевяці панскіх уладаннях. З абвастрэннем класавай барацьбы ў беларускай вёсцы пачасціліся забойствы і замахі на памешчыкаў, аканомаў, арандатараў, якія выяўлены адпаведна па 25 і 15 маёнтках.

Спецыфічнай формай сялянскай барацьбы з'яўляўся так званы рух цвярозасці, які напярэдадні адмены прыгону ахапіў большасць губерняў краіны і асаблівага размаху дасягнуў у Заходняй Беларусі і Літве. Сяляне добраахвотна адмаўляліся ад ужывання спіртных напіткаў. У Віленскай і Гродзенскай губернях рух пачаўся ў жніўні-верасні 1858 г., а ў наступным годзе ім было ахоплена тут 428,6 тыс. чалавек, або палова насельніцтва. Асноўную масу яго ўдзельнікаў складала сялянства[2]. Рух быў накіраваны супраць памешчыкаў – уладальнікаў вінакурань; адкупшчыкаў, феадальнай дзяржавы і карчмароў. Яго вынікам з'яўлялася ліквідацыя ў пачатку 60-х гг. у заходніх губернях акцызна-адкупной сістэмы вінакурства і замена апошняй новай акцызнай сістэмай.

Такім чынам, у першай палове XIX ст. у Беларусі адзначалася ўзмацненне сялянскага руху. Многія выступленні вызначаліся вялікай актыўнасцю, масавасцю і вастрынёй. Сялянскі рух натхняўся ідэяй вызвалення ад прыгоннай залежнасці. Разам з тым, як і ў папярэдні перыяд, ён характарызаваўся распыленасцю, лакальнасцю, слабай арганізаванасцю, адсутнасцю выразных палітычных пазіцый, што абумовіла яго няўдачу.

## 3. Прамысловасць. Шляхі зносін. Гандаль

**Фінансы і крэдыт. Уніфікацыя мер даўжыні і вагі.** У канцы XVIII – пачатку XIX ст. у фінансава-грашовай сістэме Расійскай імперыі – важным інструменце ўплыву дзяржавы на эканоміку – склалася цяжкая сітуацыя. Увядзенне папяровых грашовых знакаў – асігнацый, якія атрымалі хаджэнне з 1769 г., прывяло да ўзрастання інфляцыйных працэсаў. На беларускія губерні вольнае абарачэнне банкаўскіх асігнацый было распаўсюджана паводле ўказу ад 8 лютага 1795 г. Курс асігнацый у адносінах да срэбнай манеты падаў з кожным годам. У 1814–1815 гг. ён знізіўся да 20 кап. срэбрам – найбольш нізкага ўзроўню ў XIX ст.[3]

Інфляцыя стрымлівала развіццё капіталістычных адносін, гандлю і крэдыту. Грашовая рэформа 1839–1843 гг., якую правёў міністр фінансаў Я. Канкрын, усталявала сістэму срэбнага монаметалізму з абарачэннем

[1] *Лысенко М.Г.* Крестьянское движение в Восточной Белоруссии в 1825–1860 гг. (по материалам Могилевской губ.). С.20–21; *Фридман М.Б.* Отмена крепостного права в Белоруссии. С.56–57.

[2] *Палонскі А.* Сялянскі рух у Гродзенскай губ. перад рэформай 1861 г. С.46–47.

[3] Бумажные денежные знаки России и СССР. М., 1991. С.27.

устойлівых папяровых грашовых знакаў[1]. Яна амаль што на дзесяць гадоў стабілізавала грашовае абарачэнне і з'явілася імпульсам хуткага развіцця таварна-грашовых адносін[2].

У банкаўскай справе захоўвалася дзяржаўная манаполія. Паводле ўказаў ад 15 лістапада 1776 г., 8 снежня 1824 г., 22 сакавіка 1844 г. на Беларусь была распаўсюджана дзейнасць Дваранскага і Дзяржаўнага камерцыйных банкаў, дазволена арганізацыя пазыковых кас. Аднак гэтыя меры мелі выразны саслоўны характар і тычыліся толькі памешчыкаў. На арганізацыю прамысловай вытворчасці ў гэты перыяд крэдытная сістэма з прычыны сваёй неразвітасці істотнага ўплыву не аказвала.

Страхавая справа ў Беларусі пачынаючы з 20–40-х гг. XIX ст. была прадстаўлена аперацыямі расійскіх страхавых таварыстваў (двух супрацьпажарных, страхавання капіталу і даходаў, марскога, рачнога і сухапутнага транспарту і інш.). У адрозненне ад банкаўскай страхавая справа з першых крокаў з'яўлялася выключна капіталістычнай, прыватнапрадпрымальніцкай ініцыятывай.

Уніфікацыі беларускага і расійскага рынкаў садзейнічала ўвядзенне адзіных мер даўжыні і вагі. У Расійскай імперыі такая стандартызацыя была пачата ў канцы XVIII ст. паводле ўказу 29 красавіка 1797 г. 28 лістапада 1824 г. Камітэт міністраў прыняў рашэнне аб выкарыстанні ў Падольскай, Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Валынскай губернях і Беластоцкай вобласці толькі тых мер даўжыні і вагі, якія былі ўстаноўлены для ўсёй дзяржавы. Аб гэтым было загадана паведаміць па губернях, з амбонаў цэркваў і касцёлаў[3]. Аляксандр I пацвердзіў гэты загад указам ад 30 сакавіка 1825 г. Хаця атрыманне ўзорных мер даўжыні і вагі зацягнулася аж да пачатку 30-х гг., агульнарасійскія адзіныя меры даўжыні і вагі паступова ўвайшлі ў побыт беларускіх губерняў.

З 1830 г. пачала ажыццяўляцца афіцыйная палітыка абароны правоў вытворцаў шляхам дзяржаўнага зацвярджэння прамысловых клеймаў. Яна была накіравана супраць пранікнення на рынак падробак і няякаснай прадукцыі. Усяго з 1830 па 1860 г. права на клеймаванне сваёй прадукцыі атрымаў 51 беларускі прадпрымальнік[4].

Увядзенне адзіных мер даўжыні і вагі, разам з абаронай правоў вытворцаў, паклала пачатак стандартызацыі – неад'емнай рысы індустрыяльнага грамадства.

**Прадпрымальніцтва**. У прамысловасці Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст. найбольшыя эканамічныя поспехі былі дасягнуты ў сферы дваранскага прадпрымальніцтва. У першай чвэрці XIX ст. новыя прадпрыемствы адкрывалі буйныя землеўласнікі, галоўным чынам расійскага паходжання. Намаганні дваран-прадпрымальнікаў гэтага часу нагадвалі рэформы А.Тызенгаўза ў апошнія гады Рэчы Паспалітай. Яны ўяўлялі сабой кангламераты розных мануфактур, арыентаваліся на патрэбы дзяржавы і вышэйшых колаў грамадства. Іх існаванне, як правіла, было не больш працяглым, чым жыццё іх уладальнікаў.

---

[1] Русский рубль. Два века истории XIX–XX вв. М., 1994. С.55.

[2] *Таранков В.И.* Ценные бумаги государства Российского. М.; Тольятти. 1992. С.49.

[3] ДГАБ у Гродне, ф.2, воп.11, спр.387, арк.4.

[4] Падлічана па: Систематический указатель фабрикантов, заводчиков и торговых фирм, заявивших свои клейма в Департамент торговли и мануфактур. СПб., 1884.

Графу Р. Пацёмкіну ў Крычаўскім графстве належала суднаверф, канатная і парусінавая мануфактуры. Акрамя таго, ён запрасіў з Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў майстра П. Нардштэйна, шведа па паходжанні, з дапамогай якога заснаваў у Дубровенскім старостве гадзіннікавую мануфактуру, адну з першых у Расійскай імперыі. Там жа працавалі суконная мануфактура і мануфактура па вытворчасці пазументаў. Другі фаварыт Кацярыны II – граф С.Зорыч заснаваў у Шклоўскім маёнтку гарбарную, канатную, парусінавую, суконную і шаўкаткацкую мануфактуры. Адзін з бліжэйшых да імператара Аляксандра I прыдворных, правадзейны тайны саветнік М.Навасільцаў трымаў у Слоніме суконную і дывановую мануфактуры. Дзяржаўны канцлер граф М.Румянцаў меў у Гомельскай эканоміі два вінакурныя заводы, тры гуты, тры ткацкія фабрыкі, дзве піваварні, медзяны і ліцейны завод, свечкавы, гарбарны, ільнотрапальны, цагельны, вапнавы і кафляны заводы, сыраварню, шматлікія млыны, кузні і лесапільні.

Другі перыяд дваранскага прадпрымальніцтва пачаўся з 20-х гг. XIX ст. У ім актыўна ўдзельнічалі сярэднія і дробныя землеўладальнікі, шляхта мясцовага паходжання. Гэты перыяд характарызаваўся спецыялізацыяй вытворчасці, узнікненнем новых галін прамысловасці, укараненнем удасканаленага абсталявання і паравых машын, спалучэннем мануфактуры і фабрычных формаў арганізацыі вытворчасці, цеснай сувяззю не толькі са знешнім, але і з унутраным гандлем. Дваранскія прадпрыемствы такога тыпу былі падрыхтаваны да дзейнасці ва ўмовах капіталістычнага грамадства.

Дваранская прамысловасць з'яўлялася спосабам утылізацыі сельскагаспадарчай сыравіны, якая выраблялася ў маёнтках, і выкарыстання лясных багаццяў. Такім чынам, прыгонніцкая сельская гаспадарка спалучалася з арганізацыйна-тэхнічнымі формамі перадавой капіталістычнай індустрыі. Напрыклад, маёнткі Пуслоўскіх, паводле вобразнага выказвання М. Улашчыка, уяўлялі сабой своеасаблівы камбінат, дзе сыравіна (зерне, бульба, воўна, руда) перараблялася ў розную прамысловую прадукцыю, якая мела шырокі рынак збыту[1].

Дваранскія прадпрыемствы развіваліся ў адзінстве са сваёй асновай – маёнткам. У той жа час пры пашырэнні дваранскай прамысловасці, асабліва пры змене мануфактуры фабрыкай, уласнай сыравіны не хапала. Узнікла шматбаковая сувязь феадальнай, прыгоннай па сваёй аснове гаспадаркі з рынкам: праз рэалізацыю сваёй прадукцыі і праз набыццё на рынку сыравіны і прамысловага абсталявання. Змянілася і сутнасць адносін з прыгоннымі. Па-першае, дваране-прадпрымальнікі заахвочвалі сялян за плату займацца вытворчасцю сыравіны для сваіх прадпрыемстваў (напрыклад, цукровых буракоў, хмелю, балотных руд)[2]. Па-другое, яны выкарыстоўваліся ў якасці рабочых на прамысловых прадпрыемствах або ў залік паншчыны ці за асобную плату. Прыгонныя, як правіла, працавалі разам з вольнанаёмнымі і часта побач з замежнымі майстрамі. Іх звязваў адзіны працэс капіталістычнай вытворчасці.

---

[1] *Улащик Н.Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. С.273–274.

[2] *Башкевич Н.О.* О разведении хмеля в Западной России, особенно в губерниях Виленской, Ковенской, Гродненской и Минской // Журнал сельского хозяйства и овцеводства. 1850. №9. С.199–203.

Другарадную ролю ў агульным развіцці прамысловасці адыгрывалі эканамічныя намаганні купцоў і мяшчан. За адзінкавымі выключэннямі (Альбрэхтаўскі стэарынава-свечкавы і млынны завод, пінскі паравы млын, слонімская медзеапрацовачная фабрыка) ім належалі дробныя і сярэднія прадпрыемствы. У той жа час у дарэформеннай Беларусі паступова ішоў працэс накаплення купецка-мяшчанскага капіталу.

Невялікую, але даволі стабільную нішу ў прамысловай вытворчасці займалі прадпрымальнікі замежнага паходжання. Іх эканамічныя поспехі базіраваліся на веданні заходнееўрапейскай тэхналогіі і арганізацыі працы. Як правіла, уладальнік такога прадпрыемства быў яго галоўным майстрам[1].

Новая капіталістычная сістэма гаспадарання ў корані супярэчыла феадальнаму ладу. Яна паклала пачатак разлажэнню саслоўна-феадальнай структуры. Асабліва ярка гэта выявілася ў з'яўленні новых магчымасцей для самага масавага і бяспраўнага феадальнага саслоўя – сялянства. 7 лістапада 1782 г. з'явіўся ўказ "О дозволении крестьянам в Белоруссии при новой ревизии записываться в купечество". Ён тычыўся толькі дзяржаўных сялян, аднак надалей быў падтрыманы палажэннем аб "переходе казенных поселян в городские сословия" (24 кастрычніка 1804 г.), "Дополнительными правилами для дозволения крестьянам производить разными товарами торговлю с получением на сие право свидетельств и с платежом определенных пошлин" (29 снежня 1812 г.) і, нарэшце, указам ад 28 снежня 1818 г. "О распространении права учреждать фабрики и заводы на всех казенных, удельных, помещичьих крестьян и вольных хлебопашцев".

У беларускай гістарыяграфіі пытанне аб развіцці сялянскага прадпрымальніцтва ў першай палове XIX ст. не разглядалася наогул. Аднак прыклады такой дзейнасці ёсць. Так, прыгонны графа М.Румянцава Трыфан Кажамякін у 1815 г. заключыў з гомельскай вотчыннай канторай дамову на выраб і пастаўку для эканоміі 500 тыс. штук цэглы коштам 6 руб. за тысячу[2]. Другі прыгонны графа Васіль Прывалаў пазычыў на год у гомельскай эканоміі 1 тыс. руб. "для торгового промысла". Яму даручылі адвезці на продаж у Кёнігсберг 6 тыс. пудоў пянькі, 101 пуд лою, 11 пудоў свечак з лою і 10 пудоў воўны. Зімовая дарога ішла спачатку на Вілейку, а па вясне водным шляхам – на Кёнігсберг[3]. Справы ў В.Прывалава ішлі, відаць, някепска, бо ён і далей вёў актыўную камерцыйную дзейнасць у Прусіі, цэнтральных і ўкраінскіх губернях Расійскай імперыі. Яшчэ адзін прыгонны гомельскага маёнтка Няфёд Рымараў у 1822 г. за "вольную" для сябе і сваёй сям'і заплаціў графу 5 тыс. руб.[4]

У пачатку 40-х гг. прыгонны селянін графа Паскевіча Купрыян Макараў з в. Гародня Гомельская Беліцкага павета меў 60 коней з вупражжу, якіх ён пазычыў свайму брату Захару для паездкі ў Варшаву "по извозчицким делам"[5]. Хаця сялянскае прадпрымальніцтва не атрымала значнага распаўсюджання, нават яго адзінкавыя прыклады сведчаць аб пранікненні буржуазных адносін у беларускае грамадства.

---

[1] *Кіштымаў А.* Удзел замежных прадпрымальнікаў і фінансістаў у развіцці прамысловасці і транспарту Беларусі (канец XVIII – пачатак XIX ст.) // Штогоднік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. 1999. Мн., 1999. С.58.

[2] НГАБ, ф.3014, воп.1, спр.25, арк.27–28.

[3] Там жа, спр.23, арк.9–11.

[4] Там жа, спр.53, арк.32 адв.

[5] Там жа, спр.57, арк.86–86 адв.



Базар у Пухавічах

**Формы прамысловасці. Пачатак прамысловага перавароту.** Для беларускай прамысловасці была характэрна дробнатаварная вытворчасць у форме рамяства і дробнакапіталістычных прадпрыемстваў. Да катэгорыі дробных капіталістычных прадпрыемстваў звычайна адносяць прадпрыемствы з колькасцю работнікаў ад 5 да 16, без паравога рухавіка, з гадавой вытворчасцю не менш чым 1 тыс. руб. У Беларусі ў 1796 г. дробныя прадпрыемствы складалі прыкладна 99 %, у 1860 г. – 96 % усіх прадпрыемстваў[1]. Паводле падлікаў М.Болбаса, у 1860 г. у Беларусі налічвалася 7,8 тыс. дробных капіталістычных прадпрыемстваў з 23,4 тыс. рабочых і сумай вытворчасці 14,1 млн руб.[2]

Рамеснікі працавалі ў асноўным на заказ. Прадукцыя дробнатаварнай вытворчасці паступала на мясцовыя – гарадскія, местачковыя і сельскія кірмашы і базары.

Таксама працягвалася развіццё мануфактурнай вытворчасці са спалучэннем прымусовай і вольнанаёмнай працы. Па сутнасці сваіх вытворчых сіл мануфактура супярэчыла феадальнаму спосабу вытворчасці. У 1860 г. мануфактуры Беларусі складалі 0,5 % колькасці прамысловых прадпрыемстваў, канцэнтравалі 7,7 % рабочых і далі 7,4 % прадукцыі ўсёй прамысловасці[3].

Далейшае пашырэнне вытворчасці патрабавала новай энергетыкі, а ўдасканаленне тэхналогіі – непарыўнасці вытворчага працэсу. У Беларусь прыйшоў час прамысловага перавароту. Яго сутнасць заключалася ў выцясненні ручной працы сістэмай машын і механізмаў. Прамысловы пераварот сведчыў аб якасна новай ступені ў эвалюцыі эканомікі. Пасля з'яўлення

---

[1] *Болбас М.Ф.* Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.). Мн., 1966. С.54.

[2] *Болбас М.Ф.* Промышленность Белоруссии. 1860–1900. Мн., 1978. С.59.

[3] Там жа. С.67.

фабрычнай, машыннай індустрыі гэты працэс набываў незваротны характар.

Першы паравы рухавік у Беларусі з'явіўся на Хомскай фабрыцы (Кобрынскі павет) памешчыка В.Пуслоўскага. У 1823 г. Хомская фабрыка размяшчалася ў мураваных і драўляных пабудовах, мела 44 ткацкія станы, паравы рухавік, вадзяны і конскі рухавікі. Сыравіна (1778 пудоў воўны) ішла як з уладанняў Пуслоўскага, так і набывалася. За год на фабрыцы было выраблена 59 725 аршынаў сукна, прададзена 51 950 аршынаў. На фабрыцы працавалі трое майстроў-замежнікаў і 481 рабочы з прыгонных сялян[1].

У 1818 г. граф М.Румянцаў ухваліў прапанову механіка Гомельскай эканоміі англічаніна А. Сміта аб будаўніцтве паравой лесапільні і парахода. Чарцяжы, абсталяванне і паравы рухавік за 20 тыс. руб. заказалі на пецярбургскім заводзе К.Берда. У 1824 г. адбылося выпрабаванне парахода. Так у Беларусі быў пакладзены пачатак выкарыстанню паравых рухавікоў на транспарце[2].

Да сярэдзіны 50-х гг. XIX ст. паравыя машыны меліся ва ўсіх галінах беларускай прамысловасці, за выключэннем сілікатнай. Паводле падлікаў М.Болбаса, у 1860 г. у Беларусі было 76 прадпрыемстваў з паравымі рухавікамі і паравымі катламі агульнай магутнасцю ў 1117 к.с. і сумай вытворчасці 1926 тыс. руб. Хаця на фабрыках працавала ўдвая менш рабочых, чым на мануфактурах, фабрычная прадукцыя па кошту амаль на 1/5 пераўзыходзіла мануфактурную[3]. Гэта дае магчымасць зрабіць выснову аб тым, што ў мануфактурна-фабрычнай прамысловасці Беларусі машынная вытворчасць стала пануючай яшчэ да адмены прыгоннага права.

З пачаткам прамысловага перавароту вынаходніцтва пачалі прызнаваць відам інтэлектуальнай уласнасці і яно атрымала юрыдычную абарону. У Расійскай імперыі аўтарскія правы вынаходніка сталі ахоўвацца на падставе царскага маніфеста ад 17 чэрвеня 1812 г. шляхам выдачы дзяржаўных прывілеяў. З беларускіх вынаходнікаў першы афіцыйны прывілей (67-ы ў Расійскай імперыі) атрымаў пінскі павятовы прадвадзіцель дваранства А. Скірмунт "за ўдасканальванне спосабу выпарвання цукровага сіропу". Прывілей быў выдадзены 10 снежня 1830 г. тэрмінам на 10 гадоў[4].

Тэхнічнае абнаўленне беларускай народнай гаспадаркі ішло бесперапынна, з выкарыстаннем як замежнага, так і ўласнага вопыту. У адрозненне ад цэнтральных губерняў Расійскай імперыі, дзе прамысловы пераварот пачаўся ў баваўнянай прамысловасці, у Беларусі лідэрам тэхнічнага прагрэсу ў першай палове XIX ст. з'яўляліся асобныя прадпрыемствы суконнай і харчовай прамысловасці.

**Галіновая структура прамысловасці.** Прамысловасць Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст. у асноўным абапіралася на мясцовую сыравінную базу. Гэта і вызначыла развіццё яе вядучых галін – харчасмакавай і тэкстыльнай.

Галоўнай галіной не толькі харчовай, але і ўсёй прамысловасці дарэформеннай Беларусі было вінакурства. Гэтаму спрыялі некалькі прычын.

---

[1] НГАБ у Гродне, ф.1, воп.2, спр.97, арк.25-25 адв.

[2] *Кіштымаў А.* Гомельскі маёнтак графа М.П. Румянцава: вопыт гаспадарання // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. №1. С.23.

[3] *Болбас М.Ф.* Промышленность Белоруссии. 1860–1900. С.75.

[4] Указатель хронологический, предметный и алфавитный выданных в России привилегий (За исключением выданных по Департаменту сельского хозяйства). С 1814 по 1866 г. СПб., 1866. С.11.

Па-першае, выключная манаполія на вінакурства, якая належала дваранам: так званае прапінацыйнае права, права на "вольнае вінакурства", што існавала з часоў Рэчы Паспалітай і было захавана царскімі ўладамі. Па-другое, наяўнасць таннай сыравіны, працоўнай сілы і абсталявання. Пачынаючы з 30-х гг. XIX ст. сыравінная база пашыралася за кошт шырокага выкарыстання бульбы. Па-трэцяе, спажывецкі рынак быў побач з вытворчасцю – у першую чаргу ўласныя сяляне. Такая кан'юнктура рынку рабіла вінакурства вельмі прыбытковай і дынамічнай галіной. У 1796 г. у Беларусі працавала 7,5 тыс. бровараў з 13,5 тыс. сезонных рабочых з гадавой вытворчасцю 2562 тыс. вядзёр 40-градуснай гарэлкі[1].

Не абышоў вінакурства і тэхнічны прагрэс. З 30-х гг. XIX ст. адбываецца паступовая замена агнявога спосабу вінакурства паравым, што на 1/3 павялічыла вытворчасць. Як вынік, пры адносным змяншэнні колькасці вінакурных заводаў іх сярэдні памер і вытворчасць узраслі больш чым у тры разы.

Новай і таксама выключна дваранскай галіной харчовай прамысловасці стала вытворчасць цукру. Вядомым беларускім цукразаводчыкам быў А. Скірмунт, які пабудаваў у 1830 г. першы ў Беларусі Моладаўскі (Кобрынскі павет) цукровы завод (існаваў па 1848 г.). У 1860 г. ён заснаваў завод у Парэччы (Пінскі павет), найбольш тэхнічна дасканалае прадпрыемства гэтага профілю ў Беларусі[2].

У мукамольнай прамысловасці былі прадстаўлены ўладальнікі прадпрыемстваў з усіх саслоўяў і ўсе формы арганізацыі вытворчасці: дробнатаварная, мануфактурная і фабрычная. У 1796 г. дзейнічалі 1184 мукамольныя прадпрыемствы з 1400 рабочымі, гадавым перамолам 843 тыс. пудоў зерня. Да 1860 г. іх колькасць узрасла да 1834, а гадавы перамол – да 2956 тыс. пудоў[3]. У 1841 г. пачаў працаваць першы ў Беларусі паравы млын (Магілёў)[4]. Пазней такія млыны з'явіліся ў Пінску і Віцебску. Іх уладальнікамі былі як дваране, так і купцы (Пінск). Тытунёвыя прадпрыемствы належалі купцам і мяшчанам і размяшчаліся толькі ў гарадах.

Пачынаючы з другой чвэрці XIX ст. вельмі хутка развіваліся такія новыя для Беларусі галіны прамысловасці, як свечкавая і мылаварная. Па памерах вытворчасці і дасканаласці тэхнічнага абсталявання значна вызначаўся Альбрэхтаўскі стэарынава-свечкавы і мылаварны завод варшаўскага купца Р.Ботэ (наваколле Пінска) – адно з лепшых прадпрыемстваў у Еўропе[5]. Асноўную сыравіну для вытворчасці – лой – набывалі на месцы ці прывозілі з Украіны. Гатовую прадукцыю збывалі ў беларускіх, польскіх і ўкраінскіх губернях. У 1860 г. завод вырабіў 10 тыс. пудоў стэарынавых свечак, 3 тыс. пудоў свечак з лою, 5 тыс. пудоў мыла на агульную суму 139,5 тыс. руб.[6]

Таксама назіраўся даволі стойкі рост гарбарнай прамысловасці. Але яе пашырэнне мела экстэнсіўны характар і не суправаджалася ўзбуйненнем прадпрыемстваў новымі тэхналогіямі і ўдасканаленнем абсталявання.

---

[1] *Болбас М.Ф.* Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.). С.121, 122.

[2] *Киштымов А.* Скирмунты: династия предпринимателей // Деловой вестник. 1994. №9–10. С.32.

[3] *Болбас М.Ф.* Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.). С.121, 122.

[4] Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распаду феадалізму. Мн., 1935. Т.2. С.121; *Дембовецкий А.С.* Опыт описания Могилевской губернии. Кн.2. Могилев, 1884. С.185.

[5] *Недошивин И.* Очерк развития стеаринового производства в России // Записки Казанского экономического общества. 1858. №10. С.41.

[6] *Зеленский И.* Минская губерния. СПб., 1864. Ч.2. С.254–255.

У тэкстыльнай прамысловасці ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. панавала вытворчасць палатняных, з 20-х гг. XIX ст. – ваўняных тканін. Да ліку лепшых прадпрыемстваў Беларусі належалі Альбярцінская суконная фабрыка Пуслоўскага (Слонімскі павет) і Парэцкая суконная фабрыка памешчыка Скірмунта (Пінскі павет)

Попыт на металічныя вырабы разам з высокімі цэнамі на прывазное жалеза прывёў да кароткачасовага ўздыму беларускай чорнай металургіі. З 1828 па 1860 г. колькасць выплаўленага і перапрацаванага ў Беларусі жалеза ўзрасла з 5,3 тыс. да 245 тыс. пудоў, а сума вытворчасці – з 10,8 тыс. да 569,1 тыс. руб.[1] Найбольш стабільна працавалі металургічныя і металаапрацоўчыя прадпрыемствы Храптовіча ў Вішневе (Ашмянскі павет), Барысаўшчынскі металургічны завод (Барысаўскі павет), Старынкаўскі чыгунаплавільны і машынабудаўнічы завод памешчыка Бенкендорфа (Чэрыкаўскі павет)[2].

Істотных змен не адбылося ў традыцыйнай для Беларусі сілікатнай прамысловасці (шкляныя, цагельныя, кафельныя, ганчарныя і вапнавыя прадпрыемствы). Большасць з іх адносілася да дробнай прамысловасці. Выключэнне складала шкляная, дзе пераважала мануфактурная вытворчасць.

На перапрацоўцы лясных багаццяў Беларусі базіраваліся шматлікія галіны лясной прамысловасці: лесапілаванне, вытворчасць будаўнічага гонту, суднабудаўніцтва, экіпажнае майстэрства, паташныя, дзягцярныя, смалакурныя і шкіпінарныя прадпрыемствы. Іх развіццё ў значнай меры вызначалася зменамі кан'юнктуры рынку і тэхналогіі.

**Водныя і сухапутныя шляхі зносін.** У канцы XVIII – першай палове XIX ст. беларускія губерні, у параўнанні з іншымі рэгіёнамі Расійскай імперыі, мелі больш развітую сістэму шляхоў зносін. Гэта з'явілася вынікам інтэнсіўнага будаўніцтва водных і сухапутных шляхоў.

З 1817 г. у Расійскай імперыі пачалося будаўніцтва шашэйных дарог. Да 60-х гг. XIX ст. праз Беларусь прайшлі такія важныя сухапутныя шляхі, як шаша Брэст – Варшава (будаўніцтва скончылася ў 1823 г., працягласць 177 вёрст), Масква – Брэст (1849 г., 1000 вёрст), Віцебск – Смаленск (1855 г., 286 вёрст), Бабруйская шаша (Магілёў – Бабруйск, 1850 г., 107 вёрст)[3]. Шаша з Пецярбурга ў Кіеў, што прайшла праз беларускія землі, атрымала афіцыйную назву Беларускага тракта.

Не менш інтэнсіўна вялося будаўніцтва водных шляхоў зносін. У 1799 г. пачаліся работы па паляпшэнню Агінскага канала. З 1804 г. рух па каналу аднавіўся. У сярэдзіне XIX ст. па Агінскай воднай сістэме штогод праходзіла да 200 суднаў і больш за 500 плытоў[4].

Таксама быў рэканструяваны і Каралеўскі канал, які ад 9 снежня 1846 г. пачаў звацца Дняпроўска-Бугскім. Яго важнае значэнне неаднаразова адзначала ваеннае міністэрства[5].

У 1797 г. імператар Павел І зацвердзіў праект будаўніцтва Бярэзінскай сістэмы, якая злучыла басейны Дняпра і Заходняй Дзвіны. У 1805 г. па нова-

[1] *Болбас М.Ф.* Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.). С.152.

[2] *Киштымов А.Л.* Урал и судьбы черной металлургии Беларуси в XIX в. // Развитие металлургического производства на Урале. Екатеринбург, 2001. С.71–73.

[3] *Кудрявцев А.С.* Очерки истории дорожного строительства в СССР (дооктябрьский период). М., 1951. С.153.

[4] *Гершельман Э.Ф.* Исторический очерк внутренних сообщений. СПб., 1892. С.67–68.

[5] Там жа. С.68.

му воднаму шляху пачалася першая навігацыя[1]. Апрача праходу суднаў за гэты год па сістэме былі сплаўлены 5667 мачтавых дрэў, больш за 32 тыс. бярвенняў будаўнічага лесу і каля 11 тыс. брусоў з дуба[2]. З мэтай паляпшэння ўмоў суднаходства і лесасплаву гідратэхнічныя збудаванні сістэмы неаднаразова перабудоўваліся. Так, у 1810 г. толькі на рамонце Лепельскага шлюза было занята 3 тыс. рабочых[3].

Мытныя спрэчкі паміж Прусіяй і Расійскай імперыяй у першай чвэрці XIX ст. прывялі да рашэння злучыць Нёман і Віслу водным шляхам у абыход прускіх зямель. Так узнік праект Аўгустоўскай воднай сістэмы на стыку беларускіх і польскіх губерняў[4]. Яе будаўніцтва вялося ў 1824 – 1839 гг., агульныя затраты склалі больш за 2 млн руб. Да будаўніцтва чыгунак па Аўгустоўскай воднай сістэме (акрамя лесасплаву) праходзіла да 400 суднаў штогод[5]. Гэта сістэма была найбольш тэхнічна дасканалай (мураваныя шлюзы), найменш – Бярэзінская.

Працягласць і тэхнічны стан водных сістэм Беларусі выглядалі наступным чынам (табл. 4)[6]:

*Табліца 4.* **Водныя сістэмы Беларусі**

| Назва | Працягласць у вёрстах | Гідратэхнічныя збудаванні |
|---|---|---|
| Агінская (ад вусця Піны да вусця Шчары) | 292,53 | 10 шлюзаў, 13 разборных плацін |
| Бярэзінская (ад вусця Бярэзіны да вусця Улы) | 514,523 | 13 шлюзаў |
| Дняпроўска-Бугская (ад вусця Прыпяці да вусця Заходняга Буга) | 1010,977 | 22 шлюзы |
| Аўгустоўская (ад Нёмана да ўпадзення Нары ў Заходні Буг) | 354,15 | 18 шлюзаў |

У выніку ў першай палове XIX ст. амаль усе буйныя рэкі Беларусі былі злучаны штучнымі воднымі шляхамі. К пачатку 60-х гг. даўжыня суднаходных шляхоў па пяці беларускіх губернях складала каля 4 тыс. км, а сплаўных – прыкладна ўдвая больш[7].

У Беларусі вялося не толькі паляпшэнне водных шляхоў. Будаваліся і новыя сродкі зносін – параходы. Так, у снежні 1836 г. у Бабруйску пачалося будаўніцтва двух параходаў магутнасцю па 50 к.с. кожны для суднаходнай кампаніі, якая атрымала ад улад прывілей на дзесяць гадоў для таго, каб наладзіць параходны рух паміж Барысавам, Бабруйскам, Кіевам і Крамянчугом па Бярэзіне і Дняпру[8].

---

[1] Обозрение главных водяных сообщений в России. СПб., 1841. С.36.

[2] *Гершельман Э.Ф.* Исторический очерк внутренних сообщений. С.69.

[3] НГАБ, ф.2695, воп.3, спр.8, арк.12–12 адв.

[4] *Житков С.М.* Исторический обзор устройства и содержания водных путей и портов России за столетний период. 1798–1898 гг. СПб., 1900. С.109.

[5] *Гершельман Э.Ф.* Исторический очерк внутренних сообщений. С.70.

[6] *Мейен В.Ф.* Россия в дорожном отношении. СПб., 1902. Т.1. С.125–127.

[7] Там жа (падлічана аўтарам).

[8] Журнал Министерства внутренних дел. 1831. №1. С.203–204.

У дарэформенны перыяд па беларускіх рэках плавала 20 паравых суднаў[1]. У канцы XVIII ст. у Беларусі з'явілася рэгулярная паштовая сувязь. З 1781 г. існавалі тры віды паштовых адпраўленняў – пісьмы (лісты), пасылкі і грошы. З 1848 г. уводзіліся паштовыя скрынкі для збору карэспандэнцыі і так званыя "штэмпельныя куверты", якія падрыхтавалі пераход да марачнай аплаты паштовых адпраўленняў. Першая тэлеграфная кантора адкрылася ў 1846 г. у Гродне. К пачатку 60-х гг. XIX ст. даўжыня тэлеграфных ліній у Беларусі дасягнула прыкладна 2 тыс. вёрст.

**Унутраны і знешні гандаль.** Развіццё гандлёвых адносін у канцы XVIII – першай палове XIX ст. характарызуецца нарастаннем крызісу сярэдневяковых формаў гандлю, яго спецыялізацыяй і з'яўленнем новага тыпу ўдзельнікаў рынку, больш цесна звязаных з вытворчасцю. Гэта сведчыла аб заняпадзе натуральнай феадальнай гаспадаркі і развіцці капіталістычнага рынку.

У першай палове XIX ст. гандаль ажыццяўляўся ў асноўным па водных шляхах. У 1844 г. па рэках Беларусі было правезена грузаў на 8,8 млн руб., а ў 1860 г. – на 18 млн руб.[2] Асабліва павялічыўся сплаў лесу – асноўнага экспартнага тавару Беларусі. У балтыйскія парты ішоў толькі адборны лес; паўднёвы лясны рынак XIX ст. быў больш універсальны – там бралі ўсе гатункі лесу. У сярэдзіне XIX ст. толькі па Бярэзінскай воднай сістэме сплаўлялася штогод лесу больш чым на 750 тыс. руб., па каналу Агінскага – больш чым на 700 тыс. руб.[3]

Па колькасці кірмашоў вылучаліся Магілёўская, Мінская і Гродзенская губерні. Віцебская губерня саступала ім па колькасці кірмашоў, але па суме прададзеных тавараў стаяла нароўні з іншымі губернямі[4]. Буйнейшымі на ўсходзе былі Бешанковіцкі і Гомельскі, у цэнтры – Мінскі, на захадзе – Прыбораўскі, Зэльвенскі і Свіслацкі кірмашы.

Важнай мерай, якая падтрымлівала развіццё не толькі гандлю, але і ўсёй эканомікі, з'яўлялася дзяржаўная мытная палітыка. Пратэкцыяніцкі курс, якога Расійская імперыя прытрымлівалася ў 1822–1850 гг., павінен быў садзейнічаць станаўленню капіталістычных тэндэнцый у развіцці гаспадаркі і ўмацаваць уплыў яе знешнегандлёвых сувязей на сусветным рынку.

У той жа час паміж Царствам Польскім і асноўнай часткай Расійскай імперыі існавала мытная мяжа. Менавіта яе адмена паводле ўказу ад 21 красавіка 1850 г. прывяла да значнага памяншэння абароту самага буйнога кірмаша ў дарэформеннай Беларусі. Ён праходзіў штогод з 25 чэрвеня на працягу месяца. З 1845 г. прывоз тавараў на Зэльвенскі кірмаш перавышаў 1 млн руб., продаж дасягаў 600 тыс. руб. Пік гандлю прыпаў на 1851 г. (прывоз – 1 598 237 руб., продаж – 473 267 руб.). У наступным годзе сума прывозу знізілася амаль удвая (729 307 руб.), хаця сума рэалізаваных тавараў знізілася не намнога (усяго 318 429 руб.). Пазней сума прывозу вагалася ад 400 тыс. да 720 тыс. руб., а продажу – ад 200 тыс. да 380 тыс. руб. У сярэдзіне XIX ст. на Зэльвенскім кірмашы гандлявалі больш чым 200 крам, а таксама вёўся разносны гандаль і з вазоў[5].

---

[1] *Болбас М.Ф.* Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.). С.23.

[2] Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С.498.

[3] *Бабицкий.* О лесных промыслах в Минской губернии // Журнал Министерства государственных имуществ. 1851. Кн.10. С.53, 54.

[4] *Лютый А.М.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX века. С.106.

[5] *Бобровский П.* Гродненская губерния. СПб., 1863. Ч.2. Приложения. С.170, 173.

Развіццё капіталістычных адносін у Беларусі мела свае характэрныя рысы і нацыянальныя асаблівасці. Як і ў эпоху феадалізму, зыходнай базай для развіцця эканомікі з'яўляліся сельская гаспадарка і вёска. Менавіта там былі сканцэнтраваны эканамічная ініцыятыва, асноўныя фінансавыя, сыравінныя і працоўныя рэсурсы. У сельскай мясцовасці разгортвалася і атрыманая ў спадчыну ад феадалізму гандлёвая дзейнасць у форме перыядычнага кірмашовага гандлю. Гарады і гарадская эканоміка ў працэсе зараджэння капіталізму ў Беларусі выконвалі дапаможную ролю. Беларуская "мадэль" генезісу капіталізму рэалізавалася ва ўмовах адсутнасці ўласнай нацыянальнай дзяржавы і адпаведна ўласнай дзяржаўнай эканамічнай ініцыятывы.

## 4. Гарады і мястэчкі

**Агульнае становішча, катэгорыі, адміністрацыйныя і грамадскія функцыі гарадоў і мястэчак**. Асноўныя зрухі ў жыцці беларускіх гарадскіх паселішчаў канца XVIII – 50-х гг. XIX ст. звязаны са змяненнем іх адміністрацыйнага статуса. Адпаведна законам Расійскай імперыі яе гарады падзяляліся на губернскія, павятовыя і так званыя заштатныя. У залежнасці ад катэгорыі горад атрымліваў адпаведную сістэму гарадскога кіравання і належны статус.

Шматлікія змены ў адміністрацыйным дзяленні беларускіх зямель вялі да істотных перамен у становішчы беларускіх гарадоў. Браслаў, Брэст, Мсціслаў і Навагрудак атрымалі статус павятовых гарадоў. Старажытны Полацк і Слонім, першапачаткова выдзеленыя як губернскія, у хуткім часе таксама апынуліся сярод павятовых. Нясвіж нядоўга прабыў павятовым горадам і перайшоў у разрад заштатных.

Захавалася значэнне Вільні як агульнага цэнтра Беларусі і Літвы. Гэтаму садзейнічаў статус Віленскага генерал-губернатарства, сканцэнтраванне там адміністрацыйнай улады і культурнага жыцця.

На тэрыторыі Беларусі царызм сустрэўся са з'явай, не вядомай расійскаму гарадскому жыццю з канца XVII ст., – існаваннем прыватнаўласніцкіх гарадоў. Захоўванне часткі беларускіх гарадоў і большасці беларускіх мястэчак у прыватнай уласнасці было адметнай рысай беларускай гісторыі. Спробы прыватных уладальнікаў, у асноўных новых, з вышэйшых колаў расійскага дваранства, наладзіць эканамічнае жыццё падуладных гарадскіх пунктаў мелі частковы поспех (Крычаў, Чачэрск, Шклоў). Выключэннем з'яўляўся толькі Гомель[1].

Царскія ўлады праводзілі палітыку выкупу ў казну прыватнаўласніцкіх гарадоў, у першую чаргу тых, якія сталі афіцыйнымі адміністрацыйнымі адзінкамі. Гэта не заўсёды супадала з інтарэсамі іх уладальнікаў, якія імкнуліся захаваць магчымасць выкарыстоўваць феадальныя метады эксплуатацыі падуладных гараджан, што адмоўна адбівалася на гарадскім жыцці.

Як правіла, казна пры выкупе кампенсавала былому ўладальніку горада суму прыбытку ад яго. Да канца 30-х гг. XIX ст. толькі пяць з 43 гарадоў Беларусі заставаліся прыватнаўласніцкімі. У 1843 г. былі выкуплены Ашмяны, у 1846 г. – Слуцк, у 50-х гг. – Друя, Сянно і Нясвіж.

Разам з гарадамі істотную ролю ў эканамічным жыцці Беларусі адыгрывалі мястэчкі. Ад вёсак іх адрознівала права на вядзенне гандлю, рамёстваў і

---

[1] *Кіштымаў А.* Гомельскі маёнтак графа М.П.Румянцава: вопыт гаспадарання // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. №1. С. 20–27.

кірмашную дзейнасць: ад гарадоў – адсутнасць сістэмы гарадскога самакіравання і гарадскіх правоў для местачковага насельніцтва.

Па рысах свайго эканамічнага жыцця мястэчкі некалькі нагадвалі велікарускія слабоды і пасады. Істотнай розніцай было тое, што большасць беларускіх мястэчак знаходзілася ў прыватнай уласнасці памешчыкаў, улада якіх падмяняла ўсе спецыфічныя адміністрацыйныя гарадскія ўстановы.

У параўнанні з гарадамі мястэчкі наогул не адыгрывалі адміністрацыйнай ролі, значна саступалі ім па развіццю прамысловасці. Разам з тым местачковае рамяство ў агульным выглядзе магчыма параўнаць з гарадскім, а гандлёвае значэнне шэрагу мястэчак не толькі не саступала гарадам, а іншы раз і перабольшвала памеры гарадскога гандлю (напрыклад, у такіх мястэчках, як Бешанковічы, Зэльва, Прыборава, Свіслач, Стоўбцы, Целяханы).

**Гарадское насельніцтва.** Сярод гарадскіх жыхароў сустракаліся прадстаўнікі практычна ўсіх саслоўяў феадальнага грамадства. У табл. 5 адлюстравана сацыяльная структура гарадскога насельніцтва беларуска-літоўскіх губерняў (паводле даных адміністрацыйнага ўліку)[1].

*Табліца 5.* **Сацыяльная структура гарадскога насельніцтва беларуска-літоўскіх губерняў**

| Год | Дваране, % | Духавенства, % | Грамадзяне, % | Вайскоўцы, % | Сяляне, % | Разначынцы, % | Усяго, тыс. чалавек |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1808 | 7,6 (5,1) | 1,5 (2,4) | 82,1 (49,6) | 1,4 (7,8) | 5,4 (27,9) | 2,0 (7,1) | 191,7 |
| 1858 | 5,9 (5,2) | 1,3 (1,6) | 74,5 (54,7) | 12,3 (14,1) | 2,5 (20,2) | 3,5 (4,2) | 495,8 |

Існаванне купцоў і мяшчан было самым непасрэдным чынам звязана з гарадскім жыццём і народжана ім. Менавіта яны складалі той пласт гарадскога насельніцтва, які называўся "грамадзяне" або "гарадское грамадзянства". Грамадзяне, хаця і не з'яўляліся самымі высокімі па свайму статусу сярод усіх катэгорый насельніцтва, што пражывалі ў гарадах, тым не менш вызначалі лад гарадскога жыцця.

У цэлым удзельная вага гарадскога насельніцтва ў беларускіх губернях была прыкладна ў паўтара раза вышэй, чым па ўсёй еўрапейскай часткі Расійскай імперыі. Аднак гэта не сведчыла аб больш высокім узроўні ролі гарадоў у беларускай эканоміцы, а гарадскога насельніцтва – у грамадскім жыцці. Колькасць беларускіх грамадзян складалася ў асноўным за кошт мяшчанства, а купецкая праслойка была нязначнай, намнога ніжэйшай, чым агульны паказчык па Еўрапейскай Расіі[2]. Гэта звязана з тым, што фарміраванне гарадскога насельніцтва Беларусі ішло не столькі шляхам эканамічнага развіцця гарадскога жыцця, колькі з'яўлялася вынікам юрыдычна-адміністрацыйнага прымусу з боку царскіх улад, адлюстраванага ў сістэме абмежаваных законаў для яўрэйскага насельніцтва.

Працэс вымывання беларускага і наогул хрысціянскага насельніцтва гарадоў Беларусі, які пачаўся яшчэ ў Рэчы Паспалітай, працягваўся. Так, у Мінскай губерні ў 1803 г. сярод насельніцтва мужчынскага полу куп-

[1] *Миронов Б.Н.* Русский город в 1740–1860-е годы: демографическое, социальное и экономическое развитие. Л., 1990. С.258 (у дужках дадзены адпаведныя лічбы па ўсёй еўрапейскай частцы Расійскай імперыі).

[2] *Рындзюнский П.Г.* Городское гражданство дореформенной России. М., 1958. С.296.

цоў-хрысціян налічвалася 297 чалавек, купцоў-яўрэяў – 248, мяшчан і цэхавых адпаведна – 9367 і 13 989 чалавек[1]. Паводле даных 10-й рэвізіі (1857) у гэтай губерні з 2946 асоб купецкага звання было 2627 (89 %) яўрэяў. У 1860 г. у дзесяці павятовых гарадах Мінскай губерні з 395 купецкіх крам яўрэі валодалі 377, з 1325 мяшчанскіх крам – 1249[2]. Падобнае становішча назіралася і ў іншых беларускіх гарадах.

Новыя змены ў нацыянальным складзе насельніцтва беларускіх гарадоў звязаны са з'яўленнем пласта рускага насельніцтва – чыноўніцтва, афіцэрства, часткі дваранства і асобных прадстаўнікоў купецтва. Але спробы царызму русіфікаваць беларускі горад асаблівага поспеху не мелі. Новыя ўладальнікі маёнткаў, як правіла, нядоўга затрымліваліся на беларускай зямлі. "Добранадзейных" рускіх чыноўнікаў катастрафічна не хапала. Вайскоўцы не з'яўляліся пастаянным гарадскім насельніцтвам і перамяшчаліся разам з войскамі. Шэраг указаў (ад 17 ліпеня 1832 г., 3 жніўня 1834 г., 24 снежня 1841 г., 28 сакавіка 1849 г.), накіраваных на прыцягненне на беларускія землі рускага і ўкраінскага купецтва, таксама не меў поспеху.

Нягледзячы на юрыдычную абарону і наяўнасць саслоўных правоў, становішча купецтва нярэдка знаходзілася ў залежнасці ад стаўлення да іх прадстаўнікоў мясцовых улад. Асабліва яскрава гэта праяўлялася ў адносінах да асоб, якія перайшлі ў купецтва з ніжэйшых саслоўяў.

Нярэдка яшчэ больш пакутвалі ад самавольства мясцовых улад мяшчане. Нездарма 22 лютага 1860 г. з'явіўся ўказ "О воспрещении подвергать, без судебного приговора, телесному наказанию однодворцев и граждан Западных губерний".

Гараджане былі замацаваны за пэўным горадам і іх пераезд у іншы горад быў звязаны з працяглай і цяжкай працэдурай. Гэта значна абмяжоўвала вядзенне гандлёва-эканамічнай дзейнасці. Для атрымання пашпарта, які дазваляў часовае адбыццё з горада, гараджанін павінен быў заплаціць цалкам за ўвесь тэрмін адлучкі грашовыя подаці, дзяржаўныя і мясцовыя. Такім чынам, стваралася супярэчнасць паміж правам купцоў вышэйшых (1-й і 2-й) гільдый на вольны гандаль ва ўсіх гарадах Расійскай імперыі і іх звязанасцю з пашпартнай сістэмай.

Аднак, нягледзячы на шматлікія абмежаванні, юрыдычна і фактычна правы гарадскога насельніцтва забяспечваліся значна лепш, чым правы сялян, асабліва сялян прыгонных. Галоўнае – прызнавалася недатыкальнасць нерухомай і рухомай маёмасці купцоў і мяшчан.

**Гарадское самакіраванне. Падаткі і павіннасці гараджан**. У XVIII ст. дастаткова выразна выяўляецца анахранізм сярэдневяковага магдэбургскага права, якое працягвала дзейнічаць у большасці беларускіх гарадоў. Магдэбургскае права, якое існавала на беларускіх землях яшчэ з канца XIV ст., не адпавядала сацыяльна-эканамічным патрабаванням новага часу і не магло вывесці беларускія гарады з працяглага перыяду заняпаду, які пачаўся ў другой палове XVII ст. У спробах мадэрнізаваць Рэч Паспалітую яе ўлады ішлі па шляху адмены магдэбургскага права. З 1776 г. яно захавалася толькі ў некаторых дзяржаўных беларускіх гарадах: Брэсце, Ваўкавыску, Гродне, Лідзе, Мінску, Мазыры, Навагрудку і Пінску.

Новыя расійскія ўлады ў адносінах да юрыдычнага становішча гарадоў і гараджан праводзілі даволі запаволеную і непаслядоўную палітыку, у кан-

---

[1] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны (далей – ЦДГА Украіны), ф.533, воп.1, спр.1676, арк.3.

[2] *Зеленский И.* Минская губерния. СПб., 1864. Ч.2. С.289.

чатковым выніку накіраваную да уніфікацыі беларускага гарадскога самакіравання з агульнарасійскім. Гэта адбывалася на падставе "Жалованной грамоты на права и выгоды городам Российской империи" 1785 г. Разам з тым пры другім падзеле Рэчы Паспалітай Кацярына II распарадзілася ў сваім указе ад 8 кастрычніка 1792 г.: "Города оставить на своих правах и привилегиях на первый случай и каждому из них не препятствуйте просить нас о подтверждении оных".

Насельніцтва беларускіх гарадоў выступала прыхільнікам ураўноўвання ў правах з гараджанамі расійскіх губерняў, таму што іх становішча і эканамічныя інтарэсы яўна прайгравалі пры захаванні старой, сярэдневяковай юрысдыкцыі і сістэмы гарадскога самакіравання. Вядома, напрыклад, што жыхары Мінска і ад іх імя "ўсе астатнія Мінскай губерні купцы і мяшчане" прасілі распаўсюдзіць на іх агульнарасійскія парадкі. У пачатку XIX ст. іх просьбу падтрымаў і мінскі губернатар[1].

Увядзенне ў беларускіх гарадах новых нормаў гарадскога самакіравання з'яўлялася часткай расцягнутага амаль на паўстагоддзе працэсу уніфікацыі мясцовага заканадаўства з расійскім і, такім чынам, уключэння Беларусі ў адзіную юрыдычную прастору Расійскай імперыі. Цалкам гэты працэс так і не быў завершаны.

Асноўнымі пастаяннымі катэгорыямі гараджан былі купцы і мяшчане. Паводле расійскага заканадаўства пасля рэформы 1775 г. купецтва абкладалася дзяржаўнымі падаткамі ў форме гільдзейскіх плацяжоў замест падушнага падатку. Гільдзейскія плацяжы ў памеры 1 % ад абвешчанага капіталу плаціліся індывідуальна, без грамадскай раскладкі. У 1775 г. мінімальная цана пасведчання купца 1-й гільдыі складала 100 руб., 2-й – 10 руб., 3-й – 5 руб. У 1812 г. кошт гільдзейскіх пасведчанняў павысілі: для купцоў 1-й гільдыі мінімум складаў 2375 руб., 2-й – 950 руб., 3-й – 380 руб. Некаторае паніжэнне цаны гільдзейскіх пасведчанняў адбылося па "Дадатковаму пастанаўленню аб гільдыях" 1824 г. Да 1839 г., калі цэны пасведчанняў былі ўсталяваны ў срэбнай манеце, яны былі наступнымі: для 1-й гільдыі – 660 руб., 2-й – 264 руб., 3-й – ад 30 да 66 руб.[2]

Мяшчане пасля рэформы 1775 г. засталіся пры старой сістэме абкладання: яны выплачвалі падвоены падушны падатак. Ён таксама ўзрастаў: у канцы XVIII ст. бралі 2 руб. 50 кап. асігнацыямі, у 1812 г. – па 8 руб. Дадаткова да падушнага збору па ўказах 1816 і 1818 гг. збіраліся грошы на ўладкаванне шляхоў зносін (спачатку па 25 кап., потым па 30 кап.). У 1839 г. падушны падатак для мяшчан еўрапейскай часткі Расійскай імперыі, у тым ліку і Беларусі, быў установлены 2 руб. 38 кап. срэбрам[3].

Для мяшчан існавалі і натуральныя павіннасці: фурманкавыя, дарожныя, кватэрны пастой і інш. У гэтым іх становішча амаль што не адрознівалася ад сялянскага. Раз-пораз такія павіннасці пераводзіліся на грошы і гараджане ад іх адкупаліся.

Пасля 1775 г. купецтва атрымала вызваленне ад пастаўкі рэкрутаў. Мяшчане не мелі такой ільготы і неслі рэкруцкую павіннасць аднолькава з сялянамі.

Рамеснікі (майстры, чаляднікі і вучні) былі падзелены на цэхі. Кіраванне кожным цэхам канцэнтравалася ва ўправе, якая выбіралася на сходзе майстроў. Чаляdніцкія ўправы загадвалі справамі чаляднікаў. На чале ўсіх

---

[1] ЦДГА Украіны, ф.533, воп.1, спр.1592, арк.1–3.

[2] *Рындзюнский П.Г.* Городское гражданство дореформенной России. С.293.

[3] Там жа. С.293–294.

цэхаў стаяў рамесны галава, які выконваў ролю прадстаўніка рамеснікаў ва ўсіх гарадскіх установах.

Яўрэйскае насельніцтва гарадоў і мястэчак Беларусі да 1844 г. падначальвалася кагалу, які ведаў усімі гаспадарчымі і адміністрацыйнымі справамі яўрэйскай абшчыны. Існавалі і дадатковыя падаткі для яўрэяў.

У цэлым сістэма гарадскога самакіравання была вельмі складанай і цалкам знаходзілася ў падначаленні і пад кантролем адміністрацыі ўсіх рангаў, ад генерал-губернатара да квартальнага наглядчыка. Непасрэдную адказнасць за стан гарадоў неслі граданачальнікі і паліцмайстры, якім падпарадкоўваліся гарадскія чыноўнікі і паліцэйскія чыны.

**Эканамічнае развіццё гарадскіх паселішчаў**. У параўнанні з эпохай развітога феадалізму сярод стымулаў, якія абумоўлівалі эканамічнае развіццё гарадскіх паселішчаў у канцы XVIII – першай палове XIX ст., істотных змен не адбылося. Урбанізацыя не стала адной з асноўных рыс развіцця грамадства, гарадскі рынак абслугоўваў у асноўным толькі гарадскія патрэбы, гарадская эканоміка не прэтэндавала на вядучае месца ў эканамічным жыцці Беларусі.

Больш значнае развіццё ў гарадскіх паселішчах рамяства і дробнатаварнай вытворчасці было звязана не з глыбокімі эканамічнымі прычынамі, а са штучнай канцэнтрацыяй у гарадах і мястэчках яўрэйскага насельніцтва. Гэты сегмент рынку, па-першае, не меў дастатковага капіталу для арганізацыі сярэдніх і буйных прадпрыемстваў; па-другое, спажываў тое, што вырабляў; па-трэцяе, меў патрэбу ў пашырэнні сістэмы пастаяннага гандлю. Менавіта гэтым тлумачыцца значны рост колькасці рамеснікаў і рамесных майстэрняў, выдачы пасведчанняў на права вядзення гандлю і адкрыццё новых крам.

Гарадскі кірмашовы гандаль па сваіх абаротах, тэрмінах правядзення, перыядычнасці і маштабах прыцягнення тавараў, гандляроў і пакупнікоў не складаў колькі-небудзь значную канкурэнцыю кірмашам, якія праводзіліся ў сельскай мясцовасці. Гэта вызначалася слабасцю гарадской вытворчасці, нязначным уплывам на месцы гандлю шляхоў зносін і пераважнай колькасцю прадукцыі сельскай гаспадаркі ў гандлёвым звароце. Толькі галоўны кірмаш губернскага горада Мінска значна адрозніваўся сваімі памерамі і год ад году пашыраў сваю дзейнасць. Паводле ўказу ад 23 студзеня 1806 г. тэрмін правядзення Мінскага кантрактавага кірмашу быў прадоўжаны амаль на дзесяць дзён. Указ ад 4 лютага 1832 г. вызначыў для правядзення Мінскага кірмашу цэлы месяц – з 25 мая па 25 чэрвеня. Але і гэта не сведчыла аб значным патэнцыяле горада. Па свайму характару Мінскі кантрактавы кірмаш прызначаўся ў большай меры для пакупкі, продажу і здачы ў арэнду маёнткаў, а таксама ўзаемных грашовых разлікаў і фінансавых аперацый, а не для непасрэднага вядзення гандлёвай дзейнасці. Такім чынам, у якасці кірмашовага цэнтра Мінск быў абраны з-за свайго зручнага геаграфічнага становішча.

У 1858 г. у гарадах Беларусі налічвалася 15,6 тыс. рамеснікаў. З улікам местачковых рамеснікаў іх агульная лічба складала прыкладна 32–33 тыс., пераважна яўрэяў (да 2/3 ад агульнай колькасці)[1]. Асноўная частка рамеснікаў гарадоў і мястэчак працавала на заказ.

Развіццё гарадской прамысловасці было звязана або з гарадскімі патрэбамі (сілікатная, лесапільная і іншыя прадпрыемствы, што абслугоўвалі будаўніцтва), або з перапрацоўкай сельскагаспадарчай сыравіны (гарбар-

[1] *Болбас М.Ф.* Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.). С.50, 51.

ная, мылаварная і свечкавая прамысловасць, буйныя млыны). Новай галіной прамысловасці, звязанай выключна з гарадамі, стала тытунёвая, разам з яе спадарожнай вытворчасцю – гільзавай. Яна базіравалася на прывазной сыравіне і канцэнтравалася ў руках яўрэйскіх прадпрымальнікаў. Першае тытунёвае прадпрыемства было зарэгістравана ў Віцебску ў 1818 г.[1] Затым назіраўся буйны рост гэтай галіны. Толькі ў Мінску ў 1849 г. налічвалася 18 тытунёвых "фабрык", якія належалі яўрэям з гадавой вытворчасцю ад 1 руб. 75 кап. да 116 руб. 90 кап.[2]

У адрозненне ад папярэдніх часоў выключна ў гарадах канцэнтравалася і друкарская справа.

У астатніх галінах эканомікі гарадская прамысловасць не адыгрывала колькі-небудзь значнай ролі і не вытрымлівала канкурэнцыі з прамысловасцю, якая базіравалася ў сельскай мясцовасці, развівалася за кошт эканамічнай ініцыятывы дваран і была набліжана да танных сыравінных і працоўных рэсурсаў. Разам з ліквідацыяй прыватнаўласніцкіх гарадоў і паслабленнем палітычнай і эканамічнай магутнасці магнацкіх родаў у поўны заняпад прыйшлі і тыя бакі гарадскога жыцця, якія былі разлічаны на абслугоўванне патрэб феадальнага двара (ювелірнае майстэрства, вытворчасць зброі і прадметаў раскошы).

Важным стымулам для развіцця гарадскіх паселішчаў з'яўлялася іх геаграфічнае знаходжанне і развіццё зручных шляхоў зносін. Аднак тэхнічны ўзровень транспартных сродкаў таго часу няшмат у чым адрозніваўся ад папярэдніх вякоў. Інтэнсіўнае будаўніцтва водных шляхоў у канцы XVIII – першай палове XIX ст. вялося ў маланаселеных і цяжкадаступных мясцінах. Іх сезоннасць, транзітнае становішча і характар грузаў – лес, прадукцыя сельскай гаспадаркі, імпартныя тавары – на некалькі месяцаў у год ажыўлялі жыццё буйных рачных пристаней. Аднак для арганізацыі сталага гарадскога жыцця і гарадской эканомікі, незалежнай ад сезонных цыклаў, гэтага было мала.Бадай што адзіным выключэннем у гэтым сэнсе ў Беларусі з'яўляўся Пінск. Знаходзячыся на стыку дзвюх буйнейшых водных сістэм – Дняпроўска-Бугскага і Агінскага каналаў і маючы, такім чынам, падвоены стымул для свайго развіцця, Пінск зрабіўся важным эканамічным цэнтрам не толькі Беларускага Палесся, але і велізарнай тэрыторыі, дзе сустракаліся эканамічныя інтарэсы беларускіх, польскіх, прускіх і ўкраінскіх зямель. Па сваіх абаротах пінская прыстань з'яўлялася найбуйнейшай у Беларусі (у 1856 г. – 2,8 млн руб., прычым на долю тавараў, якія грузіліся ў Пінску, прыходзілася да 1,5 млн руб.)[3].

Гараджане былі не толькі звязаны шляхам рачных адносін з эканамічнымі намаганнямі навакольнага сялянскага асяроддзя, але і самі прымалі ўдзел у вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі для забеспячэння як уласных патрэб, так і гарадскога рынку. Кожны беларускі горад меў значную колькасць ворнай, пашавай і сенакоснай зямлі (паводле даных на канец 50-х гг. ад 179 дзесяцін у Пружанах да 8759 дзесяцін у Бабруйску)[4].Сельскагаспадарчыя заняткі значнай часткі гараджан сведчаць аб адсутнасці рэзкай мяжы паміж гарадскім і сельскім жыццём. Яшчэ больш шчыльна з сельскагаспадарчай вытворчасцю было звязана насельніцтва мястэчак.

---

[1] *Болбас М.Ф.* Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.). С.118.

[2] НГАБ, ф.295, воп.1, спр.1081, арк.3.

[3] *Зеленский И.* Минская губерния. Т.1. С.185; Т.2. С.313–314.

[4] *Чепко В.В.* Города Белоруссии в первой половине XIX века. Экономическое развитие. С.105.

Адным з асноўных паказчыкаў развіцця гарадоў і гарадской эканомікі з'яўляецца рост даходаў гарадскіх бюджэтаў. З 1840 па 1861 г. яны ўзраслі амаль на 30 %, з 154 тыс. да 199 тыс. руб. Хутчэй павялічваліся даходы ў гарадах Віленскай, Віцебскай і Гродзенскай губерняў. На Віленшчыне крыніцай бюджэтных даходаў быў пераважна рост купецтва, на Гродзеншчыне – паступленне ад прамысловых прадпрыемстваў. Бюджэты павятовых гарадоў раслі адносна хутчэй, чым бюджэты губернскіх цэнтраў[1]. Гэта ў цэлым сведчыла аб агульнай тэндэнцыі выхаду дробных і сярэдніх гарадоў Беларусі з паласы занядаду. Сярод 69 гарадоў еўрапейскай часткі Расійскай імперыі ў 1848 г. па велічыні даходаў Вільня знаходзілася на 16-м месцы (43 456 руб.), Мінск – на 42-м (15 748 руб.), Віцебск – на 49-м (14 186 руб.), Магілёў – на 52-м (13 150 руб.), Гродна – на 59-м (954 руб.). Па сярэдніх памерах даходаў на аднаго жыхара Вільня была на 51-м месцы (78 кап.), Віцебск – на 53-м (76 кап.), Магілёў – на 54-м (71 кап.), Мінск – на 56-м (65 кап.) і Гродна – на 61-м месцы (55 кап.)[2].

**Змены ў знешнім абліччы гарадоў**. У канцы XVIII – першай палове XIX ст. адбывалася карэнная рэканструкцыя гарадоў. У лютым 1778 г. Кацярына II зацвердзіла планы 22 гарадоў Магілёўскага і Полацкага намесніцтваў. На гарады Беларусі паступова распаўсюджвалася рэгулярная архітэктурна-планіровачная арганізацыя па ўзорах гарадоў Расійскай імперыі. Дзеля гэтага былі зруйнаваны крапасныя валы ў Мінску, Магілёве, Пінску і іншых гарадах, што садзейнічала стварэнню выразнай вулічнай сеткі.

Прынцып рэгулярнай прамавугольнай планіроўкі найбольш паслядоўна ажыццяўляўся ў невялікіх гарадах, такіх, як Бабінавічы, Гарадок, Клімавічы, Мсціслаў, Сураж, Чавусы. Паказальныя ў гэтых адносінах Бабінавічы і Клімавічы, планы якіх уяўляюць сабой "ідэальныя" планіровачныя схемы таго часу[3]. Мноства планаў, асабліва ў канцы XVIII ст. і на рубяжы XVIII і XIXстст., распрацоўваліся ў Пецярбургу, аднак былі і такія, якія складаліся на месцах губернскімі архітэктарамі і каморнікамі. Такія планы часта былі больш дасканалымі і выконваліся больш паспяхова[4].

Рэгламентацыя гарадской забудовы праводзілася з выкарыстаннем тыповых агульнаімперскіх найвысачэйша зацверджаных праектаў гарадскіх пабудоў. Агульны нагляд за ходам горадабудаўніцтва ажыццяўлялі губернатары і (з 1832 г.) губернскія будаўнічыя і дарожныя камісіі, якія падпарадкоўваліся Галоўнаму праўленню шляхоў зносін і публічных будынкаў у Санкт-Пецярбургу. У склад губернскай адміністрацыі ўваходзілі губернскі архітэктар і яго памочнік.

Важным паказчыкам змен у знешнім абліччы беларускіх гарадоў першай паловы XIX ст. з'яўляўся рост будаўніцтва мураваных дамоў. У гэтых адносінах вызначаўся Мінск. У 1803 г. у ім налічвалася 1041 драўляная і 225 мураваных забудоў[5]. У 1861 г. з 1565 будынкаў Мінска 851 (больш за палову) былі мураванымі[6]. Па колькасці мураваных дамоў на 1 тыс. пабудоў сярод 50 губерняў еўрапейскай часткі Расійскай імперыі Віленская губерня займала 8-е месца, Мінская – 27-е, Гродзенская – 32-е, Віцебская – 42-е, Магілёўская – 43-е.

---

[1] *Болбас М.Ф.* Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.). С.37.

[2] *Тенгоборский Л.В.* О производительных силах России. М., 1854. Ч.1. С.161–162.

[3] *Чантурия В.А.* История архитектуры Белоруссии. Мн., 1985. С.226.

[4] Там жа. С.230.

[5] ЦДГА Украіны, ф.533, воп.1, спр.1676, арк.80 адв. – 81.

[6] *Болбас М.Ф.* Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.). С.37.



Мірскі замак у XIX ст. Малюнак Н. Орды

Спецыфікай беларускага горадабудаўніцтва канца XVIII – першай паловы XIX ст. з'яўляецца праектаванне і будаўніцтва Бабруйскай і Брэсцкай крэпасцей і комплексная забудова шэрагу беларускіх гарадоў як гарадоў-рэзідэнцый. Новыя ўладальнікі беларускіх маёнткаў стваралі палацава-сядзібныя ансамблі, выразна змяніўшы воблік старажытных беларускіх гарадоў. У канцы XVIII ст. такія комплексы пабудавалі былыя фаварыты Кацярыны II С.Зорыч у Шклове, Р.Пацёмкін у Крычаве, царскі намеснік у Беларусі граф З.Чарнышоў – у Чачэрску[1].

Найбольш істотныя змены ў статусе сярод беларускіх населеных пунктаў адбыліся з Гомелем. У 1775 г. Кацярына II за перамогу над туркамі падаравала Гомель з наваколлем палкаводцу П. Румянцаву. Графы Румянцавы зрабілі Гомель сваёй рэзідэнцыяй, перапланавалі, нанава пабудавалі палац, гандлёвыя рады, жылыя забудовы, комплекс гаспадарчых, рэлігійных і культурных устаноў, мост праз раку Сож. Застаючыся афіцыйна мястэчкам Беліцкага павета Магілёўскай губерні, Гомель значна апярэджваў павятовыя гарады не толькі гэтай, але і іншых губерняў. Так, у 1828 г. у ім налічвалася 18 мураваных будынкаў, у той час як у 11 павятовых гарадах Магілёўскай губерні – толькі 24 (у Мсціславе – 7, Оршы – 5, Чавусах – 3, Клімавічах, Старым Быхаве і Чэрыкаве – па два, Беліцы, Копысі і Рагачове – па аднаму, у Сянно і Бабінавічах – ніводнага)[2]. Менавіта ў Гомелі з 1842 г. па распараджэнню новага ўладальніка Гомельскага маёнтка князя І.Паскевіча пачалі пракладку першых у Беларусі і адных з першых у Расійскай імперыі асфальтаваных тратуараў[3].

[1] *Слюнькова И.Н.* Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII – середины XIX в. Мн., 1992. С.74–82.

[2] *Лютый А.М.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX века. С.23.

[3] НГАБ, ф.3013, воп.1, спр.13, арк.443; спр.55, арк.111, 156 адв.



Віцебск. XIX ст. Малюнак Н. Орды

У 1852 г. Гомель замест Беліцы быў прызначаны цэнтрам павета.

Лёс Бабруйска і Брэста вызначыла будаўніцтва крэпасцей. Бабруйская крэпасць будавалася ў 1807 – 1836 гг. на месцы гістарычнага цэнтра горада. Паводле плана 1818 г. планіроўку Бабруйска вызначала сетка ўзаемна перпендыкулярных вуліц, забудаваных двух-трохпавярховымі дамамі. На скрыжаванні галоўных вуліц знаходзілася Саборная плошча з домам камендана, будынкамі шпіталя і штаба, саборам Аляксандра Неўскага. У сувязі з будаўніцтвам Брэсцкай крэпасці (праект зацверджаны ў 1830 г., будаўніцтва пачата ў 1833 г.) горад быў перанесены на 3 км на ўсход і пабудаваны нанава па строгаму рэгулярнаму плану.

Пастулова ўзрастала значэнне Мінска. Горад развіваўся даволі дынамічна. Вядомы беларускі публіцыст П.Шпілеўскі адзначаў: "Мінск належыць да ліку буйных і прыгожых гарадоў Заходняй Расіі і пры цяперашнім сваім добраўпарадкаванні і абноўленым выглядзе, пасля пажару ў 1835 г., можа быць сталіцай Беларусі; ён больш вялікі і больш шляхетны, чым за Магілёў і Віцебск. За выключэннем Троіцкага прадмесця, татарскага канца і некаторых глухіх завулкаў па ўскраінах горада, у Мінску ўсе дамы мураваныя і з большага вельмі вялікія, а вуліцы добра брукаваныя і вельмі ахайна даглядаюцца"[1]. Аднак у поўнай меры значэнне Мінска як цэнтральнага горада беларускіх губерняў пакуль дастаткова не выявілася. Зручнае геаграфічнае становішча разам з адміністрацыйным статусам губернскага горада не было падмацавана значнымі памерамі гандлёва-прамысловай дзейнасці. Не спрыяла развіццю Мінска і яго аддаленасць ад асноўных шляхоў зносін таго часу.

[1] *Шпилевский П.М.* Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. С.131.

Такім чынам, у канцы XVIII–першай палове XIX ст. беларускія гарады, з аднаго боку, набывалі тыповыя рысы правінцыйных губернскіх і павятовых гарадоў Расійскай імперыі, з другога боку, разам з мястэчкамі не страцілі адметных рыс беларускіх населеных месцаў папярэдняй эпохі.

# ГЛАВА 3
# КУЛЬТУРА

## 1. Асвета. Навука. Друк. Бібліятэкі

На час далучэння да Расійскай імперыі Беларусь мела багаты культурна-гістарычны вопыт і сталыя культурныя традыцыі, якія складваліся на працягу стагоддзяў. Уключэнне ў новы дзяржаўны арганізм, які ў сваю чаргу вызначаўся ўласнымі, здаўна выпрацаванымі, культурнымі здабыткамі, не магло не паўплываць на далейшае культурнае развіццё Беларускага краю.

На канец XVIII – першую палову XIX ст. прыпадае пачатковы этап новых, пасля раздзелаў Рэчы Паспалітай, узаемадносін паміж культурамі Беларусі і Расіі. На пярэднім плане гэтых даволі складаных і неадназначных узаемаадносін апынуліся такія ўжо сфарміраваныя культурныя плыні, як шляхецкая культура Беларусі і руская дваранская імперская культура. Шмат у чым гэтыя культуры былі роўнавялікія, найперш па ўзроўню развіцця. Да XIX ст. яны прыйшлі значна абноўленымі бурнымі працэсамі еўрапеізацыі, узбагачаныя ідэямі і ідэаламі эпохі Асветніцтва, аднак мелі розны культурны вопыт, арыентацыі і традыцыі.

Злучаныя ў межах адзінай дзяржаўнай прасторы, яны апынуліся ў няроўным становішчы: як культура народа скаронага і народа пануючага. Роўнавялікасць параджала ўзаемаразуменне і ўзаемапрыцягненне, рознасць выклікала непаразуменні і супрацьстаянне. Гэтыя тэндэнцыі вызначалі развіццё ўсіх сфер культурнага жыцця краю, асабліва народнай асветы.

**Адукацыя ў канцы XVIII – пачатку XIX ст.** Першы даволі моцны ўплыў з расійскага боку адчулі навучальныя ўстановы ўсходніх зямель Беларусі, далучаных да Расіі ў 1772 г. На Магілёўшчыне і Віцебшчыне працягвала існаваць сфарміраваная на працягу стагоддзяў сістэма шляхецкай адукацыі, якую не паспелі закрануць рэвалюцыйныя рэформы Адукацыйнай камісіі Рэчы Паспалітай. У Віцебску, Полацку, Магілёве, Мсціславе, Оршы, Дзінабургу дзейнічалі езуіцкія калегіумы, у Сянно і Сакольніках – францысканскія, у Віцебску – піярская, у Талачыне – базыльянская, у Забелах – дамініканская школы[1]. Стан навучання ў іх законсерваваўся на ўзроўні завяршэння рэформы С. Канарскага. Вучоба тут пачыналася з засваення лацінскай мовы і польскай граматыкі, уключала знаёмства са Свяшчэннай гісторыяй, арыфметыкай, геаграфіяй і заканчвалася для тых нямногіх, каму шанцавала адолець кніжную мудрасць, азнаямленнем з логікай, метафізікай, фізікай, хіміяй, астраноміяй, механікай і філасофіяй. Навучанне вялося на лацінскай і польскай мовах. Выкладаліся замежныя еўрапейскія мовы, а таксама, у якасці факультатыўнай, мова руская [2].

---

[1] Рукапісны аддзел бібліятэкі Вільнюскага універсітэта (далей – РА ВУ), Р 2. Кс – 554.
[2] Там жа.

У канцы 1780 – пачатку 1790-х гг. на Віцебшчыне і Магілёўшчыне пачалі працаваць рускія народныя вучылішчы, якія ствараліся тады па волі Кацярыны II на абшарах усёй імперыі: у губернскіх цэнтрах – галоўныя чатырохкласныя, у павятовых – малыя двухкласныя. На тэрыторыі беларускіх губерняў галоўныя народныя вучылішчы былі адкрыты ў Магілёве і Віцебску, малыя – у Полацку, Оршы, Чавусах, Мсціславе, Копысі, Чэрыкаве, Веліжы і Невелі.

Рускія народныя вучылішчы былі навучальнымі ўстановамі асветніцкага тыпу, закліканыя выхоўваць маладыя пакаленні ў духу агульначалавечых і грамадзянскіх, патрыятычных дабрачыннасцей. Ствараліся яны па ўзору прускіх і аўстрыйскіх школ[1], пад кіраўніцтвам зацверджанай у 1782 г. імператрыцай Камісіі па ўсталяванню народных школ. Народныя школы адчынілі дзверы для прадстаўнікоў усіх саслоўяў, практыкавалі сумеснае навучанне хлопчыкаў і дзяўчынак. На ўсходзе Беларусі яны ствараліся як альтэрнатыва мясцовым традыцыйным прыкляштарным калегіумам. Навучанне ў іх было бясплатным. Рускія настаўнікі гэтых школ у большасці былі добра падрыхтаваныя прафесійна і вызначаліся шчырай прыхільнасцю справе пашырэння асветы і ідэалаў Асветніцтва[2].

Але Расія ў той час рабіла толькі першыя крокі ў напрамку да стварэння дзяржаўнай сістэмы адукацыі і не мела такіх трывалых традыцый у гэтай сферы, як Рэч Паспалітая. Таму рускія народныя вучылішчы ў Беларусі не маглі стаць моцнымі канкурэнтамі для прыкляштарных вучылішч, тым больш што давалі агульнаадукацыйныя веды ў значна меншым аб'ёме. З гэтай прычыны беларуская шляхта не спяшалася аддаваць сваіх дзяцей у новыя навучальныя ўстановы. Навучанне ў народных вучылішчах вялося на рускай мове, што таксама не магло задаволіць шляхту, якая працягвала захоўваць арыентацыю на каталіцка-шляхецкае і польскамоўнае выхаванне. Паводле звестак рэвізіі навучальных устаноў Віцебскай і Магілёўскай губерняў 1802 г., у прыкляштарных вучылішчах Усходняй Беларусі (за выключэннем Забельскай дамініканскай калегіі, якую тая рэвізія абмінула) налічвалася 846 вучняў, у тым ліку ў езуіцкіх калегіумах – 701[3]. Колькасць жа вучняў народных школ складала 614 чалавек, сярод якіх былі пераважна дзеці рускіх чыноўнікаў, канцылярыстаў, афіцэраў і салдат, а таксама – у значна меншай колькасці – сыны і дочкі мясцовых мяшчан[4].

Шляхта аддавала перавагу мясцовым традыцыйным навучальным установам, што расійскія ўлады на працягу ўсёй першай паловы XIX ст. разглядалі як шкодную для інтарэсаў імперыі шляхецкую "схільнасць да манаскага выхавання". Па сутнасці гэта была не толькі праява законаў культурнай інерцыі, але і форма супрацьдзеяння наступу новай улады на традыцыі і звычаі шляхецкай культурнай прасторы[5].

Пасля другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай да стракатай сеткі ўсходнебеларускіх сярэдніх навучальных устаноў, што належалі розным манаскім ордэнам, а таксама Расійскай дзяржаве, далучыліся школы, якія

[1] *Рождественский С.В.* Исторический обзор деятельности Министерства народного просвещения. 1802–1902. С.14–16.

[2] *Пасэ У.* Рускія народныя школы ў Беларусі ў канцы XVIII стагоддзя //Народная асвета. 1962, №5. 86–89; *Дорошевич Э.К.* Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. Мн., 1971. С.151–157; *Мальдзіс. А. І.* На скрыжаванні славянскіх уплываў. Мн., 1980. С. 273–277.

[3] РА ВУ, Р. 2. Кс – 554, арк. 2.

[4] РА ВУ, Р. 2, Кс – 55 арк. 45–48.

[5] *Кузняева С.* Віцебскі калегіум на пачатку XIX ст. (па матэрыялах рэвізіі В.М.Севяргіна) // Віцебскі сшытак. 1995. №1. С. 32–35.

дзеці рускіх чыноўнікаў, канцылярыстаў, афіцэраў і салдат, а таксама – у значна меншай колькасці – сыны і дочкі мясцовых мяшчан[1].

Шляхта аддавала перавагу мясцовым традыцыйным навучальным установам, што расійскія ўлады на працягу ўсёй першай паловы XIX ст. разглядалі як шкодную для інтарэсаў імперыі шляхецкую "схільнасць да манаскага выхавання". Па сутнасці гэта была не толькі праява законаў культурнай інерцыі, але і форма супрацьдзеяння наступу новай улады на традыцыі і звычаі шляхецкай культурнай прасторы[2].

Пасля другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай да стракатай сеткі ўсходнебеларускіх сярэдніх навучальных устаноў, што належалі розным манаскім ордэнам, а таксама Расійскай дзяржаве, далучыліся школы, якія працавалі ў Цэнтральнай і Заходняй Беларусі пад кіраўніцтвам Адукацыйнай камісіі Рэчы Паспалітай. Гэта былі акадэмічныя акруговыя школы ў Гродне, Мінску, Брэсце і Навагрудку (апошнюю ўтрымлівалі дамінікане) і акадэмічныя павятовыя – у Нясвіжы, Слуцку, Бабруйску, Пінску, Мазыры, Слоніме, Вішневе, Ваўкавыску, Халопенічах, Драгічыне, Паставах. Апрача іх існавалі прыкляштарныя вучылішчы, дзе навучанне вялося па праграмах і падручніках Адукацыйнай камісіі: піярскія – у Лідзе, Шчучыне і Лужках; базыльянскія – у Жыровічах, Барунах, Беразвечы, Свержані; дамініканская – у Чашніках, місіянерская – у Лыскаве, а таксама пратэстанцкія школы ў Слуцку, якія пазбеглі дзяржаўнага дыктату.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай дзейнасць Адукацыйнай камісіі – першага ў Еўропе міністэрства народнай асветы – была спынена. Створаная расійскім урадам спецыяльная камісія спрабавала ўносіць карэктывы ў праграмы акадэмічных школ, цэнзуравала і нават канфіскоўвала падрыхтаваныя Адукацыйнай камісіяй падручнікі, дзе знаходзіла "погляды, манархічнаму складу праўлення супрацьлеглыя"[3].

Да сярэдніх навучальных устаноў тагачаснай Беларусі адносіліся яшчэ некалькі невялікіх прыватных пансіёнаў у Магілёўскай і Віцебскай губернях, нязначная колькасць стараверскіх, а таксама шмат яўрэйскіх рэлігійных школ: хедараў і ешываў, якія забяспечвалі рабінамі не толькі Беларусь, Літву і Польшчу, але і Заходнюю Еўропу[4].

Такім быў стан асветы ў Беларусі напярэдадні царавання імператара Аляксандра I, калі ў Расіі пачала ажыццяўляцца кардынальная рэформа народнай адукацыі.

**Віленская навучальная акруга ў першай трэці XIX ст**. Рэформа прадугледжвала стварэнне дзяржаўнай, свецкай сістэмы адукацыі і рыхтавалася з улікам вопыту былой Рэчы Паспалітай і заходнееўрапейскіх краін[5]. Яна распачалася ў 1802 г. са стварэння Міністэрства народнай асветы Расіі. Краіна была падзелена на шэсць навучальных акруг на чале з універсітэтамі. У 1803 г. Галоўная Літоўская школа атрымала статус імператарскага Віленскага універсітэта, які ўзначаліў новаўтвораную Віленскую навучальную акругу. У падпарадкаванне апошняй увайшлі навучальныя ўстановы Вілен-

---

[1] РА ВУ, Р. 2, Кс – 55 арк. 45–48.

[2] *Кузняева С.* Віцебскі калегіум на пачатку XIX ст. (па матэрыялах рэвізіі В.М.Севяргіна) // Віцебскі сшытак. 1995. №1. С. 32–35.

[3] *Крачковский Ю.Ф.* Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа. 1803–1903. Вильно, 1906. С. 35 – 36.

[4] *Дубнов С.М.* История хасидского раскола на основании первоначальных источников, печатных и рукописных // Восход. 1890. №2. С. 103.

[5] *Truchim S.* Współpraca polsko-rosyjska nad organiacjóą szkolnictwa rosyjskiego w początkach XIX w. Lódz, 1960.



Віленскі універсітэт. Літаграфія.
Сярэдзіна XIX ст.

скай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай, Кіеўскай (пазней вылучаныя з акругі), Валынскай, Падольскай губерняў і з 1810 г. Беластоцкай вобласці. Куратарам акругі быў прызначаны князь А. Чартарыйскі, адзін з членаў рэфарматарскай каманды "маладых сяброў" Аляксандра І.

Віленскай навучальнай акрузе было дазволена кіравацца не агульнарасійскім статутам навучальных устаноў, а асобным, які ўлічваў багаты вопыт дзейнасці Адукацыйнай камісіі Рэчы Паспалітай. Такім чынам, расійская дзяржава прызнавала заслугі скасаванай камісіі ў галіне стварэння сістэмы асветы, падпарадкаванай дзяржаўным інтарэсам. Разумеючы, што культурная інкарпарацыя новадалучаных зямель патрабуе часу, а фарсіраванне можа выклікаць моцнае супрацьдзеянне шляхты, небяспечнае для імперыі, рускія ўлады дазволілі захаваць польскую мову як асноўную мову навучання ў Віленскім універсітэце і школах.

Кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі здолела дамагчыся значных поспехаў у правядзенні рэформы. Яно ўсталявала кантроль над навучальнымі ўстановамі розных тыпаў (у тым ліку і прыватнымі, колькасць якіх у Беларусі ў адзначаны перыяд павялічылася), спрыяла ўвядзенню адзіных праграм і патрабаванняў да якасці навучання. Высокай адукаванасцю вызначаўся настаўніцкі корпус акругі, што забяспечвалася намаганнямі Віленскага універсітэта, які рыхтаваў настаўнікаў для навучальных устаноў.

Дзякуючы кіраўніцтву акругі, на яе абшарах усталявалася трохступенная сістэма народнай адукацыі. Яна прадугледжвала існаванне прыходскіх і павятовых вучылішч, а таксама гімназій. Заснаваныя ў губернскіх гарадах, у тым ліку ў Беларусі , сямікласныя гімназіі мелі больш шырокія праграмы навучання, чым чатырохкласныя расійскія. З імі магла раўняцца толькі маскоўская універсітэцкая гімназія[1]. Шэраг мясцовых вучылішч набылі статус гімназій другога разраду[2].

Гімназіі, павятовыя і прыходскія вучылішчы на беларускіх землях ствараліся, як правіла, на базе наяўных школ. Аднак у першай трэці XIX ст. было заснавана і нямала новых , галоўным чынам першапачатковых вучылішч, у тым ліку ланкастарскіх – бясплатных школ для бедных, дзе навучанне вялося па вельмі папулярнай тады ў Еўропе сістэме англійскага педагога Дж. Ланкастара. Вялікай папулярнасці такіх школ у Расійскай імперыі

[1] *Новоселов А.* Ревизия профессором Сенковским белорусских училищ в 1826 г. // Журнал Министерства народного просвещения. 1872. №4. С. 185.

[2] *Пастухова З.А.* Среднее образование в дореволюционной Белоруссии. Мн., 1963. С. 5.

спрыяла праца першага ланкастарскага вучылішча, заснаванага ў 1819 г. у Гомелі на сродкі графа М.Румянцава англічанінам Я.Гердам. У 1820–1830-я гг. у Беларусі працавала больш за 20 ланкастарскіх школ. У 1819 г. у Гомелі і ў 1821 г. у Гродне была арганізавана падрыхтоўка настаўнікаў для ланкастарскіх школ рэгіёна[1].

Імкненне кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі ўсталяваць кантроль над навучальнымі ўстановамі сутыкнулася з рашучым супрацьдзеяннем на ўсходзе Беларусі з боку езуітаў, якія бачылі ў дзеяннях Віленскага універсітэта выразныя праявы рэвалюцыйнай "універсітэцкай пугачоўшчыны"[2] і ўпарта адмаўляліся падпарадкоўвацца універсітэцкім патрабаванням. На працягу некалькі гадоў яны дамагаліся ад расійскіх улад прызнання аўтаноміі езуіцкіх школ ад кіраўніцтва акругі і ў пачатку 1812 г. гэтай мэты дасягнулі. Рашэннем урада Полацкі езуіцкі калегіум атрымаў статус акадэміі з правамі і прывілеямі універсітэта, у падпарадкаванне якой увайшлі ўсе езуіцкія школы Расійскай імперыі.

На нейкі час Полацк ператварыўся ў сапраўдную сталіцу езуітаў. У Полацкую акадэмію, дзе працавалі факультэты тэалагічны, моўны, вольных мастацтваў, а навучанне вялося па-польску, пачала сцякацца шляхецкая моладзь – галоўным чынам сыны кансерватыўна настроенай шляхты, не задаволенай нОваўвядзеннямі ў галіне асветы. Колькасць навучэнцаў акадэміі павялічвалася з года ў год: у 1809 г. – 318 чалавек, у 1818 г. – 529, а ў 1820 г. – каля 700[3]. Акадэмія мела багатую бібліятэку і ўласную друкарню, у 1818 г. і ў пачатку 1820 г. выдавала часопіс "Miesięcznik Połocki ". У хуткім часе, аднак, расійскія ўлады перагледзелі свае адносіны да езуіцкага ордэна, і ў 1820 г. езуіты былі выгнаны з Расіі, а іх навучальныя ўстановы ў Беларусі перайшлі пад загад іншых каталіцкіх ордэнаў. Полацкая акадэмія была перададзена піярам і атрымала статус вышэйшага вучылішча.

З цягам часу ўсё большую насцярожанасць з боку ўлад выклікалі таксама Віленская навучальная акруга і Віленскі універсітэт. Яго намаганнямі на абшарах заходніх новадалучаных зямель стваралася трывалая сістэма дзяржаўнай свецкай адукацыі, якая між тым спрыяла не толькі замацоўванню культурнай адметнасці шляхты, але і культывавала гэту адасобленасць, а таксама вельмі небяспечную для імперыі шляхецкую нядобранадзейнасць. Небяспечную тым больш, што па колькасці школ і навучэнцаў Віленская акруга з'яўлялася яўным лідэрам сярод навучальных акруг Расіі. У пачатку 1820-х гг. у яе установах набывала веды 30,2 % усёй вучнёўскай моладзі Расійскай дзяржавы[4].

Віленскі універсітэт, у сваю чаргу, быў самай буйной вышэйшай навучальнай установай імперыі і самым аўтарытэтным культурным і навуковым цэнтрам зямель былога ВКЛ. Само яго існаванне, пасля гвалтоўнага разбурэння Рэчы Паспалітай, азначала ў вачах шляхты захаванне пэўнай культурнай стабільнасці і дазваляла адчуваць сябе "палякамі без Польшчы"[5]. Да таго ж Віленскі універсітэт вызначаўся высокім узроўнем навучання і даваў вышэйшую адукацыю еўрапейскага тыпу. Колькасць яго навучэнцаў стабільна ўзра-

---

[1] НГА РБ, ф. 3157, воп. 1. спр. 85,167,179; НГА РБ у Гродне, ф.1. воп.1. спр. 1801; *Кузняева С., Філатава А.* Ланкастарскія школы на Беларусі // Настаўніцкая газета. 1992. 15 жн.

[2] *Beauvois D.* Szkolnictwo polskie na ziemiach litewsko-ruskich. 1803–1832. T. 2. Szkoły podstawowe i srednie. Rzym; Lublin, 1991. S.164.

[3] Там жа. S.165–167.

[4] Там жа. S.253.

[5] *Brukner A.* Dzeje kultury polskiej. Kraków, 1931. T.3. S. 261.



"Miesięcznik Połocki".
Часопіс Полацкай езуіцкай акадэміі

стала. У 1808 г. тут навучалася 300 студэнтаў, у 1824 г. – 900, у 1830 г. – 1300 (у той час у самым старэйшым і буйным расійскім універсітэце – Маскоўскім налічвалася ў 1808 г. каля 160, а ў 1824 і 1830 гг. – некалькі больш за 800 студэнтаў)[1].

Віленскі універсітэт меў чатыры факультэты: маральна-палітычных навук, літаратуры і вольных мастацтваў, фізіка-матэматычны і медыцынскі. Высокім быў прафесійны ўзровень прафесараў. Тут у розныя часы выкладалі такія вядомыя вучоныя, як астраном Я.Снядэцкі (рэктар універсітэта ў 1806–1815 гг.) і яго брат выдатны натураліст А.Снядэцкі, вядомыя медыкі І.Франк і Г.Балнус, мастакі Ф.Смуглевіч і Я.Рустэм, гісторыкі І.Анацэвіч, М.Баброўскі, І.Даніловіч, І.Лялевель і многія іншыя. Пры універсітэце працавалі медыцынская, ветэрынарная, агранамічная школы, абсерваторыя, навуковы калектыў аднаго з багацейшых у Еўропе батанічнага сада, універсітэцкі і заалагічны музеі, багатая бібліятэка, клінікі і аптэка, а таксама друкарня, якая з 1805 г. выпускала штомесячны навукова-літаратурны часопіс "Dziennik Wileński", а ў 1816 г. "Wiadomości Brukowe" – орган таварыства вольналюбіва настроеных выкладчыкаў, на старонках якога вялася вострая палеміка з полацкімі езуітамі.

Пасля таго як А.Чартарыйскі быў адхілены ад кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі, яго пасаду заняў прадстаўнік афіцыйнага Пецярбурга М.Навасільцаў. У навучальных установах Віленскай акругі было пашырана вывучэнне рускай мовы, гісторыі і літаратуры. Школы і вучылішчы Магілёўскай і Віцебскай губерняў былі перададзены ў падпарадкаванне Пецярбургскай навучальнай акругі і перайшлі на рускую мову выкладання. У хуткім часе яны вылучыліся ў асобную Беларускую навучальную акругу. Разгром паўстання 1830–1831 гг. прыспешыў "карэннае вырашэнне" праблем, звязаных з Віленскай навучальнай акругай. У 1832 г. бліскучы Віленскі універсітэт быў закрыты як "рассаднік вальнадумства", а замест яго ў Вільні былі створаны медыка-хірургічная і духоўная рымска-каталіцкая акадэміі. У пачатку 1840-х гг. яны былі пераведзены адпаведна ў Кіеў і Пецярбург.

**Стан асветы ў 1830–1850-я гг**. Беларуская навучальная акруга праіснавала да 1850 г., калі навучальныя ўстановы Беларусі зноў былі падзелены паміж Віленскай і Пецярбургскай навучальнымі акругамі. У гэты перыяд праводзіліся ў жыццё патрабаванні мікалаеўскага школьнага статута 1828 г. Ён зафіксаваў існаванне трохступеннай сістэмы сярэдняй адукацыі, але больш жорстка, чым раней, замацоўваў саслоўны прынцып адукацыі. Гімназіі прызначаліся толькі для дваранства і чыноўніцтва, павятовыя вучылішчы – для мяшчан, купцоў і рамеснікаў, прыходскія – для ніжэйшых саслоўяў.

Гэта сістэма была прыстасавана для рускага грамадства. Яна не ўлічвала асаблівасці Беларусі, дзе большую частку мяшчан і купцоў складалі прад-

[1] *Beauvois D.* Szkolnictwo polskie na ziemiach litewsko-ruskich. 1803–1832. T. 1.Uniwersitet Wileński. Rzym; Lublin, 1991. S. 275 –276.

стаўнікі яўрэйскага насельніцтва, для якога былі не прыдатнымі хрысціянскія навучальныя ўстановы, а вялікая колькасць шляхты не мела сродкаў і магчымасцей аддаваць дзяцей у гімназіі. Да таго ж у той час пачалося планавае знішчэнне прыкляштарных вучылішч. Многія малалетнія беларускія шляхцiцы вымушаны былі задавальняцца набыццём адукацыі ў прыходскіх і бясплатных ланкастарскіх школах разам з аднадворцамі і мяшчанамі ці карыстацца паслугамі танных хатніх настаўнікаў, такіх жа бедных, як і іх вучні[1].

Кіраўніцтва Беларускай навучальнай акругі неаднаразова звярталася да ўлад з просьбай дазволіць дзецям небагатых шляхціцаў атрымліваць адукацыю ў мясцовых прыходскіх вучылішчах і выдаткаваць ім грашовую дапамогу[2]. Але расійская асвета пакутавала на хранічны недахоп сродкаў. З гэтай прычыны ў 1830–1840-я гг. рабіліся спробы перавесці павятовыя вучылішчы на танную ланкастарскую сістэму, а ў 1839 г. была закрыта Віцебская настаўніцкая семінарыя, якая праіснавала пяць гадоў. З гэтай жа прычыны не здзейсніўся намер усталяваць у Оршы Беларускі ліцэй[3], хаця ідэя стварэння ў Беларусі напаўвышэйшай ці вышэйшай навучальнай установы як аплота "рускага пачатку" на далучаных землях ухвалялася ўладамі.



Полацк. Кадэцкі корпус

Менавіта русіфікацыя асветы на беларускіх землях складала галоўную мэту дзейнасці расійскіх улад у адносінах да мясцовых навучальных устаноў. Між тым у Беларускай навучальнай акрузе яўна не хапала настаўнікаў, якія свабодна валодалі рускай мовай. Да таго ж закрыццё Віленскага універсітэта пазбавіла акруговыя школы прытоку новых прафесійных настаўніцкіх кадраў. Таму першы папячыцель акругі Р. Карташэўскі шмат

[1] *Шпилевский П.М.* Путешествие по Полесью и белорусскому краю. Мн., 1992, С. 212.

[2] НГА РБ, ф. 3157, воп. 1, спр. 13, арк. 108.

[3] *Касмылёў В.С.* Да гісторыі вышэйшых навучальных устаноў на Беларусі // Наш радавод. Кн.3. Ч. 2. Гродна, 1991. С. 347–351.

зрабіў для таго, каб выпускнікі гімназій Беларусі маглі атрымаць вышэйшую адукацыю ў рускіх сталічных універсітэтах і вярнуцца на радзіму настаўнікамі. Гэтыя педагогі, як правіла, ужо былі носьбітамі рускай культуры, здабыткі якой актыўна прапагандавалі.

У той час русіфікатарскія павевы закранулі і прыватныя школы Беларусі, у тым ліку і вельмі папулярныя тады жаночыя пансіёны. Абавязковым патрабаваннем да ўладальнікаў пансіёнаў было валоданне рускай мовай. Вучылішчнае начальства ў другой трэці XIX ст. дэманстратыўна падтрымлівала нешматлікія ў Беларусі прыватныя жаночыя ўстановы рускай арыентацыі. Такія, напрыклад, як дзявочы пансіён, які існаваў з 1825 г. у Прапойску, а ў 1832 г. быў перанесены ў Магілёў[1]. З канца 1830-х гг. у Беларусі пачалі ствараецца дзяржаўныя жаночыя пансіёны ў Мінску, Гродне, Магілёве, Віцебску, Полацку. У 1841 г. у Беластоку пачаў дзейнічаць дзяржаўны інстытут высакародных дзяўчат[2].

У 1840–1850-я гг. улады паспрабавалі ўсталяваць кантроль над дзейнасцю шматлікіх яўрэйскіх рэлігійных навучальных устаноў. У асяроддзі літвакоў (так заўжды называлі сябе яўрэі Беларусі і Літвы) здаўна руплівa захоўваліся тысячагадовыя рэлігійныя і культурна-побытавыя традыцыі, вялікая ўвага надавалася рэлігійнаму выхаванню і адукацыі, сістэма якой была выдатна распрацавана і выпрабавана на працягу стагоддзяў. Праз навучанне ў меламедаў і ў хедарах праходзіла ўсё яўрэйскае мужчынскае насельніцтва. Найбольш здольныя да навук юнакі мелі магчымасць працягваць адукацыю ў ешывах, якіх было нямала ў Беларусі. Найбольш папулярнымі ў той час лічыліся сусветна вядомыя Валожынская і Мірская ешывы.

У час цараваня Мікалая I рускае заканадаўства, абмежавальнае ў сваёй аснове, у адносінах да яўрэяў стала яшчэ больш жорсткім і рэпрэсіўным. Галоўнай прычынай такіх адносін расійскай дзяржавы да іншавернага іудзейскага насельніцтва, як вызначалі вярхі імперыі, з'яўлялася яго культурная ізаляванасць і самаізаляванасць, якія павінны былі быць ліквідаваны. Ва ўрадавых колах быў распрацаваны маштабны план карэннага рэфармавання традыцыйнай яўрэйскай адукацыі. Ён не толькі прадугледжваў стварэнне дзяржаўных навучальных устаноў для яўрэяў з напаўсвецкімі праграмамі навучання, а, па сутнасці, пасягаў на асновы традыцыйнай яўрэйскай рэлігійнай асветы, з якой, на думку афіцыйнага Пецярбурга, неабходна было выцесніць – ні больш, ні менш – вывучэнне Талмуда.

Менавіта таму ў ствараемыя з 1847 г. у губернскіх і павятовых гарадах яўрэйскія казённыя вучылішчы 1-га і 2-га разрадаў яўрэйскія абшчыны накіроўвалі дзяцей, аплакваючы іх як рэкрутаў, і ў такой нязначнай колькасці, каб толькі гэтыя ўрадавыя вучылішчы лічыліся існуючымі[3]. Вельмі сціплая статыстыка колькасці навучэнцаў казённых яўрэйскіх вучылішч сведчыла: яўрэі дзяржаўныя школы, па сутнасці, байкатавалі і працягвалі аддаваць дзяцей на вучобу да меламедаў. Апошнія, паводле распараджэння ўрада, павінны былі зарэгістраваць свае школы ў навучальнай акрузе, рэгулярна адсылаць вучылішчнаму начальству спісы вучняў, а таксама здаваць экзамены па рускай і нямецкай мовах. Аднак большасць меламедаў ад такога кантролю вырашыла ўхіліцца, працягваючы вучыць дзяцей па-старому,

---

[1] НГА РБ, ф. 3157, воп. 1, спр. 20.

[2] *Киприанович Г.Я.* К истории женского образования в Западной России. Вильно, 1910. С. 6–11.

[3] НГА РБ, ф. 3157, воп.1, арк. 2–7; *Марек П.* Очерки по истории просвещения в России. М., 1909. С. 31.

але ўжо тайна. Такім чынам яўрэйства абаранялася ад гвалтоўных наступаў імперскай улады на сваю культурную прастору. Гэта супрацьстаянне ўлады і яўрэйства некалькі паслабела ў пачатку царавання Аляксандра II, калі ўрад пайшоў на адмену некаторых асабліва жорсткіх палажэнняў рэпрэсіўнага расійскага заканадаўства ў адносінах да іудзеяў, адмовіўся ад грубага ўмяшальніцтва ва ўнутранае культурна-рэлігійнае жыццё яўрэяў і ліквідаваў яўрэйскія казённыя вучылішчы.

Пачатак царавання Аляксандра II прынёс новыя павевы ў сістэму народнай адукацыі. У Беларусі адкрываліся новыя гімназіі, быў зроблены крок да пашырэння пачатковай адукацыі, у тым ліку і для сялян – да 1860 г. на беларускіх землях заснавана больш за 100 новых школ для сялянскіх дзяцей[1]. Узмацнілася цікавасць і да прафесійнай адукацыі – пры гімназіях пачыналі адкрывацца агранамічныя, землямерныя, каморніцка-таксатарскія класы. Плённа працаваў Горы-Горацкі земляробчы інстытут – першая ў Расіі вышэйшая навучальная агранамічная ўстанова, арганізаваная ў 1848 г. на базе створанай у 1840 г. земляробчай школы. Тут вучылася моладзь з усёй Расійскай імперыі. Адзін з яе студэнтаў беларускі шляхціц С.Дышкевіч у канцы 1850-х гг. арганізаваў у Горках першую вядомую на сёння беларускую, таемную, школу, у якой дзеці вучыліся "па букварах і кніжках на беларускай гаворцы"[2].

Горы-Горацкі земляробчы інстытут, зразумела, не мог у поўнай меры кампенсаваць адсутнасць у рэгіёне такой шматпрофільнай вышэйшай навучальнай установы, як універсітэт. Пасля закрыцця Віленскага універсітэта юнакі з Беларусі адпраўляліся па веды ва універсітэты Пецярбурга і Масквы, радзей – у замежныя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Тады распачаўся працэс адцягвання з краю лепшых інтэлектуальных сіл, у тым ліку і навуковых.

Аднак гэта не азначала, што навуковыя даследаванні ў Беларусі не вяліся. Важныя пошукі праводзіліся ў Горы-Горацкім інстытуце, а іх вынікі публікаваліся ў "Записках Гори-Горецкого земледельческого института" (1852–1857). Дзякуючы працы таленавітых высокапрафесійных лекараў развівалася медыцынская навука[3]. У той час Беларусь стала аб'ектам пільнай увагі навукоўцаў, што стымулявала развіццё гістарычных, філалагічных, этнаграфічных даследаванняў.

**Станаўленне беларусазнаўства.** Першая палова XIX ст. была часам станаўлення навуковага беларусазнаўства, якое ўзнікла як складаная частка маладой тады навукі – славістыкі. Менавіта ў той час распачалося комплекснае даследаванне гісторыі, мовы, матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага этнасу.

Вялікую цікавасць да Беларусі пачынаючы з канца XVIII ст. праяўлялі польскія і рускія даследчыкі, што, несумненна, у значнай ступені тлумачылася як настальгічнымі пачуццямі польскага грамадства ў адносінах да былых усходніх тэрыторый падзеленай і такім чынам знішчанай Рэчы Паспалітай, так і імкненнем Расійскай дзяржавы бліжэй пазнаёміцца з новадалучанымі заходнімі тэрыторыямі. Першыя звесткі пра Беларусь руская навука атрымала ад публікацый вынікаў падарожжаў акадэмікаў І.Ляпёхіна і

[1] Асвета і педагагічная думка ў Беларусі. Мн., 1984, с. 192.

[2] *Киселев Г.В.* Разыскивается классик. Мн., 1989. С.323–338.

[3] *Грицкевич В.П.* С факелом Гиппократа: Из истории белорусской медицины. Мн., 1987. С.146–185.

В.Севяргіна, і дзейнасці дзяржаўных устаноў, якія ажыццяўлялі генеральнае межаванне зямельнага фонду Беларусі.

Сярод першых даследчыкаў старажытнага беларускага пісьменства былі польскія вучоныя Т.Чацкі, С.Ліндэ, рускі бібліёграф В.Сопікаў. Першая спроба даследавання жывой беларускай мовы належала рускаму вучонаму К.Калайдовічу. Беларускія фальклорныя і этнаграфічныя матэрыялы змяшчалі ў сваіх капітальных выданнях выдатныя польскія даследчыкі Л.Галамбёўскі, А.Глінскі і рускія навуковыя славутасці І.Снегіроў, А.Афанасьеў. Беларускія фальклорныя запісы, сабраныя мясцовымі энтузіястамі для І.Кірэеўскага, склалі каштоўнейшы рукапісны "Беларускі архіў" знакамітага рускага вучонага.

Беларуссю і беларусамі цікавіліся і вядомыя еўрапейскія славісты. Знакаміты П.Шафарык у той час, калі многія яго калегі, у тым ліку польскія і рускія, ваганіся ў вырашэнні пытання самастойнасці і самабытнасці беларускага этнасу, у сваёй манументальнай працы "Славянскае народапісанне" (1842) на аснове вядомых яму лінгвістычных і фальклорных даных, "прадказаў існаванне Беларусі, як астраном прадказвае існаванне новай, яшчэ невядомай планеты"[1].

Найбольш вялікі і каштоўны ўклад у станаўленне і развіццё беларусазнаўства таго часу ўнеслі прадстаўнікі самой Беларусі, тыя яе ўраджэнцы і жыхары, якія распачалі руплівую працу па збіранню вялікага гісторыка-этнаграфічнага, філалагічнага, фальклорнага матэрыялу, а потым і па яго сістэматызацыі і асэнсаванню. Значную дапамогу першым даследчыкам аказвалі праграмы вывучэння народнага жыцця, падрыхтаваныя Віленскім універсітэтам, Міністэрствам народнай асветы Расіі, Рускім геаграфічным таварыствам. Арганізацыю і фінансаванне даследаванняў бралі на сябе Віленскі універсітэт, Варшаўскае таварыства сяброў навук, Расійская Акадэмія навук, Маскоўскае таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх, асобныя мецэнаты.

Члены румянцаўскага гуртка, якіх аб'яднаў граф М.Румянцаў, атрымаўшы ў спадчыну ад бацькі Гомель, арганізавалі самую буйную на той час археаграфічную экспедыцыю па Беларусі з мэтай выяўлення мясцовых дакументальных гістарычных крыніц. Румянцаў фінансаваў складанне і выданне "Беларускага архіва" (1824) аднаго з першых беларускіх гісторыкаў І.Грыгаровіча. Князь А.Чартарыйскі аказаў значную дапамогу ўраджэнцу Случчыны З.Даленгу-Хадакоўскаму, чые даследаванні зрабілі моцны ўплыў на развіццё сусветнай славістыкі, беларусазнаўства ў прыватнасці[2].

На фарміраванне даследчыцкіх інтарэсаў піянераў беларусазнаўства ў першай трэці XIX ст. істотна паўплывала новае пакаленне выкладчыкаў Віленскага універсітэта, якія праяўлялі вялікую цікавасць да народазнаўства, а таксама гістарычныя даследаванні прафесараў І.Даніловіча, І.Анацэвіча, М.Бабфоўскага. Гісторыя, этнаграфія, фальклорныя пошукі былі вельмі папулярныя ў асяроддзі студэнтаў, многія з якіх былі ўраджэнцамі Беларусі. Вывучэннем народнага жыцця актыўна займаліся, напрыклад, віленскія філаматы.

У першай трэці XIX ст. у віленскім і пецярбургскім перыядычным друку з'явіліся першыя публікацыі апісанняў беларускіх народных абрадаў – плён

[1] *Киселев Г.В.* Разыскивается классик. С. 36.

[2] *Козлов В.П.* Колумбы российских древностей. М., 1985, с. 31; *Кахановскі Г.А.* і інш. Беларуская фальклярыстыка. Эпоха феадалізма. Мн., 1988. С. 38–46; *Аксамітаў А.С., Малаш Л.А.* З душой славяніна. Мн., 1991. С. 33–34.

даследчыцкай працы першых беларускіх аматараў навукі М.Чарноўскай, І.Шыдлоўскага, К.Фалютынскага і інш. У 1840–1850-я гг. колькасць і даследчыкаў, і публікацый па пытаннях беларускай гісторыі, этнаграфіі і фальклору значна павялічылася, што сведчыла пра ўзрастанне цікавасці да беларусазнаўства, найперш сярод адукаванай грамадскасці самой Беларусі. У той час выйшлі ў свет працы беларускіх даследчыкаў, якія сталі этапнымі ў гісторыі развіцця беларускай этнаграфіі і фалькларыстыкі: "Беларусь" (1840) А.Рыпінскага, "Сялянскія песні з-пад Нёмана і Дзвіны" (1837–1846) Я.Чачота, "Народныя песні пінскага люду" (1851) Р. Зяньковіча, "Апісанне Барысаўскага павета" (1847) Я.Тышкевіча, "Падарожжа па Палессю і беларускаму краю" (1853–1855) і "Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках" (1853–1856) П.Шпілеўскага, "Беларускія народныя песні" (1853) Л.Паўлоўскай, "Беларускія прыказкі і прымаўкі" (1852) І. Насовіча.


І.Насовіч

Здабыткі пачатковага этапу развіцця беларусазнаўства сведчылі: у першай палове XIX ст. быў закладзены трывалы падмурак вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі. У навуковы ўжытак былі ўведзены значныя і каштоўныя этнаграфічна-фальклорныя і лінгвістычныя матэрыялы, якія прадстаўлялі амаль усе рэгіёны этнічнай Беларусі, зафіксавалі асаблівасці побыту і духоўнага жыцця беларускага сялянства – захавальніка мовы і традыцыйнай культуры і часта незалежна ад суб'ектыўнай пазіцыі аўтараў публікацый яскрава сведчылі аб арыгінальнасці і самастойнасці беларускага этнасу.

Публікацыя этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў садзейнічала і таму, што нацыянальныя традыцыі, якія да таго часу захоўваліся на побытавым узроўні станавіліся здабыткам усяго беларускага грамадства, а гэта спрыяла ўзмацненню кансалідацыі, працэсаў унутры нацыі. Калі да таго ж прыгадаць, што першыя даследчыкі, прадстаўнікі шляхты і разначынцаў, адносіліся да вывучэння сялянскіх традыцый як да пазнання ўласных культурных каранёў, то беларусазнаўства без перабольшвання можна лічыць тым стрыжнем, вакол якога пачалося збіранне культурных сіл народа ў той час, калі распачыналася фарміраванне беларускай нацыянальнай свядомасці. Працэс гэты адбываўся ў неспрыяльных гістарычных умовах, вызначаўся маруднасцю і супярэчлівасцю і ў немалой ступені абцяжарваўся шэрагам перашкод, сярод якіх немалае месца займалі праблемы нацыянальнага друку.

**Друкарская і бібліятэчная справа**. У пачатку XIX ст. у Беларусі дзейнічалі казённыя губернскія друкарні ў Віцебску і Мінску, друкарня рымска-каталіцкай кансісторыі ў Магілёве, друкарня Полацкай езуіцкай акадэміі і прыватныя друкарні ў Гродне, Мінску, Копысі, Шклове, Магілёве, Нясвіжы, Заслаўі, Лядах і Дуброўне. Пазней узніклі Гродзенская губернская друкарня, друкарня штаба 1-й рускай арміі ў Магілёве і шэраг прыватных друкарняў. Аднак існаванне апошніх не было стабільным: значная колькасць прыватных друкарняў дзейнічала на працягу кароткага часу і за-

крывалася з-за фінансавых цяжкасцей. Усяго ў першай трэці XIX ст. у Беларусі працавала 36 друкарняў, у тым ліку 30 прыватных, з-пад станкоў якіх выйшла ў свет 725 кніг[1].

Большую частку друкаванай прадукцыі ў тагачаснай Беларусі складала рэлігійная літаратура , якую выпускалі каталіцкія і прыватныя яўрэйскія друкарні. Свецкія выданні складалі менш, але яны вызначаліся разнастайнасцю. Гэта была ў асноўным літаратура арыгінальная: мастацкая, медыцынская, сельскагаспадарчая. Кніжная прадукцыя ўсіх друкарняў Беларусі была шматмоўнай. Яна складалася з выданняў на польскай (больш за палову кніг), лацінскай, яўрэйскай, нямецкай, французскай, італьянскай, латышскай мовах[2].

Прыняты ў пачатку царавання Мікалая I новы цэнзурны статут 1826 г. не спрыяў росквіту друкарскай справы ў імперыі, у тым ліку і Беларусі. Новы статут 1828 г. некалькі змякчаў палажэнні папярэдняга, але не закранаў яго рэакцыйнай сутнасці. Таму сітуацыя не палепшылася. Да таго ж пасля задушэння паўстання 1830–1831 гг. расійскія ўлады ўзмацнілі кантроль над усімі сферамі грамадскага жыцця "неблаганадзейных" заходніх губерняў, у тым ліку і над кнігавыдавецкай справай. Менавіта таму ў 1830–1850-я гг. колькасць друкарняў на тэрыторыі Беларусі зменшылася да 21, а аб'ём іх прадукцыі, у параўнанні з папярэднім перыядам, знізіўся амаль у тры разы і склаў 278 выданняў[3]. Спынілі дзейнасць каталіцкія друкарні, былі закрыты многія прыватныя друкарні.

Як і раней, большасць выдадзеных у краі кніг была ў той час польскамоўнай, хаця ў працэнтных адносінах колькасць літаратуры на польскай мове пачала змяншацца. Удзельная ж вага рускіх выданняў паступова ўзрастала. З 1838 г. губернскія друкарні краю, да якіх у 1834 г. далучылася магілёўская губернская друкарня, пачалі выпускаць "Губернские ведомости" — афіцыйныя газеты мясцовых адміністрацый, якія праіснавалі да 1917 г. У 1840–1850-я гг., калі ў беларускім грамадстве значна ўзмацнілася цікавасць да гісторыі і этнаграфіі краю, на старонках неафіцыйных частак гэтых казённых газет пачалі друкавацца шматлікія матэрыялы па мясцовай гісторыі, этнаграфіі, фалькларыстыцы, краязнаўству. У 1845 г. па ініцыятыве тагачаснага мінскага губернатара А. Сямёнава мінская губернская друкарня выпусціла ў свет "Збор старажытных грамат і актаў Мінскай губерні".

Большая частка твораў беларускіх даследчыкаў гісторыі і народнай культуры выходзіла ў Вільні, а таксама ў Варшаве, Пецярбургу і Маскве. Друкуючы, нягледзячы на шматлікія перашкоды, беларускія матэрыялы і творы беларускіх пісьменнікаў, рускія і польскія выдаўцы і рэдактары аказвалі маладой беларускай культуры неацэнную паслугу. Беларускае слова прыходзіла да чытача пад прыкрыццём польскага ці рускага, надрукаванага адпаведна лацінкай ці кірыліцай.

У 1855–1857 гг., у час аляксандраўскай "адлігі", адбылася вялікая падзея ў гісторыі беларускай літаратуры і беларускага кнігадрукавання. Дзякуючы намаганням мінскіх прыватных кнігадрукароў і кнігагандляроў братоў Бейліных і Ё.Дворца ў Мінску ўбачылі свет творы В.Дуніна-Марцінкевіча "Гапон" (1855), "Цікавішся? – Прачытай!" (1856), "Дудар беларускі" (1857). Гэтыя выданні, як і першая кніга першага класіка новай беларускай літаратуры "Сялянка", надрукаваная ў 1846 г. у Вільні, засведчылі з'яўленне нацы-

[1] Кніга Беларусі. 1517–1917. Зводны каталог. Мн., 1986. С. 276.

[2] Там жа.

[3] Там жа.

янальнай беларускай літаратуры і, па сутнасці, сталі на той час адзінымі беларускімі кнігамі, даступнымі чытачам.



І. Лялевель

Прадукцыя беларускіх друкарняў, з прычыны сваёй малалікасці, не магла поўнасцю насыціць кніжны рынак краю і задаволіць чытацкія патрэбы. Жыхары і дзяржаўныя ўстановы Беларусі куплялі і выпісвалі кнігі і перыёдыку з Пецярбурга, Масквы, Варшавы, Вільні, краін Заходняй Еўропы. Такім жа чынам папаўняліся і фарміраваліся фонды бібліятэчных устаноў Беларускага краю.

Змены, якія адбываліся ў культурным жыцці Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст., закранулі і бібліятэчную справу. Мерапрыемствы па рэарганізацыі асветы ў краі прыводзілі часам да таго, што расфарміроўваліся і распыляліся даволі багатыя, збіраемыя на працягу доўгага часу бібліятэкі навучальных устаноў.

Так здарылася з багацейшай і каштоўнейшай бібліятэкай Віленскага універсітэта, якой карысталася не адно пакаленне студэнтаў беларуска-літоўскага рэгіёна. Пасля закрыцця універсітэта яго бібліятэка, якая налічвала к таму часу 60 тыс. кніг[1], была падзелена паміж медыка-хірургічнай і духоўнай акадэміямі ў Вільні і часткова перададзена Беларускай навучальнай акрузе, Кіеўскаму і Кракаўскаму універсітэтам. Пасля выгнання езуітаў з Расіі вялікі 40-тысячны кнігазбор бібліятэкі Полацкага калегіума перайшоў, як і вучылішча, да піяраў. Аднак у 1830 г. піярскае вучылішча спыніла сваё існаванне, а бібліятэка, адна з самых багатых у Беларусі, была расфарміравана . Кнігі з яе трапілі ў іншыя навучальныя ўстановы Беларусі і ў Пецярбург. Да ліку страт неабходна далічыць і знакамітую нясвіжскую бібліятэку Радзівілаў, у 1772 г. вывезеную ў Пецярбург. Такі ж лёс у 1834 г. напаткаў і дзярэчынскія бібліятэку і архіў Сапегаў.

Аднак гісторыя бібліятэчнай справы ў Беларусі адзначанага часу складалася не толькі са страт. Працягвала папаўняцца новай літаратурай і стадрукамі знакамітая шчорсаўская бібліятэка Храптовічаў. Князь А. Храптовіч адчыніў дзверы сваёй бібліятэкі для навукоўцаў і сваіх маладых сяброў філаматаў. З унікальнымі выданнямі гэтага кнігазбору працавалі Я.Снядэцкі, А.Снядэцкі, І.Лялевель, У.Сыракомля. А.Міцкевіч. Пасля адбывання ссылкі на Урале бібліятэкарам у шчорсаўскай бібліятэцы працаваў Я.Чачот.

У 1830-я гг. актыўна папаўняліся фонды бібліятэк гімназій і вучылішч. Пры гэтым вучылішчнае начальства Беларускай навучальнай акругі імкнулася спрыяць прытоку ў школьныя бібліятэкі рускіх кніг, у першую чаргу твораў рускай літаратуры. Дырэкцыі Віцебскай і Магілёўскай гімназій закуплялі кнігі ў пецярбургскіх кнігагандляроў. Для Віцебскай гімназіі ахвяравалі рускія кнігі М.Румянцаў і В.Сянькоўскі[2]. У бібліятэцы

[1] *Покало М.Н.* История библиотечного дела в БССР. Мн., 1986. С. 22.

[2] НГА РБ, ф. 3157, воп. 1, спр. 24, арк. 3–4, 20–21,22; *Кузняева С.А.* Русская книга в Белоруссии конца XVIII – середины XIX в. //Книга в Белоруссии: Книговедение, источники, библиография. Вып.2. Мн., 1983. С.9–10.

Мінскай гімназіі ў 1830-я гг. налічвалася поруч з 85 польскімі 79 рускіх кніг[1].

Важнымі асяродкамі распаўсюджвання і папулярызацыі рускай літаратуры закліканы былі стаць першыя публічныя бібліятэкі, якія пачалі ствараццa з 1830 г. у губернскіх гарадах Беларусі. Іх арганізатары карысталіся паслугамі сталічных кнігавыдаўцоў і кнігагандляроў. Для віцебскай публічнай бібліятэкі выпісваліся кнігі з Пецярбурга, для магілёўскай – з Масквы. У мінскай публічнай бібліятэцы, адкрытай у 1845 г., чытачы маглі знаёміцца з лепшымі ўзорамі рускага прыгожага пісьменства[2].

Першыя публічныя бібліятэкі ў Беларусі ўзнікалі не без цяжкасцей: не хапала сродкаў, спецыяльна ўладкаваных памяшканняў. Сказвалася і адсутнасць шырокага кола чытачоў менавіта рускай літаратуры, якое к сярэдзіне XIX ст. толькі пачало складвацца – найперш дзякуючы намаганням устаноў народнай асветы. Між тым публічныя бібліятэкі ўяўлялі сабой культурныя ўстановы новага тыпу, дэмакратычныя па сваёй сутнасці, і гэта адпавядала патрабаванням таго часу, калі развіццё ўсіх сфер культурнага жыцця пачало падпарадкоўвацца агульнаеўрапейскай тэндэнцыі дэмакратызацыі.

## 2. Фальклор. Літаратура. Мастацтва

**Фальклор. Літаратура**. Першая палова XIX ст. у айчыннай культуры адзначана выразнымі з'явамі, якія сведчылі аб тым, што ў нетрах беларускага грамадства пачаўся важны, глыбінны і складаны працэс нацыянальна-культурнага адраджэння.

Набіралася моцы новая беларуская літаратура. Рабілі першыя крокі нацыянальны тэатр і музыка. У адукаванай частцы грамадства краю, якая выхоўвалася на суседніх культурах – польскай і рускай, мацнела і пашыралася цяга да выяўлення ўласных гістарычных і культурных каранёў, асэнсавання ўласных нацыянальных традыцый, расла цікавасць да вывучэння матэрыяльнага і духоўнага жыцця сялянства, якое захавала родную мову, самабытныя звычаі і абрады.

Асновай духоўнага нацыянальна-культурнага адраджэння беларусаў, якое пачалося ў першай чвэрці XIX ст., з'явіўся найбагацейшы фальклор, што ўзнік у старажытнасці, дасягнуў росквіту ў часы Сярэднявечча, дайшоў да XIX ст., працягваў існаваць пазней. Аснову беларускага фальклору складалі каляндарна-абрадавая, сямейна-абрадавая і пазаабрадавая паэзія, празаічныя эпічныя творы (казкі, паданні, легенды), прыказкі, прымаўкі, іншыя віды вуснай народнай творчасці.

Менавіта збор, даследаванне і мастацкая апрацоўка фальклорных твораў садзейнічалі зараджэнню новай беларускай літаратурнай мовы і станаўленню нацыянальнай літаратуры.

Ля вытокаў нацыянальна-культурнага адраджэння стаялі інтэлігенты – пераважна выхадцы з акаталічанай і апалячанай у часы Сярэднявечча беларускай шляхты. Многія з іх былі выхаваны ў польскім патрыятычным духу. Пры гэтым яны з дзяцінства добра ведалі і "простую" (беларускую) мову, а пазней, вывучаючы гісторыю роднага краю, даведаліся і аб яе багатай

[1] *Адо Н.* Краткий исторический очерк Минской мужской гимназии. Мн., 1903. С.103–107.

[2] *Цыбуля В.А.* Первые библиотеки в Минске // Доклады к XI конференции молодых ученых Белорусской ССР. Мн., 1967. С.25–30.

мінуўшчыне. Відавочным быў у пачатку XIX ст. і глыбокі занялад гэтай мовы, амаль цалкам выключанай са сферы пісьмовага, грамадскага і культурнага ўжытку. Не выпадкова таму для значнай часткі беларускай інтэлігенцыі, што толькі нараджалася, галоўнай заставалася польскамоўная творчасць, а таксама ідэя Польшчы як айчыны ў шырокім сэнсе слова. Беларусь успрымалася як "малая радзіма". Любоў да роднай зямлі, узмоцненая ідэямі рамантызму, з уласцівай для яго цікавасцю да нацыянальных своеасаблівасцей, з'явілася асновай для захаплення фальклорнымі творамі. Даследаванне вуснай народнай творчасці, а таксама гісторыі краю прыводзіла да высновы аб існаванні самастойнага беларускага народа, садзейнічала пераходу да творчасці на беларускай мове.

Вядучай сферай праяўлення беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння з самага пачатку стала мастацкая літаратура. Ля яе вытокаў стаялі А.Міцкевіч, Я.Чачот, Я.Баршчэўскі, А.Рыпінскі, А.Вярыга-Дарэўскі, У.Сыракомля, В.Дунін-Марцінкевіч.

Адным з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры па праву лічыцца Я.Чачот (1796 – 1847). Ніколі не страцяць сваёй эстэтычнай вартасці сабраныя ім беларускія народныя песні і прыказкі. Выданне іх у 1837–1846 гг. у шасці зборніках "Вясковыя песні з-над Нёмана і Дзвіны" былі першымі па часе. Такім чынам, Я. Чачот – адзін з першаадкрывальнікаў беларускага фальклору. Упершыню пасля двух стагоддзяў маўчання са старонак добра аформленых друкаваных кніг загучала жывое беларускае слова. Два фальклорныя зборнікі паэта (1844 і 1846 гг.), у якіх ён змясціў уласныя беларускія вершы, засведчылі факт нараджэння новай беларускай літаратуры. Пяру Я.Чачота належаць і поўныя маладогу запалу беларускія студэнцкія вершы і песні, якія былі папулярныя сярод яго сяброў-філаматаў, а таксама цікавыя, заснаваныя на народных паданнях рамантычныя балады, што істотна паўплывалі на А.Міцкевіча[1]. Арыгінальныя творы Я. Чачота на беларускай мове, іх арыентацыя на дэмакратычнага чытача, грамадзянскі пафас і лірызм уздзейнічалі на далейшае развіццё беларускай літаратуры.

Галоўнай жа яго працай сталі шэсць выпускаў кнігі "Вясковыя песні з-над Нёмана і Дзвіны". У іх увайшло каля тысячы народных песень. Асаблівую каштоўнасць уяўляе апошні выпуск (1846). У ім змешчаны аўтэнтычны беларускі фальклор. Народныя песні ў зборніку (у адрозненне ад папярэдніх) не перакладзены на польскую мову. Сярод іх – валачобныя, юр'еўскія, калядныя, жніўныя, вясельныя, дзіцячыя. У прадмове да зборніка Я.Чачот адзначыў: "Даручаючы гэту маю працу добразычлівай прыхільнасці чытачоў, чулых да лёсу сялян чалавечых сэрцаў і ласкавай увазе даследчыкаў славяншчыны, малю цябе, Божа, каб ты таксама, як даў мне час і магчымасць для яе завяршэння, меў ласку і благаславіць"[2].

Свой след у айчыннай літаратуры пакінуў і А.Рыпінскі (1811–1900). У канцы 1839 г. на пасяджэнні Польскага літаратурнага таварыства ў Парыжы ён прачытаў даклад аб беларускіх народных песнях, а пазней дапоўніў яго гісторыка-літаратурнымі і этнаграфічнымі звесткамі, апісаннямі і характарыстыкамі абрадаў, выслоўяў беларусаў Віцебшчыны. Усе гэтыя матэрыялы ляглі ў аснову этнаграфічна-фальклорнай кнігі "Беларусь", якая пабачыла свет у Парыжы ў 1840 г.

Ілюструючы сваё даследаванне шматлікімі цытатамі, А.Рыпінскі зрабіў агляд розных жанраў беларускага фальклору. На яго думку, народная паэзія

---

[1] *Чачот Я.* Выбраныя творы. Мн. 1996. С.18.

[2] Там жа. С.231.


В. Дунін-Марцінкевіч

валодае "чароўнай сілай". Ён зазначыў, што ў вуснай народнай творчасці тояцца "новыя невычарпальныя крыніцы мовы, гісторыі і паэзіі". На думку А.Рыпінскага, менавіта на фальклоры можна даследаваць "сапраўды нацыянальную, свабодную ад чужаземшчыны літаратуру". Паэт выкарыстоўваў беларускі фальклор і ва ўласных паэтычных творах.

Сярод літаратурнай спадчыны першай паловы XIX ст. асобнае месца займае ўзор рамантычнай прозы "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях" Я.Баршчэўскага (1794–1851), у якім шырока выкарыстаны народныя казкі і паданні. Крытыкі называлі гэты твор беларускім цыклам "Тысяча і адна ноч". На прыкладзе гэтага аўтара бачна, з якімі цяжкасцямі сустракалася на сваім шляху маладая беларуская літаратура. Яны не ў малой ступені заключаліся ў тым, што значная частка адукаваных беларусаў лепш валодала польскай і рускай, чым роднай мовай. Менавіта з такой акалічнасцю давялося лічыцца аднаму з пачынальнікаў беларускай літаратуры Я. Баршчэўскаму. Названы твор напісаны ім на беларускім матэрыяле, але па-польску. Аўтар тлумачыць гэта наступным чынам: "Не ўсім чытачам можа быць зразумела беларуская мова, таму мясцовыя апавяданні, якія я пачуў з вуснаў народа, я вырашыў, наколькі змог, перадаць у даслоўным перакладзе па-польску". Тут Я.Баршчэўскі мог мець на ўвазе чытачоў не толькі карэнных польскіх, але і беларускіх зямель, тым больш што і сама кніга выйшла з друку не ў Варшаве, а ў Пецярбургу.

І ўсё ж беларускую нацыянальную ідэю, якая нараджалася і выспявала менавіта ў XIX ст., наймацней успрыняў В.Дунін-Марцінкевіч (1807–1884). Хоць ён, як і яго папярэднікі, быў выхаваны на ўзорах польскай літаратуры і культуры і па-польску пісаў больш, чым па-беларуску, але першым глыбока зразумеў, што беларуская літаратура можа ўзнікнуць толькі на грунце духоўнага народнага жыцця.

Па тэматыцы, ахопу з'яў сучаснай яму рэчаіснасці спадчына В.Дуніна-Марцінкевіча найшырэйшая і найбагацейшая ў беларускай літаратуры XIX ст. У адрозненне ад іншых пісьменнікаў ён не абмінае ў сваіх творах жыцця дваранства, шляхецкага, дробнамаёнткавага асяроддзя ("Сялянка", "Вечарніцы", "Гапон", "Пінская шляхта"), а таксама гістарычнай тэматыкі ("Славяне ў XIX стагоддзі", "Люцынка, або Шведы на Літве"), чым значна пашырае межы айчыннай літаратуры. Але, як і ў іншых беларускіх пісьменнікаў, большая частка напісанага прысвечана жыццю вёскі, яе побыту, апісанню характару селяніна. Вясковы чалавек, яго праца, кола этычных, маральных, эстэтычных уяўленняў – усё гэта складае асноўны змест творчасці В.Дуніна-Марцінкевіча. Менавіта яму айчынная літаратура абавязана глыбокім мастацкім пранікненнем у душу свайго народа. Пасля азнаямлення з яго творамі няўмольна змяншалася колькасць

людзей, што адмаўлялі арыгінальны характар, самабытнасць беларускай мастацкай літаратуры, якая стваралася толькі на ўласцівым для яе адной моўным матэрыяле.

Гаворачы пра беларускую літаратуру першай паловы XIX ст., варта падкрэсліць, што яна з'яўлялася найважнейшым сродкам і формай развіцця агульнанацыянальнай літаратурнай мовы. Апошняя пачала фарміравацца на аснове жывой шматдыялектнай народнай гаворкі без непасрэднай апоры на здабыткі і традыцыі старабеларускага пісьменства. Нанова, вядома, склаліся правапісныя і граматычныя нормы, грамадска-палітычная, навуковая і іншая лексіка. Пры гэтым пісьменнікі выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці дыялекты роднай ім мясцовасці і ў залежнасці ад паходжання і культуры выхавання – розны алфавіт: ці лацінскі – польскага ўзору, ці кірылічны – рускага. Так, аўтарамі выдатных твораў нацыянальнай літаратуры "Энеіда навыварат" і "Тарас па Парнасе", імёны якіх засталіся невядомымі, былі прадстаўнікі беларускай творчай інтэлігенцыі, выхаванай у рускай культуры. Першая паэма  напісана ў 10–20-я гг. XIX ст., другая – не пазней сярэдзіны стагоддзя. Упершыню яны з'явіліся ў друку адпаведна ў 1845 і 1889 гг. Гэтыя творы – выдатныя ўзоры літаратурнай апрацоўкі сярэднебеларускай гаворкі, якая і стала асновай новай беларускай літаратурнай мовы.

**Тэатр. Музыка**. У першай палове XIX ст. галоўнай формай сцэнічнага мастацтва з'яўляўся тэатр прыватнай антрэпрызы, які ўвасабляў новы, камерцыйны падыход да арганізацыі відовішчаў. Па форме дзейнасці тэатры былі "аб'язнымі". Такі тэатр меў базу ў губернскім або буйным павятовым горадзе і перыядычна гастраляваў па бліжэйшых гарадах і мястэчках. У пачатку XIX ст. пастаянныя тэатральныя калектывы дзейнічалі ў Вільні, Гродне (тэатр С.Дзешнер), Мінску (трупа Кажынскага). У 30-я гг. тэатральныя відовішчы пастаянна адбываліся ў многіх гарадах Беларусі. Рэпертуар мясцовых драматычных тэатраў вызначаўся багаццем і мастацкай разнастайнасцю. На іх сцэнах ставіліся п'есы Ф. Шылера, В.Гюго, А. Дзюма-бацькі, Л. Мерсье і інш. Прыкметнае месца ў рэпертуары займалі драмы, камедыі, вадэвілі польскіх аўтараў: А. Фрэдра, Ю. Кажанеўскага, Я. Ясінскага, Т. Ленартовіча. Вялікім поспехам у гледачоў карысталіся спектаклі, пастаўленыя па творах рускіх аўтараў – Д.Ленскага, Ф.Коні, М.Някрасава, П.Каратыгіна. Сапраўднымі падзеямі ў культурным жыцці беларускіх гарадоў былі пастаноўкі п'ес М. Гогаля, А. Грыбаедава, А. Сухаво-Кабыліна.

Для аблягчэння нагляду за тэатральным мастацтвам урад у 1846–1847 гг. правёў тэатральную рэформу. Усе вандроўныя трупы забараняліся, у губернскіх гарадах ствараліся пастаянныя руска-польскія тэатры і тэатральныя дырэкцыі. Гэтыя тэатры мелі манапольнае права на выступленне ў гарадах губерні. Аднак рэформа не была даведзена да канца. Ужо ў сярэдзіне 50-х гг. у Беларусі, як і раней, дзейнічалі "аб'язныя" трупы, хаця і тэатральныя дырэкцыі, створаныя ў час рэформы, працягвалі сваю дзейнасць.

Значнай падзеяй у тэатральным жыцці Беларусі стала стварэнне першай нацыянальнай трупы В. Дуніна-Марцінкевіча. 9 лютага 1852 г. у мінскім гарадскім тэатры адбылася прэм'ера камічнай оперы "Сялянка" (аўтар лібрэта В. Дунін-Марцінкевіч, кампазітары С.Манюшка, К. Кжыжаноўскі). Упершыню з тэатральнай сцэны загучалі народныя песні, прымаўкі, прыказкі. Большая частка музычных і драматычных сцэн гэтага твора выконвалася на беларускай мове. Гэта была не проста творчая смеласць драматурга і кампазітара, што адважыліся ва ўмовах адмаўлення ўсяго беларускага адкрыта заявіць аб



Маёнтак С. Манюшкі. Малюнак Н. Орды

сваіх сімпатыях, а глыбока прадуманая і свядомая акцыя, якая адлюстроўвала творчыя памкненні, грамадзянскія і ідэйныя пазіцыі аўтараў. Трэба было валодаць немалой мужнасцю для таго, каб у часы Мікалая I сказаць пра прыгон так, як гэта зрабілі героі В.Дуніна-Марцінкевіча і С.Манюшкі[1].

Пастаноўка "Сялянкі" на мінскай сцэне была здзейснена членамі музычна-драматычнага гуртка, арганізаванага драматургам на рубяжы 40–50-х гг. У склад калектыву ўваходзілі 20 чалавек. Дзесяць з іх прынялі непасрэдны ўдзел у мінскай пастаноўцы "Сялянкі". У спектаклі апрача В.Дуніна-Марцінкевіча ўдзельнічалі яго дочкі Каміла і Мальвіна, а таксама сын Міраслаў. Для выканання оперы быў залучаны аркестр, а таксама хор, складзены з сялян маёнтка Люцынка, што належаў драматургу. Асаблівым поспехам у слухачоў карысталіся народныя песні.

У далейшым, нягледзячы на забарону ўладамі пастановак "на простанароднай мове", "Сялянку" неаднаразова ставілі ў Мінску (1853–1855), Бабруйску, Слуцку, Нясвіжы, Глуску. Аднак спектаклі праходзілі ўжо не ў тэатральных памяшканнях, а ў прыватных дамах.

Пастаноўку оперы "Сялянка" можна разглядаць як важную падзею ў гісторыі беларускай музычнай культуры. Яна знаменавала нараджэнне нацыянальнага музычнага тэатра. Гэта падзея непарыўна звязана з імем славутага кампазітара С.Манюшкі (1819–1872). Яго сувязі з Беларуссю былі надзвычай глыбокімі і шырокімі. Ні адзін з музыкантаў, што працаваў тут у сярэдзіне XIX ст., не аказаў такога сур'ёзнага ўплыву на развіццё музычнай культуры Беларусі, як ён. Кампазітар усяляк падтрымліваў і садзейнічаў творчасці Ф.Міладоўскага, К.Марцінкевіча, Н.Орды, Н.Міцкевіча і іншых таленавітых музыкантаў, якія з цягам часу атрымалі прызнанне за межамі Беларусі.

Увогуле музычнае жыццё ў краі ў другой чвэрці XIX ст. было даволі ажыўленым. Мінск, Віцебск, Гродна, Магілёў, Бабруйск, Пінск наведалі вядомыя рускія і замежныя артысты. На гарадскіх плошчах, у парках наладжваліся канцэрты духавых і струнных аркестраў, ансамбляў народных інструментаў. У залах гарадскіх гімназій, дваранскіх сходаў выступалі мяс-

[1] Музыкальный театр Белоруссии: Дооктябрьский период. Мн., 1990. С.277.

цовыя музыканты. Да сярэдзіны XIX ст. культурнае жыццё беларускіх гарадоў дасягнула даволі высокага ўзроўню, які ў многіх адносінах не саступаў буйнейшым гарадам імперыі. Не выпадкова пецярбургскі "Театральный и музыкальный вестник" у 1856 г. пісаў: "Мінск у тэатральных і музычных адносінах з даўніх часоў займае не апошняе месца ў шэрагу губернскіх гарадоў. У Мінску заўсёды бывалі вялікія канцэрты, у якіх бралі ўдзел нават еўрапейскія славутасці".

На беларускай сцэне з'яўляліся таленавітыя оперныя спевакі, якія валодалі добрымі вакальнымі данымі. Дзейнасць гэтых артыстаў стымулявала творчасць мясцовых кампазітараў, якія пачалі ствараць свае творы ў разліку на пэўнага выканаўцу. У гэты перыяд гарадскімі трупамі, а часам і аматарскімі калектывамі ўпершыню былі здзейснены пастаноўкі твораў кампазітараў С.Манюшкі ("Каспер Хаўзер", "Латарэя", Канторшчыкі"), К. Кжыжаноўскага ("Рэкруцкі набор"). Музычны рэпертуар такіх калектываў уключаў оперы еўрапейскіх кампазітараў Г.Даніцэці, В.Беліні, К.Вебера і рускіх – А.Вярстоўскага, М.Глінкі.

**Жывапіс. Архітэктура**. Вялікую ролю ў развіцці беларускага выяўленчага мастацтва ў першай палове XIX ст. адыгралі Віленская школа жывапісу, аддзяленне прыгожых мастацтваў факультэта літаратуры і мастацтва мясцовага універсітэта. За 25 гадоў сваёй дзейнасці школа падрыхтавала больш за 250 мастакоў, гравёраў, скульптараў. Яе выхаванцамі былі вядомы майстар партрэтнага жанру і гістарычных кампазіцый Я.Дамель, аўтары шматлікіх беларускіх пейзажаў, графічных твораў М.Кулеша і Н.Орда, адзін з лепшых партрэтыстаў В.Ваньковіч і інш.

Пасля закрыцця Віленскага універсітэта ў 1832 г. мастацкае жыццё Беларусі становіцца менш інтэнсіўным, пачынаецца адток таленавітых мастакоў у Пецярбург – у Акадэмію мастацтваў і ў маскоўскае Строганаўскае вучылішча, а таксама за мяжу.

Для выяўленчага мастацтва першай паловы XIX ст. характэрна апераджальнае развіццё партрэтнага жанру, што было звязана з ростам цікавасці да ўнутранага свету чалавека. Адным з найбольш вядомых партрэтыстаў, у творчасці якога яскрава праявіліся дзве тэндэнцыі, уласцівыя гэтаму жанру ў той час, – класіцызм і акадэмізм, быў І.Аляшкевіч (1777–1830). Ім напісаны шэраг твораў, прысвечаных знакамітым людзям Беларусі – князю А.Чартарыйскаму, магнатам Л.Сапегу, М.Радзівілу, графу Плятэру, а таксама А.Міцкевічу.

Развіццё беларускага партрэта ў сярэдзіне 30-х гг. звязана з імёнамі мастакоў, большасць з якіх першапачатковую адукацыю атрымалі ў Віленскай мастацкай школе. Да іх належалі В.Ваньковіч, К.Рыпінскі, І.Хруцкі і інш. Творы гэтых мастакоў аб'ядноўвае ўласцівасць, характэрная для Віленскай школы, – адыход ад канонаў акадэмічнага класіцызму, уважлівае вывучэнне натуры і асноў рэалістычнага мастацтва, імкненне перадаць у партрэце псіхалагічны стан героя, аб'ектыўнае адлюстраванне рэчаіснасці.



Н. Орда



В. Ваньковіч.
Аўтапартрэт. 1840 г.

Адзін з найбольш славутых прадстаўнікоў гэтай плеяды – В. Ваньковіч (1800–1842) упісаў асабліва яркую старонку ў гісторыю айчыннага жывапісу першай паловы XIX ст. У яго вялікай і разнастайнай творчай спадчыне нямала цікавых постацей літаратараў і мастакоў, грамадскіх дзеячаў, вучоных, у тым ліку партрэты А.Міцкевіча, піяністкі М.Шымапоўскай. Аднак В.Ваньковіч маляваў не толькі вядомых асоб, а і простых людзей. Ён вядомы і як аўтар шматлікіх партрэтаў-мініяцюр, асабліва распаўсюджаных у той час.

Выдатным прадстаўніком беларускага партрэтнага жывапісу гэтага часу, чыё імя цесна звязана і з рускай мастацкай культурай, быў І.Хруцкі. Гэты мастак на беларускай глебе развіў лепшыя дэмакратычныя традыцыі рускага партрэтнага жывапісу.

Значны след амаль ва ўсіх жанрах выяўленчага мастацтва пакінуў Я.Дамель (1780–1840). Яго творчая спадчына была вялікай. Ён добра ведаў айчынную і антычную гісторыю. У сваіх палотнах мастак імкнуўся адлюстраваць найбольш яркія, кульмінацыйныя моманты гістарычнага развіцця краіны. Рысы класіцызму ў яго творчасці цесна зітаваны з рэалізмам, таму гістарычныя палотны майстра жыццёвыя і пераканаўчыя. Найбольш вядомыя творы, напісаныя мастаком у гістарычным жанры, – "Смерць Глінскага ў няволі", "Вызваленне Касцюшкі з цямніцы", "Адступленне французаў праз Вільню ў 1812 г." Я.Дамелю належаць таксама карціны "Хрышчэнне славян", "Цар Аляксандр I падпісвае ў Вільні амністыю". Пэўнае месца ў яго творчасці займаў пейзаж. Мастак шмат працаваў і як дэкаратар, ён афармляў многія ўрачыстасці ў Мінску. На творах Я.Дамеля выхоўвалася не адно пакаленне беларускіх мастакоў, якія адлюстравалі гісторыю краю ў жывапісных кампазіцыях, малюнках, гісторыка-этнаграфічных замалёўках, пейзажах. У ліку гэтых майстроў пэндзля былі Я.Сухадольскі, А.Шэмеш, К.Рыпінскі, Ю.Карчэўскі.



Партрэт Я. Аляшкевіча.
Невядомы мастак

Яркім прадстаўніком айчыннага пейзажнага жывапісу першай паловы XIX ст. з'яўляўся В.Дмахоўскі (1805 – 1862), якога сучаснікі называлі Клодам Ларэнам віленскіх ваколіц. Яго пейзажы былі такімі ж паэтычнымі і велічнымі, эмацыянальна насычанымі, строгімі па кампазіцыі, як і ў славутага французскага мастака. Вядомасць В.Дмахоўскаму прынеслі пейзажы "Радзіма", "Возера

Свіцязь", "Заход сонца" і інш. Творчая спадчына В.Дмахоўскага вельмі каштоўная для айчыннага выяўленчага мастацтва. Яго па праву лічаць заснавальнікам беларускага рэалістычнага пейзажа. Нягледзячы на пэўную ідэалізацыю патрыярхальнага побыту дробнай шляхты, ён унёс у беларускі пейзаж свежы дэмакратычны струмень.

Жывапіс Беларусі ў першай палове XIX ст. прайшоў шлях ад класіцызму да рэалізму. Яго развіццё адбывалася ў цесным узаемадзеянні з мастацтвам польскага, украінскага, рускага і літоўскага народаў. Ён увабраў пэўныя рысы нацыянальнай культуры гэтых народаў, але ніколі не страчваў сваіх характэрных, уласцівых толькі яму асаблівасцей.



І. Хруцкі. Аўтапартрэт

Новыя ўмовы, у якіх апынулася Беларусь пасля далучэння да Расійскай імперыі, аказалі прыкметны ўплыў на развіццё горадабудаўніцтва і архітэктуры. Ужо ў канцы XVIII ст. гарады краю трапілі ў сістэму горадабудаўнічых пераўтварэнняў. Рэарганізацыя і рэканструкцыя планіроўкі гарадоў (у першую чаргу губернскіх і павятовых) мела на мэце ліквідаваць рэшткі сярэднявечных фартыфікацыйных збудаванняў, валоў, бастыёнаў, асабліва там, дзе яны стрымлівалі планіровачнае развіццё горада (Магілёў, Мінск, Рэчыца і інш.); упарадкаваць хаатычную забудову мяшчанскіх сядзіб, ліквідаваць крывыя вуліцы і завулкі; вызначыць галоўныя кірункі (восі) развіцця забудовы і ў адпаведнасці з імі стварыць квартальную вулічную сетку. Надыходзіў канец горадабудаўніцтву, залежнаму ад густаў зямельных уласнікаў. Новыя перспектывы горада вырашаліся на некалькі дзесяцігоддзяў наперад зацверджаным генеральным планам. Праекты рэгулярнай планіроўкі гарадоў Беларусі ў асноўных рысах былі ўвасоблены ў жыццё да сярэдзіны XIX ст.

Да асноўных прапаноў рэгулярнай планіроўкі адносілася рэканструкцыя гарадскіх цэнтраў. Гэта мерапрыемства, звязанае з новым зместам цэнтраў беларускіх гарадоў, было прадыктавана практычнай неабходнасцю. У цэнтры гарадоў знаходзіліся будынкі розных грамадскіх устаноў, гасцінныя двары, ратушы, гандлёвыя рады, культавыя будынкі, жылыя дамы і інш. Для забудовы новых цэнтраў характэрна ансамблевасць. Тут выкарыстоўваліся тыпавыя або паўторныя праекты. Архітэктура тыпавых будынкаў вылучалася строгасцю і стрыманасцю ў дэкаратыўных прыёмах.

Агульным стылістычным кірункам у архітэктуры гэтага часу быў класіцызм, які знайшоў сваё адлюстраванне ў забудове гарадоў Беларусі.

У культавым будаўніцтве з канца XVIII ст. убранне інтэр'ераў становіцца больш сціплым. Будаўніцтва невялікіх цэркваў у гарадах і вёсках звычайна вялося па праектах епархіяльных архітэктараў, што садзейнічала разнастайнасці пабудоў. Аднак да сярэдзіны XIX ст. прасочваюцца рысы тыпізацыі ў культавым дойлідстве. У сярэдзіне стагоддзя будаўніцтва мураваных цэркваў пачынае весціся ўжо па тыпавых узорах. Вынікам гэтага стала распаўсюджанне ў Беларусі, як і ў іншых мясцовасцях Расіі, храмаў са своеасаблівым перапляценнем "візантыйскіх" і псеўдастаражытных формаў.

## РАЗДЗЕЛ 2

# СТАНАЎЛЕННЕ БУРЖУАЗНАГА ГРАМАДСТВА (60–90-я гг. XIX ст.)

## ГЛАВА 1

## БУРЖУАЗНЫЯ РЭФОРМЫ І КОНТРРЭФОРМЫ. АСАБЛІВАСЦІ ПАЛІТЫКІ ЦАРЫЗМУ Ў БЕЛАРУСІ

### 1. Аграрныя рэформы другой паловы XIX ст.

**"Палажэнні" 19 лютага 1861 г. Іх рэгіянальныя асаблівасці ў Беларусі.** 19 лютага 1861 г. Аляксандр II падпісаў маніфест і зацвердзіў ухваленыя Дзяржаўным саветам праекты "Палажэнняў" аб адмене прыгону ў Расіі, якія атрымалі сілу закону. У маніфесце былі выкладзены асноўныя пачаткі рэформы. Адмена прыгону абвяшчалася добраахвотным ахвяраваннем і дабрадзействам дваранства. Адначасова сялянам настойліва ўнушалі думку пра абавязак падпарадкавання ўладам і выканання прызначаных павіннасцей[1].

Закон аб адмене прыгону складаўся з "Агульнага палажэння", мясцовых "Палажэнняў", "Палажэнняў" аб уладкаванні дваровых людзей, выкупе, губернскіх і павятовых па сялянскіх справах установах, а таксама дадатковых правілаў, што тычыліся асобных груп насельніцтва.

У "Агульным палажэнні" былі выкладзены правілы для ўсіх губерняў Расійскай імперыі, дзе меліся прыгонныя. Яно вызначала асабістыя і маёмасныя правы сялян, парадак кіравання і выканання імі казённых, земскіх і грамадскіх павіннасцей.

З адменай прыгону панскія сяляне сталі асабіста свабоднымі. Памешчыкі былі пазбаўлены права распараджацца імі як сваёй уласнасцю, прадаваць, закладаць, дарыць, біць, самавольна перасяляць з месца на месца і інш. Сяляне атрымалі шэраг грамадзянскіх (асабістых, сямейных, маёмасных) правоў: заключаць дагаворы, узбуджаць іскі, несці асабістую адказнасць перад судом, свабодна ўступаць у шлюб, браць удзел у рабоце органаў сялянскага кіравання, пераходзіць у іншыя саслоўі і сялянскія абшчыны, адлучацца з месца жыхарства, паступаць на службу і ў навучальныя ўстановы, свабодна займацца гандлем і промысламі, валодаць рухомай і нерухомай маёмасцю[2]. Вызваленне сялян ад прыгоннай залежнасці было адной з галоўных прагрэсіўна-гістарычных праяў рэформы.

Разам з тым у значнай меры захаваўся пазаэканамічны прымус сялян. Памешчыкі засталіся ўласнікамі ўсёй зямлі маёнткаў. Сяляне на працягу дзевяці гадоў па-ранейшаму былі прымацаваны да надзелаў. Да заключэння выкупных здзелак сяляне былі на становішчы "часоваабавязаных". Але і пасля заканчэння зазначанага тэрміну селянін толькі з дазволу памешчыка

[1] ПСЗ. Собр. 2-е Т. 36. №36650.

[2] Там жа. №36657. Ст. 21–33.

меў права выкупу палявой зямлі. Памешчык жа мог прымусіць сялян выкупляць палявы надзел без іх згоды. Пры гэтым сядзібу яны маглі выкупіць адразу, без дазволу землеўласніка. Памеры надзелаў вызначаліся канчаткова, сяляне пазбаўляліся права прырэзкі зямлі ў будучым. Яны былі звязаны кругавой парукай у спраўным адбыванні павіннасцей дзяржаве, а пры абшчынным карыстанні ўсімі ўгоддзямі – і памешчыку, падлягалі цялесным пакаранням у сялянскіх валасных судах, іх аддавалі ў "пабочныя заработкі". Да спынення часоваабавязаных адносін памешчыкі захоўвалі права вотчыннай паліцыі ў сялянскай грамадзе і апекі над сялянамі. З пераходам на выкуп часоваабавязанае становішча спынялася, і сялян залічвалі ў разрад так званых сялян-уласнікаў[1]. Але і пасля гэтага сялянства заставалася непаўнапраўным, падатковым саслоўем.

Мясцовыя "Палажэнні" вызначалі парадак надзялення сялянства зямлёй і выканання павіннасцей за карыстанне ёю. У Беларусі рэфармаваннем былі ахоплены 1860,3 тыс. (78 %) душ абодвух полаў прыватнаўласніцкіх сялян[2]. Рэформа праводзілася паводле агульных узаконенняў і двух мясцовых "Палажэнняў". На Магілёўскую і Віцебскую (акрамя Дрысенскага і латгальскіх паветаў) губерні распаўсюджвалася мясцовае "Палажэнне" для губерняў "вялікарасійскіх, наварасійскіх і беларускіх". У Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай губернях, Дрысенскім і латгальскіх паветах Віцебскай губерні дзейнічала асобнае мясцовае "Палажэнне".

Наяўнасць двух мясцовых "Палажэнняў" тлумачыцца найперш сацыяльна-эканамічнымі матывамі. Да адмены прыгону ў панскіх маёнтках усходніх паветаў Беларусі, падобна да рускіх губерняў, існавала сялянскае абшчыннае землекарыстанне, якое распаўсюджвалася на ўсе ўгоддзі. Павіннасці на карысць памешчыкаў вызначаліся з цягла, але фактычна сяляне адбывалі іх з рабочай душы. У другой палове 40-х – 50-я гг. XIX ст. у мностве панскіх маёнткаў гэтага рэгіёна абавязковыя інвентары не былі ўведзены. У заходніх жа і цэнтральных паветах Беларусі, як і ў Літве, панскія сяляне карысталіся ворнай і сенакоснай зямлёй падворна, а сялянскія павіннасці на карысць памешчыкаў вылічвалі з падворнага зямельнага ўчастка, з другой паловы 40-х гг. – у адпаведнасці з абавязковымі інвентарамі. Акрамя таго, тут мелася значная праслойка малазямельных сялян – агароднікаў і бабылёў, больш ужывалася парабкоўская наёмная праца[3]. Прымаючы асобнае "Палажэнне" для Заходняй, Цэнтральнай Беларусі і Літвы, царызм кіраваўся таксама палітычнымі меркаваннямі. Урад баяўся сялянскага руху ў гэтым рэгіёне, які межаваў з Каралеўствам Польскім, Прыбалтыкай, Прусіяй, дзе сяляне ўжо карысталіся асабістай свабодай. Апрача таго, у 30 – 50-я гг. XIX ст. царскае самадзяржаўе лічыла больш апазіцыйнай да сябе мясцовую апалячаную шляхту.

Мясцовыя "Палажэнні" аддавалі перавагу "добраахвотным пагадненням" сялян з памешчыкамі аб памерах надзелаў і павіннасцей. Калі ж такое было немагчыма, уступалі ў сілу пэўныя іх нормы, вызначаныя гэтымі "Палажэннямі". У апошнім выпадку велічыня надзелаў і павіннасцей сялян на ўсходзе і захадзе Беларусі вызначалася на аснове розных прынцыпаў.

---

[1] ПСЗ. Собр. 2-е Т. 36. №36657. Ст.3, 4, 8, 11, 12, 14–16, 18, 148, 156 і інш.

[2] *Панютич В.П.* Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861–1900 гг. С.28–31.

[3] РДГА, ф.1290, воп.6, спр.19, арк.4–7, 9–10; *Улащик Н.Н.* Введение обязательных инвентарей в Белоруссии и Литве. С.262, 267, 272–274.; і інш.

Паводле мясцовага "Палажэння" для рускіх, паўднёваўкраінскіх і ўсходнебеларускіх губерняў, у Віцебскай (8 паветаў) і Магілёўскай губернях, як і ў цэнтральных рэгіёнах Расіі, быў устаноўлены душавы зямельны надзел. Для кожнай мясцовасці былі ўведзены вышэйшая і ніжэйшая яго нормы. У гэтых месцах Беларусі памеры вышэйшага душавога надзелу па асобных паветах ваганіся ад 4 да 5,5 дзесяціны, ніжэйшага – ад 1,3 да 1,8 дзесяціны. Калі дарэформенны надзел перавышаў вышэйшую норму, то памешчык меў права адрэзаць лішак зямлі на сваю карысць. У выпадку, калі ў памешчыка заставалася менш за 1/3 агульнай плошчы ўгоддзяў маёнтка, ён мог утрымаць за сабой да трэці ўсіх прыдатных зямель. Са згоды сялян землеўласнік атрымаў права памяншаць надзел да чацвяртнога (1/4 вышэйшага), што даваўся бязвыплатна ("дармовы", або "жабрацкі", надзел)[1].

За сялянамі, за выключэннем адзначаных вышэй выпадкаў, павінны былі захоўвацца надзельныя землі, якімі яны карысталіся да рэформы[2]. Аднак гэтыя выключна важныя артыкулы закону часта ігнараваліся. Скарачэнне памераў надзелаў, абеззямеленне сялянства перад адменай прыгону і пры ўвядзенні "Палажэнняў" 19 лютага 1861 г. ва Усходняй Беларусі практыкавалася ў значных памерах. У Магілёўскай губерні колькасць сялянскай надзельнай зямлі на 1862 г. паводле ўстаўных грамат, што ахоплівалі 60,4 % душ мужчынскага полу былых панскіх сялян, у параўнанні з велічынёй надзельнага землекарыстання напярэдадні рэформы паменшылася на 102,7 тыс. дзесяціны, або на 12,7 %. Памешчыкі поўнасцю пазбавілі надзелу 10 900 (4,2 %) душ[3]. Акрамя таго, частку сялян яны перавялі без зямлі ў дваровыя людзі.

Паводле мясцовага "Палажэння" для Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай і часткі Віцебскай губерняў, за сялянскай грамадой замацоўваліся надзельныя землі, якія знаходзіліся ў пастаянным карыстанні сялян на 19 лютага 1861 г. Аднак калі памер надзелу быў вышэйшы за інвентарны ці ў памешчыка заставалася менш чым 1/3 угоддзяў маёнтка, праводзілася адпаведная адрэзка сялянскай зямлі. Разам з тым дарэформенны надзел не мог быць паменшаны больш чым на 1/6 частку[4]. Паколькі сялянам адводзілася зямля, што лічылася за імі на момант абнародавання рэформы, то ўзаконьвалася абеззямеленне сялянства памешчыкамі, якое ўзмоцнена праводзілася з увядзеннем абавязковых інвентароў панскіх маёнткаў і з падрыхтоўкай адмены прыгону прыняло ў многіх мясцовасцях гэтага рэгіёна масавы характар. Адпаведна няпоўным афіцыйным даным, у канцы 40-х гг. XIX ст. у панскіх маёнтках Віленскай і Гродзенскай губерняў беззямельных (бабылёў і дваровых людзей) значылася 25,3 тыс. душ мужчынскага полу (7,4 % прыгонных), а ў 1859 г. – 36,6 тыс. (10,9 %)[5]. Надзелы, дадзеныя сялянам згодна з мясцовым "Палажэннем", у мностве панскіх уладанняў былі ўрэзаны, скарачаліся. Паводле звестак абавязковых інвентароў і ўстаўных грамат, якія ахопліваюць звыш 97 % панскіх сялян Гродзенскай губерні, з сярэдзіны 40-х гг. XIX ст. да рэформы 1861 г. памешчыкі адабралі ў сялян 157,3 тыс. дзесяцін надзельнай зямлі, ці 20,7 % яе агульнай плошчы. Пасля адмены прыгону памеры сялянскага надзельнага землекарыстання, паказа-

---

[1] ПСЗ. Собр. 2-е. Т. 36. №36662. Ст.16, 18, 20, 123; Приложения (приложение к ст.15).

[2] Там жа. Т. 36. №36662. Ст.17, 53.

[3] *Шпаков М.Ф.* Реализация реформы 1861 г. в Могилевской губ. С.566, 569, 570.

[4] ПСЗ. Собр. 2-е Т. 36. №36665. Ст.3, 5, 6, 9.

[5] *Улащик Н.Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. С.331–335.

ныя ва ўстаўных граматах губерні на 1862 г., адносна іх сапраўднай велічыні скараціліся яшчэ на 66,8 тыс. дзесяцін (9,8 %)[1]. Улічваючы тое, што мясцовыя "Палажэнні" неакрэслена, невыразна вызначалі сялянскія правы на агульныя ўгоддзі і сервітуты[2], памешчыкі імкнуліся пазбавіць сялян карыстання імі, асабліва пашамі, у якіх сялянская гаспадарка мела вялікую патрэбу.

Мясцовыя "Палажэнні" рэгламентавалі сервітутныя правы сялян адносна карыстання панскім лесам, агульным вадапоем, прагонам для жывёлы і г.д. На ўсёй тэрыторыі Беларусі памешчыкі не абавязаны былі адпускаць сялянам будаўнічы лес. У тых маёнтках, дзе да рэформы сялянам давалі паліва, яны маглі атрымліваць яго за асобную плату або павіннасці на працягу дзевяці гадоў пасля адмены прыгону[3].

Праводзячы адрэзкі, адмежаванне і развярстанне агульных і цераспалосных зямельных угоддзяў, памешчыкі мелі магчымасць забіраць у сялян лепшыя ворныя землі, сенажаці, пашу, вадапоі, што выкарыстоўвалася для іх закабалення. У выніку "Палажэнні" 19 лютага 1861 г. абумовілі рост абеззямелення сялянства, пралетарызацыю яго асноўнай масы.

Згодна з "Палажэннямі" за пастаяннае карыстанне надзельнай зямлёй часоваабавязаныя сяляне да пераводу на выкуп павінны былі па-ранейшаму адбываць грашовыя (аброк) і адпрацовачныя (паншчына) феадальныя павіннасці. Іх памер вызначаўся ўстаўнымі граматамі. Сяляне ўносілі аброк там, дзе плацілі яго да рэформы або адбывалі ў эпоху феадалізму змешаныя павіннасці – аброчную і паншчынную. Сяляне, якія да 1861 г. знаходзіліся на паншчыне, павінны былі адбываць яе і пасля адмены прыгону.

Мясцовае "Палажэнне" для рускіх, паўднёваўкраінскіх і ўсходнебеларускіх губерняў вызначала памеры павіннасцей адпаведна велічыні душавога надзелу. Паводле яго, сяляне павінны былі абкладвацца аброкам да тых памераў, у якіх апошні збіраўся з іх на час адмены прыгону. На самай жа справе аброк, які існаваў ва Усходняй Беларусі напярэдадні рэформы, часта завышаўся. У Віцебскай (восем паветаў) і Магілёўскай губернях за вышэйшы душавы надзел сяляне абавязаны былі выплачваць 8 руб. аброку ў год. Калі яны атрымалі надзел, меншы за вызначаную вышэйшую норму, то памеры плацяжоў паніжаліся, але не прапарцыянальна памяншэнню колькасці зямлі, а на аснове прынцыпу так званай градацыі павіннасцей. Ён заключаўся ў тым, што на першую дзесяціну душавога надзелу прыпадала палова аброку, на другую – 25 %, на астатнія дзесяціны, разам узятыя, – таксама 25 %[4]. Такім чынам, пры памяншэнні вышэйшага надзелу ў выніку адрэзкі сялянскай зямлі памешчыкі былі забяспечаны адносна большым аброкам. Градацыі павіннасцей дазвалялі апошнім у значнай меры захаваць тыя даходы, якія яны атрымлівалі ад асобы селяніна да рэформы.

Парэформенны аброк, як правіла, перавышаў даходнасць надзельнай зямлі. Зыходзячы з сумы выкупных плацяжоў і рэальнага паніжэння іх памераў у параўнанні з аброкам, з адменай прыгону аброчныя сяляне Магілёўскай губерні да 1864 г. уносілі штогод аброчных плацяжоў у сярэднім каля 7 руб. 47 кап. з рабочай душы, або 1 руб. 56 кап. на дзесяціну пры-

[1] *Хилюта В.А.* Землепользование и землевладение бывших помещичьих крестьян Гродненской губ. в середине XIX века (40-е – начало 70-х гг.). С.11, 16, 17.

[2] ПСЗ. Собр. 2-е. Т. 36. №36662. Ст.65–67, 69; №36665. Ст.38–40, 42.

[3] Там жа. Ст.33, 36, 47–49; №36665. Ст.12, 14, 23–25.

[4] Там жа. Ст.161–162, 168–170.

датнай зямлі[1]. Між тым гэта дзесяціна ў пяці заходніх губернях у 60-я – пачатку 70-х гг. XIX ст. давала чыстага даходу ў сярэднім не больш чым 1 руб. 20 кап.[2]

Паводле мясцовага "Палажэння" для заходнебеларускіх і літоўскіх губерняў, у аснову вызначэння памераў аброку і паншчыны была пакладзена агульная вартасць павіннасцей з надзельнага ўчастка, азначаных у інвентары маёнтка. Гранічная велічыня сялянскіх плацяжоў у параўнанні з інвентарнай некалькі зніжалася, вызначаўся максімум іх не вышэй чым 3 руб. з дзесяціны палявога надзелу ў год[3]. Аднак і такі аброк быў не пад сілу для аброчных сялян. З часу адмены прыгону па 1863 г. у Гродзенскай губерні яны плацілі аброку штогод у сярэднім 2 руб. 35 кап. з дзесяціны надзелу, у Мінскай – 2 руб. 12 кап., у Віленскай – 2 руб. 11 кап.[4] Такім чынам, аброчныя плацяжы іх у сярэднім амаль у два разы перавышалі даходнасць сялянскай зямлі.

Да рэформы 1861 г. асноўная маса панскіх сялян Беларусі адбывала паншчыну. З адменай прыгону паншчынная павіннасць на ўсходзе Беларусі была некалькі аблегчана. Як і ў цэнтральных рэгіёнах Расіі, да зацвярджэння ўстаўных грамат паншчына павінна была не перавышаць пяці дзён у тыдзень[5]. Але многія памешчыкі насуперак "Палажэнню" захоўвалі яе ў дарэформенных памерах або нават павялічвалі. У мясцовасцях з абшчынным карыстаннем усёй зямлёй сяляне, звязаныя кругавой парукай, павінны былі адбываць паншчыну і за адсутных аднасяльчан[6]. З зацвярджэннем устаўных грамат за вышэйшы душавы надзел (незалежна ад яго велічыні) сяляне Усходняй Беларусі абавязаны былі адпрацоўваць 40 мужчынскіх і 30 жаночых дзён у год, ці 13 – 18 дзён з дзесяціны. Пры паніжэнні памераў душавога надзелу паншчына памяншалася, аднак не суразмерна скарачэнню плошчы надзельнай зямлі. Як і пры аброчнай павіннасці, большая колькасць паншчынных дзён прыпадала на першыя дзесяціны надзелу[7].

На захадзе і ў цэнтры Беларусі, як і ў Літве, з адменай прыгону сяляне да зацвярджэння ўстаўных грамат павінны былі адбываць паншчыну ў памерах, устаноўленых інвентарамі панскіх маёнткаў[8]. У гэтых умовах, паколькі надзелы мноства сялян перад рэформай былі ўрэзаны памешчыкамі, велічыня паншчыннай павіннасці іх фактычна ўзрасла. Пасля зацвярджэння ўстаўных грамат колькасць паншчынных дзён у параўнанні з інвентарнымі адпаведна мясцоваму "Палажэнню" для заходнебеларускіх і літоўскіх губерняў паменшылася на 10 % і не павінна была перавышаць 23 мужчынскія і жаночыя дні з дзесяціны ў год[9]. Аднак і гэтыя нормы былі на-

---

[1] Отчет Государственного банка по выкупной операции с открытия выкупа по 1 января 1892 года. СПб., 1893. Приложение 24. С.98; Статистика поземельной собственности и населенных мест Европейской России. СПб., 1882. Вып. V. С.167; і інш.

[2] *Янсон Ю.Э.* Опыт статистического исследования о крестьянских наделах и платежах. СПб., 1881. Приложения. С.14–15, 17, 22–23.

[3] ПСЗ. Собр. 2-е. Т. 36. №36665. Ст.128, 150.

[4] Отчет Государственного банка по выкупной операции с открытия выкупа по 1 января 1892 года. С.26, 86, 98; Статистика поземельной собственности и населенных мест Европейской России. Вып. V. С.21, 71, 103.

[5] ПСЗ. Собр. 2-е Т. 36. №36661. Ст.7.

[6] НГАБ, ф.2642, воп.1, спр.98, арк.72; спр.124, арк.269; спр.137, арк.6.

[7] ПСЗ. Собр. 2-е. Т. 36. №36662. Ст.189; Приложения (приложение к ст. 190).

[8] Там жа. №36661. Ст.10.

[9] Там жа. №36665. Ст. 150.

столькі высокія, што амаль не ўжываліся. З адменай прыгону некаторыя памешчыкі павялічвалі памер паншчыны[1].

Праз два гады пасля абвяшчэння рэформы сяляне атрымалі права пераходу з паншчыны на аброк, пры ўмове адсутнасці нядоімак па падатках дзяржаве і павіннасцях памешчыку, а таксама выплаты аброку апошняму за паўгода наперад[2].

Надзельную зямлю сяляне набывалі на аснове "Палажэння аб выкупе", агульнага для ўсёй Расійскай імперыі. Вартасць надзелу па выкупу вылічвалі шляхам капіталізацыі аброку з 6 % гадавых. Атрыманы такім чынам капітал пры штогоднім абароце прыносіў суму ранейшага гадавога аброку і дадатковую суму на пагашэнне выкупнога капіталу і на выдаткі па выкупной аперацыі. Апошнюю праводзіла дзяржава, якая выдавала сялянам выкупную пазыку. Пры згодзе сялян на выкуп, калі яны атрымлівалі поўны надзел, гэта пазыка складала 80 % выкупной сумы, пры паменшаным надзеле – 75 %. Астатнюю частку выкупной сумы (20 – 25 %) сяляне павінны былі выплаціць памешчыку наяўнымі пры заключэнні выкупнога пагаднення. Пры выкупе ўсяго надзелу па аднабаковым патрабаванні яго такой даплаты не патрабавалася. Адзначаныя 75 – 80 % выкупной сумы, за вылікам даўгоў, што ляжалі на маёнтку, у 1861 – 1863 гг. выдавалі памешчыкам аднаразова дзяржаўнымі 5 %-мі банкаўскімі білетамі і выкупнымі пасведчаннямі[3]. Пазней, з 1863 па 1871 г., у сувязі з паўстаннем у Беларусі і Літве і выплатай кантрыбуцыйнага збору мясцовымі памешчыкамі гэту суму дзяржава штогод давала ім наяўнымі, у памеры вылічанага гадавога, 5,5 %-га даходу з надзельных зямель сялян, пераведзеных на выкуп. Затым яна паступова зноў была заменена выкупной сумай, якую выдавалі дзяржаўнымі крэдытнымі паперамі[4]. Выкупную пазыку сяляне абавязаны былі пагашаць на працягу 49 гадоў штогоднімі выкупнымі плацяжамі ў памеры 6 % выкупнога доўгу[5].

Фактычна выкуплялася не зямля, а феадальныя паншчынная і аброчная павіннасці сялян на карысць памешчыка[6]. Не надзельная зямля, а душавы пазаземляробчы "заработак" іх з'яўляўся крыніцай выкупных плацяжоў. Яны мелі характар феадальных падушных збораў[7].

Суадносіны так званых выкупных цэн на зямлю з мясцовымі рынычнымі яе цэнамі былі розныя. У пяці заходніх губернях сярэдняя цана дзесяціны зямлі па выкупу вагалася ад 7 руб. 87 кап. да 20 руб. 75 кап., а цана яе на мясцовым зямельным рынку ў 1863 – 1872 гг. – у сярэднім ад 6 руб. 58 кап. да 15 руб. 26 кап. у залежнасці ад губерні[8]. У Віленскай і Гродзенскай губернях выкупны кошт дзясяціны надзелу ў сярэднім быў на 18,2 – 26,9 % ніжэйшы за прадажны, што было абумоўлена як больш высокім рынычным коштам зямлі, так і меншымі памерамі аброку, пакладзенага ў аснову выкупной сумы. Нягледзячы на меншы памер цаны зямлі па выкупу ў параўнанні з рынычным коштам яе ў гэтым рэгіёне, сяляне і тут значна пераплацілі за свае

---

[1] Белоруссия в эпоху капитализма. Мн., 1983. Т.1. С.61.

[2] ПСЗ. Собр. 2-е. Т. 36. №36662. Ст.236, 237, 239; №36665. Ст.196, 197, 199.

[3] Там жа. №36659. Ст.4, 64–66, 68–70, 72.

[4] Там жа. №39960; Т. 39. №40901; Т. 46. №49473.

[5] Там жа. №36659. Ст.113–114.

[6] *Дружинин Н.М.* Русская деревня на переломе 1861–1880 гг. М., 1978. С.22.

[7] *Вильсон И.* Выкупные за землю платежи крестьян-собственников, бывших помещичьих. 1862 – 1876. СПб., 1878. С.43.

[8] *Лосицкий А.* Выкупная операция. СПб., 1906. С.38–39.

надзелы ў сувязі са шматгадовым спагнаннем дзяржавай высокіх (6) працэнтаў па выкупной пазыцы.

**Змяненне ўмоў вызвалення панскіх сялян у Беларусі.** Новы ўздым сялянскага руху супраць памешчыкаў у Беларусі і Літве, абумоўлены спадзяваннямі сялян атрымаць "сапраўдную волю" ў дзень другой гадавіны абвяшчэння рэформы, пачатак паўстання ў Каралеўстве Польскім прымусілі царскі ўрад стаць на шлях лавіравання, пайсці на пэўныя ўступкі былым прыгонным, каб прыцягнуць іх на свой бок. Указам ад 1 сакавіка 1863 г. у Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Ковенскай губернях, Дрысенскім і латгальскіх паветах Віцебскай губерні абавязковыя адносіны паміж сялянствам і памешчыкамі спыняліся з 1 мая гэтага ж года. Уводзіўся абавязковы выкуп са зніжэннем аброчных і адпаведна ім выкупных плацяжоў. Сялян, што адбывалі паншчыну, пераводзілі на аброк з памяншэннем яго на 20 % супраць аброчных плацяжоў, вызначаных устаўнымі граматамі. Для праверкі гэтых плацяжоў былі створаны павятовыя праверачныя камісіі. Яны ж павінны былі складаць выкупныя акты[1]. 2 лістапада гэтага ж года быў выдадзены ўказ аб спыненні з 1 студзеня 1864 г. абавязковых адносін у Магілёўскай губерні, беларускіх і рускіх паветах Віцебскай губерні. Тут таксама былыя панскія сяляне пераведзены на абавязковы выкуп са зніжэннем выкупных плацяжоў адносна аброчных на 20 %[2]. Функцыі праверачных камісій выконвалі павятовыя міравыя з'езды. У той жа час закон аб абавязковым выкупе ўсіх былых панскіх сялян рускіх, паўночна- і паўднёваўкраінскіх губерняў быў апублікаваны толькі ў 1881 г.

Асноўная маса былых панскіх сялян Беларусі перайшла з аброку на выкуп ужо да пачатку другога парэформеннага дзесяцігоддзя. На 1 студзеня 1871 г. у Магілёўскай губерні было канчаткова зацверджана 96,6 % выкупных актаў, у Віленскай – 93,7, у Гродзенскай – 91,6, у Мінскай – 77,9 %[3]. Разам з тым многія сяляне, асабліва на поўдні Міншчыны, доўгі час вялі барацьбу з памешчыкамі за так званыя спрэчныя землі. Апрача таго, урад да канца XIX – пачатку XX ст. вымушаны быў зацвярджаць новыя выкупныя акты на "прапушчаныя" надзельныя ўчасткі.

З мэтай адцягнення абеззямеленых сялян ад удзелу ў паўстанні, паводле цыркуляра віленскага генерал-губернатара М. Мураўёва ад 18 кастрычніка 1863 г., у Заходняй і Цэнтральнай Беларусі, а таксама ў Літве ім павінны былі вярнуць землі, захопленыя памешчыкамі пасля 1857 г., калі яны не паступілі ў надзел іншым прыгонным або не знаходзіліся ў арэндзе. Сялянства, пазбаўленае зямлі ў 1846 – 1856 гг., атрымлівала трохдзесяцінны сямейны надзел[4]. У заходніх і цэнтральных паветах Беларусі былі надзелены зямлёй 19,2 тыс. двароў (каля 12,5 % двароў былых панскіх сялян)[5]. З вяртаннем часткі адрэзкаў, а таксама павелічэннем наяўных надзелаў, перакласіфікацыяй угоддзяў плошча сялянскага землеўладання ўзрасла. Паводле выкупных актаў сялянства Гродзенскай губерні (97 %) атрымала на 84,8 тыс. (13,8 %) дзесяцін прыдатнай зямлі больш, чым меркавалі адвесці яму па-

[1] ПСЗ. Собр. 2-е. Т. 38. №39337, 39463.

[2] Там жа. №40172.

[3] ДГА Літвы, ф.378, воп. 121, спр.625, арк.67; РДГА, ф.1281, воп.7, спр.73, арк.13; ф.1284, воп.67, спр.118, арк.74.

[4] Сборник правительственных распоряжений по устройству быта крестьян-собственников в Северо-Западном крае. Вильна, 1864. С.64–66, 77–78.

[5] *Рихтер Д.* Материалы по вопросу о земельном наделе бывших помещичьих крестьян и о сервитутах в юго- и северо-западных губерниях России // Вест. финансов, пром-ти и торговли. 1900. №39. С.602–603.

мешчыкі згодна з устаўнымі граматамі, Магілёўскай (60,4 % сялян) – на 62,8 тыс. (8,9 %) дзесяцін[1].

Датэрміновы перавод сялян на выкуп прымусіў царскія ўлады займацца сервітутамі і агульнымі пашамі. Ва ўстаўных граматах яны нават не ўпаміналіся[2], што давала магчымасць памешчыкам пазбаўляць сялян гэтых угоддзяў. Пры складанні выкупных актаў, акрамя надзельнай зямлі, за сялянствам замацоўвалася права на сервітутныя і агульныя ўгоддзі, да развярстання іх[3]. Апошнія мелі важнае значэнне ў сялянскай гаспадарцы. У 60-я гг. XIX ст. зямельнымі сервітутамі і агульнымі пашамі карысталіся 56 % двароў былых панскіх сялян Цэнтральнай і Заходняй Беларусі[4]. У 1863 г., нягледзячы на пераход на выкуп, было пацверджана і права беларускіх сялян да пачатку 70-х гг. атрымліваць паліва з панскіх лясоў за вызначаныя плату ці павіннасці там, дзе карысталіся ім раней[5].

Паўстанне 1863 г., высокія, непасільныя для сялянства памеры выкупу, боязь узмацнення на іх глебе сялянскіх хваляванняў прымусілі царскі ўрад на большай частцы тэрыторыі Беларусі пайсці на скарачэнне выкупных плацяжоў у больш шырокіх, чым першапачаткова планавалася, маштабах. Гадавая велічыня гэтых плацяжоў на дзесяціну надзельнай зямлі па выкупных актах у параўнанні з вызначанымі ва ўстаўных граматах была зменшана павятовымі праверачнымі камісіямі ў Мінскай губерні ў сярэднім на 1 руб. 50 кап. (75,4 %), у Гродзенскай – на 1 руб. 48 кап. (68,8 %), у Віленскай – на 1 руб. 37 кап. (64,9 %), а таксама ў Магілёўскай губерні – на 28 кап. (23,8 %)[6].

У выніку ажыццяўлення адзначаных мерапрыемстваў умовы правядзення рэформы ў Беларусі сталі больш спрыяльнымі для сялян. Аднак яна па-ранейшаму насіла грабежніцкі характар. Далёка не ўсе адрэзкі былі вернуты сялянству. У Гродзенскай губерні колькасць надзельнай зямлі па выкупных актах адносна абавязковых інвентароў панскіх маёнткаў скарацілася на 67,7 тыс. дзесяцін (8,8 %). У Магілёўскай губерні землеўладанне сялян, паводле выкупу, у параўнанні з памерамі іх землекарыстання напярэдадні адмены прыгону зменшылася на 39,9 тыс. дзесяцін (4,9 %). Пераважная большасць абеззямеленых атрымала па 3 дзесяціны на двор[7]. Такі надзел быў зусім недастатковы для вядзення гаспадаркі і забеспячэння сялянскай сям'і. Мізэрныя надзелы толькі прымацоўвалі сялян да панскіх маёнткаў, забяспечваючы іх таннымі рабочымі рукамі. Многія памешчыкі адмаўляліся надзяляць абеззямеленых сялян зямлёй. Частку былых пры-

---

[1] *Хилюта В.А.* Землепользование и землевладение бывших помещичьих крестьян Гродненской губ. в середине XIX века (40-е – начало 70-х гг.). С.17, 20; *Шпаков М.Ф.* Реализация реформы 1861 г. в Могилевской губ. С.569–571.

[2] РДГА, ф.1276, воп.9, Спр.472, арк.4.

[3] Архивные материалы Муравьевского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863–1864 гг. в пределах Северо-Западного края. Вильна, 1913. Ч.1. С.275–276.

[4] *Рихтер Д.* Материалы по вопросу о земельном наделе бывших помещичьих крестьян и о сервитутах в юго- и северо-западных губерниях России. С.585, 602–603.

[5] Сборник распоряжений графа М.Н. Муравьева по усмирению польского мятежа в северо-западных губерниях 1863–1864 / Сост. Н.Цылов.Вильна, 1866. С.260–262.

[6] Отчет Государственного банка по выкупной операции с открытия выкупа по 1 января 1892 года. С.26; *Шпаков М.Ф.* Реализация реформы 1861 г. в Могилевской губ. С.568–569; і інш.

[7] *Хилюта В.А.* Землепользование и землевладение бывших помещичьих крестьян Гродненской губ. в середине XIX века (40-е – начало 70-х гг.). С.20; *Шпаков М.Ф.* Реализация реформы 1861 г. в Могилевской губ. С.570–571; НГАБ, ф.242, воп.1, спр.427, арк.5, 43 –46, 54–55, 76–77; ф.333, воп.4, спр.3840, арк.2–4; спр.3889, арк.3–7; спр.3890, арк.3–6, 8, 15–17, 19–20, 23–30.

гонных пазбавілі надзелу. Землеўласнікі захавалі за сабой лепшыя ворныя ўгоддзі, сенажаці, амаль увесь лес. Праверачныя камісіі ў выкупных актах агаворвалі права сельскай грамады на карыстанне сервітутамі і агульнымі пашамі няпоўна, недакладна, што памешчыкі выкарыстоўвалі для розных злоўжыванняў.

Нягледзячы на значнае зніжэнне памераў выкупу, сялянства намнога пераплаціла за яго ў сувязі са спагнаннем высокіх працэнтаў па выкупной пазыцы. У 1861–1906 гг. былыя панскія сяляне пяці заходніх губерняў унеслі каля 170 млн руб. выкупных плацяжоў, якія ў 2,3 раза пераўзыходзілі атрыманую імі ў суме 72,2 млн руб. дзяржаўную пазыку[1]. Такім чынам, праводзячы выкупную аперацыю, дзяржава за 46 парэформенных гадоў атрымала тут каля 100 млн руб. прыбытку. Выкупныя плацяжы паглыналі львіную долю даходу сялянскай гаспадаркі. Масавы сялянскі рух 1905 г. у Расійскай імперыі прымусіў царскія ўлады з 1907 г. скасаваць выкупныя плацяжы .

**Рэформа 1867 г. у дзяржаўнай вёсцы.** Вызваленне панскага сялянства ад прыгоннай залежнасці паставіла на парадак дня пытанне аб пазямельным уладкаванні іншых груп сельскага насельніцтва, у тым ліку казённых сялян. У Беларусі ў 1858 г. іх налічвалася 468,8 тыс (19,7 %) душ абодвух полаў. Яны пражывалі галоўным чынам у заходніх і паўночных паветах[2]. Асноўныя прынцыпы рэформы на панскіх землях, змяненне ўмоў яе згодна з указамі ад 1 сакавіка і 2 лістапада 1863 г. былі распаўсюджаны на дзяржаўнае сялянства заходніх губерняў.

16 мая 1867 г. быў прыняты закон аб рэформе дзяржаўнай вёскі Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны. Дзяржаўных сялян перавялі на абавязковы выкуп і прылічылі да так званых сялян-уласнікаў у адрозненне ад казённага сялянства рускіх губерняў, Левабярэжнай і Паўднёвай Украіны, дзе на аснове закона ад 24 лістапада 1866 г. надзельная зямля знаходзілася толькі ў іх пастаянным карыстанні. За сялянамі замацоўваліся надзелы, якімі яны пастаянна карысталіся да часу правядзення рэформы 1867 г. "Для ўладкавання гаспадаркі сялян" дапускаліся як прырэзка да сялянскіх надзелаў з запасных і іншых свабодных дзяржаўных земель, так і абмен сялянскіх надзелаў на казённыя зямельныя ўчасткі. Але, як і панскае, дзяржаўнае сялянства не мела права павялічваць памеры надзелаў пасля правядзення рэформы.

Велічыню надзельных зямельных участкаў і суму выкупных плацяжоў вызначалі люстрацыйныя камісіі, якія складалі люстрацыйныя акты. Яны былі адэкватныя выкупным актам былых панскіх сялян. Для іх складання і зацвярджэння быў прадугледжаны тэрмін: у Віленскай і Гродзенскай губернях – тры гады, у Мінскай – чатыры, у Віцебскай і Магілёўскай – шэсць гадоў. Пры вызначэнні велічыні выкупу зыходзілі з сумы паменшаных на 10 % выкупных плацяжоў былога прыватнаўласніцкага сялянства суседніх з казённымі панскіх маёнткаў. Тэрмін пагашэння выкупнога доўгу складаў 46 гадоў. У адрозненне ад панскіх сялян ніякай пазыкі ад казны дзяржаўныя сяляне не атрымлівалі, што моцна ўскладняла выкуп[3]. Да 1871 г. па Гродзенскай губерні было зацверджана 1635 (99,4 %) люстрацыйных актаў, Вілен-

[1] Отчет Государственного банка по выкупной операции с открытия выкупа по 1 января 1892 года. Приложение 24. С.88–91, 96– 97, 100–103, 108–109; *Лосицкий А.* Выкупная операция. С. 38–39; і інш.

[2] *Панютич В.П.* Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861–1900 гг. С.29, 32.

[3] ПСЗ. Собр. 2-е. Т. 41. №43888, 44590.

скай – 3958 (97,5 %), Мінскай – 969 (96,9 %). У Віцебскай і Магілёўскай губернях складанне і зацвярджэнне іх было завершана ў сярэдзіне 70-х гг.[1]

Баючыся сялянскіх хваляванняў і выкарыстання іх мясцовым дваранствам у сваіх палітычных мэтах, царызм вымушаны быў пайсці на некаторыя ўступкі дзяржаўнаму сялянству Заходняга рэгіёна. У выніку рэформы 1867 г. колькасць зямлі, дадзенай былым казённым сялянам пяці заходніх губерняў, у параўнанні з той, што знаходзілася напярэдадні гэтага ў іх карыстанні, узрасла на 613,7 тыс. дзесяцін і перавысіла надзелы былых прыватнаўласніцкіх сялян у разліку на рэвізскую душу ў сярэднім на 25,4 %, на двор – на 20,8 %. Вынікам лепшай забяспечанасці дзяржаўнага сялянства надзельнай зямлёй з'яўлялася больш хуткае развіццё капіталістычных адносін у былой казённай вёсцы. Плошча яе ў былога дзяржаўнага сялянства ў значнай меры павялічылася і за кошт паселеных на казённых землях каланістаў, адстаўных салдат, былых панскіх сялян дробнапамесных уласнікаў, выхадцаў з іншых саслоўных груп мясцовага насельніцтва, якіх налічвалася ў гэтых губернях 76,8 тыс. душ[2]. Часткова былі вернуты надзелы дзяржаўным сялянам, абеззямеленым у канцы 50-х – пачатку 60-х гг. Пры гэтым пераважная большасць беззямельных (бабылёў), у тым ліку кутнікаў, раней прыпісаных да сем'яў сялян – гаспадароў дамоў, атрымалі толькі да 1/4 поўнага надзелу, г.зн. менш чым 5 дзесяцін. Ім адводзілі зямлю галоўным чынам сярод сялянскіх палёў[3].

Надзельнае землеўладанне былога казённага сялянства Беларусі на 1877 г. параўнальна з 1858 г. павялічылася на 185,5 тыс. (14,7 %) дзесяцін. Аднак за гэты час колькасць двароў дзяржаўных сялян узрасла на 18,8 тыс. (30 %). У сувязі з больш хуткім ростам сялянскага насельніцтва сярэднія надзелы яго ў разліку на наяўную душу мужчынскага полу паменшыліся з 5,1 да 4,5 дзесяціны, на двор – з 20,2 да 17,8 дзесяціны, ці на 11,4 %. У 1877 г. недастатковыя душавыя надзелы памерам да 5 дзесяцін мелі 87,6 тыс. (35,4 %) душ былых казённых сялян[4]. Велічыня гэтай групы пастаянна ўзрастала. Забяспечанасць асноўнай масы дзяржаўных сялян зямлёй пасля рэформы 1867 г. пагаршалася. У ходзе правядзення рэформы, пры пашырэнні надзельнага землеўладання ў цэлым, ёй спадарожнічала адрэзка зямель часткі сялян. Захоп сялянскіх надзелаў казной, памяншэнне іх велічыні, надзяленне сялян недабраякаснай зямлёй, перасяленне "на пясочкі", пазбаўленне пашы, сенажацей, паліва назіраліся ў многіх дзяржаўных маёнтках Беларусі[5]. З развіццём капіталізму ў сельскай гаспадарцы, перш за ўсё ўзмацненнем працэсу разлажэння сялянства, праслойка беззямельных расла. У той жа час у Беларускім рэгіёне дзяржава захавала

---

[1] ДГА Літвы ф. 378, воп.121, спр.625, арк.69; Историческое обозрение пятидесятилетней деятельности Министерства государственных имуществ. Ч.II. Отд.2. С.248.

[2] *Зайончковский П.А.* Отмена крепостного права в России. М., 1968. С.286–287; Статистика поземельной собственности и населенных мест Европейской России. Вып. V. С.21, 71, 103, 137, 167.

[3] Сборник постановлений по поземельному устройству государственных крестьян в губерниях Виленской, Витебской, Волынской, Гродненской, Киевской, Ковенской, Минской, Могилевской и Подольской. СПб., 1868. С.63, 76, 79–84.

[4] Статистический обзор государственных имуществ за 1858 год. СПб., 1861. С.44–46, 58–60, 142–144, 268–270, 282–284; Статистика поземельной собственности и населенных мест Европейской России. Вып. V. С. 16–167.

[5] НГАБ, ф.27, воп. 2, спр.688, арк.51–52, 112, 132–135, 137–139 і інш; спр.1966, арк.91, 184–185; ф.242, воп.1, спр.156, арк.2; спр.1402, арк.3,5, 19–20; ф.2514, воп.1, спр.2572, арк.42–43.

за сабой звыш паловы (53,2 %) казённых прыдатных зямель, у асноўным лясных угоддзяў[1].

У 1867–1900 гг. выкупныя плацяжы былых казённых сялян пяці заходніх губерняў у сярэднім на дзесяціну надзелу вагаліся ад 37 да 59 кап., у залежнасці ад губерні. Паводле звестак Міністэрства дзяржаўных маёмасцей, яны адпавядалі мясцовым рыначным цэнам на зямлю і былі прыкметна ніжэйшыя, чым у былога панскага сялянства. У параўнанні з выкупам апошняга выкупныя плацяжы былых казённых сялян у Віцебскай і Магілёўскай губернях былі меншыя ў тры разы, у Віленскай – на 20,3 %, у Гродзенскай – на 16,6, у Мінскай – на 8,9 %[2]. Нягледзячы на гэта, у былога дзяржаўнага сялянства пяці заходніх губерняў у 70-я гг. XIX ст. выкупныя плацяжы паглыналі прыкладна палову чыстага даходу з дзесяціны надзелу[3]. У 1867–1906 гг. яно ўнесла ў казну 43 млн руб. выкупу[4].

Пры пэўных перавагах рэформы былой дзяржаўнай вёскі ў параўнанні з панскай у Беларусі, як і ў іншых рэгіёнах краіны, яна праводзілася за кошт сялянства, у інтарэсах дзяржавы і пануючага класа дваранства. Як і сярод былых панскіх сялян, хоць у меншых памерах, тут назіраўся працэс пралетарызацыі і паўперызацыі большай часткі сялянства.

**Іншыя аграрныя рэформы.** Разам з былымі панскімі і казённымі сялянамі, што складалі асноўную масу сялянства, у Беларусі ў 60–90-я гг. XIX ст. было праведзена рэфармаванне іншых, невялікіх саслоўных груп сялян – удзельных, вольных людзей, старавераў, сельскіх чыншавікоў, праваслаўных арандатараў, а таксама аднадворцаў. Рэфармаванне большасці іх было неспрыяльнае, бо праводзілася пераважна ва ўмовах спаду рэвалюцыйнага руху, адсутнасці шырокіх аграрных хваляванняў. Таму выкупныя плацяжы вольных людзей 2-га разраду (абеззямеленых пасля 1857 г.), старавераў, сельскіх чыншавікоў, праваслаўных арандатараў былі значна вышэйшыя за выкуп былых панскіх і асабліва дзяржаўных сялян. Пры вялікіх памерах выкупной сумы большасць усіх гэтых сялян-арандатараў была пазбаўлена магчымасці выкупу арандаваных панскіх зямельных угоддзяў. Памешчыкі адмаўлялі ім у арэндзе зямлі, выганялі з маёнткаў.

**Вынікі і значэнне аграрных рэформаў.** Сялянская рэформа 1861 г. у Беларусі, як і ў іншых рэгіёнах Расійскай імперыі, паклала пачатак новай, капіталістычнай грамадска-эканамічнай фармацыі. Змест рэформы быў буржуазны. Адмена прыгону стварыла ўмовы для ўсталявання капіталістычнага спосабу вытворчасці, свабодных дагаворных вытворчых адносін. Сяляне з вытворцаў з пераважна натуральнай гаспадаркай ператвараліся ў таваравытворцаў буржуазнага грамадства, усё больш уцягваліся ў сферу рынку. Буржуазнымі па свайму зместу з'яўляліся таксама іншыя аграрныя рэформы другой паловы XIX ст. Ліквідацыя ў выніку рэформаў саслоўных катэгорый сялянскага насельніцтва і стварэнне класа дробназямельных уладальнікаў аб'ек-

---

[1] Статистика поземельной собственности и населенных мест Европейской России. Вып.V. С.5, 49, 81, 111, 145.

[2] Ежегодник Министерства финансов. СПб., 1871–1894. Вып. III–XXI; Отчет Государственного банка по выкупной операции с открытия выкупа по 1 января 1892 года. Приложение 24. С.86–87, 98–99; Материалы Высочайше учрежденной 16 ноября 1901 г. комиссии. СПб., 1903. Ч.1. С.270–274, 296.

[3] *Янсон Ю.Э.* Опыт статистического исследования о крестьянских наделах и платежах. Приложения. С.14–15, 17, 22–23.

[4] Труды комиссии, Высочайше учрежденной, для пересмотра системы податей и сборов. СПб., 1873. Т.XXII. Ч.III. Отд.1. С.168–187; Ежегодник Министерства финансов. Вып. III–XXI; Материалы Высочайше учрежденной 16 ноября 1901 г. комиссии. Ч. 1. С.296; і інш.

тыўна былі накіраваны на развіццё капіталістычных адносін на беларускай вёсцы.

Адначасова рэформа 1861 г., праведзеная "зверху" царызмам, пануючым класам памешчыкаў-прыгоннікаў, насіла грабежніцкі характар. Яна захоўвала шматлікія рэшткі феадалізму ў сацыяльна-эканамічным і грамадска-палітычным ладзе краіны, аснову якіх складалі панскае землеўладанне і царскае самадзяржаўе. За ўрэзаныя надзелы сяляне абавязаны былі плаціць вялікі выкуп. Як адзначалася, фактычна яны выкуплялі феадальныя (паншчына, аброк) павіннасці. Буйныя феадальна-прыгонніцкія перажыткі заставаліся і пасля ажыццяўлення іншых аграрных рэформаў.

У заходніх губернях у адрозненне ад унутраных і некаторых іншых рэгіёнаў Еўрапейскай Расіі адмена часоваабавязанага стану панскіх сялян, перавод з аброку на выкуп абсалютнай большасці іх, а затым і пераважнай часткі дзяржаўных сялян, з зацвярджэннем выкупных і люстрацыйных актаў былі праведзены ўжо ў 60-я гг. XIX ст. Гэта азначала ліквідацыю адпрацовачнай і грашовай феадальнай рэнты, г. зн. аджыўшых прыгонніцкіх вытворчых адносін. Тым самым ствараліся больш спрыяльныя ўмовы для ўсталявання капіталізму ў сялянскай гаспадарцы. У Беларусі, як і ў Літве, найбольш істотныя змены ў вызваленні панскіх сялян, унесеныя ўказамі ад 1 сакавіка і 2 лістапада 1863 г., абумоўленымі імі цыркулярнымі распараджэннямі віленскай адміністрацыі і пастановамі павятовых праверачных камісій, зводзіліся да скасавання абавязковых пазямельных адносін і значнага зніжэння аброчных і адпаведна выкупных плацяжоў. Менш адчувальным для сялянства было пэўнае ўзнаўленне плошчы яго ранейшага землекарыстання. Адзначаныя ўказы, распараджэнні, пастановы – рэфармаванне былых панскіх сялян на новых, больш спрыяльных для іх умовах пад уздзеяннем паўстання 1863 г. і масавага сялянскага руху ў адказ на першапачатковыя надзвычайна цяжкія ўмовы адмены прыгону.

Аднак пералічаныя ўступкі не змянілі грабежніцкага характару рэформы. У выніку яе правядзення памешчыкі вярнулі беларускім сялянам далёка не ўсе землі, адрэзаныя з часоў увядзення абавязковых інвентароў. Толькі паўстанне 1863 г., узмоцненая барацьба сялянства за зямлю не дазволілі правесці новую масавую экспрапрыяцыю сялянскіх надзельных зямель. Памешчыкі Беларусі захавалі за сабой пераважную частку зямельнай плошчы маёнткаў. Пры гэтым ім належалі не толькі лепшыя ворныя землі, але і большасць сенажацей, амаль увесь лес, у якіх сяляне мелі вялікую патрэбу. Памешчыкі ўсяляк імкнуліся абмежаваць, а ў многіх маёнтках і пазбавіць сялян права карыстання сервітутнымі і агульнымі пашамі, вельмі неабходнымі ў іх гаспадарцы. Буйным феадальным зямельным уласнікам заставалася і дзяржава, якая пасля правядзення рэформы 1867 г. сканцэнтравала звыш паловы казённых зямель.

Нягледзячы на значнае зніжэнне выкупных плацяжоў былога панскага сялянства большасці рэгіёнаў Беларусі, яны паглыналі львіную долю сялянскіх даходаў. Сяляне маглі аплачваць у асноўным толькі высокія працэнты па дзяржаўнай выкупной пазыцы. Высокімі, хоць і меншымі, былі памеры выкупу таксама ў былога казённага сялянства.

Буржуазныя аграрныя рэформы другой паловы XIX ст. не толькі замацавалі малазямелле, але фактычна скарацілі сялянскае землеўладанне і землекарыстанне, што вяло да ўзмацнення пралетарызацыі і зглалення асноўнай масы сялянства. Яны замацавалі і ўзмацнілі адрозненні ў памерах надзелаў і арандаваных сялянамі зямельных участкаў, у гаспадарча-эканамічным становішчы іх розных сацыяльных груп.

Рэформа 1861 г. у вялікай ступені вызначыла кірунак эканамічнай, сацыяльнай і палітычнай эвалюцыі беларускай вёскі. Яна паскорыла развіццё аграрнага капіталізму, прадукцыйных сіл сельскай гаспадаркі, прывяла да значнага паглыблення грамадскага падзелу працы, дзе сялянства адыгрывала важную ролю. Вызначальным фактарам эвалюцыі сельскагаспадарчай вытворчасці стала панаванне таварна-грашовых, капіталістычных адносін. Панская гаспадарка ўсё цясней звязвалася з рынкам, станавілася прадпрымальніцкай. Сялянская гаспадарка таксама набыла дробнабуржуазны характар. Пры гэтым у ёй пераважаў дробнатаварны ўклад, звязаны з простай таварнай вытворчасцю. Але ва ўмовах капіталістычнай фармацыі гэта вытворчасць пастаянна параджала капіталістычныя адносіны. Рэформа 1861 г. паклала пачатак працэсу разлажэння сялянства як класа-саслоўя феадальнага грамадства на сялянскую буржуазію (галоўным чынам дробную) і сельскі пралетарыят, пераважна з надзелам.

Вызваліўшы сялян ад улады прыгоннікаў, рэформа паставіла першых у кабальную залежнасць ад тых жа памешчыкаў і дзяржавы. Гэта абумовіла жывучасць і шырокую распаўсюджанасць у Беларусі адпрацовачных, раннекапіталістычных метадаў эксплуатацыі феадальнымі ўласнікамі сялянства і парабкаў, панаванне прускага, буржуазна-панскага шляху развіцця аграрнага капіталізму. Разам з тым тут меліся элементы больш прагрэсіўнага амерыканскага буржуазна-фермерскага шляху. Яны выяўляліся ў гаспадарках сялянскай буржуазіі, заснаваных галоўным чынам на наёмнай працы, якія не практыкавалі кабальных гандлёва-ліхвярскіх прыёмаў прыгнечання. Рэформа 1861 г. не вырашыла аграрна-сялянскага пытання ў Расійскай імперыі, у тым ліку ў Беларусі. Захаванне буйных рэшткаў прыгонніцтва выклікала вострыя класавыя канфлікты ў вёсцы. У выніку развіцця аграрных адносін парэформеннага перыяду сфарміраваліся аб'ектыўныя перадумовы буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905–1907 гг.

## 2. Рэформы дзяржаўных інстытутаў і мясцовага кіравання. Контррэформы

**Сельскае кіраванне. Пытанне аб увядзенні земстваў.** Сялянская рэформа 1861 г. стала важнейшым гістарычным актам прагрэсіўнага значэння. Яна разам з наступнымі дзяржаўнымі рэформамі буржуазнага зместу ўмацавала трывалае становішча Расійскай імперыі сярод буйнейшых сусветных дзяржаў. Таму адмена прыгону ў Расійскай імперыі з'яўлялася рэгіянальнай праявай агульнага гістарычнага працэсу. У той ці іншай форме ў розных краінах адбывалася паступовая ліквідацыя феадальнай залежнасці сялян, у тым ліку прыгонных адносін. У той жа час нельга лічыць рэформу 1861 г. толькі буржуазнай ці прыгонніцкай на падставе таго, што яна ажыццяўлялася царскімі ўладамі і захоўвала памешчыцкае землеўладанне. Гісторыя не мае прыкладаў адмены прыгону "знізу", і нідзе адначасова не былі цалкам пазбаўлены ўласнасці на зямлю былыя прыгоннікі. Асаблівасцю і адначасова важкім доказам на карысць буржуазнага характару адмены прыгоннага права з'яўляецца і тое, што гэты акт быў першым у шэрагу дзяржаўных пераўтварэнняў у кірунку да пабудовы буржуазнага грамадства. Змяняліся не толькі адносіны паміж сялянамі і памешчыкамі, але і лад сялянскага жыцця. Былыя прыгонныя сяляне атрымалі асабістую волю.

Агульнае палажэнне 19 лютага 1861 г. вызначыла новы парадак кіравання сялянамі на ніжэйшым узроўні. Згодна яму на сялянскіх землях

ўводзіліся новыя адміністрацыйныя адзінкі – сельскія грамады і воласці, з выбарнымі службовымі асобамі. Як правіла, тыя сяляне, што раней жылі на землях аднаго памешчыка, складалі адну сельскую грамаду, якая на сходзе выбірала сельскага старасту і, па меры неабходнасці, іншых службовых асоб. Сельскія старасты падпарадкоўваліся валасному праўленню, улада якога пашыралася на сялян вёсак, што адносіліся да аднаго царкоўнага прыходу. На валасных сходах старасты і выбраныя ад сельскай грамады – па адным ад 10 дамоў, выбіралі валаснога старшыню і яго памочнікаў тэрмінам на тры гады.

Колькасць жыхароў у воласці – не менш чым 300 і не больш чым 2000 рэвізскіх душ мужчынскага полу. Найбольшая адлегласць населенага пункта ў воласці да валаснога цэнтра не павінна была перавышаць 13 вёрст[1].

Сельскія старасты і валасныя праўленні загадвалі галоўным чынам раскладкай і зборам падацей і кантралявалі выкананне сялянамі павіннасцей. Органы сельскай улады выконвалі і некаторыя адміністрацыйныя і паліцэйскія функцыі: аб'яўлялі сялянам законы і распараджэнні ўлад, сачылі за парушэннямі грамадскага парадку. За спраўнае выкананне павіннасцей і выплату падаткаў сяляне адказвалі на падставе кругавой парукі.

Староста меў права пакараць вінаватага за нязначныя правіннасці: прызначыць на грамадскую працу тэрмінам да двух дзён, а таксама штраф да аднаго рубля, арышт да двух сутак. Валасны сялянскі суд дзейнічаў на аснове норм і традыцый звычаёвага права. Ён штогод выбіраўся на валасным сходзе. Валасному суду падлягалі маёмасныя спрэчкі паміж сялянамі на суму да 100 руб., а таксама нязначныя правіннасці сялян. Ён мог пакараць вінаватага грамадскай працай да шасці дзён, арыштам да сямі дзён, грашовым спагнаннем да трох рублёў, розгамі да 20 удараў.

Уся выбарная адміністрацыя сельскага самакіравання атрымлівала жалаванне ў памерах, вызначаных грамадой. Апрача таго, яна пазбаўлялася ад натуральных павіннасцей і цялесных пакаранняў, а валасны старшыня і члены яго сям'і (да ваеннай рэформы) – ад рэкруцкай павіннасці.

Сяляне і іх грамадскія ўстановы падпарадкоўваліся агульным губернскім і павятовым упраўленням.

Паводле палажэння ад 1 студзеня 1864 г. у паветах і губернях ствараліся выбарныя земскія ўстановы. Яны павінны былі кіраваць мясцовай земскай гаспадаркай, народнай асветай, медыцынскім абслугоўваннем насельніцтва, мясцовай дабрачыннасцю і нават мелі права арганізаваць мясцовую павятовую пошту. Яны маглі весці земскае страхаванне ад пажараў, прымаць меры па ветэрынарнай ахове, дапамагаць у будоўлі цэркваў. Земствы мелі права вызначаць грашовыя зборы на мясцовыя патрэбы і хадайнічаць перад дзяржаўнай адміністрацыяй аб іх задавальненні. Яны былі абавязаны садзейнічаць грамадзянскім і вайсковым уладам у іх мясцовых мерапрыемствах.

У адрозненне ад былых саслоўных органаў кіравання земствы насілі ўсесаслоўны характар. Усе землеўладальнікі, гандляры і прамыслоўцы, якія мелі нерухомую маёмасць вызначанай каштоўнасці, а таксама сельскія грамады атрымалі права выбіраць сваіх прадстаўнікоў – гласных – на павятовыя земскія сходы. Штогод гэтыя сходы пад кіраўніцтвам павятовага кіраўніка дваранства збіраліся на кароткі тэрмін для абмеркавання гаспадарчых і іншых спраў. Павятовы земскі сход выбіраў пастаянна дзейнічую

---

[1] *Сапилов Е.В.* Крестьянская реформа в России 1861–1866 гг. (Забытые фрагменты). М., 1998. С. 23.

павятовую земскую ўправу ў складзе старшыні і двух членаў. Губернскі земскі сход пад кіраўніцтвам губернскага прадвадзіцеля дваранства таксама штогод збіраўся ў складзе дэпутатаў ад павятовых земскіх сходаў. Губернскі сход выбіраў губернскую земскую ўправу.

Земствы не мелі органаў выканаўчай улады і таму былі абавязаны звяртацца і карыстацца ўрадавым адміністрацыйна-паліцэйскім апаратам. Дзейнасць земстваў знаходзілася пад кантролем мясцовай адміністрацыі, губернатараў і Міністэрства ўнутраных спраў. Земствы былі першым рэальным крокам самадзяржаўя на шляху палітычнай перабудовы Расійскай імперыі. Аднак гэта спроба, як і іншыя палітычныя і грамадскія рэформы, што праводзіліся "зверху", мела вельмі абмежаваны характар і ахоплівала далёка не ўсю тэрыторыю дзяржавы. Згодна з палажэннем 1864 г. земствы ствараліся ў 33 губернях, прычым не адначасова, а па меры іх падрыхтаванасці, якую вызначаў міністр унутраных спраў. Апошняе з 33 дазволеных губернскіх земстваў пачало дзейнічаць толькі з 1871 г.[1]

На землі Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны палажэнні аб земскай рэформе не распаўсюджваліся. Справа ў тым, што як на выбарах, так і ў земскіх установах асноўнай кіруючай фігурай, паводле задумы ўлад, павінны былі стаць мясцовыя памешчыкі. Аднак пасля паўстання 1863 – 1864 гг. царскі ўрад палітычна не давяраў мясцовым памешчыкам "польскага паходжання". Такіх у 1863 г., паводле даных Галоўнага камітэта аб уладкаванні сельскага стану, толькі ў Віленскай губерні было 85 %, у Гродзенскай – 95, у Мінскай – 94 %[2]. Пры выбарах земскіх устаноў менавіта яны надалей ўзялі б іх кіраванне ў свае рукі. Вядома, што для царызму гэта выглядала непрыдатным. Але і на пашырэнне правоў мясцовага сялянства, у першую чаргу павелічэнне вагі сялянскай курыі на выбарах, улады не пайшлі таксама, бо гэта разам з абмежаваннем правоў мясцовых памешчыкаў падрывала асновы дваранскай Расійскай імперыі.

Трэба адзначыць, што рашэнне царскіх улад пакінуць Беларусь па-за сферай дзейнасці земстваў, не выклікала колькі-небудзь прыметнай барацьбы за земствы на месцах. Радыкальныя элементы сярод беларускага дваранства былі абяссілены паражэннем паўстання 1863 г., а беларускіх сялян пытанні новых зямельных і маёмасных адносін цікавілі больш, чым пытанні мясцовага самакіравання і лад грамадскага жыцця.

**Асаблівасці судовай і гарадской рэформаў. Рэформы ў галіне адукацыі і цэнзуры.** Першым крокам да судовай рэформы стала ўвядзенне ў чэрвені 1860 г. судовых следчых, дзякуючы чаму следчыя справы перайшлі ад паліцыі да судовага ведамства. 17 красавіка 1862 г. былі адменены жорсткія цялесныя пакаранні, у тым ліку кляйменне. 29 верасня 1862 г. Аляксандр II зацвердзіў асноўныя палажэнні судовай рэформы.

Згодна з судовымі статутамі, зацверджанымі Аляксандрам II 20 лістапада 1864 г., суд абвяшчаўся публічным і з незалежнымі ад ўрада суддзямі. Незалежнасць суддзяў забяспечвалася іх выбарнасцю, нязменнасцю, забаронай пераводу на іншае месца без асабістай згоды. Кандыдаты на судовыя пасады павінны былі мець адпаведныя адукацыйны і службовы цэнзы. Для ўсіх саслоўяў уводзіўся адзіны акруговы суд. У судовым працэсе прадугледжваўся ўдзел адвакатаў. Дзеля гэтага ствараўся спецыяльны інстытут прысяжных паверaных. Яны выконвалі адвакацкія абавязкі ў судовых справах па крымінальных учынках и па грамадзянскіх справах. Калі падсудны не

---

[1] *Корнилов А.А.* Курс истории России XIX века. М., 1993. С. 312.

[2] *Зайончковский П.А.* Проведение в жизнь крестьянской реформы 1861 г. М., 1958. С. 367.

меў магчымасці заплаціць прысяжнаму паверанаму за яго паслугі, суд вызначаў бясплатнага абаронцу. Пытанне аб вінаватасці падсуднага вырашала калегія з 12 прысяжных засядацеляў, якіх выбіралі па жэрабю з "мясцовых абывацеляў усіх саслоўяў".

Для разгляду дробных злачынстваў і нязначных па памерах іскаў быў створаны міравы суд са спрошчаным судаводствам. Міравыя суддзі выбіраліся на земскіх і гарадскіх сходах гласных. Для кандыдатаў на гэту пасаду быў вызначаны ўзроставы (не маладзей за 26 гадоў), маёмасны і адукацыйны цэнзы. Тэрыторыя, падсудная міравому суду, складала міравы ўчастак – звычайна валасцей. Рашэнні міравых суддзяў маглі быць апратэставаны ў павятовы суд міравых суддзяў.

Найбольш важныя справы разглядалі акруговыя суды, якія падзяляліся на грамадзянскія і крымінальныя. Склад акруговага суда назначаўся імператарам па прадстаўленню міністра юстыцыі. Апеляцыйнай інстанцыяй для акруговых судоў служылі судовыя палаты, якія стаялі на чале судовых акругоў. Вышэйшай судовай інстанцыяй прызначаўся Сенат. Увядзенне судовых статутаў пачалося ў 1866 г. са стварэння судовых акругоў Пецярбургскай і Маскоўскай судовых палат.

Судовая рэформа была значным крокам на шляху да правазога грамадства і нават лічыцца найбольш "радыкальнай" з усіх рэформаў 60–70-х гг.[1] Але яна была непаслядоўнай, праводзілася не на ўсёй тэрыторыі дзяржавы і захоўвала некаторыя старыя элементы, у прыватнасці нормы звычаёвага права.

Судовая рэформа ў Беларусі была праведзена са значным спазненнем і адступленнямі ад палажэння 1864 г. У 1872 г. тут былі ўведзены міравыя суды. Аднак беларускія губерні не мелі земскіх устаноў, на якіх, згодна з палажэннем 1864 г., выбіраліся міравыя суддзі. Таму на гэтыя пасады міністрам юстыцыі назначаліся тыя, у чыёй палітычнай надзейнасці была ўпэўнена мясцовая адміністрацыя. Такім чынам, судовая рэформа ў Беларусі была пазбаўлена адной з істотных адзнак – выбарнасці суддзяў.

Акруговыя суды, судовыя палаты, пракуратура і адвакатура ў асобах прысяжных павераных у беларускіх губернях таксама былі ўведзены са спазненнем, ужо пасля значнага звужэння царызмам судовай рэформы 1864 г. Толькі ў 1883 г. была ўтворана Віленская судовая палата, якая стаяла на чале акруговых судоў Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай губерняў. Акруговы суд Віцебскай губерні падпарадкоўваўся Пецярбургскай судовай палаце, Магілёўскай губерні – Кіеўскай судовай палаце[2].

Пасля земскай рэформы ўлады пайшлі на стварэнне новых формаў гарадской адміністрацыі. 18 чэрвеня 1870 г. было выдадзена гарадавое палажэнне, якое ўвяло ўсесаслоўнае мясцовае самакіраванне ў гарадах. Па прускаму прыкладу ўсе жыхары, якія плацілі гарадскія падаткі, падзяляліся на тры групы адпаведна з памерамі гэтых падаткаў. Кожная група выбірала ў гарадскую думу аднолькавую колькасць гласных. Гласныя гарадской думы выбіралі са свайго асяроддзя гарадскога галаву і членаў гарадской управы. У негубернскіх гарадах асобы, абраныя на пасаду гарадскога галавы, зацвярджаліся губернатарамі, у губернскіх – міністрам унутраных спраў.

---

[1] *Литвак Б.Г.* Переворот 1861 года в России: почему не реализовалась реформаторская альтернатива. М., 1991. С. 216; *Захарова Л.Г.* Самодержавие и реформы в России. 1861–1874 (К вопросу о выборе пути развития) // Великие реформы в России. 1856–1874. М., 1992. С. 39.

[2] *Литвак Б.Г.* Переворот 1861 года в России: почему не реализовалась реформаторская альтернатива. С. 225.

Гарадская дума збіралася па меры неабходнасці, гарадская ўправа дзейнічала як пастаянны выканаўчы орган. Быў усталяваны чатырохгадовы тэрмін паўнамоцтваў гласных. За дзейнасцю гарадскіх дум і ўпраў назірала губернскае па гарадавых справах "присутствие" пад старшынствам губернатара.

Гарадавое палажэнне 1870 г. захавала старое дзяленне гараджан на купцоў з іх гільдыямі і рамеснікаў з іх цэхамі. Права браць удзел у выбарах дазвалялася мужчынам ва ўзросце не менш чым 25 гадоў. Не мелі выбарчых правоў жанчыны. Па-за выбарчай сістэмай заставалася пераважная колькасць наемных рабочых і асоб так званай разумовай працы – чыноўнікі, інжынеры, урачы, выкладчыкі і г.д., таму што большасць з іх здымала кватэры і не мела неабходнай для ўдзелу ў выбарах нерухомай маёмасці, якая падлягала абкладанню падаткамі. Гэта абмяжоўвала ўсесаслоўнасць гарадскога самакіравання.

Як і земствы, новы парадак гарадскога самакіравання ўводзіўся паступова, спачатку толькі ў 41 губернскім горадзе і чатырох партовых гарадах[1]. У цэлым новае палажэнне пераканаўча сведчыла, што гарады з адміністрацыйных цэнтраў паступова сталі ператварацца ў цэнтры гаспадарчай дзейнасці.

Падобна іншым рэформам, напрамак у бок усесаслоўнасці мелі і рэформы ў галіне адукацыі. Школьная рэформа праводзілася паводле "Палажэння аб пачатковых народных вучылішчах" і Статута гімназій і прагімназій 1864 г. Сетка пачатковых школ пашыралася. Сярэднюю адукацыю давалі класічныя і рэальныя гімназіі (з 1871 г. пераўтвораны ў рэальныя вучылішчы, тэрмін навучання ў іх скарочаны з 7 да 6 гадоў). Выпускнікам класічных гімназій давалася права паступлення ва універсітэты без уступных экзаменаў, рэальных гімназій – у тэхнічныя інстытуты.

Універсітэцкая рэформа тычылася беларускіх зямель ускосна, бо яны на той час не мелі вышэйшых навучальных устаноў. З 1862 г. аднавілася практыка замежных камандзіровак за дзяржаўны кошт для універсітэцкіх вучоных[2]. У 1863 г. урад выдаў новы універсітэцкі статут, згодна з якім універсітэты атрымалі шырокую аўтаномію. Савет прафесараў меў права выбіраць усіх службовых асоб універсітэцкай адміністрацыі і прафесараў на вакантныя пасады. Пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы адмяняліся саслоўныя абмежаванні. У 70-х гг. пачалі дзейнічаць першыя прыватныя вышэйшыя жаночыя курсы з праграмамі універсітэцкага навучання.

4 студзеня 1864 г. было прынята новае палажэнне аб вучоных ступенях і званнях, больш прагрэсіўнае, чым былое палажэнне ад 6 красавіка 1844 г. Згодна яму была павялічана колькасць магістратур і колькасць разрадаў дактароў навук, адмяняліся іспыты на доктарскую ступень. Уводзілася публічная абарона дысертацый і магчымасць удзельнічаць у дыспуце ўсім жадаючым[3]. Гэта разам з правам, дадзеным універсітэтам Статутам 1863 г., зацвярджаць усе вучоныя ступені (кандыдата, магістра, доктара), што раней належала вышэйстаячым установам, значна спрашчала працэдуру атрымання вучоных ступеняў і стварала падставы для павелічэння колькасці навуковых і педагагічных кадраў[4].

У цэлым, нягледзячы на абмежаванні, рэформы ў галіне адукацыі аб'ектыўна спрыялі пашырэнню пісьменнасці, павелічэнню колькасці спецы-

---

[1] *Нардова В.А.* Городское самоуправление в России после реформы 1870 г. // Великие реформы в России. 1856–1874. М., 1992. С. 228.

[2] *Соболева Е.В.* Организация науки в пореформенной России. Л., 1983. С. 219–222.

[3] *Иванов А.Е.* Ученые степени в Российской империи. XVIII – 1917 г. М., 1994. С. 165.

[4] *Соболева Е.В.* Организация науки в пореформенной России. С. 193–194, 201.

ялістаў з сярэднім і вышэйшым адукацыйным цэнзам, развіццю навукі і культуры.

6 красавіка 1865 г. былі зацверджаны часовыя Правілы аб друку. Яны адмянялі папярэднюю цэнзуру для арыгінальных твораў памерам не менш чым 10 друкаваных аркушаў, для перакладаў – 20 друкаваных аркушаў. Кніжныя выданні меншых памераў, што прызначаліся для шырокага кола чытачоў, павінны былі праходзіць папярэднюю цэнзуру. Перыядычныя органы друку маглі быць вызвалены ад папярэдняй цэнзуры пры ўмове ўнясення вялікага грашовага закладу і пасля атрымання спецыяльнага дазволу міністра ўнутраных спраў. Выдаўцы і рэдактары вызваленых ад папярэдняй цэнзуры перыядычных выданняў неслі адказнасць толькі праз суд. Аднак асобныя правілы прадугледжвалі ў некаторых выпадках адміністрацыйныя спагнанні на перыядычныя органы друку аж да забароны іх выдання. Аднак яны датычыліся толькі тых, якія знаходзіліся ў Пецярбургу і Маскве, а для правінцыяльных газет і часопісаў па-ранейшаму існавала папярэдняя цэнзура.

У Беларусі ў 60-я гг. XIX ст. дзейнічалі палажэнні асобных цыркуляраў віленскіх генерал-губернатараў М. Мураўёва і К. Каўфмана, згодна з якімі друк поўнасцю аддаваўся пад нагляд і кантроль мясцовай адміністрацыі. Толькі ў 1869 г. было вырашана скасаваць некаторыя надзвычайныя меры і распаўсюдзіць на беларускія губерні агульныя законы аб друку[1].

**Ваенная рэформа.** Ваенная рэформа, пачатая ў 1862 г., стала падмуркам перабудовы царскай арміі і флоту. На тэрыторыі імперыі былі ўтвораны 15 ваенных акруг. Беларускія губерні ўвайшлі ў склад Віленскай ваеннай акругі. Пашыралася сетка ваенных вучылішч, кадэцкія карпусы пераўтвараліся ў ваенныя гімназіі, з 1864 г. ствараліся юнкерскія вучылішчы.

1 студзеня 1874 г. была ўведзена ўсеагульная воінская павіннасць для мужчын, якія дасягнулі 20-гадовага ўзросту. Выключэнне складала карэннае насельніцтва Сярэдняй Азіі, Казахстана, Сібіры, Поўначы і Вялікага княства Фінляндскага. Вызваляліся ад вайсковай службы тыя маладыя людзі, якія з'яўляліся адзінымі кармільцамі ў сям'і, хрысціянскае і мусульманскае духавенства, вучоныя і некаторыя іншыя нязначныя па колькасці катэгорыі насельніцтва. Асобы іудзейскага веравызнання не падлягалі прызыву на флот. Адбор прызыўнікоў вёўся па жэрабю, астатнія залічаліся ў так званае апалчэнне. На вайсковую службу пападала прыкладна трэць мужчын прызыўнога ўзросту. Была магчымасць пайсці на вайсковую службу і добраахвотна.

Тэрмін абавязковай службы ў арміі складаў шэсць, на флоце – сем гадоў. Пры наяўнасці адукацыйнага цэнзу тэрмін службы зніжаўся: для выпускнікоў ВНУ – да шасці месяцаў, гімназій – 1,5 года, гарадскіх вучылішч – трох, пачатковых школ – чатырох гадоў. Звольненыя ў запас складалі мабілізацыйны рэзерв: дзевяці гадоў у арміі і тры гады на флоце. Істотным момантам з'яўлялася тое, што пачынаючы з 1875 г. непісьменныя за гады вайсковай службы абавязкова вучыліся грамаце.

Хоць фармальна саслоўны характар царскай арміі і флоту адышоў ў нябыт, на самай справе служба ў афіцэрскіх чынах заставалася пераважна прывілегіяй дваранскага саслоўя і, такім чынам, захоўвала каставы характар[2]. Увядзенне ўсеагульнай воінскай павіннасці і паслядоўнасць выканан-

---

[1] *Бярозкіна Н.Ю.* Гісторыя кнігадрукавання Беларусі (XVI – пачатак XX ст.): 2-е выд. Мн., 2000. С. 92.

[2] *Зайончковский П.А.* Офицерский корпус русской армии перед первой мировой войной // Вопросы истории. 1981. № 4. С. 22, 28 – 29.

ня вайсковай рэформы зрабілі яе найбольш удалай і дасканалай сярод усіх рэформаў 60–70-х гг.

**Контррэформы. Рэжым выключных законаў у Беларусі.** Рэформы 60–70-гг. значна змянілі сацыяльна-эканамічны лад і грамадскае аблічча Расійскай імперыі, але, праводзімыя "зверху", яны, вядома, не мелі і не маглі мець усеагульнага характару. Па-за працэсам перабудовы і рэфармавання засталіся вышэйшыя органы дзяржаўнай улады, цэнтральная адміністрацыя і ўлада манарха. Адсутнічалі змены і ў нацыянальнай палітыцы царызму. Ліберальныя намаганні самадзяржаўя сутыкнуліся спачатку з антыўрадавымі дэманстрацыямі і пракламацыямі, паўстаннем 1863–1864 гг., а потым і з тэрарыстычнымі актамі радыкальных рэвалюцыйных колаў. 4 красавіка 1866 г. былы студэнт Д. Каракозаў здзейсніў замах на жыццё імператара Аляксандра II. Усё гэта значна ўзмацніла і без таго ўплывовую пазіцыю праціўнікаў рэформаў і рэакцыянераў. У канцы красавіка 1866 г. Аляксандр II аддаў загад аб стварэнні Асобай камісіі "для изыскания всякого рода мер для всех управлений"[1]. Гэта стала першым крокам на шляху контррэформаў, хаця адначасова працягвалася праца і па рэфармаванню грамадскага і дзяржаўнага жыцця.

У 1866 г. суддзі былі падначалены ўладзе губернатара, з вядзення акруговых судоў забралі справы аб парушэнні цэнзурных правілаў. У 70-х гг. урад змяніў парадак судаводства па палітычных справах. У 1878 г. разгляд спраў аб антыўрадавых выступленнях быў перададзены з суда прысяжных у судовыя палаты і нават у выключных выпадках у ваенныя суды. Законы ад 12 чэрвеня 1884 г. і 28 красавіка 1887 г. павялічылі адміністрацыйны нагляд за фарміраваннем складу прысяжных[2]. Закон ад 12 лютага 1887 г. фактычна адмяніў публічнасць суда і даў міністру юстыцыі права паводле свайго меркавання абвяшчаць судовыя пасяджэнні закрытымі[3].

Згодна з новым "Палажэннем аб корпусе жандараў", зацверджаным 9 верасня 1867 г., асновай жандарскага ведамства сталі губернскія жандарскія ўпраўленні і наглядальны склад корпуса жандараў. Пры гэтым у Паўночна-Заходнім краі апрача губернскіх жандарскіх упраўленняў ствараліся і 50 павятовых. Закон 19 мая 1871 г. значна пашырыў паўнамоцтвы жандарскіх упраўленняў у справах вядзення пошуку і расследавання дзяржаўных злачынстваў. Раней чыны корпуса жандараў дзейнічалі на аснове інструкцый. Зараз яны атрымалі законнае права на негалоснае назіранне, агляды, вобыскі, канфіскацыю дакументаў і матэрыялаў у ходзе следства.

За пачатковай школай быў узмоцнены адміністрацыйны нагляд. З гэтай мэтай у 1869 г. уводзілася пасада інспектара народных вучылішч, у 1874 г. – дырэктара народных вучылішч. 13 чэрвеня 1884 г. было выдадзена палажэнне аб царкоўнапрыходскіх школах. Яны засноўваліся нароўні з земскімі і падпарадкоўваліся духоўнаму ведамству. На афіцыйным узроўні неаднаразова падкрэслівалася жаданне павялічыць колькасць царкоўнапрыходскіх школ.

У пачатку 70-х гг. былі прыняты меры з мэтай абмежаваць доступ да сярэдняй і асабліва вышэйшай адукацыі асобам недваранскага паходжання.

---

[1] *Оржеховский И.В.* Самодержавие против революционной России (1826–1880 гг.). М., 1982. С. 100.

[2] *Афанасьев А.К.* Присяжные заседатели в России. 1866–1885 гг. // Великие реформы в России. 1856–1874. М., 1992. С. 199–200.

[3] *Троицкий Н.А.* Царизм под судом прогрессивной общественности: 1866–1895 гг. М., 1979. С. 48–49.

"Правілы для студэнтаў імператарскіх расійскіх універсітэтаў", прынятыя ў 1879 г., ставілі студэнцтва пад жорсткі кантроль[1]. У 1884 г. новы універсітэцкі статут знішчыў універсітэцкую аўтаномію. Згодна яму рэктары універсітэтаў прызначаліся ўрадам, тое ж датычылася і прафесараў. Праграмы выкладання павінны былі зацвярджацца Міністэрствам народнай асветы, для кантролю за паводзінамі студэнтаў ствараласяя асобая інспекцыя.

Царызм павёў наступ і на рэформу цэнзуры – самую абмежаваную і непаслядоўную з усіх рэформаў. У канцы мая 1866 г. "по высочайшему повелению" былі закрыты радыкальныя часопісы "Современник" і "Русское слово". З мэтай усталяваць жорсткі кантроль, у першую чаргу над палітычным зместам друку, з 1873 г. міністру ўнутраных спраў было дазволена спыняць на неакрэслены час выданне перыядычных органаў. Праз шэсць гадоў такія паўнамоцтвы атрымалі і генерал-губернатары. Правілы аб друку ад 28 жніўня 1882 г. канчаткова засведчылі курс улад на ўзмацненне цэнзурных забарон.

Пасля забойства Аляксандра II 14 жніўня 1881 г. было зацверджана "Палажэнне аб мерах па ахове дзяржаўнай бяспекі і грамадскага спакою". Згодна гэтаму закону любая мясцовасць магла быць абвешчана на надзвычайным становішчы, а кожны яе жыхар – зняволены, сасланы без суда на пяць гадоў, аддадзены ваеннаму суду. Мясцовая адміністрацыя атрымала права закрываць навучальныя ўстановы, гандлёвыя і прамысловыя прадпрыемствы, прыпыняць дзейнасць земстваў і гарадскіх дум, забараняць органы друку. Выдадзенае як "часовае", тэрмінам на тры гады, гэта "Палажэнне..." узнаўлялася па заканчэнні кожнага трохгоддзя і дзейнічала да 1917 г.[2] 3 снежня 1882 г. Аляксандр III зацвердзіў "Палажэнне аб упарадкаванні сакрэтнай паліцыі ў Расійскай імперыі"[3].

12 ліпеня 1889 г. было прынята "Палажэнне аб земскіх участковых начальніках". Яны прызначаліся губернатарамі з мясцовых дваран, па ўзгадненню з губернскімі і павятовымі прадвадзіцелямі дваранства, і зацвярджаліся міністрам унутраных спраў. У руках земскіх начальнікаў спалучалася адміністрацыйная і судовая ўлада над сялянамі. У беларускіх губернях – Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай – інстытут земскіх начальнікаў уводзіўся па палажэнню ад 12 чэрвеня 1900 г. замест павятовых па сялянскіх справах прысутнінцтваў[4].

Новае Гарадавое палажэнне, прынятае 11 чэрвеня 1892 г., у цэлым захоўвала старыя прынцыпы гарадскога самакіравання, але значна павысіла маёмасны цэнз для выбаршчыкаў, што істотна скараціла іх колькасць. Напрыклад, у Мінску ў 1893 г. такое права мелі 248 чалавек, што складала ўсяго 0,28 % жыхароў горада[5].

---

[1] *Зайончковский П.А.* Кризис самодержавия на рубеже 1870–1880 годов. М., 1964. С.120–122.

[2] *Зайончковский П.А.* Кризис самодержавия на рубеже 1870–1880 годов. С. 402–407; *Захарова Л.Г.* Россия на переломе (Самодержавие и реформы 1861–1874 гг.) // История Отечества: люди, идеи, решения. Очерки истории России IX – начала XX в. М., 1991. С. 323.

[3] *Троицкий Н.А.* Царизм под судом прогрессивной общественности: 1866–1895 гг. С. 36–37.

[4] *Самбук С.М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века. Мн., 1980. С.98

[5] *Шибеко З.В.* Минск в конце XIX – начале XX в. Очерк социально-экономического развития. С. 88.

Увядзенне рэжыму контррэформаў амаль не закранула беларускія губерні, бо большасць рэформаў 60–70-х гг. уводзілася ў Беларусі са спазненнем і значнымі абмежаваннямі. Такім чынам, магчыма меркаваць, што Беларусь, не зведаўшы рэформаў у поўным памеры, адразу сутыкнулася з контррэформамі.

У барацьбе з паўстаннем 1863–1864 гг. царскі ўрад выкарыстаў рэжым выключных законаў. Заходні край быў абвешчаны на ваенным становішчы. Паводле законаў ваеннага часу мужчынскае насельніцтва, за выключэннем сялян, не мела права без дазволу ўлад пакідаць месца свайго жыхарства больш чым на 30 вёрст[1].

Ваеннае становішча адмянялася паступова (з 1866 па 1870 г.), пачынаючы з усходніх губерняў Беларусі. Толькі ў 1868 г. былі скасаваны следчыя камісіі і спынена следства па справах за ўдзел у паўстанні 1863 г. У 1883 г. у сувязі з каранаваннем Аляксандра III былі амнісціраваны і атрымалі права вярнуцца на радзіму яго ўдзельнікі.

У Беларусі да ліку выключных законаў трэба дадаць спробы царызму выкарыстаць эканамічныя рычагі ў барацьбе з "мяцежным краем". Першым крокам у гэтым напрамку стала ўвядзенне паводле ўказу ад 15 сакавіка 1863 г. практыкі секвестравання маёмасці асоб, што знаходзіліся пад следствам або дапамагалі паўстанцам. Секвестраваныя маёнткі паводле закону ад 10 снежня 1865 г. належалі прымусоваму продажу "асобам рускага паходжання". Па загаду цара ад 5 жніўня 1863 г. і на падставе ваенна-крымінальнага статута праводзілася канфіскацыя зямельнай маёмасці ўдзельнікаў паўстання 1863 г. Такое становішча існавала да 11 мая 1873 г., калі новае распараджэнне цара спыніла незавершаныя судовыя справы аб канфіскацыі.

Мясцовыя памешчыкі былі абкладзены дадатковым зборам у памерах 10 % ад прыбытку. Для тых дваран, якія мелі дамы ў гарадах, такі кантрыбуцыйны збор складаў 1 % ад іх кошту. З грошай, атрыманых па гэтых сборах, мясцовым царскім чыноўнікам плацілі 50 % надбаўкі да жалавання, утрымлівалі жандарскія каманды, будавалі і рамантавалі праваслаўныя цэрквы. Кантрыбуцыйныя зборы былі адменены толькі ў 1897 г.[2] Часцей за ўсё такія меры выкарыстоўваліся на акупіраваных тэрыторыях, што яскрава сведчыць пра стан беларуска-літоўскіх губерняў у складзе Расійскай імперыі.

"Асобы польскага паходжання" ў Беларусі, Правабярэжнай Украіне і Літве ў сярэдзіне 60-х гг. XIX ст. паводле палажэння ад 5 сакавіка 1864 г. і інструкцыі ад 23 ліпеня 1865 г. былі пазбаўлены права арэнды казённых, а таксама прыватнаўласніцкіх зямель, набытых іх уладальнікамі на льготных умовах, вызначаных царызмам з мэтай пашырэння "рускага" землеўладання. Пазней, згодна з законам ад 10 снежня 1865 г., у Беларусі, Літве і на Правабярэжнай Украіне яны наогул пазбаўляліся права набываць зямельную маёмасць, акрамя пераходу яе па спадчыне. Законам ад 27 снежня 1884 г. у сельскай мясцовасці ім забаранялася таксама арандаваць нерухомую маёмасць (у тым ліку зямельную) усіх відаў. Тыя, хто заключыў арэндныя пазямельныя кантракты раней, пазбаўляліся агульнаўстаноўленага права іх прадаўжэння на тэрмін ад 12 да 36 гадоў. Выключэнне складалі толькі арандатары маёнткаў, якія заснавалі ў іх фабрычна-заводскія прадпрыемствы. Ім дазвалялася заключаць арэндны дагавор і працягваць тэрмін яго дзеяння да 30 гадоў.

---

[1] *Самбук С.М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века. С. 25.
[2] Там жа. С. 26, 70.

Такім чынам, меры, накіраваныя супраць беларускіх памешчыкаў і землеўласнікаў "польскага паходжання", пераважна дваран, з аднаго боку, былі складанай часткай выключных законаў, з другога – падкрэслівалі гістарычную асаблівасць Беларусі як асобнага рэгіёна, дзе ва ўмовах панавання царызму яго апора – непадатнае дваранства – была павінна плаціць падаткі надзвычайнага характару, а яго маёмасныя правы на зямлю і яе набыццё былі абмежаваны.

У параўнанні з сістэмай кіравання ў цэнтральных расійскіх губернях у Беларусі ўсталявалася і захоўвалася шмат адрозненняў. Вядома, што гэта выходзіла насуперак намаганням царскіх улад прывесці беларускія землі да агульнаімперскага ладу, сцерці ўсялякі напамін аб "пальшчызне", русіфікаваць Беларусь і уніфікаваць яе з вялікарасійскімі губернямі. Нават генерал-губернатарствы, якія ўяўлялі своеасаблівыя "дзяржавы ў дзяржаве", з аднаго боку, ажыццяўлялі ўсю паўнату ўлады на месцах, з другога – парушалі прынцып цэнтралізацыі ўлады і адзінства яе дзеянняў.

## 3. Канфесіянальная палітыка ўлад

**Узмацненне ролі праваслаўнай царквы.** У выніку канфесіянальнай палітыкі першай паловы XIX ст. большая частка насельніцтва Беларусі стала праваслаўнай.

Праваслаўнай царкве надавалася значная роля ў ажыццяўленні палітыкі русіфікацыі, якая ажывілася пасля паўстання 1863–1864 гг. У гэтым паўстанні праваслаўнае духавенства праявіла сябе як "надзейная народная сіла", якая цалкам выступіла на баку царскага ўрада.

Для ўзмацнення пазіцый праваслаўнай царквы ў беларуска-літоўскіх губернях улады прымалі не толькі заканадаўчыя меры. Хуткімі тэмпамі будаваліся і рамантаваліся праваслаўныя храмы, пераводзіліся з унутраных губерняў святары. Для праваслаўных цэркваў прыстасоўвалі закрытыя пасля паўстання касцёлы. Аб маштабах царкоўнага будаўніцтва ў Беларусі красамоўна сведчаць наступныя лічбы. За 25 гадоў, што прайшлі пасля паўстання, за кошт дзяржаўных крэдытаў на царкоўнабудаўнічую справу былі пабудаваны і адрамантаваны: у Мінскім павеце – 30 прыходскіх цэркваў, у Барысаўскім – 44, у Ігуменскім – 15, у Навагрудскім – 22, у Слуцкім – 23, у Бабруйскім – 35 і інш., а ўсяго па Мінскай губерні – 211 праваслаўных храмаў[1].

Канфесіянальная палітыка царызму ў 60 – 90-я гг. XIX ст. адносна беларускіх зямель садзейнічала таму, што колькасць праваслаўных вернікаў тут значна ўзрасла. За некалькі гадоў пасля паўстання ў цэлым па Расійскай імперыі праваслаўнымі сталі больш за 80 тыс. католікаў. Большая частка гэтых пераходаў прыпадала на Літоўскую (ахоплівала Віленскую, Гродзенскую і Ковенскую губерні) і Мінскую епархіі – адпаведна 30 і 37 тыс. чалавек[2]. Многія пераходы адбываліся пад прымусам, у выніку шантажу і падману. Садзейнічала гэтаму і даванне розных правоў, прывілеяў эканамічнага характару.

Рост колькасці праваслаўнага насельніцтва ішоў даволі інтэнсіўна на працягу ўсіх 60–90-х гг., хаця масавыя пераходы цэлымі прыходамі

[1] НГАБ у Мінску, ф.43, воп.1, спр.255, арк.10 адв. – 13.

[2] Отечественная церковь по статистическим данным с 1840 – 41 по 1890 – 91 гг. СПб., 1897. С. 51.

спыніліся. Ён пераважаў над ростам колькасці насельніцтва ўсіх хрысціянскіх веравызнанняў, і ў першую чаргу каталікаў (табл. 6).

*Табліца 6.* **Прырост колькасці праваслаўных і каталікаў за 1864–1897 гг., тыс. чалавек***

| Губерня | Праваслаўныя | | | Каталікі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1864 г. | 1897 г. | прырост 1864 г. = 100 % | 1864 г. | 1897 г. | прырост 1864 г. = 100 % |
| Віленская | 119,1 | 415,3 | 348,7 | 607,5 | 935,8 | 154,0 |
| Віцебская | 444,9 | 825,6 | 185,6 | 230,2 | 357,3 | 155,2 |
| Мінская | 716,4 | 1558,3 | 217,5 | 179,9 | 217,9 | 121,1 |
| Магілёўская | 738,3 | 1402,2 | 189,9 | 43,0 | 50,1 | 116,5 |
| Гродзенская | 483,4 | 913,3 | 188,9 | 273,1 | 386,5 | 141,5 |
| Усяго | 2502,1 | 5114,7 | 204,4 | 1333,7 | 1947,6 | 146,0 |

*Наличное население обоего пола по уездам и городам, с указанием преобладающих вероисповеданий и главнейших сословий. Б.м., 1905. С. 3, 4, 8, 17; Атлас народонаселения Западно-русского края по исповеданиям.

Нават калі браць пад увагу, што статыстычныя даныя, якія збіраліся афіцэрамі Генеральнага штаба ў пачатку 60-х гг. і былі пакладзены ў аснову "Атласа народонаселения Западно-Русского края по исповеданиям" былі не вельмі дакладнымі, тэндэнцыя прасочваецца даволі выразна. Калі ў пачатку 60-х гг. у пяці губернях было 2502,1 тыс. праваслаўных і 1333,7 тыс. каталікаў (г. зн. на аднаго каталіка прыходзілася амаль два праваслаўных), то к канцу XIX ст. суадносіны на карысць праваслаўных павялічыліся яшчэ больш. Згодна з перапісам 1897 г. колькасць праваслаўных і аднаверцаў складала 60 % ад агульнай колькасці насельніцтва пяці губерняў (па 35 беларускіх паветах гэта лічба склала 4599,4 тыс. і 70,8 %).



Мінск. Кафедральны сабор. XIX ст.



Касцёл у в. Сар'я. Малюнак Н. Орды

У мэтах распаўсюджання і замацавання праваслаўнай веры было вырашана адрадзіць брацкі рух. У 1864 г. былі зацверджаны асноўныя правілы для заснавання праваслаўных царкоўных брацтваў. Найбольш вядомымі з іх у Беларусі сталі брацтвы ў Полацку, Магілёве, Віцебску. За дзесяць гадоў дзейнасці Полацкае брацтва падрыхтавала на свае сродкі 20 народных настаўнікаў, аказвала дапамогу жаночай бясплатнай школе ў Полацку, утрымлівала багадзельню на 10–12 чалавек. Брацтва штогод дапамагала бедным вучням Полацкага духоўнага вучылішча, выплачвала 13 стыпендый вучням Полацкай настаўніцкай семінарыі[1].

Гэтым жа мэтам – зацвярджэнню пазіцый праваслаўя ў беларускіх губернях – служылі і праваслаўныя манастыры. Царскія ўлады разглядалі манастыры як "расаднікі веры, набожнасці і рускіх асноў сярод тутэйшага праваслаўнага насельніцтва" і таму надавалі ўвагу іх развіццю. Тым не менш, нягледзячы на тое што ў 60 – 90-я гг. было заснавана некалькі манастыроў, агульная іх колькасць у Беларусі зменшылася. Адбывалася гэта таму, што закрываліся невялікія манастыры, якія з-за сваёй беднасці і малалікасці манахаў не маглі аказваць ніякага ўплыву на мясцовае насельніцтва, затое ўмацоўваліся астатнія. Значная частка манастыроў у 90-я гг. налічвала ў сваім штаце 50 і больш чалавек. Манастыры садзейнічалі аднаўленню брацтваў, стварэнню брацкіх школ, вялі выдавецкую дзейнасць, адкрывалі прытулкі і багадзельні.

**Рэпрэсіўныя меры супраць каталіцкага касцёла.** У адрозненне ад праваслаўнай царквы, пазіцыі якой у 60–90-я гг. значна ўзмацніліся, каталіцкая царква працягвала страчваць свой былы ўплыў у Беларусі. Больш таго, у палітыцы расійскага ўрада адносна каталіцкай царквы адбыліся даволі істотныя перамены. Яны былі выкліканы той пазіцыяй, якую займала каталіцкае духавенства ў паўстанні, а менавіта: большасць ксяндзоў і манахаў апынулася на баку паўстанцаў ці шчыра спачувала ім.

---

[1] Полоцкие епархиальные ведомости за 1878 год. Витебск, 1878. С. 72, 117, 128.

У адказ урад павёў у адносінах да каталіцкай царквы ў Беларусі больш мэтанакіраваную і жорсткую лінію. Галоўнай яе мэтай стала змяншэнне ўплыву каталіцкага духавенства на мясцовае насельніцтва. Жорсткасць жа праяўлялася ў тых метадах, якімі гэта палітыка ажыццяўлялася на практыцы. Шырока праводзіліся рэпрэсіўныя меры супраць каталіцкага духавенства, што прыняло ўдзел у паўстанні, адбывалася скасаванне касцёлаў і кляштараў і перавод рознымі шляхамі вернікаў у праваслаўе, прымаліся абмежавальныя законы ў адносінах да дзейнасці каталіцкай царквы.

За ўдзел у паўстанні на Літве і Беларусі восем каталіцкіх святароў былі пакараны смерцю. Прычым кожны другі – толькі за чытанне рэвалюцыйнага маніфеста[1]. Дзесяткі ксяндзоў былі сасланы ў Сібір або ва ўнутраныя губерні Расіі, пазбаўлены сана, панеслі іншыя пакаранні.

Да рэпрэсіўных мер, што прымяняліся да каталіцкай царквы, адносілася і закрыццё касцёлаў і кляштараў. За 1864 – 1867 гг. па Віленскай і Гродзенскай губернях іх было скасавана 140[2]. У Ашмянскім дэканаце ў канцы 1866 г. дзейнічала толькі дзевяць касцёлаў і капліц, у той час як у 1864 г. іх было 17. У Гродзенскім дэканаце з 25 касцёлаў і капліц засталося 11, у Лідскім – 13 з 20, у Кобрынскім – 2 з 7, у Слонімскім – 5 з 33 і г.д.[3] Яшчэ больш рашучыя меры прымяняліся да кляштараў. У выніку к канцу XIX ст. у беларускіх губернях засталося толькі два мужчынскія кляштары (з пяццю манахамі) і тры жаночыя (з 35 манашкамі). Агульная колькасць касцёлаў і капліц склала 466, колькасць каталіцкіх святароў – 505. Паменшылася колькасць каталіцкіх вернікаў.

У мэтах паслаблення ўплыву каталіцкіх святароў на беларускі народ быў распрацаваны план пад назвай "распалячванне касцёла". Сутнасць яго зводзілася да таго, каб увесці ў каталіцкіх касцёлах беларускіх губерняў рускую мову замест польскай у дадатковае набажэнства і казанні.

Адносіны расійскага грамадства да гэтага плана не былі аднолькавымі. Адны лічылі, што касцёл павінен заставацца польскім, баючыся, што ўвядзенне рускай мовы аўтаматычна паставіць у раўнапраўнае становішча католікаў-палякаў з праваслаўнымі. А гэта, маўляў, зусім не будзе спрыяць праваслаўю і абрусенню краю. Прыхільнікі распалячвання касцёла сцвярджалі: беларусы – гэта тыя ж рускія, і іх трэба паступова русіфікаваць, каб у хуткім часе схіліць у праваслаўе. Такім чынам, і адны, і другія падтрымлівалі палітыку русіфікацыі ў адносінах да беларусаў. Разыходзіліся яны толькі ў метадах яе ажыццяўлення.

Што ж тычылася адносін да гэтай ідэі саміх беларусаў-католікаў, тут вельмі трапна сказаў у свой час ксёндз А. Станкевіч: "Для народа было ўсё роўна: чужая мова польская, чужая мова і расійская. Але да польскай ён быў ужо прывыкшы. Ды і ўсё ўціскanае, крыўджанае, як заўсёды бывае, многа ў сабе мае маральнай сілы і красы"[4].

---

[1] Аддзел рукапісаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі (С.-Пецярбург), ф.629, спр.186, арк. 1, 12, 23, 26, 38, 52.

[2] *Ważyński A.* Litwa pod względom prześladowania w niej rzymsko-katolickiego kościoła. Posnań, 1897. S. 12–53.

[3] ГА Літвы, ф. 604, воп. 5, спр. 397, арк. 31–37; ф. 604, воп. 1, спр. 4839, арк. 21–33; спр. 4872, арк. 1, 2.

[4] *Stankiewicz Ad.* Rodnaja mowa u swiatyniach. Wilna, 1929. S. 57.

Таксама не былі аднароднымі і адносіны да русіфікацыі касцёла з боку каталіцкіх святароў. Большасць, зразумела, была супраць гэтага. Але знайшліся і прыхільнікі. На тэрыторыі Беларусі адным з самых актыўных праваднікоў такой палітыкі стаў ксёндз Ф. Сянчыкоўскі, які працаваў на Міншчыне. Дзякуючы яго намаганням, падтрымцы ўлад і прыхільнікаў, ужо ў пачатку 70-х гг. у 32 касцёлах Мінскай губерні гучала руская мова, аднак ненадоўга. Як і ўсё прымусовае, гэта акцыя мела часовы поспех. Ужо ў пачатку 80-х гг. частка ксяндзоў адмовілася ўжываць рускую мову замест польскай.

Моўная праблема ў каталіцкім касцёле Беларусі то затухала, то зноў успыхвала, але існавала ўсю другую палову XIX ст., абвастраючы і без таго складанае становішча ў краі.

**Адносіны да стараveраў і пратэстантаў.** Стараверы пражывалі ва ўсіх беларускіх губернях, акрамя Гродзенскай. У 60–70-я гг. XIX ст. адбываюцца змены ва ўрадавай палітыцы ў адносінах да стараveраў: прыхільнікам так званых "менш шкодных" сект была даравана палёгка ў іх грамадскіх правах і выкананні духоўных адпраў. Дазвалялася ствараць школы граматы, пасылаць дзяцей у агульныя навучальныя ўстановы без абавязковага вывучэння Закона Божага. Стараверы атрымалі права чыніць грамадскую малітву, выконваць адправы і набажэнствы па сваіх абрадах, пры ўмове, каб не было публічнага "спакуслівага" для праваслаўных уплыву.

Відавочна, што гэтым пераменам садзейнічалі не толькі агульныя ўмовы правядзення буржуазных рэформаў, але і адносіны стараверaў да паўстання 1863 г., якія выявіліся ў падтрымцы царскага ўрада. Выказваючы за гэта сваю ўдзячнасць, цар дазволіў стараверам адкрыць шэраг малітоўных дамоў.

Галоўным заняткам стараверaў, якія пражывалі ў беларускіх губернях, было земляробства. Сваёй зямлі яны, за невялікім выключэннем, не мелі, а бралі ў арэнду. 22 мая 1876 г. былі зацверджаны спецыяльныя правілы землеўладкавання стараверaў. Правілы вызначалі, што ва ўладаннях, якія належаць уласнікам, гарадам або розным установам, дзе аднаверцы і стараверы пасяліліся да 17 чэрвеня 1863 г., займаемыя імі ўчасткі пакідаліся ў пастаяннай бестэрміновай арэндзе на тых жа ўмовах, што дзейнічалі да гэтага часу. Гэтыя ж участкі стараверы мелі права выкупляць[1].

Яшчэ адзін важны дакумент, які сведчыць аб дэмакратызацыі палітыкі ўлад у адносінах да стараверaў, – указ ад 3 мая 1863 г. Згодна з гэтым дакументам члены ўсіх стараверчаскіх сектаў, акрамя скапцоў, атрымлівалі пашпарты і маглі перамяшчацца ўнутры Расійскай імперыі на агульных умовах. Ім дазвалялася займацца гандлем і промысламі, займаць службовыя пасады і г.д.[2]

Колькасць пратэстантаў у Беларусі, як і раней, была нязначнай. У пачатку 60-х гг. у пяці губернях пражываў 19 951 чалавек, што належалі да рэфарматаў і лютэран. Найбольш пратэстантаў (галоўным чынам лютэран) пражывала ў Віцебскай губерні – 12 420 чалавек (1,57 % ад агульнай колькасці насельніцтва). Затым ішлі Гродзенская губерня – 5500 чалавек (0,6 %), Віленская – 891 (0,1 %), Мінская – 684 (0,07 %), Магілёўская – 456 (0,05%)[3]. За 60–90-я гг. колькасць пратэстантаў у Беларусі павялічылася. Першае

---

[1] Полоцкие епархиальные ведомости за 1876 год. Витебск, 1876. С. 572, 573.

[2] Литовские епархиальные ведомости за 1883 год. Вильна, 1883. С. 199–200.

[3] Атлас народонаселения Западно-русского края по исповеданиям.

месца па-ранейшаму займала Віцебская губерня. У 1897 г. тут пражывалі 46 654 пратэстанты (3,1 % ад агульнай колькасці насельніцтва)[1].

Адносіны пратэстантаў з адміністрацыйнымі ўладамі і праваслаўнай царквой былі звычайна памяркоўнымі. З-за малалікасці пратэстанцкіх вернікаў царскія ўлады вялікіх перашкод ім не чынілі, але пры магчымасці імкнуліся стрымліваць рост колькасці вернікаў і культавых устаноў пратэстантаў. У справаздачы обер-пракурора Святейшага Сінода за 1883 г. адзначалася : "Лютэране, якія належаць у большасці да службовага і купецкага саслоўяў, не праяўляюць фанатызму ў адносінах да праваслаўнай царквы, але і не спачуваюць ёй. Епархіяльнае кіраўніцтва прымае меры, каб адмяжаваць праваслаўнае насельніцтва ад іншаверцаў"[2].

У другой палове XIX ст. узнікла некалькі плыней пратэстанцкага сектанцтва. У канцы 70-х гг. у Гомельскім павеце былі выяўлены штундысты. Занесены сюды штундызм з паўднёвых раёнаў, куды жыхары павета адпраўляліся ў заробкі. У 80-я гг. штундысты з'явіліся ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губерні, Віцебскай губерні і іншых месцах. Але меры, прынятыя ўладамі (тры паслядоўнікі штундызму былі пазбаўлены маёмасці і сасланы ў Закаўказзе, два – адпраўлены ў турму) не далі магчымасці далейшаму распаўсюджанню[3]. У 1894 г. штундызм быў аб'яўлены ў Расійскай імперыі па-за законам. Пасля пастановы штундысцкі рух пайшоў на спад і з цягам часу перастаў існаваць, зліўшыся з баптызмам. Баптысцкія абшчыны былі заснаваны на Гомельшчыне, у Слуцкім і Пінскім паветах, Мінску, Віцебскай губерні.

Крыху пазней, чым штундызм і баптызм, з'явілася ў Беларусі і евангелічнае хрысціянства. У 1882 г. паслядоўнікі гэтага вучэння выяўлены ў Чачэрску. Што тычылася адвентысцкага веравучэння, то яно распаўсюджваецца ў Беларусі ў пачатку XX ст.

**Палітыка ў дачыненні да нехрысціянскіх канфесій.** У палітыцы ўрада ў дачыненні да нехрысціянскіх канфесій (іудаізму, мусульманства) у 60–90-я гг. вялікіх змен не назіралася. Іудзеі складалі даволі значную ў колькасных адносінах групу па веравызнаннях. Калі ў пачатку 60-х гг. у пяці губернях пражывала 463 217 іудзеяў, то, згодна перапісу, у 1897 г. – 1 209 815. Па губернях гэтая лічба размяркоўвалася наступным чынам: у Віленскай губерні – 204 686 чалавек, што складала 12,86 % ад агульнай колькасці насельніцтва; у Віцебскай – адпаведна 176 629 чалавек (11,79 %), у Гродзенскай – 280 489 чалавек (17,49 %), у Мінскай – 345 015 чалавек (16,1 %), у Магілёўскай – 203 949 чалавек (12,1 %)[4].

Палітыка русіфікацыі Беларускага краю наклала свой адбітак і на яўрэйскае насельніцтва. Забаранялася насіць яўрэйскае адзенне, "пейсы хасідаў". У яўрэйскіх навучальных установах уводзілася абавязковае вывучэнне рускай мовы. Нягледзячы на насцярожаныя адносіны да гэтага з боку меламедаў і трымальнікаў хедараў, цяга яўрэйскага насельніцтва да ўспрыняцця рускай мовы і культуры была вялікай. Яўрэйскія абшчыны стваралі

---

[1] Наличное население обоего пола по уездам и городам, с указанием преобладающих вероисповеданий и главнейших сословий. С. 3, 4.

[2] Литовские епархиальные ведомости за 1886 год. Вильна, 1887. С. 39.

[3] Обзор Могилевской губернии за 1879 год. Могилев, 1880. С. 37; Обзор Витебской губернии за 1889 год. Витебск, 1890. С. 49, 50.

[4] Атлас народонаселения Западно-русского края по исповеданиям; Наличное население обоего пола по уездам и городам, с указанием преобладающих вероисповеданий и главнейших сословий. С. 3, 4, 9, 17, 18.

школы рускай граматы, арганізоўвалі прыватнае вывучэнне рускай мовы для дзяцей, час ад часу гучала руская мова і ў сінагогах.

Галоўныя змены, якія адбываліся ў яўрэйскай адукацыі, заключаліся ў тым, што яна набывала ўсё больш свецкі характар. Яўрэйская моладзь імкнулася вучыцца ў гімназіях, універсітэтах, адыходзіла ад рэлігіі сваіх продкаў. У 1872 г. у Вільні быў створаны гурток моладзі, у якім адмаўлялі яўрэйскую "рэгрэсіўную" рэлігію, "архаічную" мову і нацыянальнасць і заклікалі да барацьбы за "агульначалавечыя ідэалы і справядлівасць" (заснавальнік гуртка Арон Зундзялевіч). "Усе мы, хто жыве ў Расіі, – пісаў адзін з членаў гуртка Арон Ліберман, – рускія. Аб'яднаемся супраць ворагаў у імя роўнасці і братства"[1]. Свае ідэі гурткоўцы збіраліся "несці ў народ", але былі арыштаваны. Некаторым удалося ўцячы за мяжу.

Яўрэйскія пагромы, якія пракаціліся па імперыі ў пачатку 80-х гг., вымусілі многіх змяніць свае погляды. І хаця ў той час пагромная хваля не дакацілася да Беларусі, яўрэйскае насельніцтва шэрагу беларускіх гарадоў і мястэчак пацярпела ад пажару[2]. У выніку гэтых падзей нават тыя, хто яшчэ ўчора горача выступаў за братства народаў, пачалі пісаць і гаварыць пра тое, што "трэба заставацца яўрэямі".

Нягледзячы на перамены ў грамадстве, што адбыліся ў 60–90-я гг. XIX ст., яны не пахіснулі ролі і значэння, якое займалі яўрэйскія рэлігійныя навучальныя ўстановы – хедары. Як і раней, гэтым школам належала вядучае месца ў пачатковай адукацыі яўрэйскіх дзяцей. У 1894 г. у Мінскай губерні, напрыклад, выхаванцы хедараў складалі 66,3 %, у Гродзенскай – 64 % ад усяго кантынгенту дзяцей школьнага ўзросту[3]. У канцы XIX ст. яўрэйскую адукацыю ў Мінскай губерні можна было атрымаць у прыватным рэальным вучылішчы, двух прыватных жаночых прагімназіях, 13 казённых, 33 прыватных пачатковых вучылішчах, 977 хедарах, шасці талмуд-торах, трох грамадскіх і шасці прафесійных школах. Прыкладна такое становішча назіралася і ў іншых беларускіх губернях[4].

Акрамя таго, не страціла сваю вастрыню ва ўзаемаадносінах улад і іудзейскай канфесіі і праблема рабінату. Прычына яе была ў тым, што, не ўнікаючы глыбока ў традыцыі іудзейскай веры, расійскі ўрад надаваў рабінам нязвыклыя, з пункту гледжання яўрэйства, функцыі. Асабліва ўскладнілася гэта праблема пасля прыняцця закона 1857 г., згодна з якім яўрэйскія грамадствы павінны былі выбіраць рабінаў з тых асоб, якія скончылі курс у рабінскіх і казённых яўрэйскіх вучылішчах 2-га разраду або мелі атэстат аб заканчэнні сярэдніх ці вышэйшых навучальных устаноў агульнага тыпу[5]. Пасля скасавання рабінскіх вучылішч іх месца занялі яўрэйскія настаўніцкія інстытуты. Аднак праблема засталася. Яўрэйскія абшчыны, падпарадкоўваючыся ўладам, выбіралі так званых "казённых" рабінаў, але бачылі ў іх галоўным чынам чыноўнікаў, якія вялі акты грамадзянскага стану. Разам з тым выбіралі і духоўных рабінаў, якіх і лічылі сваімі сапраўднымі духоўнымі кіраўнікамі. З пункту гледжання расійскага заканадаўства гэтыя рабіны не мелі ніякіх правоў, і таму пытанні аб іх легалізацыі неаднаразова ставіліся прадстаўнікамі яўрэйскіх абшчын перад уладамі. Улады вырашылі гэта пытанне часткова: было дазволена ўключаць у склад духоўных праўленняў

---

[1] *Кандель Ф.* Очерки времен и событий из истории российских евреев. Ч.2: 1772–1882 годы. Иерусалим, 1988. С. 244.

[2] *Дубнов С.* Новейшая история еврейского народа. Рига, 1937. Т. 3. С.102.

[3] *Баранава А.* Да пытання аб гісторыі адукацыі яўрэяў у Беларусі ў XIX–XX стст. // Беларусіка = Albaruthenica. Кн. 4. Мн., 1995. С. 77.

[4] *Гальперын А.* Стан і тэндэнцыі развіцця яўрэйскай адукацыі // Беларусіка = Albaruthenica. Кн. 4. С. 157.



Хросны ход з мошчамі Еўфрасінні Полацкай з Мікалаеўскага сабора ў Спасаўскі манастыр. Полацк. Май 1910 г.

прадстаўнікамі яўрэйскіх абшчын перад уладамі. Улады вырашылі гэта пытанне часткова: было дазволена ўключаць у склад духоўных праўленняў малітоўных абшчын так званых "вучоных", г. зн. тлумачальнікаў веры і рэлігійных пытанняў. Кніга была складзена хрышчоным яўрэем з Мінска Якавам Брафманам і ўяўляла сабой шэраг актаў (з каментарыямі) Мінскага кагалу канца XVIII – пачатку XIX ст.[1]

Палітыка ўлад у дачыненні да мусульман была больш памяркоўнай. Дакладней, татары-мусульмане, што пражывалі ў беларуска-літоўскіх губернях, не прыцягвалі пільнай увагі ўлад. На гэта ўплывалі, на погляд аўтараў, дзве прычыны: па-першае, невялікая колькасць татараў-мусульман. У пачатку 60-х гг. яны пражывалі ў Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях у колькасці 6 196 чалавек. У 1897 г. гэта лічба склала 13 877 чалавек[2]. Па-другое, добрыя адносіны татараў-мусульман з іншымі народамі і канфесіямі, чаму спрыяла працаздольнасць і высокая маральнасць мусульман.

Лаяльнасць улад да мусульман не азначала, аднак, што яны аказвалі матэрыяльную падтрымку гэтай канфесіі. Згодна з заканадаўствам Расійскай імперыі духоўныя асобы мусульман і мячэці павінны былі ўтрымлівацца на сродкі саміх прыхаджан. Спробы мусульманскіх абшчын атрымаць грошы ад казны, як правіла, поспеху не прыносілі.

Палітыка русіфікацыі Беларускага краю закранула і мусульманскую канфесію. Да пачатку XIX ст., як адзначаюць даследчыкі, сярод татараў-мусульман заставалася выразна акрэсленай тэндэнцыя далейшага рас-

[1] *Кандель Ф.* Очерки времен и событий из истории российских евреев. С.241; *Гессен Ю.* История еврейского народа в России. М., 1923. Т.2. С. 200.

[2] Атлас народонаселения Западно-русского края по исповеданиям; Наличное население обоего пола по уездам и городам, с указанием преобладающих вероисповеданий и главнейших сословий. С. 3, 4, 9, 17, 18.

паўсюджвання польскай мовы[1]. Доўгі час польская мова лічылася больш "сацыяльна прэстыжнай". У XIX ст., і асабліва ў 60-я гг., яна пачала выцясняцца рускай. Працэс русіфікацыі найбольш закрануў мінскую служылую татарскую інтэлігенцыю. Гэта з'явілася вынікам гімназічнай адукацыі, службы. З мэтай русіфікацыі канфесійнага жыцця мусульман урад забараніў рабіць надмагільныя надпісы на польскай мове, што было даволі характэрна для татарскіх мізараў (могілак)[2].

Такім чынам, канфесіянальная палітыка царскіх улад у Беларусі ў 60 – 90-я гг. XIX ст. садзейнічала таму, што пазіцыі праваслаўнай царквы тут значна ўмацаваліся. У той жа час абмежавальныя законы ў адносінах да каталіцкай царквы, адкрытыя рэпрэсіўныя дзеянні з боку ўлад абцяжарвалі дзейнасць каталіцкага духавенства, звужалі сферу яго дзейнасці. Больш цярпімымі былі адносіны ўлад да нешматлікіх хрысціянскіх і нехрысціянскіх канфесій.

# ГЛАВА 2

# ПЕРАХОД ДА КАПІТАЛІСТЫЧНАЙ РЫНАЧНАЙ ГАСПАДАРКІ

## 1. Развіццё капіталістычных адносін у вёсцы. Феадальна-прыгонніцкія перажыткі

**Рост капіталізму ў сельскай гаспадарцы**. У Беларусі, як і ў іншых рэгіёнах Расійскай імперыі, пасля рэформы 1861 г. вызначальным фактарам эвалюцыі сельскагаспадарчай вытворчасці стала развіццё таварна-грашовых, капіталістычных адносін. Рыначныя сувязі сельскай гаспадаркі пашыраліся. Яны з'яўляліся рычагом, які рэгуляваў сельскагаспадарчую вытворчасць у цэлым. Панская гаспадарка ўсё цясней звязвалася з рынкам, станавілася прадпрымальніцкай. Сялянская гаспадарка таксама набывала буржуазны характар. Аднак у ёй панаваў дробнатаварны ўклад, звязаны з простай таварнай вытворчасцю. Але ва ўмовах капіталістычнай фармацыі гэта вытворчасць пастаянна параджала капіталістычныя адносіны, вяла да расслаення сялян-таваравытворцаў на сялянскую буржуазію і сельскі пралетарыят.

Павелічэнне вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі на продаж было абумоўлена развіццём прамысловасці, чыгуначным будаўніцтвам, ростам гарадскога насельніцтва і пралетарызацыяй вясковай беднаты. Пашырэнню гандлёвых сувязяў сельскай гаспадаркі Беларусі садзейнічала таксама наяўнасць шырокай сеткі зручных водных зносін і параўнаўча густой сеткі чыгуначных шляхоў, што звязвалі яе са знешнімі і ўнутранымі рынкамі Расіі. Тут была сканцэнтравана вялікая колькасць войскаў, што патрабавала значных паставак сельскагаспадарчых прадуктаў.

Развіццё капіталізму ў сельскай гаспадарцы выяўлялася перш за ўсё ў пашырэнні вытворчасці, асабліва таварнай прадукцыі, інтэнсіфікацыі і паглыбленні спецыялізацыі земляробства, узмацненні ўжывання машын і ўдасканаленых прылад працы, паляпшэнні агракультуры, пашырэнні скарыстання вольнанаёмнай рабочай сілы, выцясненні напаўпрыгонніцкіх формаў гаспадарання капіталістычнымі, сацыяльна-класавай палярызацыі сялянства.

---

[1] *Думін С.У., Канапацкі І.Б.* Беларускія татары: мінулае і сучаснасць. С.139.

[2] Там жа. С.139, 140.

Асноўнай галіной земляробства па-ранейшаму заставалася збожжавая гаспадарка. У парэформенны перыяд у вытворчасці збожжа быў зроблены значны крок наперад. Паводле афіцыйных звестак, у 1898 – 1900 гг. у параўнанні з 1861–1870 гг. сярэднегадавы чысты збор (за вылікам насення) збожжавых культур на сялянскіх надзельных і прыватнаўласніцкіх землях Беларусі вырас з 44,5 млн да 106,1 млн пудоў, або ў 2,4 раза. Характэрна, што за гэты час іх пасяўная плошча павялічылася з 2618 тыс. да 3373,1 тыс. дзесяцін, або толькі на 28,8 %. Павелічэнне збору збожжавых, асабліва на панскай зямлі, адбывалася пераважна за кошт інтэнсіфікацыі іх вытворчасці. За адзначаны перыяд агульная сярэдняя ўраджайнасць збожжавых культур павысілася з 25,7 да 40 пудоў з дзесяціны (у 1,6 раза). Нягледзячы на гэта, у канцы XIX ст. яна працягвала прыкметна ўступаць сярэднім ураджаям збожжавых большасці рэгіёнаў Еўрапейскай Расіі[1].

У 60–70-я гг. XIX ст. вытворчасць збожжа заставалася галоўным кірункам рыначнай спецыялізацыі сельскай гаспадаркі Беларускага рэгіёна. На продаж пaступала вялікая колькасць яго, пераважна з панскіх маёнткаў. У сярэдзіне другога парэформеннага дзесяцігоддзя адсюль па чыгунках і водных шляхах было адпраўлена ў іншыя рэгіёны Расійскай імперыі і за мяжу 8,1 млн пудоў зерня і мукі, што перавышала ўвоз на 3 млн пудоў і складала каля 30 % валавага збору збожжавых на прыватнаўласніцкіх землях. У канцы гэтага перыяду чысты вываз збожжавых значна ўзрос[2]. Нямала панскага і сялянскага збожжа прадавалася і на мясцовых рынках.

У канцы XIX ст. Беларусь, як і іншыя рэгіёны Расійскай імперыі, ахапіў аграрны крызіс. Назіралася рэзкае паніжэнне цэн на збожжа, абумоўленае прытокам на еўрапейскія рынкі танных збожжавых і вырабаў з іх з ЗША, Канады, Аргенціны, Аўстраліі. У 1887 г. параўнальна з 1881 г. у пяці заходніх губернях асеннія цэны на жыта панізіліся ў сярэднім у два разы. Істотна, хаця ў меншых памерах, упалі цэны на пшаніцу , авёс, ячмень[3].

У гэтых умовах памешчыкі і сялянская буржуазія пачалі пераарыентоўваць сваю гаспадарку на жывёлагадоўлю, перш за ўсё малочную, што прыносіла большы прыбытак. У выніку ў канцы XIX ст. вытворчасць збожжа на продаж у сельскай гаспадарцы Беларусі страціла першынствуючае значэнне. Яна становіцца рэгіёнам, які пераважна спажываў збожжавую прадукцыю. У 90-я гг. сярэдні штогадовы ўвоз зерня і мукі ў Беларусь перавысіў вываз з яе на 1,8 млн пудоў[4].

Важную галіну сельскагаспадарчай вытворчасці складала жывёлагадоўля. У парэформенны перыяд павялічылася пагалоўе свойскай жывёлы ўсіх відаў. Калі ў 1861 г. у сялян і памешчыкаў Беларусі налічвалася 651 тыс. рабочых коней, то ў 1900 г. – 973,8 тыс., што ў 1,5 раза больш. Інтэнсіўна пашыраўся статак прадукцыйнай жывёлы (буйной рагатай жывёлы, свіней, авечак). За адзначаны час яе пагалоўе (у пераводзе на буйную) вырасла з

---

[1] Материалы Комиссии 16 ноября 1901 г. Ч.1. С.166–169, 172–177; Статистика Российской империи. Урожай 1898 года. СПб., 1898 - 1899. Вып. I, II; Урожай 1899 года. СПб., 1899–1900. Вып. I, II; Урожай 1900 года. СПб., 1900–1901. Вып. I, II; Временник Центрального статистического комитета. СПб., 1901. №48. С. 6–7, 13, 24–25, 76–79, 82, 84, 86 – 87, 90, 151–152, 155–158.

[2] *Бейлькин Х.Ю.* Сельскохозяйственный рынок Белоруссии. 1861–1914 гг. С.50; Материалы Комиссии 16 ноября 1901 г. Ч. I. С.166–169.

[3] Свод статистических сведений по сельскому хозяйству России к концу XIX века. СПб., 1903. Вып. II. С.24, 28, 32, 36, 40.

[4] *Бейлькин Х.Ю.* Сельскохозяйственный рынок Белоруссии. 1861–1914 гг. С.109.

1727 тыс. да 3446,7 тыс., або ў два разы[1]. Асабліва хутка павялічвалася пагалоўе дойных кароў, якое з канца 70-х гг. па 1898 г. у заходніх губернях памножылася ў 2,4 раза[2].

У канцы XIX ст. ва ўмовах зніжэння цэн на збожжа, пры павелічэнні попыту на малочныя прадукты і павышэнні цэн на іх малочная жывёлагадоўля стала вядучай таварнай спецыялізаванай галіной сельскай гаспадаркі Беларусі. Многія памешчыкі, радзей заможныя сяляне заводзілі жывёлу палепшаных парод – галандскай, сіментальскай, цірольскай, халмагорскай, швіцкай і інш. Расла тэхнічная перапрацоўка малочных прадуктаў. У маёнтках адкрываліся сыраварныя і масларобчыя заводы. У гэты перыяд іх налічвалася не менш чым 200. Малочная прадукцыя збывалася на ўнутраным і знешнім рынках. Яе паступленне істотна павялічылася. У параўнанні з 70-мі гг. вываз малочных тавараў у 90-я гг. узрос прыкладна ў чатыры разы. Яшчэ больш малочных прадуктаў збывалі на мясцовым рынку. Ў цэлым агульная рыначная прадукцыя малочнай гаспадаркі Беларусі ў канцы XIX ст. складала 500–650 тыс. пудоў масла і сыру штогод. Асноўная маса малочнай прадукцыі паступала з панскай гаспадаркі. Заходнія губерні сумесна з прыбалтыйскімі склалі трэці важны пасля паўночных і сібірскіх губерняў рэгіён малочнай жывёлагадоўлі Расіі[3].

Таксама адбывалася спецыялізацыя сельскагаспадарчай вытворчасці на мясной жывёлагадоўлі. У маёнтках і заможных сялянскіх гаспадарках практыкаваўся адкорм буйной рагатай жывёлы на продаж. Яшчэ большае развіццё, асабліва ў сялян, атрымала свінагадоўля і гандаль яе прадукцыяй. На рынак адпраўлялася вялікая колькасць ялавічнага і свінога мяса (у забойнай і жывой вазе). Так, у 1900 г. з Беларусі было вывезена ў іншыя рэгіёны Расійскай імперыі і за яе межы 310 тыс. пудоў мяса (разам з рэзанай птушкай і дзічынай), што перавышала ўвоз на 188 тыс. пудоў[4]. Вывозілася і вялікая колькасць свіней (у жывой вазе). Беларускі рэгіён належаў да ліку рэгіёнаў з адносна развітой жывёлагадоўляй (буйная рагатая жывёла). Па памерах свінагадоўлі Беларусь і Літва поруч з Правабярэжнай Украінай займалі першае месца ў еўрапейскай частцы краіны[5].

У панскіх гаспадарках, галоўным чынам заходніх і цэнтральных паветаў, першы час пасля адмены прыгону важнае прамысловае значэнне захоўвала танкарунная авечкагадоўля. У 1861 г. памешчыкі Беларусі трымалі 451,3 тыс. авечак-мерыносаў, з якіх было атрымана 28 тыс. пудоў воўны коштам звыш паўмільёна рублёў. Аднак з-за канкурэнцыі больш таннай прывазной воўны танкарунная авечкагадоўля паступова прыходзіла ў заняпад. К пачатку 80-х гг. у маёнтках захавалася 183 тыс. мерыносавых авечак, у 1901 г. – толькі 95,4 тыс.[6] У сялян, наадварот, статак простых, грубашэрсных авечак павялічваўся, але сур'ёзнага гандлёвага значэння авечкагадоўля ў іх не мела.

---

[1] ДГА Літвы, ф.378, воп.121, спр.897, арк.84; спр.899, арк.73; спр.1132, арк.17–17 а; Памятная книжка Витебской губ. на 1862 год. Витебск, 1862. Ч.II. Табл. VIII; Памятная книжка Могилевской губ. на 1863 год. Могилев, 1862. Отд.IV. С.95; Временник Центрального статистического комитета. СПб., 1901. №50. С.7–9, 12.

[2] *Ковалевский В.И., Левитский И.О.* Статистический очерк молочного хозяйства в северной и средней полосах Европейской России. СПб., 1879. С.17; *Радциг А.А.* Скотоводство и молочное хозяйство в разных государствах. СПб., 1899. С.39.

[3] *Бейлькин Х.Ю.* Сельскохозяйственный рынок Белоруссии. 1861–1914 гг. С.139–140.

[4] Экономика Белоруссии в эпоху империализма 1900–1917. Мн., 1963. С.218.

[5] *Вильсон И.* Объяснения к хозяйственно-статистическому атласу Европейской России. СПб., 1869.

[6] *Панюціч В.П.* Танкарунная авечкагадоўля ў памешчыцкай гаспадарцы Беларусі ў другой палавіне XIX ст. (1861–1900 гг.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1975. №4. С.102–103, 106–107.

Развіццё малочна-мяснай жывёлагадоўлі ўплывала на структуру пасяўных плошчаў, садзейнічала пашырэнню травасеяння. У пачатку 70-х гг. XIX ст. з 345 валасцей Беларусі (палова іх агульнай колькасці) пасевы кармавых траў адзначаны ў памешчыкаў 110 валасцей (31,9 %)[1]. За апошняе 20-годдзе гэтага ж стагоддзя іх агульная плошча ў Беларусі павялічылася з 17,3 тыс. да 132,9 тыс. дзесяцін (у 7,7 раза). На пачатак XX ст. па тэмпах росту травасеяння Заходні рэгіён быў першым у еўрапейскай частцы імперыі, а па ўдзельнай вазе кармавых траў у агульнай пасяўной плошчы – трэцім пасля Прыбалтыкі і Каралеўства Польскага. Яны высяваліся большай часткай у панскай гаспадарцы[2].

Аб паглыбленні спецыялізацыі сельскай гаспадаркі сведчыць пашырэнне вытворчасці тэхнічных і кармавых культур, сярод якіх першае месца займала бульба. У 1898 – 1900 гг. адносна 60-х гг. сярэднегадавы чысты збор яе на сялянскіх надзельных і прыватнаўласніцкіх землях Беларусі ўзрос з 22,1 млн да 123,5 млн пуд., ці ў 5,6 раза. Гэты рост быў забяспечаны тым, што пасевы бульбы павялічыліся са 129, 6 тыс. да 375,1 тыс. дзесяцін, або ў 2,9 раза, а ўраджайнасць павысілася з 250 да 420 пудоў з дзесяціны (у 1,7 раза). Павелічэнне яе пасяўной плошчы было не толькі абсалютным, але і адносным. Удзельная вага пасеваў бульбы паднялася з 4,6 да 9,5 %. Па яе вытворчасці заходнія губерні разам з прыбалтыйскімі займалі першае месца ў Еўрапейскай Расіі[3].

Хуткі рост пасеваў і збору бульбы, адноснае выцясненне ёю збожжавых з'яўляецца паказчыкам развіцця капіталізму ў земляробстве, бо тэхнічныя культуры былі больш таварнымі. Пашырэнне пасяўной плошчы пад бульбай вяло да паляпшэння тэхнічнай аснашчанасці (плуг замест сахі) сельскагаспадарчай вытворчасці і павышэння ўзроўню агратэхнікі – замены архаічнага трохполля (азімыя, яравыя, папар) папарнапрапашнымі, чатырохпольнымі севазваротамі, пры якіх адно поле заўсёды засявалася гэтай культурай. Культываванне бульбы памешчыкамі і сялянскай буржуазіяй павялічвала попыт на наёмную працу, бо гэта культура была ў значнай ступені больш працаёмкая, чым збожжавыя культуры. Скарыстанне наёмнай працы пашыралася таксама дзякуючы зніжэнню кошту ўтрымання рабочых, замене асноўнага прадукта іх харчавання – хлеба – больш таннай бульбай.

Рост гандлёвага бульбаводства быў абумоўлены ў першую чаргу развіццём вінакурнай вытворчасці. Паводле няпоўных даных, у сярэдзіне 60-х гг. XIX ст. у пяці заходніх губернях мелася звыш тысячы дзеючых невялікіх вінакурань, к пачатку XX ст. – 430 вінакурных заводаў. Амаль усе яны належалі памешчыкам. Вялікая колькасць бульбы перапрацоўвалася на спірт. У 1862–1880 гг. у пяці заходніх губернях штогод ужывалася на вінакурства ў сярэднім 4,7 млн пудоў бульбы, што складала 1/4 яе валавога збору на прыватнаўласніцкіх землях. У 1881–1894 гг. у сярэднім штогод на вытворчасць спірту паступала ўжо 10,2 млн пудоў бульбы, або 1/3 валавога

---

[1] Рукапісны аддзел бібліятэкі Вільнюскага універсітэта, ф.34, спр.10649-10837, 10927-11016, 11105-11237 (далей – РАБВУ).

[2] Статистический временник Российской империи. СПб., 1884. Серия III. Вып.4. С.160, 164, 166, 168; Статистика Российской империи. Урожай 1901 года. СПб., 1902. Вып.III. С.22 – 25, 40 – 41, 70 – 71.

[3] Материалы Комиссии 16 ноября 1901 г. Ч.I. С.166–169, 172–177; Статистика Российской империи. Урожай 1898 года. Вып. I, II; Урожай 1899 года. Вып. I, II; Урожай 1900 года. Вып. I, II; Временник Центрального статистического комитета. №48. С.6–7, 13, 24–25, 76–79, 82, 84, 86–87, 90, 151–152.

збору на гэтых землях. У той жа час у парэформенны перыяд у названых губернях колькасць хлебных прыпасаў (галоўным чынам жытняй мукі), што выкарыстоўваліся ў вінакурстве, заставалася прыкладна аднолькавай, складаючы ў сярэднім штогод каля 3 млн пудоў. Разам з панскай на вінакурныя заводы паступала і сялянская бульба. Беларусь поруч з Прыбалтыкай з'яўлялася найбуйнейшым рэгіёнам бульбяной вінакурнай вытворчасці еўрапейскай часткі Расійскай імперыі, хоць удзельная вага першай паступова змяншалася[1].

У другой палове 90-х гг. XIX ст. сярэдняя штогадовая вытворчасць 40-градуснага разбаўленага спірту ў пяці заходніх губернях складала больш за 8 млн вёдзер[2]. Ён збываўся на мясцовым рынку, вывозіўся ў іншыя рэгіёны імперыі і ў невялікай колькасці за мяжу. Адыходы вінакурства (брага) выкарыстоўваліся на корм жывёле. Бульбу збывалі таксама на крухмала-патачныя заводы.

Бровары ўяўлялі сабою буйныя капіталістычныя прадпрыемствы і надавалі такі ж характар усім тым панскім гаспадаркам, у якіх былі пабудаваны[3]. Рост вінакурства, іншых галін сельскагаспадарчага прадпрымальніцтва (мукамольнага, маслаоробчага, сыраварнага, алейнага, суконнага і г.д.) адыгрываў важную ролю ва ўсталяванні капіталістычных адносін у сельскай гаспадарцы. Пашырэнне гэтага прадпрымальніцтва вяло да перабудовы панскіх і заможных сялянскіх гаспадарак на капіталістычных пачатках, са скарыстаннем палепшаных прылад працы і наёмнай рабочай сілы.

Узрастала і непасрэдная рыначная прадукцыя бульбаводства. Напрыклад, у 1892 г. са станцый чыгунак Беларусі было адпраўлена ў іншыя рэгіёны краіны і за мяжу каля 460 тыс. пудоў бульбы, у 1899 г. – 920 тыс. пудоў[4]. Значную яе колькасць памешчыкі і сяляне скормлівалі жывёле, павялічваючы гэтым выхад жывёлагадоўчай прадукцыі, у тым ліку таварнай.

Гандлёва-капіталістычны характар мела і льнаводства. У парэформенны перыяд у паўночных паветах Беларусі яно было адным з асноўных кірункаў таварнай спецыялізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці. Тут, як і ў іншых ільнаводчых мясцовасцях імперыі, ільнаводства пашыралася. Калі ў сярэдзіне 60-х гг. XIX ст. пасевы лёну на сялянскіх надзельных і прыватнаўласніцкіх землях Беларусі складалі прыкладна 60 тыс. дзесяцін, то ў 1899 г. – 89,5 тыс. дзесяцін. За гэты час збор ільновалакна павялічыўся з 0,9 да 1,8 млн пудоў, а яго сярэдняя ўраджайнасць павысілася з 15 да 20 пудоў з дзесяціны[5].

Апрацоўка льновалакна патрабавала асабліва вялікай колькасці рабочых рук. Таму развіццё льнаводства суправаджалася ўзмацненнем попыту

---

[1] Ежегодник Министерства финансов. СПб., 1869–1897. Вып. I – XXV; Сельскохозяйственные и статистические сведения по материалам, полученным от хозяев. СПб., 1897. Вып.VII. С.138–145; Материалы Комиссии 16 ноября 1901 г. Ч.I. С.166–169.

[2] Ежегодник Министерства финансов. Вып. 1898 года. СПб., 1899. С.560–561; Вып. 1900 года. СПб., 1901. С.650; Вып. 1901 года. СПб., 1902. С.686; Вып. 1902 года. СПб., 1903. С.666–667.

[3] *Ленин В.И.* Развитие капитализма в России // Полн. собр. соч. Т.3. С.285.

[4] Сводная статистика перевозок по русским железным дорогам, 1892 г. СПб., 1893. Вып.6. С.2 – 54; 1899 г. СПб., 1901. Вып. 74. С.314–359.

[5] *Вильсон И.* Объяснения к хозяйственно-статистическому атласу Европейской России. С.223–225; НГАБ, ф.2001, воп.1, спр.1045, арк.1–30; Статистика Российской империи. Урожай 1898 года. Вып.II; Урожай 1899 года. Вып.II; Урожай 1900 года. Вып.II; Временник Центрального статистического комитета. №48. С.6–7, 13, 24–25, 76–79, 82, 84, 86–87, 90, 151–152, 155–158.

на наёмную працу з боку заможных сялян і памешчыкаў, што культывавалі лён. Яго пашырэнне вяло таксама да ўжывання палепшаных прылад працы, машын, да замены адсталага трохполля шматпольнай сістэмай земляробства – пладазменам.

Рыначная прадукцыя льнаводства ўзрастала. Льняное валакно і семя збываліся часткова на мясцовых кірмашах, але галоўным чынам скупшчыкам, якія адпраўлялі лён у іншыя рэгіёны краіны і ў парты Балтыйскага мора для збыту за мяжу. У 1892 г. са станцый чыгунак у Беларусі ў гэтых напрамках было вывезена 1400 тыс. пудоў ільновалакна, у 1899 г. – 2130 тыс. пудоў[1]. Пераважная яго частка паступала ў продаж з сялянскай гаспадаркі. У другой палове XIX ст. Паўночная Беларусь належала да ліку асноўных рэгіёнаў гандлёвага льнаводства ў Расіі[2].

Выключна важную ролю ва ўсталяванні капіталістычных адносін у вёсцы адыграла прымяненне машын і палепшаных прылад працы. Выкліканае ростам капіталізму ў сельскай гаспадарцы прымяненне машын у земляробстве ў сваю чаргу насіла капіталістычны характар, г.зн. вяло да ўтварэння капіталістычных адносін і іх далейшага развіцця[3].

У канцы XIX ст. тэхнічная ўзброенасць сельскагаспадарчай вытворчасці Беларусі прыкметна палепшылася. У большасці маёнткаў меліся малатарні, веялкі, сячкарні. Часцей сталі выкарыстоўвацца складаныя земляробчыя машыны – сеялкі, жняяркі, сенакасілкі. У гаспадарках, пабудаваных на капіталістычных пачатках, глебу апрацоўвалі галоўным чынам жалезнымі плугамі і баронамі. Згодна са звесткамі больш чым 500 мясцовых карэспандэнцый у Міністэрства земляробства ў 1896–1897 гг. на 100 панскіх гаспадарак заходніх губерняў (без Віленскай) палепшаныя прылады для апрацоўкі глебы, перш за ўсё жалезныя плугі, шырока ўжываліся ў 54–70 маёнтках. Па распаўсюджанасці іх у памешчыкаў гэтыя губерні ўступалі толькі Правабярэжнай Украіне, Прыбалтыцы і стэпаваму поўдню Еўрапейскай Расіі. З развіццём рыначных сувязей, пашырэннем пасеваў бульбы і лёну, увядзеннем травасеяння тэхніка сялянскага земляробства таксама стала паляпшацца. Сяляне, пераважна заможныя, скарыстоўвалі жалезныя плугі і бароны з жалезнымі зубамі. Паводле дадзенай крыніцы, у гэтыя гады са 100 сялянскіх гаспадарак Гродзенскай губерні апрацоўку зямлі жалезнымі плугамі шырока практыкавалі 25 гаспадарак, Мінскай – 21, Віцебскай – 19, Магілёўскай – 17. У гаспадарках сялянскай буржуазіі ўжываліся найпрасцейшыя сельскагаспадарчыя машыны – малатарні, веялкі, крупадзёркі, ільнамялкі. Многія сяляне мелі сячкарні[4].

Скарыстанне машын і палепшаных прылад працы садзейнічала выцясненню адпрацовак вольнанаёмнай працай, зголенню цесна звязанага з імі сярэдняга сялянства, ператварэнню кабальнага селяніна ў наёмнага рабочага. Шырокае ўжыванне машын і ўдасканаленых прылад працы ў земляробчай вытворчасці абумовіла замену працы рабочых-мужчын больш таннай працай жанчын і падлеткаў, павелічэнне колькасці наёмных сельскагаспа-

---

[1] Сводная статистика перевозок по русским железным дорогам. 1892 г. СПб., 1894. Вып. 47. С.3–25; 1899 г. СПб., 1901. Вып.6. С.62–106.

[2] Военно-статистический сборник. Вып.IV. С.258–259, 596–597; Производительные силы России. Отд. I. С.24, 36.

[3] *Ленин В.И.* Полн. собр. соч. Т.3. С.223.

[4] Сельскохозяйственные и статистические сведения по материалам, полученным от хозяев. СПб., 1903. Вып.XI. Отд.I, С.134–136; Отд.II. С.223–258.

дарчых рабочых. Яно ўяўляла сабой якасна новы этап у развіцці прадукцыйных сіл, з'яўлялася адной з найважнейшых перадумоў змянення сацыяльна-эканамічнага ладу панскай і сялянскай гаспадарак і было несумяшчальна з перажыткамі прыгонніцтва на парэформеннай вёсцы.

Пры гэтым у парэформенны час у мностве маёнткаў разам з плугам па-ранейшаму шырока скарыстоўвалася саха, у пераважнай большасці іх адсутнічалі складаныя сельскагаспадарчыя машыны (сеялкі, жняяркі, сенакасілкі). Асноўная частка беларускіх сялян карысталася старымі, прымітыўнымі земляробчымі прыладамі працы. Як і сотні гадоў таму назад, яны апрацоўвалі глебу галоўным чынам сахой і драўлянай бараной, збожжа і травы ўбіралі ручным спосабам – сярпом, касой, граблямі, малацілі цапамі[1].

З ростам гандлёвага, капіталістычнага земляробства, пашырэннем пасеваў кармавых траў і бульбы, распаўсюджаннем машын і палепшаных прылад працы адсталая трохпольная сістэма земляробства паступова, хоць і павольна, выцяснялася больш прагрэсіўнымі спосабамі апрацоўкі зямлі. У канцы XIX ст. большасць памешчыкаў Беларусі практыкавала палепшанае трохполле і чатырохполле з пасевамі кармавых траў і бульбы. Панскія гаспадаркі капіталістычнага тыпу ўводзілі рацыянальную пладазменную сістэму земляробства са шматпольным севазваротам. Ужо ў пачатку 70-х гг. яе прымянялі ў шэрагу маёнткаў 49 (палова з абследаваных) валасцей (14,2 %)[2]. К канцу 90-х гг. у Беларускім рэгіёне са 149 абследаваных перадавых маёнткаў у 107 (71,8 %) ужываўся пладазмен, у 24 (16,1 %) – пладазменная сістэма земляробства ў спалучэнні з трохпольнай, у 18 (12,1 %) – палепшанае трохполле з культурай кармавых траў і караняплодаў[3]. Па меры развіцця капіталізму вялікая колькасць заможных сялянскіх гаспадарак таксама ўводзіла чатырохполле і ў меншай ступені – палепшанае трохполле, а некаторыя – і пладазмен[4].

Укараненне больш дасканалых, рацыянальных спосабаў земляробства сведчыць аб развіцці капіталізму ў сельскай гаспадарцы. Вынікам яго было паступовае выцясненне адпрацовак вольным наймам у земляробчай вытворчасці дзякуючы больш стараннай і частай апрацоўцы глебы, увядзенню новых прыёмаў гэтай апрацоўкі, уключэнню ў севазварот бульбы, канюшыны і інш.

Адначасова ў другой палове XIX ст., як і ў эпоху феадалізму, на сялянскіх палях паўсюдна панавала традыцыйная трохпольная сістэма земляробства з пераважнай вытворчасцю збожжавых культур. Такім жа архаічным спосабам апрацоўвалася зямля ў многіх маёнтках.

Адным з найбольш істотных паказчыкаў усталявання капіталістычных адносін на вёсцы з'яўлялася шырокае скарыстанне наёмнай працы памешчыкамі і сялянскай буржуазіяй. Пасля адмены прыгону і пазбаўлення рабочай сілы прыгонных сялян, па меры пашырэння гандлёва-прадпрымальніцкага земляробства большасць маёнткаў Беларусі стала на капіталістычны шлях

---

[1] Сельскохозяйственные и статистические сведения по материалам, полученным от хозяев. Вып.XI. Отд.1. С.134–136; Отд.II. С.223–258.

[2] РАБВУ, ф.34, спр.10649–11016, 11105–11237.

[3] Краткие справочные сведения о некоторых русских хозяйствах. СПб., 1902. Вып.III. С.124–192, 235–278.

[4] 1881 год в сельскохозяйственном отношении. СПб., 1882. С.163; 1883 год. В сельскохозяйственном отношении. СПб., 1884. Вып.III.С.110; 1884 год. В сельскохозяйственном отношении. СПб., 1885. Вып.III. Ч.I. С.342, 370; Обзор Могилевской губ. за 1890 год. Могилев, 1891. С.4; Обзор Гродненской губ. за 1898 год. Гродно, 1899. С.3; і інш.

развіцця. Як сведчаць масавыя архіўныя крыніцы, капіталістычная сістэма панскай гаспадаркі, заснаваная на вольнанаёмнай працы і ўласных сродках вытворчасці, усталявалася тут ужо к пачатку 70-х гг. У маёнтках заходніх і цэнтральных паветаў пераважала капіталістычная сістэма гаспадарання, якая грунтавалася на вольнанаёмнай працы, ва ўсходніх – больш змешаная, адпрацовачна-капіталістычная, сістэма, але таксама з некаторай перавагай вольнага найму рабочай сілы[1].

У далейшым капіталістычныя формы вядзення панскай гаспадаркі ўмацаваліся. Пашырэнню скарыстання працы наёмных рабочых садзейнічаў аграрны крызіс канца XIX ст. Пры гэтым у гады крызісу некаторыя памешчыкі вымушаны былі адмовіцца ад ужывання наёмнай працы[2]. Але адмова ад найму рабочай сілы ў адных маёнтках суправаджалася яго ўзмацненнем, развіццём капіталістычных адносін у другіх[3]. У 80–90-я гг. у Беларусі ў большасці панскіх гаспадарак у той ці іншай ступені практыкавалася праца наёмных рабочых[4]. Нават у маёнтках, дзе зямлю апрацоўвалі сяляне з долі ўраджаю, часта трымалі парабкаў (даглядчыкаў жывёлы, пастухоў і інш.).

Да наёмнай працы ўсё больш звярталася і сялянская буржуазія. Канцэнтруючы ў сваіх руках значныя сродкі сельскагаспадарчай вытворчасці, ведучы прадпрымальніцкую гаспадарку, звычайна несуразмерную з рабочымі сіламі сям'і, яна карысталася наёмнай рабочай сілай. Акрамя таго, некаторыя заможныя сяляне трымалі прамыслова-гандлёвыя прадпрыемствы (млыны, крупадзёркі, алейні і інш.), якія абслугоўвалі наёмныя рабочыя. Пасля рэформы 1861 г. з атрыманнем волі, ростам таварна-капіталістычнай вытворчасці скарыстанне наёмнай працы сялянскай буржуазіяй атрымала шырокае распаўсюджанне. Ужо ў пачатку другога парэформеннага дзесяцігоддзя яно адзначана ў сялянскай гаспадарцы кожнай другой воласці з паловы абследаваных валасцей Беларусі[5]. У далейшым ужыванне наёмнай, перш за ўсё парабкоўскай, рабочай сілы ў сялян пашыралася.

**Рэшткі феадалізму ў сельскай гаспадарцы.** Разам з тым ва ўсіх панскіх і вялікай колькасці заможных сялянскіх гаспадарак наёмная праца ў разнастайных формах цесна спалучалася з адпрацоўкамі навакольнага сялянскага насельніцтва. Ва ўмовах малазямелля, падатковага ўціску, пазаэканамічнага прымусу (прымацаванне да надзелу, адпраўка ў "заработкі" за нядоімкі і інш.) сялянская бедната і сяляне-серадняк вымушаны былі адпрацоўваць за арандаваную зямлю, пазычаныя грошы, збожжа, лясныя матэрыялы, пагашэнне штрафаў і г.д. Адпрацоўкі з'яўляліся асновай адпрацовачнай сістэмы панскай гаспадаркі. Аплата працы пры іх была значна ніжэйшая, чым пры вольным найме. Так, у першай палове 60-х гг. у Магілёўскай губерні пры здзельным капіталістычным найме поўная апрацоўка адной дзесяціны (вывазка ўгнаенняў, ворыва, сяўба, збор) ацэньвалася ў сярэднім у 14 руб. 72 кап., а пры адпрацоўках – 9 руб. 14 кап., г. зн. на 38 % ніжэй[6].

Па меры росту таварнай гаспадаркі і асабліва разлажэння сялянства адпрацоўкі паступова выцясняліся вольнанаёмнай працай, але шырока практыкаваліся ў Беларусі яшчэ і ў канцы XIX ст. У Магілёўскай і Віцебскай гу-

---

[1] РАБВУ, ф.34, спр.10649–10837, 10927–11016, 11105–11237.

[2] Сельскохозяйственные и статистические сведения по материалам, полученным от хозяев. СПб., 1892. Вып.V С.365.

[3] Минский листок. 1886. 6 мая.

[4] ДГА Літвы, ф.542, воп.1, спр.40–55, 157–535, 1023–1028; і інш; НГАБ, ф.370, воп.1, спр.62 – 423.

[5] РАБВУ, ф.34, спр.10649–10837, 10927–11016, 11105–11237.

[6] Труды императорского Вольного экономического общества. 1865. Т.II. Вып.6. С.473–474.

бернях былі больш пашыраны адпрацоўкі першага віду, якія мог выканаць толькі селянін, што меў рабочую жывёлу і інвентар. Гэта здольшчына (арэнда зямлі з долі ўраджаю), адпрацоўкі з канём за арандаваныя пашу, сенажаць, поле, лес і інш. У Гродзенскай, Віленскай і Мінскай губернях большае распаўсюджанне атрымалі адпрацоўкі другога віду, якія былі даступныя сельскаму пралетарыю (на касьбе, жніве, уборцы бульбы, малацьбе і інш.)[1]. У адпрацоўках складана перапляталіся рысы феадальнай і раннекапіталістычнай эксплуатацыі асноўнай масы сялянства. З'яўляючыся прамым і непасрэдным перажыткам паншчыны, яны адначасова выступалі як пераход ад паншчыны да капіталізму[2]. Вынікам адпрацовак было збядненне значнай часткі сялян, у першую чаргу сераднякоў, якія найбольш часта звярталіся да іх. Панскія гаспадаркі, заснаваныя пераважна на адпрацоўках, сялянскіх прыладах працы, не мелі стымулаў да павышэння агратэхнікі, скарыстання машын, інтэнсіфікацыі вытворчасці.

Найбуйнейшым перажыткам прыгонніцтва, асновай дакапіталістычных адносін на вёсцы пасля рэформы 1861 г. была панская зямельная ўласнасць. Паводле пераменшаных афіцыйных даных, у 1877 г. у Беларусі памешчыкам належала 8760,5 тыс. (50,5 %) дзесяцін прыдатнай зямлі. Вялікія зямельныя масівы – 1650,7 тыс. (9,9 %) дзесяцін захавала за сабой феадальная дзяржава. Царква і манастыры мелі 121,9 тыс. (0,7 %) дзесяцін. Беларускія сяляне валодалі 5535,7 тыс. дзесяцін надзельнай прыдатнай зямлі, ці 33,4 % усёй зямельнай плошчы. На кожнага памешчыка ў сярэднім прыпадала 1097 дзесяцін, на сялянскі двор – 14,6 дзесяціны (у 75,1 раза менш). Пры гэтым памешчыкам належалі не толькі лепшыя ворныя землі, але і амаль увесь лес, большасць сенажацей і пашы для жывёлы, у якіх сяляне адчувалі вялікую патрэбу. Малазямелле асноўнай масы сялянства з'яўлялася вынікам панавання феадальнай, перш за ўсё панскай, зямельнай уласнасці. Абсалютная большасць (94,7 %) панскай зямлі знаходзілася ў руках памешчыкаў-дваран. Адмоўная роля панскай зямельнай уласнасці ўзмацнялася яе выключна высокай канцэнтрацыяй. У 1877 г. у Беларусі 2658 (33,3 %) памешчыкаў-латыфундыстаў засяродзілі ў сваіх руках 7753,2 тыс. (88,6 %) дзесяцін панскай прыдатнай зямлі. Значнай часткай зямельнага фонду валодалі магнаты, якія мелі дзесяткі тысяч дзесяцін зямлі. На магнацкія зямельныя ўладанні памерам звыш 10 тыс. дзесяцін прыпадала 36 % панскай прыдатнай зямельнай плошчы. Найбуйнейшымі ўласнікамі-магнатамі былі князь П. Вітгенштэйн, якому належала 795,5 тыс. дзесяцін, князь А. Радзівіл – 150,6 тыс., граф К. Патоцкі – 137,5 тыс., граф М. Патоцкі – 111,5 тыс., Ф. Пуслоўскі – 105,3 тыс. дзесяцін і інш. Па ўдзельнай вазе і канцэнтрацыі панскай зямельнай уласнасці ў канцы 70-х гг. XIX ст. Беларускі рэгіён займаў вядучае месца ў Еўрапейскай Расіі[3]. Аналагічнае становішча назіралася і ў далейшым. З 1877 па 1905 г. плошча панскіх зямель тут паменшылася на 906,5 тыс. дзесяцін (10,8 %), аднак к 1905 г. памешчыкі валодалі яшчэ 47,3 % усіх прыдатных зямель, а колькасць надзельнай зямлі ў разліку на сялянскі

---

[1] *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг. Мн., 1962. С.39–49, 114–117; *Панютич В.П.* Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861–1900 гг. С. 124–130.

[2] *Ленин В.И.* Аграрный вопрос в России к концу XIX века // Полн. собр. соч. Т.17. С.72.

[3] *Панютич В.П.* Помещичье землевладение в Белоруссии во второй половине XIX в. С.68–72; Статистика поземельной собственности и населенных мест Европейской России. Вып. V. С.5–167.

двор скарацілася да 10,2 дзесяціны[1]. Буйная зямельная ўласнасць з'яўлялася матэрыяльнай асновай эканамічнага панавання памешчыкаў у вёсцы. Развіццё аграрнага капіталізму прыходзіла ў непрымірымую супярэчнасць з яе сярэдневякова-феадальнымі формамі.

Анахранізмам феадальнай эпохі ў былой панскай вёсцы Беларусі былі зямельныя сервітуты (права сялян карыстацца некаторымі ўгоддзямі, што юрыдычна належалі памешчыкам) і агульныя (сялянскія і панскія) пашы. Найбольш шырокае распаўсюджанне яны атрымалі ў цэнтральных і заходніх паветах, дзе ў 60-я гг. імі карысталася 56 % сялянскіх двароў, надзеленых зямлёй[2]. Зямельныя сервітуты і агульныя пашы мелі важнае значэнне ў сялянскай гаспадарцы. Ва ўмовах вострага сялянскага малазямелля, разворвання надзельных выганаў яно ўзрастала. Калі ў першае парэформеннае дзесяцігоддзе ў Цэнтральнай і Заходняй Беларусі сервітутныя і агульныя пашы складалі больш за 40 % ад надзельных сялянскіх паш, то ў 80-я гг. яны ўжо перавысілі плошчу гэтых паш[3]. Карыстаючыся няпэўнасцю сервітутных правоў, памешчыкі імкнуліся ўрэзаць ці зусім пазбавіць іх сялянства. Землеўласнікі ўсё больш настойліва дабіваліся бязвыплатнага або з нязначнай кампенсацыяй пераходу сервітутных зямельных угоддзяў у іх поўнае распараджэнне, але сустрэлі рашучае супраціўленне з боку сялян. Асноўная плошча сервітутных і агульных паш засталася неразвярстанай. У пачатку XX ст. у Віленскай, Гродзенскай, Мінскай губернях, латгальскіх і Дрысенскім паветах Віцебскай губерні яны захаваліся ў 2143 (34,2 %) маёнтках. У заходніх губернях сервітутнымі правамі працягвала карыстацца каля 1/3 былых панскіх сялян[4].

Перажыткам феадалізму ў парэформенных пазямельных адносінах у Беларусі з'яўлялася цераспалосіца, якая спалучалася з дробнапалоснасцю сялянскіх угоддзяў, далёказямеллем. Паўсюдна мноства сялян мелі надзелы, размешчаныя не ў адной акружной мяжы, а падзеленыя панскімі зямельнымі ўгоддзямі. У заходніх губернях цераспалосіца была распаўсюджана значна больш, чым ва ўнутраных рэгіёнах Расіі[5]. Да сярэдзіны 80-х гг. XIX ст. у Гродзенскай губерні цераспалосіца з сялянскімі надзельнымі землямі захавалася ў 1119 (42,1 %) маёнтках, у Віленскай – у 1067 (50,9 %). У сярэдзіне 90-х гг. у Мінскай губерні звыш паловы плошчы сялянскіх надзелаў размяшчаліся цераспалосна з панскай зямлёй[6]. Вынікам цераспалосіцы з'яўлялася гаспадарчая залежнасць селяніна ад памешчыка. Сяляне часта вымушаны былі здымаць цераспалосныя панскія зямельныя ўчасткі пад апрацоўкі. Цераспалосіца надзельных зямель з казённымі ляснымі ўгоддзямі нярэдка назіралася і ў былых дзяржаўных сялян.

Разам з цераспалосіцай сялянскіх зямель з панскімі і казённымі ў беларускай вёсцы шырокае распаўсюджанне атрымала ўнутрынадзельная це-

---

[1] Статистика землевладения 1905 г. СПб., 1906. Вып. XI, XIII, XIX, XXVII, XXXIV. С.10–25.

[2] *Рихтер Д.* Материалы по вопросу о земельном наделе бывших помещичьих крестьян и о сервитутах в юго- и северо-западных губерниях России. С.585, 602–603.

[3] *Панютич В.П.* Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861–1900 гг. С.104.

[4] РДГА, ф.1276, воп.9, спр.472, арк.3; Труды местных комитетов о нуждах сельскохозяйственной промышленности. СПб., 1903. Вып.IV. Виленская губ. С.41.

[5] РДГА, ф.408, воп.1, спр.361, арк.1.

[6] РДГА, ф.1291, воп.33, 1885 г., спр.1, ч.1, арк.371 – 372; Свод заключений губернских совещаний по вопросам, относящимся к пересмотру законодательства о крестьянах. СПб., 1897. Т.III. С.227.

распалосіца. Надзел, які належаў дзвюм і больш сем'ям, разбіваўся на шэраг дробных частак, размешчаных палосамі, у розных месцах, часта на вялікай адлегласці ад сядзібы і адна ад другой[1]. Пры такім землекарыстанні не магло быць і размовы аб правільнай тэхнічнай апрацоўцы глебы, увядзенні рацыянальнай, шматпольнай сістэмы земляробства, інтэнсіфікацыі сялянскай гаспадаркі, паляпшэнні прадукцыйнасці жывёлы. Цераспалосіца вяла да ўпадку і разбурэння сялянскай гаспадаркі.

Пагадненні аб развярстанні цераспалосных сялянскіх і панскіх зямель стрымліваліся тым, што для іх заключэння неабходна была згода памешчыка. Уладальнікі маёнткаў звычайна патрабавалі або развярстаць свае землі з надзельнымі за кошт сялян, або адмаўлялі ім у гэтым. Да сярэдзіны 70-х гг. у Мазырскім, Пінскім і Рэчыцкім паветах Мінскай губерні з 287 маёнткаў развярстанне сялянскіх і панскіх угоддзяў часткова было праведзена толькі ў 45 (15,7 %). Такое ж становішча назіралася і ў іншых мясцовасцях Беларусі[2].

Саслоўны, паўпрыгонніцкі характар насіла пераважная большасць сялянскіх падаткаў, плацяжоў і павіннасцей. Сялянства адбывала шэраг павіннасцей, плаціла падаткі, ад якіх былі свабодныя іншыя саслоўі. Прамыя падаткі і павіннасці сялян падраздзяляліся на казённыя, земскія, грамадскія. Да першых належалі выкупныя плацяжы, дзяржаўны пазямельны падатак і (да сярэдзіны 80-х гг. XIX ст.) падушны падатак. Выкупныя плацяжы былі найбуйнейшым грашовым зборам з сялянства парэформеннай Расіі. Згодна з няпоўнымі данымі к пачатку XX ст. былыя панскія сяляне пяці заходніх губерняў унеслі іх 149,3 млн руб. Агульная сума выкупу к гэтаму часу перавысіла ў 2,1 раза выкупную пазыку, атрыманую гэтымі сялянамі ад царскага ўрада. Такі быў памер іх даніны прыгоннікам-памешчыкам і манархічнай дзяржаве ў парэформенны перыяд за вызваленне. Былыя дзяржаўныя сяляне адзначаных губерняў у 1867–1900 гг. унеслі ў казну 36 млн руб. выкупу. Вялікім цяжарам на плечы сялян клаўся таксама падушны падатак, які ў канцы 60-х – першай палове 80-х гг. штогод складаў тут у сярэднім 2,8 млн руб., ці звыш 1/3 усіх сялянскіх дзяржаўных падаткаў. Адмена яго суправаджалася прапарцыянальным ростам дзяржаўнага пазямельнага падатку, сярэдні штогадовы аклад якога з сялянскіх надзельных і купленых зямель пяці заходніх губерняў у 90-я гг. параўнальна з другой паловай 70-х гг. павялічыўся са 121,4 тыс. да 293,4 тыс. руб.(у 2,4 раза)[3].

Земскія павіннасці сялянства складаліся з земскіх грашовых збораў і натуральных павіннасцей – дарожнай, падводнай (фурманачнай), паліцэйскай. У прыватнасці, сярэдні памер гэтых збораў з сялянскіх надзельных зямель пяці заходніх губерняў у 1891–1900 гг. у параўнанні з 1871–1880 гг. узрос з 630 тыс. да 987 тыс. руб. (на 56,7 %)[4]. Шмат часу і працы ў сялян забірала дарожная павіннасць, якая амаль усюды мела натуральны характар. Нялёгкім цяжарам на сялянскае насельніцтва клалася таксама фурманачная павіннасць, што заключалася ў абавязку пастаўляць падводы пры

---

[1] ДГА Літвы, ф.378, АА, 1863 г., спр.896, арк.8; Труды местных комитетов о нуждах сельскохозяйственной промышленности. СПб., 1903, Вып. V. Витебская губерния. С.45; СПб., 1903. Вып. XI. Гродненская губ. С.203; СПб., 1903. Вып. XXII. Могилевская губ. С.128.

[2] НГАБ, ф.242, воп.1, спр.2349, арк.96, 230; спр.2485, арк.71; воп.2, спр.1756, арк.48, 54–55, 61–65, 68–69, 71.

[3] Труды комиссии, Высочайше учрежденной для пересмотра системы податей и сборов. СПб., 1873. Т.XXII. Ч.3. Отд. I. С.30–33, 104–107, 112–113, 122–125, 168–187; Ежегодник Министерства финансов. СПб., 1871–1894. Вып. III–XXI; Отчет Государственного банка по выкупной операции с открытия выкупа по 1 января 1892 года. Приложение 24.

[4] Материалы Комиссии 16 ноября 1901 г. Ч.I. С.270–274.

руху войска, для раз'ездаў чыноў паліцыі і жандармерыі і г.д. Тое ж можна сказаць і пра паліцэйскую павіннасць, якая заключалася ў абавязку суправаджаць арыштаваных, выконваць абавязкі соцкіх і дзесяцкіх.

Грамадскія павіннасці адбываліся сялянамі ў грашовай і натуральнай формах. Да іх належалі зборы на ўтрыманне валаснога праўлення і суда, сельскіх адміністрацыйных асоб (ураднікаў, сельскіх стараст), ветэрынараў, рамонт сельскіх запасных магазінаў і інш. Грамадскія павіннасці выконвалі толькі сяляне, нягледзячы на тое што сельскія ўстановы і адміністрацыйныя асобы абслугоўвалі таксама іншыя саслоўі і дзяржаву. Грамадскія грашовыя выдаткі сялян павялічваліся. Калі ў 1881 г. у пяці заходніх губернях яны складалі 2100,5 тыс. руб., то ў 1894 г. – 3449,6 тыс. руб. (рост на 39,1 %)[1].

Розныя зборы з сялян паглыналі львіную долю сялянскага бюджэту. У 1892–1900 гг.сяляне гэтых губерняў у сярэднім штогод у грашовым выражэнні ўсяго плацілі (уключаючы харчовы збор у сельскія запасныя магазіны – па 4 пуды збожжа на душу абодвух полаў, але без уліку грамадскіх натуральных павіннасцей) 1 руб. 71 кап. на дзесяціну прыдатнай надзельнай і купленай зямлі, што складала не менш чым за 3/4 чыстага даходу з яе. У той жа час памешчыкі плацілі падатку ў сярэднім 14,5 кап. на дзесяціну прыдатнай зямлі, г.зн. у 11,8 раза менш, чым сялянства[2]. Такая вялікая дыспрапорцыя ў памерах сялянскіх і панскіх падаткаў тлумачыцца ў першую чаргу тым, што пераважную частку прыдатнай зямлі ў памешчыкаў займалі лясныя ўгоддзі, якія ацэньваліся значна танней, чым ворныя землі.

Для выплаты падаткаў сяляне былі вымушаны яшчэ з восені прадаваць за бясцэнак прадукты сваёй гаспадаркі, адпраўляцца на "заработкі", займацца рознымі саматужнымі промысламі. Тым не менш нядоімкі па грашовых плацяжах з кожным годам павялічваліся. Для іх пагашэння мясцовыя ўлады часта апісвалі ў селяніна апошнюю маёмасць, забіралі жывёлу, каралі нядоімшчыкаў.

Апрача прамых падаткаў, сяляне плацілі вялікія ўскосныя падаткі, што спаганяліся дзяржавай і прамыслоўцамі ў выглядзе дадатковай платы за тавары шырокага ўжытку (соль, тытунь, запалкі, гарэлка, цукар і інш.). Яны асабліва адбіваліся на немаёмных і маламаёмных пластах насельніцтва, у якіх выдаткі на прадметы першай неабходнасці з'яўляліся асноўным артыкулам іх мізэрнага бюджэту. У пачатку 80-х гг. на душу сялянскага насельніцтва Еўрапейскай Расіі ўскосныя падаткі складалі 2 руб. 90 кап.[3] Яны хутка раслі. Толькі з 1886 па 1897 г. даходы расійскай казны ад ускоснага абкладання народанасельніцтва павялічыліся ў 3,6 раза[4].

Павіннасці і плацяжы сялянскага насельніцтва ўсім гэтым далёка не вычэрпваліся. Вялікім цяжарам на плечы сялян клалася рэкруцкая, а з 1874 г. –

---

[1] Мирские расходы крестьян в 46 губерниях Российской империи за 1881 год. СПб., 1886. Таблицы. С.234–235; Мирские доходы и расходы за 1894 год в 50 губерниях Европейской России. СПб., 1898.

[2] Свод сведений о поступлении и взимании казенных, земских и общественных окладных сборов за 1892–1894 гг. СПб., 1902. Ч.I. С.82–95; Ч.II. С.78–90; Свод сведений о поступлении и взимании казенных, земских и общественных сборов за 1895–1899 гг. СПб., 1902. С.120–128, 132–138, 267–275, 321–324; Свод сведений о поступлении и взимании казенных, земских и общественных сборов за 1900 г. СПб., 1907. С.30–34, 68–70, 83–84; Цифровые данные о поземельной собственности в Европейской России. СПб., 1897. С.6–9.

[3] Россия в революционной ситуации на рубеже 1870–1880-х годов. М., 1983. С.40.

[4] *Сабуров П.* Материалы для истории русских финансов. 1866–1897. СПб., 1899. Приложение 36.

усеагульная воінская павіннасць. Выключна буйныя выдаткі яны неслі пры арэндзе і куплі зямлі, галоўным чынам панскай, а таксама пры аплаце розных казённых пошлін і інш.

На сялян распаўсюджваліся асобыя законы, грамадзянскія правы іх былі абмежаваныя. Кожны селянін абавязкова прыпісваўся да сельскай ці валаснай грамады, усе члены якой былі звязаны кругавой парукай пры выплаце падаткаў і адбыванні павіннасцей. Выйсці з яе было даволі цяжка. Для гэтага селяніну трэба было заплаціць усе падаткі і нядоімкі па іх на 1 студзеня наступнага года, падаць прыёмнае пасведчанне той грамады, у якую ён пераходзіў. Пры абшчынным уладанні ўсёй зямлёй селянін прымацоўваўся да надзелу і мог пакінуць яго толькі тады, калі заплаціў палову выкупной сумы, а сельская грамада ўзяла на сябе паруку за выплату другой паловы выкупной дзяржаўнай пазыкі. Але і пры выкананні ўсіх гэтых умоў ён меў права выйсці з грамады толькі ў тым выпадку, калі яна не мела нядоімак па казённых зборах, у тым ліку выкупных плацяжах. Пры падворным уладанні ворнай зямлёй і сенажацямі селянін, выходзячы з грамады, абавязаны быў папярэдне прадаць свой надзельны зямельны ўчастак другому члену той жа сельскай грамады, які браў на сябе абавязацельствы па выкупных плацяжах. Таксама сяляне не мелі права закладваць, дарыць надзельную зямлю, перадаваць яе ў спадчыну і г.д. Селянін быў абмежаваны і ў правах перамяшчэння. Ён мог адлучыцца з месца жыхарства на тэрмін да аднаго года незалежна ад нядоімак, што лічыліся за ім. Але далейшы працяг тэрміну адлучкі залежаў ад згоды грамады. Царскі ўрад таксама праводзіў палітыку абмежавання сялянскіх перасяленняў, якую спалучаў з іх забаронай . Сяляне падпарадкоўваліся саслоўнаму валаснаму праўленню, знаходзіліся пад асобай адміністрацыйна-паліцэйскай апекай міравых пасрэднікаў[1]. Апошнія звычайна абаранялі інтарэсы памешчыкаў і сельскай адміністрацыі. Сялянства і пасля адмены прыгону засталося падатковым, прыніжаным, абмежаваным у сваіх грамадзянскіх правах саслоўем.

Такім чынам, пасля рэформы 1861 г. сельская гаспадарка Беларусі набывала таварна-капіталістычны характар. Развіццё капіталістычных адносін у ёй выяўлялася ў росце прадукцыйных сіл, ураджайнасці і асабліва памераў гандлёвай прадукцыі збожжа, бульбы, лёну, жывёлагадоўлі, паглыбленні спецыялізацыі, паляпшэнні агратэхнікі і тэхнічнай узброенасці сельскагаспадарчай вытворчасці, паступовым выцясненні кабальных формаў працы вольным наймам, класавай дыферэнцыяцыі сялянства. Адначасова ў беларускай вёсцы захоўваліся рэшткі прыгонніцтва, найбуйнейшым з якіх была латыфундыяльная панская зямельная ўласнасць, а таксама сервітуты, цераспалосіца, адпрацоўкі, паўфеадальныя падаткі і натуральныя павіннасці сялянства, абмежаванне яго грамадзянскіх правоў. Яны стрымлівалі развіццё аграрнага капіталізму ў парэформенны перыяд.

## 2. Прамысловасць. Транспарт. Гандаль. Крэдыт

**Паскарэнне прамысловай рэвалюцыі. Дынаміка дробнатаварнай, мануфактурнай і фабрычнай вытворчасці**. Усе тры асноўныя формы арганізацыі прамысловасці XIX ст. – дробнатаварная, мануфактурная і фаб-

---

[1] ПСЗ. Собр. 2-е. Т. 36. №36657; *Леонтьев А.А.* Крестьянское право. Систематическое изложение особенностей законодательства о крестьянах. СПб., 1914. С.36–45, 299–301; *Верещагин П.Д.* Крестьянские переселения из Белоруссии (вторая половина XIX в.). С.29–45.

рычная вытворчасць – склаліся яшчэ ў дарэформеннай Беларусі. Пасля адмены прыгоннага права і рэформаў 60–70-х гг. XIX ст. яны захаваліся і атрымалі далейшае развіццё. Пры гэтым значна ўзрасла роля фабрычна-заводскай прамысловасці, якая ўпэўнена заняла дамінуючае месца ў прамысловым сектары беларускай эканомікі. Яна з'яўлялася лідэрам тэхнічнага прагрэсу, выключна на ёй базіравалася новая для Беларусі вытворчасць прамысловых тавараў.

Мануфактурная і дробнатаварная вытворчасць хаця і саступала фабрычна-заводскай па тэхнічнаму ўзбраенню і ступені канцэнтрацыі прадукцыйных сіл, у агульным памеры вытворчасці займала значнае месца. Паралельнае існаванне, а не аўтаматычная змена рамяства – мануфактурай і мануфактуры – фабрыкай, не сведчыла аб агульнай адсталасці беларускай прамысловасці. Справа ў тым, што тэхнічны ўзровень таго часу дазваляў весці машынную перапрацоўку далёка не ўсіх сыравінных рэсурсаў Беларусі, а наяўнасць значнага лішку танных працоўных рук па-свойму стрымлівала тэхнічны прагрэс. Гэтым і тлумачыцца трываласць у эканоміцы Беларусі дробнатаварнай вытворчасці і мануфактуры.

Пераважнае месца ў дробнатаварнай вытворчасці займалі рамесныя майстэрні, колькасць якіх узрастала. Калі ў пачатку 60-х гг. у Беларусі мелася каля 10 тыс. рамесных майстэрняў, то ў канцы 70-х гг. – 17 тыс., 80-х гг. – 24 тыс., 90-х гг. – 50 тыс.[1] У 1900 г. у дробнай і рамеснай прамысловасці Беларусі налічвалася 84 тыс. майстэрняў з 144 тыс. рабочых[2].

Развіццё мануфактур не мела эканамічных перспектыў. Яны прайгравалі дробнатаварным прадпрыемствам як больш дынамічным і здольным хутчэй прыстасавацца да патрэб рынку. Саступалі яны фабрыкам і заводам па памерах вытворчасці на асобна ўзятым прадпрыемстве і па якасці прадукцыі. З адменай прыгоннага права адпала магчымасць прымусовага выкарыстання працы прыгонных сялян, а новыя энергетычныя магчымасці – паравыя рухавікі, а ў канцы XIX ст. – электрычнасць і першыя рухавікі ўнутранага згарання – відавочна дэманстравалі сваю перавагу перад ручной працай. Але працэс заняпаду мануфактурнай вытворчасці не насіў абвальны характар і ішоў паступова.

У дробнатаварнай і мануфактурнай прамысловасціназіраліся і некаторыя рысы канцэнтрацыі вытворчасці. Так, мястэчка Смаргонь Віленскай губерні стала цэнтрам гарбарнай прамысловасці, мястэчка Дуброўна Магілёўскай губерні спецыялізавалася на вытворчасці талесаў, былы паявтовы цэнтр Копысь Магілёўскай губерні – на вытворчасці кафлі.

Фабрычна-заводская вытворчасць, заснаваная на скарыстанні машын, засведчыла сваю жыццяздольнасць ва ўсіх галінах беларускай прамысловасці. Асабліва бурнае развіццё фабрыкі і заводы Беларусі атрымалі ў канцы XIX ст. Гэты перыяд можна лічыць пачаткам індустрыялізацыі[3]. Прычым на працягу 80–90-х гг. XIX ст. у Беларусі было пабудавана ў чатыры разы больш прадпрыемстваў, чым у двух папярэдніх дзесяцігоддзях (па Расійскай імперыі – у 2,6 раза)[4].

Важным паказчыкам індустрыялізацыі з'яўляецца рост энергетычнай узброенасці прамысловасці. У пачатку 90-х гг. у Беларусі дзейнічала 294 па-

---

[1] *Абезгауз З.Е.* Развитие промышленности и формирование пролетариата Белоруссии во второй половине XIX века. Мн., 1971. С.24.

[2] Экономика Белоруссии в эпоху империализма. 1900–1917. Мн., 1963. С.11.

[3] *Довнар-Запольский М.В.* Народное хозяйство Белоруссии в 1861–1914 гг. С.234.

[4] Экономика Белоруссии в эпоху империализма. 1900–1917. С.8.

равыя рухавікі агульнай магутнасцю 5346 к.с., у 1900 г. – 527 рухавікоў магутнасцю 12 268 к.с.[1] У 1889 г. пры Добрушскай папяровай фабрыцы (Гомельскі павет) пачала дзейнічаць першая ў Беларусі электрастанцыя.

Да ліку буйнейшых і найбольш тэхнічна дасканалых прадпрыемстваў не толькі Беларусі, але і ўсёй Расійскай імперыі належалі Добрушская (Магілёўская губерня) папяровая фабрыка, суконныя фабрыкі ў Альбярціне (Гродзенская губерня) і Парэччы (Мінская губерня). Яны, як і шэраг іншых беларускіх прадпрыемстваў, неаднаразова ўдзельнічалі ў айчынных і замежных выстаўках і атрымлівалі высокія ўзнагароды, што сведчыла аб адпаведнасці іх прадукцыі еўрапейскім і сусветным узорам[2].

Сваю нішу ў прамысловасці Беларусі знайшла і такая форма арганізацыі вытворчасці, як акцыянерныя таварыствы. Далёка не ўсе з іх змаглі паспяхова весці эканамічную дзейнасць, але ў канцы XIX ст. у Беларусі існавала каля дзесяці акцыянерных таварыстваў. Прыкладам найбольш выдатнай канцэнтрацыі рэсурсаў у форме акцыянернага капіталу з'яўлялася "Таварыства Добрушскай князя Паскевіча папяровай фабрыкі". Яно было заснавана ў 1877 г. з капіталам у 550 тыс. руб., падзеленых на 550 акцый[3].

Значную ролю ў ажыўленні эканомікі Беларусі адыграў указ ад 8 снежня 1867 г. аб дазволе яўрэям быць арандатарамі або аканомамі млыноў і заводаў пры маёнтках заходніх губерняў. Тым самым у пэўнай меры здымалася забарона на жыхарства яўрэяў у сельскай мясцовасці, а, з іншага боку, ствaралася магчымасць для спалучэння прадукцыйных сіл, якія меліся ў памешчыкаў, з арганізацыйнымі і фінансавымі здольнасцямі заможных пластоў яўрэйскага насельніцтва.

Усяго за 40 парэформенных гадоў сума фабрычна-заводскай вытворчасці ў Беларусі ўзрасла з 1,9 да 72,1 млн руб. (у 38 разоў), у той час як мануфактурнай – у 14 разоў, дробнатаварнай – у 3,1 раза. Колькасць фабрык і заводаў узрасла з 76 да 1137 (у 15 разоў), мануфактур – у 5,4 раза, дробных прадпрыемстваў – у 1,2 раза. У 1900 г. на беларускіх фабрыках і заводах выраблена больш за 46 % прамысловай прадукцыі, на мануфактурах адпаведна – 15 %[4].

**Галіновая структура і размяшчэнне прамысловасці**. Прамысловасць парэформеннай Беларусі, як і раней, базіравалася ў асноўным на выкарыстанні і перапрацоўцы мясцовых сыравінных рэсурсаў, у першую чаргу лясных багаццяў і прадукцыі сельскай гаспадаркі. Аднак пры захаванні амаль што традыцыйнай галіновай структуры беларускай прамысловасці ў ёй адбыліся колькасныя змены і відавочнае якаснае паляпшэнне. Вядучае месца засталося за рознымі галінамі харчасмакавай прамысловасці. Другараднае значэнне мелі іншыя прамысловыя галіны: тэкстыльная, гарбарная, шкляная, сілікатна-будаўнічая.

Парэформенная Беларусь заставалася адным з галоўных раёнаў вінакурства ў Расійскай імперыі. Хаця ў апошнія два дзесяцігоддзі XIX ст. колькасць вінакурных заводаў у Беларусі некалькі скарацілася, іх агульная вы-

[1] *Абезгауз З. Е.* Развитие промышленности и формирование пролетариата Белоруссии во второй половине XIX века. С.40.

[2] *Киштымов А.Л.* Участие Беларуси в выставках // Очерки истории науки и культуры Беларуси IX – начала XX в. Мн., 1996. С.442–445.

[3] Устав Товарищества Добрушской князя Паскевича писчебумажной фабрики. СПб., 1878. С.3–4, 6.

[4] *Болбас М.Ф.* Промышленность Белоруссии. 1860–1900. С.86–87.

творчасць значна ўзрасла (табл. 1). Гэта адбылося за кошт тэхнічнага ўдасканалення, асабліва ў апошняе пяцігоддзе XIX ст.

*Табліца 7.* **Вінакурная прамысловасць Беларусі ў 1879–1900 гг.***

| | 1879 г. | 1890 г. | 1896 г. | 1900 г. |
|---|---|---|---|---|
| Колькасць прадпрыемстваў | 538 | 393 | 389 | 471 |
| Сума вытворчасці, тыс.руб | 4267 | 3274 | 3224 | 10598 |

* Падлічана па: *Абезгауз З.Е.* Развитие промышленности и формирование пролетариата Белоруссии во второй половине XIX века. С 44.

Працэсы скарачэння колькасці прадпрыемстваў разам з іх узбуйненнем і павелічэннем вытворчасці назіраліся і ў піваварнай прамысловасці. Мукамольна-крупяная галіна харчовай прамысловасці ўяўляла сабою спалучэнне ўсіх формаў вытворчасці, ад прымітыўных вадзяных і ветраных да паравых, з адзінкавай вытворчасцю да 2000 тыс. пудоў штогод. Крухмальна-патачныя і алейныя прадпрыемствы другой паловы XIX ст. часцей за ўсё адносіліся да дробнатаварных і мануфактурных.

Тытунёвыя прадпрыемствы меліся ў кожнай губерні і канцэнтраваліся выключна ў гарадах. Самым буйным прадпрыемствам у гэтай галіне стала гродзенская фабрыка Шарашэўскага, заснаваная ў 1862 г. У 1884 г. 688 рабочых гэтай фабрыкі вырабілі 4,8 тыс. пудоў тытуню, 22,4 тыс. пудоў махоркі, 9,3 млн цыгар і 48,2 млн штук папярос на 344 тыс. руб.[1] У 1900 г. на фабрыцы працавала 1347 чалавек, гадавы выраб складаў 2,4 млн руб.[2] – больш за палову агульнай сумы вытворчасці беларускай тытунёвай прамысловасці на той час.

70-я гг. XIX ст. сталі дзесяцігоддзем найбольшага росквіту цукровай прамысловасці Беларусі. Тры буйнейшыя цукровыя заводы: Скірмунта ў маёнтку Парэчча (Пінскі павет), Вітгенштэйна ў маёнтку Івань (Слуцкі павет) і Паскевіча ў Гомелі выраблялі каля 25 тыс. пудоў цукру штогод. Але ўжо ў 80-я гг. усе цукровыя заводы Беларусі спынілі сваё існаванне, не вытрымаўшы канкурэнцыі з боку цукровай прамысловасці Украіны.

Якасныя змены адбываліся ў лясной прамысловасці. Побач з вывазам сырога лесу, які павялічваўся з кожным годам, у Беларусі ўзніклі прадпрыемствы па глыбокай перапрацоўцы драўніны. Лідэрам у сваёй галіне, і не толькі ў Беларусі, стала Добрушская папяровая фабрыка. Дзякуючы таленту і арганізацыйным здольнасцям А. Стульгінскага, які бесперапынна з 1877 па 1915 г. быў яе дырэктарам, фабрыка атрымала першакласнае тэхнічнае абсталяванне, увяла новыя тэхналогіі і да 1900 г. давяла памеры гадавой вытворчасці да 317,5 т паперы на суму 1601 тыс. руб.[3]

Даволі вялікія папяровыя фабрыкі дзейнічалі паблізу Чашнікаў у Лепельскім павеце ("Скіна", заснавана ў 1885 г.) і ў Шклове (заснавана ў 1890 г.).

Да ліку прамысловых галін Беларусі, якія развіваліся вельмі дынамічна, адносілася вытворчасць запалак. У канцы XIX ст. буйныя запалкавыя фаб-

[1] *Орлов П.* Указатель фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1886. С.616.

[2] Список фабрик и заводов Европейской России / Под ред. В.Вазара. СПб., 1903. С.515.

[3] *Кiштымов А.* Добрушская бумажная фабрика: опыт социальной политики директора-распорядителя А.И. Стульгинского (80-е гг. XIX в. – 1915 г.) // Предпринимательство в Белоруссии. 2000. №7. С.29–31.



Добрушская папяровая фабрыка

рыкі дзейнічалі ў Барысаве, Койданаве, Мазыры, Пінску Мінскай губерні і Навабеліцы Магілёўскай губерні.

Па памерах вытворчасці не мела сабе роўных у Расійскай імперыі пінская шавецка-шпілечная фабрыка, якая дзейнічала з 1879 г. Шырокую вядомасць набыла мэбля бабруйскай фабрыкі Мартыскевіча і Гонесці. Шматлікія прадпрыемствы лясной прамысловасці Беларусі выраблялі дошкі, гонт, паркет, шпалы, запалкавую саломку, драўняную масу, картон. Відавочным сведчаннем канцэнтрацыі вытворчасці ў лесахімічнай прамысловасці было з'яўленне ў канцы XIX ст. буйных заводаў сухой перагонкі драўніны ў Аршанскім, Рагачоўскім і Сенненскім паветах.

У 70-я гг. XIX ст. закрыліся апошнія металургічныя прадпрыемствы Беларусі, аднак металаапрацоўка і машынабудаўніцтва працягвалі развівацца, абслугоўваючы ў асноўным патрэбы сельскай гаспадаркі. Цэнтрамі вытворчасці сельскагаспадарчых машын і абсталявання з'яўляліся Мінск, Брэст, Горкі, мястэчка Ракаў Мінскага павета. У с. Барань пад Оршай з 1873 г. паспяхова дзейнічаў драцяна-цвікавы завод.

Удзельная вага прадукцыі тэкстыльных прадпрыемстваў у агульнай прамысловасці Беларусі зніжалася. Нягледзячы на існаванне шэрагу дарэформенных суконных фабрык, значнага развіцця гэта галіна не атрымала. У канцы XIX ст. адкрыліся некалькі шоўкакруцільных фабрык з удзелам замежнага капіталу.

Гарбарная, шкляная і сілікатна-будаўнічая галіны прамысловасці паступова павялічвалі памеры вытворчасці. Аднак часцей за ўсё гэта былі змены колькаснага характару. Тэхнічны прагрэс пакуль што слаба закрануў іх.

Новай з'явай у эканоміцы Беларусі другой паловы XIX ст. было будаўніцтва асобных прадпрыемстваў, якія займалі выключнае, часта манапольнае становішча ў адпаведнай вытворчасці. Так, сын харкаўскага купца 1-й гільдыі М.Эльяшаў у 1878 г. атрымаў дазвол на будаўніцтва ў Гродне алоўкавай фабрыкі[1]. Усяго на той час у Расійскай імперыі існавала чатыры такіх прадпрыемст-

[1] НГАБ у Гродне. ф.8, воп.2, спр.209, арк. 8–11.

вы. На ўсерасійскай выстаўцы ў Маскве (1882) прадукцыю гродзенскай алоўкавай фабрыкі ўзнагародзілі бронзавым медалём, на сусветнай выстаўцы ў Парыжы (1889) яна атрымала ганаровы водгук. У 1892 г. у Віцебску пачала дзейнічаць фабрыка акуляраў і аптычных прылад – першая ў Расійскай імперыі. Адзіным у паўночна-заходніх губернях суднабудаўнічым заводам стаў завод, адкрыты ў 1884 г. у Пінску.

**Шляхі зносін і сродкі сувязі**. Вырашальнае значэнне для развіцця эканомікі Беларусі мела інтэнсіўнае чыгуначнае будаўніцтва, якое разгарнулася з 60-х гг. ХІХ ст. Праз Гродна ў 1862 г. прайшла чыгунка Пецярбург – Варшава. У 1866 – 1868 гг. Віцебск і Полацк сталі станцыямі Рыга-Арлоўскай чыгункі. У 1871 г. з усходу на захад Беларусь перасекла чыгунка Масква–Брэст. Яна прайшла праз Оршу, Барысаў, Мінск, Баранавічы. Праз два гады пачаўся рух на беларускім участку (Смаргонь – Маладзечна – Мінск – Асіповічы – Бабруйск – Жлобін – Гомель) Лібава-Роменскай чыгункі. У той жа час праз Брэст прайшла чыгунка з Украіны да мяжы з Прусіяй. Такім чынам, беларускія губерні атрымалі надзейны сродак зносін з Пецярбургам і Масквой, Украінай, партовымі гарадамі Рыгай і Лібавай, Варшавай і Заходняй Еўропай. Для перамяшчэння грузаў і пасажыраў былі падпісаны адпаведныя пагадненні з чыгункамі еўрапейскіх дзяржаў.

Да 80-х гг. ХІХ ст. чыгункі ў Беларусі будаваліся прыватнымі акцыянернымі кампаніямі, з удзелам замежнага, у прыватнасці англійскага, капіталу. З пачатку 80-х гг., у сувязі з правядзеннем дзяржаўнай рэарганізацыі ўсёй сістэмы чыгуначнага транспарту, пачаўся выкуп прыватных чыгунак у казну[1]. 18 сакавіка 1891 г. з'явіўся ўказ аб выкупе ў казну Лібава-Роменскай чыгункі. Да канца ХІХ ст. усе асноўныя чыгункі Беларусі сталі дзяржаўнымі. За казённы кошт вялося ў далейшым і будаўніцтва ў беларускіх губернях



Полацк. Мікалаеўскі вакзал

[1] *Соловьева А.М.* Железнодорожный транспорт России во второй половине XIX века. М., 1975. С.178.



Орша. Параходная прыстань

новых чыгунак. 8 жніўня 1887 г. на станцыі Гомель урачыста адзначалася завяршэнне будаўніцтва сеткі казённых Палескіх чыгунак. Іх агульная даўжыня складала больш за 1400 вёрст.

Кожны рэгіён Беларусі, праз які праходзіла чыгунка, атрымліваў моцны стымул для эканамічнага росту. Напрыклад, за першыя 25 гадоў эксплуатацыі Палескіх чыгунак іх грузаабарот узрос у 50 разоў. Калі ў 1885 г. на Палессі было ўсяго шэсць лесапільных заводаў з агульнай вытворчасцю 150 тыс. руб. у год, то ў 1909 г. – 48 з агульнай вытворчасцю больш за 2 млн руб. Колькасць гарбарных заводаў павялічылася з 24 да 100, іх гадавая вытворчасць – да 500 тыс. руб. Агульная колькасць усіх фабрык і заводаў у раёне Палескіх чыгунак узрасла з 674 да 4000 з гадавой вытворчасцю каля 60 млн руб.[1]

У сувязі з тым, што асноўныя сродкі ішлі на будаўніцтва чыгунак, у развіцці водных шляхоў зносін у другой палове XIX ст. не назіралася істотных змен. На тэрыторыю парэформеннай Беларусі прыходзілася прыкладна 1/3 даўжыні каналаў Расійскай імперыі і ў тры разы больш водных шляхоў, чым у сярэднім па Еўрапейскай Расіі. Асноўнае месца сярод грузаў, якія адпраўляліся па вадзе, займалі лесаматэрыялы.

Індустрыялізацыя ахапіла і водны транспарт. Колькасць паравых суднаў па рэках Беларусі за 1860–1900 гг. узрасла з 20 да 164[2].

Статыстыка чыгуначных і водных шляхоў зносін дастаткова выразна сведчыць аб эканамічным уздыме беларускіх губерняў у другой палове XIX ст. У 1866–1900 гг. агульны грузаабарот чыгуначнага і воднага транспарту края павялічыўся ў 18,3 раза, з 19,6 млн да 357,7 млн пудоў[3].

Рэалізацыя велізарнай праграмы будаўніцтва чыгунак прывяла да амаль поўнага згортвання будаўніцтва сухапутных дарог. Аднак з канца XIX ст.

---

[1] Очерк 25 лет эксплуатации Полесских железных дорог (1884–1904 гг.). Вильна, 1909. С.44–45, 52–53.

[2] *Болбас М.Ф.* Промышленность Белоруссии. 1860–1900. С.131;

[3] Падлічана па: Военно-статистический сборник. Вып. IV. СПб., 1871; Торговля и промышленность России по районам. СПб., 1904. Т.II, XI, XII.

пракладка новых шасэ зноў стала адным з прыярытэтаў Міністэрства шляхоў зносін і мясцовай адміністрацыі. З зацвярджэннем у 1883 г. дзялення сухапутных дарог на два класы большасць беларускіх гасцінцаў трапіла ў першы разрад – дарог агульнадзяржаўнай значнасці, куды былі аднесены ўсе дарогі на захад ад рэк Дняпра і Заходняй Дзвіны[1].

Паштова-тэлеграфная сувязь надзейна звязвала паміж сабою губернскія і павятовыя гарады Беларусі, хаця ў сельскай мясцовасці назіраўся недахоп камунікацыйных сродкаў.

Даволі хутка з'явіўся ў Беларусі новы сродак сувязі – тэлефон, які ў 1876 г. вынайшаў амерыканец А.Бэл. Першая ў беларускіх губернях тэлефонная сетка належала прыватнай асобе. 18 снежня 1882 г. Міністэрства ўнутраных спраў дазволіла будаўніцтва тэлефонных ліній уладальніку Гомельскага маёнтка графу І.Паскевічу-Эрыванскаму[2]. У Мінску тэлефонная сетка для службовага карыстання была наладжана ў 1890 г. У 1896 г. Мінск – першы з беларускіх гарадоў – атрымаў тэлефонную станцыю грамадскага карыстання (53 абаненты, 57 апаратаў).

**Фінансава-крэдытныя ўстановы**. Фінансавая сістэма парэформеннай Расійскай імперыі не надта садзейнічала паспяховаму вядзенню эканамічных спраў. Захоўваўся бюджэтны дэфіцыт, курс рубля падаў. Падаўленне паўстання 1863 – 1864 гг. абышлося казне ў 71,1 млн руб., расійска-турэцкая вайна 1876 – 1878 гг. – у 1,4 млрд руб.[3] Імперыя апынулася на мяжы банкруцтва. На 1 студзеня 1887 г. дзяржаўная запазычанасць складала 6,5 млрд руб. Толькі пасля правядзення ў 1895 – 1897 гг. міністрам фінансаў С. Вітэ рэформы рубель стаў адной з самых стабільных грашовых адзінак у свеце. Пры гэтым трываласць расійскага рубля засноўвалася не столькі на эканамічных поспехах імперыі, колькі на велізарным дзяржаўным залатым запасе. Аднак гэта садзейнічала прытоку замежнага капіталу і агульнаму ажыўленню эканамічнага жыцця.

Дзяржаўны банк Расійскай імперыі быў заснаваны ў 1860 г. У адрозненне ад класічных цэнтральных эмісійных банкаў, ён займаўся не толькі эмісійнай справай (г.зн. выпускам грошай у абарот), але і ўзначаліў усю крэдытную сістэму дзяржавы, захаваў функцыю буйнейшага камерцыйнага банка. Аддзяленні дзяржбанка ў 1881–1885 гг. былі арганізаваны ва ўсіх беларускіх губернскіх гарадах. Па колькасці ўлічаных вэксаляў мінскае аддзяленне Дзяржбанка на рубяжы вякоў займала пятае месца ў Расійскай імперыі.

У якасці саслоўных крэдытных устаноў дзейнічалі іпатэчныя дзяржаўныя банкі – Сялянскі пазямельны банк (з 1883 г.), Дваранскі зямельны банк (з 1885 г.) і прыватны Віленскі акцыянерны зямельны банк, якія мелі ў Беларусі свае філіялы. Аднак атрымаць у іх пазыку маглі далёка не ўсе. Так, паводле ўказа ад 25 верасня 1885 г. для атрымання пазыкі ў дзяржаўным Дваранскім зямельным банку патрабавалася прад'явіць пасведчанне аб праве набыцця маёнтка ў беларускіх губернях, якога не мелі так званыя асобы "польскага" паходжання.

Новы дзяржаўны курс у галіне фінансава-крэдытных адносін выявіўся ў дазволе на дзейнасць прыватных банкаў. Першы такі банк быў створаны ў Санкт-Пецярбургу ў 1864 г. 8 студзеня 1870 г. быў падпісаны сенацкі ўказ аб

[1] *Кудрявцев А.С.* Очерк истории дорожного строительства в СССР (дооктябрьский период). М., 1951. С.199.

[2] НГАБ, ф.3013, воп.1, спр.1076, арк.1.

[3] Русский рубль. Два века истории. М., 1994. С.73, 84.




Бабруйскае пазыка-ашчаднае таварыства

усталяванні ў Гомелі грамадскага банка. Больш дробныя гарадскія банкі дзейнічалі ў Полацку (з 1874 г.), Віцебску (з 1882 г.), Барысаве (з 1900 г.)[1].

У 1873 г. пачаў сваю дзейнасць Мінскі камерцыйны банк – буйнейшы прыватны банк Беларусі. У 1875 г. дэлегаты ад яго прынялі ўдзел у рабоце першага расійскага з'езда прадстаўнікоў акцыянерных банкаў камерцыйнага крэдыту, які разгледзеў пытанні аб аднолькавай форме банкаўскіх справаздач і ўзаемных адносінах акцыянерных банкаў паміж сабой і з Дзяржаўным банкам[2].

За 1876–1897 г. асноўны капітал Мінскага камерцыйнага банка павялічыўся з 500 тыс. да 1 млн руб. У перыяд прамысловага пад'ёма 90-х гг. банк адкрыў 11 філіялаў, у тым ліку 9 – за межамі беларускіх губерняў.

Дробнае і кароткачасовае крэдытаванне ажыццяўлялі банкірскія і банкаўскія канторы. У канцы XIX ст. 37 такіх крэдытных устаноў існавалі ў 16 населеных пунктах Беларусі, у тым ліку ў Ваўкавыску, Кобрыне, Ляхавічах, Нясвіжы, Пружанах, Слоніме[3].

У 1874 г. з'явіліся першыя таварыствы ўзаемнага крэдыту – мінскае і магілёўскае. К пачатку XX ст. іх стала 7 з 3,7 тыс. пайшчыкаў і 2,4 млн руб. укладаў і бягучых рахункаў[4].

Пачынаючы з 90-х гг. XIX ст. прамысловы пад'ём у Беларусі ў значнай меры забяспечваўся прыцягненнем крэдытных сродкаў з-за мяжы беларускіх губерняў. Актыўна дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі агульнарасійскія і рэгіянальныя прыватныя камерцыйныя банкі: Пецярбургска-Азоўскі, Арлоўскі, Віленскі і Беластоцкі.

---

[1] Вестник финансов, промышленности и торговли. 1898. №43. С.294–299.

[2] Отчет о трудах первого съезда представителей акционерных банков коммерческого кредита. СПб., 1875. С.11.

[3] *Аркин М.Я.* Частные банкирские дома и конторы в России с их филиальными отделениями. Гродно, 1897. С.8, 12–15, 18, 20, 22, 23, 25, 29, 31, 34.

[4] *Тимошенко В.В.* Кредитная система Белоруссии в начале XX в. // Исторические записки. М., 1965. Т.38. С.77, 78.



Магілёў. Дзяржаўны банк

На 1 студзеня 1900 г. дысконтна-пазыковыя аперацыі ў Беларусі складалі 16,5 млн руб. (па Расійскай імперыі – 953 млн руб.). Прычым на долю Дзяржаўнага банка прыходзілася 46,7 %, акцыянерных банкаў – 25,3, таварыстваў узаемнага крэдыту – 21,8, гарадскіх банкаў – 6,2 %[1].

**Беларускі рынак, унутраны і знешні гандаль**. У гандлі імкліва падала значэнне кірмашоў. У 1868 г. на іх было прададзена тавараў крыху больш, чым на 1 млн руб., ці амаль што ўдвая менш, як у 1860 г.[2] Далейшы заняпад кірмашовага гандлю быў непасрэдна звязаны з развіццём чыгуначнага транспарту, сродкаў сувязі і выхадам на рынак вялікай колькасці прамысловай прадукцыі. Гэта дазваляла весці гандаль больш раўнамерна на працягу года і не прыстасоўвацца да прыродных умоў.

Кірмашы, якія захаваліся, набывалі рысы гандлёвых біржаў, дзе ішоў не столькі непасрэдны гандаль таварамі, колькі адбываліся гандлёвыя аперацыі, заключаліся здзелкі.

Рост урбанізацыі Беларусі прывёў да значнага пашырэння рознічнага гандлю. Так, у канцы XIX ст. гандаль у крамах сканцэнтраваў 95 % усяго гарадскога ўнутранага гандлёвага абароту. У 1900 г. налічвалася 14 беларускіх гарадоў з гандлёвым абаротам звыш 1 млн руб. Яны прадалі тавараў на 79 млн руб. (усяго па Беларусі – 95 млн руб.), у тым ліку Мінск – на 22,5 млн руб., Віцебск – на 12,9 млн руб., Брэст – на 11,3 млн руб., Гомель, Гродна, Магілёў, Пінск – больш чым на 3 млн руб. кожны[3].

Тавараабарот у сельскай мясцовасці быў нізкі і значна адставаў ад гарадскога. Па паказчыках на душу насельніцтва ў 1900 г. ён быў меншы за тавараабарот у гарадах у сем разоў[4].

---

[1] *Тимошенко В.В.* Кредитная система Белоруссии в начале XX в. // Исторические записки. М., 1965. Т. 38. С.65.

[2] *Болбас М.Ф.* Промышленность Белоруссии. 1860–1900.

[3] Там жа.

[4] Там жа. С.19.

Як і раней, сярод тавараў, што вывозіліся з беларускіх губерняў, пераважалі прадукцыя сельскай гаспадаркі і лясныя матэрыялы. Прычым яшчэ больш выразна акрэслілася сельскагаспадарчая спецыялізацыя Беларусі на вырошчванні льну і канапель, а ў апошняе дзесяцігоддзе XIX ст. – і як раёна жывёлагадоўлі.

Паляпшэнне зносін і поспехі ў развіцці беларускай прамысловасці прывялі да значнага павелічэння ў беларускім экспарце гатовых вырабаў. У першую чаргу гэта была прадукцыя фабрык і заводаў – спірт, тытунёвыя вырабы, папера, запалкі, лесахімічная прадукцыя, ваўняныя тканіны, будаўнічыя матэрыялы.

Мытная палітыка Расійскай імперыі на працягу другой паловы XIX ст. характарызавалася няспынным павышэннем увазных пошлін[1]. Асноўным замежным партнёрам беларускіх губерняў была Германія.

**Эканамічнае развіццё гарадоў. Прамысловыя мястэчкі**. Хаця пераважная колькасць прадпрыемстваў Беларусі знаходзілася ў сельскай мясцовасці, у сувязі з агульным развіццём прамысловасці ўзрасла эканамічная роля гарадоў. Тэхнічны прагрэс і ў першую чаргу паравы рухавік дазвалялі арганізоўваць вытворчасць не арыентуючыся выключна на прыродныя энергетычныя магчымасці вады і ветру. Паляпшэнне шляхоў зносін, будаўніцтва чыгунак значна аблегчылі набыццё сыравіны і збыт гатовай прадукцыі. Пераважна ў гарады перамясціўся ход асноўных гандлёвых аперацый, там канцэнтраваліся і крэдытна-фінансавыя ўстановы. Цэнтрам фабрычна-заводскай прамысловасці сталі ўсе губернскія гарады, а таксама Пінск, Гомель, Брэст, Барысаў, Бабруйск.

Значныя змены адбыліся ў гарадской камунальнай гаспадарцы. У 1873 г. пачала дзейнічаць Мінская водаправодная станцыя. 11 сакавіка 1877 г. быў зацверджаны статут Гродзенскага таварыства водазабеспячэння . У 1878 г.



Магілёў. Тэатральная плошча. 1896 г.

---

[1] *Соболев М.Н.* Таможенная политика России во второй половине XIX века. Томск, 1911. С.787.

быў пабудаваны водаправод у Магілёве, у 1885 г. – у Віцебску. 10 мая 1892 г. пачала працаваць мінская конка.

У 1898 г. пачаўся трамвайны рух у Віцебску (на год раней, чым з'явіўся трамвай у Маскве, і на дзесяць гадоў – чым у Санкт-Пецярбургу). Будавала і эксплуатавала віцебскі трамвай бельгійскае акцыянернае таварыства, якому належалі таксама трамваі ў Арле, Харкаве, Тыфлісе, Празе, Сарагосе[1]. Гарадскую эканоміку дапоўнілі гарадскія электрастанцыі (першая пачала працаваць у Мінску ў 1895 г.) і гарадскія скатабойні.

У парэформеннай Беларусі здолелі даказаць сваю эканамічную трываласць мястэчкі. Як правіла, яны належалі да двух тыпаў. Адны ўзнікалі як месца канцэнтрацыі дробных і сярэдніх прадпрыемстваў адной і той жа галіны (Смаргонь Ашмянскага павета, Ракаў і Івянец Мінскага павета). Асновай іншага тыпу населеных пунктаў станавілася буйное фабрычна-заводскае прадпрыемства, што не выключала існавання побач сярэдніх і дробных прадпрыемстваў розных галін. Так вызначаліся Добруш (Гомельскі павет), Альбярцін (Слонімскі павет), Парэчча (Пінскі павет). Узнікненне прамысловых мястэчак такога тыпу часцей за ўсё было звязана з паспяховай эканамічнай дзейнасцю дынастый прадпрымальнікаў.

Вытворчы патэнцыял прамысловых мястэчак нярэдка перавышаў эканамічныя магчымасці не толькі павятовых, але і губернскіх гарадоў.

## 3. Сацыяльная трансфармацыя беларускага грамадства пад уплывам развіцця прамысловасці, транспарту, гандлю

**Крыніцы папаўнення пралетарыяту. Наёмныя рабочыя ў асноўных галінах прамысловасці і транспарту**. Прынцыпова новай рысай беларускага грамадства XIX ст. з'явілася фарміраванне класа наёмных рабочых – пралетарыяту. Змены ў эканамічным становішчы Беларусі, адмена прыгоннага права, развіццё фабрычна-заводскай прамысловасці і пачатак індустрыялізацыі пераканаўча паказалі яго месца і ролю ў народнай гаспадарцы і грамадскім жыцці.

У дарэформенны час пралетарыят Беларусі складаўся з наёмных рабочых мануфактур, першых фабрык і заводаў, а таксама занятых у сферы будаўніцтва, транспарту і сувязі. Паводле падлікаў М. Болбаса, у 1860 г. налічвалася каля 41,5 тыс. наёмных рабочых (без занятых на промыслах і ўладальнікаў майстэрань), у тым ліку 7,8 тыс. фабрычных і мануфактурных[2].

Адмена прыгоннага права значна пашырыла сацыяльную базу для фарміравання пралетарыяту за кошт былога прыгоннага сялянства. У эканамічных умовах Беларусі сялянам зусім неабавязкова было ісці ў горад, каб далучыцца да прамысловасці і капіталістычнай вытворчасці. Індустрыялізацыя сама ішла ў беларускую вёску ў выглядзе дваранскага прадпрымальніцтва, лесараспрацовак, транспартнага будаўніцтва і эксплуатацыі шляхоў зносін. Усё гэта патрабавала вольных рабочых рук.

Сярод рабочых гарадской прамысловасці Беларусі ўдзельная вага выхадцаў з мяшчан была значна вышэй, а сялян – ніжэй, чым у цэнтральнай Расіі і ў цэлым па Расійскай імперыі[3]. Гэта тлумачылася палітыкай штучнай "урбанізацыі" яўрэйскага насельніцтва ў заходніх губернях, якую праводзіў

[1] *Киселев В.А.* Электропромышленность в ее прошлом и настоящем. М., 1915. С.122.

[2] *Болбас М.Ф.* Промышленность Белоруссии. 1860–1900. С.125.

[3] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. Рабочий класс Белоруссии в период капитализма. Мн., 1984. С.54.

царызм. У выніку, паводле перапісу 1897 г., яўрэі сярод мяшчан беларускіх гарадоў складалі 77,1 %, а ў паветах – 62,7 %[1].

У цэлым удзел у фарміраванні беларускага пралетарыяту прымалі ўсе саслоўі, не выключаючы дваран і іншаземцаў. Так, у 1876 г. на адным з буйнейшых у паслярэформеннай Беларусі прадпрыемстваў – Налібоцкім металургічным заводзе князя П. Вітгенштэйна (6 паравых машын, гадавая вытворчасць 97 тыс. пудоў чыгуна, 64,6 тыс. пудоў жалеза) сярод майстравых было 69 сялян, 7 мяшчан, 16 іншаземцаў і 4 ураджэнцы Каралеўства Польскага. Сярод 290 чарнарабочых – 245 сялян, 4 дваранiны, 27 іншаземцаў, 9 адстаўных і бестэрміновых салдат, 2 ураджэнцы Каралеўства Польскага[2].

З цягам часу сярод рабочых усё часцей сустракаліся выхадцы з рабочых сем'яў, патомныя пралетарыі. Гэта была якасна новая з'ява. Выхадцы з сем'яў рабочых ва ўсіх галінах вытворчасці, улічаныя перапісам 1897 г., складалі каля 20 % прамысловага пралетарыяту Беларусі[3].

Найбольш шматлікія атрады прамысловага пралетарыяту Беларусі працавалі ў тэкстыльнай, дрэваапрацоўчай і кардона-папяровай, харчовай, металаапрацоўчай і сілікатна-будаўнічай галінах. Удзельная вага фабрычных рабочых у 1900 г. найбольш высокай была ў запалкавай, шарсцяной, папярова-друкарскай, металаапрацоўчай і харчасмакавай галінах прамысловасці[4].

Нацыянальны склад рабочых мяняўся ў залежнасці ад галіны прамысловасці, таго месца, дзе было размешчана прадпрыемства, і нацыянальнасці жыхароў. У буйных гарадах адносна больш было яўрэйскіх, польскіх і рускіх рабочых. У сельскай мясцовасці пераважалі пралетарыі-беларусы. Затое яўрэйскія рабочыя там амаль што не сустракаліся. Не дапускаліся яўрэі і да работы на чыгунках і казённых прадпрыемствах[5]. Калі ўладальнікам прадпрыемства быў яўрэй, часцей за ўсё нацыянальнасць гаспадара і рабочых супадала. Рабочыя-чыгуначнікі вызначаліся сваім канфесіянальным (пераважна хрысціяне) і этнічным (беларусы, рускія, палякі і ўкраінцы) складам, а таксама высокім прафесійным і адукацыйным узроўнем.

На рубяжы XIX – XX стст. у прамысловасці Беларусі працавалі 237 тыс. рабочых. На чыгунках колькасць рабочых дасягала 25 тыс. У іншых сферах народнай гаспадаркі (рачны і гужавы транспарт, будаўніцтва, гандаль, сельская гаспадарка і інш.) было занята каля 200 тыс. чалавек. Агульная колькасць пастаянных наёмных рабочых у Беларусі ў той час перавышала 460 тыс.[6]

**Становішча рабочых.** Становішча пралетарыяту залежала ад тыпу прадпрыемства, галіны вытворчасці, месца яго размяшчэння, а таксама асобы рабочага. Гэта тлумачыцца тым, што захоўваліся саслоўныя, этнічныя, канфесіянальныя правы і абмежаванні.

У прамысловасці і на транспарце Беларусі існавалі розныя ступені эксплуатацыі, умоў працы і жыцця рабочых: ад самых жорсткіх да даволі ліберальных, што не саступалі лепшым заходнееўрапейскім узорам сацыяльнай

[1] *Шыбека З.* Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX стагоддзяў). С.154.

[2] Гістарычны архіў Літвы, ф.388, воп.1, спр.654, арк.4, ад. 5.

[3] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.55.

[4] Там жа. С.57.

[5] *Біч М.В.* Нацыянальны склад прамысловага пралетарыяту Беларусі ў канцы XIX ст. – пачатку XX ст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1972. №4. С.36.

[6] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. С.339.

палітыкі і сацыяльнага партнёрства таго часу. Агульная тэндэнцыя можа быць вызначана наступным чынам: чым больш буйное і тэхнічна дасканалае прадпрыемства, тым лепшымі былі ўмовы працы і вышэй заработная плата. Да такіх прадпрыемстваў адносіліся Добрушская папяровая фабрыка, дзе ў маі 1894 г. упершыню ў Расійскай імперыі быў ўведзены 8-гадзінны працоўны дзень без змяншэння заработнай платы. На прадпрыемстве існавала бальніца, аптэка, за кошт фабрыкі аказвалася медыцынская дапамога, дзейнічалі фабрычная ашчадная каса, фабрычны хор, духавы аркестр, сістэма льгот пры звальненні з працы, бясплатнае фабрычнае вучылішча і рамесныя касы для дзяцей рабочых[1].

У лепшы бок адрозніваліся і ўмовы працы на казённых прадпрыемствах, асабліва на чыгунцы. Чыгуначнікі атрымлівалі ў сярэднім большую, чым фабрычна-заводскія рабочыя, заработную плату[2]. Толькі казённыя рабочыя мелі права на пенсійнае забеспячэнне.

Гаспадары малых прадпрыемстваў, рамесных майстэрняў выкарыстоўвалі больш жорсткія ўмовы эксплуатацыі рабочых, лічачы гэта неабходным сродкам эканамічнага выжывання ў канкурэнтнай барацьбе. На такіх прадпрыемствах шырэй выкарыстоўвалася жаночая і дзіцячая праца, больш працяглым быў працоўны дзень і меншая заработная плата. Сапраўднай трагедыяй для кожнага пралетарыя было беспрацоўе. Нават часовая страта працы прыводзіла рабочую сям'ю да галечы.

Першапачаткова адносіны паміж рабочымі і работадаўцамі ў фабрычна-заводскай прамысловасці не рэгуляваліся ніякімі заканадаўчымі актамі. Першым з іх стаў закон ад 29 чэрвеня 1882 г. Ён забараняў прымяненне на фабрыках і заводах працы дзяцей, маладзейшых за 12 гадоў, начную работу непаўналетніх (да 17 гадоў) і жанчын. Працоўны дзень для 12–15-гадовых падлеткаў абмяжоўваўся 8 гадзінамі.

Для нагляду за выкананнем фабрычнага заканадаўства была створана фабрычная інспекцыя, але ёй падпарадкоўваліся толькі так званыя цэнзавыя прадпрыемствы – тыя, што мелі не менш чым 30 рабочых пры адсутнасці механічнага рухавіка, або не менш чым 16 рабочых пры наяўнасці рухавіка.

Новы заканадаўчы акт – закон ад 3 чэрвеня 1886 г. – забараніў фабрыкантам прымаць на працу рабочых без пашпартоў. Забараняліся забастоўкі, рабочыя не мелі права патрабаваць скарачэння працоўнага дня, павелічэння заработнай платы. Пры звальненні па ўласным жаданні рабочы павінен быў папярэджваць работадаўца за два тыдні наперад. За парушэнне закона прадугледжвалася сістэма пакаранняў, у тым ліку турэмнае зняволенне.

Паводле закона ад 2 чэрвеня 1897 г. з 1 студзеня 1898 г. для дарослых мужчын усталёўваўся максімальны працоўны дзень – 11,5 гадзін, а напярэдадні свят і ноччу – 10 гадзін. Заканадаўча замацоўваліся нядзельныя (52 дні) і святочныя (17 дзён) адпачынкі на працягу года. Штогадовыя адпачынкі для рабочых заканадаўствам не прадугледжваліся.

**Крыніцы росту і склад гандлёва-прамысловай буржуазіі**. Беларусь не стала аб'ектам эканамічнай экспансіі Расіі. Пацвярджэннем на карысць самадастатковага развіцця беларускай эканомікі разам з іншымі з'яўляецца

[1] *Киштымов А.Л.* Беларусь: опыты социальной политики директора-распорядителя Добрушской бумажной фабрики А.И. Стульгинского (80-е гг. XIX в. – 1915 г.) // Доклады Вторых Морозовских чтений. Ногинск–Богородск, 1996. С.86–87; *Киштымов А.Л.* Добрушская бумажная фабрика: опыт социальной политики директора-распорядителя А.И. Стульгинского (80-е гг. XIX в. – 1915 г.) // Предпринимательство в Белоруссии. 2000. №7. С.29–31.

[2] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.78.

адсутнасць канкурэнцыі на беларускай зямлі паміж прамыслова-фінансавымі групамі, Цэнтральна-Маскоўскага ці Пецярбургскага рэгіёна з Варшаўска-Лодзінскім або замежным капіталам. Эканамічныя рычагі кіравання краем даволі ўпэўнена трымала ў сваіх руках мясцовая буржуазія. Гістарычная рэальнасць Беларусі другой паловы XIX ст. не дае дастатковых падстаў, каб характарызаваць мясцовую буржуазію як сацыяльнае аднароднае цэлае. Істотнае значэнне мелі нацыянальныя і рэлігійныя адрозненні. Так, у Беларусі яўрэйскае паходжанне значнай часткі гарадской буржуазіі і дзяленне мясцовых землеўласнікаў на "польскіх" і "рускіх" было прычынай не толькі даволі рэзкай розніцы ў культурных адносінах, але і дыктавала розныя сацыяльныя пазіцыі, далёкія ад класавай салідарнасці. У эканамічнай дзейнасці гэта вяло да саперніцтва, канкурэнцыі і нават варожасці. У пэўнай меры рысы кансалідацыі беларускай буржуазіі назіраюцца толькі ў наступным гістарычным перыядзе, пасля рэвалюцыі 1905–1907 гг. і змен у грамадскім жыцці.

Асноўнымі крыніцамі фарміравання буржуазіі Беларусі былі прадстаўнікі саслоўя дваран і купцоў, у меншай ступені – мяшчан і сялянства. З адменай прыгоннага права дваране-памешчыкі спалучалі ў сабе функцыі двух класаў: землеўласнікаў, таму што жылі за кошт зямельнай рэнты, і капіталістаў, таму што самі займаліся і кіравалі маёнткамі, г.зн. працэсам вытворчасці і атрымлівалі прыбытак. Існаваў і другі, больш прамы шлях дваран да класа буржуазіі – заснаванне прадпрыемстваў, у тым ліку заводаў па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны і лесу, удзел у акцыянерных кампаніях, банкаўскай дзейнасці, будаўніцтве даходных дамоў, аб'ектаў камунальнай гаспадаркі. Паводле падлікаў М. Болбаса, у 90-я гг. у Беларусі з 741 мануфактуры і фабрыкі 343 (46 %) былі ўласнасцю дваран[1].

Нярэдка ў асобе двараніна-капіталіста спалучаліся рысы прадстаўніка розных пластоў буржуазіі. Напрыклад, дваранін Ігуменскага павета А. Ельскі з 1887 г. на працягу амаль двух дзесяцігоддзяў быў членам Уліковага камітэта Мінскага аддзялення Дзяржаўнага банка і адначасова агентам прыватнага Віленскага зямельнага банка. Разам з братам ён меў маёнтак Гольна ў Гродзенскай губерні (600 дзесяцін). Акрамя таго, яму належалі чацвёртая частка акцый механічнага і ліцейнага завода ў Варшаве, зямельны ўчастак і дом у Мінску[2].

Значная частка буржуазіі вырасла з асяроддзя яўрэяў – купцоў і мяшчан. Паводле перапісу 1897 г., сярод купцоў пяці беларускіх губерняў было 84,5 % яўрэяў, 10,7 – рускіх і толькі 1,7 % беларусаў. У той жа час яўрэйская буржуазія з'яўлялася ўласнікам больш чым паловы (51 %) фабрык і заводаў[3] і займала трывалыя пазіцыі ў крэдытна-фінансавай сферы[4].

Буржуазія замежнага паходжання складала нязначную частку сярод капіталістаў Беларусі. Тым не менш у агульнай структуры эканамічнай вытворчасці іх прадпрыемствы часта займалі выключнае месца, вылучаючыся

---

[1] *Болбас М.Ф.* Промышленность Белоруссии. 1860–1900. С.119.

[2] НГАБ, ф. 370, воп.1, спр.26, арк.18, 32 адв.-33, 4; воп.2, спр.44, арк.3 адв.

[3] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. С.341.

[4] *Киштымов А.Л.* Роль евреев в банковском деле Беларуси: вторая половина XIX – начало XX вв. // История еврейского народа. Материалы Шестой ежегодной международной конференции по иудаике . М., 1999. Ч.2. С.111–126.

па тыпу вытворчасці, яе памерах, тэхнічнай і тэхналагічнай дасканаласцю. Сярод капіталістаў-іншаземцаў пераважалі выхадцы з Нямеччыны[1].

Беларуская нацыянальная буржуазія ў другой палове XIX ст. знаходзілася яшчэ ў стадыі станаўлення і ўяўляла сабою найбольш слабую праслойку мясцовай шматнацыянальнай буржуазіі[2]. Сярод беларусаў не было колькі-небудзь значнага пласта буйной і сярэдняй прамысловай буржуазіі. Часцей за ўсё беларусы сустракаліся сярод уладальнікаў дробных прадпрыемстваў, размешчаных у сельскай мясцовасці, – млыноў, ганчарных майстэрняў, цагельных заводаў.

Традыцыйнае дзяленне буржуазіі на буйную, сярэднюю і дробную мае даволі ўмоўны характар. Той, хто па сельскіх або местачковых мерках мог лічыцца вельмі заможным, у горадзе або на агульнарасійскім узроўні такім не быў. Да таго ж, маёмаснае становішча магло істотна мяняцца з цягам часу і не заўсёды супадала з грамадскім і палітычным уплывам асобных прадстаўнікоў буржуазіі.

Эліту беларускай буржуазіі складалі менеджэры – наёмныя кіруючыя капіталістычнымі прадпрыемствамі. Яны вызначаліся адукацыяй, здольнасцямі арганізатара вытворчасці, эканамічным складам мыслення. Менеджэры дзейнічалі як у дзяржаўных, так і ў прыватных галінах эканомікі – у прамысловасці, на транспарце, у аграрным сектары. Гэта былі дырэктары фабрык і заводаў, адміністратары казённых чыгунак, кіруючыя буйнымі маёнткамі.

У Беларусі пастунова складваўся новы сацыяльны пласт – пласт прадпрымальнікаў. Іх яднала не саслоўнае або маёмаснае паходжанне, а здольнасць весці справу на асновах рыначнай эканомікі. Гэта быў новы тып арганізатараў капіталістычнай вытворчасці, гатовых несці матэрыяльную адказнасць за свае рашэнні. Яны адрозніваліся дасканалымі ведамі тэхнікі і тэхналогіі, праводзілі энергічную сацыяльную палітыку на сваіх прадпрыемствах і прымалі актыўны ўдзел у грамадска-палітычным жыцці. Пры фарміраванні гэтай сацыяльнай катэгорыі выразна выявілася нівеліруючая грамадская роля рыначнай эканомікі. Так, пры ўваходжанні ў гэту групу не было перашкод саслоўнага або этнаканфесіянальнага характару.

Прадпрымальнікі з'яўляліся ключавой фігурай у поспехах беларускай эканомікі. З другой паловы XIX ст. яны сталі аказваць уздзеянне на дзяржаўную эканамічную палітыку не толькі праз уласныя эканамічныя намаганні, але і праз свае прадпрымальніцкія прадстаўнічыя арганізацыі. Найбольшым уплывам у Беларусі карысталіся таварыствы сельскіх гаспадароў (існавалі ва ўсіх губернях і шэрагу паветаў Беларусі), з'езды прадпрымальнікаў (суднапрамыслоўцаў, лесагандляроў і інш.) і галіновыя арганізацыі (напрыклад, вінакурных заводчыкаў). У пачатку XX ст. прадпрымальнікі занялі пануючае месца ў беларускім істэблішменце[3].

**Сацыяльная тыпалогія грамадства Беларусі**. Найбольш каштоўнай крыніцай пры аналізе беларускага грамадства ў канцы XIX ст. безумоўна з'яўляюцца матэрыялы Усерасійскага перапісу 1897 г. Па сваёй дасканаласці і колькасці ахопленых пытанняў ён дасюль не мае аналагаў і застаецца леп-

---

[1] *Киштымов А.Л.* Германские капиталы и немецкие предприниматели в экономике Беларуси XIX – начала XX в. // Беларусіка. Кн.7. Мн., 1996. С.13–21; *Ён жа.* Удзел замежных прадпрымальнікаў і фінансістаў у развіцці прамысловасці і транспарту Беларусі (канец XVIII – пачатак XX ст.) // Штогоднік Інстытута гісторыі НАН Беларусі. 1999. Мн., 1999. С.57–63.

[2] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. С.341.

[3] *Киштымов А.Л.* Частная и государственная собственность в экономике Беларуси начала XX века // Собственность в XX столетии. М., 2001. С.224–237.

шым за ўсю гісторыю перапісам насельніцтва Беларусі. Асаблівую цікавасць для сацыяльнай гісторыі маюць звесткі аб размеркаванні па саслоўях, занятках, месцу жыхарства (горад–вёска) і роднай мове. Разам з тым методыка, па якой гэтыя даныя былі згрупаваны ў афіцыйных публікацыях, не дазваляе дакладна ўявіць поўны сацыяльны стан беларускага грамадства. Гэты перапіс дае магчымасць толькі разважаць, ды і то з пэўнымі дапушчэннямі, аб працэсе класаўтварэння і сацыяльна-класавай тыпалогіі грамадства Беларусі.

Аграрныя дзяржавы, асабліва перыяду феадалізму, як правіла, вызначаюцца надзвычайнай сегментарнасцю свайго грамадскага ладу і ўнутранай гетэрагеннасцю, якая замацавана ў форме саслоўяў. Індустрыяльнае грамадства рэзка парушала саслоўны парадак і змяняла ранейшую прамую сувязь паміж саслоўнай прыналежнасцю і месцам у эканамічным і грамадскім жыцці.

З развіццём рыначных адносін выразныя межы, якія дзялілі саслоўі, паступова знікалі. У ходзе сацыяльна-эканамічнага развіцця Расійскай імперыі ў другой палове XIX ст. прайгравала ў першую чаргу тое саслоўе, якому было што губляць, – дваранства. Значна выйгравала сялянства, якое атрымала права ўласнасці на зямлю, і ў некаторай ступені купецтва і мяшчане. У канцы XIX ст. саслоўны падзел шмат у чым стаў фармальным.

Структура грамадства і яго дзяленне на сацыяльныя групы не заўсёды вызначаюцца толькі яго эканамічным станам. У пэўнай меры на гэты працэс уплываюць гістарычныя, этнічныя, дэмаграфічныя, рэлігійныя і ідэалагічныя фактары. Разгляд беларускай сацыяльнай структуры беларускага грамадства з пункту гледжання марксісцка-ленінскай тэорыі, якая грунтуецца на аналізе такіх макрасістэм, як вытворчыя сілы, класы і дзяржава, з'яўляецца занадта абагульненым і аднабаковым. Пры такім падыходзе тое, што было дамінантай беларускай гісторыі на працягу апошніх двух стагоддзяў – фарміраванне беларускай нацыі і беларуская дзяржаўнасць, займае толькі другараднае, падпарадкаванае месца. Па-за разглядам застаецца і шырокае кола складаных гістарычных пытанняў, уключаючы ролю пазадзяржаўных і пазаэканамічных уплываў на формы ўлады, панавання і зместу штодзённага жыцця.

Агульнаімперская сацыяльная мадэль ніколі не праявіла сябе ў Беларусі ў поўнай меры. Таму і кожны агульнарасійскі гістарычны працэс меў на беларускіх землях рысы адметнай рэгіянальнай дыферэнцыяцыі. Гэта датычыць розных бакоў грамадскага жыцця: нацыянальнай палітыкі ("мяжа аселасці", антыпольскае заканадаўства), асаблівасцей правядзення сялянскай рэформы і рэформаў 60–70-х гг., рэжыму выключных законаў, канфесіянальнай і культурна-адукацыйнай палітыкі.

Класы ў Беларусі не набылі свайго завершанага, "класічнага" характару і хутчэй мелі размытыя, рухомыя рубяжы, вельмі залежныя ад этнічнай, саслоўнай і канфесіянальнай прыналежнасці носьбіта класавых прыкмет. Беларускі соцыум другой паловы XIX – пачатку XX ст. трэба разглядаць не як суму класаў капіталістычнага грамадства, а як сукупнасць грамадскіх працэсаў перамяшчэння людзей, сацыяльных груп і пластоў, у выніку чаго разбураліся старыя, санкцыяніраваныя заканадаўствам саслоўныя бар'еры і вырашальную ролю пачыналі адыгрываць крытэрыі сацыяльнай прыналежнасці.

Сацыяльна-класавая структура беларускага грамадства не адпавядала не толькі агульнарасійскаму стандарту, але мела шмат адрозненняў сярод мясцовага насельніцтва розных нацыянальнасцей. У выніку таго, што беларускае, рускае, польскае, яўрэйскае і іншае насельніцтва Беларусі было

па-рознаму прадстаўлена ў горадзе і вёсцы, у прамысловасці, гандлі, сельскай гаспадарцы, культуры, адукацыі, адміністрацыйным кіраванні не існавала прамой прапорцыі паміж нацыянальным складам усяго насельніцтва і прадстаўніцтвам народаў у розных пластах грамадства. Вядома, што такая розніца ёсць заўсёды. Але гістарычныя ўмовы ў Беларусі склаліся так, што ў канцы XIX ст. ні адзін этнас на яе тэрыторыі не меў поўнай, завершанай сацыяльна-класавай структуры, якая цалкам адпавядала ладу буржуазнага грамадства. Найбольш моцна гэта адлюстравалася на беларусах, якія дамінавалі сярод сялянства, што, у сваю чаргу, значна ўскладняла працэс фарміравання беларускай нацыі. Такім жа чынам, ва ўмовах няпоўных сацыяльных структур, ішло развіццё і іншых народаў, якія жылі ў Беларусі.

## 4. Эвалюцыя сацыяльнай структуры сельскага насельніцтва

**Крыніцы фарміравання сельскагаспадарчага пралетарыяту**. Фарміраванне пасля сялянскай рэформы 1861 г. сельскагаспадарчага пралетарыяту – адна з найважнейшых праяў усталявання капіталістычнага ўкладу ў сельскай гаспадарцы. Ён складваўся ў першую чаргу з кантынгенту дарэформенных парабкаў. У 1859 г. толькі ў сярэдніх і буйных панскіх маёнтках (больш за 100 рэвізскіх душ прыгонных) Мінскай, беларускіх паветаў Гродзенскай і Віленскай губерняў іх налічвалася 21,4 тыс. душ мужчынскага полу, што складала 4,4 % ад колькасці сялян, надзеленых зямлёй. Гэтыя парабкі працавалі ў памешчыцкіх фальварках і асабліва ў гаспадарцы заможных аднаўскоўцаў. З адменай прыгону яны перайшлі ў якасна новы стан – сталі свабоднымі прадаўцамі сваёй рабочай сілы, пралетарыямі, якія атрымалі права самім распараджацца сваёй асобай. Парабкі ў асноўным знаходзіліся ў тых маёнтках, дзе працавалі раней. Заможныя сяляне таксама імкнуліся захаваць парабкаў.

Другой дарэформеннай крыніцай фарміравання сельскагаспадарчага пралетарыяту былі дваровыя людзі. Паводле заніжаных афіцыйных звестак, у 1858 г. у Беларусі іх мелася 60,1 тыс. душ абодвух полаў, або 3,2 % панскіх прыгонных[1]. Пры вызваленні ад прыгоннай залежнасці (1863) беззямельныя дваровыя людзі звычайна не атрымлівалі зямельнага надзелу. Многія з былых дваровых людзей засталіся ў панскіх фальварках, куды яны былі прыпісаны да сялянскай рэформы 1861 г. у якасці парабкаў. Іншых перавялі туды з дваровай чэлядзі.

Найважнейшую ролю ў папаўненні кадраў сельскагаспадарчага пралетарыяту адыгрывалі сем'і рабочых. Развіццё капіталізму, пашырэнне выкарыстання наёмнай працы прывяло да значнага росту колькасці сельскагаспадарчых рабочых, у тым ліку патомных. Жонкі і дзеці парабкаў абслугоўвалі тыя ж гаспадаркі паноў і сялянскай буржуазіі, становячыся наёмнымі рабочымі. Колькасць гэтай праслойкі сельскагаспадарчых рабочых павялічвалася, пра што сведчыць шырокае ўжыванне наёмнай працы жанчын і дзяцей у сельскай гаспадарцы Беларусі ў канцы XIX ст. У 1897 г. у маёнтках і заможных сялянскіх гаспадарках пяці заходніх губерняў было занята 63,6 тыс. (33,9 %) парабчанак і 22,3 тыс. (11,9 %) дзяцей да 15 гадоў[2]. Пашырэнне выкарыстання іх рабочай сілы абумоўлівалася прагрэсам

[1] *Тройницкий А.* Крепостное население в России по X народной переписи. С.28 – 30,33.

[2] Численность и состав рабочих в России на основании данных первой всеобщей переписи населения Российской империи 1897 г. СПб., 1906. Т.I. Приложение. С.2 – 3.

капіталістычнага земляробства, ростам тэхнічнай узброенасці сельскагаспадарчай вытворчасці, больш нізкай аплатай працы.

Самай масавай крыніцай фарміравання сельскагаспадарчага пралетарыяту былі збяднелыя сяляне. Згодна з няпоўнымі данымі, у беларускай вёсцы ў 1893 г. мелася 39,4 тыс. (7,7 %) беззямельных двароў[1]. З 1877 да 1905 г. колькасць малазямельных гаспадарак (з надзелам да 15 дзесяцін) тут узрасла ў 2,1 раза і дасягнула 487,2 тыс., ці 84,5 % усіх гаспадарак. Адначасова ўдзельная вага сялянскіх асабістых купленых зямель у дробных уладаннях (да 10 дзесяцін на двор) зменшылася амаль удвая і склала 7,6 %[2]. У Беларусі толькі за 13 гадоў (1888–1900) колькасць бясконных і аднаконных сялянскіх гаспадарак павялічылася на 33,7 % – да 399,9 тыс., ці 60,9 % агульнай колькасці гаспадарак сялян. На мяжы XIX – XX стст. ва ўсіх адзначаных вышэй дварах налічвалася каля 3 млн чалавек абодвух полаў, з іх звыш 1,5 млн працаздольных.

Большасць беззямельнага сялянства ішло ў парабкі. Малазямельныя ж, бясконныя і асноўная частка аднаконных сялян існавалі пераважна або напалову рознымі "заработкамі", працай па найму. Кавалачкі зямлі прымацоўвалі сялянскую беднату да сельскай абшчыны, што ператварала бедных сялян у наёмных рабочых з надзелам. Не маючы магчымасці пракарміцца за кошт уласнай гаспадаркі, такія сяляне звычайна працавалі ў якасці падзённых рабочых. Многія з бедняты, хто страціў зямлю, жывёлу, прылады працы, паступова закідвалі гаспадарку і, як і беззямельныя, накіроўваліся да памешчыкаў і кулакоў у якасці парабкаў. Такім чынам, пераважная частка сельскагаспадарчых наёмных рабочых паходзіла з парэформеннага сялянства. Беларусь належала да ліку рэгіёнаў Расійскай імперыі, дзе працэс складвання сельскагаспадарчага пралетарыяту з сялян ішоў асабліва інтэнсіўна.

Сельскагаспадарчы пралетарыят Беларусі фарміраваўся галоўным чынам за кошт нацыянальных кадраў. Разам з тым сельскагаспадарчыя наёмныя рабочыя рэкрутаваліся таксама з прышлых земляробчых рабочых, каланістаў. Яны прыязджалі ў першую чаргу з прускіх і аўстрыйскіх уладанняў (Усходняя Прусія, Сілезія, Галіцыя, Паўднёвая Польшча, Чэхія і інш.). У сельскай гаспадарцы Беларускага рэгіёна працавалі наёмныя рабочыя з іншых рэгіёнаў Расійскай імперыі – Прыбалтыкі, Украіны, унутраных губерняў Расіі, Каралеўства Польскага. Крыніцай папаўнення сельскагаспадарчага пралетарыяту, асабліва на ўсходзе Беларусі, было пасяленне ў шэрагу панскіх маёнткаў каланістаў з ліку беззямельных сялян, пераважна з найбольш аграрна перанаселенай Прыбалтыкі. Яны ўяўлялі сабой наёмных рабочых з надзелам.

**Колькасць, склад, становішча сельскагаспадарчых рабочых.** У 1897 г. у пяці заходніх губернях налічвалася 182,2 тыс. пастаянных наёмных сельскагаспадарчых рабочых-парабкаў, што складала 37 % агульнай колькасці наёмных рабочых і слуг, ці больш за 5 % працаздольнага сельскага насельніцтва[3]. З іх каля 130 тыс. чалавек былі заняты ў сельскагаспадарчай вытворчасці Бела-

---

[1] Временник Центрального статистического комитета. СПб., 1894. №33. С.6, 8, 12, 16, 18.

[2] Статистика поземельной собственности и населенных мест Европейской России. Вып. V. С.12 –17, 19–20, 58–65, 67—69, 95, 103, 121 –125, 130 –131, 133—134, 159, 167; Статистика землевладения 1905 г. Вып. XI, XIII, XIX, XXVII, XXXIV. С.10, 14 –32.

[3] Распределение рабочих и прислуги по группам занятий и по месту рождения на основании данных первой всеобщей переписи населения Российской империи 28 января 1897 года. СПб., 1905. С.2, 15; Численность и состав рабочих в России на основании данных первой всеобщей переписи населения Российской империи 1897 г. Т.1. Приложение. С.2 — 3; Материалы Комиссии 16 ноября 1901 г. Ч.I. С.84–85.

рускага рэгіёна. Колькасць парабкаў тут была прыкладна роўная колькасці рабочых фабрычна-заводскай, мануфактурнай і дробнакапіталістычнай прамысловасці[1]. 75 тыс. парабкаў абслугоўвалі панскія маёнткі і 55 тыс. – гаспадаркі сялянскай буржуазіі[2]. Па адносных памерах выкарыстання парабкоўскай працы ў канцы XIX ст. Беларусь займала адно з першых месцаў у еўрапейскай частцы імперыі, уступаючы толькі прыбалтыйскім і Ковенскай губерням[3]. Шырокае распаўсюджанне парабкоўства ў заходніх губернях тлумачыцца адносна высокім узроўнем развіцця аграрнага капіталізму і дарэформеннымі традыцыямі найму. Парабкі складалі аснову, ядро сельскагаспадарчага пралетарыяту.

У Беларусі, як і ў Прыбалтыцы і Правабярэжнай Украіне, найбольш значнай праслойкай парабкаў былі сямейныя рабочыя. Асабліва шырока іх наём практыкаваўся ў заходніх паветах. З'яўляючыся ў цэлым капіталістычным, ён суправаджаўся напаўпрыгонніцкімі ўмовамі – надзяленнем кавалачкам зямлі, ардынарыяй (прадуктамі харчавання), іншымі натуральнымі "паслугамі", што выклікана панаваннем буйнога, латыфундыяльнага землеўладання, перавагай ніжэйшых, няспелых формаў капіталізму ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Надзяленне парабка зямлёй, ардынарыяй зніжала кошт яго рабочай сілы, прымацоўвала да гаспадаркі наймальніка. Натуральная плата складала пераважную частку заработку сямейнага парабка. Беларусь і Літва былі адзінымі рэгіёнамі еўрапейскай часткі імперыі, дзе ў 80-я – пачатку 90-х гг. XIX ст. толькі на долю ардынарыі прыпадала палова намінальнай заработнай платы пастаяннага сельскагаспадарчага рабочага[4].

Грашовая плата і ардынарыя ў лепшым выпадку пакрывалі толькі палову патрэб парабкоўскай сям'і[5]. Астатнія сродкі сям'я парабка атрымлівала разнастайнымі "пабочнымі заработкамі" і часткова – з кавалачка зямлі, дадзенага памешчыкам.

У меншых памерах сялянская буржуазія і ўладальнікі маёнткаў звярталіся да найму пастаянных бессямейных рабочых. Яны, як правіла, знаходзіліся на харчах наймальніка, але не атрымлівалі зямельнага надзелу, таму грашовая частка іх заработнай платы была вышэйшая, чым сямейных парабкаў. Гэты від найму насіў больш прагрэсіўны, капіталістычны характар. Ён быў шырэй распаўсюджаны на ўсходзе Беларусі[6].

Для выканання работ, якія патрабавалі адначасова вялікай колькасці рабочых рук (касьба, жніво, пасадка і ўборка бульбы, малацьба), у маёнткі і заможныя сялянскія гаспадаркі прыцягвалася маса сезонных і падзённых наёмных рабочых. Катэгорыю сезонных і падзённых рабочых складалі збяднелыя, паўразораныя сяляне. Гэтыя наёмныя работнікі ўяўлялі сабой паўпралетарыяў – напалову рабочых, напалову сялян, якія існавалі яшчэ часткова за кошт уласнай гаспадаркі. У гарачую пару сельскагаспадарчых работ агульная колькасць іх намнога перавышала кантынгент парабкаў.

---

[1] *Болбас М.Ф.* Промышленность Белоруссии. 1860–1900. С.193.

[2] *Панютич В.П.* Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861–1900 гг. С.343–344.

[3] *Панютич В.П.* Наемный труд в сельском хозяйстве Беларуси. 1861–1914 гг. С.59.

[4] Сельскохозяйственные и статистические сведения по материалам, полученным от хозяев. Вып.V. Приложение 9. С.142–143.

[5] *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг.

[6] Сельскохозяйственные и статистические сведения по материалам, полученным от хозяев. Вып.V. С.348, 357, 366–367, 377, 388.

Калі дапусціць, што малазямельныя, бясконныя і аднаконныя сялянскія двары адпускалі на пабочныя сезонныя і падзённыя земляробчыя "заработкі" ў сярэднім па адным работніку, то, як паказваюць прыведзеныя вышэй звесткі, колькасць сезонных і падзённых сельскагаспадарчых рабочых у Беларусі к пачатку XX ст. дасягала як мінімум 400 тыс.

Сезонны і падзённы наём з'яўляўся капіталістычна больш развітой формай найму, чым наём парабкаў, асабліва сямейных. Аднак і ён пры цяжкім матэрыяльным становішчы сезонных і падзённых рабочых нярэдка суправаджаўся кабальнымі, напаўпрыгонніцкімі ўмовамі – адпрацоўкамі, выдачай грашовых і натуральных задаткаў. Значная колькасная перавага ў сельскагаспадарчай вытворчасці рэгіёна сезонных і падзённых наёмных рабочых, звязаных са сваёй гаспадаркай, сведчыць, што фарміраванне сельскагаспадарчага пралетарыяту тут адставала ад працэсу складвання прамысловага рабочага класа.

Пры панаванні першасных формаў капіталізму ў беларускай парэформеннай вёсцы асноўная маса сельскагаспадарчых наёмных рабочых не з'яўлялася яшчэ пралетарыятам у поўным сэнсе гэтага слова. Яна валодала або карысталася пэўнымі сродкамі вытворчасці, перш за ўсё зямельным надзелам, уяўляла сабой пераходны сацыяльны тып ад селяніна да пралетарыя, да якога, аднак, была бліжэй, паколькі сродкі да жыцця атрымлівала пераважна за кошт продажу сваёй рабочай сілы.

Становішча сельскагаспадарчых наёмных рабочых было цяжкае. Працягласць іх рабочага дня не рэгламентавалася заканадаўствам. Заработная плата была нізкая, у канцы XIX ст. яна саступала заработку рабочых у фабрычна-заводскай прамысловасці і чыгуначных майстэрнях (без чорнарабочых) у сярэднім у 1,4 – 2 разы. Па яе велічыні ў гэты перыяд Беларусь займала адно з апошніх месцаў у еўрапейскай частцы Расійскай імперыі[1]. Жыллёвыя ўмовы большасці парабкаў з'яўляліся вельмі неспрыяльнымі. Пры росце даходаў наймальнікаў нарастаў працэс адноснага збяднення сельскага пралетарыяту. Медыцынская дапамога і сацыяльнае страхаванне адсутнічалі. Заканадаўства аб найме на сельскія работы абараняла інтарэсы памешчыкаў[2].

**Фарміраванне сельскай буржуазіі.** Разам са станаўленнем сельскагаспадарчага пралетарыяту фарміравалася сельская буржуазія, пераважную частку якой складала дробная сялянская буржуазія. Яна выйшла з заможнага, шматзямельнага сялянства, праслойка якога павялічвалася. У Беларусі ў 1905 г. параўнальна з 1877 г. колькасць шматзямельных сялянскіх гаспадарак (з надзелам звыш 20 дзесяцін) павялічылася на 16,9 % і склала 46,3 тыс. За гэты час колькасць сялянскіх гаспадарак з асабістай купленай зямлёй у адносна буйных уладаннях (ад 20 да 100 дзесяцін на двор) тут узрасла ў 2,6 раза, дасягнуўшы 5,1 тыс., або 25,4 % усіх гаспадарак з такой зямлёй[3].

Побач з яскрава выражаным рыначным характарам сельскагаспадарчай вытворчасці найбольш істотнай адзнакай сялянскай буржуазіі з'яўляецца выкарыстанне парабкоўскай наёмнай працы, да якой звярталася пераважная большасць яе гаспадарак. У 1897 г. у Беларусі мелася прыкладна 50 тыс.

---

[1]Материалы Комиссии 16 ноября 1901 г. Ч.I. С.180–184, 234–237; *Абезгауз З.Е.* Развитие промышленности и формирование рабочего класса Белоруссии во второй половине XIX в. С.125–127.

[2]ПСЗ. Собр. 2-е. Т. 38. №39448; Собр. 3-е. Т. 6. №3803.

[3]Статистика поземельной собственности и населенных мест Европейской России. Вып. V. С.12–17, 19–20, 58–65, 67–69, 95, 103, 121–125, 130–131, 133–134, 159, 167; Статистика землевладения 1905 г. Вып. XI, XIII, XIX, XXVII, XXXIV. С.10, 14–32.

сялянскіх двароў, што ўжывалі рабочую сілу пастаянных наёмных рабочых-парабкаў. Гэта былі гаспадаркі сялянскай буржуазіі. У канцы XIX ст. яны складалі каля 8 % сялянскіх двароў[1], у сем'ях якіх налічвалася да 400 тыс. чалавек.

Сялянская буржуазія вяла гандлёвую, прадпрымальніцкую гаспадарку, прадаючы сельскагаспадарчую прадукцыю і купляючы рабочую сілу. Многія яе прадстаўнікі трымалі таксама прамыслова-гандлёвыя прадпрыемствы (млыны, крупадзёркі, алейні, крамы і інш.). Парабкі абслугоўвалі як сельскагаспадарчую вытворчасць, так і прамысловыя прадпрыемствы. Акрамя таго, у час сельскагаспадарчых работ у гаспадарках сялянскай буржуазіі працавала шматтысячная армія сезонных і падзённых рабочых, галоўным чынам з сялянскай беднаты. Па меры росту колькасці такіх гаспадарак пашыралася выкарыстанне імі вольнанаёмнай працы.

Аднак у цэлым гаспадарчая дзейнасць сялянскай буржуазіі мела раннекапіталістычны характар. Апрача капіталістычнага найму рабочай сілы, часта ўжываліся кабальныя метады прысваення працы бяднейшага сялянства. Рыначна-капіталістычнае земляробства яшчэ спалучалася са здачай зямлі ў адпрацовачную арэнду, ліхвярствам, скупкай і перапродажам сельскагаспадарчых тавараў. Сельскі буржуа выступаў адначасова і як прадпрымальнік-капіталіст, і як ліхвяр і гандляр. Пры слабай распаўсюджанасці ўстаноў дробнага крэдыту, пазыка-ашчадных кас, высокіх памерах дзяржаўных і іншых падаткаў ліхвярства з боку сялянскай буржуазіі, скупка ёю лёну, пянькі, а таксама збожжа сялянскай беднаты восенню па нізкіх цэнах для яго перапродажу вясной па значна больш высокіх атрымалі шырокае развіццё ў беларускай парэформеннай вёсцы[2].

У руках сялянскай буржуазіі ўсё больш канцэнтравалася сялянская сельскагаспадарчая вытворчасць. Да пачатку XX ст. заможныя вярхі беларускай вёскі валодалі значнай колькасцю надзельных (да 20 %) і арандаваных зямель, звыш 80 % сялянскай асабіста купленай зямлі, каля 30 % коней, істотнай часткай прадукцыйнай жывёлы, асноўнай масай сельскагаспадарчых машын і палепшаных прылад працы[3]. Разам з тым, калі параўнаць Беларусь з многімі іншымі рэгіёнамі Расійскай імперыі, то роля сялянскай буржуазіі ў сацыяльна-эканамічным развіцці была тут больш сціплая. Крыніцай першапачатковага накаплення беларускага заможнага сялянства з'яўлялася ў першую чаргу земляробства і ў значна меншай ступені промыслы, гандаль, арэнды. Ва ўмовах "мяжы яўрэйскай аселасці", вялікай канцэнтрацыі рамесна-гандлёвага насельніцтва ў гарадах і мястэчках сялянскія прамысловасць і гандаль, асабліва на захадзе Беларусі, не атрымалі шырокага распаўсюджання. Сяляне ўкладвалі капітал перш за ўсё ў сельскую гаспадарку.

З ростам рыначных сувязей сялянскай гаспадаркі, выкарыстання наёмнай працы, разлажэння сялянства ў беларускай вёсцы ўсталяваліся дробнабуржуазныя адносіны, якія цесна перапляталіся з рэшткамі прыгонніцтва. У Беларусі пры панаванні прускага, буржуазна-панскага шляху развіцця аграрнага капіталізму існавалі некаторыя элементы амерыканска-

---

[1] *Панютич В.П.* Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861–1900 гг. С.343–344.

[2] *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг. С. 100–101; *Липинский Л.П.* Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии (II половина XIX в.). С. 175; *Панютич В.П.* Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861–1900 гг. С. 345–346.

[3] *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг. С.76, 79, 85, 87–88, 91–92.

га, буржуазна-фермерскага шляху, што заключаліся ў ператварэнні селяніна ў пэўнай меры ў фермера, земляробчага капіталіста. Гэтыя элементы меліся ў гаспадарках, заснаваных на вольнанаёмнай працы, якія не практыкавалі кабальных, гандлёва-ліхвярскіх прыёмаў і спосабаў яе прысваення. Колькасць фермерскіх гаспадарак была нязначная і не паддаецца нават прыблізнаму статыстычнаму падліку.

Невялікую праслойку сельскай буржуазіі складала сярэдняя і буйная аграрная буржуазія, якая паходзіла з буржуазных слаёў грамадства – купецтва, ганаровых грамадзян, мяшчан, багатых сялян. З 1877 да 1905 г. у Беларусі агульная колькасць панскіх зямельных уладанняў выхадцаў з купецтва, ганаровых грамадзян, што набылі зямельныя ўчасткі велічынёй звыш 50 дзесяцін, а таксама мяшчан і заможных сялян, якія купілі больш чым 100 дзесяцін на двор, павялічылася ў 3,3 раза і перасягнула за 2 тыс. Сярод іх вылучаліся 315 латыфундый (маёнткі памерам звыш 500 дзесяцін), якім належала 675,4 тыс. дзесяцін зямлі[1]. Многія з уладальнікаў гэтых зямель мелі млыны, крупадзёркі, алейні, сукнавальні і іншыя прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны, што надавалі капіталістычны характар іх гаспадарцы. Усе яны – землеўладальнікі новага, буржуазнага тыпу, сярэдняя і буйная аграрная буржуазія, якая вяла гаспадарку пераважна наёмнай працай. Але рост колькасці такіх прадпрымальнікаў, як і дробнай сялянскай буржуазіі, стрымліваўся недастатковым развіццём прамысловасці і гандлю, абмежавальнымі законамі па землеўладанні і землекарыстанні ў заходніх губернях.

Да капіталістычных метадаў гаспадарання пераходзіла таксама большая частка памесных дваран. Пра гэта сведчыла сацыяльна-эканамічная арганізацыя панскай гаспадаркі. Як адзначалася вышэй, у 70–90-я гг. XIX ст. у Беларусі пераважала капіталістычная сістэма панскай гаспадаркі, заснаваная на вольным найме рабочай сілы. Паводле заніжаных звестак, у Беларускім рэгіёне ў другой палове 1870-х гг. налічвалася 7,3 тыс. памешчыкаў-дваран, у 1905 г. – 7,8 тыс. панска-дваранскіх зямельных уладанняў[2]. Пераважная большасць уладальнікаў такіх маёнткаў частку даходу атрымлівала капіталістычным шляхам, за кошт прысваення працы сельскагаспадарчых наёмных рабочых. Гэта накладвала адбітак на сацыяльную прыроду памеснага дваранства, дэфармавала яго, ператвараючы памешчыка ў пераходны сацыяльны тып ад феадала да буржуа.

Выключна важную ролю ў гэтым працэсе адыгрывала панскае прадпрымальніцтва. К пачатку XX ст. у Беларусі налічвалася 495 вінакурных і піваварных заводаў. К гэтаму часу тут існавала не менш за 3 тыс. млыноў (даныя няпоўныя). Асноўная маса гэтых прадпрыемстваў належала памешчыкам. Яны валодалі і сотнямі масларобчых, сыраварных і іншых прадпрыемстваў[3]. Іх уладальнікі атрымлівалі капіталістычны прыбытак і эканамічна ператвараліся ў буржуазію.

Такім чынам, на пачатак XX ст. сацыяльная структура ўсяго сельскага насельніцтва Беларусі была наступная. Пралетарыі і паўпралетарыі (прамысловыя рабочыя, парабкі, сялянская бедната, беззямельная і малазямель-

---

[1] Статистика поземельной собственности и населенных мест Европейской России. Вып. V. С.12–15, 58–62, 95, 121–125, 159; Статистика землевладения 1905 г. Вып. XI, XIII, XIX, XXVI, XXXIV. С.14–24.

[2] Статистика поземельной собственности и населенных мест Европейской России. Вып.V. С.12–15, 58–62, 67–69, 95, 103, 121–125, 159; Статистика землевладения 1905 г. Вып. XI, XIII, XIX, XXVII, XXXIV. С.14–24.

[3] Свод статистических данных о мельницах. СПб., 1895; Список фабрик и заводов Европейской России/ Под ред. В.Е. Варзара. СПб., 1903; і інш.

ная шляхта) складалі прыкладна 63 % сельскага насельніцтва – каля 3,2 млн чалавек, бяднейшыя дробныя гаспадары (сяляне-серадзнякі) – 28,5 % (1,5 млн чалавек), заможныя дробныя гаспадары (сялянская буржуазія, частка дробнапамеснага дваранства і духавенства) – 8,3 % (430 тыс.), пamешчыкі (з дваран і буржуазных пластоў насельніцтва – купецтва, ганаро- вых грамадзян, мяшчан, заможных сялян) – 0,2 % (10 тыс.)[1].

Да канца эпохі капіталізму ў Беларусі фарміраванне сельскагаспадарча- га пралетарыяту і сельскай буржуазіі было далёка не закончана. Яно стрымлівалася шматлікімі перажыткамі прыгонніцтва ў вёсцы, асноўным з якіх з'яўлялася панскае паўфеадальнае землеўладанне. Складванне сель- скагаспадарчага пралетарыяту і сельскай буржуазіі працягвалася ва ўмовах барацьбы двух шляхоў буржуазнай аграрнай эвалюцыі ў Расійскай імпе- рыі – прускага і амерыканскага, якая таксама не была завершана.

## 5. Этнадэмаграфічныя характарыстыкі

**Рассяленне беларусаў**. Адной з галоўных перадумоў фарміравання лю- бога этнасу з'яўляецца агульная тэрыторыя яго пастаяннага пражывання, дзе на працягу стагоддзяў пад уздзеяннем прыродна-геаграфічнага асярод- дзя складваецца пэўны тып гаспадарчай дзейнасці людзей, іх матэрыяльная і духоўная культура, мова, звычаі і традыцыі, нормы маралі, звычаёвае пра- ва, асаблівасці псіхікі і іншыя адметнасці.

Першым, хто зрабіў спробу паводле моўнага крытэрыю вызначыць бела- рускія этнічныя межы, быў вядомы чэшскі славіст П.Шафарык. Пераважна на падставе матэрыялаў, дасланых яму рускімі вучонымі П.Кепенам, А.Бадзянскім, беларусам З.Даленгам-Ходакоўскім, а таксама сабраных ім самім, была складзена карта рассялення славянскіх народаў. Паводле яе асноўная тэрыторыя, дзе жылі беларусы, займала пяць заходніх губерняў: цалкам Мінскую і Магілёўскую, большую частку Віцебскай і Гродзенскай і часткова Віленскую. Усяго на гэтых абшарах тады пражывала 2726,0 тыс. беларусаў, з якіх 2376,0 тыс. (87,2 %) былі праваслаўнымі і каля 350,0 тыс. (12,8 %) католікамі[2]. На поўначы мяжа рассялення беларусаў даходзіла да Люцына, уключаючы Невельскі, Веліжскі, Себежскі паветы, на захадзе – за Беласток, да Бельска. Недахоп звестак не дазволіў П.Шафарыку вызначыць дакладную мяжу беларускага этнасу на ўсходзе, поўдні і паўночным захадзе, таму на гэтых кірунках яна была праведзена па былых рубяжах Вялікага княства Літоўскага.

У канцы 50-х гг. XIX ст. па ініцыятыве рускага акадэміка П.Кепена для складання этнаграфічнай карты распараджэннем Св. Сінода і Дэпартамента іншаземных веравызнанняў ва ўсе царкоўныя прыходы былі разасланы спе- цыяльныя бланкі, куды святары па сваім разуменні, акрамя іншых даных, павінны былі занесці звесткі аб этнічнай прыналежнасці сваіх прыхаджан. Як пісаў пазней П. Кепен, у гэтай справе яго вельмі цікавілі беларусы, бо яшчэ ў 20-я гг. ён да канца не высветліў іх рассяленне на памежжы з Чарнігаўшчынай. Аднак складзеныя ў 1857 г. прыходскія спісы мелі шэраг недахопаў. У адносінах да беларусаў некаторымі святарамі былі ўжыты вельмі абстрактныя назвы, накшталт: "старажытнага славянскага племені",

[1] *Панюціч В.П*. Змяненне сацыяльнага складу сельскага насельніцтва Беларусі ў другой палавіне XIX ст. // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. 1992. № 1. С.66–67, 72 – 73.

[2] *Safarik P*. Slowanski narodopis. Praha, 1842. C.30.

"славянскага племені"[1]. Анахранізмам для сярэдзіны XIX ст. выглядаюць "летапісныя" плямёны – крывічы, бужане, яцвягі, якія, на думку святароў, пражывалі ў Віленскай і Гродзенскай губернях і налічвалі адпаведна 23,0; 5,4 і 30,9 тыс.[2] Завышана была ў гэтых губернях колькасць палякаў і літоўцаў. На думку П. Баброўскага, у прыходах са змешаным насельніцтвам многія ксяндзы былі схільны далучыць сваіх прыхаджан хутчэй да літоўцаў і палякаў, чым да беларусаў[3]. Усяго ў пяці заходніх губернях удзельная вага беларусаў, згодна дадзенай крыніцы, склала: у Віленскай – 17,4 %, у Віцебскай – 62,4, у Гродзенскай – 3,3, у Мінскай – 65,1, у Магілёўскай губерні – 84,2 %, а агульная колькасць – 1974 тыс.[4]

Акрамя таго, як выявілі прыходскія спісы, беларуская этнічная тэрыторыя ахоплівала частку Чарнігаўскай і палову Смаленскай губерняў. На Чарнігаўшчыне яна прасціралася на Суражскі і часткова Гараднянскі, Мглінскі і Навазыбкаўскі паветы, дзе ў 116 населеных пунктах пражывала 54,0 тыс. беларусаў[5].

У Смаленскай губерні беларусы займалі яе заходнюю частку, складаючы абсалютную большасць насельніцтва сямі паветаў: Смаленскага – 82,6 тыс., (90,5 %), Краснінскага – 72,9 тыс. (95,4 %), Рослаўскага – 108,2 тыс. (94,7 %), Ельніцкага – 89,3 тыс. (84,7 ), Духаўшчынскага – 67,1 тыс. (78,7 %), Парэчскага – 69,0 тыс. (82,9 %) і Дарагабужскага – 47,8 тыс. (66,0 %). Удзельная вага беларусаў ва ўсёй губерні складала 46,7 %[6], а паводле даных, сабраных праз два гады афіцэрамі Генеральнага штаба і апрацаваных М.Цэбракавым, – 54,0 %[7]. Аб этнічнай прыналежнасці жыхароў заходняй Смаленшчыны яскрава выказаўся даследчык народнай гаспадаркі гэтага краю Я.Салаўёў: "Большая частка цяперашняй Смаленскай губерні ў часы заснавання Расіі належала да краіны крывічоў, якія жылі па вярхоўях Дзвіны і Дняпра. Гэта галіна славян, захаваўшы сваю адметнасць да гэтага часу, займае тую ж самую краіну пад назвай беларускага племені". Ён бачыў рэзкія адрозненні паміж насельніцтвам заходняй і ўсходняй часткі Смаленскай губерні не толькі ў мове, але і ў матэрыяльнай культуры: пабудове хат, хатнім начынні, прыладах працы, ежы і асабліва адзенні[8].

На мяжы 50–60-х гг. XIX ст. у заходніх губернях пачалася актыўная ўрадавая кампанія па пабудове і ўладкаванні праваслаўных цэркваў. Для гэтага напярэдадні на аснове наяўных і нанава сабраных матэрыялаў быў складзены атлас насельніцтва па веравызнанні з абазначэннем усіх царкоўных прыходаў. Паводле атласа, у Віцебскай і Магілёўскай губернях, у параўнанні з прыходскімі спісамі, вырасла доля рускіх, затое ў Гродзенскай губерні яны зусім адсутнічаюць, на Віленшчыне напалову зменшылася колькасць літоўцаў, а на Гродзеншчыне – палякаў. Удзельная вага беларусаў па губер-

---

[1] *Кеппен П.И.* Города и селения Тульской губернии в 1857 г. СПб., 1858. С.Х.

[2] Архіў РАН, ф.30, воп.2, спр.6, 17.

[3] Виленский вестник. 1867. Т.І. Кн.2. Отд.3. С.18–19.

[4] *Лебедкин М.О.* О племенном составе народонаселения Западного края Российской империи // Записки императорского Русского географического общества. СПб., 1861. Кн.3. Отд.2. С.143–145.

[5] Список населенных мест по сведениям 1859 года.Черниговская губерния. СПб., 1861. С.6, 54, 57, 93, 96, 98, 130, 184–193.

[6] Список населенных мест по сведениям 1859 года. Смоленская губерния. СПб., 1868. С.110–111.

[7] *Цебриков М.* Материалы для географии и статистики России. Смоленская губерния. СПб., 1862. С.127.

[8] *Соловьев Я.А.* Сельскохозяйственная статистика Смоленской губернии. М., 1855. С.7, 8.

нях склала: у Віленскай – 46,9 %, у Віцебскай – 59,8, у Гродзенскай – 57,9, у Мінскай – 64,6, у Магілёўскай – 81,7 %, а агульная колькасць – каля 2,8 млн чалавек, з іх звыш 2,3 млн (84,1 %) праваслаўных і каля 500 тыс. (15,9 %) католікаў.

Сярод беларусаў праваслаўныя складалі абсалютную большасць у Мінскай (98,8 %), Магілёўскай (97,8 %) і Віцебскай (93,6 %) губернях. Беларусы-католікі ў асноўным былі сканцэнтраваны ў Віленскай (64,7 %) і Гродзенскай (23,6 %) губернях. У Гродзенскай губерні другой па велічыні этнічнай групай былі ўкраінцы (18,3 %)[1].

На захадзе этнічныя беларусы, акрамя Беласточчыны, кампактна пражывалі ў Аўгустоўскім павеце Сувалкаўскай губерні. У 60-х гг. XIX ст. іх налічвалася тут, згодна даным А. Рыціха, 23,7 тыс. чалавек[2]. Як зазначаў М.Каяловіч, аўгустоўскія беларусы па ладу жыцця і мове – гэта тыя ж беларусы, што і ў заходніх губернях, на Смаленшчыне і паўднёвай Пскоўшчыне[3]. Далейшыя даследаванні паказалі, што ў канцы XIX ст. 93,3 % з іх гаварылі на беларускай мове і 6,7 % – на польскай[4].

На поўдні мяжа беларускага насельніцтва, згодна вышэйназваным і іншым крыніцам, праходзіла па р. Прыпяць. На поўдзень ад яе мова ўжо лічылася ўкраінскай, таму да арэала ўкраінскага этнасу вучоныя нярэдка адносілі Брэсцкі, Кобрынскі, Пружанскі і часткова Пінскі паветы[5]. Пры гэтым не бралася пад увагу, што моўныя прынцыпы рэгістрацыі этнічнай прыналежнасці не заўсёды супадаюць з самавызначэннем народа, таму часта прыводзяць да зніжэння фактычнай колькасці этнасу[6].

У першым усеагульным перапісе насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г. было пастаўлена пытанне не пра этнічную прыналежнасць жыхароў, а пра іх родную мову. Паводле моўнай прыкметы беларусы склалі ў Магілёўскай губерні 82,4 %, у Мінскай – 76,0, у Віцебскай – 52,9, у Віленскай – 56,0, у Гродзенскай – 44,0 %[7]. Абсалютную большасць беларусы мелі ва ўсіх паветах Мінскай і Магілёўскай губерняў.

У Віленскай губерні яны пераважалі ў чатырох паветах – Вілейскім (86,4 %), Дзісенскім (80,7 %), Ашмянскім (79,6 %) і Лідскім (72,7 %), займалі каля паловы Свянцянскага (47,5 %) і чвэрць Віленскага (26,0 %).

Беларускае насельніцтва Віцебскай губерні было сканцэнтравана ў паўднёвай і цэнтральнай яе частках. Па паветах яно размяшчалася наступным чынам: у Веліжскім – 85,7 %, у Дрысенскім – 86,2, Невельскім – 84,0, у Гарадоцкім – 83,6, у Лепельскім – 82,0, у Полацкім – 73,1, у Віцебскім – 51,1 %.

---

[1] Атлас народонаселения Западно-русского края по вероисповеданиям. СПб., 1864. Л.2.

[2] *Риттих А.Ф.* Приложение к материалам для этнографии Царства Польского. Губернии Люблинская и Августовская. СПб., 1864. С.16.

[3] *Коялович М.* Об этнографической границе между Западной Россией и Польшей // Сборник статей, разъясняющих польское дело по отношению к Западной России. Вып.I. Вильна, 1885. С.95, 98.

[4] *Вольтер Э.Л.* Списки населенных мест Сувалкской губернии как материал для историко-этнографической географии края. СПб., 1901. С.308–309.

[5] *Риттих А.Ф.* Племенной состав контингентов русской армии и мужского населения Европейской России. СПб., 1875. С.155–156; *Ён жа.* Этнографическая карта Европейской России. СПб., 1875; *Чубинский П.* Труды этнографо-статистической экспедиции в Западно-Русский край. СПб., 1878. Т.7. Ч.3. С.364.

[6] *Брук С.И., Иваньков П.А., Кабузан В.М.* Источники по этнической статистике России XVIII – начала XX вв. (1718–1917 гг.) и опыт их картографирования // Проблемы исторической географии России. Вып.IV. М., 1983. С.87.

[7] Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. Вып.IV. Тетр. 3. С.56–59; Вып.V. Тетр.3. С.76–79; Вып.XI. С.102–105; Вып.XXII. С.80–83; Вып.XXIII.С.96–99.

Прыкладна напалову (47,1 %) беларусамі быў заселены Себежскі павет, у Люцынскім, Дзвінскім і Рэжыцкім паветах іх зафіксавана адпаведна 20,5; 13,8 і 5,4 %.

У Гродзенскай губерні абсалютная большасць беларускамоўнага насельніцтва размяшчалася ў Ваўкавыскім (82,4 %), Сакольскім (83,8 %), Слонімскім (80,7 %), Пружанскім (75,5 %) і Гродзенскім (65,8 %) паветах. Больш чым на трэць (39,1 %) з беларусаў складалася насельніцтва Бельскага павета і больш чым на чвэрць (26,1 %) – Беластоцкага. Большасць жыхароў Брэсцкага (64,4 %) і Кобрынскага (79,6%) паветаў сваёй роднай мовай называлі ўкраінскую.

Згодна перапісу 1897 г. беларускамоўнае насельніцтва пражывала і на сумежных з вышэйназванымі губернямі тэрыторыях. Так, у Чарнігаўскай губерні яго налічвалася 151,5 тыс. (6,6 % ад насельніцтва губерні), з іх 84,7 % прыпадала на Суражскі павет і 15,3 % – на Мглінскі. У гэтых паветах удзельная вага беларусаў склала адпаведна 68,7 і 14,1 %. У Ковенскай губерні беларусы кампактна пражывалі ў Новааляксандраўскім (16,8 %), а ў Курляндскай – Ілуцкім (12,3 %) паветах. На Смаленшчыне беларуская мова была роднай для 90 % насельніцтва Краснінскага павета, у астатніх доля беларускамоўных этнічных беларусаў значна зменшылася. Усяго ў Смаленскай губерні ў канцы XIX ст. беларусаў па мове аказалася 100,7 тыс. чалавек, або 6,6 %. Гэта ў восем разоў менш, чым у сярэдзіне XIX ст. Усяго на адзначаных тэрыторыях у 1897 г. пражывала 5711 тыс. беларусаў, у тым ліку 5408 тыс. (94,7 %) у пяці заходніх губернях[1].

Такім чынам, на працягу другой паловы XIX ст. беларуская этнічная тэрыторыя, з улікам моўнага крытэрыю, зазнала пэўныя змены. Яна пашырылася на поўдні і паўднёвым захадзе, дзе ў час перапісу 1897 г. насельніцтва Пінскага, большасці Пружанскага і каля паловы Кобрынскага паветаў сваёй роднай мовай назвалі беларускую. У той жа час пастаянная русіфікатарская палітыка царызму адмоўна адбілася на этнічных беларусах Смаленшчыны, большасць якіх пераняла рускую мову.

**Рост насельніцтва і асаблівасці яго ўзнаўлення.** У 60-х гг. XIX ст. у Расійскай імперыі канчаткова вызначылася адміністрацыйнае дзяленне. Тэрыторыя сучаснай Беларусі прыкладна адпавядала 35 паветам пяці заходніх губерняў – Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай. Тут знаходзіліся 44 гарады (4 губернскія, 31 павятовы і 9 заштатных), колькасць якіх на працягу другой паловы XIX ст. не мянялася. Самай вялікай па плошчы і колькасці насельніцтва была Мінская губерня, але па шчыльнасці насельніцтва яна саступала іншым губерням. Найбольш густанаселенымі паветамі былі: у Мінскай губерні – Навагрудскі, Мінскі і Слуцкі; у Магілёўскай – Горацкі і Магілёўскі, у Віцебскай – Лепельскі і Віцебскі, у Гродзенскай і Віленскай губернях усе паветы былі аднолькава густанаселенымі.

У 1863 г. насельніцтва Беларусі (35 паветаў) складала 3359,1 тыс. чалавек, з іх 3008,3 тыс. пражывалі ў вёсках і 350,8 тыс. (10,5 %) у гарадах. Буйных гарадоў з насельніцтвам 50 тыс. і больш не было. Асноўная маса гараджан (60,1 %) была сканцэнтравана ў малых гарадах (да 20 тыс. чалавек), астатнія 39,9 % прыпадалі на сярэднія гарады (20–50 тыс.)[2].

Першае парэформеннае дзесяцігоддзе працягваўся дэмаграфічны крызіс, які пачаўся яшчэ ў канцы 40-х гг. XIX ст. Масавыя інфекцыйныя

---

[1] Труды комиссии по изучению племенного состава населения СССР и сопредельных стран. Л., 1930. Т.20. С.50, 54, 96, 112.

[2] Статистический временник Российской империи. Серия I. Вып.I. СПб., 1866. Отд. I. С.8–9, 12–13, 16–19.

хваробы – тыф, халера, воспа, дыфтэрыя, скарлатына і іншыя мелі ўстойлівы эпідэмічны характар і з рознай інтэнсіўнасцю з году ў год паўтараліся ў многіх гарадах і вёсках, ахопліваючы часам вялікія тэрыторыі. Высокі працэнт смяротнасці, які давалі эпідэміі, адмоўна ўплываў на рост насельніцтва. У большай ступені цярпелі гарады – месцы найбольш шчыльнага пражывання людзей, асабліва ў час лютавання халеры. Так, у беларускіх гарадах Віленскай губерні смяротнасць перавышала нараджальнасць у 1865, 1866 і 1869 гг., Віцебскай – 1868 г., Магілёўскай – у 1871 і 1872 гг., Гродзенскай – у 1872, 1881 і 1882 гг. Катастрафічная смяротнасць назіралася ў 1867 г. у Мінску. З 30-тысячнага насельніцтва горада 2380 чалавек (7,9 %) памерлі ад эпідэміі халеры і іншых інфекцыйных хвароб, якія здарыліся ў гэты сыры і неўрадлівы год. Дэпапуляцыйныя працэсы адбываліся і ў іншых гарадах. У сельскай мясцовасці ў гады эпідэміі смяротнасць таксама ўздымалася ў 2–3 разы, а значыць, натуральны прырост на столькі ж змяншаўся[1].

Пасля неспрыяльнага 1872 г. наступіла стабілізацыя ўзнаўлення насельніцтва, затым і дэмаграфічны ўздым. Нараджальнасць, асабліва ў гарадах, павольна, але зніжалася. У 60–70-я гг. па губернях яна вагалася ад 42 да 44 ‰, а да канца стагоддзя знізілася ў сярэднім да 39 ‰ . У той жа час смяротнасць зніжалася апераджальнымі тэмпамі. Калі ў 60-х гг. XIX ст. на тысячу жыхароў у сярэднім па пяці заходніх губернях памірала 35–36 чалавек, то ў 1900 г. – 24,5 чалавека[2]. У выніку такой "несінхроннасці" руху паказчыкаў узнаўлення насельніцтва пачаў павышацца натуральны прырост. Можна сказаць, адбыўся своеасаблівы дэмаграфічны выбух.

Перш за ўсё ён тычыўся вясковага насельніцтва. Гэта тлумачылася шэрагам прычын. У другой палове XIX ст. беларуская вёска працягвала заставацца традыцыйнай. Індывідуальная, тым больш грамадская, думка яшчэ не ўзнялася да ўсведамлення свабоды дэмаграфічнага выбару. Амаль усё дарослае насельніцтва знаходзілася ў шлюбе, разводы былі рэдкімі, унутрысямейнага рэгулявання нараджальнасці практычна не існавала. Павольнае яе зніжэнне ў вёсцы было звязана перш за ўсё з некаторым павышэннем шлюбнага ўзросту. Горад у гэты час ужо паспеў у нейкай ступені адысці ад традыцыі. Там больш высокім, чым у вёсцы, быў сярэдні шлюбны ўзрост. Многія маладыя людзі, асабліва прыезджыя, па розных прычынах доўгі час заставаліся халастымі. У сем'і сталі пранікаць ідэі аб неабходнасці і магчымасці стрымліваць высокую нараджальнасць, якая ў гарадскім асяроддзі звычайна прыводзіла сям'ю да галечы. Таму ўзровень нараджальнасці ў горадзе ў сярэднім на 10–12 % быў ніжэйшы, чым у вёсцы.

Дынаміка смяротнасці развівалася некалькі па іншым сцэнарыі і прыкладна ў аднолькавай меры была характэрна як для горада, так і для вёскі. Адмена прыгону, перавод сялян на абавязковы выкуп ужо ў 60-я гг., поспехі медыцынскай навукі (вынаходніцтвы вакцыны супраць інфекцыйных хвароб Л.Пастэра, Г.Коха і інш.), рост агульнаадукацыйнага і культурнага ўзроўню насельніцтва – усё гэта станоўча паўплывала на зніжэнне смяротнасці, звязанай перш за ўсё з інфекцыямі .

За другую палову XIX ст. насельніцтва Беларусі (35 паветаў) вырасла на 93,5 %. Яго агульная колькасць у 1897 г. склала 6500,2 тыс. чалавек, з іх

---

[1] РДГА, ф.1263, воп.1, спр.3171, арк.138; спр.3486, арк.296; спр.3351, арк.237; спр.3411, арк.445; спр.3486, арк.456; ф.1281, воп.7, спр.41, арк.60; спр.48, арк.252; спр.69, арк.87.

[2] РДГА, ф.1263, воп.1, спр.3260, арк.407, 916; ф.1281, воп.7, спр.37, арк.94; спр.43, арк.76; спр.48, арк.252; Статистика Российской империи. СПб., 1906. Т.62.

655,2 тыс. (10,1 %) жылі ў гарадах і 5845,1 тыс. (89,9 %) – у вёсках і мястэчках. Тэмпы росту сельскага насельніцтва (94,3 %) былі вышэйшымі, чым гарадскога, якое павялічылася на 86,7 %. У сярэднім за год колькасць гараджан павялічвалася на 2,6 %, а вяскоўцаў – на 2,8 %. Больш хуткімі тэмпамі вясковае жыхарства расло ў Мінскай і Магілёўскай губернях – адпаведна на 3,2 і 3,0 % у год, а за ўвесь перыяд адпаведна на 113,9 і 96,2 %. У гэтых губернях назіраўся і найбольшы натуральны прырост. У сярэднім па Еўрапейскай Расіі за гэты час насельніцтва павялічылася толькі на 53,3 %, сельскае – на 48,5, а гарадское – на 97,0 %[1].

Галоўнай крыніцай папаўнення насельніцтва гарадскіх цэнтраў быў механічны прырост. За 1866–1897 гг. ён склаў 52,4 % агульнага росту, на натуральны прырост прыпадала 47,6 %. У той жа час вясковае жыхарства расло амаль выключна за кошт натуральнага прыросту – 96 %. Перасяленцы ж складалі толькі крыху больш за 4 %. Прычым у сваёй масе гэта былі "выштурхнутыя" горадам яўрэі, якія перабраліся ў мястэчкі[2].

Рост беларускіх гарадоў адбываўся неаднолькава. К канцу XIX ст. гарадское насельніцтва канцэнтравалася пераважна ў вялікіх і сярэдніх гарадах. У двух гарадах – Мінску і Віцебску – пражывала 24,2 % гарадскога насельніцтва Беларусі. У сярэдніх гарадах знаходзілася 39,5 % гараджан. Колькасць насельніцтва ў іх падвоілася. У групе дробных гарадоў насельніцтва вырасла ўсяго на 20,3 % , а ўдзельная вага гэтай групы знізілася з 66,1 % у 1863 г. да 43,3 % у 1897 г. Такім чынам, вырасла значэнне адносна буйных і сярэдніх гарадоў, што сведчыла аб росце прамысловых і гандлёвых цэнтраў краю. Найбольш хутка развіваліся гарады, якія знаходзіліся на важных чыгуначных або водных магістралях. Асабліва ажывіўся іх рост пасля пабудовы ў 70-х гг. Маскоўска-Брэсцкай, Лібава-Роменскай і Палескай чыгунак. Такія гарады, як Мінск, Гомель, Пінск, Барысаў, Рагачоў, Орша, Ліда, павялічылі сваё насельніцтва ў тры разы. У Віцебску, Гродне, Брэсце, Магілёве, Рэчыцы колькасць жыхароў вырасла больш чым у два разы. Найбуйнейшым гандлёва-прамысловым цэнтрам Беларусі стаў Мінск, насельніцтва якога склала 90,9 тыс. чалавек, другое месца займаў Віцебск – 65,8 тыс., у Гродне і Брэсце налічвалася адпаведна 46,9 і 46,5 тыс. чалавек. Рост гэтых гарадоў адбываўся ў асноўным за кошт міграцыі туды адносна лішняга сельскага насельніцтва. Эканоміка астатніх беларускіх гарадоў была не ў стане прыняць пабочныя рабочыя рукі, таму гэтыя гарады раслі пераважна за кошт натуральнага прыросту, а ў такіх гарадах, як Чавусы, Бабінавічы, адбылося нават скарачэнне колькасці жыхароў[3].

Згодна перапісу 1897 г., у гарадах Беларусі пераважную большасць насельніцтва складалі мясцовыя жыхары – 65,1 %, на ўраджэнцаў бліжэйшых паветаў прыходзілася 15,7, прыезджых з іншых губерняў імперыі было 18,9, іншаземцаў – 0,2 %. Найбольшы працэнт не мясцовых ураджэнцаў прыпадаў на буйнейшыя гарады, якія мелі гандлёва-прамысловае значэнне ці канцэнтравалі значныя вайсковыя часці: Мінск, Гомель, Віцебск, Пінск, Магілёў, Брэст. Значныя воінскія кантынгенты размяшчаліся ў Брэсце, Бабруйску, Рагачове, Ваўкавыску.

---

[1] РДГА, ф.1281, воп.4, спр.73, арк.28; Статистический временник Российской империи. Серия I. Вып. 1. С.8–9, 12–13, 16–19; Первая всеобщая перепись населения Российской империи. Вып.IV, V, XI, XXII, XXIII.

[2] *Шыбека З.* Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX стагоддзяў). С.146, 148.

[3] РДГА, ф.1281, воп.7, спр.45, арк.37; спр.68, арк.371; Статистический временник Российской империи. Серия I. Вып.I. С.8–9, 12–13, 16–19; Первая всеобщая перепись Российской империи. Вып.IV. Тетр.3; Вып.V. Тетр.3; Вып.XI, XXII, XXIII. С.4–5.

Немалое папаўненне давалі суседнія губерні. Так, у Мінску знаходзіліся выхадцы з Віленскай (каля 5 тыс. чалавек), Гродзенскай, Магілёўскай (больш за 1 тыс. з кожнай), Віцебскай, Ковенскай (каля 1 тыс.), Маскоўскай і С.-Пецярбургскай (па 500 чалавек) губерняў. Гродзенская і Валынская губерні далі больш за 2,5 тыс. жыхароў Пінску. У гарадах Магілёўскай губерні пражывала шмат выхадцаў з Віцебскай, Мінскай і Чарнігаўскай губерняў. Напрыклад, у Гомелі ўраджэнцаў Чарнігаўшчыны было больш за 2 тыс. чалавек. Значная колькасць мігрантаў з іншых месцаў зафіксавана ў Віцебску. Тут пераважалі выхадцы з Магілёўшчыны – звыш 5 тыс., каля 1 тыс. чалавек былі з Віленскай губерні. У Гродне і Брэсце акрамя ўраджэнцаў Беларусі знаходзіліся асобы з Сядлецкай і Сувалкаўскай губерняў.

Пры ўсёй інтэнсіўнасці перасяленчага руху ў гарады урбанізацыйныя працэсы ў Беларусі працякалі павольней, чым у цэнтральных губернях Расіі, дзе адток сельскагаспадарчага насельніцтва ў гарадскія цэнтры быў больш інтэнсіўным. Такая розніца была звязана з недастатковымі маштабамі развіцця эканомікі беларускіх гарадоў, адносным іх перанасяленнем з-за штучнага засялення туды яўрэйскага насельніцтва.

**Асаблівасці рассялення, заняткаў, саслоўнага і канфесіянальнага складу этнічных груп насельніцтва краю.** Тытульнае насельніцтва краю – беларусы, паводле перапісу 1897 г., складалі 63,5 % ад усіх жыхароў пяці заходніх губерняў. Найбольшая іх удзельная вага была ў Магілёўскай губерні – 82,4 %, у астатніх вагалася ад 44,0 % у Гродзенскай да 76 % у Мінскай. Значная розніца назіралася і ў рассяленні беларусаў у межах гарадоў і вёсак. Сярод вясковага насельніцтва гэтых губерняў беларусы складалі пераважную большасць – 68,8 %. Па губернях гэта выглядала наступным чынам: у Магілёўскай – 87,4 %, у Мінскай – 83,6, у Віленскай – 63,0, у Віцебскай – 59,7, у Гродзенскай – 50,6 %. У агульнай масе гараджан доля беларусаў была невялікай – 14,5 %, у тым ліку ў гарадах Магілёўскай губерні – 30,0 %, Віцебскай – 13,3, Мінскай – 11,8, Гродзенскай – 9,6, Віленскай – 7,6 %[1]. З прыведзеных даных вынікае, што ўдзельная вага беларусаў сярод вяскоўцаў амаль у пяць разоў перавышала іх долю сярод гараджан. Такая сітуацыя склалася штучна пад уздзеяннем палітыкі царскага ўрада, накіраванай на засяленне ў гарады яўрэяў.



Сяляне з аколіц Пінска.
Малюнак сярэдзіны XIX ст.

Абсалютная большасць беларусаў жыла ў сельскай мясцовасці і належала да сялянскага саслоўя. Найбольшая ўдзельная вага сялян-беларусаў, згодна перапісу 1897 г., была ў Мінскай і Магілёўскай губернях – адпаведна 94,9 і 96,1 %. Галоўным заняткам самай шматлікай карэннай

[1] Первая всеобщая перепись населения Российской империи. Вып.IV, V, XI, XXII, XXIII.

этнічнай групы краю (пяць заходніх губерняў) была сельская гаспадарка, якую назвалі ў якасці такой 91,3 % беларусаў, у тым ліку 90,6 % пераважна займаліся земляробствам і толькі 0,7 % – жывёлагадоўляй. У якасці падзёншчыкаў і хатняй прыслугі было занята 2,7 %. Сярод мяшчан доля беларусаў даходзіла да 23 %, а ў агульнай колькасці гандлёва-прамысловага насельніцтва беларусы складалі ў Магілёўскай губерні – 22,6, у Мінскай – 15,5, у Віцебскай – 14,7, у Віленскай – 12,2, у Гродзенскай – 8,5 %[1].

Адной з важных асаблівасцей беларускага этнасу з'яўляецца яго шматканфесійнасць, падзел на католікаў і праваслаўных. У чатырох губернях, акрамя Віленскай, большасць насельніцтва вызнавала праваслаўе. Беларусаў-католікаў у Віленскай губерні налічвалася 58,5 %, у Гродзенскай – 30,3, у астатніх – значна менш : у Віцебскай – 10,5, у Мінскай – 9,1, у Магілёўскай – 2,0 %[2]. Такі падзел перашкаджаў кансалідацыі беларускага этнасу, запавольваў яго складанне ў нацыю.

Рускія жылі ў Беларусі з даўніх часоў, але з другой паловы XIX ст. прыток іх паскорыўся. Гэтаму садзейнічала палітыка царскага ўрада, які ўвесь час дамагаўся пашырыць на тэрыторыі краю "рускі элемент". Гэта выяўляецца ў шэрагу мер. Пасля паўстання 1863–1864 гг. узмацнілася палітыка насаджэння рускага землеўладання. Для гэтага канфіскаваныя маёнткі ўдзельнікаў паўстання на льготных умовах перадаваліся рускім чыноўнікам, адначасова польскім памешчыкам забаранялася купляць новыя маёнткі, а таксама карыстацца льготнымі крэдытамі Дваранскага банка.

Згодна сакрэтнаму палажэнню ад 27 мая 1864 г. усе службовыя пасады ў заходніх губернях, асабліва тыя, якія мелі "соприкосновение с народом", павінны былі быць заняты асобамі рускага паходжання ці, ва ўсякім разе, праваслаўнымі[3]. Да такіх пасад у першую чаргу адносіліся настаўнікі, медыцынскі персанал, розных рангаў чыноўнікі. З мэтай прываблівання іх у Заходні край былі ўстаноўлены 50-працэнтныя надбаўкі да акладаў, давалася дваранскае званне, адкрывалася перспектыва хуткай кар'еры[4].

Перапісам 1897 г. у пяці заходніх губернях зафіксавана 492,9 тыс. чалавек (5,8 % ад усяго насельніцтва), якія сваёй роднай мовай назвалі рускую. З іх 37,5 % жылі ў гарадах і 62,5 % – у мястэчках і вёсках. Сярод гарадскіх жыхароў доля рускіх складала ў сярэднім 17,7 %, сярод сельскіх – 4,4 %. Вышэй за сярэднія паказчыкі ўдзельная вага рускіх была ў Віцебскай губерні: 22,1 % у гарадах і 11,8 % у вёсках. Найбольш значная канцэнтрацыя рускамоўнага насельніцтва назіралася ў гарадах: Мінску (23,2 тыс.), Віцебску (19,0 тыс.), Гродне (10,5 тыс.), Брэсце (10,2 тыс.), Бабруйску (9,7 тыс.), Гомелі (7,1 тыс.), Магілёве (6,8 тыс.); у паветах: Віцебскім (16,6 тыс.), Гомельскім (14,6 тыс.), Бабруйскім (15,8 тыс.), Полацкім (12,2 тыс.), Гарадоцкім (11,7 тыс.), Дзісенскім (11,3 тыс.), Гомельскім (14,6 тыс.) і Бабруйскім (15,8 тыс.).

Па саслоўных групах рускае насельніцтва краю размяркоўвалася наступным чынам. найбольш значны яго працэнт быў сярод асабістых дваран і чыноўнікаў – 51,8, рускія патомныя дваране складалі 16,0 %, рускія святары – 61,5 %. Сярод мяшчан і сялян дадзеная этнічная група была прадстаўлена нязначна – 6,8 і 5,1 %[5].

---

[1] Падлічана па матэрыялах перапісу 1897 г.

[2] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. С.333.

[3] РДГА, ф.1297, воп.274, спр.9, арк.1.

[4] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. С.334.

[5] Первая всеобщая перепись населения Российской империи. Вып.IV, V, XI, XII, XIII.

Фактычная ж колькасць рускіх, якія пастаянна пражывалі на дадзенай тэрыторыі, была значна меншай. Па-першае, у іх лік трапіла пэўная частка этнічных беларусаў, якія ва ўмовах пастаяннай і мэтанакіраванай русіфікацыі перанялі рускую мову; па-другое, у пяці заходніх губернях на момант перапісу былі размешчаны значныя воінскія кантынгенты, асабліва ў Гродзенскай губерні. Абсалютная большасць салдат і афіцэраў (79,5 тыс. чалавек) былі рускімі, выхадцамі з цэнтральных расійскіх губерняў. Гэта сацыяльная група насельніцтва не прымала ўдзелу ў гаспадарчай дзейнасці і ў залежнасці ад палітычных абставін мянялася як колькасна, так і па складу.

Польскае, каталіцкае па веравызнанні насельніцтва краю ў канцы XIX ст. налічвала 424,2 тыс. чалавек, што складала 5,0 % ад усіх жыхароў пяці заходніх губерняў. У гарадах удзельная вага палякаў складала 11,8 %, у вёсках і мястэчках – 4,0 %. Найбольш польскамоўных жыхароў было ў гарадах Віленскай губерні – 26,6 %, у гарадах Гродзенскай губерні іх налічвалася 12,6, Віцебскай – 8,2, Мінскай – 7,2, Магілёўскай – 2,8 %. У вёсках доля палякаў вагалася ад 9,6 % у Гродзенскай да 0,9 % у Магілёўскай губернях. У адрозненне ад этнічнай групы рускіх, якая больш-менш роўна размяшчалася па тэрыторыі Беларусі, рассяленне палякаў мела ярка выражаны геаграфічны характар. Як абсалютна, так і адносна яны пераважалі ў заходнім рэгіёне – Гродзенскай і Віленскай губернях. Але менавіта тут колькасць палякаў некалькі завышана за кошт беларусаў, частка якіх ва ўмовах "дыфузіі" дзвюх моў схілілася на бок польскай.

Характэрнай асаблівасцю палякаў Беларусі ў сацыяльных адносінах з'яўляецца надзвычай высокі працэнт сярод іх патомнага дваранства, якое ў сваёй большасці ўяўляла сабой дробнапамесную шляхту. У сярэднім сярод польскамоўнага насельніцтва пяці губерняў патомныя дваране складалі 25,2 %, у тым ліку ў Магілёўскай губерні – 38,8, у Мінскай – 30,5, у Віленскай – 28,0, у Віцебскай – 22,8, у Гродзенскай – 6,2 %[1].



Яўрэі-купцы.
Малюнак Гогенфельдэна. 1857 г.

Яўрэйскае насельніцтва амаль цалкам было сканцэнтравана ў гарадах і мястэчках, што выклікана выданнем шэрагу абмежавальных законаў. У 90-х гг. XVIII ст. у Расійскай імперыі была ўведзена "рыса аселасці" для яўрэяў, згодна якой ім дазвалялася сяліцца ў межах Царства Польскага і 15 губерняў, што ахоплівала тэрыторыю Прыбалтыкі, Беларусі і Украіны. Пазней, у 1882 г., быў выдадзены чарговы закон, паводле якога яўрэям у "рысе аселасці" забаранялася купляць і арандаваць зямлю, жыць у іншых населеных пунктах, акрамя гарадоў і мястэчак. Закон выконваўся няўхільна. Выключэнні з яго былі вельмі рэдкімі.

[1]Первая всеобщая перепись населения Российской империи. Вып. IV, V, XI, XXII, XXIII.

У канцы XIX ст. (паводле перапісу 1897 г.) у пяці заходніх губернях налічвалася 1202 тыс. яўрэяў (14,1 % ад усяго насельніцтва), з якіх 53,9 % жылі ў мястэчках і 46,1 % – у гарадах. Сярод сельскіх жыхароў яўрэі ў сярэднім складалі 8,7 %, сярод гараджан – 53,5 %. Беларускія гарады па этнічнаму складу фактычна былі яўрэйскімі. Адсюль спецыфіка заняткаў і саслоўнай прыналежнасці дадзенага этнасу. Яўрэі мелі абсалютную большасць сярод мяшчанскага саслоўя, а таксама гандлёва-прамысловага насельніцтва, дзе іх удзельная вага была ў Гродзенскай губерні 74,1 %, у Мінскай – 73,5, у Магілёўскай – 68,7, у Віленскай – 60,3, у Віцебскай – 57,4 %[1].

Татары прыйшлі на беларускія землі ў канцы XVI ст. і з той пары складаюць адну з трывалых этнічных груп, якая ўвесь час захоўвала сваю мусульманскую веру, культуру, традыцыі, мову. Значная частка мясцовых татараў гаварыла на беларускай або польскай мове. У канцы XIX ст. на абшарах пяці заходніх губерняў налічвалася 13,570 тыс. мусульман, з іх 9,2 тыс. роднай мовай назвалі татарскую. Сярод апошніх 3,9 тыс. складалі вайскоўцы, прызваныя з цэнтральных губерняў Расіі. Гарнізоны, у якіх яны праходзілі службу, стаялі ва ўсіх павятовых гарадах Гродзенскай губерні, а таксама ў Лідзе, Ашмянах, Полацку, Бабруйску, Барысаве, Гомелі і Рагачове. Найбольшая колькасць карэнных беларускіх татараў была сканцэнтравана ў Мінску, Навагрудку, Слуцкім, Навагрудскім і Ігуменскім паветах. Галоўнымі заняткамі ў іх былі земляробства і апрацоўка прадуктаў жывёлагадоўлі (выраб скур).

**Нацыянальны склад саслоўна-класавых груп насельніцтва.** Адной з асаблівасцей саслоўна-класавай структуры насельніцтва Беларусі была значная ў ёй доля дваран. Калі ў сярэднім па Еўрапейскай Расіі ў 1858 г. яны складалі 1,5 %, то ў пяці заходніх губернях – 5 %. Тут пражывала 24,9 % дваран Еўрапейскай Расіі. З іх памесных дваран, якія валодалі зямлёй і сялянамі, у 60-я гг. XIX ст. было каля 14 %, беззямельная (ці з невялікімі ўчасткамі зямлі без сялян) шляхта складала 86 %. Пасля паўстання 1863 г. значная яе частка, якая не пацвердзіла свайго дваранскага паходжання, канчаткова пераводзілася ў падатныя саслоўі, што было адной з прычын скарачэння ўдзельнай вагі дваран на працягу другой паловы XIX ст. з 5 да 2,8 %.

У канцы XIX ст. сярод спадчынных дваран (шляхты) беларусы па мове складалі 51,8 %, палякі – 32,9, рускія – 11,7, татары і іншыя – 3,6%. Процілеглыя лічбы атрымліваюцца ў адносінах да асоб, якія мелі асабістае дваранства і чыноўнікаў. Тут ужо пераважалі рускія – 50,8 %, палякаў было 25,6, а беларусаў – 18,7 %[2].

Па меры развіцця рыначных адносін ішоў працэс разлажэння феадальных класаў-саслоўяў – дваран-памешчыкаў, мяшчан-рамеснікаў, купцоў. На іх аснове фарміраваліся новыя класы – буржуазія і пралетарыят. Сельская буржуазія фарміравалася з заможных сялян, спадчыннай шляхты і па нацыянальнай прыкмеце была беларускай[3]. Купцы пяці заходніх губерняў, згодна перапісу 1897 г., на 84,5 % былі прадстаўлены яўрэямі, рускія складалі 10,7, а беларусы – усяго 1,7 %. Менавіта з асяроддзя яўрэйскіх купцоў ішло складванне гандлёва-прамысловай буржуазіі. Буйная буржуазія фарміравалася таксама з ліку памешчыкаў-прадпрымальнікаў.

[1] Первая всеобщая перепись населения Российской империи. Вып. IV, V, XI, XXII, XXIII.

[2] Там жа.

[3] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.І. С.341.

Усяго ў прамысловасці, гандлі, на ўсіх відах транспарту, сродках сувязі, у якасці хатняй прыслугі і гарадскіх падзёншчыкаў у пяці губернях было занята 289,7 тыс. чалавек, з якіх яўрэяў налічвалася 59,9 %, беларусаў – 17,1, палякаў – 10,2, рускіх – 10,1 %[1]. Суадносіны паміж рабочымі розных нацыянальнасцей залежалі ад галін прамысловасці, месцазнаходжання прадпрыемстваў. Напрыклад, сярод рабочых фабрык і заводаў, якія знаходзіліся ў сельскай мясцовасці, амаль не было яўрэяў, таксама як і на чыгунках, і ў рамонтных майстэрнях. Беларусы пераважалі сярод чыгуначнікаў і на буйных прадпрыемствах, беларускім быў і сельскагаспадарчы пралетарыят. Яўрэі ў асноўным былі засяроджаны на дробных і рамесных вытворчасцях, у сферы абслугоўвання і гандлі[2].

Такім чынам, беларуская буржуазія, не валодаючы асноўнымі багаццямі краю, была слабай і знаходзілася на стадыі станаўлення.

# ГЛАВА 3
# ГРАМАДСКІ РУХ

## 1. Паўстанне 1863–1864 гг. у Беларусі

**"Белыя" і "чырвоныя". Кастусь Каліноўскі.** У канцы 50-х – пачатку 60-х гг. XIX ст. адбываліся якасныя змены ў складзе ўдзельнікаў вызваленчага руху ў Расійскай імперыі: дваранскія рэвалюцыянеры саступілі месца так званым разначынцам – выхадцам з дэмакратычных пластоў насельніцтва, выразнікам інтарэсаў працоўных мас, прадстаўленых у той час найперш сялянствам. Створаная разначынцамі тайная арганізацыя "Зямля і воля" (1861–1864) рыхтавала ўсерасійскае сялянскае паўстанне з мэтай устанаўлення народаўладдзя, перадачы без выкупу ўсёй зямлі сялянам, пабудовы сацыялістычнага ладу на аснове рэфармаванай сялянскай абшчыны, утварэння добраахвотнай федэрацыі абласцей. Надзеі на ажыццяўленне гэтай праграмы ўзмацніліся ў сувязі з уздымам антыпрыгонніцкага сялянскага руху і ўзнікненнем рэвалюцыйнай сітуацыі напярэдадні і ў час рэформы 1861 г.

У заходніх – польскіх і беларуска-літоўскіх – губернях імперыі рэвалюцыйная сітуацыя абвастралася не толькі аграрна-сялянскім, але і нацыянальным пытаннем, найперш – уздымам польскага нацыянальна-вызваленчага руху, мэтай якога з'яўлялася аднаўленне незалежнай польскай дзяржавы ў межах Рэчы Паспалітай 1772 г. Па пытанні аб шляхах дасягнення гэтай мэты ўдзельнікі руху падзяляліся на дзве асноўныя плыні – "чырвоных" і "белых". Першыя прадстаўлялі дэмакратычныя пласты насельніцтва – шматлікую беззямельную і малазямельную шляхту, рамеснікаў, сялян; другія – сярэдніх і буйных землеўладальнікаў і буйную буржуазію. "Чырвоныя" зыходзілі з прызнання неабходнасці агульнанацыянальнага ўзброенага паўстання супраць царызму; "белыя" разлічвалі на дасягненне сваёй мэты

[1] *Біч М.В.* Нацыянальны склад прамысловага пралетарыяту Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1972. №4. С.35, 36.

[2] Там жа. С. 35–37.

шляхам маніфестацый і перагавораў з урадам пры дыпламатычнай падтрымцы заходніх дзяржаў.

Таксама не было адзінства і сярод "чырвоных". Правую, памяркоўную іх частку складалі шляхецкія рэвалюцыянеры – польскія нацыяналісты, для якіх галоўным было пытанне аб аднаўленні польскай рэспублікі з уключэннем у яе склад зямель Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны. Прапагандай гэтай ідэі яны імкнуліся прыцягнуць да паўстання і памешчыкаў, і сялян, прычым першым абяцалі захаваць іх маёнткі, а другім – адразу ж без выкупу і адбывання "часоваабавязаных адносін" перадаць у поўную ўласнасць зямельныя надзелы, атрыманыя паводле рэформы 1861 г. Прадугледжваліся ўраўнаванне грамадзянскіх правоў сялян і шляхты, замена падушнага падатку падымным і 15-гадовай рэкрутчыны трохгадовай ваеннай службай у сваім краі, аднаўленне уніяцкай царквы. Такую праграму распрацаваў Цэнтральны нацыянальны камітэт (ЦНК), утвораны летам 1862 г. у Варшаве. Складаўся ён у асноўным з памяркоўных "чырвоных".

На перагаворах прадстаўнікоў ЦНК з выдаўцамі "Колокола" (А.Герцэнам, М.Агаровым, М.Бакуніным) у Лондане ў верасні 1862 г. апошнія прапанавалі польскім рэвалюцыянерам прыняць больш радыкальныя лозунгі расійскай рэвалюцыйнай дэмакратыі: "Зямля – сялянам, воля – правінцыям", г.зн. Літве, Беларусі і Украіне. У пісьме А.Герцэна "Русским офицерам в Польше" (кастрычнік 1862 г.) падкрэслівалася: "Зямля сялянам, самастойнасць абласцям – на гэтай падставе, і толькі на ёй можа ўстанавіцца дзейсны саюз ваш з польскімі братамі... Скажам разам з палякамі, быць Літве, Беларусі і Украіне з кім яны быць хочуць, ці ні з кім, толькі волю б іх уведаць – не падробленую, а сапраўдную"[1].


К. Каліноўскі

Аднак фактычна гэтыя прапановы польскімі рэвалюцыянерамі не былі ўлічаны, аб чым сведчаць два аграрныя дэкрэты, выдадзеныя ЦНК 10 (22) студзеня 1863 г. у сувязі з абвяшчэннем паўстання. Новым у іх было толькі абяцанне надзяліць 3 моргамі (каля 2 дзесяцін) зямлі беззямельных сялян, якія са зброяй у руках падтрымліваюць паўстанне. Адначасова ЦНК аб'явіў сябе Часовым нацыянальным урадам усёй былой Рэчы Паспалітай.

У Беларусі і Літве падрыхтоўка паўстання пачалася яшчэ восенню 1861 г., калі ў Вільні быў створаны "чырвоны" Камітэт руху на чале з капітанам Генеральнага штаба Л.Звяждоўскім[2]. Улетку 1862 г. пад націскам варшаўскага ЦНК віленскі цэнтр быў пераўтвораны ў Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК). Паводле паведамлення царскага генерала і гісторыка паўстання В.Ратча старшыня ЛПК Звяждоўскі "пачаў "бялець"... Пастаянным яго працаўнікам быў Канстанцін Каліноўскі... які быў чысцейшым прадук-

[1] *Герцен А.И.* Сочинения. М., 1959. Т.16. С.253–254.

[2] *Кісялёў Г.* З думай пра Беларусь. Мн., 1966. С. 120.

там камуністычнай літаратуры... з усімі федэратыўнымі мроямі ("бреднями") "Колокола"[1].

К. Каліноўскі да таго часу вызначыўся як лідэр радыкальнай, рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні сярод "чырвоных" Літвы–Беларусі. Летам 1862 г. ён стаў членам, а ў кастрычніку быў абраны старшынёю ЛПК. Звяждоўскі неўзабаве выбыў з яго складу. У канцы 1862 – пачатку 1863 г. членамі ЛПК з'яўляліся інжынер-паручнік Я. Козел-Паклеўскі, урач Б. Длускі, фатограф А. Банольдзі, студэнт Э. Вярыга, выпускнік Пецярбургскага універсітэта З. Чаховіч[2].

К. Каліноўскі нарадзіўся 21 студзеня (2 лютага) 1838 г. у Мастаўлянах Гродзенскага павета ў сям'і беззямельнага шляхціца, уладальніка невялікай ткацкай мануфактуры. З 1849 г. шматдзетная сям'я Каліноўскіх жыла ў фальварку Якушоўка (220 дзесяцін зямлі) паблізу м. Свіслач Ваўкавыскага павета. У 1852 г. Кастусь скончыў прагімназію ў Свіслачы. У 1856–1860 гг. вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, удзельнічаў у дзейнасці падпольных гурткоў польска-беларуска-літоўскай моладзі – навучэнцаў цывільных і вайсковых устаноў Пецярбурга. Атрымаўшы званне кандыдата права, у сакавіку 1861 г. ён вярнуўся на радзіму. Той жа вясной пачаў ствараць на Гродзеншчыне рэвалюцыйную арганізацыю, у якую ўвайшлі В.Урублеўскі, Ф.Ражанскі, Э.Заблоцкі, І.Мілевіч, С.Сангін і інш.

Nr. 1. Muzyckaja prauda

Першы нумар "Мужыцкай праўды"

Погляды левай, рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні "чырвоных" знайшлі адлюстраванне ў газеце "Мужыцкая праўда", якая выдавалася К.Каліноўскім, В.Урублеўскім і Ф.Ражанскім з лета 1862 г. да лета 1863 г. у якасці неафіцыйнага органа ЛПК. Усяго выйшла сем нумароў. Друкавалася газета на беларускай мове лацінскім шрыфтам у форме адозваў ад імя "Яські – гаспадара з-пад Вільні", прысвечаных набалелым для сялян пытанням. Асвятляліся яны сцісла, лагічна, паслядоўна, іншы раз наўмысна па-сялянску грубавата. Для газеты характэрны агітацыйны стыль, разлічаны на асяроддзе малапісьменных і непісьменных сялян.

Звяртаючыся да беларускіх сялян, "Мужыцкая праўда" ў першым нумары заявіла: "Возьмемся, дзецюкі, за рукі і дзяржэмся разам! А калі паны хочуць трымаць з намі, то няхай жа робяць па святой справядлівасці: бо калі іначай – так чорт іх пабяры! Мужык, пакуль здужае трымаць касу і сякеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе". Ніхто не дасць

[1] *Ратч В.* Сведения о польском мятеже 1863 года в Северо-Западной России. Вильно, 1867.

[2] Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.: Документы и материалы. М., 1964. С.166.

вольнасці мужыкам, мужыкі павінны самі заваяваць яе і пабудаваць новы парадак – такі і так, як захочуць самі, – вось лейтматыў "Мужыцкай праўды". "А для таго, дзецюкі, – папярэджваў Каліноўскі, – каб ніхто вас не мог ашукаць, цяпер ужо талкуйце паміж сабою, якой вам вольнасці патрэбна і якім адно спосабам мужык яе дастаць можа". Як бачна з прыведзеных радкоў, Каліноўскі адназначна зыходзіў з ідэі народнай, сялянскай рэвалюцыі і ўсталявання ў выніку яе народаўладдзя і прынцыпова разыходзіўся не толькі з "белымі", але і з памяркоўнымі "чырвонымі", якія рабілі стаўку на вядучую ролю шляхты. Ён бліскуча – вельмі лаканічна, але ў той жа час проста і зразумела для кожнага непісьменнага селяніна – сфармуляваў ідэю дэмакратычнай, народнай дзяржавы. "І як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, – пісаў Каліноўскі, – так добры ўрад глядзець павінен шчасце людзей, слухаць народу і рабіць так, як народаві лепей. І не дзіва, бо не народ зроблены для ўрада, а ўрад для народа".

Аднак прамых заклікаў да захопу памешчыцкіх зямель у "Мужыцкай праўдзе" не было. Не ўзнімала газета і нацыянальнае пытанне. У больш поўнай меры свае рэвалюцыйна-дэмакратычныя пазіцыі К.Каліноўскі адстойваў і прапагандаваў на пасяджэннях Літоўскага правінцыяльнага камітэта, дзе цвёрда і паслядоўна дамагаўся ўстанаўлення раўнапраўных адносін паміж ЛПК і ЦНК, прыняцця радыкальнай праграмы па аграрна-сялянскім пытанні, прызнання права Літвы–Беларусі на ўтварэнне самастойнай дзяржавы.

В.Ратч на падставе дакументаў следства сведчыў, што Каліноўскі "настойліва праводзіў ідэю аб самастойнасці Літвы", што яго партыя "вырашыла канчаткова пазбавіцца варшаўскай апекі". "Каліноўскі, – пісаў Ратч, – прымаў на сябе дыктатуру. Варшаўскі ўрад павінен быў ... атрымаць паведамленне, што Літва і Беларусь – самастойная дзяржава". Паводле звестак Ратча, поспех паўстання Каліноўскі ў вырашальнай ступені звязваў з актыўным удзелам у ім сялянскіх мас, са стварэннем сялянскай арганізацыі і ў сувязі з гэтым выступаў за перадачу ўсёй зямлі сялянству. На шляхту ён не спадзяваўся і выказваўся за ліквідацыю "гэтай гнілой і разбэшчанай касты"[1].

Сакратар варшаўскага Нацыянальнага ўрада Ю. Яноўскі ў сваіх ўспамінах адзначаў, што Каліноўскі "не хацеў мець ніякіх стасункаў са шляхтай, а абапіраўся толькі на народ. Адносіны Літвы і Польшчы разумеў толькі як федэратыўныя – з поўнай незалежнасцю Літвы. Зусім не прызнаваў улады Цэнтральнага камітэта, не хацеў прымаць адтуль ніякіх загадаў або распараджэнняў. Гэтая пазіцыя Каліноўскага, якую не ўсе ў Камітэце (ЛПК. – *М.Б.*) цалкам падзялялі, была падставай непаразуменняў"[2].

Таксама аддаў належнае Каліноўскаму і Я.Гейштар, лідэр літоўска-беларускіх "белых". "Гэта была натура гарачлівая, – успамінаў ён, – але сумленная, без малейшай крывадушнасці. Адданы душой і сэрцам люду і бацькаўшчыне, але прасякнуты крайнімі тэорыямі, прытым літоўскі сепаратыст і на словах крыважэрны дэмагог. Быў ён непараўнальным, узорным канспіратарам, душою Камітэта... Пры першым знаёмстве даводзіў мне, што ўдзел шляхты і памешчыкаў у паўстанні не толькі не патрэбны, але і шкодны. Люд сам заваюе сабе незалежнасць і запатрабуе ўласнасці ў памешчыкаў"[3].

[1] *Ратч В.* Сведения о польском мятеже 1863 года в Северо-Западной России. С. 144, 180–185, 230–231.

[2] *Каліноўскі К.* За нашую вольнасць: Творы, дакументы. Мн., 1999. С.161.

[3] Там жа. С.154.

Крайняе абвастрэнне ўзаемаадносін паміж ЛПК і ЦНК у канцы 1862 г. засведчыў член ЦНК А.Авейдэ ў сваіх паказаннях следчай камісіі (студзень 1865 г.). Ён спаслаўся на факты выдалення са складу ЛПК варшаўскага камісара Н.Дзюлёрана, а затым і яго пераемніка, адзначыў цвёрдасць і рашучасць, з якой ЛПК дамагаўся раўнапраўнасці ва ўзаемаадносінах з Варшавай і перадачы ў падпарадкаванне Вільні Беластоцкага ваяводства. Менавіта Авейдэ па даручэнні ЦНК вёў перагаворы з упаўнаважанымі Літоўскага правінцыяльнага камітэта Э. Вярыгам, затым – з Б. Длускім. "Па нейкай сляпой цвёрдасці і яго (Б.Длускага. – *М.Б.*) і камітэта віленскага ў гэтых неабгрунтаваных, на наш погляд, патрабаваннях, – адзначаў Авейдэ, – я, нягледзячы на ўсе мае намаганні, на ўсе магчымыя саступкі з боку Цэнтральнага камітэта, не паспеў прыйсці да пагаднення з Длускім на працягу цэлых двух ці трох тыдняў. Гэтая акалічнасць была сапраўднай і вялікай шкодай для рэвалюцыі, таму што да самога моманту паўстання (пагадненя) паміж Вільняй і Варшавай не адбылося"[1].

К.Каліноўскаму і яго аднадумцам так і не ўдалося паўплываць на пазіцыі ЦНК. Апошні цалкам праігнараваў патрабаванні беларуска-літоўскіх рэвалюцыйных дэмакратаў як па праграмных, так і па арганізацыйных пытаннях. Нават рашэнне аб пачатку паўстання варшаўскія дзеячы прынялі, не ўзгадніўшы яго з Вільняй, не ўважыўшы, як пісаў Каліноўскі, "інтарэсаў Літвы"[2].

**Пачатак паўстання ў Літве – Беларусі. Баявыя дзеянні.** Нечаканае абнародаванне 10(22) студзеня 1863 г. польскім Нацыянальным урадам Маніфеста і аграрных дэкрэтаў і абвяшчэнне паўстання без узгаднення з Літоўскім правінцыяльным камітэтам стварыла крытычную сітуацыю. ЛПК дастаткова доўга вагаўся, як рэагаваць на дзеянні Варшавы. І ўсё ж пасля 10 сутак цяжкага роздуму і аналізу сітуацыі Віленскі камітэт 20 студзеня (1 лютага) 1863 г. выдаў свой маніфест, адрасаваны "літоўцам, беларусам, жэмайцінам і жыхарам іншых абласцей, занятых рускімі", у якім абвясціў правы і свабоды, вызначаныя польскім нацыянальным урадам, яго аграрную праграму і заклікаў падтрымаць паўстанне ў Польшчы[3]. Гэта азначала, што левыя ў ЛПК на чале з Каліноўскім у тых драматычных умовах дзеля адзінства дзеянняў пайшлі на прынцыповыя саступкі польскім шляхецкім рэвалюцыянерам па ўсіх праграмных пытаннях і фактычна поўнасцю падпарадкаваліся польскаму нацыянальнаму ўраду. Тым не менш, паводле сведчання А.Авейдэ, у Варшаве не было даверу да ЛПК, які абвясціў сябе Часовым урадам Літвы і Беларусі[4].

У лютым 1863 г. Н.Дзюлёран, выключаны раней з ЛПК, дамовіўся з лідэрамі віленскіх "белых" Аскеркам і Гейштарам аб захопе ўлады ў паўстанцкай арганізацыі Літвы – Беларусі і атрымаў згоду на гэта ад варшаўскага ўрада. 27 лютага (11 сакавіка) 1863 г. яны адхілілі ад улады Часовы ўрад Літвы і Беларусі на чале з К. Каліноўскім і замянілі яго Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы, які ўзначаліў Я. Гейштар. Н.Дзюлёран зноў стаў камісарам ЦНК у Вільні. Ад імя Аддзела быў распаўсюджаны спецыяльны дэкрэт, якім абвяшчаліся несапраўднымі і адмяняліся "ўсе паўнамоцтвы і мандаты", выдадзеныя ЛПК[5]. У сувязі з гэтымі падзеямі А.Авейдэ паказваў пазней камісіі: "Правінцыяльны камітэт (ЛПК. – *М.Б.*) не хацеў нейкі час састу-

[1] Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг. С.166–167, 171.

[2] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: Документы и материалы. М., 1965. С.76.

[3] Там жа. С.3.

[4] Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг. С.168.

[5] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. С.11.

паць, але па загаду Цэнтральнага камітэта здаў і сваю арганізацыю (падпольныя структуры на тэрыторыі Літвы–Беларусі. – *М.Б.*) і самога сябе новаўстаноўленай у Вільні рэвалюцыйнай уладзе. Каліноўскі адзін пратэставаў супраць "шляхты", пратэст гэты, аднак, Дзюлёран у Варшаву не прыслаў"[1].

У заяве Каліноўскага гаварылася, што члены ЛПК лічаць пагібеллю і здрадай рэвалюцыі перадачу кіраўніцтва ў рукі контррэвалюцыянераў і "здымаюць з сябе ўсялякую адказнасць перад будучыняй за ўсе памылкі і за ўсе страты і няшчасці, якія прынясе процілеглае духу і тэндэнцыям паўстання кіраўніцтва літоўскай справай". Разам з тым ЛПК заявіў, што ён падпарадкоўваецца "галаве паўстання", бо, "па-першае, не жадае пачынаць згубных для рэвалюцыі разладаў і нязгодаў і, па-другое, з-за таго, што не адчувае сябе дастаткова моцным, каб вырваць кіраўніцтва справамі з рук сваіх праціўнікаў"[2].

Такім чынам, з-за слабасці рэвалюцыйна-дэмакратычных сіл К. Каліноўскі вымушаны быў супрацоўнічаць са шляхецкімі рэвалюцыянерамі, фактычна падпарадкоўвацца іх цэнтрам, дзейнічаць ад імя польскага нацыянальнага ўрада, прытрымлівацца ўстаноўленай гэтым урадам праграмы. Магчымасці звярнуцца да беларускага і літоўскага народаў з праграмай барацьбы, якая істотна адрознівалася б ад праграмы ЦНК, у К.Каліноўскага не было. У выпадку непадпарадкавання яму пагражала абвінавачванне ў дзяржаўнай здрадзе з адпаведнымі вынікамі. Гэта было прадугледжана адпаведным пунктам дэкрэта Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы аб ліквідацыі ЛПК ад 27 лютага (11 сакавіка): "Невыкананне або затрымка выканання загадаў як Нацыянальнага ўрада, так і яго чыноўнікаў, самаўпраўныя дзеянні ў сучасных абставінах з'яўляюцца дзяржаўнай здрадай; вінаватыя ў такім злачынстве падлягаюць неадкладнаму пакаранню па ўсёй строгасці польскага ваеннага права"[3].

Галоўнай задачай "белых", якія далучыліся да паўстання і захапілі кіраўніцтва ім, з'яўлялася недапушчэнне перарастання яго ў сялянскую рэвалюцыю. Праграма памяркоўных "чырвоных", абвешчаная ў Маніфесце і аграрных дэкрэтах ад 10(22) студзеня, захоўвалася, што пацвердзіў дэкрэт ЦНК ад 10 мая 1863 г. аб пераўтварэнні яго ў Нацыянальны ўрад. Аднак пэўным чынам канкрэтызаваліся пазіцыі гэтага ўрада па нацыянальным пытанні: ён абяцаў "братнім народам Літвы і Русі, злучаным з Польшчаю, забеспячэнне найшырэйшага развіцця нацыянальнасці і мовы" і "прызнанне Літвы і Русі ў якасці частак, зусім роўных з Каронай, з якой яны ўтвараюць адзіную цэласную дзяржаву"[4]. Адзначаныя пункты дэкрэта выключалі нават пастаноўку пытання аб праве беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў на самавызначэнне свайго лёсу.

Пасля роспуску ЛПК віленскі "белы" камітэт перагледзеў усе яго кадравыя прызначэнні ў падпольных структурах Літвы і Беларусі. У ваяводствы, паветы і акругі прызначаліся цывільныя начальнікі, важнейшай задачай якіх з'яўлялася матэрыяльнае забеспячэнне паўстанцкіх атрадаў. Іх арганізацыя і кіраўніцтва баявымі дзеяннямі ўскладваліся на ваяводскіх ваенных начальнікаў. Як правіла, яны былі і камандзірамі найбольш буйных ат-

[1] Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг. С.168.

[2] Цыт. па кн.: *Смирнов А.Ф.* Революционные связи народов России и Польши. М., 1962. С.287.

[3] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. С.12.

[4] Historia Powstania Narodu Polskiego. T.1. S.322–323.

радаў і злучэнняў. Каардынавалі дзейнасць цывільных і вайсковых паўстанцкіх улад ваяводскія камісары. На пасаду гродзенскага ваяводскага камісара пасля роспуску ЛПК быў прызначаны К.Каліноўскі.

Першыя паўстанцкія атрады з'явіліся ў Беларусі з Польшчы ў студзені-лютым 1863 г. Самым буйным з іх быў атрад пад камандаваннем Р.Рагінскага. Пры няспынным праследзе царскімі войскамі ён прайшоў праз Пружанскі павет да Пінскага, дзе каля в. Боркі ў лютым быў разбіты. Фарміраванне мясцовых атрадаў і выхад іх у месцы збору пачаліся ў сакавіку-красавіку 1863 г.



Харугва паўстанцаў 1863 г.

Абмежаваная праграма паўстання і прыход да кіраўніцтва "белых" выключалі магчымасць шырокага ўдзелу ў ім сялянства Беларусі і Літвы, для якога быў зусім чужы і незразумелы лозунг польскіх шляхецкіх рэвалюцыянераў аб аднаўленні Польшчы ў межах Рэчы Паспалітай 1772 г. Сярод расійскай грамадскасці, нават ліберальна-дэмакратычнай, гэты лозунг справакаваў небывалы ўздым вялікадзяржаўнага шавінізму, якому не паддаўся фактычна толькі герцэнаўскі "Колокол". Аднак прыхільнікаў у апошняга было мала. Праз дзяржаўныя ўстановы, царкву, школу, друк шавіністычная хваля шырока распаўсюдзілася ў Расіі і паралізавала намаганні "Зямлі і волі" ўзняць ўсерасійскае сялянскае паўстанне. Гэтым, па сутнасці, прадвызначыўся і лёс паўстання ў Польшчы, Літве і Беларусі. Спадзяванні яго кіраўнікоў на дапамогу заходніх дзяржаў таксама не спраўдзіліся. У адзінаборстве з магутнай расійскай арміяй паўстанцы былі асуджаны на паражэнне: у Беларусі і Літве іх налічвалася прыблізна 15 тыс., а змагацца ім давялося супраць рэгулярнага войска, якое складалася з 318 рот салдат, 48 эскадронаў кавалерыі, 18 казацкіх соцень і мела на ўзбраенні 120 палявых гармат[1].

З прычыны несувымернасці сіл баявыя дзеянні паўстанцаў, узброеных у большасці косамі, пікамі і паляўнічымі стрэльбамі, з самага пачатку насілі характар партызанскай барацьбы: атрады пазбягалі сутычак з больш моцнымі сіламі і нападалі толькі тады, калі была надзея на поспех. Яны пастаянна знаходзіліся ў руху. Прыходзячы ў вёску ці мястэчка, паўстанцы склікалі сходы жыхароў, абвяшчалі ім маніфест і аграрныя дэкрэты, складалі акты аб перадачы зямлі ва ўласнасць сялян, прымалі ад іх прысягу на вернасць, забіралі казённыя грошы, а сабраныя з сялян падаткі вярталі ім. Іншы раз праводзілі публічныя суды і пакаранні людзей, якія аказвалі дапамогу ўладам у барацьбе з паўстаннем. Усяго на сучаснай тэрыторыі Беларусі з лютага па жнівень 1863 г. зафіксавана 46 баёў і баявых сутычак паўстанцаў з царскім войскам. З іх 2/3 адбыліся на Гродзеншчыне і Віленшчыне[2].

У Гродзенскай губерні вясною 1863 г. дзейнічалі пяць паўстанцкіх атрадаў, у якіх налічвалася каля 1700 чалавек. У маі яны правялі больш за

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.70.

[2] Падлічана па: *Філатава А.* З хронікі баявых сутычак паўстанцаў // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. №3. С.54–60.

20 баёў. Найбуйнейшы з іх адбыўся 21 мая каля м. Мілавіды Слонімскага павета. З аднаго боку ў ім удзельнічала каля 800 паўстанцаў (некалькі атрадаў), а з другога – пяць рот салдат, якія мелі чатыры гарматы. Бой працягваўся некалькі гадзін. Карнікі не змаглі ўзяць лагер паўстанцаў і з вялікімі стратамі адышлі. Аднак і паўстанцы не сталі чакаць прыбыцця новых сіл ворага: уночы яны непрыкметна пакінулі лагер.

Паўстанне ў Гродзенскай губерні вызначалася адносна больш актыўным удзелам у ім сялян. З усіх сялян, што ўдзельнічалі ў паўстанні на сучаснай тэрыторыі Беларусі, больш за 33 % прыпадала на Гродзеншчыну. Адпаведны паказчык па беларускіх паветах Віленскай губерні складаў 27 %, па Мінскай – 20, па Магілёўскай – 13, па Віцебскай – толькі 7 %[1].

Адносны поспех у пачатку паўстання спадарожнічаў выступленню атрада Л.Звяждоўскага, прызначанага ваенным начальнікам Магілёўскага ваяводства. З дапамогаю студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута яму ў ноч на 24 красавіка 1863 г. удалося захапіць павятовы цэнтр Горкі. Аднак мясцовыя сяляне не падтрымалі паўстанцаў, і атрад Звяждоўскага неўзабаве быў разбіты.

Недавер у сялян выклікаў факт падтрымкі паўстання з боку мясцовых польскіх памешчыкаў, абмежаваная праграма яго кіраўнікоў, лозунг аднаўлення польскай дзяржавы. Да таго ж улады і праваслаўная царква распаўсюджвалі беспадстаўныя чуткі, быццам польскія памешчыкі паўсталі супраць рускага цара за тое, што ён вызваліў сялян з прыгону, і з мэтай аднавіць прыгоннае права. Моцна паўплывалі на сялян і тыя змены ў рэалізацыі рэформаў ад 19 лютага, на якія пайшоў урад у сувязі з паўстаннем. У выніку большасць сялянства Беларусі не падтрымала паўстанне, а значная частка, асабліва ў Віцебскай і Магілёўскай губернях, выступіла супраць яго, дапамагала ўладам лавіць паўстанцаў, грабіла маёнткі польскіх паноў[2].

**Вяртанне К.Каліноўскага да кіраўніцтва паўстаннем у Літве – Беларусі.** Разгром многіх паўстанцкіх атрадаў, шматлікія страты ў выніку баявых дзеянняў, пасіўнасць "белых" у падпольных структурах прымусілі Н.Дзюлёрана, які з пачатку сакавіка фактычна ўзначальваў Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы, зноў запрасіць у Вільню К.Каліноўскага. Разам з ім у пачатку чэрвеня 1863 г. у склад віленскага паўстанцкага цэнтра, які стаў называцца Выканаўчым аддзелам Літвы, увайшлі У. Малахоўскі і І. Каліноўскі. Дзякуючы ім дзейнасць аддзела прыкметна актывізавалася і радыкалізавалася. Рашучасцю, прынцыповасцю і адданасцю рэвалюцыйнай справе па-ранейшаму вызначаўся К.Каліноўскі.

Істотныя змены ў характары кіраўніцтва паўстаннем адлюстраваны ў лісце камандзіру паўстанцкага атрада Ф.Віславуху ад 16 (28) чэрвеня 1863 г. Аўтар пісьма (відаць, У. Малахоўскі) паведамляў: "У нас у Літве толькі цяпер справа даходзіць да грамадзянскай арганізацыі, бо да гэтага часу адміністрацыя ў правінцыі амаль не дзейнічала з-за подласці і баязлівасці дваранства. Цяпер малады элемент бярэ дваранства ў ціск, праз 2–3 тыдні вы адчуеце гэта адрозненне"[3].

Уплыў К. Каліноўскага і яго аднадумцаў у Выканаўчым аддзеле дастаткова выразна праявіўся ў "Прыказе ад ураду польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім да народу зямлі Літоўскай і Беларускай", выдадзеным у тым жа месяцы на беларускай мове. У ім выкрывалася лжывасць

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.59 (падлік С.М. Самбук).

[2] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т.2. С.517.

[3] Восстание в Литве и Белоруссии 1863 – 1864 гг. С.40 – 41.

афіцыйнай прапаганды наконт паўстання як справы польскіх паноў. У сувязі з гэтым ад імя паўстанцаў заяўлялася: "Но дзела наша – не дзела панскае, а справядлівай вольнасці, якой вашы дзяды ды бацькі здаўна жылі... Пан будзе ліхі – пана павесім як сабаку! Мужык будзе кепскі[1] – то і мужыка павесім..." Адозва заклікала "чыншаў, аброкаў і падаткаў у казну маскоўскую ды і панам ніякіх больш не плаціць" ("бо гэта ўжо зямля ваша"). Паводле загаду, падаткі "народ зямлі Літоўскай і Беларускай" павінен быў плаціць "казне польскай"[2].

З 31 ліпеня К.Каліноўскаму былі перададзены паўнамоцтвы старшыні Выканаўчага аддзела Літвы, а з 22 жніўня – і паўнамоцтвы камісара варшаўскага ў Вільні. Такім чынам, да канца лета 1863 г. у яго руках сканцэнтравалася ўся паўната ўлады ў паўстанцкай арганізацыі на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Аднак выкарыстаць яе для рэалізацыі сваёй праграмы ён ужо не меў ні часу, ні магчымасці, бо, паводле ацэнкі М.Мураўёва, у пачатку верасня паўстанне ў беларуска-літоўскіх губернях было практычна задушана[3].

**Падаўленне паўстання**. Пашырэнне ў 1861 г. польскага нацыянальна-вызваленчага руху на Віленскую, Гродзенскую і Ковенскую губерні прымусіла ўрад абвясціць у гэтых губернях у жніўні таго ж года ваеннае становішча. З пачаткам паўстання яно было ўведзена ў Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губернях, далучаных да Віленскага генерал-губернатарства. У маі 1963 г. генерал-губернатарам беларуска-літоўскіх губерняў Аляксандр II прызначыў генерала М. Мураўёва, які яшчэ ў пачатку 30-х гг. служыў Мікалаю I на пасадах магілёўскага і гродзенскага губернатараў, добра ведаў край і меў вопыт падаўлення тагачаснага польскага паўстання. Цар ухваліў яго праграму "супакаення" краю і надзяліў дыктатарскімі паўнамоцтвамі. Мураўёву падпарадкоўваліся ваенныя губернатары і ваенныя начальнікі паветаў, узброеныя сілы, жандармерыя і паліцыя, следчыя камісіі і ваенна-палявыя суды. Прыгаворы апошніх пасля зацвярджэння ваеннымі губернатарамі і генерал-губернатарам выконваліся неадкладна, смяротныя пакаранні – публічна, на плошчах гарадоў. Усяго ў краі было пакарана больш за 15 тыс. чалавек. З іх 123 былі павешаны ці расстраляны, 12 355 сасланы пад нагляд паліцыі па месцах жыхарства, 3776 чалавек высланы без следства і суда[4].

Паказальна, што каля 70 % усіх удзельнікаў паўстання, прыцягнутых да адказнасці, складала шляхта, у абсалютнай большасці беззямельная і малазямельная, якая здабывала сродкі для жыцця ўласнай працай на арандаванай зямлі ці ў рамястве, службай у дзяржаўных і прыватных установах. Прадстаўнікі дэмакратычных пластоў гарадскога насельніцтва і беззямельная шляхта (фактычна разначынцы) складалі каля 75 % усіх паўстанцаў на тэрыторыі Беларусі[5].

Нерухомая і рухомая маёмасць пакараных па суду канфіскоўвалася, а высланых адміністрацыйна – секвестравалася. На ўсіх западозраных у спачуванні паўстанцам адвольна накладаліся ўсемагчымыя і нічым не рэгламентаваныя штрафы. Жыхарам мужчынскага полу (акрамя сялян) забаранялася без дазволу ўлад адлучацца з дому далей, чым на 30 вёрст. У сельскай

---

[1] Маюцца на ўвазе сяляне, якія дапамагалі ўладам падаўляць паўстанне.

[2] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. С.29–31.

[3] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т.2. С.537.

[4] *Самбук С.М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. С.25–26.

[5] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.57 – 58 (падлікі С.М. Самбук).

мясцовасці з ліку сялян ствараліся ўзброеныя каравулы ад 60 да 100 чалавек кожны, у якія ўключаліся некалькі салдат на чале з унтэр-афіцэрамі. На спецыяльных заставах яны павінны былі правяраць усіх прахожых і праезджых, лавіць і праследаваць паўстанцаў. За іх выдачу сялянам даваліся грашовыя ўзнагароды. Тыя ж вёскі, дзе паўстанцы знаходзілі падтрымку, цалкам спальваліся, маёмасць жыхароў прадавалася з аўкцыёну, а самі яны высылаліся ў аддаленыя губерні Расіі. Маёнткі памешчыкаў, якія не даносілі паліцыі аб з'яўленні ў іх уладаннях паўстанцаў, адбіраліся ў казну. Былі закрыты дваранскія сходы, а выбраныя імі прадвадзіцелі (маршалкі) дваранства, міравыя пасрэднікі і ўвогуле ўсе чыноўнікі, якія па службовых абавязках мелі непасрэдныя зносіны з насельніцтвам, заменены расійскімі чыноўнікамі. Тое ж рабілі з настаўнікамі і медыцынскімі работнікамі. Выхадцаў з Расіі заваблівалі на службу ў Беларусь і Літву павышанымі на 50 % акладамі, магчымасцю набыць на льготных умовах зямлю і зрабіць хуткую кар'еру. За падтрымку паўстання закрываліся ці пераўтвараліся ў праваслаўныя храмы касцёлы і кляштары[1].

Жорсткімі рэпрэсіямі Мураўёў прымусіў "белых" памешчыкаў і вышэйшае каталіцкае духавенства адмовіцца ад падтрымкі паўстання. Гэта замацоўвалася падпісаннем вернападданніцкіх адрасоў на імя цара.

Ва ўмовах страшэннага тэрору, здрадніцтва і шпіёнства К.Каліноўскі, дзякуючы незвычайным здольнасцям канспіратара, пратрымаўся на волі да канца студзеня 1864 г. Ён не раз мог перабрацца за мяжу, але не пайшоў на гэта, бо імкнуўся зрабіць усё магчымае, каб захаваць у Беларусі і Літве падпольную паўстанцкую арганізацыю з мэтай падрыхтаваць новае паўстанне вясною 1864 г. Выдадзены здраднікам, Каліноўскі ў ноч на 29 студзеня 1864 г. трапіў у рукі Мураўёва. На следстве, якое працягвалася да канца лютага, трымаўся мужна, з высокай годнасцю. Матэрыялы следства характарызуюць Каліноўскага як выразніка інтарэсаў не Польшчы, а Літвы–Беларусі, і паказваюць, што свае адносіны да Расіі ён фармуляваў у залежнасці ад яе episode ўлення да беларускага народа і краю.

Знаходзячыся ў турме і не маючы ніякіх ілюзій наконт свайго далейшага лёсу, К.Каліноўскі напісаў і перадаў на волю "Лісты з-пад шыбеніцы" з просьбай апублікаваць іх, "каб знаў свет Божы, як мужыкі Беларусы глядзяць на Маскалёў і паўстанне польскае, чаго яны хочуць і чаго па сваёй сіле дабівацціся будуць..." Заклікаючы свой народ да далейшага змагання за волю, ён выказаўся за ўтварэнне самастойнага ўрада для Літвы–Беларусі: "Нам адно сільно з шчырай верай за сваё стаяці трэба, а ронд (урад) наш павінен быць на ўсё чуткі, каб для дабра народнага з усяго карыстаць"[2].

Ваенна-палявы суд прыгаварыў К.Каліноўскага да расстрэлу, але Мураўёў выказаўся за павешанне. Пакаранне адбылося 10(22) сакавіка 1864 г. у 10 гадзін 30 хвілін раніцы на Лукішскай плошчы ў Вільні ў прысутнасці велізарнай колькасці людзей. Стоячы перад шыбеніцай, за момант да смерці К.Каліноўскі ўнёс "папраўку" ў прыгавор. Калі яго назвалі "дваранінам", ён крыкнуў: "У нас няма дваран, усе роўныя!"

**Значэнне паўстання.** У паўстанні 1863–1864 гг., якое ў тых умовах амаль не мела шанцаў на перамогу, праявілася мужнасць, рашучасць і самаахвярнасць многіх сыноў Беларусі ў змаганні за волю і лепшую долю народа.

---

[1] *Самбук С.М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. С.25–26; Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т.2. С.485, 524, 530, 533–538, 542–543, 548–550.

[2] Да беларускага люду. Лісты з-пад шыбеніцы Кастуся Каліноўскага // Маладосць. 1988. №1. С.139–142; *Каліноўскі К.* За нашу вольнасць. С.40, 44.

Сярод іх як сапраўдны нацыянальны герой вылучаецца К. Каліноўскі. Менавіта з яго дзейнасцю звязана перарастанне напярэдадні і ў час паўстання беларускага нацыянальна-культурнага руху ў палітычны. К. Каліноўскі адстойваў правы беларусаў і літоўцаў на самавызначэнне свайго лёсу, на ўтварэнне самастойнай дзяржавы ў форме Літоўска-Беларускай рэспублікі, у якой урад быў бы добрым слугою народу. Для плыні, узначаленай Каліноўскім, было характэрна ўсведамленне беларускага народа як мужыцкага і ў сувязі з гэтым арганічнае спалучэнне нацыянальнага і аграрна-сялянскага пытанняў. Упершыню была сфармулявана рэвалюцыйная праграма, якая зыходзіла з інтарэсаў сялян і разлічвалася на ажыццяўленне сіламі арганізаванага сялянства і іншых пластоў працоўнага насельніцтва. Аднак у кіраўніцтве паўстаннем верх узялі польскія шляхецкія рэвалюцыянеры. Прадыктаваная імі абмежаваная праграма паўстання, з аднаго боку, і царысцкія ілюзіі ў вёсцы – з другога, прычыніліся да таго, што большасць сялян не падтрымала паўстанцаў, а значная частка выступіла супраць іх. Гэта – адна з прычын паражэння паўстання. Тым не менш, дзякуючы паўстанню сяляне Беларусі атрымалі ад урада істотныя саступкі, якія аблегчылі іх становішча і паскорылі развіццё капіталістычных адносін у беларускай вёсцы.

Пасля падаўлення паўстання ў заходніх губернях пачалася працяглая паласа палітычнай рэакцыі і татальнай русіфікацыі, усталяваўся рэжым выключных законаў. Жорсткімі рэпрэсіямі былі знішчаны тыя парасткі беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння, якія з'явіліся ў 40–50-я гг., і надоўга выкаранены ўсе праявы рэвалюцыйнай і адраджэнскай дзейнасці. З паўстаннем звязана і закрыццё адзінай на той час вышэйшай навучальнай установы ў Беларусі – Горы-Горацкага земляробчага інстытута. Да канца свайго існавання самадзяржаўе так і не дазволіла адкрыць тут хоць бы адну вышэйшую навучальную ўстанову, што адмоўна адбілася на фарміраванні інтэлігенцыі, развіцці навукі і культуры Беларусі.

## 2. Сялянскія хваляванні

**Сялянкі рух у 1861–1863 гг.** Па маштабах і характару барацьбы ў парэформеннае 40-годдзе ў сялянскім руху ў Беларусі можна вылучыць пяць асноўных этапаў. Першы з іх ахоплівае выступленні сялян у першыя парэформенныя гады ў адказ на грабежніцкі характар адмены прыгону.

Рэформа 1861 г., праведзеная царскім самадзяржаўем і памешчыкамі, не адпавядала інтарэсам сялянства, не спраўдзіла яго надзей. Сяляне спадзяваліся, што доўгачаканае вызваленне забяспечыць ім гаспадарчую і асабістую незалежнасць ад пана. Абвяшчэнне ж усіх зямель панскіх маёнткаў уласнасцю памешчыка пагражала ў вачах сялянства пазбаўленнем яго ранейшых надзелаў, несправядлівым прысваеннем іх дваранскім саслоўем.

Царскі ўрад, разумеючы непазбежнасць сялянскіх хваляванняў пасля "даравання ім волі", прывёў у баявую гатоўнасць паліцыю, жандармерыю і войска. Для абнародавання царскага маніфеста ад 19 лютага 1861 г. і "аховы спакою і парадку" ва ўсе губерні Расійскай імперыі, у тым ліку заходнія, былі накіраваны генералы і флігель-ад'ютанты царскай світы з шырокімі паўнамоцтвамі. Становішча ў Беларусі моцна непакоіла самадзяржаўе ў сувязі з уздымам тут, як і ў суседніх Каралеўстве Польскім і Літве, польскага нацыянальна-вызваленчага руху. У Беларусі было сканцэнтравана больш за 100 тыс. рэгулярных войскаў[1]. Вялікае значэнне ўрад надаваў дзейнасці

[1] *Фридман М.Б.* Отмена крепостного права в Белоруссии. С.116.

праваслаўнага духавенства, якое было абавязана сачыць за настроямі і паводзінамі сялян і ў сваіх пропаведзях заклікаць прыхаджан да паслухмянасці цару, памешчыкам і мясцовым уладам.

У Беларусі царскі маніфест быў абнародаваны ва ўсіх губернскіх гарадах з 8 па 12 сакавіка, у сельскай мясцовасці – у красавіку-маі.

Абнародаванне маніфеста з'явілася штуршком для новага этапу сялянскага руху ў Расійскай імперыі, у тым ліку ў Беларускім рэгіёне. Зыходзячы з данясенняў з месцаў, міністр унутраных спраў адзначаў, што асабліва "неприхільнае" ўражанне ад маніфеста назіралася ў Беларусі і Літве[1]. Найбольшае абурэнне сялян выклікала "часоваабавязанае" становішча на працягу двух гадоў, калі яны па-ранейшаму абавязаны былі адбываць паншчыну ці плаціць аброк. Паўсюдна ў вёсцы назіралася хваляванне, якое часта вылівалася ў адкрытую форму – адмову выходзіць на паншчыну, нежаданне падпарадкоўвацца памешчыкам, нягледзячы на ўгаворы і пагрозы ўлад. Там жа, дзе сяляне знешне слухаліся, стала звычайнай з'явай наўмысна нядбайнае выкананне паншчынных работ.

Разам з тым сяляне, як і раней, лічылі цара сваім абаронцам і не хацелі верыць, што менавіта ён выдаў закон, які пакідаў іх у кабале ў памешчыкаў. У свядомасці сялян склалася цвёрдае ўяўленне аб фальшывасці маніфеста, аб тым, што мясцовыя ўлады дзеля выгады дваранства схавалі ад іх "сапраўдную волю". Некаторыя сяляне нават узбуджалі іскі аб вызваленні. З адмовы прызнаць сапраўднасць маніфеста і "Палажэнняў" 19 лютага 1861 г. сваю залежнасць ад памешчыка пачыналася большасць сялянскіх хваляванняў у Беларусі ў першы час пасля адмены прыгону.

Усяго ў Беларусі ў сакавіку – чэрвені 1861 г., паводле далёка не поўных даных, зафіксавана 311 сялянскіх хваляванняў, што складала каля 4/5 агульнай колькасці выступленняў за год. Хваляванні ахапілі 262 маёнткі, 1305 вёсак з 91,3 тыс. жыхароў мужчынскага полу. У 108 выпадках супраць сялян была ўжыта зброя. Беларускі рэгіён поруч з цэнтральна-чарназёмнымі губернямі, Літвой і Украінай выйшаў на адно з першых месцаў па колькасці сялянскіх выступленняў. Іх адметнай асаблівасцю ў першыя месяцы пасля апавяшчэння рэформы была масавасць. Трэба адзначыць таксама ўзрослую стойкасць і ўпартасць сялян. У 29 выпадках яны актыўна процідзейнічалі войскам і паліцыі, адмаўляліся выдаваць "зачыншчыкаў", аказвалі супраціўленне іх арышту і адбівалі арыштаваных[2]. Улады шырока практыкавалі пасылку вайскоўцаў для экзекуцыі і пастою, масавыя расправы над сялянамі. Паводле няпоўных даных, у Беларусі на працягу адзначанага часу салдаты знаходзіліся на пастоі ў 37 маёнтках, былі арыштаваны 74 селяніны, 2429 – пакараны розгамі[3].

Царызму ўдалося адбіць першы націск сялянскага руху ў адказ на рэформу. У другой палове 1861 г. назіраецца паступовы спад сялянскіх выступленняў. У ліпені – снежні гэтага ж года ў Беларусі адбылося толькі 68 хваляванняў[4]. Адной з прычын такога спаду з'явіліся ўзмоцненыя рэпрэсіі, якія царскае самадзяржаўе абрушыла на сялян. Сваю ролю адыгралі і іх ца-

---

[1] Отмена крепостного права. Доклады министров внутренних дел о проведении крестьянской реформы. 1861–1862. М.; Л., 1950. С.8.

[2] *Фридман М.Б.* Крестьянское движение в Белоруссии в годы революционной ситуации // Революционная ситуация в России в 1859–1861 гг. М., 1963. С.262, 266, 267, 270.

[3] Крестьянское движение в Белоруссии после отмены крепостного права (1861 – 1862 гг.). Мн., 1959. С.120, 137, 213, 236, 319.

[4] *Фридман М.Б.* Крестьянское движение в Белоруссии в годы революционной ситуации. С.270.

рысцкія ілюзіі. Менавіта ў гэты час у вёсках пачалі распаўсюджвацца чуткі аб тым, што нібыта рыхтуецца новы ўказ аб "поўнай волі", які ўвойдзе ў сілу праз два гады пасля маніфеста 19 лютага 1861 г.

У другой палове 1861 г. з'явілася новая форма сялянскай барацьбы, што было звязана з выбарамі органаў сельскага і валаснога кіравання. Царская адміністрацыя і памешчыкі імкнуліся, каб гэтыя органы ўзначалілі іх стаўленікі, якія б паслухмяна выконвалі волю ўлад. Сяляне выступалі супраць умяшання апошніх у ход выбараў, абаранялі сваіх прадстаўнікоў. Усяго ў Беларусі ў гэты перыяд адбылося 20 сялянскіх хваляванняў, якія былі звязаны з выбарамі валасных і сельскіх службовых асоб (валасных старшын, пісараў, сельскіх стараст)[1].

У 1862 г. быў адзначаны новы ўздым сялянскага руху ў Расійскай імперыі, у тым ліку ў Беларусі. Паводле няпоўных даных, тут адбыліся 152 выступленні. Па-ранейшаму сяляне адмаўляліся выконваць павіннасці на карысць памешчыкаў (44 выпадкі), не падпарадкоўваліся валасным і сельскім службовым асобам, якія былі прызначаны наперакор жаданню вёскі (12 выпадкаў), секлі панскія лясы (18 выпадкаў). Але найбольш вострая барацьба (78 выпадкаў) разгарнулася ў сувязі з увядзеннем устаўных грамат, пры складанні якіх памешчыкі рабілі значныя адрэзкі надзельнай зямлі, імкнуліся павялічыць сялянскія павіннасці. На складанне і ўвод у дзеянне ўстаўных грамат законам адводзілася два гады, аднак урад сутыкнуўся з масавай адмовай сялян падпісваць іх. У сувязі з асабліва шырокім аграбленнем і ўзмоцненай эксплуатацыяй памешчыкамі напярэдадні рэформы 1861 г. і на пачатковым этапе яе рэалізацыі на 1 студзеня 1863 г. у пяці заходніх губернях з 3985 устаўных грамат 3127 (78,5 %) не былі падпісаны сялянамі, тады як у рускіх губернях гэтыя граматы пачалі дзейнічаць у адносінах да 68,6 % часоваабавязаных сялян. У гэтых адносінах Беларусь займала апошняе месца ў еўрапейскай частцы краіны. Увядзенне ў дзеянне ўстаўных грамат тут было закончана толькі ў маі 1864 г.[2]

У канцы 1862 г. царскаму ўраду рэпрэсіямі і дробнымі ўступкамі ўдалося аслабіць сялянскі рух. Але барацьба сялян адыграла станоўчую ролю, паказала, што яны не змірыліся з грабежніцкімі ўмовамі рэформы 1861 г. Гэта барацьба аслабляла пазіцыі царызму і памешчыкаў у Беларусі.

Пачатак 1863 г. характарызаваўся новым уздымам сялянскага руху, што было звязана са спадзяваннямі сялян атрымаць 19 лютага "сапраўдную волю". У сувязі з гэтым асабліва моцныя хваляванні адбыліся ў Беларусі і Літве[3]. Тут у многіх месцах цэлыя валасці адмаўляліся ад выкання павіннасцей на карысць памешчыкаў. У Беларусі ў сваю чаргу па масавасці руху асабліва вылучаліся беларускія паветы Гродзенскай губерні. У прыватнасці, непадпарадкаванне мясцовым уладам і дваровай адміністрацыі ахапіла большасць валасцей Брэсцкага павета. Пра масавыя адмовы сялян выходзіць на працу да памешчыкаў паступалі звесткі з Ваўкавыскага, Слонімскага паветаў.

Пасля падаўлення паўстання 1863 г. у Беларусі царскі ўрад перайшоў да рашучай барацьбы з сялянскімі выступленнямі. У новых палітычных умо-

---

[1] *Фридман М.Б.* Крестьянское движение в Белоруссии в годы революционной ситуации. С.270.

[2] Крестьянское движение 1827–1869 гг. / Сост. Е.А. Мороховец. М.;Л., 1931. Вып.2. С.28; Отмена крепостного права. С.285–287; *Фридман М.Б.* Крестьянское движение в Белоруссии в годы революционной ситуации. С.271.

[3] Крестьянское движение 1827–1869 гг. Вып.2. С.52.

вах сялянскі рух пайшоў на спад. Адыгралі важную ролю і змены ў першапачатковых умовах вызвалення сялян – перавод іх на абавязковы выкуп і зніжэнне выкупных плацяжоў. Тым не менш барацьба сялян супраць памешчыкаў, перажыткаў прыгонніцтва і царскіх улад, хоць і ў меншай ступені, працягвалася таксама ў наступныя гады. Асновай сялянскага руху з'яўляліся абеззямеленне, збядненне большасці сялянства пры захаванні панавання латыфундыяльнага землеўладання дваранства.

**Выступленні сялян у сярэдзіне 60–70-х гг.** Другі этап сялянскай барацьбы ў Беларусі ахоплівае перыяд з 1864 па 1875 г. Ён характарызуецца паступовым спадам сялянскага руху. У гэтыя гады зафіксавана 218 выступленняў, або ў сярэднім па 18 у год. З іх 110 складалі выступленні на аснове пазямельных адносін, барацьба супраць панскага прыгнёту і 101 – хваляванні супраць улад. Асноўнымі формамі барацьбы былі выступленні ў сувязі з адмежаваннем зямель на карысць памешчыкаў, адмова ўносіць выкупныя плацяжы і падаткі, самавольны захоп зямлі і маёмасці[1].

Найбольш буйныя хваляванні сялян адбываліся ў сувязі з тым, што віленскія генерал-губернатары Э. Баранаў, а затым А. Патапаў імкнуліся адабраць ад сялян тыя ўступкі, якіх яны дабіліся ў выніку паўстання 1863 г. і сваіх выступленняў супраць грабежніцкіх умоў рэформы 1861 г. У шэрагу паветаў праверачныя камісіі вызначалі "лішкі" сялянскай надзельнай зямлі і імкнуліся іх забраць на карысць памешчыкаў[2].

Сялянскія выступленні на гэтай глебе адбываліся ў многіх валасцях Рэчыцкага, Слуцкага, Бабруйскага, Пінскага паветаў. Актыўную барацьбу супраць адмежавання зямель на карысць памешчыкаў вялі сяляне Магілёўскай і Віцебскай губерняў. У Віленскай губерні выступленнямі супраць размежавання быў ахоплены шэраг населеных пунктаў Лідскага, Дзісенскага і Вілейскага паветаў.

Пры вельмі дрэннай забяспечанасці сялянства лесам, асабліва будаўнічым, вялікае распаўсюджанне ў Беларусі атрымалі высечкі панскіх і казённых лясоў. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што не было ніводнай вёскі, жыхары якой не парушалі б у той ці іншай меры лясны статут. Судовыя ўстановы былі запоўнены справамі аб высечках лесу. Блізкімі па змесце да высечак відамі барацьбы з'яўляліся патравы і самавольны выпас жывёлы. Прычына гэтай з'явы – вострая патрэбнасць у пашах. У асноўным выпас жывёлы адбываўся ў скрытай форме, індывідуальна ці дробнымі групамі і таму не паддаецца статыстычнаму ўліку. Разам з высечкамі лесу патравы і самавольны выпас жывёлы былі найбольш распаўсюджанымі відамі сялянскага руху ў Беларусі (за 1864–1875 гг. выяўлена 50 выпадкаў)[3].

Другім па значэнні і распаўсюджанасці напрамкам сялянскага руху былі сутыкненні з уладамі. У сваёй большасці яны ўзнікалі на аснове аграрнай барацьбы сялян і з'яўляліся самаабаронай, адказам на дзеянні ўлад пры яе падаўленні. Сутыкненні сялян з уладамі набывалі розныя формы. Гэта і адмовы ад унясення аброку, выкупных плацяжоў і іншых казённых падаткаў, ад выканання судовых рашэнняў, пастаноў сялянскіх міравых устаноў, натуральных павіннасцей, у прыватнасці рэкруцкай і дарожнай, выступленні на глебе перасяленняў і інш. Сутыкненні з уладамі насілі востры, адкрыты, упарты характар.

---

[1] ***Крук У.П.*** Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. Мн., 1993. С.47–48.

[2] ***Зайончковский П.А.*** Проведение в жизнь крестьянской реформы 1861 г. М., 1958. С.380–389.

[3] ***Крук У.П.*** Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.47.

Масавыя адмовы сялян ад выплаты аброку назіраліся ў Цэнтральнай і Заходняй Беларусі. Самымі актыўнымі былі сяляне Мінскай губерні. Тут у 1864 г. сялянскі рух супраць унясення аброку востры характар набыў у Рэчыцкім і Мазырскім паветах. У хваляванні ўдзельнічалі жыхары 11 валасцей. Значнае перавышэнне цаны зямлі па выкупу супраць яе рыначнай вартасці выклікала ўсеагульнае абурэнне і адкрыты пратэст сялянскіх мас на Магілёўшчыне. Так, вясной 1864 г. хваля выступленняў супраць унясення выкупу пракацілася па Рагачоўскім павеце. У Стрэшынскай воласці супраць узносу выкупных плацяжоў выступілі сяляне шасці вёсак, у Палескай – столькі ж. Выступленні былі падаўлены з дапамогай вайскоўцаў. У 1867 г. вялікія беспарадкі на глебе адмоў ад выкупных плацяжоў мелі месца ў Лепельскім павеце Віцебскай губерні. Адмовы ад узносу іх і пагашэння нядоімак назіраліся ў Вілейскім, Дзісенскім паветах Віленскай губерні[1].

Малазямелле і галеча, уціск памешчыкаў і царскіх чыноўнікаў з'явіліся прычынай таго, што беларускіх сялян пачалі вабіць свабодныя землі поўдня і паўднёвага ўсходу краіны. Пад уздзеяннем чутак аб вызваленні сялян ад падаткаў і рэкруцкай павіннасці ў паўднёвых губернях Расіі ў 1867 г. хваляванні ахапілі Быхаўскі павет Магілёўскай губерні. Летам 1868 г. буйныя хваляванні адбыліся ў Барысаўскім і Ігуменскім паветах Мінскай губерні. Сяляне тут самавольна збіралі валасныя сходы, на якіх назначалі і адпраўлялі хадакоў для агляду зямель у Самарскую і Арэнбургскую губерні. Для прадухілення перасяленчага руху ўлады прымалі розныя захады: ад угаворванняў да распраў з дапамогай паліцыі, казакаў і воінскіх каманд[2]. У канцы 1868 г. урад увогуле забараніў на нявызначаны тэрмін перасяленні з заходніх губерняў[3].

**Сялянскія хваляванні ў другой палове 70-х – пачатку 80-х гг.** Трэці этап сялянскага руху ахоплівае 1876 – 1882 гг. На працягу гэтага перыяду назіраўся прыкметны рост сялянскага руху. На яго прыпадаюць 204 выступленні, або ў сярэднім па 29 у год. З іх 132 складалі хваляванні на аснове пазямельных адносін і 70 – выступленні, накіраваныя супраць царскіх улад. У параўнанні з 1864 – 1875 гг. удзельная вага першых узрасла з 50,5 да 64,2 %. Прыкметна актывізаваліся такія формы хваляванняў, як барацьба супраць адмежавання зямлі на карысць памешчыкаў, захопы лугоў і пашы, самавольны выпас жывёлы і патравы. Адным з самых пашыраных відаў сялянскага руху заставаліся высечкі панскіх і казённых лясоў. Ажыўленне сялянскага руху было звязана з цяжкім эканамічным становішчам пераважнай большасці сялянства, якое пагоршылася ў выніку расійска-турэцкай вайны 1877–1878 гг. На плечы сялян лёг асноўны цяжар вайны. Вёска пазбавілася найбольш працаздольнай мужчынскай рабочай сілы, часткі сялянскіх коней, яшчэ больш збяднела[4]. Антыфеадальная барацьба сялянства, яго выступленні супраць адміністрацыйна-паліцэйскага ўціску ў Расійскай імперыі, у тым ліку ў Беларусі, з'явілася адным з галоўных фактараў, што прывялі да крызісу самадзяржаўя на рубяжы 70–80-х гг. XIX ст. Уздым сялян-

---

[1] Крестьянское движение 1827–1869 гг. Вып.2. С.92; Красный архив. М., 1940. Т.1 (98). С.215; *Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.61, 63–65.

[2] Крестьянское движение 1827–1869 гг. Вып. 2. С.147; Крестьянское движение в России в 1861–1869 гг.: Сб. документов / Под ред. Л.М.Иванова. М., 1964. С.797.

[3] *Верещагин П.Д.* Крестьянские переселения из Белоруссии (вторая половина XIX в.). С.35.

[4] *Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.47–48, 76–77, 86–87.

скага руху быў адной з найважнейшых праяў другой рэвалюцыйнай сітуацыі, якая ўзнікла ў Расіі ў 1879–1880 гг.

У барацьбе за атрыманне зямлі асабліва вялікую актыўнасць праяўляла шматлікая саслоўная група сялян – вольных людзей, што арандавалі панскую зямлю. На высяленне з маёнткаў пасля заканчэння тэрміну арэнды (1876) яны адказалі масавым супраціўленнем. У прыватнасці, такі характар набылі хваляванні вольных людзей у маёнтках князёў П. Вітгенштэйна і Радзівілаў у Мінскай губерні[1].

У гэты перыяд пры адмежаванні сялянскай зямлі ад панскай найбольш актыўна выступалі сяляне Гродзенскай і Віленскай губерняў. Спробы мясцовай адміністрацыі паскорыць межавыя работы натыкаліся на ўпартае супраціўленне з боку сялян. Каля паловы сутыкненняў пры размежаванні было падаўлена пры дапамозе воінскіх падраздзяленняў і казацкіх сотняў. Змагаючыся з сялянамі, памешчыкі выкарыстоўвалі ўсю моц адміністрацыйна-судовай сістэмы. Улады распраўляліся з сялянскімі хваляваннямі, што былі накіраваны як супраць памешчыкаў, так і супраць іх саміх. Найбольшая колькасць хваляванняў супраць улад (46 з 70) адбылася ў Мінскай і Магілёўскай губернях. У асноўным яны былі звязаны з адмовай сялян выконваць судовыя рашэнні, пастановы і распараджэнні адміністрацыйных і сялянскіх міравых устаноў[2].

Шэраг выступленняў быў накіраваны супраць валасной і сельскай адміністрацыі. На сельскіх і валасных сходах старасты і асабліва валасныя старшыны ў сваёй большасці выбіраліся з ліку так званых добранадзейных, паслухмяных сялян, якія з'яўляліся стаўленікамі міравых пасрэднікаў. Многія з іх скампраметавалі сябе ў вачах аднавяскоўцаў супрацоўніцтвам з памешчыкамі, рознымі злоўжываннямі. Сяляне самавольна здымалі з пасад такіх службовых асоб і замянялі іх сваімі кандыдатамі. Такія хваляванні адбываліся ў Любчанскай воласці Навагрудскага павета, Валасевіцкай і Бярэзінскай валасцях Барысаўскага павета, Грозаўскай воласці Слуцкага павета[3].

У канцы 70-х – пачатку 80-х гг. у Беларусі, як і ў іншых рэгіёнах краіны, пашыраліся чуткі аб усеагульным перадзеле зямлі і паніжэнні павіннасцей. Яны адлюстроўвалі імкненне сялян знішчыць панскае землеўладанне і іншыя перажыткі прыгонніцтва. У Беларусі з восені 1878 г. гэтыя чуткі шырока распаўсюджваліся ў Пружанскім, Слонімскім, Ваўкавыскім, Брэсцкім, Кобрынскім паветах Гродзенскай губерні. Імі былі ахоплены таксама некаторыя паветы Віцебскай, Віленскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў. Гэта выклікала вялікі непакой улад. Урад неаднаразова звяртаў увагу мясцовай адміністрацыі на неабходнасць рашучай барацьбы з такімі з'явамі[4].

**Барацьба сялян у 1883–1894 гг.** Чацвёрты этап сялянскіх хваляванняў у Беларусі ахоплівае 1883–1894 гг. і характарызуецца далейшым абвастрэннем класавай барацьбы на вёсцы, уздымам барацьбы сялян. У гэты перыяд адбылося 375 выступленняў, ці ў сярэднім 31 выступленне ў год. З іх 253 (67,5 %) было накіравана супраць панскага прыгнёту, 116 (30,9 %) – су-

---

[1] Крестьянское движение в России в 1870–1880 гг.: Сб. документов / Под ред. П.А. Зайончковского. М., 1968. С.240, 448–449; *Самбук С.М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века. С.187.

[2] *Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.96.

[3] Крестьянское движение в России в 1870–1880 гг. С.208, 444, 513, 517; Крестьянское движение в России в 1881–1889 гг.: Сб. документов. М., 1960. С.65–66.

[4] Крестьянское движение в России в 1870–1880 гг. С.207, 210, 328, 542; *Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.80–84.

праць царскай адміністрацыі і паліцыі. Сялянскі рух развіваўся ва ўмовах узмацнення напаўпрыгонніцкай і капіталістычнай эксплуатацыі, пад уплывам узросшага рабочага руху, ва ўмовах палітычнай рэакцыі, курс на якую быў узяты ўрадам пасля забойства нарадавольцамі імператара Аляксандра II. Царызм прымаў разнастайныя захады для падаўлення народных рухаў. Як і ў папярэдні час, барацьба беларускіх сялян мела яскрава выражаную антыпанскую накіраванасць. Па-ранейшаму пераважалі такія формы руху, як супрацiўленне пры размежаванні зямельных угоддзяў, самавольны выпас і патравы, высечкі лесу, захопы лугоў і пашы, ворнай зямлі[1].

Упартая барацьба працягвалася паміж сялянствам і памешчыкамі пры межавых работах. Сяляне імкнуліся недапусціць далейшага абрабавання іх памешчыкамі, пазбаўлення ўгоддзяў, якімі яны карысталіся да размежавання. Асноўная частка сутыкненняў (41 з 47) прыпадала на Цэнтральную і Заходнюю Беларусь, дзе неразмежаваных зямель было больш за ўсё[2].

Шырока былі распаўсюджаны патравы і самавольны выпас жывёлы на ўласніцкіх угоддзях. У данясенні міністру ўнутраных спраў у 1890 г. мінскі губернатар паведамляў, што 60 – 70 % усіх спраў, якія разглядаліся міравымі суддзямі, адносіліся да катэгорыі патраў[3]. Патравы і самавольны выпас жывёлы займалі значнае месца ў сялянскім руху і астатніх рэгіёнаў Беларусі. Звычайнай з'явай у жыцці беларускай вёскі заставаліся таксама высечкі панскіх і казённых лясоў. Толькі ў 1889 г. пад следствам у Віцебскай і Лепельскай міравых акругах знаходзілася 1136 чалавек, з якіх суд прызнаў вінаватымі 667. У тым жа годзе ў Полацкім павеце было зафіксавана 421 парушэнне панскай уласнасці, звязанае з раскраданнем лесу і лясных матэрыялаў. Па прыгаворах міравых суддзяў было асуджана 305 чалавек[4].

У параўнанні з папярэднімі гадамі пашырыўся такі дзейсны, наступальны від сялянскага руху, як барацьба за адрэзкі, захоп панскіх зямельных угоддзяў. Абсалютная большасць такіх хваляванняў (81 з 87) выяўлена ў цэнтры і на ўсходзе Беларусі, дзе ў многіх мясцовасцях сяляне былі асабліва дрэнна забяспечаны зямлёй. У цеснай сувязі з барацьбой за адрэзкі знаходзілася барацьба за сервітуты, якая ў Навагрудскім, Слуцкім, Слонімскім і іншых паветах набыла асабліва востры характар[5]. Разам з тым у адзначаны перыяд гэта наступальная форма сялянскага руху не атрымала масавага распаўсюджання. Пытанне аб ліквідацыі ўсёй панскай зямельнай уласнасці не ставілася.

Як і раней, значнае месца ў сялянскім руху займалі выступленні супраць улад, што адбываліся пры выкананні судовых рашэнняў, пастаноў і распараджэнняў адміністрацыйных і сялянскіх міравых устаноў. Асабліва вострымі былі хваляванні сялян пры вопісе і продажы маёмасці для папаўнення нядоімак, розных штрафаў і інш. Канфлікты з царскай адміністрацыяй мелі месца і пры ацэнцы патраў, у час вобыскаў з мэтай выяўлення высечанага лесу, пры правядзенні памешчыкамі сельскагаспадарчых работ на спрэчных зямельных участках. Нярэдка гэтыя выступленні

---

[1] *Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.103–104.

[2] Там жа. С.111–112.

[3] Минские губернские ведомости. 1890. 29 апр.

[4] Крестьянское движение в России в 1881–1889 гг. С.197–198, 274–275; Крестьянское движение в России в 1890–1900 гг.: Сб. документов. М., 1959. С.230; *Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.114–116.

[5] Крестьянское движение в России в 1881–1889 гг. С.107, 117, 277–278, 318–320, 736–737, 750–751; Крестьянское движение в России в 1890–1900 гг. С.255, 258; *Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.107–111.

перарасталі ў адкрытую ўзброеную барацьбу з паліцыяй і воінскімі камандамі. Летам 1887 г. падобнымі хваляваннямі быў ахоплены шэраг населеных пунктаў Нягневіцкай воласці Навагрудскага павета. Па колькасці выступленняў супраць улад (83 са 116) вызначаліся Мінская і Магілёўская губерні[1].

Своеасаблівай формай сялянскай барацьбы з'яўляўся масавы рух за перасяленне на свабодныя землі, пераважна Сібіры і Далёкага Усходу. У канцы 1883 – пачатку 1884 г. ім былі ахоплены 12 валасцей Ігуменскага, Бабруйскага і Слуцкага паветаў Мінскай губерні. Выступленні сялян, якія першапачаткова працякалі ў легальных формах, з цягам часу сталі набываць востры характар, выліваліся ў адкрытыя сутыкненні з уладамі. У канцы 80-х гг. масавы перасяленчы рух ахапіў Чэрыкаўскі, Клімавіцкі і Гомельскі паветы Магілёўскай губерні. Сялянскія хваляванні на глебе перасяленняў у гэтых паветах адбываліся і ў пачатку 90-х гг.[2]

**Сялянскі рух у 1895–1900 гг.** Апошні этап сялянскага руху парэформеннага перыяду – выступленні 1895–1900 гг. За гэтыя гады зафіксавана 181 хваляванне, або ў сярэднім 30 у год. З іх 125 (69,1 %) складалі хваляванні, накіраваныя супраць памешчыкаў, і 50 (27,6 %) – супраць улад[3]. З сярэдзіны 90-х гг. XIX ст. пачынаецца новы, пралетарскі этап вызваленчага руху народаў Расіі. У Беларусі ўслед за рабочымі актыўна выступалі і сяляне. Ва ўмацаванні сувязей паміж горадам і вёскай значную ролю адыгралі сяляне-адыходнікі, многія тысячы якіх вярталіся ў родныя мясціны.

Барацьба беларускіх сялян хоць і разгортвалася ў новых гістарычных умовах, у якасных адносінах не адрознівалася ад папярэдніх гадоў. У аснове руху ляжала барацьба за зямлю. Змест яе вызначалі захоп і самавольнае карыстанне ворнай зямлёй, аказанне супраціўлення панскаму размежаванню, захоп лугоў і пашы, самавольны выпас жывёлы і патравы, высечкі панскага лесу. Многія з гэтых выступленняў былі звязаны са змаганнем за зямельныя сервітуты.

Узраслі прамыя захопы панскай зямлі, галоўным чынам у Магілёўскай губерні, сяляне якой зведалі найбольшы зямельны голад. Па-ранейшаму самымі пашыранымі формамі аграрнага руху ў Беларусі з'яўляліся патравы і самавольны выпас жывёлы, высечкі панскага і казённага лесу. У сувязі з тым што працэс размежавання панскіх і сялянскіх земель быў яшчэ не завершаны, барацьба на гэтай падставе не сціхала і ў названы перыяд, хоць колькасць выступленняў у параўнанні з папярэднім перыядам скарацілася. Больш за ўсё такіх хваляванняў (15 з 17) зарэгістравана ў Магілёўскай і Мінскай губернях, дзе ўлады паскорылі правядзенне межавых работ[4].

Выступленні супраць улад і паліцыі працягвалі насіць востры, адкрыты характар і адзначаліся масавасцю. У адных выпадках да сутыкненняў з уладамі прыводзіла барацьба сялян з памешчыкамі на грунце пазямельных адносін. У іншых хваляванні былі выкліканы дзеяннямі саміх улад. Найбольш пашыранымі сярод іх былі хваляванні, звязаныя з адмовай сялян выконваць несправядлівыя, на іх думку, судовыя рашэнні і розныя пастановы. Масавыя выступленні сялян-чыншавікоў супраць высялення выяўлены ў

---

[1] *Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.122, 128.

[2] Крестьянское движение в России в 1881–1889 гг. С.704; Крестьянское движение в России в 1890–1900 гг. С.53–55; *Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.131–133.

[3] *Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.141–142.

[4] Там жа. С.141, 149–150.

Мінскай і Віцебскай губернях, у прыватнасці ў Рэчыцкім, Слуцкім, Віцебскім і Полацкім паветах[1].

Буйныя хваляванні сялян супраць улад адбываліся ў сувязі з барацьбой за перасяленне. У другой палове 90-х гг. на ўсходзе Беларусі назіралася новая хваля міграцый, якія прынялі яшчэ больш масавы характар. Яны ахапілі амаль усю тэрыторыю Віцебскай губерні. Сяляне, тайна распрадаўшы сваю маёмасць, накіроўваліся на бліжэйшыя чыгуначныя станцыі. Толькі вясною 1897 г. заявы аб перасяленні падалі звыш 50 тыс. віцебскіх сялян. Шырокі перасяленчы рух адбываўся і ў Магілёўскай губерні. З канца 1895 г. ён меў месца ў Быхаўскім і Рагачоўскім, а затым перакінуўся на Клімавіцкі, Чэрыкаўскі і іншыя паветы. У 1896 г. просьбы аб перасяленні былі атрыманы ад 27 тыс. сем'яў, г.зн. амаль ад 1/7 агульнай колькасці сялян губерні. Адбываліся сутычкі з паліцыяй і войскамі. Сялян вярталі на ранейшае месца жыхарства, секлі розгамі[2].

Па меры развіцця капіталізму, фарміравання сялянскай буржуазіі абвастраліся супярэчнасці ўнутры сялянства. Яны праяўляліся галоўным чынам у падпалах і захопах кулацкай маёмасці, процідзеянні кулацкаму засіллю ў органах сялянскага кіравання, перш за ўсё валасных. Аднак такіх выступленняў было нямнога. У парэформенным перыядзе ў Беларусі іх выяўлена 10[3]. Хаця супярэчнасці паміж сялянскай беднатой і замежным сялянствам узмацняліся, але барацьба паміж імі ў 60–90-я гг. XIX ст. не дасягнула яшчэ значнага ўзроўню. У гэты час хваляванні сялян былі накіраваны ў асноўным супраць памешчыкаў, царскай адміністрацыі, усіх перажыткаў прыгонніцтва, што аб'ектыўна адлюстроўвала змест буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, якая наспявала ў Расіі.

У парэформенны перыяд узрасла класавая барацьба на вёсцы. Паводле атрыманых даных, усяго ў Беларусі ў 1861–1900 гг. адбылося 1509 выступленняў сялян. Сялянскі рух меў ярка выражаны аграрны характар. Пераважная большасць хваляванняў – 1041, або 69 % іх агульнай колькасці, – была накіравана супраць панскага прыгнёту. Найбольш пашыранымі формамі сялянскай барацьбы з'яўляліся самавольны выпас жывёлы і патравы, высечкі лесу, супраціўленне пры межавых работах, захоп ворнай зямлі, сенажацей і пашы. На другім месцы знаходзіліся выступленні супраць улад – 447 (29,6 %), якія былі цесна звязаны з аграрнай барацьбой сялян. Найбольшых памераў сялянскія хваляванні дасягнулі ў 1861–1863 гг. у адказ на грабежніцкія ўмовы адмены прыгону, якія асуджалі шырокія масы сялянства на галечу і кабалу. У гэты час многія выступленні сялян вылучаліся масавасцю, спробамі ўнесці зачаткі арганізаванасці ў барацьбе за свае правы. Аднак у цэлым сялянскі рух характарызаваўся разрозненасцю ў дзеяннях сялян, лакальнасцю большай часткі выступленняў, іх стыхійнасцю, недастатковай арганізаванасцю. Колькасна пераважалі абарончыя, пасіўныя формы барацьбы. Адсутнічала сувязь з рабочым класам, сяляне не выстаўлялі ясных і канкрэтных палітычных патрабаванняў. Разам з тым выступленні сялян 60–90-х гг. XIX ст. стварылі ўмовы для пераходу да новага этапу руху – ма-

---

[1] Крестьянское движение в России в 1890–1900 гг. С.308–309, 315, 320–322, 400–403, 460–462, 580; *Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.153, 158.

[2] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі (1772–1903 гг.) Мн., 1940. Т. 2. С.812–813; Витебский листок. 1898. 21, 25, 28 марта; *Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.160–161.

[3] *Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. С.48, 104, 142.

савай барацьбы за ліквідацыю ўсёй панскай зямельнай уласнасці, што наступіў у час першай расійскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі.

Вострая класавая барацьба ў беларускай парэформеннай вёсцы, як і ў іншых рэгіёнах Расійскай імперыі, сведчыла, што адмена прыгону не зняла з павесткі дня аграрна-сялянскага пытання. Яно працягвала заставацца цэнтральным у той грамадска-палітычнай барацьбе, якая ішла тут у другой палове XIX ст. Як адзначалася, сялянства з'яўлялася самай шматлікай катэгорыяй насельніцтва капіталістычнай Расіі, у тым ліку Беларусі. Яго становішча і барацьба за зямлю, супраць памешчыкаў і ўсіх рэшткаў прыгонніцтва рабілі вялікі ўплыў на сацыяльна-эканамічнае і палітычнае развіццё краіны. Аграрнае пытанне набыло агульнанацыянальнае значэнне.

## 3. Рабочы рух

**Хваляванні і стачкі рабочых у 1864–1884 гг.** У 60–80-я гг. XIX ст. у Беларусі вялося інтэнсіўнае будаўніцтва чыгунак. На землякопныя работы прыцягваліся сотні тысяч сялян. Незвычайна цяжкія ўмовы працы і побыту, дрэннае харчаванне, розныя злоўжыванні і самавольства падрадчыкаў выклікалі пратэст, які найчасцей праяўляўся ў падачы калектыўных скаргаў уладам і ў групавых уцёках з месца працы. Такія выступленні ("хваляванні") вясною і летам 1864 г. адбываліся на будаўніцтве Дзвінска-Віцебскай чыгункі ў Дрысенскім, а праз год – у Віцебскім паветах. З хваляваннямі на будаўніцтве чыгункі ў Дрысенскім павеце, відаць, былі звязаны ўцёкі васьмі сельскагаспадарчых рабочых з маёнтка Зарэчча.

У 1872 г. хваляванні назіраліся на будаўніцтве Лібава-Роменскай чыгункі ў Мінскім павеце, у 1883 і 1884 гг. – Віленска-Ровенскай чыгункі на ўчастку Бенякові – Воранава Лідскага і ў мястэчку Моўчадзь Слонімскага паветаў. Два хваляванні ў 70-х гг. адзначаны на прамысловых прадпрыемствах Беларусі.

Усяго ў Беларусі ў 1864–1884 гг. адбылося дзевяць хваляванняў рабочых. Іх удзельнікамі з'яўляліся фактычна сяляне, якія часова трапілі ў становішча наёмных работнікаў. Гэтым тлумачыцца поўная адсутнасць у згаданых выступленнях праяў пралетарскай свядомасці і прымітыўнасць формаў пратэсту. Усе выступленні мелі абарончы характар і з'яўляліся рэакцыяй рабочых на празмерную эксплуатацыю і самавольства прадпрымальнікаў.

Якасныя зрухі ў рабочым руху ў Беларусі пачаліся ў другой палове 70-х гг. Яны праявіліся ў прымяненні рабочымі такой эфектыўнай формы барацьбы за паляпшэнне свайго становішча, як страйкі (стачкі). Эфектыўнасць масавых арганізаваных страйкаў да таго часу была добра апрабавана на вопыце барацьбы пралетарыяту заходніх краін.

Першую ў Беларусі стачку ў сакавіку 1876 г. арганізавалі 300 рабочых мінскіх майстэрняў Маскоўска-Брэсцкай чыгункі з патрабаваннем рэгулярнай выдачы заработнай платы. Яе падтрымалі чыгуначнікі ў Стоўбцах (Мінскі павет). У 1879 г. першы страйк арганізавалі рамесныя рабочыя Беларусі. Адбыўся ён у Гродне і ахапіў некалькі кравецкіх майстэрняў, рабочыя якіх выставілі патрабаванне скарачэння рабочага дня[1].

У 1881 г. адбыўся страйк у чыгуначных майстэрнях у Гомелі, выкліканы нявыдачай заработку, а ў 1882 г. – у сталярным цэху вагонных майстэрняў у

[1] *Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861 – 1904 гг. С.59–60.

Брэст-Літоўску, дзе рабочыя пратэставалі супраць паніжэння зарплаты. Як вынікае з гэтых фактаў, пачынальнікамі стачачнага руху ў Беларусі былі рабочыя чыгуначных майстэрняў. Паказальна і тое, што ўсе іх стачкі мелі ў гэты час абарончы характар.

**Пачатак распаўсюджвання марксізму.** У 70-х – пачатку 80-х гг. у практычнай дзейнасці прадстаўнікоў розных плыняў народніцтва выявілася неграунтоўнасць тэорыі сялянскага сацыялізму: сялянства як клас дробных уласнікаў не ўспрымала сацыялістычных ідэй. Не дапамагала і змена тактыкі. Ні мірная прапаганда "Зямлі і волі" і "Чорнага перадзелу", ні індывідуальны палітычны тэрор "Народнай волі", ахвярай якога 1 сакавіка 1881 г. стаў імператар Аляксандр II, не абудзілі сялянскай рэвалюцыі. У сувязі з гэтым народніцтва ў цэлым уступіла ў паласу глыбокага ідэйна-арганізацыйнага крызісу. У пачатку 1882 г. распаўся "Чорны перадзел". У той жа час былі арыштаваны амаль усе члены Выканаўчага камітэта "Народнай волі" і разгромлены яе цэнтральныя арганізацыі. Многія адышлі ад рэвалюцыйнай дзейнасці. Пануючай у народніцтве да канца 90-х гг. стала ліберальна-асветніцкая, рэфармісцкая плынь.

Моцны ўдар па народніцкай ідэалогіі нанеслі лідэры "Чорнага перадзелу" Г.Пляханаў, П.Аксельрод і В.Засуліч, якія ў 1883 г. абвясцілі аб сваім разрыве з народніцтвам і прызналі адзіна навуковай тэорыяй сацыялізму вучэнне К.Маркса і Ф.Энгельса. З мэтай распаўсюджвання марксізму ў Расіі яны заснавалі ў Швейцарыі першую расійскую марксісцкую арганізацыю – групу "Вызваленне працы" і арганізавалі выданне твораў Маркса і Энгельса ў перакладзе на рускую мову. Адначасова ў сваіх друкаваных працах яны разгарнулі вострую крытыку асноўных пастулатаў тэорыі сялянскага сацыялізму. Заснавальнікі групы "Вызваленне працы" даказвалі, што парэформенная Расія развіваецца па шляху капіталізму, і менавіта з ім звязвалі выспяванне перадумоў сацыялістычнай рэвалюцыі. Пры гэтым яны зыходзілі з галоўнай ідэі Маркса, што знішчэнне капіталізму і пабудова сацыялізму з'яўляецца "гістарычнай місіяй" пралетарыяту.

У той жа час прапаганду марксізму пачалі дзеячы польскай партыі "Пралетарыят", сярод якіх было нямала ўраджэнцаў Беларусі. Яны выдавалі творы Маркса і Энгельса ў перакладзе на польскую мову. Выданні расійскіх і польскіх марксістаў у 80-х – першай палове 90-х гг. распаўсюджваліся і вывучаліся ў рабочых гуртках Вільні, Мінска, Віцебска, Гродна, Смаргоні, Гомеля, падпольных зямляцкіх арганізацыях студэнтаў – ураджэнцаў беларуска-літоўскіх і ўкраінскіх губерняў – у ВНУ Пецярбурга і Масквы.

У Мінску прапаганду марксізму ў 1884–1885 гг. пачалі студэнт Дэрпцкага універсітэта Э.Абрамовіч і былы чорнаперадзелец І.Гурвіч. Паводле ўспамінаў апошняга, у заснаваных імі гуртках летам 1886 г. займалася каля 130 мінскіх рабочых[1]. Да ліку першых беларускіх марксістаў належалі В. Сяліцкі, С. Трусевіч, Я. Спонці. Праграма заняткаў з рабочымі, распрацаваная Э.Абрамовічам, выкарыстоўвалася не толькі ў Мінску, але і ў Вільні і іншых гарадах краю. Гурткі ставілі мэтай падрыхтоўку новых кадраў прапагандыстаў, якія з цягам часу маглі б паўплываць на свядомасць большасці рабочых. Прапаганда ў цэлым мела абстрактны, асветніцка-кніжны характар, амаль не звязвалася з рэальным становішчам рабочых[2]. Сацыял-дэмакратычныя гурткі Беларусі ў той час мелі сувязь з групай "Вызваленне пра-

---

[1] Былое. 1907. № 6. С.74.

[2] Там жа. С.73.

цы", партыяй "Пралетарыят", Саюзам польскіх рабочых, сацыял-дэмакратычнымі групамі ў Пецярбургу, Маскве, Кіеве.

**Выступленні рабочых у 1885–1894 гг.** Узнікненне першых сацыял-дэмакратычных гурткоў практычна ніяк не паўплывала на свядомасць рабочых. Іх барацьба за паляпшэнне свайго становішча ў гэты час заставалася па-за межамі ўздзеяння сацыял-дэмакратаў. Тым не менш у ёй заўважаюцца прыкметы росту класавай свядомасці і арганізаванасці рабочых.

Найбольш буйныя стачкі ў другой палове 80-х – пачатку 90-х гг. арганізавалі рабочыя чыгуначных майстэрняў. У сакавіку 1886 г. баставалі сталяры ў Гомельскіх майстэрнях, а ў ліпені таго ж года – усе рабочыя гэтага прадпрыемства (472 чалавекі), пратэстуючы супраць паніжэння заробкаў і пагаршэння ўмоў працы. Адміністрацыя чыгункі пад націскам магілёўскага губернатара пайшла на саступкі. У пачатку сакавіка 1894 г. гомельскія чыгуначнікі (696 чалавек) аб'явілі забастоўку з патрабаваннем вярнуць грошы, адлічаныя ў пенсійную касу на крайне нявыгадных для іх умовах. Аднак пад уплывам угавораў і пагроз начальства забастоўка на трэці дзень была спынена. Наступленне адміністрацыі на правы рабочых і змены правіл унутранага распарадку ў горшы для іх бок выклікалі ў студзені 1893 г. агульны страйк у майстэрнях Палескіх чыгунак у Пінску (500 чалавек). Праз тыдзень іх патрабаванні былі задаволены[1].

У Мінску ў другой палове 80-х гг. пачалася барацьба рамесных рабочых за ўвядзенне 12-гадзіннага рабочага дня (з 6 гадзін раніцы да 6 гадзін вечара) з двухгадзінным перапынкам. З гэтым патрабаваннем у 1886 г. баставалі рабочыя дзвюх шпалерных майстэрняў, сталяры, друкары (наборшчыкі) і краўчыхі, а ў маі 1887 г. – слесары шасці майстэрняў. Успаміны І. Гурвіча сведчаць, што мінскія сацыял-дэмакраты таго часу да адзначаных стачак дачынення не мелі[2].

У пачатку 90-х гг. у Мінску рамесныя рабочыя дамагаліся скарачэння рабочага дня шляхам падачы ўладам калектыўных прашэнняў. Аднак улады практычна не рэагавалі на іх. Гэта штурхала рабочых да нелегальнага аб'яднання на прафесійнай (цэхавай) аснове вакол стачачных кас з мэтай правядзення эканамічных страйкаў, забароненых расійскім заканадаўствам. У 1894 г. у Мінску ўтварыліся стачачныя касы пераплётчыкаў, слесараў, шчацціннікаў і краўцоў, якія аб'ядналі 220 рабочых і паспяхова вытрымалі некалькі страйкаў. У тым жа годзе першыя эканамічныя страйкі арганізавалі рамесныя рабочыя (маляры, слесары і краўцы) Гомеля[3].

У цэлым за 1885–1894 гг. у Беларусі адбыліся 22 стачкі і 4 хваляванні рабочых. У стачках удзельнічалі больш за 1800 чалавек, з іх прыблізна 5/6 складалі рабочыя чыгуначных майстэрняў. Вынікі барацьбы вядомы ў 12 выпадках. У 10 з іх рабочыя дамагліся поспеху. Параўнанне паказчыкаў за 1885–1894 гг. з папярэднім перыядам сведчыць аб прыкметным колькасным і якасным росце рабочага руху. Перш за ўсё гэта праявілася ў замацаванні стачак як асноўнай формы барацьбы і ва ўзнікненні сярод рамесных рабочых зародкаў прафесійных саюзаў (стачачных кас). У ідэйных адносінах важным было з'яўленне першых сацыялістычных гурткоў – народніцкіх і сацыял-дэмакратычных.

---

[1] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т.2. С.822–824; Рабочее движение в России в XIX в. Т.3. Ч.1. С.411–413; Т.3. Ч.2. С.284–285.

[2] *Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1862–1904 гг. С.87–88.

[3] Там жа. С.88–89.

**Пераход сацыял-дэмакратаў да масавай агітацыі.** На ўласным вопыце, а таксама пад уплывам практыкі Саюза польскіх рабочых асобныя сацыял-дэмакраты Беларусі і Літвы (В.Сяліцкі, Я.Спонці, С.Трусевіч) паступова пераконваліся ў тым, што шляхам кніжна-асветніцкай дзейнасці і прапаганды марксізму ў вузкіх, закансціраваных гуртках нельга дамагчыся пашырэння свайго ўздзеяння на масу рабочых і ўзначаліць рабочы рух.

Неабходнасць пераходу ад гуртковай прапаганды да масавай эканамічнай агітацыі тэарэтычна абгрунтоўвалася ў брашуры віленскага сацыял-дэмакрата А.Крэмера "Аб агітацыі", напісанай у 1894 г. і выдадзенай у 1897 г. пад рэдакцыяй Ю.Мартава Саюзам рускіх сацыял-дэмакратаў за мяжой. Да часу выдання яна шырока распаўсюджвалася ў спісах не толькі ў Беларусі і Літве, але і ў гарадах Расіі. На аснове вопыту віленскіх сацыял-дэмакратаў у брашуры рэзка крытыкаваліся недахопы ў дзейнасці гурткоў, найперш – адсутнасць сувязяў з масамі рабочых і магчымасці ўплываць на іх. Першачарговай задачай сацыял-дэмакратаў прызнавалася арганізацыя эканамічнай барацьбы рабочых, якая характарызавалася як лепшая школа выхавання свядомасці пралетарыяту. Палітычная агітацыя адкладвалася на больш далёкую перспектыву са спасылкай на наяўнасць у шырокіх масах рабочых царысцкіх ілюзій.

Пераход да новай тактыкі паводле "віленскай праграмы" (брашуры "Аб агітацыі") адбываўся шляхам вырашэння трыадзінай задачы: 1) рэарганізацыя цэхавых кас узаемадапамогі ў стачачныя касы; 2) усталяванне з імі непасрэднай сувязі сацыял-дэмакратычнага цэнтра ў форме рэгулярных "сходаў агітатараў"; 3) прыстасаванне прапагандысцкіх гурткоў для падрыхтоўкі агітатараў і кіраўнікоў масавага рабочага руху.

Масава-агітацыйная дзейнасць патрабавала ўліку нацыянальных, найперш моўных, асаблівасцей пралетарыяту Беларусі і Літвы. Гэта неўзабаве прывяло да арганізацыйнага адасаблення яўрэйскіх і хрысціянскіх сацыял-дэмакратаў, якія арыентаваліся на дзейнасць у сваім нацыянальным асяроддзі. Такім чынам, к сярэдзіне 90-х гг. у Вільні і Мінску ўзніклі асобныя яўрэйскія і польска-беларуска-літоўскія сацыял-дэмакратычныя арганізацыі. У 1895 г. на першамайскім сходзе актыву яўрэйскіх сацыял-дэмакратаў у Вільні Ю.Мартаў сфармуляваў ідэю аб неабходнасці стварэння "спецыяльна яўрэйскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі, якая з'явілася б кіраўніком і выхаваўцам яўрэйскага пралетарыяту ў барацьбе за эканамічнае, грамадзянскае і палітычнае вызваленне"[1]. Такая ж тэндэнцыя праяўлялася і ў дзейнасці літоўскіх сацыял-дэмакратаў у Вільні.

**Уздым рабочага руху. Утварэнне рабочых саюзаў і партый.** Разгортванне эканамічнай агітацыі сацыял-дэмакратаў суправаджалася хуткім уздымам стачачнай барацьбы рабочых, асабліва ў сферы рамеснай і дробнакапіталістычнай прамысловасці, у якой колькасна значна пераважалі яўрэі. Найбольшыя маштабы яна набыла ў Мінску. Пад уплывам агітацыі яўрэйскай сацыял-дэмакратычнай групы на чале з П.Берманам і Я.Гурвіч з сярэдзіны 1894 г. да сярэдзіны 1896 г. у горадзе ўтварыліся 23 нелегальныя прафесійныя саюзы рамесных рабочых і саюз прыказчыкаў, заснаваныя на стачачных касах. Яны аб'ядноўвалі амаль 1200 чалавек, што складала 86,5 % агульнай колькасці работнікаў адпаведных прафесій. За тыя ж два гады ў Мінску былі праведзены 54 страйкі з удзелам 480 рамесных рабочых. 50 страйкаў закончыліся поўнай ці частковай перамогай рабочых. Тройчы,

[1] Цыт. па: *Рафес М.* Очерки по истории Бунда. М., 1923. С.35–36.

але беспаспяхова, баставалі ў пачатку 1895 г. 355 рабочых мінскіх майстэрняў Маскоўска-Брэсцкай чыгункі[1].

У 1895–1897 гг. эканамічная агітацыя паводле "віленскай праграмы" пачалася ў Смаргоні, Ашмянах, Брэсце, Віцебску, Гомелі, Гродне, Пінску і мела вынікам утварэнне ў гэтых гарадах вакол стачачных кас значных рабочых арганізацый. Пад іх кіраўніцтвам разгортвалася барацьба рабочых за паляпшэнне свайго становішча. Усяго за адзначаныя гады ў Беларусі было праведзена 114 страйкаў, у якіх удзельнічалі каля 5,1 тыс. рабочых. У пераважнай большасці выступленні мелі наступальны характар і заканчваліся саступкамі прадпрымальнікаў. Пад уплывам сацыял-дэмакратаў рабочыя Мінска, Брэста, Гомеля, Смаргоні, Ашмян у 1895 – 1896 гг. пачалі адзначаць на канспіратыўных сходах 1 мая як Дзень міжнароднай пралетарскай салідарнасці[2].

Узнікненне буйных агульнагарадскіх арганізацый рабочых у шэрагу гарадоў беларуска-літоўскіх губерняў ставіла на парадак дня іх аб'яднанне ў рэгіянальныя рабочыя саюзы і нацыянальныя сацыял-дэмакратычныя партыі. Як ужо адзначалася, імкненне да аб'яднання рабочых па нацыянальнай прыкмеце праяўлялася пры пераходзе да масавай агітацыі ў асяроддзі яўрэйскіх і нацыянальна настроеных літоўскіх сацыял-дэмакратаў. Апошнія імкнуліся прывіць апалячаным рабочым-літоўцам разам з сацыял-дэмакратычнай ідэалогіяй нацыянальную свядомасць і вялі агітацыю на літоўскай мове. Такой дзейнасцю ў Вільні займалася група А.Дамашэвіча. Пад назвай "Літоўская сацыял-дэмакратыя" выступалі таксама марксісты Літвы–Беларусі, якія вялі агітацыйную дзейнасць ў асяроддзі рабочых-хрысціян (беларусаў, рускіх, палякаў), карыстаючыся рускай і польскай мовамі. Не цураліся яны і рабочых-яўрэяў. У якасці лідэра гэтай часткі сацыял-дэмакратаў Літвы–Беларусі ў сярэдзіне 90-х гг. вызначыўся С. Трусевіч (псеўданім – Казімір Злеўскі). Летам 1895г. ён пераехаў з Мінска ў Вільню, дзе неўзабаве стварыў групу з рабочых чыгуначнікаў і гарбароў. Пад яго кіраўніцтвам дзейнічалі таксама сацыял-дэмакратычныя групы ў Мінску і Смаргоні. Назву "Літва" С.Трусевіч і яго паплечнікі разумелі ў гістарычным значэнні і адносілі яе да Віленскай, Мінскай і Гродзенскай губерняў, не звязваючы з літоўскім этнасам.

У красавіку 1896 г. з удзелам С.Трусевіча адбыўся з'езд Літоўскай сацыял-дэмакратыі. З'езд абвясціў аб утварэнні Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі, прыняў яе праграму і вызначыў тактыку. У першым пункце праграмы фармулявалася патрабаванне стварэння самастойнай Літоўскай дэмакратычнай рэспублікі. У рэзалюцыях з'езда канстатавалася поўнае супадзенне палітычных інтарэсаў пралетарыяту Польшчы, Літвы і Русі (Беларусі і Украіны) і заяўлялася аб тым, што агульнымі сіламі ён зможа дамагчыся незалежнай ад Расіі федэрацыі Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны. Пытанні аб звяржэнні самадзяржаўя ў Расіі і ўзаемадзеянні з расійскім пралетарыятам не ставіліся[3]. Раней падобную пазіцыю заняла Польская сацыялістычная партыя (ППС).

С. Трусевіч рашуча выступіў супраць такіх установак ЛСДП, расцаніўшы іх як сепаратысцкія, але падтрымкі не знайшоў і пакінуў з'езд. У маі 1896 г. па яго ініцыятыве быў скліканы з'езд прадстаўнікоў Віленскай,

[1] *Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1862–1904 гг. С.96, 98–100.

[2] Там жа. С.101–109.

[3] *Бич М.О.* Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883–1903 гг. Мн., 1973. С.84–86.

Мінскай і Смаргонскай рабочых арганізацый, на якім быў утвораны Рабочы саюз Літвы (РСЛ). Яго праграма зыходзіла з тэзіса, што "барацьба з рускім дэспатызмам можа быць паспяховай толькі пры ўмове цеснага аб'яднання ўсіх сацыял-дэмакратычных груп Расіі". На гэтай падставе РСЛ прызнаў для сябе неабходным уступленне ў будучую Расійскую сацыял-дэмакратычную партыю на правах аўтаномнай арганізацыі. "Змагаючыся разам з рабочымі ўсёй Расіі, мы заваюем неабходную нам канстытуцыю, якая будзе адным з этапаў на шляху да сацыялістычнага ладу", – гаварылася ў праграме. Нацыянальнае пытанне ў ёй абміналася. Самай важнай і актуальнай сваёй задачай РСЛ прызнаваў "агітацыю сярод рабочых мас Літвы на аснове іх паўсядзённых эканамічных інтарэсаў". Разам з тым ставілася задача выкарыстання ў агітацыі любога выпадку, які паказваў адносіны ўрада да рабочага класа, а таксама ўкаранення ў свядомасці рабочых пастулата, што толькі замена капіталістычнага ладу сацыялістычным вызваліць іх ад эксплуатацыі[1].

У верасні 1897 г. адбыўся з'езд прадстаўнікоў яўрэйскіх сацыял-дэмакратычных арганізацый Вільні, Мінска, Віцебска, Беластока і Варшавы, які прыняў рашэнне аб утварэнні Усеагульнага яўрэйскага рабочага саюза ў Літве, Польшчы і Расіі – Бунд. Разам з тым з'езд выказаўся за ўступленне Бунда ў агульнарасійскую сацыял-дэмакратычную партыю пры ўмове захавання за ім аўтаноміі ў сферы абслугоўвання спецыяльных патрэб яўрэйскага пралетарыяту, зацвердзіў газету "Арбайтэр Штыме" ("Рабочы голас") цэнтральным друкаваным органам і выбраў ЦК Бунда ў складзе А.Крэмера, А.Мутніка і У.Касоўскага. Найважнейшай сваёй задачай Бунд лічыў разгортванне эканамічнай барацьбы яўрэйскіх рабочых, якую прызнаваў лепшай формай выхавання іх палітычнай свядомасці.

Утварэнне Бунда выклікала неадназначную рэакцыю ў мясцовых рабочых арганізацыях. У Мінску значная частка арганізаваных рамесных рабочых не пагадзілася з эканамічным ухілам і нацыянальным сепаратызмам Бунда, парвала з ім і склала ядро мясцовай арганізацыі Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі, якая стала прапагандаваць ідэі тэрарыстычнай барацьбы з самадзяржаўем. Супраць уступлення ў Бунд выказалася прыблізна 1/3 членаў Гродзенскай рабочай арганізацыі. Яны стварылі асобную арганізацыю на чале з Рабочым камітэтам, якая неўзабаве далучылася да ППС[2].

На хвалі ўздыму рабочага і сацыял-дэмакратычнага руху ў Расіі ў 1896 – 1897 гг. выспявала ідэя ўтварэння агульнарасійскай сацыял-дэмакратычнай партыі. Яна была рэалізавана ў пачатку сакавіка 1898 г. на з'ездзе ў Мінску прадстаўнікоў Пецярбургскага, Маскоўскага, Кіеўскага і Екацярынаслаўскага Саюзаў барацьбы за вызваленне рабочага класа, кіеўскай "Рабочай газеты" і Бунда. Дзевяць дэлегатаў з'езда прынялі рашэнне аб аб'яднанні прадстаўленых імі арганізацый у адзіную Расійскую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю (РСДРП). Пры вырашэнні мясцовых пытанняў кожная арганізацыя захоўвала аўтаномію. Дэлегаты прынялі шэраг статутных рашэнняў, выбралі ЦК РСДРП у складзе С.Радчанкі (Пецярбург), Б.Эйдэльмана (Кіеў) і А.Крэмера, зацвердзілі "Рабочую газету" цэнтральным друкаваным органам партыі. Сфармуляваць ідэйна-тактычную платформу партыі з'езд даручыў ЦК у форме маніфеста, выдадзенага ў красавіку

[1] *Бич М.О.* Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883 – 1903 гг. С.87–88.

[2] *Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг. С.110.

1898 г. у друкарні ЦК Бунда ў Бабруйску. У ім у агульнай форме акрэсліваліся задачы партыі ў барацьбе за палітычную свабоду і канчатковае вызваленне ўсіх працоўных ад эксплуатацыі, адзначалася вернасць РСДРП асноўным прынцыпам міжнароднай сацыял-дэмакратыі.

У выніку арыштаў у сакавіку і ліпені 1898 г. РСДРП і Бунд страцілі свае кіруючыя цэнтры. Бундаўцы ў 1899 г. змаглі правесці свой II з'езд і аднавілі цэнтральныя структуры. РСДРП ж, не маючы праграмы і цэнтральных органаў, уступіла ў паласу ідэйна-арганізацыйнага крызісу. У Беларусі ў канцы 90-х гг. дзейнічаў толькі адзін не бундаўскі камітэт РСДРП – Гомельскі, але і ён летам 1900 г. далучыўся да Бунда. У 1898 – 1900 гг. у шэрагу гарадоў і мястэчак Беларусі, Літвы і Усходняй Польшчы ўзніклі прафесійныя арганізацыі гарбароў і шчацініікаў. На пераломе XIX – XX стст. яны аб'ядналіся ў рэгіянальныя прафесійныя саюзы на чале з цэнтральнымі камітэтамі, якія таксама апынуліся пад уплывам Бунда. Найбуйнейшымі арганізацыямі Бунда ў Беларусі ў той час былі Віцебская, Мінская, Гродзенская і Гомельская.

У Мінску, Смаргоні і Вільні ў гэты час існавалі невялікія групы Рабочага саюза Літвы, моцна аслабленага арыштамі ў 1897 г. На з'ездзе прадстаўнікоў гэтага саюза і сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага (1900 г., Мінск) РСЛ і СДКП аб'ядналіся ў адну партыю – Сацыял-дэмакратыю Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ). З'ездам кіравалі С.Трусевіч і Ф.Дзяржынскі, якім удалося ўцячы з ссылкі.

Нягледзячы на паліцэйскія рэпрэсіі, у Беларусі ў 1898 – 1900 гг. працягваўся ўздым рабочага руху. Усяго за гэтыя гады ўлічана 178 эканамічных забастовак. Большасць іх была арганізавана рабочымі Віцебска (57), Гомеля (44), Мінска (17), Гродна (12). Агульная колькасць стачачнікаў дасягала 6,4 тыс. Найбольш актыўна змагаліся рабочыя гарбарна-абутковай, харчасмакавай, дрэваапрацоўчай, швейна-вязальнай і металаапрацоўчай вытворчасці. Так, 80 % забастовак адбылося ў сферы рамеснай і дробнакапіталістычнай прамысловасці, але большасць стачачнікаў (56 %) складалі рабочыя мануфактурных і фабрычных прадпрыемстваў. Захоўваўся пераважна наступальны характар рабочага руху[1].

У ходзе эканамічнай барацьбы рабочыя ўсё часцей сутыкаліся з рэпрэсіямі ўлад і самавольствам паліцыі, да якіх са скаргамі і даносамі звярталіся ўласнікі прадпрыемстваў. У адказ пачаліся антыўрадавыя выступленні рабочых у форме вулічных дэманстрацый і маніфестацый. 1 Мая 1900 г. віцебскія рабочыя адзначылі ўсеагульнай забастоўкай. У Мінску ў гэты дзень адбывалася вулічная дэманстрацыя, у Смаргоні ў антыўрадавую дэманстрацыю ператварылася пахаванне рабочага. У цэлым за 1889–1900 гг. у Беларусі былі праведзены тры палітычныя страйкі (усе ў Віцебску), дзевяць дэманстрацый (чатыры ў Віцебску, па дзве ў Гродне і Мінску, адна ў Смаргоні). Амаль усе вулічныя выступленні таго часу мелі напаўстыхійны характар. Яны падштурхнулі мясцовыя сацыял-дэмакратычныя камітэты да пашырэння палітычнай агітацыі. Школай палітычнага выхавання рабочых паступова станавіліся масоўкі (тайныя сходкі), якія праводзіліся з нагоды 1 Мая, дня забойства нарадавольцамі Аляксандра II (1 сакавіка), дня адмены прыгоннага права (19 лютага) і іншых падзей.

---

[1] *Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг. С.113–135.

## 4. Развіццё грамадскага руху ў 70–90-х гг.

**Легальныя грамадскія арганізацыі.** 70–90-я гг. XIX ст. па праву можна лічыць часам абуджэння грамадскай свядомасці насельніцтва Беларусі. У 70-х гг. падаецца шмат прашэнняў аб адкрыцці дваранскіх, гарадскіх грамадскіх і саслоўных сходаў[1]. Хаця падобныя грамадскія аб'яднанні займаліся ў асноўным зборам ахвяраванняў для пацярпелых ад стыхійных бедстваў ці войнаў, на будаўніцтва помнікаў, уладкаванне тэатраў і г.д., яны былі ў тую эпоху сур'ёзным фактарам у працэсе самаарганізацыі грамадскіх сіл, бо сталі месцам сустрэч тагачаснага «адукаванага грамадства». Ва ўмовах жорсткай цэнзуры, пры адсутнасці незалежнай прэсы і невялікай колькасці перыядычных выданняў наогул гэтыя аб'яднанні выконвалі функцыю распаўсюджвання новых, прагрэсіўных ідэй. Так, грамадскі сход Полацка праводзіў "літаратурныя вечары, дзе чыталіся творы сучасных знакамітасцей: Бокля, Макалея і іншых»[2]. У 90-х гг. з адносным аслабленнем дзяржаўнага кантролю над грамадскай дзейнасцю і развіццём іншых формаў грамадскай самадзейнасці, цікавасць да грамадскіх сходаў і клубаў падае. На працягу 90-х гг. былі пададзены толькі два прашэнні аб стварэнні грамадскіх сходаў: дваранамі Оршы (1890) і мінскім мешчанінам Ф. Касілоўскім (1892)[3].

У 70–90-х гг. адбываюцца змены і ў сферы дабрачыннасці: узрасла колькасць дабрачынных арганізацый ( у гэты перыяд было створана больш за сотню новых таварыстваў[4]), змяніўся характар іх дзейнасці (новыя таварыствы ўжо не з'яўляліся толькі агульнадабрачыннымі філіяламі Імператарскага чалавекалюбівага таварыства, а ствараліся адпаведна патрэбам мясцовага насельніцтва. У 90-х гг. толькі ў Мінску існавала сем дабрачынных таварыстваў[5]. З канца XIX ст. утвараюцца губернскія аб'яднанні філантрапічных устаноў: таварыства дапамогі настаўнікам і навучэнцам народных вучылішч Магілёўскай губерні (1900), таварыства ўзаемнай дапамогі настаўнікаў і вучаніц Віцебскай губерні (1897)[6].

У 80–90-х гг. расце колькасць праваслаўных брацтваў і пашыраецца сфера іх дзейнасці – да 1890 г. на тэрыторыі Беларусі было створана 15 праваслаўных брацтваў, якія ўжо займаліся не толькі "замацаваннем духа праваслаўя", але і арганізацыяй рамесных школ, стварэннем бібліятэк, арганізацыяй народных чытанняў, а таксама дабрачыннай дзейнасцю[7].

Дастаткова шырокай падтрымкай беларускай грамадскасці карысталіся таварыствы цвярозасці. Да канца 90-х гг. чайныя таварыствы цвярозасці існавалі амаль ва ўсіх валасных цэнтрах Беларусі. Літаратурныя чытанні, спектаклі і іншыя мерапрыемствы, якія арганізоўваліся ў гэтых чайных,

---

[1] НГАБ, ф.295, воп.1, спр. 2135, 2136, 2582, 2585 і інш.

[2] Вестник западной России. 1875. Т.2. Кн. 7. С. 50.

[3] НГАБ, ф. 295, воп.1, спр.4293

[4] Падлічана па: Благотворительность в России. СПб, 1907. Т. 2. Ч. 1. Минская губерния. С.1–94; Могилевская губерния. С.1–20; Витебская губерния. С. 1–21; Гродненская губерния. С.1–24; Виленская губерния. С. 1–23

[5] НГАБ, ф.295, воп.1, спр. 6008–6011; Памятные книжки Минской губернии на 1890–1900 гг.

[6] Памятная книжка Витебской губернии на 1898 г.; Памятная книжка Могилевской губернии на 1901г.; НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 6634, 6636, 6009.

[7] Благотворительность в России Т. 2. Ч. 1; Устав Могилевского церковно-православного богоявленского братства. Могилев, 1886; Устав Гродненского Софийского православного братства. Гродно, 1882.

мелі вялікае значэнне для народа і прыцягнення яго ўвагі да грамадскіх праблем[1].

У 70–90-х гг. узнікаюць грамадскія аб'яднанні, якія ставяць сваёй мэтай рэалізацыю ініцыятывы насельніцтва ў галіне сельскай гаспадаркі, медыцынскага абслугоўвання, культуры, спорту. З 70-х гг. XIX ст. да 1901 г. у Беларусі было створана 19 таварыстваў сельскай гаспадаркі, 5 медыцынскіх, 11 культурна-асветніцкіх, 8 спартыўных аб'яднанняў[2]. Амаль у кожным губернскім горадзе існавалі аддзяленні агульнарасійскіх арганізацый: Рускага тэатральнага таварыства, Расійскага таварыства абароны жанчын, Расійскага таварыства Чырвонага Крыжа, Расійскага таварыства апекі над жывёламі[3].

У 70–90-х гг. узнік новы тып грамадскіх арганізацый – крэдытныя, спажывецкія і вытворчыя кааператывы. Спачатку яны насілі «арыстакратычны» і саслоўны характар, грунтаваліся не на самадзейнасці членаў, а на дабрачынных ці на камерцыйных асновах і вельмі часта выклікалі цікавасць толькі як магчымасць «пагуляць у грамадскую працу»[4]. Але паступова адносіны да кааператыўных таварыстваў змяняліся. У іх пачалі бачыць сродак, які дапаможа змагацца з пралетарызацыяй вёскі, горада і дасць магчымасць вырашыць рабочае і сялянскае пытанні. Таму ашчадныя ці спажывецкія таварыствы ўзнікалі па ініцыятыве прадвадзіцеляў дваранства, старшын земскіх упраў ці спраўнікаў. Разам з тым пачынаюць узнікаць ўсесаслоўныя спажывецкія таварыствы ў гарадах, у якія ўваходзілі рабочыя, мяшчане, дваране, купцы, памешчыкі і інш.[5]

У канцы XIX ст. пачынаюць ствараццa касы і таварыствы ўзаемнай дапамогі рамеснікаў і рабочых у Мінску, Вільні, Смаргоні, Ашмянах, у калоніі Міхалава Беластоцкага павета Гродзенскай губерні[6]. Часта такія арганізацыі ўзнікалі па ініцыятыве гаспадароў і пад пратэкцыяй мясцовых улад, якія былі зацікаўлены ў тым, каб абараніць рабочых ад "шкодных уплываў"[7]. Але з павелічэннем колькасці членаў, з развіццём практыкі самакіравання рабочыя касы і таварыствы дапамогі пачыналі выходзіць з-пад кантролю дзяржавы. Апошняя ж ад спроб ажыццяўлення ліберальных мер па рабочым пытанні перайшла, з аднаго боку, да паўфеадальнага папячыцельства, а з другога – да паліцэйскіх рэпрэсій у дачыненні да рабочых арганізацый. Спроба ажыццявіць праграму «паліцэйскага сацыялізму», якую распрацаваў начальнік маскоўскага ахоўнага аддзялення С. Зубатаў, не змяніла сітуацыю. У рэшце рэшт аб'яднанні рабочых апынуліся пад уплывам рэвалюцыйных элементаў, сталі тым асяроддзем, адкуль рабочыя траплялі ў нелегальныя гурткі.

Такім чынам, да канца XIX ст. грамадскімі арганізацыямі былі ахоплены амаль усе класы тагачаснага грамадства. І хаця пераважная большасць гэтых

---

[1] *Григорьев А.* Русские общества трезвости. СПб., 1904.

[2] Падлік зроблены па: Памятные книжки Минской, Виленской, Гродненской, Могилевской, Витебской губерний на 1870–1900 годы; Список сельскохозяйственных обществ. СПб, 1904. С. 4–25.

[3] НГАБ, ф.2001, воп.1, спр. 1792; ф. 1416, воп.1, спр. 2114; ф. 295, воп.1, спр. 6811.

[4] *Хейсин М.* История кооперативов в России. Л., 1926. С. 45.

[5] НГАБ, ф.295, воп.1, спр. 2684, 3314, 4113, 4114; Сборник материалов об артелях. Вып. 3. М., 1875.С. 289.

[6] *Бич М.* Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883–1903 гг.; *Ен жа.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг.

[7] *Лаверычев В.* О некоторых либеральных тенденциях в политике царизма по рабочему вопросу в начале 70-х годов 19 века // Исторические записки. М., 1985. Т. 115. С.216.

арганізацый мела сваёй мэтай паляпшэнне матэрыяльнага становішча людзей, удзел прадстаўнікоў розных сацыяльных груп насельніцтва Беларусі ў іх дзейнасці спрыяў нараджэнню духу «грамадзянскай самастойнасці», які садзейнічаў усведамленню таго, што мэты асобных людзей могуць быць дасягнуты толькі на аснове вырашэння больш агульных сацыяльных, палітычных і эканамічных праблем.

**Ліберальны рух**. Менавіта грамадскія арганізацыі сталі ў 70–90-х гг. галоўным полем дзейнасці лібералаў. Так, сельскагаспадарчыя таварыствы аб'ядноўвалі тых памешчыкаў і служачых, якія імкнуліся спрыяць прагрэсіўным зменам у сельскай гаспадарцы. У Беларусі, дзе не было земстваў, згаданыя таварыствы часам выконвалі іх грамадскія функцыі. Найбольш актыўнымі ў гэтых адносінах у 70–90-х гг. былі Мінскае і Магілёўскае сельскагаспадарчыя таварыствы. Пашырэнню ліберальных ідэй садзейнічалі шматлікія культурна-асветніцкія, навуковыя і гуманітарныя арганізацыі. У якасці прыкладу можна прывесці дзейнасць мінскага Таварыства прыгожых мастацтваў, створанага ў канцы 90-х гг., членамі якога былі як лібералы (пісьменнік Я. Чырыкаў, палкоўнік С. Чапранаў, адвакат В. Чавусаў, А. Аляксандраў, Ф. Каменскі і інш.), так і сацыялісты (С. Кавалік, С. Скандракоў, А. Бонч-Асмалоўскі). Для чытання лекцый таварыства запрашала вядомых ліберальных дзеячаў: С. Вянгерава, крытыка і гісторыка літаратуры, які з 1897 г. быў членам камітэта Літаратурнага фонду; Ю. Айхенвальда, сакратара маскоўскага філасофскага таварыства; Тана (Багараза) і інш.[1] Вельмі папулярнымі сярод лібералаў была арганізацыя народных чытанняў[2] і наогул удзел у дзейнасці ўсіх апісаных у папярэднім раздзеле грамадскіх таварыстваў. З'яўляючыся па сутнасці сваёй ліберальнымі, гэтыя арганізацыі займаліся не тэарэтызаваннем, а вырашэннем надзённых праблем. Яны не ставілі перад сабой палітычных мэт, але ўступалі ва ўзаемасувязь з палітычнымі дзяржаўнымі структурамі.

Ліберальныя ідэі абмяркоўваліся ў так званых "хатніх" гуртках. Ва ўмовах жорсткага кантролю за дзейнасцю любых грамадскіх аб'яднанняў, у часы суровых паліцэйскіх рэпрэсій дзейнасць такіх гурткоў часта прымала тайны характар і трапляла ў разрад антыўрадавай і нават рэвалюцыйнай[3]. У Мінску ліберальна настроеныя чыноўнікі і інтэлігенцыя групаваліся вакол палкоўніка С. Чапранава, служачага Лібава-Роменскай чыгункі Кабяка, настаўніка матэматыкі і фізікі А. Дабрахотава. Апошні меў добра падабраную бібліятэку кніг па прыродазнаўстве і грамадскіх навуках, а яго ліберальныя прамовы карысталіся вялікай папулярнасцю сярод вучнёўскай моладзі[4]. Гурток ліберальна настроеных служачых і інтэлігенцыі склаўся ў пачатку 90-х гг. у Гомелі[5]. У Магілёве ліберальная грамадскасць гуртавалася вакол С. Язерскага. У гурток уваходзілі амаль усе мясцовыя інтэлігенты-ак-

---

[1] *З. Ж. [Жылуновіч З.]* Мінскае Таварыства прыгожых мастацтваў // Полымя. 1924. №3. С.160–166; *Зміонка А.* Сацыялістычны рух на Беларусі // Беларусь. Нарысы гісторыі, культуры і рэвалюцыйнага руху. Мн., 1924. С. 148–168; *Бонч-Асмалоўскі А.* Ліберальна-апазіцыйны рух на Беларусі // Беларусь. Нарысы гісторыі, культуры і рэвалюцыйнага руху. С.169–176.

[2] Камісіі народных чытанняў стваралiся ў гарадах, арганізоўваліся камітэтамі цвярозасці, сельскагаспадарчымі таварыствамі, таварыствамі дактароў ( НГАБ, ф. 255, 132, 2296).

[3] Гэта здарылася, напрыклад, з магілёўскім гуртком С. Язерскага (*Вiткоўскi Я.* Рэвалюцыйныя гурткі 70-х гадоў на Беларусі // Полымя. 1929. №9. С.110–180).

[4] *Багдановіч А.* Да гісторыі партыі « Народнай волі» ў Мінску і Беларусі// Маладосць. 1995. №11. С. 221.

[5] *Бухбиндер Н.* История еврейского рабочего движения в России. Л., 1925. С. 118.

тывісты – настаўнікі, чыноўнікі, загадчыцы публічнай бібліятэкі і бібліятэкі магілёўскага грамадскага клуба[1].

У такіх гуртках чыталі навінкі з белетрыстыкі, артыкулы ліберальных часопісаў[2], ахвотна знаёміліся і з нелегальнай літаратурай, гаварылі аб несправядлівасці жыцця, прыгнечаным стане рабочых, дэспатызме царызму. Ідэалагічнай асновай грамадскай актыўнасці ліберальна настроеных колаў былі пазітывісцкія канцэпцыі «арганічнай працы», «працы ля асноў» і так званага «ліберальнага індустрыялізму». Мэтай арганічнай працы лічылася ажыццяўленне ліберальнага грамадскага ідэалу праз дзейнасць прыватных асоб, якія кіраваліся прыватнымі інтарэсамі. Вера ва ўсемагутнасць прыватнай ініцыятывы і бязмежныя патэнцыяльныя магчымасці асацыяцый былі важнымі складанымі часткамі гэтай тэорыі. Сутнасцю «працы ля асноў» таксама было ператварэнне «пасіўнага люду» ў актыўных членаў грамадства шляхам прыцягнення народа да ўдзелу ў мясцовым самакіраванні, арганізацыі пачатковых школ, бібліятэк і ашчадных кас.

Прыхільнікі ліберальнага індустрыялізму лічылі, што эканамічная сфера больш важная, чым сфера палітыкі, таму трэба дамагацца пераўтварэння яе ў сферу прыватнай дзейнасці, незалежнай ад дзяржавы. Гэтыя канцэпцыі сталі папулярнымі ў Беларусі дзякуючы такім выданням, як « Вестник Европы» ( К. Арсеньеў і А. Пыпін), «Kraj» (Э. Пільц і У. Спасовіч)[3] і, вядома, «Минский листок» (1886–1902) – першая прыватная газета Беларусі, якая стала голасам ліберальнай грамадскасці. Публіцыст «Минского листка» Д. Бохан пісаў: «Толькі дружная культурная праца ўрада і грамадства здолее дапамагчы ...народу ў цяжкай барацьбе з яго эканамічнымі нягодамі...», сродак барацьбы з беднасцю і невуцтвам народа – «шырокая грамадская дзейнасць на ніве народнай адукацыі»[4]. Вось чаму, паводле меркавання лібералаў, неабходна было арганізоўваць у вёсцы сельскагаспадарчыя выстаўкі, нядзельныя чытанні і нядзельныя школы, а ў гарадах – адкрываць бібліятэкі, вытворчыя майстэрні і курсы, тэатры і народныя музеі[5].

Газета прапагандавала дзейнасць легальных грамадскіх арганізацый – дабрачынных, кас узаемнай дапамогі, сялянскіх банкаў і інш., заклікала засноўваць пазыка-ашчадныя касы і спажывецкія кааператывы для народа, аказваць самае шырокае садзейнічанне сельскагаспадарчым арцелям і арганізацыі дробнага сялянскага крэдыту[6]. Аўтары «Минского листка» выказвалі і ліберальныя патрабаванні аб пашырэнні грамадскага самакіравання, аб наданні грамадству права прымаць удзел у абмеркаванні дзейнасці ўрада і ставіць перад ім пытанні, якія адносіліся да розных бакоў эканамічнага і палітычнага жыцця[7]. Лібералы пісалі аб сваім незадавальненні складам гарадскіх дум і настойвалі на ўвядзенні адукацыйнага цэнзу

[1] РДГА, ф.102. 3 с-ва. спр.222. А. 18; *Віткоўскі Я.* Рэвалюцыйныя гурткі 70-х гадоў на Беларусі.

[2] «Новое слово», « Мир божий», « Научное обозрение», « Жизнь», «Вестник Европы», «Kraj» былі параўнальна шырока прадстаўлены ў многіх агульнадаступных бібліятэках у Мінску, Гродне, Магілёве, Віцебску, Ашмянах (ГА Літвы, ф. 371, воп. ПО 1889, спр. 4. Ч. 1. А. 81; *Солошенко В.И.* От народничества к марксизму. Мн., 1971. С. 87–89.).

[3] *Погодин А.* Главные течения польской политической мысли. СПб., 1898. С. 134.

[4] Минский листок .1900. 27 янв.

[5] *Самбук С.* Общественно-политическая мысль Белоруссии во второй половине 19 века. Мн., 1976. С. 93.

[6] Минский листок. 1893. 20 апр., 6 июня, 19 нояб.; 1892. 3 янв.; 1887. 6 янв.; 1894. 25 янв.; 1895. 14 февр., 7 апр.; 1898. 22 окт., 9 июля.

[7] Минский листок.1894. 22 нояб.; 1897. 27 нояб.; 1901. 4 нояб., 27 февр. і інш.

для гласных[1], бо лічылі, што толькі адукаваны клас можа стаць носьбітам прагрэсу. Разам з тым яны выступалі за адмену сялянскага самакіравання як аджыўшай саслоўнай установы, за тое, каб сяляне "зліліся з іншымі саслоўямі на глебе агульных адміністрацыйных, судовых і іншых устаноў і агульных грамадзянскіх законаў»[2].

Трэба адзначыць, што ліберальныя колы спачувалі агульнадэмакратычным задачам сацыялістаў, а таму часта супрацоўнічалі з імі. Так, у 1894–1897 гг., калі рэдактарам "Минского листка" быў К. Зіноў'еў, на старонках газеты з'яўляліся нават артыкулы сацыялістаў, якія займаліся нелегальнай працай, – А. Багдановіча, С. Грынявіцкага, І. Пляхана, шмат увагі надавалася асвятленню цяжкага становішча сялян і рамеснікаў, крытыкавалася дзейнасць гарадской думы і г.д. [3] Сакратар Мінскага сельскагаспадарчага таварыства Ф. Каменскі, загадчык склада таварыства М. Банкоўскі, інжынер Бехлі, аграномы Бялецкі, Зяленін, Матвееў, якія складалі ліберальнае ядро гэтай арганізацыі, не задавальняліся «малымі справамі», каб паступова палепшыць існуючае становішча. Яны не толькі абмяркоўвалі і крытыкавалі тагачасны стан грамадства, лічачы неабходным увядзенне дэмакратычных свабод, але і дапамагалі сацыялістам – захоўвалі нелегальную літаратуру, давалі памяшканні для сходаў удзельнікаў нарадавольніцкіх гурткоў. Інжынер Бехлі ўзначальваў механічную арцельную майстэрню, якую стварылі сацыялісты-нарадавольцы. Калі ў 1887 г. адбылася забастоўка кавалёў і слесараў, то арганізаваць арцель для звольненых рамеснікаў дапамаглі члены Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі. Ф. Каменскі і М.Банкоўскі дабіліся таго, каб таварыства забяспечыла арцель заказамі для свайго склада сельскагаспадарчых прылад[4].

Ліберальна настроеныя інтэлігенты і чыноўнікі спрабавалі працаваць з рабочымі. Так, у Гомелі яны стваралі гурткі пісьменнасці сярод рабочых. На занятках у гэтых гуртках чыталі кнігі па агульнай гісторыі, гісторыі культуры, разбіралі творы Г. Бокля, Ч.Дарвіна, вучылі рабочых грамаце, геаграфіі, арыфметыцы. Шмат рабілі яны і для росту грамадзянскай свядомасці рабочых. Так, пры ўдзеле членаў таго ж гомельскага ліберальнага гуртка рабочыя-муляры Гомеля ў 1894 г. падалі ў рамесную ўправу петыцыю, у якой патрабавалі заступіцца за іх і вымусіць гаспадара абмежаваць рабочы дзень 14 гадзінамі[5].

**Кансерватыўная плынь**. Кансерватыўныя колы Беларусі не лічылі грамадскую дзейнасць асноўным сродкам дасягнення сваіх мэт. Ім здавалася, што дастаткова сфармуляваць свае ўяўленні аб дзяржаўным парадку, стане саслоўяў, адносінах да ўласнасці і давесці іх да ведама ўрада, які сам паклапоціцца аб прыняцці неабходных мер. Да таго ж у Беларусі адсутнічалі дваранскія сходы – цэнтры аб'яднання кансерватыўна настроенага дваранства. Таму ў 70–90-х гг. XIX ст. кансерватыўная плынь грамадскага руху праяўлялася галоўным чынам у публіцыстыцы.

Асноўным жаданнем кансерватараў у гэты час становіцца, як адзначаў міністр унутраных спраў П. Валуеў, «энергічная падтрымка і адбудова два-

---

[1] У гэтым патрабаванні лібералаў супадалі з жаданнямі кансерватараў.

[2] Минский листок. 1888. 10 июня; 1889. 18 июня.

[3] Очерки по истории философской и социологической мысли Белоруссии. Мн., 1973. С.417; *Самбук С.* Общественно-политическая мысль Белоруссии во второй половине 19 века. С.83

[4] Там жа. С. 236, 218.

[5] *Бухбиндер Н.* История еврейского рабочего движения в России. С. 118, 121.

ранства і землеўладання, бо без гэтых элементаў, кансерватыўных і здаровых, не можа існаваць правільна арганізаванае грамадства»[1]. Важным для іх было і захаванне саслоўна-карпаратыўных формаў грамадскага жыцця, без якіх наступае парушэнне грамадскага парадку, а свавольства бюракратыі нічым не абмяжоўваецца[2].

Ідэя саслоўнага дваранскага прадстаўніцтва набывала ў Беларусі своеасаблівыя адценні. «Землеўладальнік пазбаўлены асноўнага права дваранства: выбіраць прадстаўнікоў і абаронцаў сваіх саслоўных інтарэсаў, – пісаў у 1875 г. у «Нататках аб Паўночна-Заходнім краі» былы старшыня барысаўскай і навагрудскай паверачных камісій, а пазней член валуеўскай Асобай камісіі па справах Паўночна-Заходняга краю. Прызначэнне прадвадзіцеляў дваранства перадае ўсе саслоўныя інтарэсы дваранства ў залежнасць ад мясцовай адміністрацыі, якая з часу апошняга мяцяжу атрымала значную перавагу ў Заходнім краі і ставіцца крайне не па-сяброўску наогул да ўсіх саслоўных і маёмасных інтарэсаў дваранства.... цяжка знайсці падтрымку і неабходную абарону ў бюракратычна згуртаваным адміністрацыйным гуртку»[3]. Гэта спалучалася з жаданнем захаваць дваранскую апеку над сялянамі. Кансерватары патрабавалі захавання абшчыны на ўсходзе Беларусі, патрыярхальных адносін у сялянскай сям'і, забароны сямейных падзелаў, кантролю ці папячыцельства памешчыкаў над сельскімі грамадамі і пазыкова-ашчаднымі касамі, выступалі супраць перасялення сялян або патрабавалі паставіць яго пад жорсткі кантроль адміністрацыі. Так, аўтары шматлікіх карэспандэнцый у губернскія газеты сцвярджалі, што сяляне не здольны кіраваць сваімі справамі самастойна, прапаноўвалі ўвесці ў склад валасных судоў памешчыкаў, фабрыкантаў, духавенства[4].

Разам з тым кансерватары з'яўляліся прыхільнікамі шырокага мясцовага самакіравання, бо былі ўпэўнены, што большасць у іх занялі б «охранительные» элементы[5]. Імкненне аслабіць бюракратыю і выкарыстаць канстытуцыю як сродак легітымацыі традыцыйных носьбітаў улады было характэрна для спроб кансерватараў распрацаваць асновы рэформы дзяржаўнага ладу. У 1882 г. з прапановай такіх пераўтварэнняў ананімна выступіў «польскі дваранін і рускі падданы», жыхар «Паўночна-Заходняга краю»[6]. Аўтар праекта прапанаваў «больш ці менш шырокае грамадскае самакіраванне, арганізаванае такім чынам, каб пераважны ўплыў у ім належаў маёмасным і інтэлігентным класам»[7]. У якасці першапачатковых мерапрыемстваў прапаноўваліся выданне імператарскага маніфеста аб наступленні новай эры, адміністрацыйная дэцэнтралізацыя. Згодна праекту, канстытуцыя, дараваная імператарам, павінна была б зацвердзіць наступную дзяржаўную структуру. Нацыянальнае прадстаўніцтва складаецца з Баярскай думы і Земскага сабора. У Баярскую думу ўваходзяць прадстаўнікі выбра-

[1] *Чернуха В.* Внутренняя политика царизма в 50–80-е годы. М., 1978. С.70.

[2] Виленский вестник. 1881. 21февр.; 1891. 8 янв.

[3] Северо-Западный край. Заметки двух неустановленных лиц. 1875 год // Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Расіі ў Санкт-Пецярбургу, ф. 629, спр. 366, с. 68–69.

[4] Виленский вестник. 1882. 22 янв.; 1883. 5 марта; 1885.28 февр., 1марта; Минские губернские ведомости. 1880. 22 окт.; *Самбук С.* Общественно-политическая мысль Белоруссии во второй половине 19 века. С. 45–46.

[5] Северо-Западный край. Заметки. С. 70.

[6] Русская империя. Польский взгляд на русские государственные вопросы. Берлин, 1882 // Вольное слово. 1883. № 55, 56.

[7] Там жа. Такое ж патрабаванне высоўвала і рэдакцыя «Виленского вестника» (Виленский вестник. 1882 2 июля; 1890. 23, 24 авг.).

ных імператарам «высакародных родаў», якія з'яўляюцца спадчыннымі членамі думы, прадстаўнікі земства, рэктары універсітэтаў і галовы важнейшых гарадоў Расіі; у Земскі сабор уваходзяць дэпутаты ад кожнага павета і гарадоў у залежнасці ад колькасці насельніцтва[1].

Кансерватыўна настроеныя памешчыкі нават у канцы XIX ст. імкнуліся забяспечыць максімальнае захаванне сваіх гаспадарак, прадухіліць стварэнне абеззямеленага пралетарыяту. У гэтых імкненнях яны гатовы былі абапірацца на ліберальныя грамадскія сілы. Разам з лібераламі яны прапанавалі прызнаць сялянскі надзел недатыкальнай і неадчужальнай маёмасцю сялянскіх грамад і даць членам грамадства толькі права спадчыннага ўладання зямлёй[2].

Лібералаў і кансерватараў аб'ядноўвала і так званае культуртрэгерства. Як і лібералы, кансерватары лічылі, што трэба перамагчы недавер сялян да перадавых сродкаў вядзення гаспадаркі і пашыраць сярод іх лепшы сельскагаспадарчы вопыт. Але, на іх думку, гэта было місіяй сярэдніх і дробных памешчыкаў, святароў і сельскіх настаўнікаў[3]. Клопат аб паляпшэнні эканамічнага становішча дваран вымушаў ідэолагаў кансерватызму ўскосна дамагацца пашырэння правоў «нярускіх» нацыянальнасцей. Так, у «Нататках аб Паўночна-Заходнім краі» гаварылася, што землеўладальнікі краю «пазбаўлены асноўнага права ўласнасці – права карыстання», бо яны не маюць права заключаць здзелкі з асобамі польскага і яўрэйскага паходжання, даваць у арэнду і прадаваць зямельныя ўчасткі»[4].

Характэрнай рысай кансерватыўнай ідэалогіі па-ранейшаму заставалася рэлігійнасць, перш за ўсё праваслаўная. « Нельга памысліць таго грамадскага дзеяча ў Заходнім краі, на якой бы вышыні ён ні стаяў, які не спасцігне ва ўсю глыбіню праваслаў'я як найбольш чыстага хрысціянскага веравызнання», – пісаў аўтар ужо цытаваных «Нататак...»[5]. Разам з тым занепакоеныя пашырэннем атэізму ў адукаваным грамадстве кансерватыўныя колы ўстрымліваліся ад рэзкіх нападак на каталіцкую рэлігію. Так, у 1884 г. «Виленский вестник» пісаў, што галоўнае, каб народ верыў у Бога, а веруючы ў яго «каждый по своему обряду» быў бы верны «тут, на зямлі перш за ўсё... свайму вялікаму і прыроджанаму гасудару імператару»[6].

**Сацыялістычны рух**. У 70-х г. XIX ст. расла цікавасць да сацыялістычных ідэй[7], ствараліся сацыялістычныя гурткі. Гэта было звязана з ростам грамадзянскай актыўнасці, пашырэннем рэвалюцыйнага руху ў Маскве і Пецярбургу і з аслабленнем рэпрэсіўнай палітыкі царызму ў Беларусі. Найбольш зразумелым і магчымым сродкам дзейнасці для тых, хто імкнуўся

---

[1] Русская империя. Польский взгляд на русские государственные вопросы. Берлин, 1882 // Вольное слово. 1883. № 55,56.

[2] Минские губернские ведомости. 1889. 22 окт.; 1890. 16 дек.

[3] Минские губернские ведомости.1881. 15 дек.; Виленский вестник. 1884. 24 июля.

[4] Северо-Западный край. Заметки двух неустановленных лиц. С. 65.

[5] Там жа. С. 25.

[6] Цыт па: *Самбук С.* Общественно-политическая мысль Белоруссии во второй половине 19 века. С. 74.

[7] Радыкальна настроеная частка грамадства Беларусі звярнула ўвагу на «сацыяльнае пытанне» яшчэ ў 30–40-я гг. XIX ст. Разуменне таго, што законы, якія вызначаюць характар улады і форму праўлення, не так уплываюць на дабрабыт нацыі, як законы, якія ўстанаўліваюць уласнасць і спосабы карыстання ёю; знаёмства з творамі Ф. Ламенэ, А. дэ Сен-Сімона, а крыху пазней – Прудона, Луі-Блана і інш., абмеркаванне рэвалюцыйных падзей 1848 г. у Еўропе спрыялі таму, што радыкальны эгалітарызм удзельнікаў нелегальных гурткоў першай паловы XIX ст. пачынаў спалучацца з сацыялістычным грамадскім ідэалам.

сваёй працай дапамагчы вырашэнню «сацыяльнага пытання», былі здабыванне нелегальных сацыялістычных выданняў, арганізацыя бібліятэк, сумеснае чытанне і абмеркаванне літаратуры і інш. Менавіта з такімі гурткамі праз А. Зундзялевіча, Я. Фінкельштэйна і М. Клячко наладзіла сувязі пецярбургская група чайкоўцаў[1]. Да 1875 г. гурткі самаадукацыі, якія працавалі па праграме чайкоўцаў, існавалі ў Магілёве, Мінску, Горках, Пінску, Гродне, Слуцку, Віцебску[2]. У гэтых гуртках разам з творамі Г. Бокля, Ч. Дарвіна, Э. Рэнана вывучалі працы Ф. Ласаля, У. Фляроўскага, М. Чарнышэўскага, П. Лаўрова, К. Маркса і нелегальную агітацыйную літаратуру. У гэтых гуртках лічылі ідэалам палітычную свабоду, раўнапраўе нацыянальнасцей, арганізацыю дзяржавы і грамадства на сацыялістычных асновах, а непасрэднымі мэтамі – «вызваленне народа ад цемры, невуцтва і беднасці». У адпаведнасці з гэтымі мэтамі ўдзельнікі гурткоў распачыналі працу ў «народзе» (М. Шварц, М. Велер, С. Гаховіч[3]).

Больш выразна ідэйнае аблічча гурткоў вызначылася ў другой палове 70-х гг. Пад уздзеяннем літаратуры другой «Зямлі і волі» яны прымаюць анархічны кірунак[4]. У адпаведнасці з праграмай, прапанаванай землявольцамі, дзейнічалі члены віленскага сацыялістычнага гуртка І. Вітарта і А. Жангаловіча,[5] горы-горацкага гуртка М. Выржыкоўскага[6], мінскага гуртка Я. Хургіна ( 1875–1877), магілёўскіх вучнёўскіх гурткоў (1877–1879)[7].

Разам з тым у рэвалюцыйных гуртках 70-х гг. у Беларусі агульнасацыялістычныя мэты набывалі нацыянальную афарбоўку. Так, члены віленскага гуртка імкнуліся да падтрымання польскай мовы і «захавання польскай нацыянальнасці».[8] Удзельнікі яўрэйскіх сацыялістычных гурткоў у Вільні, Дзвінску, Мінску і Гродне ў сярэдзіне 70-х гг. выпрацавалі «Статут аб арганізацыі сацыяльна-рэвалюцыйнага саюзу між яўрэямі», асноўны сэнс якога – патрэба весці прапаганду на яўрэйскай мове і арганізацыя «між яўрэямі Заходняга краю шэрагу сацыяльна-рэвалюцыйных секцый"[9].

---

[1] Гурток чайкоўцаў у Пецярбургу (1871–1875), які стаяў на пазіцыях анархічнага сацыялізму, разам з вялікім таварыствам прапаганды (Масква) адыграў асноватворную ролю ў развіцці рэвалюцыйнага руху, бо арганізацыйна і ідэйна падрыхтавалі з'яўленне другой «Зямлі і волі» ( 1876–1879).

[2] РДГА, ф. 112, воп. 1, спр. 321, арк. 1, 3, 17–43; НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 3021, арк. 10–11.

[3] *Багдановіч А.* Да гісторыі партыі «Народнай волі» ў Мінску і Беларусі; *Зімiонка А.* Сацыялістычны рух на Беларусі; *Самбук С.* Революционные народники Белоруссии. Мн., 1972. С.36–43.

[4]Другой «Зямлёй і воляй" (у адрозненне ад "Зямлі і волі" 1861 г.) называюць арганізацыю, якая існавала ў 1876–1879 гг. Яе мэтай была падрыхтоўка масавай народнай рэвалюцыі з захопам улады і маёмасці самім народам. Большая частка чл-наў гэтай арганізацыі жыла «ў народзе», а гарадская група была абавязана забяспечваць грашыма, літаратурай і ўсім неабходным тых, хто працаваў у вёсцы, і весці прапаганду сярод інтэлігенцыі і рабочых. Канчатковым палітычным ідэалам былі анархізм і калектывізм: «пераход усёй зямлі ў рукі сельскага рабочага саслоў'я, самакіраванне абшчыны, свабода веравызнання, падзел імперыі на часткі ў адпаведнасці з мясцовым жаданнем і г. д.». Пры гэтым лічылася, што «карэнныя рысы характару ... народа настолькі сацыялістычныя, што, калі б гэтыя жаданні і імкненні былі ажыццёўлены, то гэта лягло б моцным фундаментам далейшай сацыялістычнай справы ў Расіі» (Революционное народничество 70-х годов XIX века. М., 1965. Т. 2. С. 27, 30–31).

[5]РДГА, ф.109. 3 эксп., спр. 151, арк . 37–39, 15.

[6] Там жа, спр. 531, арк. 6, 7, 19.

[7] *Залкинд Л.* Воспоминания народовольца // Каторга и ссылка. 1926. №3. С. 90; *Самбук С.* Революционные народники Белоруссии. С. 55–82.

[8] РДГА, ф. 109, спр. 151, арк. 15, 37–39.

[9] *Бухбиндэр Н.* История еврейского рабочего движения в России. С. 29.

Неўзабаве вопыт практычнай працы прывёў гурткоўцаў да разумення немагчымасці неадкладнага сацыялістычнага перавароту, што вымусіла рэвалюцыянераў шукаць новых шляхоў да ажыццяўлення сваёй мэты. У 1879 г. адбыўся раскол «Зямлі і волі». Прыхільнікі анархічнай сацыялістычнай прапаганды сярод сялян і рабочых аб'ядналіся ў групу «Чорны перадзел»[1]. Група «Народная воля» (іх апаненты) паставіла сваёй мэтай ажыццявіць палітычны пераварот, захапіць уладу і перадаць яе народу. Гэта меркавалася выканаць шляхам сістэматычнага тэрору, падтрыманага дружным рухам усіх слаёў грамадства[2]. Больш шырокая і гнуткая праграма «Народнай волі» зрабіла яе папулярнай сярод рэвалюцыянераў 80- х гг. у Беларусі[3]. У канцы 1881– пачатку 1882 г. у Беларусі і Літве была створана цэнтралізаваная арганізацыя «Народнай волі», у 1884 г. у Вільні выдадзена гектаграфаваная «Праграма рабочых, членаў партыі «Народная воля» ў Паўночна-Заходнім краі». Пры яе стварэнні аўтары апіраліся на праграму польскай сацыялістычнай партыі «Пралетарыят», сувязь з якой мелі рэвалюцыйныя гурткі ў Мінску, Віцебску, Пінску, Гродне, Брэсце[4]. Значная большасць сацыялістычных гурткоў у беларускіх гарадах вяла прапаганду ў адпаведнасці з нарадавольніцкай праграмай[5]. На пазіцыях «Народнай волі» стаяла і група «Гоман» ( 1881–1884), заснаваная студэнтамі-беларусамі ў Пецярбургу[6].

У другой палове 80-х гг. сярод сацыялістаў Беларусі пачалі з'яўляцца групы «з ухілам, які пазней, па прыкладу нямецкай рабочай партыі, быў названы сацыял-дэмакратычным»[7]. Прычынамі гэтага, па-першае, было тое, што рабочы рух засведчыў наяўнасць сваіх уласных інтарэсаў і патрабаванняў; па-другое, вопыт паказаў, што прамая сацыяльная і рэвалюцыйная прапаганда сярод сялян асуджана на правал. Нават для нарадавольцаў галоўнай задачай стала прапаганда і агітацыя сярод рабочых[8]. Фарміраванню сацыял-дэмакратычнага руху спрыяла і дзейнасць расійскай групы «Вызваленне працы», якая пачала выданне і распаўсюджванне літаратуры па тэорыі і тактыцы тагачаснай сацыял-дэмакратыі. У 1887–1888 гг. пасля працяглых дыскусій пад уздзеяннем брашуры Г. Пляханава «Нашы рознагалоссі» ў сацыялістычным руху вылучыліся два напрамкі: сацыяльна-рэвалюцыйны ( былыя нарадавольцы А. Багдановіч, Я. Хургін, А. Бонч-Асмалоўскі, Я. Гальперын) і сацыял-дэмакратычны (І. Гурвіч, В. Сяліцкі, С. Трусевіч). Аднак гэта размежаванне не прывяло да выпрацоўкі новых праграм ці ўтварэння новых партый. Нягледзячы на рознагалоссі, сацыялісты ў той час працавалі

---

[1] Черный передел. 1881. № 1. С. 141.

[2] Революционное народничество 70-х годов XIX в.: В 2 т.: Сб. док. и материалов / Редкол. С.Н. Валк, С.С. Валк и др. М.; Л., 1965. Т.2. С. 173.

[3] Партыя « Чорнага перадзелу» хутка скончыла сваё існаванне і нічым, акрамя выпуску некалькіх нумароў газет «Чорны перадзел» і «Зерне», пракламацый, сябе не праявіла (друкарня «Чорнага перадзелу» была ўладкавана ў Мінску). Частка «чорнаперадзельцаў», у тым ліку і Г. Пляханаў, эмігрыравала за мяжу і перайшла на сацыял-дэмакратычныя пазіцыі.

[4] *Самбук С.* Революционные народники Белоруссии. С. 236–240; Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. С. 365.

[5] *Багдановіч А.* Да гісторыі партыі «Народная воля» ў Мінску і Беларусі // Маладосць 1995. № 11. С.215–239; №12. С. 208–229; *Самбук С.* Революционное народничество Белоруссии во второй половине 19 в.; *Солошенко В.* Из истории распространения марксизма в Белоруссии. Мн., 1963.

[6] Публицистика белорусских народников. Мн., 1963. С. 62, 67, 81.

[7] *Багдановіч А.* Да гісторыі партыі « Народнай волі» ў Мінску і Беларусі //Маладосць. 1995. № 12. С.224.

[8] Там жа.

разам, праводзячы час ад часу перамовы па істотных пытаннях[1], а ў рабочых гуртках вялі прапаганду па аднолькавых праграмах[2].

Прынцыповыя рознагалоссі пачалі адбівацца на практычнай рабоце з сярэдзіны 90-х гг., калі сацыял-дэмакратычныя групы ў Беларусі сталі схіляцца ў бок арганізацыі прафесійнай эканамічнай барацьбы рабочых з капіталістамі. У пачатку 90-х гг. віленскія сацыял-дэмакраты Я. Спонці, А. Крэмер і іншыя прыйшлі да высновы аб неабходнасці пераходу ад вузкай групавой прапаганды да шырокай агітацыі сярод рабочых на глебе іх паўсядзённых інтарэсаў, звязаных з паляпшэннем эканамічнага становішча[3].

Гэта выклікала крытыку з боку сацыялістаў-нарадавольцаў[4] і значнай часткі рабочых. Рабочую апазіцыю сацыял-дэмакратаў узначаліў А. Гардон, рэзчык па друку, аўтар брашуры «Лісты да інтэлігентаў» (1894). Так, калі ў Мінск у 1899 г. прыехаў Л. Залкінд, які як сацыял-дэмакрат лічыў, што «ў рабочым трэба толькі абуджаць класавую свядомасць, а ведаў яму ніякіх не патрэбна», рабочыя запатрабавалі адхіліць сацыял-дэмакратычны камітэт, а рабочым рухам пачаў кіраваць Рамесны савет, які складаўся толькі з рабочых[5].

У выніку ў другой палове 90-х гг. павялічылася колькасць гурткоў сацыяльна-рэвалюцыйнай арыентацыі, якія супрацьпастаўлялі паступовасці эканамістаў сваё імкненне пашырыць рамкі агітацыі за межы вузкапрафесійнага руху, надаць ёй палітычны характар. Так, у Мінску ў канцы 90-х гг. былі створаны два сацыяльна-рэвалюцыйныя аб'яднанні рабочых, якія ўзначальвалі Я. Гальперын і Л. Радзівонава. Такія ж групы з'явіліся ў Гродне і Вільні[6]. Аднак большасць гурткоў усё ж мела сацыял-дэмакратычны кірунак ( Гомель, Віцебск, Гродна, Брэст, Ашмяны, Пінск). Разам з тым сярод значнай часткі сацыял-дэмакратаў заходніх губерняў зарадзіліся сепаратысцкія тэндэнцыі, якія выявіліся ў імкненні да стварэння рабочых арганізацый па нацыянальнай прыкмеце. У 1896 г. была створана Літоўская сацыял-дэмакратычная партыя, у верасні 1897 г. – Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі ( Бунд). Але ж рух за аб'яднанне сацыял-дэмакратычных сіл часткова пераадолеў гэтыя тэндэнцыі. У 1896 г. быў створаны Рабочы Саюз Літвы, які аб'яднаў Віленскую, Мінскую і Смаргонскую інтэрнацыянальныя рабочыя арганізацыі.

Тэндэнцыі да аб'яднання і стварэння партый вызначыліся і сярод сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У 1894 г. утварылася сацыяльна-рэвалюцыйная партыя «Народнае права». Пры дапамозе мінскіх сацыялістаў адкрылася друкарня ў Смаленску, дзе працавалі М. Манцэвіч, Н. Фанякова і Л. Аляк-

---

[1] *Зімонка А.* Сацыялістычны рух на Беларусі. С. 154; *Багдановіч А.* Да гісторыі партыі «Народная воля» ў Мінску і Беларусі // Маладосць. 1995. №11. С.234.; *Гурвич И.* Первые еврейские рабочие кружки // Былое. 1907. №6. С. 65–78.

[2] *Багдановіч А.* Да гісторыі партыі «Народнай волі» ў Мінску і Беларусі // Маладосць. 1995. №11. С.227; Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. С. 366.

[3] *Бич М.* Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883–1903 г. С.67–76 і інш.

[4] *Багдановіч А.* Да гісторыі партыі «Народнай волі» ў Мінску і Беларусі // Маладосць. 1995. №11. С. 234.

[5] *Бухбиндер Н.* История еврейского рабочего движения в России. С. 108–109.

[6] *Канцевич Я.* ППС и революционное движение в России в 1893–1903 годах // Связи революционеров России и Польши в XIX в. М. 1968; *Бич М.О.* Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883–1903 гг. С. 111–112.; *Бухбиндер Н.* История еврейского рабочего движения в России. С. 155.

сандрава і былі выдадзены маніфест партыі і брашура «Надзённае пытанне», якія атрымалі ў Беларусі шырокае распаўсюджанне. Але ў сярэдзіне 1894 г. арганізацыя была разгромлена, а друкарня захоплена. У 1896–1897 гг. сацыяльна-рэвалюцыйныя гурткі ў Гродне і Вільні прымкнулі да ППС, а гурткі Л. Радзівонавай і Я. Гальперына сталі асновай арганізацыі, якая атрымала назву «Рабочая партыя палітычнага вызвалення Расіі»[1]. У Мінску была выдадзена праграмная брашура партыі «Свабода»[2].

Такім чынам, у апошняй трэці XIX ст. у Беларусі пачала фарміравацца сетка легальных грамадскіх аб'яднанняў, пашыралася іх сацыяльная база. Размах грамадскай дзейнасці выклікаў занепакоенасць дзяржаўна-паліцэйскіх структур, якія імкнуліся абмежаваць іх дзейнасць. Развіццё сацыялістычнага руху прывяло да ўзнікнення абсалютна новага тыпу арганізацый – палітычных партый з жорсткай цэнтралізацыяй і шэрагам дапаможных структур. У гэты ж час адбываліся кансалідацыя і афармленне ліберальнага руху. Кансерватыўныя настроі па-ранейшаму існавалі ў грамадстве, але палітычны кансерватызм яшчэ не аформіўся выразна ў грамадска-палітычнай думцы. Разам з тым кансерватыўны грамадскі рух як форма сацыяльнай актыўнасці індывідаў, якая звязвала "прыватную" і "грамадскую" сферы, разам з развіццём іншых грамадскіх рухаў і фарміраваннем сеткі грамадскіх аб'яднанняў стала адным з фактараў фарміравання грамадзянскай супольнасці ў Беларусі.

## 5. Зараджэнне беларускага нацыянальна-палітычнага руху

Выспяванне беларускай нацыянальнай ідэі і першыя праявы нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага народа адносяцца да 10–50-х гг. XIX ст. Развіццё славяназнаўства разам з вывучэннем гісторыі Беларусі, фальклору, мовы, звычаяў і абрадаў беларусаў прыводзіла да высновы аб існаванні ў сям'і славянскіх народаў самастойнага беларускага этнасу. З усведамленнем гэтага пачыналася нараджэнне нацыянальнай інтэлігенцыі і беларускага нацыянальна-культурнага руху, які ў 40–50-х гг. стаў ужо даволі прыкметнай з'явай у грамадскім жыцці краю. Пры гэтым на менталітэт першых пакаленняў беларускай інтэлігенцыі выразны адбітак накладвала канфесіянальная прыналежнасць і культурная арыентацыя таго асяроддзя, з якога яна паходзіла і ў якім выхоўвалася. Выхадцы з праваслаўнага асяроддзя, выхаваныя на рускай культуры, працяглы час не маглі выйсці з палону ідэалогіі "заходнерусізму". У той жа час на этнічную самаідэнтыфікацыю выхадцаў з каталіцкай, апалячанай шляхты Беларусі ў той ці іншай ступені ўплывала польская нацыянальная ідэя. Будучыню беларускага народа яны звязвалі з аднаўленнем Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.[3]

Напярэдадні і ў час паўстання 1863–1864 гг . беларускі нацыянальны рух, дзякуючы К.Каліноўскаму і яго аднадумцам, узняўся на якасна новы ўзровень; у ім зарадзіўся палітычны кампанент, ідэя дзяржаўнай самастойнасці Беларусі, якая разглядалася, з улікам агульных гістарычных каранёў, у адзінстве з дзяржаўнай самастойнасцю Літвы.

---

[1] *Рафес М.* Очерки по истории Бунда. М., 1925. С. 16; *Бич М.* Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883–1903 гг. С. 112.

[2] Цыт па: *Зіміонка А.* Сацыялістычны рух на Беларусі. С. 157–158.

[3] *Цьвікевіч А.* "Западно-руссизм". Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. С.156–157.

ГОМОН

№ 1

- 1884 -

Першы нумар часопіса "Гомон"

**Спробы распрацоўкі праграмы і арганізацыйнага афармлення беларускага нацыянальна-вызваленчага руху.** Жорсткае падаўленне паўстання 1863–1864 гг., масавыя рэпрэсіі супраць яго ўдзельнікаў, у тым ліку і прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, рэжым выключных законаў, татальная русіфікацыя краю надоўга перапынілі беларускі нацыянальны рух – як палітычны, так і асветніцка-культурны, літаратурны. Адрадзіўся ён толькі ў канцы 70 – пачатку 80-х гг. дзякуючы намаганням новага пакалення нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі і праявіўся ў дзейнасці шэрагу падпольных студэнцкіх гурткоў у Пецярбургу і іншых гарадах Расіі, дзе былі універсітэты. Сярод удзельнікаў гэтых гурткоў у Пецярбургу вылучаўся І. Грынявіцкі, які (паводле некаторых звестак) стаў адным з заснавальнікаў беларускай фракцыі "Народнай волі". 1 сакавіка 1881 г. ён у складзе групы з чатырох тэрарыстаў выканаў смяротны прысуд кіраўніцтва "Народнай волі" імператару Аляксандру II: бомбай, кінутай І.Грынявіцкім, цар быў забіты, а сам рэвалюцыянер смяротна паранены. У 1881–1884 гг. беларусы-нарадавольцы выдалі некалькі адозваў і брашур – "Беларускай моладзі", "Да беларускай інтэлігенцыі", "Пісьмы пра Беларусь. Пісьмо першае" за подпісам "Даніла Баравік", "Пасланне да землякоў-беларусаў" ад імя "Шчырага беларуса", а таксама два нумары гектаграфаванага часопіса "Гомон (Белорусское социально-революционное обозрение)". Першы нумар быў выдадзены ў пачатку 1884 г., другі – 15 лістапада таго ж года. У другім нумары рэдакцыя надрукавала рукапіс (без назвы), які, паводле яе звестак, "ужо даўно хадзіў у Пецярбургу сярод беларусаў", выказаўшы пры гэтым прынцыповую салідарнасць з поглядамі і высновамі яго аўтараў[1].

Кіраўнікамі гуртка, які выдаў першы нумар "Гомона", з'яўляліся студэнты Пецярбургскага універсітэта, выпускнікі Віцебскай гімназіі А. Марчанка і Х. Ратнер, якія падчас вучобы ў ёй уваходзілі ў мясцовы нарадавольніцкі гурток. Да створанага імі гуртка ў Пецярбургу належалі студэнты У.Крупскі, М.Стацкевіч, С.Нясцюшка-Буйніцкі. Пэўнае дачыненне да іх дзейнасці таксама мелі вядомыя ў той час у падполлі нарадавольцы М.Аўчыннікаў і М.-Э.Янчэўскі, слухачка Пецярбургскіх жаночых курсаў А.Ратнер, пецярбургскі наборшчык Б.Рынкевіч, мінскі землямер Л.Насовіч, былы гродзенскі гімназіст Л.Гарадзішча, пісар віцебскага натарыуса А.Высоцкі. Пасля выдання першага нумара часопіса Х.Ратнер, А.Марчанка і шэраг звязаных з імі асоб былі арыштаваны[2]. Нягледзячы на гэта, другі нумар "Гомона" ўсё ж убачыў свет. Але яго выдаўцы, як і склад іншых гурткоў, ад

[1] Публицистика белорусских народников. Мн., 1983. С.120; *Арлоў У.А.* Прысуд выканаў невядомы: Ігнат Грынявіцкі. Мн., 1992.

[2] *Александровіч С.* Яны выдавалі "Гомон" // Літаратура і мастацтва. 1970. 14 жн.

якіх зыходзілі названыя вышэй выданні і творы, застаюцца пакуль невядомымі.

Агульным для ўсіх гэтых выданняў з'яўлялася прызнанне існавання самабытнага беларускага народа як "асобнай галіны славянскага племені", імкненне аўтараў да збліжэння з ім і служэння яго інтарэсам, пратэст супраць русіфікацыі і паланізацыі беларусаў. Але задачы нацыянальнага руху яны фармулявалі па-рознаму: адны – з ліберальна-народніцкіх, асветніцкіх, другія – з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцый.

Да ліку першых адносіліся аўтары адозвы "Да беларускай моладзі" і брашуры "Пісьмы пра Беларусь. Пісьмо першае". Адозва заклікала моладзь да аб'яднання ў "Беларускую грамаду" з мэтай дамагчыся для беларускага народа статусу "самастойнага і раўнапраўнага члена агульнай славянскай сям'і" шляхам "мірнай рэвалюцыі". Першачарговай адозва прызнавала дзейнасць, накіраваную на ўздым маральнага, разумовага і эканамічнага ўзроўню народа[1]. У "Пісьме..." падкрэслівалася, што просты беларускі народ, нягледзячы на ўсе цяжкія гістарычныя выпрабаванні, выстаяў, не паддаўся ні паланізацыі, ні русіфікацыі, захаваў сябе як асобную народнасць, звязаную "адзінствам мясцовага жыцця". Рэжым, устаноўлены ў Беларусі пасля падаўлення паўстання 1863 г., характарызаваўся як "асобае ваеннае становішча", якое выключала любую законнасць і любыя рэформы. Тым не менш перад беларускай інтэлігенцыяй аўтары "Пісьма..." ставілі выключна культурна-асветніцкія задачы: стаць "як мага бліжэй да народа і ўсімі сіламі садзейнічаць узняццю яго эканамічнага і маральнага быту, абуджэнню самасвядомасці"[2].

Як адказ на "Пісьмо..." Данілы Баравіка, у студзені 1884 г. з'явілася брашура "Пасланне да землякоў-беларусаў" ад "Шчырага беларуса". Не адмаўляючы карыснасці культурна-асветніцкай праграмы, сфармуляванай у "Пісьме...", аўтары "Пасланія..." пераканаўча паказалі, што без заваявання свабоды "выключаецца магчымасць выкарыстання і сотай долі таго, што ўжо выпрацавалі навука і прагрэс". Шлях да лепшай будучыні група "Шчырага беларуса" бачыла ў знішчэнні дэспатызму ў Расіі аб'яднанымі сіламі ўсіх народаў імперыі на чале з партыяй "Народная воля". Канкрэтнай праграмы вырашэння нацыянальнага пытання група не прапанавала[3].

У канцы 1883 г., паводле звестак рэдакцыі "Гомона" (№1), у некаторых гарадах Беларусі распаўсюджвалася гектаграфаваная адозва "Да беларускай інтэлігенцыі". Рэдакцыя ацаніла яе як адну з праяў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху і змясціла ў сваім часопісе. Аўтары адозвы канстатавалі рост папулярнасці ў тагачаснай Еўропе ідэй нацыянальнага раўнапраўя, незалежнасці і вырашэння нацыянальнага пытання на прынцыпах федэралізму. "Нацыянальная самасвядомасць, – пісалі яны, – абудзілася ва ўсіх так званых плебейскіх нацыянальнасцях Еўропы. Інтэлігенцыя кожнай з плебейскіх нацыянальнасцей усвядоміла, што прыроднай і адзінай плённай глебай для ажыццяўлення сваіх ідэалаў з'яўляецца для яе яе ж народ, які сваім потам і крывёю ўзгадаваў яе, што яе доўг – даць свайму народу магчымасць карыстацца прагрэсам цывілізацыі ў форме, адпаведнай выпрацаваным ім культурным асаблівасцям". Да плебейскіх нацый адозва адносіла і беларускі народ, які, паводле яе слоў, "чакаў яшчэ з'яўлення сваёй інтэлігенцыі", паколькі ўзгадаваныя ім інтэлектуальныя сілы служылі або

---

[1] Публицистика белорусских народников. С.19–21.

[2] Там жа. С.21–32.

[3] Там жа. С.33–56.

польскай, або велікарускай культуры. Сам жа народ, як сцвярджалася ў адозве, "упарта пратэставаў супраць здрадніцкіх спроб паланізаваць ці абвелікарусіць яго, і абедзве культуры якія насільна навязваліся яму, ... не прывіваліся да яго". З улікам гэтага аўтары сфармулявалі задачы беларускай інтэлігенцыі: "...разварушыць магутныя сілы народа, ... даць яму магчымасць праявіць свой нацыянальны геній, глыбока схаваны ад грабежніцкіх памкненняў палякаў і велікарускага двухгаловага арла". Аўтары адозвы падкрэслілі, што толькі цалкам згодна з патрабаваннямі жыцця беларускага народа дзейнасць інтэлігенцыі будзе плённай. Як і група "Шчырага беларуса", яны заклікалі да барацьбы супраць дэспатызму. Разлічвалі пры гэтым на шматлікіх саюзнікаў у асобе ўсіх прыгнечаных народаў Расіі, а таксама велікарусаў, паколькі і для іх абсалютная манархія з'яўлялася "прыгнятальнікам асобы і працы". Яны заявілі, што ўсякае абмежаванне манархічнага самавольства будзе для беларускага народа крокам да вызвалення і дасць яму магчымасць больш свабодна развіваць сваю культуру і распараджацца сваім жыццём[1].

Найбольш грунтоўна ў тэарэтычных адносінах нацыянальнае пытанне было распрацавана ў рукапісе невядомых аўтараў, якія належалі да пецярбургскай беларускай фракцыі партыі "Народная воля". Яны паказалі заканамернасць і прагрэсіўнасць працэсу ўзнікнення нацый і на падставе гэтага заявілі: "Усякая нацыя ... не толькі мае права, але і абавязана абараняць сваю самастойнасць ва ўсім, што не пярэчыць развіццю чалавецтва ўвогуле і кожнай чужой нацыі ў прыватнасці. Усякая таму нацыя, якой бы слабою яна ні была, заслугоўвае поўнага прызнання яе самастойнасці і ўсякую спробу ўціску з боку іншых нацый гэтай слабой суседкі трэба *прызнаць шкоднай*" (вылучана ў арыгінале. – *М.Б.*). Такім чынам, абгрунтоўвалася неабходнасць абараняць Беларусь "як ад польскага, так і ад велікарускага насілля"[2].

У рукапісе беларускіх нарадавольцаў упершыню не толькі абвяшчалася, але і тэарэтычна абгрунтоўвалася існаванне асобнага беларускага народа. Пры гэтым яны спасылаліся на прыродна-геаграфічныя, сацыяльна-эканамічныя і этнаграфічныя асаблівасці Беларусі, агульны гістарычны лёс і асобную мову беларусаў, усведамленне імі сваёй унутранай арганічнай сувязі – з аднаго боку, і адрозненне ад суседніх народаў – з другога. "Усе гэтыя асаблівасці Беларусі, – адзначалася ў рукапісе, – даюць (ёй) права на аўтаномную федэратыўную самастойнасць у сям'і іншых народнасцей Расіі". Шлях да рэалізацыі гэтага права аўтары бачылі ў сумеснай з партыяй "Народнай волі" рэвалюцыйнай барацьбе з агульным ворагам – царскім самадзяржаўем. Беларускія нарадавольцы выказалі ўпэўненасць, што ў выніку барацьбы Беларусь "перародзіцца для новага самастойнага жыцця і зойме месца сярод іншых федэрацый Расіі на асновах *свабоднага пагаднення з імі*" (вылучана ў арыгінале. – *М.Б.*)[3].



М. Судзілоўскі

[1] Публицистика белорусских народников. С.68–71.

[2] Там жа. С.109–110.

[3] Там жа. С.112, 120–121.

Аўтары артыкула абвяргалі сцвярджэнне аб забітасці і інертнасці беларускага народа, які быццам бы не мог зразумець і адстойваць свае інтарэсы, у тым ліку неабходнасць утварэння ў будучым нацыянальнай дзяржавы. Яны нагадвалі, што "беларусы, як і маларосы, не раз узнімаліся ў старыя часы ў абарону сваёй рэлігіі і супраць прыгнёту шляхецтва", адзначалі энергічную барацьбу беларускіх сялян супраць памешчыкаў у XIX ст. і актыўную дзейнасць у расійскіх народніцкіх арганізацыях такіх прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, як М.Судзілоўскі, С.Кавалік, Р.Ісаеў, І. Грынявіцкі. Падкрэслілі яшчэ адну важную з пункту погляду народніцкага сацыялізму адметнасць беларусаў: "... з народа амаль зусім не выдзяляецца кулакоў-міраедаў, якіх так многа ў Вялікаросіі і якія ўносяць антаганізм у мірскія інтарэсы і сваімі дзеяннямі разбэшчваюць і разбураюць абшчыну". На думку беларускіх нарадавольцаў, гэта тлумачылася тым, што адпаведнай дзейнасцю ў Беларусі займаліся яўрэйскія ліхвяры, якія не дапускалі да яе не толькі сялян, але і сваіх супляменнікаў[1].

**Палітычныя пазіцыі гоманаўцаў.** Часопіс "Гомон" (№1) абвясціў сябе органам сацыяльна-рэвалюцыйнай групы беларусаў, якая "пачала дзейнасць у сябе на радзіме і атаясамлівала свае інтарэсы з інтарэсамі беларускай народнасці". Група выступіла за замену абсалютызму ў Расіі свабодным федэральна-палітычным ладам, заснаваным на прынцыпе абласной самастойнасці.

Становішча беларускай народнасці ў Расійскай імперыі і гістарычны лёс беларусаў у рэдакцыйным артыкуле характарызаваліся наступным чынам: "... На іх ужо з даўніх часоў прывыклі глядзець як на нейкі матэрыял для ўсемагчымых эксперыментаў, а не як на жывую народнасць, здольную самастойна распараджацца сабою. Зыходзячы з гэтага пункту гледжання, бліжэйшыя суседзі беларусаў, карыстаючыся правам моцнага, здзяйснялі над імі свае доследы і бесцырымонна накладвалі жорсткія рукі на жывы арганізм беларускай народнасці, перадвырашыўшы, што яна павінна пакорліва падпарадкоўвацца мацнейшым і асімілявацца з імі, растварыўшыся ў велікарускім і польскім моры"[2]. Паводле ацэнкі рэдакцыі, гэтыя доследы больш паўплывалі на вышэйшае саслоўе, чым на народную масу, якая беражліва захоўвала ўсе свае ўласныя рысы, што раней ці пазней павінна было прывесці да абуджэння ў ёй нацыянальнай самасвядомасці і агульнага вызваленчага руху, накіраванага супраць прыгнёту. "Усвядоміўшы свае сілы, – заявілі гоманаўцы, – беларускі народ адразу ж скажа сваім прыгнятальнікам: далоў эксплуатацыю, мы самі жадаем кіраваць сабою! Далоў чужыя рукі, Беларусь павінна быць для беларусаў, а не для чужых элементаў!.. Мы самі павінны заваяваць сабе свабоду, не ўскладаючы надзеі на іншых!"[3]

Сэнс прыведзеных заклікаў – у абвяшчэнні права самастойнага беларускага народа на вызначэнне свайго лёсу, на самакіраванне. Паняцці "чужыя рукі", "чужыя элементы" адносіліся да прыгнятальнікаў беларускага народа, найперш – расійскага самадзяржаўя і чыноўніцтва, а таксама асімілявананага мясцовага вышэйшага саслоўя.

У спецыяльным артыкуле рэдакцыя "Гомона" разгледзела магчымыя ў расійскім рэвалюцыйным лагеры контраргументы супраць пастаноўкі пы-

---

[1] Публицистика белорусских народников. С.113–116.

[2] Там жа. С.60.

[3] Там жа. С.61.

танняў аб Беларусі як асобным ад іншых рэгіёне Расіі і аб ўтварэнні самастойнай беларускай рэвалюцыйнай групы са сваім перыядычным органам. Яна заявіла, што цалкам падзяляе погляд на неабходнасць згуртаванасці і салідарнасці ўсіх змагароў з "бяздушным паліцэйскім рэжымам", аднак разам з тым лічыць прынцыпова неабходным існаванне самастойных абласных рэвалюцыйных арганізацый і мясцовай рэвалюцыйнай прэсы. На яе думку, толькі гэтыя арганізацыі маглі прыцягнуць на свой бок працоўныя масы сваёй вобласці, а пасля палітычнага перавароту ў цэнтры – прадухіліць пераход улады на месцах і ў агульнарасійскім прадстаўнічым сходзе ў рукі буржуазных лібералаў і адкрыць "другі акт рэвалюцыі", у выніку якога народ возьме ўладу ў свае рукі. Пры гэтым гоманаўцы падкрэслілі, што мясцовыя рэвалюцыйныя арганізацыі павінны ўяўляць сабою "не прышлы наносны элемент, як урадавыя чыноўнікі, а арганічную частку насельніцтва свайго раёна". Адстойваючы самастойнасць мясцовых абласных арганізацый", "Гомон" разам з тым прызнаваў абавязковым узгадненне дзейнасці паміж імі і ўзаемную падтрымку ва ўсіх неабходных выпадках, а таксама аказанне імі дапамогі цэнтральным арганізацыям, што дзейнічалі ў сталіцах імперыі[1]. Такім чынам, рэдакцыя "Гомона" выразна засведчыла сваю арыентацыю на барацьбу за вызваленне Беларусі не выключна ўласнымі сіламі, а ва ўзаемадзеянні з агульнарасійскім вызваленчым рухам.

Новы крок да збліжэння з расійскім вызваленчым рухам быў зроблены рэдакцыяй другога нумара "Гомона". Яна прызнала, што супраць цэнтралізаванай сілы ўрада можа паспяхова змагацца толькі такая ж цэнтралізаваная сіла апазіцыі, і ў гэтай сувязі вітала заключэнне ў 1884 г. польскай партыяй "Пралетарыят" пагаднення з арганізацыяй "Народная воля". Адносна сябе сацыялісты-беларусы заявілі, што цалкам падзяляюць праграму і арганізацыйныя прынцыпы партыі "Народная воля""і імкнуцца заняць у ёй месца, адпаведнае энергіі дзейнасці сваёй групы[2]. Яны прапанавалі кіраўніцтву расійскай партыі перадаць усе свае сувязі ў Беларусі "мясцовай беларускай партыі", якая дзейнічала б на правах абласной арганізацыі, "Народнай волі" з аўтаноміяй у мясцовых справах. Пры гэтым адзначалася, што ў такім разе эфектыўнасць рэвалюцыйнай дзейнасці павысіцца, паколькі "мясцовая інтэлігенцыя, акрамя меркаванняў цэнтральнай партыі, будзе адухоўлена ўсведамленнем рэальных інтарэсаў Беларусі"[3].

Рэдакцыя "Гомона" не ўтойвала, што адным з галоўных матываў далучэння беларускіх сацыялістаў да "Народнай волі" было імкненне пераканаць членаў гэтай партыі ў практычнай магчымасці федэратыўнай самастойнасці Беларусі ў будучым, дамагчыся іх згоды на гэта. Яна ведала, што тэарэтычна "Народная воля" не раз выказвалася за будучую федэратыўнасць абласцей Расіі, але разам з тым усведамляла, што разлічваць на атрыманне самастойнасці свайму краю могуць толькі тыя абласныя арганізацыі, якія будуць "плячо ў пляче ісці ў барацьбе з дзеючай партыяй"[4].

У гэтай сувязі рэдакцыю "Гомона" вельмі насцярожылі выказванні аднаго з лідэраў "Народнай волі" Л.Ціхамірава ў часопісе "Вестник "Народной воли" аб "недарэчнасці" і "штучнасці" стварэння новых нацыянальнасцей. Яна ўбачыла ў гэтых выказваннях адмаўленне факта існавання беларускага народа, а разам з тым і правамернасці пастаноўкі пытання аб федэратыўнай

---

[1] Публицистика белорусских народников. С.67–68.

[2] Там жа. С.83.

[3] Там жа. С.87.

[4] Там жа. С.83–84.

самастойнасці Беларусі. У сувязі з гэтым рэдакцыя заявіла: "Вядома, у (беларускім) народзе пакуль няма свядомага імкнення федэратыўнай незалежнасці ў тым яе выглядзе, як гэта разумее інтэлігенцыя, але неабходнасць гэтай незалежнасці вынікае сама сабою з усведамлення народам сваёй асобнасці ад суседзяў... з эканамічных і кліматычных умоў Беларусі, якія ў многім адрозніваюцца ад умоў іншых абласцей Расіі, з арыгінальнага характару самога народа". Пры гэтым была спасылка на высновы М.Бакуніна і М.Драгаманава, якія, калі ішла гаворка аб распадзе Расійскай імперыі на натуральныя ("естественные") федэратыўныя адзінкі, заўсёды ставілі Беларусь у адзін рад з Польшчай і Маларосіяй, нарэшце – на палітыку ўрада, які, хоць і імкнуўся да ідэалу казарменнай аднастайнасці, усё ж лічыўся з Беларуссю як з вобласцю своеасаблівай. Негрунтоўнасць заяў Л.Ціхамірава даказвалася і спасылкай на дзейнасць саміх нарадавольцаў, якія, не зважаючы на тое, што народ расійскі не ўсведамляў важнасці палітычнай свабоды і не разумеў ідэй сацыялізму, усё ж дамагаліся і аднаго і другога, паколькі шырэй глядзелі на патрэбы народа і лепш разумелі сродкі іх задавальнення[1].

Асаблівую важнасць падрыхтоўкі ў Беларусі глебы для федэратыўнай самастойнасці гоманаўцы бачылі ў тым, што тут, як нідзе ў суседніх рэгіёнах, адчувалася гістарычная адчужанасць паміж інтэлігенцыяй і народам. Яны былі перакананы, што без пераадолення гэтай адчужанасці інтэлігенты-сацыялісты не маглі разлічваць на падтрымку свайго народа і карыстацца на радзіме большым даверам, чым тагачаснае чыноўніцтва. Зыходзячы з гэтага, рэдакцыя "Гомона" следам за П. Лаўровым прызнала найбольш мэтазгоднай, эфектыўнай і карыснай для партыі дзейнасць рэвалюцыянераў на сваёй радзіме, сярод свайго народа з арыентацыяй на яго мову, традыцыі і звычаі, інтарэсы і патрэбы. Разам з тым яна не адмаўлялася ад аказання дапамогі цэнтру і выказала надзею, што частка рэвалюцыйных гурткоў у Беларусі, а таксама гурткі беларусаў, якія ўтварыліся ў некаторых універсітэцкіх гарадах Расіі, падтрымаюць ідэю барацьбы за федэратыўную самастойнасць Беларусі[2].

У сярэдзіне 80-х гг. гурткі нацыянальна свядомых беларусаў-народнікаў, як і партыя "Народная воля" ў цэлым, былі ліквідаваны паліцыяй. Тым не менш утварэнне і дзейнасць гэтых гурткоў абазначылі новы этап у развіцці беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. У сваіх падпольных выданнях яны ўпершыню не толькі сфармулявалі, але і тэарэтычна абгрунтавалі пастулат аб існаванні самабытнага беларускага народа, першымі заявілі аб неабходнасці барацьбы супраць паланізацыі і русіфікацыі Беларусі, выставілі праграмны лозунг аб праве Беларусі "заняць месца сярод іншых федэрацый Расіі на аснове свабоднага пагаднення з імі". Новай была таксама пастаноўка пытання аб стварэнні самастойнай беларускай рэвалюцыйнай партыі, якая ў цесным узаемадзеянні з агульнарасійскім вызваленчым рухам выступіла арганізатарам барацьбы за дзяржаўнасць Беларусі.

**Стан нацыянальнага руху ў канцы XIX ст.** Пасля разгрому гурткоў, звязаных з "Гомоном", беларускіх нацыянальна-палітычных арганізацый да пачатку XX ст. не існавала. У канцы 80-х – пачатку 90-х гг. рэвалюцыйна настроеныя студэнты-беларусы ўваходзілі ў інтэрнацыянальныя студэнцкія арганізацыі зямляцкага тыпу, створаныя ў Пецярбургу і Маскве. Яны аб'ядноўвалі ўраджэнцаў беларуска-літоўскіх, польскіх і ўкраінскіх губерняў, якія вучыліся ў гэтых гарадах. На ідэалогіі і дзейнасці арганізацый у пэўнай

[1] Публицистика белорусских народников. С.84–85.

[2] Там жа. С.85–88.



А. Гурыновіч

ступені адбіўся ўплыў марксізму. Апошнім кіраўніком пецярбургскага гуртка польска-літоўска-беларускай і маларускай моладзі быў студэнт тэхналагічнага інстытута, беларускі паэт-дэмакрат А. Гурыновіч.

З дзейнасцю падобнай маскоўскай арганізацыі, дакладней, аднаго з яе кіраўнікоў – М. Абрамовіча, звязана нелегальнае выданне ў 1892 г. агітацыйнай брашуры на беларускай мове "Дзядзька Антон, або гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць, не ведаем".

Брашура была перакладзена са зменамі з папулярнай кніжкі вядомага польскага сацыяліста Я. Млота (Ш.Дыкштэйна) "Хто з чаго жыве?" У 1903 г. "Дзядзька Антон..." быў перавыдадзены пад назвай "Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць", якая больш дакладна раскрывала змест брашуры. Нацыянальнае пытанне ў ёй не закраналася. Членамі маскоўскай арганізацыі з'яўляліся вядомыя дзеячы беларускага нацыянальнага руху А. Лявіцкі (Ядвігін Ш.) і Н. Чарноцкі. Паводле звестак дэпартамента паліцыі, на сходах вялася гаворка аб неабходнасці злучэння нацыянальнага руху з сацыял-дэмакратычным, аб барацьбе за дэмакратычныя свабоды ў Расіі і г.д. У 1892–1893 гг. абедзве арганізацыі былі ліквідаваны паліцыяй[1].

У 1899–1901 гг. у Пецярбургу па ініцыятыве студэнта тэхналагічнага інстытута В. Іваноўскага ўтварыўся нелегальны беларускі студэнцкі гурток, у якім, паводле ўспамінаў яго заснавальніка, зарадзілася ідэя аб суверэннай незалежнасці Беларусі[2]. Сярод гурткоўцаў выспявала ідэя стварэння Беларускай рэвалюцыйнай партыі[3].

На пераломе XIX–XX стст. у Мінску па ініцыятыве гімназістаў братоў І. і А. Луцкевічаў утварыўся асветніцкі гурток з мэтай вывучэння Беларусі і распрацоўкі беларускага нацыянальнага пытання. Цесную сувязь з ім падтрымліваў пісьменнік К. Каганец (Казімір Кастравіцкі), які зрэдку публікаваў свае фальклорныя апрацоўкі ў мінскай і віленскай рускамоўнай перыёдыцы. Можна не сумнявацца, што на сходах гуртка ён чытаў уласныя рукапісныя творы 90-х гг., прасякнутыя ідэяй нацыянальнага адраджэння ("Прамова", "Наш сымболь", "Згадка пра Галубка" і інш.). Каганец услаўляў у іх эпоху Вялікага княства Літоўскага, калі беларуская мова "працвітала пры двары каралёў польскіх", пісаў пра забытых легендарных герояў, што вызначыліся ў барацьбе за свабоду Радзімы. Пісьменнік імкнуўся такім чынам адрадзіць гістарычную памяць, нацыянальную годнасць і свядомасць беларусаў.

[1] *Александровіч С.Х.* Яны выдавалі "Гомон" // Літаратура і мастацтва. 1970.14 жн.; *Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг. С.74–75.

[2] *Turonek J.* Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. Warszawa, 1992. S.25–26.

[3] Там жа. S.26.

ГЛАВА 4

# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ

## 1. Асвета. Навука. Друк

**Асвета**. Пасля падаўлення паўстання 1863 г. палітыка адкрытага наступлення на правы беларускага народа атрымала ўвасабленне і ў шэрагу рэакцыйных мерапрыемстваў у галіне асветы. Ужо ў 1865 г. пачаўся перагляд агульнага напрамку развіцця сеткі і тыпаў школ, складу настаўнікаў, зместу навучальна-выхаваўчай работы. "Часовыя правілы для народных школ у губернях Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай" 1863 г. патрабавалі, каб у народных вучылішчах Віленскай навучальнай акругі ўсе дысцыпліны (за выключэннем Закона Божага для дзяцей рымска-каталіцкага веравызнання) выкладаліся толькі на рускай мове. Шматлікія цыркуляры 70–90-х гг., што дапаўнялі "Часовыя правілы", узмацнілі жорсткі ўрадавы кантроль над школай. Галоўная ўвага надавалася падбору "вернападданых" настаўнікаў. Найбольшае распаўсюджванне і падтрымку кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі атрымлівалі школы духоўнага ведамства.

У 1866 г. на тэрыторыі акругі функцыянiравала 1251 навучальная ўстанова, з якіх Міністэрству народнай асветы належалі толькі 130. Духоўнаму ведамству былі падпарадкаваны 956, у тым ліку 940 сельскіх вучылішч пры цэрквах. Агульная колькасць вучняў складала больш за 30 тыс., з іх 18 тыс. (58 %) у сістэме духоўнага ведамства[1].

Сетка навучальных устаноў у Беларусі размяркоўвалася нераўнамерна. У некаторых валасцях школ увогуле не было. На Магілёўшчыне ў пачатку 60-х гг. існавала ўсяго 38 школ на 204 воласці. Да канца дзесяцігоддзя яны з'явіліся яшчэ ў 103 валасцях[2].

Рэформа 1861 г. і змены, якія яна выклікала ва ўсіх галінах жыцця, садзейнічалі ўзнікненню новых павеваў у грамадстве. Адбываліся перамяшчэнні насельніцтва, інтэнсіўна развіваўся працэс адыходніцтва, дзякуючы якому сельскае насельніцтва ўцягвалася ў вір грамадскага жыцця, паволі павышалася пісьменнасць, прывіваліся культурныя звычкі і патрэбнасці. Усё гэта натуральна стымулявала цягу самых шырокіх пластоў насельніцтва да асветы і ведаў. Сетка навучальных устаноў да канца XIX ст. прыкметна пашырылася. Так, у 1899 г. на тэрыторыі Беларусі налічвалася 999 народных вучылішч, у якіх вучылася 77 тыс. навучэнцаў. Каля 140 тыс.[3] чалавек спасцігалі асновы граматы ў 5814 царкоўнапрыходскіх школах. "Такое павелічэнне колькасці вучняў, значны прырост іх у жаночым поле, ужо не вытлумачваецца толькі ўплывам адных выгод ад асветы, што атрымліваюць пры адбыванні вайсковай павіннасці, але сведчыць пра больш глыбокія маральныя матывы, якія ляжаць у аснове гэтага павелічэння вучняў, ва ўмацаванні погляду на адукацыю як на жыццёвую неабходнасць...", – пісаў адзін з чыноўнікаў канцылярыі мінскага губернатара.

У 60–90-я гг. пануючае месца ў сістэме адукацыі Беларусі займала пачатковая школа. Перад ёй, як і раней, ставілася задача ўмацоўваць у народзе

---

[1] Статистический временник Российской империи. СПб., 1866. С.57.

[2] НГА Б, ф.497, воп. 2, спр. 69, арк. 223.

[3] Падлічана па: Памятная книжка Виленского учебного округа на 1898 / 99 год. Ч.II. Вильна, 1899; Народное образование. 1898. Кн.IX. С.108–109; Памятные книжки Гродненской, Виленской, Витебской, Минской, Могилевской губерний на 1899 г.

рэлігійныя паняцці і толькі потым распаўсюджваць веды. Яна мела адзіны вучэбны план, які ўключаў Закон Божы, чытанне царкоўных і грамадзянскіх кніг, лік, царкоўныя спевы. Навучанне дапускалася толькі на рускай мове. Асноўнымі тыпамі школ у сістэме пачатковай адукацыі ў сельскай мясцовасці з'яўляліся народныя вучылішчы, царкоўнапрыходскія школы і школы граматы, а ў гарадах – прыходскія павятовыя і гарадскія вучылішчы.

У Беларусі ў пачатку 80-х гг. адно народнае вучылішча прыходзілася на 34 вёскі, а на Віцебшчыне – на 83. З усіх хлопчыкаў школьнага ўзросту вучылася толькі 10,4 %, дзяўчынак – 0,5 %[1].

Настаўнікамі ў гарадскіх вучылішчах нярэдка працавалі дастаткова падрыхтаваныя спецыялісты, выпускнікі вышэйшых навучальных устаноў Пецярбурга, Масквы, Кіева, Вільні. У сельскіх народных вучылішчах настаўнікамі, як правіла, з'яўляліся выпускнікі настаўніцкіх і духоўных семінарый Беларусі.

Як адзначалася вышэй, найбольшае распаўсюджанне атрымалі школы, падначаленыя праваслаўнай царкве. Развіццём дадзенай катэгорыі школ Свяцейшы Сінод імкнуўся аслабіць уплыў касцёла. Да канца XIX ст. царкоўнапрыходскія школы і школы граматы складалі ў Мінскай губерні 84,6 %, у Віцебскай – 60,5, у Магілёўскай – 82,3 % усіх навучальных устаноў. Царкоўнапрыходскія школы былі аднакласныя (двухгадовыя) і двухкласныя (чатырохгадовыя). У аднакласных выкладаліся Закон Божы, царкоўныя спевы, чытанне, арыфметыка, пісьмо, а ў двухкласных, акрамя таго, даваліся звесткі з гісторыі. Матэрыял для чытання быў рэлігійна-манархічнага зместу. Навучанне вялі святары, дыяканы, дзячкі, а таксама выпускнікі епархіяльных вучылішч.

Паводле прызнання мясцовых чыноўнікаў, не ўсе ўласныя памяшканні школ, і асабліва наёмныя, адпавядалі свайму прызначэнню. Многія з іх былі малаўмяшчальнымі, мелі дрэннае асвятленне, нізкую столь. Усе гэтыя недахопы тлумачыліся няхваткай сродкаў. Апошнія паступалі з розных крыніц. Сяляне амаль паўсюдна ставіліся да школ са спачуваннем, "усведамляючы сапраўдную карысць ад граматы". Спачувальныя адносіны вяскоўцаў да школ, паводле слоў кіраўнікоў Магілёўскай епархіі, якой падпарадкоўваліся царкоўнапрыходскія школы і школы граматы, выяўляліся ў тым, што яны з году ў год павялічвалі сродкі на ўтрыманне гэтых устаноў. Асноўную частку сродкаў сяляне збіралі па прыгаворах сельскіх таварыстваў ці па ўзаемнаму пагадненню. Так, у 1888/89 навучальным годзе агульная сума сабраных сельскімі таварыствамі грошай склала 40 773 руб. 18 кап., а годам раней – 34 531 руб. 78 кап.

У 60–90-я гг. XIX ст. у Беларусі дзейнічалі мужчынскія гімназіі ва ўсіх губернскіх цэнтрах, а таксама ў Брэсце, Гомелі і Слуцку, прагімназіі – у Бабруйску, Мазыры, рэальныя вучылішчы –у Мінску, Магілёве, Пінску і жаночая гімназія ў Гомелі. У гэтых навучальных установах займаліся ў асноўным дзеці дваран, чыноўнікаў і духавенства. Так, у 1875 г. у гімназіях і прагімназіях вучылася 2463 чалавек, у тым ліку дзяцей дваран і чыноўнікаў 1360 (55,3 %), дзяцей духавенства 206 (8,36 %), гарадскіх саслоўяў – 758 (30,8 %), сельскіх саслоўяў – 92 (3,7 %), іншых – 45 (1,8 %)[2]. Пад уплывам перамен у грамадстве ў другой палове XIX ст. пашырылася сетка жаночых навучальных устаноў. Дзяўчынак пачалі прымаць у народныя ву-

[1] Очерки истории школы и педагогической мысли народов СССР. Вторая половина XIX в. М., 1976. С.406.

[2] Асвета і педагагічная думка ў Беларусі са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985. С.261.

чылішчы нароўні з хлопчыкамі, адкрываліся прыватныя жаночыя навучальныя ўстановы. Да канца стагоддзя яны з'явіліся ў Брэсце, Бабруйску, Віцебску, Гомелі, Магілёве, Мазыры, Слоніме, Слуцку.

Нягледзячы на пашырэнне сеткі навучальных устаноў у другой палове XIX ст., ахоп школьнай адукацыяй беларускіх дзяцей і ўзровень пісьменнасці насельніцтва заставаліся нізкімі. Згодна матэрыялаў перапісу 1897 г., колькасць пісьменных складала: у Віленскай губерні – 33,9 %, у Віцебскай – 27,1, у Мінскай – 22,7, у Гродзенскай – 31,5, у Магілёўскай – 21,3 %. У цэлым па Беларусі гэты паказчык складаў 25,7 %.

Падрыхтоўка настаўнікаў для пачатковай школы ажыццяўлялася ў чатырох настаўніцкіх семінарыях: Маладзечанская (першая ў Расіі, заснавана ў 1864 г.), Полацкая (1872), Нясвіжская (1875) і Свіслацкая (1876). Паступіць у семінарыю маглі юнакі не маладзей за 16 гадоў, якія паспяхова скончылі народныя пачатковыя вучылішчы і падрыхтоўчы клас семінарыі. Палажэннямі і інструкцыямі аб навучальна-выхаваўчым працэсе прадугледжвалася падрыхтоўка адданых прастолу настаўнікаў, здольных распаўсюджваць у народзе "элементарную і рэлігійна-маральную адукацыю". Для выхавання ў семінарыстаў вернападданніцкіх пачуццяў у семінарыі накіроўваліся рэакцыйна настроеныя выкладчыкі, што праводзілі афіцыйную палітыку ў галіне адукацыі. Разам з тым трэба адзначыць, што семінарысты атрымлівалі добрую педагагічную падрыхтоўку. З настаўніцкіх семінарый выйшла нямала настаўнікаў, якія папаўнялі рады дэмакратычнай інтэлігенцыі.

Вышэйшых навучальных устаноў у другой палове XIX ст. у Беларусі не было. Тая частка беларускай моладзі, якая пасля заканчэння гімназій мела магчымасць працягваць адукацыю, навучалася ва універсітэтах і інстытутах Пецярбурга, Масквы, Кіева, Харкава, Адэсы, Юр'ева (Тарту), Варшавы і іншых гарадоў Расійскай імперыі.

**Навука**. На другую палову XIX ст. прыпадае шмат даследаванняў, прысвечаных Беларусі. Гэта тлумачыцца і развіццём навукі ў цэлым, і накапленнем новых матэрыялаў, і падзеямі, што выклікалі павышаную цікавасць да беларускага народа. Менавіта падзеі 1863 г. далі магутны штуршок вывучэнню Беларусі, асабліва этнаграфічнаму.

Вялікі інтарэс да беларусаў з боку еўрапейскай грамадскасці, а таксама палітычныя мэты, якія меў расійскі ўрад, прывялі да ўзнікнення Паўночна-Заходняга аддзялення Рускага геаграфічнага таварыства. Яно было створана з мэтай прапаганды і навуковага абгрунтавання афіцыйных поглядаў на Беларусь як спрадвечную частку Расійскай імперыі і беларусаў як на заходняе адгалінаванне "рускага племені". Нягледзячы на непрацяглы тэрмін свайго існавання (1867–1875), разгорнутая ім дзейнасць па этнаграфічнаму даследаванню краю – мовы, фальклору, матэрыяльнай культуры – заклала трывалы падмурак навуковага беларусазнаўства. Вакол аддзялення згрупаваліся мясцовыя даследчыкі быту і культуры беларускага народа. З ім актыўна супрацоўнічалі М. Дзмітрыеў, Ю. Крачкоўскі, У. Сакалоў, А. Семянтоўскі, П. Шэйн, Е.Раманаў.

У 60–70-я гг. свой уклад у вывучэнне Беларусі ўнеслі і іншыя таварыствы, у тым ліку і Вольна-эканамічнае. У перыядычных выданнях з'яўляецца шэраг глыбокіх работ па эканоміцы сельскай гаспадаркі і вытворчым быце беларусаў. У іх параўнальна глыбока апісаны быт селяніна, яго жыллё, адзенне, харчаванне, сямейныя ўзаемаадносіны.



Гродна. Гімназія

Цікавыя факты пра быт беларусаў трапілі на старонкі шматтомнага выдання "Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба".

У 70-я гг. XIX ст. этнаграфічнае вывучэнне Беларусі паступова пераходзіць у рукі мясцовых сіл. Буйнейшым прадстаўніком гэтага перыяду быў І. Насовіч. Ён з'яўляўся аўтарам некалькіх буйных прац па вывучэнню беларускіх песень, прымавак. Але галоўным, найбольш значным даследаваннем вучонага стаў "Словарь белорусского наречия", над якім ён працаваў 16 гадоў і які быў выдадзены ў Пецярбургу ў 1870 г. У слоўніку было больш за 30 тыс. слоў, дадзены іх тлумачэнні, нярэдка з прыкладамі выкарыстання ў жывой гаворцы. У ім утрымлівалася шмат і этнаграфічных матэрыялаў. Слоўнік І. Насовіча з'явіўся надзейным фундаментам для наступных пакаленняў айчынных даследчыкаў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў. Сваімі працамі беларускія этнографы выкрывалі палітыку царскіх улад, якія адмаўлялі існаванне беларусаў як этнасу.

У 80–90-я гг. у айчыннай этнаграфіі пашыралася колькасць аматараў у вывучэнні быту і культуры народа. З'явіўся шэраг фундаментальных работ, выкананых на больш высокім навуковым і метадычным узроўні. У гэты час заявілі аб сабе ва ўвесь голас Е. Раманаў, М.Нікіфароўскі, М. Доўнар-Запольскі, М. Янчук, А. Багдановіч. Адчуваючы на сабе ўплыў розных навуковых тэорый і школ, усе яны імкнуліся крытычна ставіцца да іх, выпрацаваць свой погляд на розныя аспекты этнаграфіі Беларусі. Прыкметны след у ёй пакінуў М. Нікіфароўскі. Больш за 20 гадоў ён дапамагаў вядомаму даследчыку П. Шэйну. У пачатку 90-х гг. М. Нікіфароўскі выступіў з самастойнымі працамі, прысвечанымі Віцебскай губерні. Самай буйной сярод іх была "Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обихода", выдадзеная ў Віцебску ў 1895 г. Гэта даследаванне па сутнасці ўпершыню дае ясную карціну матэрыяльнай культуры і

вытворчай дзейнасці беларускіх сялян. Яго каштоўнасць і ў тым, што аналіз жыцця народа спалучаўся з паказам тых змен, што адбыліся да канца стагоддзя. Глыбока вывучаў М. Нікіфароўскі і духоўнае жыццё беларусаў, збіраў і запісваў фальклорныя творы, вывучаў абрады і вераванні. Усё гэта знайшло адлюстраванне ў шэрагу капітальных прац вучонага.

Больш за 200 работ, прысвечаных розным бакам жыцця народа, напісаў Е. Раманаў. У іх адбіліся вынікі шэрагу навуковых экспедыцый, арганізаваных знакамітым этнографам. У шматлікіх артыкулах і кнігах Е. Раманаў паўстае як палымяны патрыёт, які смела выступіў супраць афіцыйнай палітыкі, што адмаўляла існаванне беларусаў як самастойнага народа.



М. Доўнар-Запольскі

Дастойнае месца сярод даследчыкаў Беларусі належыць і М.Янчуку, актыўнаму члену Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім універсітэце. У многім дзякуючы яго намаганням на старонках папулярнага часопіса "Этнографическое обозрение" з'явілася нямала работ беларускіх навукоўцаў.

Акрамя буйных этнаграфічных работ у гэты перыяд з'яўляецца шмат невялікіх, прысвечаных апісанню асобных мясцовасцей або бакоў жыцця і культуры беларусаў. Большасць гэтых матэрыялаў была апублікавана на старонках "Минского листка" і "Губернских ведомостей". Паводле падлікаў некаторых даследчыкаў, у мясцовым і цэнтральным друку з'явілася больш за 500 публікацый на этнаграфічныя тэмы.

Беларускія даследчыкі ўнеслі важкі ўклад у развіццё прыродазнаўчых навук. Як ужо адзначалася, з-за дыскрымінацыйнай палітыкі царскіх улад Беларусь фактычна была ператворана ў правінцыю. Але творчы патэнцыял народа знаходзіў сабе выйсце. Прыродазнаўчая думка існавала і развівалася дзякуючы доследам айчынных прыродазнаўцаў, выкладчыкаў гімназій. Прыватныя даследчыцкія лабараторыі, фізічныя кабінеты класічных гімназій і рэальных вучылішч заставаліся месцамі, дзе праводзіліся навуковыя даследаванні. Гісторыя навукі захавала імёны многіх выдатных навукоўцаў, сыноў Беларусі, што пакінулі значны след у фізіцы, хіміі, матэматыцы, механіцы, біялогіі.

Адно з самых ганаровых месц у гісторыі прыродазнаўства па праву належыць братам Кавалеўскім. Сусветная біялагічная навука абавязана А. Кавалеўскаму стварэннем эвалюцыйнай эмбрыялогіі, а Ул. Кавалеўскаму – эвалюцыйнай палеанталогіі. Паспяховае развіццё крыягеннай тэхнікі было б немагчыма без грунтоўных вынікаў у звадкаванні газаў, дасягнутых членам Кракаўскай Акадэміі навук Ж. Урублеўскім. Яго брат Э. Урублеўскі, прафесар Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута, унёс пэўны ўклад у даследаванні хімічнага саставу газаў.

Фундаментальнае значэнне для развіцця сусветнай матэматыкі мелі работы ў галіне тэорыі радоў, дыферэнцыяльных ураўненняў, тэорыі функцый, алгебры і тэорыі лічбаў В. Ермакова – першага матэматыка, ураджэнца Беларусі, які быў абраны членам-карэспандэнтам Пецярбургскай Акадэміі навук.


А. Багдановіч

Грунтоўныя навуковыя даследаванні праводзіліся ў прыватных фізічных лабараторыях. Самы яркі прыклад – работы Я. Наркевіча-Ёдкі. У 90-я гг. XIX ст. ён прапанаваў метад фарміравання адбіткаў жывых аб'ектаў ва ўмовах электрычнага разраду і практычнага выкарыстання вынікаў у рэфлексатэрапіі, які вядомы сёння як эфект Кірліянаў. На пяць гадоў раней славутага рускага вучонага А.Папова, у 1890 г. беларускі прыродазнаўца ўжыў для рэгістрацыі навальнічных разрадаў свайго роду радыёпрыёмнік, які дазваляў рэгістраваць электрычны разрад у атмасферы на адлегласці да 100 км[1].

Такім чынам, беларускія вучоныя, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, зрабілі важкі ўклад у вывучэнне матэрыяльнай і духоўнай спадчыны беларускага народа, узбагацілі выдатнымі дасягненнямі сусветную навуку.

**Друк**. Перыядычны друк у другой палове XIX ст. быў прадстаўлены афіцыйнымі "Губернскими ведомостями", што выдаваліся ў Мінску, Гродне, Віцебску, Магілёве. Да іх ліку належалі і "Епархиальные ведомости", што друкаваліся ў Мінску, Магілёве, Віцебску, з 1900 г. – і ў Гродне. Абараняючы інтарэсы самадзяржаўя і праваслаўнага духавенства, гэтыя выданні праводзілі русіфікатарскую палітыку, сцвярджаючы, што Беларусь спакон веку была "рускай і праваслаўнай". Тым не менш на іх старонках з'явілася нямала матэрыялаў, якія маюць навуковую каштоўнасць: архіўныя дакументы на старажытнай беларускай мове, этнаграфічныя і краязнаўчыя матэрыялы. Аўтарамі апошніх, як правіла, былі настаўнікі, святары. Да канца стагоддзя змяніўся змест і "Губернских ведомостей". Яны нярэдка выходзілі за афіцыйныя рамкі іператвараліся ў звычайныя буржуазныя выданні. На іх старонках з'яўляюцца літаратурна-крытычныя артыкулы, фельетоны. Варта адзначыць, што каштоўнасць гістарычных, этнаграфічных, статыстычных і іншых матэрыялаў, што з'яўляліся ў газетах, у многім залежала ад падрыхтоўкі і светапогляду рэдактара, іншых супрацоўнікаў рэдакцыі. Напрыклад, неафіцыйную частку "Могилевских губернских ведомостей" рэдагаваў вядомы этнограф Е. Раманаў, які надрукаваў у ёй шэраг сваіх даследаванняў.

У апошняй чвэрці XIX ст. у Беларусі пачала выдавацца першая прыватная газета. У красавіку 1886 г. убачыў свет першы нумар "Минского листка" – грамадска-палітычнага і літаратурнага выдання буржуазна-ліберальнага кірунку, якое праіснавала да 1902 г. Гэта была адзіная газета, у якой мясцовая інтэлігенцыя магла неяк выказаць сваё стаўленне да важнейшых праблем тагачаснага жыцця, розных з'яў у духоўнай культуры. На старонках "Минского листка" друкаваліся літаратурныя творы, літаратурна-крытычныя артыкулы, рэцэнзіі, тэатральныя і музычныя агляды. Вакол выдання групаваліся энтузіясты-краязнаўцы – даследчыкі культурнай спадчыны беларусаў. У газеце часта з'яўляліся матэрыялы з даследаванняў М. Доўнар-Запольскага, А. Слупскага, М. Янчука, А. Багдановіча і інш. Іх працы ў пэўнай ступені садзейнічалі развіццю нацыянальнай свядомасці айчыннай інтэлігенцыі. А. Слупскі, М. Янчук і іх аднадумцы ў канцы 80-х –

[1] *Грыбкоўскі В.П., Гапоненка В.А., Кісялёў У.М.* Прафесар электраграфіі і магнетызму – Якуб Наркевіч-Ёдка. Мн., 1988.

пачатку 90-х гг. арганізавалі выданне "Северо-Западных календарей", у якіх частка матэрыялаў друкавалася на беларускай мове. З гэтага часу і пачынаецца вельмі павольнае ажыўленне падцэнзурнага беларускамоўнага друку, які дасягнуў прыкметных поспехаў у пачатку XX ст.

## 2. Літаратура і мастацтва

**Літаратура.** Развіццё нацыянальнай літаратуры ў другой палове XIX ст. адбывалася ў неспрыяльных умовах сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту беларускага народа. Аднак у ёй мелі месца глыбінныя працэсы, звязаныя са сцвярджэннем новай рэвалюцыйна-дэмакратычнай ідэалогіі і прынцыпаў крытычнага рэалізму.

На мяжы 50–60-х гг. на хвалі антыпрыгонніцкага і нацыянальна-вызваленчага руху ў айчыннай літаратуры назіраліся пэўныя зрухі. Асабліва яны праявіліся ў час паўстання 1863 г. 60-я гг. у літаратуры прайшлі пад знакам рэвалюцыйнай публіцыстыкі, самым яркім прадстаўніком якой быў К.Каліноўскі. Каб падняць сялянства на барацьбу, раскрыць грабежніцкі характар рэформы 1861 г., развеяць веру ў добрага цара, К. Каліноўскі пачаў выданне "Мужыцкай праўды" (1862–1863) – першай газеты на беларускай мове. Публіцыстыка К.Каліноўскага ўзнікла як палітычны і ідэйны сродак барацьбы ў час паўстання. Большасць публіцыстычных матэрыялаў, на першы погляд, не мае дачынення да літаратуры, паколькі была напісана ў прапагандысцкіх мэтах, без свядомага ўліку якіх-небудзь літаратурных нацыянальных традыцый. Выключэнне складае верш "Марыська чарнабрыва, галубка мая" ў "Лістах з-пад шыбеніцы". Аднак публіцыстычныя творы, што з'яўляліся на старонках газеты, і асабліва "Лісты...", аб'ектыўна набывалі літаратурна-мастацкае значэнне. І не толькі таму, што яны не пазбаўлены літаратурных вартасцей. Многія з гэтых публіцыстычных матэрыялаў сцвярджалі такі спосаб літаратурнага асваення рэчаіснасці, які быў яшчэ недасяжны ў шырокім маштабе беларускай літаратуры, – непасрэдны зварот да жывога, рэальнага жыцця. І хаця гэты зварот быў не мастацкім, а хутчэй публіцыстычным, у якім жыццёвыя з'явы выступалі толькі ў якасці ілюстрацыі ў сістэме доказаў пэўнай палітычнай ідэі і прапагандысцкай ісціны, хаця публіцыстыка К. Каліноўскага не магла непасрэдна ўплываць на літаратурны працэс таго часу з-за яе забароны, усё ж прэцэдэнт выяўлення свядомасці народа менавіта ў такой форме адбыўся, і гэта не магло не аказаць уплыву – няхай нават аддаленага – на развіццё нацыянальнай літаратуры. Форма публіцыстычнага закліку ў будучым трывала ўвойдзе ў арсенал паэтычных сродкаў беларускіх пісьменнікаў. А вось у вершы "Марыська чарнабрыва, галубка мая" чутны новыя для айчыннай літаратуры матывы, што сведчылі аб новым узроўні ўвасаблення нацыянальнай ідэі. Нельга не пагадзіцца з думкай даследчыкаў, што Марыся ў гэтым паэтычным творы – абагульнены вобраз Беларусі. Нават калі К.Каліноўскі меў на ўвазе канкрэтнага чалавека, жанчыну, то ў вершы яе вобраз усё роўна ператвараецца ў сімвал Бацькаўшчыны.

Пасля падаўлення паўстання 1863 г. і наступлення рэакцыі развіццё нацыянальнай літаратуры рэзка запаволілася. У віхуры рэпрэсій народ згубіў лепшых прадстаўнікоў сваёй інтэлігенцыі. Культурныя традыцыі, калі не абарваліся канчаткова, то здавалася – вось-вось гатовы былі абарвацца. Але спыніць развіццё культуры немагчыма. Народ беражліва захоўваў і развіваў яе лепшыя традыцыі.

Вытокі нацыянальнай традыцыі беларускай літаратуры XIX ст. бяруць свой пачатак перш-наперш у вопыце мастацкай творчасці на беларускай мове папярэдняга часу, а таксама ў шырокім звароце да фальклорнай спадчыны. Аднак у новых гістарычных умовах, калі літаратура павінна была выяўляць агульнанародныя інтарэсы і адлюстроўваць задачы нацыянальна-вызваленчага руху, апора на вусную народную творчасць хоць і была неабходнай, паколькі давала ёй адчуванне народнай душы, але ўжо недастатковай, каб узняць асаблівасць яе нацыянальнага мыслення на ўзровень глыбока філасофскага адлюстравання жывых і шчырых імкненняў душы да свабоды.

Якія ж фактары вызначалі ўзнікненне своеасаблівых рыс у нацыянальным развіцці айчыннай літаратуры? Перш за ўсё гэта фактары грамадскія, сацыяльныя, цесна звязаныя з лёсам народа, са спецыфічнымі гістарычнымі ўмовамі, у якіх ён апынуўся. Імкнучыся развіваць сваю культуру ў нацыянальным рэчышчы, беларускі народ не меў для гэтага вялікіх нацыянальна свядомых сіл у асяроддзі мясцовай інтэлігенцыі, большая частка якой на працягу дзесяцігоддзяў дэнацыяналізавалася. Высокаадукаваную, творча здатную, нацыянальна свядомую і глыбока адданую яго інтарэсам інтэлігенцыю ён павінен быў стварыць нанава. Галоўнай крыніцай такой інтэлігенцыі ў тых гістарычных умовах былі прадстаўнікі працоўных, у першую чаргу сялянства – самага адсталага і малаадукаванага пласта, што падымаўся на барацьбу за сваё вызваленне. Новая інтэлігенцыя, якая паходзіла пераважна з сялянскага асяроддзя, лічыла яго "сваім" і менавіта на сялян ускладала свае надзеі на пераўтварэнне Бацькаўшчыны. Імкнучыся да ўздыму агульнакультурнага ўзроўню сельскага жыхара, беларуская літаратура непрымірыма ставілася да адсталых архаічных рыс у яго характары, якія перашкаджалі яго духоўнаму абуджэнню і разам з тым уважліва сачыла за найменшымі праблескамі высокіх імкненняў яго душы. У канцы XIX ст., калі ішоў працэс афармлення нацыянальнага характару айчыннай літаратуры, не было іншай славянскай літаратуры, якая імкнулася б раскрыць унутраны свет селяніна з такой абвостранай зацікаўленасцю яго духоўнымі патэнцыямі, канкрэтнымі бакамі жыцця. Постаць селяніна становіцца вобразам народа – і ў гэтым своеасаблівасць нацыянальнай літаратуры. Праз душу селяніна яна шукала ў лепшых сваіх творах сучасны ёй ідэал чалавека ва ўсіх сферах яго быцця.

У літаратуры кожнага народа, калі складваецца яе нацыянальнае аблічча, назіраецца асаблівае, паэтычнае стаўленне да ўсяго мясцовага, народнага. Гэта было характэрна і для В. Дуніна-Марцінкевіча, творчасць якога храналагічна ахоплівае парэформеннае дзесяцігоддзе. У пісьменніка практычна няма твораў, у якіх не вырашалася б праблема ўнутранай адданасці Бацькаўшчыне як праблема этычная і нават сацыяльная. Паўстанне 1863 г. з'явілася пераломнай падзеяй у яго творчым лёсе. Пісьменнік быў абвінавачаны ў напісанні рэвалюцыйных пракламацый і ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны і да 1870 г. знаходзіўся пад наглядам паліцыі. Для твораў В. Дуніна-Марцінкевіча, створаных у 60–70-х гг., уласцівы крытычны пафас. У п'есах "Пінская шляхта" і "Залёты" выкрываюцца хабарніцтва і самадурства чыноўнікаў, паказваецца пранікненне буржуазных адносін ва ўсе сферы жыцця. Пісьменніку давялося жыць у складаны і жорсткі час, але ён працягваў пісаць, хоць далёка не заўсёды меў магчымасць надрукаваць напісанае. Ужо сам факт карыстання беларускай мовай у той час–грамадзянскі подзвіг, які ўспрымаецца як шчырае імкненне ўзняць свой голас у абарону народа, яго гонару, мовы. Творы В. Дуніна-Марцінкевіча на белару-

скай мове абуджалі нацыянальную свядомасць. Пад яго ўплывам на роднай мове пачало пісаць новае пакаленне айчынных аўтараў, якое ўвайшло ў літаратуру на рубяжы 80–90-х гг.



Ф. Багушэвіч

На літаратурным небасхіле Беларусі другой паловы XIX ст. зорка Ф. Багушэвіча (1840–1900) была адной з самых яркіх. Менавіта ў яго паэзіі ўпершыню ў беларускай літаратуры моцна загучала тэма патрыятызму і нацыянальнай годнасці. Удзельнік паўстання 1863 г., ён толькі ў пачатку 90-х гг. змог выдаць свае кнігі "Дудка беларуская" і "Смык беларускі". У цэнтры ўвагі твораў, што ўвайшлі ў іх, нялёгкае жыццё беларускага селяніна, які быў абрабаваны рэформай 1861 г. і пакутваў ад самавольства суда і царскай адміністрацыі. Аднак Ф. Багушэвіч паказваў не проста прыгнечанага селяніна, а чалавека, які крытычна ўспрымае навакольны свет і пакутвае ад несправядлівасці. Паэт быў упэўнены, што настане дзень, калі "перастанем мы плакаць над сваёй доляй". Ён горача жадаў народу:

Вадзіцы хоць каплю,
Ды такой вадзіцы,
Ды з такой крыніцы,
Што, як хто нап'ецца,
Дык вольным стаецца[1].

У яго паэзіі на ўвесь голас гучалі не толькі сацыяльныя матывы, але і матывы нацыянальнага адраджэння. Ужо ў "Прадмове" да свайго першага паэтычнага зборніка "Дудка беларуская" Ф. Багушэвіч паставіў пытанне аб існаванні беларусаў як этнасу, пісаў аб асаблівасцях гістарычнага лёсу народа, акрэсліў яго межы ў прасторы і часе: "Можа хто спытае: гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Мінск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчак і вёсак..."[2] Ф. Багушэвіч прыйшоў у літаратуру ў цяжкі для беларусаў час, калі без рашаючых змен у сацыяльна-палітычным і духоўным жыцці народа мог пачацца працэс этнічнага самараспаду. Паэт, быццам падслухаўшы спадзяванні свайго народа, вынес іх на суд грамадства: "Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, ды і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя "мужыцкай" завуць, а завецца яна "беларускай". Як было тутэйшаму селяніну не паверыць свайму суайчынніку, які размаўляў на адной з ім мове:" Я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і пераканаўся, што мова наша ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо немецкая, альбо і іншая якая". Паэт перасцерагаў: "Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі"[3].

Ф. Багушэвіч верыў у адраджэнне гістарычнай свядомасці народа. Ён быў адным з першых пісьменнікаў у XIX ст., які выразна ўсвядоміў пераем-

[1] *Багушэвіч Ф.* Творы. Мн., 1991. С.19.

[2] Там жа. С.17.

[3] Там жа.

насць гістарычных і культурных каштоўнасцей Бацькаўшчыны. Разумеючы, што без мінулага няма будучыні, паэт імкнуўся данесці да сваіх чытачоў гістарычныя веды, пазнаёміць іх з галоўнымі вехамі гісторыі Беларусі, звяртаў увагу на шматвяковую беларускую дзяржаўнасць часоў Вялікага княства Літоўскага. Паэтычны вобраз Бацькаўшчыны, якая была цэнтрам гэтай дзяржавы "як тое зярно ў гарэху", сустракаецца ў прадмове да "Дудкі беларускай". Пісьменнік даў сваю, паэтычную, версію паходжання назвы "Белая Русь", падказаную інтуіцыяй мастака і моцным патрыятычным пачуццём: "Не вялікая, не малая, не чырвоная, не чорная яна была, а белая, чыстая: нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася"[1]. Уся творчасць Ф. Багушэвіча была пранізана спачуваннем да народа, ідэямі гуманізму і асветы. Ён бачыў сваю місію ў абуджэнні нацыянальнай годнасці, самапавагі, цікавасці да мінуўшчыны, да духоўнага свету чалавека.

Творчыя прынцыпы Ф. Багушэвіча развілі і дапоўнілі яго сучаснікі і паслядоўнікі – А. Гурыновіч, Я. Лучына.

А.Гурыновіч (1869–1894) як нацыянальны паэт сялянска-дэмакратычнага кірунку пайшоў далей аўтара "Дудкі беларускай". Ён больш рашуча і адкрыта заклікаў да барацьбы з самадзяржаўем. Большасць яго вершаў прысвечана пытанням грамадска-палітычнага жыцця 80–90-х гг. У іх паэт імкнуўся абудзіць народную самасвядомасць, пачуццё ўласнай годнасці. Акрамя чыста грамадзянскай, сацыяльна-палітычнай лірыкі, у А. Гурыновіча ёсць вершы з матывамі філасофскага роздуму аб жыцці чалавека і прыроды, з роздумамі аб уласным лёсе. Паэт быў першым беларускім пісьменнікам, які ў сваёй творчасці звярнуў увагу на рабочых. У вершаваным апавяданні "Фабрыка" ён зрабіў спробу даць аб'ектыўную карціну іх жыцця. Дзякуючы перакладчыцкай дзейнасці А. Гурыновіча на беларускай мове з'явіліся творы А. Пушкіна, М. Някрасава, А. Міцкевіча, А. Ажэшкі, І. Франка. Нягледзячы на параўнальна невялікую творчую спадчыну, А. Гурыновіч увайшоў у гісторыю нацыянальнай літаратуры як адзін з пачынальнікаў грамадзянскай лірыкі.

Свой непаўторны след у айчыннай літаратуры пакінуў і Я. Лучына (І. Неслухоўскі) (1851–1897). Уся яго творчасць прасякнута ідэяй служэння народу. Сваю паэзію сам паэт разглядаў як выразніцу ідэй, настрояў, поглядаў народа. З ім, як адзначаў Я. Лучына, ён "зліўся з добрай волі, чы то ў долі чы ў нядолі"[2]. У асобе паэта беларуская культура мела надзвычай таленавітага дзеяча. Ён пісаў паэмы і вершы, апавяданні і драматургічныя творы, прычым на беларускай, рускай і польскай мовах. Вельмі плённа ён займаўся фалькларыстыкай. Сучаснікі высока цанілі яго дасведчанасць у выяўленчым мастацтве, гісторыі, культуры.

Беларускія вершы Я. Лучыны склалі кнігу "Вязанка", якая ўбачыла свет у Пецярбургу ў 1903 г. Кніга прасякнута шчырым спачуваннем і любоўю да простага селяніна, верай у светлую будучыню Бацькаўшчыны. Невыпадкова ў нацыянальнай літаратуры Я.Лучына ўспрымаецца як глыбока дэмакратычны паэт, які адыграў важную ролю ў паглыбленні лірызму беларускай паэзіі, павышэнні яе інтэлектуальнага ўзроўню.

В.Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, А.Гурыновіч, Я. Лучына – найбольш яркія прадстаўнікі айчыннай літаратуры другой паловы XIX ст. У агульнадэмакратычным рэчышчы развівалася творчасць А. Абуховіча,

[1] *Багушэвіч Ф.* Творы. Мн., 1991. С. 17.

[2] *Лучына Я.* Творы. Мн., 2001. С.160.

Ф. Тапчэўскага і інш. Паэтычная спадчына гэтых аўтараў была, аднак, невялікая.

Сур'ёзнай перашкодай на шляху развіцця айчыннай літаратуры ў другой палове XIX ст. была адсутнасць кнігадрукавання на беларускай мове. Сфера ўжывання роднай мовы, а таксама колькасць публікацый прыкметна павялічылася напярэдадні і ў перыяд паўстання 1863 г. Каб прыцягнуць сялян на свой бок, заручыцца іх падтрымкай, да іх пачалі звяртацца па-беларуску не толькі К.Каліноўскі і яго паплечнікі, але і прадстаўнікі польскіх нацыяналістычных колаў і нават царскія чыноўнікі. У выніку задушэння паўстання 1863 г. рэзка запаволілася культурнае развіццё Беларусі. Царызм жорстка праводзіў у жыццё праграму "канчаткова абвясціць край рускім". На чвэрць стагоддзя (з 1863 па 1889 г.) спынілася беларускае кнігадрукаванне. Адмоўную ролю адыграла забарона ў 1859 г. выкарыстання лацінскай графікі ва ўкраінскай і беларускай мовах. Толькі ў канцы 80-х гг. на старонках "Минского листка", "Календаря Северо-Западного края" з'яўляюцца паэтычныя творы Я. Лучыны, паэма "Тарас на Парнасе", а таксама творы В. Дуніна-Марцінкевіча. У пачатку 90-х гг. убачылі свет і асобныя выданні на беларускай мове (у Расіі – кірылічным шрыфтам, за мяжой – лацінскім). У 1891 г. выйшаў паэтычны зборнік Ф. Багушэвіча "Дудка беларуская", а праз тры гады – "Смык беларускі". У 1891 г. у Маскве быў надрукаваны пераклад апавядання В. Гаршына "Сігнал". Тады ж з'явіліся творы А. Ельскага, М. Косіч, А. Пшчолкі.

**Тэатр**. Рэпрэсіі, якія адбыліся пасля падаўлення паўстання 1863 г., цяжка адбіліся на нацыянальным тэатральным мастацтве. Распараджэннем генерал-губернатара М.Мураўёва былі забаронены сцэнічныя пастаноўкі на польскай мове. Фактычна спыніў сваю дзейнасць малады беларускі тэатр, створаны В. Дуніным-Марцінкевічам у сярэдзіне XIX ст.

Палітыка афіцыйных улад у дачыненні да нацыянальнага тэатра праглядалася ў заяве пераемніка М.Мураўёва, генерал-губернатара Паўночна-Заходняга краю К.фон Кауфмана. У пасланні магілёўскаму губернатару ў красавіку 1866 г. ён пісаў: "Лічу неабходным выказаць Вам сваю думку, што эпітэт "рускі", што даецца Магілёўскаму тэатру, я лічу абсалютна лішнім і пазбаўленым усялякага значэння, паколькі ў даверанай Вам губерні, якая мае рускае насельніцтва, акрамя рускага іншага тэатра быць не можа"[1]. Інакш кажучы, насельніцтва Беларусі было пастаўлена перад фактам існавання толькі рускага тэатра, прычым такога, які сваім рэпертуарам адцягваў бы гледачоў ад пастаноўкі і вырашэння найскладанейшых праблем, што паўсталі перад грамадствам. Аднак жаданне ўлад зрабіць тэатр сродкам прапаганды вернападданніцкіх ідэй натыкалася на супраціўленне дэмакратычна настроенага гледача.

Узмацненне цікавасці грамадства да тэатральнага мастацтва праявілася перш-наперш у развіцці аматарскага тэатра. Настаўнікі, дробныя чыноўнікі, мяшчане стваралі драматычныя гурткі ў гарадах і мястэчках. У парэформенны перыяд яны існавалі ў Горках (1863), у фальварку Ялава (каля Чавусаў) (1867), Рагачове (1868), Навагрудку (1869), Пінску (1876), Барысаве (1882), Слуцку (1882), Клімавічах (1882), Брэсце (1883), Полацку (1883), Слоніме (1884), Лідзе (1884), Бабруйску (1891), Вілейцы (1892), Быхаве (1895), Ашмянах (1897).

Аматарскае мастацтва мела выразна выяўлены дэмакратычны напрамак, што асабліва праявілася ў пастаноўцы п'ес, блізкіх і зразумелых народу.

---

[1] Гісторыя беларускага тэатра: У 3 т. Мн., 1983. Т.1. С.294.

У рэпертуары самадзейных тэатральных калектываў пераважалі творы М. Гогаля, А. Сухаво-Кабыліна, І. Катлярэўскага і асабліва А. Астроўскага. У 1892 г. аматары з Радашковіч зрабілі спробу паставіць без цэнзурнага дазволу на беларускай мове п'есу "Злодзей" Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага). Падрыхтоўка спектакля дайшла да генеральнай рэпетыцыі і ў гэты момант была забаронена ўладамі.

Станоўчы ўплыў на дзейнасць аматарскіх гурткоў аказалі сувязі з рускімі і ўкраінскімі драматычнымі трупамі, якія даволі часта выступалі ў гарадах Беларусі. Асобнае месца сярод іх належала маскоўскаму Маламу тэатру, які моцна паўплываў на развіццё расійскага тэатральнага мастацтва. Сваімі спектаклямі ён, як ніякі іншы, умацоўваў пачуццё пратэсту супраць самадзяржаўнага прыгнёту, рэакцыі, выступаў у абарону чалавечай годнасці. Артысты гэтага тэатра заўсёды былі жаданымі гасцямі ў беларускіх гарадах. Вялікай папулярнасцю ў беларускіх гледачоў карысталася праўдзівае, народнае па сваёй сутнасці мастацтва артыстаў украінскіх тэатраў пад кіраўніцтвам М. Крапіўніцкага і М. Старыцкага[1].

Спектаклі гэтых і іншых калектываў сталі школай высокага акцёрскага майстэрства для многіх беларускіх аматараў. У час гастролей для ўдзелу ў масавых сцэнах запрашаліся мясцовыя самадзейныя артысты, пра што заўсёды з задавальненнем пісаў мясцовы друк.

Сумесная работа з выдатнымі прадстаўнікамі рускага і ўкраінскага тэатра прылучала беларусіх артыстаў да сакрэтаў творчага працэсу і дасягненняў сцэнічнага мастацтва, садзейнічала фарміраванню нацыянальнай тэатральнай культуры.

Аматарскі тэатр Беларусі другой паловы XIX ст. быў той глебай, якая захавала парасткі беларускага прафесійнага тэатра, выпешчаныя В. Дуніным-Марцінкевічам.

**Музыка.** Другая палова XIX ст. была адным з важных перыядаў у развіцці беларускай фалькларыстыкі і музыкі. Менавіта на гэты час прыпадае арганізацыя першых музычных навучальных устаноў у Беларусі, ажыўленне канцэртнага жыцця.

Вялікую ролю ў абуджэнні цікавасці шырокіх пластоў грамадскасці да беларускай народнай песні адыграла дзейнасць Паўночна-Заходняга аддзялення Рускага геаграфічнага таварыства, заснаванага ў 1867 г. Яго члены шмат зрабілі для збірання нацыянальнага музычнага фальклору, іншых этнаграфічных матэрыялаў. Першым зборнікам, што змяшчаў не толькі тэксты народных песень, але і іх напевы, быў трохтомнік П.Шэйна пад назвай, якая адлюстроўвала тагачасную тэрміналогію – "Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края". Гэта праца, што выдавалася ў 1887–1902 гг., уяўляла сабой сапраўдную энцыклапедыю народнага жыцця беларусаў у абрадах і песнях. У ліку нотных запісаў гэтага выдання – "бяседныя" і "дударскія", зробленыя рускім кампазітарам М. Рымскім-Корсакавым з голасу П.Шэйна. У 80–90-я гг. убачылі свет фальклорныя зборнікі: "Белорусские песни Минской губернии" и "Песни белорусские". Аўтарам першага з'яўляўся старшыня маскоўскай музычна-этнаграфічнай камісіі М. Янчук, а другога – А. Чэрня. Цікавасць да беларускай народнай песні праяўлялі ўкраінскія кампазітары С. Гулак-Арцямоўскі і П. Сакальскі, якія ўключылі іх у сваё зборнікі, выдадзеныя ў Кіеве і Пецярбургу.

---

[1] Исторические очерки дружбы и единства украинского и белорусского народов. Киев, 1978.

Да самабытнай песеннай творчасці беларусаў звярталіся такія вядомыя даследчыкі, як П. Шпілеўскі, А. Дабравольскі, П. Бяссонаў. Больш за 300 народных мелодый сабраў і выдаў М. Дзмітрыеў. Дзякуючы падзвіжніцкай дзейнасці навукоўцаў і кампазітараў беларускія народныя песні сталі вядомымі далёка за межамі Беларусі. У выкананні харавой капэлы пад кіраўніцтвам Д. Агранёва-Славянскага яны гучалі ў канцэртных залах Расіі, краін Заходняй Еўропы і Паўночнай Амерыкі. Часта выконваліся беларускія мелодыі і на канцэртах музычна-этнаграфічнай камісіі Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім універсітэце. У іх праграмы ўключаліся харавыя і сольныя апрацоўкі ў суправаджэнні сімфанічнага аркестра, зробленыя дырыжорам М. Кляноўскім. На гэтых канцэртах гучалі беларусія песні ў апрацоўках А. Грачанінава, М. Янчука, А. Маслава. Музычны фальклор беларускага народа выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці вядомыя рускія кампазітары М. Рымскі-Корсакаў, М. Мусаргскі, А. Глазуноў, М. Іпалітаў-Іваноў і інш.

На музычнае жыццё Беларусі істотна паўплывала Рускае музычнае таварыства, створанае ў 1859 г. у Пецярбургу. Яно наладжвала сімфанічныя і камерныя канцэрты не толькі ў сталіцах, але і ў перыферыйных гарадах, у тым ліку і беларускіх, шырока папулярызавала творчасць рускіх і заходніх кампазітараў. Прыкметную ролю ў гэтым працэсе адыгралі літаратурна-музычныя гурткі і таварыствы аматараў прыгожых мастацтваў, якія ствараліся ў апошняй чвэрці XIX ст. Яны былі закліканы "служыць збліжэнню мясцовых дзеячаў у галіне літаратуры і мастацтва, а таксама садзейнічаць развіццю і распаўсюджванню літаратуры, адукацыі і мастацтва сярод насельніцтва". У 1880–1892 гг. падобныя арганізацыі функцыяніравалі ў Мінку, Гродне, Віцебску, Полацку, Брэсце, Бабруйску. У спецыяльных класах гэтых гурткоў іх члены навучаліся ігры на фартэпіяна і скрыпцы.

Першая спецыяльная музычная школа ў Беларусі адкрылася ў Мінску ў 1894 г. У культурным жыцці краю другой паловы XIX ст. прыкметную ролю іграла Мінскае вучылішча арганістаў, заснаванае ў 1871 г. Па свайму профілю гэта была адзіная такога тыпу навучальная ўстанова. За 26 гадоў яна падрыхтавала сотні музыкантаў, якія займаліся педагагічнай дзейнасцю ў розных кутках Беларусі[1].

Важную ролю ў прапагандзе дасягненняў сусветнай музычнай культуры, станаўленні нацыянальнай выканальніцкай і кампазітарскай інтэлігенцыі, удасканальванні яе майстэрства адыгралі гастролі знакамітых музыкантаў. У мясцовым друку нярэдка паведамлялася аб паспяховых выступленнях хора вядомага збіральніка народных песень Д. Агранёва-Славянскага і скрыпача П. Сарасатэ, выдатнага кампазітара і піяніста С. Рахманінава і спевака Ф. Шаляпіна, аркестра рускіх народных інструментаў пад кіраўніцтвам Андрэева і іншых славутых выканаўцаў. Высокае майстэрства, выдатныя ўзоры сусветнага музычнага мастацтва – усё гэта садзейнічала творчаму росту маладых беларускіх музыкантаў. У гэты час з'яўляюцца інструментальныя і вакальныя творы мясцовых аўтараў. Напрыклад, Ф. Міладоўскі, вучань Ф. Мендэльсона, выдаў у Мінску "Паланез" для фартэпіяна ў чатыры рукі, зборнік песень, урыўкі з аперэты "Канкурэнты" (лібрэта беларускіх драматургаў). Кампазітар і скрыпач М. Ельскі з'яўляўся аўтарам некалькіх інструментальных мініяцюр. Як збіральнік народных песень і танцаў ён апублікаваў мемуары аб музычным побыце беларускага народа. М. Ельскі з поспехам канцэртаваў не толькі на Бацькаўшчыне але і ў

[1] *Масленікава В.Н.* Музычная адукацыя ў Беларусі. Мн., 1980. С.22–24.

Кракаве, Франкфурце-на-Майне. У апошняй чвэрці XIX ст. у Беларусі шырокае прызнанне атрымала творчасць гродзенскага кампазітара і арганіста І. Глінскага – аўтара інструментальных і вакальных твораў. У самым канцы стагоддзя пачаўся творчы шлях у музыцы выдатных беларускіх кампазітараў М. Чуркіна і В. Залатарова.

Дзякуючы дзейнасці музычных навучальных устаноў, літаратурна-музычных таварыстваў, гастролям вядомых выканаўцаў да канца XIX ст. у Беларусі быў дасягнуты пэўны узровень музычна-эстэтычнай прапаганды. Непарыўная ўзаемасувязь музычнай адукацыі і культуры, іх паступальнае развіццё, барацьба перадавых дзеячаў за сцвярджэнне нацыянальнай мастацкай культуры садзейнічалі фарміраванню дэмакратычных прынцыпаў у беларускай музыцы, якія яскрава праявіліся ў пачатку XX ст.

**Выяўленчае мастацтва.** Працэс станаўлення нацыянальнага мастацтва ў другой палове XIX ст. праходзіў з пэўнымі цяжкасцямі. Беларускія мастакі з розных прычын, і перш за ўсё з-за рэпрэсій пасля падаўлення паўстання 1863 г., аказаліся раскіданымі па свеце, што з'явілася істотнай перашкодай для стварэння мастацкай школы. З аднаго боку, жорсткія рэпрэсіі, а з другога – адсутнасць магчымасці атрымліваць заказы на Бацькаўшчыне прымушалі шукаць заработак на чужыне. Творчасць гэтых майстроў, цесна звязаная глыбокімі каранямі з беларускай зямлёй, увайшла ў гісторыю мастацтва суседніх народаў.

У другой палове XIX ст. у Беларусі не было мастацкіх навучальных устаноў. Спецыяльную адукацыю мясцовая моладзь атрымлівала ў Пецярбургу, Маскве, Кіеве, Адэсе. Прыкметную ролю ў развіцці нацыянальнага выяўленчага мастацтва адыграла Віленская рысавальная школа, заснаваная ў 1886 г. У ёй атрымалі першапачатковую мастацкую падрыхтоўку многія беларускія мастакі, у тым ліку Л. Альпяровіч, Э. Паўловіч, Б. Тамашэвіч і інш. Выхаванцы школы нярэдка працягвалі навучанне ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. Выпускнікі апошняй выкладалі ў мясцовых гімназіях. Фарміраванню мастацкай культуры беларускага народа садзейнічалі адкрыццё ў губернскіх цэнтрах музеяў археалагічных старажытнасцей, а таксама збіральніцкая дзейнасць беларускіх мецэнатаў. Напрыклад, у маёнтках Пуслоўскіх у Слоніме, графа Храптовіча ў Шчорсах, Слізеня ў Бортніках (каля Навагрудка) былі вялікія зборы жывапісу, скульптуры і графікі.

Агульная лінія развіцця нацыянальнага выяўленчага мастацтва характарызавалася хуткім вызваленнем ад умоўнасцей класіцызму, рамантызму і нарастаннем рыс рэалізму.

Прыкметнай фігурай сярод беларускіх жывапісцаў быў ураджэнец Гродзеншчыны К. Альхімовіч (1840–1916). З яго іменем звязана развіццё гістарычнага жанру ў выяўленчым мастацтве. Удзельнік паўстання 1863 г., ён быў высланы ў Сібір, а пасля амністыі ў пачатку 70-х гг. пасяліўся ў Варшаве. Тут мастаком быў створаны шэраг палотнаў на гістарычныя тэмы. Сярод іх найбольшую вядомасць атрымала "Пахаванне Гедыміна". Гэта карціна атрымала вышэйшыя ўзнагароды на выставах у Пецярбургу, Львове, Сан-Францыска. У многіх яго творах закраналася тэма некалі існуючай у Беларусі язычніцкай веры. Усе яны сведчылі аб цікавасці мастака да айчыннай гісторыі і былі прасякнуты патрыятычным пачуццём. У канцы 80-х гг. К. Альхімовіч таксама стварыў некалькі значных палотнаў: "Смерць Міхаіла Глінскага ў турме", "Рыхтаванне да пакарання смерцю Самуіла Збароўскага". З'яўленне гэтых карцін было своеасаблівым адказам на рэпрэсіі расійскіх улад супраць удзельнікаў паўстання 1863 г. У іх ушанаваны подзвігі герояў, якія змагаліся за незалежнасць[1].

[1] *Дробов Л.Н.* Живопись Белоруссии XIX – начала XX в. Мн., 1974. С.152–155.

Вялікую цікавасць да гісторыі Вялікага княства Літоўскага праяўляў і іншы знакаміты майстар жывапісу – Ф. Дмахоўскі (1859–?). Сын сасланага ў Сібір удзельніка паўстання 1863 г., выхаванец Варшаўскай рысавальнай школы і Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, ён выдатна ведаў геральдыку. Мастаку належаць выявы гербаў Полацка і Віцебска. З яго творчай спадчыны вядомы кампазіцыйныя партрэты беларуска-літоўскіх князёў, выкананыя ў тэхніцы літаграфіі. Кампазіцыя гэтых работ, іх малюнак дазваляюць лічыць, што яны былі падрыхтоўчым матэрыялам для вялікіх гістарычных палотнаў.

Звяртаючыся да мінуўшчыны Бацькаўшчыны, беларускія мастакі кіраваліся патрыятычнымі імкненнямі. Тэмай для іх выяўлення майстры пэндзля выбіралі не сучаснае ім жыццё, а сюжэты з далёкай мінуўшчыны. І гэта невыпадкова. Ва ўмовах самадзяржаўя яны маглі выказаць свае погляды і пачуцці толькі праз гераічныя вобразы мінулага.

У беларускім жывапісе другой паловы XIX ст. важнае месца займае пейзаж. Выдатным прадстаўніком гэтага жанру быў А. Гараўскі (1833–1900). Значную ролю ў яго творчым лёсе адыграў сусветна вядомы мастак і архітэктар М. Бенуа, які заўважыў талент беларускага юнака і дапамог падрыхтавацца да паступлення ў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Ужо першы пейзаж, створаны студэнтам А. Гараўскім, – "Балоты" прыцягнуў увагу членаў акадэмічнай рады, а царскі наследнік набыў яго для сваёй калекцыі. Шэраг студэнцкіх работ маладога майстра быў адзначаны залатымі і срэбнымі медалямі. Усе найбольш значныя карціны, якія атрымалі ўсеагульнае прызнанне, былі створаны на роднай Міншчыне. Да іх ліку належаць "Бераг ракі Свіслач", "Ліпы", "У наваколлі крэпасці Бабруйск", "На Бацькаўшчыне", "Вечар у Мінскай губерні". Усё сваё жыццё мастак быў палымяным патрыётам Беларусі. Ён ніколі не губляў сувязей з Бацькаўшчынай, шанаваў культуру, звычаі і мову народа.

Нягледзячы на тое што ў другой палове XIX ст. вядучым жанрам у выяўленчым мастацтве быў бытавы жывапіс, які па багаццю выразных сродкаў меў больш магчымасцей для рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці, мастакі ўсё часцей звяртаюцца да партрэта. Глыбокія сацыяльныя зрухі, уласцівыя парэформеннаму перыяду, адбіліся на развіцці гэтага жанру. У адрозненне ад пачатку XIX ст. партрэт перастаў быць сродкам узвялічвання. Мастакі імкнуліся раскрыць псіхалогію і характар чалавека. Сярод майстроў гэтага жанру асабліва вылучаецца Н. Сілівановіч (1834–1919). Выхаванец Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, ён ніколі не парываў з Бацькаўшчынай, хоць у выніку абставін падоўгу жыў у сталіцы імперыі і ў Вільні. Як прафесар Акадэміі мастацтваў ён часта прыязджаў у родную вёску Цынцавічы, што на Вілейшчыне, дзе і пісаў свае эцюды і партрэты. Адным з лепшых твораў мастака з'яўляецца партрэт"Пастух".У ім ён выступіў як майстар псіхалагічнага партрэта. У пачатку 70-х гг. яго запрасілі ўдзельнічаць у афармленні Ісаакіеўскага сабора ў Пецярбургу. Разам з мастаком І. Лаверэцкім ён выканаў у выглядзе мазаічнага пано кампазіцыю "Тайная вячэра" для галоўнага іканастаса, за што ў 1876 г. атрымаў званне акадэміка.

Паўстанне 1863 г., распаўсюджванне дэмакратычных ідэй у грамадстве аказалі пэўны ўплыў і на графічны жанр. Беларускія мастакі-графікі ў сваёй большасці былі выхадцамі з сялян і бедных пластоў гарадскога насельніцтва і таму ў сваіх творах адлюстроўвалі цяжкае жыццё селяніна, яго беднасць і галечу. Многія з гэтых мастакоў працавалі настаўнікамі малявання ў мясцовых гімназіях. Найбольш вядомымі з гэтай кагорты майстроў графікі былі

Р. Гаўрылаў, С. Кудраўцаў, П. Баркоўскі. Прыкметны след у беларускім выяўленчым мастацтве пакінуў Д. Струкаў. Ён пісаў акварэллю помнікі культуры і архітэктуры, мастацкія вырабы, краявіды гарадоў і гістарычных месц. Многія помнікі айчыннай культуры, замаляваныя ім, з цягам часу зніклі. Дзякуючы яго графічным творам мы маем магчымасць вывучаць дасягненні культуры нашага народа. Д. Струкаў з'яўляецца аўтарам малюнкаў славутага "Крыжа Еўфрасінні Полацкай" (XII ст.), шытага золатам пакрывала – апраравы "Евангелля" 1508 г. з Віцебска, срэбнага крыжа з Благавешчанскай царквы Віцебска, абраза Багародзіцы з Багаяўленскага храма ў Магілёве. Вялікую каштоўнасць уяўляюць яго акварэлі Полацка, Оршы, Рагачова, Магілёва і Віцебска.

Жыццё беларускага народа, краявіды гарадоў, помнікі архітэктуры знайшлі адлюстраванне ў творах Э. Паўловіча, М. Кулеша.

Гаворачы пра нацыянальнае выяўленчае мастацтва другой паловы XIX ст., нельга не адзначыць, што яно развівалася ў цеснай сувязі з мастацтвам суседніх народаў. Менавіта ў гэты час умацоўваюцца і пашыраюцца кантакты майстроў пэндзля Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы і Літвы. На працягу некалькіх гадоў у Здраўневе, што пад Віцебскам, працаваў І. Рэпін. Тут ім былі створаны такія шэдэўры, як "Беларус", "Восеньскі букет". Эцюды, напісаныя ў Белавежскай пушчы, паспяхова выкарыстоўваў пры стварэнні сваіх карцін І. Шышкін. Беларусь, яе людзі натхнялі і вядомага ўкраінскага жывапісца І. Пахітонава, які стварыў серыю цудоўных пейзажных работ у маёнтку Жабаўшчызна, што знаходзіўся ў наваколлі Мінска. Цесна звязана з беларускай зямлёй і ранняя творчасць польскага мастака Ю. Фалата.

У 90-я гг. назіраецца ўздым мастацкага жыцця, ствараюцца прыватныя мастацкія школы – Ю.Пэна ў Віцебску, Я. Каца нбогена ў Мінску, наладжваюцца першыя выставы ў Віцебску (1890), Мінску (1891). На гэты час прыпадае пачатак дзейнасці новага пакалення беларускіх мастакоў – Ю. Пэна, Я. Кругера, Ф. Рушчыца, В. Бялыніцкага-Бірулі і інш. Іх творчасць і хаиалагічна, і па характару творчых пошукаў звязана з наступным, XX ст.

## 3. Побыт. Ахова здароўя

**Санітарнае становішча.** Здароўе народа, узровень яго захворванняў і смяротнасці ў значнай ступені залежаць ад многіх сацыяльных фактараў, у тым ліку санітарна-гігіенічных умоў працы і жылля, структуры харчавання, якасці вопраткі і г.д. У другой палове XIX ст., нягледзячы на пэўныя станоўчыя зрухі, сацыяльныя фактары жыцця для большасці насельніцтва заставаліся нездавальняючымі.

У цяжкіх, неспрыяльных для здароўя ўмовах жыло беларускае сялянства. Аб гэтым сведчаць справаздачы павятовых і сельскіх дактароў, шматлікі этнаграфічны матэрыял, перыядычны друк. Так, Аршанскі павятовы ўрач у 1881 г. адзначаў: "Адносна ладу жыцця сялянскага насельніцтва, то ён ва ўсіх адносінах не адпавядае патрабаванням гігіены, жыве яно ў цесных, дрэнна асветленых, сырых хатах, у якіх заўсёды поўна дыму, рэдка ў якой хаце маецца драўляная падлога; у зімні час у цесную хату, дзе месціцца шматлікае сямейства, уносяцца цяляты, ягняты, корміцца свінні, ад чаго гліняная падлога, асабліва каля дзвярэй, ператвараецца ў бруд..., такое не сустракаецца толькі ў вельмі заможных сялян, але такіх мала"[1]. Такое непажаданае суседства чалавека, хатніх птушак і жывёл у халодную пару года,

[1] РДГА, ф.1297, воп.279, спр.73, арк.124.

наяўнасць у вёсцы невялікіх з маленькімі акенцамі, курных без падлогі хат адзначаліся гомельскім, ігуменскім, магілёўскім, клімавіцкім, пінскім і іншымі павятовымі ўрачамі[1].

Характарызуючы побыт сялян Гродзенскай губерні, газета "Минский листок" у 1892 г. пісала: "Сялянскія хаты ў большасці курныя, г. зн. без комінаў, маюць вельмі ўбогі выгляд як звонку, так і ў сярэдзіне; сырая земляная падлога, закураныя сцены, бруд, сціплая маёмасць робяць цяжкае ўражанне на новага чалавека"[2]. Паводле меркаванняў М.Нікіфароўскага, у 80-я гг. XIX ст. на Віцебшчыне толькі трэць сялянскіх хат мела драўляную падлогу, у астатніх падлогай служыў дол, які ўзімку звычайна ўцяпляўся саломай[3].

Большасць хат не мела падмурку, а ніжняй больш тоўстай падрубай ставілася прама на зямлю. Не было і ложкаў, іх замянялі драўляныя нары, вышэй якіх знаходзіліся палаці. У такіх умовах жылі не толькі бяднейшыя, але і сем'і сярэдняга дастатку. Вось як апісваецца жыллё сярэдняга беларускага селяніна: "Пабудова ўся драўляная, без падмурку, прама на зямлі. Дах саламяны або з дранак. Падлогі ў сярэдзіне няма: яе замяняе зямля ..., ложкаў зусім няма: іх замяняюць або земляная падлога, або спецыяльны памост паміж печчу і сцяной аршыны на два ад зямлі, а над імі палаці. Асвятляецца хата вельмі слаба: больш двух вакон з шасці малюсенькіх шкельцаў у хаце бывае рэдка..."[4].

Санітарныя ўмовы ў гарадах у многім былі яшчэ горшымі. Толькі цэнтры губернскіх гарадоў былі забрукаваныя, мелі асвятленне. Рэзкі кантраст назіраўся на гарадскіх ускраінах, дзе жыў рабочы люд – мяшчане, рамеснікі, фабрычныя рабочыя, гандляры. Як сведчыць І.Галынец, большасць вуліц Магілёва былі вузкімі, без тратуараў, заўсёды мелі брудны выгляд, а вясной і восенню па іх цяжка было прабірацца[5]. Бруднымі, без уселякай зеляніны ўбачыў у канцы XIX ст. вуліцы рабочых кварталаў Пінска журналіст І.Хораш. У непагадзь яны станавіліся непраходнымі. Паабапал вуліц стаялі трухлявыя, ледзь прыкметныя, напалову гнілыя хаціны[6].

Пастаяннай крыніцай інфекцыі былі гарадскія двары. Іх нездавальняючы санітарны стан неаднаразова падкрэсліваўся чыноўнікамі розных рангаў. Прычыны таму – адсутнасць каналізацыі, ад чаго вельмі пакутавалі гараджане. Смецце, памыі і іншыя адходы чалавечай дзейнасці зносіліся ў дваравыя ямы або выліваліся прама на вуліцу. Цэнтралізаванага і своечасовага вывазу нечыстот не існавала. У гарадскіх дварах у цёплую пару года заўсёды віўся рой мух і стаяў непрыемны пах. У Мінску пытанне аб каналізацыі ставілі перад гарадскімі ўладамі члены таварыства мінскіх урачоў, але бюджэт горада не дазваляў здзейсніць праект.

Не адпавядала санітарным нормам вада, якой карысталіся гараджане. У 1899 г. толькі ў чатырох гарадах Беларусі (Гродна, Віцебск, Мінск,

---

[1] РДГА, ф.1297, воп.277, спр.105, арк.176; воп.278, спр.71, арк.184, 223; воп.279, спр.73, арк.157; воп.280, спр.122, арк.182; НГАБ, ф.502, воп.1, спр.1, арк.17, 32.

[2] Белоруссия в эпоху капитализма: Сб. документов. Мн., 1987. Т. I. С.188.

[3] *Никифоровский Н.Я.* Очерки простонародного житья-бытья в Витебской губернии. Витебск, 1895. С.230.

[4] *Руднев Я.И.* Русская земля (природа, страны, население и его промыслы). СПб., 1899. Т.7. С.160–161.

[5] *Голынец Л.И.* К изучению в медико-топографическом и статистическом отношении губернского города Могилева. СПб., 1887. С.15.

[6] *Иванов В.М.* Очерк быта промышленных рабочих дореволюционной Белоруссии. Мн., 1971. С.68.

Магілёў) меліся вадаправоды[1]. Першы вадаправод з'явіўся ў Мінску. Ён быў запушчаны ў 1873 г., а праз тры гады – у Гродне[2]. Аднак яны былі маламагутныя і маглі забяспечваць вадой толькі невялікую частку жыхароў, якія пражывалі ў цэнтры. Так, мінскі вадаправод меў працягласць 16 км, астатнія – і таго менш. У 1904 г. вадаправоды ўжо дзейнічалі ў 9 гарадах[3]. Большасць з іх падавалі ваду з бліжэйшых вадаёмаў без папярэдняга фільтравання і ачысткі. Асноўная маса гараджан карысталася вадой з калодзежаў і рэк, якія ўвесь час забруджваліся. Мінскі санітарны ўрач П. Грацыянаў адзначаў, што "па тых вуліцах, дамы якіх забяспечаны вадой... шырокім патокам цякуць брудныя воды з кухонных ракавін і ваннаў, накіраваныя прама ў раку"[4]. Сюды ж часта сцякалі нечыстоты, жыхары мылі бялізну, скуру жывёл. Пробы вады з ракі Свіслач, якія былі ўзяты ў 1893 г. у пяці месцах горада Мінска, паказалі наяўнасць аміяку, кіслот, арганічных рэчываў жывёльнага паходжання[5]. Такую ваду нельга было ўжываць, але недахоп калодзежаў вымушаў гэта рабіць, што часта прыводзіла да захворвання на брушны тыф, дызентэрыю, халеру.

Рост гарадскога насельніцтва, як у выніку міграцыі, так і натуральнага прыросту, прыводзіў да абвастрэння жыллёвага пытання. Расшырыць сваю жылплошчу маглі толькі заможныя мяшчане, купцы, чыноўнікі. Звычайна шматлікія сем'і большасці гараджан вымушаны былі месціцца ў маленькіх кватэрах, якія далёка не адпавядалі санітарным нормам плошчы і паветра.

Жыллёвы крызіс найбольш цяжка адбіўся на жыллёва-бытавых умовах рабочых. Толькі патомныя, больш кваліфікаваныя рабочыя мелі прыватнае жыллё. Індывідуальныя дамы рабочых нічым не адрозніваліся ад сялянскіх хат і звычайна мелі два невялікія пакоі. На ўскраінах гарадоў узнікалі цэлыя рабочыя пасёлкі, забудова якіх была хаатычнай і скучанай. Іх знешні выгляд, як і ўнутраны стан памяшканняў, былі непрывабнымі. Так, пасёлак чыгуначнікаў станцыі Лунінец стаяў у балоцістай мясцовасці, вуліцы не асвятляліся, дамы былі збудаваны з дрэннага лесу. Індывідуальныя дамы чыгуначнікаў Маладзечна не мелі цёплых падлог, памяшканні былі цеснымі[6].

Па стану на 1897 г. з 49 тыс. рабочых Беларусі, якія былі ўлічаны афіцыйнай статыстыкай, 26 % пражывалі на кватэрах прадпрымальнікаў[7]. Найбольш тыповым відам казённага жылля былі казармы і баракі, у якіх колькасць жыльцоў заўсёды ў два-тры разы перавышала санітарную норму. Казармы для сямейных рабочых падзяляліся на маленькія пакоі ў 4 кв. сажні. Часам у такі пакой засялялася дзве сям'і. Радзей сям'я займала два пакоі – 4 і 3 кв. сажні"[8].

Большасць рабочых здымала жыллё ў розных прыватных асоб. Улічваючы, што плата за жыллё была высокай і ўвесь час павышалася, здымаць прыходзілася больш танныя памяшканні – падвалы, паўпадвалы, проста

---

[1] НГАБ, ф.502, воп.1, спр.30, арк.2, 4, 26, 38.

[2] *Игнатович Ф.И.* Санитарно-эпидемиологическое состояние Гродненской губернии второй половины XIX – начала XX века // Здравоохранение Белоруссии. 1971. №9. С.78.

[3] *Иванов В.М.* Очерк быта промышленных рабочих дореволюционной Белоруссии. С.61.

[4] НГАБ, ф.502, воп.1, спр.30, арк.38.

[5] НГАБ, ф.502, воп.1, спр.23, арк.49.

[6] *Бараноўскі Л.С.* Жыллёвыя ўмовы чыгуначных рабочых Беларусі канца XIX – пачатку XX ст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1976. №4. С.114.

[7] История рабочего класса Белоруссии. Мн., 1984. Т.I. С.81.

[8] *Бараноўскі Л.С.* Жыллёвыя ўмовы чыгуначных рабочых Беларусі канца XIX – пачатку XX ст. С.112.

вуглы ці нават ложкі. Частка рабочых з невялікімі даходамі ўвогуле не мела магчымасці зняць хоць нейкае жыллё. Многія з іх начавалі на гарышчах, у хлявах гаспадароў ці проста пад адкрытым небам. Гэта сумная рэчаіснасць вымусіла ўлады буйных гарадоў адкрываць начлежныя дамы. Аднак з-за сваёй антысанітарыі і цеснаты папулярнасці сярод рабочых яны не атрымалі[1].

Ліберальны друк таго часу назваў гарадскія рабочыя ўскраіны лачугамі і трушчобамі. Апісваючы жыллё такіх кварталаў, газета "Минский листок" адзначала: 'Сцены і столь ушпіляны ўзорамі цвілі і сырасці. І ў гэтых пакоях у кожным з іх жывымі пахавана душ пяць-шэсць; днём брудная вуліца, ноччу сыры падвал – вось так праходзіць жыццё"[2]. У другім месцы тая ж газета пісала: "У выключна цесных, брудных, душных і смярдзючых пакойчыках месціцца па 2–3 сямействы, кожнае з якіх складаецца звычайна з 5–6, а часам і болей дамачадцаў". Рабочыя кварталы Мінска з жахам былі названы светам "адрынутых, прыніжаных і зняважаных"[3].

Тыя ж жудасныя жыллёвыя ўмовы былі і ў батракоў, падзённых і сельскагаспадарчых рабочых. Халастыя жылі ў перапоўненых казармах, сямейныя – "у цёмных і сырых прыбудовах да гаспадарскага дома"[4].

Пакінуўшы сваё жыллё, рабочы накіроўваўся на працу, дзе яго чакалі звычайна жудасныя, нечалавечыя ўмовы. Многія прадпрыемствы займалі сырыя, цесныя, непрыстасаваныя для вытворчасці памяшканні. Сярод іх Брэсцкая гільзавая фабрыка, Гродзенская тытунёвая фабрыка "Прагрэс"і інш. З-за дрэннай вентыляцыі на запалкавых вытворчасцях рабочым увесь час прыходзілася дыхаць парамі фосфару. Паветра друкарняў і ганчарных заводаў было прапітана свінцом, тэкстыльных фабрык – парамі розных раствораў і фарбаў. Атруты свінцом былі нярэдкай з'явай сярод ганчароў[5]. У надзвычай шкодных умовах вымушаны былі працаваць гарбары, асабліва тыя, хто займаўся першаснай апрацоўкай скур. Частай з'явай тут было заражэнне сібірскай язвай. Вось як апісваў перыядычны друк таго часу ўмовы працы і стан здароўя гарбароў Смаргоні: "Самыя ўмовы працы нязносныя ... Паветра заўсёды атручана, пастаянная сырасць – усё гэта ператварае рабочых у калек: чахотка і рэўматызм– пастаянныя хваробы гарбароў. Уплыў шкодных умоў працы настолькі моцны, што сярод гарбароў няма рабочых старэй за 40 гадоў"[6].

У неверагодна цяжкіх і шкодных умовах працавалі рабочыя бровараў, раскіданых па ўсёй Беларусі. Рэзкія перапады тэмпературы, скразнякі, дрэннае абсталяванне прыводзілі да розных няшчасных выпадкаў, хранічных захворванняў органаў дыхання, радыкулітаў, рэўматызму. Не вытрымліваючы, многія рабочыя, не патрабуючы нават разліку, назаўсёды пакідалі свае рабочыя месцы[7].

Не лепшымі былі ўмовы працы і рамеснікаў. Сярод іх было шмат дзяцей і падлеткаў. Цесната і антысанітарыя большасці майстэрняў, цяжкае, атру-

---

[1] *Иванов В.М.* Очерк быта промышленных рабочих дореволюционной Белоруссии. С. 65, 66.

[2] Минский листок, 1900. №39.

[3] *Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг. С.46.

[4] История рабочего класса Белоруссии. Т1. С.90.

[5] НГАБ. ф.502, воп.1, спр.22, арк.3.

[6] История рабочего класса Белоруссии. Т.1. С.76.

[7] *Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг. С.39, 40.

чанае пылам і рознымі шкоднымі рэчывамі паветра заўчасна падрывала іх здароўе[1].

Такім чынам, умовы жылля і працы абсалютнай большасці насельніцтва не адпавядалі элементарным нормам гігіены і санітарыі, таму былі спрыяльным асяроддзем для з'яўлення розных інфекцый і хранічных хвароб.

**Эпідэміі.** Як сведчыць медыцынская статыстыка, на працягу другой паловы XIX ст. эпідэмічныя хваробы былі распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі Беларусі, яны змянялі адна адну ў залежнасці ад пораў года і прыкладна ў аднолькавай ступені паражалі як гараджан, так і сельскіх жыхароў. Часцяком з-за большай шчыльнасці гарадскога насельніцтва ўдзельная вага ахопленых эпідэміяй у гарадах была значна большай. Зніжэння колькасці захварэўшых на адзёр, воспу, дыфтэрыю, скарлатыну, тыф, каклюш, дызентэрыю, сібірскую язву і іншыя інфекцыйныя хваробы, а таксама смяротных выпадкаў ад іх у дадзены перыяд не назіралася. У 60 – 80-я гг. XIX ст. з-за недахопу медперсаналу, перш за ўсё ў вёсках, многія хворыя не маглі стаць пацыентамі ўрачоў і фельчараў, а значыць, і не былі ўлічанымі. З расшырэннем сеткі медычных устаноў і павелічэннем медперсаналу дыягностыка і ўлік эпідэмій сталі больш поўнымі і дакладнымі.

У 1861 г., паводле няпоўных даных мінскай урачэбнай управы, у Барысаўскім, Слуцкім, Ігуменскім і Пінскім паветах назіраліся круп, каклюш, адзёр, дызентэрыя. Хварэлі 1447 чалавек, з іх 225 (15,5 %) памерлі[2]. Для паўднёвых, больш нізкіх і балоцістых паветаў Беларусі – Пінскага, Рэчыцкага і Мазырскага – акрамя вышэйназваных характэрнымі хваробамі былі каўтун, малярыя і ліхаманка.

Згодна даных медыцынскага дэпартамента за 1863 г., у пяці заходніх губернях інфекцыйныя хваробы напаткалі 10 908 чалавек, з іх памерлі 1302 (11,9 %)[3]. Найбольшая смяротнасць, як і ў іншыя гады, назіралася ад скарлатыны, якая была характэрна пераважна для дзіцячых узростаў. У 1864 г. крывая эпідэмій пайшла на спад. У тых жа губернях было зафіксавана 4572 інфіцыраваных і 950 (20,8 %) памерлых[4].

Кожны год паўтаралася эпідэмія воспы. Недахоп якаснай лімфы, дрэнная вакцынацыя, адсутнасць дастатковай колькасці медработнікаў не дазвалялі ахапіць воспапрышчэпліваннем усіх дзяцей. Так, у Гродзенскай губерні ў 1879 г. воспа была прышчэплена 37,2 % немаўлят, у 1887 г. – 64,9, у 1897 г. – 76,1 %[5]. Прыкладна такім быў і сярэдні паказчык па пяці заходніх губернях, дзе, напрыклад, у 1882 г. воспапрышчэпліваннем было ахоплена толькі 65 % нованароджаных[6]. У гэтым жа годзе ў кожнай губерні былі створаны ўстановы па выпрацоўцы воспеннай лімфы. Гэта дазволіла больш шырока ахапіць насельніцтва воспапрышчэпліваннем. У 1900 г. працэнт прышчэпленых у пяці заходніх губернях павысіўся да 89,5. Тым не менш эпідэміі ўспыхвалі даволі часта. Так, моцная эпідэмія ахапіла ў 1899 г. Мінск, што з'явілася штуршком да стварэння ў горадзе медыка-статыстычнага бюро пад кіраўніцтвам гарадскога санітарнага ўрача П. Грацыянава[7].

Паводле даных Г. Архангельскага, на тэрыторыі пяці заходніх губерняў у 1863 – 1873 гг. на воспу хварэла 26 246 чалавек, з іх 5446 (20,7 %) па-

---

[1] История рабочего класса Белоруссии.Т.1. С.76.

[2] НГАБ, ф.134, воп.2, спр.21, арк.58, 76, 112, 198, 223.

[3] РДГА, ф.1297, воп.239, спр.5, арк.65-67.

[4] Там жа., спр.6, арк.158, 159.

[5] *Игнатович Ф.И.* Санитарно-эпидемиологическое состояние Гродненской губернии второй половины XIX – начала XX века. С.80.

[6] Сборник сведений по Европейской России за 1882 год. СПб., 1884. С.52, 53; Статистический временник Российской империи. Серия III. Вып. 8. СПб., 1886. С.74, 75.

[7] *Крючок Г.Р.* Очерки истории медицины Белоруссии. Мн., 1976. С.119, 120.

мерлі[1]. З 1896 па 1901 г. воспа была выяўлена ў 31 999 чалавек, з якіх 4722 чалавекі (14,7 %) памерлі.

За гэты ж перыяд 1 618 163 чалавекі захварэлі на іншыя інфекцыйныя хваробы, у тым ліку малярыю – 810 630, дызентэрыю – 120 977, сыпны тыф – 22 203, брушны тыф – 135 492, тыф не вызначаны – 48 574, скарлатыну – 83 098, дыфтэрыт – 50 247, круп – 23 577, адзёр – 111 273, каклюш – 83 439, тыф зваротны – 2347, туберкулёз – 126 306 чалавек. Найбольшая смяротнасць назіралася ад крупу – 26,0 %, дыфтэрыі – 16,0, туберкулёзу – 15,5, скарлатыны – 14,9 %[2].

Цяжкі і масавы характар насілі захворванні органаў стрававання. Брушны тыф і асабліва дызентэрыя адзначаліся кожны год, але ў асобныя гады адбываўся іх эпідэмічны ўсплеск. Так, мацнейшая эпідэмія дызентэрыі шэсць гадоў стойка трымалася ў Мінскай губерні – з 1889 па 1895 г. За гэты час толькі ўрачамі і фельчарамі былі зарэгістраваны 30 824 выпадкі хваробы і 3738 смяротных яе зыходаў. Пры сярэдняй смяротнасці 12,1 % у асобных мясцовасцях яна даходзіла да 30 %. Найбольш пацярпелі Слуцкі і асабліва Пінскі і Мазырскі паветы. У 1897 г. эпідэмія з новай сілай пракацілася па губерні – зафіксавана 23 765 хворых і 1809 памерлых. Фактычныя ж паказчыкі, як сцвярджаў член таварыства мінскіх урачоў доктар В.Унціт, павінны быць у разы чатыры большымі, таму што на кожнага са 138 штатных урачоў і фельчараў губерні прыходзілася ў сярэднім каля 80 тыс. кв. вёрст тэрыторыі, якую ён не мог ахапіць, каб наведаць кожнага пацыента[3].

Сапраўдным народным бедствам быў туберкулёз, або, як ён тады называўся, сухоты, бугарчатка, чахотка. Антысанітарныя жыллёвыя ўмовы, цяжкая непасільная праца, дрэннаеаднастайнае харчаванне – тыя сацыяльныя фактары, якія аказваліся спрыяльнымі для шырокага і сталага існавання гэтай хваробы, што час ад часу давала эпідэмічныя ўсплескі, перарастаючы ў хранічныя формы і заўчасна забіраючы сотні маладых жыццяў. Дакладнай рэгістрацыі туберкулёзу не было, бо большасць хворых у медыцынскія ўстановы ніколі не звярталася. Ды і пры тых адмоўных сацыяльных фактарах медыкаментозныя сродкі былі малаэфектыўнымі, але іх фактычна і не існавала. Адзінае, што было вядома ў той час, – гэта лячэнне кумысам. Арганізаваць кумысалячэнне для народа спрабавалі прыватныя асобы. Ёсць звесткі пра адкрыццё ў 1869 г. такой установы ў мястэчку Дуброўна Горацкага павета правізарам Ф.Рэйгольцам, але з-за "нерэнтабельнасці" ўжо праз год яе прыйшлося закрыць. Такое лячэнне не кожнаму было па кішэні, бо бутэлька кумысу каштавала 30 кап. Практычных жа мер з боку дзяржавы па барацьбе з туберкулёзам у другой палове XIX ст. не праводзілася. На першым з'ездзе ўрачоў Мінскай губерні ўрач Н.Чарноцкі адзначаў: "Просты народ лічыць туберкулёз зусім невылечным, звяртаецца толькі за дыягназам... Сельскаму ўрачу прыходзіцца бездапаможна назіраць хуткае выміранне цэлых сялянскіх сем'яў, перапаўзанне з хаты ў хату гэтай самай смяротнай з усіх хвароб свету, барацьба з якой у нас яшчэ не пачалася"[4].

---

[1] *Архангельский Г.И.* Холерные эпидемии в Европейской России в 50-летний период. 1823–1872 гг. СПб., 1874. С.292, 295.

[2] Отчет о состоянии народного здравия и организации врачебной помощи в России за 1896–1901 гг. СПб., 1905. С.2, 3, 6, 7, 8, 9, 12, 13.

[3] НГАБ, ф.502, воп.1, спр.27, арк.13, 15, 23, 24.

[4] Труды первого съезда врачей Минской губернии. Мн., 1909. С.120.

Асабліва небяспечнай інфекцыяй была халера. Яна давала самы высокі працэнт смяротнасці. Пасля некаторага заціцша пачатку 60-х гг. XIX ст. у 1866 г. халера зноў з'явілася на беларускіх землях, цалкам ахапіўшы пяць заходніх губерняў. Колькасць інфіцыраваных дасягнула 21 тыс. чалавек, 5989 з іх, або 28,5 %, памерлі. Самай цяжкай і масавай аказалася эпідэмія халеры ў 1871 г., калі ў пяці заходніх губернях захварэлі 35 439, а памерлі 13 199 (37,2 %) чалавек. Найбольш пацярпела Магілёўская губерня – 4918 смяротных зыходаў з 13 113 захварэўшых. Усяго з 1866 па 1873 г. у адзначаных губернях, паводле даных афіцыйнай статыстыкі, халера напаткала 93 189 чалавек, забраўшы пры гэтым 33 405 жыццяў[1]. Смяротнасць у сярэднім складала 35,8 %. Асабліва адчувальнай эпідэмія аказалася ў гарадах, дзе ў спалучэнні з іншымі інфекцыйнымі хваробамі яна адмоўна паўплывала на дэмаграфічную сітуацыю. У шэрагу з іх на працягу некалькіх гадоў з-за павышанай смяротнасці натуральны прырост фактычна прыпыніўся. Так, у Мінску такімі гадамі былі 1863, 1864, 1867 – 1870, 1872. Асабліва цяжкім выдаўся 1867 г., калі смяротнасць у горадзе амаль у два разы перавысіла нараджальнасць, у выніку чаго колькасць насельніцтва зменшылася на 1004 чалавекі[2].

Новая хваля эпідэміі халеры накацілася на Беларусь у 1891 г., але, дзякуючы своечасова прынятым прафілактычным мерам, яе вынікі аказаліся менш цяжкімі. У 1895 г. ачагі інфекцыі ўдалося ліквідаваць. У заражаных мясцовасцях будаваліся спецыяльныя баракі для хворых, праводзілася дэзінфекцыя водных крыніц, двароў, фабрык, заводаў, месцаў найбольшага скопішча людзей. Усе бальніцы былі падрыхтаваны для прыёму халерных інфіцыраваных, бясплатна раздаваліся лякарствы і сродкі дэзінфекцыі.

На працягу стагоддзяў беларускі народ вынайшаў шмат розных сродкаў для барацьбы з захворваннямі, але супраць інфекцыйных хвароб яны звычайна аказваліся бездапаможнымі. Таму паступова народным даверам сталі карыстацца навукова абгрунтаваныя, медыкаментозныя сродкі і метады лячэння.

**Медыцынскія ўстановы і іх дзейнасць**. У парэформенны час у гарадах працягвалі дзейнічаць бальніцы, якія былі адкрыты ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.

Губернскія і павятовыя бальніцы належалі Прыказу грамадскай апекі, які з-за абмежаванасці фінансавых сродкаў не ў стане быў трымаць іх на належным узроўні. Толькі бальніцы губернскіх гарадоў размяшчаліся ў спецыяльна пабудаваных каменных будынках. У павятовых гарадах пад іх прыстасоўваліся наёмныя, часам зусім не прыдатныя для гэтага драўляныя дамы. Як адзначаў у сваёй справаздачы за 1881 г. магілёўскі губернатар, большасць з такіх бальніц не адпавядала самым непатрабавальным умовам жылля, бо ў іх заўсёды было холадна, сыра, даўно не праводзіўся рамонт, не хапала мэблі, адзення, абутку, а хворыя атрымлівалі дрэннае харчаванне[3]. Такое становішча было характэрна і для іншых губерняў.

У сувязі з тым, што гарадское палажэнне 1870 г. канкрэтна не вызначала абавязкі гарадскіх улад па ахове здароўя, гарадскія бюджэты ў фінансаванні медыцынскіх патрэб не ўдзельнічалі. Недахоп дзяржаўных сродкаў быў

---

[1] *Архангельский Г.И.* Холерные эпидемии в Европейской России в 50-летний период. С.208, 211, 213, 215, 221; РДГА, ф.1263, воп.1, спр.3713, арк.397, 398; спр.3722, арк.450.

[2] РДГА, ф.1263, воп.1, спр.3351, арк.237.

[3] РДГА, ф.1297, воп.279, спр.81, арк.3.

прычынай таго, што сетка цывільных лячэбных устаноў у гарадах фактычна не развівалася. У беларускіх гарадах у 1877 г. налічвалася 39 бальніц на 1347 г. ложкаў, што падпарадкоўваліся Прыказу грамадскай апекі, адно радзільнае аддзяленне на 20 ложкаў пры магілёўскай і 4 дамы для псіхічна хворых на 110 ложкаў пры віцебскай, гродзенскай, мінскай і магілёўскай бальніцах[1]. Да канца XIX ст. у выніку рэарганізацыі колькасць бальніц паменшылася да 33, а ложкаў у іх – да 1169[2].

Плата за лячэнне ў бальніцах Прыказа была адносна высокай. Так, у Мінскай і Гродзенскай губернях на аднаго дарослага чалавека ў месяц яна складала 7 руб. 20 кап., у Магілёўскай – 6 руб. 45 кап.[3] За дзяржаўны кошт лячыліся толькі вайскоўцы, выключна бедныя асобы, арыштанты і венерычныя хворыя. Простаму люду цяжка было знайсці сродкі на бальнічнае лячэнне, таму прыходзілася карыстацца менш кваліфікаванай фельчарскай дапамогай.

У 15 гарадах Беларусі меліся яўрэйскія бальніцы на 380 ложкаў, якія ўтрымліваліся за кошт каробачнага збору, даходаў гандлёвых радоў, ахвяраванняў прыватных асоб і арганізацый, іншых дробных прыбыткаў[4]. Пры некаторых з іх былі ўладкаваныя багадзельні, дзе знаходзілі прытулак знямоглыя, калекі і адзінокія. Яўрэйскае насельніцтва гарадоў, дзе не было бальніц, карысталіся лякарствамі з вольных аптэк.

Як відаць, лячэбных устаноў у гарадах не хапала. Асабліва недаступнай медыцынская дапамога была для бедных слаёў насельніцтва. Менавіта для іх шэраг арганізацый спрабавалі адкрыць лякарні. У 1867 г. на сродкі праваслаўнага брацтва адкрылася лякарня ў Магілёве, у 1868 г. бясплатную лякарню адкрыла ў Віцебску таварыства віцебскіх урачоў. Дзякуючы намаганням таварыства мінскіх урачоў у 1879 г. у горадзе адкрылася лякарня для бедных хворых. Але праз два гады з-за адмовы гарадской думы ад фінансавання яе прыйшлося закрыць[5].

Свае лякарні адкрывалі некаторыя ведамствы і ўстановы. У кожным павятовым горадзе дзейнічалі невялікія, на 3–5 ложкаў, турэмныя бальніцы. У Магілёве і Мінску працавалі бальніцы духоўнай семінарыі, у Мінску, Бабруйску, Магілёве, Пінску, Слуцку, Гомелі, Мсціслаўлі – духоўных вучылішч, у Свіслачы і Маладзечне – настаўніцкіх семінарый[6].

Нездавальняюча была пастаўлена ахова здароўя на фабрыках і заводах. Нягледзячы на тое што законы 1866 і 1886 гг. абавязвалі іх на свае сродкі будаваць бальніцы і прыёмныя пакоі для бясплатнага лячэння сваіх рабочых, на практыцы ўсё было інакш. У лепшым выпадку больш буйныя прадпрыемствы фармальна мелі пасаду фельчара, часам без спецыяльнай адукацыі, і фіктыўна абсталяваны прыёмны пакой. Як адзначаў у 1897 г. гродзенскі губернатар, з усіх прадпрыемстваў губерні толькі чатыры мелі правільна арганізаваную медыцынскую дапамогу[7]. У Мінску першая рабочая амбулаторыя была адкрыта толькі ў 1899 г. Ёю мелі права карыстацца рабочыя

---

[1] Отчет медицинского департамента за 1877 год. СПб., 1878. С.121, 122.

[2] Больницы и приемные покои с постоянными кроватями гражданского ведомства в России по сведениям к началу 1899 г. С.2–10.

[3] *Крючок Г.Р.* Очерки истории медицины Белоруссии. С.126.

[4] НГАБ, ф.21, воп.1, спр.37, ч.2, арк.721.

[5] *Крючок Г.Р.* Очерки истории медицины Белоруссии. С.140.

[6] Больницы и приемные покои с постоянными кроватями гражданского ведомства в России по сведениям к началу 1899 г. С.2–10.

[7] *Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг. С.42.

13 буйнейшых прадпрыемстваў горада. Плата за лячэнне бралася ў выглядзе асобнага бальнічнага падатку[1].

Пасля рэформы 1861 г. пытанні медыцынскага абслугоўвання сельскага насельніцтва ў Расійскай імперыі перайшлі ў падчыненне новых органаў самакіравання – земстваў. У Беларусі, дзе земстваў у дадзены перыяд не было, у месцы з'яўлення павальных хвароб накіроўваўся павятовы ўрач. Сельская грамада часта за грашовую і натуральную плату запрашала да сябе на службу фельчараў. Аднак масавыя эпідэміі 60-х гг. XIX ст. паскорылі прыняцце Дзяржаўным Саветам 24 снежня 1868 г. палажэння аб уладкаванні сельскай медыцынскай часткі ў губернях, дзе не ўведзены земскія ўстановы. Згодна палажэнню на кожны павет прадугледжвалася па аднаму сельскаму ўрачу, 7–9 фельчараў з разліку адзін фельчар на 7 тыс. насельніцтва і па 3 акушэркі[2]. Урач пражываў, як правіла, у павятовым горадзе і раз-пораз рабіў раз'езды па павеце, прымаючы хворых. Аднак такая дапамога была малаэфектыўнай. Лячэнне насельніцтва фактычна знаходзілася ў руках фельчараў, галоўным сродкам лячэння якіх былі сабраныя імі травы. Казённых сродкаў на іншыя лекі не хапала.

Дзякуючы мясцовай ініцыятыве ў многіх месцах, асабліва на Магілёўшчыне, сталі будавацца сельскія бальніцы. Сяляне ахвотна давалі сродкі на іх пабудову і абслугоўванне. Закон ад 24 красавіка 1887 г. зрабіў медыцынскую дапамогу для сельскага насельніцтва больш рэальнай. Згодна яму кожны павет падзяляўся на два ўчасткі з бальніцай і двума прыёмнымі пакоямі. Урач павінен быў жыць пры бальніцы. Колькасць фельчараў вызначалася: для Віленскай губерні – 64, Віцебскай – 90, Гродзенскай – 102, Мінскай – 120, Магілёўскай – 146. Штат акушэрак заставаўся ранейшым – па тры на павет[3]. Так у Беларусі з'явілася ўчастковая медыцына. Практычнае выкананне ўказа зацягнулася на гады. Праблемай для сельскіх бальніц быў недахоп урачоў, вакансіі якіх на многіх участках заставаліся па некалькі гадоў. У канцы XIX ст. пабудова сельскіх бальніц, прыёмных пакояў і фельчарскіх пунктаў завяршылася, штаты медперсаналу цалкам былі ўкамплектаваны. У 1900 г. на тэрыторыі Беларусі, акрамя ваенных шпіталяў, мелася 206 бальніц на 4100 ложкаў, у тым ліку 69 сельскіх бальніц, 146 сельскіх прыёмных пакояў, 241 фельчарскі пункт і 220 аптэк. Фонд сельскіх лячэбных устаноў складаў усяго 1105 ложкаў.

Такім чынам, ахова здароўя ў другой палове XIX ст. знаходзілася яшчэ на нізкім узроўні. Станаўленне лячэбных устаноў толькі пачыналася. Медыцына нярэдка была бездапаможнай у барацьбе з большасцю хвароб. Смяротнасць насельніцтва насіла ярка выражаны экзагенны характар, што было звязана са знешнімі фактарамі.

---

[1] *Шыбека З.В.* Аб стане медыцынскай дапамогі рабочым у канцы XIX – пачатку XX ст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук 1976. №4. С.72, 72.

[2] ПСЗ. Собр. 2-е. Т.XIII, № 46590.

[3] ПСЗ. Собр. 3-е.Т.VII. № 4377.

## РАЗДЗЕЛ 3

# БЕЛАРУСЬ У ПАЧАТКУ XX ст.

## ГЛАВА 1

## РЭВАЛЮЦЫЯ 1905–1907 гг. У БЕЛАРУСІ

### 1. Наспяванне рэвалюцыйнай сітуацыі. Партыйна-палітычныя плыні і арганізацыі

**Абвастрэнне сацыяльна-палітычных супярэчнасцей і нацыянальнага пытання**. На рубяжы XIX–XX стст. у Беларусі, як і ў цэлым у Расійскай імперыі, выразна праявіўся сусветны эканамічны крызіс. У беларускіх губернях ён ахапіў найперш лясную прамысловасць, прадукцыя якой з'яўлялася галоўным экспартным таварам краю. Рэзкае зніжэнне попыту і цэн на лясныя тавары ў Англіі і іншых краінах прывяло да банкруцтва многія гандлёвыя фірмы. У выніку страты лесапрамыслоўцамі аднаго толькі Дняпроўскага басейна (Магілёўская і Мінская губерні) у 1901 г. дасягалі 3 млн руб. Гэта адмоўна адбілася на ўсёй мясцовай прамысловасці і гандлі. У выніку крызісу ў ляснай справе насельніцтва пазбавілася звычайных заработкаў, якія пры малазямеллі сялян мелі вельмі важнае значэнне для іх дабрабыту[1]. У 1901 г. крызісам была ахоплена ўся прамысловасць Беларусі. У параўнанні з 1900 г. аб'ём вытворчасці скараціўся на 10 %. У 1903 г. назіралася пэўнае ажыўленне, але яго перапыніла расійска-японская вайна[2]. З прычыны ваеннага часу пачасціліся выпадкі скарачэння і нават поўнага спынення дзейнасці рамесных і фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў краю, вынікам чаго з'явілася значнае або поўнае пазбаўленне вялікай колькасці рабочых іх заработкаў[3].

Рэзка абвастрылася ў пачатку XX ст. аграрна-сялянскае пытанне. У сувязі з дэмаграфічным выбухам у вёсцы ў парэформенныя дзесяцігоддзі колькасць насельніцтва павялічылася амаль удвая. Разам з тым удзельная вага сялянскіх гаспадарак, што мелі да 15 дзесяцін зямлі на двор, у 1877–1905 гг. вырасла з 60 да 82,5 %. У сярэднім на двор у гэтай групе прыпадала 8 дзесяцін. Такіх двароў (сем'яў) у пачатку XX ст. у Беларусі налічвалася 50 тыс. Пры тагачаснай агратэхніцы, велізарных выкупных плацяжах, падатках і зборах яны не маглі пракарміцца са сваіх надзелаў. Каля 70 тыс. двароў зусім не мелі зямлі. На процілеглым полюсе знаходзіліся 2896 тыс. памешчыкаў-латыфундыстаў, кожны з якіх валодаў у сярэднім 2,5 тыс. дзесяцін[4]. Такое размеркаванне зямлі з'яўлялася асновай мноства феадальных перажыткаў і адсталасці сельскай гаспадаркі.

У 60–90-я гг. XIX ст. урад усімі мерамі прымацоўваў сялян да іх зямельных надзелаў, падтрымліваў існаванне абшчыны з мэтай пазбегнуць прале-

---

[1] Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3. С.38–39.

[2] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.239–240.

[3] Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3. С.42–43.

[4] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.287.

тарызацыі вёскі і моцна абмяжоўваў перасяленне сялян у Сібір. Аднак панаванне сярэднявечных формаў землеўладання і прымацавання сялян да надзелаў з пазбаўленнем іх права свабоднага распараджэння гэтай зямлёй стрымлівала не толькі пралетарызацыю, але і фарміраванне ў ёй новага сацыяльнага пласта – прадпрымальнікаў, якія маглі забяспечыць эканамічны ўздым сельскай гаспадаркі. Крайне адмоўна ўплывала на развіццё гаспадаркі сялян ажыццёўленае рэформай 1861 г. размеркаванне надзельнай зямлі ў залежнасці ад яе якасці ў розных месцах асобнымі вузкімі палосамі ("шнурамі"), г. зн. цераспалосіца. Сяляне-беднякі і серадбнякі не мелі сродкаў для набыцця сельскагаспадарчых машын, штучнага ўгнаення, сартавога насення, пародзістай жывёлы, фабрычнага адзення, абутку і г.д., што, з аднаго боку, падрывала развіццё сельскай гаспадаркі, а з другога – моцна звужала рынак для прамысловых тавараў і замаруджвала рост прамысловасці. Неабходна было "расчысціць зямлю" для свабоднага развіцця капіталізму. Аграрнае пытанне стала галоўным у першай расійскай рэвалюцыі.

Буйнейшымі перажыткамі Сярэднявечча з'яўляліся царскае самадзяржаўе і саслоўная структура грамадства. Расія ўступіла ў XX ст., не маючы парламента, які ў дэмакратычных краінах распрацоўваў і прымаў законы, зацвярджаў дзяржаўны бюджэт, кантраляваў дзейнасць выканаўчай улады. У краіне захоўваліся саслоўныя прывілеі дваранства і духавенства. У той жа час сялянства заставалася непаўнапраўным саслоем, звязаным кругавой парукаю па выкананні разнастайных павіннасцей, якіх не неслі іншыя саслоўі. Селянін не мог без дазволу сельскай абшчыны пакінуць свой зямельны надзел, прадаць або закласці яго ў банку. Селяніна маглі публічна пакараць розгамі. Адсутнічала свабода слова, друку, саюзаў і інш. Праследаваліся як крымінальныя злачынствы стачкі рабочых. Панавала свавольства чыноўнікаў і паліцыі.

К пачатку XX ст. абвастрыліся супярэчнасці паміж імперскай палітыкай царызму і прыгнечанымі ім народамі, якія дабіваліся роўнасці грамадзянскіх правоў, свабоды для развіцця сваёй мовы і культуры, а ў канчатковым выніку – права на самавызначэнне свайго лёсу. Але палітыка царызму па нацыянальным пытанні па-ранейшаму мела на мэце захаванне "адзінай і непадзельнай імперыі Расійскай". Беларусы і ўкраінцы не прызнаваліся асобнымі этнасамі і былі пазбаўлены права на развіццё нацыянальнай асветы і культуры. Моцна абмежаванымі былі грамадзянскія правы яўрэяў, палякаў, а таксама беларусаў-католікаў. Усё гэта стварала глебу для росту нацыянальна-вызваленчых рухаў.

Эканамічны крызіс абвастрыў супярэчнасці паміж пралетарыятам і буржуазіяй. Павелічэнне беспрацоўя адмоўна ўплывала на рынак працы і ўмовы найму рабочых. Прадпрымальнікі памяншалі плату рабочым, падаўжалі рабочы дзень, звальнялі тых, хто пратэставаў, а ў выпадку забастовак – закрывалі прадпрыемствы, аднаўляючы работу, дыктавалі свае ўмовы найму. Даведзеныя да адчаю рабочыя нярэдка выкарыстоўвалі тэрарыстычныя сродкі барацьбы супраць штрэйкбрэхераў і прадпрымальнікаў, асабліва ў сферы дробнай прамысловасці, што ў сваю чаргу вяло да ўзмацнення рэпрэсій з боку ўлад. Усё гэта садзейнічала паступоваму пераходу рабочых да палітычнай барацьбы.

Вайна з Японіяй паскорыла наспяванне рэвалюцыі ў Расіі. Велізарныя ваенныя выдаткі, людскія і матэрыяльныя страты абвастрылі крызісны стан эканомікі, пагоршылі становішча народных мас, узмацнілі сацыяльнае напружанне. Усё гэта выкарыстоўвалі ў сваёй дзейнасці рэвалюцыянеры, са-

цыял-дэмакратычныя і народніцкія агульнарасійскія і нацыянальныя партыі і арганізацыі, колькасць якіх у пачатку XX ст. прыкметна павялічылася. Вайна і ўсё звязанае з ёю стала для іх вядучым матывам антыўрадавай агітацыі і мабілізацыі мас на барацьбу за зварожэнне самадзяржаўя.

**"Паліцэйскі сацыялізм" (зубатаўшчына).** Уздым рабочага руху ў канцы XIX ст. выклікаў трывогу ў Дэпартаменце паліцыі, тым больш што жорсткія рэпрэсіі не прыносілі поспеху. Начальнік Маскоўскага ахоўнага аддзялення С. Зубатаў галоўную небяспеку для ўрада бачыў у злучэнні рабочага руху з рэвалюцыйнай сацыял-дэмакратыяй, ва ўзмацненні яе ўплыву на рабочых. У пошуку эфектыўных сродкаў супрацьдзеяння ён узяў на ўзбраенне ідэю сацыял-дэмакратаў – "эканамістаў" аб тым, што рабочыя Расіі павінны ісці па лініі "найменшага супраціўлення" і абмяжоўвацца эканамічнай барацьбой. Вясной 1898 г. Зубатаў сфармуляваў прапановы, якія зводзіліся да таго, каб сам урад з мэтай ізаляцыі рэвалюцыянераў узяў на сябе клопаты аб задавальненні "справядлівых", на яго погляд, эканамічных і культурна-асветніцкіх патрабаванняў рабочых, дазволіў стварэнне кас узаемадапамогі, кааператыўных і культурна-асветніцкіх таварыстваў, выданне газет для рабочых, адным словам, – легалізаваў эканамічны і культурна-асветніцкі рабочы рух, паставіўшы яго пад кантроль Дэпартамента паліцыі. Зубатаў разлічваў, што ў такім выпадку рабочыя адмовяцца ад палітычнай барацьбы, стануць свядомымі манархістамі і не толькі не пойдуць за "падбухторшчыкамі", але і будуць выдаваць іх паліцыі.

Сярод групы арыштаваных у Мінску актывістаў Бунда Зубатаў знайшоў некалькі прыхільнікаў сваёй ідэі, якія згадзіліся прапагандаваць яе сярод рабочых. Найбольш актыўна за гэту справу ўзялася М.Вільбушэвіч. З лета 1900 г. яна дзейнічала ў Гродне, а з пачатку 1901 г. – у Мінску, дзе непасрэдным куратарам зубатаўцаў стаў начальнік губернскага жандарскага ўпраўлення палкоўнік Васільеў[1].

У маі 1901 г. мінскія зубатаўцы ўмяшаліся ў агульнапрафесійную стачку слесараў і з дапамогай палкоўніка Васільева прымусілі гаспадароў майстэрняў выканаць іх патрабаванне – увесці законны 12-гадзінны рабочы дзень з дзвюма гадзінамі перапынку. Гэта незвычайна лёгкая перамога зрабіла ашаламляльнае ўражанне на рамесных рабочых Мінска, у тым ліку на цэхавыя саюзы, якія ўваходзілі ў мясцовую бундаўскую арганізацыю. Контрагітацыя Мінскага камітэта Бунда не ўспрымалася. Зубатаўцы на чале з Васільевым на нейкі час сталі галоўнымі арбітрамі ў канфліктах рабочых з іх гаспадарамі. Фактычным прапаведнікам ідэі легалізацыі рабочага руху стаў адзін з уплывовых членаў бундаўскага камітэта А.Чамярыцкі. У ліпені 1901 г. "гурток мірнай праграмы", абапіраючыся на шэраг цэхавых саюзаў рабочых ("ферэйнаў"), аб'явіў аб утварэнні Яўрэйскай незалежнай рабочай партыі (ЯНРП)[2].

Мэтай сваёй дзейнасці яна абвясціла павышэнне "па меры магчымасці" эканамічнага і культурнага ўзроўню яўрэйскага пралетарыяту шляхам развіцця шырокіх эканамічных арганізацый, кас узаемадапамогі, асветніцкіх клубаў і інш. Умяшанне рабочых у палітыку партыя цалкам выключала, прапаведавала пакору перад уладамі, расхвальвала самадзяржаўе як пазакласавую, схільную да справядлівасці форму ўлады. Партыя дамагалася мірнага вырашэння канфліктаў паміж рабочымі і прадпры-

---

[1] *Бич. М.О.* Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883–1903 гг. С.140–142, 145–146.

[2] Там жа. С.147–149.

мальнікамі, а ў выпадках іх супраціўлення – аб'яўляла стачкі. Пад апекай палітычнай паліцыі яна наладжвала ў Мінску агульнагарадскія і цэхавыя культурна-асветніцкія вечары, чытанні, лекцыі, на якія восенню 1901 г. збіралася да 1,5 тыс. чалавек. Такім чынам, ЯНРП практычна паралізавала ў гэты час дзейнасць мясцовай арганізацыі Бунда. З яе складу ў ЯНРП перайшлі 15 з 20 цэхавых саюзаў. У 1902 г. арганізацыі ЯНРП аформіліся ў Вільні і Адэсе[1].

Аднак стрымаць пераход рабочых да палітычнай барацьбы ЯНРП не змагла. Урад фактычна не прыняў рэкамендацый Зубатава па заканадаўчай легалізацыі эканамічнага і культурна-асветніцкага рабочага руху. Падтрымка ЯНРП з боку Дэпартамента паліцыі не выйшла за межы асобнага эксперыменту. Сутнасць палітыкі царызму па рабочым пытанні па-ранейшаму вызначалі рэпрэсіі. У такіх умовах гэты эксперымент быў асуджаны на правал. Пад кіраўніцтвам бундаўскіх арганізацый рабочы рух у Беларусі ў 1903 г. набыў ярка выражаны палітычны характар. У сувязі з адпраўкай Зубатава ў адстаўку ЯНРП была пазбаўлена падтрымкі Дэпартамента паліцыі і летам 1903 г. самараспусцілася.

**Сіяніцкі рух.** У жніўні 1897 г. у швейцарскім горадзе Базель адбыўся кангрэс прадстаўнікоў яўрэйскай інтэлігенцыі з розных краін свету, на якім быў заснаваны Сусветны саюз сіяністаў на чале з венскім журналістам Т.Герцлем. Мэтай саюза з'яўлялася ўтварэнне яўрэйскай дзяржавы ў Палесціне – на гістарычнай радзіме яўрэяў, сімвалам якой абвяшчалася гара Сіён. З дасягненнем гэтай мэты сіяністы звязвалі магчымасць пазбаўлення яўрэяў ад ганенняў, пагромаў і розных дыскрымінацый у краінах, дзе ім давялося жыць пасля зыходу з Палесціны. Сіянізм уключыў у сябе дагмат іудаізму аб "богавыбранасці" яўрэйскага народа, прапаганда якога параджала сярод часткі яўрэяў нацыянальна-рэлігійны фанатызм, пагардлівыя адносіны і недавер да іншых народаў, а сярод іх – як рэакцыю ў адказ – узбуджала антысеміцкія настроі.

Кожны член Саюза сіяністаў плаціў штогадовы ўзнос ("шэкель") у Нацыянальны фонд, прызначаны для выкупу Палесціны ў турэцкага султана, яе гаспадарчай каланізацыі і прапаганды сіянізму. З гэтай мэтай у Лондане быў створаны акцыянерны Яўрэйскі каланіяльны банк (ЯКБ). Збор шэкеляў і распаўсюджанне акцый ЯКБ сталі адной з галоўных задач мясцовых гурткоў сіяністаў ва ўсім свеце. Справамі ЯКБ у Расійскай імперыі загадваў спецыяльны камітэт, які ўзначальваў пінскі купец першай гільдыі, буйны прадпрымальнік І.Лур'е, кіраўнік мясцовай арганізацыі сіяністаў[2].

Прапаганда сіянізму знайшла шырокі водгук сярод усіх слаёў яўрэйскага насельніцтва ў межах аселасці яўрэяў, у тым ліку ў Беларусі. Паводле звестак Дэпартамента паліцыі, толькі ў Гомельскім сіяніцкім раёне, які ўключаў Магілёўскую, Віцебскую і Мінскую губерні, у жніўні 1898 г. налічвалася 54, а ў чэрвені 1900 г. – 92 сіяніцкія гурткі. Практычна яны існавалі ў кожным горадзе і мястэчку Беларусі. У Пінску летам 1903 г. колькасць сіяністаў дасягала 4 тыс.[3]

Адной з буйных падзей у грамадска-палітычным жыцці Расіі ў пачатку XX ст. стаў І Усерасійскі з'езд сіяністаў, які адбыўся ў Мінску ў жніўні 1902 г. пры ўдзеле 400 дэлегатаў. Работа з'езда шырока асвятлялася ва ўсіх расійскіх перыядычных выданнях.

---

[1] *Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг. С.140.

[2] ДАРФ, ф.102, воп.72, спр.11, ч.2, арк.3 і інш.

[3] Там жа, арк.154, 170, 202, і інш.; спр.11, ч.2, "В", арк.45, 141.

Агітацыя сіяністаў за выезд яўрэяў у Палесціну спачатку адпавядала палітыцы царызму, таму перашкод для легальнай дзейнасці сіяніцкіх арганізацый у першыя гады іх існавання ў Расійскай імперыі не было.

Сітуацыя змянілася ў сувязі са з'яўленнем гурткоў Паалей-Цыёна ("рабочых Сіёна"), якія неўзабаве ўключыліся ў рэвалюцыйную барацьбу. У адозве "Да ўсіх", выдадзенай у кастрычніку 1904 г., Гомельская арганізацыя Паалей-Цыёна заявіла: "На шляху да нашага поўнага вызвалення стаіць рускае самадзяржаўе... Разам з усімі прагрэсіўнымі элементамі Расіі мы павінны падарваць карані рускага самадзяржаўя, больш свабодным павінна зрабіцца наша жыццё тут". Аднак ад ідэі стварэння яўрэйскай дзяржавы аўтары адозвы не адмовіліся і толькі там спадзяваліся пачаць новае свабоднае жыццё[1].

У сувязі з пашырэннем у сіяніцкім руху рэвалюцыйных плыняў улады забаранілі ў 1903 г. з'езды і сходы сіяністаў і ўсе публічныя праявы іх дзейнасці, а таксама грашовыя зборы. Акцыі і часовыя абавязацельствы Яўрэйскага каланіяльнага банка, квітанцыя аб узносах у Нацыянальны фонд падлягалі канфіскацыі. Мясцовыя ўлады павінны былі ўзмацніць назіранне за сіяніцкімі хедарамі, бібліятэкамі, чытальнямі, суботнімі школамі і іншымі яўрэйскімі ўстановамі з мэтай не дапусціць у іх дзейнасці, накіраванай на нацыянальнае адасабленне расійскіх яўрэяў[2].

**Бундаўскія арганізацыі.** На пераломе XIX – XX стст. Бунд хутка набіраў сілы і пашыраў сваю дзейнасць. У 1901–1903 гг. яго арганізацыі актыўна дзейнічалі ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Гродне, Магілёве, Бабруйску, Брэсце, Пінску, Оршы, Полацку, Барысаве, Смаргоні, Ашмянах, Слоніме, Дзісне, Ігумене, Капылі, Парычах, Шклове і шэрагу іншых гарадоў і мястэчак. У склад Бунда ўваходзілі цэнтралізаваныя рэгіянальныя прафсаюзы шчаціннікаў і прыказчыкаў, яўрэйскае аддзяленне федэратыўнага прафсаюза гарбароў[3].

Скарыстаўшы ідэйна-арганізацыйны крызіс РСДРП, звязаны з панаваннем "эканамізму", Бунд з канца 90-х гг. фактычна дзейнічаў як цалкам самастойная арганізацыя. Ён праводзіў свае з'езды, меў свой ЦК і друкаваны орган – газету "Арбайтар Штыме", Замежны камітэт (ЗК), які выдаваў газету "Последние известия". На IV з'ездзе (красавік 1901 г., Беласток) Бунд прызнаў сіяніцкую ідэю аб існаванні яўрэйскай нацыі і абвясціў сябе адзіным прадстаўніком яўрэйскага пралетарыяту ў Расіі. З улікам гэтага было перагледжана рашэнне І з'езда РСДРП па арганізацыйным прынцыпе партыі (аўтаномія мясцовых арганізацый, у тым ліку Бунда, у мясцовых справах). З'езд Бунда выставіў патрабаванне аб пераўтварэнні РСДРП у "федэратыўнае аб'яднанне сацыял-дэмакратычных партый усіх нацый, што насяляюць Расійскую дзяржаву". Разам з тым IV з'езд арыентаваў мясцовыя камітэты Бунда на ўзмацненне палітычнай агітацыі. Але з "эканамізмам" не парваў, паколькі лепшым сродкам для ўцягнення шырокіх мас у рух прызнаў эканамічную барацьбу і менавіта на яе аснове раіў разгортваць палітычную агітацыю[4].

---

[1] ДА РФ. ф.174, №1901-а.

[2] ДА РФ. ф.102, воп.72, спр.11, ч.2, "Б", арк.190; спр.11, ч.2, "В", арк.1–2; воп.1904, спр.11, ч.2, арк.196.

[3] Там жа, воп.1898, спр.5, ч.48, арк.26-29; воп.1901, спр.621, арк.90–91; *Рафес М.* Очерки по истории Бунда. М.; Л., 1923. С.348–351.

[4] *Бухбиндер Н.А.* История еврейского рабочего движения в России. С.92–93.

Эканамічны крызіс, а таксама поспех прапаганды "паліцэйскага сацыялізму" ў Мінску выявіў памылковасць арыентацыі Бунда на эканамічную барацьбу як галоўны напрамак дзейнасці рабочых.

У 1901–1903 гг. мясцовыя камітэты Бунда ў Беларусі рэзка ўзмацнілі антыўрадавую агітацыю, сталі арганізатарамі многіх палітычных выступленняў рабочых – стачак, вулічных дэманстрацый, маніфестацый, масовак (сходаў). На барацьбу з царызмам яны заклікалі рабочых усіх нацыянальнасцей, праводзілі забастоўкі салідарнасці з буйнейшымі выступленнямі рабочых іншых рэгіёнаў імперыі[1].

У пачатку XX ст. Бунд разгарнуў масавую агітацыю супраць сіянізму. Ідэалогія і практыка сіяністаў крытыкавалася ў дзесятках лістовак, на многіх сходах рабочых. Мара сіяністаў аб заснаванні яўрэйскай дзяржавы ў Палесціне ацэньвалася як "бязглуздая і шкодная фантазія". Скасаванне дыскрымінацыі яўрэяў у Расійскай імперыі звязвалася са знішчэннем самадзяржаўя агульнымі намаганнямі яўрэйскіх і рускіх рабочых. Змагаючыся за ўплыў "на яўрэйскай вуліцы", бундаўцы нярэдка сілай разганялі сходы сіяністаў і паалей-цыяністаў[2].

На II з'ездзе РСДРП (1903) дэлегацыя Бунда ультыматыўна патрабавала прызнання яго адзіным прадстаўніком яўрэйскага пралетарыяту ў Расіі, перабудовы РСДРП па федэратыўным прынцыпе, але за праграму РСДРП, распрацаваную рэдакцыяй газеты "Искра", прагаласавала. Пасля адхілення патрабаванняў па арганізацыйным пытанні яна заявіла аб выхадзе Бунда з РСДРП і пакінула з'езд.

Бунд выключна негатыўна паставіўся да стварэння ў Беларусі і Літве інтэрнацыянальных арганізацый РСДРП, якое пачалося ў канцы 1903 г. і ў 1904 г. Бундаўскія публіцысты абвінавачвалі іх у расколе рабочага руху, імкнуліся абмежаваць іх дзейнасць асяроддзем хрысціянскіх рабочых.

У 1904 г. Бунд заставаўся яшчэ амаль манапольным кіраўніком рабочага руху ў Беларусі. Пераважная большасць палітычных стачак, вулічных дэманстрацый, розных маніфестацый і масовак у гарадах і мястэчках Беларусі прайшла пад кіраўніцтвам яго арганізацый[3].

**Утварэнне арганізацый РСДРП у Беларусі**. На II з'ездзе РСДРП значную большасць галасоў атрымалі прыхільнікі газеты "Искра", якая з 1900 г. выдавалася за мяжой групай расійскіх сацыял-дэмакратаў (Г. Пляханаў, П. Аксельрод, У. Ленін, Л. Мартаў і інш.). Прынятая з'ездам праграма, распрацаваная рэдакцыяй "Искры", прадугледжвала звяржэнне самадзяржаўя і ўсталяванне ў Расіі дэмакратычнай рэспублікі з правам нацый на самавызначэнне. Канчатковай мэтай партыі абвяшчалася заваяванне дыктатуры пралетарыяту і пабудова сацыялізму на аснове тэорыі Маркса. Рэвалюцыю, якая набліжалася ў Расіі, РСДРП характарызавала як буржуазна-дэмакратычную. Па аграрным пытанні іскраўцы патрабавалі толькі вяртання сялянам "адрэзкаў", якія па рэформе 1861 г. адышлі да памешчыкаў.

Пры прыняцці статута іскраўцы раскалоліся на бальшавікоў і меншавікоў. Бальшавікі на чале з Леніным выступалі за стварэнне строга законспіраванай і цэнтралізаванай партыі з безумоўным падпарадкаваннем ніжэйшых структур цэнтру, за пабудову партыі "зверху ўніз". Меншавікі,

---

[1] *Бич. М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг. С.152–153, 189–196.

[2] ДА РФ, ф.1741, №3571, 19234; ф.102, воп.1904, спр.5, ч.37, т.2, арк.4; воп.226, спр.5, ч.31, "Ж", арк.140; воп.ДП, спр.5, ч.17, арк.124.

[3] *Бич. М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг. С.217–224.

якіх узначаліў Мартаў і да якіх неўзабаве пасля з'езда далучыўся Пляханаў, не прынялі арганізацыйныя прынцыпы, прапанаваныя Леніным, звязваючы з імі магчымасць устанаўлення ў партыі дыктатуры цэнтра і культу правадыра. Пасля з'езда паміж бальшавікамі і меншавікамі разгарэлася яшчэ больш вострая барацьба за ўладу ў партыі.

У сувязі з выхадам Бунда з РСДРП прыхільнікі "Искры" з дапамогай ЦК разгарнулі дзейнасць па стварэнні ў Беларусі мясцовых арганізацый гэтай партыі. Нягледзячы на моцнае супраціўленне Бунда, у канцы 1903 г. і ў 1904 г. групы РСДРП з'явіліся ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Бабруйску, Барысаве, Магілёве, Мазыры, Полацку і іншых гарадах і мястэчках краю. Узначалілі іх Палескі і Паўночна-Заходні камітэты РСДРП, створаныя ЦК партыі адпаведна ў студзені і сакавіку 1904 г. Барацьба паміж бальшавікамі і меншавікамі ў гэтых арганізацыях фактычна не праяўлялася, паколькі ім у адзначаны час давялося весці барацьбу за выжыванне з непараўнальна больш магутнымі мясцовымі арганізацыямі Бунда.

**Арганізацыі ПСР (эсэраў).** Агульнарасійская Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў утварылася ў першай палове 1902 г. шляхам аб'яднання шэрагу рэгіянальных леванародніцкіх арганізацый і груп. Да яе далучыліся і рэшткі разгромленай Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі, цэнтр якой у канцы 90-х гг. у XIX ст. знаходзіўся ў Мінску. Ідэалогія і тактыка партыі выпрацоўвалася ў газеце "Революционная Россия" і часопісе "Вестник русской революции". ПСР выступала за знішчэнне самадзяржаўя і памешчыцкага землеўладання, устанаўленне ў Расіі федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі, атрыманне права яе народам на самавызначэнне свайго лёсу, пабудову сацыялістычнага ладу на аснове сацыялізацыі зямлі з ураўняльным землекарыстаннем і распаўсюджання кааперацыі. Партыя не аддзяляла клас наёмных рабочых (пралетарыяў) ад працоўнага сялянства, аб'ядноўвала іх адным паняццем "рабочы народ". Выключна важнае значэнне ў барацьбе з царызмам эсэры надавалі індывідуальнаму палітычнаму тэрору, якім займалася спецыяльная Баявая арганізацыя.

У другой палове 1903 г. і ў пачатку 1904 г. групы і камітэты ПСР аформіліся ў Віцебску, Беластоку, Гомелі, Мінску, Вільні, Дзвінску, Смаленску і Бранску. У красавіку 1904 г. на з'ездзе іх прадстаўнікоў была створана Паўночна-Заходняя абласная арганізацыя. Неабходнасць аб'яднання тлумачылася спецыфікай заходняга рэгіёна, шматнацыянальным складам яго насельніцтва. Абласны камітэт узначалілі Я. Ратнер, М. Біцэнка, А. Касцюшка-Валажэвіч. Пазней у яго склад увайшлі М. Сакалоў і А. Бонч-Асмалоўскі[1]. Свае праграмныя пазіцыі камітэт асвятліў у адозве "Да ўсіх", надрукаванай у ліпені 1904 г. ва ўласнай друкарні. Ён зыходзіў з прызнання: а) "заваявання палітычных правоў неабходнай і непазбежнай часовай мэтай барацьбы"; б) права нацый на самавызначэнне; в) прынцыповай і практычнай важнасці правядзення ідэі сацыялізму ў працоўныя масы сялян і рабочых; г) здольнасці працоўнага селяніна і індустрыяльнага рабочага рэвалюцыйным шляхам замяніць капіталістычны лад сацыялістычным[2].

Такі ж ухіл заўважаўся і ў адозве Мінскага камітэта ПСР "Да ўсіх грамадзян", у якой парламенты заходніх краін ацэньваліся як "падманнае народнае прадстаўніцтва", "грамадскія гаварыльні", дзе правадырам рабочых

---

[1] Революционная Россия. 1904. № 51. С. 23; *Зіміонка А.* Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў // Беларусь: Нарысы гісторыі, культуры і рэвалюцыйнага руху. Мн., 1924. С.161.

[2] ДА РФ, ф.1741, №3110.

мас дазвалялася дзеля дабра народнага "пускаць у паветра рэвалюцыйныя фразы"[1].

Адсутнасць у ПСР да канца 1905 г. афіцыйнай праграмы прыводзіла да рознагалоссяў і супярэчнасцей у трактоўцы прынцыповых пытанняў, звязаных з ацэнкай тагачаснага дзяржаўнага ладу, класавай сутнасці палітыкі і характару рэвалюцыі, якая наспявала.

Восенню 1904 г. у Мінск і Беласток з-за мяжы прыехалі некалькі вядомых сацыялістаў-рэвалюцыянераў на чале з М.Сакаловым ("Мядзведзем"). Гэта былі прыхільнікі тактыкі аграрнага тэрору як галоўнага сродку барацьбы з памешчыкамі і ўрадам. У Жэневе яны групаваліся вакол К. Брэшка-Брашкоўскай. ЦК ПСР дазволіў ім выезд у Расію для прапаганды сваіх поглядаў у партыі, але забараніў практычную дзейнасць такога роду. Група пачала прапаганду не толькі аграрнага, але і фабрычнага тэрору, г. зн. выступіла з лозунгам ажыццяўлення праграмы-максімум шляхам знішчэння памешчыцкай і буржуазнай уласнасці. Дадзены лозунг прадугледжваў таксама экспрапрыяцыю казённых і прыватных грашовых сродкаў на рэвалюцыйныя мэты ("эксы"). Так, у ПСР утварылася плынь "максімалістаў", якая па сваіх поглядах моцна наблізілася да анархістаў. Прапаганда гэтых поглядаў у эсэраўскіх арганізацыях Заходняга краю знайшла спрыяльную глебу. ЦК ПСР спрабаваў прымусіць Сакалова і яго прыхільнікаў падпарадкавацца афіцыйнаму партыйнаму курсу, аднак поспеху не меў[2].

У цэлым дзейнасць мясцовых арганізацый ПСР у заходніх губернях у 1903–1904 гг. абмяжоўвалася выданнем і распаўсюджаннем лістовак, іншай партыйнай літаратуры, правядзеннем сходаў сваіх прыхільнікаў, зборам сродкаў на патрэбы рэвалюцыйнай дзейнасці. Прыкметнага ўплыву сярод рабочых і сялян яны не дамагліся. Так, паводле звестак жандарскага ўпраўлення, камітэт ПСР у Мінску не мог правесці сваімі сіламі якіх-небудзь масавых акцый, у сувязі з чым члены арганізацыі далучаліся іншы раз да забастовак і дэманстрацый, арганізаваных бундаўцамі і групай РСДРП[3]. Тое ж назіралася і ў іншых гарадах.

**Польская партыя сацыялістычная ў Літве (ППС у Літве)**. Да ліку першых сацыялістычных партый, створаных у Расійскай імперыі, адносілася Польская партыя сацыялістычная. У праграме ППС, прынятай на з'ездзе ў Парыжы ў 1892 г., заяўлялася, што яе канчатковай мэтай з'яўляецца "заваяванне палітычнай улады пралетарыяту і праз пралетарыят" і пабудова сацыялістычнага ладу шляхам паступовага пераходу зямель, сродкаў вытворчасці і камунікацыі ў грамадскую ўласнасць. Галоўнай з першачарговых задач абвяшчалася заваяванне незалежнай Польскай рэспублікі, заснаванай на ўсеагульным выбарчым праве з тайным галасаваннем, народным заканадаўстве, іншых дэмакратычных правах і свабодах. У барацьбе за незалежнасць ППС разлічвала на ўзаемадзеянне з усімі непралетарскімі нацыянальна-патрыятычнымі арганізацыямі Польшчы. Прадугледжвалася добраахвотнае аб'яднанне з іншымі народамі на прынцыпах федэрацыі. З'езд прызнаў неабходнасць пашырэння дзейнасці ППС "на правінцыі, раней звязаныя з Польскай рэспублікай", г. зн. на Літву, Беларусь і Украіну, для стварэння разам з літоўскімі, беларускімі і ўкраінскімі арганізацыямі аб'яднанай палітычнай сілы з мэтай вызвалення краю ад прыгнёту царызму. Задача

[1] ДА РФ, ф.1741, №2535.

[2] *Спиридович А.И.* Партия социалистов-революционеров и ее предшественники. СПб., 1916. С.173–176.

[3] ДА РФ, ф.102, воп.72, спр.1800, ч.3, арк.14.

звяржэння царызму ў саюзе з расійскім вызваленчым рухам не ставілася[1]. Рэзка адмоўна аднеслася ППС да Бунда, які не падтрымаў лозунг барацьбы за незалежную Польшчу[2].

У пачатку 1902 г. кіраўніцтва ППС атрымала звесткі аб падрыхтоўцы пецярбургскім гуртком В.Іваноўскага з'езда з мэтай стварэння Беларускай рэвалюцыйнай партыі. У сувязі з гэтым на VI з'ездзе ППС у чэрвені 1902 г. была прынята закрытая "беларуская рэзалюцыя", паводле якой Выканаўчы камітэт павінен быў пасланць на з'езд сваіх прадстаўнікоў, каб выказаць беларускім сацыялістам сімпатыі і пажаданні імкнуцца да незалежнасці і федэрацыйных стасункаў з ППС. Разам з тым ППС прызнала сябе правамоцнай аказваць уплыў на беларускае насельніцтва даступнымі ёй сродкамі, якія не супярэчылі б прынцыпам і інтарэсам Беларускай сацыялістычнай арганізацыі[3].

У верасні 1902 г. групы ППС, якія дзейнічалі ў Літве і Заходняй Беларусі, аб'ядналіся ў рэгіянальную арганізацыю – ППС у Літве. У рэдакцыйным артыкуле свайго часопіса "Walka" ("Барацьба"), выдадзенага ў кастрычніку 1902 г., яна заявіла аб агульнасці мэт пралетарыяту Польшчы і Літвы, пастаўленага перад неабходнасцю барацьбы з царскім дэспатызмам за незалежнасць сваёй радзімы, а затым і за пабудову сацыялістычнага ладу. ППС у Літве паставіла перад сабою задачу аб'яднаць усе мясцовыя сацыялістычныя арганізацыі, каб агульнымі сіламі знішчыць агульнага ворага[4].

У пачатку 1903 г. ППС у Літве выдала ў Лондане тры агітацыйныя брашуры на беларускай мове: "Хто праўдзівы прыяцель беднага народу", "Гутаркі аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць" (варыянт "Дзядзькі Антона"), "Як зрабіць, каб людзям стала добра на свеце". У іх выкрывалася антынародная сутнасць тагачаснага дзяржаўнага ладу, палітыкі царызму, прапагандаваліся ідэі работніцка-сялянскай рэвалюцыі з мэтай выгнання цара і паноў, усталявання народаўладдзя і пабудовы сацыялізму. Шлях да яго ППС бачыла ў пераходзе ўсёй зямлі, фабрык, чыгунак ва ўласнасць народа, у арганізацыі супольнага гаспадарання на аснове абавязковай працы ўсіх здольных да яе людзей і размеркавання атрыманай прадукцыі ў адпаведнасці з патрэбамі кожнага працаўніка. "Багацтвы ўсялякія будуць цэлага народу, усіх працуючых. Гэтыя багацтвы будуць ляжаць у крамах, а кожны, хто працуе, будзе браць, што патрэбна, без грошай, толькі пакажа білет, што ён ёсць работнік, то значыць, што працуе ці пры зямлі, ці на фабрыцы"[5]. Прыхільнікамі сацыялізму ППС у Літве лічыла пралетарыяў, якія працавалі на фабрыках, беззямельных і малазямельных сялян і нават багатых гаспадароў[6].

Змест названых брашур сведчыць, што ППС у Літве падзяляла ідэі не марксісцкага, а народніцкага сацыялізму. Галоўны матыў агітацыі – сацыяльна-палітычны. Стваральнікі партыі мелі на мэце аб'яднаць пад сваім кіраўніцтвам усе антыўрадавыя сілы ў Літве і Беларусі. Фактычна ППС у Літве супрацьпастаўлялася спробам стварэння беларускай нацыянальна-дэмакратычнай партыі, якія ў той час актывізаваліся. Каб прывабіць бе-

---

[1] Materyjały do historyi PPS i ruchu rewolucyjnego w zaborze rosyjskim od roku 1893 do roku 1904. Warszawa, 1907. T.1. S.11–20.

[2] Там жа. S.301–303.

[3] *Turoniek J.* Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. Warszawa, 1992. S.26.

[4] ДА РФ, ф.102, воп.ДП, спр.5, ч.17, арк.94.

[5] Як зрабіць, каб людзям стала добра на свеце. Лондан, 1903. С.10.

[6] Хто праўдзівы прыяцель беднага народа. Лондан, 1903. С.15.

ларусаў, яна ў сваіх беларускамоўных выданнях не засяроджвала ўвагі на польскім нацыянальным пытанні. Лозунг барацьбы за незалежнасць Польшчы не ўпамінаўся. Разам з тым цалкам замоўчвалася і беларускае пытанне – у брашурах не сустракаліся нават словы "беларусы" ці "Беларусь".

У лютым 1903 г. у часопісе "Przedświt" ("Світанак"), органе Замежнага камітэта ППС, была апублікавана адозва Беларускай рэвалюцыйнай партыі "Да інтэлігенцыі" з заклікам да адраджэнскай, нацыянальна-культурнай дзейнасці на карысць свайго народа. Публікацыя суправаджалася каментарыем рэдакцыі, у якім яна выказала прынцыповую гатоўнасць ППС падтрымаць "працэс ператварэння беларускага народа ў нацыянальнасць", але ўсё ж вельмі скептычна ацаніла перспектывы беларускага адраджэння. Больш карысная у гэтых адносінах часопіс прызнаў не нацыянальна-культурную дзейнасць "беларускіх патрыётаў", а распаўсюджанне рэвалюцыйнай літаратуры ППС на беларускай мове. У каментарыі дастаткова выразна прасочваўся намер ППС узначаліць барацьбу беларускага сялянства супраць царызму пад сваім сцягам. Беларускім патрыётам адводзілася роля памочніка ППС. На такую ролю БРП не магла пагадзіцца. Адчуўшы нязгоду і супраціўленне, Цэнтральны рабочы камітэт ППС у чэрвені 1903 г. па прапанове Ю.Пілсудскага вырашыў спыніць выданне агітацыйнай літаратуры на беларускай мове[1].

**Утварэнне Беларускай сацыялістычнай грамады**. На пераломе XIX–XX стст. нефармальныя гурткі беларускай моладзі, студэнтаў і гімназістаў існавалі ў Пецярбургу, Мінску, Вільні. Восенню 1903 г. на вучобу ў Пецярбург прыехалі браты І. і А. Луцкевічы, А. Пашкевіч. Беларускі асяродак у сталіцы аб'яднаўся ў Круг беларускай народнай асветы з мэтай разгортвання нацыянальна-культурнай дзейнасці. Сярод членаў Круга была і радыкальная частка, якая адраджэнне Бацькаўшчыны звязвала з падрыхтоўкай народнай рэвалюцыі і імкнулася да стварэння нацыянальнай рэвалюцыйнай партыі[2]. З гэтай мэтай вясной 1902 г. планавалася склікаць з'езд, аднак па невядомых прычынах ён не адбыўся[3].

Тым не менш ад імя Беларускай рэвалюцыйнай партыі восенню 1902 г. была выдадзена на гектографе адозва "Да інтэлігенцыі" (на польскай мове). Як адзначалася вышэй, у лютым 1903 г. яе апублікаваў часопіс "Przedświt"[4]. Адозва рэзка крытыкавала асіміляваную беларускую інтэлігенцыю, якая пайшла на службу іншым народам, і заклікала яе да шырокай асветніцка-адраджэнскай дзейнасці на карысць свайго народа, ставіла ёй у прыклад паспяховую дзейнасць чэшскіх, літоўскіх, сербскіх, харвацкіх, балгарскіх адраджэнцаў.

У той час В.Іваноўскі паспрабаваў наладзіць выданне газеты "Свабода" як органа БРП. Падрыхтаваныя ў Пецярбургу матрыцы васьмі старонак яе першага нумара ён на зімовых канікулах 1902–1903 гг. прывёз у бацькоўскі маёнтак Лябёдка Лідскага павета і зрабіў на гектографе з дапамогай брата і

---

[1] *Turonek J.* Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. S.31–32.

[2] *Новина А.* Белорусы. СПб., 1909 (Оттиски из сборника "Формы национального движения в современных государствах"); *Луцкевіч А.* За дваццаць пяць гадоў (1903–1928). Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацыяў: Беларуская рэвалюцыйная грамада, Беларуская сацыялістычная грамада. Вільня, 1928; Мн., 1991; *Бурбіс А.* Беларуская сацыялістычная грамада ў першым перыядзе яе працы (1903–1907) // Вестник наркомпроса ССРБ. Мн., 1921; *Зіміонка А.* Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў // Беларусь: Нарысы гісторыі, культуры і рэвалюцыйнага руху. Мн., 1924.

[3] *Turonek J.* Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. S.26.

[4] Там жа. S.28–29.

трох братоў Валэйкаў з суседняга фальварка 200 экземпляраў. Аднак па загаду бацькі амаль увесь наклад давялося знішчыць. З матэрыялаў нумара захаваліся толькі вершы А.Пашкевіч (Цёткі) "Мужыцкая доля" і Ул.Сыракомлі "Добрыя весці". У апошнім творы антырасійскія матывы былі заменены антыцарскімі, а ідэі класавай згоды сялян і шляхты –ідэяй салідарнасці рабочых і сялян[1].

У сувязі з выданнем адозвы "Да інтэлігенцыі" ў беларускім асяродку сталіцы ўзмацніліся рознагалоссі па пытанні, якому напрамку ў далейшай дзейнасці аддаць перавагу – нацыянальна-адраджэнскаму ці рэвалюцыйнаму. В.Іваноўскі адстойваў першы, браты Луцкевічы – другі. Спрэчкі закончыліся расколам БРП. Іваноўскі засяродзіўся на дзейнасці ў Крузе беларускай народнай асветы, а Луцкевічы заняліся стварэннем Беларускай рэвалюцыйнай грамады[2].

У канцы снежня 1903 г. у Вільні адбыўся першы з'езд БРГ[3]. На ім Грамада была перайменавана з рэвалюцыйнай у сацыялістычную і прыняла праграму, у якой заявіла аб сваім імкненні знішчыць капіталістычны парадак і аддаць у рукі ўсяго народа зямлю, сродкі вытворчасці і камунікацыі для супольнага ўладання. Найбольшай перашкодай на шляху да сацыялізму прызнала "палітычную няволю". Адсюль выводзіла бліжэйшую мэту – звяржэнне самадзяржаўя ў Расіі агульнымі намаганнямі "з пралетарыятам усіх народаў Расійскай дзяржавы". Форму будучага дзяржаўнага ладу ў Расіі яна не вызначала, аднак выказалася за тое, "каб усе народы мелі найбольшую свабоду". Фактычна Грамада заявіла аб сваім жаданні стварыць ў час капіталізму незалежную дэмакратычную рэспубліку. Яе палітычную аснову павінны былі скласці простае, агульнае, роўнае выбарчае права з тайным галасаваннем, народнае заканадаўства, "выкананне найвышэйшай улады праз Канстытуцыйны сход", ліквідацыя пастаяннай арміі з заменай яе агульным народным апалчэннем, роўнасці ўсіх людзей незалежна ад полу, нацыянальнасці і веравызнання, бясплатны суд, выбарныя суддзі, падсуднасць чыноўнікаў, аддзяленне царквы ад дзяржавы і школы ад царквы, свабода слова, друку, сходаў, забастовак і інш.

Па аграрным пытанні праграма БСГ патрабавала скасавання прыватнай зямельнай уласнасці, абвяшчэння права кожнага чалавека на апрацоўку зямлі "сваімі рукамі без скарыстання чужой працы", і заяўляла аб неабходнасці адначаснай прапаганды "ідэі ўсестаронняга сябравання і таварыстваў" з мэтай пераходу да сацыялістычнай гаспадаркі. У праграме былі патрабаванні 8-гадзіннага рабочага дня, вызначэння мінімуму заработнай платы, роўнай платы пры роўнай працы, бясплатнай медыцынскай дапамогі, бясплатнага, абавязковага і поўнага навучання для ўсіх за кошт краю і інш. Праграма мела дэвіз "Працавітая бедната ўсіх краёў, злучайся!"[4]

Змест праграмы сведчыць, што БСГ засноўвалася на ідэях народніцкага сацыялізму і па пытаннях стратэгіі рэвалюцыйнай барацьбы прыкметна разыходзілася з ППС. Ад эсэраў яна адрознівалася непрызнаннем індывідуальнага палітычнага тэрору як сродку рэвалюцыйнай барацьбы. Варта адзначыць і тое, што БСГ у 1903 г. абвясціла сябе нацыянальнай беларускай палітычнай арганізацыяй, не прэтэндуючы на аб'яднанне "працавітай беднаты" іншых нацыянальнасцей краю.

---

[1] *Turonek I.* Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. S.29–31.

[2] Там жа. S.34.

[3] Там жа. S.34.

[4] *Турук Ф.* Белорусское движение. М., 1921. Приложение №7. С.83–84.

У 1904 г. Грамада разам з ідэйна блізкімі ёй Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыяй, ППС і Латышскай сацыял-дэмакратыяй выдала адозву "Таварышы", а сумесна з ППС – адозву "Брацця мужыкі!" У адозвах выкрываўся захопніцкі, антынародны характар расійска-японскай вайны. Ад імя працавітага народа Польшчы, Літвы, Беларусі і Латышскай зямлі чатыры названыя партыі заявілі: "Мы дзеці зваяванай праз цара зямлі, на нашы патрэбы і карысці казна не глядзіць ніколі; засудзілі нас на здзек. З нас казна найбольш дзярэ падаткаў..." Вызваленне з-пад прыгнёту яны звязвалі з паражэннем царызму ў вайне. Другая адозва заклікала запасных не ісці добраахвотна на вайну, уцякаць, а мабілізаваных сілай – згаворвацца і бунтавацца ў войску, шкодзіць, рабіць усё, "каб цар прайграў вайну", "тады правіцельства аслабнець, тады мы скарэй яго паборам і завядзём лепшыя парадкі. Тады не будзець панавання, усе будзем роўныя, будзем працаваць не на правіцельства і паноў, а толькі на сябе; будзем самі ўпраўляць сабой па праўдзе і справядлівасці, не будзе тады бяды і крыўды..." З'яўленне лепшых парадкаў звязвалася з пераходам усёй зямлі да працоўнага народа і да ўраўняльнага землекарыстання[1].

**Уздым рабочага руху**. Дынаміка выступленняў рабочых Беларусі ў 1901–1904 гг. па асноўных формах барацьбы паказана ў табл. 1.

*Табліца 8.* **Дынаміка выступленняў рабочых Беларусі ў 1901–1904 гг.**

| | | 1901 г. | 1902 г. | 1903 г. | 1904 г. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Эканамічныя стачкі | выступленні | 105 | 61 | 123 | 72 | 361 |
| | у тым ліку калектыўныя | 33 | 25 | 53 | 17 | 128 |
| | удзельнікі, тыс. | 4,7 | 2,7 | 8,7 | 3,9 | 20,0 |
| Палітычныя стачкі | выступленні | 3 | 3 | 20 | 21 | 47 |
| | у тым ліку калектыўныя | 3 | 3 | 19 | 21 | 46 |
| | удзельнікі, тыс. | 1,5 | 1,4 | 18,7 | 12,3 | 33,9 |
| Дэманстрацыі | выступленні | 10 | 2 | 22 | 25 | 59 |
| | удзельнікі, тыс. | 4,2 | 0,6 | 6,8 | 9,0 | 20,6 |
| Масоўкі | выступленні | 23 | 26 | 129 | 381 | 559 |
| | удзельнікі, тыс. | 2,4 | 4,4 | 28,6 | 46,0 | 81,4 |
| Сутыкненні з паліцыяй | | 4 | 1 | 7 | 11 | 23 |
| Населеныя пункты, ахопленыя | эканамічнымі стачкамі | 24 | 23 | 30 | 22 | 56 |
| | палітычнымі стачкамі | 3 | 3 | 12 | 17 | 21 |
| | дэманстрацыямі | 7 | 2 | 15 | 15 | 24 |
| | масоўкамі | 3 | 6 | 26 | 42 | 49 |
| | сутыкненнямі з паліцыяй | 2 | 1 | 6 | 9 | 14 |
| | палітычным рухам | 8 | 8 | 28 | 44 | 52 |
| | усімі формамі руху | 25 | 24 | 39 | 49 | 74 |

[1] ДГА Літвы, ф.446, воп.3, 1904, спр.400, арк.125, 149.

Усе паказчыкі рабочага руху ў 1901 г. значна перавышалі паказчыкі папярэдніх гадоў. Асабліва прыкметным быў рост колькасці вулічных дэманстрацый. Урад адказаў на гэта ўвядзеннем у Віцебску, Мінску, Гомелі, Магілёве і ва ўсёй Віленскай губерні надзвычайнага становішча, што прывяло да рэзкага зніжэння ў 1902 г. колькасці дэманстрацый. Прыкметна зменшылася таксама ў гэтым жа годзе колькасць эканамічных стачак. Палітычныя страйкі ўтрымаліся на ўзроўні 1901 г., але колькасць іх удзельнікаў была амаль удвая меншай, чым эканамічных.

Небывалы ўздым рабочага руху назіраўся ў 1903 г. Колькасць эканамічных стачак у параўнанні з 1902 г. павялічылася больш чым у два, а іх удзельнікаў – у тры разы. Але хваля палітычных забастовак нарастала значна хутчэй і па сваім размаху ў 1903 г. яны значна перавышалі эканамічныя стачкі. У 11 разоў вырасла колькасць вулічных дэманстрацый, амаль у пяць разоў – масовак і маніфестацый. Дэманстрацыі, як правіла, праводзіліся пад аховай узброеных дружыннікаў[1].

У 1904 г. у сувязі з крызісам размах эканамічнай барацьбы па колькасці ўдзельнікаў зменшыўся ў два разы. У той жа час хваля палітычных выступленняў, асабліва дэманстрацый і масовак, узмацнілася. У сходах, маніфестацыях, дэманстрацыях і забастоўках пратэсту ўдзельнічала больш за 11 тыс. рабочых Беларусі. Палітычны рух у 1904 г. ахапіў 44 гарады і мястэчкі (на 60 % больш, чым у 1903 г.)[2].

Сумарныя паказчыкі 1901 – 1904 гг. па ўсіх формах руху намнога перавысілі паказчыкі папярэдніх шасці гадоў. У эканамічнай барацьбе, паводле няпоўных звестак, прынялі ўдзел 20 тыс. чалавек – на 73 % больш, чым у 1895–1900 гг. Калі ў другой палове 90-х гг. штогод у сярэднім баставалі 1917 чалавек, то ў 1901–1904 гг. – 4975 (у 2,6 раза больш). Тэрытарыяльна эканамічны рух пашырыўся ў гэты час у 2,4 раза і ахапіў рабочых 56 населеных пунктаў.

Палітычны рух у форме стачак, дэманстрацый, масовак і маніфестацый распаўсюдзіўся на 52 гарады і мястэчкі (супраць 7 у другой палове 90-х гг.). У гэтых стачках удзельнічала прыблізна 34 тыс. чалавек. Па палітычных матывах штогод баставала ў сярэднім 8,5 тыс. чалавек. Дэманстрацыйны антыўрадавы рух, нягледзячы на ўсе папераджальныя і рэпрэсіўныя меры царызму, ахапіў 24 гарады і мястэчкі. Адбылося 59 дэманстрацый з удзелам прыблізна 20 тыс. чалавек. Параўнальна з 90-мі гг. значна павялічылася колькасць масовак (палітычных сходаў і маніфестацый) і іх удзельнікаў[3]. У сувязі з вулічнымі выступленнямі (дэманстрацыямі і маніфестацыямі) адбыліся 23 узброеныя сутыкненні рабочых з паліцыяй і салдатамі.

**Сітуацыя ў вёсцы.** Нягледзячы на абвастрэнне аграрнага пытання, сялянскі рух у Беларусі ў гэты час заставаўся на невысокім узроўні. Паводле падлікаў К. Шабуні, у 1901 г. адбылося 16, у 1902 г. – 41, у 1903 г. – 24, у 1904 г. – 32, а ўсяго – 113 выступленняў. Як і раней, у аснове сялянскага руху была барацьба за зямлю. Каля 1/3 выступленняў складалі патравы і лясныя парубкі, 23 % – захопы памешчыцкіх зямель, сервітутных угоддзяў і сутычкі пры размежаванні зямлі. Адміністрацыйныя і судовыя праследаванні за патравы і парубкі таксама нярэдка суправаджаліся сутычкамі сялян з мясцовымі ўладамі і паліцыяй. Яны складалі каля 12 % усіх выступленняў. Та-

---

[1] *Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг. С.152–153, 189–196.

[2] Там жа. С.217–224.

[3] Там жа. С.229–232.

кая ж з'яваназіралася, але значна радзей, і пры спагнанні дзяржаўных падаткаў і павіннасцей[1].

З мэтай аслабіць сацыяльную напружанасць у вёсцы, якая найбольш выразна праявілася ў 1902 г. у сялянскіх паўстаннях у Палтаўскай і Харкаўскай губернях, царскі ўрад указам ад 12 сакавіка 1903 г. скасаваў кругавую паруку сялян пры спагнанні казённых, земскіх і мірскіх падаткаў і збораў. Маніфестам ад 11 жніўня былі адменены цялесныя пакаранні сялян па прыгаворах валасных судоў, а таксама частка нядоімак па выкупных плацяжах, дзяржаўных і мясцовых падатках.

Як ужо адзначалася, у 1902–1903 гг. Гомельская, Віцебская, Шклоўская, Копыская арганізацыі Бунда пачалі агітацыйную дзейнасць сярод сялян. У 1904 г. яе пашырылі групы і камітэты РСДРП. Заснаваная бундаўцамі Віцебская сялянская сацыял-дэмакратычная арганізацыя ў 1904 г. перайшла пад кіраўніцтва мясцовай групы РСДРП. Яна налічвала ў той час 75 членаў і каля 200 спачувальнікаў. Сяляне складалі значную частку сярод членаў мястэчковых груп РСДРП (Лоеўская, Брагінская, Радульская і інш.). Гэтыя групы сталі арганізатарамі першых масовак парабкаў і сялян у беларускай вёсцы[2]. У той жа час у шэрагу месцаў Беларусі сярод сялян распаўсюджваліся выданні Бунда, ПСР, ППС у Літве, БСГ. Аднак дзейнасць рэвалюцыйных арганізацый у беларускай вёсцы ў пачатку XX ст. яшчэ практычна не праявілася ў сялянскім аграрным руху. Па сваіх формах, характары і ўзроўні арганізаванасці ён нічым істотным не адрозніваўся ад выступленняў папярэдніх дзесяцігоддзяў.

## 2. Наступленне рэвалюцыі. Палітычныя ўступкі царызму

**Пачатак рэвалюцыі. Рабочы рух у студзені – верасні 1905 г.** Іскрай, што выклікала рэвалюцыйны пажар у Расійскай імперыі, стаў расстрэл 9 студзеня 1905 г. у Пецярбургу масавых мірных шэсцяў рабочых, якія з іконамі і партрэтамі цара накіроўваліся да Зімовага палаца з петыцыяй аб паляпшэнні становішча народа. Ахвярамі гэтай правакацыйнай акцыі ўлад, падрыхтаванай з удзелам агента палітычнай паліцыі святара Г.Гапона, сталі каля 4600 чалавек. Аднак разлікі ўрада запалохаць дэмакратычныя сілы, збіць рэвалюцыйную хвалю праваліліся. Вынік атрымаўся адваротным: была расстраляна не рэвалюцыя, а вера народа ў цара. Хваля выступленняў пратэсту пракацілася па ўсёй імперыі, у тым ліку і ў Беларусі, дзе студзеньскія палітычныя стачкі ахапілі 25 гарадоў і мястэчак, а ў іх – больш за 33 тыс. рабочых. Разам з тым адбыліся 22 вулічныя дэманстрацыі і 44 масавыя сходы, якія суправаджаліся 9 узброенымі сутычкамі з паліцыяй і вайсковымі патрулямі. З улікам дэманстрацый і масовак антыўрадавы рух ахапіў 30 гарадоў і мястэчак (табл. 9). Колькасць палітычных стачак за адзін месяц у 2,7 раза перавысіла адпаведны паказчык за ўвесь 1904 г.

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.302–305.

[2] *Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг. С.225–227.

*Табліца 9.* **Рабочы рух у Беларусі ў 1905 г.**

| Месяц | Эканамічныя стачкі | | Палітычныя стачкі | | Дэманстрацыі | | Масоўкі | | Сутычкі з паліцыяй |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | удзел., тыс. | % | удзел., тыс. | % | удзел., тыс. | % | удзел., тыс. | % | |
| Студзень | 1,8 | 5,1 | 33,3 | 94,9 | 22 | 14,7 | 44 | 13,5 | 9 |
| Люты | 5,4 | 88,5 | 0,7 | 11,5 | 10 | 9,3 | 26 | 7,8 | 3 |
| Сакавік | 5,8 | 73,4 | 2,1 | 26,6 | 16 | 7,6 | 69 | 30,2 | 8 |
| Красавік | 4,0 | 7,2 | 51,2 | 92,8 | 29 | 6,6 | 132 | 24,9 | 12 |
| Май | 7,2 | 43,9 | 9,2 | 56,1 | 24 | 17,3 | 44 | 27,9 | 7 |
| Чэрвень | 3,8 | 9,2 | 37,3 | 90,8 | 36 | 7,9 | 90 | 41,4 | 9 |
| Ліпень | 5,1 | 18,1 | 23,0 | 81,9 | 66 | 26,4 | 145 | 50,6 | 17 |
| Жнівень | 3,2 | 51,6 | 3,0 | 48,4 | 25 | 3,9 | 55 | 12,2 | 9 |
| Верасень | 2,7 | 67,5 | 1,3 | 32,5 | 9 | 1,4 | 30 | 4,6 | 4 |
| Кастрычнік | 0,6 | 0,9 | 65,8 | 99,1 | 98 | 87,3 | 104 | 136,0 | 19 |
| Лістапад | 0,6 | 6,8 | 8,2 | 93,2 | 4 | 0,7 | 64 | 37,0 | 3 |
| Снежань | 0,4 | 0,9 | 43,6 | 99,1 | 6 | 1,5 | 48 | 24,8 | 7 |
| Усяго | 40,6 | 12,7 | 278,7 | 87,3 | 345 | 184,6 | 851 | 410,9 | 107 |

* История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.265 (падлікі М.В. Біча).

*Табліца 10.* **Колькасць населеных пунктаў, ахопленых рознымі формамі антыўрадавага руху ў 1905 г.**

| Месяц | Эканамічныя стачкі | Палітычныя стачкі | Дэманстрацыі | Масоўкі | Сутычкі з паліцыяй | Палітычны рух | Усе формы руху |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Студзень | 8 | 25 | 17 | 26 | 7 | 30 | 31 |
| Люты | 11 | 1 | 7 | 16 | 3 | 18 | 24 |
| Сакавік | 17 | 3 | 11 | 21 | 5 | 25 | 33 |
| Красавік | 13 | 36 | 21 | 35 | 7 | 47 | 48 |
| Май | 21 | 5 | 16 | 14 | 6 | 25 | 34 |
| Чэрвень | 23 | 13 | 23 | 23 | 7 | 32 | 44 |
| Ліпень | 23 | 14 | 36 | 37 | 12 | 53 | 67 |
| Жнівень | 17 | 4 | 15 | 18 | 7 | 27 | 38 |
| Верасень | 14 | 1 | 9 | 10 | 4 | 16 | 25 |
| Кастрычнік | 7 | 32 | 46 | 26 | 10 | 53 | 55 |
| Лістапад | 6 | 3 | 4 | 20 | 3 | 20 | 21 |
| Снежань | 6 | 17 | 6 | 18 | 6 | 25 | 28 |
| Усяго | 68 | 65 | 79 | 81 | 34 | 106 | 132 |

У гадавы вынік населеныя пункты ўключаліся адзін раз незалежна ад паўтарэння выступленняў у асобныя месяцы.

Большасцю выступленняў кіравалі мясцовыя арганізацыі РСДРП і Бунда, якія, як правіла, дамаўляліся аб правядзенні сумеснымі намаганнямі агульных акцый, найперш стачак. З гэтай мэтай на кааліцыйнай аснове ствараліся часовыя стачачныя камісіі. У Смаргоні па закліку такой камісіі 13 студзеня спынілі працу каля 3 тыс. чалавек – практычна ўсё мясцовае ра-

бочае насельніцтва. У цэнтры горада адбыўся масавы мітынг, удзельнікі якога (каля 2 тыс. чалавек) прайшлі затым з чырвонымі сцягамі і рэвалюцыйнымі заклікамі па некалькіх вуліцах. Мясцовыя ўлады і паліцыя, адчуваючы сваё бяссілле, хаваліся. Аднак на наступны дзень у Смаргоні з'явіўся віленскі губернатар у суправаджэнні 36 казакаў і 400 салдат. Было арыштавана да 60 чалавек[1].

Агульнымі стачкамі, з удзелам практычна ўсіх мясцовых рабочых, былі ахоплены таксама Гродна, Брэст, Мазыр, Полацк, Ашмяны, Слонім, Ветка, Дуброўна, Талачын, Парычы, Шчэдрын. Такі ж характар мелі стачкі ў Мінску, Гомелі, Пінску, але ў гэтых гарадах не ўдалося далучыць да іх найбуйнешыя прадпрыемствы – чыгуначныя майстэрні і дэпо. Тое ж здарылася і ў Віцебску ў дачыненні да льнопрадзільнай фабрыкі "Дзвіна". Выступленнямі ў Гродне і Брэсце кіравалі мясцовыя камітэты Бунда і ППС у Літве. У шэрагу гарадоў (Магілёў, Гомель, Горкі) паліцыя і салдаты выкарыстоўвалі супраць удзельнікаў дэманстрацый і маніфестацый агнястрэльную зброю, у выніку чаго там былі забітыя і параненыя. Пахавальная працэсія ў Гомелі з удзелам 8 тыс. чалавекператварылася ў антыўрадавую дэманстрацыю[2].

У лютым-сакавіку хваля палітычных выступленняў рэзка знізілася, але ў той жа час шырока разгарнулася барацьба рабочых з прадпрымальнікамі за паляпшэнне свайго эканамічнага становішча. Найбольш значныя эканамічныя стачкі адбыліся ў чыгуначных майстэрнях Пінска, Мінска, на запалкавых фабрыках у Мазыры, Пінску, Койданаве, кафельных заводах Копысі, Мінска і Пінска. Агульнапрафесійныя ці групавыя страйкі правялі рабочыя шпалерных і тытунёвых фабрык, друкарняў у Мінску, Бабруйску, Рэчыцы, загатоўшчыкі і кавалі ў Барысаве, шаўцы ў Мінску і Баранавічах, краўцы ў Смаргоні, Пінску, Мінску, Лідзе, Барысаве, Ігумене, булачнікі ў Пінску. У барацьбу за паляпшэнне свайго становішча ўсё больш актыўна ўключаліся работнікі сферы абслугоўвання (прыказчыкі, фармацэўты, кухаркі, цырульнікі і інш.). Некаторыя буйныя эканамічныя стачкі суправаджаліся антыўрадавымі маніфестацыямі[3]. Агульная колькасць стачачнікаў за эканамічныя правы ў лютым дасягала 5,4 тыс., а ў сакавіку – 5,8 тыс., што значна перавышала сумарны паказчык за ўвесь 1904 г.

Высокі ўзровень актыўнасці рабочых у эканамічнай барацьбе захоўваўся і ў наступныя месяцы (гл. табл. 9). Колькасць стачачнікаў у кожным з іх не саступала сумарнаму паказчыку папярэдняга года, а ў маі перавысіла яго амаль у два разы. Найбольшы размах у той час набылі стачкі на металаапрацоўчых, дрэваапрацоўчых, гарбарна-абутковых і харчасмакавых прадпрыемствах у Мінску, Барысаве, Бабруйску, Мазыры, Пінску, Слоніме, Магілёве, Віцебску, Гродне, Смаргоні, Ашмянах. Нярэдка выступленні ахоплівалі ўсе прадпрыемствы пэўнай галіны вытворчасці ў маштабах горада. У маі 1905 г. цэнтралізаваны прафсаюз шчаціннікаў арганізаваў рэгіянальны страйк на прадпрыемствах па апрацоўцы шчаціны, які ахапіў шэраг гарадоў і мястэчак заходніх губерняў імперыі і праходзіў з адзінымі патрабаваннямі (8-гадзінны рабочы дзень, гарантыя працы не менш чым на 40 тыдняў у год, паляпшэнне медыцынскага абслугоўвання і інш.). Як

[1] Революционное движение в Белоруссии 1905–1907 гг. Мн., 1955. С.24–25; *Майзель Л.Н.* 1905–1907 гг. на Беларусі. Хроніка падзей. Мн., 1934. С.7.

[2] Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3. С.395.; *Майзель Л.Н.* 1905–1907 гг. на Беларусі. Хроніка падзей. С.7–20.

[3] *Майзель Л.Н.* 1905–1907 гг. на Беларусі. Хроніка падзей. С.25, 28, 37–44; Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3. С.402, 405–406; Революционное движение в Белоруссии 1905–1907 гг. С.63–64.

правіла, выступленні заканчваліся поўнымі ці частковымі ўступкамі прадпрымальнікаў. У некаторых выпадках рабочыя дамагаліся ўстанаўлення 8-гадзіннага працоўнага дня[1].

У той жа час назіраўся рэзкі ўздым палітычнай барацьбы рабочых, які пачаўся ў сярэдзіне красавіка (па старым стылі) у сувязі са святкаваннем 1 Мая. У красавіцкіх палітычных стачках узялі ўдзел каля 51 тыс. чалавек, г. зн. у 1,5 раза больш, чым у студзеньскіх. Павялічылася таксама колькасць дэманстрацый і асабліва масовак. Палітычнымі выступленнямі рабочых былі ахоплены 47 гарадоў і мястэчак (на 17 больш, чым у студзені) (гл. табл. 9).

У чэрвені-ліпені 1905 г. шырокі размах у Беларусі набылі выступленні пратэсту супраць крывавых рэпрэсій царызму ў Лодзі, Варшаве, Адэсе, Іванава-Вазнясенску. У пачатку ліпеня яны спалучаліся з выступленнямі, на якіх ушаноўвалася памяць ахвяр "крывавай нядзелі" ў Пецярбургу і паўгоддзе рэвалюцыі. Палітычнымі выступленнямі ў форме стачак, вулічных дэманстрацый, мітынгаў і маніфестацый у чэрвені былі ахоплены 32, а ў ліпені – 53 населеныя пункты (гл. табл. 9). У Мінску, Бабруйску, Віцебску адбыліся ўзброеныя сутычкі з паліцыяй і казакамі, мелі месца чалавечыя ахвяры. Сотні людзей былі арыштаваны.

**Уздым сялянскага руху. Першыя хвалянні ў войску.** У адрозненне ад гарадскіх рабочых, якіх падзеі 9 студзеня ў Пецярбургу ў значнай меры пазбавілі царысцкіх ілюзій, абсалютная большасць сялян працягвала яшчэ верыць цару. Іх царысцкія ілюзіі нават узмацніліся пасля публікацыі ўказа Мікалая II ад 18 лютага 1905 г., якім дазвалялася прысылаць у Савет міністраў хадайніцтвы і петыцыі на імя цара з прапановамі аб паляпшэнні дзяржаўнага ладу і становішча народа.

У сваіх прапановах сяляне выказвалі пажаданні ўраўнавання ў правах з іншымі саслоўямі, ліквідацыі валасных судоў і самавольства начальнікаў, увядзенне міравых суддзяў і земстваў, выбраных усім насельніцтвам, стварэння земскіх школ, бальніц, ветлячэбніц, адмены выкупных плацяжоў, акцызных падаткаў на прадметы першай неабходнасці, дадатковага надзялення сялян зямлёю за кошт свабодных казённых, удзельных, царкоўных, а пры неабходнасці – і памешчыцкіх зямель па справядлівых расцэнках, спынення вайны з японцамі[2]. Фактычна беларускія сяляне патрабавалі ўвядзення ў Расіі заканадаўчага народнага прадстаўніцтва.

Пачатак рэвалюцыі прыкметна адбіўся на дынаміцы сялянскага руху: калі ў 1901–1904 гг. у сярэднім штогод адбывалася 28 выступленняў, то ў студзені – сакавіку 1905 г. іх колькасць вырасла да 53[3]. Аднак у формах руху якасных змен у гэты час не назіралася. Пераважную большасць студзеньска-сакавіцкіх выступленняў складалі парубкі панскіх лясоў[4].

У красавіку–чэрвені сумарны паказчык сялянскіх выступленняў узняўся да 237, з іх 175 прыйшлося на чэрвень[5]. Менавіта гэтымі месяцамі можна датаваць пачатак рэвалюцыі ў беларускай вёсцы. Пад уплывам агітацыі мясцовых арганізацый РСДРП, ПСР, а таксама (у меншай ступені) Бунда, ППС у Літве і БСГ у сялянскім руху ў вяснова-летні перыяд 1905 г. хутка пашырыліся но-

---

[1] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.I. С.227–228.

[2] *Майзель Л.Н.* 1905–1907 гг. на Беларусі. Хроніка падзей. С.458–459.

[3] *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг. Приложение 3.

[4] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.323–324.

[5] *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос в Белоруссии в революции 1905–1907 гг. Приложение 3.

выя для яго формы – забастоўкі, палітычныя сходы і мітынгі. Іх удзельная вага ў параўнанні з традыцыйнымі формамі павялічылася да 35,5 %.

Першым найбольш значным і арганізаваным выступленнем новага для вёскі тыпу з'явілася агульная забастоўка сялян-падзёншчыкаў і парабкаў, якая ў пачатку чэрвеня 1905 г. ахапіла амаль усе маёнткі Навагрудскага павета. У канцы чэрвеня агульнымі сялянскімі забастоўкамі былі ахоплены Ваўкавыскі і Гродзенскі паветы. Шырокі размах набылі сельскагаспадарчыя страйкі ў Мінскім, Бабруйскім, Рэчыцкім, Слуцкім, Брэсцкім, Горацкім, Аршанскім, Гомельскім і Рагачоўскім паветах.

Галоўнай мэтай барацьбы, якая вызначала характар сялянскага руху, па-ранейшаму з'яўлялася ліквідацыя панскага землеўладання. З традыцыйных формаў сялянскай барацьбы самымі распаўсюджанымі былі патравы памешчыцкіх угоддзяў (18,2 %) і парубка лесу (9 %). Сутычкі сялян з паліцыяй і войскамі складалі 10 %. Імі звычайна завяршаліся найбольш вострыя выступленні. Колькасць разгромаў і падпалаў панскіх двароў у Беларусі была адносна нязначнай (адпаведна 0,4 і 2,5 % выступленняў)[1].

Пад уплывам магутнага вясновa-летняга ўздыму рабочага і сялянскага руху, узмоцненым агітацыяй рэвалюцыйных партый, завагалася галоўная апора самадзяржаўя – армія. Пра гэта сведчыць паўстанне на браняносцы "Потемкин", хваляванні матросаў на іншых чарнаморскіх і балтыйскіх ваенных караблях, а таксама салдат у шэрагу месцаў, у тым ліку ў Беларусі. У Мінску ў ліпені 1905 г. салдаты Баранавіцкага чыгуначнага батальёна выказалі пратэст супраць адпраўкі іх на Далёкі Усход. Сацыял-дэмакратычная агітацыя вялася ў гарнізонах Бабруйска, Гродна, Брэста і іншых гарадоў.

**Ажыўленне ліберальнага руху**. Арганізацыйнай асновай ліберальна-апазіцыйнага руху ў Расіі да восені 1905 г. былі выбарныя органы мясцовага (земскага) самакіравання, якія ў сваёй дзейнасці з часу з'яўлення (1864) пастаянна сутыкаліся з дыктатам царскай бюракратыі. Аб'яднанне земстваў і ўтварэнне імі агульнарасійскай структуры накшталт Земскага сабора катэгарычна забаранялася самадзяржаўем, аднак яны пастаянна імкнуліся да ўзаемадзеяння і выпрацоўкі адзіных земскіх патрабаванняў. У 1902 г. з гэтай мэтай было створана Бюро земскіх з'ездаў. У наступным годзе радыкальная частка земцаў аб'ядналася ў нелегальны "Саюз вызвалення". У лістападзе 1904 г. згаданае бюро арганізавала ў Маскве з'езд земскіх і гарадскіх дзеячаў, які прызнаў неабходнасць ураўнавання ў правах усіх грамадзян Расійскай імперыі без адрознення расы, нацыянальнасці, веравызнання, саслоўя і маёмаснага стану, абвяшчэння свабоды сумлення, слова, друку, сходаў, недатыкальнасці асобы і жылля, увядзення адказнасці службовых асоб перад судом за парушэнне закона, распаўсюджання земстваў на ўсю тэрыторыю Расіі, скасавання саслоўнага прынцыпу ў арганізацыі земскага прадстаўніцтва, утварэння дробных земскіх адзінак (у валасцях), вызвалення сельскага насельніцтва ад апекі адміністрацыі. У рэзалюцыі з'езда выказвалася надзея на тое, што вярхоўная ўлада забяспечыць скліканне свабодна выбраных народных прадстаўнікоў, каб з іх дапамогай вывесці Расію "на новы шлях дзяржаўнай улады і народа". Большасць удзельнікаў з'езда прызнала неабходнасць надзялення народнага прадстаўніцтва заканадаўчымі паўнамоцтвамі і правам кантролю за дзейнасцю адміністрацыі. Гэту праграму ў канцы 1904 – пачатку 1905 г. падтрымала пераважная большасць земскіх сходаў[2].

---

[1] *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос в Белоруссии в революции 1905–1907 гг. Приложение 7.

[2] Новейшие преобразования русского государственного строя. СПб., 1906. С.39–42; *Королева Н.Г.* Земство на переломе (1905–1907 гг.). М., 1995. С.78–82, 207.

У Беларусі ва ўмовах панавання рэжыму выключных законаў арганізацыйныя структуры для развіцця ліберальнага руху ў форме выбарных земстваў адсутнічалі. Адзіна дазволенымі арганізацыямі для мясцовых землеўласнікаў – дваран у канцы XIX – пачатку XX ст. з'яўляліся таварыствы сельскай гаспадаркі. Звышпільны нагляд і кантроль за іх дзейнасцю стрымліваў апазіцыйнасць. Тым не менш дваранства Беларусі, найперш каталіцкае, не магло змірыцца з мураўёўскімі абмежавальнымі законамі, якія адмоўна адбіваліся на развіцці эканомікі і культуры краю. Гадавыя сходы таварыстваў, праведзеныя ў сакавіку 1905 г. у Мінску, Гродне і Віцебску, выказаліся за неадкладнае ўвядзенне ў краі земскіх і гарадскіх органаў самакіравання на агульнавыбарнай аснове, за скасаванне нацыянальных і канфесіянальных абмежаванняў і ліквідацыю саслоўнай замкнёнасці сялян, за ўсеагульную народную асвету[1].

Палітычная апазіцыя царызму пасля падзей 9 студзеня ў Пецярбургу пачала праяўляцца і ў гарадскіх думах Беларусі. У зале мінскай думы 12 студзеня пры вялікім наплыве пабочнай публікі (рабочыя, людзі вольных прафесій і інш.) гласным Амбрашкевічам была абвешчана рэзалюцыя з патрабаваннем палітычнай свабоды[2]. У чэрвені 1905 г. Мінская гарадская дума прыняла пастанову, у якой хадайнічала аб хутчэйшым скліканні народных прадстаўнікоў. Члены гарадскіх дум Беларусі ўдзельнічалі ў агульнарасійскіх з'ездах земскіх і гарадскіх дзеячаў. Гласны Мінскай гарадской думы В. Янчэўскі быў абраны ў арганізацыйнае бюро гэтых з'ездаў[3].

Ліберальны рух паступова пашыраўся сярод яўрэйскай гандлёва-прамысловай буржуазіі. У пачатку XX ст. значная яе частка прытрымлівалася ідэалогіі сіянізму і прынцыпу поўнага неўмяшання ў палітычнае жыццё дыяспары. Разам з тым фарміравалася і другая плынь, якая прызнавала неабходнасць дамагацца скасавання шматлікіх дыскрымінацыйных законаў у адносінах да яўрэяў і звязвала гэта з увядзеннем у Расіі канстытуцыйнага ладу. Яе агульнапалітычная платформа супадала з праграмай расійскіх ліберальных земцаў. У сакавіку 1905 г. на з'ездзе ў Вільні прадстаўнікі гэтай плыні ўтварылі Саюз дасягнення раўнапраўя яўрэяў у Расіі[4].

Першыя палітычныя захады прыхільнікаў гэтага саюза ў Беларусі былі вельмі сціплыя. Так, магілёўская яўрэйская абшчына ў маі 1905 г. падала ў гарадскую думу петыцыю, у якой заявіла аб непрызнанні прызначаных адміністрацыяй гласных з яўрэяў сваімі прадстаўнікамі і прасіла яе хадайнічаць у вышэйшых інстанцыях аб наданні яўрэйскаму насельніцтву права рэальнага ўдзелу ў выбарах органаў гарадскога самакіравання[5].

У пачатку 1905 г. прыкметную палітычную актыўнасць праяўляла ліберальная інтэлігенцыя Мінска, што групавалася вакол Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў. На яго літаратурныя, філасофскія, тэатральныя вечары траплялі рабочыя, прадстаўнікі мясцовых рэвалюцыйных арганізацый. З іх удзелам гэтыя вечары нярэдка ператвараліся ў антыўрадавыя маніфестацыі, якія, як правіла, заканчваліся вулічнымі дэманстрацыямі[6].

---

[1] *Майзель Л.Н.* 1905–1907 гг. на Беларусі. Хроніка падзей. С.42, 48, 51.

[2] Там жа. С.7.

[3] *Забаўскі М.М., Пуцік У.С.* Прадстаўніцтва ад Беларусі ў Дзяржаўнай думе Расіі (1906–1917 гг.). Мн., 1998. С.23.

[4] *Майзель Л.Н.* 1905–1907 гг. на Беларусі. Хроніка падзей. С.49.

[5] Там жа. С.75.

[6] Там жа. С.28, 29, 32.

**Першыя палітычныя ўступкі**. Каб аслабіць рэвалюцыйны націск і знайсці падтрымку ў ліберальных колах грамадства, Мікалай II рэскрыптам на імя міністра ўнутраных спраў А. Булыгіна ад 18 лютага 1905 г. абвясціў аб сваім намеры склікаць "самых годных, даверам надзеленых, выбраных ад насельніцтва людзей для ўдзелу ў папярэдняй распрацоўцы і абмеркаванні заканадаўчых мерапрыемстваў"[1]. Былі перагледжаны некаторыя абмежаванні правоў неправаслаўнага хрысціянскага, нехрысціянскага і нярускага насельніцтва імперыі. Царскімі ўказамі ад 17 красавіка і 1 мая 1905 г. дазваляўся пераход з праваслаўнай веры ў іншыя хрысціянскія канфесіі без негатыўных вынікаў для адступнікаў ад праваслаўя. Адначасова скасоўваліся абмежаванні на будаўніцтва, абнаўленне і рамонт неправаслаўных хрысціянскіх цэркваў і малітоўных дамоў, з'яўлялася магчымасць выкладання Закона Божага ў навучальных установах для дзяцей неправаслаўных хрысціян на іх роднай мове[2].

Таксама былі адменены ці паслаблены некаторыя абмежаванні правоў польскага і наогул каталіцкага насельніцтва дзевяці заходніх губерняў, уведзеныя ў сувязі з паўстаннем 1863 г. "Асобам польскага паходжання" дазвалялася ў гэтых губернях на агульных падставах арандаваць, набываць ва ўласнасць і пажыццёвае ўладанне, а таксама прымаць у заклад зямельныя маёмасці ад асоб такога ж паходжання. Адмяняўся закон ад 27 студзеня 1901 г., якім землеўладанне сялян-католікаў у дзевяці заходніх губернях абмяжоўвалася 60 дзесяцінамі на двор. У гэтых губернях аднаўляліся дваранскія сходы з правам выбару прадвадзіцеляў дваранства. Дапускалася выкладанне літоўскай і польскай моў у пачатковых двухкласных і гарадскіх вучылішчах, а таксама ў сярэдніх навучальных установах у тых мясцовасцях, дзе большасць насельніцтва складалі літоўцы ці адпаведна палякі. Дапушчэнне ў школу беларускай і ўкраінскай моў было прызнана нямэтазгодным[3].

6 жніўня 1905 г. Мікалай II зацвердзіў законапраект аб выбарах у Дзяржаўную думу, распрацаваны камісіяй на чале з А. Булыгіным. Патрабаванні земскіх з'ездаў былі цалкам праігнараваны. Выбарчая сістэма, паводле закона, засноўвалася на саслоўным прынцыпе. У выбарах забаранялася ўдзельнічаць усім наёмным рабочым, якія не адпавядалі ўстаноўленым цэнзам па маёмасці і аселасці. Статус Думы вызначаўся як законадарадчы. Ніякіх рэальных правоў і паўнамоцтваў яна не атрымлівала.

Зацвярджэнне царом булыгінскага праекта, нягледзячы на тое што яго асудзілі ўсе земствы Расіі, выклікала разгубленасць сярод кіраўнікоў земскага руху. Тым не менш на вераснёўскім з'ездзе земскія і гарадскія дзеячы прынялі рашэнне ісці ў булыгінскую Думу з мэтай дасягнуць праз яе "гарантый грамадскай свабоды, роўнасці і заканадаўчага статусу народнага прадстаўніцтва..."[4] У Беларусі адпаведную пазіцыю занялі гарадскія думы.

Царскі "падарунак" народу ў выглядзе законадарадчай Думы не супакоіў ахопленую рэвалюцыяй краіну. Усе левыя, сацыял-дэмакратычныя і народніцкія, агульнарасійскія і нацыянальныя партыі не толькі асудзілі булыгінскую Думу, але і разгарнулі шырокую агітацыю за байкот выбараў, далейшае пашырэнне масавай рэвалюцыйнай барацьбы за звяржэнне самадзяржаўя шляхам узброенага народнага паўстання і ўсталявання дэмакратычнай рэспублікі праз скліканне выбранага дэмакратычным шляхам

[1] Новейшие преобразования русского государственного строя С.135.

[2] Там жа. С.81.

[3] Там жа. С.89–104, 107–109.

[4] *Королева Н.Г.* Земство на переломе (1905–1907 г.). С.150–153.

Устаноўчага сходу. Лозунг байкоту булыгінскай Думы падтрымала частка ліберальных прафесійна-палітычных саюзаў інтэлігенцыі, аб'яднаных у "Саюз саюзаў".

У Беларусі антыдумская агітацыя рэвалюцыйных партый пачалася ў ліпені 1905 г. – пасля неафіцыйнай публікацыі булыгінскага законапраекта. У Гомелі 12 ліпеня мітынг 400 рабочых, арганізаваны бундаўцамі, прыняў рэзалюцыю, у якой выказаў пратэст супраць Думы і заявіў, што не шлях кампрамісаў і петыцый, а толькі рэвалюцыя прывядзе народ да жаданай мэты – дэмакратычнай рэспубліці. Падобныя рэзалюцыі ў канцы ліпеня былі прыняты на мітынгах рабочых Брэста (4 тыс. чалавек), Высока-Літоўска, Смалявіч, Лёзна, Ігумена, Беразіно, Чашнікаў[1].

У жніўні рух пратэсту супраць булыгінскай Думы значна пашырыўся і ўзмацніўся. У Віцебску 24 жніўня 400 рабочых наладзілі рэвалюцыйную маніфестацыю каля будынка гарадской думы, дэпутаты якой абмяркоўвалі адказ цару ў знак удзячнасці за маніфест ад 6 жніўня. У Мінску ў аналагічнай сітуацыі ў жніўні-верасні 1905 г. у гарадской думе былі арганізаваны тры антыўрадавыя маніфестацыі. Мітынг 800 рабочых Мінска, праведзены групай РСДРП 19 верасня, падтрымаў лозунг байкота Думы і рэзалюцыю II з'езда партыі аб узброеным паўстанні. У жніўні-верасні падобныя сходы і мітынгі адбыліся ў Полацку, Брэсце, Смаргоні, Лідзе, Ашмянах, а таксама ў мястэчках Івянец, Лебедзева, Халопенічы, Почап, Картуз-Бяроза, Капыль, Цімкавічы. У шэрагу месцаў яны суправаджаліся вулічнымі маніфестацыямі і дэманстрацыямі[2].

Аднак, як вынікае з табл. 9, хваля рэвалюцыйных выступленняў рабочых Беларусі ў жніўні-верасні ў параўнанні з ліпенем рэзка знізілася. У той жа час істотна звузіўся і размах сялянскага руху. Тое ж назіралася і ва ўсёй Расіі. Аднак спад аказаўся часовым.

**Кастрычніцкая палітычная стачка.** Новы ўсерасійскі ўздым рабочага руху пачаўся ў Маскве, дзе ў канцы верасня 1905 г. стачкі асобных катэгорый рабочых упершыню перараслі ў агульнагарадскую палітычную забастоўку, якая суправаджалася вулічнымі маніфестацыямі і сутыкненнямі рабочых з паліцыяй і войскам. У далейшым развіцці падзей выключную ролю адыграў Усерасійскі чыгуначны саюз (УЧС), створаны ў красавіку 1905 г. Цэнтральнае бюро саюза, якое знаходзілася ў Маскве, 7 кастрычніка па тэлеграфе заклікала рабочых і служачых усіх чыгуначных майстэрняў да ўсеагульнай забастоўкі. На працягу наступнага тыдня чыгуначны рух у імперыі быў спынены. Адначасова па закліку рэвалюцыйных партый у гарадах была спынена дзейнасць прамысловых прадпрыемстваў, гандлёвых, навучальных, банкаўскіх і іншых устаноў.

У ходзе кастрычніцкай палітычнай стачкі ў Пецярбургу, Маскве і многіх іншых гарадах Расіі сфарміраваліся Саветы рабочых дэпутатаў ці выбарныя агульнагарадскія стачачныя камітэты. Абапіраючыся на ўзброеныя баявыя дружыны рабочых, яны дзейнічалі ў пэўнай меры як органы ўлады. У Беларусі агульнагарадскімі стачкамі кіравалі кааліцыйныя саветы, камітэты, камісіі, у якія на аснове пагаднення ўваходзілі прадстаўнікі ўплывовых мясцовых арганізацый рэвалюцыйных партый: РСДРП, Бунда, ПСР, ППС у Літве. Вядучую ролю ў правядзенні кастрычніцкай палітычнай стачкі ў Беларусі, як і ва ўсёй Расіі, адыгралі чыгуначнікі.

На важнейшых чыгуначных станцыях (Орша, Мінск, Баранавічы, Гомель, Пінск і інш.) рух цягнікоў быў спынены 10–12 кастрычніка. Чыгу-

---

[1] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.231–232.

[2] Там жа.

начнікаў падтрымалі рабочыя фабрык і заводаў, друкарняў, рамесных майстэрняў, работнікі гандлю, служачыя многіх устаноў, вучнёўская моладзь. На чыгуначных станцыях і ў цэнтрах гарадоў штодзённа праводзіліся масавыя мітынгі, маніфестацыі і дэманстрацыі. Нярэдка яны заканчваліся сутычкамі з паліцыяй і войскам.

Агульнарасійская стачка прымусіла царызм пайсці на прынцыповыя палітычныя ўступкі. 17 кастрычніка Мікалай II падпісаў Маніфест, паводле якога ў краіне ўводзіліся "непарушныя асновы грамадзянскай свабоды на прынцыпах сапраўднай недатыкальнасці асобы, свабоды сумлення, слова, сходаў і саюзаў", значна пашырыўся кантынгент тых, хто атрымаў права ўдзелу ў выбарах Дзяржаўнай думы, а сама Дума атрымала заканадаўчыя паўнамоцтвы. Цар урачыста абяцаў: "Устанавіць, як непарушнае правіла, каб ніякі закон не мог займець сілы без адабрэння Дзяржаўнай думы..."[1]

18 кастрычніка да жыхароў Беларусі дайшлі чуткі аб падпісанні Мікалаем II Маніфеста аб свабодах. Масы людзей выйшлі на вуліцы і плошчы гарадоў. У Мінску цэнтрам збору стала плошча каля Віленскага вакзала. Да 4 гадзін дня там сабраліся, паводле звестак паліцмайстра, каля 15–20 тыс. маніфестантаў. Праходзіў мірны мітынг, які перапынілі залпы стрэлаў з пешаходнага маста над чыгуначнымі пуцямі. Стральба пачалася без папярэджання па загаду жандарскага палкоўніка Вільдэмана-Клопмана з санкцыі губернатара Курлова. У выніку было забіта да 100 чалавек і паранена каля 300.

У сувязі з гэтымі падзеямі Мінскі кааліцыйны савет абвясціў аб працягу ўсеагульнай палітычнай забастоўкі з прад'яўленнем ураду патрабаванняў неадкладнага адхілення ад пасады губернатара, паліцмайстра, жандарскага палкоўніка Вільдэмана-Клопмана і ўзбуджэння судовага следства супраць усіх, хто меў дачыненне да крывавай бойні 18 кастрычніка, перадачы справы аховы грамадскага парадку і бяспекі ўладам горада, неадкладнага выдалення з горада казакаў, забеспячэння сем'яў забітых і параненых за кошт дзяржавы, гарантыі свабоды сходаў[2]. Аднак дамагчыся гэтага не ўдалося.

17 кастрычніка ўсеагульная забастоўка пачалася ў Віцебску. Падчас дэманстрацыі адбылася перастрэлка, у ходзе якой былі паранены тры дэманстранты і забіты гарадавы. Раніцай 18 кастрычніка каля губернскай друкарні пачаўся мітынг, які патрабаваў ад улад прачытання маніфеста. У выніку прымянення казакамі агнястрэльнай зброі сем чалавек былі забіты і чатыры паранены. У той жа дзень у горадзе адбылася 20-тысячная дэманстрацыя пратэсту. 19 кастрычніка амаль 40 тыс. віцябчан прынялі ўдзел у пахаванні забітых[3].

Кастрычніцкая палітычная стачка ахапіла ў Беларусі 32 населеныя пункты, а ў іх – практычна ўсіх рабочых. Агульная колькасць стачачнікаў толькі ў прамысловасці дасягала 66 тыс чалавек. З улікам дэманстрацый, мітынгаў і маніфестацый палітычны рух працоўных у кастрычніку 1905 г. ахапіў 53 гарады і мястэчкі (як і ў ліпені). Па колькасці ўзброеных сутычак з паліцыяй і войскам кастрычніцкі паказчык быў вышэйшы за ліпеньскі (гл. табл. 9).

Кастрычніцкая палітычная стачка рабочых і служачых знайшла магутную падтрымку ў вёсцы, але не адразу, пра што сведчыць дынаміка ся-

---

[1] Новейшие преобразования русского государственного строя. С.246–247.

[2] Сацыялістычны рух на Беларусі ў пракламацыях 1905 г. Мн., 1927. С.152–153.

[3] Революционное движение в Белоруссии в 1905–1907 гг. С.282; Северо-Западный край. 1905. №767. 768.

лянскіх выступленняў. Глыбокі спад у верасні (18 выступленняў) змяніўся ажыўленнем у кастрычніку (54 выступленні) і ўздымам у лістападзе (154 выступленні). Найбольшы размах рэвалюцыйнай барацьбы ў вёсцы назіраўся ў снежні (286 выступленняў). Пры гэтым у кастрычніку – снежні 1905 г. прыкметна павялічылася колькасць разгромаў і падпалаў панскіх двароў, сутыкненняў з паліцыяй і войскам, палітычных сходаў, мітынгаў і дэманстрацый. Колькасць жа забастовак сялян і парабкаў у цэлым па Беларусі знізілася (найбольш ва ўсходніх губернях), але ў Гродзенскай губерні ў параўнанні з летам істотна вырасла (да 47 %)[1].

Пад уздзеяннем кастрычніцкай палітычнай стачкі значна ўзмацніліся хваляванні ў войску. Усерасійскі рэзананс набылі паўстанні матросаў і салдат у Кранштаце (26–27 кастрычніка), Севастопалі (11–15 лістапада) і іншых месцах. У Беларусі найбольш значныя выступленні салдат адбыліся ў гэты час у Гродне, Бабруйску, Брэст-Літоўску. Іх кіраўнікамі з'яўляліся падпольныя ваенна-рэвалюцыйныя арганізацыі. Разам з патрабаваннямі паляпшэння свайго матэрыяльнага становішча салдаты выказвалі салідарнасць з удзельнікамі Кранштацкага і Севастопальскага паўстанняў[2].

У выніку кастрычніцкай палітычнай стачкі ў Расіі склалася адносная раўнавага сіл рэвалюцыі і прыхільнікаў існуючых парадкаў. Рэвалюцыйна-дэмакратычныя сілы не змаглі звергнуць самадзяржаўе, але прымусілі яго пайсці на істотныя палітычныя ўступкі і фактычна заваявалі свабоду слова, сходаў, друку, саюзаў. Адкрыта дзейнічалі Саветы рабочых дэпутатаў, нізавыя структуры рэвалюцыйных партый, усерасійскія прафесійна-палітычныя саюзы (чыгуначнікаў, паштова-тэлеграфных служачых, настаўнікаў, сялян і інш.). Разгарнуўся масавы рух па стварэнні адкрытых прафесійных саюзаў рабочых прамысловых прадпрыемстваў, работнікаў гандлю. Выдаваліся газеты самых розных ідэйна-палітычных кірункаў – бальшавіцкія, меншавіцкія, бундаўскія, эсэраўскія і інш. У Мінску пасля чатырохмесячнага перапынку аднавілася выданне вялікай штодзённай газеты "Северо-Западный край" – фактычнага органа мясцовай групы РСДРП.

**Утварэнне кансерватыўных і ліберальных партый.** Кастрычніцкая палітычная стачка прымусіла мабілізавацца ўсе кансерватыўныя сілы з мэтай захавання самадзяржаўя, памешчыцкага землеўладання, пануючага становішча праваслаўнай царквы і рускай нацыі ў "адзінай і непадзельнай Расійскай імперыі". У выніку ўзнік шэраг крайне правых груповак ("Саюз рускага народа", "Савет аб'яднанага дваранства", "Айчынны саюз" і інш.), якія па сутнасці не прызнавалі Маніфест 17 кастрычніка. Найбольшую актыўнасць у барацьбе з рэвалюцыяй праяўляў "Саюз рускага народа", больш вядомы як "чорная сотня". Восенню 1905 г. яго аддзелы ўтварыліся ў Вільні, Мінску, Гомелі, Віцебску, Пінску, Оршы, Глыбокім і многіх іншых гарадах і мястэчках заходніх губерняў імперыі. Іх арганізатарамі з'яўляліся мясцовыя расійскія чыноўнікі і прадстаўнікі праваслаўнага духавенства. Яны абапіраліся на падтрымку ўлад і цесна ўзаемадзейнічалі з палітычнай паліцыяй. У дні кастрычніцкай стачкі чарнасоценцы наладжвалі вулічныя шэсці з іконамі, царкоўнымі харугвамі і партрэтамі цара, арганізоўвалі за-

---

[1] *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг. С.239, 287, 316.

[2] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.246–247; *Майзель Л.Н.* 1905–1907 гг. на Беларусі. С.186, 188.

бойствы рэвалюцыянераў і яўрэйскія пагромы ў Беларусі (Орша, Гомель, Полацк, Дуброўна).

У кастрычніку 1905 г. быў створаны праваліберальны "Саюз 17 кастрычніка" ("Союз 17 октября"), які цалкам салідарызаваўся з царскім маніфестам і на гэтай аснове імкнуўся супрацоўнічаць з урадам. Да пачатку лютага 1906 г. арганізацыі акцябрыстаў афармляліся і дзейнічалі ў шэрагу гарадоў заходніх губерняў – Вільні, Гродне, Вілейцы, Свянцянах, Дзвінску, Віцебску, Мінску, Бабруйску, Гомелі[1]. Ініцыятыва іх стварэння, як і чарнасоценных арганізацый, зыходзіла ад чыноўнікаў і праваслаўнага духавенства. Адным з найбольш актыўных у заходнім рэгіёне быў Мінскі аддзел, які ўзначальвалі чыноўнікі Г. Шміт, І. Чыгіроў, А Бяляеў, протаіерэй В. Успенскі. На працягу снежня 1905 – студзеня 1906 г. аддзел распаўсюдзіў 48 500 экземпляраў розных адозваў і брашур, арганізаваў выданне перыядычнага органа – штодзённай газеты "Минская речь" і прыцягнуў у свае рады каля 1000 чалавек, сярод якіх былі сяляне Мінскага павета[2].

Акцябрысты заходніх губерняў, у адрозненне ад кіраўніцтва партыі, яе сталічных і іншых цэнтральнарасійскіх арганізацый, цалкам падтрымлівалі рэпрэсіўную палітыку ўрада і кіраваліся ў сваёй дзейнасці вялікадзяржаўнай ідэалогіяй. На І усерасійскім з'ездзе "Саюза 17 кастрычніка" ў Маскве ў лютым 1906 г. дэлегаты ад беларускіх, прыбалтыйскіх і польскіх губерняў рашуча выступілі супраць рэзалюцыі, у якой крытыкавалася ўнутраная палітыка ўрада. Адначасова яны заяўлялі аб неабходнасці хадайнічаць перад царом аб наданні рускаму насельніцтву заходніх губерняў права на адміністрацыйнае прадстаўніцтва ў Дзяржаўнай думе, г. зн. аб змяненні выбарчага закона. Пасля з'езда акцябрысты азначанага рэгіёна аб'ядналіся ў "Окраинный союз 17 октября" з цэнтрам у Вільні і ў пачатку сакавіка 1906 г. накіравалі дэпутацыю да Мікалая II з просьбай "дараваць" права рускаму насельніцтву заходніх губерняў асобна выбіраць сваіх прадстаўнікоў і ў Дзяржаўную думу і ў рэарганізаваны Дзяржаўны савет[3].

У кульмінацыйныя дні Усерасійскай палітычнай стачкі – 12–18 кастрычніка 1905 г. – у Маскве адбыўся з'езд прадстаўнікоў "Саюза земцаў-канстытуцыяналістаў" і "Саюза вызвалення", які прыняў рашэнне аб утварэнні леваліберальнай канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі (КДП). Яе праграма прадугледжвала роўнасць усіх расійскіх грамадзян перад законам, свабоду сумлення, слова, друку, сходаў і саюзаў, недатыкальнасць асобы і жылля, незалежнасць і публічнасць суда, выбранне ўсерасійскага заканадаўчага народнага прадстаўніцтва і мясцовых органаў самакіравання ўсеагульным, роўным, простым і тайным галасаваннем, адказнасць міністраў перад сходам народных прадстаўнікоў, наданне Каралеўству Польскаму дзяржаўнай аўтаноміі з уласным сеймам і права кожнай народнасці на культурна-нацыянальную аўтаномію з поўнай свабодай выкарыстання ў публічным жыцці родных моў. Сялянам КДП абяцала павелічэнне плошчы землекарыстання за кошт дзяржаўных, удзельных, кабінецкіх, манастырскіх, а таксама часткі прыватнаўласніцкіх зямель, выкупленых дзяржавай "па справядлівай (не рыначнай) ацэнцы"; рабочым – права на стачкі, 8-гадзінны працоўны дзень і інш.[4]

---

[1] Минская речь. 1906. №28.

[2] Там жа. №25.

[3] Там жа. №59.

[4] Октябрь 1917 и судьбы политической оппозиции. Ч.1. Политические партии России. Гомель, 1993. С.108–115.

Дэлегаты I з'езда КДП выказалі поўную салідарнасць з мэтамі Усерасійскай палітычнай стачкі і негатыўна ацанілі Маніфест 17 кастрычніка. Пры гэтым яны канстатавалі, што асноўныя палітычныя свабоды, ідэі раўнапраўя і ўсеагульнага выбарчага права атрымалі ў ім "далёка не поўнае прызнанне". Адзначыўшы адсутнасць у краіне ўмоў для ажыццяўлення абвешчаных маніфестам асноў новага палітычнага жыцця і немагчымасць прызнання Дзяржаўнай думы "правільным народным прадстаўніцтвам", дэлегаты з'езда заявілі, што задачай КДП з'яўляецца "дасягненне пастаўленай раней мэты – Устаноўчага схода на аснове ўсеагульнага і роўнага выбарчага права з простым і тайным галасаваннем"[1].

З-за адсутнасці выбарных земстваў і вышэйшых навучальных устаноў спрыяльнай сацыяльнай глебы ў Беларусі і Літве для распаўсюджання арганізацый КДП не было. Да мая 1906 г. нешматлікія групы гэтай партыі сфарміраваліся толькі ў Вільні, Магілёве і Пінску[2]. Большасць іх членаў складалі прадстаўнікі ліберальнай інтэлігенцыі, пераважна яўрэйскай, а таксама польска-беларускай (адвакаты, журналісты, урачы, гласныя гарадскіх дум). Тым не менш папулярнасць КДП у краі была вялікая. Яе праграму цалкам падтрымлівалі ўсе плыні буржуазнага сіянізму, Саюз дасягнення раўнапраўя яўрэяў у Расіі, каталіцкі касцёл і часткова (за выключэннем аграрнай часткі праграмы) – польска-беларускія землеўласнікі. Саюзніцай кадэтаў стала канстытуцыйна-каталіцкая партыя Літвы і Беларусі, створаная ў канцы 1905 – пачатку 1906 г. па ініцыятыве віленскага каталіцкага біскупа барона Э.Ропа. Асноўным рэгіёнам яе дзейнасці сталі Віленшчына і частка Гродзеншчыны, дзе пераважала каталіцкае насельніцтва. Барон Роп, паводле слоў аднаго з яго прыхільнікаў, узяў за ўзор праграму КДП "як самую здавальняючую спробу мірнага вырашэння сацыяльнага пытання, але, прыняўшы яе, адухавіў унясеннем у яе аснову хрысціянскага прынцыпу"[3].

**Снежаньская палітычная стачка.** У пачатку снежня 1905 г. царскі ўрад паспрабаваў авалодаць становішчам у краіне. 2 снежня былі закрыты ўсе дэмакратычныя газеты, якія надрукавалі Маніфест Пецярбургскага савета рабочых дэпутатаў і цэнтральных камітэтаў левых партый з заклікам да фінансавага байкоту антынароднага рэжыму. На наступны дзень паліцыя арыштавала членаў выканкама і многіх дэпутатаў Пецярбургскага савета. Тады ж з'явіўся ўказ аб забароне чыгуначных саюзаў.

У адказ 7 снежня 1905 г. ад імя Савета рабочых дэпутатаў, РСДРП, ПСР і Бунда была выдадзена адозва "Да ўсяго народа", якая фактычна заклікала да ўзброенага паўстання. У Маскве ў той жа дзень пачалася ўсеагульная палітычная стачка. Усерасійскую чыгуначную стачку з 7 снежня аб'явілі прадстаўнікі 29 чыгунак і Цэнтральнае бюро Усерасійскага чыгуначнага саюза. Пралетарыят Масквы ў ноч на 10 снежня ўзняўся на ўзброенае паўстанне.

У Беларусі снежаньскую, як і кастрычніцкую, стачку пачалі чыгуначнікі. Атрымаўшы тэлеграму з Масквы ад удзельнікаў канферэнцыі прадстаўнікоў 29 чыгунак і Цэнтральнага бюро УЧС з заклікам далучыцца да за-

---

[1] Октябрь 1917 и судьбы политической оппозиции. Ч.1. С.115–118.

[2] Второй Всероссийский съезд делегатов к.-д. партии. Бюллетень №3, 5, 6. СПб., 1906; Вестник партии народной свободы. СПб., 1906. №1. С.38; №11. С.703 (У ходзе выбарчай кампаніі ў І Дзяржаўную думу і пазней КДП дзеля папулярнасці шырока выкарыстоўвала назву "Партыя народнай свабоды").

[3] *Здзеховский М.* Польский идеализм // Московский еженедельник. 1906. №10. С.303–304.

бастоўкі Маскоўскага вузла, Віленскі камітэт Палескіх чыгунак і Мінскі камітэт Лібава-Роменскай чыгункі перадалі па тэлеграфе адпаведныя дэпешы па сваіх магістралях з канкрэтнымі ўказаннямі, на якіх станцыях затрымаць тыя ці іншыя цягнікі. Іх затрымлівалі 8–9 снежня работнікі дэпо шляхам дэмантажу рухавікоў. У тыя ж дні Мінскі кааліцыйны савет, Гомельскі рэвалюцыйны, Пінскі, Мазырскі і іншыя стачачныя камітэты заклікалі працоўных да ўсеагульнай палітычнай забастоўкі. Адначасова яны рабілі захады па арганізацыі забеспячэння насельніцтва прадуктамі першай неабходнасці, забаранялі павышэнне цэн на іх у час забастоўкі.

З мэтай не дапусціць перарастання стачкі ва ўзброенае паўстанне ў ноч на 9 снежня ў Мінску былі арыштаваны 17 відных рэвалюцыянераў. У той жа дзень улады аб'явілі ў Мінску і губерні становішча надзвычайнай аховы, што дазволіла губернатару Курлову яшчэ больш узмацніць рэпрэсіі і ў прыватнасці закрыць мясцовую рэвалюцыйную трыбуну – газету "Северо-Западный край". У Баранавічах – буйным вузле Маскоўска-Брэсцкай і Палескіх чыгунак – стачачны камітэт абапіраўся на салдат чыгуначнага батальёна. Рух цягнікоў тут быў спынены 9 снежня намаганнямі 300 чыгуначнікаў на чале з інжынерам М.Ляпко. 12 снежня Баранавічы былі аб'яўлены на ваенным становішчы. Неўзабаве з Вільні сюды прыбыў карны эшалон генерала Арлова, які толькі праз чатыры дні аднавіў чыгуначны рух. У Гомелі, дзе таксама рыхтавалася ўзброенае паўстанне, стачка чыгуначнікаў была задушана гэтым карным падраздзяленнем, узброеным кулямётамі і гарматамі.

Чыгуначнікі ў ходзе снежаньскай стачкі змагаліся да апошняй магчымасці і ўступалі толькі вайсковай сіле. Яны працягвалі барацьбу і пасля таго, як работнікі прамысловасці і гандлю паводле рашэнняў кааліцыйных саветаў і камітэтаў, арганізаваных бундаўцамі, спынілі стачкі. У Мінску і Пінску гэта адбылося 12 і 13 снежня. Чыгуначнікі ж Пінска (1300 рабочых Галоўных майстэрняў Палескіх чыгунак, рабочыя і служачыя станцыі) працягвалі забастоўку да 23 снежня – дня прыбыцця ў горад з Гомеля карнай экспедыцыі генерала Арлова.

Снежаньская палітычная стачка ахапіла ў Беларусі 17 гарадоў і мястэчак і знайшла падтрымку ў форме дэманстрацый, мітынгаў, сутыкненняў з паліцыяй і войскам яшчэ ў 11 населеных пунктах. У стачках удзельнічалі каля 44 тыс. рабочых прамысловых прадпрыемстваў, у тым ліку рамесных. Размах руху (па колькасці населеных пунктаў) у параўнанні з кастрычнікам скараціўся ў два разы. Асабліва рэзка зменшылася колькасць дэманстрацый і мітынгаў (гл. табл. 9). Па напалу і напружанасці барацьбы сітуацыя ў асобных гарадах была блізкай да ўзброенага паўстання. У сваіх снежаньскіх адозвах мясцовыя рэвалюцыйныя арганізацыі не раз заклікалі рыхтавацца да яго, аднак закліку "Да зброі" нідзе ў Беларусі не прагучала. Відаць, арганізатары руху чакалі зыходу барацьбы ў сталіцы, якая закончылася паражэннем рэвалюцыйнага лагера.

## 3. Грамадска-палітычныая барацьба ў час адступлення рэвалюцыі

**Падрыхтоўка да ўвядзення Дзяржаўнай думы**. 11 снежня 1905 г. Мікалай II зацвердзіў новы закон аб выбарах заканадаўчай Дзяржаўнай думы, паводле якога склад выбаршчыкаў істотна пашыраўся. Выбарчае права атрымалі сярэднія і ніжэйшыя разрады гарадскога насельніцтва, а таксама ра-

бочыя прамысловых прадпрыемстваў, на якіх працавала не менш 50 мужчын. У сувязі з гэтым у дадатак да землеўладальніцкай, гарадской і сялянскай выбарчых курый, зацверджаных законам ад 6 жніўня, ствараліся рабочыя курыі, асаблівасцю якіх з'яўлялася адсутнасць маёмаснага цэнзу[1]. Новы закон захоўваў кантрастную курыяльную няроўнасць выбаршчыкаў: 10 галасоў землеўладальнікаў-поўнацэнзавікоў прыраўноўваліся да 35 галасоў гараджан, 150 галасоў сялян і 450 галасоў рабочых. Выбары былі шматступенныя. Ад удзелу ў іх адхіляліся жанчыны, вайскоўцы, рабочыя дробнай прамысловасці, сельскай гаспадаркі і гандлю.

Для нейтралізацыі будучай Думы над ёю стваралася верхняя заканадаўчая палата ў выглядзе рэарганізаванага Дзяржаўнага савета. Паводле маніфеста Мікалая II ад 20 лютага 1906 г., палова членаў Дзяржсавета, як і раней, прызначалася імператарам, а другая палова – выбіралася. Права пасылаць сваіх прадстаўнікоў у Дзяржаўны савет атрымалі: праваслаўнае духавенства (Свяцейшы Сінод), губернскія земскія сходы, губернскія дваранскія грамады, Акадэмія навук і універсітэты, Савет гандлю і мануфактур і яго мясцовыя камітэты. У губернях, дзе выбарных земстваў, як у Беларусі, не было, члены Дзяржсавета (адзін ад губерні) выбіраліся на з'ездах землеўладальнікаў, якія валодалі зямельным цэнзам, неабходным для непасрэднага ўдзелу ў павятовых з'ездах па выбарах у Дзяржаўную думу. Для кандыдатаў у члены Дзяржсавета прадугледжваўся ўтрая большы зямельны цэнз. Члены Дзяржсавета выбіраліся на дзевяць гадоў, пры гэтым праз тры гады 1/3 кожнага разраду абнаўлялася[2].

Прыняты Думай законапраект паступаў на разгляд Дзяржсавета і толькі пасля яго станоўчага рашэння і зацвярджэння царом станавіўся законам.

Падрыхтоўка царскай бюракратыі да сустрэчы з народнымі прадстаўнікамі завяршылася, калі 23 красавіка 1906 г.(за чатыры дні да адкрыцця Думы) Мікалай II зацвердзіў Асноўныя дзяржаўныя законы. У тэкст Асноўных дзяржаўных законаў былі ўключаны Палажэнні аб Дзяржаўнай думе і Дзяржаўным савеце. Вярхоўная ўлада ў краіне заставалася ў руках імператара. Ён фарміраваў Савет міністраў, які нёс адказнасць за сваю дзейнасць толькі перад імператарам. Праваслаўная царква захоўвала статус пануючай у дзяржаве. Перагляд Асноўных дзяржаўных законаў абвяшчаўся выключнай прэрагатывай Вярхоўнай улады, г. зн. цара. Такім чынам, пытанні рэфармавання, дэмакратызацыі дзяржаўнага ладу Расіі былі выключаны з кампетэнцыі народнага прадстаўніцтва.

**Выбары ў I Дзяржаўную думу.** Выбарчая кампанія разгортвалася ва ўмовах масавых рэпрэсій, звязаных з падаўленнем узброенымі сіламі царызму снежаньскіх рэвалюцыйных выступленняў. Абвяшчаючы выбары ў Думу, урад разлічваў такім чынам адцягнуць народныя масы ад удзелу ў рэвалюцыі. Пры гэтым ён абапіраўся на актыўную падтрымку праваслаўнага духавенства і рэакцыйных партый ("Саюз рускага народа" і інш.).

У выбарчую кампанію ўключыліся праваліберальныя і леваліберальныя апазіцыйныя сілы, лідэрамі якіх выступалі адпаведна акцябрысты і кадэты, напалоханыя снежаньскімі ўзброенымі паўстаннямі ў Маскве, іншых гарадах і раёнах імперыі. Яны і іх саюзнікі пераконвалі народныя масы ў магчымасці вырашэння набалелых пытанняў у Думе мірным, парламенцкім шляхам.

Як ужо адзначалася, акцябрысты беларускіх, прыбалтыйскіх і польскіх губерняў у пачатку 1906 г. стварылі апазіцыйны ў адносінах да кіраўніцтва

[1] Новейшие преобразования русского государственного строя. С.457–458.

[2] Там жа. С.512–513, 538–555.

партыі "Окраинный Союз 17 октября". Палітычныя пазіцыі саюза вызначаў лозунг "абароны рускага насельніцтва" заходніх ускраін імперыі "ад уціску іншародцаў" – палякаў і яўрэяў. На гэтай аснове яны збліжаліся з мясцовымі чарнасоценцамі.

Кадэты ў беларуска-літоўскіх рэгіёнах самі па сабе вясною 1906 г. не ўяўлялі значнай палітычнай сілы. Аднак яны мелі тут у час выбараў у Думу магутную падтрымку з боку сіяністскіх арганізацый і Саюза дасягнення раўнапраўя для яўрэяў у Расіі, а таксама канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі (ККП ЛіБ) – выразніцы інтарэсаў мясцовых польска-беларускіх землеўладальнікаў і касцёла. У рэалізацыі палітычнай праграмы КДП дзеячы гэтых партый бачылі перадумовы дасягнення сваіх мэт. Сіяністы і "дасягненцы" з канца 1905 г. дамагаліся стварэння ў Расіі экстэрытарыяльнага яўрэйскага самакіравання, формы і прынцыпы якога павінны быў вызначыць Усерасійскі яўрэйскі нацыянальны сход, выбраны на дэмакратычнай аснове[1]. ККП ЛіБ галоўную сваю задачу бачыла ў дасягненні краёвага самакіравання з правам вырашэння яго органамі аграрнага і іншых пытанняў мясцовага жыцця.

Сацыялістычныя партыі, нягледзячы на падаўленне іх выступленняў, спадзяваліся на новы рэвалюцыйны ўздым. У сувязі з гэтым яны заклікалі народныя масы байкатаваць выбары ў Думу і рыхтавацца да ўзброенага паўстання з мэтай звяржэння царызму і скліканне выбранага дэмакратычным шляхам Усерасійскага ўстаноўчага сходу. Рабочыя шэрагу буйных прадпрыемстваў у Мінску, Мазыры, Пінску, Бабруйску, Гродне, Слоніме, Магілёве і іншых месцах байкатавалі выбары, не зважаючы на ўрадавы ўказ, які забараняў гэта. Але масы сялян і гарадской дробнай буржуазіі з верай у Думу пайшлі на выбары. Таму сарваць іх не ўдалося. Не маючы канкурэнтаў злева, пераканаўчую перамогу на выбарах – 1/3 месцаў у Думу (161 з 499) – атрымалі кадэты. З 36 дэпутатаў, выбраных у Думу ад Гродзенскай, Віленскай, Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў, прыхільнікамі кадэтаў сталі 29 чалавек. У іх ліку былі прадстаўнікі КПП ЛіБ, сіяністаў і "дасягненцаў". Пад кадэцкім сцягам прайшлі ў члены Думы 10 памешчыкаў, 13 інтэлігентаў, грамадскіх дзеячаў, духоўных асоб (рабінаў і ксяндзоў) і шэсць сялян. З сямі астатніх дэпутатаў (усе сяляне) пяць адносілі сябе да беспартыйных, адзін – да правых і адзін – да сацыял-дэмакратаў[2].

**Рэвалюцыйны рух у студзені–чэрвені 1906 г.** Падаўленне снежаньскіх выступленняў у цэнтрах рэвалюцыйнага руху вайскова-паліцэйскімі сіламі моцна аслабіла яго, але не спыніла. У найцяжэйшых умовах рабочыя 13 гарадоў і мястэчак Беларусі па закліку сацыял-дэмакратычных арганізацый 9 студзеня 1906 г. адзначылі гадавіну рэвалюцыі аднадзённымі палітычнымі забастоўкамі, у якіх прынялі ўдзел каля 23 тыс. чалавек. У мястэчках Ляды, Кошыкі, Смаляны, Сіроцін і Жалудок адбыліся прысвечаныя гэтай падзеі вулічныя дэманстрацыі. У некаторых з іх разам з рабочымі ўдзельнічалі сяляне. Акрамя таго, у 12 гарадах і мястэчках было праведзена 14 мітынгаў і маніфестацый. У цэлым антыўрадавыя выступленні рабочых у студзені 1906 г. ахапілі 24 населеныя пункты Беларусі. Рэзкі спад у рабочым руху назіраўся ў лютым і сакавіку[3]. Колькасць сялянскіх выступленняў у студзені 1906 г., у параўнанні са снежнем 1905 г., знізілася больш чым удвая (з 286 да 135). Тым не менш узровень сялянскага руху заставаўся

---

[1] 1905 год. Материалы и документы. Еврейское рабочее движение / Сост. А.Д. Киржниц. М.; Л., 1928. С.196, 250.

[2] Вестник партии народной свободы. 1906. №6, 7.

[3] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.260–263.

параўнальна высокім. Ён рэзка знізіўся ў лютым і сакавіку 1906 г., калі адбылося адпаведна толькі 25 і 9 сялянскіх выступленняў[1].

У красавіку 1906 г. пачаўся новы ўздым рэвалюцыйнага руху. Найбольш яскрава гэта засведчылі першамайскія стачкі рабочых, праведзеныя ў 40 населеных пунктах Беларусі. Адначасова актывізавалася і эканамічная барацьба рабочых. У красавіку – чэрвені 1906 г. у ёй удзельнічала каля 9,5 тыс. чалавек (супраць 2,3 тыс. у першай чвэрці года). Як і ў 1905 г., пераважная большасць стачак мела наступальны характар: выстаўляліся патрабаванні ўвядзення 8-гадзіннага рабочага дня, павышэння заработку, устанаўлення рабочага кантролю за наймам і звальненнем, аднаўлення на працы звольненых, аплаты забастовачнага часу і інш.[2]

На разгортванне эканамічнай барацьбы рабочых станоўча ўплывалі заканадаўчыя ўступкі царызму, аформленыя ўказамі 2 снежня 1905 г. і 4 сакавіка 1906 г. Першы з іх адмяняў крымінальнае расследаванне ўдзельнікаў эканамічных стачак, калі яны праходзілі мірна. Другі дазваляў стварэнне прафесійных саюзаў наёмных рабочых і служачых у прамысловасці і гандлі з мэтай абароны эканамічных інтарэсаў, паляпшэння ўмоў працы і побыту. Палітычная дзейнасць прафсаюзаў, а таксама іх аб'яднанне забараняліся. Справы аб адкрыцці рэгістрацыі, забароне і закрыцці прафсаюзаў даручалася навастворанымі губернскім па справах аб таварыствах ("обществах") установам[3]. Дамагчыся ў іх зацвярджэння статута і рэгістрацыі прафсаюза было няпроста: у Магілёўскай і Гродзенскай губернях і праз год пасля выдання ўказа ад 4 сакавіка ("Часовых правілаў аб саюзах і таварыствах") ні адзін прафсаюз не атрымаў дазволу на дзейнасць. Аднак у Віцебску ўжо ў чэрвені-ліпені 1906 г. працэдуру легалізацыі прайшлі 13 прафесійных таварыстваў[4].

У гарадах і мястэчках Беларусі прафсаюзы дзейнічалі, як правіла, пад нягласнай апекай і пэўным кантролем з боку арганізацый РСДРП і Бунда. Бундаўцы стваралі адасобленыя арганізацыі яўрэйскіх рабочых. Таму нярэдка ў адным горадзе і ў адной прафесіі існавалі дзве прафсаюзныя арганізацыі: інтэрнацыянальная (РСДРП) і нацыянальна-яўрэйская (Бунд). Згода паміж імі дасягалася не заўсёды і не ва ўсім, што аслабляла выступленні рабочых.

Вясенова-летні ўздым рабочага руху ў 1906 г. быў намнога слабейшы, чым у адпаведны перыяд 1905 г. Сумарная колькасць палітычных стачачнікаў у маі-чэрвені складала толькі 1/6 ад красавіцкага паказчыка (44 тыс. чалавек). Рэзка знізілася таксама колькасць рэвалюцыйных масовак і маніфестацый. Вулічныя дэманстрацыі наогул спыніліся[5].

У сялянскім руху пасля глыбокага спаду ў лютым-красавіку (49 выступленняў), у маі–ліпені 1906 г. назіраўся ўздым, узровень якога (274 выступленні) быў нават вышэйшы, чым у вясенова-летні перыяд 1905 г. Зноў шырокі размах набыла дзейнасць у вёсцы сацыялістычных партый: РСДРП, ПСР, БСГ, Бунда, ППС у Літве і інш. Найбольш пашыранай формай сялянскага руху ў той час былі забастоўкі падзёншчыкаў і парабкаў, а таксама збіццё сялянамі работнікаў у панскіх маёнтках (найчасцей прышлых з

[1] *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг. Приложения 3 и 4.

[2] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.263, 267–268.

[3] Новейшие преобразования русского государственного строя. С.628–637.

[4] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.269–270.

[5] Там жа. С.263.

іншых месцаў). Разам узятыя, гэтыя выступленні складалі 37,1 % ад усіх, г. зн. больш, чым у вясновa-летні перыяд 1905 г. Найважнейшым патрабаваннем з'яўлялася павышэнне заработнай платы. Гэтымі формамі руху былі ахоплены 20 з 35 паветаў, тэрыторыя якіх увайшла ў сучасныя межы Беларусі. Больш за палову ўсіх сельскагаспадарчых забастовак зафіксавана ў Брэсцкім, Гродзенскім, Навагрудскім і Слуцкім паветах. Памешчыкі былі вымушаны павысіць падзённую плату ў Заходняй Беларусі ў сярэднім на 17,6 %, а ва Усходняй – на 10,7 %. Удзельная вага палітычных выступленняў у беларускай вёсцы летам 1906 г. узрасла да 8 %, што было значна вышэй, чым у вясновa-летні перыяд 1905 г. (2,5 %) і ў канцы 1905 г. (6 %)[1].

Царызму не ўдалося выкараніць рэвалюцыйны рух і ў арміі. Антыўрадавая агітацыя вялася ў гарнізонах Вільні, Гродна, Брэста, Баранавіч, Мінска, Бабруйска, Гомеля і ў іншых месцах. Ваенная арганізацыя пры Абласным саюзе РСДРП Літвы і Беларусі выдавала газету "Солдатская жизнь", Гродзенская арганізацыя – газету "Солдатская доля". Асобныя ваенна-рэвалюцыйныя арганізацыі выдавалі адозвы да салдат. Пад уплывам агітацыі летам 1906 г. адбыліся хваляванні ў 2-й сапёрнай брыгадзе ў Гродне, у 2-м асадным артылерыйскім палку і батальёне крапасной артылерыі, якія знаходзіліся ў лагерах Гродзенскай губерні, у 151-м пяхотным Пяцігорскім палку ў мястэчку Картуз-Бяроза Пружанскага павета[2].

**Палітычныя пазіцыі дэпутатаў ад беларускіх губерняў у I Дзяржаўнай думе**. Рэвалюцыйны ўздым аказваў уплыў на дзейнасць Дзяржаўнай думы, што пачалася 27 красавіка 1906 г. Найбольш уплывовай у Думе была фракцыя кадэтаў, якая імкнулася ўзначаліць усе апазіцыйныя рэжыму плыні. Нярэдка гэта ёй удавалася. Кадэты дамагаліся ўтварэння адказнага перад Думай урада, вырашэння аграрнага пытання на аснове іх праграмы, расфарміравання Дзяржаўнага савета, пашырэння правоў Думы і абвяшчэння амністыі палітычным вязням. Гэтыя патрабаванні большасцю дэпутатаў былі ўключаны ў думскі адрас цару. Аднак Мікалай II адмовіўся прыняць дэпутацыю Думы, выбраную для ўручэння яму адраса, а старшыня Савета міністраў І. Гарамыкін ва ўрадавай дэкларацыі рашуча адхіліў усё, аб чым Дума прасіла цара. У адказ яна выказала недавер ураду і запатрабавала яго адстаўкі. Адным з першых па гэтым пытанні выступіў відны член фракцыі КДП, дэпутат Думы ад Мінскай губерні А. Лядніцкі. "Да таго часу, – заявіў ён, – пакуль міністэрства не будзе абапірацца на давер палаты і не будзе ёй падпарадкавана, да таго часу нашы намаганні, накіраваныя на ўсталяванне парадку ў краіне, будуць марныя"[3].

Найважнейшым у Думе, як і чакалася, стала аграрна-сялянскае пытанне. Працяглае абмеркаванне паказала немагчымасць прымірэння класавых інтарэсаў сялян і памешчыкаў, да чаго імкнулася фракцыя КДП. Аграрны законапраект кадэтаў, падпісаны 42 дэпутатамі, прадугледжваў надзяленне сялян зямлёю на правах арэнды па працоўнай ці па спажывецкай норме з "дзяржаўнага зямельнага запасу", у які ўключаліся казённыя, удзельныя і манастырскія землі, а таксама частка памешчыцкіх зямель, што здавалася ў арэнду ці дрэнна выкарыстоўвалася ў гаспадарчых адносінах. Гэтыя землі далучаліся да "дзяржаўнага зямельнага запасу" на аснове прымусовага выкупу па "справядлівай" (не рыначнай) ацэнцы. Для рэалізацыі аграрнай рэ-

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.404–406, 409–410 (падлікі К.І. Шабуні).

[2] Там жа. С.424–416; Революционное движение в Белоруссии 1905–1907 гг. С.542, 579, 605–606.

[3] Государственная дума. Стенографические отчеты. 1906. Т.1. С.329–330.

формы кадэты прапанавалі стварыць на месцах зямельныя камітэты на аснове роўнага прадстаўніцтва ў іх сялян і памешчыкаў пры ўдзеле ў якасці пасрэдніка паміж імі дзяржаўнага чыноўніка.

Сялянскія дэмакраты, прадстаўленыя ў Думе фракцыяй трудавікоў і эсэраў, прынцыпова разышліся з кадэтамі па аграрным пытанні. Яны выставілі свае законапраекты, падпісаныя адпаведна 104 і 33 дэпутатамі. Імі прадугледжваліся перадача ўсёй зямлі ў агульнанародную ўласнасць і ўвядзенне ўраўняльнага землекарыстання па працоўнай норме. Права распараджэння нацыяналізаванай зямлёй перадавалася на месцах зямельным камітэтам, выбраным усеагульным, простым, роўным і тайным галасаваннем, г. зн. практычна сялянамі.

У ходзе работы Думы, у атмасферы жорсткай міжпартыйнай палемікі, адбыліся істотныя змены ў палітычных пазіцыях большасці дэпутатаў ад пяці заходніх губерняў. З 29 чалавек, што прайшлі ў Думу пад кадэцкім сцягам, толькі восем уступілі ў кадэцкую фракцыю – сем інтэлігентаў (у тым ліку тры сіяністы) і адзін памешчык[1]. 15 дэпутатаў – прыхільнікаў канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі (усе польска-беларускія памешчыкі, два інтэлігенты, два ксяндзы, трое сялян) – разышліся з кадэтамі па аграрным пытанні: іх не задавальняў пункт аб прымусовым адчужэнні часткі памешчыцкіх зямель. Гэтыя дэпутаты далучыліся да фракцыі аўтаномістаў з украінскіх, польскіх, прыбалтыйскіх і мусульманскіх губерняў. У фракцыю трудавікоў уступілі толькі тры дэпутаты ад Беларускага краю (двое сялян і адзін інтэлігент). Шэсць сялянскіх дэпутатаў лічылі сябе беспартыйнымі, але пры галасаванні падтрымлівалі або кадэтаў, або аўтаномістаў, або правых.

Аўтаномісты з беларускіх губерняў (Б. Ялавецкі, Р. Скірмунт, Н. Сангайла і інш.) адстойвалі ў Думе неабходнасць захавання і памешчыцкай, і сялянскай уласнасці на зямлю. Князь Друцкі-Любецкі, стваральнік Пінскай групы КДП, фактычна выступіў супраць законапраекта сваіх калег па партыі. Спаслаўшыся на незвычайную, паводле яго слоў, прывязанасць беларускіх сялян да ідэала ўласнасці, ён аспрэчыў мэтазгоднасць прыняцця адзінага для ўсёй Расіі аграрнага закона і дапускаў прымусовае адчужэнне толькі той зямлі, якая была адрэзана ад сялянскіх надзелаў у ходзе рэформы 1861 г.[2]

Прадстаўнікі ККП Літвы і Беларусі таксама заяўлялі, што аграрнае пытанне павінна вырашацца ў кожнай вобласці па-свойму, мясцовымі людзьмі, што для гэтага трэба ўвесці "ў адных мясцовасцях, як, напрыклад, у Царстве Польскім, аўтаномнае самакіраванне, а ў іншых мясцовасцях абласное самакіраванне". Вырашэнне аграрнага пытання без надання аўтаноміі ці абласнога самакіравання Б.Ялавецкі лічыў "цалкам неймаверным"[3].

З 13 сялянскіх дэпутатаў ад пяці заходніх губерняў па сутнасці аграрнага пытання выступілі М. Грыцэвіч,М. Жукоўскі, М. Гатавецкі і С. Кандрашук. Першыя адстойвалі "ідэал уласнасці" і прызналі праект трудавікоў непрымальным для Заходняга краю. Толькі Кандрашук цалкам падтрымаў праект 104-х. Ён выказаўся за неадкладнае прыняцце закона аб адмене пры-

[1] Вестник партии народной свободы. 1906. №17.

[2] Государственная дума. Стенографические отчеты. 1906. Т.1. С.624–628.

[3] Там жа. С.603.

ватнай уласнасці на зямлю і перадачы яе працоўнаму сялянству з тым, каб пагасіць рэвалюцыйны пажар у Расіі[1].

Агульнапалітычная платформа польска-беларускіх аўтанамістаў у асноўным супадала з кадэцкай. Для Беларусі і Літвы прадстаўнікі ККП патрабавалі мясцовага самакіравання, з увядзеннем якога звязвалі захаванне міру паміж усімі класамі і народнасцямі краю[2].

20 чэрвеня 1906 г. была апублікавана ўрадавая праграма вырашэння аграрнага пытання, якая прадугледжвала скасаванне абшчыннага землеўладання, перадачу надзельнай зямлі ва ўласнасць сялян, расшырэнне сялянскага землеўладання за кошт казённай зямлі і добраахвотнага продажу памешчыкамі сваіх зямель праз Сялянскі банк. Гэта акцыя ўрада паставіла Думу перад неабходнасцю звароту да народа з выкладаннем сваёй аграрнай праграмы, што не дазвалялася Асноўнымі дзяржаўнымі законамі. Не чакаючы з'яўлення думскага звароту, Мікалай II указам ад 9 ліпеня 1906 г. распусціў Дзяржаўную думу і прызначыў выбары.

Значная колькасць дэпутатаў, найбольш з ліку кадэтаў і трудавікоў, неадкладна выехала ў Выбарг. Там 10 ліпеня была падпісана адозва "Народу ад народных прадстаўнікоў", у якой выказваўся пратэст супраць самавольства ўрада, насельніцтва заклікалася адмовіцца ад выплаты падаткаў і выканання павіннасцей на карысць дзяржавы. "Выбаргская адозва" атрымала шырокае распаўсюджанне, у тым ліку і ў Беларусі, але масавага супраціўлення царызму не выклікала. Крыху пазней шэраг левых партый і арганізацый выступілі з заклікам да ўзброенага паўстання, аднак арганізаваць яго не ўдалося. Асобныя выступленні матросаў і салдат (Свеаборг, Кранштат) былі падаўлены. Урад перайшоў да адкрытага ваеннага тэрору. З праціўнікамі рэжыму распраўляліся ваенна-палявыя суды, уведзеныя новым прэм'ер-міністрам П. Сталыпіным.

**Спад рэвалюцыйнага руху ў другой палове 1906 г.** У ліпені 1906 г. у Беларусі адзначаны толькі 13 масовак рабочых, на якіх абмяркоўваўся роспуск Дзяржаўнай думы, адна палітычная стачка і адна вулічная дэманстрацыя рабочых. Ва ўмовах ваеннага тэрору правядзенне вулічных антыўрадавых выступленняў практычна выключалася. Вельмі рэдкімі сталі палітычныя стачкі. За апошнія пяць месяцаў 1906 г. іх адбылося толькі тры. Рэзка скарацілася і колькасць сходаў (да 22 за пяць месяцаў), ды і гэтыя сходы не мелі ўжо палітычнага, антыўрадавага характару. На іх рабочыя абмяркоўвалі пытанні, звязаныя з утварэннем і легалізацыяй прафсаюзаў. На эканамічнай барацьбе наступленне палітычнай рэакцыі адбілася ў значна меншай ступені. У ліпені – снежні 1906 г. у ёй прынялі ўдзел прыблізна 9,2 тыс. рабочых – на 22 % менш, чым у студзені – чэрвені. Эканамічныя стачкі ў гэты час па колькасці ўдзельнікаў пераўзыходзілі палітычныя ў 66 разоў. Большасць стачак, як і раней, мела наступальны характар і заканчвалася ў асноўным на карысць рабочых[3].

У жніўні-верасні 1906 г. у параўнанні з ліпенем прыблізна напалову зменшылася колькасць сялянскіх выступленняў (з 102 да 55–48). Пры гэтым у Гродзенскай і Мінскай губернях незвычайна пашырылася такая форма барацьбы, як тайныя падпалы панскіх сядзіб і гумнаў з сабраным ураджаем. Колькасць іх дасягнула 44, што складала 55 % усіх жнівеньска-ве-

[1] Государственная дума. Стенографические отчеты. Т. 1. С.844–846, 859–861, 940; Т. 2. С.883–884.

[2] Там жа. Т. 2. С.1783.

[3] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.274–277.

раснёўскіх выступленняў на адзначанай тэрыторыі. У кастрычніку – снежні 1906 г. агульная колькасць сялянскіх выступленняў у Беларусі зменшылася да 16[1].

**Асаблівасці выбарчай кампаніі і вынікі выбараў у II Дзяржаўную думу.** Разгорнутае наступленне контррэвалюцыі пасля разгону Дзяржаўнай думы значна ўзмацніла пазіцыі і ўплыў у Беларусі расійскіх вялікадзяржаўных партый – "Саюза рускага народа" і "Саюза 17 кастрычніка". Рыхтуючыся да выбараў у новую Думу, прадстаўнікі чарнасоценных і акцябрысцкіх арганізацый беларуска-літоўскіх і іншых заходніх губерняў на з'ездзе ў Вільні ў кастрычніку 1906 г. утварылі "Рускі ўскраінны саюз" (РУС)[2]. Галоўныя намаганні "саюзнікі" накіроўвалі на барацьбу з рэвалюцыяй. Разам з тым яны імкнуліся ліквідаваць эканамічнае панаванне і палітычны ўплыў у краі польскіх памешчыкаў, яўрэйскай буржуазіі і каталіцкага касцёла, выступалі пад лозунгам "Расія для рускіх і толькі рускія павінны кіраваць ёю". Антыпольская і антыяўрэйская агітацыя ў друку чарнасоценцаў і акцябрыстаў суправаджалася патрабаваннем аб'явіць усіх палякаў і яўрэяў "іншаземцамі" і пазбавіць іх права ўдзелу ў выбарах. РУС дамагаўся ад урада прымусовага выкупу ў польскіх памешчыкаў зямельных плошчаў, якія перавышалі земскі цэнз, і перадачы іх на льготных умовах "рускім земляробчым праваслаўным элементам". Пад апошнімі разумелася праваслаўнае беларускае сялянства, якое прызнавалася "важнейшым элементам парадку ў параўнанні з іншымі сацыяльнымі групамі, памешчыкамі і гараджанамі"[3]. Саюз адмаўляў існаванне асобнага беларускага этнасу, беларускі нацыянальны рух лічыў "інтрыгай" польскіх паноў і касцёла, накіраванай супраць "адзінай і непадзельнай імперыі Расійскай".

Польска-беларускія аўтанамісты не падтрымлівалі Выбаргскую адозву і летам 1906 г. адышлі ад кадэтаў. З'езд землеўладальнікаў – членаў Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі – аднадушна асудзіў палітыку ў Думе КДП і амаль усіх сваіх думскіх прадстаўнікоў. Яшчэ больш рэзкую антыкадэцкую пазіцыю заняў у верасні 1906 г. з'езд Віленскага сельскагаспадарчага таварыства[4]. Кадэты страцілі падтрымку і з боку ККП Літвы і Беларусі, якая ў другой палове 1906 г. фактычна была вымушана спыніць палітычную дзейнасць.

У перадвыбарчай кампаніі ў канцы 1906 – пачатку 1907 г. польска-беларускія аўтанамісты крытыкавалі палітыку ўрада і дзейнасць урадавых партый, асабліва па нацыянальным і канфесіянальным пытаннях. Яны заклікалі насельніцтва да адзінадушнай, цвярозай, разважлівай працы на карысць культурнага і эканамічнага развіцця свайго краю, звязваючы вырашэнне ўсіх мясцовых праблем з дасягненнем шырокага краёвага самакіравання[5]. Пры гэтым пераконвалі беларускіх сялян-католікаў, што яны – палякі і павінны выбіраць у Думу тых, хто абараняе польскае насельніцтва і каталіцкую веру. Ва ўмовах пастаяннага цкавання палякаў і касцёла з боку афіцыёзнага, чарнасоценнага і мясцовага акцябрысцкага друку такая агітацыя карысталася поспехам.

Рэзкае аслабленне рэвалюцыйнага руху ў другой палове 1906 г. прымусіла сацыялістычныя партыі перагледзець свае адносіны да выбараў у

---

[1] *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг. Приложение 4; Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.409–410.

[2] Минское слово. 1906. №2.

[3] Там жа. №1, 5, 17.

[4] Свободное слово. 1906. №65, 106.

[5] Там жа. №57.

II Дзяржаўную думу. Байкот выбараў страціў сэнс. У выніку практычна ўсе гэтыя партыі восенню 1906 г. уключыліся ў перадвыбарную барацьбу з мэтай выкрыцця антынароднага характару палітыкі царызму і дзейнасці рэакцыйных партый, а таксама прапаганды сваіх поглядаў і праграмных патрабаванняў. У выбарчай кампаніі ў Беларусі, у адрозненне ад прамыслова развітых рэгіёнаў, арганізацыі левых партый не маглі абаперціся на падтрымку рабочай курыі, паколькі яе прадстаўніцтва ў губернскіх выбарчых сходах было сімвалічным: 0,9 % – у Магілёўскай, 1,1 – у Віленскай, 1,4 – у Мінскай, 1,9 – у Гродзенскай губернях. Рабочыя Віцебскай губерні былі ўвогуле адхілены ад удзелу ў выбарах па рабочай курыі[1].

Каб адбіць націск правых груповак на выбарах, арганізацыі левых партый у некаторых гарадах заключылі пагадненні аб вылучэнні агульнага спіса кандыдатаў. У Мінску перадвыбарны левы блок утварылі ў кастрычніку 1906 г. мясцовыя арганізацыі РСДРП, Бунда, ППС, БСГ і шэрагу прафсаюзаў. Дзякуючы такому аб'яднанню сіл левы блок на гарадскіх выбарах у Мінску ў студзені 1907 г. атрымаў перамогу. У якасці выбаршчыкаў на губернскі сход былі выбраны рэдактар забароненай газеты "Голос Белоруссии" С. Скандракоў, прысяжны паверанны, былы дэлегат І з'езда РСДРП К. Петрусевіч, прафесар Чыкагскага універсітэта, у мінулым адзін з заснавальнікаў першых сацыял-дэмакратычных гурткоў у Мінску І. Гурвіч і інш.[2] Аднак гэтыя выбары былі неўзабаве адменены.

Перамогу на выбарах у Думу другога склікання ў пяці заходніх губернях заваявалі дзве памешчыцка-буржуазныя нацыяналістычныя групоўкі – расійская і польская. Акцябрысцка-чарнасоценны блок правёў у Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай і Гродзенскай губернях 15 сваіх кандыдатаў. Польска-беларускім аўтанамістам удалося заваяваць 11 месцаў у Думе. На губернскіх выбарчых сходах у Віцебску, Магілёве і Гродне акцябрысцка-чарнасоценны блок і польска-беларускія аўтанамісты ("краёўцы") дамовіліся аб размеркаванні паміж сабою дэпутацкіх мандатаў, цалкам выключыўшы такім чынам магчымасць трапіць у Думу прадстаўнікам гарадской курыі – яўрэям.

Так, з 36 дэпутатаў ад пяці заходніх губерняў 17 з'яўляліся сялянамі (16 праваслаўных і адзін каталік). З ліку праваслаўных 15 дэпутатаў аб'явілі сябе беспартыйнымі, але фактычна падтрымлівалі платформу чарнасоценна-акцябрысцкага блока. Дэпутат-каталік С.Пялейка быў абраны ў Віленскай губерні пры дапамозе польска-беларускіх землеўласнікаў – аўтаномістаў. Селянін Дз. Шчарбянок з Магілёўскай губерні аб'явіў сябе кадэтам. Акрамя яго, кадэтамі назваліся праваслаўны святар М.Гашкевіч (Магілёўская губерня) і прапаршчык запасу, латыш Э.Казарыч, выбраны ў Віцебскай губерні[3].

Левыя – народніцкія і сацыял-дэмакратычныя – партыі на выбарах у пяці заходніх губернях пацярпелі паражэнне, не правёўшы ў Думу ніводнага свайго кандыдата. У той жа час па Расіі ў цэлым яны заваявалі ў Думе 222 месцы, кадэты – 98, акцябрысты – 44, чарнасоценцы – 10. Прынцыповыя разыходжанні ў выніках выбараў у Беларусі, з аднаго боку, і ўсёй

[1] *Мартюхова М.А.* На переломе революции: общественно-политическое движение в Белоруссии в связи с учреждением Государственной думы в России (август 1905 – июль 1906 г.). Мн., 1986. С.26.

[2] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.283.

[3] Государственная дума. Указатель к стенографическим отчетам. Второй созыв. 1907 год. СПб., 1907; Вестник партии народной свободы. 1907. №11.

краіны – з другога, тлумачацца ў асноўным тым, што мясцовым рускім і польскім нацыяналістычным групоўкам пры актыўнай дапамозе праваслаўнага і каталіцкага духавенства ўдалося паўплываць на сялянскіх выбаршчыкаў, раскалоць іх па нацыянальна-канфесіянальнай прыкмеце на "рускіх" і "палякаў" і правесці ў Думу сваіх стаўленікаў.

**Рэвалюцыйны рух у студзені–маі 1907 г.** У рабочым руху Беларусі ў пачатку 1907 г. паглыбляўся спад. Правядзенне палітычных стачак у студзені–сакавіку не зафіксавана. У эканамічнай барацьбе павялічылася ўдзельная вага абарончых выступленняў. З мэтай адабраць у рабочых дасягнутыя заваёвы прадпрымальнікі ў канцы 1906 г. – пачатку 1907 г. усё часцей аб'яўлялі лакауты: выстаўлялі ультыматыўныя патрабаванні (найперш аб ліквідацыі кантролю прафсаюзаў за ўмовамі найму і звальнення) і пры адхіленні іх рабочымі закрывалі прадпрыемства. У выніку павялічылася беспрацоўе, пагаршаліся ўмовы эканамічнай барацьбы, зніжалася колькасць стачак і іх удзельнікаў. Лік апошніх у студзені – сакавіку 1907 г. у параўнанні з кастрычнікам – снежнем 1906 г., зменшыўся ў 2,3 раза. Прыкметнага ўздыму ў эканамічнай барацьбе не назіралася і ў красавіку-маі. Толькі святкаванне 1 Мая (па старым стылі – 18 красавіка) выклікала значную хвалю аднадзённых страйкаў. Колькасць населеных пунктаў, ахопленых у 1907 г. першамайскім рухам, у параўнанні з 1906 г. скарацілася з 40 да 22, а лік яго ўдзельнікаў – з 44 да 30 тыс.[1]

У сялянскім руху ў студзені – сакавіку 1907 г. улічаны 39 выступленняў – амаль у 2,5 раза больш, чым у апошнія тры месяцы 1906 г. У красавіку – чэрвені колькасць выступленняў вырасла да 84, што сведчыць пра пэўны ўздым сялянскай барацьбы ў Беларусі ў гэты час. Аднак па сваім узроўні ён быў непараўнальна слабейшым, чым уздым 1905 і 1906 гг. Паказальна і тое, што большасць адзначаных выступленняў адбылася ў Гродзенскай і Мінскай губернях. На Магілёўшчыне і Віцебшчыне сялянскі рух у 1907 г. амаль не праяўляўся. Змяніліся і формы барацьбы: зніклі забастоўкі парабкаў, палітычныя выступленні, рэзка знізілася колькасць забастовак сялян-падзёншчыкаў. Пераважную большасць выступленняў складалі парубкі лесу і выпас жывёлы на панскіх землях, адмовы ад выплаты падаткаў і выкання павіннасцей, сутыкненні на гэтай глебе з паліцыяй і войскам. Прыкметна павялічылася ўдзельная вага падпалаў[2]. У цэлым гэта азначала, што беларуская вёска ў 1907 г. вярталася да традыцыйных (дарэвалюцыйных) формаў барацьбы.

**Палітычныя пазіцыі дэпутатаў ад краю ў II Дзяржаўнай думе. Трэцячэрвеньскі дзяржаўны пераварот.** Дзейнасць II Думы пачалася 20 лютага 1907 г. – падчас найбольшага спаду рэвалюцыйнага руху. Прадстаўніцтва кадэтаў у гэтай Думе ў параўнанні з першай значна зменшылася. Тым не менш ім зноў удалося заняць становішча ўплывовага цэнтра, які нярэдка вырашаў лёс таго ці іншага галасавання. На левых дэпутатаў кадэты ўплывалі, выкарыстоўваючы лозунг "зберажэння Думы". З гэтай жа мэтай і самі яны звузілі свае патрабаванні па пытанні аб узаемаадносінах з урадам. Кадэцкая фракцыя ў II Думе задавальнялася формулай "міністэрства, якое карыстаецца даверам большасці". Па аграрным пытанні яна пайшла насустрач сталыпінскай ідэі аб неабходнасці ўмацавання сялянскай уласнасці і зняла патрабаванне аб стварэнні дзяржаўнага зямельнага фонду для здачы сяля-

---

[1] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.285, 287.

[2] *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг. Приложения 5, 10

нам зямлі ў арэнду, пашырыла пры гэтым пералік выключэнняў з прынцыпу прымусовага адчужэння часткі памешчыцкай зямлі.

Пры абмеркаванні аграрнага пытання, якое і ў II Думе стала галоўным, зноў выявілася супрацьстаянне памешчыцкіх і сялянскіх дэпутатаў. Працоўнікі, эсэры і энэсы (народныя сацыялісты) патрабавалі нацыяналізацыі зямлі з ураўняльным землекарыстаннем. Памешчыкі, чарнасоценцы і акцябрысты падтрымлівалі аграрную праграму П. Сталыпіна, выкладзеную ва ўказе ад 9 лістапада 1906 г. Праграма выключала магчымасць не толькі "працоўнай" нацыяналізацыі зямлі, але і адрэзкаў ад памешчыцкіх маёнткаў, прадугледжаных кадэцкай праграмай.

Польска-беларускія аўтанамісты ў II Дзяржаўнай думе салідарызаваліся з 46 дэпутатамі ад Каралеўства Польскага – членамі нацыяналістычнай Народава-дэмакратычнай партыі, якія аб'ядналіся ў "польскае кола" на чале са сваім лідэрам Р.Дмоўскім. 19 сакавіка ён выступіў з праграмнай прамовай ад імя "палякаў – прадстаўнікоў Царства Польскага і суседняй з ім заходняй часткі дзяржавы, т. зв. Паўночна- і Паўднёва-Заходняга краю". Ён заявіў, што аграрнае пытанне на адзначанай тэрыторыі не павінна абмяркоўвацца ў Думе. Вырашэнне гэтага і ўсіх іншых сацыяльных пытанняў у Каралеўстве Польскім Р.Дмоўскі звязваў з увядзеннем мясцовага аўтаномнага заканадаўчага сейма, а ў "Паўночна- і Паўднёва-Заходнім краі" – шырокага мясцовага самакіравання, раўнапраўя нацыянальнасцей і веравызнанняў. Расійская дума, паводле меркавання Дмоўскага, магла разглядаць аграрнае пытанне ў дзевяці заходніх губернях толькі пасля атрымання законапраектаў, распрацаваных органамі мясцовага самакіравання. Адносна рашэнняў сейма Каралеўства Польскага гэта не прадугледжвалася[1].

Выступленне Дмоўскага выклікала абурэнне сярод чарнасоценцаў і акцябрыстаў. Асабліва рэзка выступалі дэпутаты-сяляне ад Мінскай губерні, члены РУС. А.Красоўскі рашуча адхіліў патрабаванне аб увядзенні шырокага самакіравання ў "Паўночна- і Паўднёва-Заходнім краі", заявіўшы, што польскія памешчыкі імкнуцца такім чынам "падпарадкаваць пад сваю ўладу праваслаўных сялян так, як гэта было ў часы прыгоннага права"[2]. І. Шыманскі прасіў Думу, каб "пытанне аб Паўночна-Заходнім краі... было вырашана тут, у Думе, а не дзе-небудзь у польскім сейме ў Варшаве, Вільні ці ў Мінску"[3].

Правыя дэпутаты–сяляне з Беларусі выказвалі сваю поўную адданасць самадзяржаўю[4]. Разам з тым яны скардзіліся на малазямелле і патрабавалі дадатковага надзялення зямлёй. Ф.Петрачэнка, напрыклад, хоць і ўсведамляў, што для гэтага казённых, удзельных, кабінецкіх, царкоўных і манастырскіх зямель не хопіць, але рэвалюцыйны шлях вырашэння аграрнага пытання не прымаў. Ён схіляўся да законапраекта кадэтаў , лічыў, што яны прапанавалі "добрыя ўмовы" – "каб нікому не было крыўдна", не пагадзіўся толькі з велічынёй выкупной сумы ("мы, сяляне, бедныя, столькі не зможам заплаціць"). Ф. Петрачэнка выказаўся, нарэшце, за тое, каб сяляне самі вырашалі, як ім далей жыць, – грамадамі ці на хутарах[5].

З тых жа пазіцый зыходзіў і І.Шыманскі. "Я – сялянскі дэпутат, выбраны руска-сялянскім саслоўем, – сказаў ён, – і прыйшоў сюды абараняць

[1] Государственная дума. Стенографические отчеты. 1907. Т. 1. С.742–747.

[2] Там жа. Т. 1. С.1338–1342.

[3] Там жа. С.1616–1618.

[4] Там жа. Т. 2. С.240.

[5] Там жа. Т. 1. С.1614–1615.

веру, цара і айчыну і патрабаваць зямлі". З праектам трудавікоў ён не пагадзіўся, прызнаўшы яго рэвалюцыйным, несправядлівым, выказаў жаданне, каб "паны памешчыкі адпусцілі сялянам зямлі ... мірным шляхам – па справядлівай ацэнцы". Нязгодных на гэта Шыманскі прапанаваў абкласці прагрэсіўным пазямельным падаткам, які з часам прымусіў бы іх пайсці на ўступкі сялянам[1].

Пазіцыі правых дэпутатаў з Беларусі ў Думе не адлюстроўвалі поглядаў і настрояў пераважнай большасці беларускага сялянства. Пра гэта сведчылі масавыя рэвалюцыйныя выступленні 1905–1907 гг., а таксама наказы і звароты сялян і гарадскіх жыхароў у II Дзяржаўную думу. У многіх наказах і прашэннях, што паступалі ў Думу з беларускіх губерняў, сяляне дамагаліся пераходу зямлі ў валоданне тых, "хто жыве на ёй працай рук сваіх", патрабавалі поўнаўладнай Думы, усталявання роўнасці ўсіх перад законам, усеагульнага бясплатнага абавязковага навучання, скасавання інстытута земскіх начальнікаў і паліцэйскай стражы, замены ўскосных падаткаў прагрэсіўна-падаходным абкладаннем і інш.[2]

На вопыце дзейнасці I і II Дзяржаўных дум царскі ўрад пераканаўся ў непрыдатнасці выбарчага закона ад 11 снежня 1905 г. для фарміравання паслухмянага яму народнага прадстаўніцтва. Нягледзячы на ўсе антыдэмакратычныя палажэнні гэтага закона, у I і II Думах складвалася моцнае левае крыло, прадстаўленае трудавікамі, эсэрамі і сацыял-дэмакратамі. Памяркоўная кадэцкая праграма, разлічаная на пераўтварэнне Расійскай імперыі ў канстытуцыйную манархію накшталт Англіі, а ў сацыяльным плане – на прымірэнне сялян з памешчыкамі парламенцкім шляхам, была адкінута і тымі і другімі. Правыя партыі ледзь ці не з першых дзён дзейнасці II Думы настойліва патрабавалі яе роспуску і змены выбарчага закона. Асаблівай актыўнасцю ў гэтых адносінах вызначаўся "Русский окраинный союз".

Улічваючы слабасць апошняга рэвалюцыйнага ўздыму, стомленасць і расчараванне шырокіх народных мас вынікамі працяглай і надзвычай напружанай барацьбы, урад П. Сталыпіна са згоды Мікалая II рашыўся выканаць патрабаванне правых – распусціць Думу і змяніць выбарчы закон без санкцыі народных прадстаўнікоў. Шукаючы зачэпку для разгону Думы, П.Сталыпін у маі 1907 г. сфабрыкаваў ілжывае абвінавачанне сацыял-дэмакратычнай фракцыі ў падрыхтоўцы змовы супраць цара і патрабаваў ад Думы пазбавіць яе членаў парламенцкай недатыкальнасці. Думская камісія выкрыла лжывасць абвінавачання. Не чакаючы абмеркавання вынікаў расследавання, Мікалай II указам ад 3 чэрвеня 1907 г. распусціў Думу і адначасова – насуперак Маніфесту 17 кастрычніка 1905 г. – змяніў выбарчы закон. Па сутнасці гэта быў дзяржаўны пераварот. Ім і закончылася першая расійская рэвалюцыя.

## 4. Беларускі нацыянальны рух у перыяд рэвалюцыі

**Дзейнасць Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ).** На падзеі "крывавай нядзелі" ў Пецярбургу БСГ адгукнулася лістоўкай "Царова жніво", якая заклікала падтрымаць барацьбу пецярбургскіх рабочых за звяржэнне царызму. Праграмныя патрабаванні БСГ у рэвалюцыі асвят-

[1] Государственная дума. Стенографический отчет. Т 1. С.1616–1618.

[2] Минское слово. 1907. №№ 101, 117, 127, 138, 191; *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг. С.405–406.

ляліся ў лістоўцы "Што такое канстытуцыя" (сакавік 1905 г.). Паляпшэнне долі народных мас яна звязвала з ліквідацыяй самадзяржаўя і пераходам усёй паўнаты ўлады да Канстытуцыйнага сходу, выбранага агульным, роўным і тайным галасаваннем. Сход павінен быў мець права выдаваць законы, вырашаць пытанні аб вайне і міры і г.д. Грамада выказалася за свабоду друку, сходаў, саюзаў, "веры і народнасці", школы на родным мове, адказнасць чыноўнікаў перад судом народа, недатыкальнасць асобы, прагрэсіўны падатак, патрабавала вызвалення палітычных зняволеных, заклікала не плаціць падаткі, неадкладна праганяць са службы сельскіх стражнікаў, урадпікаў, прыставаў, земскіх. Пытанне аб нацыянальна-дзяржаўным уладкаванні Беларусі ў гэтай лістоўцы не ўздымалася[1].

Разам з эсэрамі ў тым жа месяцы БСГ арганізавала сялянскі з'езд. Вынікі яго работы асвятляліся ў спецыяльнай лістоўцы. Удзельнікі з'езда заклікалі сялян ствараць у вёсках грамады-брацтвы і праз сваіх выбарных злучацца ў "адну вялікую грамаду" з мэтай адабраць ад цара, казны і паноў усю зямлю і зрабіць так, каб кожны, хто хацеў працаваць на ёй, у тым ліку і паны, "мог дастаць столькі зямлі, сколькі яму трэба, каб з яе сваім трудом пражыць". Яны адмоўна паставіліся да раздзелу зямлі ва ўласнасць сялян па ўраўняльнаму прынцыпу, зыходзячы з таго, што ўжо ў другім пакаленні не было б роўнасці паміж імі ("бо адзін чалавек падзяліў бы сваю часць на двух, а другі на пяць сыноў чым болей, і зноў пайшло б тое самае, што цяпер"). Роўнасць і справядлівасць, на думку ўдзельнікаў з'езда, забяспечвалі наступныя два спосабы вырашэння аграрна-сялянскага пытання: 1) калектыўнае ("гуртам") гаспадаранне сялян на агульнай зямлі пры дакладным уліку ўдзелу кожнага з іх у грамадскай працы з адпаведнай яе аплатай; 2) аднаасобнае вядзенне сялянамі сваёй гаспадаркі на надзелах зямлі, атрыманых ад сельскай грамады па ўраўняльнаму прынцыпу, з перыядычнымі перадзеламі іх у залежнасці ад велічыні сям'і. Рэалізацыя гэтай праграмы звязвалася з ліквідацыяй царскага самадзяржаўя шляхам усенароднага ўзброенага паўстання. Дэлегаты з'езда заклікалі сялян рыхтавацца да яго, "даставаць стрэльбы, рэвальверы, вінтоўкі, каб было чым абараніцца, і заваяваць новы парадак карыстання зямлёю кожнаму, хто на ёй сам працуе". "Цяпер надыходзіць час, – гаварылася ў лістоўцы, – калі народ сам павінен падняцца ды пастанавіць аб сваёй долі. Дзеля таго будзем гнаць усякіх начальнікаў, разбіваць ды паліць канцылярыі і паліцэйскія ўпраўленні, разганяць і біць паліцыю і жандараў; перастанем плаціць падаткі і адбываць павіннасці...".

Рашэннямі з'езда прадугледжваўся пераход улады на ўсёй беларускай зямлі ў рукі сейма-схода народных прадстаўнікоў, выбарных ад кожнай воласці, які павінен быў устанавіць новыя справядлівыя законы і падаткі і вызначыць, "на якія народныя патрэбы маюць ісці грошы, што плаціць народ". "Кожны народ, – было заяўлена на з'ездзе, – павінен мець свой сейм, каторы вёў бы яго справы, але ўсе народы, што жывуць у Расеі, маюць яшчэ і агульныя справы. Дзеля таго трэба, каб выбарныя ад нашай Беларусі і Літвы, ад Польшчы, Фінляндыі, Каўказа і ўсіх другіх народаў разам з рускімі збіраліся на агульны сейм у Пецярбургу, чы ў якім другім горадзе і там усе разам пастанаўлялі аб сваіх агульных справах"[2].

Вясною і летам 1905 г. БСГ пашырыла агітацыю сярод сялян і пастаянных сельскагаспадарчых рабочых, заклікаючы іх да правядзення арганізава-

---

[1] Сацыялістычны рух на Беларусі ў праклямацыях 1905 г. Мн., 1927. С.67–71.

[2] Там жа. С.75–77; НГАБ, ф.1430, воп. 2, спр.135, арк.62–63.

ных страйкаў у панскіх маёнтках з мэтай паляпшэння ўмоў найму і свайго становішча. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць адозва "Да ўсіх работнікаў і работніц дваровых, да ўсіх дзеравенскіх людзей на тутэшняй зямлі Беларускай", выдадзеная ў чэрвені масавым тыражом (10 тыс. экземпляраў).

Разам з іншымі рэвалюцыйна-дэмакратычнымі партыямі БСГ байкатавала булыгінскую Думу, пераконвала, што царскі маніфест аб скліканні Думы – "адно ашуканства", і заклікала народ да далейшай барацьбы за свабоду. "Будзем сілай дабівацца канстытуцыі, або права народу сваёй уласцю пастанаўляць аб сваіх справах і патрэбах, – гаварылася ў лістоўцы "Царова дума". – Не супакоімся, пакуль кожны чалавек, што жыве ў Расіі, не будзе мець права выбіраць выбарных у Канстытуцыйны сход, чы сейм, супольнымі, роўнымі і тайнымі выбарамі, пакуль не даб'емся права свабодна пісаць і гаварыць праўду, збірацца і змаўляцца, як палепшыць сваю долю. Патрабуем, каб кожны народ меў права сам пастанаўляць аб сваіх справах, выбіраць сабе сваіх чыноўнікаў і судзіць іх, гаварыць, пісаць і вучыцца па-свойму. Патрабуем, каб кожны народ меў свой сейм у сваім краі! Далоў цара і яго правіцельства! Далоў царову Думу! Хай жыве народнае праўленне і Канстытуцыйны сход у Вільні!"[1]

У кастрычніку 1905 г. Віленскі камітэт БСГ выдаў адозвы "Браткі хрысціяне!" і "Да салдат!" Першая з іх выкрывала дзейнасць улад, накіраваную на арганізацыю яўрэйскіх пагромаў сіламі чарнасоценцаў, і заклікала хрысціян і яўрэяў да братняй згоды і сумеснай барацьбы за свабоду. Другая адозва даказвала, што нельга верыць Маніфесту 17 кастрычніка, і заклікала салдат не паднімаць зброю супраць народа. Заканчвалася яна лозунгам: "Хай жыве згода арміі з народам! Далоў новую царскую думу! Хай жыве народны сход Літвы і Беларусі ў Вільні!"[2] Гэта адозва сведчыць, што Грамада без ваганняў, услед за выданнем Маніфеста 17 кастрычніка, падтрымала рэвалюцыйна-дэмакратычны лозунг байкоту новай Дзяржаўнай думы, не зважаючы на абвешчаныя Мікалаем II свабоды, пашырэнне выбарчага права і наданне Думе заканадаўчых паўнамоцтваў.

У 1905 г. Мінская і Віленская арганізацыі БСГ паступова пашыралі агітацыйную дзейнасць сярод рабочых прамысловых прадпрыемстваў, на якіх працавалі выхадцы з беларускай вёскі. У дні кастрычніцкай палітычнай стачкі на мітынгах у Мінску выступаў І. Луцкевіч. Ён адыграў важную ролю ў ажыццяўленні рашэння Мінскага кааліцыйнага савета аб правядзенні агульнагарадской стачкі пратэсту ў адказ на Курлоўскі расстрэл. У Вільні і яе прамысловым прадмесці Нова-Вілейску актыўна дзейнічала А. Пашкевіч (Цётка). Яна часта выступала на розных мітынгах. Шырокую папулярнасць набыў яе верш "Хрэст на свабоду", які выдаваўся на мове арыгінала не толькі Грамадою, але і Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыяй, а таксама ППС у Літве[3].

Выдатныя арганізатарскія здольнасці і самаахвярнасць у рэвалюцыйнай барацьбе праявіў А. Бурбіс. У лістападзе-снежні 1905 г. пад яго кіраўніцтвам у Мейшагольскай воласці Віленскага павета старая ўлада была фактычна скінута, узнікла "Мейшагольская рэспубліка". Паводле абвінаваўчага акта, Бурбіс з групай аднадумцаў (студэнт Алеснікаў, сяляне Запольскі, Струй, Ярусь і інш.) "самавольна" збіраў валасныя сходы, высту-

---

[1] Сацыялістычны рух на Беларусі ў пракламацыях 1905 г. С.78–79.

[2] Там жа.

[3] *Луцкевіч А.* За дваццаць пяць гадоў (1903–1928). Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацыяў. Мн., 1991. С.17–19.

паў на іх, а таксама на кірмашовай плошчы, з балкона карчмы з прамовамі, у якіх заклікаў сялян не выконваць распараджэнняў царскіх улад, сілай адбіраць у памешчыкаў зямлю, праганяць земскіх начальнікаў, станавых прыставаў, валасных старшынь, не плаціць падаткаў, не адбываць вайсковай павіннасці, закрываць казённыя вінныя крамы. На валасным сходзе 14 снежня 1905 г. ён зачытаў і прапанаваў сялянам прыняць два прыгаворы. У адным з іх заяўлялася, што абяцаная ў Маніфесце 17 кастрычніка Дзяржаўная дума народу не патрэбная і сяляне не павінны яе выбіраць. На думку Бурбіса, трэба дамагацца склікання Устаноўчага сходу, выбранага на аснове ўсеагульнага, роўнага, прамога і тайнага галасавання. Гэты сход прыме законы, назначыць падсправаздачны яму ўрад, перадасць у карыстанне ўсяго народа зямлю, і кожны зможа карыстацца ёю пры ўмове апрацоўкі сваімі сіламі, без эксплуатацыі чужой працы, забяспечыць усім грамадзянам свабоду слова, сходаў, сумлення, друку, саюзаў, недатыкальнасць асобы. Правамі кожнага краю павінны кіраваць яго выбарныя. Беларускаму краю неабходна поўнае самакіраванне з сеймам у Вільні. Ускосныя падаткі і акцызы адмяняюцца, уводзіцца адзіны падаходны падатак. Скасоўваюцца саслоўі. Вызваляюцца ўсе палітычныя вязні. Забараняецца пакаранне смерцю. Дзяржава на казённы кошт забяспечвае ўсеагульнае навучанне дзяцей на іх роднай мове. На валасных сходах голас даецца ўсім жыхарам воласці. Другім прыгаворам скасоўвалася ўлада ранейшага валаснога праўлення, адмяняліся ўсе падаткі і павіннасці на карысць антынароднага ўрада, закрываліся казённыя вінныя крамы, назначаліся выбары новых кіраўнікоў воласці[1].

Віленскі губернатар неўзабаве паслаў у Мейшаголу (22 вярсты ад Вільні) казакаў, якія ліквідавалі "рэспубліку"[2]. А.Бурбісу ўдалося пазбегнуць арышту.

Рэвалюцыйную агітацыю сярод сялян Койданаўскай воласці Мінскага павета ў снежні 1905 г. вяла група грамадоўцаў у складзе К. Кастравіцкага (Каруся Каганца), С. Багушэўскага, С. Дацко, В. і М. Кардзецкіх. Яны выступалі на сходах сялян і распаўсюджвалі сярод іх нелегальныя выданні – "Маніфест", пракламацыю Беларускага сялянскага саюза, "Рэзалюцыю 1-га дэлегацкага з'езда Усерасійскага сялянскага саюза" і беларускамоўны зборнік "Песні". Па сведчанні паліцыі, сяляне пад уплывам агітацыі адмаўляліся плаціць падаткі. 19 снежня агітатары былі арыштаваны ва ўрочышчы Цекліполь Койданаўскай воласці. Паліцыя адабрала ў іх некалькі дзесяткаў экземпляраў гэтых выданняў, два рэвальверы з баявымі патронамі, два фінскія нажы і самаробны кінжал[3].

"Маніфест", які распаўсюджвала група К.Кастравіцкага, быў выдадзены 3 снежня 1905 г. ад імя Савета рабочых дэпутатаў (Пецярбургскага), Галоўнага камітэта Усерасійскага сялянскага саюза, Цэнтральнага камітэта (бальшавіцкага) і арганізацыйнай камісіі (меншавіцкай) РСДРП, ЦК ПСР і ЦК ППС. Гэтыя арганізацыі канстатавалі, што царскі ўрад давёў краіну да эканамічнага, ваеннага і фінансавага банкруцтва. "Выхад адзін, – заяўлялі яны, – скінуць урад, адабраўшы ў яго апошнія сілы... апошні спосаб жыцця яго – даходы". Дзеля гэтага заклікалі насельніцтва не плаціць у казну вы-

---

[1] *Біч М.* "Стары змаганец" // Мастацтва Беларусі. 1986. №3. С.69–71.

[2] *Луцкевіч А.* За дваццаць пяць гадоў (1903–1928). Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацыяў. С.19–20.

[3] ДАРФ, ф.ДП, АА, воп.1910, спр.536, арк.1 і адв.; *Біч. М.* Ад родных ніў. Грамадска-палітычныя погляды Каруся Каганца // Полымя. 1988. №3. С.146–147.

купных і ніякіх іншых плацяжоў, забіраць уклады з ашчадных кас і дзяржаўнага банка, патрабуючы выплаты залатымі і срэбнымі рублямі, дамагацца таго ж і пры выдачы заработнай платы, пры ўсіх здзелках. З усенародным фінансавым байкотам царызму аўтары "Маніфеста" звязвалі непазбежнасць яго падзення і пераходу ўлады да Устаноўчага сходу. "Маніфест" падтрымалі ЦК БСГ і Беларускі сялянскі саюз, якія 4 снежня перавыдалі яго асобнай лістоўкай тыражом 3 тыс. экземпляраў у перакладзе на беларускую мову, далучыўшы пры гэтым свае подпісы да згаданых вышэй арганізацый і партый[1].

**II з'езд БСГ. Змены ў праграме.** У пачатку студзеня 1906 г. у Мінску адбыўся II з'езд Грамады, які перагледзеў партыйную праграму, прыняў арганізацыйны статут і выбраў ЦК у складзе І. і А. Луцкевічаў, В. Іваноўскага і А. Бурбіса[2]. Фармулёўкі канчатковай мэты (замена капіталістычнага ладу сацыялістычным) і бліжэйшыя палітычныя задачы БСГ (звяржэнне самадзяржаўя) разам з пралетарыятам усёй Расіі ў новай праграме захаваліся. Асноўныя змены ў ёй датычылі вызначэння характару партыі, вырашэння нацыянальнага і аграрна-сялянскага пытанняў. II з'езд абвясціў Грамаду арганізацыяй працоўнай беднаты Беларускага краю без адрознення нацыянальнай, г. зн. не нацыянальна беларускай (як у праграме 1902 г.), а інтэрнацыянальнай краёвай партыяй. Ён выказаўся за замену самадзяржаўнага ладу ў Расіі федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікай са свабодным самавызначэннем і культурна-нацыянальнай аўтаноміяй народнасцей, што ўваходзілі ў склад дзяржавы. Пры гэтым было вылучана патрабаванне тэрытарыяльна-дзяржаўнай аўтаноміі Беларускага краю з мясцовым сеймам у Вільні.

Па аграрна-сялянскім пытанні II з'езд Грамады прызнаў неабходнасць карэннай аграрнай рэформы, якая перш за ўсё пашырала б землекарыстанне малазямельных сельскіх працаўнікоў. Заявіўшы, што БСГ імкнецца да пераходу ўсёй зямлі ў грамадскую ўласнасць, ён сфармуляваў патрабаванне ўтварыць абласныя зямельныя фонды шляхам канфіскацыі казённых, удзельных, кабінецкіх, царкоўных, манастырскіх і прыватнаўласніцкіх зямель для надзялення малазямельных і беззямельных сялян на правах пажыццёвага карыстання за рэнту, якая паступала б ва ўласнасць краю. Форму і парадак канфіскацыі павінны былі вызначыць абласныя дзяржаўныя арганізацыі, а колькасць зямлі, неабходнай для надзялення, – ніжэйшыя самакіруючыя арганізацыі. Такім чынам, па аграрным пытанні БСГ адмовілася ад лозунга сацыялізацыі з ураўняльным (адпаведна працоўнай норме) землекарыстаннем. Нічога не гаварылася ў ёй аб распаўсюджанні ідэі ўсебаковага сябравання і таварystваў (г.зн. кааперацыі) як шляху для пераходу да сацыялістычнай гаспадаркі[3]. Новая аграрная праграма БСГ грунтавалася на ідэі муніцыпалізацыі зямлі. Аналагічная праграма ў красавіку 1906 г. была прынята меншавікамі на IV з'ездзе РСДРП.

Для ажыццяўлення ўсіх вызначаных у праграме палітычных і сацыяльных пераўтварэнняў II з'езд БСГ прызнаў неабходным скліканне пасля звяржэння самадзяржаўя Устаноўчага сейма Беларускага краю

---

[1] ДАРФ. ф.1741. №34933.

[2] *Бурбіс А.* Беларуская сацыялістычная грамада ў першым перыядзе яе працы (1903–1907) // Беларусь: нарысы гісторыі, культуры і рэвалюцыйнага руху. Мн., 1924. С.180 (тэкст статута БСГ да гэтага часу застаецца невядомы).

[3] *Шлюбскі А.* Да гісторыі Беларускай сацыялістычнай грамады // Полымя. 1925. №5. С.158–161 (поўныя тэксты праграм БСГ 1903 і 1906 гг.).

на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права з тайным галасаваннем[1].

**Чэрвеньская (1906 г.) канферэнцыя БСГ**. Канферэнцыя была склікана па ініцыятыве Мінскага краёвага камітэта і працавала 3–4 чэрвеня. Удзельнічалі ў ёй 15 чалавек – прадстаўнікі ЦК, Віленскага і Мінскага краёвых (абласных) камітэтаў, Пецярбургскай групы, Мінскага рабочага камітэта, Віленскай групы вучнёўскай моладзі, Лідскай, Дзісенскай і Бельскай павятовых арганізацый. З-за тэрміновага склікання не ўсе мясцовыя арганізацыі прыслалі сваіх дэлегатаў[2]. Канферэнцыя разгледзела пытанні аб тактыцы, адносінах да ППС у Літве, дзейнасці на месцах, партыйнай арганізацыі і інш.

У рэзалюцыі аб тактыцы адзначалася, што БСГ, працягваючы байкатаваць Дзяржаўную думу як нездавальняючую форму народнага прадстаўніцтва, усё ж будзе падтрымліваць тыя патрабаванні рэвалюцыйных элементаў у Думе, якія не пярэчаць яе праграме. Разам з тым канферэнцыя прызнала вялікае рэвалюцыйнае значэнне паслання ў Думу наказаў і хадакоў ад сялян у сэнсе развіцця іх самасвядомасці і даручыла мясцовым камітэтам і агітатарам арганізацыю гэтай справы, а абласным камітэтам – распрацоўку агульнай формы зваротаў. Дэлегаты выказаліся за поўны байкот урадавых землеўпарадкавальных камісій, увядзенне якіх праектавалася ў 1906 г[3].

Пытанне аб адносінах да ППС у Літве было ўключана ў парадак дня канферэнцыі ў сувязі з прапановай кіраўніцтва гэтай партыі аб утварэнні разам з БСГ і Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыяй адзінай сацыял-дэмакратычнай партыі Беларусі і Літвы з самастойнымі нацыянальнымі секцыямі. Паводле ўспамінаў А.Луцкевіча, БСГ горача падтрымлівала гэту ідэю, аднак прыняцце яе да рэалізацыі абумоўлівала згодай будучай партыі са сваёй (грамадаўскай) аграрнай праграмай (агульнапалітычная праграма ППС у Літве, БСГ і ЛСДП супадала). Папярэднія перагаворы з лідэрамі ППС у Літве (П.Шумавым і інш.) вялі А.Луцкевіч і А.Уласаў. Пагадненне па аграрным пытанні не было дасягнута, паколькі "пэпээсаўцы" стаялі на платформе "прырэзку" да надзелаў сялян і адхілялі радыкальную перабудову аграрных адносін, звязаную з ліквідацыяй памешчыцкага землеўладання[4]. Разгледзеўшы гэта пытанне, канферэнцыя БСГ прызнала, што зліццё партый на аснове агульнай аграрнай палітыкі немагчыма. Разам з тым яна канстатавала супадзенне палітычных прынцыпаў ППС у Літве і БСГ і на гэтай падставе выказалася за сумесную барацьбу з мэтай іх ажыццяўлення[5].

Рэзалюцыя аб дзейнасці на месцах абавязвала мясцовыя арганізацыі зрабіць усе захады для таго, каб выкарыстаць рэвалюцыйны настрой сялянства ў мэтах зліцця барацьбы сялян за зямлю з агульнапалітычным рухам.

Па арганізацыйным пытанні канферэнцыя пацвердзіла нормы статута, прынятага на II з'ездзе БСГ, і дапоўніла іх рэзалюцыяй, паводле якой партыйная структура на абласным і мясцовым узроўні павінна была дзейнічаць на аснове цэнтралізму і строгай канспірацыі. Абласны камітэт узначальваў усю дзейнасць партыі на "сваёй" тэрыторыі. Для садзеяння сабе

---

[1] *Шлюбскі А.* Да гісторыі Беларускай сацыялістычнай грамады // Полымя. 1925. №5. С.158–161 (поўныя тэксты праграм БСГ 1903 і 1906 гг.).

[2] БДАМЛМ, ф.3, воп.1, спр.141, арк.9.

[3] Там жа, арк.6–7.

[4] *Луцкевіч А.* За дваццаць пяць гадоў. С.34–35.

[5] БДАМЛМ, ф.3, воп.1, спр.141, арк.7.

ён утварыў з членаў партыі камісіі па справах тэхнікі, фінансаў і інш. Мясцовыя камітэты падпарадкоўваліся абласным камітэтам і фарміраваліся імі. Там, дзе існавалі буйныя рабочыя арганізацыі, ствараліся строга законспіраваныя рабочыя камітэты, а пры іх – рабочыя саветы з прадстаўнікоў раённых рабочых арганізацый[1].

Прыняцце гэтай рэзалюцыі сведчыла аб тым, што статут БСГ, зацверджаны ў пачатку студзеня 1906 г., прадугледжваў выбарнасць мясцовых камітэтаў, якую ва ўмовах наступлення контррэвалюцыі давялося адмяніць. Разам з тым з матэрыялаў канферэнцыі можна зрабіць выснову, што БСГ да лета 1906 г. значна пашырыла свой уплыў сярод рабочых, у прыватнасці ў Мінску і Вільні, дзе афарміліся адпаведна рабочыя камітэты і рабочая група.

Канферэнцыя патрабавала ад ЦК справаздачы аб яго дзейнасці перад абласнымі камітэтамі і даручыла ўсім арганізацыям звярнуць самую сур'ёзную ўвагу на праблему партыйнага фінансавання. Сярод магчымых крыніц папаўнення партыйнай касы яна назвала наладжванне экспрапрыяцый урадавых грошай, абкладанне прыхільнікаў, збор з арганізаваных партыяй людзей, выданне падпісных лістоў, стварэнне камерцыйных прадпрыемстваў. Вельмі актуальнай задачай ЦК прызнавалася хутчэйшае выданне партыйнага органа[2].

**Газета "Наша доля"**. Першым перыядычным органам БСГ стала легальная тыднёвая газета "Наша доля", якая выдавалася ў Вільні з 1 верасня да 1 снежня 1906 г. кірыліцай і лацінкай ва ўмовах разгорнутага наступлення контррэвалюцыі, што і прадвызначыла яе лёс. Афіцыйным рэдактарам-выдаўцом "Нашай долі" быў зацверджаны віленскі мешчанін І. Тукеркес, фактычнымі ж рэдактарамі з'яўляліся І. і А. Луцкевічы, Цётка і Ф. Умястоўскі. У падрыхтоўцы выдання ўдзельнічаў А. Уласаў, які прыцягнуў да супрацоўніцтва з газетай Я.Коласа.

Першы нумар "Нашай долі" пачынаўся вершам Цёткі "Наш палетак", прысвечаным тэме нацыянальнага адраджэння беларусаў.

У нумары пераважалі матэрыялы рэвалюцыйна-дэмакратычнага зместу, у пэўнай ступені завуаліраванага з мэтай пазбегнуць цэнзурнага праследавання. Артыкул "Што будзе" канстатаваў, што царскі ўрад "не дасць народу ні зямлі, ні праўдзівае свабоды" і падводзіў да высновы аб неабходнасці звяржэння ўрада. У публіцыстычным творы Цёткі "Прысяга над крывавымі разорамі" ў сімвалічных вобразах трох братоў, сыноў беларускага селяніна-бедняка – дворнага парабка, салдата і пецярбургскага рабочага – паказваліся вядучыя сілы, якія, заключыўшы брацкі саюз, маглі забяспечыць перамогу рэвалюцыі, пераход казённых і дворных (панскіх) зямель у рукі народа. Усім, хто баяўся выступіць супраць "казённага" і "дворнага", браты, скрыжаваўшы ў прысязе рукі, адказваюць: "Мы дамо! Мы сіла – мы права!"

Ідэя саюза вясковай і гарадской працоўнай беднаты як галоўнай перадумовы поспеху ў барацьбе за лепшую долю прапагандавалася і ў наступных нумарах газеты. Зрабіць перамену да лепшага, як падкрэслівала газета, "можа толькі ўвесь рабочы народ, уся вясковая і мясцовая працавітая беднота, калі ўсе разам пойдуць па адной дарозе, дзеля чаго ўсе мужыцкія саюзы павінны злучыцца праз свае камітэты з рабочымі саюзамі і партыямі ў горадзе". У трэцім нумары быў змешчаны верш Я.Коласа "Беларусам", у якім

---

[1] БДАМЛМ, ф.3, воп.1, спр.141, арк.8.

[2] Там жа, арк.9.


Я. Колас

паэт у завуаліраванай форме заклікаў свой народ да паўстання за "жыццё новага вясну".

Разам з тым у перадавым артыкуле газеты ад 27 верасня 1906 г. сцвярджалася: "...зямлю трэба здабываць не сілаю, не грабяжом, а законам". Гэта сведчыла аб пэўных хістаннях рэдактараў "Нашай долі" ва ўмовах наступлення палітычнай рэакцыі паміж рэвалюцыйна-дэмакратычным і ліберальным курсам, ва ўсякім разе ў легальнай дзейнасці. Тым не менш у апошніх нумарах газета смела выкрывала палітыку Сталыпіна, яго імкненне "патапіць у крыві вялікі асвабадзіцельны рух", заклікала "вясковы і мястовы народ", іншыя пласты насельніцтва на барацьбу супраць асноў тагачаснага грамадскага і дзяржаўнага ладу. За антыўрадавую накіраванасць чатыры нумары першай беларускай легальнай газеты (з шасці выдадзеных) былі канфіскаваны, а сёмы знішчаны ў наборы. Рашэннем Віленскай судовай палаты ад 11 студзеня 1907 г. выданне "Нашай долі" было забаронена назаўсёды, а яе афіцыйны рэдактар асуджаны на зняволенне ў крэпасці[1].

**Пачатак выдання "Нашай нівы". Дзейнасць БСГ на схіле рэвалюцыі.** Пакінуўшы "Нашу долю", кіраўнікі БСГ арганізавалі ў Вільні выданне новай штотыднёвай газеты "Наша ніва". У рэдакцыю яе ўваходзілі І. і А. Луцкевічы і А. Уласаў. Першыя чатыры нумары ў якасці рэдактара-выдаўца падпісваў З.Вольскі, наступныя (на працягу шэрагу гадоў) – А. Уласаў. У перадавым артыкуле першага нумара, які выйшаў 10 (23) лістапада 1906 г., заяўлялася: "Не думайце, што мы хочам служыць толькі ці панам, ці адным мужыкам. Не, ніколі не! Мы будзем *служыць усяму* скрыўджанаму беларускаму народу. Мы... будзем старацца, *каб усе беларусы*, што не ведаюць, хто яны ёсць, – *зразумелі, што яны беларусы і людзі*, каб пазналі свае правы..." (выдзелена ў арыгінале). З дадзенай жа заявы вынікала, што грамадоўская рэдакцыя "Нашай нівы" сышла з пазіцыі абароны класавых інтарэсаў сялян і сваім крэда абвясціла абарону нацыянальных інтарэсаў прыгнечанага беларускага народа і аб'яднанне яго на аснове нацыянальнай ідэі.

Аднак шматлікія рэдакцыйныя і іншыя матэрыялы, апублікаваныя ў "Нашай ніве" ў канцы 1906 – першай палове 1907 г., сведчаць пра тое, што газета арыентавалася на працоўныя масы народа. У публікацыях, прысвечаных тэме выбараў у II Дзяржаўную думу, яна тлумачыла працоўным адзінства іх інтарэсаў і неабходнасць аб'яднання незалежна ад веравызнання для таго, каб перамагчы на выбарах і праз сваіх дэпутатаў дабіцца паляпшэння свайго становішча[2].

Сацыяльна-эканамічная і нацыянальна-палітычная праграма газеты на пачатковым этапе яе выдання выкладалася ў артыкуле "Зямельная справа ў Беларусі" ў форме наказу думскім дэпутатам ад краю. Найперш яны павінны былі дабіцца вырашэння пытання аб забеспячэнні малазямельным і беззямельным сялянам свабоднага доступу да зямлі, скасавання ўсіх абмежавальных законаў адносна яе куплі і продажу, а таксама цераспалосіцы і сервітутаў ("без крыўды для працуючых"), стварэння ўмоў для наладжван-

[1] БДАМЛМ, ф.3, воп.1, спр.141, арк. 137–138.

[2] Наша ніва. 1906. 24 лістап.

ня фальварковай або хутарской гаспадаркі, арганізацыі таннага крэдыту і дапамогі ў гэтай справе з боку дзяржавы, увядзення ўсесаслоўнай воласці, гэта значыць ураўнавання правоў і абавязкаў жыхароў воласці ўсіх саслоўяў (сялян, дваран, мяшчан і інш.) і найбольшага самакіравання валасцей, паветаў і губерняў шляхам дэмакратычных выбараў. Прадугледжвалася таксама ўвядзенне асобнага самакіравання для ўсяго краю са сваім сеймам, выбраным роўным, тайным і простым галасаваннем, адмена ўскосных падаткаў і ўстанаўленне адзінага прагрэсіўнага падатку даходаў, увядзенне ўсеагульнай абавязковай бясплатнай адукацыі на роднай мове[1]. Ажыццяўленне патрабаванняў сялян і рабочых "Наша ніва" звязвала з прапагандай ідэі поўнаўладнай Думы, з утварэннем выбранага ёю і адказнага перад ёю ўрада. У сувязі з гэтым газета заклікала выбіраць у Думу "такіх людзей, што не толькі стаяць за такую поўнаўладную Думу, не толькі хочуць зямлі, свабоды і лепшай долі народу, але будуць мець сілу смела і цвёрдасць дабіцца гэтага"[2]. У студзені 1907 г. яна значна пашырыла палітычныя патрабаванні, выказаўшыся за адмену на ўсёй тэрыторыі Расіі ўзмоцненай і надзвычайнай аховы і ваеннага становішча, ліквідацыю Дзяржаўнага савета, гарантыі бяспекі асобы кожнага чалавека, за свабоду сумлення, слова, друку, саюзаў, сходаў і забастовак, ураўнаванне ўсіх грамадзян перад законам, адмену смяротнага пакарання, амністыю ўсім палітычным зняволеным[3]. Газета раіла сялянам, каб яны далі цвёрды наказ сваім выбаршчыкам у губернскіх сходах "ісці ўсім... разам, злучыцца з гарадскімі выбаршчыкамі і не пусціць у Думу памешчыкаў"[4].




Газета "Наша Ніва"

Узнімаючы аграрнае пытанне, "Наша ніва" вясною 1907 г. неаднаразова адзначала: у Беларусі зямлі казённай, удзельнай, манастырскай, царкоўнай і касцёльнай так мала, што задаволіць ёю сялян немагчыма. У гэтай сувязі яна крытыкавала пазіцыю думскіх дэпутатаў ад памешчыкаў заходніх губерняў, якія "частавалі" сялян толькі гэтай зямлёю і заяўлялі аб недатыкальнасці памешчыцкага землеўладання. Газета падтрымлівала патрабаванне браць зямлю, "дзе выпадае і прымусам ад памешчыкаў". Пры гэтым яна апублікавала праект зямельнай рэформы літоўскіх сацыял-дэмакратаў, выбраных у II Дзяржаўную думу ад Ковенскай губерні, які фактычна супадаў з праграмай БСГ, прынятай на яе другім з'ездзе[5].

"Наша ніва" асуджала дзейнасць у Беларусі як "истинно-русских", так і "истинно-польских" нацыяналістаў, характарызуючы іх як зацятых ворагаў

[1] Наша ніва. 1906. 22 снеж.

[2] Там жа. 1907. 6 студз.

[3] Там жа. 13 студз.

[4] Там жа. 25 студз.

[5] Там жа. 18 мая.

беларускага народа, рэзка выкрывала здраду агульнасялянскім інтарэсам з боку тых беларускіх сялян, якія трапілі ў Думу, пайшоўшы на саюз з расійскай чорнай сотняй, ці адпаведна з мясцовымі польскімі памешчыкамі і каталіцкімі ксяндзамі[1].

У канцы 1906 – першай палове 1907 г. працягвалася і нелегальная дзейнасць БСГ, хоць і ў значна больш вузкіх маштабах, чым у папярэдні перыяд рэвалюцыі. У Пецярбургскім падпольным выдавецтве "Грамада" былі выдадзены некалькі брашур рэвалюцыйна-дэмакратычнага зместу, у тым ліку "Як мужыку палепшыць сваё жыццё" (кірыліцай і лацінкай), "Чы будзе для ўсіх зямлі?", "Што такое свабода?" І.Сігава (пераклад з украінскай мовы), "Забастоўка" (лацінкай), "Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць"[2]. Мінскі рабочы камітэт БСГ у партыйнай друкарні выдаў да 1 мая (18 красавіка) 1907 г. адозву "Таварышы рабочыя" (на рускай мове) з заклікам да аб'яднання і барацьбы "за чалавечае шчасце, за сацыялізм"[3].

Паводле няпоўных звестак, выданні "Грамады" напярэдадні рэвалюцыі 1905–1907 гг. распаўсюджваліся ў Мінску, Вільні, Дзісне, Рэчыцы, Мінскім, Ігуменскім, Барысаўскім, Бабруйскім, Навагрудскім, Слуцкім паветах Мінскай губерні; Віленскім, Лідскім, Дзісенскім, Ашмянскім паветах Віленскай губерні; Гродзенскім, Брэсцкім і Бельскім паветах Гродзенскай губерні. Фактаў распаўсюджання літаратуры БСГ у Магілёўскай і Віленскай губернях практычна не зафіксавана.

Уплыў БСГ у рабочым руху гарадоў, за выключэннем Мінска і Вільні, амаль не адчуваўся. Асноўным аб'ектам яе агітацыі з'яўляліся сельскія рабочыя і сяляне-падзёншчыкі. У шэрагу паветаў яна арганізавала значныя сельскагаспадарчыя забастоўкі, праводзіла палітычныя сходы і мітынгі. У канцы 1906 – пачатку 1907 г. Мінскі краёвы камітэт БСГ, як ужо адзначалася, разам з мясцовымі арганізацыямі РСДРП, ПСР, Бунда і прафсаюзаў уваходзіў у левы блок па выбарах у II Дзяржаўную думу. У паветах Мінскай губерні Беларуская сацыялістычная грамада выставіла свой спіс кандыдатаў на ўсіх участках і мела прыкметны поспех. У Мінскім, Слуцкім, Навагрудскім паветах яе прадстаўнікі былі праведзены ў склад выбаршчыкаў[4]. Аднак на губернскім сходзе выбаршчыкаў ні адзін кандыдат у Думу ад левых партый не быў падтрыманы.

## ГЛАВА 2

## САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

### 1. Сельская гаспадарка і аграрная рэформа П.Сталыпіна

**Інтэнсіфікацыя і дынаміка сельскагаспадарчай вытворчасці. Класавая дыферэнцыяцыя сялянства.** У пачатку XX ст. вядучай галіной сельскай гаспадаркі Беларусі заставалася земляробства. З развіццём капіталістычных адносін на вёсцы, павелічэннем колькасці сельскага насельніцтва яго прадукцыйныя сілы ўзрасталі. З 1899 да 1913 г. у Беларусі з пашырэннем ворна-

[1] Наша ніва. 1907. 13 крас.

[2] *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова. Мн., 1971. С.142, 154–155.

[3] РДГА, ф.1741, №48.

[4] Наша ніва. 1907. 25 студз.; 2 лют.

га кліна агульная пасяўная плошча павялічылася з 3870,2 тыс. да 4052 тыс. дзесяцін, ці на 4,7 %. Аднак яе прырост назіраўся толькі на сялянскай надзельнай зямлі – з 2474,2 тыс. да 2698,1 тыс., або на 9 %. На прыватнаўласніцкіх землях пасевы скараціліся з 1396 тыс. да 1353,9 тыс. дзесяцін (3 %). Хутчэй за ўсё пашыраліся пасяўная плошча і збор найбольш даходных, тэхнічных і кармавых культур (бульбы, лёну, канапель). Сярод іх першае месца займала бульба. За адзначаны перыяд у Беларусі яе плошча вырасла з 375,1 тыс. да 551,6 тыс. дзесяцін (47,1 %), а ўдзельная вага ў агульнай пасяўной плошчы на прыватнаўласніцкай зямлі ўзнялася з 9,5 да 14,6 %, на сялянскай надзельнай – з 9,8 да 12,3 %. Сярэднегадавы чысты (за вылікам насення) збор бульбы павялічыўся са 124,4 млн пудоў у 1899–1901 гг. да 184,7 млн пудоў у 1911–1913 гг., або на 48,6 %. У пачатку XX ст. Беларусь заставалася адным з найбуйнейшых рэгіёнаў вытворчасці бульбы. Напярэдадні Першай сусветнай вайны на яе прыпадала 17,2 % усяго бульбянога поля еўрапейскай часткі Расійскай імперыі[1]. Асноўную масу таварнай бульбы перапрацоўвалі на спірт, большая частка якога паступала на продаж.

У паўночных паветах важнай галіной сельскагаспадарчай вытворчасці з'яўлялася льнаводства. Тут было сканцэнтравана каля 2/3 пасеваў лёну ў Беларусі. З 1899 да 1913 г. яны ўзраслі з 91,5 тыс. да 100,1 тыс. дзесяцін (9,4 %) і склалі 2,5 % агульнай пасяўной плошчы. Сярэднегадавы збор ільновалакна павялічыўся з 1794 тыс. пудоў у 1899–1901 гг. да 2928,2 тыс. пудоў у 1911–1913 гг., ці на 63,2 %. Значнае перавышэнне яго росту ў параўнанні з пасевамі сведчыць аб інтэнсіфікацыі льнаводства, якое ўсё больш прыстасоўвалася да рынку. Амаль 3/4 пасяўной плошчы лёну і збору льновалакна прыпадала на сялянскія надзельныя землі[2]. Заможныя сялянскія гаспадаркі паўночных паветаў спецыялізаваліся на вытворчасці лёну на продаж. Апошнія, як і ў другой палове XIX ст., былі адным з асноўных рэгіёнаў гандлёвага льнаводства ў краіне.

У 1913 г. параўнальна з 1899 г. у Беларусі пасевы збожжавых (з улікам зернебабовых) культур узраслі толькі на 4,1 тыс. дзесяцін (0,1 %), а іх удзельная вага ў агульнай пасяўной плошчы знізілася з 87,2 да 83,4 %[3]. Разам з тым ураджайнасць збожжа павышалася. Сярэдняя ўраджайнасць збожжавых культур у Беларускім рэгіёне ў 1911–1913 гг. параўнальна з 1900–1902 гг. узрасла на прыватнаўласніцкіх землях з 41,2 да 54,8 пудоў з дзесяціны (33,2 %), на сялянскіх надзельных – з 37 да 47,2 пудоў (27,6 %)[4]. Павелічэнне збору збожжа адбывалася амаль выключна за кошт інтэнсіфікацыі збожжавай гаспадаркі. Аднак тэмпы росту прадукцыі збожжа былі недастаткова высокія. Па яго ўраджайнасці Беларусь працягвала адставаць ад многіх рэгіёнаў імперыі.

У пачатку XX ст. важнай галіной сельскагаспадарчай вытворчасці, цесна звязанай з земляробствам, заставалася жывёлагадоўля. У гэты перыяд назіраўся рост, ды і то нязначны, толькі пагалоўя буйной рагатай жывёлы. Статак астатніх відаў свойскай жывёлы паменшыўся. У 1913 г. адносна 1900 г. у пяці заходніх губернях пагалоўе буйной рагатай жывёлы (без ма-

---

[1] Временник Центрального статистического комитета. СПб., 1901. №48. С.24–25, 76–79, 82, 84, 86–87, 90, 151–152, 155–158; Статистика Российской империи. Урожай 1899 года. СПб., 1900. Вып. II; Урожай 1900 года. СПб., 1901. Вып. II; Урожай 1901 года. СПб., 1902. Вып. II; Урожай 1911 года. СПб., 1912. Вып. II; Урожай 1912 года. СПб., 1913. Вып. II; Урожай 1913 года. СПб., 1914. Вып. II.

[2] Падлічана паводле статыстычных даных аб пасевах і ўраджаях за адпаведныя гады.

[3] Падлічана паводле статыстычных даных аб пасевах і ўраджаях за адпаведныя гады.

[4] Экономика Белоруссии в эпоху империализма 1900–1917. Мн., 1963. С.141.

ладняку) павялічылася з 3539,9 тыс. да 3662,5 тыс., або на 3,5 %, а рабочых коней (звыш чатырох гадоў) скарацілася з 1554,4 тыс. да 1376,4 тыс., ці на 11,5 %, свіней з 2100,1 тыс. да 1889,2 тыс. – на 11,2 %, авечак і коз з 3274,7 тыс. да 2474 тыс. – на 24,4 %[1]. Гэта было выклікана перш за ўсё крызісам 1900 – 1903 гг. і дэпрэсіяй 1904 – 1908 гг. у прамысловасці (паніжэннем попыту на таварную жывёлагадоўчую прадукцыю), далейшым змяншэннем плошчы паш і сенажацей асноўнай масы сялянства, заменай малапрадукцыйнай жывёлы меншай па колькасці пародзістай жывёлай у многіх панскіх і заможных сялянскіх гаспадарках. Аднак Беларусь у пачатку XX ст., як і ў другой палове XIX ст., належала да ліку рэгіёнаў Расійскай імперыі з параўнаўча развітой жывёлагадоўляй. Малочная і мясная жывёлагадоўля ў спалучэнні з вінакурствам, пры вядучай ролі малочнай гаспадаркі, тут з'яўлялася галоўным напрамкам рыначнай спецыялізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці.

Рост прадукцыйных сіл земляробства і часткова жывёлагадоўлі быў абумоўлены пашырэннем скарыстання ўдасканаленых прылад вытворчасці, машын і наёмнай працы, развіццём гандлёвага земляробства, у тым ліку вінакурства і іншых галін сельскагаспадарчага прадпрымальніцтва, павелічэннем колькасці сельскага насельніцтва.

Таксама паляпшалася тэхнічная аснашчанасць сельскагаспадарчай вытворчасці. У 1910 г. у Беларусі ў панскіх гаспадарках жалезныя плугі складалі 46,9 % усіх прылад для ворыва, жалезныя бароны і бароны з жалезнымі зубамі – 68,3 % іх агульнай колькасці, у сялянскіх – адпаведна 36,4 і 34 %. Памешчыкам належала 41,2 тыс. земляробчых машын (малатарань, веялак, сеялак, жняярак, конных грабель), сялянам (галоўным чынам кулакам і заможным) – 32,5 тыс., амаль выключна малатарань і веялак[2]. У панскіх гаспадарках і гаспадарках сялянскай буржуазіі кабальныя адпрацоўкі сялян паступова выцясняліся наёмнай рабочай сілай. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў параўнанні з 1897 г. колькасць парабкаў у маёнтках і гаспадарках сялянскай буржуазіі Беларускага рэгіёна ўзрасла са 130 тыс. да 200 тыс. (53,8 %)[3].

Пашыраліся рыначныя сувязі сельскай гаспадаркі. З 1900 да 1913 г. чысты (за вылікам увозу) вываз ільновалакна і кудзелі з Беларусі ў іншыя рэгіёны краіны і за мяжу павялічыўся з 1619 тыс. да 1911 тыс. пудоў (18 %), мяса, бітай птушкі і дзічыны – са 188 тыс. да 395 тыс. пудоў (у 2,1 раза). Акрамя таго, за вылікам увозу напярэдадні вайны было адпраўлена 47,7 тыс. галоў свіней і 11,5 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы[4].

Інтэнсіўна развівалася вінакурства. З 1901/1902 да 1912/1913 гаспадарчага года ў пяці заходніх губернях колькасць бровараў узрасла з 484 да 630, ці на 30,1 %, а колькасць перакуранай бульбы – з 22,7 млн да 31,9 млн пудоў, або на 40,5 %. На спірт таксама перапрацоўвалі штогод ад 2,2 млн да 2,9 млн пудоў збожжа[5]. Большая частка спірту ішла на продаж. Адыходы вінакурства (брага) шырока скарыстоўвалі на корм жывёле. Значная колькасць прадуктаў земляробства і жывёлагадоўлі збывалася на мясцовым рынку.

---

[1] Временник Центрального статистического комитета. №50. С.1, 2; Статистический ежегодник России. 1913 г. СПб., 1914. Отд. VII. С.45.

[2] Сельскохозяйственные машины и орудия в Европейской и Азиатской России в 1910 г. СПб., 1913. Таблицы. С.18–19.

[3] *Панютич В.П.* Наемный труд в сельском хозяйстве Беларуси. 1861–1914. С.58, 104.

[4] Экономика Белоруссии в эпоху империализма 1900–1917. С.218.

[5] Сборник статистико-экономических сведений по сельскому хозяйству России и некоторых иностранных государств. Год второй. СПб., 1908. С.12–13; Год девятый. Пг., 1916. С.184–187.



Будынак спіртзавода ў маёнтку Лошыца

Сельскае насельніцтва няспынна расло. З 1897 да 1913 г. у Беларусі яно павялічылася з 5845,1 тыс. да 7870 тыс. чалавек (34,6 %)[1]. Натуральны прырост сям'і прымушаў сялян заворваць пашы, сенажаці, пашыраць плошчу ворнай зямлі.

За кошт "вымывання" серадняцкіх слаёў вёскі ў пачатку XX ст. назіралася далейшае паглыбленне класавай дыферэнцыяцыі сялянства на сялянскую буржуазію, галоўным чынам дробную, і сельскі пралетарыят, пераважна з надзелам. Зыходзячы з размеркавання колькасці коней, зямлі, а таксама скарыстання наёмнай працы парабкаў "верхняй" групай сялян, можна сцвярджаць, што ў Беларусі з канца XIX ст. да пачатку Першай сусветнай вайны ўдзельная вага сялянскіх серадняцкіх двароў зменшылася прыкладна з 30 да 20 %, а бядняцкіх – павысілася з 60 да 70 %, сялянскай буржуазіі – з 8 да 11 %[2]. Класавая дыферэнцыяцыя сялянства была якасна новай, найважнейшай з'явай у сацыяльным развіцці капіталістычнай вёскі. У канцы гэтага перыяду дадзены працэс па-ранейшаму быў яшчэ далёкі ад завяршэння.

**Прычыны і мэты рэформы.** Расійская рэвалюцыя 1905–1907 гг. прымусіла царызм зрабіць круты паварот у аграрнай палітыцы, стаць на шлях паскарэння капіталістычнага развіцця вёскі. Рэформа П.Сталыпіна была адказам царскага самадзяржаўя, памешчыкаў на рэвалюцыю. У адзначаны перыяд сяляне выступалі з рэвалюцыйнымі патрабаваннямі, аж да нацыяналізацыі ўсёй зямлі. Рэвалюцыя паказала, што сялянства вызваляецца ад наіўнай веры ў цара, што яно ў цэлым здольна на актыўныя рэвалюцыйныя дзеянні, што інтарэсы сялян непрымірымыя з панскім землеўладаннем. Як вядома, першая расійская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя не вырашыла аграрнага пытання, не ліквідавала панскай зямельнай уласнасці і іншых перажыткаў прыгонніцтва. Тым самым захоўваліся ўмовы для нова-

---

[1]Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. Вып. IV. Тетр.1. С.1; Вып.V. Тетр.1. С.1; Вып. XI, ХХП, ХХШ. С.1; Статистический ежегодник России, 1913 г. Отд. I. С.33–35, 39.

[2]*Панютич В.П.* Наемный труд в сельском хозяйстве Беларуси 1861–1914 гг. С.40, 95.

га рэвалюцыйнага выбуху. Правячым колам манархічнай Расійскай імперыі, нягледзячы на часовую перамогу контррэвалюцыі, неабходна было пашырыць сваю сацыяльную базу, знайсці новую апору, паколькі старая апора – памешчыкі і ваенная сіла – з'яўлялася недастатковай. Такой апорай, на думку ўрада, павінна была стаць прамыслова-гандлёвая буржуазія ў горадзе і сялянская буржуазія ў вёсцы. Праводзячы рэформу зверху, царызм імкнуўся прадухіліць рэвалюцыю знізу. "Моцны асабісты ўласнік, – гаварыў П.Сталыпін, – павінен з'явіцца перашкодай для развіцця рэвалюцыйнага руху"[1].

Мэтай рэформы было, з аднаго боку, утварэнне класа кансерватыўнай сялянскай буржуазіі, якая стала б апорай царскага самадзяржаўя і саюзнікам памешчыка ў вёсцы, з другога – ператварэнне асноўнай масы сялян у парабкаў і прамысловых рабочых. Акрамя таго, ставілася задача паскорыць рост прадукцыйных сіл земляробства, развіццё капіталізму ў сельскай гаспадарцы пры захаванні панскіх латыфундый. Такім чынам урад імкнуўся прадухіліць аграрна-сялянскую рэвалюцыю і ўзмацніць рост эканомікі краіны. Сталыпінская рэформа ажыццяўлялася шляхам ліквідацыі сялянскага надзельнага землеўладання, насаджэння дробнакапіталістычнай сялянскай зямельнай уласнасці і хутарской формы землекарыстання, перасялення часткі беззямельных і малазямельных сялян у Сібір, на Далёкі Усход, у Казахстан, на Каўказ, у Сярэднюю Азію і іншыя ўскраінныя рэгіёны імперыі. Умовай правядзення гэтых мерапрыемстваў з'яўлялася разбурэнне сельскай пазямельнай абшчыны.

Да пачатку XX ст. царызм усяляк падтрымліваў сельскую абшчыну, патрыярхальныя перажыткі ў вёсцы, выдаючы сябе за абаронцу інтарэсаў сялянства, неадчужальнасці яго надзелаў. У сапраўднасці ж ён ахоўваў непахіснасць дваранскай зямельнай уласнасці. На працягу многіх дзесяцігоддзяў урад глядзеў на абшчыну як на зручны сродак для выбівання падаткаў з сялян. Правячыя колы ўскладалі вялікія надзеі і на патрыярхальнасць мужыка, яго веру ў "цара-бацюхну", разглядалі сельскую абшчыну як зручны адміністрацыйна-паліцэйскі інструмент, які найлепшым чынам прывязваў сялянства да грамады і забяспечваў утрыманне яго ў падпарадкаванні і паслухмянасці. Аднак рэвалюцыя 1905–1907 гг. паказала марнасць гэтых надзей. Сяляне пачалі ўзнімацца на масавую барацьбу супраць памешчыкаў і ўлад. Сельская пазямельная абшчына прадэманстравала непрыдатнасць у якасці сродку падпарадкавання сялянства памешчыкам, і таму царскае самадзяржаўе пачало яе паскораную ліквідацыю.

**Рэформа П.Сталыпіна, яе рэалізацыя ў Беларусі.** Паводле ўказа ад 9 лістапада 1906 г., пры абшчынным землеўладанні кожны гаспадар дома, які меў у сваім карыстанні надзельную зямлю, атрымаў права выхаду з абшчыны і замацавання зямельнага надзелу ў асабістую ўласнасць. Аднак яна была абмежаваная, бо сялянскія надзельныя землі дазвалялі прадаваць выключна сялянам, а закладваць толькі ў Сялянскім пазямельным банку. Выхад з сельскай пазямельнай абшчыны праводзіўся на працягу месяца з дня падачы заявы рашэннем (прыгаворам) агульнага сходу сялян–гаспадароў дамоў простай большасцю галасоў. Калі сельская грамада такой згоды не давала, дазволіць выйсці з абшчыны мог земскі ўчастковы начальнік. У тых абшчынах, дзе на працягу апошніх 24 гадоў не было агульных зямельных перадзелаў, гаспадар дома, які жадаў выйсці з абшчыны, меў права атрымаць у асабістую ўласнасць усю зямлю, якой фактычна карыстаўся, апрача аранда-

[1] Сборник речей П.А. Столыпина. СПб., 1911. С.75.

ванай. У перадзельных жа абшчынах кожны, хто выходзіў з іх, павінен быў заплаціць грамадзе за лішак зямлі, які перавышаў душавую норму па ацэнцы 1861 г. Такая плата была ў два-тры разы больш нізкая, чым рынычная цана на зямлю. Гэта давала магчымасць сялянскай буржуазіі танна скупляць абшчынныя землі. Адзначаны ўказ пакінуў у сіле ранейшае заканадаўчае палажэнне, згодна з якім надзельная зямля падворнага ўладання магла адчужацца шляхам продажу ці дарэння толькі асобам, прыпісаным да сельскай грамады. Гэта рабілася з мэтай забеспячэння побыту сялян і іх падатказдольнасці перад казной. Пры выхадзе з пазямельнай абшчыны за сялянамі захоўвалася права карыстання надзельнымі землямі, што заставаліся ў агульным уладанні, – выганамі, пусткамі, ляснымі і іншымі ўгоддзямі. Указ прадугледжваў і адвядзенне ім хутароў і адрубоў па магчымасці ў адным месцы. Прадугледжваўся пераход цэлай грамады з абшчынным або падворным землеўладаннем да карыстання адрубамі пры згодзе 2/3 членаў сельскага сходу[1].

У кастрычніку 1908 г. указ ад 9 лістапада 1906 г. быў унесены на разгляд III Дзяржаўнай думы, якая зацвердзіла яго з некаторымі змяненнямі і папраўкамі. Затым ён быў ухвалены Дзяржаўным саветам, зацверджаны Мікалаем II і згодна з датай зацвярджэння стаў называцца законам 14 чэрвеня 1910 г. Гэты закон паскорыў разбурэнне пазямельнай абшчыны і ўсталяванне сялянскай прыватнай уласнасці на зямлю. Калі ўказ ад 9 лістапада дазваляў добраахвотны выхад з абшчыны, то закон ад 14 чэрвеня рабіў яго абавязковым для бесперадзельных сельскіх абшчын. Такімі лічыліся абшчыны, дзе не было агульных перадзелаў з часу надзялення сялян зямлёй. Уся надзельная зямля ў іх прызнавалася асабістай уласнасцю гаспадароў дамоў, а сяляне лічыліся перайшоўшымі да падворна-ўчастковага землеўладання. Іншыя артыкулы закона ад 14 чэрвеня 1910 г. прадугледжвалі абавязковае стварэнне хутарскіх ці адрубных гаспадарак у грамадзе, дзе праводзіўся агульны перадзел. Паводле новага закону, для выхаду на хутары і адрубы ўжо не патрабавалася згоды большасці сялян. Для гэтага дастаткова было набраць толькі 1/5 галасоў у той сельскай грамадзе, у якой колькасць гаспадароў дамоў не перавышала 250 чалавек, а там, дзе перавышала, заручыцца падтрымкай 50 гаспадароў дамоў. У сельскай грамадзе з падворным землеўладаннем і ў бесперадзельных абшчынах пры пераходзе на адрубныя ўчасткі згодна з новым законам патрабавалася рашэнне простай большасці гаспадароў дамоў замест 2/3, як гэта прадугледжвалася ўказам ад 9 лістапада[2].

Непасрэднае ажыццяўленне рэформы было ўскладзена на губернскія і павятовыя землеўпарадкавальныя камісіі, створаныя ўрадам яшчэ ў сакавіку 1906 г. Павятовыя землеўпарадкавальныя камісіі з'яўляліся галоўнымі органамі па правядзенню землеўпарадкавання на месцах. Яны складаліся з павятовага маршалка (ён жа старшыня), старшыні павятовай земскай управы, асобы, прызначанай Галоўным упраўленнем землеўпарадкавання і земляробства, павятовага члена акруговага суда, падатковага інспектара, земскага ўчастковага начальніка, трох членаў ад павятовага земскага сходу і толькі трох прадстаўнікоў ад сялян, выбраных на валасных сходах. Такімі ж былі губернскія землеўпарадкавальныя камісіі, якія пра-

[1] ПСЗ. Собр. 3-е. Т. 13. №10151; Т. 26. №28528; *Липинский Л.П.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии. Мн., 1978. С.57–58.

[2] ПСЗ. Собр. 3-е. Т. 30. №33743; *Липинский Л.П.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии. С.58.

водзілі пасяджэнні пад старшынствам губернатара і ўключалі губернскага маршалка, старшыню губернскай земскай управы, упраўляючых Казённай палатай, мясцовымі аддзяленнямі Сялянскага і Дваранскага банкаў, а таксама іншых прадстаўнікоў царскай чыноўнай бюракратыі[1]. Агульнае кіраўніцтва гэтымі камісіямі ажыццяўляў Камітэт па землеўпарадкавальных справах, створаны пры Галоўным упраўленні землеўпарадкавання і земляробства.

Заходнія губерні належалі да рэгіёнаў краіны, дзе з самага пачатку землеўпарадкавальныя работы разгарнуліся паскоранымі тэмпамі. Практычную работу па землеўпарадкаванню праводзілі каморнікі, у дапамогу якім прызначаліся так званыя межавыя тэхнікі.

Імкнучыся як мага фарсіраваць ліквідацыю пазямельнай абшчыны, урад 29 мая 1911 г. выдаў новы закон аб землеўпарадкаванні. Згодна з гэтым законам яно магло праводзіцца незалежна ад таго, замацавана зямля ва ўласнасць ці не. Паселішча, у якім праведзена землеўпарадкаванне, ужо ў выніку гэтага факта абвяшчалася перайшоўшым да спадчыннага ўчастковага ўладання. Значна пашыраліся правы і функцыі землеўпарадкавальных камісій. Апошнія цяпер маглі прымусова рассяляць сялян на хутары і адрубы, не лічачыся з воляй сялянскай большасці. Яны таксама мелі права адміністрацыйным шляхам вырашаць усялякія спрэчкі і судовыя справы, звязаныя з землеўпарадкаваннем. Рашэнне камісіі забаронена было абскарджваць у судзе. Сяляне, якія замацавалі зямлю ў асабістую ўласнасць, маглі адасобіцца ад абшчыны толькі шляхам выхаду на хутары ці адрубы[2].

У выніку сталыпінскага землеўпарадкавання на працягу 1907–1916 гг. у пяці заходніх губернях на надзельнай зямлі было створана113,8 тыс. хутарскіх і адрубных гаспадарак плошчай 1147,2 тыс. дзесяцін. Гэта складала звыш 10 % усіх сялянскіх двароў і 18,7 % плошчы надзельнага землеўладання адзначаных губерняў. Апрача надзельнай зямлі, Сялянскі пазямельны банк прадаў пад хутары і адрубы ў пяці губернях у 1907–1916 гг. 228,7 тыс. дзесяцін банкаўскіх зямель, на якіх узнікла 13,5 тыс. гаспадарак. На прададзенай сялянам казённай зямлі (5,4 тыс. дзесяцін) было створана 813 хутарскіх і адрубных гаспадарак. Усяго за 10 гадоў ажыццяўлення сталыпінскай аграрнай рэформы ў названых губернях узнікла 128,1 тыс. хутароў і адрубоў. Сукупная плошча зямлі пад імі складала 1381,3 тыс. дзесяцін[3].

У пяці заходніх губернях працэнт сялянскіх двароў, што выйшлі на хутары і адрубы, быў некалькі вышэйшы, чым у цэлым па краіне (12 % супраць 10 %), прычым на долю Віцебскай і Магілёўскай губерняў прыпадала звыш 60 % усіх хутароў і адрубоў, створаных у пяці губернях[4]. Пераход на хутары і адрубы ў Беларусі аблягчаўся тым, што ён пачаўся яшчэ да рэформы П. Сталыпіна[5]. Гэтаму працэсу садзейнічала таксама шырокае распаўсюджанне тут сялянскага падворнага землеўладання.

---

[1] ПСЗ. Собр. 3-е. Т. 26. №27478.

[2] ПСЗ. Собр. 3-е. Т. 31. №35370.

[3] *Першин П.Н.* Участковое землепользование в России. М., 1922. С.46–47.

[4] *Липинский Л.П.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии. С.72.

[5] Там жа. С.45–50; *Дудкоў Д.А.* Сталыпінская рэформа ў Віцебскай губерні. Мн., 1931. С.36–47.



Беларускі селянін пачатку XX ст.

На хутары і адрубы ішлі галоўным чынам крайнія групы сялянства – сялянская буржуазія і бедната. Царскі ўрад прыстасоўваў хутарызацыю да інтарэсаў першай.

Каля 90 % хутароў і адрубоў пяці заходніх губерняў было створана ў ходзе агульнага развярстання абшчынных і падворных надзельных зямель. Пры выхадах з сельскай грамады асобных гаспадароў дамоў утворана толькі 7,1 % хутароў і адрубоў. Тут выхады на хутары і адрубы асобных гаспадароў дамоў займалі параўнальна невялікае месца. Беларусь у гэтых адносінах стаяла на перадапошнім месцы сярод рэгіёнаў еўрапейскай часткі Расійскай імперыі пасля Правабярэжнай Украіны[1].

Стварэнне хутарскіх і адрубных гаспадарак праводзілася шляхам разбурэння сельскай пазямельнай абшчыны. К пачатку XX ст. у Беларусі абшчыннае ўладанне ворнай зямлёй і сенажацямі ў вялікіх памерах захавалася толькі ва ўсходніх паветах. У 1905 г. у Магілёўскай губерні налічвалася 159,6 тыс. сялянскіх двароў з абшчынным землеўладаннем (80,5 % усіх сялянскіх двароў). У іх карыстанні знаходзілася 1283,6 тыс. дзесяцін прыдатнай надзельнай зямлі, ці 79,3 % яе агульнай плошчы. У Віцебскай губерні такіх двароў мелася 73,5 тыс. (53 %), а плошча сялянскага абшчыннага землеўладання складала 711,2 тыс. дзесяцін (44,6 %).[2] К 1915 г. у першай губерні выйшлі з абшчыны і замацавалі зямельныя ўчасткі ў асабістую ўласнасць гаспадароў дамоў 90,6 тыс. (56,8 %) двароў з абшчынным землеўладаннем. Яны атрымалі ва ўласнасць 702,9 тыс. дзесяцін (54,8 %) прыдатнай надзельнай зямлі. У другой губерні выйшлі з пазямельнай абшчыны 21,2 тыс. (28,9 %) двароў, якія мелі 154,8 тыс. дзесяцін (21,8 %) прыдатных абшчынных надзельных зямель. У гэтых губернях замацавалі зямлю ў асабістую ўласнасць гаспадароў дамоў каля 48 % двароў з абшчынным землеўладаннем, у той час як па краіне ў цэлым – 22 %[3].

---

[1] *Першин П.Н.* Участковое землепользование в России. С.48–49; *Дубровский С.М.* Столыпинская земельная реформа. М., 1963. С.255.

[2] Статистика землевладения 1905 г. Вып. XIII. С.10–11, 32; Вып. XXVII. С.10–11, 33.

[3] Статистический ежегодник России, 1915 г. Пг., 1916. Отд. 6. С.1.

Каб паскорыць выхад з пазямельнай абшчыны, царскія ўлады сталі на шлях выдачы актаў пасведчанняў тым сялянам, якія лічыліся перайшоўшымі да аднаасобнага ўладання. Па закону ад 14 чэрвеня 1910 г. усе гаспадары дамоў беспарадзельных абшчын павінны былі атрымаць акты, што замацоўвалі права асабістай уласнасці на зямлю. Такіх актаў за 7 гадоў (1910–1916) было выдадзена па Віцебскай губерні 8,7 тыс., Магілёўскай – 18,8 тыс. Акты атрымалі больш за 15 % усіх гаспадароў дамоў беспарадзельных абшчын гэтых губерняў. Калі да іх далучыць сялян, якія самі замацавалі абшчынную зямлю ў асабістую ўласнасць і атрымалі акты пасведчанняў на гэта, тады агульная колькасць двароў, што выйшлі з пазямельнай абшчыны, складзе па Магілёўскай губерні 109,5 тыс., Віцебскай – 29,9 тыс., а ўсяго па адзначаных губернях – 139,4 тыс. двароў, або 63 %[1]. Такім чынам, на ўсходзе Беларусі пазямельная абшчына амаль на 2/3 была разбурана.

Заможныя сяляне імкнуліся вырвацца з абмежавальных рамак сельскай абшчыны, спадзеючыся на атрыманне лепшых участкаў абшчыннай зямлі і яе танную скупку ў даведзеных да галечы аднавяскоўцаў. Сялянская беднята часта замацоўвала за сабой надзельную зямлю, каб тут жа яе прадаць, канчаткова парваць з земляробствам, існаваць за кошт продажу сваёй рабочай сілы. Замацаванне зямель у асабістую ўласнасць фактычна азначала "вызваленне" ад зямлі значнай часткі бяднейшых слаёў сялянства. Аграрная рэформа П. Сталыпіна садзейнічала абеззямельванню найбяднейшай часткі вёскі і канцэнтрацыі зямлі ў руках сялянскай буржуазіі. Сяляне-беднякі, часцей за ўсё хутаране, не маючы магчымасці весці гаспадарку, прадавалі свае надзелы. У 1907 – 1914 гг. у пяці заходніх губернях прадалі зямлю, атрыманую ва ўласнасць, 40,8 тыс. гаспадароў дамоў, або 35,8 % усіх хутарскіх і адрубных двароў. Імі было прададзена 187,8 тыс. дзесяцін зямлі, г.зн. 16,3 % хутарской і адрубной надзельнай зямлі[2]. У сярэднім на аднаго прадаўца прыпадала каля 4,6 дзесяцін зямлі. Гэта азначае, што зямлю прадавала галоўным чынам сялянская бедната, а таксама частка маламоцных сярэдніх сялян. Сталыпінская аграрная рэформа паскорыла рост буржуазнага і скарачэнне панска-паўфеадальнага землеўладання. За адзначаны перыяд у пяці губернях дваранскае землеўладанне зменшылася на 1099,1 тыс. дзесяцін (12,7 %), а сялянскае прыватнае землеўладанне павялічылася на 1105,8 тыс. дзесяцін (56,1%)[3]. Пераважная большасць гэтай зямлі была набыта сялянскай буржуазіяй, якая павялічвала свае зямельныя ўладанні.

Важная роля ў ажыццяўленні аграрнай палітыкі царызму адводзілася Сялянскаму пазямельнаму банку, на які была ўскладзена задача продажу сялянам дваранскіх зямель, нарэзаных хутарамі, на выгадных для іх уладальнікаў умовах. Ён садзейнічаў выкачванню грашовых сродкаў з вёскі на карысць памешчыкаў, дапамагаў апошнім у перабудове іх гаспадаркі на капіталістычных пачатках, насаджаў сялянскае хутарское землекарыстанне. Сялянскай буржуазіі, якая купляла зямлю пад хутары вялікімі ўчасткамі, банк выдаваў доўгатэрміновы крэдыт у памеры да 100 % яе кошту[4]. Асабліва вялікую паслугу ў продажы панскай зямлі Сялянскі банк аказаў у

---

[1] *Липинский Л.П.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии. С.65.

[2] Статистический справочник по аграрному вопросу. М., 1917. Вып. I. С.17.

[3] Статистика землевладения 1905 г. Вып.XI, XIII, XIX, XXVII, XXXIV. С.10–12; Материалы по статистике движения землевладения в России. СПб.; Пг., 1913–1917. Вып. XXI–XXV. С.22, 28; *Анфимов А.М., Макаров И.Ф.* Новые данные о землевладении Европейской России // История СССР. 1974. №1. С.90–91,

[4] *Хромов А.А.* Очерки экономики России монополистического капитализма. М., 1960. С.173.

1906–1907 гг., калі аграрны рух выклікаў паніку сярод памешчыкаў, што спяшаліся прадаць свае маёнткі. За першы год зямельны фонд банка ў пяці заходніх губернях павялічыўся з 36,8 тыс. да 152,2 тыс. дзесяцін, г.зн. у 4,3 раза[1]. Банк павышаў цэны на зямлю ў інтарэсах памешчыкаў. З 1907 па 1915 г. у адзначаных губернях сярэдняя цана дзесяціны зямлі пры куплі яе ў прыватных уладальнікаў паднялася з 89 да 118 руб., ці на 32,6 %[2]. За гэты перыяд сума, выплачаная сялянамі памешчыкам пяці заходніх губерняў за зямлю, купленую ў іх пры садзейнічанні Сялянскага пазямельнага банка, склала 51 млн руб., а плошча набытай зямлі дасягнула 770,1 тыс. дзесяцін[3].

Пазыковая палітыка банка была падпарадкавана хутарызацыі. Пра гэта сведчыць, у прыватнасці, той факт, што 98,3 % плошчы банкаўскіх зямель, прададзеных у пяці заходніх губернях з прызначэннем пазык у 1906–1915 гг., адводзілі пад хутары і адрубы[4]. Банкаўскія пазыкі атрымлівалі далёка не ўсе, хто хадайнічаў. Памер пазык быў недастатковы – у сярэднім за 1907–1914 гг. па 90,8 руб. на кожнага, хто атрымаў[5]. Між тым, каб уладкавацца на невялікім хутары памерам каля 4 дзесяцін, патрабавалася не менш за 400 руб.[6] У выніку хутаране даволі часта не маглі выплачваць пазыкі, і іх зямля прадавалася з малатка. Нават сяляне-серадпякі, якія карысталіся паслугамі банка, нярэдка не маглі ўтрымацца на купленых участках, пападалі ў лік неплацежаздольных даўжнікоў. Па пяці заходніх губернях толькі ў 1908 г. было адабрана Сялянскім банкам ад няспраўных пазычальнікаў 13,3 тыс. дзесяцін зямлі, што ацэньвалася ў 431,4 тыс. руб.[7]

У выніку дзейнасці Сялянскага пазямельнага банка, з аднаго боку, узрастала зямельная ўласнасць, умацоўвалася хутарская гаспадарка заможных вярхоў сялянства, з другога – узмацняліся згаленне большасці сялян, кабала і ліхвярства ў вёсцы.

Важную ролю ў ажыццяўленні аграрнай рэформы адыгрывалі згаданыя вышэй землеўпарадкавальныя камісіі, а таксама земскія ўстановы. Яны аказвалі фінансава-эканамічную падтрымку рэформе, выдавалі сродкі на стварэнне паказальных хутароў, агранамічную дапамогу сялянскаму насельніцтву, стваралі сельскагаспадарчыя склады, забяспечвалі сялян новай земляробчай тэхнікай, палепшаным насеннем, займаліся вогнеўстойлівым будаўніцтвам і інш.

Значнае месца ў стымуляванні рэформы П.Сталыпіна займала арганізацыя паказальных гаспадарак і палёў. К канцу 1914 г. у Віленскай губерні было створана 387 такіх гаспадарак, у Мінскай – 65 паказальных хутароў і больш за 1600 паказальных участкаў. У 1910 – 1911 гг. у Магілёўскай губерні было закладзена 106 адзначаных гаспадарак і 102 палі. У 1913 г. у Віцебскай губерні мелася 33 паказальныя хутары і 316 паказальных палёў, у Гродзенскай – больш за 200 палёў[8].

---

[1] Ежегодник России, 1910 г. СПб., 1911. С.690.

[2] Статистический ежегодник России, 1911 г. СПб., 1912. Отд. XII. С.68; Статистический ежегодник России, 1914 г. Пг., 1915. Отд. XII. С.93.

[3] Падлічана па: Отчеты Крестьянского поземельного банка за 1907–1915 гг. СПб.; Пг., 1909–1917.

[4] *Першин П.Н.* Участковое землепользование в России. С.46–47.

[5] *Липинский Л.П.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии. С.116.

[6] *Хромова Э.Ф.* Столыпинская аграрная реформа в Витебской губ. // Труды Института истории АН БССР. Мн., 1958. Вып.3. С.197.

[7] Отчет Крестьянского поземельного банка за 1908 г. СПб., 1910. С.7.

[8] *Липинский Л.П.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии. С.77–79.

Перабудова аграрных адносін вымушала не мірыцца з захаваннем застою і руціннасцю сельскай гаспадаркі. Адным са сродкаў капіталістычнай перабудовы вёскі было аказанне агранамічнай і тэхнічнай дапамогі сялянам. У заходніх губернях прыкметныя крокі ў аказанні такой дапамогі пачалі рабіць з 1909 г. У Мінскай губерні ў 1913 г. расходы на аграномію выраслі да 74,3 тыс. руб., у той час як усе затраты на агранамічную службу за папярэднае сямігоддзе (1903–1909) склалі 33 тыс. руб. З 1906 па 1911 г. на патрэбы аграноміі ў Віцебскай губерні было выдзелена земствам і губернскай землеўпарадкавальнай камісіяй 344,6 тыс. руб., а за адзін 1913 г. асігнаванні склалі 237,8 тыс. руб.[1]

Земствы станавіліся на шлях арганізацыі машынапракатных станцый і зернеачышчальных пунктаў. Апошнія разам з некаторай дапамогай насельніцтву мелі прызначэнне прапагандаваць перавагі новай тэхнікі. У Мінскай губерні першыя такія пункты і станцыі былі створаны ў 1910–1911 гг. З 1911 па 1914 г. іх колькасць павялічылася з 11 да 87. У Магілёўскай губерні за перадваенныя гады былі створаны 31 машынапракатная станцыя, 25 зернеачышчальных пунктаў, 42 злучныя пункты. Значную ўвагу арганізацыі пракатных і зернеачышчальных пунктаў надаваў агранамічны персанал Віленскай губерні. Калі ў 1909 г. там зусім не было такіх пунктаў, то ў 1914 г. налічвалася ўжо 59 пракатных, 128 зернеачышчальных і 11 канюшынацёрачных пунктаў. Аднак дапамогу яны аказвалі толькі нешматлікім багатым вярхам вёскі. Так, у 1914 г. іх паслугамі карысталіся ўсяго 945 заможных сялян. У Віцебскай губерні ў 1913 г. існавалі 44 пракатныя станцыі. На гэтых станцыях мелася к пачатку 1914 г. каля 2 тыс. машын і сельскагаспадарчых прылад. У 1913 г. яны абслугоўвалі 1480 сялян[2].

Прыкметны ўклад у справу забеспячэння сялян сельскагаспадарчым абсталяваннем, мінеральнымі ўдабрэннямі і насеннем уносіла дзейнасць сельскагаспадарчых складоў. У Мінскай губерні першыя земскія склады былі адкрыты ў 1911 г., а ў 1914 г. налічваліся 23 сельскагаспадарчыя склады. У Віцебскай губерні склады сталі адкрывацца ў 1909 г. За гэты год у губерні было адкрыта шэсць сельскагаспадарчых складоў. Калі ў 1911 г. усімі складамі губерні было прададзена тавараў на суму 139,3 тыс. руб., то ў 1913 г. – ужо на 392,9 тыс. руб., г.зн. у 2,8 раза больш. Па колькасці сельскагаспадарчых складоў адставала Магілёўская губерня, дзе к пачатку 1913 г. меліся толькі чатыры склады[3].

Агранамічная і тэхнічная дапамога рабіла пэўны ўплыў на павышэнне культуры сялянскага земляробства. Аднак, каб правільна ацаніць яе значэнне, трэба мець на ўвазе, што ў розных паветах і ў адносінах да розных катэгорый сялянскіх гаспадарак уплыў агранамічнай дапамогі быў неаднолькавы. У рэгіёнах шырокай хутарызацыі для заможных сялян агранамічная і тэхнічная дапамога, безумоўна, адыграла станоўчую ролю ў паляпшэнні культуры земляробства. Для масы ж сельскай беднаты яна мела нязначныя вынікі. Пра гэта сведчыць абследаванне 510 хутарскіх гаспадарак Бабруйскага, Ігуменскага і Слуцкага паветаў Мінскай губерні ў 1909 г. аграномам Кілігінскім. Апошні паведамляў, што паляпшэння ў гаспадарцы хутаран няма. Усюды – трохпольная сістэма земляробства, не ўся зямля, прыдатная пад раллю, апрацоўваецца, гною не хапае, ураджаі вельмі нізкія, ад чаго заўважаецца недахоп хлеба і кармавых сродкаў. Яшчэ горшае становішча ў

[1] *Липинский Л.П.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии. С.134–136.

[2] Там жа. С.137–139.

[3] Там жа. С.139–140.

тым жа годзе выявілася пры абследаванні 110 хутарскіх гаспадарак Мінскага і Навагрудскага паветаў[1].

Дзяржаўныя і земскія ўстановы аказвалі дапамогу сялянам у паляпшэнні пароднасці жывёлы. Мерапрыемствы, якія праводзіліся ў гэтым плане (метызацыя жывёлы, чытанне лекцый, раздача брашур па жывёлагадоўлі, стварэнне паказальных ферм і так званых племянных цэнтраў у асобных маёнтках), закранаді пераважна заможных хутаран. Ва ўсіх паветах Віленскай губерні ў 1913–1914 гг. былі арганізаваны трохтыднёвыя курсы па малочнай гаспадарцы і жывёлагадоўлі з паказальным кармленнем жывёлы. У трох населеных пунктах Віцебскага і Полацкага паветаў Віцебскай губерні ў 1911 г. для тых жа хутаран былі наладжаны курсы малочнай гаспадаркі. У гэтай губерні на пачатак 1915 г. існавала 310 злучных пунктаў, у Віленскай губерні на пачатак 1914 г. – 185, а таксама 50 рассаднікаў племянных авечак і 83 – свіней. У Мінскай губерні ў 1911 – 1913 гг. функцыяніравалі 24 злучныя пункты[2]. Поруч з памешчыкамі імі карысталіся ў асноўным заможныя вярхі вёскі.

Для папярэджання пажараў, што часта суправаджаліся знішчэннем цэлых вёсак і вялікімі матэрыяльнымі стратамі, землеўпарадкавальныя камісіі і земствы праводзілі вогнеўстойлівае будаўніцтва. Ствараліся майстэрні і заводы па вырабу цэглы, чарапіцы, іншых будаўнічых матэрыялаў, адкрываліся школы, курсы па падрыхтоўцы адпаведных спецыялістаў. У Мінскай губерні з 1911 па 1914 г. выдаткі на названае будаўніцтва ўзраслі з 21,5 тыс. да 100 тыс. руб., або ў 4,6 раза. У Магілёўскай губерні ў 1911 г. на паказальнае вогнеўстойлівае будаўніцтва землеўпарадкавальныя камісіі патрацілі 23,4 тыс. руб. Але ў цэлым гэта будаўніцтва не дасягнула сваёй мэты. Яно не прывяло да масавага збудавання на хутарах замест драўляных хат цагляна-каменных дамоў з чарапічным дахам. Так, ва ўсёй Віцебскай губерні ў 1915 г. сялянскіх хат, крытых чарапіцай, налічвалася толькі крыху больш за 1 тыс., каменных дамоў (1916 г.) – усяго 674. Тое ж трэба сказаць і пра будаўніцтва бетонных калодзежаў, што мела паказальны характар. У выніку сяляне заставаліся без чыстай пітной вады. Напрыклад, у той жа Віцебскай губерні ў 1916 г. 47 % вёсак і мястэчак бралі ваду з калодзежаў глыбінёй не больш за 2 – 3 аршыны, якая была непрыдатная для спажывання[3].

У Беларусі ў перыяд ажыццяўлення аграрнай рэформы П.Сталыпіна значнае развіццё атрымала кааперацыя, асабліва арганізацыя ўстаноў дробнага крэдыту. У 1913 г. у Віцебскай губерні налічвалася 144 крэдытныя кааператыўныя ўстановы, 21 спажывецкае таварыства, 9 маслаbūчых арцеляў, у Магілёўскай губерні – 139 крэдытных і пазыка-ашчадных таварыстваў з агульнай сумай укладаў каля 4,5 млн руб. Апрача таго, у апошняй дзейнічала 147 валасных пазыка-ашчадных кас. У тым жа годзе ў Мінскай губерні функцыяніравалі 244 установы дробнага крэдыту, у тым ліку 138 валасных пазыка-ашчадных кас. У 1906 – 1915 гг. колькасць ашчадных кніжак у сялян Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў павялічылася ў 2,5 раза, а сума грашовых укладаў – амаль у 3 разы, дасягнуўшы 27,4 млн руб. Крэдытныя кааператывы аб'ядноўвалі заможных гаспадароў, даючы ім пазыкі на тэрмін да аднаго года. Сялянская ж бедната фактычна была пазбаўлена магчымасці карыстацца паслугамі сельскіх крэдытных устаноў[4].

---

[1] *Липинский Л.П.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии. С.150, 151.

[2] Там жа. С.145–147.

[3] Там жа. С.89–93.

[4] Там жа. С.192, 194–195, 197.

Састаўной часткай рэформы з'яўлялася перасяленне сялян на ўскраіны краіны, перш за ўсё ў Сібір. Такім шляхам меркавалася згладзіць вастрыню малазямелля ў цэнтры і ўзмацніць землеўладанне сялянскай буржуазіі. Законы ад 9 лістапада 1906 г. і 14 чэрвеня 1910 г. значна аблягчалі ліквідацыю жабрацкай гаспадаркі большасці перасяленцаў. У 1907–1914 гг. з пяці заходніх губерняў у Сібір і на Далёкі Усход перасялілася 335,4 тыс. чалавек, што складала 11,6 % перасяленцаў па Еўрапейскай Расіі. З іх 240,8 тыс. (71,8 %) прыпадала на Магілёўскую і Віцебскую губерні. Найбольш моцная сялянская хваля перасяленняў назіралася ў час палітычнай рэакцыі, калі сяляне страцілі веру атрымаць панскую зямлю на радзіме. У 1907–1909 гг. з пяці губерняў перасялілася 248,4 тыс. чалавек, або 74,1 % перасяленцаў гэтага перыяду[1]. З 1910 г., калі ў сялянства зноў з'явіліся надзеі на атрыманне панскай зямлі, колькасць перасяленцаў рэзка скарацілася.

Асноўную катэгорыю перасяленцаў складала вясковая бедната. Сярод 2170 сем'яў, якія выселіліся ў 1913 г. з Беларусі, беззямельныя складалі 21,2 %, малазямельныя (да 6 дзесяцін на двор) – 55,5 %[2]. Яны нярэдка за бясцэнак распрадавалі сваю маёмасць і накіроўваліся на ўсход.

Улады не змаглі належным чынам арганізаваць перасяленне. Незваротная грашовая дапамога сялянам на перасяленчых пунктах была нязначнай. Да таго ж яе атрымалі толькі 6 % перасяленцаў, дарожныя атрымалі 0,6 і кароткатэрміновую пазыку – 10,3 % перасяленцаў[3].

Эканамічнае становішча перасяленцаў было не лепшае, чым на радзіме. Згодна са звесткамі за 1907 – 1911 гг. у сярэднім на адну перасяленчую сям'ю з Беларусі прыпадала ў Сібіры толькі 6 дзесяцін зямлі[4]. Перасяленцам часта адводзілі ўчасткі, не прыдатныя для вядзення сельскай гаспадаркі: балоты, хмызнякі, землі, далёкія ад населеных пунктаў, і г.д. Хоць ва ўсходніх рэгіёнах краіны было яшчэ многа незанятай зямлі, аднак з-за неарганізаванасці перасялення і бяздушнасці чыноўнікаў элементарныя гаспадарчыя патрэбы перасяленцаў не задавальняліся. Для апрацоўкі адведзенага зямельнага ўчастка патрэбны былі коні, сельскагаспадарчыя прылады, грашовыя сродкі. Большасць перасяленцаў не мела гэтага. Сярэдняя выручка на радзіме ад прададзенай надзельнай зямлі складала ў Мінскай губерні 194 руб., у Віленскай – 227, у Магілёўскай – 245, у Віцебскай – 262 руб. Для ўладкавання ж на новым месцы трэба было мець не менш за 450 руб.[5]

Цяжкае матэрыяльнае становішча ўзмацнялася суровым, нязвыклым кліматам усходніх рэгіёнаў, адсутнасцю ўрачэбнай дапамогі, масавымі хваробамі і ў выніку высокай смяротнасцю сярод перасяленцаў. Нацярпеўшыся нягод, значная частка тых, хто канчаткова разарыўся, вярталася ў родныя мясціны. У 1907–1914 гг. у пяць заходніх губерняў з Сібіры і Далёкага Усходу вярнулася 36,5 тыс. (10,9 %) перасяленцаў. Найбольшая хваля іх прыпадае на 1910–1911 гг., калі вярнулася 13,6 тыс. чалавек, ці 37,2 % адваротных перасяленцаў[6]. Яны папаўнялі шэрагі згалелых сялян і парабкаў.

---

[1] *Турчанинов Н.* Итоги переселенческого движения за время с 1896 г. по 1909 г. (включительно).СПб., 1910. С.32–35; *Турчанинов Н., Домрачев А.* Итоги переселенческого движения за время с 1910 по 1914 г. Пг., 1916. С.30–34; *Дубровский С.М.* Столыпинская земельная реформа. С.396.

[2] Сборник цифровых материалов для изучения крестьянских переселений. СПб., 1913. С.334–348.

[3] Вопросы колонизации. 1910. №26. С.17.

[4] *Липинский Л.П.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии. С.129.

[5] Там жа.

[6] Статистический ежегодник России, 1914 г. Отд. II. С.3–8.

**Вынікі і значэнне рэформы.** Аграрная рэформа П.Сталыпіна аказала складанае і супярэчлівае ўздзеянне на сацыяльна-эканамічнае і палітычнае развіццё Расійскай імперыі, у тым ліку дарэвалюцыйнай Беларусі. У эканамічным плане яна мела прагрэсіўнае значэнне, замяняючы архаічную абшчынную форму землеўладання больш рацыянальнай, буржуазнай формай зямельнай уласнасці, ствараючы новыя магчымасці для росту прадукцыйных сіл у земляробстве. З выхадам на хутары і адрубы часткі сялян зменшыліся цераспалосіца, дробнапалосіца і далёказямелле сялянскіх палёў, што садзейнічала развіццю сялянскай гаспадаркі. Рэформа вяла да больш шырокага ўцягнення ў гандлёвы абарот прыватнаўласніцкай і сялянскай надзельнай зямлі, канцэнтрацыі капіталістычнай зямельнай уласнасці. Аграномічная і тэхнічная дапамога земскіх і ўрадавых устаноў аказвала, безумоўна, станоўчае ўздзеянне на павышэнне культуры земляробства і жывёлагадоўлі заможных вярхоў вёскі.

Аб развіцці гандлёва-буржуазных адносін сведчаць таксама ўздым кааператыўнага руху, павелічэнне сялянскіх грашовых укладаў у ашчадных касах. Накапленне грашовых сродкаў, усё больш шырокае ўцягванне іх у сістэму дробнага капіталістычнага крэдыту значна пашыралі магчымасці сялянскай буржуазіі і заможных сялян у набыцці сельскагаспадарчых машын і ўдасканаленых прылад працы, гатунковага насення, угнаенняў, высокапрадукцыйнай жывёлы, у найме рабочай сілы і інш. Сталыпінская аграрная рэформа паскорыла развіццё капіталістычных адносін у вёсцы, у тым ліку паглыбіла працэс разлажэння сялянства на сялянскую (галоўным чынам дробную) буржуазію і сельскі пралетарыят, пераважна з надзелам. У выніку яе рэалізацыі ўдзельная вага сялянскай буржуазіі і пралетарызаванай вясковай беднаты ўзрасла. Рэформа П.Сталыпіна нароўні з Дзяржаўнай думай была другім (пасля сялянскай рэформы 1861 г.) крокам на шляху ператварэння расійскай феадальнай манархіі ў буржуазную.

Аднак, нягледзячы на пэўныя сацыяльна-эканамічныя зрухі, аграрная палітыка П.Сталыпіна ў Беларусі, як і ў цэлым па краіне, пацярпела няўдачу. Не была дасягнута асноўная мэта рэформы – расчысціць дарогу капіталізму ў вёсцы, зрабіць так, каб поруч са згалелым сялянствам засталіся памешчыкі, што абуржуазіліся, і сялянская буржуазія, якія поўнасцю самкнуліся б у сацыяльна-эканамічным і палітычным плане з царызмам. На гэтай аснове меркавалася знішчыць перажыткі прыгонніцтва, ліквідаваць дробныя малапрадукцыйныя сялянскія гаспадаркі, ператварыўшы мільёны сялян у прамысловых і сельскагаспадарчых рабочых[1]. Напаўпрыгонніцкае землеўладанне скарацілася ў выніку сталыпінскай аграрнай рэформы толькі часткова. У 23 паветах усходу і цэнтра Беларусі ў сярэдзіне 1917 г. плошча панскіх, дзяржаўных, удзельных, царкоўных, манастырскіх зямель складала яшчэ каля 47 % зямельнага фонду[2]. Не былі ліквідаваны панскія латыфундыі, што з'яўляліся асновай рэштак феадалізму ў вёсцы. Рэформа не знішчыла і такі перажытак прыгонніцтва, як сервітуты, галоўным чынам зямельныя, якія тармазілі развіццё капіталістычных адносін у сельскай гаспадарцы. У 1911 г. у Мінскай, Гродзенскай, Віленскай і Віцебскай губернях яны ахоплівалі

---

[1] *Липинский Л.П.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии . С.212–213.

[2] Социалистические преобразования в экономике Белоруссии в 1917–1920 гг. Мн., 1966. С.85.

4221 сельскую грамаду і 2147 маёнткаў[1]. Не дасягнула жаданых вынікаў перасяленчая палітыка, на якую ўскладаліся асаблівыя надзеі пры ажыццяўленні рэформы.

Хоць у працэсе правядзення аграрных мерапрыемстваў П.Сталыпіна ўдалося пашырыць магчымасці для развіцця капіталізму ў вёсцы, рэфармаванне ахапіла невялікую частку сялянскіх гаспадарак. Нягледзячы на намаганні ўрада, у пяці заходніх губернях на хутары і адрубы выйшла толькі каля 1/8 сялянскіх двароў. У Магілёўскай і Віцебскай губернях абшчыннае землеўладанне захавалася амаль у 2/5 двароў сялян-абшчыннікаў. Большасць сялянскіх гаспадарак не магла карыстацца аграномічнай і тэхнічнай дапамогай, кааператыўным крэдытам і інш. Пры рэалізацыі рэформы не ўдалося настолькі раскалоць сялянства, каб забяспечыць сабе новага саюзніка для барацьбы з надыходзячай рэвалюцыяй. Супярэчнасці і барацьба паміж сялянствам у цэлым і памешчыкамі не былі зняты з парадку дня. Больш таго, у выніку рэформы яны ўзмацніліся і па-ранейшаму заставаліся галоўнымі супярэчнасцямі ў вёсцы. Адначасова абвастралася барацьба паміж вясковай беднатой і сялянскай буржуазіяй.

Такім чынам, сталыпінская аграрная рэформа не ўзмацніла сацыяльнай базы царызму, не аслабіла класавых супярэчнасцей, не прадухіліла новай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Яна пацярпела няўдачу, бо праводзілася пры захаванні ўлады памешчыкаў, асноў панскай зямельнай уласнасці, за кошт згалення сялянскіх мас. Рэформа не прывяла да карэнных змен у грамадскім ладзе Расійскай імперыі.

Ломка першабытнаабшчыннага землеўладання была эканамічна прагрэсіўная, але яна праводзілася ў рэакцыйных мэтах – захавання землеўладання памешчыкаў, іх даходаў, палітычнай улады. Гэта была спроба вырашыць сялянскае пытанне за кошт саміх сялян, цаной згалення, паўперызацыі мільёнаў іх у інтарэсах жменькі вясковых багацеяў, у канчатковым выніку – у інтарэсах памешчыкаў і царызму[2].

## 2. Пачатак індустрыялізацыі. Урбанізацыйныя працэсы

**Структурная і тэхнічная перабудова, паглыбленне спецыялізацыі ў прамысловасці**. К пачатку XX ст. у Беларусі быў завершаны прамыслова-тэхнічны пераварот, і ў асноўных галінах прамысловасці і транспарту канчаткова зацвердзілася перавага машыннай індустрыі. Пачаўся працэс далейшага ўдасканальвання фабрычна-заводскай вытворчасці. Кожны год толькі ў Мінскай губерні некалькі дзесяткаў прадпрымальнікаў звярталіся да фабрычнай інспекцыі за дазволам на ўсталяванне паравых катлоў.

У паліўна-энергетычным балансе Беларусі ўсё большая роля пачала належаць каменнаму вугалю, а магутнасці паравых катлоў сталі выкарыстоўвацца і для вытворчасці электраэнергіі.

---

[1] *Дубровский С.М.* Столыпинская земельная реформа. С.544.

[2] История СССР с древнейших времен до наших дней. М., 1968. Т. 6. С.350.

*Табліца 11.* **Колькасць дазволаў, выдадзеных фабрычнай інспекцыяй Мінскай губерні на ўсталяванне паравых катлоў на прамысловых прадпрыемствах у 1900–1913 гг.***

| Год | Колькасць дазволаў | Год | Колькасць дазволаў | Год | Колькасць дазволаў |
|---|---|---|---|---|---|
| 1900 | 55 | 1905 | 32 | 1910 | 89 |
| 1901 | 119 | 1906 | 58 | 1911 | 94 |
| 1902 | 82 | 1907 | 47 | 1912 | 94 |
| 1903 | 58 | 1908 | 63 | 1913 | 67 |
| 1904 | 45 | 1909 | 76 | | |

* Падлічана па: НГАБ, ф.311, воп.1, спр.101, арк.29–89.

Тэмпы тэхнічнага пераўзбраення ў сельскай мясцовасці не надта саступалі гарадам, а па росту нават перавышалі гарадскія паказчыкі. Так, калі ў 1901 г. у пяці беларускіх губернях налічвалася 1321 фабрычна-заводскі кацёл і 165 сельскагаспадарчых паравых катлоў, то к 1914 г. колькасць фабрычна-заводскіх катлоў узрасла ў 1,7 раза (2267 штук), а сельскагаспадарчых – у 3,3 раза (545 штук)[1].

З 1900 па 1913 г. колькасць прадпрыемстваў цэнзавай прамысловасці павялічылася з 799 да 1280 , г. зн. на 60,2 %[2]. Побач з фабрыкамі і заводамі, як і раней, працягвалі сваю дзейнасць шматлікія мануфактуры, дробныя прадпрыемствы, майстэрні. Яны больш арыентаваліся на мясцовага спажыўца і ў значнай ступені залежалі ад перападаў эканамічнай кан'юнктуры.

Пры захаванні той галіновай структуры вытворчасці, якая склалася ў Беларусі ў XIX ст., амаль у кожнай галіне адбываліся перамены. Па-першае, больш рэзка вызначылася роля адносна буйных прадпрыемстваў – лідэраў у сваёй галіне, як старых (але значна мадэрнізаваных), так і пабудаваных нанава. Па-другое, ва ўсіх галінах ішла і тэхналагічная перабудова, назіраўся рост энергаўзбраення праз укараненне не толькі паравых рухавікоў, але і рухавікоў унутранага згарання і электрарухавікоў. Гэты працэс ахапіў не толькі буйныя, але і параўнальна невялікія прадпрыемствы, напрыклад друкарні і тыпалітаграфіі. Уладальнік друкарні ў Рэчыцы А. Шымановіч пачаў справу ў 1889 г., маючы ручны друкарскі станок. У 1912 г. гэта прадпрыемства ўжо мела нафтавы рухавік, пяць хуткадрукавальных машын, электрычную дынамамашыну і выконвала заказы з 34 губерняў і Вобласці Войска Данскога[3].

Пра якасныя змены ў эканоміцы Беларусі пераканаўча сведчыць становішча ў лясной справе. Паралельна з вывазам сырога лесу ў Беларусі ўзнікла шматгаліновая прамысловасць на базе выкарыстання лясных рэсурсаў. Лідэрам папяровай прамысловасці заставалася Добрушская фабрыка (у 1913 г. яе вытворчасць складала 10 тыс. т паперы на суму 3 млн руб. пры 1400 рабочых). Значнымі вытворчымі паказчыкамі вызначаліся папяровая фабрыка акцыянернага таварыства ў Шклове і фабрыка "Скіна" ў Лепельскім павеце.

[1] Падлічана па: Документы и материалы по истории Белоруссии (1900–1917 гг.). Мн., 1953. С.75.

[2] Экономика Белоруссии в эпоху империализма. 1900–1917. Мн., 1963. С.17.

[3] Паровая типография А.Г. Шимановича в г. Речице. 1889–1913. Очерк развития. Б.м., б.г. С.II–IV.

Вытворчасць шпалер была сканцэнтравана ў Мінску. Напярэдадні Першай сусветнай вайны тут налічваліся чатыры шпалерныя фабрыкі.

Адным з буйнейшых прадпрыемстваў у лесахімічнай прамысловасці Расійскай імперыі быў Выдрыцкі завод сухой перагонкі драўніны ў Аршанскім павеце (у 1913 г. выраблена прадукцыі на 500 тыс. руб. пры 540 рабочых).

Высокатэхналагічнай вытворчасцю, дзе беларускім прадпрыемствам належала значнае месца, быў выраб запалак. Запалкавыя фабрыкі меліся ў Пінску, Барысаве, Нова-Барысаве, Мазыры, Слоніме, Рэчыцы, Навабеліцы, Койданаве, Вішневе, Бабруйску. Некалькі даволі буйных прадпрыемстваў выраблялі запалкавую саломку, якая знаходзіла збыт і за межамі беларускіх губерняў.

Вынаходніцтва фанеры прывяло да ўзнікнення на рубяжы XIX–XX стст. шэрагу спецыялізаваных фабрык і асобных цэхаў на лесаапрацоўчых заводах Беларусі. Практычна манапольнае становішча ў Расійскай імперыі мела Пінская шавецка-шпілечная фабрыка, якая належала сямейству Лур'е[1].

Патрэбы чыгунак абслугоўвалі шпалапрапітныя заводы, буйнейшыя з якіх дзейнічалі на станцыі Лунінец (заснаваны ў 1902 г., у 1910 г. – налічвалася 135 рабочых, выраблена прадукцыі на 115 тыс. руб.) і ў Мазыры (у 1910 г. – 334 рабочых, кошт прадукцыі – 216 тыс. руб.).

Апроч лесу, другі традыцыйны беларускі тавар – лён – таксама пачаў выступаць на рынку не толькі ў якасці першапачатковай сыравіны. З 1900 г. выраб ачэсанай суровай і бялёнай ільняной пражы пачала льнопрадзільная фабрыка "Дзвіна" ў Віцебску (у 1910 г. – 1100 рабочых, 3 рухавікі ў 1750 к.с., вытворчасць – 120 тыс. пудоў ільняной пражы на 1500 тыс. руб.)[2]. Другая буйная льнопрадзільная фабрыка была заснавана ў 1902 г. у сяле Высачаны Аршанскага павета (у 1910 г. – 477 рабочых, 4 рухавікі ў 440 к.с., вытворчасць – 445 тыс. руб.)[3].

Адкрыццё ў 1901 г. ткацкай фабрыкі ў мястэчку Дуброўна (Горацкі павет) па вырабу баваўняных, шаўковых і джутавых тканін (у 1910 г. – 488 рабочых, вытворчасць на суму 622,6 тыс. руб.)[4] прывяло да структурных змен у тэкстыльнай прамысловасці, у выніку чаго доля суконных прадпрыемстваў скарацілася. Працягвалі дзейнічаць Альбярцінская (Слонімскі павет) і Ляхозвянская (Навагрудскі павет) шоўкакруцільныя фабрыкі.

У шкляной прамысловасці разгарнулася вытворчасць хрустальнага і лямпавага шкла, шкляных электраізалятараў. На заводзе ў Альбярціне (Слонімскі павет) у 1913 г. пачаўся выраб электралямпачак[5].

У харчасмакавай прамысловасці буйнейшым прадпрыемствам заставалася Гродзенская тытунёвая фабрыка Шэрашэўскага (у 1913 г. – 1400 рабочых, вытворчасць на 3,5 млн руб.). Разам з тым менавіта ў гэтай галіне назіраўся самы нізкі ўзровень канцэнтрацыі вытворчасці[6]. Колькасць вінакурных заводаў некалькі паменшылася, але іх вытворчасць узрасла за кошт узбуйнення прадпрыемстваў і паляпшэння тэхналогіі. Напярэдадні Пер-

1 НГАБ, ф.21, воп.1, спр.54, арк.265; *Хорош И.* По промышленной черте оседлости // Книжки "Восхода". 1901. №10. С.26–27.

2 Список фабрик и заводов России. 1910 г. СПб., 1910. С.90.

3 Там жа. С.94.

4 Там жа. С.18.

5 Экономика Белоруссии в эпоху империализма. 1900–1917. С.47.

6 История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.145.

шай сусветнай вайны Мінская губерня выйшла на першае месца ў Расійскай імперыі па вытворчасці спірту[1].

**Акцыянерны капітал і манапалістычныя аб'яднанні. Банкаўская справа і крэдытна-фінансавая сістэма.** Хаця акцыянерныя кампаніі вядомы ў эканоміцы Беларусі яшчэ з першай паловы XIX ст., дастаткова прыкметнай эканамічнай з'явай яны сталі толькі на рубяжы стагоддзяў. Справа ў тым, што агульная тэндэнцыя на ўзбуйненне прамысловасці, гандлю і транспартных прадпрыемстваў патрабавала буйных інвестыцый, якія прыходзілі ў форме "калектыўнага" (акцыянернага і паявога) капіталу. Пры гэтым фінансавыя сродкі канцэнтраваліся не толькі ў дзяржаўных, але і ў прыватных акцыянерных камерцыйных банках. Разам з акцыянернымі кампаніямі дзейнічалі таварыствы на паях, вельмі набліжаныя да іх па эканамічных функцыях і ўплыву на развіццё эканомікі. У адносінах да акцыянерных таварыстваў і таварыстваў на паях заканадаўства Расійскай імперыі прытрымлівалася канцэсійнага (дазвольнага) прынцыпу[2].

Акцыянерна-паявыя прадпрыемствы меліся ва ўсіх галінах беларускай эканомікі, у першую чаргу там, дзе ўзнікала патрэба хуткай мабілізацыі фінансавых сродкаў. Гэта маглі быць як сярэднія прадпрыемствы, так і буйныя фабрыкі і заводы, прадпрыемствы транспартнай і камунальнай сфер. Да ліку першых адносіўся завод у мястэчку Прапойск (Быхаўскі павет), які быў заснаваны ў 1906 г. і належаў таварыству Паўночна-Заходняй канатна-дротавай вытворчасці[3], а таксама Акцыянернае таварыства фабрыкі канторскіх кніг, пераплётных вырабаў і тыпалітаграфіі "Браты І. і М. Харыны", што дзейнічала з 1902 г. у Гродне[4].

Менавіта ў форме акцыянернага капіталу ў эканоміку Беларусі ішлі найбольш буйныя замежныя інвестыцыі: бельгійскія акцыянерныя таварыствы з'яўляліся ўладальнікамі віцебскага трамвая і льнопрадзільнай фабрыкі "Дзвіна", французскаму капіталу належалі дзве шоўкакруцільныя фабрыкі і фабрыка грабянёў у Мінску.

Беларусь ніколі не саступала іншым рэгіёнам Расійскай імперыі па ступені канцэнтрацыі і акцыяніравання капіталу ў тых галінах прамысловасці, дзе мела развітую фабрычна-заводскую вытворчасць. Напрыклад, у запалкавай прамысловасці Расійскай імперыі ў 1912 г. налічвалася сем акцыянерных прадпрыемстваў з агульным капіталам у 4500 тыс. руб., у тым ліку дзве запалкавыя фабрыкі Беларусі – "Прагрэс-Вулкан" і "Маланка", абедзве з акцыянерным капіталам па 300 тыс. руб.[5] Такім чынам, беларускім прадпрымальнікам належала прыкладна 13 % агульнарасійскага акцыянернага капіталу ў запалкавай прамысловасці.

Сведчаннем канцэнтрацыі і манапалізацыі вытворчасці стала з'яўленне сіндыкатаў і манапалістычных аб'яднанняў. У 1905 г. быў створаны сіндыкат кафельных заводчыкаў у Копысі, у 1906 г. – сіндыкат піваварных заводчыкаў паўночна-заходняга краю ў Оршы, у 1911 г. – сіндыкат "Продакон", куды ўвайшлі ўладальнікі канвертавых фабрык Брэста, Вільні і Адэсы, прычым яго праўленне размяшчалася ў Мінску. У чэрвені 1905 г. у Мінску пры

[1] *Бейлькин Х.Ю.* Сельскохозяйственный рынок Белоруссии. 1861–1914 гг. С.198.

[2] Предпринимательство и предприниматели России от истоков до начала XX века. М., 1997. С.77–78.

[3] Список фабрик и заводов России. 1910 г. СПб., 1910. С.100.

[4] Указатель действующих в Империи акционерных предприятий. СПб., 1903. С.174.

[5] Промышленность и торговля. 1914. №9 (153). С.496.

аддзяленні Паўночнага банка быў створаны "Камітэт запалкавых фабрыкантаў Заходняга краю"[1]. Праз тры гады беларускія запалкавыя фабрыкі ўвайшлі ў склад новаўтворанага "Рускага таварыства запалкавага гандлю"[2].

Часам здаралася, што беларускія прадпрымальнікі былі ініцыятарамі агульнарасійскіх манапольных аб'яднанняў. Так, князь Друцкі-Сакалінскі быў сярод тых, хто ў 1912 г. стварыў трэст дрожджа-вінакурных заводаў, у які першапачаткова ўвайшло 36 прадпрыемстваў з агульным капіталам у 15 млн руб.[3]

У канцы XIX – пачатку XX ст. у Беларусі склалася дастаткова зладжаная сістэма крэдытна-банкаўскіх устаноў, як дзяржаўных, так і прыватных. Яна паспяхова абслугоўвала патрэбы дзяржавы і рыначнай эканомікі. На чале гэтай сістэмы, як і раней, стаяў Дзяржаўны банк і яго губернскія аддзяленні. Праз Дзяржаўны банк ажыццяўлялася і камерцыйнае крэдытаванне. Напрыклад, паводле падлікаў З. Шыбекі, у 1909 г. агульная сума крэдытаў Мінскага аддзялення Дзяржбанка (2,8 млн руб.) размяркоўвалася наступным чынам: лясная справа – 46,9 %, грашовыя аперацыі – 18,9, мясцовы гандаль – 17,3, фабрычна-заводскія прадпрыемствы – 14,0, сельская гаспадарка – 2,9 %[4].

Сістэма прыватнага банкаўскага камерцыйнага крэдыту ў Беларусі складалася з Мінскага камерцыйнага банка і філіялаў акцыянерных банкаў небеларускага паходжання, часцей за ўсё пецярбургскіх ці маскоўскіх. Мінскі камерцыйны банк перажываў перыяд працяглага крызісу. Кошт яго акцый на Пецярбургскай біржы ў 1899–1906 гг. знізіўся з 325 да 200 руб. Пры гэтым з 1905 г. іх продаж вёўся ніжэй за намінальную цану ў 250 руб.[5] З 1906 г. колькасць аперацый банка значна паменшылася. 31 ліпеня 1908 г. агульны сход акцыянераў вырашыў пачаць ліквідацыю спраў. З 15 красавіка 1912 г. актывы і пасівы Мінскага камерцыйнага банка перайшлі да Азова-Данскога банка[6].

Крах Мінскага камерцыйнага банка не прывёў да распаду ўсёй крэдытна-банкаўскай сістэмы рэгіёна. У Беларусі мелася дастаткова шырокая сетка банкаўскіх устаноў. На працягу 1870–1914 гг. у 14 населеных пунктах Беларусі дзейнічала 57 мясцовых банкаў і аддзяленняў банкаў, праўленне якіх размяшчалася па-за яе межамі. Асаблівасцю іх развіцця ў 1900–1914 гг. было тое, што колькасць улікова-ссудных аперацый прыватных камерцыйных банкаў і іх філіялаў ўзрасла ўдвая і склала прыкладна палову крэдытаў, у той час як колькасць крэдытаў губернскіх аддзяленняў Дзяржбанка паменшылася амаль што ў 3,5 раза і склала крыху больш чым 15 % ад агульнай колькасці ўсіх крэдытаў[7].

Галоўнымі дзеючымі асобамі ў галіне камерцыйнага крэдыту выступалі банкіраўскія дамы і канторы. Іх уладальнікі нярэдка спалучалі банкаўскія

---

[1] Экономика Белоруссии в эпоху империализма. 1900–1917. Мн., 1963. С.22, 23; *Шибеко З.В.* Минск в конце XIX – начале XX в. С.18.

[2] *Нечуятов П.Я.* Спичечная промышленность дореволюционной России. Л., 1956. С.39–40.

[3] *Погребинский А.П.* Государственно-монополистический капитализм в России. М., 1959. С.38.

[4] *Шибеко З.В.* Минск в конце XIX – начале XX в. С.51.

[5] Русские банки. Справочные и статистические сведения о всех действующих в России государственных, частных и общественных кредитных учреждениях (Год четвертый). СПб., 1908. С.60–61.

[6] *Шибеко З.В., Шибеко С.Ф.* Минск: Страницы жизни дореволюционного города. Мн., 1990. С.273; Экономика Белоруссии в эпоху империализма. 1900–1917. Мн., 1963. С.317.

[7] *Тимошенко В.В.* Кредитная система Белоруссии в начале XX в. // Исторические записки. М., 1965. Т.78. С.65–66.

аперацыі з вядзеннем гандлю, бо валодалі прамысловым прадпрыемствам. На студзень 1910 г., паводле даных Міністэрства фінансаў, у Расійскай імперыі налічвалася 287 банкірскіх кантор. Першае месца па іх колькасці займалі літоўска-беларускія губерні (99), потым ішлі польскія (42) і паўднёвыя (33) губерні[1]. Дробныя крэдыты магчыма было атрымаць праз таварыства ўзаемнага крэдыту і пазыка-ашчадныя касы.

**Транспарт і шляхі зносін**. Пасля некаторага перапынку ў Беларусі зноў пачалося інтэнсіўнае чыгуначнае будаўніцтва. Як і раней, яно вялося з улікам палітычных і стратэгічных інтарэсаў Расійскай імперыі, але ў мірны час чыгункі працавалі менавіта на беларускую эканоміку і з'яўляліся яе сістэмаўтваральнай часткай.

У 1902 г. у выніку будаўніцтва чыгункі Віцебск–Жлобін Магілёў апошнім з беларускіх губернскіх гарадоў атрымаў чыгуначную сувязь. На поўдні Беларусі ўзнік Жлобінскі чыгуначны вузел. Адразу пасля гэтага пачалося будаўніцтва чыгуначнай лініі Полацк–Сядлец (590 вёрст). Яна прайшла праз Вілейку, Маладзечна, Ліду, Масты, Ваўкавыск, Свіслач і ў 1907 г. была здадзена ў эксплуатацыю.

Характэрнай рысай таго часу стала будаўніцтва чыгуначных адгалінаванняў ад асноўных магістралей для абслугоўвання мясцовых патрэб. Гэта былі чыгуначныя веткі Асіповічы–Старыя Дарогі–Урэчча, Вярэйцы–Градзянка, Васілевічы–Хойнікі. Адначасова ішлі мадэрнізацыя ўжо існуючых чыгуначных ліній, будаўніцтва дадатковых пуцей, чыгуначных станцый і прыпыначных пунктаў.

Таксама не спыняліся і мясцовыя ініцыятывы па будаўніцтву чыгунак. Так, у 1909–1910 гг. праводзіліся дэталёвыя пошукі трасы Бранск–Магілёў, Рослаўль–Магілёў, Магілёў–Мінск–Гродна. Праект атрымаў назву "Беларуская чыгунка". Яна павінна была адкрыць доступ да прамога чыгуначнага шляху зносін такім старажытным беларускім гарадам і мястэчкам, як Хоцімск, Клімавічы, Чэрыкаў, Чавусы, Беразіно, Ігумен, Карэлічы, Навагрудак, Дзятлава[2]. У Ігуменскім павеце мясцовыя памешчыкі і прамыслоўцы ў 1902 і 1911 гг. двойчы хадайнічалі аб будаўніцтве чыгуначных ліній Барысаў–Ігумен–Мар'іна Горка і Ігумен–Смілавічы–Мінск[3].

У 1901–1913 гг. увайшло ў эксплуатацыю амаль 30 % чыгуначнага палатна, якое мелася ў Беларусі напярэдадні Першай сусветнай вайны. У 1913 г. насычанасць Беларусі чыгункамі была ў 1,8 раза вышэй, чым па Еўрапейскай частцы Расійскай імперыі[4].

Рэйкавы транспарт паскорыў прагрэс паштовай сувязі, якая стала больш мабільнай. Разам з тэлеграфам пачаў ужывацца і тэлефон. У 1910 г. тэлефонную сувязь мелі 12 беларускіх гарадоў (усе губернскія, а таксама Быхаў, Бабруйск, Барысаў, Гомель, Горкі, Пінск, Рэчыца, Слонім)[5]. Першай беларускай тэлефоннай міжгародняй лініяй стала лінія Мінск–Барысаў.

Водныя шляхі зносін пасля доўгатэрміновага перапынку, у выніку развіцця чыгуначнага транспарту ў пачатку XX ст. зноў прыцягнулі да сябе ўвагу. Быў дэталёва распрацаваны праект Чарнаморска-Балтыйскага водна-

---

[1] *Ананьич Б.В.* Правовое положение банкирских заведений в России (1800-е годы – 1914 г.) // Социально-экономическое развитие России. М., 1986. С.213.

[2] *Тигенгаузен Ф.Г.* Проект сооружения железнодорожных линий Брянск–Могилев, Рославль–Могилев, Могилев–Минск и Минск–Гродно по изысканиям, произведенным в 1909 г. 2. Часть техническая. СПб., 1910. С.1, 3.

[3] НГАБ, ф.327, воп.1, спр.22, арк.10-10 ад.; спр.1412, арк.22.

[4] Экономика Белоруссии в эпоху империализма. 1900–1917. С.195.

[5] Города России в 1910 году. СПб., 1914. С.102–103.

га шляху (Херсон–Рыга), часткай якога павінна была стаць рэканструяваная Бярэзінская водная сістэма. Існавалі планы перабудовы і іншых беларускіх водных шляхоў. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў паўночна-заходніх губернях на 1 тыс. квадратных вёрст прыходзілася 46 вёрст водных шляхоў, у той час як па 50 губернях Еўрапейскай Расіі гэты паказчык складаў прыкладна 19 вёрст[1].

Водныя і сухапутныя шляхі зносін, як і раней, знаходзіліся ў падпарадкаванні акругоў. З 1901 г. Ковенская акруга шляхоў зносін у сувязі з пераводам яе галоўнага ўпраўлення ў Вільню атрымала назву Віленскай. У сферу яе дзейнасці ўваходзілі Віленская, Віцебская, Гродзенская, Ковенская і Мінская губерні. Магілёўская губерня адносілася да Кіеўскай акругі шляхоў зносін. Усяго ў паўночна-заходніх губернях у 1913 г. на 1000 квадратных вёрст прыходзілася прыкладна 322 вярсты грунтова-шашэйных дарог[2].

Новым сродкам транспарту стаў аўтамабіль. У 1909–1914 гг. некаторыя беларускія гарады і населеныя пункты звязвалі рэгулярныя аўтамабільныя маршруты[3].

**Знешні і ўнутраны гандаль**. Гандаль у Беларусі ў пачатку XX ст. адлюстроўваў як пашырэнне рэгіянальнага, унутрыбеларускага рынку, так і яго цесную сувязь з агульнарасійскім і замежнымі, у першую чаргу заходнееўрапейскімі, рынкамі.

Мясцовая прамысловасць паспяхова забяспечвала насельніцтва таварамі. Прычым калі попыт заможных слаёў грамадства ў нейкай ступені забяспечваўся і прывазнымі таварамі, то беларускі селянін аддаваў перавагу танным рамесна-саматужным мясцовым вырабам. Гэта стварала эканамічны падмурак для досыць трывалага захавання традыцыі рамеснай вытворчасці. У такіх умовах гандаль і мясцовая прамысловасць выбіралі для сябе аптымальныя варыянты развіцця, што рабіла рыначныя адносіны больш трывалымі.

У цэлым Беларусь мела экспартна арыентаваную эканоміку. Па-ранейшаму па агульных паказчыках пераважаў вываз сельскагаспадарчай прадукцыі і лесаматэрыялаў. Разам з тым адбыліся змены ў структуры экспарту. Устойлівым попытам на знешнім рынку сталі карыстацца не толькі беларуская сыравіна (лён, мяса і жывёла, птушка, яйкі, шчаціннe, сыры лес), але і вырабы сельскагаспадарчай прамысловасці (масла, сыр, крухмал), а таксама фабрычна-заводскай вытворчасці (папера, запалкі, ільняная пража, апрацаваныя скуры). Як і раней, Беларусь заставалася раёнам развітога вінакурства, чыя прадукцыя перавышала патрэбу мясцовага рынку і ў значнай колькасці ішла за межы беларускіх губерняў.

У пачатку XX ст. Беларусь цалкам ператварылася ў раён увозу збожжавых грузаў. Вываз збожжа за мяжу быў нязначны. Асноўная маса беларускага збожжа ішла на ўнутраны рынак для спажывання мясцовым насельніцтвам і на патрэбы вінакурнай і піваварнай прамысловасці. Захоўваўся стабільны попыт на беларускі лён. У 1901–1913 гг. на Беларусь прыходзілася 10,4 % усерасійскага вывазу льновалакна. Штогод вывозілася каля 1530 тыс. пудоў ільнянога семя[4].

Вываз малочных прадуктаў (у сярэднім за год) у 1911–1913 гг. у параўнанні з 1901–1905 гг. павялічыўся больш чым у два разы, з 261 тыс.

---

[1] *Моравский А.* Экономическое положение Литвы и Белоруссии. М., 1918. С.18.

[2] Там жа.

[3] *Киштымов А., Козлов Л.* Автомобиль на Беларуси. 100 лет. Мн., 1996. С.31–34.

[4] *Бейлькин Х.Ю.* Сельскохозяйственный рынок Белоруссии. 1861–1914 гг. С.188.

пудоў да 538,5 тыс. пудоў. У 1901–1913 гг. з Беларусі штогод вывозілася прыкладна 40–50 тыс. галоў жывёлы[1].

Большая частка вывазной прадукцыі жывёлагадоўлі ішла ў Польшчу, Германію, Пецярбург, Рыгу і іншыя буйныя гарады. Але галоўным месцам збыту ўсёй сельскагаспадарчай прадукцыі з'яўляўся мясцовы рынак, што выразна сведчыла аб даволі высокім для таго часу ўзроўні развіцця прамысловасці і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі.

Буйны, аптовы гандаль канчаткова зацвердзіўся як выключна гарадская з'ява. Ва ўмовах інтэнсіўнага тавараабмену ў Беларусі мясцовыя гарады і асобныя мястэчкі, набліжаныя па сваіх памерах і ролі да гарадоў, асабліва тыя, што сталі чыгуначнымі вузламі, набывалі выразную гандлёвую функцыю. Гэта дапамагала ім узмацняць эканамічнае ўздзеянне на сельскія ваколіцы, звязваць у адзіны рыначны вузел асобныя паселішчы і мясціны[2].

Прынцыпова новай з'явай у арганізацыі гандлю стала ўзнікненне бірж. У 1904 г. быў зацверджаны статут Мінскай лясной біржы. У 1906 г. пачала дзейнічаць Гродзенска-Лібаўская гандлёва-прамысловая біржавая арцель, з 1912 г. – Віцебская гандлёвая біржа (адна з 18 гандлёвых бірж Расійскай імперыі, што мелі дачыненне да гандлю льном)[3].

Буйныя прадпрыемствы мелі свае гандлёвыя аддзяленні ў розных гарадах. Напрыклад, у 1914 г. Добрушская папяровая фабрыка мела прадстаўніцтвы ў Мінску, Вільні, Варшаве, Кіеве, Адэсе, Елізаветградзе, Растове-на-Доне, Саратаве, Харкаве[4]. Шырокай і наладжанай сістэмай збыту карысталіся запалкавыя фабрыкі.

**Рост гарадоў і развіццё камунальнай гаспадаркі**. Урбанізацыя – найбольш паказальнае сведчанне пашырэння і ступені развіцця індустрыяльнага грамадства. На рубяжы XIX–XX стст. меліся ўсе эканамічныя падставы для урбанізацыі Беларусі, г. зн. у першую чаргу для павелічэння колькасці гандлёва-прамысловага насельніцтва за кошт земляробчага. Працэс урбанізацыі знаходзіў сваё адлюстраванне ў росце гарадскіх паселішчаў, канцэнтрацыі насельніцтва ў іх і асабліва ў буйных гарадах, у распаўсюджанні рыс гарадскога жыцця на ўсю сетку населеных пунктаў.

Усяго ў Беларусі перад пачаткам Першай сусветнай вайны налічвалася 45 гарадоў. Захоўвалася старая градацыя гарадоў на чатыры губернскія (Віцебск, Гродна, Магілёў, Мінск), 31 павятовы (Ашмяны, Бабруйск, Барысаў, Брэст, Вілейка, Ваўкавыск, Гомель, Гарадок, Горкі, Дзісна, Дрыса, Ігумен, Клімавічы, Кобрын, Лепель, Ліда, Мазыр, Мсціслаў, Навагрудак, Орша, Пінск, Полацк, Пружаны, Рэчыца, Рагачоў, Слонім, Слуцк, Стары Быхаў, Сянно, Чавусы, Чэрыкаў) і 10 пазаштатных (Адэльск, Бабінавічы, Відзы, Докшыцы, Друя, Копысь, Нясвіж, Радашковічы, Смаргонь, Сураж).

Гарадавое палажэнне 1892 г. распаўсюджвалася ў поўным аб'ёме на 15 гарадоў (Бабруйск, Брэст, Віцебск, Гомель, Гродна, Мінск, Магілёў, Мсціслаў, Орша, Пінск, Полацк, Рагачоў, Слонім, Чавусы, Чэрыкаў). Астатнія 30 з-за недастатковасці гарадскіх сродкаў і гандлёва-прамысловага развіцця атрымалі згаданае палажэнне ў спрошчаным выглядзе (без абрання гарадскіх дум, а толькі ўпраў).

---

[1] *Бейлькин Х.Ю.* Сельскохозяйственный рынок Белоруссии. 1861–1914 гг. С.203, 206.

[2] *Шыбека З.* Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX стагоддзяў). С.119, 122–125.

[3] *Бейлькин Х.Ю.* Сельскохозяйственный рынок Белоруссии. 1861–1914 гг. С.224.

[4] РДГА, ф.117, воп.1, спр.52, арк.42 ад.



Ваўкавыск. Канец XIX ст.

Да 80 % гарадскога жыллёвага фонду складалі аднапавярховыя жылыя дамы. Найвышэйшы паказчык каменнай забудовы, паводле даных за 1910 г. (ад 40 да 47 % усёй забудовы), назіраўся ў Гродне, Брэсце і Лідзе[1]. Вадаправод у 1910 г. быў у сямі гарадах – чатырох губернскіх, а таксама Гомелі, Мазыры і Слоніме. У Мінску дзейнічала конка, у Віцебску – трамвай. Напярэдадні Першай сусветнай вайны былі распрацаваны планы ажыццяўлення трамвайнага руху ў Бабруйску, Брэсце, Гомелі, Гродне, Мінску.

Найвышэйшы урбанізацыйны паказчык для тагачаснай Беларусі належыць Гомелю. У 1913 г. Гомель разам з Мінскам і Віцебскам уваходзіў у тройку буйнейшых беларускіх гарадоў з насельніцтвам больш за 100 тыс. чалавек. За 50 гадоў (1863–1913) яго насельніцтва павялічылася прыкладна ў восем разоў, з 12,6 тыс. да 100,5 тыс. чалавек[2].

Развіццё шляхоў зносін, прамысловасці, гандлю набліжала некаторыя мястэчкі і чыгуначныя станцыі да ўзроўню гарадоў, але ўлады гэтага не ўлічвалі. Толькі Смаргонь у 1904 г. атрымала статус горада. Астатнія просьбы жыхароў шэрагу населеных пунктаў Беларусі аб наданні ім гарадскіх правоў засталіся безвыніковымі. Так, у кастрычніку 1902 г. з адпаведным прашэннем на імя магілёўскага губернатара звярнуліся жыхары мястэчак Жлобіна і Карпілаўкі (Рагачоўскі павет). Яны паведамлялі, што абодва мястэчкі фактычна зліліся ў адзін населены пункт, са значнай колькасцю жыхароў (каля 11 тыс. чалавек), буйным чыгуначным вузлом і прыстанню на Дняпры. Пасля працяглага, чатырохгадовага, разгляду прашэння ўлады вырашылі "пакінуць яго без наступстваў"[3].

---

[1] Экономика Белоруссии в эпоху империализма. 1900–1917. С.171, 172.

[2] *Шыбека З.* Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX стагоддзяў). С.62.

[3] НГАБ, ф.2013, воп.1, спр.10, арк.1–5 ад., 41 ад.

Па колькасці, складу і занятках насельніцтва, ролі ў прамысловасці, гандлі і транспартных зносінах на афіцыйны гарадскі статус і адпаведна гарадское самакіраванне маглі прэтэндаваць такія населеныя пункты, як Баранавічы, Глыбокае, Дуброўна, Жлобін, Маладзечна, Шклоў.

У цэлым урбанізацыя ў Беларусі выявіла тэндэнцыю да павелічэння ролі буйных гарадоў у жыцці грамадства. Вакол іх ствараліся урбанізаваныя зоны[1]. Аднак гэты паказчык не насіў характару выключнай і лакальнай з'явы, а толькі завяршыў урбанізацыйную піраміду Беларусі, аснову якой складалі дробныя гарады і буйныя мястэчкі. У іх канцэнтравалася больш за палову гараджан.

## 3. Дэмаграфічныя працэсы. Ахова здароўя

**Дэмаграфічнае становішча**. Важнай асаблівасцю дэмаграфічных зрухаў у Беларусі ў пачатку XX ст., у параўнанні з другой паловай XIX ст., было больш значнае павелічэнне агульнай колькасці і ўдзельнай вагі гарадскога насельніцтва пры тых жа высокіх тэмпах натуральнага прыросту сельскіх жыхароў. Так, калі з 1863 па 1897 г. сельскае насельніцтва Беларусі вырасла на 94,3 %, а гарадское – на 86,7, то з 1897 па 1913 г. рост гараджан склаў 50,1, а вяскоўцаў – 36,6 %. Гэта сведчыла пра нарастанне урбанізацыйных працэсаў. У цэлым тэндэнцыя да апераджальных тэмпаў росту насельніцтва краю, якая праявілася ў другой палове XIX ст., набыла новы імпульс: з 1897 па 1913 г. яно павялічылася ў 1,4 раза, або на 38,0 %.

*Табліца 12.* **Дынаміка насельніцтва Беларусі ў 1897–1913 гг.***

| Год | Усяго | У тым ліку | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | у паветах | | у гарадах | |
| | | колькасць | % | колькасць | % |
| 1897 | 6500,2 | 5845,1 | 89,9 | 655,1 | 10,1 |
| 1913 | 8970,5 | 7987,2 | 89,0 | 983,3 | 11,0 |

* Падлічана па: *Шыбека З.* Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатку XX стагоддзяў). С.217; Первая всеобщая перепись Российской империи Вып.IV. Тетр. 1. СПб., 1900 г. Вып.V. Тетр. 1. СПб., 1899; Вып. XI. СПб., 1904; Вып. XXII. СПб., 1904; Вып. XXIII. СПб., 1903.

Рост насельніцтва краю забяспечваўся выключна за кошт яго натуральнага прыросту. Іміграцыя ў Беларусь з іншых рэгіёнаў імперыі адбывалася на працягу ўсяго перыяду, але гэта былі адзінкавыя выпадкі, таму ніякага ўплыву на дынаміку насельніцтва яны аказаць не маглі. На працягу 14 перадваенных гадоў высокія тэмпы натуральнага прыросту насельніцтва захоўваліся (табл. 13).

[1] *Шыбека З.* Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX стагоддзяў). С.94.

*Табліца 13.* **Натуральны прырост насельніцтва на 1 тыс. жыхароў, ‰***

| Губерня | 1900 г. | 1904 г. | 1907 г. | 1910 г. | 1913 г. | У сярэднім за 1900–1913 гг. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Віленская | 15,4 | 12,8 | 14,7 | 9,9 | 12,3 | 13,1 |
| Віцебская | 16,9 | 15,9 | 17,6 | 11,5 | 15,7 | 14,6 |
| Гродзенская | 15,7 | 9,6 | 12,8 | 10,9 | 12,6 | 13,3 |
| Мінская | 23,6 | 18,6 | 21,2 | 18,0 | 18,2 | 19,6 |
| Магілёўская | 21,6 | 19,7 | 23,6 | 15,8 | 17,5 | 19,5 |
| У сярэднім | 18,6 | 15,3 | 18,0 | 13,2 | 15,3 | 16,0 |
| У сярэднім па Расіі | 18,3 | 18,6 | 18,5 | 14,1 | 15.7 | 16,7 |

* Падлічана па: Ежегодник России. 1905 г. СПб., 1906; Ежегодник России. 1908 г. СПб., 1909; Ежегодник России. 1911 г. СПб., 1912; Ежегодник России. 1914 г. Пг., 1915.

Выключэнні складалі толькі неспрыяльныя гады: 1903 і 1910 гг. – успleск эпідэмій, 1905 г. – расійска-японская вайна, 1908 г. – неўраджай і голад. У гэтыя гады назіралася павышаная смяротнасць.

Паводле даных табл. 13 можна меркаваць аб рэгіянальных асаблівасцях натуральнага прыросту насельніцтва Беларусі. Самымі высокімі яго тэмпамі вылучаліся Мінская і Магілёўская губерні – 19–20 чалавек на тысячу жыхароў. Іх паказчыкі былі вышэйшымі за сярэдні па Еўрапейскай Расіі. Найбольш павольна (сярод пяці губерняў) расло насельніцтва Віленскай губерні (13,1 ‰), за ёю ў парадку павелічэння каэфіцыента ішлі Гродзенская і Віцебская губерні – адпаведна 13,3 і 14,6 ‰. У цэлым паніжаны каэфіцыент натуральнага прыросту быў характэрны для рэгіёнаў краю са значнай удзельнай вагой каталіцкага насельніцтва.

Дадзеныя асаблівасці абумоўлены рознымі зыходнымі паказчыкамі ўзроўняў нараджальнасці і смяротнасці па губернях. У 1900 г. узровень смяротнасці ва ўсіх пяці губернях быў прыкладна аднолькавым, нараджальнасць жа ў Мінскай і Магілёўскай губернях была ў сярэднім на 18 % вышэйшай (табл. 14).

*Табліца 14.* **Нараджальнасць і смяротнасць на тысячу жыхароў, ‰***

| Губерня | 1900 г. | | 1913 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | нараджальнасць | смяротнасць | нараджальнасць | смяротнасць |
| Віленская | 36,8 | 23,4 | 29,4 | 17,1 |
| Віцебская | 41,0 | 24,1 | 33,6 | 17,9 |
| Гродзенская | 41,8 | 26,1 | 31,9 | 19,3 |
| Мінская | 47,8 | 24,2 | 36,7 | 18,5 |
| Магілёўская | 47,2 | 25,6 | 36,2 | 18,7 |
| У сярэднім | 43,3 | 24,7 | 33,6 | 18,3 |
| У сярэднім па Расіі | 49,4 | 31,1 | 43,1 | 27,4 |

* Падлічана па: Ежегодник России. 1905 г. СПб., 1906. С.120–121; Отчет о состоянии народного здоровья и организации врачебной помощи в России за 1913 год. Пг., 1915. С.2–3.

Да 1913 г. зніжэнне абодвух паказчыкаў узнаўлення насельніцтва ішло фактычна сінхронна. Нараджальнасць у Мінскай і Магілёўскай губернях працягвала заставацца вышэйшай, што і абумовіла тут павышаны прырост насельніцтва на працягу ўсяго перыяду. У цэлым сельскае насельніцтва цалкам расло за кошт натуральнага прыросту.

У параўнанні з Беларуссю ў сярэднім па Еўрапейскай Расіі за той жа час тэмпы зніжэння нараджальнасці аказаліся ў 1,5 раза, а смяротнасці прыкладна ў два разы больш павольнымі. У цэлым па паказчыках узнаўлення насельніцтва Беларусі знаходзілася на ўзроўні краін Усходняй Еўропы.

Гарадское насельніцтва кожны год павялічвалася на 20,5 тыс. чалавек. На тэрыторыі Беларусі налічвалася 45 гарадоў. Нягледзячы на тое што ў эканамічным жыцці важная роля належала сярэднім і дробным гарадам, роля буйных (звыш 40 тыс. жыхароў) увесь час узрастала. У 1913 г. яны сканцэнтравалі ўжо 54,8 % усіх гараджан Беларусі[1]. Хуткімі тэмпамі рос Віцебск. Яго насельніцтва з 1897 па 1913 г. павялічылася з 65,9 тыс. да 103,6 тыс. чалавек, або на 57,2 %. Больш павольна расло насельніцтва Мінска – з 90,9 тыс. да 116,7 тыс. (28,7 %). Небывалы рост паказаў Гомель. Са звычайнага "сераднячка" з насельніцтвам у 36,8 тыс. (1897) ён стаў напярэдадні Першай сусветнай вайны індустрыяльным цэнтрам поўдня Беларусі з насельніцтвам 100,5 тыс. чалавек. У цэлым урбанізацыйныя працэсы з цэнтра і захаду Беларусі перамясціліся на поўдзень і поўнач, што дазволіла выраўняць ступень урбанізацыі розных рэгіёнаў. У 1913 г. буйных гарадоў было сем. Акрамя трох вышэйназваных "стотысячнікаў", да іх адносіліся Гродна (61,6 тыс.), Брэст (57,3 тыс.), Магілёў (54,2 тыс.) і Бабруйск (45,3 тыс.). Сярэдніх гарадоў з насельніцтвам 10–40 тыс. чалавек налічвалася 17, з іх найбольш буйнымі былі Пінск (39,0 тыс.) і Полацк (30,3 тыс.). Астатнія мелі насельніцтва менш чым 10 тыс. чалавек.

У рэгіянальных адносінах найбольшай ступенню урбанізацыі ў 1913 г. вылучаліся захад (Брэст, Ваўкавыск, Гродна, Кобрын, Ліда, Навагрудак, Адэльск, Ашмяны, Пружаны, Слонім, Смаргонь) і цэнтр (Бабруйск, Барысаў, Вілейка, Докшыцы, Ігумен, Мінск, Нясвіж, Радашковічы, Слуцк) Беларусі – адпаведна 24,4 і 23,6 % усяго гарадскога насельніцтва. Поўнач і поўдзень сканцэнтравалі адпаведна 19,2 і 19,0 % гараджан. Астатнія 13,8 % прыпадалі на ўсход[2]. Аддаленасць ад чыгуначных шляхоў зносін на ўсходзе абумовіла тут запаволеныя тэмпы горадаўтварэння. У цэлым нягледзячы на значны рост гарадскога насельніцтва Беларусі, яго ўдзельная вага за 1897–1913 гг. павялічылася неістотна – з 10,1 да 11,0 %. Яе павелічэнню процідзейнічаў высокі натуральны прырост сельскіх жыхароў.

Папаўненне гарадскога насельніцтва ішло пераважна за кошт міграцыі. Роля натуральнага прыросту заставалася другараднай. Пры гэтым міграцыйныя працэсы ў гарады і за межы Беларускага рэгіёна з кожным годам нараслі.

Пэўныя зрухі адбыліся ў этнічнай самаідэнтыфікацыі насельніцтва паўднёва-заходняй Беларусі. Так, калі, паводле перапісу 1897 г., абсалютная большасць жыхароў Кобрынскага павета (79,6 %) адпаведна роднай мове аднесла сябе да ўкраінцаў, то ў 1913 г., згодна з дадзенымі Гродзенскага статкамітэта, 85,7 % лічылі сябе беларусамі. За гэты ж перыяд, паводле даных той жа крыніцы, павялічылася ўдзельная вага беларусаў і ў іншых паветах:

---

[1] *Шыбека З.* Гарады Беларусі (60-я гады XIX– пачатак XX стагоддзяў). С.61.

[2] Там жа. С.218–220.

Гродзенскім – з 65,7 да 69,0 %, Ваўкавыскім – з 82,4 да 88,0, Пружанскім – з 75,5 да 88,0 %[1].

**Міграцыі ў гарады і іншыя месцы імперыі**. Высокі натуральны прырост насельніцтва, перш за ўсё сельскага, рост адноснай перанаселенасці гарадоў і вёсак, існаванне "рысы аселасці" абумовілі ў пачатку XX ст., асабліва пасля рэвалюцыі 1905 – 1907 гг., шырокія міграцыйныя патокі народных мас. Разам з прасторавай узмацнілася і сацыяльная мабільнасць насельніцтва – міжсаслоўныя пераходы, выкліканыя ўзроўнем даходаў, зменай месца жыхарства і занятказў.

Дэмаграфічны выбух у вёсцы і як вынік адносная перанаселенасць, абеззямельванне і сацыяльнае расслаенне – з аднаго боку, рост фабрычнай і рамеснай вытворчасці, шляхоў зносін, сферы паслуг – з другога, выклікалі хуткі адток лішніх рабочых рук з вёскі ў гарады. Аднак гэты працэс тармазіўся сканцэнтраванасцю ў гарадах Беларусі яўрэйскага насельніцтва, якое з-за слаба развітой прамысловасці не магло знайсці сабе заняткаў. На мяжы стагоддзяў прыток у гарады вяскоўцаў некалькі аслабеў. У 1896–1902 гг. асноўнай крыніцай папаўнення гарадскога жыхарства (92,7 %) становяцца яўрэі мястэчак, пасля чаго іх удзельная вага ў механічным прытоку перасяленцаў скарачаецца да 40 %. Такія рэзкія змены ў структуры прыросту гараджан былі выкліканы шэрагам прычын. Рост гарадоў прыводзіў да звужэння рамеснай прамысловасці і дробнага гандлю. Гэта вымушала бяднейшыя пласты яўрэйскага грамадства, якія ў асноўным займаліся менавіта гэтымі відамі дзейнасці, шукаць сабе занятак у іншых месцах "рысы аселасці" або выязджаць за межы імперыі. Міграцыйную хвалю, у асноўным на Амерыканскі кантынент, выклікалі таксама яўрэйскія пагромы ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг., рост антысеміцкіх настрояў у цэлым.

Шлях беларускіх сялян у мясцовыя гарады быў у пэўнай ступені "расчышчаны", тым больш што рост буйной прамысловасці патрабаваў маладых рабочых рук. Аднак гарадская прамысловасць развівалася недастаткова, каб прыняць усіх мігрантаў, што і было пастаянным стрымліваючым фактарам. І ўсё ж доля сялянства ў папаўненні гарадскога насельніцтва ў пачатку XX ст. значна ўзрасла. Калі ў 1897 г. колькасць сялян у гарадах складала 31,5 тыс. чалавек, або 4,5 % гараджан, то ў 1913 г. – 106,6 тыс. чалавек (10,8 %)[2].

Асноўная маса абеззямеленага сялянства накіроўвалася за межы Беларускага рэгіёна, на свабодныя землі, у прамысловыя цэнтры ўнутраных губерняў імперыі. Асноўным напрамкам выхаду ў пачатку XX ст. стаў сібірскі. Значны штуршок перасяленням у Сібір надала сталыпінская аграрная рэформа, пра якую ішла гаворка вышэй. Пры гэтым трэба адзначыць, што тым, хто жадаў перасяліцца за Урал на свабодныя землі, даваліся пэўныя льготы: вызваленне ад уплаты падаткаў на пяць гадоў, спісанне ўсіх нядоімак, грашовая пазыка, адтэрміноўка на тры гады ад воінскай службы і інш.

Пры перасяленні царскаму ўраду адразу давялося сутыкнуцца з цяжкасцямі. Жадаючых перасяляцца выявілася столькі, што не хапала зямельнага фонду. Так, у 1906 г. ён быў разлічаны толькі на 60 тыс. перасяленцаў, а іх аказалася 220 тыс. У 1907 – 1908 гг. патрэбнасць павысілася да 1 млн зямельных долей (1 доля = 15 дзесяцін), было ж нарыхтавана толькі 640 тыс. долей[3].

---

[1] Обзор Гродненской губернии за 1913 год. Гродно, 1914. Приложение. Табл. 9.

[2] *Шыбека З.* Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX стагоддзяў). С.151, 156.

[3] Вопросы колонизации. 1908. №4. С.207–209.

Вельмі мізэрнымі аказаліся і выдадзеныя крэдыты. Для таго каб завесці сваю гаспадарку на новым месцы, патрабавалася, як было адзначана вышэй, прыкладна 450 руб. Большасць жа перасяленцаў (61,5 %) у 1911–1912 гг. мелі каля 100 руб., 22 % – звыш 200 руб. Пры гэтым палову грошай перасяленцы звычайна трацілі на харчаванне, што пазбаўляла іх права на другую палову пазыкі. Тым не менш з 1907 г. дзяржава скараціла суму крэдыту, што яшчэ больш ускладніла працэс перасялення[1].

Паводле даных афіцыйнай статыстыкі, за восем гадоў (1907–1914) з пяці заходніх губерняў перасялілася на ўсход 335,3 тыс. чалавек (табл. 15), або 11,5 % ад усіх перасяленцаў Расійскай імперыі.

*Табліца 15.* **Перасяленчы рух за Урал з пяці заходніх губерняў у 1907–1914 гг.***

| Губерня | Гады | | | Усяго | % ад агульнай колькасці |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1907–1909 | 1910–1911 | 1912–1914 | | |
| Магілёўская | 118327 | 21179 | 19568 | 159074 | 47,4 |
| Віцебская | 60627 | 11561 | 9506 | 81694 | 24,4 |
| Мінская | 50242 | 6568 | 7436 | 64246 | 19,2 |
| Гродзенская | 6611 | 4876 | 2079 | 13566 | 4,0 |
| Віленская | 12547 | 1829 | 2413 | 16789 | 5,0 |
| Усяго | 248354 | 46013 | 41002 | 335369 | 100 |

* Падлічана па: *Турчанинов Н.* Итоги переселенческого движения за время с 1896 по 1909 г. (включительно). СПб., 1910. С.30–35; *Турчанинов Н., Домрочев А.* Итоги переселенческого движения за время с 1910 по 1914 г. Пг., 1916. С.30–34.

У авангардзе па колькасці перасяленцаў ішла Магілёўская губерня. За дадзены перыд з яе выехала амаль палова ўсіх перасяленцаў краю – 47,4 %. Разам з Віцебскай губерняй яны далі больш за дзве трэці ўсіх, хто накіроўваўся з Беларусі на ўсход. Такая вялікая перавага мігрантаў з гэтых дзвюх губерняў тлумачыцца спецыфікай іх эканамічнага развіцця. Для Усходняй Беларусі былі характэрны больш дробныя надзелы зямлі, наяўнасць абшчыны, спольшчыны, змешанай сістэмы вядзення панскай гаспадаркі. Акрамя таго, як было паказана вышэй, Магілёўская губерня вылучалася высокім натуральным прыростам насельніцтва, што ўзмацняла зямельны "голад".

У Заходняй Беларусі такога "голаду" не было: тут больш значнымі былі зямельныя надзелы і ў той жа час прырост насельніцтва быў прыкметна меншым.

Неўраджай і голад 1907–1908 гг. значна падштурхнулі перасяленчы рух. Максімум міграцыі прыпадае на 1908 г., калі край пакінула 102 516 чалавек.

Пераважную большасць сярод перасяленцаў складалі бедната і сяляне сярэдняга дастатку. Тры чвэрці з іх былі беззямельнымі і толькі 17,9 % сем'яў мелі больш за 10 дзесяцін зямлі[2].

З 1909 г. хваля перасяленцаў у Сібір і на Далёкі Усход пачынае спадаць. Для гэтага быў шэраг прычын. Галоўная з іх – гэта недахоп матэрыяльных сродкаў, выдаткаваных на перасяленне. Для перамяшчэння вялізных людскіх мас на такую ўнушальную адлегласць патрабавалася значна больш сродкаў, чым тыя, што выдзяляліся ўрадам, тым больш што выдача пазыкі

[1] История СССР: В 12 т. М., 1968. Т. 6. С.738.

[2] *Липинский Л.П.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии. Мн., 1978. С.129.

была спынена. За свой кошт уладкавацца на новым месцы было немагчыма. Нямала ўзнікала іншых цяжкасцей. Як пісаў сучаснік тых падзей, "глебы на адведзеных перасяленцам хутарах у большасці аказваліся або саланцаватымі, або забалочанымі да такой ступені, што займацца землеробствам зусім немагчыма, сенакосаў расчышчаных амаль зусім няма, частыя засухі, вясновыя і восеньскія замаразкі, а ў сувязі з гэтым штогадовыя неўраджаі – вось галоўныя прычыны таго агромністага адліву перасяленцаў, якія штогод дзесяткамі тысяч перакачоўваюць назад на радзіму"[1].

Не маючы сродкаў для існавання, знясіленыя і абяздоленыя, многія перасяленцы вярталіся назад. Гэты працэс ішоў пастаянна, але найбольш магутны іх адток прыпадае на 1909–1911 гг., калі ў межы пяці заходніх губерняў вярнулася палова ўсіх перасяленцаў. Усяго з 1907 па 1914 г. на радзіму вярнулася 37 566 чалавек, або 10,5 % перасяленцаў.

У дадзены перыяд сібірскі вектар міграцыі з Беларусі не быў адзіным. Асвойваліся і новыя землі цэнтральных губерняў. Працягвалася каланізацыя ўрадлівых зямель, але іх станавілася ўсё менш. Былі свабодныя землі і на поўначы, куды таксама накіроўваліся выхадцы з Беларусі. Так, у 1913 г. толькі з Магілёўскай губерні пажадалі перасяліцца ў Нікольскі павет Валагодскай губерні больш за 2 тыс. сем'яў. Для іх было выдзелена 278 хутароў і 777 долей (11 655 дзесяцін). Сярод каланістаў былі выхадцы з Віленскай, Гродзенскай, Віцебскай, Мінскай губерняў[2].

Такім чынам, дэмаграфічны выбух пачатку XX ст., аграрнае перанасяленне ў вёсцы, недастатковыя прамысловыя магутнасці гарадоў выклікалі магутныя міграцыйныя патокі. Не маючы магчымасці знайсці занятак у гарадах, адносна лішняе насельніцтва накіроўвалася за межы краю. Складаныя пералівы людскіх рэсурсаў адбываліся і паміж горадам і мястэчкам, што было выклікана царскай палітыкай у "мяжы аселасці". Рэзервы рабочай сілы меліся ва ўсіх сектарах эканомікі.

**Ахова здароўя**. У пачатку XX ст. адбыліся якасныя зрухі ў ахове здароўя. Гэта было звязана з увядзеннем у 1903 г. у Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губернях упраўленняў па справах земскай гаспадаркі. Усе медычныя ўстановы Прыказа грамадзянскай апекі і сельскай медыцыны былі перададзены створаным органам. Для жыхароў гэтых губерняў было ўведзена бясплатнае медыцынскае абслугоўванне. Павялічылася колькасць урачэбных участкаў: у Мінскай і Віцебскай губернях у 2,5 раза, у Магілёўскай – амаль у два разы. З 36 участкаў, якія меліся ў 1905 г. у Магілёўскай губерні, у 30 былі бальніцы з пастаяннымі ложкамі, у шасці – пакоі для амбулаторнага прыёму. Акрамя таго, дзейнічала пяць фельчарска-акушэрскіх і 120 фельчарскіх пунктаў. Штат медперсаналу губерні складаўся з 30 урачоў (1 на 61 164 жыхары)[3].

У Віцебскай губерні ў кожным павеце ствараўся трэці ўчастак, цэнтрам якога станавіўся амбулаторны пункт на чале з фельчарам. У 1910 г. колькасць урачэбных участкаў у губерні выраслa да чатырох на павет, а ў Лепельскім іх было пяць[4].

---

[1] Известия Архангельского общества изучения Русского Севера. 1913. №19. С.868.

[2] Там жа. С.868.

[3] *Кононович К.Ю.* Земско-врачебная организация Могилевской губернии и ее деятельность за 1905 год. Могилев, 1907. С.34–37, 43–45; Обзор Могилевской губернии за 1910 год. Могилев, 1911. С.59.

[4] Памятная книжка Витебской губернии на 1912 год. Отд. IV. С.58, 59, 87, 138,139, 148, 149, 191.

У Мінскай губерні да 1910 г. працавала 35 сельскіх бальніц, 20 прыёмных пакояў, пяць амбулаторый і каля 200 фельчарскіх пунктаў[1].

У губернскіх і павятовых гарадах бальніцы разгарнулі больш шырокую дзейнасць. Былі павялічаны штаты, уведзены пасады галоўных урачоў. Значна павялічыўся прыток хворых. Так, у Мінскай губернскай бальніцы ў 1905 г. у хірургічным аддзяленні колькасць пацыентаў удвая перавысіла норму. Кожны дзень даводзілася адмаўляць у прыёме на стацыянар двум-тром хворым з больш лёгкімі пашкоджаннямі. У тым жа годзе ў бальніцы была створана бактэрыялагічная лабараторыя, набыты новыя інструменты і апараты[2].

У павятовых гарадах ажыўленне медыцынскай дапамогі не было такім значным, як у губернскіх. Тым не менш і тут ужо пазначылася спецыялізацыя па хірургіі, інфекцыйных хваробах, акушэрству.

Новы штуршок у плане аховы здароўя быў нададзены земствамі, якія ў тых жа губернях былі ўведзены ў 1911 г. Да 1913 г. колькасць сельскіх урачэбных участкаў на павет павялічылася ў Мінскай губерні да шасці–васьмі, у Магілёўскай – да чатырох-пяці. У Віленскай і Гродзенскай губернях, дзе земствы не былі ўведзены, таксама ішоў працэс пашырэння медыцынскай дапамогі. У кожным павеце быў створаны трэці ўчастак з новай бальніцай. У Гродзенскай губерні з 1909 па 1913 г. колькасць сельскіх бальніц узрасла з 19 (на 210 ложкаў) да 30 (на 361 ложак)[3].

Дзякуючы гэтаму паменшылася тэрыторыя, што належала да ўрачэбных участкаў. Гэта дазволіла медыцыне стаць больш даступнай для народа.

Усяго да 1914 г. у Беларусі было 106 сельскіх бальніц, 93 прыёмныя пакоі, 263 фельчарскія пункты і 1530 штатных бальнічных ложкаў[4].

З кожным годам расла колькасць медыцынскіх устаноў і ў гарадах, у тым ліку і спецыялізаваных. У 1911 г. у Мінску былі ўведзены начныя дзяжурствы ўрачоў, у 1913 г. пабудавана інфекцыйная бальніца на 60 ложкаў, працавала псіхіятрычнае аддзяленне ў губернскай і яўрэйскай бальніцах, адпаведна па 240 і 60 ложкаў, шэсць радзільных прыютаў па 59 ложкаў, дзве прыватныя хірургічныя лячэбніцы, прыватная глазная лячэбніца[5].

З 1910 г. у Магілёве, а з 1911 г. у Мінску і Оршы пачалі працаваць пастэраўскія станцыі. У губернскіх гарадах дзейнічалі ўрачэбна-санітарныя саветы, медыка-статыстычнае бюро.

У шэрагу гарадоў будаваліся бальніцы для рабочых. У 1905 г. у Смаргоні пачала працаваць лячэбніца на 10 ложкаў. У Барысаве на 7 з 32 прадпрыемстваў аказвалася медыцынская дапамога. Урач прымаў хворых на запалкавай фабрыцы "Молния" ў Мазыры. Пры фабрыках і заводах Магілёўскай губерні мелася сем прыёмных пакояў і амбулаторый. Амбулаторыя з прыёмным пакоем для рабочых была адкрыта ў 1899 г. у Мінску[6].

У цэлым колькасць медперсаналу Беларусі вырасла з 2248 у 1900 г. да 3189 чалавек у 1914 г. Сярод іх 796 урачоў, 378 дантыстаў, 1254 фельчары і

---

[1] Обзор Минской губернии за 1910 год. Мн., 1911. С.49–50.

[2] *Крючок Г.Р.* Очерки истории медицины Белоруссии. С.133–134, 136, 137.

[3] Обзор Виленской губернии за 1912 год. С.68, 69; Обзор Гродненской губернии за 1909 год. С.84; Обзор Гродненской губернии за 1913 год. С.89.

[4] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.586

[5] Обзор Минской губернии за 1913 год. Мн., 1914. С.49–52.

[6] *Крючок Г.Р.* Очерки истории медицины Белоруссии. С.143–144.

761 акушэрка. Акрамя штатных урачоў у гарадах вольнай практыкай займаліся дзесяткі спецыялістаў вузкіх спецыяльнасцей[1].

Усё гэта дало магчымасць у некаторай ступені палепшыць медыцынскае абслугоўванне насельніцтва, больш эфектыўна змагацца з інфекцыйнымі хваробамі, паменшыць смяротнасць сярод дарослых і дзяцей. Аднак забяспечанасць насельніцтва медыцынскай дапамогай працягвала заставацца недастатковай, а для многіх жыхароў яна была недасягальнай. У 1913 г. у сярэднім па Беларусі на 10 тыс. насельніцтва прыходзілася па 0,9 урача і 1,6 фельчара, а ва ўсіх лячэбных установах (275) налічвалася ўсяго 5690 ложкаў, што было далёка ад патрэб насельніцтва.

## 4. Масавая эміграцыя з Беларусі. Пачатак фарміравання беларускай дыяспары

**Агульная характарыстыка эміграцыйнага руху канца XIX – пачатку XX ст.** Новай з'явай у грамадска-палітычным жыцці Беларусі канца XIX – пачатку XX ст. стала эміграцыя – выезд насельніцтва за межы Расійскай імперыі. Першымі беларускія губерні сталі пакідаць яўрэі, якія былі незадаволены эканамічнымі і палітычнымі абмежаваннямі, дзейнасцю царскай адміністрацыі і жадалі палепшыць на чужыне свой матэрыяльны дабрабыт. Паводле сведчанняў расійскіх службовых асоб, яўрэйская эміграцыя з беларускіх губерняў пачалася ў 1880 г.[2] У 80-х гг. XIX ст. за мяжу выязджалі ўраджэнцы Віленскай і Гродзенскай губерняў, у наступным дзесяцігоддзі да эміграцыйных працэсаў далучылася яўрэйскае насельніцтва Мінскай губерні. У пачатку XX ст. выезд яўрэяў з Беларусі набыў масавы характар у сувязі з абвастрэннем у краі міжнацыянальных супярэчнасцей. Пасля пагромаў у Гомелі (1904 і 1906 гг.) і Беластоку (1907) эміграцыя стала для яўрэяў сродкам абароны свайго жыцця і маёмасці. Таксама за мяжу выязджалі ўдзельнікі рэвалюцыйных выступленняў 1905–1907 гг., каб пазбегнуць рэпрэсій з боку царскага ўрада. Напярэдадні Першай сусветнай вайны яўрэйскае насельніцтва выязджала за мяжу з усіх беларускіх губерняў.

У адрозненне ад яўрэяў, выезд беларускага насельніцтва за межы Расійскай імперыі ў канцы XIX – пачатку XX ст. тлумачыўся пераважна эканамічнымі прычынамі – найперш прагрэсіруючым сялянскім малазямеллем. Людзі ехалі за мяжу з мэтай зарабіць грошы, на якія можна было набыць кавалак зямлі, абзавесціся гаспадаркай. Эміграцыя беларусаў па палітычных матывах была параўнальна нешматлікай і назіралася толькі падчас расійска-японскай вайны 1904–1905 гг. і рэвалюцыі 1905–1907 гг.

Першымі з беларусаў за мяжу пачалі выязджаць ураджэнцы Ашмянскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні. Паводле звестак віленскага губернатара, гэта адбылося ў 1883 г.[3] У канцы 80-х – пачатку 90-х гг. XIX ст. за межы Расійскай імперыі рушылі сяляне Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага паветаў Гродзенскай губерні[4]. У 1891 г. у афіцыйных дакументах зафіксаваны факты замежнага выезду ўраджэнцаў Мінскай губерні[5]. Насельніцтва Віцебскай і Магілёўскай губерняў далучылася да эміграцыйных пра-

---

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.586–587.

[2] ДГА Літвы. воп.1890, АА, спр.103, арк.14.

[3] Там жа, арк.15.

[4] Там жа, арк.1.

[5] Там жа, воп.1891, ПА, спр.11, арк.443–444.

цэсаў пасля 1905 г., у сувязі з правядзеннем сталыпінскай аграрнай рэформы[1].

Напярэдадні Першай сусветнай вайны жыхары Беларусі выязджалі за мяжу пераважна з Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў. Па агульнай колькасці эмігрантаў у Віленскай губерні першынствавалі Ашмянскі і Вілейскі паветы, у Гродзенскай–Беластоцкі, Сакольскі, Бельскі, Пружанскі і Брэст-Літоўскі, у Мінскай–Пінскі і Мінскі[2]. З Магілёўскай і Віцебскай губерняў насельніцтва выязджала не так энергічна, але і там тэндэнцыя да павелічэння колькасці эмігрантаў была відавочнай. Найбольшай актыўнасцю эміграцыйнага руху ў Магілёўскай губерні вылучаліся сяляне Гомельскага, Рагачоўскага, Аршанскага і Быхаўскага паветаў, а ў Віцебскай губерні – Віцебскага, Гарадоцкага і Дзвінскага[3].

Гэта эміграцыйная хваля была самай масавай у гісторыі эміграцыі з Беларусі. Дакладную лічбу яўрэяў і беларусаў, якія выходзілі на чужыну, прывесці цяжка з-за шэрагу прычын (адсутнасць дасканалай статыстыкі, вялікі працэнт эмігрантаў-нелегалаў). Упэўнена можна казаць пра тое, што рух быў даволі масавы і меў сталую тэндэнцыю да колькаснага росту. Так, паводле даных канцылярыі віленскага губернатара, за перыяд з 1880 па 1889 г. з Віленскай губерні (без Трокскага і Свянцянскага паветаў) за мяжу выехала 2640 яўрэяў і 283 асобы хрысціянскага веравызнання. У 1890 г. адпаведныя лічбы склалі 385 і 110 чалавек[4]. Паводле звестак, атрыманых віленскім генерал-губернатарам, за перыяд з 1895 па 1899 г. з Віленскай губерні (без Трокскага і Свянцянскага паветаў) у эміграцыю выбыла 640 яўрэяў і 819 сялян хрысціянскага веравызнання, з Гродзенскай губерні – 1630 яўрэяў і 2433 асобы (сяляне) хрысціянскага веравызнання[5].

У пачатку XX ст. памеры эміграцыйнага руху пашырыліся. Гэта датычылася як беларускіх яўрэяў, так і ўласна беларусаў. Паводле звестак Яўрэйскага каланізацыйнага таварыства, у 1906–1913 гг. па дапамогу ў справе замежнага перасялення ў Таварыства звярнулася 77 211 асоб з шасці губерняў "Паўночна-Заходняга краю" (Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай, Магілёўскай), большасць з якіх перасялілася ў ЗША[6]. У 1908–1910 гг. з Віленскай губерні (без Трокскага і Свянцянскага паветаў) за мяжу выехала 8540 сялян хрысціянскага веравызнання, з якіх 2486 асоб склалі праваслаўныя і 6054 – католікі[7]. Гродзенскі губернатар пісаў, што ў 1902 г. з падначаленай яму губерні на эміграцыю выехала 1235 сялян[8]. За перыяд з 1902 па 1907 г. Гродзенскую губерню штогод пакідала, такім чынам, да 2500 сялян[9]. У 1912 г. гродзенскі губернатар даводзіў

[1] *Оболенский (Осинский) В.В.* Международные и межконтинентальные миграции в довоенной России и СССР. М., 1928. С.61.

[2] ДГА Літвы, ф.378, воп.1900, ПА, спр.21, арк.10, 221–225; РДГА, ф.95, воп. 18, спр. 616, арк.36; ДГА РБ, ф. 18, воп. 2, спр.6, арк.175; НГА РБ, ф. 295, воп. 1, спр. 7885, арк.129 адв., 233.

[3] Наша ніва. 1913. 1 лют.; Отчет могилевского губернатора за 1913 год. Могилев, 1914. С.19; ДА РФ, ф. ДП-АА, воп. 1913, спр. 99, арк. 141; НГА РБ, ф. 1430, воп. 1, спр. 48659, арк. 2.

[4] ДГА Літвы, ф.378, воп.1890, АА, спр.103, арк.17.

[5] Там жа, воп.1900, ПА, спр.21, арк.210, 221–224, 235–243.

[6] *Оболенский (Осинский) В.В.* Международные и межконтинентальные миграции в довоенной России и СССР. С.55.

[7] РДГА, ф.95, воп.18, спр.616, арк.36–40.

[8] Там жа, ф.1284, воп.194, спр.141, арк.7.

[9] ДГА РБ, ф.18, воп.2, спр.6, арк.175.

да ведама расійскага кіраўніцтва, што з яго губерні ў Амерыцы знаходзіцца звыш 50 тыс. сялян[1].

Такім чынам, эміграцыя беларусаў з Віленскай і Гродзенскай губерняў перад Першай сусветнай вайной у колькасных адносінах не саступала яўрэйскай эміграцыі. Па Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губернях статыстычных даных не захавалася, аднак у другім дзесяцігоддзі XX ст. эміграцыя стала звычайнай з'явай грамадскага жыцця і ў гэтых губернях. У справаздачы за 1911 г. мінскі губернатар адзначаў, што ў губерні назіраецца ўзмоцнены рух сялян на заработкі за мяжу[2]. Паводле справаздачы мінскай губернскай адміністрацыі за 1913 г., эміграцыя сялян набыла настолькі значныя памеры, што ў некаторых вёсках засталіся толькі падлеткі і старыя[3]. З Віцебскай і Магілёўскай губерняў беларусаў ехала за мяжу менш (сяляне дадзеных губерняў аддавалі перавагу перасяленню за Урал, а не за межы імперыі). У складзе эмігрантаў з гэтых губерняў пераважалі яўрэі. Тым не менш у справаздачы за 1913 г. магілёўскі губернатар падкрэсліваў, што замежны выезд сялян стаў істотнай праблемай для яго губерні[4].

Па сваім складзе беларуская і яўрэйская эміграцыя адрозніваліся. Для яўрэяў быў характэрны выезд з сем'ямі, бо яны імкнуліся назаўсёды застацца за мяжой. Пераважную большасць яўрэйскай эміграцыі складалі рамеснікі або асобы, якія працавалі на прамысловых прадпрыемствах у гарадах, і дробныя ці сярэднія гандляры. Узровень адукацыі яўрэяў-эмігрантаў быў дастатковы для таго, каб добра ўладкавацца за мяжой. Невялікую частку яўрэйскай эміграцыі складалі прадстаўнікі інтэлігенцыі, якія былі апантаны ідэаламі сіянізму або ўдзельнічалі ў расійскім рэвалюцыйным руху.

У складзе беларускай сялянскай эміграцыі пераважалі нежанатыя мужчыны ва ўзросце 18–35 гадоў, фізічна моцныя, але неадукаваныя і некваліфікаваныя. Выезд з сем'ямі для беларусаў быў не характэрны. Эміграцыя беларусаў мела характар адыходніцтва, г.зн. выхаду за мяжу на пэўны тэрмін (звычайна 2–5 гадоў) з далейшым вяртаннем на радзіму. Толькі ў Канадзе і Бразіліі беларусы затрымліваліся на больш працяглы тэрмін, бо выкарыстоўваліся ўрадамі гэтых краін пры каланізацыі неапрацаваных зямель.

Пераважная большасць выхадцаў з беларускіх зямель у 1880–1914 гг. перасялілася за акіян. Галоўным напрамкам руху былі ЗША, куды накіроўвалася асноўная маса яўрэяў і беларусаў. Апрача таго, яўрэі перасяляліся ў Аргенціну, Вялікабрытанію, Германію, Егіпет, Канаду, Палесціну, Паўднёвую Афрыку, Францыю, а беларусы – у Аргенціну, Бразілію і Канаду[5]. Своеасаблівым тыпам эміграцыі быў штогадовы выезд беларускіх сялян на сезонныя сельгасработы ў Германію і Данію з вяртаннем на радзіму пасля іх заканчэння. Перад Першай сусветнай вайной у Германію з беларускіх губерняў выязджала штогод каля 100 тыс. чалавек, у Данію – каля 1 тыс.[6]

---

[1] РДГА, ф.95, воп.18, спр.616. арк.4.

[2] НГА РБ, ф.295, воп.1, спр.7885, арк.150.

[3] Обзор Минской губернии за 1913 г. С.19.

[4] Отчет могилевского губернатора. С.19.

[5] *Афанасьев А.* Полынь в чужих полях. М., 1987. С.241; *Кіпель В.* Беларусы ў ЗША. Мн., 1993. С.40; Голас Радзімы. 1993. 15 крас.; Ethnic Forum. 1989. Vol.9. №1–2. P.87.

[6] *Полферов Я.Я.* Сельскохозяйственные рабочие руки. СПб., 1913. С.44; *Погодин А.А.* Славянский мир. Политическое и экономическое положение славянских народов перед войной 1914 года. М., 1915. С.118; *Тудоряну Н.Л.* Очерки российской трудовой эмиграции периода империализма. 1890–1914 гг. Кишинев, 1986. С.98; *Nichtweiss J.* Die auslandischen Saisonarbeiter in der Reihes von 1890 bis 1914. Berlin, 1959. S.258.

Расійскі ўрад не перашкаджаў эміграцыі яўрэйскага насельніцтва. У лютым 1891 г. імператар Аляксандр III тлумачыў міністру ўнутраных спраў Расіі Дурнаво, што яўрэяў, якія маюць намер перасяліцца за межы імперыі, затрымліваць не трэба[1]. У 1892 г. ён зацвердзіў "Палажэнне Камітэта міністраў" адносна ўмоў дзейнасці ў краіне Яўрэйскага каланізацыйнага таварыства (больш вядомага пад назвай "Фонд барона Гірша"), дзе падкрэслівалася, што асобы, якія карыстаюцца паслугамі Таварыства, "лічацца пакідаючымі межы Расіі назаўсёды"[2]. Аднак царскі ўрад не надта рупіўся аб тых, хто жадаў пакінуць імперыю. Да таго ж выязныя дакументы былі маладаступныя з прычыны заблытанай працэдуры іх падрыхтоўкі і высокага кошту: замежны пашпарт каштаваў 15 руб., а з улікам дадатковых расходаў (гербавы збор, збор на карысць інвалідаў і г.д.) 25–30 руб.[3]

Яшчэ цяжэй было пакінуць Бацькаўшчыну беларусам. Расійскія ўлады імкнуліся затрымаць беларусаў на месцы, выкарыстоўваючы самыя розныя меры. Так, гродзенскі губернатар у кастрычніку 1890 г. забараніў выдаваць замежныя пашпарты сялянам, якія жадалі пакінуць імперыю[4]. Працэдура выезду за мяжу Расійскай імперыі з мэтаю заработку не была ўрэгулявана расійскім заканадаўствам. Толькі ў 1906 г. урад пачаў распрацоўку адпаведнага закона. Былі пастаўлены пытанні аб спрашчэнні працэдуры выезду і зніжэнні кошту замежных пашпартоў, пачалі выдавацца крэдыты на праезд да Амерыкі ў пазыка-ашчадных касах[5]. У 1912 г. Галоўная ўправа землеўладкавання і земляробства Расіі прапанавала стварыць у Вільні даведачнае бюро, дзейнасць якога распаўсюджвалася б на Ковенскую, Віленскую, Гродзенскую і Мінскую губерні. Асноўнымі задачамі бюро з'яўляліся збор інфармацыі пра стан замежнага працоўнага рынку, умовы найму і кошт пераезду, садзейнічанне ў атрыманні выязных дакументаў, падлік колькасці ад'язджаючых і прыязджаючых людзей[6]. Да перавозкі эмігрантаў былі прыцягнуты расійскія кампаніі "Восточно-Азиатское пароходство" і "Добровольный флот". Асноўным портам на тэрыторыі Расійскай імперыі, з якога ажыццяўляліся рэгулярныя перавозкі да Нью-Йорка, стала Лібава (Курляндская губерня). Аднак распачатая справа не была даведзена да канца, цяжкасці ў выездзе заставаліся аж да 1917 г.

Палітыка расійскага ўрада прыводзіла да таго, што значная частка жадаючых пакінуць радзіму ў пошуках лепшай долі выязджала за межы імперыі ўпотай (у пачатку XX ст. такім чынам за мяжу адпраўлялася каля 75 % эмігрантаў з Расійскай імперыі[7]). Нелегальная эміграцыя з Расіі турбавала ўлады. Аднак спроба вырашыць праблему толькі шляхам адміністрацыйных пакаранняў была беспаспяховай. Нягледзячы на рэпрэсіі (асоба, якая садзейнічала тайнаму выезду эмігрантаў за мяжу, падлягала высылцы ў аддаленыя раёны імперыі), колькасць тых, хто спрыяў тайнай эміграцыі, узрастала. Прычым калі першапачаткова сялян да нелегальнага выезду падбухторвалі пераважна яўрэі, якія былі звязаны з замежнымі (галоўным чынам

---

[1] ДГА Літвы, ф.378, воп.1891, ПА, спр.11, арк.38.

[2] *Яновский С.Я.* Русское законодательство и эмиграция // Журнал Министерства юстиции. 1909. №4. С.107.

[3] *Офросимов Л.С.* Отхожий промысел за океан. Обследование Виленской губернии. Вильно, 1912. С.16.

[4] ДГА Літвы, ф.378, воп.1890, АА, спр.103, арк.1 адв.

[5] *Полферов Я.Я.* Сельскохозяйственные рабочие руки. С.45.

[6] РДГА, ф.95, воп.18, спр.616, арк.5.

[7] *Тизенко П.* Эмиграционный вопрос в России. 1820–1910. Либава, 1909. С.34.

нямецкімі і аўстрыйскімі) параходнымі таварыствамі, то ў другім дзесяцігоддзі XX ст. гэтай справай пачалі займацца і беларусы[1].

Аднак дзяржава дрэнна клапацілася аб эмігрантах, таму ім спрабавалі дапамагчы розныя недзяржаўныя арганізацыі. Напрыклад, значна дапамагала эмігрантам з Беларусі віленская філія дабрачыннага Таварыства дапамогі эмігрантам, якое было заснавана ў Варшаве ў пачатку 90-х гг. XIX ст. У 1912 г. у Вільні пры дапамозе Таварыства была выдадзена на беларускай мове памятка, дзе патэнцыяльныя эмігранты маглі знайсці карысныя парады адносна напрамку выезду, умоў замежнай працы, перасцярогі на шляху руху на чужыну. Да даведкі прыкладаўся невялічкі беларуска-англійскі размоўнік[2]. Аднак магчымасці філіі не адпавядалі колькасці жадаючых выехаць і да Першай сусветнай вайны эміграцыйны рух беларусаў, у адрозненне ад руху яўрэяў, меў стыхійны характар.

Першая сусветная вайна перапыніла замежную эміграцыю з Беларусі. Германія – галоўны аб'ект выезду беларускіх работнікаў у Еўропе – знаходзілася ў стане вайны з Расіяй. У выніку баявых дзеянняў былі перакрыты традыцыйныя шляхі зносін з заакіянскімі краінамі. Марскія падарожжы сталі небяспечнымі з-за вайны, якую разгарнула на акіянскіх прасторах Германія. Значная частка працаздольных беларускіх мужчын была мабілізавана ў расійскую армію. У 1916 г. эміграцыйны рух з Беларусі канчаткова спыніўся.

**Сацыяльна-эканамічнае становішча эмігрантаў**. Дрэнная арганізацыя замежнага выезду царскімі ўладамі ўплывала на становішча эмігрантаў. Калі эмігрантам-яўрэям дапамагалі суайчыннікі, якія траплялі ў краіны выезду раней, то беларусам звычайна даводзілася ўладкоўвацца на чужыне самастойна. Работнікі-беларусы ў асноўным выкарыстоўваліся ў тых галінах вытворчасці, дзе патрабавалася цяжкая фізічная праца (вугальныя капальні, сталеліцейныя заводы, фермы, плантацыі трапічных раслін, лесанарыхтоўкі, будоўлі, пракладка чыгунак, уборка збожжа і г.д.). У геаграфічным плане выбар месца пасялення залежаў ад наяўнасці работы. Эмігранты з Беларусі аддавалі перавагу раёнам, якія знаходзіліся паблізу партоў прыбыцця. На выбар месца пасялення ўплывала і ўрадавая палітыка дзяржавы, куды прыбывалі эмігранты. Так, урады Канады і Бразіліі выкарыстоўвалі эмігрантаў пры каланізацыі неасвоеных зямель і свядома накіроўвалі туды замежных работнікаў. Урад Аргенціны выкарыстоўваў эмігрантаў на сезонных сельскагаспадарчых работах і ўжо пры ўездзе ў краіну даводзіў да работніка інфармацыю пра наяўнасць працы, памеры заработку і інш. Пасля выбару месца працы замежны работнік за кошт дзяржавы накіроўваўся ў патрэбны яму раён[3].

Да 1914 г. асноўная частка выхадцаў з Беларусі ў ЗША аддавала перавагу прамысловым цэнтрам на паўночным усходзе (Нью-Йорк, Бостан, Філадэльфія, Балтымор) і сярэднім захадзе (Кліўленд, Чыкага, Дэтройт, Гер) краіны і штату Пенсільванія, дзе яны выкарыстоўваліся пры здабычы вугалю. У Канадзе беларусы разам з іншымі эмігрантамі з Расіі рассяліліся ўздоўж мяжы з ЗША на прасторы ад Атлантыкі да Ціхага акіяна (правінцыі Ньюфаўндленд, Новая Шатландыя, Нью-Браўнсвік, Квебек, Антарыо, Ма-

---

[1] *Офросимов Л.С.* Отхожий промысел за океан. Обследование Виленской губернии. С.10.

[2] *Акаловіч Я.* Рады для эмігрантаў, каторые едуць у Амэрыку, а такжэ размоўкі беларуска-англіцкія. Вільня, 1912.

[3] РДГА, ф.98, воп.1, спр.1411, арк.119.

нітоба, Саскачэван, Альберта, Брытанская Калумбія). У Бразіліі беларусы асвойвалі пераважна паўднёвую частку краіны (штаты Рыу-Грандзі-ду-Сул, Парана, Сан-Паулу, Мінас-Жэрыс, Мату-Гросу, Віцкорсін). У Аргенціне беларускае насельніцтва канцэнтравалася пераважна ў раёнах, якія межавалі з Парагваем, Уругваем і Бразіліяй (правінцыі Буэнас-Айрэс, Санта-Фе, Энтрэ-Рыас). У Еўропе беларусы выязджалі пераважна ў раёны, якія знаходзіліся бліжэй да расійскай граніцы (у Германіі такімі былі Усходняя Прусія, Памеранія, Саксонія, Брандэнбург і Сілезія, у Даніі – востраў Зеландыя і паўвостраў Ютландыя[1]).

Праца за мяжой была нялёгкай. Прадпрымальнікі і дзяржаўныя ўстановы жорстка эксплуатавалі іншаземных рабочых, прымушаючы іх аддаваць вытворчасці ўсе сілы і здароўе. Звычайнай з'явай быў працяглы рабочы дзень. У ЗША ў пачатку XX ст. рабочыя працавалі па 10 гадзін. У Аргенціне пры зборы збожжа рабочыя працавалі па 17–18 гадзін. Асабліва цяжкім становішча замежных работнікаў было падчас эканамічных крызісаў, калі, паводле выказванняў расійскіх дыпламатаў, эмігранты асуджаліся на нястачу і голад[2]. Дрэннае харчаванне, немагчымасць як след аднавіць сілы пасля інтэнсіўнай працы, шкодныя для здароўя ўмовы працы, нязвыклы клімат прыводзілі да захворванняў і калецтваў, аднак атрымаць кампенсацыю за шкоду было практычна немагчыма.

**Грамадска-палітычнае жыццё беларускіх эмігрантаў у канцы XIX – пачатку XX ст.** У 90-х гг. XIX ст. – 1914 г. пачаўся працэс фарміравання беларускай дыяспары (сталага пражывання часткі народа за межамі этнічнай радзімы). У гэты перыяд беларусы складалі значную частку "рускай" эміграцыі ў ЗША і краінах Лацінскай Амерыкі. У 1902 г. расійскі даследчык С.Патканаў, які вывучаў дакументы іміграцыйнай службы ЗША, звяртаў увагу на тое, што "рускія" прыходзяць у гэту краіну пераважна з губерняў "Паўночна-Заходняга краю"[3]. На гэту асаблівасць "рускай" эміграцыі звяртаў увагу і амерыканскі даследчык М.Дэві, які таксама абапіраўся на даныя статыстыкі ЗША[4]. Паводле звестак кіраўніцтва праваслаўнай царквы пры расійскай місіі ў Паўднёвай Амерыцы (размяшчалася ў Буэнас-Айрэсе), праваслаўныя беларусы ў перыяд паміж 1909 і 1913 гг. складалі каля 25–30 % ад агульнай колькасці вернікаў[5]. Значным быў працэнт выхадцаў з Беларусі і ў складзе "польскай" эміграцыі. Напрыклад, расійскі пасланнік у Буэнас-Айрэсе ў ліпені 1905 г. даводзіў да ведама міністра замежных спраў

[1] *Кіпель В.* Беларусы ў ЗША. С.61, 63; Архіў знешняй палітыкі Расійскай імперыі (далей – АЗПРІ), ф. Асобы палітычны аддзел, воп.474, спр.354, арк.72–73; *Окунцов И.К.* Русско-американский справочник. Н.-Й., 1913. С.131; *Акаловіч Я.* Рады для эмігрантаў, каторые едуць у Амерыку, а таксама размоўкі беларуска-англіцкія. С.9; *Королев Н.В.* Страны Южной Америки и Россия. Кишинев, 1972. С.50; *Лейтес К.С.* Русские рабочие в германском сельском хозяйстве. Пг., 1914. С.14; *Nichtweiss J.* Die auslandischen Saisonarbeiter in der Reihes von 1890 bis 1914. S. 260; *Бакунин М.* Русскоподданные рабочие в Дании // Сборник консульских донесений. Вып.IV. СПб., 1905. С.258.

[2] АЗПРІ, ф.II дэпартамент I-1, воп.373. Р.1, спр.716, арк.1–3; *Щербатский А.А.* Русская эмиграция в Соединенные Штаты // Известия Министерства иностранных дел. 1914. Кн.VI. С.44; *Шлепаков А.Н.* Иммиграция и американский рабочий класс в эпоху империализма. М., 1966. С.54; Голас Радзімы. 1993. 15 крас.

[3] *Патканов С.* Итоги статистики иммиграции в Соединенные Штаты Северной Америки из России за десятилетие 1900–1909. СПб., 1911. С.14.

[4] *Davie M.A.* World Immigration. With Special Reference to the United States. New York; London, 1983. P.186.

[5] РДГА, ф.796, воп.191, спр.148, арк.6; воп.199, спр.84, арк.9 адв.

Расіі, што выхадцы з Гродзенскай губерні адыгрываюць важную ролю ў польскіх суполках Бразіліі. Падобная карціна назіралася і ў ЗША[1].

Аднак, нягледзячы на даволі значную дыяспару, беларусы не заявілі за мяжой аб сабе як асобным народзе. Звычайна яны далучаліся да эканамічных, палітычных, культурных і рэлігійных арганізацый, якія стваралі за мяжой іншыя народы. Часцей за ўсё беларусы-католікі далучаліся да палякаў, а беларусы-праваслаўныя – да рускіх (велікарусаў). Гэта прыводзіла да падпарадкавання іх ідэйным канцэпцыям і інтарэсам адпаведных народаў. Другое пакаленне беларусаў (калі іх бацькі заставаліся на чужыне) звычайна страчвала сувязь са сваёй этнічнай радзімай і выхоўвалася ў адпаведнасці з культурай краіны сталага пражывання.

Беларускія эмігранты, якія пакідалі Бацькаўшчыну да пачатку Першай сусветнай вайны, былі слаба звязаны з беларускім адраджэнскім рухам, хаця беларуская нацыянальная інтэлігенцыя цікавілася праблемамі эміграцыі. Тэма выезду на чужыну знайшла адлюстраванне ў творчасці М.Багдановіча, М.Гарэцкага, Л.Гмырака, А.Цехановіча, Цёткі (А.Пашкевіч) і іншых дзеячаў беларускай культуры. Практычна ўсе яны лічылі, што галоўная прычына адыходу на чужыну хаваецца ў бяднотным становішчы сялян у Беларусі. Аднак значэнне эміграцыі ацэньвалі па-рознаму. Большасць аўтараў бачыла ў замежным адыходзе шкодную з'яву. Супраць эміграцыі выступалі, напрыклад, А.Бульба (Я.Яленскі), А.Луцкевіч, В.Ластоўскі. У артыкуле "Асцярога эмігрантам", надрукаваным у "Нашай ніве" ў сакавіку 1914 г., В.Ластоўскі пісаў: "Даўным даўно разумныя людзі казалі, што з эмігранцкай гарачкі, якая была агарнула наш край, нічога добрага не выйдзе; тыя ж самыя людзі казалі, што нам трэба не ў Амерыку ўцякаць са сваёй старонкі на выслугі амерыканскаму капіталу, а на месцы ў сябе стварыць Амерыку... Выезд на чужыну выдумка няўдалая для працавітых людзей і на выездзе ў Амерыку мала хто з працавітых людзей разжыўся, апрача розных агентаў..."[2]. А. Луцкевіч увосень 1913 г. прапанаваў "старацца замест эміграцыі ў Амерыку арганізаваць эміграцыю на сезонныя работы ў бліжэйшыя краі (на лета), каб людзі вярталіся дахаты з грашыма і з навукай сельскай гаспадаркі паводлуг практыкі ў чужых странах"[3].

Толькі невялікая частка дзеячаў беларускага адраджэнскага руху лічыла, што эміграцыя ёсць з'ява аб'ектыўная і да эмігрантаў трэба ставіцца як да часткі беларускага грамадства. З такіх пазіцый выступаў, у прыватнасці, рэдактар-выдавец "Нашай нівы" А.Уласаў. Ён сцвярджаў, што Беларусь мае з ад'езду работнікаў за мяжу значны даход, і прапаноўваў аблегчыць выезд за мяжу, арганізаваць курсы англійскай мовы для жадаючых выехаць і падтрымаць суайчыннікаў у далёкай Амерыцы, як робяць гэта іншыя народы[4]. Погляд А. Уласава падзяляў таленавіты публіцыст Л.Гмырак, які ў 1914 г. характарызаваў ЗША як краіну, "дзе ўсякая праца, як галавой, так і рукамі, лічыцца пачэснай". "Там усіх людзей сумленных ды працавітых, чым бы яны ні займаліся, лічаць роўнымі, аднак карыснымі і патрэбнымі грамадзянамі...", – пісаў ён, параўноўваючы ЗША з Беларуссю[5].

Негатыўнае стаўленне да эміграцыі, якое выказвалі прадстаўнікі беларускага адраджэння, тлумачылася тым, што свядомая беларуская інтэліген-

---

[1] АЗПРІ, ф.Канцылярыя, воп.470, спр.103, арк.104; *Кіпель В.* Беларусы ў ЗША. С.125–126.

[2] Наша ніва. 1914. 7 сак.

[3] Наша ніва. 1913. 17 кастр.

[4] Наша ніва. 1911. 30 студз.

[5] Там жа.

цыя прыкладала асноўныя намаганні да арганізацыі суайчыннікаў непасрэдна на этнічнай радзіме і не мела магчымасці весці адпаведную работу на чужыне, куды выязджалі найбольш актыўныя элементы грамадства. Толькі пасля рэвалюцыйных падзей 1905–1907 гг. за межамі Бацькаўшчыны апынулася невялікая колькасць беларускіх нацыянальных дзеячаў – пераважна ў еўрапейскіх краінах, што былі бліжэй да Беларусі. У асноўным беларускія палітычныя эмігранты накіроўваліся ў Галіцыю, якая ўваходзіла ў склад Аўстра-Венгрыі. Найбольш вядомыя з прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, якія працавалі ў Галіцыі, – Цётка і Ф.Аляхновіч. Уяўленні пра "беларускасць" у большасці эмігрантаў з беларускіх губерняў адрозніваліся ад уяўленняў свядомай нацыянальнай інтэлігенцыі. Звычайна тыя, хто выязджаў за мяжу з мэтаю заработку, захоўвалі пэўную культурную адасобленасць (размаўлялі "хатняй" мовай, спявалі песні і г.д.). Некаторыя з іх імкнуліся захаваць сваю прыналежнасць да Бацькаўшчыны для нашчадкаў. Напрыклад, П.Бялянскі, які выехаў у ЗША ў пачатку XX ст., загадаў, каб на яго магільнай пліце была зроблена спасылка на тое, што ён з'яўляецца беларусам, і яго пажаданне было выканана[1]. У 1912 г. група вернікаў з Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў у Чыкага спрабавала стварыць асобнае беларускае брацтва, аднак справу не давялі да канца з-за адсутнасці аўтарытэтнага лідэра[2]. Больш актыўнымі ў гэтых адносінах былі католікі, якія напярэдадні Першай сусветнай вайны стварылі ў Чыкага суполкі, дзе аб'ядноўваліся выхадцы з Віленшчыны і Гродзеншчыны[3]. Аднак, як правіла, эмігранты разглядалі "беларускасць" толькі як рэгіяналізм у рускай ці польскай супольнасці (у залежнасці ад веравызнання).

Спроба арганізацыі беларусаў ў ЗША па нацыянальнаму прынцыпу была звязана з дзейнасцю А.Сянкевіча, які эмігрыраваў туды ў 1906 г. з в.Мікалаеўшчына Мінскага павета. Скончыўшы медыцынскі факультэт Балцімарскага універсітэта (штат Мэрылэнд), ён стаў практыкуючым урачом, аднак сувязь з Бацькаўшчынай не страціў (напрыклад, перапісваўся са сваім сябрам і сваяком Я.Коласам). А.Сянкевіч пачаў збіраць матэрыялы па гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША і ў 1910 г. арганізаваў некалькі гурткоў сваіх землякоў. Але і для яго справа аказалася занадта цяжкай, тым больш што ён разам з жонкай далучыўся да амерыканскіх анархістаў і аддаў значную частку часу і сіл менавіта гэтай дзейнасці[4]. Пасля 1917 г. А.Сянкевіч вярнуўся на радзіму і ў 20-х гг. XX ст. апісаў пачуцці ад знаходжання за мяжой у аповесці "Вандраваньне Васіля"[5]. Ёсць звесткі і пра іншыя прыклады нацыянальна-культурнай працы сярод беларускіх эмігрантаў у ЗША. Так, у рукапісным паведамленні для "Нашай нівы" невядомага аўтара (магчыма, А.Уласава) напярэдадні Першай сусветнай вайны гаварылася, што ў ЗША выйшлі на беларускай мове кнігі "Тарас на Парнасе", два выданні "У дому лепей" Ельскага і інш. "Мы не ведаем, хто іх выдае, але досыць таго, што чуецца отклік на нашу працу...", – пісаў складальнік нататкі[6]. Таксама вядома, што ў 1913 г. у Гранд-Рэпідз (штат Мічыган) было створана дабрачыннае Таварыства беларусаў і маларосаў, заснавальнікі якога імкнуліся ўсталяваць сувязі паміж беларусамі і ўкраінцамі[7].

[1] Беларус. 1956. 20 сак.

[2] *Кіпель В.* Беларусы ў ЗША. С.99–100.

[3] Беларус. 1966. Кастр.

[4] *Кіпель В.* Беларусы ў ЗША. С.92.

[5] Полымя. 1924. №2 (10). С.106–111; 1926. №1. С.34–48.

[6] БДАМЛіМ, ф.3, воп.1, спр.101, арк.156.

[7] *Кіпель В.* Беларусы ў ЗША. С.85.

У цэлым работа па арганізацыі беларускіх эмігрантаў у ЗША ў пачатку XX ст. маштабных вынікаў не прынесла. У іншых краінах, куды выязджалі беларусы, такая дзейнасць зусім не вялася.

Да грамадска-палітычнага жыцця замежных краін беларускія эмігранты таксама ставіліся даволі пасіўна. Толькі невялікая частка беларусаў далучылася да рабочага руху за мяжой, удзельнічала ў выступленнях пратэсту (з эканамічнымі патрабаваннямі), падтрымлівала сувязь з замежнымі праф-цэнтрамі. У ЗША эмігранты з Беларусі нават самі стваралі прафсуполкі, напрыклад 103-і расійска-польскі аддзел Аб'яднаных адзежных работнікаў Амерыкі (Нью-Йорк, 1913 г.). Найбольш арганізаванымі былі беларусы, якія працавалі ў ЗША ў прафсаюзах разборнікаў дамоў, шаўцоў, краўцоў і аўтамабільнай індустрыі[1]. Актыўна далучаліся беларусы да арганізацый, якія стваралі палітычныя эмігранты з Расіі. Напрыклад, беларусы ўваходзілі ў склад Федэрацыі Саюзаў рускіх рабочых у Амерыцы, што была створана выхадцамі з Расійскай імперыі ў Чыкага ў 1910 г. і стаяла на анархісцкіх пазіцыях[2].

Такім чынам, выезд беларускага насельніцтва за мяжу ў 80-х гг. XIX ст. – 1914 г. быў з'явай шматпланавай. Ён патрабаваў вялікіх грашовых выдаткаў і не заўсёды прыносіў прыбытак. Часам праца за мяжой прыводзіла да знясільвання і заўчаснай смерці эмігрантаў. Разам з тым выезд за мяжу пашыраў кругагляд эмігрантаў, спрыяў набыццю імі новых працоўных і тэхнічных звычак. "Знаходжанне эмігрантаў у Амерыцы... аказвае на перасяленцаў самы дабратворны ўплыў, бо робіць іх больш культурнымі і прадукцыйнымі ў працы, апрача гэтага прывучае да свядомага падпарадкавання закону і павагі да чужой уласнасці", – адзначаў, напрыклад, у 1907 г. гродзенскі губернатар[3]. "Выдатнай школай" для эмігрантаў называлі ў 1913 г. ЗША і чыноўнікі расійскага Міністэрства гандлю і прамысловасці[4]. За мяжой эмігрант мог увачавідкі ўбачыць як дрэнныя, так і добрыя бакі жыцця, пазнаёміцца з дасканалымі прыладамі працы, яе арганізацыяй і г.д. На змены ў псіхалогіі выхадцаў з Беларусі звярталі ўвагу амерыканскія сацыёлагі ў 1910 г. Так, апытаныя імі выхадцы з Гродзенскай і Мінскай губерняў паказалі, што ў сябе на радзіме яны не чыталі газет, а ў Амерыцы сталі цікавіцца навінамі і нават пачыналі чытаць кнігі і наведваць тэатр[5]. Вельмі важным было тое, што работнікі з Беларусі набывалі ў замежжы вопыт арганізаванай барацьбы за свае інтарэсы, знаёміліся з невядомымі раней тэорыямі ўдасканальвання грамадскага ладу, і, паводле выказванняў сучаснікаў, вучыліся паважаць асобу ў сябе і ў іншых людзях[6].

Вялікай падмогай для хатняй гаспадаркі былі і зробленыя за мяжой грошы (хаця эмігранты атрымлівалі грошай менш, чым замежныя рабочыя). Крыніцы сведчаць, што напярэдадні Першай сусветнай вайны толькі з ЗША эмігранты штогод высылалі сумы ў 300–500 руб. і прывозілі з сабой ад 500 да 1000 руб.[7] Бясспрэчна, пры разумнай арганізацыі замежнага ады-

---

[1] *Кіпель В.* Беларусы ў ЗША. С.85.

[2] Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (далей – ДА РФ), ф.ДП-АА, воп.1914, спр.12, Ч.1-Ам, арк.2, воп.1916, спр.12. Ч.1, арк.69, спр.12. Ч.1-Ам, арк.2; *Кіпель В.* Беларусы ў ЗША. С.89.

[3] ДГА РБ, ф.18, воп.2, спр.6, арк.175.

[4] РДГА, ф.23, воп.8, спр.248, арк.83.

[5] *Handlin O.* Immigration as a factor in American History. N.Y., 1961. P.91.

[6] РДГА, ф.23, воп.8, спр.248, арк.83.

[7] ДГА РБ, ф.18, воп.2, спр.6, арк.175; ДГА Літвы, ф.378, воп.1900. ПА, спр.21, арк.22, 69, 98, 163, 166; *Офросимов Л.С.* Отхожий промысел за океан. Обследование Виленской губернии. С.11.

ходу Беларусь магла б мець значную карысць, але тагачасная сістэма сацыяльна-палітычных адносін у Расіі гэтаму не спрыяла. Таму большую выгаду ад эміграцыі атрымлівалі замежныя краіны, якія выкарыстоўвалі танную і працаздольную сілу беларускіх эмігрантаў, але практычна нічога не выдаткоўвалі на іх падтрымку.

У часы Першай сусветнай вайны ў сацыяльна-эканамічным становішчы і грамадска-палітычным жыцці эмігрантаў істотных змен не адбылося. Аднак менавіта тады беларуская нацыянальная інтэлігенцыя зразумела неабходнасць працы з эмігрантамі. У чэрвені 1916 г. група беларускіх дзеячаў у Вільні (у тым ліку В.Ластоўскі) праз газету "Гоман" звярнулася да суродзічаў з адозвай, дзе гаварылася: "Нашы браты за акіянам, калі ласка, арганізуйцеся і дайце нам палітычную падтрымку, якая нам тут так патрэбна. Інакш ваша Бацькаўшчына не прабачыць вам таго, што вы толькі назіралі за тым, што адбываецца дома, і не дапамаглі нам"[1]. Заклікі да суайчыннікаў сталі першай спробай усталяваць сувязь паміж Беларуссю і яе сынамі і дочкамі, якія пакінулі Бацькаўшчыну ў пошуках лепшай долі. Практычная работа па арганізацыі беларускай дыяспары ў ЗША і іншых краінах пачалася пасля 1917 г.

ГЛАВА 3

## ТРЭЦЯЧЭРВЕНЬСКІ РЭЖЫМ У БЕЛАРУСІ. ГРАМАДСКІ РУХ

### 1. Усталяванне палітычнай рэакцыі. Барацьба "заходнерускіх" і польскіх нацыяналістычных груповак з беларускім нацыянальным рухам. Увядзенне земстваў

**Палітычныя рэпрэсіі.** Пасля паражэння рэвалюцыі 1905–1907 гг. у Расійскай імперыі склалася новая палітычная сітуацыя, характэрнай прыкметай якой было ўсталяванне рэакцыі і тэрору. У многіх паветах і гарадах Беларусі да 1909 г. дзейнічала "Палажэнне аб узмоцненай і надзвычайнай ахове". Царская адміністрацыя на месцах карысталася правам выдаваць "абавязковыя пастановы". Гэтыя дакументы (губернскія, павятовыя, гарадскія) рэгламентавалі ўсе бакі грамадскага жыцця насельніцтва і мелі сілу закону.

Складваецца ўражанне, што "абавязковыя пастановы" рэгламентавалі кожны крок жыхароў. Нават для паездкі на веласіпедзе ў межах аднаго павета патрэбен быў дазвол паліцмайстра. За парушэнне ж гэтых правіл вінаватыя караліся турэмным зняволеннем да трох месяцаў або штрафам да 3 тыс. руб.

Для падтрымкі рэжыму тэрору ў Беларусі дзейнічалі карныя атрады, актывізаваліся суды і паліцыя. Праводзіліся вобыскі, арышты тых, каго ўлады палічылі палітычна ненадзейнымі. Турмы перапоўніліся. У 1908 г. праз турму Мінска прайшло больш за 24 тыс. чалавек. Сярод іх было нямала арыштаваных па палітычных справах[2].

---

[1] Гоман. 1916. 27 чэрв.

[2] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.430; ДГА Літвы, ф.932, воп.1, спр.1, арк.27, 29.

Асабліва жорсткімі былі адносіны да рабочага класа і яго арганізацый. Тых, хто прымаў удзел у рэвалюцыі, звальнялі з працы і заносілі ў "чорныя спісы". Уладкавацца на новае месца такім людзям было амаль немагчыма. Супраць членаў Мінскай, Бабруйскай, Барысаўскай і іншых сацыял-дэмакратычных арганізацый і груп вяліся судовыя справы. Адкрыта праследаваліся прафесійныя саюзы. Ніводная спроба стварыць легальныя прафсаюзы ў Беларусі ў гэты час не мела поспеху. Тыя ж арганізацыі, што ўжо існавалі, закрываліся з прычыны "незаконных дзеянняў". Незаконнымі абвяшчаліся патрабаванні прафсаюзаў павялічыць заработную плату, правядзенне сходаў без санкцыі паліцыі, умяшанне ў спрэчкі паміж прадпрымальнікамі і рабочымі і інш. За 1907–1910 гг. у Беларусі было закрыта больш як 40 прафсаюзаў. У выніку да пачатку 1911 г. у Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай губернях прафсаюзы былі цалкам разгромлены. Заставаліся толькі пяць прафсаюзаў у Віцебскай губерні і адзін у Ашмянах, але і іх дзейнасць была абмежаванай[1].

Палітычны тэрор знайшоў сваё праяўленне і ў адносінах да друку. Пасля Маніфеста 17 кастрычніка 1905 г., які абвясціў свабоду слова ў Расійскай імперыі, былі прыняты часовыя правілы, згодна з якімі адмянялася папярэдняя цэнзура на перыядычны друк. Аднак гэтыя правілы, як і прынятыя пазней для неперыядычных выданняў, былі настолькі няяснымі і недакладнымі, што ў розных месцах трактаваліся па-рознаму. Пасля ж паражэння рэвалюцыі іх трактоўка аказвалася звычайна не на карысць свабодзе слова.

У беларуска-літоўскіх губернях справамі друку кіраваў часовы камітэт па друку, створаны ў сакавіку 1907 г. Яго намаганнямі былі закрыты левыя выданні. Асаблівая ўвага надавалася нярускамоўным выданням. Нават пазней, калі колькасць гэтых выданняў пачала расці, з-пад увагі камітэта не губляўся ніводны іх нумар. Усё, што, на думку цэнзараў, магло быць выкарыстана супраць улад, забаранялася. Напрыклад, у 1911 г. камітэтам было вынесена рашэнне накласці арышт на літоўскамоўную газету "Lietuvos Žinios" (№ 99) за артыкул "Па жмудскіх дарогах". Артыкул пачынаўся словамі: "Тут прышэльцаў рускіх, пераселеных урадам, даволі шмат". Словы гэтыя былі ўспрыняты як настрой літоўцаў супраць рускіх перасяленцаў-старавераў[2].

Цяжка было данесці і гістарычную праўду да беларускага народа з-за абмежавання доступу да архіваў. Для таго каб атрымаць магчымасць карыстацца матэрыяламі палітычнага архіва і архіва-музея М. Мураўёва, неабходна было задаволіць улады не толькі сваім "сацыяльным станам і навуковым цэнзам, але і палітычнымі перакананнямі"[3].

**Асаблівасці новага выбарчага закона**. 3 чэрвеня 1907 г. II Дзяржаўная дума была распушчана. Адначасова быў выдадзены новы выбарчы закон па выбарах у III Дзяржаўную думу. Царскі ўрад ішоў уразрэз з Маніфестам 17 кастрычніка 1905 г. і "Асноўнымі законамі Расійскай імперыі" (1906), якія забаранялі без дазволу Думы выдаваць новыя законы. Галоўным натхняльнікам новага выбарчага закона быў "Савет аб'яднанага дваранства" – агульнарасійская дваранская групоўка, якая аказвала вялікі ўплыў на палітыку ўрада. Многія члены "Савета..." выступалі наогул за ліквідацыю Думы, але зрабіць гэта было даволі складана. Па-першае, такія дзеянні маглі б выклікаць новы рэвалюцыйны ўздым, што вельмі непакоіла цара і

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.431; История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.295; ДГА Літвы, ф.932, воп.1, спр.31, арк.2.

[2] ДГА Літвы, ф. 601, воп. 1, спр. 215, арк. 222.

[3] Там жа, ф. 378, п/о 1912, спр. 15, арк. 9.

яго ўрад. Па-другое, Дума ствarала бачнасць існавання "парламента" ў краіне для заходніх крэдытораў[1].

Па закону 3 чэрвеня памешчыцкая курыя атрымлівала 51 % агульнай колькасці выбаршчыкаў Еўрапейскай Расіі, у той час як па папярэдняму выбарчаму закону (11 снежня 1905 г.) землеўладальнікі мелі большасць толькі ў Мінскай і Палтаўскай губернях. Зараз жа абставіны змяніліся на карысць землеўладальнікаў. Аднак беларускія губерні мелі свае асаблівасці. Тут землеўладальнікі атрымлівалі большасць галасоў толькі ў Мінскай і Магілёўскай губернях (адпаведна 51,9 і 51,2 %). Памешчыцкія курыі Віленскай губерні выбіралі 48 %, Віцебскай – 45,3, Гродзенскай – 41,1% выбаршчыкаў[2]. Гэта было звязана з імкненнем урада абмежаваць прадстаўніцтва польскага дваранства ў Думе. Разам з тым у Беларусі захоўвалася адносна большае, чым у Еўрапейскай Расіі, прадстаўніцтва ад сялян – 29,5% (па Еўрапейскай Расіі – 22%). Гэта было зроблена з мэтай супрацьпаставіць на выбарах польскім памешчыкам праваслаўных беларускіх сялян, якіх запісвалі "рускімі"[3].

Новы выбарчы закон значна скараціў колькасць выбаршчыкаў ад рабочага класа: рабочыя страцілі каля палавіны выбаршчыкаў[4]. Рабочыя Мінскай і Гродзенскай губерняў маглі выбіраць на губернскія сходы па два выбаршчыкі, Віленскай і Мінскай – па аднаму. У шэрагу губерняў Расійскай імперыі, у тым ліку і Віцебскай, як і па закону 11 снежня 1905 г., рабочыя наогул не атрымалі выбарчых правоў. Падставай для гэтага служыла тое, што колькасць рабочых у адносінах да агульнай колькасці насельніцтва не давала ім такой магчымасці.

Галоўнай асаблівасцю новага выбарчага закона было тое, што ў яго аснову былі закладзены прынцыпы вялікадзяржаўнага шавінізму – ідэалогіі, якую арганізатар трэцячэрвеньскага дзяржаўнага перавароту П. Сталыпін узвёў у ранг дзяржаўнай палітыкі. "Дзяржаўная дума павінна быць рускай па духу, – адзначалася ў законе. – Іншыя народнасці... не павінны і не будуць уплываць на вырашэнне пытанняў чыста рускіх"[5]. Менавіта такім падыходам і тлумачыцца тое, што ў заходніх губернях царызм не даў перавагі памешчыкам і захаваў адносна большае, чым у Еўрапейскай Расіі ў цэлым, прадстаўніцтва ад сялян. Згодна з новым выбарчым законам знізілася норма прадстаўніцтва ад польскіх і закаўказскіх губерняў, а карэнныя народы Сярэдняй Азіі і Сібіры ўвогуле пазбаўляліся права ўдзельнічаць у выбарах. Усяго выбарчым правам карысталася не больш за 15 % насельніцтва Расійскай імперыі[6].

Па новаму выбарчаму закону ў шэрагу месцаў Расійскай імперыі былі ўтвораны асобныя "рускія" курыі. Такое права давалася рускаму (праваслаўнаму) насельніцтву Віленскай і Ковенскай губерняў, а таксама Варшавы, Закаўказзя. У Віленскай губерні землеўладальнікі "рускай" курыі атрымалі 47,2 % месцаў выбаршчыкаў[7].

---

[1] *Забайскі М.М.* Дзяржаўная дума ў палітычным жыцці Беларусі (1906–1907 гг.). Мн., 1993. С. 13.

[2] Там жа.

[3] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. I. С. 422.

[4] *Аврех А. Я.* Царизм и третьеиюньская система. М., 1966. С. 16.

[5] НГАБ у Мінску, ф.2375, воп.1, спр.88. арк.5.

[6] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. С.422; *Аврех А.Я.* Царизм и третьеиюньская система. С.17.

[7] *Забайскі М.М.* Дзяржаўная дума ў палітычным жыцці Беларусі (1906–1907 гг.). С.14.

Закон даваў права міністру ўнутраных спраў дзяліць павятовыя з'езды землеўладальнікаў і з'езды гарадскіх выбаршчыкаў на аддзяленні па нацыянальнасцях і ў адпаведнасці з гэтым размяркоўваць колькасць выбаршчыкаў. Улічваючы просьбы аб "ахове правоў карэннага рускага насельніцтва", якія паступалі з заходніх губерняў ад "Саюза рускага народа", "Саюза 17 кастрычніка", у Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай і сямі паветах Віцебскай (акрамя Веліжскага, Гарадоцкага, Невельскага, Себежскага) губерні з'езды землеўладальнікаў былі падзелены на два аддзяленні: рускае і польскае. Прычым да рускага аддзялення далучаліся праваслаўныя беларусы, немцы, татары і інш., да польскага – беларусы-католікі.

Яшчэ больш складанымі меркаваліся гарадскія выбары. Так, у гарадах Мінскай губерні першая курыя (буйная буржуазія) дзялілася на тры нацыянальныя аддзяленні – "рускае", "польскае" і яўрэйскае. Кожнае з аддзяленняў павінна было выбіраць аднаго выбаршчыка, незалежна ад колькасці насельніцтва. Напрыклад, у Мінскім павеце па аднаму выбаршчыку выбіралі 154 "рускіх", 241 "паляк", 844 яўрэі[1].

Другая гарадская курыя (дробная буржуазія) Мінскага, Гродзенскага і Бабруйскага паветаў была падзелена на два аддзяленні: да першага адносіліся асобы "рускай", да другога – іншых нацыянальнасцей. У Віцебскім, Дзвінскім, Магілёўскім паветах выдзялялася яўрэйскае аддзяленне[2].

Такім чынам, выбарчы закон забяспечыў перавагу на выбарах "рускага" насельніцтва Беларусі. Далучэнне праваслаўных беларусаў да рускіх, католікаў да палякаў сведчыла аб адкрытым ігнараванні беларускага этнасу. Яўрэйская буржуазія практычна пазбаўлялася магчымасці аказваць уплыў на вынікі выбараў нават у гарадах, дзе большасць насельніцтва складалі яўрэі.

**Выбары ў III Дзяржаўную думу. Склад і пазіцыі ў Думе дэпутатаў ад Беларусі**. У другой палове 1907 г. у цэнтры ўвагі ўсіх палітычных сіл і партый Расіі была выбарчая кампанія ў III Дзяржаўную думу. Што тычылася левых партый, то іх мясцовыя арганізацыі да гэтага часу былі разгромлены або вельмі аслаблены. Тыя ж, што ўцалелі, уключыліся ў перадвыбарчую барацьбу. З сацыялістычных партый толькі эсэры, не лічачы анархістаў, байкатавалі выбары ў III Думу. Бальшавікі выступілі за выкарыстанне выбарчай кампаніі і думскай трыбуны ў мэтах пашырэння легальнай дзейнасці ў спалучэнні з падпольнай. Сярод меншавікоў і бундаўцаў панавала ліквідатарская ідэя. Яны выступалі за легалізацыю РСДРП, адмову ад падпольнай дзейнасці. Практычна на такіх жа пазіцыях стаяла і Беларуская сацыялістычная грамада.

Аслабленым быў і ліберальна-апазіцыйны цэнтр. Кіраўнікі Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі (КДП) яшчэ больш схіліліся ўправа. Платформу КДП у заходніх губернях падтрымлівалі групоўкі яўрэйскай буржуазіі і, з пэўнымі агаворкамі, польска-беларускія памешчыкі і каталіцкія святары, якія летам 1907 г. стварылі Краёвую партыю Літвы і Беларусі[3].

Актыўна ўключыліся ў перадвыбарчую барацьбу чарнасоценныя партыі і арганізацыі. У ліпені 1907 г. адбыўся з'езд прадстаўнікоў губернскіх аддзелаў "Саюза рускага народа" (СРН) і іншых манархісцкіх арганізацый. З'езд прыняў рашэнне давесці да кожнага аддзела перадвыбарны наказ і перадвыбарную платформу, ухваленыя ім.

---

[1] Минское слово. 1907. № 249.

[2] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. С.422.

[3] Там жа.

Для манархісцкіх груповак Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Ковенскай губерняў і Царства Польскага быў распрацаваны асобны праект выбарчай платформы. У яго аснову была пакладзена агульнарасійская платформа СРН, але больш адкрыта праяўляўся шавінізм у адносінах да палякаў і яўрэяў[1]. На гэтай платформе з чарнасоценцамі блакіраваўся "Саюз 17 кастрычніка". Як ужо адзначалася, іх альянс выліўся ў стварэнне ў 1906 г. "Рускага ўскраіннага саюза" (РУС), які рэзка актывізаваў сваю дзейнасць у перадвыбарны перыяд. У заходніх губернях былі створаны камітэты РУС з аддзеламі ў паветах, гарадах і мястэчках[2].

Значную ролю ў аб'яднанні правых сіл адыгрывалі праваслаўныя брацтвы, якія адрадзілі сваю дзейнасць у заходніх губернях яшчэ ў апошняй трэці XIX ст., і некаторыя дзеячы праваслаўнай царквы. Сярод іх вылучаўся архіепіскап мінскі і тураўскі Міхаіл (П. Цемнарусаў). Ён афіцыйна ўзначаліў "рускія" перадвыбарчыя камітэты Мінскай губерні. У разасланых па епархіі цыркулярах архіепіскап абавязваў гарадскіх і сельскіх святароў садзейнічаць абранню толькі "сапраўдных рускіх"дэпутатаў[3].

Утвораная згодна з новым выбарчым законам "руская" курыя ў Віленскай губерні праводзіла свае выбары асобна. Як і прадугледжвалася законам, ад "рускага" насельніцтва губерні былі абраны два дэпутаты: таварыш пракурора віленскага акружнога суда, прыдворны саветнік Г. Замыслоўскі і протаіерэй Беразвецкага жаночага манастыра А. Вяраксін (абодва правыя манархісты). Ад астатняга насельніцтва ў Думу прайшло пяць дэпутатаў: селянін Свянцянскага павета М. Цывунеліс, памешчык Г. Свянціцкі, дырэктар віленскага зямельнага банка І. Мантвіл, магістр багаслоўя Пецярбургскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі, законавучыцель рэальнага вучылішча і жаночай гімназіі ў Вільні С.Мацыевіч, буйны землеўладальнік С. Ваньковіч[4].

У Гродзенскай губерні, дзякуючы падтрымцы "Сафійскага праваслаўнага брацтва", правыя правялі ў Думу шэсць дэпутатаў з сямі. У Віцебскай губерні яны занялі ўсе шэсць дэпутацкіх месцаў. Вострая палітычная барацьба, якая разгарнулася ў Мінскай губерні паміж польскімі землеўладальнікамі і правымі, завяршылася на карысць апошніх. У Думу прайшло дзевяць прадстаўнікоў РУС.

Вынікі выбараў у Магілёўскай губерні практычна былі прадвырашаны складам выбаршчыкаў. Са 123 выбаршчыкаў памешчыкі мелі 64 галасы, буйныя буржуа – 12, гараджане – 10, сяляне – 35, рабочыя – адзін. Большасцю галасоў абавязковым дэпутатам ад сялян быў абраны Ф. Шаўцоў (Рагачоўскі павет), ад памешчыкаў – І. Сазановіч, ад гарадскіх курый – епіскап гомельскі Мітрафан (Д. Краснапольскі). Акрамя таго, у Думу былі абраны гомельскі павятовы прадвадзіцель дваранства М. Ладамірскі, клімавіцкі павятовы прадвадзіцель дваранства фон Гюбенет, настаяцель царквы ў сяле Бяльнова-Сялец Быхаўскага павета В. Галынец[5].

У цэлым у III Дзяржаўную думу ад пяці заходніх губерняў было выбрана 36 дэпутатаў. Сярод іх 12 памешчыкаў (33,3 %), сем прадстаўнікоў правас-

---

[1] Витебские губернские ведомости. 1907. 14 июля.

[2] *Забаўскі М.М.* Дзяржаўная дума ў палітычным жыцці Беларусі (1906–1907 гг.). С.15.

[3] *Забаўскі М.М.* Праваслаўная царква ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі (1907–1912 гг.) // Наш радавод. Кн.4. (Частка 3). Гродна, 1992. С.692.

[4] *Забаўскі М.М.* Дзяржаўная дума ў палітычным жыцці Беларусі (1906–1907 гг.). С.15.

[5] Могилевщина. Могилев, 1991. С.32.

лаўнага духавенства (19,3 %), адзін каталіцкі святар (2,9 %), пяць чыноўнікаў (14 %), 11 сялян (30,5 %)[1].

III Дзяржаўная дума пачала работу 1 лістапада 1907 г. Па свайму класаваму складу, палітычнаму абліччу яна цалкам адпавядала інтарэсам царызму. У цэлым па Расійскай імперыі ўрадавыя партыі атрымалі 61 %, ліберальныя – 26, дэмакраты – 6 % месцаў у Думе. Што тычылася пяці заходніх губерняў, тут прадстаўнікі ўрадавых партый склалі 80,5 %[2].

Ніводная з думскіх фракцый не атрымала абсалютнай большасці месцаў у Думе. Парламенцкая большасць залежала ад акцябрыстаў, якія блакіраваліся або з правымі, або з кадэтамі. Дзве думскія большасці – праваакцябрысцкая і акцябрысцка-кадэцкая – складалі галоўную асаблівасць трэцячэрвеньскай сістэмы. Такое становішча было выгадна ўраду, бо давала яму магчымасць лавіравання паміж памешчыкамі і буржуазіяй.

Дэпутаты ад пяці заходніх губерняў размеркаваліся наступным чынам: 19 чалавек увайшло ў фракцыю думскіх правых, сем дэпутатаў аднеслі сябе да памяркоўна-правых, чатыры далучыліся да акцябрыстаў, адзін – да мірабнаўленцаў, шэсць дэпутатаў стварылі польска-літоўска-беларускую групу. У левым лагеры не апынулася ніводнага з 36 дэпутатаў[3].

**Увядзенне земстваў.** Як ужо адзначалася вышэй, 1 студзеня 1864 г. у Расійскай імперыі было прынята "Палажэнне аб губернскіх і павятовых земскіх установах". Згодна з гэтым дакументам да канца 70-х гг. земскія ўстановы былі створаны ў 34 губернях Расіі. На Беларусь, Літву і некаторыя іншыя нацыянальныя раёны палажэнне аб земствах не распаўсюджвалася. Тлумачылася гэта тым, што хоць правы земстваў і былі даволі абмежаванымі, усё ж гэта быў адзіны ў Расіі дзяржаўны інстытут, што грунтаваўся на выбарным пачатку і ў некаторай ступені даваў магчымасць праявіцца грамадскай самадзейнасці. Механізм выбараў у земскія ўстановы быў абумоўлены маёмасным і саслоўным цэнзам і забяспечваў перавагу памеснага дваранства, што не адпавядала ўмовам заходніх губерняў, дзе царскі ўрад пасля паўстання 1863 г. праводзіў палітыку эканамічнага падрыву польскага землеўладання.

Да пытання аб увядзенні земстваў у заходніх губернях звярнуліся ў 1909 г. у сувязі з праектам, які быў унесены правымі ў Дзяржаўны савет. Праект прадугледжваў змяненне парадку выбараў у верхнюю заканадаўчую палату ад заходніх губерняў. Справа ў тым, што з-за адсутнасці земскіх устаноў выбары тут праводзіліся дваранскімі сходамі, дзе колькасна пераважалі памешчыкі польскага паходжання. На думку правых, увядзенне ў заходніх губернях земстваў на аснове нацыянальных курый дазволіла б пакончыць з манаполіяй польскага прадстаўніцтва ў Дзяржаўным савеце. Савет міністраў распрацаваў законапраект "Аб выкарыстанні Палажэння аб земскіх установах 12 чэрвеня 1890 г. да губерняў Віцебскай, Валынскай, Кіеўскай, Мінскай, Магілёўскай, Падольскай". У адрозненне ад палажэння 1890 г. маёмасны цэнз выбаршчыкаў быў паніжаны ўдвая. Разам з тым, каб забяспечыць перавагу памешчыкаў, было вырашана, што сяляне маглі пасылаць не больш за трэць гласных у павятовыя земскія сходы, а ў губернскія земствы сялянскія прадстаўнікі не дапускаліся наогул[4].

---

[1] *Забаўскі М.М.* Дзяржаўная дума ў палітычным жыцці Беларусі (1906–1907 гг.). С.16.

[2] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. С.424.

[3] *Забаўскі М.М.* Дзяржаўная дума ў палітычным жыцці Беларусі (1906–1907 гг.). С.17.

[4] *Аврех А.Я.* Царизм и третьеиюньская система. С.94.

Для забеспячэння перавагі рускім памешчыкам замест саслоўных курый уводзіліся нацыянальныя: "рускія" і "польскія". Быў прыдуманы і штучны прынцып размеркавання колькасці гласных па курыях: бралася сярэднеарыфметычнае ад сумы працэнтаў колькасці выбаршчыкаў дадзенай нацыянальнасці па губерні і кошту іх нерухомай маёмасці ў павятовым вылічэнні. Далучаючы да "рускай" курыі праваслаўных беларускіх сялян, улады забяспечвалі такім чынам у Магілёўскай, Мінскай і Віцебскай губернях яе большасць на выбарах. У Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губернях з-за перавагі ў многіх паветах католікаў, якіх адносілі да палякаў, царскі ўрад не адважыўся ўводзіць выбарнае земства[1].

Законапраект быў прыняты Думай з нязначнымі папраўкамі, але Дзяржаўны савет адхіліў яго. Мікалай II распусціў на тры дні Думу і Дзяржаўны савет і падпісаў законапраект на падставе 87-га артыкула Асноўных законаў. Прыняцце закона насуперак волі большасці членаў Дзяржаўнага савета па надзвычайнаму артыкулу азнаменавала крызіс трэцячэрвеньскай сістэмы.

Нягледзячы на антыдэмакратычны характар выбараў, земствы, уведзеныя ў Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай губернях, змаглі станоўча паўплываць на развіццё мясцовай гаспадаркі, павышэнне культуры земляробства і жывёлагадоўлі. Земскія ўправы адкрывалі бальніцы, школы, стваралі кааператыўныя таварыствы, сельскагаспадарчыя гурткі, пракатныя пункты сельскагаспадарчых машын і г.д.

Аднак у тым, што тычылася развіцця беларускай нацыянальнай культуры, мовы, земствы не аказвалі ніякай падтрымкі. Больш таго, перапоўненыя прадстаўнікамі рускіх і польскіх нацыяналістаў, яны ў сваёй дзейнасці цалкам ігнаравалі мову, культуру і нацыянальныя патрэбы беларусаў[2].

**Барацьба "заходнерускіх" і польскіх нацыяналістычных груповак з беларускім нацыянальным рухам**. Змена палітычнай сітуацыі пасля паражэння рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. садзейнічала ўмацаванню сіл і пазіцый "заходнерусаў", што здаўна вялі ў Беларусі барацьбу за "магутнасць і недзялімасць Расіі"[3].

У 1907 г. у Вільні апрача таварыства "Крестьянин" быў заснаваны так званы "Окраинный Союз". Як і "Крестьянин", ён ставіў сваёй мэтай узмацненне расійскай культуры, дзяржаўнасці і самабытнасці на заходняй "окраине России". "Заходнерусізм" уваходзіў у сістэму расійскага нацыяналізму як адна з яго састаўных частак. Гэта знайшло практычнае ўвасабленне ў ходзе выбараў у III, а потым і ў IV Дзяржаўную думу, а таксама падчас выбараў у земскія ўстановы. "Заходнерускія" дэлегацыі пачынаюць з'яўляцца ў пецярбургскіх салонах, кабінетах міністраў, на прыёмах самога цара. Яны падаюць петыцыі, адрасы, хадайніцтвы, у якіх абараняюць інтарэсы рускай культуры ў Беларусі. У адрозненне ад папярэдняй эпохі, калі "заходнерусізм" цалкам скіраваўся на барацьбу з паланізмам, цяпер ён павінен быў усё больш супрацьстаяць беларускаму нацыянальнаму руху, які рос і пашыраўся ў краі. Ініцыятыву ў гэтай барацьбе ўзяў на сябе штотыднёвы часопіс "Окраина России". Галоўным аб'ектам для нападак ён абраў беларускую мову. "Апошнім часам загаварылі аб асаблівай беларускай мове, – пісаў рэдактар часопіса Кулакоўскі. – Выраз "беларуская мова" пачаў ужывацца нават у некаторых афіцыйных актах па Міністэрству народнай асветы. Але мы

---

[1] *Забаўскі М.М.* Дзяржаўная дума ў палітычным жыцці Беларусі (1906 – 1907 гг.). С.28.

[2] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. С.427.

[3] *Цьвікевіч А.* "Западно-руссизм". Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. С.305.

смеем сцвярджаць, што гэтая беларуская "мова" існуе толькі тэарэтычна. Даволі толькі зазірнуць у капітальную працу нашага аўтарытэтнага вучонага Я. Карскага, каб зрабілася ясным, што існуе толькі беларускі дыялект ("наречие"), а не беларуская мова"[1].

Новую тактыку барацьбы з беларускім нацыянальным рухам прапанаваў член віленскай суполкі "Крестьянин" Л. Саланевіч. Пры падтрымцы П. Сталыпіна ён у верасні 1908 г. прыступіў да стварэння псеўдабеларускай арганізацыі "Белорусское общество". 9 лютага 1909 г. выйшаў першы нумар газеты "Белорусская жизнь", у якой абвяшчалася праграма "Белорусского общества". У перадавіцы "К белорусской интеллигенции" ўказвалася, што праўленне "Белорусского общества" ставіць сваёй мэтай аб'яднаць "тыя слабыя яшчэ інтэлігентныя сілы, якія мае беларуская народнасць у цяперашні час"[2]. Далей пісалася, што "ў нас, беларусаў, да гэтага часу няма ніводнай сваёй незалежнай штодзённай газеты" і ўказвалася, што гэту ролю бярэ на сябе "Белорусская жизнь". Але, імкнучыся заваяваць давер беларусаў, Саланевіч, відаць, перастараўся. Крытыка палітыкі ўрада, якую ён разгарнуў у газеце, не спадабалася ўладам. У выніку першы нумар газеты быў канфіскаваны і выданне прыпынена амаль на два гады. Толькі ў студзені 1911 г. "Белорусская жизнь" пачала выходзіць штодзённа. Саланевіч зрабіў адпаведныя высновы, і Сталыпін забяспечыў яму самую высокую ў краі ўрадавую субсідыю – 2400 руб. у месяц[3]. "Белорусская жизнь" выходзіла на рускай мове і па сваёй сутнасці праводзіла антынацыянальную палітыку, скіраваную супраць беларускага народа. Восенню 1911 г. "Белорусская жизнь" цалкам адмовілася ад маскіроўкі, што праявілася і ў замене назвы. Выданне стала называцца "Северо-западная газета".

Апрача "заходнерускіх" груповак палітычнага характару ("Крестьянин", "Окраинный Союз", "Национальный Союз" і г. д.) сярод заходнерусаў было нямала даволі вядомых асоб, для якіх першую і галоўную ролю ігралі культурныя меркаванні. Даследчыкі беларускай гісторыі, этнаграфіі, археалогіі (А.Сапуноў, Е. Раманаў, М. Нікіфароўскі і інш.) шмат зрабілі для вывучэння Беларускага краю. Але, як адзначаў А. Цвікевіч, аналіз іх дзейнасці "не пакідае ніякага сумнення ў тым, што ў іхняй "западно-русской" свядомасці, у іхняй псіхалогіі жылі дзве істоты: адна мясцовая – беларуская і другая агульна-расійская"[4].

Такім чынам, Беларусь у "заходнерускай" канцэпцыі заўсёды была толькі часткай "адзінай недзялімай Расіі", а беларуская мова – "арганічнай галіной вялікай расійскай мовы". Ступень жа самабытнасці для розных даследчыкаў была рознай: у адных – большай, у другіх – меншай. Але для ўсіх "заходнерусаў" яна была толькі праявай краёвасці таго "правінцыяльнага багацця", з якога Расія мусіла "чэрпаць поўнай рукой"[5].

Даволі актыўна выступалі супраць беларускага нацыянальнага адраджэння і польскія памешчыцка-клерыкальныя групоўкі. Погляды прадстаўнікоў польскага руху на беларускае пытанне адлюстроўваліся ў перыядычных выданнях.

---

[1] Цыт. па: *Цьвікевіч А.* "Западно-руссизм". Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. С.315.

[2] Белорусская жизнь. 1909. 9 февр.

[3] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. С.426.

[4] *Цьвікевіч А.* "Западно-руссизм". Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. С.322.

[5] Там жа. С.326.

Правадніком ідэі нацыянальных дэмакратаў з'яўляўся "Гонец Віленьскі" і "Кур'ер Літэўскі". У той жа час эндэцкія настроі пераважалі сярод большасці польскіх землеўладальнікаў і інтэлігенцыі. Палякі разумелі, што дасягненне палітычнай аўтаноміі ў новых абставінах немагчыма, і імкнуліся абараніць дасягнутае: польскі друк, польскія прыватныя школы, большая свабода ў галіне культуры, дзейнасць каталіцкага касцёла. Абараняючы ўсё польскае, эндэкі ў той жа час адмаўлялі ўсё беларускае.

Адкрыта варожыя пазіцыі ў адносінах да беларускага руху занялі краёўцы-кансерватары. Галоўная прычына гэтага ўтойвалася ў сацыяльных супярэчнасцях. Імкнучыся абараніць свабоды, заваяваныя ў ходзе рэвалюцыі, і адначасова захаваць уласнае землеўладанне, краёўцы-кансерватары заклікалі ісці разам з урадам. Прыкладна такой жа палітыкі прытрымліваліся і польскія дэпутаты ад Беларусі і Літвы ў III і IV Дзяржаўных думах, якія стварылі "польска-беларуска-літоўскае кола". Аналіз іх дзейнасці паказвае, што гэта была па сутнасці польская група[1].

Іншых поглядаў на беларускае нацыянальнае адраджэнне прытрымліваліся краёўцы-лібералы. Яны групаваліся вакол газеты "Przegląd Wilenski". У першым нумары выдання быў надрукаваны артыкул "Маладая Беларусь", прысвечаны беларускаму руху. "Аб сваіх бедах, – гаварылася ў артыкуле, – беларускі народ хоча размаўляць на роднай мове. Ён ахвотна цягнецца да той адзінай крыніцы, адкуль цячэ яго мова. Тут ён даведваецца, што яго песні і звычаі не хамскія і годныя знявагі, а маюць права на існаванне і развіццё, як і ў іншых народаў..."[2].

Ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння знаходзілі водгук і сярод некаторай часткі каталіцкага духавенства. Ксёндз А. Станкевіч у сваіх творах называў імёны тых, хто не толькі падтрымліваў, але і сам працаваў на карысць гэтага руху, напрыклад ксяндзы Ф. Абрантовіч, Ф. Будзька, біскуп С. Дзенісевіч. Заслугі ў справе беларускага адраджэння меў і ксёндз А. Астрамовіч. Яго вершы (пад псеўданімам А. Зязюля) друкаваліся ў выданнях "Наша Ніва", "Беларус" і інш.

Нягледзячы на тое што прыхільнікаў беларускага адраджэння сярод каталіцкага духавенства станавілася ўсё больш, паланізацыйныя тэндэнцыі ў дзейнасці касцёла, як і раней, пераважалі. Большасць каталіцкага духавенства, як і польскіх землеўладальнікаў і інтэлігенцыі, варожа ставілася да беларускай мовы і наогул да ўсялякіх праяў беларускага руху.

**Выбарчая кампанія і вынікі выбараў у Беларусі ў IV Дзяржаўную думу.** Выбарчая кампанія ў IV Дзяржаўную думу праходзіла пад сцягам узмацнення ролі дваранства ў грамадска-палітычным жыцці краіны. Па губернях былі разасланы цыркуляры, падпісаныя міністрам унутраных спраў А. Макаравым, дзе ўказвалася на неабходнасць весці выбарчую кампанію ў саюзе і згодзе з дваранствам, абапіраючыся на праваслаўнае духавенства.

Выбары адбыліся ў верасні-кастрычніку 1912 г. у Віленскай губерні. Як і раней, яны праходзілі асобна ад "рускай" курыі і ад нярускага насельніцтва. Ад "рускай" курыі дэпутатам быў зноў абраны Г. Замыслоўскі, а таксама праваслаўны святар У. Юзвюк[3].

---

[1] *Смалянчук А.Ф.* Польскі нацыянальны рух і беларускае адраджэнне XX ст. Гродна, 1995. С.22.

[2] Цыт. па: *Смалянчук А.Ф.* Польскі нацыянальны рух і беларускае адраджэнне пачатку XX ст. С.23.

[3] *Забайскі М.М.* Дзяржаўная дума ў палітычным жыцці Беларусі (1906–1907 гг.). С.20, 21.

У іншых губернях выбары праходзілі таксама па старому сцэнарыю. У выніку, нягледзячы на вострую барацьбу паміж рознымі палітычнымі сіламі, пераважная большасць выбаршчыкаў пайшла за правымі і рускімі нацыяналістамі.

Як і ў III Думе, царызму ўдалося захаваць дзве большасці: права-акцябрысцкую ў 283 і акцябрысцка-кадэцкую ў 226 галасоў[1]. І хоць колькасць акцябрыстаў значна скарацілася, ім удалося захаваць у IV Думе ролю "цэнтра".

Дэпутаты ад пяці беларускіх губерняў па партыйных групоўках размеркаваліся наступным чынам: чатыры далучыліся да фракцыі правых; адзін (В. Дрыбіцаў) выступаў як прадстаўнік "Саюза 17 кастрычніка"; дэпутаты ад нярускага насельніцтва Віленскай губерні стварылі польска-літоўска-беларускую групу; Ф. Лашкевіч увайшоў у фракцыю прагрэсістаў, астатнія далучыліся да фракцыі рускіх нацыяналістаў і памяркоўна-правых[2].

Такім чынам, сутнасць трэцячэрвеньскай сістэмы заключалася ў тым, што ў Думе (і трэцяга, і чацвёртага склікання) стварыўся саюз памешчыкаў і буржуазіі праз прадстаўнікоў іх партый і арганізацый. Мэта гэтага саюза – імкненне царызму вырашыць аб'ектыўныя гістарычныя задачы, што стаялі перад краінай, зверху, не мяняючы сутнасці існуючага ладу. Для нацыянальных рэгіёнаў, да якіх адносілася і Беларусь, гэта вылівалася ў жорсткі нацыянальны прыгнёт, які ўплываў на ўсе сферы грамадскага жыцця.

## 2. Становішча ў рэвалюцыйным лагеры. Змены ў рабочым і сялянскім руху

**Крызіс у рэвалюцыйных партыях**. У ходзе наступлення контррэвалюцыі і рэакцыі многія арганізацыі левых партый былі ліквідаваны ці вельмі аслаблены. Паводле няпоўных звестак, у 1907–1909 гг. царскімі судамі былі асуджаны па палітычных справах больш за 26 тыс. чалавек, з іх да смяротнага пакарання прыгаворана 5086[3]. Дэпартамент паліцыі ледзь ці не ў кожнай падпольнай арганізацыі займеў сакрэтных агентаў-асведамляльнікаў, у тым ліку і ў кіруючых структурах партый. У 1908 г. быў выкрыты як правакатар Я. Азэф – член ЦК ПСР і кіраўнік яе баявой арганізацыі. У студзені 1912 г. членам ЦК бальшавіцкай партыі стаў агент Дэпартамента паліцыі Р. Маліноўскі, выбраны неўзабаве дэпутатам Дзяржаўнай думы. У выніку частых правалаў і масавых рэпрэсій дзейнасць мясцовых арганізацый РСДРП, ПСР, Бунда і іншых левых партый была дэзарганізавана. Назіраўся масавы адток з іх інтэлігенцыі. Стомленасць, апатыя і расчараванне вынікамі працяглай і цяжкай барацьбы ў гады рэвалюцыі вызначалі настрой працоўных.

Спробы аднаўлення партыйных арганізацый, як правіла, заканчваліся беспаспяхова. Усяго некалькі месяцаў пратрымалася адноўленая ў лютым 1908 г. Мінская група РСДРП. У сярэдзіне таго ж года былі ліквідаваны Браслаўская, Капыльская, Старадарожская і Хоцімская групы РСДРП. Нягледзячы на ўсе намаганні, так і не быў адноўлены Паўночна-Заходні саюз РСДРП. Дзейнасць гэтай партыі ў Беларусі пасля трэцячэрвеньскага дзяржаўнага перавароту праяўлялася ў функцыяніраванні нешматлікіх

[1] *Аврех А.Я.* Царизм и третьеиюньская система. С.164.

[2] *Забаўскі М.М.* Дзяржаўная дума ў палітычным жыцці Беларусі (1906–1907 гг.). С.22, 23.

[3] История Коммунистической партии Советского Союза. М., 1967. Т.2. С.239.

прапагандысцкіх гурткоў і эпізадычным распаўсюджанні нелегальных выданняў[1].

Рэзка скарацілася колькасць прафесійных саюзаў. У дакладзе аб дзейнасці Бунда, падрыхтаваным для Капенгагенскага кангрэса II Інтэрнацыянала (1910), канстатавалася, што большасць саюзаў была закрыта, а тым, якія захаваліся, даводзілася весці непасільную барацьбу з праследаваннем рэакцыі, з аднаго боку, і з падаўленым настроем мас – з другога[2].

У такіх умовах сярод меншавікоў, бундаўцаў, эсэраў, беларускіх грамадаўцаў узмацніўся ўплыў прыхільнікаў ідэі легалізацыі партыйных арганізацый, г. зн. пераходу да дзейнасці, дазволенай законам. На практыцы гэта азначала адмову ад рэвалюцыйных праграм і ліквідацыю саміх партый, паколькі пры трэцячэрвеньскім рэжыме легальна можна было займацца толькі культурна-асветніцкай дзейнасцю, стварэннем рознага роду кааператываў, кас узаемадапамогі і інш. На такі шлях стала БСГ: у другой палове 1907 г. яна ліквідавала свае нелегальныя структуры і як партыя часова перастала існаваць. Лідэры і актыў Грамады засяродзіліся на нацыянальнай культурна-адраджэнскай дзейнасці ў газеце "Наша ніва".

Нарада ў ЦК Бунда ў лютым 1908 г. фармальна прызнала неабходнасць умацавання нелегальных арганізацый, але адначасова рэкамендавала ім па магчымасці прыстасоўвацца да легальных умоў дзейнасці. Легалізатарскі ўхіл у Бундзе пацвердзіла VIII канферэнцыя, якая адбылася ў кастрычніку 1910 г. з удзелам прадстаўнікоў ад Варшавы, Вільні, Лодзі, Гродна, Беластока, Дзвінска, Пінска, Гомеля, Бабруйска і Рыгі. Галоўнымі ў яе парадку дня былі пытанні нацыянальна-культурнай дзейнасці: аб заканадаўчым устанаўленні для яўрэйскіх гандлёвых служачых суботняга дня адпачынку, аб барацьбе за раўнапраўе яўрэйскай мовы (ідыш) і аб рэфармаванні яўрэйскай абшчыны (кагала). Па апошнім пытанні канферэнцыя выказалася за пераўтварэнне абшчыны на аснове ўсеагульнага, роўнага, тайнага і прамога выбарчага права з прагрэсіўным падаткаабкладаннем маёмасных пластоў яўрэйскага насельніцтва замест традыцыйнага каробачнага збору. Удзельнікі канферэнцыі ў адпаведнай рэзалюцыі заявілі аб неабходнасці арганізацыі шырокага масавага руху вакол абшчыны і заклікалі бундаўцаў пранікнуць у яе кіраўнічыя ўстановы з мэтай барацьбы "супраць алігархіі і рабінаўскага клерыкалізму". Канферэнцыя абавязала мясцовыя арганізацыі Бунда засяроджваць палітычную дзейнасць галоўным чынам вакол пытанняў, якія абмяркоўваліся ў Дзяржаўнай думе[3].

Крызіс ахапіў і бальшавіцкую фракцыю РСДРП, у якой з'явілася плынь "адзавістаў". Апошнія лічылі бессэнсоўнай дзейнасць сацыял-дэмакратычнай фракцыі ў III Дзяржаўнай думе і патрабавалі адклікаць ("адазваць") яе і перайсці да байкота Думы, адмовіцца ў цэлым ад выкарыстання легальных формаў работы ў прафсаюзах, рабочых клубах і іншых добраахвотных грамадскіх аб'яднаннях. Гэта пагражала поўнай ізаляцыяй партыі ад мас, пераўтварэннем яе ў палітычна бяссільную падпольную секту.

Спроба пераадолення ідэйна-арганізацыйнага крызісу ў РСДРП была зроблена ў снежні 1908 г. на V (агульнарасійскай) канферэнцыі ў Парыжы, у якой удзельнічалі прадстаўнікі Пецярбургскай, Маскоўскай, Цэнтральна-прамысловай абласной, Уральскай і Каўказскай арганізацый, а таксама СДКПіЛ, Бунда і Літоўскай сацыял-дэмакратыі. Канферэнцыя выступіла

[1] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.298–302.

[2] Бунд в Беларуси 1897–1921. Документы и материалы. Мн., 1997. С.332–333, 338.

[3] Там жа. С.344–352.

супраць замены рэвалюцыйнай марксісцкай партыі легальнай рабочай партыяй, абвясціла рашучую барацьбу ліквідатарам і падкрэсліла неабходнасць спалучэння нелегальнай і легальнай дзейнасці, перш за ўсё выкарыстання ў інтарэсах партыі думскай трыбуны.

Аднак дзейнасць ліквідатараў, адзавістаў і іншых, паводле вызначэння бальшавікоў-ленінцаў, антыпартыйных груповак працягвалася. У барацьбе з імі прыхільнікі У. Леніна абапіраліся на блок з меншавікамі-партыйцамі (Г. Пляханаў і інш.), сумесна з якімі з канца 1910 г. пачалі выдаваць за мяжой нелегальную "Рабочую газету", а ў Расіі – легальную газету "Звезда".

Адначасова з мэтай пераадолення крызісу ў партыі бальшавікі разгарнулі падрыхтоўку новай агульнарасійскай канферэнцыі. Яна адбылася ў студзені 1912 г. у Празе, дзе сабраліся дэлегаты, якія прадстаўлялі каля 20 партыйных арганізацый, што дзейнічалі ў Расіі, а таксама бальшавіцкія замежныя цэнтры і групы. З ліку дэлегатаў толькі двое належалі да меншавікоў-партыйцаў, а ўсе астатнія былі бальшавікамі (сярод іх сакрэтныя агенты Дэпартамента паліцыі Р. Маліноўскі і А. Раманаў). Заходні рэгіён (Вільню і Дзвінск) прадстаўляў М. Гурвіч. ЦК Бунда, ЦК Сацыял-дэмакратыі Латышскага краю, Галоўнае праўленне СДКПіЛ, сацыял-дэмакратычная фракцыя III Дзяржаўнай думы, Каўказскі абласны камітэт, рэдакцыя венскай "Правды" Л. Троцкага, група "Вперед" ("адзавісты") і Г. Пляханаў адмовіліся ад удзелу ў канферэнцыі. Тым не менш яна канстытуіравалася як агульнапартыйная, насуперак пратэстам меншавікоў-партыйцаў. Склад дэлегатаў прадвызначыў прынятыя імі рашэнні. Ліквідатары былі абвешчаны плынню, якая "сваімі паводзінамі канчаткова паставіла сябе па-за партыяй". Зацверджаная канферэнцыяй перадвыбарная платформа ў IV Думу прадугледжвала звяржэнне царызму і ўсталяванне дэмакратычнай рэспублікі, канфіскацыю ўсёй памешчыцкай зямлі, увядзенне 8-гадзіннага рабочага дня. Пагадненні з буржуазнай дэмакратыяй дапускаліся бальшавікамі, як і раней, толькі на другой стадыі выбараў[1].

У процівагу Пражскай канферэнцыі ў жніўні 1912 г. была склікана "канферэнцыя арганізацый РСДРП" у Вене, у якой удзельнічалі меншавікі, бундаўцы, латышскія сацыял-дэмакраты, трацкісты, "адзавісты". Яны сумесна выступілі супраць бальшавікоў, абвінаваціўшы іх у антыпартыйным пераваροце, і заклікалі мясцовыя арганізацыі РСДРП не падпарадкоўвацца рашэнням Пражскай канферэнцыі. Утворанае ў Вене аб'яднанне зыходзіла з таго, што арганізацыя пралетарыяту магчыма толькі "ў працэсе прыцягнення рабочых мас да адкрытага грамадска-палітычнага жыцця"[2]. Таму бальшавіцкія лозунгі рэвалюцыйнага заваявання дэмакратычнай рэспублікі і канфіскацыі памешчыцкай зямлі былі ім адхілены. З трохчленнай праграмнай платформы бальшавікоў Венская канферэнцыя ўключыла ў сваю платформу толькі лозунг 8-гадзіннага рабочага дня. Разам з тым яна ўхваліла бундаўскае патрабаванне нацыянальна-культурнай аўтаноміі.

Такім чынам, у 1912 г. фактычна завяршылася ідэйна-арганізацыйнае афармленне партыі бальшавікоў і меншавікоў, кожная з якіх працягвала карыстацца назвай РСДРП. Вызначыліся таксама месца і роля Бунда ў сацыял-дэмакратычным руху як паплечніка меншавіцкай партыі.

Рашэнне Пражскай канферэнцыі ў Беларусі падтрымаў Палескі камітэт РСДРП, адноўлены вясною 1912 г. на базе Гомельскай гарадской арганізацыі. У той час яна налічвала каля 40 чалавек, якія рэгулярна плацілі

[1] История Коммунистической партии Советского Союза. Т.2. С.356–360.

[2] Там жа. С.387.

членскія ўзносы. Палескі камітэт падтрымліваў сувязі з ЦК, замежнымі цэнтральнымі арганізацыямі партыі – "Рабочей газетой" і часопісам "Социал-демократ", а таксама з новай легальнай бальшавіцкай газетай "Правда", якая пачала выдавацца ў Пецярбургу з мая 1912 г. Паводле ацэнкі "Социал-демократа", "члены группы" (Палескага камітэта. – *М.Б.*) з'яўляліся перакананымі партыйцамі абедзвюх фракцый (бальшавікоў і меншавікоў-партыйцаў) і адлічвалі ўстаноўленыя 10 % на карысць ЦК. Пацвярджала гэту ацэнку і "Рабочая газета". "Усе члены арганізацыі, бальшавікі і меншавікі, аднолькава партыйцы і праціўнікі ўсякага роду пагадненняў з ліквідатарамі"[1]. Аднак абласной арганізацыяй новы Палескі камітэт, у адрозненне ад свайго папярэдніка, які дзейнічаў у 1904–1905 гг., так і не стаў. Да разгрому летам 1914 г. ён фактычна заставаўся Гомельскай гарадской арганізацыяй. Спробы трактаваць яго як абласную арганізацыю нічым не абгрунтаваны[2].

Глыбокі ідэйны і арганізацыйны крызіс пасля трэцячэрвеньскага перавароту перажывала і ПСР. Выказваючы пратэст супраць новага, адкрыта рэакцыйнага, прапамешчыцкага выбарчага закона, яна вырашыла байкатаваць выбары ў III Дзяржаўную думу і тым самым рэзка звузіла магчымасць пашырэння свайго ўплыву на масы. У мясцовых арганізацыях ПСР нярэдка было па два-тры сакрэтныя асведамляльнікі паліцыі, што прыводзіла да частых правалаў. Цяжкі ўдар па аўтарытэту кіраўніцтва партыі нанесла згаданае вышэй выкрыццё правакатара Азэфа. У лютаўскім нумары цэнтральнага органа ПСР "Знамя труда" (1909) ЦК заявіў аб сваім выхадзе ў адстаўку і роспуску арганізацыі. У паведамленні аб V з'ездзе Савета партыі, які прыняў адстаўку ЦК, гаварылася: "Для ўсякай партыі і ва ўсякую эпоху раскрыццё такой каласальнай правакатуры, як правакацыя Азэфа, было б цяжкім маральным ударам. Нашай партыі давялося перанесці гэты ўдар у самы неспрыяльны і цяжкі момант – эпоху поўнага трыумфу контррэвалюцыі, расчаравання і прыгнечанасці слабых духам, уцёкаў ад работы стомленых, цяжкага перанапружання сіл, якія заставаліся вернымі абавязку"[3]. Большасць з ацалелых эсэраўскіх арганізацый у гэты час не праяўляла актыўнасці, у тым ліку Паўночна-Заходні абласны камітэт, які ў 1909 г. не меў нават сувязі з ЦК. Колькасць членаў мясцовых арганізацый была нязначнай (у Віцебску – 23, Вільні – сем, Дзвінску – пяць і г.д.). Некаторыя сімптомы ажыўлення дзейнасці ў асобных месцах з'явіліся ў 1911 – першай палове 1912 г. Аднак з крызіснага стану эсэры ў Беларусі не выйшлі і ў гэты перыяд[4].

**Рабочы рух**. Ва ўмовах жорсткага ваенна-паліцэйскага рэжыму, які ўсталяваўся ў ходзе падаўлення рэвалюцыі, маштабы і характар рабочага руху істотна змяніліся. Агульная колькасць удзельнікаў стачак у чэрвені – снежні 1907 г., у параўнанні са студзенем – маем, зменшылася ў 4,3 раза, а палітычных – у 15 разоў. Паказчык за 1908 г. (9,2 тыс. стачачнікаў) толькі на 1 тыс. перавышаў паказчык за папярэднія сем месяцаў. Найбольшы спад назіраўся ў 1909–1910 гг., калі сумарная колькасць стачачнікаў знізілася да 4,6 тыс., а палітычных – да 0,6 тыс.[5]

---

[1] Цыт. па: История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.317.

[2] Там жа.

[3] Цыт. па: *Бригадин П.И.* Эсеры в Беларуси (конец XIX в. – февраль 1917 г.). Мн., 1994. С.130–131.

[4] Цыт. па: *Бригадин П.И.* Эсеры в Беларуси (конец XIX в. – февраль 1917 г.). С.133–136.

[5] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.285, 312, 330.

Наступленне палітычнай рэакцыі прадпрымальнікі выкарыстоўвалі для таго, каб забраць у рабочых і эканамічныя, і сацыяльна-палітычныя заваёвы перыяду рэвалюцыі. Сярод апошніх найважнейшым было права рабочых на стварэнне прафсаюзаў і заключэнне праз іх калектыўных дамоў аб умовах найму і кантролю за прыёмам і звальненнем з працы. Абапіраючыся на закон ад 4 сакавіка 1906 г., прадпрымальнікі стварылі па галінова-прафесійнай прыналежнасці легальныя саюзы з мэтай барацьбы са стачкамі рабочых і аднаўлення на вытворчасці дарэвалюцыйных парадкаў. У 1907 г. у Віцебскай і Мінскай губернях дзейнічалі 10 такіх саюзаў з колькасцю членаў у кожным ад некалькіх дзесяткаў да некалькіх соцень[1]. Буйнейшыя з іх мелі аддзяленні ва ўсіх значных прамысловых пунктах адпаведнай галіны прамысловасці. Члены саюзаў дамаўляліся аб адначасовым прад'яўленні аднолькавых патрабаванняў да рабочых, павелічэнні працоўнага дня, зніжэнні заработнай платы, ліквідацыі прафсаюзаў, а ў выпадку іх адхілення рабочымі аб'яўлялі масавыя лакауты. У такіх умовах стачачны рух набываў вымушаны абарончы характар.

Выключную арганізаванасць і стойкасць у барацьбе за заваёвы 1905 г. (8-гадзінны працоўны дзень, права кантролю за наймам і звальненнем) праявілі 1500 рабочых гарбарных заводаў Смаргоні. Яны адстаялі гэтыя заваёвы ў ходзе агульных стачак летам 1907 г. і ў канцы 1908 – пачатку 1909 г. Першая з іх працягвалася больш за 9, а другая – больш за 10 тыдняў. Выступленнямі кіраваў цэнтралізаваны краёвы прафсаюз гарбароў. Рэгіянальны маштаб набыла ў пачатку 1908 г. стачка 4 тыс. работніц-панчошніц, якія пратэставалі супраць спроб гаспадароў аднавіць дарэвалюцыйныя ўмовы найму. Барацьба працягвалася больш за тры месяцы і закончылася перамогай работніц. Вясною 1909 г. шляхам чатырохмесячнай агульнакраёвай забастоўкі адстаялі 8-гадзінны працоўны дзень 1100 рабочых-шчаціннікаў. Усе адзначаныя выступленні выклікалі шырокі грамадскі рэзананс. Рабочыя шэрагу гарадоў Беларусі, Украіны, Прыбалтыкі, Польшчы, Расіі і нават некаторых краін Заходняй Еўропы матэрыяльна дапамагалі стачачнікам вытрымаць незвычайна працяглае і цяжкае супрацьстаянне з прадпрымальнікамі[2].

Як адзначалася вышэй, найбольшы спад пасля падаўлення рэвалюцыі назіраўся ў палітычным руху рабочых. Практычна немагчымым стала правядзенне вулічных дэманстрацый, мітынгаў і маніфестацый. Крайне рэдка адбываліся і палітычныя стачкі. Заклік ЦК РСДРП выказаць пратэст супраць суда над сацыял-дэмакратычнай фракцыяй II Дзяржаўнай думы ў лістападзе 1907 г. знайшоў водгук у двух гарадах Беларусі: аднадзённыя забастоўкі з гэтай нагоды адбыліся ў Гродне і Слоніме. У першай з іх удзельнічала 1700 рабочых 53 прадпрыемстваў, у другой – рабочыя фабрыкі суконных вырабаў і слясарнай майстэрні. Першамайскія стачкі ў 1908 г. адзначаны ў Смаргоні, Слоніме (агульная), Гродне і Хоцімску (групавыя). У 1909 г. ніякіх палітычных выступленняў рабочых у Беларусі не зафіксавана[3].

У прамысловых цэнтрах і рэгіёнах Расіі ў 1911 г. пачаўся ўздым рабочага руху. Ён значна ўзмацніўся ў 1912 г. у сувязі з расстрэлам у красавіку гэтага года некалькіх соцень бастуючых рабочых на Ленскіх залатых прыісках (Ленскім расстрэлам) і найвышэйшага ўзроўню дасягнуў у першай палове

[1] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.295–296.

[2] Там жа. С.306–308, 310–311.

[3] Там жа. С.309–310, 312.

1914 г. У Беларусі ў гэты час назіралася толькі адноснае ажыўленне выступленняў рабочых у параўнанні з 1910 г., калі ў стачках прынялі ўдзел усяго 2,1 тыс. чалавек. У 1911 г. адпаведны паказчык вырас да 2,8 тыс., а ў 1912 г. зноў знізіўся да 2,2 тыс. У 1913 г. ён павялічыўся да 8,8 тыс. Такім жа тэмпам развіваўся рабочы рух і ў студзені – ліпені 1914 г. (4,6 тыс. удзельнікаў), а ўсяго за гэты перыяд (3 гады і 7 месяцаў) улічана 18,4 тыс. стачачнікаў[1]. Параўнанне дадзенай лічбы з сумарным паказчыкам за такі ж самы па працягласці папярэдні перыяд (з чэрвеня 1907 г. да канца 1910 г.), калі ў стачках прынялі ўдзел 22 тыс. рабочых, сведчыць, што ўздыму рабочага руху ў Беларусі ў перадваенныя гады не было.

У сувязі з Ленскім расстрэлам Палескі камітэт РСДРП выдаў адозву і арганізаваў у Гомелі шэсць сходаў рабочых. Такія ж сходы адбыліся ў Віцебску, Гродне, Мінску, Слоніме, Смаргоні, Добрушы. На іх прымаліся рэзалюцыі пратэсту, якія накіроўваліся ў сацыял-дэмакратычную фракцыю Дзяржаўнай думы. Стачак салідарнасці, характэрных для прамысловых цэнтраў Расіі, у Беларусі не выяўлена.

Новым момантам у мясцовым рабочым руху ў 1912 г. было аднаўленне пасля трохгадовага перапынку першамайскіх выступленняў у форме групавых стачак, праведзеных у Мінску і Бабруйску з удзелам 650 чалавек. У 1913 г. у Брэсце, Бабруйску, Мінску, Віцебску, Гомелі, Пінску і Скідзелі адбыліся групавыя забастоўкі пратэсту супраць антысеміцкай палітыкі ўрада, якая выявілася ў "справе Бейліса" (следства і суд над кіеўскім яўрэем М.Бейлісам, абвінавачаным у рытуальным забойстве праваслаўнага хлопчыка). У гэтых забастоўках удзельнічала больш за 2 тыс. рабочых. Аднак у агульнарасійскіх палітычных выступленнях, звязаных з гадавінамі пачатку рэвалюцыі 1905 г., Ленскага расстрэлу і іншымі падзеямі, пралетарыят Беларусі не ўдзельнічаў. Вельмі слабым быў і мясцовы рух. У 1913 г. з нагоды 1 Мая баставалі толькі краўцы ў Бабруйску, а ў 1914 г. – нязначная частка рабочых Гомеля, Мазыра, Ваўкавыска і Баранавіч. Мітынгі і дэманстрацыі так і не аднавіліся. Пры гэтым эканамічны рух зноў, як і ў гады рэвалюцыі, набыў наступальны характар (у 1913 г. да наступальных адносіліся 73 % стачак)[2].

**Сялянскі рух**. Наступленне палітычнай рэакцыі, глыбокае расчараванне вынікамі рэвалюцыі і крах надзей на спрыяльнае вырашэнне аграрнага пытання ў Дзяржаўнай думе моцна паўплывалі і на сялянскі рух – яго дынаміку, формы і характар. Колькасць выступленняў сялян Беларусі ў 1908 – 1910 гг., у параўнанні з 1905–1907 гг., скарацілася больш чым у пяць разоў[3]. У той жа час стачачны рух рабочых па колькасці ўдзельнікаў зменшыўся ў 33 разы[4]. Прыведзеныя падлікі сведчаць, што спад сялянскага руху ў перыяд рэакцыі быў не такі значны, як рабочага.

З 224 сялянскіх выступленняў, улічаных за 1908–1909 гг., 160 (73 %) былі скіраваны супраць памешчыкаў і казны. Найбольш распаўсюджанай формай барацьбы ў гэты час сталі падпалы іх маёмасці (22 %). Затым ішлі захопы зямель і лясоў, барацьба за сервітуты (11,1 %), самавольны выпас жывёлы на панскіх угоддзях (9,4 %), забойствы паноў і ахоўнікаў іх маёмасці (8,4 %), парубкі лясоў (8,4 %), супраціўленне ўладам і паліцыі

[1] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.330.

[2] Там жа. С.325–328.

[3] Падлічана па: *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг. Прилож. 6 ; Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.454, 505.

[4] Падлічана па: История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.290, 312.

(5,9 %), адмаўленне ад выканання павіннасцей і выплаты падаткаў (2,3 %), забастоўкі падзёншчыкаў і парабкаў (1,8 %), іншыя формы (3,5 %)[1].

Як вынікае з гэтых даных, тэрарыстычныя формы барацьбы (падпалы і забойствы) складалі ў 1908–1909 гг. 30,4 % усіх выступленняў, а забастоўкі – толькі 1,8 %, што сведчыць аб істотнай якаснай дэградацыі сялянскага руху пасля паражэння рэвалюцыі.

У сувязі са сталыпінскай аграрнай рэформай рэзка абвастрылася барацьба вясковай беднаты з новай дробнай, сельскай буржуазіяй. Такія выступленні складалі 26,7 % ад агульнай колькасці. Паказальна, што 2/3 з іх адносіліся да падпалаў маёмасці. Таксама пачасціліся адмаўленні ад выхаду на хутары і адрубы і выпадкі супраціўлення сялян землямерам і паліцыі пры праведзенні хутарызацыі[2].

*Табліца 16.* **Удзельная вага асобных відаў сялянскіх выступленняў у Беларусі ў 1905 – сярэдзіне 1914 г., % ад агульнай колькасці выступленняў па перыядах***

| Від выступленняў | Гады | | |
|---|---|---|---|
| | 1905–1907 | 1908–1909 | 1910– сярэдзіна 1914 |
| Выступленні супраць памешчыкаў і ўлад | 99,4 | 73,0 | 71,6 |
| У тым ліку: | | | |
| захопы зямель, лугоў, пашы | 4,6 | 11,1 | 16,6 |
| забастоўкі, зняцце з работы | 24,5 | 1,8 | 0,5 |
| падпалы маёмасці | 6,2 | 22,0 | 26,2 |
| забойствы паноў і ахоўнікаў іх маёмасці | няма звестак | 8,4 | 5,0 |
| супраціўленне паліцыі і ўладам | 11,1 | 5,9 | 6,7 |
| адмовы ад выканання павіннасцей, выплаты падаткаў | 4,5 | 2,3 | няма звестак |
| палітычныя выступленні | 5,1 | – | – |
| выступленні супраць сельскай буржуазіі і хутарызацыі | 0,6 | 26,0 | 28,4 |

* Падлічана па: *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос. Приложения 7, 8, 9, 10; Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.457, 507, 511.

У 1911 г. – першай палове 1914 г. агульная колькасць выступленняў сялян павялічылася да 468 супраць 357 за такі ж па працягласці папярэдні перыяд (другая палова 1907–1910 г.)[3]. Гэтыя паказчыкі дазваляюць зрабіць выснову, што ў сялянскім руху Беларусі, у адрозненне ад рабочага, у перадваенныя гады назіраўся пэўны ўздым. Аднак у якасных адносінах яго дэградацыя паглыбілася. Удзельная вага падпалаў панскай і казённай маёмасці павялічылася да 26,2 %, а забастовак зменшылася да 0,5 %. Адносна менш улічана забойстваў памешчыкаў і ахоўнікаў іх маёмасці (5 %). У той жа час прыкметна вырасла колькасць захопаў зямлі і лясоў, у тым ліку сервітутных угоддзяў (да 16,6 %). Працягвалі абвастрацца і супярэчнасці ўнутры сялян-

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.455.

[2] Там жа. С.457.

[3] Падлічана па: *Шабуня К.И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905-1907 гг. Прилож. 5; Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.505.

ства. Удзельная вага выступленняў беднаты супраць багатых і заможных сялян павялічылася да 28,4 %. Значную большасць гэтых выступленняў складалі падпалы[1].

Змены ў характары сялянскага руху, паасобных формах і накіраванасці барацьбы ў перыяд трэцячэрвеньскага рэжыму ў параўнанні з 1905–1907 гг. прыведзены ў табл. 16.

Як вынікае з табл. 16, у 1908 г. – сярэдзіне 1914 г., у параўнанні з часам рэвалюцыі, рэзка ўзрасла ўдзельная вага сялянскіх выступленняў супраць сельскай буржуазіі і сталыпінскай хутарызацыі пры адпаведным зніжэнні ўдзельнай вагі выступленняў супраць памешчыкаў і ўлад. Апошнія, аднак, заставаліся галоўным аб'ектам, супраць якога накіроўвалася больш за 70 % выступленняў сялян. Крайне рэдкімі сталі праявы найбольш цывілізаванай формы эканамічнай барацьбы – забастоўкі сялян-падзёншчыкаў і парабкаў, якія ў 1905–1907 гг. складалі чацвёртую частку ўсіх выступленняў. Затое падпалы панскай і казённай маёмасці, якія можна характарызаваць як крайнюю форму сацыяльнай барацьбы, у 1908 г. – першай палове 1914 г. пачасціліся ў 3,5–4,2 раза. Аб далейшай радыкалізацыі барацьбы сялян з памешчыкамі ў паслярэвалюцыйны перыяд сведчыць і хуткі рост (у 2,4–3,6 раза) удзельнай вагі захопаў панскай зямлі, у тым ліку і сервітутных угоддзяў. Палітычных выступленняў у статыстыцы сялянскага руху 1908 г. – першай паловы 1914 г. не зафіксавана.

## 3. Беларускі нацыянальны рух у час трэцячэрвеньскага рэжыму. Газета "Наша ніва"

**Умовы развіцця**. Вызначальнай рысай унутранай палітыкі ўрада П. Сталыпіна пасля падаўлення рэвалюцыі стаў вялікадзяржаўны імперскі шавінізм, сутнасць якога выяўляў лозунг "Расія для рускіх і рускія павінны кіраваць ёю". Рэалізацыя яго забяспечвалася новым выбарчым законам, які рэзка абмяжоўваў прадстаўніцтва нацыянальных ускраін у Дзяржаўнай думе. У заходніх губернях, як ужо адзначалася, для забеспячэння перамогі на выбарах правых сіл былі ўведзены так званыя нацыянальныя курыі – "руская", "польская" і яўрэйская. Паводле гэтага закона, праваслаўных беларусаў запісвалі ў "рускую", а католікаў – у "польскую" курыі. Такім чынам, беларускі народ афіцыйна падзяляўся па канфесіянальнай прыкмеце на "рускіх" і "палякаў".

Асноўны закон імперыі (1906) у прынцыпе дазваляў навучанне ва ўсіх народных школах на роднай мове вучняў. Аднак III Дзяржаўная дума зрабіла выключэнне з яго ў адносінах да беларусаў і ўкраінцаў, якіх прызнавала "рускімі" і абавязвала на гэтай падставе нават у пачатковай школе вучыцца па-руску. Яна ж прыняла рашэнне аб пераводзе выкладання Закона Божага для католікаў-беларусаў ва ўсіх школах Беларусі з польскай мовы на рускую, не зважаючы на тое, што тым самым вымушала іх запісвацца ў палякі. Беларуская мова па-ранейшаму не дапускалася ні ў царкве, ні ў касцёле нават у дадатковае набажэнства, казаннях святароў. І праваслаўныя, і каталіцкія святары пераконвалі беларусаў, што яны па сваёй канфесіянальнай прыналежнасці з'яўляюцца "рускімі" ці адпаведна "паля-

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Т.2. С.507, 511. Прыведзеныя паказчыкі (паводле даных Л.П. Ліпінскага) адносяцца да выдзеленага ім перыяду 1910 – першай паловы 1914 г.

камі". Адзіную (да 1913 г.) легальную беларускамоўную газету "Наша ніва", якая з'яўлялася галоўнай трыбунай нацыянальнага руху, улады забаранілі выпісваць усім настаўнікам і вучням Віленскай навучальнай акругі, святарам, паштовым, ваенным і паліцэйскім чынам, валасным праўленням і сельскім старостам, вучням сельскагаспадарчых школ[1].

Дзесяткі расійскіх – сталічных і мясцовых, афіцыйных і чарнасоценна-акцябрысцкіх – перыядычных выданняў на чале з урадавай газетай "Россия" ўсяляк ганьбілі і цкавалі "Нашу ніву" як "інтрыгу" польскіх паноў і касцёла, накіраваную супраць "адзінай і непадзельнай імперыі Расійскай", абвінавачвалі яе ў рэвалюцыйнай агітацыі, сепаратызме, "мазепінстве". У сваю чаргу, шматлікія польскія панска-клерыкальныя выданні лжыва сцвярджалі, што "Наша ніва" выдавалася за казённыя грошы з мэтай русіфікацыі беларусаў, якія быццам бы з'яўляюцца палякамі і цягнуліся да польскай культуры. Як і расійскі ўрадавы і чарнасоценна-акцябрысцкі друк, яны адмаўлялі існаванне асобнага беларускага этнасу.

У такіх умовах беларускі адраджэнскі рух вымушаны быў у асноўным абараняцца ад націску. Пра вастрыню і напружанасць барацьбы сведчыць зварот рэдакцыі "Нашай нівы" да ўсіх ідэйна свядомых беларусаў з просьбай аб дапамозе, які ў лютым 1913 г. публікаваўся на першай паласе ў некалькіх нумарах газеты. "З усіх бакоў, – гаварылася ў ім, – раздаюцца нападкі, ачэрніванне і апаганьванне нашай святой справы; гэткай "работай" нашы супраціўнікі спадзяюцца задушыць беларускае адраджэнне, адвярнуць ад яго маласвядомыя цёмныя беларускія масы, мы не можам спакойна глядзець на гэта, а павінны ўсе сілы напружыць, каб беларуская справа і беларуская свядомасць шырылася. Не вымагаем ад нікога вялікіх ахвяр, адно просім, каб ідэйна свядомыя беларусы шырылі паміж людзей "Нашу ніву", шырылі гэтым жывыя, дэмакратычныя беларускія думкі, яднаючы нам падпісчыкаў"[2].

Жорсткія нормы цэнзурнага статута прадугледжвалі закрыццё перыядычнага выдання і турэмнае зняволенне рэдактараў за публікацыю матэрыялаў, прызнаных судом небяспечнымі для асноў тагачаснага грамадскага і дзяржаўнага ладу.

Пасля трэцячэрвеньскага перавароту межы дазволенага ў легальным друку яшчэ больш звузіліся. Гэта не магло не ўплываць на агульнапалітычную і сацыяльна-эканамічную праграму друкаваных органаў. Для "Нашай нівы" як ідэйнага і арганізацыйнага цэнтра беларускага руху небяспека павялічылася і ў сувязі з патокам розных палітычных абвінавачванняў з боку расійскай і польскай рэакцыйнай прэсы. Чарнасоценныя выданні адкрыта патрабавалі закрыцця беларускай газеты[3].

Да першай расійскай рэвалюцыі ў беларускім нацыянальным руху ўдзельнічалі пераважна нешматлікія прадстаўнікі студэнцкай і вучнёўскай моладзі. У ходзе рэвалюцыі і пазней гэты рух знайшоў пэўную падтрымку сярод сялян, сельскагаспадарчых і гарадскіх рабочых, рамеснікаў-саматужнікаў. Аднак сацыяльныя вярхі насельніцтва Беларусі – дваране-землеўласнікі і гандлёва-прамысловая буржуазія – не прызнавалі існавання самастойнага беларускага этнасу і адносіліся да беларускага нацыянальнага руху ці варожа (расійскія і польскія памешчыкі, праваслаўнае і каталіцкае духавенства) ці індыферэнтна (яўрэйская буржуазія). Адсутнасць этнічнай эліты прычынілася, з аднаго боку, да таго, што беларускі нацыянальны рух

---

[1] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. С.427–428.

[2] Наша ніва. 1913. № 8, 10.

[3] Мінскае слова. 1907. №160.

заставаўся па сваім характары цалкам дэмакратычным, з другога – гэта абярнулася для яго незвычайна цяжкімі фінансавымі праблемамі.

Уздым нацыянальнай адраджэнскай хвалі ў перыяд рэвалюцыі закрануў толькі асобных прадстаўнікоў мясцовай эліты. Некаторыя з іх засноўвалі ў сваіх маёнтках прыватныя беларускія школы, давалі грошы на выданне беларускіх кніг. Даволі актыўна супрацоўнічала з "Нашай нівай" Т. Гардзялкоўская (літаратурны псеўданім Зязюля), уласніца маёнтка ў Сенненскім павеце. Тут дзейнічала беларуская школа, у якой у 1908 г. працаваў Я. Колас. Яна ж фінансавала выданне зборніка твораў Я. Коласа, Ядвігіна Ш. Княгіня М. Радзівіл ахвяравала грошы на выданне зборніка М.Багдановіча "Вянок" і шэрагу іншых беларускіх кніжак[1]. Але такіх мецэнатаў былі адзінкі.

**Барацьба "Нашай нівы" за нацыянальна-культурнае адраджэнне**. Першачарговую і галоўную сваю задачу ва ўмовах трэцячэрвеньскага рэжыму кіраўнікі беларускага руху бачылі ў барацьбе за ўсебаковае нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага народа, за афіцыйнае прызнанне самога факта яго існавання, за яго раўнапраўнасць з іншымі народамі. Зыходзячы з таго, што асновай усёй нацыянальнай культуры з'яўляецца мова народа, таленавіты нашаніўскі публіцыст С. Палуян у верасні 1909 г. пісаў: "Нам у першую чаргу трэба адрадзіць сваю мову... Толькі адрадзіўшы мову, мы зможам паставіць на цвёрды грунт наш рух. Бо нацыянальны рух як вялікая жыццёвая гістарычная сіла можа жыць толькі тады, калі пад яго будзе падведзены такі фундамент, як гібка абробленая мова, ды й літаратура і навука ў гэтай мове... А кожны зразумее, што пры цяперашніх варунках не можа развівацца наша мова, калі ёй няма месца ў жыцці. Заваяваць ёй месца ў грамадзянстве – вось наша першая неадкладная задача"[2].

Беларускія дзеячы ўсведамлялі цяжкасць і складанасць вырашэння гэтай задачы. Больш за 200 гадоў сфера ўжывання беларускай мовы фактычна абмяжоўвалася вёскай, сялянствам, сялянскім фальклорам. Нацыянальная (літаратурная) мова можа сфарміравацца толькі тады, калі будзе заваявана для яе месца ў школах усіх тыпаў і ўзроўняў, навуцы, грамадскіх і дзяржаўных установах, царкве і касцёле Беларусі. Аднак ва ўсіх гэтых сферах яна не прызнавалася і не дапускалася. Мясцовая інтэлігенцыя, што праходзіла праз рускую ці польскую школу, у пачатку XX ст., як і раней, у пераважнай большасці выступала як антыбеларуская сіла – у ролі адпаведна русіфікатараў ці паланізатараў. Свядомая, адданая свайму народу інтэлігенцыя абуджалася, фарміравалася і згуртоўвалася вакол газеты "Наша ніва".

У "Нашай ніве" шмат увагі надавалася тэарэтычнаму абгрунтаванню права беларускага народа на захаванне і развіццё сваёй мовы і нацыянальнай культуры. У газеце паказвалася, што гістарычнае прызнанне кожнага народа заключаецца ў развіцці сваёй нацыянальнай культуры, якая тым больш каштоўная для ўсяго чалавецтва, чым глыбей яна выяўляе нацыянальныя асаблівасці, тое, што вызначае спецыфічнае бачанне, успрыманне, асэнсаванне і мастацкае адлюстраванне народам навакольнага свету. Асіміляцыя, знішчэнне нацыянальных асаблівасцей беларусаў, як даказвала "Наша ніва", наносіць велізарную, непапраўную шкоду не толькі беларускай, славянскай, але і сусветнай культуры.

---

[1] *Turonek J.* Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. S.50, 64; *Александровіч С. Х.* Пуцявіны роднага слова. С.144.

[2] Наша ніва. 1909. №35–36.

У адказ на заявы польскіх шавіністычных газет, якія называлі спробы абуджэння беларускай і літоўскай нацыянальнай самасвядомасці сярод апалячанага насельніцтва Беларусі і Літвы працай, варожай дэмакратызму і прагрэсу культуры, і ўхвалялі "цывілізатарскую місію" польскай мовы і культуры ў беларуска-літоўскіх губернях, "Наша ніва" тлумачыла, што дэмакратызм – гэта жаданне абудзіць народ да жыцця, дабіцца, каб ён падаў свой голас, выказаў свае думкі і душу. "Найлягчэйшая дарога для гэтага, – пісала яна, – развіць народную культуру, карыстаючыся прыроднай мовай народу, каторай ён змалку гаворыць дома, у хаце, каторая вытварылася разам з усёй яго асобеннай псіхікай, неразрыўна з той псіхікай звязана. Вось чаму адраджэнне народаў заўсягды ішло і ідзе побач з дэмакратызмам... Работа дзеля пашырэння нацыянальнай свядомасці ў нашым народзе на ўсёй старане не толькі не задзержвае поступу культуры, а, наадварот, адна толькі і развівае яе"[1]. З такіх пазіцый зыходзіла "Наша ніва" і ў палеміцы з расійскім шавіністычным друкам.

У напружанай і цяжкай барацьбе з рускімі і польскімі нацыяналістамі "Наша ніва" ніколі не атаясамлівала іх з рускім і польскім народамі. Калі "Кур'ер Літэўскі" абвінаваціў яе ў тым, што яна "распальвае нянавісць да палякаў між беларусамі", "Наша ніва" адказала: "Не да палякаў, паны нацыяналісты. Пара вам уцяміць, што ваша хаўрузія і польскі народ – гэта дзве зусім розныя рэчы. З нацыяналізмам, з чарнасоценствам мы ваявалі і будзем ваяваць, нягледзячы на тое, ці гэтае чарнасоценства будзе расейскае, ці польскае"[2].

Афіцыйнай палітыцы расколу беларускага народа па веравызнанні на "рускіх" і "палякаў", асімілятарскай дзейнасці расійскіх і польскіх нацыяналістычных груповак "Наша ніва" супрацьпастаўляла прапаганду нацыянальнай свядомасці і ідэі еднасці ўсіх беларусаў – і праваслаўных, і католікаў. Гэта была галоўная мэта газеты. Яна настойліва патрабавала ўвядзення ў школу, царкву і касцёл Беларусі беларускай мовы, пераходу іх на беларускія нацыянальныя пазіцыі. Зыходныя прынцыпы "Нашай нівы" па нацыянальна-рэлігійных пытаннях сфармуляваў А. Луцкевіч (Навіна). "Каталіцкую веру, – пісаў ён, – народ наш называе *польскай*, праваслаўную – *расійскай*. І пакуль касцёл і царква не зробяцца ў Беларусі *беларускімі*, народ наш заўсёды будзе дзяліцца на дзве часці... Гэты раздзел паводле рэлігіі робіць у нас тое, што пры найвялікшым развіцці нашай мовы суцэльнага, адзінага нацыянальнага жыцця ў нашага народу быць не можа, пакуль наша мова не здабудзе сабе належных правоў у царкве і касцёле"[3].

**"Наша ніва" і развіццё нацыянальнай культуры.** Насуперак адміністрацыйным абмежаванням падпіска на "Нашу ніву", яе папулярнасць паступова раслі, мацнелі сувязі з народам. Настойлівая і паслядоўная прапаганда нацыянальнай ідэі знаходзіла водгук і ў вёсцы, і ў горадзе. У выніку гэтай дзейнасці абуджаліся народныя таленты, паскорыўся рост нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Паводле падлікаў супрацоўніка рэдакцыі пісьменніка Ядвігіна Ш., за першыя тры гады "Наша ніва" надрукавала 906 уласных карэспандэнцый з 499 вёсак, мястэчак і гарадоў, 246 вершаў 61 паэта і 91 апавяданне 36 празаікаў. Толькі за 1910 г. у газеце з'явілася 666 карэспандэнцый з 122 населеных пунктаў Віленскай, з 81 – Мінскай, з

[1] Наша ніва. 1912. №19–20.

[2] Там жа. 1912. №17.

[3] Там жа. 1911. №45.

49 – Гродзенскай, з 27 – Магілёўскай, з 9 – Віцебскай, з 9 – Ковенскай, 2 – са Смаленскай губерняў і з 14 іншых месцаў ("чужых старон"), а ўсяго разам – з 313 пунктаў. Сярод паветаў найбольшая колькасць карэспандэнцкіх пунктаў была ў Віленскім (48), Слуцкім (39), Вілейскім (30), Гродзенскім (27), Ашмянскім (20), Мінскім (18), Дзісенскім і Барысаўскім (да 9), Лідскім, Сакольскім (па 8), Свянцянскім (7), Аршанскім, Горацкім і Клімавіцкім (па 6) паветах. За той жа год газета надрукавала 115 вершаў і 60 апавяданняў, 73 навуковых, 35 рэдакцыйных артыкулаў, 20 парад для гаспадароў, 21 артыкул на палітычныя тэмы, 27 думскіх справаздач, 20 матэрыялаў пад назвай "З газет". Усяго ў 1910 г. у "Нашай ніве" супрацоўнічала 427 чалавек[1].

Пачынаючы з 1910 г. "Наша ніва" выдавала вельмі папулярны "Беларускі каляндар". Тыраж яго ў лепшыя гады дасягаў 20 000 экземпляраў (найвышэйшы з усіх беларускіх выданняў). Паводле аднадушных водгукаў расійскага, польскага і ўкраінскага друку, "Беларускі каляндар" быў лепшым сярод календароў, прызначаных для вёскі[2].

Вясною 1912 г. сельскагаспадарчы аддзел "Нашай нівы" быў пераўтвораны ў самастойны часопіс "Саха" (выдаваўся ў Вільні пад рэдакцыяй А. Уласава). "Саха" хутка заваявала прызнанне. На сельскагаспадарчых выстаўках у Вільні (1913) і Мінску (1914) часопіс быў узнагароджаны сярэбранымі медалямі. У"Саху" пісалі вучоныя-спецыялісты і гаспадары-практыкі (як і ў "Нашу ніву" – бясплатна). У сваіх 12 кніжках яна асвятляла поўны гадавы цыкл работ па ўсіх галінах сельскай гаспадаркі.

У снежні 1913 г. выданне "Сахі" было перанесена ў Мінск. Адначасова там з'явіўся парастак "Нашай нівы" – літаратурны штомесячнік для моладзі "Лучынка". Яго рэдактарам была Цётка (А.Пашкевіч). Так быў пакладзены пачатак беларускаму перыядычнаму друку ў Мінску.

Першым, не звязаным з "Нашай нівай" перыядычным беларускамоўным выданнем стала штотыднёвая каталіцкая газета "Biełarus", якая пачала выходзіць у Вільні ў студзені 1913 г. (рэдактары-выдаўцы – А. Бычкоўскі і Б.Пачобка). У першым нумары газеты заяўлялася, што яна будзе заўсёды стаяць на грунце хрысціянска-каталіцкім, бароначы справы каталіцкія і беларускія. Адну з галоўных сваіх задач газета бачыла ў пераадоленні рэлігійнага расколу беларускага народа і імкнулася ўсімі сродкамі паказаць беларусам, праваслаўным і католікам, што "ўсе яны – адно племя, адзін народ". Напрамак новага выдання ўстрывожыў нашаніўцаў."Цяпер, – пісала "Наша ніва", – адкрылася газета толькі для адных католікаў. Ці захоча, ці здолее яна пайсці па дарозе еднасці ўсіх беларусаў? Мы дужа баімся, каб новая газета не зышла з агульнабеларускага грунту"[3]. Гэта перасцярога была ўлічана рэдакцыяй "Беларуса": у другім нумары яна на першае месца паставіла не каталіцкія, а нацыянальныя інтарэсы.

Не менш прыкметныя зрухі адбыліся і ў развіцці беларускага кнігадруку. У 1908–1914 гг. выйшлі ў свет 77 беларускіх кніжак агульным тыражом 226 660 экземпляраў[4]. Асноўную частку кніжнай прадукцыі забяспечылі выдавецтвы "Загляне сонца і ў наша аконца" і "Наша ніва". Выдавецкія ра-

---

[1] Наша ніва. 1910. №27; 1911. №6.

[2] Там жа. 1913. №34.

[3] Там жа. 1913. №3, 21.

[4] Падлічана паводле "Книжной летописи" за адпаведныя гады.

хункі сведчаць, што беларуская кніжка ў пачатку XX ст. знаходзіла пакупніка і чытача[1]. У 1912–1913 гг. пецярбургская суполка выдала тры кнігі "тоўстага" альманаха "Маладая Беларусь", прызначанага для інтэлігенцыі, і найлепшы для таго часу зборнік Я.Купалы "Шляхам жыцця". У выданні "Нашай нівы" ў 1907–1912 гг. выйшла 31 кніжка, у тым ліку 12 дубліраваных кірыліцай і лацінкай[2]. Аднак пераважна гэта былі збрушараваныя адбіткі невялікіх твораў, якія папярэдне друкаваліся ў газеце. Па ініцыятыве рэдакцыі "Нашай нівы" ў 1909 г. было створана асобнае выдавецтва "Наша хата", але ў 1911 г., пасля выдання шасці кніжак тыражом 15 тыс. экземпляраў, яно спыніла сваю дзейнасць. У Пецярбургу 10 кніг выдала прыватнае выдавецтва Антона Грыневіча. Іх агульны тыраж склаў 28 200 экземпляраў. Дзве кніжкі выйшлі ў выдавецтве "Палачанін".

Летам 1913 г. В.Іваноўскі, нязменны кіраўнік суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца", перанёс цэнтр беларускай кнігавыдавецкай дзейнасці з Пецярбурга ў Вільню, дзе ім было закладзена "Беларускае выдавецкае таварыства". Толькі за 1914 г. БВТ выдала 13 кніг тыражом 42 тыс. экземпляраў[3]. Для беларускіх выдавецтваў гэта быў рэкордны паказчык. БВТ меркавала разгарнуць выданне літаратурнага часопіса, шэрагу падручнікаў для пачатковай беларускай школы, папулярных кніжак па аграноміі. Аднак гэтыя планы не былі здзейснены ў сувязі з пачаткам Першай сусветнай вайны і набліжэннем у 1915 г. ваенных дзеянняў да Вільні.

Паводле падлікаў С.Александровіча, у 1901–1917 гг. было выдадзена 245 кніг на беларускай мове (158 кірыліцай і 87 лацінкай), 131 выданне выйшла тыражом 327 270 экземпляраў. Зыходзячы з сярэдняга тыражу аднаго выдання (2,5 тыс.) С.Александровіч вызначыў, што сумарны тыраж 114 кніжак, па якіх адсутнічаюць неабходныя звесткі, складаў 285 тыс. Такім чынам, агульны тыраж беларускіх кніжак, што пабачылі свет у 1901–1917 гг., дасягала прыблізна 600 тыс. Больш за палову выданняў (132) адносіліся да арыгінальнай і перакладной мастацкай літаратуры і фальклорных публікацый, 43 – да навукова-папулярнай, 16 – да агітацыйнай, 13 – да вучэбнай, 11 – да рэлігійнай, 6 – да музычнай літаратуры[4].

Нацыянальны друк выканаў адну з найважнейшых сваіх задач – забяспечыў публікацыю твораў В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча, Цёткі, Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, К.Каганца, Ц.Гартнага, А.Гаруна, З.Бядулі, М.Гарэцкага, К.Буйло і многіх іншых паэтаў, празаікаў, драматургаў, публіцыстаў, літаратурных крытыкаў, навукоўцаў. Дзейнасць "Нашай нівы", абуджаных і згуртаваных ёю таленавітых пісьменнікаў, найперш Я.Купалы і Я.Коласа, адыграла выключную ролю на завяршальным этапе станаўлення новай беларускай літаратурнай мовы. Маладая беларуская літаратура, у якой найбольш поўна і яскрава адлюстравалася нацыянальнае адраджэнне, у нашаніўскі перыяд узнялася на якасна новы ўзровень ў моўна-мастацкіх, ідэйных і жанрава-стылявых адносінах. Яна выказала "цэламу свету" душу і пачуцці забытага і прыніжанага, вякамі прыгнечанага "мужыцкага" народа, яго імкненне да волі і шчасця, роўнасці і братэрства з іншымі народамі. Да пачатку Першай сусветнай вайны беларуская літаратура ў некаторых адносінах наблізілася да ўзроўню больш сталых і развітых

[1] *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова. С.138.

[2] *Turonek J.* Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi S. 63.

[3] *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова С.140–143, 146, 147.

[4] Там жа. С.163.

літаратур славянскага свету, значна ўзмацніла свае кантакты з імі, уключылася ў еўрапейскі літаратурны працэс.

Прыкметныя крокі наперад зрабіла і нацыянальнае мастацтва, якое менавіта ў гэты час перарастала з аматарскага ў прафесійнае, – драматычнага тэатра, музыкі, хору, танца. Як прафесійны калектыў з 1910 г. дзейнічала Першая беларуская трупа пад кіраўніцтвам І. Буйніцкага. Яна складалася з хору, танцавальнага калектыву і драматычнай групы. Сталага месца тэатр не меў і дзейнічаў як гастрольны калектыў. У 1910–1913 гг. ён пабываў амаль ва ўсіх гарадах і многіх мястэчках Беларусі, неаднаразова выступаў у Вільні, Варшаве, Пецярбургу і ўсюды карыстаўся нязменна вялікім поспехам. Адначасова ў Вільні пад кіраўніцтвам А. Бурбіса дзейнічаў Беларускі музычна-драматычны гурток. У студзені 1912 г. ён ажыццявіў першую пастаноўку "Паўлінкі" Я.Купалы, пазней паставіў аперэту М.Клімант на тэкст "Залётаў" В.Дуніна-Марцінкевіча. На Купалле гурток наладжваў масавыя нацыянальныя тэатралізаваныя прадстаўленні, якія рабілі вялікае ўражанне на народ.

Для тэатраў былі патрэбны нацыянальная драматургія і музычныя творы. Адгукаючыся на гэту патрэбу, К.Каганец у 1910 г. напісаў камедыю "Модны шляхцюк", якая стала вельмі папулярнай, а Я. Купала крыху пазней – камедыю "Паўлінка" і драму "Раскіданае гняздо". Недахоп арыгінальных п'ес папаўняўся перакладамі з украінскай і польскай класікі ("Пашыліся ў дурні" і "Па рэвізіі" М.Крапіўніцкага, "Сватанне" А.Чэхава, "У зімовы вечар" Э. Ажэшкі і інш.). Былі выдадзены "Беларускія песні з нотамі" А. Грыневіча і "Беларускі песеннік з нотамі для народных і школьных хароў" Л. Рагачоўскага. У многіх гарадах, мястэчках і вёсках узніклі бібліятэкі з беларускімі выданнямі, самадзейныя хары і танцавальныя калектывы. Так, па меры пашырэння беларускага нацыянальнага руху па ўсіх напрамках адраджалася і мацнела нацыянальная культура беларусаў, якую "Наша ніва" справядліва ацэньвала як "аграмадны дар і скарб для ўсеславянскай і ўсясветнай людскай культуры"[1].

Намаганнямі нашаніўцаў адраджалася гістарычная памяць беларускага народа. У гэтых адносінах шмат зрабіла публікацыя "Кароткай гісторыі Беларусі" В. Ластоўскага (Вільня, 1910 г.), якая стала значнай вяхой у распрацоўцы нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі. Самаахвярнымі намаганнямі І. Луцкевіча пры рэдакцыі "Нашай нівы" паступова ствараўся Беларускі нацыянальны музей, многія экспанаты якога мелі унікальнае значэнне ў раскрыцці шматвяковай гісторыі матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі.

**Пачатак міжнароднага прызнання.** Беларускае адраджэнне ў пачатку XX ст. заўважылі не толькі яго праціўнікі з ліку рускіх і польскіх дзеячаў. У процівагу ім станоўчыя матэрыялы аб дзейнасці "Нашай нівы", яе барацьбе за развіццё беларускай нацыянальнай культуры, творчасці пісьменнікаў-нашаніўцаў у 1908 г. сістэматычна публікаваліся ў шэрагу ўкраінскіх (кіеўскіх і львоўскіх), літоўскіх, чэшскіх, прагрэсіўных расійскіх выданнях. Да мая 1909 г. такія публікацыі з'явіліся, у прыватнасці, ва ўкраінскіх газетах "Діло" і "Руслан", што выдаваліся ў Галіцыі, у чэшскіх перыядычных выданнях "Slovaski Przelod" і "Čas", польскай газеце "Wiek XX", літоўскіх газетах "Litwa", "Viltis", расійскім ліберальным часопісе "Московский еженедельник"[2].

[1] Наша ніва. 1910. №27.

[2] Там жа. 1909. №19.

Асабліва плённа разгортвалася супрацоўніцтва беларускіх і ўкраінскіх адраджэнцаў. У 1908 г. былі выдадзены даследаванні Д.Дарашэнкі "Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне" ў Кіеве і І.Сваціцкага "Адраджэнне беларускага пісьменства" ў Львове. Першае з іх у перакладзе Я. Журбы было надрукавана ў спецыяльным нумары "Нашай нівы" (1909. №4). І. Сваціцкі раскрыў гісторыю беларускага пісьменства ад часоў Ф.Скарыны да часоў Я.Купалы. Раней, у 1906 г. І. Сваціцкі дапамог Цётцы выдаць у Львове першыя яе зборнікі вершаў. Львоўскі гісторык І.Крыпякевіч у 1909 г. выдаў брашуру "Білоруси", у якой акрэсліў гістарычны шлях беларускага народа ад часоў Ф.Скарыны, С.Буднага, В.Цяпінскага, адзначыў велізарнае значэнне старабеларускай пісьмовай мовы для ўкраінскага і літоўскага народаў, калі яна была дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага, і горача вітаў сучаснае яму адраджэнне, абвешчанае Я.Купалам і Я.Коласам і іншымі песнярамі. У брашуры былі змешчаны некалькі перакладных твораў Я.Купалы.

У сваю чаргу "Наша ніва" даволі шырока асвятляла грамадска-культурнае жыццё ўкраінскага народа. У 1909–1910 гг. у газеце была спецыяльная рубрыка "Лісты з Украіны", у якой друкаваліся карэспандэнцыі беларускіх літаратараў С.Палуяна і Я. Журбы. У адным са сваіх лістоў С. Палуян пісаў: "Пры цяперашнім нашым палажэнні нам трудна трываць без шчырых прыхільнікаў між другіх народаў. А для гэтага патрэбна кожнаму народу знаёміцца з жыццём і палажэннем сацыяльнай справы ў другіх"[1]. У тым жа лісце аўтар паведамляў пра публікацыі ў часопісах "Літературно-науковий вестник" і "Украïньска хата" чарговых перакладаў з беларускай на ўкраінскую мову. Штомесячнік "Украïньска хата" ў 1909 г. завёў асобны "беларускі аддзел" для беларускіх публіцыстаў.

Таксама супрацоўнічалі беларускія і літоўскія дзеячы культуры. "Наша ніва" ў 1908–1909 гг. апублікавала першыя пераклады з літоўскай на беларускую мову, знаёміла сваіх чытачоў, хоць і нерэгулярна, з біяграфіямі і творчасцю літоўскіх пісьменнікаў[2]. У сваю чаргу ковенскі штомесячнік "Draugija" ў 1909 г. надрукаваў артыкул К. Шашкавіціса "Беларускае адраджэнне". У газеце "Vilniaus žinios" у тым жа годзе быў змешчаны пераклад на літоўскую мову працы Д. Дарашэнкі "Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне". Выдатны літоўскі пісьменнік Л. Гірас у 1910 г. надрукаваў у газеце "Viltis" вялікі артыкул "З беларускай літаратуры", які амаль цалкам прысвячаўся аналізу творчасці Я.Купалы[3].

Беларускі нацыянальна-культурны рух атрымаў падтрымку з боку расійскай дэмакратычнай інтэлігенцыі. "Нашай нівай" і літаратурай пра беларусаў у 1910 г. зацікавіўся М.Горкі, які жыў у той час у Італіі. Па яго просьбе рэдакцыя пачала высылаць яму газету, паслала "Слоўнік беларускай мовы" І.Насовіча і іншыя выданні, у тым ліку песню Я.Купалы "А хто там ідзе" з нотамі. У пісьме да ўкраінскага пісьменніка М.Кацюбінскага М.Горкі адзначыў: "Мяне гэтая рэч усхвалявала. Панура"[4]. Тады ж ён пераклаў песню Купалы на рускую мову і апублікаваў яе ў часопісе "Современный мир" (1911). Пераклад суправаджаўся наступнымі словамі: "Каб зразумець глыбокі сэнс гэтай песні, – якая, магчыма, на нейкі час стане народным гімнам беларусаў, – чытачу трэба было б паглядзець "Нашу ніву" –

---

[1] Наша ніва. 1909. № 42. 15/28 верас.

[2] *Лапінскене А.П., Мальдзіс А.І.* Перазовы сяброўскіх галасоў. Мн., 1988. С.77.

[3] Наша ніва. 1909. № .69–71.

[4] Беларуская літаратура XIX – пачатку XX ст. Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. Мн., 1978. С.203–204.

яна шмат цікавага скажа яму"[1]. Горкі адчуў непарыўную сувязь зместу і духу геніяльнага твора Я.Купалы з характарам газеты "Наша ніва" як цэнтра і галоўнай трыбуны беларускага нацыянальнага руху, вызваленчага па сваёй сутнасці.

У жорсткай, бескампраміснай барацьбе з уціскам расійскага царызму "Наша ніва" абапіралася на падтрымку сусветна вядомага рускага пісьменніка. "Дарма, – пісала яна, – "Виленский вестник" баламуціць людзей, даводзячы, быццам бы ўся Расея глядзіць на беларусаў яго вачыма. Дарма ўсе гэтыя Кансультанты[2] і Саланевічы стараюцца зменшыць вагу слоў аб беларускім руху Максіма Горкага, катораму бот на назе завязаць яны недастойны"[3].

Станоўча ацэньвалася беларускае адраджэнне ў артыкулах прафесара А.Пагодзіна, змешчаных у ліберальных часопісах "Московский еженедельник" (1909) і "Вестник Европы" (1911). Першы з іх апублікаваў артыкул А.Навіны (Луцкевіча) па пытаннях гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Такую ж пазіцыю занялі выдаўцы вядомага зборніка "Формы национального движения в современных государствах" (1910), у якіх былі надрукаваны нарысы аб нацыянальных рухах чэхаў, харватаў, славакаў, украінцаў, беларусаў, палякаў, яўрэяў, літоўцаў, латышоў і іншых народаў Аўстра-Венгрыі, Расіі і Германіі. Да мэт беларускага адраджэння прыхільна паставілася група прафесараў Пецярбургскага універсітэта (у тым ліку акадэмік А. Шахматаў), якія забяспечвалі навуковае кіраўніцтва дзейнасцю студэнцкага гуртка (Я. Хлябцэвіч, Б. Тарашкевіч і інш.) па даследаванні пытанняў беларусазнаўства, у прыватнасці граматыкі беларускай мовы[4].

Такім чынам, прагрэсіўная грамадскасць шэрагу народаў заўважыла нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага народа і шчыра вітала яго як прыкметную станоўчую з'яву ў культурным жыцці чалавецтва. Гэта быў пачатак міжнароднага прызнання факта існавання беларусаў як самабытнага этнасу, арыгінальнасці і каштоўнасці яго культуры, якая сваім бачаннем і адлюстраваннем народнага жыцця і навакольнага свету ўзбагачала сукрэцце славянскай, еўрапейскай і сусветнай культуры.

# ГЛАВА 4

# КУЛЬТУРА

## 1. Навучальныя ўстановы. Фарміраванне інтэлігенцыі. Навука

**Пачатковая і сярэдняя адукацыя**. Аб'ектыўныя патрэбы сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага развіцця прымусілі царскі ўрад пайсці на частковае задавальненне патрабаванняў магутнага грамадска-педагагічнага руху. Адбыліся пэўныя змены ў змесце адукацыі, адкрыліся новыя навучальныя ўстановы.

[1] Беларуская літаратура XIX – пачатку XX ст. Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. С.205.

[2] "Кансультант" – псеўданім невядомага расійскага публіцыста, які ў "нашаніўскі" перыяд актыўна выступаў у чарнасоценным друку супраць беларускага нацыянальнага руху.

[3] Наша ніва. 1915. №16.

[4] Там жа. 1913. №31.

Нязначна пашырылася сетка гарадскіх вучылішч, якія з 1912 г. сталі называцца вышэйшымі пачатковымі вучылішчамі. Яны ствараліся ў асноўным у разліку на "сярэднія", непрывілеяваныя пласты гарадскога насельніцтва, якія востра адчувалі патрэбу ў лепшай адукацыі. Трэба адзначыць, што ва ўсходніх і цэнтральных раёнах Беларусі колькасць гарадскіх вучылішч, адкрытых з 1906 па 1914 г., была значна большай, чым у заходніх. Так, калі па ўсёй Беларусі іх лік за гэты час павялічыўся з 39 да 82, то на Гродзеншчыне – усяго з 8 да 10[1].

Больш паспяхова развівалася сетка сярэдніх навучальных устаноў. У 1905 г. на тэрыторыі Беларусі налічвалася 10 мужчынскіх і 12 жаночых гімназій, адно камерцыйнае, пяць рэальных вучылішч, адна прагімназія (мужчынская), а таксама 16 мужчынскіх і 47 жаночых прыватных навучальных устаноў. Колькасць навучэнцаў у іх складала 22 810 чалавек. Да 1914 г. лік навучальных устаноў гэтай катэгорыі павялічыўся: мужчынскіх гімназій – на тры, жаночых – на пяць, рэальных вучылішч – на два, прыватных навучальных устаноў – на 20. У іх вучылася 31 328 чалавек[2].

Пра стан пачатковай адукацыі ў Беларусі можна меркаваць паводле даных аднадзённага перапісу пачатковых школ, які быў праведзены па ўсёй Расіі 18 студзеня 1911 г. Яны красамоўна сведчаць аб палітыцы ўрада ў галіне народнай асветы на нацыянальных ускраінах. Выдаткі дзяржавы на адну школу ў Віленскай вучэбнай акрузе складалі 620,7 руб. у год, у той час як у Маскоўскай – 1011,2 руб., а на аднаго жыхара трацілася адпаведна 43,2 і 82,5 кап. у год. У выніку ў Беларусі адна пачатковая школа прыпадала на 1416 жыхароў і 11,3 населенага пункта. З-за недахопу месцаў у школах 15 % жадаючых вучыцца не атрымалі такой магчымасці[3].

З 1905 па 1914 г. колькасць пачатковых школ павялічылася з 1314 да 4784, а колькасць вучняў – з 106 196 да 304 745[4]. Вялікую ролю ў гэтых зрухах адыгралі земствы. Менавіта дзякуючы ім была адкрыта большасць народных вучылішч пасля 1911 г. Дзейнасць земстваў у галіне асветы складала сур'ёзную канкурэнцыю царкоўнаму ведамству, якому падпарадкоўваліся царкоўнапрыходскія школы і школы граматы. У адрозненне ад іншых катэгорый навучальных устаноў іх колькасць з 1905 па 1914 г. скарацілася з 4900 да 2643, а колькасць вучняў – са 150 182 да 130 900[5].

Існуючая сістэма адукацыі не магла задаволіць шырокія пласты насельніцтва, асабліва сялянства. Альтэрнатыву афіцыйнай сістэме народнай асветы ў пачатку XX ст. складалі "тайныя" школы. Большасць з іх узнікла ў сувязі з недахопам дзяржаўных школ. Сетка "тайных" школ асабліва хутка расла ў гады рэвалюцыі. У залежнасці ад нацыянальнай і рэлігійнай прыналежнасці бацькоў і ад мэты арганізатараў у Беларусі існавалі разнавіднасці

---

[1] Падлічана па: Памятная книжка Виленского учебного округа за 1914 г. Вильно, 1914.

[2] Падлічана па: Памятная книжка Виленского учебного округа за 1907/08 учебный год; Отчет о состоянии учебных заведений и учреждений Виленского учебного округа за 1914 г. Вильно, 1915. Приложение.

[3] Однодневная перепись начальных школ в России, проведенная 18 января 1911 года. Вып. 8. Виленский учебный округ. СПб., 1914. Ч.1. С.6–14.

[4] Отчет по управлению Виленским учебным округом за 1905 г. Низшие учебные заведения. Вильна, 1906. С.52; Народное образование в Виленском учебном округе за 1914 г. Вильна, 1915. С.77.

[5] Падлічана па: Обзор Гродненской губернии за 1905 г.; Обзор Минской губернии за 1905 г.; Обзор Могилевской губернии за 1905 г.; Отчет о церковных школах Полоцкой епархии за 1902/03 учебный год. Витебск, 1904; Народное образование в Виленском учебном округе за 1914 г. №3. С.605.

"тайных" школ. Сярод праваслаўнага вясковага насельніцтва былі распаўсюджаны руска-беларускія школы. Толькі ў Слуцкім павеце ў 1905–1907 гг. былі закрыты 72 такія школы[1]. Да пашырэння беларускага кнігадрукавання ў іх выкарыстоўваліся рускія падручнікі. Беларускай мовай карысталіся для тлумачэння незразумелых слоў, гутарак па прачытанаму. На Гродзеншчыне атрымала распаўсюджанне "тайнае"польскае навучанне.

У час рэвалюцыі "тайныя" школы апынуліся пад уплывам рэвалюцыйна настроеных студэнтаў, якія былі выключаны з навучальных устаноў і працавалі настаўнікамі. Такія школы, як адзначаў старшыня Гродзенскага епархіяльнага вучылішчнага савета, "ніякім чынам не паддаюцца кантролю грамадзянскай улады" і ўяўляюць сабой небяспечны антыўрадавы рух[2].

Рэвалюцыя 1905–1907 гг. абудзіла палітычную свядомасць у настаўнікаў і школьнай моладзі , уцягнула іх у рух за перабудову адукацыі на дэмакратычных прынцыпах. Адным з галоўных патрабаванняў нацыянальнай інтэлігенцыі было выкладанне ў школе на роднай мове. Вялікую ўвагу надавала адкрыццю школ для дзяцей-беларусаў на роднай мове вядомая беларуская пісьменніца Цётка. На старонках "Нашай нівы" яна пісала: "Калі пачнуць у нас уводзіць новыя начальныя школы, трэба, канечне, каб дзяцей у іх навучалі па-беларуску, каб тлумачылі ім усё па-тутэйшаму, па-свойму, як дзеці гавораць у хаце з бацькамі і як ім лягчэй разумець. Тады дзеці і чытаць скарэй навучацца і пазнаюць лягчэй іншыя мовы – расейскую ды польскую. Дзеля таго ўсе беларусы і ўсе, хто хоча даць народу праўдзівую навуку, павінны дамагацца для беларусаў беларускай начальнай школы"[3].

Цётка адна з першых пачала пісаць творы для дзяцей. Пад псеўданімам "Тымчасовы" яна выдала на Украіне першую кнігу для дзяцей на беларускай мове – "Гасцінец для малых дзяцей", у якую ўвайшлі кароткія апавяданні, загадкі, прыказкі і прымаўкі. У 1906 г. выйшаў буквар – "Беларускі лемантар, або Першая навука чытання". У тым жа годзе ўбачыла свет хрэстаматыя "Першае чытанне для дзетак беларусаў" Цёткі, якая стала пэўным працягам лемантара і была разлічана на вучняў першага класа.

Прапаганда ідэй навучання дзяцей на роднай мове, выданне падручнікаў падрыхтавалі глебу для арганізацыі беларускага школьніцтва ў 1915–1917 гг.

**Прафесійна-тэхнічнае навучанне.** Развіццё капіталістычных адносін запатрабавала ўдасканалення не толькі агульнай, але і прафесійна-тэхнічнай адукацыі. У Беларусі прыватныя тэхнічныя школы былі створаны яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. Тады ж пры гімназіях адкрыліся рэальныя, каморніцка-таксатарскія класы, у якіх вывучаліся прыродазнаўчыя і тэхнічныя навукі, а пры павятовых вучылішчах – рамесныя аддзяленні і класы.

Да пачатку XX ст. сетка сярэдняй і ніжэйшай спецыяльнай і прафесійна-тэхнічнай адукацыі складалася з сярэдніх і ніжэйшых вучылішч, рамесных вучылішч і школ, настаўніцкіх і духоўных семінарый. Былі адкрыты 10 школ і вучылішч, якія рыхтавалі спецыялістаў па вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі, дзве школы па вырабу і дагляду за сельскагаспадарчай тэхнікай, чатыры вучылішчы па падрыхтоўцы рабочых для чыгуначных рамонтных майстэрняў, 12 вучылішч і школ агульнатэхнічнага профілю, якія рыхтавалі сталяроў, токараў па дрэве і металу, кавалёў, слесараў, рабочых-станочнікаў, адна лясная школа, два прафесійных жаночых

[1] Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажытных часоў да 1917 г. С.350.

[2] Там жа. С.352.

[3] Наша ніва. 1906. №1.



Мінск. Рэальнае вучылішча

вучылішчы са спецыялізацыяй "кройка і шыццё", трохкласная гандлёвая школа. Усяго ў 34 сярэдніх і ніжэйшых прафесійных школах навучалася 2,9 тыс. чалавек[1].

Створаныя яшчэ ў XIX ст. многія рамесныя аддзяленні і класы пры пачатковых вучылішчах у пачатку XX ст. былі пераўтвораны ў ніжэйшыя прафесійныя школы, таму іх агульная колькасць скарацілася. Да 1914 г. у Беларусі налічвалася 18 рамесных аддзяленняў з 741 навучэнцам. У той жа час у 52 ніжэйшых прафесійных навучальных установах навучалася розным прафесіям 3,6 тыс. чалавек.

Асобнае месца ў сістэме прафесійна-тэхнічнай адукацыі займалі сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы – фельчарскія школы, на-



Магілёў. Цэнтральная фельчарская школа

[1] НА РБ, ф.2254, воп.2, спр.131, арк.2-6 (Праграма навучання, праект правіл вядзення рамесных курсаў); ф.2507, воп.1, спр.4718, арк.2-3; ф.2254, воп.4, спр.132, арк.21–22; ф.458, воп.1, спр.591, арк.11–13; Обзор Гродненской губернии за 1913 г. С.95–97.

стаўніцкія семінарыі і інстытуты. Пры адсутнасці ў Беларусі вышэйшых навучальных устаноў менавіта яны з'яўляліся мясцовымі цэнтрамі падрыхтоўкі кадраў спецыялістаў.

У пачатку XX ст. падрыхтоўка сярэдняга медыцынскага персаналу (гэты тэрмін пачаў ужывацца з 1906 г.) праводзілася ў Магілёўскай і Гродзенскай фельчарска-акушэрскіх школах, а таксама ў прыватных. У 1909– 1916 гг. у Мінску існавала школа, якая належала доктару Л. Гутцайту. У Віцебску з 1906 па 1913 г. працавала фельчарска-акушэрская школа, заснаваная ўрачом В.Счасновічам. З 1904 г. у Мінску дзейнічала дзевяцімесячная школа павітух пры мясцовым аддзяленні Расійскага таварыства абароны жанчын. За шэсць гадоў яе скончылі 263 чалавекі. У 1907 г. у Мінску адкрылася першая ў Беларусі прыватная зубалячэбная школа, а ў наступным – другая. У 1909 г. яны аб'ядналіся. За пяць гадоў яе скончылі 420 чалавек[1].

Акрамя вышэйназваных медыцынскіх школ, у Мінску існавала сістэма падрыхтоўкі аптэчных работнікаў. Пры аптэках былі вучні і вучаніцы, якія праз два-тры гады навучання трымалі ўстаноўлены экзамен пры адным з універсітэтаў на званне аптэкарскага памочніка.

**Падрыхтоўка настаўнікаў.** Адкрыццё ў апошняй трэці XIX ст. чатырох настаўніцкіх семінарый не вырашыла праблему недахопу настаўнікаў, паколькі лік нанава адкрытых школ значна перавышаў колькасць выпускнікоў семінарый. Так, у Магілёўскай губерні ў 1909 г. з 988 настаўнікаў пачатковых школ 560 (57 %) не мелі педагагічнай адукацыі, у 1913 г. – 1381 з 1889, што складала ўжо 73 %. У школах працавалі адстаўныя салдаты, выхаванцы ніжэйшых пачатковых школ, гарадскіх вучылішч.

Каб зняць вастрыню праблемы, урад і Сінод пайшлі ў 1899–1900 гг. на адкрыццё кароткатэрміновых настаўніцкіх курсаў пры дырэкцыях народных вучылішч, настаўніцкіх семінарыях. Курсы царкоўнага ведамства адкрываліся ў кожным павеце пры двухкласных і аднакласных царкоўнапрыходскіх школах. Заняткі на курсах давалі асновы ведаў па тэорыі і практыцы выхаваўчай работы, дыдактыцы, методыцы выкладання асобных прадметаў.

Аднак спроба вырашыць праблему настаўніцкіх кадраў для пачатковай школы з дапамогай курсаў і экзаменаў на званне настаўніка вяла да зніжэння агульнага ўзроўню іх кваліфікацыі. Усё гэта прымусіла ўрад шукаць шляхі ўдасканалення падрыхтоўкі настаўнікаў.

Істотным крокам у паляпшэнні іх падрыхтоўкі для ніжэйшай пачатковай школы было адкрыццё пяці настаўніцкіх семінарый: двюх мужчынскіх – Рагачоўскай (1909), Гомельскай (1915), трох жаночых – Аршанскай (1911), Барысаўскай (1915) і Бабруйскай (1916).

У пачатку XX ст. пашырэнне сеткі павышаных пачатковых і сярэдніх школ абвастрыла праблему педагагічных кадраў і для гэтай катэгорыі навучальных устаноў. У сувязі з гэтым былі арганізаваны тры настаўніцкія інстытуты – Віцебскі (1910), Магілёўскі (1913), Мінскі (1914).

З мэтай павышэння кваліфікацыі арганізоўваліся паездкі настаўнікаў за межы Беларусі – у навучальныя ўстановы Пецярбурга, Масквы, Украіны, Эстоніі. Педагогі з Беларусі ездзілі вывучаць вопыт сваіх калег у Германію, Італію, іншыя еўрапейскія краіны. Яны ўдзельнічалі ў рабоце Міжнароднага кангрэса выкладчыкаў новых моў у Парыжы ў 1909 г., III Міжнароднага

---

[1] Вопросы истории и здравоохранения БССР. Мн., 1960. С.42–44; НА РБ, ф.502, воп.1, спр.46, арк.140–150; ф.2513, воп.2, спр.1328, арк.142; ф.502, воп.1, спр.47, арк.149.

кангрэса па школьнай гігіене ў Парыжы ў 1910 г., усерасійскіх з'ездаў па народнай адукацыі 1910–1916 гг.

**Фарміраванне інтэлігенцыі Беларусі.** Канец XIX – пачатак XX ст. – перыяд фарміравання мясцовай інтэлігенцыі. Галоўнай крыніцай і рэзервам фарміравання інтэлігенцыі з'яўлялася студэнцтва, а патэнцыяльнай крыніцай – выхаванцы сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Выпускнікі сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, калі не працягвалі навучанне ў вышэйшых навучальных установах, папаўнялі шэрагі служачых або сярэдніх гарадскіх пластоў. Аднак большая частка (напрыклад, выпускнікі настаўніцкіх семінарый і курсаў, фельчарскіх школ) адразу ішла працаваць па спецыяльнасці, уліваючыся ў педагагічную і медыцынскую інтэлігенцыю. Такім чынам, ад стану асветы залежалі тэмпы і маштабы падрыхтоўкі інтэлігенцыі.

Сярэдняя спецыяльная адукацыя ў Беларусі развівалася павольна. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў 15 такіх навучальных установах вучылася 1,4 тыс. чалавек. Асобнае месца ў сістэме адукацыі займалі праваслаўныя духоўныя семінарыі, што знаходзіліся ў Мінску, Віцебску, Магілёве. Іх выхаванцы маглі быць не толькі святарамі, але і настаўнікамі. Акрамя таго, яны мелі права паступіць у Казанскі, Томскі, Юр'еўскі (Тартускі) універсітэты. У іншыя універсітэты шлях для семінарыстаў-духоўнікаў быў закрыты. Важнай асаблівасцю духоўных семінарый было тое, што ў іх маглі навучацца на аднолькавых умовах як дзеці кліра, так і дзеці ўсіх іншых саслоўяў.

Аднак у Беларусі не было вышэйшых навучальных устаноў[1], таму мясцовая моладзь атрымлівала вышэйшую адукацыю ва універсітэтах і інстытутах Расіі, Украіны, Прыбалтыкі, Польшчы. На рубяжы XIX–XX стст. атрад тэхнічнай інтэлігенцыі складалі выпускнікі сталічных тэхналагічнага, політэхнічнага, ляснога інстытутаў, а таксама інстытута шляхоў зносін. У сярэдніх навучальных установах Беларусі працавалі выкладчыкамі выхаванцы Пецярбургскага, Маскоўскага, Кіеўскага, Адэскага, Харкаўскага, Львоўскага, Юр'еўскага універсітэтаў. Будучыя ўрачы і юрысты таксама набывалі адукацыю ва універсітэтах гэтых гарадоў.

Вышэйшыя навучальныя ўстановы Расіі, Украіны, Прыбалтыкі зрабілі важкі ўклад у падрыхтоўку цэлага пласта айчыннай інтэлігенцыі, які адыграў выдатную ролю ў гісторыі і культуры беларускага народа.

Атрымаўшы вышэйшую адукацыю за межамі Бацькаўшчыны, беларускія інтэлігенты не заўсёды маглі знайсці належнае прымяненне сваім здольнасцям і сілам на радзіме, таму што выбар быў абмежаваны магчымасцямі беларускай рэчаіснасці. Напрыклад, толькі трэць выпускнікоў Рыжскага політэхнічнага інстытута – выхадцаў з Беларусі – змагла ўладкавацца на працу ў родных мясцінах. Частка беларускай інтэлігенцыі вымушана была працаваць за межамі Бацькаўшчыны. Многія з іх амаль усё жыццё імкнуліся служыць свайму народу, але вымушаны былі жыць у чужым асяроддзі, у якім спрабавалі адаптавацца.

Разам з тым шырокія сувязі, якія наладжвалі беларусы ў краінах, дзе яны вучыліся або працавалі, садзейнічалі фарміраванню ў грамадскіх колах гэтых краін цікавасці да нашага народа, яго культурнай спадчыны, мовы. Яркія прыклады – дзейнасць Ф. Багушэвіча, С.Палуяна, Цёткі – на Украіне, М. Багдановіча, Я. Лучыны, Б. Эпімах-Шыпілы – у Расіі. Дзякуючы паве-

[1] У 1911 г. у Віцебску адкрылася аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута. На факультэтах гісторыі мастацтваў, археалагічным і археаграфічным рыхтавалі спецыялістаў для работы ў архівах, музеях і бібліятэках.

дамленням, рэцэнзіям, літаратурным нататкам, якія друкаваліся ў газетах і часопісах, усё больш людзей у розных кутках імперыі даведваліся пра беларусаў і іх самабытную культуру. Менавіта праз прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі наладжваліся формы зносін з інтэлігенцыяй суседніх народаў, што мела надзвычай важнае значэнне для развіцця і ўзбагачэння суседніх культур.

Інтэлігенцыя Беларусі фарміравалася з розных крыніц: дваранства, гарадскіх і сельскіх саслоўяў. Аднак з апошняй чвэрці XIX – пачатку XX ст. няўхільна ўзрастала ўдзельная вага выхадцаў з дэмакратычных пластоў. У цэлым сацыяльная аснова маладой інтэлігенцыі была шырокай, а таму даволі стракатай. Часткова гэта адбівалася на яе становішчы, грамадскіх сімпатыях.

У складзе мясцовай інтэлігенцыі поруч з беларусамі было шмат прадстаўнікоў іншага нацыянальнага, пераважна рускага і часткова яўрэйскага паходжання. Але і тая частка, якая паходзіла з беларускага асяроддзя, у пэўнай ступені звязвала сябе з рускай культурай. Аднак ужо ў апошняй трэці XIX ст. пакуль яшчэ колькасна невялікая група асоб разумовай працы, што выйшла з нацыянальных гарадскіх і сельскіх колаў, пачала актыўна ўключацца ў культурную дзейнасць, змагацца за родную мову. Паралельна ішоў працэс паглыблення нацыянальнай самасвядомасці. Усё больш прадстаўнікоў інтэлігенцыі адчувалі сябе беларусамі, падтрымлівалі нацыянальны рух. У 1897 г. беларусамі лічылі сябе 19,9 % настаўнікаў (3269 з 16 401), 25,8 % медыцынскіх работнікаў (1255 з 4855), 9,7 % адвакатаў (61 з 627), 9,7 % дзеячаў літаратуры, мастацтва, навукі (96 з 987)[1].

Як вядома, расійскі ўрад у дачыненні да беларусаў праводзіў палітыку нацыянальнага прыгнёту. Ігнаруючы інтарэсы і правы народа, царызм затрымліваў яго духоўнае развіццё. У высокаадукаваных людзей нацыянальная свядомасць, якая з'яўляецца самым тонкім і лёгкаранімым пачуццём, праяўлялася асабліва востра. Ушчэмленае становішча беларусаў у імперыі нараджала імкненне да пошуку шляхоў вырашэння нацыянальнай праблемы.

У пачатку XX ст. у сувязі з актывізацыяй дэмакратычных сіл пачаўся ўздым беларускага руху, у якім інтэлігенцыя адыграла вядучую ролю. Эканамічная слабасць беларускага грамадства і неразвітасць яго сацыяльнай структуры, якая і пасля скасавання прыгону заставалася дэфармаванай праз непаслядоўную ліквідацыю яго рэшткаў, захаванне буйных землеўладальнікаў і недэмакратычнага паўфеадальнага рэжыму з тыповым для яго нацыянальным прыгнётам, абумовілі запаволенасць складвання эканамічнай супольнасці як адной з галоўных прыкмет нацыі. У той жа час для інтэлігенцыі як кіраўніка нацыянальнага руху самай даступнай – і доўгі час амаль адзінай сферай дзейнасці – была нацыянальная культура.

Пры адсутнасці ў беларусаў дзяржаўнасці, самастойных формаў палітычнага і эканамічнага жыцця культура выступіла як важнейшы аб'яднальны фактар. Яна садзейнічала і забяспечвала захаванне этнічнай самабытнасці, вяла да абуджэння і выспявання нацыянальнай самасвядомасці. Культура прыняла на сябе нацыянальна-кансалідацыйныя і нацыянальна-патрыятычныя функцыі.

Вядучую ролю ў культурна-нацыянальнай дзейнасці іграла маладая беларуская інтэлігенцыя, нацыянальныя пачуцці якой дзякуючы адукава-

---

[1] Падлічана па: Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. Т.IV. Виленская губ. СПб., 1903; Т.V. Витебская губ. СПб., 1903; Т.XI. Гродненская губ. СПб., 1903; Т.XXII. Минская губ. СПб., 1904; Т.XXIII. Могилевская губ. СПб., 1904.

насці былі асабліва моцныя. Аб'яднаўшы выхадцаў з розных пластоў грамадства, пераважна непрывілеяваных, цесна звязаная з дэмакратычнымі коламі, яна змагла стаць выразніцай ідэйна-эстэтычных тэндэнцый, што адлюстроўвалі ўяўленні народа, актыўна фарміравала яго нацыянальна-патрыятычную і мастацка-эстэтычную свядомасць.

Нацыянальная ідэя напаўняла ўсю культурна-асветніцкую дзейнасць інтэлігенцыі. Пасля рэвалюцыі 1905–1907 гг. дзякуючы яе намаганням з'явіліся беларускі прафесійны тэатр і друк. Важную ролю ў жыцці Беларусі ў пачатку XX ст. адыгрывала газета "Наша ніва" – цэнтр згуртавання свядомай беларускай інтэлігенцыі.

Беларуская інтэлігенцыя выкарыстоўвала ўсе магчымасці для абароны правоў свайго народа. У чэрвені 1908 г. у Празе адбыўся з'езд студэнтаў славянскіх краін. Ад імя беларускай студэнцкай моладзі на ім выступіў Каляда. Ён расказаў аб моцным нацыянальным уціску суайчыннікаў, у выніку чаго на яго Бацькаўшчыне пануе непісьменнасць. У сувязі з выступленнем прадстаўніка Беларусі з'езд прыняў пастанову ў падтрымку права беларусаў вучыць дзяцей у школе на роднай мове. У пастанове мелася патрабаванне аб адкрыцці ў Вільні беларуска-літоўскага універсітэта.

У выніку актыўнай, самаадданай дзейнасці беларускіх пісьменнікаў, настаўнікаў нацыянальная самасвядомасць, перш за ўсё ўсведамленне сваёй нацыянальнай прыналежнасці, ахоплівала пэўныя пласты насельніцтва. Так, у кастрычніку 1913 г. рабочыя Капыля звярнуліся ў Дзяржаўную думу з петыцыяй, у якой патрабавалі прызнаць родную мову і падтрымаць прашэнне аб адкрыцці ў Беларусі універсітэта.

Уся дзейнасць беларускай інтэлігенцыі была прасякнута высокім патрыятызмам, садзейнічала нацыянальнаму і палітычнаму абуджэнню народа, яго згуртаванню, аказала пэўны ўплыў на духоўную сутнасць нацыі. Беларуская інтэлігенцыя выконвала ролю своеасаблівага генератара і трансфарматара новых ідэй, формаў і метадаў культурнай дзейнасці.

**Вывучэнне культуры і быту беларускага народа.** У новай гістарычнай сітуацыі, якая склалася ў пачатку XX ст., неабходна было пераканаць беларусаў у самабытнасці іх як народа, арыгінальнасці іх культуры – тым самым выставіць важкі аргумент у барацьбе за дзяржаўнасць Беларусі. Перад дзеячамі айчыннай навукі і культуры паўстала задача паказаць і давесці свету гэту нацыянальную самабытнасць, аднавіць сапраўдную карціну гістарычна-культурнага шляху развіцця беларусаў ва ўсёй яго складанасці і супярэчлівасці, з усімі пошукамі, дасягненнямі і стратамі. Таму не выпадковай была цікавасць да гісторыі беларускага народа, яго матэрыяльнай і духоўнай спадчыны.



Я. Карскі

Ва ўмовах Беларусі да 1905 г. народная культура з'яўлялася найважнейшай, калі не адзінай сферай самастойнага грамадскага жыцця. Важкі ўклад у яе вывучэнне зрабілі Е. Раманаў, М. Нікіфароўскі, М. Федароўскі, Я. Карскі, А. Сержпутоўскі, М. Доўнар-Запольскі і інш.

Е. Раманаў выдаў самую вялікую па колькасці беларускіх фальклорных тэкстаў работу –

"Беларускі зборнік" у дзевяці выпусках (1886–1912), у якім змясціў сотні казак, легенд, паданняў, тысячы песень, прыказак, прымавак і загадак. У гэтым выданні – своеасаблівай энцыклапедыі беларускай народнай творчасці – вучоны сабраў надзвычай каштоўныя калекцыі вуснапаэтычных твораў усіх асноўных жанраў. Разам з апісаннем звычаяў і абрадаў укладальнік змясціў шмат разнастайных па змесце і мастацкай форме абрадавых і пазаабрадавых лірычных песень, у якіх ярка адлюстравалася жыццё і побыт беларускіх сялян.

Глыбінёй і цікавасцю вылучаліся даследаванні матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі М.Доўнар-Запольскага. Усебакова адукаваны чалавек, ён пакінуў пасля сябе работы ў розных галінах гуманітарных навук, у тым ліку і ў фалькларыстыцы. Вялікую ўвагу надаваў даследчык вывучэнню беларускіх вясельных абрадаў і звязанай з імі паэзіі. Пры гэтым ён паспяхова выкарыстаў гісторыка-параўнальны метад.

Збіранне беларускай народнай творчасці спалучыў з этнаграфічнымі даследаваннямі І.Сербаў. Спачатку ён цікавіўся фальклорна-этнаграфічнымі матэрыяламі і збіраў іх па месцы працы настаўнікам у Мінску, Гомелі, сельскай мясцовасці. З 1910 г., калі аднавіў сваю дзейнасць Паўночна-Заходні аддзел Рускага геаграфічнага таварыства, І.Сербаў пачаў выконваць даручэнні археалагічна-этнаграфічнай секцыі, некалькі разоў выязджаў у экспедыцыі. У 1915 г. ён выдаў кнігу "Беларусы-сакуны", у якой адначасова з гісторыка-этнаграфічнай характарыстыкай жыхароў Палесся прывёў іх песні, казкі.

Агляд важнейшых работ у галіне беларускай фалькларыстыкі зрабіў Я.Карскі ў першым томе даследавання "Беларусы", што ўбачыў свет у 1903 г. Менавіта гэты вучоны ўпершыню даследаваў гісторыю беларускай вуснай творчасці, сістэму яе жанраў, генезіс, ідэйна-тэматычны змест і мастацкія асаблівасці. Я.Карскі вывучаў паходжанне вуснапаэтычнай творчасці, раскрыў яе эвалюцыю ў часы Кіеўскай Русі, адлюстраванне язычніцтва і імкненне хрысціянства пераадолець яго рэшткі. Развіццё беларускага фальклору вучоны звязаў з гістарычным жыццём народа, з развіццём культуры пачынаючы ад старажытнай эпохі.

Я. Карскі абгрунтаваў прынцып храналагічна-тэматычнага разгляду жанраў і відаў беларускага фальклору, даказаў, што найбольш старажытны жанр – забабоны. Ён даследаваў іх генезіс, даў вызначэнне. Карыстаючыся параўнальным вывучэннем народных твораў, вучоны прасачыў сувязі славянскіх забабонаў з забабонамі іншых народаў. Упершыню Я.Карскі разгледзеў асаблівасці народнага верша, яго рытміку, рыфмоўку.

Даследаванне дасягненняў народнай культуры прыводзіла да разумення неабходнасці вывучаць гісторыю Беларусі. "Гісторыя – гэта фундамент, на якім будуецца жыццё народа. І нам, каб адбудаваць сваё жыццё, трэба пачаць з фундаменту, каб будынак быў моцны. А фундамент у нас важны, гісторыя наша багатая..." – зазначыў у сваёй "Кароткай гісторыі Беларусі" В.Ластоўскі. Гэта першая кніга аб беларускай мінуўшчыне ўбачыла свет у 1910 г.

Як вядома, адным з першых сур'ёзную увагу на неабходнасць вывучэння гісторыі Бацькаўшчыны звярнуў Ф.Багушэвіч. Працы Я.Карскага, В.Ластоўскага па гісторыі Беларусі, створаныя ў пачатку XX ст., даказвалі аўтахтоннасць беларусаў на тэрыторыі, якую яны займалі, а таксама прыцягвалі ўвагу да эпохі Вялікага княства Літоўскага, калі беларускі народ адыгрываў значную ролю ў жыцці Усходняй Еўропы.

Даследаванні беларускіх вучоных дапамагалі вярнуць народу забытыя імёны славутых продкаў, пазнаёміць з гераічнымі старонкамі старажытнай Беларусі. Лагічным вынікам вывучэння, спасціжэння фальклорнай і эт-

награфічнай скарбніцы стаў рост цікавасці да роднага слова, да самавыяўлення праз родную мову.

Зварот да фальклору, этнаграфіі быў плённым крокам на шляху да сцвярджэння нацыянальнай самасвядомасці, асэнсавання беларусамі свайго месца паміж народамі.

**Дзейнасць навуковых таварыстваў.** Прыкметны ўклад у развіццё і дэмакратызацыю навукі, у справу папулярызацыі навуковых ведаў уносілі навуковыя таварыствы, якія аб'ядноўвалі спецыялістаў у розных галінах.

Адным з праяўленняў грамадска-педагагічнага руху было стварэнне педагагічных таварыстваў, якія на рубяжы XIX – XX стст. былі арганізаваны ў Віцебску, Мінску, Магілёве, Гродне, Брэсце. Таварыствы аказвалі матэрыяльную дапамогу настаўнікам, абаранялі іх інтарэсы, садзейнічалі распаўсюджванню перадавых педагагічных ідэй, павышэнню кваліфікацыі настаўнікаў, выдавалі педагагічныя часопісы, зборнікі. Магілёўскае таварыства на працягу 1909–1917 гг. адкрыла свае аддзяленні ў дзевяці павятовых гарадах – Быхаве, Гомелі, Горках, Клімавічах, Мсціславе, Оршы, Рагачове, Чавусах, Чэрыкаве. У 1910 г. яно пачало выдаваць "Беларускі настаўніцкі веснік". У 1911 – 1913 гг. Гродзенскае педагагічнае таварыства выдавала часопіс "Педагагічная справа". Педагагічныя таварыствы і часопісы прыцягвалі ўвагу грамадскасці да надзённых пытанняў народнай асветы, прапагандавалі ідэі перадавых педагогаў, выступалі за ўсеагульную пачатковую адукацыю, стварэнне новых падручнікаў.

Шматгадовую гісторыю мелі да пачатку XX ст. медыцынскія таварыствы. Яшчэ ў 1862 г. былі створаны таварыствы ўрачоў у Мінску і Магілёве. Тады ж было пачата хадайніцтва аб заснаванні таварыства гродзенскіх урачоў. У канцы XIX – пачатку XX ст. падобныя арганізацыі ствараліся не толькі ў губернскіх, але і ў павятовых цэнтрах – Гомелі, Брэсце, Бабруйску.

Таварыствы ўрачоў ставілі за мэту вывучаць санітарны стан гарадоў і губерняў, аналізаваць прычыны ўзнікнення і распаўсюджвання хвароб, вышукваць сродкі па іх прадухіленню або лакалізацыі. Акрамя таго, яны стваралі (нярэдка за свой кошт ) амбулаторыі, рабілі паведамленні аб новых адкрыццях і вынаходніцтвах у медыцыне, клапаціліся аб іх укараненні ў практыку.

Шырокае распаўсюджванне такіх сацыяльных хвароб, як сухоты (туберкулёз), трахома, сіфіліс і іншыя сярод насельніцтва, прымушалі ўрачэбныя таварыствы распрацоўваць меры па барацьбе з імі. Члены таварыстваў разумелі, што ўласнымі сіламі яны не ў стане справіцца з гэтым сацыяльным ліхам, і імкнуліся прыцягнуць увагу і матэрыяльныя сродкі насельніцтва. З гэтай мэтай таварыствы правялі ў 1911 г. у Мінску, Магілёве, Віцебску, Бабруйску, іншых гарадах "дні белай кветкі" (дні барацьбы з сухотамі).

На сабраныя сродкі ў шэрагу выпадкаў былі арганізаваны дачы-калоніі, праводзіліся амбулаторныя прыёмы хворых на сухоты. Пры садзейнічанні медыцынскіх таварыстваў у Мінску, Магілёве, Гродне, Бабруйску былі створаны мясцовыя аддзяленні Лігі барацьбы з сухотамі.

З самага пачатку сваёй дзейнасці таварыствы ўрачоў імкнуліся да наладжвання і развіцця навуковых сувязей. Так, мінскае таварыства ў канцы XIX ст. падтрымлівала кантакты з 50 навуковымі таварыствамі і ўстановамі Расіі. Пачэснымі членамі мінскага таварыства ўрачоў з'яўляліся такія славутыя вучоныя-медыкі, як М.Пірагоў, Р.Віхраў, Л.Пастэр, Ф.Эрысман. Беларускія ўрачы прымалі ўдзел у рабоце пірагоўскіх з'ездаў, з'ездаў урачоў іншых губерняў, шэрагу зарубежных і міжнародных кангрэсаў.

Таварыствы ўрачоў прымалі актыўны ўдзел у стварэнні і дзейнасці асветных устаноў і арганізацый. Па ініцыятыве таварыства мінскіх урачоў і

пры яго спрыянні ў горадзе была створана першая публічная бібліятэка імя А.Пушкіна (1900), а таксама чыгуначная (1902). Актыўна распаўсюджвалі медыкі сярод насельніцтва і санітарна-гігіенічныя веды[1].

У пачатку XX ст. працягвалі сваю дзейнасць створаныя яшчэ ў апошняй чвэрці XIX ст. губернскія таварыствы сельскай гаспадаркі. Іх галоўнымі мэтамі былі стварэнне спрыяльных умоў для развіцця сельскай гаспадаркі ў сваіх рэгіёнах, прапаганда агранамічных ведаў сярод насельніцтва, арганізацыя сельскагаспадарчых доследна-паказальных мерапрыемстваў.

Сярод усіх таварыстваў сельскай гаспадаркі, што дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, асабліва вылучалася мінскае. Яно займалася тэарэтычнай распрацоўкай навукова-агранамічных напрамкаў, вынікі якіх затым выкарыстоўваліся ў практычнай дзейнасці.

Асноўны змест дзейнасці Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі на працягу ўсяго перыяду яго існавання складала арганізацыя доследна-паказальных мерапрыемстваў, прызначаных для распаўджвання розных навацый. У 1901 г. была арганізавана юбілейная сельскагаспадарчая выстаўка, прысвечаная 25-годдзю дзейнасці таварыства. Рэгулярна праводзіліся і спецыялізаваныя выстаўкі-кірмашы жывёлагадоўлі, конкурсы плугоў, малатарняў. Яны не толькі знаёмілі сельскіх гаспадароў Беларусі з дасягненнямі ў галіне ўдасканалення тэхнікі, гатункаў раслін, парод жывёлы, выкарыстання мінеральных удабрэнняў, але і дэманстравалі прадукцыю, якая выраблялася ў рэгіёне, паказвалі, што "Беларусь з часам можа зрабіцца жытніцай Расіі, бо і клімат, і глеба, і народ прыдатныя для гаспадаркі"[2].

У 1912 г. узнікла Мінскае таварыства аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалогіі. Яго стварылі прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі, якія цікавіліся прыродазнаўча-гістарычнымі, этнаграфічнымі і археалагічнымі даследаваннямі Беларусі і якія ўнеслі вялікі ўклад у пашырэнне краязнаўчай работы. Таварыства, якое аб'яднала больш за 100 чалавек, рэгулярна праводзіла сходы і пасяджэнні, дзе чыталіся і абмяркоўваліся даклады па розных напрамках даследавання прыроды і гісторыі, арганізоўвала навукова-папулярныя лекцыі з выкарыстаннем кінематографа, адкрыла музей.

Мінскі гарадскі музей прызначаўся для збору і захавання рэчаў, якія маюць дачыненне да гісторыі, быту і прыроды горада і губерні. Статут музея прадугледжваў стварэнне аддзелаў: гістарычнага, археалагічнага, этнаграфічнага, прыродазнаўчага, мастацка-прамысловага, а таксама аддзела, у якім бы збіраліся кнігі, карты, рукапісы, гравюры. Таварыства праводзіла работу па фарміраванню музейных калекцый.

Таксама мелася бібліятэка таварыства аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалогіі. У яе дасылалі выданні Імператарскае вольнае эканамічнае таварыства, Санкт-Пецярбургскі імператарскі батанічны сад, імператарская археалагічная камісія, Казанскі універсітэт і іншыя навуковыя таварыствы і ўстановы. Ад ганаровага члена таварыства, вядомага геадэзіста І. Жылінскага бібліятэка атрымала рэльефную карту Палесся, якая

---

[1] НА РБ, ф.501, спр.1, 40, 47, 33; 25 лет деятельности Общества минских врачей. Мн., 1894; Протоколы заседаний Общества врачей Могилевской губернии за 1906–1908 гг.; Труды Первого съезда врачей Могилевской губернии. Мн., 1908; Труды Первого съезда врачей и представителей управления по делам земского хозяйства Витебской губернии. Витебск, 1906; *Поляк М.А.* Краткий очерк 50-летней деятельности Общества минских врачей. 1867–1917 // Беларуская медычная думка. 1927. Т.3. №9–12.

[2] Минский листок. 1901. №104, 111; *Грабовский Б.С.* Краткий очерк двадцатипятилетия деятельности Минского общества сельского хозяйства. Мн., 1901; Журналы общих собраний Минского общества сельского хозяйства. Мн., 1888–1912;

ўяўляла вялікую каштоўнасць. У 1914 г. убачыў свет адзіны выпуск "Известий" таварыства[1].

Навуковыя таварыствы, якія існавалі ў Беларусі ў пачатку XX ст., сваёй даследчыцкай, выдавецкай, асветніцкай дзейнасцю спрыялі папулярызацыі навуковых дасягненняў сярод шырокіх колаў насельніцтва, дэмакратызацыі самой навукі, набліжэнню яе да патрэб народа.

## 2. Літаратура. Друк. Мастацтва

**Літаратура**. Новыя з'явы ў грамадска-палітычным жыцці пачатку XX ст. знайшлі сваё яскравае адлюстраванне ў нацыянальнай літаратуры таго часу, абумовіўшы з'яўленне новых ідэй, тэм, вобразаў.

Літаратура як найбольш дынамічны элемент заняла вядучае месца ў культуры беларускага народа пачатку XX ст., паўплывала на развіццё іншых галін духоўнага жыцця. Менавіта ў гэты бурны час бліскуча праявіўся талент такіх маладых паэтаў і празаікаў, як Я. Купала, Я. Колас, Цётка (А. Пашкевіч), М.Багдановіч, А. Гарун, Ц. Гартны, З. Бядуля, К. Буйло, Я. Журба, С. Палуян.

Галоўнымі тэмамі беларускай літаратуры гэтага перыяду былі сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, барацьба супраць самадзяржаўя, адраджэнне Бацькаўшчыны, роднай мовы, сцвярджэнне чалавечай годнасці беларускага мужыка, правоў народа на вольнае гістарычнае развіццё.

Адной з галоўных ідэй нацыянальнай літаратуры пачатку XX ст. была ідэя нацыянальнага адраджэння. Яе сімвалам у паэзіі таго часу быў нярэдка вобраз крыніцы, "каторая магутна, гучна мкне, здолеўшы з глебы на прастор прабіцца".

Народ-крыніца, шмат лам'я
Кідала ворагаў сям'я
У крыніцу тую – цёк спыніць,
Каб жыццё смерцю замяніць
І ўсё дарма: з варожых пут
Народ устае, як нейкі цуд.[2]

Як вядома, галоўнымі адраджэнскімі ідэямі з'яўляюцца патрыятызм, гуманізм, культ цудоўнага. Прычым першая з іх – крышталізацыя нацыянальнай самасвядомасці, замацаванне яе ў формах дзяржаўнасці, нараджэнне новых жывых нацыянальных культур з лацінскай схаластычнай аднолькавасці – стала падставай, умовай для ўзвышэння чалавека ў яго гармоніі са светам, у яго вострым адчуванні радасці і прыгажосці жыцця, прыроды, быцця[3].

У той час як еўрапейскае Адраджэнне прайшло ўвесь цыкл – ад адраджэння народа, стварэння дзяржавы, мовы, культуры да адраджэнскага ідэалу чалавека, то беларускае, з прычыны пэўных гістарычных абставін, у свой час спынілася. Таму ўмова стала мэтай. Адраджэнне пачало ўспрымацца як нацыянальнае адраджэнне, а патрыятычная ідэя заняла адно з вядучых месцаў у літаратуры, пачынаючы ад "Песні пра зубра" М.Гусоўскага і да паэтычных твораў "нашаніўцаў".

---

[1] Минский листок. 1886. №3; Устав Минского общества любителей естествознания, этнографии и археологии. Мн., 1912; Известия Минского общества любителей естествознания, этнографии и археологии. Вып.1. Мн., 1914.

[2] *Гарун А.* Сэрцам пачуты звон. Мн., 1991. С.130.

[3] *Лосев А.Ф.* Эстетика возрождения.М.,1982.С.47–87.

Гэту рысу нацыянальнай літаратуры пачатку XX ст. адзначалі сучаснікі. "Ад беларускай паэзіі павявала такой шчырасцю жывой любві да роднага краю, якая захапляла і чытача", – пісаў на старонках часопіса "Вестник Европы" рускі філолаг-славіст А.Пагодзін.

М.Гарэцкі лічыў, што "першай прыкметай нашаніўскай пары ў літаратуры ёсць пераважнасць нацыянальных элементаў і нацыянальных матываў, лозунгаў над усім – чыста іншым...". У сваю чаргу Я.Карскі зазначаў, што "любоў да сваёй непрыгляднай радзімы – выдатная рыса кожнага беларуса".



Я. Купала

Амаль усіх паэтаў таго часу яднаді агульныя ідэйна-тэматычныя матывы: любоў да Бацькаўшчыны, роднай прыроды ("Да роднай краіны" Я. Журбы, "Восень" А. Гурло, "Люблю" К.Буйло); заклапочанасць бязрадасным лёсам народа, тым, "што гібее ў вёсцы родны люд убогі, і няма тут шчасця і няма дарогі" (Я. Журба); туга па чымсьці таямнічым і нязведаным: "Беднае сэрца па нечым баліць"; "сэрца б'ецца ў грудзях і просіцца невядомае шчасце спазнаць" (А. Гурло). Шмат шчырых, цёплых слоў у сваіх творах прысвяціў роднай зямлі Я.Купала. Яркімі эпітэтамі – ад шчымліва-светлых да балюча-горкіх – надзяляў яе паэт: "Беларушчына", "Маці-Беларусь", "Бацькаўшчына мілая", "Няшчасны край", "Забраны край".

Важна падкрэсліць, гаворачы аб творчасці беларускіх пісьменнікаў пачатку XX ст., што сацыяльнае і нацыянальнае ў іх думках, учынках, творчасці было моцна знітавана. Маладыя пісьменнікі адчувалі: не толькі сацыяльнае вызваленне прадвызначае духоўнае і нацыянальнае адраджэнне, але і нацыянальнае самавызначэнне,нацыянальнае адраджэнне вядзе да сацыяльнага вызвалення. Сацыяльныя і нацыянальныя матывы – гэта ўсё роўна што два крылы, на якіх абапіралася творчасць нашых пісьменнікаў. Асабліва рэльефна гэта відаць у творах Я.Купалы.

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромістай такой грамадзе?
Беларусы.

А чаго ж захацелася ім,
Пагарджаным век, ім сляпым, глухім?
Людзьмі звацца[1].

Запаветнай марай Я.Купалы і яго сабратаў па пяру было дапамагчы народу, які знаходзіўся пад сацыяльным і нацыянальным прыгнётам, стаць у адзіны шэраг з іншымі народамі, дабіцца волі і незалежнасці, смялей зірнуць у шырокія прасторы гістарычнага быцця. З гэтымі думкамі жылі і тварылі многія пісьменнікі "нашаніўскай" пары. М.Багдановіч, у прыватнасці, пісаў:

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага яснага дня.
Пагляздзі, як усход разгараецца
Сколькі ў хмарах далёкіх агня[2]

---

[1] *Купала Я.* Збор твораў: У 7 т. Мн.,1972. Т. 1. С.257.

[2] *Багдановіч М.* Поўны збор твораў: У 3 т. Мн., 1991. С.440.



М. Багдановіч

На светлую будучыню свайго народа спадзяваўся і Я.Журба:

Я цвёрда, шчыра веру,
Я веру ўсёй душой,
Што ворагаў здалее
Край родны, мілы мой.[1]

Упэўненасцю, што "і сіла ўваскрэсне, уваскрэсне надзея", прасякнуты верш К. Буйло "Тварыць і кахаць", якая заклікае: "Век жыць! Крэпка верыць! Тварыць і кахаць!"

Беларускія літаратары прыкладалі надзвычайныя намаганні для набліжэння гэтай будучыні, для абуджэння і паглыблення нацыянальнай свядомасці беларусаў. Аб'яднаўшы сілы, абапіраючыся на зробленае папярэднікамі, пісьменнікі і паэты Беларусі нястомна і настойліва кансалідавалі нацыю: фарміравалі яе самабытную духоўную сутнасць, пашыралі свядомасць, гранілі беларускую літаратурную мову, стваралі свайму народу мастацкія творы сусветнага ўзроўню, вызначалі яго духоўныя арыенціры. Асабліва плённа працаваў у гэтым напрамку Я.Купала, якога сучаснікі называлі "цяперашнім асілкам адраджэння", што "выйшаў на літаратурную ніву з поглядамі простага беларуса-селяніна"[2].

Нацыянальна-патрыятычныя матывы рэльефна ўвасобіліся ў яго творах асветніцкага, беларусазнаўчага характару. Праз усю творчасць песняра праходзіць заклік "любіць свабоду, родны край і мову". Але любіць можна толькі тое, што добра ведаеш і цэніш. Я.Купала настойліва тлумачыў селяніну, што ён – беларус, што Бацькаўшчына яго – Беларусь, якая мае вялікую і багатую гісторыю, а мовай беларускай карысталіся вядомыя і знакамітыя людзі, і якая была дзяржаўнай. Ужо назвы твораў, іх сюжэты сведчылі аб ярка патрыятычнай накіраванасці літаратурнай і публіцыстычнай дзейнасці пісьменніка, яго цікавасці да гісторыі народа – "Курган", "З мінуўшых дзён", "Магіла льва", "Бандароўна".

Адзначаючы цікавасць беларускіх літаратараў да мінуўшчыны, трэба сказаць, што яна не была выпадковай. Для нацыянальна-вызваленчых рухаў усіх народаў увогуле характэрна ўвага да мінулага. Палітычнае і духоўнае абуджэнне народа звязвалася з абуджэннем народнай памяці. Адкрыццё беларусамі саміх сябе, шырокага навакольнага свету было і адкрыццём гісторыі. Таму побач з вобразам маладой Беларусі ставіўся і вобраз старажытнай Бацькаўшчыны. Тут можна назваць творы гістарычнай тэматыкі не толькі Я.Купалы, але і М.Багдановіча (цыкл вершаў "Старая Беларусь", "Пагоня") і інш.

У шэрагу твораў пісьменнікі, магчыма, і ідэалізавалі мінулае, процістаўлялі яго сучаснаму становішчу. Але ў той час, у пачатку XX ст., такая ідэалізацыя была апраўданай і заканамернай. Звяртаючыся да яе як сродку абуджэння нацыянальнай свядомасці, літаратары не парушалі пачуцця меры. Ідэалізацыя служыла менавіта абуджэнню і паглыбленню гістарычнай свядомасці народа.

[1] *Журба Я.* Творы. Мн., 1993. С. 46.

[2] *Гарэцкі М.* Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1921. С.166.

Важную ролю ў патрыятычным выхаванні жыхароў Беларусі пісьменнікі адводзілі роднаму слову. Яно і "магутнае", і "бессмяротнае", і "свабоднае", і адначасова "загнанае". Роднай мове прысвяцілі хвалюючыя радкі Я.Купала, Я.Колас, М.Багдановіч, А.Гарун.

У пачатку XX ст. беларуская культура ў цэлым дасягнула значных поспехаў. Яна пачынае выходзіць за этнаграфічныя межы, становіцца поруч з культурай іншых народаў. Уздым нацыянальна-вызваленчага руху не толькі ў Беларусі, але і ў суседніх славянскіх народаў абудзіў імкненне беларусаў да ведаў, адукацыі. Пасля 1905 г. рэзка павялічваецца попыт на беларускую друкаваную кнігу, адкрываюцца бібліятэкі, кніжныя выдавецтвы. Менавіта ў гэты час выходзіць нямала твораў айчынных аўтараў – факт да таго беспрэцэдэнтны. Назіраецца сапраўдны ўсплеск перакладчыцкай дзейнасці. Многія мастакі слова лічылі сваім грамадскім абавязкам узбагаціць родную літаратуру перакладамі твораў з іншых літаратур свету. На беларускай мове з'яўляюцца творы рускіх, украінскіх, польскіх, англійскіх, нямецкіх аўтараў. Сярод перакладчыкаў былі Я.Купала, М.Багдановіч і інш. У гэты ж час у рускім і ўкраінскім друку з'яўляюцца пераклады беларускай паэзіі.

Перакладчыцкая дзейнасць пісьменнікаў Беларусі, іх літаратуразнаўчыя артыкулы, прысвечаныя М.Гогалю, Л.Талстому, Т.Шаўчэнку, В.Стэфаніку, М.Канапніцкай, Э.Ажэшка, былі не толькі адным са сродкаў уздыму ідэйна-эстэтычнага ўзроўню нацыянальнай літаратуры, але і прапагандай яе дасягненняў сярод іншых народаў. Значна пашыраюцца творчыя сувязі і яднанне беларускіх майстроў слова і пісьменнікаў суседніх народаў. Усё гэта дапамагала нашым літаратарам узняць нацыянальную паэзію і прозу на новую, больш высокую ступень.

Хуткае развіццё мастацкага слова выклікала да жыцця літаратурную крытыку, а таксама публіцыстыку. Апошні жанр, як вядома, прысвечаны актуальным пытанням і з'явам бягучага жыцця грамадства і ўтрымлівае фактычныя даныя аб розных яго баках, ацэнкі з пункту гледжання сацыяльнага ідэала аўтара, а таксама ўяўленне аб шляхах і спосабах дасягнення пастаўленых мэт. Садзейнічаючы фарміраванню грамадскай думкі, поглядаў, інтарэсаў людзей, уплываючы на дзейнасць розных сацыяльных структур, публіцыстыка адыграла пэўную ролю ў жыцці беларускага грамадства, з'яўлялася сродкам гістарычнага і мастацкага выхавання.

У публіцыстыцы А. Навіны (Луцкевіча), В. Ластоўскага, С. Палуяна, Л. Гмырака, Я. Купалы, Я. Коласа, М.Багдановіча была закладзена тэорыя, філасофія, эстэтыка нацыянальнага адраджэння з яго агульначалавечым гуманізмам і нацыянальнай годнасцю, без найменшых прыкмет нацыяналістычнай нецярпімасці.

Глыбокую і цэласную канцэпцыю нацыянальнага адраджэння пакінуў С. Палуян. У яе аснове – павышэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў. Гэта канцэпцыя выкладзена ў серыі яго артыкулаў у "Нашай ніве". Яе стрыжнем з'яўляецца вызначэнне месца і ролі мовы ў грамадскім жыцці, у самім існаванні нацыі.

Шчыра і натхнёна беларускія публіцысты і пісьменнікі даказвалі і адстойвалі правa народа на родную мову. "Мова наша, – пісаў В. Цітовіч, – гэта скарб наш багаты і пекны, а дарагі і мілы нам за тое, што ён наш, родны. Гэта спадчына, каторая асталася нам ад дзядоў і прашчураў нашых; мы павінны любіць і шанаваць, не зважаючы на знявагу праціўнікаў нашых. Людзей цёмных або збаламучаных трэба старацца асвячаць, шырачы памеж іх любоў да роднай зямлі, айчызны нашай, да мовы спрадвечнай нашай беларускай..."[1].

---

[1] Наша ніва. 1909. № 39.

Калі пад уплывам падзей пачатку XX ст. узнік беларускі друк, паўстала пытанне аб тым, на якім моўным матэрыяле ствараць сучасную беларускую літаратуру. С.Палуян лічыў, што ствараць яе трэба зыходзячы з двух асноўных вытокаў: жывой народнай гаворкі і старых пісьмовых помнікаў, у якіх захавалася шмат слоў, патрэбных для літаратурнай творчасці. М. Багдановіч раіў пры стварэнні новай нацыянальнай паэзіі арыентавацца толькі на жывую народную мову.

Паэтычная творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Цёткі, А. Гаруна і іншых сведчыць аб тым, што сучасная літаратурная мова стваралася на аснове жывой народнай гаворкі, з якой выбіраліся найбольш дакладныя, яркія, сакавітыя, гучныя і вобразныя словы. Яна ўзбагацілася таксама словамі суседніх моў. Створаная пісьменнікамі і публіцыстамі беларуская літаратурная мова стала гнуткай, гучнай, выразнай, сацыяльна дзеючай, адпаведнай эстэтычным патрабаванням.

**Перыядычны друк.** Развіццё друкаванага слова ў пачатку XX ст. адбывалася ў надзвычай складаных умовах. У выніку вялікадзяржаўнай нацыянальнай палітыкі царскага ўрада да 1906 г. беларускі друк фактычна не існаваў. Рэвалюцыя 1905–1907 гг. палажыла пачатак істотным зменам у гэтай галіне духоўнага жыцця беларусаў – пачалі выходзіць газеты і часопісы на роднай мове, ствараўца беларускія выдавецтвы.

Хваля рэвалюцыі дала штуршок развіццю перыядычнага друку. У 1906 г. у Вільні, Віцебску, Гродне, Магілёве, Мінску , іншых гарадах Беларусі выдавалася звыш 60 газет і часопісаў. Акрамя афіцыйных губернскіх і епархіяльных ведамасцей пачынаюць выходзіць грамадска-палітычныя і літаратурныя выданні. Пераважная большасць іх была рускамоўнай. 2/3 перыядычных выданняў выходзіла ў Вільні. У гэтым горадзе знаходзіліся рэдакцыі 26 газет і часопісаў, якія друкаваліся не толькі на рускай, але і на польскай, літоўскай, яўрэйскай мовах. Дзве газеты выдаваліся па-беларуску.

Ва ўмовах, калі пачалося вялікае аднаўленне грамадскага быцця і свядомасці, рэвалюцыйна-дэмакратычная грамадскасць Беларусі зразумела: каб ісці наперад і зрабіць дастойны ўклад у гісторыю і культуру Бацькаўшчыны, трэба перш за ўсё наладзіць нацыянальны перыядычны друк і кнігавыдавецкую дзейнасць. Спробу практычна вырашыць гэту задачу, выкарыстоўваючы магчымасці легальнага перыядычнага органа, зрабіла група леварадыкальна настроеных членаў Беларускай сацыялістычнай грамады, якая ўвосень 1906 г. наладзіла выпуск першай  легальнай газеты на роднай мове.

Першая беларуская газета для вясковага і местачковага рабочага народа – "Наша доля" выйшла ў свет 1 верасня значным для таго часу разавым тыражом у 10 тыс. экземпляраў. Палова тыражу была надрукавана кірыліцай і палова – лацінскім шрыфтам. Выкарыстанне двух шрыфтоў тлумачылася неабходнасцю зрабіць газету даступнай і для паланізаванай часткі насельніцтва Беларусі.

Першую беларускую газету прыкмецілі чытачы. Пра цікавасць да новага выдання сведчыла тое, як распаўсюджваўся першы нумар. Паводле сведчанняў сучаснікаў, за адзін дзень у Вільні разышлося звыш 3 тыс. экземпляраў.

Дэмакратычная накіраванасць, праўдзівае адлюстраванне грамадскага жыцця сур'ёзна занепакоілі ўлады. Пяць нумароў газеты з шасці былі канфіскаваны.

Нягледзячы на тое што "Наша доля" праіснавала нядоўга (апошні нумар выйшаў 1 снежня 1906 г.), яна пакінула свой след у гісторыі беларускага народа. Гэта было першае выданне, якое загаварыла з селянінам на яго роднай мове аб тым, што больш за ўсё яго хвалявала.

Факт выдання газет на роднай мове з'яўляўся паказчыкам таго, што ў вызваленчай барацьбе беларускі народ выступіў з акрэсленымі сацыяльнымі і нацыянальнымі патрабаваннямі.

Праз нацыянальны друк народ заявіў свае правы на самастойнае існаванне. Сведчанне таму – дзейнасць другой беларускай газеты "Наша ніва". Яна выдавалася амаль 9 гадоў – з лістапада 1906 па жнівень 1915 г. і была задумана як універсальнае выданне, якое спалучала функцыі газеты і штотыднёвага часопіса, і ўключала ў сваю праграму раздзелы грамадска-палітычнай і літаратурна-мастацкай перыёдыкі.

Галоўнай тэмай "Нашай нівы" былі Беларусь і лёс яе народа. У першым нумары абвяшчалася: "Мы будзем служыць усяму пакрыўджанаму беларускаму народу, пастараемся быць люстрам жыцця, каб ад нас як ад люстра свет падаў у цёмнасць. Мы будзем старацца, каб усе беларусы, што не ведаюць, хто яны ёсць, – зразумелі, што яны беларусы і людзі, каб пазналі свае правы..."

Газета пакінула глыбокі след у гісторыі нацыянальнага і культурнага адраджэння беларускага народа. Яе гадавікі-камплекты – гэта невычарпальная крыніца для даследавання беларускай культуры, своеасаблівая энцыклапедыя эпохі нацыянальнага станаўлення і культурна-асветніцкага руху.

Агульнапрызнана выдатная роля "Нашай нівы" ў развіцці нацыянальнай літаратуры. За кароткі тэрмін яна вылучыла дзесяткі таленавітых маладых аўтараў пераважна з сялянскага асяроддзя. Нельга знайсці ніводнага нумара газеты, дзе б не было апавяданняў, паэм, вершаў, крытычных артыкулаў, лістоў Я.Купалы, Я.Коласа, Цёткі, М.Гарэцкага, М.Багдановіча і многіх іншых. Яна з'яўлялася арганізуючым цэнтрам беларускай літаратуры. За першыя тры гады на старонках "Нашай нівы" было надрукавана 246 вершаў 61 паэта, 96 апавяданняў 36 аўтараў.

Трымаючы ў полі зроку перш за ўсё мову і літаратуру, газета клапацілася і пра іншыя віды мастацтва. Дзякуючы яе намаганням былі закладзены асновы Беларускага музея, наладзіўся нацыянальны прафесійны тэатр, зроблены першыя крокі для распрацоўкі беларускай музыкі, танца. На старонках газеты ішоў працэс фарміравання мастацтвазнаўчай думкі, фалькларыстыкі, тэатральнай крытыкі. Народнасць, нацыянальная самабытнасць, этнаграфізм, адкрытасць для ўспрымання здабыткаў культуры суседніх славянскіх культур – вось асноўныя рысы матэрыялаў "Нашай нівы" на тэмы культуры. Асноўная думка, якая праходзіла праз іх, – неабходнасць стварэння беларускай школы мастацтваў з нацыянальным стылем на аснове засваення народнай мастацкай спадчыны. Газета клапацілася аб ахове, вывучэнні і адраджэнні культурна-гістарычнай спадчыны беларусаў. Яна заклікала інтэлігенцыю, увесь народ да захавання памяці аб мінулым, нацыянальнай самасвядомасці, распачала кампанію па збіранню фальклору, захаванню абрадаў і звычаяў.

Сацыяльнай базай "Нашай нівы", аб'ектам яе клопатаў з'яўляўся працоўны народ, перш за ўсё сялянства. Пры аналізе і ацэнцы большасці публікацый газеты звяртаюць на сябе ўвагу іх форма і стыль, якія вынікалі з арыентацыі на сялян і абумоўліваліся наяўнасцю цэнзуры. Некаторая зададзеная спрошчанасць і народная вобразнасць пісьма, своеасаблівая падача многіх матэрыялаў сведчылі аб разуменні журналістамі асветніцкіх за-

Газета "Гоман"

дач, іх высокім прафесійным майстэрстве, здольнасці наладзіць просты, шчыры дыялог з чытачамі. Пра гэта пераканаўча сведчылі сотні лістоў у рэдакцыю з розных куткоў Беларусі.

Тыраж у 4,5 тыс. экзэмпляраў разыходзіўся поўнасцю. Беларускую газету чыталі ў Пецярбургу, Маскве, Пскове, Сочы, Севастопалі, Кіеве, Харкаве, Екацярынаславе, Адэсе, Рызе, Рэвелі, Юр'еве, Варшаве. Яна мела падпісчыкаў у губернях Цэнтральнай Расіі, на Урале, у Сібіры, ва ўкраінскіх губернях. "Наша ніва" рассылалася падпісчыкам у Празе, Парыжы, Лондане, Нью-Йорку. Яе ведалі на франтах Першай сусветнай вайны. Чытачамі па-за межамі Беларусі былі суайчыннікі, якіх лёс раскідаў па розных кутках Расійскай імперыі і свету.

Газета выступала за дружбу і згуртаванасць усіх народаў Беларусі. "Мы беларусы, – падкрэслівалася ў адным з артыкулаў, – павінны дакладна прытрымлівацца простай і высокай мэты адраджэння нашага краю, ідучы разам з прагрэсіўнымі людзьмі братніх нам народаў Расіі. Мы павінны глядзець на 10–30 год уперад у сваю будучыню, якая будзе такая, як і будучыня нашых суседзяў"[1].

Газета шырока асвятляла культурнае жыццё суседніх народаў. На яе старонках з'яўляліся матэрыялы, прысвечаныя выдатным прадстаўнікам славянскіх культур – М. Гогалю, Л. Талстому, Т. Шаўчэнку, Ю. Славацкаму. У "Нашай ніве" на беларускай мове друкаваліся творы В.Брусава, В.Стэфаніка, У.Караленкі, пераклады з англійскай, нямецкай, кітайскай моў.

Газету па праву можна лічыць флагманам нацыянальнай беларускай культуры ў пачатку XX ст. Яна заклала фундамент перыядычнага друку Беларусі.

Толькі дзякуючы падтрымцы шчырых сяброў, спачуванням рабочых друкарні газеце ўдавалася выходзіць рэгулярна. І ўсё ж у жніўні 1915 г. яе выданне спынілася ў сувязі з набліжэннем да Вільні фронту Першай сусветнай вайны.

З закрыццём "Нашай нівы" беларускі літаратурна-грамадскі рух паўгода не меў друкаваных органаў. Аднак, як адзначалася вышэй, у лютым 1916 г. у Вільні пачала выходзіць газета "Гоман", а ў Петраградзе з лістапада таго ж года – "Дзянніца" і "Swietać". Апошняя была адрасавана беларусам-католікам.

"Дзянніца", якую рэдагаваў Ц.Гартны, прадоўжыла дэмакратычныя традыцыі "Нашай нівы". Газета давала панараму падзей у Беларусі, ставіла пытанні развіцця асветы, увядзення ў школах навучання на роднай мове.

У 1912–1914 гг. на беларускай мове выдаваліся часопісы – літаратурны "Маладая Беларусь", сельскагаспадарчы "Саха", сатырычны "Крапіва", дзіцячы "Лучынка", у Петраградзе – "Раніца", "Думкі беларускай студэнцкай моладзі". Для беларусаў-католікаў у Вільні выдавалася з 1913 г. газета "Biełarus".

[1] Наша ніва. 1912. № 14.

Ажыўленне нацыянальнай перыёдыкі было спынена ў сувязі з пачаткам Першай сусветнай вайны.

**Кнігадрукаванне.** Дзякуючы рэвалюцыі 1905–1907 гг. атрымала права на легальнае існаванне і кнігадрукаванне на беларускай мове. Яшчэ "Наша ніва" пачала сістэматычнае выданне беларускіх кніг. Знакамітыя яе "Календары", брашуры, зборнікі, выдадзеныя рэдакцыяй , былі своеасаблівымі дадаткамі да газеты ці асобнымі адбіткамі газетных матэрыялаў.

Супрацоўнікі рэдакцыі адыгралі важную ролю ў стварэнні віленскага выдавецтва "Наша хата". У 1909–1911 гг. ім было выдадзена шэсць кніг тыражом 15 тыс. экземпляраў. Сярод іх паэма "Тарас на Парнасе", тры кнігі для дзяцей.

Два гады праіснавала другое віленскае выдавецтва "Беларускае выдавецкае таварыства"( аб ім шла гаворка вышэй ).

У 1906–1914 гг дзейнічалі таксама выдавецтвы "Мінчук", "Палачанін", "Саха", "Вясёлка". Кожнае з іх праіснавала каля аднаго года і выдала па дзве кнігі.

Найбольшы ўклад у развіццё беларускага кнігадрукавання ў пачатку XX ст. зрабіла, як ужо адзначалася, суполка "Загляне сонца і ў наша аконца". Выдавецтва было створана вясной 1906 г. у Пецярбургу. Яго з'яўленне ў сталіцы Расійскай імперыі не было выпадковым. У пачатку стагоддзя ў горадзе на Няве пражывала каля 70 тыс. беларусаў. У многім менавіта для задавальнення іх культурных патрэб і была створана суполка, якая паставіла мэтай адраджэнне беларускай мовы, літаратуры, мастацтва. Адным з яго заснавальнікаў быў прафесар Пецярбурскага універсітэта Б. Эпімах-Шыпіла.

Стваральнікі выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца" добра ведалі культурныя запатрабаванні жыхароў беларускай вёскі і горада, былі на ўзроўні перадавых ведаў эпохі, глыбока разбіраліся ў літаратуры, мастацтве, педагогіцы.

Нягледзячы на цэнзурныя перашкоды, цяжкае фінансавае становішча выдавецтва выпусціла за няпоўныя восем гадоў каля 40 кніг агульным тыражом звыш 100 тыс. экземпляраў. У расійскай сталіцы пабачылі свет творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, знакамітая купалаўская "Паўлінка", кнігі Я. Коласа, Ц.Гартнага, З.Бядулі, Цёткі, К. Каганца і інш. Выдаўцы не абмяжоўваліся толькі беларускімі аўтарамі. Яны выпускалі на роднай мове творы А. Чэхава, М. Крапіўніцкага, А. Міцкевіча.

Сімвалічна, што самай першай кніжкай, якую выдала суполка "Загляне сонца і ў наша аконца", быў беларускі буквар – "Беларускі лемантар, або Першая навука чытання".

Ведаючы, што чытачы ў Беларусі былі пераважна двух веравызнанняў і адукацыі – адны вучыліся ў рускай школе, а другія спасцігалі польскую грамату праз лацінскую графіку, суполка, як, дарэчы, і іншыя беларускія выдавецтвы, друкавала кнігі і кірыліцай, і лацінкай.

У 1906 г. суполка выдала серыю з 10 беларускіх паштовак: "Янка Лучына – пясняр беларускі", "Вінцук Марцінкевіч – пясняр беларускі", "Францішак Багушэвіч (М.Бурачок) – пясняр беларускі", на іншых былі адлюстраваны беларускія краявіды, сцэнкі з народнага жыцця.

Выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца" прапагандавала нацыянальную кнігу. У Мінску, Віцебску, Гомелі, Гродне, іншых гарадах Беларусі, а таксама ў Вільні, Варшаве дзейнічалі контрагенцтвы выдавецтва.

Дзякуючы дзейнасці гэтых выдавецтваў беларуская літаратура ўзнялася на новую ступень, набыла статус самастойнасці, паўстала поруч з іншымі

славянскімі літаратурамі. Выданне лепшых твораў XIX ст. паказала маладым аўтарам, што ім ёсць на каго раўняцца і ў каго вучыцца.

Беларускі легальны друк узнік на хвалі рэвалюцыі 1905–1907 гг. З'яўленне газет і часопісаў на роднай мове, кніг, пачынаючы ад падручнікаў і канчаючы мастацкімі творамі, – выдатная падзея ў жыцці беларускага народа ў пачатку XX ст. Друкаванае слова на роднай мове не толькі далучала беларусаў да дасягненняў сусветнай культуры, але і адкрывала вочы на стан асветы, ставіла пытанне пра беларускую школу.

**Тэатр.** Уздым вызваленчага руху ў пачатку XX ст., актывізацыя грамадска-палітычнага і культурнага жыцця , дасягненні рускага і ўкраінскага тэатраў, добра знаёмых жыхарам Беларусі, спрыялі развіццю тут аматарскага тэатральнага мастацтва. У пачатку XX ст. дзейнічалі народныя тэатры ў Мінску, Гродне, Полацку, Слуцку, Капылі, Дзісне, Давід-Гарадку, Радашковічах, Карэлічах і інш. У гэтых і іншых гарадах і мястэчках мясцовая інтэлігенцыя наладжвала "беларускія вечарынкі". На іх выконваліся беларускія народныя песні і танцы, дэкламаваліся вершы Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я.Коласа, Цёткі, ставіліся п'есы беларускіх, украінскіх і рускіх аўтараў. "Беларускія вечарынкі" спрыялі нараджэнню нацыянальнага прафесійнага тэатра. Яны рыхтавалі гледача, выхоўвалі будучых акцёраў, мастакоў, рэжысёраў. Вечарынкі натхнялі пісьменніцкую моладзь і на стварэнне драматургічных твораў. У гэтыя ж гады, як ужо адзначалася, узнік і мастацкі калектыў пад кіраўніцтвам І. Буйніцкага.



І. Буйніцкі са сваёй трупай

І. Буйніцкі быў адным з першых ініцыятараў "беларускіх вечарынак". Ён згуртаваў вакол сябе таленавітых спевакоў, танцораў, музыкантаў, дэкламатараў і ў 1907 г. стварыў у Палевічах (Дзісенскі павет) аматарскі тэатр. Калектыў выступаў у вёсках і мястэчках Віленскай і Мінскай губерняў з канцэртамі, якія карысталіся выключнай папулярнасцю сярод простага народа. Асаблівую прыхільнасць гледачоў выклікала тое, што артысты чыталі вершы і размаўлялі паміж сабой на роднай мове.

Пафас усёй дзейнасці І.Буйніцкага – гэта намаганне абудзіць у беларусаў чалавечую годнасць. Сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне было ідэалам гэтага чалавека, які прысвяціў сябе служэнню народу, чым выклікаў павагу многіх перадавых дзеячаў нацыянальнай культуры свайго часу. Прыхільнікі яго таленту ў Вільні, Варшаве, Пецярбургу, прымаючы яго тэатр , заўсёды выказвалі захапленне этнаграфічнай адметнасцю яго рэпертуару, творчай сталасцю інтэрпрэтатараў і пастаноўшчыкаў, майстэрствам выканаўцаў. Запісы і апрацоўкі І.Буйніцкім беларускіх народных песень, танцаў, калекцыя арнаментаў і нацыянальнай вопраткі, аб'яднанне вакол хору, харэаграфічнай і драматычнай труп здольных маладых людзей, якіх ён згуртоўваў і выхоўваў на прынцыпах гуманізму і дэмакратычных ідэалах, нястомныя вандраванні-падарожжы па Беларусі і па-за яе межамі – усё гэта яго заслуга перад сучаснікамі і нашчадкамі.

Спачатку праграма выступленняў складалася толькі з народных песень і танцаў, пазней у ёй з'явіліся п'есы. Па сутнасці адбыўся працэс пераўтварэння аматарскага калектыву ў прафесійны тэатр. Яго своеасаблівасцю быў сінтэтычны характар творчасці. Прадстаўленні звычайна ўключалі спектаклі, выкананне песень, танцаў, дэкламацыю вершаў беларускіх паэтаў.

Тэатр І.Буйніцкага і ў эстэтычным, і ў прафесійным, і ў грамадска-культурным сэнсе ўяўляў сабой самабытную, своеасаблівую і арыгінальную нацыянальную з'яву. Ён грунтаваўся на прынцыпах народнай творчасці і самабытным народным мастацтве.

Трыумфальны поспех гастролей беларускіх артыстаў у сталіцы Расіі паказаў, што ў беларускага народа ёсць свая нацыянальная культура, мастацтва, таленавітыя акцёры, музыканты, спевакі, якія закліканы далей развіваць творчасць у інтарэсах свайго народа.

Усенароднае прызнанне дзейнасці тэатра, гарачы прыём і народная спагада выклікалі незадаволенасць афіцыйных улад. Яны не маглі змірыцца з думкай, што беларускі народ заявіў аб сваёй мове і культуры. Прадстаўнікоў улады непакоіў і рэпертуар, у які ўваходзілі самабытныя творы маладых паэтаў. Адзін з харавых твораў успрымаўся і выканаўцамі, і слухачамі як нацыянальны гімн. Маецца на ўвазе кантата "А хто там ідзе?" (верш Я.Купалы). Таму з боку мясцовых улад артыстам чыніліся ўсялякія перашкоды. Гэта, а таксама матэрыяльныя цяжкасці прымусілі І.Буйніцкага ў 1913 г. закрыць тэатр. Ён зрабіў спробу стварыць новую трупу, але Першая сусветная вайна перашкодзіла ажыццяўленню задумы. Апошняй справай вялікага артыста быў удзел у стварэнні ў пачатку 1917 г. Першага таварыства беларускай драмы і камедыі, на аснове якога ўзнік у будучым Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы.

Тэатр Буйніцкага пакінуў пасля сябе мноства своеасаблівых маленькіх тэатральных парасткаў. Да пачатку Першай сусветнай вайны аматарскія калектывы дзейнічалі ва ўсіх губернскіх цэнтрах, іншых гарадах, а таксама мястэчках і нават некаторых вёсках. Сярод іх адметны след у гісторыі нацыянальнай культуры пакінуў Беларускі музычна-драматычны гурток у Вільні, заснаваны А.Бурбісам у 1910 г. На працягу шасці гадоў гэты калектыў прапагандаваў беларускае мастацтва. На яго сцэне ўпершыню былі пастаўлены п'есы "Залёты" В.Дуніна-Марцінкевіча і "Паўлінка" Я.Купалы. У рэпертуары гуртка былі п'есы беларускіх, украінскіх , рускіх драматургаў. Спектаклі, як і ў Першай беларускай трупе, мелі абагулены характар, уключалі фальклорныя і этнаграфічныя элементы.

У канцы 1916 г. у Вільні ўзнік беларускі дзіцячы тэатр. Яго арганізатарам і рэжысёрам была С. Корф. Яна пісала п'есы, рабіла інсцэніроўкі, кам-



Баранавічы. Тэатр

пазіцыі з батлеечных тэкстаў, казак. Яна ж з дапамогай настаўнікаў шасці віленскіх беларускіх школ-прытулкаў стварыла дзіцячы хор, танцавальны калектыў.

Дзейнасць Першай беларускай трупы, аматарскіх драматычных гурткоў адыгралі пэўную ролю ў паглыбленні свядомасці беларусаў, росце ў іх пачуцця нацыянальнай годнасці. Дзейнасць усіх гэтых калектываў была абумоўлена асветніцкімі задачамі беларускага грамадска-культурнага руху. Характар і напрамак іх творчасці вынікалі з пераканання ў неабходнасці асветы народа, уздыму яго культуры праз пазнанне і ўсведамленне свайго нацыянальнага і духоўнага "я", праз вывучэнне і зразуменне самога сябе ў мастацтве і тых культурных традыцыях, якія стварыў і збярог праз вякі народ.

**Музыка.** Народная песня, танец актыўна ўплываюць на фарміраванне духоўных рыс людзей, узбагачаюць іх маральныя якасці, выклікаюць усведамленне сваёй сілы, выхоўваюць любоў да Бацькаўшчыны. У пачатку XX ст. ва ўмовах нацыянальна-вызваленчага руху народная песня мела не толькі мастацкае, але і грамадскае значэнне, як адзін з важнейшых элементаў, што аб'ядноўвае людзей, палягчае іх арганізацыю і супрацоўніцтва для мэт нацыянальнага адраджэння. Значэнне музычнага фальклору асабліва ўзмацнілася менавіта ў гэты час дэмакратычнага ўздыму, калі песня нярэдка набывала агітацыйна-палітычнае гучанне.

Падзеі пачатку XX ст. абвастрылі, прыцягнулі ўвагу дзеячаў культуры да лёсу народа, яго творчасці. Адным з іх быў Л.Рагоўскі – кампазітар і дырыжор, які збіраў, вывучаў, творча апрацоўваў музычны фальклор. Высока ацэньваючы народную творчасць як найвялікшую каштоўнасць духоўнай культуры, разумеючы выхаваўчае значэнне народнай песні, ён выдаў у 1911 г. "Беларускі песеннік з нотамі для народных і школьных хароў". Высокамастацкія народныя мініяцюры, дзякуючы кампазітару, сталі каш-

тоўнымі набыткамі беларускай культуры. Нацыянальны песенны фальклор з'яўляўся той жыватворнай асновай, якая абумовіла народнасць яго творчасці. Абапіраючыся на народную песню, ён даў найбольш дакладнае і моцнае выяўленне псіхікі і пачуццяў беларускага народа і яго разуменне прыгажосці ў музыцы. Кампазітар выявіў у музычнай форме тое, што адчувалі яго суайчыннікі. Усё гэта праявілася ў "Беларускай сюіце для сімфанічнага аркестра" (1910) і ў кантаце "А хто там ідзе?" на верш Я. Купалы.

Раскрыццю музычных магчымасцей беларускай песні садзейнічалі К.Кімант (Янычоўская) – аўтар музыкі да спектакля "Залёты" В.Дуніна-Марцінкевіча, актыўная дзяячка Беларускага літаратурна-музычнага гуртка ў Вільні; С.Шымкус, які стварыў музыку для першай пастаноўкі купалаўскай "Паўлінкі".

Харавыя апрацоўкі беларускіх народных песень – гэта музычныя шэдэўры, у якіх народная мелодыя служыла асновай для стварэння арыгінальных самабытных кампазіцый, што вылучаліся глыбінёй псіхалагічных характарыстык.

У час нарастання палітычнай актыўнасці дэмакратычных пластоў насельніцтва, павышэння нацыянальнай свядомасці народа назіраўся ўзлёт харавога мастацтва. Харавыя калектывы існавалі ў Мінску, Віцебску, Навагрудку, Рэчыцы, іншых гарадах і мястэчках Беларусі. Яны праводзілі работу па прапагандзе і папулярызацыі беларускай, рускай і заходняй музыкі. Актывізацыя цікавасці да харавога спеву, у сваю чаргу, садзейнічала развіццю гэтага жанру ў прафесійнай музыцы. Большасць апрацовак народных песень і нешматлікіх арыгінальных твораў, якія адлюстроўвалі той бурны час, створаны менавіта для хору.

Уздым нацыянальна-вызваленчага руху садзейнічаў развіццю і дэмакратызацыі музычнай культуры беларускага народа, узбагаціў яе творамі, насычанымі глыбокім сацыяльным і грамадзянскім зместам, абумовіў з'яўленне новых жанраў, выклікаў росквіт такога старажытнага жанру, як харавы, а таксама апрацоўку народна-песеннай творчасці. У пачатку XX ст. былі закладзены фундамент прафесійнага музычнага мастацтва Беларусі.

**Жывапіс.** Рост нацыянальнай самасвядомасці, поспехі маладой літаратуры, тэатра, з'яўленне друку на роднай мове, фарміраванне інтэлігенцыі садзейнічалі новым з'явам у нацыянальным выяўленчым мастацтве, стымулявалі пошук новых формаў жывапісу і асабліва графікі.

Павышэнне грамадзянскай актыўнасці дзеячаў мастацтва, іх імкненне хутчэй адклікнуцца на сучасныя падзеі, адлюстраваць іх, даць адпаведную інтэрпрэтацыю, ацэнку адбіліся на развіцці самага аператыўнага і масавага жанру выяўленчага мастацтва – графіцы. На канкрэтным матэрыяле, пры хуткай змене падзей, мастакі стваралі свае творы, пераважна эскізы, эцюды, якія складалі своеасаблівы мастацкі летапіс Бацькаўшчыны. У гэты час пачалі свой шлях у мастацтве менавіта як графікі маладыя мастакі К.Каганец і Я.Драздовіч. Яны выступілі як сапраўдныя беларускія майстры. У іх творчасці нацыянальныя матывы праявіліся асабліва яскрава, графічныя творы пранізаны думкамі аб будучым беларусаў, іх імкненні да свабоды.

З тонкім густам, праўдзіва і рэалістычна маляваў К.Каганец карціны роднай прыроды і тыпы беларускага насельніцтва. Ён быў і адным з першых зачынальнікаў палітычнай карыкатуры ў Беларусі.

Усплеск нацыянальнай культуры аказаў уплыў на фарміраванне эстэтычных поглядаў маладых мастакоў, у першую чаргу такіх, як Я.Драздовіч.

Яго асоба унікальная ў мастацкім жыцці Беларусі XX ст. Графік і жывапісец, скульптар і дэкаратар, астраном і археолаг, фальклярыст і

пісьменнік – усё гэта арганічна спалучалася ў адным чалавеку. Сучаснікі называлі яго "маленькім беларускім Леанарда да Вінчы". Асноўная маса твораў стваралася Я.Драздовічам у паслякастрычніцкі час, але вытокі яго таленту, светапогляду – у самым пачатку стагоддзя.

Менавіта тады актыўна фарміраваліся яго ідэйна-эстэтычныя погляды, больш акрэсленай стала мэта жыцця – аддаць усе сілы сацыяльнаму і нацыянальнаму адраджэнню свайго народа. Спачатку мастак спалучаў у творчасці перадачу рэчаіснасці ў сімваліка-алегарычных вобразах з класічна-рэалістычным спосабам яе адлюстравання, асабліва ў графіцы. Захаваліся раннія графічныя пейзажы Я.Драздовіча, створаныя ў час вучобы ў Вільні (1906–1910). На невялікіх аркушах – краявіды роднай мастаку Дзісеншчыны. Край, багаты на легенды і старажытныя курганы, які клапатліва захоўваў скарбы народнага мастацтва, быў для маладога майстра жыватворнай крыніцай творчасці. Тут, у бесперапынных пошуках мастацкіх рашэнняў, у пастаянным звароце да духоўнай спадчыны народа, гістарычных каранёў беларусаў складваўся шматгранны талент Я.Драздовіча. У сваіх пошуках мастак імкнуўся не толькі высветліць гістарычныя карані народа, але і раскрыць яго духоўныя сілы. Самыя адметныя работы гэтага часу – афармленне кнігі маладой паэтэсы К. Буйло "Курганная кветка" (1914), першы жывапісны партрэт беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара Ф.Скарыны, эскізы графічных серый "Мір", "Ліда", "Крэва", "Гальшанскае гарадзішча". Гэтыя серыі не проста замалёўкі помнікаў дойлідства роднай зямлі XII–XV стст., а і філасофскі роздум аб жыцці далёкіх продкаў, рукамі і талентам якіх былі створаны непаўторныя па сваёй велічы, моцы і прыгажосці замкі. Гэта таксама глыбокае асэнсаванне гістарычнага мінулага народа – мастацкае, навуковае, паэтычнае.

У творах К.Каганца і Я.Драздовіча ў адрозненне ад сучасных ім мастакоў вобразы роднай зямлі ўпершыню акцэнтуюцца, як бы нанава адкрываюцца і падкрэсліваюцца.

У пачатку XX ст. працягвалася творчая дзейнасць Ф. Рушчыца, Г. Вейсенгофа, К. Стаброўскага, Ю. Пэна, М. Шагала, Я. Кругера. У творах гэтых майстроў пэндзля адчуваецца своеасаблівасць беларускага краявіду – шчырая напеўнасць, лірызм, павышаны інтарэс да найбольш эмацыянальных станаў прыроды. У бытавым жанры паглыбляліся сацыяльныя матывы.

**Архітэктура.** У гісторыю нацыянальнай культуры архітэктура канца XIX – пачатку XX ст. увайшла як яе неад'емная частка. Яна мела такія ж багатыя традыцыі, як і іншыя віды і жанры беларускага мастацтва пры наяўнасці ўплыву культур суседніх народаў.

Беларускую архітэктуру адрознівала нацыянальная своеасаблівасць у вырашэнні як функцыянальных, так і эстэтычных задач, што знайшло адлюстраванне ў агульнасці будаўнічых і мастацкіх прыёмаў, народнай творчасці. І гэта цалкам заканамерна: архітэктура не можа жыць толькі мінулым або прынесеным звонку. Галоўнай крыніцай яе паступальнага развіцця заўсёды заставаліся традыцыі народнай культуры.

Асноўны напрамак мастацка-стылёвых пошукаў беларускай архітэктуры быў непасрэдна звязаны з сацыяльна-палітычным развіццём эпохі. Сродкі мастацкай выразнасці збудаванняў характарызаваліся пастаянствам, выкарыстаннем традыцыйных кампазіцыйных прыёмаў, стрыманасцю ў прымяненні розных дэкаратыўных матываў, лаканізмам іх выканання.

Самабытныя карані беларускай архітэктуры праяўляліся не заўсёды адназначна, паколькі многія дойліды яшчэ не валодалі дастатковымі ведамі аб

гістарычнай спадчыне, не заўсёды праводзілі выразныя межы паміж беларускай, польскай, рускай і іншымі культурамі.

Адной з асаблівасцей мясцовай архітэктуры было выкарыстанне для дасягнення мастацкай выразнасці каменняў-валуноў. Вядома, што яшчэ старажытныя беларускія дойліды XI–XII стст. шырока прымянялі ў сваіх збудаваннях гранітныя валуны ў якасці дэкаратыўнага матэрыялу. Найбольшай папулярнасцю гэты мясцовы будаўнічы матэрыял карыстаўся ў будаўнікоў Віленскай і Віцебскай губерняў (вадзяны млын у Зарэччы, пачатак XX ст.; касцёл у Стайках, 1903 г.; касцёл у Браславе, канец XIX ст.).



Гомель.
Часоўня ў парку князя Паскевіча

Некаторыя архітэктары ў сваёй дзейнасці спрабавалі творча інтэрпрэтаваць асобныя элементы сярэднявечных замкаў, карыстаючыся кампазіцыйнымі метадамі іх пабудовы (будынак царкоўна-археалагічнага музея ў Мінску (архітэктар У. Струеў, 1913 г.; храм-помнік у в. Лясной (архітэктар А. Гоген, 1908 г.)).

Зварот да гісторыі беларускай культуры даваў дойлідам выдатны матэрыял для фарматворчасці. Многія з іх для вонкавага афармлення сваіх збудаванняў традыцыйна шырока выкарыстоўвалі металічнае каванне (кранштэйны, агароджы і г.д.), дэкаратыўную кераміку, разьбу па дрэве. Найбольш наглядна гэта праявілася пры афармленні культавых пабудоў, да якога ў большасці выпадкаў архітэктары маглі прывабіць лепшых мясцовых умельцаў (часоўня князя Паскевіча ў Гомелі, архітэктар Я.Чарвінскі, 1889 г.; жылы дом купца Мураўёва ў Гродне, пачатак XX ст.; касцёл у в. Слабадзе, 1903 г.).

Традыцыйным аздабляльным матэрыялам беларускага дойлідства была дэкаратыўная кераміка. У пачатку XX ст. з пранікненнем мадэрну ў беларускае мастацтва і архітэктуру цікавасць да гэтага матэрыялу значна ўзрасла. Гэтаму садзейнічала і тое, што вытворчасць буйных маёлікавых архітэктурных дэталей (пілястраў, карнізаў, кранштэйнаў, аконных ліштваў і г.д.) была наладжана на заводах Віцебска, Копысі, Магілёва, Барысава. Прыкладамі выдатнага выкарыстання паліхромнай керамікі ў беларускім дойлідстве з'яўляюцца: Успенская царква ў в. Пірэвічы (1902), пазямельна-сялянскі банк у Віцебску (архітэктар К.Тарасаў, 1917 г.), банк у Магілёве (архітэктар Б. Астроймаў, 1913 г.), храм-помнік у в. Лясной (архітэктар А.Гоген, 1908 г.), будынак гасцініцы "Еўропа" ў Мінску (1913).

З мноства напрамкаў мастацка-стылёвага развіцця архітэктуры найбольшае распаўсюджанне ў Беларусі атрымаў неакласіцызм. На фарміра-

ванне эстэтычных канцэпцый гэтага стылю аказала творчасць мінскіх дойлідаў Г. Гая і С. Гайдукевіча. Адметны ўклад у нацыянальную архітэктуру зрабілі рускія і польскія дойліды І. Фамін, У. Касякоў, У. Кенель, К. Казлоўскі, Ю. Дзяконьскі. Такім чынам, ішоў працэс уплыву рускай і польскай мастацкіх культур, якія садзейнічалі ўзбагачэнню нацыянальнай культуры.

# ГЛАВА 5

# БЕЛАРУСЬ У ГАДЫ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

## 1. Становішча Беларусі ў пачатковы перыяд вайны

**Усталяванне ваенна-паліцэйскага рэжыму**. **Мабілізацыя**. Працяглае супрацьстаянне эканамічных і палітычных інтарэсаў вядучых краін Еўропы выбухнула 19 ліпеня (1 жніўня) 1914 г. пачаткам вайны паміж двума ваенна-палітычнымі блокамі: цэнтральнымі дзяржавамі (Германія, Аўстра-Венгрыя) і Антантай (Англія, Францыя, Расія). Пастулова ў ваенную арбіту аказаліся ўцягнуты 33 дзяржавы з насельніцтвам звыш 1,5 млрд чалавек. Вайна набыла сусветны характар.

На расійска-нямецкім фронце вайна пачалася баямі ва Усходняй Прусіі, Польшчы, Галіцыі. Беларускія губерні, якія знаходзіліся паблізу тэатра ваенных дзеянняў, былі аб'яўлены на ваенным становішчы. Тэрыторыя Беларусі апынулася ў складзе Дзвінскай і Мінскай ваенных акруг, і ў адпаведнасці з указам Мікалая II ад 20 ліпеня 1914 г. уся мясцовая цывільная адміністрацыя мусіла падпарадкоўвацца іх начальнікам[1]. У Баранавічах размясцілася Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага вялікага князя Мікалая Мікалаевіча (дзядзькі цара). 29 ліпеня паводле яго загаду начальнікам ваенных акруг была разаслана дырэктыва "аказваць ваеннай сілай самае энергічнае садзеянне цывільным уладам, каб поўным яднаннем на месцах ваеннага і цывільнага начальства выкараніць адразу ўсялякую спробу да смуты"[2].

Каб прадухіліць магчымыя беспарадкі і падрыўныя дзеянні з боку праціўніка, царызм устанавіў у тылавым раёне жорсткі ваенна-паліцэйскі рэжым. Тут значна павялічылася колькасць паліцыі і жандармерыі, пашырылася сетка ваеннай контрразведкі, вырас штат яе тайнай агентуры[3]. Засноўваліся палкавыя, корпусныя, ваенна-акруговыя, аднаўляліся скасаваныя ў 1907 г. ваенна-палявыя суды[4]. Справы аб узброеным супраціўленні ўладам, разбоі, рабаванні, наўмысным знішчэнні ці псаванні маёмасці пад-

---

[1] *Авербах О.И.* Законодательные акты, вызванные войною 1914 года с Германиею, Австро-Венгриею и Турциею: законы, манифесты, указы Правительстующему Сенату, распоряжения и постановления министров и др. Вильна, 1915. С.15–16; *Якупов Н.М.* Борьба за армию в 1917 году. М., 1975. С.21–22.

[2] Цыт. па: *Беркевич А.Б.* Крестьянство и всеобщая мобилизация в июле 1914 г. // Исторические записки. М., 1947. Т.23. С.11.

[3] *Лемке М.* 250 дней в царской Ставке. Пг., 1920. С.513–514, 727–742.

[4] *Авербах О.И.* Законодательные акты, вызванные войною 1914 года с Германиею, Австро-Венгриею и Турциею: законы, манифесты, указы Правительствующему Сенату, распоряжения и постановления министров. С.18–19, 113–150, 622–623.; Документы и материалы по истории Белоруссии. Т.3. (1900–1917 гг.). Мн., 1953. С.786.

лягалі ваеннаму суду і пакаранню па законах ваеннага часу (да смяротнай кары ўключна).

Акрамя таго, былі забаронены сходы, шэсці і маніфестацыі, што пагражалі "грамадскаму спакою і дзяржаўнаму парадку". Пад фактычную забарону трапілі забастоўкі.

Жорсткай рэгламентацыі і абмежаванням падлягала распаўсюджванне інфармацыі – як пісьмовай, так і вуснай. Галоўнакамандуючыя франтоў і камандуючыя армій атрымалі права прыпыняць у падпарадкаванай ім мясцовасці перыядычныя выданні, а таксама перадачу паштовых адпраўленняў і тэлеграм. Уводзілася турэмнае пакаранне не толькі за абнародаванне сакрэтных ваенных звестак, але і за публічныя заклікі да спынення вайны. Забараняліся негатыўныя матэрыялы аб дзейнасці ўрада і яго органаў, службовых асоб, "выказванні знявагі альбо варожасці да рускай народнасці".

Нягледзячы на жорсткасць рэжыму ваеннага становішча, улады ў першыя дні вайны сутыкнуліся з сур'ёзнымі эксцэсамі пры правядзенні мабілізацыі салдат з запасу і апалчэнцаў. Зачыншчыкамі гэтых эксцэсаў амаль паўсюдна з'яўляліся сяляне, якія складалі 3/4 прызыўнікоў. Афіцыйная прапаганда ўнушала ім думку, што, ахвяруючы сабой дзеля абароны Айчыны, яны выконваюць высокую патрыятычную місію. Гэта параджала чаканні адпаведнай пашаны і спагады да сябе, надзею на такую ж самаахвярнасць з боку заможных класаў, прадстаўнікоў улады, якія не павінны пакінуць сам-насам з бядою сялянскія сем'і, што засталіся без кармільцаў.

Аднак на справе прызваныя ў войска сутыкаліся з чэрствасцю, чыноўніцкімі злоўжываннямі і хабарніцтвам падчас мабілізацыі, дрэннай арганізацыяй харчавання на зборных пунктах і іншымі праявамі казённай абыякавасці. На гэтай глебе ўзнікалі непаразуменні і ўспышкі агрэсіўнасці.

Гвалтоўныя акцыі з боку мабілізаваных сялян у дачыненні да памешчыкаў звычайна здараліся там, дзе паміж маёнткам і навакольнымі вёскамі існавалі застарэлыя канфлікты. Маральнае апраўданне такім дзеянням знаходзілася ў надзвычайнасці ваенных абставін. Такімі матывамі кіраваліся сяляне Бярозаўскай воласці Мазырскага павета, калі грамілі маёнтак Юзэфін князя С.Радзівіла, мабілізаваныя апалчэнцы і іншыя сяляне в. Конкавічы Петрыкаўскай воласці, якія ўчынілі ў верасні 1914 г. масавую парубку будаўнічага лесу ў суседнім маёнтку, і г.д.[1]

Хваля разгромаў маёнткаў мабілізаванымі на вайну сялянамі пракацілася па Мазырскім, Ігуменскім, Мінскім, Гомельскім, Рэчыцкім, Лепельскім і іншых паветах Беларусі.

Асабліва вострымі эксцэсамі суправаджалася мабілізацыя ў Сенненскім павеце. Акрамя рабаванняў памешчыцкіх сядзіб (у маёнтках Быкава, Рамшына, Сіманаўка, Ходцы, Пачаевічы), парубак лесу, шматсоценныя натоўпы мабілізаваных грамілі тут вінныя і харчовыя крамы і затым у нецвярозым стане нападалі на склады гандляроў, праезджыя падводы з таварамі, уступалі ў схваткі з паліцыяй і вайсковымі патрулямі[2].

П'яныя буйствы, анархічны разгул мабілізаваных мелі таксама месца ў Лепельскім, Аршанскім, Чавускім і іншых паветах. Фактычна да масавых пагромаў вінных крам непрадбачліва падштурхнула сама ўлада, якая якраз

---

[1] Крестьянское движение в России в годы первой мировой войны (июль 1914 – февраль 1917 г.): Сб. документов. М.; Л., 1965. С.95–98, 100–101; *Савицкий Э.М.* Революционное движение в Белоруссии (август 1914 – февраль 1917 гг.). Мн., 1981. С.96.

[2] НГАБ у Мінску, ф.1430, воп.1, спр.48806, арк.50–67; *Беркевич А.Б.* Крестьянство и всеобщая мобилизация в июле 1914 г. С.30–31.

у тыя дні забараніла легальны продаж спіртнога, не ўлічыўшы ўстойлівай традыцыі адзначаць розныя жыццёвыя падзеі ўжываннем алкагольных напояў.

Толькі падчас першых мабілізацый, з 19 па 25 ліпеня 1914 г., у Беларусі было разгромлена каля 60 панскіх маёнткаў і сядзіб заможных вяскоўцаў, дзесяткі вінных і харчовых крам і складоў. У той або іншай ступені гэтыя хваляванні ахапілі 20 з 35 беларускіх паветаў.

Для ўціхамірвання бясчынстваў царскія ўлады ўжывалі рэпрэсіі, прымянялі суровыя меры пакарання, у тым ліку агнястрэльную зброю. На месцы былі накіраваны карныя атрады, пачалі працаваць ваенна-палявыя суды. Многія ўдзельнікі эксцэсаў былі пакараны бізунамі, самыя апантаныя прысуджаны да смяротнага пакарання. Дзесяткі мабілізаваных з беларускіх губерняў трапілі на катаргу і ў арыштанцкія роты.

Наяўнасць моцнага паліцэйска-адміністрацыйнага апарату, падмацаванага ваеннай сілай, дазволіла паспяхова правесці мабілізацыю ў вызначаныя тэрміны. Яўка мабілізаваных на прызыўныя ўчасткі была высокай (у Віцебскай губерні, напрыклад, дасягала 95 %, што адпавядала агульнарасійскаму паказчыку)[1]. За ўсю вайну з Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай і неакупіраваных паветаў Віленскай губерняў у царскую армію было прызвана 682,2 тыс. чалавек. Гэта складала прыкладна 51 % ад колькасці дарослых працаздольных мужчын і 12–13 % ад колькасці ўсяго насельніцтва[2]. З улікам мабілізаваных у заходнім рэгіёне Беларусі (да яго акупацыі немцамі) можна дапусціць, што ўсяго ў расійскую армію было прызвана не менш чым 800 тыс. беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі[3].





Лістоўка і пячатка Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны

**Адносіны да вайны насельніцтва, палітычных партый і рухаў.** У пачатку вайны царызму ўдалося на непрацяглы час кансалідаваць грамадства на платформе агульнаімперскага патрыятызму. Афіцыйная прапаганда ўкараняла ў масавую свядомасць уяўленне аб справядлівым, абарончым характары вайны з боку Расіі і фарміравала вобраз агрэсіўнага, антыгуманнага, здатнага на "нямецкія зверствы" праціўніка. Асноўная стаўка пры гэтым рабілася на ідэю славянскай салідарнасці. Такі напрамак афіцыйнай прапагандзе быў зададзены першымі маніфестамі Мікалая II аб уступленні ў вайну з Германіяй і Аўстра-Венгрыяй[4]. У інтэрпрэтацыі апантанага вялікаімперскімі амбіцыямі рэжыму славянская ідэя набывала форму агрэсіўнага панславізму, пры дапамозе якога, паводле тагачаснай

---

[1] *Савицкий Э.М.* Революционное движение в Белоруссии (август 1914 – февраль 1917 гг.). С.75, 95; *Писарев Ю.А.* Новые подходы к изучению истории первой мировой войны // Новая и новейшая история. 1993. №3. С.52.

[2] Россия в мировой войне 1914–1918 гг. (в цифрах). М., 1925. С.4, 21, 49.

[3] Уведзеная ў навуковы ўжытак лічба 923,2 тыс. (гл.: *Карнялюк В.* Пра колькасць прызваных у расійскае войска з Віленскай, Віцебскай, Гарадзенскай, Менскай і Магілёўскай губ. у час Першай сусветнай вайны (1914–1917) // Гістарычны альманах. Гародня, 2000. Т.3. С.177–180) таксама з'яўляецца ацэначнай і пакуль не выглядае дастаткова аргументаванай.

[4] Летопись войны. 1914. №1. С.4; НГАБ у Мінску, ф.295, воп.1, спр.8291 Б, арк. 77–79.

заўвагі У.Леніна, "царская дыпламатыя не раз ужо ажыццяўляла свае грандыёзныя палітычныя ашуканствы"[1].

Для апрацоўкі насельніцтва быў запушчаны адмысловы прапагандысцкі механізм. Мільённымі тыражамі выдаваліся лістоўкі і бясплатныя брашуры шавіністычнага зместу. Праўрадавая сталічная і мясцовая прэса захлёбвалася ва ўсхваленні "славянскай зброі", спакушала выгодамі ад хуткай заваёвы Расіяй новых тэрыторый ў Еўропе і на Блізкім Усходзе.

Пад уплывам казённай прапаганды многія гараджане сустрэлі вайну ўсплёскам непадробленага патрыятызму. Следам за Петраградам і Масквою ў Мінску, Магілёве, Пінску, Гомелі, іншых гарадах і мястэчках Беларусі прайшлі патрыятычныя маніфестацыі, набажэнствы, адбыліся сходы, дзе выказваліся вернападданніцкія пачуцці, дэкларавалася гатоўнасць да самаахвярнасці ў імя цара і Айчыны. Асабліва падатлівай на ўра-патрыятычную прапаганду аказалася моладзь, многія прадстаўнікі якой добраахвотна запісваліся ў войска[2].

Сялянства ўспрымала вайну больш стрымана, як правіла, без легкадумнага энтузіязму. Вайна была для селяніна цяжкім бедствам, якое несла гора і пакуты. Усведамленне гэтага з'яўлялася адной з прычын гвалтоўных эксцэсаў у ходзе мабілізацыі, часам жа выяўлялася ў форме антываенных і нават антыцарскіх выказванняў. Разам з тым і частка сялян, асабліва маладзейшага ўзросту, у пачатку вайны трапіла пад уздзеянне афіцыйнай прапагандысцкай кампаніі.

Пачатак вайны паставіў палітычныя партыі і грамадскія рухі перад неабходнасцю вызначыць у адносінах да яе свае пазіцыі. Абвешчаныя царызмам ваенныя мэты (анексія славянскіх зямель, захоп праліваў Басфор і Дарданелы з г. Канстанцінопалем, падзел Асманскай імперыі і г.д.) адпавядалі ідэалагічным пастулатам чарнасоценных арганізацый і агульнарасійскіх кансерватыўных партый. Іх друкаваныя органы ў беларуска-літоўскім краі ("Виленский вестник", "Северо-Западная жизнь" і інш.) з імпэтам падключыліся да афіцыйнай кампаніі па нагнятанні мілітарысцкага псіхозу.

Па сутнасці аналагічную пазіцыю занялі і расійскія лібералы. Кадэцкія памкненні дэмакратызаваць сацыяльна-палітычны лад краіны былі ў пачатку вайны адсунуты на другі план прагай да захавання і пашырэння імперскай веліччы Расіі[3]. Услед за правымі органамі друку ў ліберальнай прэсе загучалі заклікі да "славянскага яднання".

26 ліпеня 1914 г. галасамі правых фракцый і лібералаў, у тым ліку дэпутатаў ад Беларусі, IV Дзяржаўная дума зацвердзіла запатрабаваныя ўрадам ваенныя крэдыты.

Імкнучыся ўнесці свой уклад ў ваенную перамогу і пашырыць ва ўмовах абвешчанага „ўнутранага міру" ўплыў у грамадстве, буржуазна-ліберальныя палітыкі выступілі летам 1914 г. ініцыятарамі стварэння новых няўрадавых арганізацый: Усерасійскага земскага саюза дапамогі хворым і паране-

---

[1] *Ленин В.И.* Социализм и война // Полн. собр. соч. Т.26. С.329.

[2] НГАБ у Мінску, ф.295, воп.1, спр.8591 Б, арк.86, 192, 209; БДАМЛіМ, ф.3, воп.1, спр.93, арк.6–7; *Солодков Т.Е.* Борьба трудящихся Белоруссии против царизма (1907–1917 гг.). Мн., 1967. С.279; *Игнатенко И.М.* Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии. Мн., 1986. С.46.

[3] Война: Хроника и отклики. 1914. №1. С.70.

ным воінам (УЗС) і Усерасійскага саюза гарадоў (УСГ)[1]. У тыле ствараліся губернскія, павятовыя, на тэатры ваенных дзеянняў – франтавыя камітэты абедзвюх арганізацый. Беларускія губерні пакрыліся густой сеткай падведамасных саюзам рамонтных майстэрняў, харчовых пунктаў, шпіталяў. Для працы ў гэтых установах поруч з мясцовымі жыхарамі ў Беларусь хлынулі з унутраных губерняў Расіі тысячы чыноўнікаў, абслугоўваючага персаналу і рабочых.

Левая частка расійскага палітычнага спектра – сацыялісты – не змаглі выпрацаваць адзіную платформу адносна пачатай вайны. У іх асяроддзі сфарміравалася, з аднаго боку, абаронніцкае крыло (пераважна з ліку эсэраў і меншавікоў), якое заклікала прыпыніць рэвалюцыйную барацьбу да поўнага знішчэння "прускага мілітарызму", з другога – інтэрнацыяналісцкая плынь, што імкнулася захаваць вернасць міратворчым прынцыпам, абвешчаным перадваеннымі кангрэсамі II Інтэрнацыянала. У Беларусі, дзе рэвалюцыйная дзейнасць моцна ўскладнялася ўмовамі ваеннага становішча, разрозненыя групы эсэраў і сацыял-дэмакратаў схіляліся да абаронніцкага крыла, аддавалі перавагу легальнай дзейнасці ва ўстановах УЗС і УСГ, кааператывах, дабрачынных арганізацыях. Аналагічную пазіцыю ў пачатку вайны заняў і Бунд, засяродзіўшыся на дабрачыннай дапамозе беспрацоўным, уладкаванні яўрэяў-высяленцаў і бежанцаў.

У беларускім нацыянальным руху ў пачатку вайны пераважалі пацыфісцкія настроі. Газета „Наша ніва" ўстрымлівалася ад публікацыі афіцыйна-патрыятычных матэрыялаў, у падцэнзурных умовах старалася правесці думку, што вайна нясе мільёнам людзей не згоду, волю і дабрабыт, а незлічоныя пакуты, кроў, суцэльнае спусташэнне[2]. Аналагічную лінію вяла блізкая да беларускага руху віленская "Вечерняя газета"[3].

Разам з тым адраджэнцы ўсведамлялі, што вайна можа змяніць геапалітычную сітуацыю на ўсходзе Еўропы і адкрыць больш шырокія перспектывы для народаў, пазбаўленых сваёй дзяржаўнасці. З гэтага выніклі заклікі да суродзічаў "гуртаваць свае сілы", каб сцвердзіць сябе пасля вайны ў якасці самастойнай нацыянальнай супольнасці[4].

**Адступленне расійскіх войскаў. Свянцянскі прарыў.** Расія пачала вайну спробай заняць Усходнюю Прусію, адкуль меркавалася ажыццявіць далейшае наступленне ўглыб Германіі. Спачатку паспяховыя для армій расійскага Паўночна-Заходняга фронту баі ва Усходняй Прусіі закончыліся акружэннем двух расійскіх карпусоў і поўным адцясненнем царскіх войскаў на першапачатковыя пазіцыі.

Больш паспяхова разгарнуў дзеянні расійскі Паўднёва-Заходні фронт у Галіцыі супраць аўстра-венгерскіх армій: быў заняты г. Львоў, пазней узята крэпасць Перамышль. Уся Усходняя Галіцыя апынулася пад расійскай акупацыяй.

Аднак далейшыя аперацыі расійскага камандавання на тэрыторыі Польшчы не прывялі да замацавання і развіцця дасягнутага поспеху. Знясіленыя бесперапыннымі баямі, арміі абодвух расійскіх франтоў пад ударамі лепш

---

[1] *Дякин В.С.* Русская буржуазия и царизм в годы первой мировой войны (1914 – 1917). Л., 1967. С.68–69, 121.

[2] Наша ніва. 1914. 2, 9, 23 кастр., 6 ліст., 25 снеж.; *Купала Я.* Поўны збор твораў. Мн., 1997. Т.3. С.210–218.

[3] БДАМЛіМ, ф.3, воп.131, арк.14–15, 22 адв. – 23.

[4] Скарыніч: Літ.-навук. гадавік. Вып.2. Мн., 1993. С.157–159; БДАМЛіМ, ф.3, воп.1, спр.97, арк.59–61.

узброенага праціўніка пачалі з канца 1914 – пачатку 1915 г. адыходзіць на ўсход. У выніку Галіцыя з г. Львовам была страчана.

З цяжкімі баямі летам 1915 г. расійскія арміі выйшлі з "польскага мяшка", пазбегнуўшы акружэння. Пры гэтым была пакінута Варшава, узарвана крэпасць Івангорад, палі Новагеоргіеўск, Асавец. 13 (26) жніўня расіяне пакінулі Брэст, 21 жніўня (3 верасня) – Гродна, затым – важныя чыгуначныя вузлы Лунінец, Ліда, Баранавічы[1].

Адначасова немцы разгарнулі наступленне ў Літве, занялі Шаўлі, Панявеж, Коўна і стварылі пагрозу прарыву на Вільню. Навісла таксама небяспека над Дзвінскам і Рыгай, што азначала набліжэнне ваенных дзеянняў да сталіцы імперыі – Петраграда.

У жніўні 1915 г. рашэннем вярхоўнага камандавання расійскі Паўночна-Заходні фронт быў падзелены на два: Паўночны (пад камандаваннем генерала М.Рузскага) і Заходні (пад камандаваннем М.Аляксеева). Паўночны фронт павінен быў прыкрываць шляхі на Петраград. Перад Заходнім фронтам у складзе 1-й (да красавіка 1916 г.), 2-й, 3-й, 4-й (да снежня 1916 г.), 10-й і Асобай (у ліпені – верасні 1916 г. і ў лістападзе 1916 – ліпені 1917 г.) армій ставілася задача абараняць шляхі, што вялі на Маскву[2]. Заходні фронт і большая частка злучэнняў 5-й арміі Паўночнага фронту да выхаду Расіі з вайны дыслацыраваліся на тэрыторыі Беларусі.

Неўзабаве адбыліся буйныя кадравыя перастаноўкі ў вышэйшым эшалоне расійскага камандавання. Цар адхіліў ад пасады Мікалая Мікалаевіча і ўсклаў абавязкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага на сябе. Начальнікам штаба быў прызначаны М.Аляксееў, у руках якога фактычна і сканцэнтравалася стратэгічнае кіраванне войскамі. Стаўка была пераведзена з Баранавічаў у Магілёў. На пасаду галоўнакамандуючага Заходнім фронтам заступіў генерал А.Эверт. Штаб фронту размясціўся ў Мінску.

Аднак арганізацыйныя і кадравыя перамены не змаглі прадухіліць далейшага адступлення расійскай арміі. Вялізная еўрапейска-азіяцкая імперыя аказалася непадрыхтаванай да працяглай вайны ў тэхніка-эканамічным плане. Запасы баявых сродкаў, выпушчаных у мірны час, хутка вычарпаліся. Царскае войска было дрэнна забяспечана артылерыяй і снарадамі, адчуваўся востры дэфіцыт вінтовак і патронаў. Слабей развіты, чым у Германіі і Аўстра-Венгрыі, транспарт не ў поўнай меры спраўляўся з перавозкамі на гіганцкія адлегласці жывой сілы і ўзбраенняў. Сітуацыю ўскладнялі шматлікія праявы некампетэнтнасці каманднага саставу, нізкія маральныя якасці часткі яго прадстаўнікоў. Салдаты і афіцэры зняверваліся ў мэтазгоднасці працягу вайны, магчымасці дасягнення перамогі і масава здаваліся ў палон[3].

Тым часам германскае камандаванне разгарнула ў Літве і на захадзе Беларусі буйную армейскую групоўку (41,5 пяхотных і 6 кавалерыйскіх дывізій) і вырашыла нанесці галоўны ўдар з раёна Коўны ў абход Вільні па кепска забяспечаным стыку 5-й арміі Паўночнага і 10-й арміі Заходняга франтоў

---

[1] *Ростунов И.И.* Русский фронт первой мировой войны. М., 1976. С.257; *Карнялюк В.* Гродзенскі эпізод першай сусветнай вайны // Беларуска-нямецкае грамадска-культурнае ўзаемадзеянне: гісторыя, сучаснасць, перспектывы. Мн., 1996. С.38.

[2] *Ростунов И.И.* Русский фронт первой мировой войны. С.264–265; *Базанов С.Н.* Фронтовые пути русских армий // Военно-исторический журнал. 1996. №1. С.72–81; №4. С.24–36.

[3] *Керсновский А.А.* История русской армии. Т.3: 1881–1915 гг. М., 1994. С.306.

паміж Вільняй і Дзвінскам. Адначасова дэманстратыўнымі дзеяннямі ў напрамку Ліды і Баранавічаў немцы меркавалі скаваць асноўныя сілы Заходняга фронту. У канцы жніўня 1915 г. германская кавалерыйская група генерала Гарнье ў складзе чатырох дывізій перайшла ў наступленне і прарвала абарону расіян на стыку франтоў, адкрыўшы сабе шлях на Свянцяны–Барысаў. Моцныя кавалерыйскія злучэнні немцаў рушылі ў раён Крывічы – Вілейка – Маладзечна – Смаргонь з задачай выйсці ў тыл 10-й расійскай арміі. 1 верасня немцы захапілі Вілейку, 6 верасня іх перадавыя раз'езды дасягнулі Смалявіч і перарэзалі чыгуначную лінію Мінск – Масква[1].

Над групоўкай расійскіх войскаў у Заходняй Беларусі навісла пагроза акружэння. Пакінуўшы ў пачатку верасня Вільню, расіяне вымушаны былі адысці на лінію Міхалішкі – Ашмяны – Баранавічы – возера Выганаўскае. Падчас адступлення яны па загаду камандавання разбуралі чыгуначнае палатно, масты, станцыйныя збудаванні, знішчалі ўраджай на корані, разнастайную маёмасць, якую не ўдавалася вывезці[2].

Пасля складанай перагрупоўкі, падчас якой да раёна прарыву з розных армій былі перакінуты некалькі карпусоў, аб'яднаных пад кіраўніцтвам камандавання 2-й арміі, коштам вялікіх намаганняў расіяне павольна перайшлі ў контрнаступленне ў паўночна-заходнім напрамку. У ходзе дзесяцідзённых напружаных баёў яны выйшлі ў раён Верхняя Вілія – Смаргонь–Маладзечна, адкінуўшы праціўніка да азёр Свір і Нарач. Да 19 верасня (2 кастрычніка) Свянцянскі прарыў быў ліквідаваны. Гэта была адна з найбуйнейшых кавалерыйскіх аперацый Першай сусветнай вайны[3].

Агульным вынікам наступлення германскіх і аўстра-венгерскіх войскаў летам-восенню 1915 г. стала акупацыя імі Царства Польскага, Курляндыі, Літвы і Заходняй Беларусі. У кастрычніку 1915 г. расійска-нямецкі фронт надоўга стабілізаваўся. У Беларусі ён прайшоў па лініі Дзвінск – Паставы – Смаргонь – Баранавічы – Пінск, падзяліўшы тэрыторыю на дзве няроўныя часткі. Па абодвух баках фронту размясціліся аграмадныя арміі праціўнікаў, якія разам з велізарнай колькасцю дапаможных службаў, тылавых устаноў метадычна спусташалі край на працягу трох наступных гадоў.

**Мілітарызацыя прамысловасці і транспарту. Ваенныя павіннасці насельніцтва.** Зацяжная вайна спарадзіла надзвычайную напружанасць народнай гаспадаркі, запатрабавала выкарыстання ўсяго эканамічнага патэнцыялу. Дэфіцыт зброі і прадметаў ваенна-тэхнічнага забеспячэння вымушаў да максімальнага задзейнічання ваенных заводаў, увядзення на прадпрыемствах надзвычайнага рэжыму працы, прыцягнення на абаронныя работы цывільнага насельніцтва.

У першыя месяцы вайны каля 20 % усіх дзеючых у Беларусі прадпрыемстваў спынілі працу[4]. Цагляна-кафельная, шкларобчая, вінакурная галіны прамысловасці апынуліся ў заняпадзе, іншыя пачалі пераводзіць сваю вытворчасць на ваенныя рэйкі. Металаапрацоўчыя прадпрыемствы Мінска, Гомеля і іншых гарадоў сталі выпускаць узбраенне, боепрыпасы, транспартныя сродкі і г.д. Ваеннае ведамства, а таксама УЗС і УСГ адкрылі ў Мінску, Бабруйску, Гомелі, Полацку новыя прадпрыемствы, перасоўныя майстэрні

---

[1] *Зайончковский А.М.* Первая мировая война. СПб., 2000. С. 424.

[2] Новый экономист. 1915. №30. С.5; *Данилов Ю.Н.* На пути к крушению: Очерк из последнего периода русской монархии. М., 1992. С.90; *Ростунов И.И.* Русский фронт первой мировой войны. С.246.

[3] *Евсеев Н.* Свентянский прорыв (1915 г.). М., 1936.

[4] Экономика Белоруссии в эпоху империализма. Мн., 1963. С.89–90, 93.

для вырабу і рамонту зброі, ваеннай тэхнікі. У Мінску, Магілёве, іншых гарадах адкрыліся майстэрні па рамонту армейскага абмундзіравання. На забеспячэнне войска працавалі многія хлебапякарныя і хлебасушыльныя прадпрыемствы, тытунёвыя фабрыкі.

У канцы першага года вайны заказы ваеннага ведамства выконвалі 217 прадпрыемстваў Беларусі. Дзве трэці рабочых цэнзавай прамысловасці былі заняты выпускам абароннай прадукцыі.

Беларусь з'яўлялася рэгіёнам, праз які пралягалі найважнейшыя транспартныя шляхі забеспячэння дзеючай расійскай арміі. Між тым па густаце чыгуначнай сеткі царская Расія сур'ёзна саступала праціўнікам. Адчуваўся востры недахоп паравозаў і вагонаў[1]. Такое становішча прымусіла максімальна падпарадкаваць чыгуначны транспарт інтарэсам фронту. Камерцыйны рух у заходнім напрамку рэзка скараціўся. Але гэта не забяспечыла здавальняючай дастаўкі ваенных грузаў. У студзені-лютым 1915 г., не справіўшыся са снежнымі заносамі, чыгункі апынуліся ў стане крызісу.

Неспрыяльны для Расіі ход ваенных дзеянняў, эканамічнае бязладдзе прымушалі царскую бюракратыю шукаць выйсце на шляхах рэарганізацыі кіравання народнай гаспадаркай. У жніўні 1915 г. былі створаны надзвычайныя органы кіравання эканомікай – пастаянна дзеючыя Асобыя нарады: па абароне, па паліве, па харчаванні і па перавозках. Разам з чыноўнікамі вялікае прадстаўніцтва ў іх атрымалі Дзяржаўны савет, Дзяржаўная дума, а таксама УЗС і УСГ, іншыя грамадскія арганізацыі. Тым самым узмацнілася пранікненне буржуазіі ў сістэму дзяржаўных органаў. Асобыя нарады мелі свой апарат на перыферыі. Арганізоўваліся мясцовыя нарады з удзелам чыноўнікаў і прадстаўнікоў мясцовай грамадскасці. У Мінску, напрыклад, для ўпарадкавання чыгуначнай дастаўкі была створана Асобая нарада пад старшынствам начальніка Лібава-Роменскай чыгункі Р. Зелі, у склад якой увайшлі таксама іншыя кіраўнікі Лібава-Роменскай і Аляксандраўскай чыгунак, прадстаўнікі мінскага губернатара, гарадскога самакіравання. Асобую нараду па харчаванні для Мінскай губерні ўзначаліў старшыня губернскай земскай управы Б.Самойленка. Упаўнаважаным Асобай нарады па паліве для Мінскай губерні стаў губернатар А. Чарняўскі. Аналагічныя структуры ствараліся і ў іншых губернях[2].

Адначасова са стварэннем дзяржаўных органаў рэгулявання народнай гаспадаркі буржуазія засноўвала свае грамадскія арганізацыі. У маі 1915 г. для каардынавання дзейнасці прадпрымальнікаў па мабілізацыі эканомікі на патрэбы вайны быў створаны Цэнтральны ваенна-прамысловы камітэт, які неўзабаве ўзначаліў лідэр партыі акцябрыстаў А.Гучкоў. Ужо ў сярэдзіне 1915 г. дзейнічалі мясцовыя ваенна-прамысловыя камітэты ў Вільні, Гродне, Беластоку, Мінску, Слоніме, Пінску, Бабруйску, Магілёве, Полацку і Віцебску (з аддзелам у Дзвінску). У іх уваходзілі прамыслоўцы, банкаўскія дзеячы, прадстаўнікі тэхнічнай інтэлігенцыі. У ліпені 1915 г. на з'ездзе мясцовых камітэтаў у Вільні арганізаваўся Паўночна-Заходні абласны ВПК. Ён распаўсюджваў свой уплыў на заводы, фабрыкі, ваенныя майстэрні, якія абслугоўвалі Заходні і часткова Паўночны франты[3].

---

[1] *Сидоров А.Л.* Экономическое положение России в годы первой мировой войны. М., 1973. С.567, 576, 581–586.

[2] НГАБ у Мінску, ф.22, воп.1, спр.1287, арк.33-37, 46-47 адв.; арк.18–20 адв., 23–25, 42 адв. – 45; арк.21–21 адв., 45 адв.– 46

[3] *Солодков Т.Е.* Борьба трудящихся Белоруссии против царизма (1907–1917 гг.). С.297–298, 329.

Аднак у сувязі з набліжэннем фронту ваенна-прамысловыя камітэты не паспелі разгарнуць у Беларусі шырокай дзейнасці па арганізацыі вытворчасці і былі пераарыентаваны на правядзенне эвакуацыі. Паўночна-Заходні абласны ВПК пераехаў у Петраград, дзе знаходзіўся да вясны 1916 г. У лютым 1916 г. было адкрыта прадстаўніцтва камітэта ў Маскве.

Пераключэнне працы народнай гаспадаркі на патрэбы фронту суправаджалася ўсталяваннем строгага ваеннага рэжыму на прамысловых прадпрыемствах і транспарце, ускладаннем шматлікіх павіннасцей на насельніцтва. Праца на прадпрыемствах, якія выпускалі ваенную прадукцыю, разглядалася як асобы від вайсковай службы, з усімі вынікамі. Працягласць рабочага дня практычна не рэгламентавалася, былі адменены выхадныя і святочныя дні, шырока прымяняліся звышурочныя работы. Строгія захады рабіліся па папярэджанні забастовак, асабліва на чыгунках.

Цяжкім ярмом для жыхароў Беларусі сталі абаронныя работы: капанне акопаў, рамонт дарог, будаўніцтва мастоў, ахова розных аб'ектаў і інш. Да гэтых работ у прымусовым парадку прыцягвалася амаль усё насельніцтва прыфрантавой паласы, у тым ліку жанчыны, старыя і падлеткі[1].

Мясцовае насельніцтва і бежанцы прыцягваліся таксама да ўборкі ўраджаю ў гаспадарках памешчыкаў і мабілізаваных на вайну сялян. Рабіліся спробы арганізаваць і добраахвотныя сельскагаспадарчыя дружыны. Такі рух, у прыватнасці, быў арганізаваны ў Мінскай губерні сярод старшакласнікаў ніжэйшых і сярэдніх навучальных устаноў[2].

Велізарным цяжарам на плечы беларускага жыхарства ляглі шматлікія і фактычна не рэгламентаваныя рэквізіцыі. Рэквізаваліся самыя розныя рэчы і прадукты: збожжа, мука, сена, салома, буйная рагатая і дробная



Бежанцы. Чарга за харчаваннем. 1915 г.

---

[1] Документы и материалы по истории Белоруссии. Т.3. С.791, 821–823, 831–834.

[2] *Страхов В.В., Булычев Н.А.* Сельскохозяйственные дружины российских учащихся в годы первой мировой войны (1914–1917 гг.) // Россия в первой мировой войне. Рязань, 1994. С.157–161.

жывёла, коні, конская збруя і перавозачныя сродкі, земляробчыя машыны, медзь, воўна, лён, сукно, скуры, каўчук, гума, вяроўкі і многае іншае[1].

**Эвакуацыя. Бежанства. Змены ў складзе насельніцтва.** Асабліва вялізныя страты панесла Беларусь у 1915 г. – падчас ваенных дзеянняў на яе тэрыторыі і звязаных з гэтым зніпгчэннем многіх народнагаспадарчых аб'ектаў, эвакуацыяй прадпрыемстваў і ўстаноў, масавай міграцыяй насельніцтва на ўсход.

Асноўная хваля эвакуацыі ўлетку 1915 г. праходзіла крайне неарганізавана, у спешцы, з вялікімі стратамі абсталявання і гатовай прадукцыі. З Польшчы, Прыбалтыкі, Заходняй Беларусі ўдалося вывезці толькі асобныя фабрыкі і заводы. Некаторыя з іх размясціліся ва ўсходняй частцы Беларусі – у Мінску, Віцебску, Нова-Барысаве, Магілёве, Гомелі, Навабеліцы[2].

Эвакуацыя ўсклала непасільную нагрузку на чыгуначны транспарт, што суправаджалася неразбярыхай і нервовасцю. Толькі дзякуючы дзелавітасці інжынера шляхоў зносін Э.Шуберскага, які падчас усеагульнай панікі ўзяў на сябе кіраўніцтва эвакуацыяй Брэста, з горада ўдалося вывезці найбольш каштоўную маёмасць, у тым ліку абсталяванне шасці прадпрыемстваў[3]. У такім жа сутаргавым рэжыме праходзіла эвакуацыя Гродна (вывезены тры прадпрыемствы), Пінска, Навагрудскага павета і г.д. У выніку асноўная маса прадпрыемстваў Заходняй Беларусі засталася не вывезенай, з наступленнем праціўніка многія з іх прыпынілі працу.

Лепш удалося арганізаваць у жніўні – верасні 1915 г. эвакуацыю заводаў і фабрык абароннага значэння з Мінска і яго наваколля. У Маскву былі вывезены прадпрыемствы таварыстваў "Тэхнолаг", "Энергія", "Арол", "Быстраход", "Руст", у Яраслаўль – таварыства Якабсона, Ліўшыца і К°, фірма І.Ашаровіча; асобныя прадпрыемствы эвакуіраваліся ў Харкаў, Царыцын, Самару. На ўсход эвакуіраваліся і некаторыя прадпрыемствы Віцебскай і Магілёўскай губерняў. Усяго за гады вайны з тэрыторыі Беларусі былі вывезены або дэманціраваны 432 прадпрыемствы[4].

На ўсход вывозіліся таксама некаторыя адміністрацыйныя і культурна-асветныя ўстановы, царкоўная маёмасць і інш. Эвакуацыі падлягалі школы: паводле даных Беларускага нацыянальнага камісарыята (1918 г.), у 1915 г. з Беларусі была вывезена 201 навучальная ўстанова[5].

Адначасова з перамяшчэннем прамысловага абсталявання і іншай маёмасці з раёнаў баявых дзеянняў на ўсход рухаўся велізарны паток бежанцаў. Сотні тысяч людзей, нярэдка па прымусу, зрываліся з наседжаных месцаў і, пазбавіўшыся прытулку і сродкаў існавання, накіроўваліся ўглыб імперыі. Вайсковыя і цывільныя ўлады, спадзею-

---

[1] Документы и материалы по истории Белоруссии. Т.3. С.798, 809–810, 820–821, 823, 825, 830, 837, 847–848.

[2] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.334–335.

[3] *Данилов Н.А.* Влияние великой мировой войны на экономическое положение России. Пг., 1922. С.61; *Лемке М.* 250 дней в царской Ставке. С.628; *Сидоров А.Л.* Экономическое положение в России в годы первой мировой войны. С.217, 589–590.

[4] Документы и материалы по истории Белоруссии. Т.3. С.791, 810–811, 813; Экономика Белоруссии в эпоху империализма. С.94; История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.334; *Бабков А.* Эвакуация промышленности Беларуси в годы Первой мировой войны // Беларусіка-Albaruthenica. Кн 21: Гісторыя, культуралогія, мастацтвазнаўства. Мн., 2001. С. 135– 141.

[5] Известия ВЦИК Советов. 1918. 31 авг. (еженедельное приложение "Народное просвещение". №15).

чыся "стварыць атмасферу 1812 года", усяляк стымулявалі выезд насельніцтва з раёнаў, да якіх набліжаўся фронт. Афіцыйная прапаганда з дапамогай праваслаўнага духавенства ўнушала, што заставацца "пад немцам" – непатрыятычна, распаўсюджвала чуткі аб надзвычайнай жорсткасці праціўніка[1]. Вайскоўцы нярэдка за гэтым хавалі свой карыслівы разлік на магчымасць разрабаваць пакінутыя жыхарамі сядзібы, асабліва панскія маёнткі.

Летам-восенню 1915 г. Беларусь ператварылася ў сапраўдны бежанскі лагер. З-за адсутнасці планаў эвакуацыі рух бежанцаў быў хаатычным. Па трактах, што вялі на ўсход, цягнуліся бясконцыя патокі вымушаных вандроўнікаў, сярод якіх пераважалі старыя, жанчыны і дзеці. Толькі ўздоўж шашы Брэст–Масква паміж Кобрынам і Баранавічамі ў ліпені 1915 г. налічвалася да 400 тыс. бежанцаў[2]. Многія з іх, знясіленыя ад спёкі, смагі, голаду, гінулі ў дарозе. У некаторых месцах (каля Кобрына, Пінска, Пружан, Слоніма) скопішчы бежанцаў трапілі пад нямецкія абстрэлы і авіябамбардзіраванне[3].

З наступленнем восені становішча бежанцаў яшчэ пагоршылася. Знаходзячыся пад адкрытым небам, яны гінулі ад холаду і эпідэмій. Некаторыя паміралі ў цягніках. У кожным цягніку з бежанцамі, што прыбывалі восенню 1915 г. на станцыю Гомель, знаходзіліся дзесяткі трупаў, якія падарожнічалі ў вагонах па некалькі дзён[4].

Перасякаючы тэрыторыю краю, частка бежанцаў з Польшчы, Прыбалтыкі, заходнебеларускіх паветаў асядала ва ўсходніх раёнах Беларусі. Паводле розных ацэнак, у Мінскай губерні іх атабарылася ад 120 да 160 тыс., у Віцебскай – ад 50 да 90 тыс., у Магілёўскай – ад 80 да 90 тыс. чалавек[5]. Гэтыя людскія масы ўяўлялі сацыяльна небяспечны "гаручы матэрыял", стваралі ў тыле дзеючай арміі крытычную сітуацыю для манеўравання войскаў, абвастралі харчовы крызіс.

Царскія ўлады рабілі спробы ўпарадкаваць рух і рассяленне бежанцаў, арганізаваць ім дапамогу. У ліпені 1915 г. кіраўніцтва ўладкаваннем бежанцаў было сканцэнтравана ў руках міністра ўнутраных спраў, пры якім стваралася спецыяльная Асобая нарада. Дабрачыннай дзейнасцю сярод бежанцаў займаўся заснаваны ў верасні 1914 г. Камітэт вялікай княжны Таццяны Мікалаеўны (Таццянінскі камітэт). Да бежанскай справы падключыліся таксама земскі і гарадскі саюзы. Па ініцыятыве нацыянальнай інтэлігенцыі ўзнікалі польскія, літоўскія, латышскія, яўрэйскія таварыствы дапамогі ах-

[1] Бежанства 1915 года. Беласток, 2000. С.13, 29, 32, 57, 84, 108, 113, 129, 147, 152, 154, 158, 178, 189, 213 і інш.

[2] *Бабков А.* Беженское движение в Беларуси в годы первой мировой войны // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (Новыя канцэпцыі і падыходы): Тэзісы дакл. і паведамл. Ч.1. Гісторыя Беларусі. Мн., 1993. С.147.

[3] Документы и материалы по истории Белоруссии. Т.3. С.796.

[4] *Бабкоў А.М.* Бежанцы на Гомельшчыне ў час першай сусветнай вайны (1915–1916) // Гомельшчына: старонкі гісторыі. Вып.2. Гомель, 1996. С.80.

[5] *Солодков Т.Е.* Борьба трудящихся Белоруссии против царизма (1907–1917 гг.). С.305; *Савицкий Э.М.* Революционное движение в Белоруссии (август 1914 – февраль 1917 гг.). С.35; *Бабков А.М.* Беженское движение в Беларуси в годы первой мировой войны. С.149; *Ён жа.* Бежанцы на Гомельшчыне ў час першай сусветнай вайны (1915–1916). С.79.

вярам вайны. У сакавіку 1915 г. у Вільні было заснавана Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны[1].

Намаганнямі дзяржаўных і грамадскіх устаноў бежанцам аказвалася грашовая дапамога, будаваліся баракі, адкрываліся харчовыя, лячэбна-санітарныя пункты, дзіцячыя прытулкі. Усе гэтыя намаганні, аднак, не адпавядалі маштабу праблемы і нават у мінімальнай ступені не задавальнялі патрэб велізарнай бежанскай масы.

Агульны лік зарэгістраваных бежанцаў з усіх франтоў, паводле афіцыйных крыніц, вызначаўся лічбай 3200–3500 тыс. чалавек (на пачатак 1917 г.). Ураджэнцаў Беларусі сярод іх было прыблізна 1130–1320 тыс.[2] Больш за ўсё беларускіх бежанцаў асела ў Тамбоўскай, Самарскай, Саратаўскай, Калужскай, Уфімскай, Казанскай, Екацярынаслаўскай губернях, а таксама ў Петраградзе і Маскве.

Ваенныя мабілізацыі, эвакуацыя прадпрыемстваў і ўстаноў, масавае бежанства – з аднаго боку, і наплыў у Беларусь велізарнай колькасці вайскоўцаў, персаналу розных тылавых арганізацый – з другога, істотна змянілі за кароткі тэрмін колькасныя і структурныя параметры народанасельніцтва краю. У ліку мабілізаваных і бежанцаў з Беларусі сышла значная частка яе сталага, карэннага насельніцтва – каля 2 млн чалавек з 7,5 – 8 млн на 1 студзеня 1914 г. (у межах 35 беларускіх паветаў)[3]. Паводле сацыяльна-класавай прыналежнасці гэта былі пераважна сяляне. Вялікія страты панёс і мясцовы пралетарыят: яго колькасць скарацілася з 519 тыс. (1913) прыкладна да 270 тыс. чалавек (1917)[4]. З эвакуіраванымі навучальнымі ўстановамі (галоўным чынам сярэднімі) край пакінула частка вучнёўскай моладзі і педагагічнай інтэлігенцыі.

На змену тут з'явіліся прышлыя катэгорыі насельнікаў: бежанцы з Польшчы і Прыбалтыкі, рабочыя ваенных майстэрняў, чыгунак, службоўцы тылавых устаноў з унутраных губерняў Расіі. Да гэтага трэба дадаць велізарныя арміі абодвух ваюючых праціўнікаў.

Вялікія масы прыезджых канцэнтраваліся ў гарадах Беларусі – месцах дыслакацыі гарнізонаў, размяшчэння шматлікай ваеннай і цывільнай адміністрацыі. У Мінску пры скарачэнні пастаяннага даваеннага насельніцтва са 110 да 50 тыс. колькасць прыезджых (салдат, афіцэраў, чыноўнікаў, службоўцаў розных арганізацый, штабоў, канцылярый і лазарэтаў) дасягала 150 тыс. чалавек[5]. Падобная карціна назіралася ў Віцебску, Оршы, Бабруйску, Гомелі і г.д. Паглынаючы харчовыя рэсурсы, да крайнасці абвастраючы праблемы гарадской гаспадаркі, транспарту, гэтыя скопішчы "прышлага элементу" надзвычай ускладнялі жыццядзейнасць

---

[1] *Мікалаевіч А.* Бежанцы першай сусветнай вайны // Спадчына. 1994. №3. С.19; Национальные проблемы. 1915. №2. С.31.

[2] *Бабков А.М.* Беженское движение в Белоруссии в годы первой мировой войны. С.148–149; *Саладков И.И.* Социально-экономическое положение Белоруссии до Великой Октябрьской социалистической революции. Мн., 1957. С.135. Паводле іншых падлікаў, з Беларусі ў бежанства сышлі каля 2 млн чалавек (*Карнялюк В.Р.* Праблема гісторыка-дэмаграфічнай характарыстыкі бежанцаў з беларускіх зямель (1914–1918 гг.) // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта. Серыя1. Гісторыя. Філасофія. Паліталогія і сацыялогія. 2000. №2. С.24), але гэта лічба яшчэ патрабуе дакументальнага абгрунтавання.

[3] *Раков А.А., Маськов Л.И.* Из демографической истории Белоруссии: демографические изменения в 1914–1941 гг. // Проблемы народонаселения и трудовых ресурсов. Вып. 4. Мн., 1973. С.223; *Eberchardt P.* Przemiany narodowościowe na Białorusi. Warszawa, 1994. S.45.

[4] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.157, 344.

[5] Документы и материалы по истории Белоруссии. Т.3. С.809–810, 816–819.

мясцовага насельніцтва і ў той жа час, дзякуючы сваёй масе і актыўнасці, рабіліся магутным фактарам уплыву на грамадска-палітычнае жыццё, духоўна-маральную атмасферу ў краі.

Такім чынам, пачатак Першай сусветнай вайны прывёў да сур'ёзнага разладжвання ўсталяваных сувязяў і інстытутаў, дэфармацыі грамадскіх працэсаў, што развіваліся ў Беларусі ў папярэдні перыяд. Вайна нанесла непапраўны ўдар па народнай гаспадарцы краю, падарвала яго дэмаграфічны патэнцыял. Была разбурана цэласнасць этнічнай тэрыторыі беларусаў. У складзе насельніцтва знізілася ўдзельная вага карэнных жыхароў, яшчэ больш стракатай стала нацыянальная структура. Гісторыя ў чарговы раз паставіла народ Беларусі перад жорсткімі выпрабаваннямі.

## 2. Заходняя Беларусь пад нямецкай акупацыяй

**Ваенна-адміністрацыйны падзел тэрыторыі. Акупацыйныя органы ўлады.** Пасля стабілізацыі расійска-германскага фронту ўвосень 1915 г. пад нямецкую акупацыю трапіла 50 тыс. км² тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь (каля 25 % яе агульнай плошчы)[1]. У зоне акупацыі апынуліся таксама беларусы Беласточчыны, Віленскага краю і Аўгустоўскага павета Сувалкаўскай губерні. Зыходзячы са сваіх геапалітычных і эканамічных інтарэсаў, Германія імкнулася адсунуць межы Расіі на ўсход шляхам аддзялення ад яе Польшчы, Курляндыі і Літвы, а астатнія акупаваныя землі (фактычна беларускія) – выкарыстаць у якасці разменнай манеты на будучых мірных перагаворах. Такім геапалітычным разлікам адпавядаў ажыццёўлены немцамі ваенна-адміністрацыйны падзел былога Паўночна-Заходняга краю.

Тэрыторыя Курляндыі, Літвы і заходняй часткі беларускага этнічнага абшару была падпарадкавана Вярхоўнаму камандаванню на Усходзе (Oberbefehlshaberost, Ober Ost). Іерархію акупацыйнай адміністрацыі на гэтай прасторы ўзначаліў начальнік штаба Усходняга фронту генерал Э. Людэндорф. Усходняя мяжа "зямлі Обер Ост" ішла па лініі Дукшты–Нова-Свянцяны–Варняны–Медзішкі–Воранава–Ліда–Дзятлава–Ваўкавыск–Свіслач–Белавежа–Высокае – рака Буг і прыблізна акрэслівала нямецкія тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Расіі[2]. Пасля некалькіх рэарганізацый да вясны 1917 г. адміністрацыйна-тэрытарыяльная структура "Обер Осту" ўключала тры акругі: Курляндыю (19,1 тыс. км², 269,8 тыс. чалавек), Літву (63,3 тыс. км², 1928,1 тыс. чалавек) і Беласток–Гродна (26,4 тыс. км², 712 тыс. чалавек)[3]. Землі, заселеныя беларусамі, апынуліся ў двух ваенна-адміністрацыйных акругах: Літва і Беласток–Гродна. Апошняя практычна цалкам адносілася да беларускага этнічнага абшару. У яе межах знаходзілася 17 тыс. км² сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з населенымі пунктамі Гродна, Ліда, Ваўкавыск, Масты, Свіслач, Дзятлава, Шчучын і інш.[4]

---

[1] *Круталевич В.А.* Рождение Белорусской Советской республики (На пути к провозглашению республики. Октябрь 1917 – декабрь 1918 гг.). Мн., 1975. С.154; *Туронак Ю.* Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мн., 1993. С.13.

[2] Победа советской власти в Белоруссии. Мн., 1967. С.389; *Туронак Ю.* Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С.13.

[3] Das Land Ober Ost: Deutsche Arbeit in den Verwaltungsgebieten Kurland, Litauen und Białystok-Grodno. Stuttgart; Berlin, 1917. S.432.

[4] *Туронак Ю.* Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С.13.

На ўсход ад мяжы "Обер Осту" да лініі нямецка-расійскіх акопаў праходзіла ваенна-аперацыйная паласа (Operationsgebiet). У яе трапіла рэштка акупаваных беларускіх зямель плошчай каля 33 тыс. км² з населенымі пунктамі Ашмяны, Навагрудак, Слонім, Баранавічы, Пінск, Пружаны, Кобрын. Гэта тэрыторыя знаходзілася пад кантролем нямецкіх этапных інспекцый. На асобым становішчы апынуўся Брэст, які падпарадкоўваўся размешчанай у горадзе і наваколлі армейскай групоўцы. Уся ваенна-аперацыйная паласа мусіла стаць прадметам гандлю на будучых перагаворах адносна міру з Расіяй[1].

Парадак кіравання акупаванымі землямі грунтаваўся на пастулаце, што ў занятай вобласці на першым месцы павінны стаяць інтарэсы Германскай імперыі і арміі, і толькі затым могуць улічвацца патрэбы самога краю[2]. Гэтаму падпарадкоўвалася ўся створаная немцамі сістэма кіравання. Узначальвала адміністрацыйную піраміду ўпраўленне "Обер Осту" ў Коўне, са студзеня 1917 г. – у Беластоку, з мая 1918 г. – зноў у Коўне. Яно мела ў сваім складзе больш за дзесятак аддзелаў: палітычны і ўнутраных спраў (з нямецкай, польскай, літоўскай, беларускай і яўрэйскай секцыямі); аддзел фінансаў; сельскай і лясной гаспадаркі; гандлю і прамысловасці; рэлігіі і школы; прэсы і г.д.[3]

Упраўленню "Обер-Осту" падпарадкоўваліся начальнікі (шэфы) ваенна-адміністрацыйных адзінак са сваімі бюракратычнымі апаратамі. На чале акругі Літвы стаяў адстаўны маёр князь Ф. Ізенбург-Бірштэйн, акругу Беласток–Гродна ўзначальваў ротмістр ландверкавалерыі Т. Хэпе[4]. Ваенна-адміністрацыйныя акругі падзяляліся на паветы – больш дробныя, чым ранейшыя расійскія. У акрузе Беласток–Гродна было 14 паветаў: два Гродзенскія (сельскі і гарадскі), два Беластоцкія (сельскі і гарадскі), Ваўкавыскі, Свіслацкі, Лідскі, Васілішкаўскі, Радуньскі, Шчучынскі (з цэнтрам у мястэчку Плянты) і інш.[5] Павятовым начальнікам падпарадкоўваліся бургамістры невялікіх гарадоў і кіраўнікі валасцей, якія, у сваю чаргу, мелі зносіны з сельскімі старастамі.

У распараджэнні ваенна-адміністрацыйных начальнікаў знаходзілася жандармерыя.

Немцы стварылі ў акупаваным краі разгалінаваную сістэму сваіх судоў. Мясцовыя суды дзейнічалі ў Вільні, Гродне, Шчучыне, Васілішках, Лідзе, Ваўкавыску, Саколцы, Беластоку і г.д. Найвышэйшай інстанцыяй для іх з'яўляўся вярхоўны суд "Обер Осту". У аснову судаводства акупанты палажылі расійскае заканадаўства. Паралельна з цывільнымі шырока дзейнічалі ваенна-палявыя суды. За валоданне зброяй, выбуховымі рэчывамі, боепрыпасамі ўчынялася смяротнае пакаранне без суда[6].

Найбольш адказныя пасады ў адміністрацыйным апараце займалі самі немцы. Для кіравання толькі адной акругай Беласток–Гродна да 1918 г. былі прыцягнуты 2392 нямецкія чыноўнікі[7].

---

[1] Победа советской власти в Белоруссии. С.389; *Туронак Ю.* Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С.13–14.

[2] Das Land Ober Ost. S.84–85; *Стражас А.Ш.* Колониальный режим германских империалистов в Литве в годы первой мировой войны // Вопросы истории. 1958. №12. С.70.

[3] НА РБ, ф.60, воп.3, спр.243, арк.401; *Zemke H.* Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. Berlin, 1936. S.7–8.

[4] *Linde G.* Die deutsche Politik in Litauen im ersten Weltkrieg. Wiesbaden, 1965. S.30–34.

[5] Das Land Ober Ost. S.432.

[6] *Людендорф Э.* Мои воспоминания о войне 1914–1918 гг. М., 1923. Т.1. С.157, 163; *Linde G.* Die deutsche Politik in Litanen im ersten Weltrieg. S.34–36; *Glaser S.* Okupacja niemiecka na Litwie w latach 1915–1918: Stosunki prawne. Lwów, 1936. S.111–122.

[7] Победа советской власти в Белоруссии. С.391.

Палітычная дзейнасць мясцовага насельніцтва спачатку была забаронена. Палітычныя мітынгі і сходы не дазваляліся, на ўсе астатнія сходы патрабавалася пісьмовая згода павятовага начальства. Аналагічны парадак быў устаноўлены і ў дачыненні арганізацый (саюзаў)[1]. Аднак пазней дапускаліся паслабленні ў гэтых абмежаваннях.

Выключна строга рэгуляваліся перамяшчэнні мясцовых жыхароў. Уначы дзейнічала камендацкая гадзіна[2]. Кожны, хто пакінуў жыллё ўдзень, павінен быў мець пасведчанне асобы, якое давала права на перамяшчэнне толькі ў межах павета і толькі пехатою. Для паездкі любым транспартам (нават конскай падводай ці веласіпедам) патрабаваўся асобны дазвол начальніка павета. Дазволіць паездку за межы павета ці ўсяго краю маглі толькі ва ўпраўленні "Обер Осту"[3]. Такая надзвычайная рэгламентацыя ўводзілася не толькі для папярэджвання шпіянажу і барацьбы з "бандамі" (як гэта тлумачылася афіцыйна), але мела на мэце звесці да мінімуму паездкі за мяжу дзеячаў мясцовых нацыянальных рухаў, а таксама абмежаваць наведванне "Обер Осту" нямецкімі палітыкамі непажаданага для камандавання напрамку.

**Эканамічная палітыка германскіх улад. Становішча насельніцтва.** Шквал вайны, што пранёсся ў 1915 г. па Заходняй Беларусі, пакінуў пасля сябе спустошаны край. У выніку эвакуацыі, бежанства, разбурэнняў, эпідэмій гарады, мястэчкі і вёскі прыкметна абязлюдзелі. Насельніцтва Вільні зменшылася са 180 тыс. да 137 тыс., Беластока – са 140 тыс. да 54,3 тыс. чалавек. Колькасць жыхароў Гродна з пачатку вайны да сакавіка 1918 г. скарацілася з 43,5 тыс. да 24,5 тыс. чалавек. Брэста – з 60 тыс. да 15 тыс. (у кастрычніку 1915 г. большасць цывільнага насельніцтва была выселена немцамі з горада і прыгарадаў). Толькі палову даваеннай колькасці складала насельніцтва Смаргоні, Драгічына і іншых населеных пунктаў. Надзвычай зменшылася колькасць сельскага насельніцтва: у Лідскім павеце – з 205,8 тыс. да 33,8 тыс., у Гродзенскім – з 247,3 тыс. да 70.8 тыс. чалавек. Некаторыя вёскі падчас вайны наогул перасталі існаваць[4].

Людзі, што засталіся на месцы, пакутавалі ад катастрафічнага недахопу харчавання, паліва, прадметаў першай неабходнасці. Хутка ўзляцелі ў цане і сталі дэфіцытам мяса, масла, мука. Хлеб, які ў гарадах размяркоўваўся па картках, быў насычаны рознымі замяняльнікамі, з-за чаго людзі часта атручваліся[5]. Узімку 1916/1917 года ў акрузе Літва на чалавека выдавалі ў суткі па 225 г сурагатнага хлеба, 300 г бульбы, 50 г харчовага канцэнтрату; адзін раз у тыдзень дарослыя атрымлівалі па 125 г мяса або рыбы. У акрузе Беласток–Гродна нормы былі яшчэ ніжэйшымі: 120 г зерня і 200 г бульбы ў суткі на чалавека[6].

Нягледзячы на развал эканомікі і зг аленне насельніцтва, немцы ўзялі курс на максімальную гаспадарчую эксплуатацыю краю. "Обер Ост" павінен быў не толькі сам задавальняць свае гаспадарчыя патрэбы, але

---

[1] *Glaser S.* Okupacja niemiecka na Litwie w latach 1915-1918: Stoswki prawne. S.128–130; *Бабков А.М.* Захватническая политика германского империализма в Белоруссии в 1914 – 1916 гг. Ч.1 // Вопросы германской истории: Русско-германские отношения нового и новейшего времени. Днепропетровск, 1982. С.115.

[2] *Вітан-Дубейкаўская Ю.* Мае ўспаміны. С.41, 51, 55.

[3] Das Land Ober Ost. S.167, 171, 173; *Linde G.* Die deutsche Politik in Litanen im ersten Weltkrieg. S.39–40.

[4] Победа советской власти в Белоруссии. С.388; *Deruga A.* Z dziejów sprawy białoruskiej w latach 1917–1918 // Przegląd Historyczny. 1968. T.59. Zesz.4. S.717–719, 720–722.

[5] Дело народа. 1917. 8 и 14 июля; 27 сент.; *Вітан-Дубейкаўская Ю.* Мае ўспаміны. С.42, 69, 75.

[6] *Linde G.* Die deutsche Politik in Litanen im ersten Weltkrieg. S.53–60; Гоман. 1917. 25 снеж.

ўтрымліваць акупацыйнае войска і пастаўляць прадукты і сыравіну ў Германію.

Гэтым мэтам найперш служылі шматлікія рэквізіцыі: прадуктаў, тытунёвых вырабаў, скуры, футра, коней і іншай жывёлы, воўны, металаў і г.д. З-за адсутнасці рэквізіцыйных норм панавала суцэльнае самавольства. Толькі ў акрузе Беласток–Гродна ў ліпені – верасні 1916 г. немцы рэквізавалі 1,4 тыс. коней, зімой 1916/1917 года – яшчэ 9,1 тыс. Нягледзячы на неўраджай папярэдняга года і голад, у красавіку 1917 г. з гэтай акругі ў Германію было вывезена 30 тыс. т насеннага зерня, так патрэбнага для сяўбы на месцы.

Пад выглядам штрафаў за рэальныя і ўяўныя правіннасці (неасцярожнасць, якая мела вынікам узнікненне пажару; утойванне звестак аб уцекачах-ваеннапалонных; ухіленне ад паставак і г.д.) сістэматычна ажыццяўляліся грашовыя паборы – кантрыбуцыі.

На выцягванне сродкаў з мясцовага насельніцтва была нацэлена сістэма падаткаў, пошлін, даходаў ад дзяржаўных манаполій (на гарэлку, тытунь і інш.), якая часткова захавалася з часоў расійскага кіравання. Усе асобы ва ўзросце 15 – 60 гадоў павінны былі плаціць падушны падатак. Пад прэс разнастайных набораў трапілі землеўласнікі і прадпрымальнікі. Падаткамі былі абкладзены бойні жывёлы, кірмашы, ідовішчы і нават шпіталі[1].

Для разліку немцы ўвялі на акупацыйнай тэрыторыі спецыяльную грашовую адзінку – обер-ост-рубель коштам 2 маркі.

Кіруючыся стратэгічнымі інтарэсамі Германіі, улады "Обер Осту" рабілі спробы аднавіць некаторыя гаспадарчыя структуры краю, уводзілі ў дзеянне новыя аб'екты. Паблізу фронту пачалі працаваць фабрыкі калючага дроту, майстэрні па рамонту зброі і вайсковага рыштунку. На патрэбы арміі былі арыентаваны існуючыя ў краі суконныя і гарбарныя прадпрыемствы, заснаваныя немцамі фабрыкі кансерваў і мармеладу. Акупацыйныя ўлады правялі рэканструкцыю некаторых шляхоў зносін (у прыватнасці, шашы Гродна–Ліда), адбудову мастоў.

Пэўныя захады былі зроблены па нарошчванні вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. Нямецкая адміністрацыя старалася забяспечыць функцыяніраванне памешчыцкіх і сялянскіх гаспадарак. Тыя з іх, чые уладальнікі выехалі ў Расію, а таксама былыя дзяржаўныя маёнткі немцы эксплуатавалі самі[2]. Быў арганізаваны перапіс свойскай жывёлы і ўведзены жорсткія пакаранні за спробы яе ўтойвання.

Аднак самым прывабным аб'ектам эксплуатацыі для Германіі – традыцыйнага імпарцёра беларускай драўніны – з'яўляліся лясы Беларусі. Асабліва прынадным кавалкам выглядала Белавежская пушча: яе лясы ацэньваліся немцамі ў 700–800 млн марак[3]. Для арганізацыі эксплуатацыі лясоў акупацыйныя ўлады стварылі спецыяльную сістэму кіравання, аўтаномную ў адносінах да мясцовых ваенна-адміністрацыйных органаў. Цэнтр яе знаходзіўся пры штабе "Обер Осту". Яму падпарадкоўваліся ваенна-лясныя ўпраўленні Курляндыя, Літва, Гродна, Беласток і Белавежа, у склад якіх, у сваю чаргу, уваходзілі 42 ваенна-лясныя інспекцыі[4]. Увесь заняты

---

[1] Das Land Ober Ost. S.97–98, 103, 337, 345; *Людендорф Э.* Мои воспоминания о войне 1914–1918 гг. Т. 1. С.146–148, 159–160, 162–163; Новое время. 1917. 3 (16) июня.

[2] *Бабков А.М.* Аграрная политика немецких оккупационных властей в Западной Беларуси в годы первой мировой войны // Чалавек. Этнас. Тэрыторыя. Праблемы развіцця заходняга рэгіёна Беларусі. Мат-лы нав.-практ. канф-цыі. Ч.2. Брэст, 1998. С.97–98.

[3] *Бабков А.М.* Ограбление кайзеровской Германией лесных богатств Белоруссии в годы первой мировой войны // Вопросы истории: Межведомственный сб. Вып.10. Мн., 1983. С.119–120.

[4] Das Land Ober Ost. S.266.

край быў пакрыты мноствам лесапільных і дрэваапрацоўчых заводаў. За два гады акупацыі толькі ў Белавежскай пушчы немцы пабудавалі сем лесапільных і шпалапрапітачны заводаў, шэраг дробных вытворчасцей, смалакурных і шкіпінарных прадпрыемстваў[1]. Да верасня 1916 г. у пушчы было нарыхтавана 68,6 тыс. куб. м хваёвай драўніны і шмат бярозавай. У кастрычніку 1916 – сакавіку 1917 г. немцы нарыхтавалі ў Белавежскай пушчы драўніны на 12,2 млн марак[2].

Для працы на ваенных аб'ектах, у сельскай гаспадарцы і на лесанарыхтоўках патрабавалася шмат рабочай сілы. У сярэдзіне 1916 г. з'явілася распараджэнне аб выкарыстанні працы мужчын ва ўзросце 16–50 гадоў і жанчын 18–45 гадоў. На гэтай падставе сталі арганізоўвацца так званыя працоўныя роты і батальёны. Прымусова мабілізаваныя ў іх жыхары знаходзіліся ў выключна цяжкіх умовах. Нават у зімовую сцюжу немцы пасялялі іх у непрыдатных, разваленых бараках без ацяплення. Сутачныя нормы харчавання былі мізэрнымі, грашовая аплата таксама жабрацкая. Усё гэта прыводзіла да знясілення і шматлікіх хвароб[3].

Акрамя таго, практыкавалася прымусовая адпраўка мясцовых жыхароў у Германію. Да верасня 1916 г. з Гродна і акругі такім спосабам былі накіраваны ў Германію 304 рабочыя. Рабіліся спробы арганізаваць і добраахвотны выезд, для чаго ў Беластоку была створана спецыяльная біржа[4].

Бедствы, якія зваліліся на плечы насельніцтва Заходняй Беларусі з прыходам кайзераўскіх войскаў, не маглі не выклікаць пратэсту. Аднак ва ўмовах акупацыйнага рэжыму не было магчымасці арганізаваць актыўнае супраціўленне. Незадаволенасць выяўлялася пераважна ў пасіўных формах: ухіленне ад рэквізіцый, паставак і прымусовых работ, ігнараванне распараджэнняў адміністрацыі. Але ў лясах, асабліва ў Белавежскай пушчы, дзейнічалі ўзброеныя атрады, арганізаваныя расійскімі вайскоўцамі, што засталіся ў тыле праціўніка ці збеглі з палону, да якіх далучаліся мясцовыя жыхары[5].

**Нацыянальна-культурная палітыка немцаў. Беларускае школьніцтва і друк**. Заняўшы землі Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі, немцы сутыкнуліся з неабходнасцю дзейнічаць у шматнацыянальным, шматмоўным рэгіёне. Прычым за першы год вайны ранейшыя суадносіны паміж этнічнымі і канфесіянальнымі групамі краю прыкметна змяніліся. Разам з велікарускімі чыноўнікамі, святарамі, інтэлігенцыяй сышла на ўсход і значная частка праваслаўнага беларускага сялянства, якое да вайны колькасна дамінавала. На месцах засталіся тыя катэгорыі насельніцтва, якія не паддаліся расійскай прапагандзе і не рушылі ў бежанства: паланізаваная шляхта і інтэлігенцыя, ксяндзы і сяляне-католікі, якія размаўлялі па-беларуску, але цярпелі моцны асіміляцыйны націск з боку палякаў[6].

Абапіраючыся на моцныя эканамічныя пазіцыі (памешчыцкае землеўладанне) і развітую культуру, польскія элементы выяўлялі і найбольшую грамадскую актыўнасць. З першых дзён акупацыі ў Вільні распаўсюджваліся нелегальныя польскія адозвы. Разгарнулі дзейнасць

[1] *Бабков А.М.* Ограбление кайзеровской Германией лесных богатств Белоруссии в годы первой мировой войны. С.120.

[2] *Linde G.* Die deutsche Politik in Litauen im ersten Weltkrieg. S.60–62.

[3] Там жа. S.62–65.

[4] Победа советской власти в Белоруссии. С.394.

[5] *Linde G.* Die deutsche Politik in Litauen im ersten Weltkrieg. S.37–39; Новое время. 1917. 27 сент. (10 окт.).

[6] *Людендорф Э.* Мои воспоминания о войне 1914–1918 гг. Т. 1. С.151; *Эберхард П.* Дэмаграфічная сітуацыя на Беларусі: 1898–1989. Мн., 1997. С.69; *Łatyszonek O.* Białoruskie formacje wojskowe. 1917–1923. Warszawa, 1995. S.35–36.

польскія культурна-асветныя арганізацыі: Адукацыйны камітэт, таварыства "Асвета", Каталіцкае таварыства польскай народнай школы і інш. Іх намаганнямі ўжо ў 1915/1916 навучальным годзе толькі ў Вільні і ваколіцах было адкрыта каля 50 польскіх школ (прыкладна на 5 тыс. вучняў), у тым ліку чатыры гімназіі (больш за 800 вучняў), чатыры прафесійна-тэхнічныя школы і г.д. У Гродне ў 1916 г. заснавана польская гімназія і некалькі пачатковых школ[1]. Паспешлівае стварэнне сеткі польскіх школ, якія часта не мелі належнага матэрыяльнага і метадычнага забеспячэння, мела пэўную палітычную мэту – надаць Беларусі і Літве як мага больш выразнае '"польскае аблічча", каб атрымаць аргумент на карысць далучэння краю да Каралеўства Польскага[2].

Сярод тутэйшай польскай эліты рэанімаваліся мары аб адраджэнні Рэчы Паспалітай, ідэалізаваны вобраз якой традыцыйна асацыіраваўся з польскасцю. Аднак пашырэнне ідэі аднаўлення Рэчы Паспалітай супярэчыла палітыка-стратэгічным інтарэсам Германіі, паколькі пагражала стратай для яе Познані і іншых польскіх зямель. Таму адну з задач сваёй нацыянальна-культурнай палітыкі ўлады "Обер Осту" бачылі ў нейтралізацыі тут польскіх уплываў. Дзеля гэтага была выпрацавана лінія на падтрымку культур іншых народаў краю: беларусаў, літоўцаў, яўрэяў[3].

У канцы 1915 г. – пачатку 1916 г. галоўнакамандуючы германскім Усходнім фронтам П.Гіндэнбург зацвердзіў дакументы аб арганізацыі на абшары "Обер Осту" школьнай справы. З мэтай больш выразнага адасаблення краю ад Расіі навучанне па-руску забаранялася. Як абавязковы прадмет у школах уводзілася нямецкая мова. Выкладанне іншых дысцыплін магло ажыццяўляцца на нямецкай або на роднай мове вучня: беларускай, літоўскай, польскай, ідыш. Спецыяльна падкрэслівалася, што "беларуская мова, якая не ёсць ідэнтычная рускай, дапускаецца без абмежаванняў"[4]. Разам з іншымі мясцовымі мовамі беларуская мова пачала ўжывацца ў афіцыйных зваротах улад "Обер Осту" да насельніцтва. Друкаваліся двухмоўныя нямецка-беларускія пашпарты. На беларускай мове можна было праводзіць культурна-забаўляльныя мерапрыемствы, друкаваць кнігі і перыёдыку.

Узніклыя магчымасці для развіцця беларускай культуры пастараліся максімальна выкарыстаць актывісты нацыянальнага руху, якія засталіся ў зоне акупацыі. Легальным цэнтрам беларускай дзейнасці і пры немцах з'яўлялася ўтворанае вясной 1915 г. Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Яно гуртавала вакол сябе нацыянальныя сілы і фактычна выконвала ролю прадстаўніка інтарэсаў беларускага насельніцтва перад акупацыйнымі ўладамі.

Найважнейшым напрамкам дзейнасці таварыства стала арганізацыя беларускага школьніцтва. Асабліва шмат намаганняў прыкладала да гэтага А.Пашкевіч (Цётка). У Вільні былі адкрыты беларускія настаўніцкія курсы,

---

[1] *Смалянчук А.Ф.* Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй: Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864–1917 гг. Гродна, 2001. С.232–233, 239–240; *Ляхоўскі У.В.* Развіццё польскага школьніцтва ў заходняй частцы Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1915–1918 гг. // Этнічныя супольнасці ў Беларусі: гісторыя і сучаснасць. Мат-лы навук. канф. Мн., 2001. С.185–186.

[2] *Jankowski Cz.* Z dnia na dzień. Warszawa 1914–1915 Wilno. Wilno, 1923. S.393.

[3] Problem Litwy podczas wojny: Zbiór dokumentów, uchwał, odezw i t.p. / Zebrał i do druku przygotował L.A. Warszawa, 1918. S.8, 11; *Людендорф Э.* Мои воспоминания о войне 1914–1918 гг. Т. 1. С.144–151.

[4] *Zemke H.* Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. Urkunde III. S.111.

а ў лістападзе 1915 г. там пачала працаваць першая беларуская пачатковая школа. У кастрычніку наступнага года на абшарах "Обер Осту" ўжо дзейнічалі восем беларускіх школ[1]. Пры падтрымцы ведамстваў культуры Усходняга фронту і акругі Беласток–Гродна восенню 1916 г. Свіслацкая настаўніцкая семінарыя была рэарганізавана ў беларускую. Да канца 1918 г. семінарыя падрыхтавала 144 беларускіх настаўнікаў[2]. З'яўленне беларускіх педагагічных кадраў дало магчымасць пашырыць сетку школ: паводле афіцыйных нямецкіх звестак, у снежні 1917 г. на тэрыторыі "Обер Осту" іх налічвалася 50 з 3266 вучнямі, у сакавіку 1918 г. – 89[3]. Беларускія школы ўзнікалі таксама і ў ваенна-аперацыйнай паласе, але дакладная іх колькасць тут невядома.

Адначасова моцныя пазіцыі захоўвала польскае школьніцтва, дзейнічалі нямецкія, яўрэйскія, літоўскія, украінскія школы.

На працягу 1915–1918 гг. у Вільні было выдадзена шмат навучальнай літаратуры , у тым ліку дзевяць падручнікаў для беларускіх школ: два буквары, тры чытанкі, беларускі правапіс, два задачнікі і літаратурная хрэстаматыя. Укладальнікамі іх былі В.Ластоўскі, А.Луцкевіч, Я.Станкевіч[4].

Падручнікі, як і іншыя выданні, падлягалі нямецкай цэнзуры. Але найбольш жорсткая, двухступенная цэнзура была ўведзена для перыёдыкі. Да таго ж грамадска-палітычную інфармацыю газеты абавязаны былі атрымліваць ад нямецкіх улад, што з'яўлялася яшчэ адной – ускоснай – формай цэнзуры[5].

Ва ўмовах адміністрацыйных абмежаванняў поруч са шматлікімі нямецкімі выходзіла некалькі газет на мясцовых мовах: "Dabartis" ("Сучасны насць") і "Lietuvos Aidas" ("Літоўскае рэха") – па-літоўску, "Dziennik Wileński" ("Віленскі дзённік") – па-польску, "Letzte Nai's" ("Апошнія навіны") і "Jidisze Zajtung" ("Яўрэйская газета") – на ідыш і г. д. 15 (28) лютага 1916 г. пачала выходзіць беларуская грамадска-палітычная і літаратурная газета "Гоман" ("Homan") пад рэдакцыяй В. Ластоўскага, з красавіка 1917 г. – Я. Салаўя. У газеце супрацоўнічалі А. і І. Луцкевічы, Ф. Аляхновіч, Ю. Мэнке і інш. Тыраж "Гоману" дасягаў 3 тыс. экземпляраў[6]. Выдаўцы рабілі ўсё магчымае, каб годна працягваць справу "Нашай нівы": павышаць беларускую нацыянальную самасвядомасць, інфармаваць чытача аб бягучых падзеях, адстойваць нацыянальныя інтарэсы беларусаў. Багатым быў літаратурны аддзел газеты: у ім друкаваліся творы Я. Коласа, Цёткі, М. Багдановіча, З. Бядулі, А. Гаруна, В. Ластоўскага, Ф. Аляхновіча. Да 1918 г. газета "Гоман" была адзінай беларускай газетай на абшары "Обер Осту".

Пэўную ўвагу беларускай тэматыцы надавалі і нямецкія выданні, што выходзілі на акупаванай тэрыторыі: "Zeitung der 10. Armee" ("Газета 10-й арміі"), "Grodner Zeitung" ("Гродзенская газета"), "Die Wacht im Osten"

---

[1] *Вітан-Дубейкаўская Ю.* Мае ўспаміны. С.40; *Яна ж.* Беларуская дзейнасць пад першай нямецкай акупацыяй // Запісы. Кн.12. Нью-Йорк, 1974. С.51; *Zemke H.* Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. S. 101–102.

[2] *Zemke H.* Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. S.81; *Deruga A.* Z dziejów sprawy białoruskiej w latach 1917–1918. S.715.

[3] *Zemke H.* Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. S.101–104.

[4] *Калубовіч А.* Крокі гісторыі: Даследаванні, артыкулы, успаміны. Мн., 1993. С.51.

[5] *Linde G.* Die deutsche Politik in Litauen im ersten Weltkrieg. S.40–42.

[6] *Вітан-Дубейкаўская Ю.* Мае ўспаміны. С.61, 64; *Яна ж* . Газета "Гоман" // Запісы. Кн.13. Нью-Йорк, 1975. С.67; *Луцкевіч А.* Замест адказу (Гістарычная спраўка) // Беларуская ніва (Вільня). 1926. 25 лют.

("Стража на Усходзе"), "Deutsche Kriegszeitung von Baranowitschi" ("Баранавіцкая нямецкая ваенная газета") і інш.[1].

У Вільні дзейнічалі таксама іншыя асяродкі беларускай культуры: бібліятэка і кнігарня, Беларускі клуб, у якім выступаў тэатральны калектыў пад кіраўніцтвам драматурга і акцёра Ф. Аляхновіча, Беларускае навуковае таварыства (з 1918 г.) і інш.

**Праблема палітычнага самавызначэння**. Немінучае змяненне ў выніку сусветнай вайны геапалітычнай сітуацыі ва Усходняй Еўропе ставіла на парадак дня не толькі задачу развіцця нацыянальнай культуры, але і праблему палітычнага самавызначэння Беларусі. Перад вайной кіраўнікі беларускага руху не былі адназначна арыентаваны на этнанацыянальную мадэль дзяржаўнасці. Яны разглядалі беларускі этнас як інтэгральную частку больш шырокага арганізма – краю, што гістарычна сфарміраваўся ў межах былога Вялікага княства Літоўскага і ўяўляў сабой тэрытарыяльную, эканамічную і культурную цэласнасць са сваімі палітычнымі інтарэсамі[2]. З прыходам немцаў ідэя непадзельнасці літоўска-беларускага краю ўвасобілася ў стварэнні Канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага – блоку беларускіх, літоўскіх, яўрэйскіх і польскіх нацыянальных дзеячаў[3]. Праграмныя дакументы Канфедэрацыі ВКЛ, якія распаўсюджваліся на чатырох мовах (беларускай, літоўскай, польскай і ідыш), пастуліравалі неабходнасць вылучэння акупаваных немцамі літоўска-беларускіх зямель з-пад юрысдыкцыі Расійскай імперыі і ўтварэння на гэтай тэрыторыі "незалежнай дзяржаўнай адзінкі" з сеймам у Вільні, сфарміраваным шляхам агульных, роўных, прамых выбараў пры тайным галасаванні. Адноўленае ВКЛ меркавалася спачатку як унітарная ("суцэльная") дзяржава без унутраных межаў. Стварэнне асяродкаў нацыянальнай дзяржаўнасці асобных народаў не прадугледжвалася, нацыям дэкларавалася толькі свабода культурнага развіцця. У міжнародным плане будучая літоўска-беларуская дзяржава разглядалася ў якасці звяна праектаванай уплывовымі нямецкімі палітыкамі сістэмы так званай Сярэдняй Еўропы (Mitteleurора) на чале з Германіяй[4].

Прадыктаваная канкрэтна-гістарычнымі абставінамі прагерманская арыентацыя не абсалютызавалася дзеячамі беларускага руху. У маі (н.ст.) 1916 г. В.Ластоўскі і Я. Салавей на канферэнцыі паняволеных народаў Расіі ў Стакгольме разам з прадстаўнікамі фінаў, палякаў, літоўцаў, украінцаў, грузін і іншых падпісалі зварот да прэзідэнта ЗША В.Вільсана з просьбай аб дапамозе і абароне ад асіміляцыі[5]. Далёкасяжнай мэтай гэтага звароту было праз пасрэдніцтва ЗША заявіць аб сабе дзяржавам Антанты, выклікаць у іх зацікаўленасць праблемамі нярускіх народаў Расійскай імперыі[6].

Актыўную пазіцыю занялі беларускія прадстаўнікі на III з'ездзе народаў у чэрвені 1916 г. у Лазане (удзельнічалі 400 дэлегатаў з 23 краін). У рэфераце беларускай дэлегацыі праект аднаўлення ВКЛ дапаўняўся ідэяй утварэння

---

[1] *Брэдэрлоў Н.* Беларусь у люстэрку нямецкіх газет 1914–1918 гг. // Беларусіка=Albaruthenica. Кн. 6: Беларусь паміж Усходам і Захадам. Ч.1. Мн., 1997. С.238–242; *Сакалоўскі У.* Беларускае адраджэнне і далучэнне нямецкіх вучоных да даследавання беларускай культуры // Беларусіка=Albaruthenica. Кн.6. Ч.2. С.61–65.

[2] *Навіна А.* Краёвае становішча // Спадчына. 1996. №1. С.48–52.

[3] *Мікніс Р.* Літва і Беларусь: перыпетыі дзяржаўнасці ў пачатку XX ст. // Беларусіка=Albaruthenica. Кн.6. Ч.2. С.253.

[4] Літаратура і мастацтва. 1990. 23 лістап.

[5] *Engelhardt E.* Weissruthenien: Volk und Land. Berlin, 1943. S.97–99.

[6] *Ціхамірaў А.* "Стаць гаспадарамі на сваёй зямлі!": Першы выхад Беларусі на міжнародную арэну // Літаратура і мастацтва. 1991. 8 лістап.

цеснага саюза маладых дзяржаў ад Балтыкі да Чорнага мора. Меркавалася, што Балтыйска-Чарнаморскі саюз можа змяніць традыцыйны баланс сіл у рэгіёне, паспрыяць умацаванню абараназдольнасці новапароджаных дзяржаў, эфектыўнаму аднаўленню іх эканомікі[1]. Мемарандум, распаўсюджаны беларускімі дэлегатамі І.Луцкевічам і В.Ластоўскім на з'ездзе, упершыню падрабязна інфармаваў прадстаўнічы міжнародны форум аб гісторыі, геапалітычным, эканамічным становішчы беларускага народа і ўтрымліваў заклік "забяспечыць Беларусі ўсе яе палітычныя і культурныя правы"[2]. Такім чынам, у 1916 г. беларускае пытанне ўпершыню было вынесена на міжнароднае абмеркаванне.

Абвяшчэнне ў канцы таго ж года Германіяй і Аўстра-Венгрыяй намеру аднавіць пад сваім пратэктаратам Каралеўства Польскае і стварэнне ў Варшаве Часовай Дзяржаўнай рады Польшчы ўзмацнілі ў віленскім беларускім актыве надзею на тое, што аналагічныя крокі будуць зроблены і ў напрамку рэанімацыі ВКЛ[3]. Гэта тэма горача абмяркоўвалася на беларускіх нарадах і сходах, на старонках газеты "Гоман". Але адначасова з'яўляліся ўсё больш выразныя сімптомы, якія ставілі пад сумненне ажыццявімасць канцэпцыі супольнай беларуска-літоўскай дзяржаўнасці. Ужо з пачатку 1916 г. ад гэтай ідэі сталі аддаляцца прадстаўнікі яўрэяў, якіх не вабіла перспектыва выхаду Беларусі і Літвы са складу Расійскай імперыі і страты, такім чынам, вялікага расійскага рынку. Большасць мясцовых палякаў імкнулася звязаць будучыню беларуска-літоўскага краю з Каралеўствам Польскім. Літоўскія актывісты асцерагаліся верагоднага ў адноўленым ВКЛ культурна-палітычнага дамінавання палякаў і адначасова – колькаснай перавагі беларусаў. На першы план літоўцы вылучалі мэту стварэння ўласнай этнанацыянальнай дзяржавы, выключаючы, такім чынам, беларусаў са сваіх намераў[4].

Яшчэ больш праблематычным аднаўленне ВКЛ стала выглядаць на фоне падзей ва Усходняй Беларусі. Там пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. беларускі нацыянальны рух разгортваўся на платформе аўтаноміі Беларусі ў этнічных межах у рамках агульнарасійскай федэрацыі. З такім курсам "расійскіх беларусаў" не вельмі стасавалася арыентацыя віленскага беларускага цэнтра на супольную дзяржаву з літоўцамі не ў этнічных, а ў гістарычных межах былога ВКЛ.

Германскія акупацыйныя ўлады таксама не праяўлялі зацікаўленасці ў адраджэнні дзяржаўнасці ВКЛ на шматэтнічнай аснове. Немцы ўсё больш схіляліся да падтрымкі намаганняў па стварэнні літоўскай этнанацыянальнай дзяржаўнай адзінкі. У верасні 1917 г. з іх санкцыі ў Вільні без удзелу беларусаў адбылася Літоўская канферэнцыя. Яе дэлегаты выказаліся за ўтварэнне незалежнай Літоўскай дзяржавы ў этнічных межах і выбралі Раду Літоўскай зямлі (Тарыбу), манапольнае становішча ў якой занялі літоўскія нацыянальныя дзеячы[5]. Беларускія, польскія і яўрэйскія арганізацыі краю заявілі аб байкоце Тарыбы.

---

[1] *Луцкевіч А.* Злучаныя Штаты ад Балтыкі да Чорнага мора // Свабода. 1990. №2. С.5–7; *Ціхаміраў А.* Нацыянальны рух і выпрацоўка асноў знешняй палітыкі Беларусі ў 1914–1921 гг. // Беларусіка=Albaruthenica. Кн.6. Ч.1. С.75.

[2] Вольная Беларусь. 1917. 4 кастр.

[3] Гоман. 1917. 6 крас.

[4] *Мікніс Р.* Літва і Беларусь: перыпетыі дзяржаўнасці ў пачатку XX ст. С.254–255; *Смалянчук А.Ф.* Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй: Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. С.238–239.

[5] *Ochmański J.* Historia Litwy. Wrocław etc., 1982. S.282; *Linde G.* Die deutsche Politik in Litauen im ersten Weltkrieg. S.94.

Усё гэта пабуджала беларускі актыў зоны акупацыі да пераасэнсавання праекта аднаўлення адзінай літоўска-беларускай дзяржавы. Летам 1917 г. заявіла аб сабе законспіраваная група на чале з В.Ластоўскім – "Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі". Яна выказалася за ўтварэнне на акупаванай тэрыторыі (поруч з літоўскай) асобнай беларускай адміністрацыйнай адзінкі. Сваім палітычным ідэалам "Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі" абвясціла ўз'яднанне падзеленай ваенным фронтам Беларусі ў адзіны суцэльны беларускі арганізм. "Толькі незалежная Беларусь, – гаварылася ў яе лістоўцы, – можа забяспечыць усе нашы патрэбы"[1].

У студзені 1918 г. беларуская грамадскасць зоны акупацыі склікала ў Вільні Беларускую канферэнцыю, на якой быў утвораны орган беларускага прадстаўніцтва краю – Віленская Беларуская рада. Не адмаўляючыся цалкам ад ідэі беларуска-літоўскай дзяржавы, канферэнцыя выказалася за ўтварэнне ў яе складзе дзвюх аўтаномных частак – беларускай і літоўскай, з уз'яднаннем усіх беларускіх і ўсіх літоўскіх зямель па абодва бакі фронту[2]. Рашэнні канферэнцыі сталі крокам на шляху абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў межах рассялення беларускага этнасу.

Такім чынам, з канца 1915 г. да пачатку 1918 г. заходняя частка Беларусі перажывала складаныя, супярэчлівыя і неадназначныя па гістарычнаму значэнню працэсы. Германскія акупацыйныя ўлады бязлітасна эксплуатавалі эканамічны патэнцыял краю, няшчадна выкарыстоўвалі яго прыродныя, гаспадарчыя, працоўныя рэсурсы. Насельніцтва зведала ўсе жахі ваенна-акупацыйнага рэжыму. Разам з тым, кіруючыся ўласнымі геапалітычнымі разлікамі, немцы адкрылі пэўныя магчымасці для беларускай культурна-асветнай працы. У легальных і законспіраваных беларускіх асяродках актыўна пульсавала нацыянальная палітычная думка, якая паступова набліжалася да ідэалу незалежнай беларускай дзяржавы.

## 3. Становішча ва Усходняй Беларусі

**Гаспадарчая разруха. Жыццёвы ўзровень насельніцтва.** Беларускія абшары на ўсход ад лініі германскіх і расійскіх акопаў (больш за 150 тыс. км² сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, 75 % яе агульнай плошчы) працягвалі заставацца пад юрысдыкцыяй царскіх улад. Гэта прастора (Віцебская, Магілёўская і большая частка Мінскай губерні) служыла тылавой зонай расійскага Заходняга фронту. Вайна і сюды прынесла дэзарганізацыю народнай гаспадаркі, рэзка пагоршыла становішча насельніцтва.

Так, павялічыліся дыспрапорцыі ў функцыянiраванні прамысловага сектара эканомікі: вялікія прыбыткі ад паставак у казну забяспечвалі высокія тэмпы развіцця тым галінам прамысловасці, якія працавалі на патрэбы арміі, астатнія ж апынуліся ў заняпадзе.

У гады вайны хутка пачалі нарошчваць вытворчасць хлебапякарна-сушыльныя, тэкстыльныя, швейныя, абутковыя прадпрыемствы. Іх удзельная вага ў цэнзавай прамысловасці Беларусі вырасла з 1,6 % у 1913 г. да 13,2 % у 1917 г. На вытворчасць ваеннай прадукцыі пераключаліся металаапрацоўчыя прадпрыемствы[3].

---

[1] Літаратура і мастацтва. 1990. 30 лістап.

[2] Зборнік "Наша Ніва". Вільня, 1920. С.10–11.

[3] Экономика Белоруссии в эпоху империализма. С.97; История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.341.

Аб велічыні ваенных прыбыткаў сведчаць наступныя факты: на Рэчыцкім дротава-цвіковым заводзе яны выраслі ў 16,2 раза, Скокальскім паравым млыне (Слуцкі павет) – у 8,8 раза, Віцебскім аптычным заводзе – у 5 разоў[1].

На фоне імклівага росту ваенных паставак вытворчасць мірнай прадукцыі рэзка знізілася. З прычыны ўвядзення "сухога закону" амаль перастала існаваць добра развітая ў папярэдні час вінакурна-гарэлачная прамысловасць. Заняпалі дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы, скарацілася вытворчасць цэглы і дахоўкі, сукна і г.д. У 1916 г. аб'ём вытворчасці прадпрыемстваў, не звязаных з выкананнем ваенных заказаў, складаў ва Усходняй Беларусі ўсяго 15–16 % прадукцыі цэнзавай прамысловасці ў 1913 г. Інтарэсы народнага спажывання былі прынесены ў ахвяру вайне.

У цэлым прамысловасць у Беларусі панесла падчас вайны большыя страты, чым у аддаленых ад фронту рэгіёнах Расійскай імперыі. З 1914 да канца 1917 г. ва Усходняй Беларусі (у межах БССР да 1939 г.) колькасць цэнзавых прадпрыемстваў (уключаючы чыгуначныя майстэрні) скарацілася з 829 да 297 (на 65 %), а колькасць занятых на іх рабочых – з 37,7 тыс. да 25,1 тыс. чалавек (на 34 %)[2].

На стан сельскай гаспадаркі Усходняй Беларусі згубна падзейнічала скарачэнне рабочай сілы ў выніку мабілізацый, прыцягнення сялян на абаронныя работы, ахову транспартных аб'ектаў і г.д. З-за гэтага многія сялянскія гаспадаркі засталіся без работнікаў-мужчын. Да лета 1917 г. у Віцебскай губерні такіх гаспадарак было 32,5 %[3], у сямі паветах Мінскай губерні – 31,2 %[4].

У выніку рэквізіцый коней, адцягнення рабочай жывёлы для перавозкі ваенных грузаў і г.д. шмат гаспадарак засталося і без цяглавай сілы. Летам 1917 г. у Віцебскай губерні (без Дзвінскага, Люцынскага і Рэжыцкага паветаў) не мелі рабочай жывёлы 14,9 % сельскіх гаспадарак, у Магілёўскай губерні – 9,3, у сямі паветах Мінскай – 5,4 %.

Значную шкоду вытворчасці наносілі будаўніцтва на сельгасугоддзях абарончых аб'ектаў, бесперапыннае перамяшчэнне па тэрыторыі Беларусі войскаў, бежанцаў і г.д.

Усё гэта мела вынікам скарачэнне ў 1917 г. у параўнанні з 1914 г. на неакупаванай тэрыторыі Беларусі пасяўных плошчаў пад асноўнымі культурамі на 15,6 %[5]. Валавыя зборы пшаніцы ў 23 усходніх паветах Беларусі знізіліся ў 1917 г. у параўнанні з 1913 г. на 31 %, жыта – на 30, ячменю і аўса – на 19 (збожжавых у цэлым – на 25), бульбы – на 7 %[6].

З-за рэквізіцый жывёлы і кармоў, перыядычных эпізаотый агульнае пагалоўе жывёлы ў Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях скарацілася з 1914 па 1916 г. на 11,4 %[7].

---

[1] Экономика Белоруссии в эпоху империализма. С.96, 107.

[2] Падлічана па: Социалистические преобразования в экономике Белоруссии в 1917–1920 гг. Мн., 1966. С.73 (табл.).

[3] *Анфимов А.М.* Российская деревня в годы первой мировой войны. М., 1962. С.189.

[4] Падлічана па: Поуездные итоги Всероссийской сельскохозяйственной и поземельной переписи 1917 г. по 57 губерниям и областям // Труды ЦСУ. Т.5. Вып. 2. М., 1923. С. 10–11, 58–59, 206–207.

[5] *Савицкий Э.М.* Революционное движение в Белоруссии (август 1914 – февраль 1917 гг.). С.37.

[6] Падлічана па: Социалистические преобразования в экономике Белоруссии в 1917–1920 гг. С.112. (табл.).

[7] *Савицкий Э.М.* Революционное движение в Белоруссии (август 1914 – февраль 1917 гг.). С.41–46.

Вайна сур'ёзна дэзарганізавала ва Усходняй Беларусі работу транспарту, асабліва чыгуначнага. Рэзкае павелічэнне ў час вайны нагрузкі пры слабой тэхнічнай аснашчанасці, недахопе паравозаў і вагонаў, ва ўмовах паліўнага крызісу адмоўна адбілася на функцыяніраванні чыгунак. Неразбярыха панавала ў арганізацыі пасажырскага руху, рэзка скараціліся перавозкі прыватных грузаў, затое ўдзельная вага ваенных перавозак узрасла з 1 % у 1913 г. да 50 % у 1916 г.[1]

Ваенныя абставіны дэфармавалі структуру знешняга і ўнутранага гандлю Беларусі. У выніку закрыцця заходніх рынкаў і зніжэння попыту на поўдні імперыі поўны крах наступіў для экспарту лесу, зменшыўся аб'ём гандлю льном – асноўных прадметаў вывазу з Беларусі.

У той жа час у сувязі з ростам спажывецкага попыту за кошт бежанцаў і вайскоўцаў, што нахлынулі ва ўсходнюю частку краю, вырасла ёмістасць унутранага рынку. Павялічыліся абароты па продажы адзення, тытуню, мяса, збожжа, жалеза. Спыненне казённага продажу гарэлкі спрыяла шырокаму распаўсюджанню самагонаварэння і нелегальнага гандлю гарэлкай, на чым тайныя гандляры нажывалі велізарныя прыбыткі.

Хутка абясцэньваўся царскі рубель: на момант падзення самадзяржаўя яго афіцыйны курс знізіўся да 56 кап., а пакупная здольнасць, паводле афіцыйных даных, – да 27 кап. (паводле іншых звестак – нават да 14 кап.)[2].

Наступствы вайны і звязанай з ёй гаспадарчай разрухі, падзенне пакупной здольнасці рубля значна пагоршылі становішча шырокіх мас народа.

Ва Усходняй Беларусі ў сувязі з наплывам вайскоўцаў і бежанцаў харчовы крызіс, дэфіцыт прадметаў першай неабходнасці, жыллёвая праблема набылі асабліва вострыя формы. Да канца 1915 г. запасы харчавання ў гарадах Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў складалі 10–20 % ад неабходнай колькасці[3]. 1916 год прынёс далейшае пагаршэнне становішча. Над гарадамі навісла пагроза голаду, з-за недаядання папаўзла ўверх захворваемасць людзей. Дэфіцыт прадуктаў харчавання і іншых тавараў пацягнуў за сабой хуткі рост цэн. Да канца 1916 г. у Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губернях кошт прадуктаў і прамысловых вырабаў узрос у параўнанні з даваенным часам у тры–пяць разоў. Намінальнае павышэнне заработнай платы на прадпрыемствах, якія працавалі на вайну, не кампенсавала яшчэ больш хуткага росту цэн.

Народнагаспадарчы крызіс, знаходжанне ў прыфрантавой зоне адмоўна адбівалася і на жыццёвым узроўні беларускіх сялян. І без таго паменшаныя ў час вайны зборы збожжа адбіраліся бесперапыннымі рэквізіцыямі. Скарачэнне адыходніцтва і іншых сялянскіх промыслаў рэзка зменшыла грашовыя даходы вяскоўцаў. Сяляне куплялі ўсё менш і менш, пераходзілі да натуральнай гаспадаркі.

**Ваенныя аперацыі расійскіх войскаў у Беларусі ў 1916 г.** Бядотнае сацыяльна-эканамічнае становішча Беларусі яшчэ больш абцяжарвалася баявымі дзеяннямі на яе тэрыторыі. Каб дапамагчы войскам саюзнай Францыі, супраць якіх у раёне крэпасці Вердэн немцы перайшлі ў наступленне, расійскае камандаванне ў сакавіку 1916 г. ажыццявіла наступальную аперацыю ў раёне Дзвінск– воз. Нарач–воз. Вішнеўскае. Агульнай мэтай апера-

[1] Экономика Белоруссии в эпоху империализма. С.208–209.

[2] *Погребинский А.П.* Государственные финансы царской России в эпоху империализма. М., 1968. С.140.

[3] *Савицкий Э.М.* Революционное движение в Белоруссии (август 1914 – февраль 1917 гг.). С.50. С.62–63 (табл.).

цыі вызначалася дасягненне лініі Мітава (цяпер г.Елгава, Латвія) – Бауска–Вількамір (цяпер г. Укмерге, Літва)–Вільня–Дзяляцічы (цяпер вёска ў Навагрудскім раёне). Заходні фронт свой галоўны ўдар павінен быў наносіць войскамі 2-й арміі (выконваючы абавязкі камандуючага генерал А.Рагоза) у напрамку Свянцяны–Вількамір, дадатковы – войскамі 10-й арміі (генерал Я. Радкевіч) на Вільню[1]. Месца і час аперацыі былі выбраны няўдала: на ўчастку наступлення знаходзілася шмат азёр і балот, з-за вясновага бездарожжа і моцных дажджоў перамяшчацца войскам у гэтым раёне станавілася неверагодна цяжка.

Расійская 2-я армія мела ў сваім складзе восем стралковых карпусоў і адну кавалерыйскую дывізію: 373 тыс. штыкоў і шабель, 605 лёгкіх і 285 цяжкіх гармат[2]. Наступленне 2-й арміі ажыццяўлялася трыма групамі: правым флангам – на поўнач ад чыгункі Паставы–Свянцяны, цэнтральнай групоўкай – каля воз.Нарач, левым флангам – паміж азёрамі Нарач і Вішнеўскае.

2-й расійскай арміі супрацьстаяла 10-я германская (камандуючы генерал Г.Эйхгорн). Яе абарончая паласа дасягала 2 км у глыбіню, складалася з некалькіх ліній добра абсталяваных акопаў. Перад акопамі былі змайстраваны драцяныя загароды з каламі ў пяць-шэсць радоў, а паміж загародамі раскіданы рагаткі. 10-я армія немцаў у складзе дзевяці пяхотных і дзвюх кавалерыйскіх дывізій мела ў сваім распараджэнні 82 тыс. штыкоў і шабель, 29 лёгкіх і 138 цяжкіх гармат. Такім чынам, расіяне мелі вялікую колькасную перавагу як у жывой сіле, так і ў артылерыі. Гэта, аднак, не паўплывала на вынік аперацыі.

Бітва пачалася атакай дзвюх фланговых груп 2-й арміі 5(18) сакавіка, хаця да гэтага дня канцэнтрацыя расійскіх войскаў не была закончана. Атака праводзілася неарганізавана, асобнымі карпусамі, кепска звязанымі адзін з адным. На шматлікіх мясцовых рачулках пачаў трэскацца лёд, і пры іх пераадоленні людзі правальваліся ў ледзяную ваду. Вадой пачалі запаўняцца і акопы.

У такіх умовах расійскія салдаты дасягнулі на некаторых участках умацаванняў праціўніка. У цясніне паміж азёрамі Вішнеўскае і Нарач для немцаў склалася крытычная сітуацыя, з цяжкасцю ўтрымалі яны фронт і каля Паставаў[3]. Але неўзабаве з-за моцнага агню немцаў і вялікіх страт наступальны парыў расійскіх войскаў згас. Спробы новых атак, якія працягваліся да 15(28) сакавіка, прыводзілі толькі да нязначных тактычных поспехаў. Абарона немцаў нідзе не была прарвана.

У ходзе Нарачанскай аперацыі царскія войскі панеслі велізарныя страты. Толькі 2-я армія страціла 78,5 тыс. салдат і афіцэраў (звыш 30 % сіл сваіх ударных груповак), сярод іх 12 тыс. абмарожаных і замерзлых; 5 тыс. трупаў было знята з германскіх драцяных загародаў. Страты немцаў, паводле ацэначных даных, дасягалі 30–40 тыс. чалавек[4].

---

[1] *Подорожный Н.Е.* Нарочская операция в марте 1916 г. на русском фронте мировой войны. М., 1938. С.15.

[2] *Верэюсовский Д.В., Ляхов В.Ф.* Первая мировая война 1914–1918 гг.: Военно-исторический очерк. М., 1964. С.170–171.

[3] *Людендорф Э.* Мои воспоминания о войне 1914–1918 гг. Т.1. С.169–170; *Керсновский А.А.* История русской армии. М., 1999. С.596, 599.

[4] *Подорожный Н.Е.* Нарочская операция в марте 1916 г. на русском фронте мировой войны. С.151–153; *Верэюсовский Д.В., Ляхов В.Ф.* Первая мировая война 1914–1918 гг.: Военно-исторический очерк. С.172.

На лета 1916 г. Расійскім камандаваннем было запланавана буйное наступленне, у ходзе якога галоўны ўдар па праціўніку павінны былі нанесці арміі Заходняга фронту на тэрыторыі Беларусі. Аднак наступленне мела поспех толькі на Паўднёва-Заходнім фронце, дзе ўдалося ажыццявіць прарыў аўстра-венгерскіх пазіцый (Брусілаўскі прарыў). У выніку праведзеная ў чэрвені-ліпені 1916 г. сіламі Заходняга фронту Баранавіцкая (Скробава-Гарадзішчанская) аперацыя мела толькі дапаможнае значэнне. Яе ажыццяўленне ўскладалася на 4-ю армію (камандуючы генерал А. Рагоза). У раёне аперацыі было сканцэнтравана 19,5 пяхотных і дзве казацкія дывізіі агульнай колькасцю 340 тыс. чалавек. Ім супрацьстаяла 9-я армія праціўніка (камандуючы генерал Р. Войрш) у складзе чатырох карпусоў, якая валодала добра ўмацаванай лініяй абароны ў дзве-тры паласы. Колькасная перавага і ў гэтай аперацыі была на баку расійскіх войскаў.

У ходзе пачатай 20 чэрвеня (3 ліпеня) атакі некаторыя расійскія дывізіі авалодалі першай лініяй нямецкіх акопаў. Армейская група Р.Войрша апынулася ў складаным становішчы, усе яе рэзервы былі пушчаны ў ход[1]. Аднак у наступныя дні расійскія войскі не змаглі развіць першапачатковы поспех. Контрударам праціўніка яны былі адкінуты на зыходныя пазіцыі. 1(14) ліпеня немцы занялі пакінутыя раней акопы каля в.Скробава (цяпер у Баранавіцкім раёне). Спробы расіян аднавіць страчаныя пазіцыі ў ходзе атак 12–16 (25–29) ліпеня на ўчастку Скробава– Лабузы (цяпер у Ляхавіцкім раёне) скончыліся няўдачай.

Падчас Баранавіцкай аперацыі расійскія страты забітымі, параненымі і ўзятымі ў палон склалі каля 80 тыс. салдат і афіцэраў, страты праціўніка – каля 25 тыс. чалавек[2]. Няўдалыя атакі царскіх войскаў пад Баранавічамі не аказалі прыкметнага ўплыву на наступальныя дзеянні Паўднёва-Заходняга фронту[3].

Ваенныя дзеянні 1916 г. на тэрыторыі Беларусі паказалі няздольнасць царскай арміі справіцца з задачай прарыву ўмацаванага германскага пазіцыйнага фронту. Далейшая бесперспектыўнасць удзелу Расійскай імперыі ў вайне станавілася ўсё больш відавочнай.

**Нарастанне рэвалюцыйнай сітуацыі.** Эканамічнае бязладдзе, пагаршэнне становішча шырокіх мас народа, аслабленне надзей на перамогу Расіі ў вайне ўскладнялі сацыяльна-палітычную сітуацыю, уводзілі краіну ў стан рэвалюцыйнага крызісу.

У прыфрантавой Беларусі, якая знаходзілася на ваенным становішчы, прыкметы рэвалюцыйнай сітуацыі былі менш выразнымі. Але і тут сярод розных пластоў грамадства нарасталі праявы незадаволенасці існуючым становішчам. Найперш гэта выяўлялася ў ажыўленні рабочага руху. У 1916 г. выступленні рабочых зафіксаваны ў 11 населеных пунктах Беларусі. У параўнанні з папярэднім годам колькасць стачачнікаў вырасла з 300 да 1800 чалавек – больш чым ў 6 разоў[4]. Найбольшую актыўнасць пры гэтым праявілі рабочыя Віцебска, дзе адбылося 13 забастовак з удзелам 1,2 тыс. рабочых (60 % стачачнікаў Усходняй Беларусі ў 1916 г.).

---

[1] *Людендорф Э.* Мои воспоминания о войне 1914–1918 гг. С.180.

[2] *Зайончковский А.М.* Первая мировая война. СПб., 2000. С.554–558, *Ростунов И.И.* Русский фронт первой мировой войны. М., 1976. С.281.

[3] *Верэжховский Д.В., Ляхов В.Ф.* Первая мировая война 1914–1918 гг.: Военно-исторический очерк. С.178.

[4] *Савицкий Э.М.* Революционное движение в Белоруссии (август 1914 – февраль 1917 гг.). С.87; История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.360–367.

Асаблівасцю Беларусі ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі імперыі з'яўлялася тое, што ў мясцовым рабочым руху практычна не выяўляліся палітычныя матывы. Але ва ўмовах ваеннага становішча нават эканамічныя выступленні былі звязаны з немалой рызыкай. Арганізатараў стачак арыштоўвалі і адпраўлялі на фронт. У некаторых выпадках выступленні рабочых падаўляліся войскамі з прымяненнем зброі.

Паглыбленне эканамічнага крызісу, імклівы рост цэн на прамысловыя тавары, бясконцыя рэквізіцыі і іншыя павіннасці, што зваліліся на сялян, выклікалі незадаволенасць і ў беларускай вёсцы. Уздым сялянскага руху ў перадрэвалюцыйны перыяд назіраўся ў Цэнтральнай і Усходняй Беларусі ў 1915 г. (86 выступленняў), калі сюды набліжаўся фронт, што суправаджалася павелічэннем рэквізіцый і мабілізацыяй на абаронныя работы. У 1916 г. улады ўзмацнілі рэпрэсіўныя меры супраць актыўных дзеянняў сялян "скопам", і колькасць такіх выступленняў зменшылася да 60. Гэтаму садзейнічаў таксама прыняты ў лістападзе 1915 г. закон аб спыненні на час вайны землеўпарадкавальных работ, звязаных з хутарызацыяй, якая напярэдадні выклікала зацятае супраціўленне з боку сялян-абшчыннікаў[1].

Сярод формаў сялянскага руху ў 1916–пачатку 1917 г. звыш паловы выступленняў (55 %) складалі патравы памешчыцкіх зямель і парубкі лясоў, каля 30 % – адмаўленні ад выканання ваенных работ і павіннасцей[2]. Па меры набліжэння рэвалюцыі явачнае карыстанне памешчыцкай уласнасцю набывала ўсё больш шырокі размах.

Пашырэнню сярод беларускіх сялян антыпамешчыцкіх і антываенных настрояў нярэдка спрыялі вайскоўцы Заходняга фронту і тылавых гарнізонаў, а таксама салдаты-адпускнікі і дэмабілізаваныя. Усё больш адчувальным станавілася браджэнне і ў войсках. Незадаволенасць стымулявалася няўдачамі на фронце, гібеллю соцень тысяч людзей, крайняй недастатковасцю ўзбраення і боепрыпасаў, разладжваннем харчовага забеспячэння.

У выніку больш частымі сталі выпадкі добраахвотнай здачы ў палон, сярод салдат пашыралася дэзерцірства. Паводле даных Стаўкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага (верагодна, няпоўных), з Заходняга фронту да 1 сакавіка 1917 г. дэзерціравала 13,6 тыс. салдат[3]. Усё часцей назіраліся адмовы выходзіць на пазіцыі, пачало распаўсюджвацца братанне з немцамі. З-за недахопу прадуктаў у войску салдаты ўчынялі пагромы крамаў, напады на памешчыцкія маёнткі, рабаванні.

Яскравым сведчаннем пачатку разлажэння царскай арміі з'явілася буйное выступленне ў кастрычніку 1916 г. на размеркавальным пункце каля Гомеля. Сюды адначасова былі прысланы данскія казакі, якія не вызначаліся дысцыплінаванасцю, і матросы Балтыйскага флоту, за рэвалюцыйныя выступленні спісаныя ў пяхоту. Такім чынам утварылася лёгкая на загаранне "грымучая сумесь". Паўстанне ўспыхнула 22 кастрычніка, калі каля 4 тыс. салдат і матросаў не дапусцілі арышту казака, які не ўстаў у прысутнасці палкоўніка. Паўстанцы абяззброілі каравул гаўптвахты і вызвалілі з-пад арышту каля 800 чалавек. Выкліканыя камандаваннем іншыя войскі былі сустрэты ружэйным агнём, але, маючы перавагу ва ўзбраенні, рассеялі

[1] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. С.450–451.

[2] Падлічана па: *Савицкий Э.М.* Революционное движение в Белоруссии (август 1914 – февраль 1917 гг.). С. 104–105 (табл.).

[3] Россия в первой мировой войне 1914–1918 гг. (в цифрах). М., 1925. С.26.

паўстанцаў. Праз некалькі дзён каля 200 вайскоўцаў разагналі ў Гомелі паліцэйскі атрад, абяззброілі на перасыльным пункце каравул і зноў вызвалілі арыштаваных. І гэта ўспышка была задушана ўзброенай сілай. За ўдзел у паўстанні ў Гомельскай турме ўтрымлівалася 125 чалавек, з іх дзевяць былі прысуджаны да пакарання смерцю (у канцы лістапада яны былі публічна расстраляны перад строем часцей Гомельскага гарнізона), астатнія адпраўлены на катаргу і ў арыштанцкія роты[1].

Аднак рэпрэсіямі ўжо нельга было перапыніць працэс разлажэння арміі, якая з апоры царызму ператваралася ў крыніцу грознай небяспекі для існуючага рэжыму.

**Беларускі нацыянальны рух.** Па меры паглыблення грамадскага крызісу ў шматнацыянальнай Расійскай імперыі абвастраліся не толькі сацыяльна-класавыя, але і нацыянальныя праблемы. Сярод інтэлектуальных і палітычных эліт нярускіх народаў краіны нарастала заклапочанасць будучым лёсам сваіх суродзічаў, актывізаваліся пошукі магчымых варыянтаў дзеянняў на выпадак змянення геапалітычнай сітуацыі ў Расіі і ў свеце.

Беларускі нацыянальны рух на падкантрольнай царызму тэрыторыі перажываў складаныя працэсы. Сыход з краю значнай часткі тытульнага этнасу (у асобе беларускіх бежанцаў і мабілізаваных у войска беларусаў) і наплыў сюды "прышлых элементаў" павялічылі этнічную стракатасць насельніцтва. Тым самым сацыяльная глеба для беларускага руху стала больш хісткай. Мабілізацыя, эвакуацыя і бежанства параскідалі яго актывістаў Я. Купалу, В. Іваноўскага, Я. Коласа, І. Краскоўскага, М. Гарэцкага, Я. Станкевіча і многіх іншых па розных кутках імперыі. У той жа час падзел Беларусі расійска-германскім фронтам, нягоды, якія прынесла краю вайна, узмацнялі трывогу за яго будучыню, паскаралі абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці. У першую чаргу такія настроі пашыраліся сярод бежанцаў, вайскоўцаў, работнікаў эвакуіраваных устаноў. Знаходзячыся ўдалечыні ад радзімы ў іншаэтнічным асяроддзі, у цяжкіх і нязвыклых умовах, яны выразней усведамлялі сваю этнічную прыналежнасць, былі больш успрымальнымі да ідэй нацыянальнага вызвалення.

У гады вайны царызм па-ранейшаму імкнуўся не дапусціць выкрышталізацыі беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, дзеля чаго максімальна стрымліваў разгортванне беларускага руху. У выніку з прычыны рэальных або штучна створаных цяжкасцей ваеннага часу прыходзілі ў заняпад беларускія нацыянальна-культурныя асяродкі. Выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша аконца", знаходзячыся ў стане рэарганізацыі, з-за зніжэння попыту на кнігі і фінансавых праблем згарнула дзейнасць. Спыніліся беларускія перыядычныя выданні. Ужо восенню 1914 г. у Мінску перастаў выходзіць часопіс "Лучынка", у студзені 1915 г. перапынілася друкаванне сельскагаспадарчага часопіса "Саха". Летам 1915 г. закрылася віленская газета "Biełarus". Узмацніліся цэнзурныя ганенні на "Нашу ніву", 7(20) жніўня 1915 г. яе выданне таксама перапынілася. Праекты стварэння новых беларускіх перыядычных выданняў ва ўмовах царскага рэжыму рэалізаваць, як правіла, не ўдавалася[2].

---

[1] Документы и материалы по истории Белоруссии. Мн., 1953. Т.3. С.879–880; Революционное движение в армии и на флоте в годы первой мировой войны. 1914 – февр. 1917: Сб. док-тов. М., 1966. С.213–217, 425–426; *Савицкий Э.М.* Революционное движение в Белоруссии (август 1914 – февраль 1917 гг.). С.136.

[2] НГАБ у Мінску, ф.295, воп.1, спр.9242, арк.4; Национальные проблемы. 1915. №3. С.35; *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова. С.238; *Багдановіч М.* Поўны збор твораў. Мн., 1995. Т.3. С.319.

Як на акупаванай немцамі тэрыторыі, так і на ўсход ад лініі фронту легальнымі беларускімі арганізацыямі з'яўляліся дабрачынныя бежанскія камітэты. Заснаванае вясной 1915 г. у Вільні Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны (старшыня В. Іваноўскі, намеснікі старшыні А. Луцкевіч і В. Ластоўскі) паспела да акупацыі заходняй часткі краю адкрыць свае аддзелы ў Мінску, Вілейцы, Дзісне, Друскеніках, Празароках, в. Гожа Гродзенскай губерні, Полацку і іншых месцах. Пасля таго як Вільня апынулася за лініяй фронту, аддзелы таварыства ў Мінскай і Віцебскай губернях, а таксама ўзніклыя пазней аналагічныя арганізацыі па-за межамі Беларусі (у Петраградзе, Казані, Тамбове і г.д.) сталі дзейнічаць самастойна. Акрамя дабрачыннай дзейнасці, гэтыя камітэты займаліся нацыянальна-культурнай працай: ладзілі спектаклі, вечарыны, папулярызавалі родную мову і літаратуру. Кулуарна на беларускіх сходках абмяркоўваліся і палітычныя праблемы, але адкрытае іх дыскутаванне і вылучэнне палітычных патрабаванняў былі немагчымы ў абмежаваных умовах самадзяржаўнага рэжыму, яшчэ больш звужаных абставінамі ваеннага часу[1]. Тым не менш як месцы згуртавання беларускіх актывістаў камітэты дапамогі бежанцам уяўлялі сабой гатовую арганізацыйную форму для магчымага пераходу ў будучым да палітычнай дзейнасці.

Асабліва важнай у гэтым сэнсе была наяўнасць беларускай арганізацыі ў Мінску – ваенна-палітычным цэнтры Усходняй Беларусі. У працы Мінскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны (утварыўся летам 1915 г.) удзельнічалі некалькі дзесяткаў чалавек, сярод якіх А.Смоліч, М. Багдановіч, П.Аляксюк, А.Лявіцкі (Ядвігін Ш.), Л.Дубейкаўскі, А.Астрамовіч (А.Зязюля), У.Фальскі, С. Плаўнік (З.Бядуля) і інш. Старшынёй быў В.Чавусаў, са студзеня 1917 г. – Р.Скірмунт. Аддзел заснаваў прытулкі для бежанцаў, кравецкія і ткацкія майстэрні, арганізаваў беларускі хор, драматычную трупу. Адна з яго сталовых пад назвай "Беларуская хатка" ператварылася ў своеасаблівы клуб беларускай інтэлігенцыі Мінска[2].

У студзені 1916 г. аналагічнае беларускае таварыства ўтварылася ў сталіцы Расійскай імперыі – Петраградзе. Яго кіраўнікамі былі Л. Сеўрук – (старшыня), А. Ярэміч і М. Мігай (намеснікі старшыні), Э. Будзька (сакратар), Ч. Родзевіч, Б. Эпімах-Шыпіла, Б.Тарашкевіч і інш. Таварыства аказвала дапамогу грашыма і вопраткай, харчаваннем, адкрыла беларускія пачатковыя школы, інтэрнаты, майстэрні і г.д. Для суродзічаў у Петраградзе яно рэгулярна наладжвала беларускія вечарынкі з тэатральнымі пастаноўкамі[3].

З петраградскай суполкі беларусаў у канцы 1916 г. пачалі выходзіць ініцыятывы да арганізацыйнага згуртавання ўсяго беларускага руху ў межах Расійскай дзяржавы, з'явіліся спробы напрацоўкі пэўнай праграмы дзеянняў. Гэтай задачы павінны былі паслужыць газеты "Дзянніца" (пад рэдакцыяй З. Жылуновіча) і "Swietač" (пад рэдакцыяй Э. Будзькі), якія выйшлі ў свет 1 лістапада 1916 г. Першая, разлічаная больш на праваслаўных белару-

---

[1] *Жылуновіч З.* Эпізод з жыцця беларускай часопісі // Полымя. 1923. №7/8. С.111; *Ён жа.* З'езд беларускіх нацыянальных арганізацый // Полымя. 1925. №6. С.202; *Ён жа.* Люты-Кастрычнік у беларускім нацыянальным руху // Беларусь: Нарысы гісторыі, культуры і рэвалюцыйнага руху. Мн., 1924. С.184.

[2] *Верас З.* Менск: З дзённікавых запісаў // Бацькаўшчына: Зб. гістарычнай літ.-ры. Мн., 1992. С.127–146; *Скалабан В.* "...В это суровое и важное время": Максим Богданович в Минске // Неман. 1981. №12. С.141–142, 146.

[3] ЦДГА г. С.-Пецярбурга, ф.1935, воп.1, спр.2, арк.1, 6 адв.–7; спр.3, арк.22; спр.8, арк.1–8, 31–32; *Станкевіч Я.* Беларусы-ўцекачы ў Расіі // Гоман. 1917. 12 кастр.

саў, друкавалася кірыліцай, другая, прызначаная католікам, – лацінкай. Газеты выказвалі надзею на дасягненне пасля вайны нацыянальнага раўнапраўя, імкнуліся падвесці чытача да думкі аб неабходнасці змагацца за інтарэсы роднага краю і народа. Аднак непераадольнай перашкодай для іх выдання паўстала царская цэнзура, і 31 снежня 1916 г. на сёмых нумарах газеты спынілі выхад[1].

Тады ж, у канцы 1916 г. на нарадзе беларускіх актывістаў у Петраградзе было вырашана склікаць праз некалькі месяцаў нелегальны з'езд дэлегатаў ад беларускіх суполак, раскіданых па прасторах Расійскай імперыі[2]. Але ў разгар падрыхтоўкі з'езда выбухнула расійская рэвалюцыя, якая кардынальна змяніла ўсю сітуацыю.

Такім чынам, на тэрыторыі Беларусі, што заставалася пад юрысдыкцыяй Расіі, як і ў акупаванай немцамі заходняй частцы краю, насельніцтва знемагала ад гаспадарчай разрухі, недахопу харчавання і прадметаў першай неабходнасці, недаядання і хвароб. Нягоды, прынесеныя імперыялістычнай вайной, выклікалі глухое незадавальненне, пашырэнне апазіцыйных настрояў, якія ўсё часцей вылiваліся ў адкрытае супраціўленне ўладам. Поруч з класава-палітычнай абуджалася нацыянальная самасвядомасць беларусаў. Усё гэта ў спалучэнні з аналагічнымі працэсамі ў іншых рэгіёнах Расійскай дзяржавы паглыбляла крызіс арганізаванага па імперскаму тыпу расійскага грамадства, які ўрэшце рэшт выліўся ў грандыёзны рэвалюцыйны катаклізм 1917 года.

## 4. Перамога Лютаўскай рэвалюцыі. Грамадскі рух (люты – чэрвень 1917 г.)

**Фарміраванне новых органаў улады**. 23 лютага (8 сакавіка) 1917 г. – у Міжнародны жаночы дзень – у Петраградзе з-за перабояў у гандлі хлебам пачаліся стыхійныя хваляванні. 27 лютага (12 сакавіка) рух перарос ва ўзброенае паўстанне, якое закончылася перамогай у сталіцы імперыі народнай рэвалюцыі.

Падчас паўстання з ліку ліберальных дэпутатаў Дзяржаўнай думы ўтварыўся часовы думскі камітэт, які ў ноч на 28 лютага абвясціў аб узяцці ўлады ў краіне. Адначасова прадстаўнікі левай, сацыялістычнай часткі антыцарскай апазіцыі арганізавалі Петраградскі савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У выніку перагавораў паміж думскімі дзеячамі і лідэрамі савета 1 сакавіка быў сфарміраваны Часовы ўрад Расіі на чале з князем Г. Львовым. Дамінуючыя пазіцыі ва ўрадзе спачатку займалі канстытуцыйныя дэмакраты (кадэты). Часовы ўрад абавязваўся забяспечыць у краіне дэмакратычныя правы і свабоды, склікаць Устаноўчы сход. Петраградскі савет, узначалены адным з лідэраў меншавіцкай часткі РСДРП М.Чхеідзе, карыстаўся падтрымкай узброенага народа, але не ўзяў у свае рукі распарадчую і выканаўчую ўладу, захаваўшы за сабой толькі кантроль над урадам. Кіраўнікі савета (памяркоўныя сацыял-дэмакраты і сацыялісты-рэвалюцыянеры) лічылі, што на шляху да сацыялізму Расіі належыць прайсці працяглы этап эвалюцыйнага развіцця на аснове парламенцкай дэмакратыі і капіталістычнай эканомікі.

---

[1] *Жылуновіч З.* Эпізод з жыцця беларускай часопісі. С.111–117; *Александровіч С.Х.* Кнігі і людзі. С.91–101.

[2] Гоман. 1918. 16 ліп.; *Мядзёлка П.* Сцежкамі жыцця. М., 1974. С.89–93.

Цара Мікалая II рэвалюцыя заспела ў Стаўцы Вярхоўнага галоўнака-
мандуючага ў Магілёве. Не здолеўшы задушыць паўстанне ў сталіцы і не да-
чакаўшыся падтрымкі з боку вышэйшых военачальнікаў, ён 2 сакавіка
1917 г. адрокся ад трона.

Вестка пра падзенне царызму ў лічаныя дні разнеслася па краіне. На-
сельніцтва гарадоў і мястэчак Беларусі, салдаты Заходняга фронту ў боль-
шасці станоўча сустракалі гэту навіну.

Паўсюдна наладжваліся сходы для выпрацоўкі захадаў па захаванні па-
радку, забеспячэнні людзей харчаваннем і г.д. У некаторых населеных пунк-
тах прайшлі мітынгі і дэманстрацыі, удзельнікі якіх раззбройвалі паліцыю,
вызвалялі з турмаў палітычных зняволеных. Урачыстыя маніфестацыі былі
арганізаваны ў пачатку сакавіка ў Гомелі, Магілёве, Мінску, Віцебску.

Дзейнасць старога дзяржаўнага апарату была паралізавана. Па ініцыя-
тыве гарадскіх дум, земстваў, устаноў Усерасійскага земскага саюза (УЗС) і
Усерасійскага саюза гарадоў (УСГ), палітычна актыўных груп інтэлігенцыі
на месцах сталі ўзнікаць самадзейныя органы кіравання. Паводле ўзору
часоў Вялікай Французскай рэвалюцыі іх часцей за ўсё называлі камітэтамі
грамадскай бяспекі.

У Мінску пачатак стварэнню новай сістэмы кіравання быў пакладзены
ўвечары 3 сакавіка на нарадзе прадстаўнікоў ад розных арганізацый і груп
насельніцтва горада. Нарада выбрала старшыню губернскай земскай упра-
вы Б.Самойленку цывільным камендантам горада і вызначыла схему ства-
рэння гарадскога прадстаўнічага органа[1]. Для замены раззброенай паліцыі
было вырашана сфарміраваць з супрацоўнікаў УЗС часовую міліцыю, на-
чальнікам якой на наступны дзень быў прызначаны М.Міхайлаў (М.Фрун-
зе). На яе аснове пачала фарміравацца пастаянная гарадская міліцыя[2]. 7 са-
кавіка 1917 г. сход грамадскасці пад старшынствам камандзіраванага ў
Мінск дэпутата Дзяржаўнай думы М.Шчэпкіна ўтварыў у якасці калегіяль-
нага органа кіравання горадам Камітэт грамадскай бяспекі. У яго ўвайшлі
прадстаўнікі гарадской управы, фарміруемага савета рабочых дэпутатаў, на-
цыянальных груп (рускіх, беларусаў, палякаў, яўрэяў) і г.д.[3]

У Віцебску план арганізацыі новай улады быў выпрацаваны на нарадах
мясцовых грамадскіх актывістаў 3–4 сакавіка. У ноч на 5 сакавіка ў кіраван-
не ўступіў Гарадскі грамадскі камітэт, у якім былі прадстаўлены гарадская
дума, земства, кааператывы, культурныя і дабрачынныя арганізацыі, асоб-
ныя групы насельніцтва – усяго 48 арганізацый і ўстаноў[4].

Ініцыятыва рэарганізацыі мясцовага кіравання ў Магілёве зыходзіла ад
гарадской думы, якая правяла выбары ўпаўнаважаных ад розных арганіза-
цый горада ў Выканаўчы камітэт па ахове грамадскай бяспекі. Яго першы
сход адбыўся 8 сакавіка[5].

---

1 Вестник комитета Западного фронта Всероссийского земского союза. 1917. 5 марта; Минский голос. 1917. 5 марта.

2 Минский голос. 1917. 5 и 6 марта; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Док-ты и мат-лы. Мн., 1957. Т.1. С. 82.

3 Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т.1. С.94–95; *Игнатенко И.М.* Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии. С.110.

4 *Игнатенко И.М.* Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии. С.111; *Башко П.К.* Віцебскі гарадскі грамадскі камітэт // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Т.2. С.329–330.

5 Победа советской власти в Белоруссии. С.84; Вестник Могилевского земства. 1917. №3. С.29–31.

У тыя ж дні падобныя камітэты ўзніклі ў Гомелі, Оршы, Полацку, Горках, Быхаве, Рагачове, іншых гарадах і мястэчках. Іх галоўнай адметнасцю быў пазасаслоўны і пазакласавы характар, кааліцыйны склад. Поруч з маёмаснымі класамі ў камітэтах былі прадстаўлены інтэлігенцыя, гарадскія нізы, вайскоўцы. У іх уваходзілі прыхільнікі розных палітычных поглядаў, у тым ліку сацыялістычных. У большасці выпадкаў з камітэтамі грамадскай бяспекі супрацоўнічалі саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Часовы ўрад разглядаў камітэты як зародак дэмакратычнага самакіравання, фундамент мясцовай улады да правядзення новых выбараў гарадскіх дум і земстваў. Але, з'яўляючыся па спосабу ўтварэння грамадскімі арганізацыямі, камітэты афіцыйна не атрымалі ўсёй паўнаты ўладных паўнамоцтваў. Іх роля паступова звялася да грамадскай падтрымкі мясцовага ўрадавага апарату, галоўнымі фігурамі ў якім сталі губернскія і павятовыя камісары.

Пастановай Часовага ўрада ад 4 сакавіка 1917 г. пасады губернатараў і павятовых спраўнікаў былі скасаваны, а іх функцыі перадаваліся ўрадавым камісарам, чые абавязкі часова ўскладаліся на старшынь земскіх упраў[1]. Камісарамі беларускіх губерняў сталі: Мінскай – Б.Самойленка, Віцебскай – М.Карташоў (неўзабаве быў арыштаваны мясцовым саветам салдацкіх дэпутатаў і заменены А.Валковічам), Магілёўскай – князь М. Друцкі-Сакалінскі (які таксама з-за канфлікту з саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў быў заменены ў ліпені 1917 г. эсэрам Г. Пеўзнерам)[2].

19 сакавіка 1917 г. Часовы ўрад скасаваў пасаду земскіх начальнікаў; іх адміністрацыйныя функцыі перадаваліся павятовым камісарам, судовыя – часовым суддзям[3]. У той жа дзень была прынята пастанова ўрада аб арганізацыі замест валасных праўленняў часовых органаў кіравання ў валасцях – валасных камітэтаў[4].

**Узнікненне саветаў**. На хвалі рэвалюцыйнага ўздыму поруч з агульнадэмакратычнымі органамі кіравання па прыкладу Петраграда сталі ўтварацца самадзейныя органы рабочых, салдат, а затым і сялян – саветы. Яны акумулявалі ў сабе мнагакратна ўзмоцненую вайной і рэвалюцыяй цягу працоўнага люду да сацыяльнай справядлівасці, з'яўляліся формай яго далучэння да палітыкі. Ініцыятарамі і галоўнымі дзеючымі асобамі пры стварэнні саветаў сталі сацыялісты-рэвалюцыянеры і сацыял-дэмакраты розных адценняў.

Адным з першых у Беларусі ўтварыўся савет у Мінску. Тут намаганнямі арыентаваных на левыя партыі служачых мінскіх устаноў УЗС і УСГ ужо ў першы тыдзень сакавіка адбыліся выбары дэпутатаў ад прадпрыемстваў горада і часцей гарнізона. Выканаўчы камітэт Мінскага савета рабо-

---

[1] Революционное движение в России после свержения самодержавия: Док-ты и мат-лы. М., 1957. С.422.

[2] *Игнатенко И.М.* Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии. С.114, 188; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т.1. С.126–127, 299–300; Могилевский вестник. 1917. 17 и 18 марта; Могилевская жизнь. 1917. 28 июля; Рабочая мысль. 1917. 1 авг.

[3] *Минц И.И.* История Великого Октября. М., 1978. Т.2. С.129.

[4] Революционное движение в России после свержения самодержавия. С.440; *Андреев А.М.* Местные Советы и органы буржуазной власти. М., 1983. С.83.

чых і салдацкіх дэпутатаў узначаліў сацыял-дэмакрат "міжраёнец" Б. Позерн. Савет выступіў у падтрымку Часовага ўрада пры ўмове ажыццяўлення ім дэмакратычных пераўтварэнняў, накіраваў сваіх прадстаўнікоў у склад Мінскага камітэта грамадскай бяспекі[1].

На працягу першага тыдня сакавіка аформіўся савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў у Гомелі[2].

У Віцебску, дзе таксама размяшчаўся шматлікі гарнізон, утварэнне арганізацыі рабочых і салдат узяў пад сваю апеку Петраградскі савет, накіраваўшы сюды спецыяльнага пасланца. 8 сакавіка адбыўся ўстаноўчы сход савета рабочых дэпутатаў, да сярэдзіны сакавіка закончыліся выбары ў савет салдацкіх дэпутатаў. Меркавалася аб'яднанне абодвух саветаў, аднак агульны прэзідыум не быў створаны[3].

У Магілёве 6 сакавіка ўзнік часовы Камітэт салдацкіх дэпутатаў. Аб утварэнні аб'яднанага савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў было абвешчана 22 сакавіка[4].

Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў узніклі таксама ў Бабруйску, Барысаве, Оршы, Полацку, Слуцку, Рагачове, Лепелі, Рэчыцы, іншых гарадах і мястэчках Беларусі. Усяго на працягу сакавіка–чэрвеня 1917 г. саветы рабочых дэпутатаў або рабочыя секцыі пры саветах розных назваў арганізаваліся ў 57 населеных пунктах, саветы салдацкіх дэпутатаў або салдацкія секцыі – у 59 населеных пунктах Беларусі.

Неўзабаве пазначылася тэндэнцыя да каардынацыі дзейнасці саветаў у маштабах Беларусі. 22–25 мая 1917 г. дэлегаты ад 13 саветаў Мінскай, Магілёўскай і неакупаванай часткі Віленскай губерняў на нарадзе (з'ездзе) у Мінску выпрацавалі план арганізацыі саветаў Заходняй вобласці. Функцыі абласнога выканаўчага камітэта былі ўскладзены на выканком Мінскага савета[5].

У чэрвені 1917 г. у Петраградзе адбыўся І Усерасійскі з'езд саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З Беларусі ў з'ездзе ўдзельнічалі дэлегаты ад Мінскага, Віцебскага, Бабруйскага, Гомельскага, Аршанскага саветаў, ад армій Заходняга фронту[6]. Пераважная большасць дэлегатаў з'езда належала да эсэра-меншавіцкага блока, што прадвызначыла палітычную накіраванасць яго рэзалюцый. На з'ездзе быў выбраны Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт (УЦВК) саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў на чале з М.Чхеідзе.

Арганізацыя саветаў сялянскіх дэпутатаў адбывалася ў ходзе падрыхтоўкі і правядзення сялянскіх з'ездаў, якія ва ўсіх губернях і большасці паве-

---

[1] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т.1. С.83–85, 91–93; *Башко П.К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии (март – октябрь 1917 г.). С.15–17; *Сяменчык М.Я.* Да пытання аб утварэнні Мінскага Савета ў 1917 г. // Весці Беларускага дзярж. пед. ун-та. 1995. №1. С.66–67.

[2] *Игнатенко И.М.* Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии. С.94, 116–117; *Савицкий Э.М.* Революционное движение в Белоруссии (август 1914 – февраль 1917 гг.). С.148–149.

[3] *Башко П.К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии (март–октябрь 1917 г.). С.18–19; *Прыгунова Я.К.* Віцебскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т.2. С.337.

[4] История рабочего класса Белорусской ССР. Т.1. С.373; *Башко П.К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии. С.28.

[5] *Башко П.К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии. С.36–37; Фронт. 1917. 27 мая; Вестник Минского губернского комиссарита. 1917. 4 июня.

[6] *Башко П.К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии. С.30–31, 38.

таў Беларусі прайшлі ў красавіку–ліпені 1917 г. З'езды ўтваралі пастаянна дзеючыя органы – выканаўчыя камітэты сялянскіх дэпутатаў губерні або павета. За гэты перыяд у Беларусі ўзніклі чатыры губернскія, 26 павятовых і больш за 10 валасных саветаў сялянскіх дэпутатаў.

Усяго з сакавіка да ліпеня 1917 г. у Беларусі ўзнікла каля 150 саветаў розных назваў. Абсалютную перавагу ў іх мелі меншавікі, бундаўцы, эсэры. Пазіцыі бальшавікоў былі слабымі, адносна ўплывовая бальшавіцкая група склалася толькі ў Мінскім савеце.

Як і Петраградскі савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, саветы Беларусі лаяльна ставіліся да Часовага ўрада і яго органаў на месцах, звычайна прызнавалі прыярытэт за камітэтамі грамадскай бяспекі, у склад якіх пасылалі сваіх пастаянных прадстаўнікоў. Разам з тым саветы, маючы ў асобе салдат узброеную падтрымку, сталі ўмешвацца ў канфлікты паміж рабочымі і прадпрымальнікамі, дамагаліся ўвядзення 8-гадзіннага рабочага дня, зніжэння беспрацоўя, дыктавалі кадравыя прызначэнні. Гэтымі ж пытаннямі займаліся і іншыя мясцовыя органы, з-за чаго пры неразмежаванасці кампетэнцыі на месцах фактычна ўзнікла сітуацыя шматуладдзя пры двоеўладдзі ў цэнтры[1]. Такое становішча параджала неразбярыху, перашкаджала станоўчаму вырашэнню жыццёвых праблем. У выніку толькі што здабытая свабода выклікала расчараванне, не паспеўшы замацавацца ў масавай свядомасці як безумоўная каштоўнасць, якою трэба даражыць.

**Арганізацыя прафесійных саюзаў**. Рост грамадскай актыўнасці насельніцтва выявіўся і ў ажыўленні прафсаюзнага руху. У Беларусі найбольш хутка аднаўляліся старыя і ўтвараліся новыя прафесійныя арганізацыі ў Мінску, Віцебску і Гомелі.

У Мінску к маю 1917 г. налічвалася 20 прафсаюзаў, якія аб'ядноўвалі каля 10 тыс. рабочых і служачых. У чэрвені прафсаюзныя аб'яднанні дзейнічалі ў горадзе ва ўсіх галінах вытворчасці. Найбуйнейшымі сярод іх былі прафсаюз служачых (1500 чалавек), саюз "Іголка" (800), саюз рабочых тытунёвых фабрык (600), саюз гарбароў (400) і інш. Да кастрычніка 1917 г. у Мінску ўзнікла яшчэ каля 10 саюзаў[2].

К сярэдзіне чэрвеня 20 прафсаюзаў налічвалася ў Віцебску. Сярод іх сваёй колькасцю вылучаліся прафсаюз хатняй і рэстараннай прыслугі (1200 чалавек), саюз рабочых і служачых фабрыкі "Дзвіна" (800 чалавек)[3].

У Гомелі ў першыя месяцы рэвалюцыі дзейнічалі 30 прафсаюзаў.

Паспяхова развіваўся прафсаюзны рух у Магілёве, Оршы, Полацку, Бабруйску, Барысаве, Мазыры, Рэчыцы. У чэрвені 1917 г. у 26 населеных пунктах Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў дзейнічалі 126 прафесійных арганізацый, якія аб'ядноўвалі каля 35 тыс. чалавек[4].

---

[1] *Герасименко Г.А.* Трансформация власти в России в 1917 году // Отечественная история. 1997. №1. С.60–76.

[2] Новое Варшавское утро. 1917. 4 мая; Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 4: Из истории установления Советской власти в Белоруссии и образования БССР. Мн., 1954. С.97; *Сяменчык М.Я.* Грамадска-палітычнае жыццё на Беларусі ў перыяд Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый (сак. 1917 – сак.1918 гг.). Ч.1. Мн., 2001. С.81.

[3] *Ігнаценка І., Івашын У.* Кастрычнік у Беларусі. Мн., 1967. С.25; *Гиевко В.Г.* Рабочий класс Белоруссии в борьбе за победу Октября. Мн., 1973. С. 69.

[4] *Гиевко. В.Г.* Рабочий класс Белоруссии в борьбе за победу Октября. С.70; *Башко П.К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии. С.73.

Дамінуючую ролю ў прафсаюзах Беларусі адыгрывалі бундаўцы, меншавікі, паалей-цыяністы, эсэры.

Уплыў бальшавікоў у прафесійных саюзах быў нязначным. Больш моцныя пазіцыі яны мелі ў фабрычна-заводскіх камітэтах, якія ўзніклі ў сакавіку-красавіку 1917 г. на шэрагу прадпрыемстваў Мінска, Віцебска, Бабруйска, Гомеля, Магілёва, Оршы і г.д. Фабзаўкомы аб'ядноўвалі рабочых і служачых прадпрыемства незалежна ад прафесіі, займаліся не толькі надзённымі пытаннямі (увядзенне 8-гадзіннага рабочага дня, павышэнне заработнай платы), але і спрабавалі ўстанаўліваць кантроль над вытворчасцю і размеркаваннем. У Беларусі з-за перавагі дробнай прамысловай вытворчасці гэтыя формы самаарганізацыі рабочых шырокага распаўсюджання не атрымалі.

Пад уздзеяннем Саветаў, прафсаюзаў, фабрычна-заводскіх камітэтаў на прадпрыемствах Беларусі пашыраўся забастовачны рух. У сакавіку–чэрвені 1917 г., паводле няпоўных звестак, у неакупаванай частцы краю адбылося каля 60 забастовак, пераважна эканамічнага характару[1].

**Аднаўленне дзейнасці палітычных партый і арганізацый.** Наяўнасць сярод насельніцтва Беларусі разнародных класавых і нацыянальных інтарэсаў пры поўнай свабодзе слова, сходаў, саюзаў стварала глебу для дзейнасці шматлікіх палітычных партый і арганізацый. Асноўнае месца ў 1917 г. тут займалі агульнарасійскія партыі.

Радыкалізацыя грамадскай свядомасці пасля падзення царызму прадвызначыла значны зрух палітычнага спектра ўлева і звяла да мінімуму сацыяльную базу манархічна-чарнасоценных і кансерватыўна-ахоўніцкіх арганізацый. Як партыя фактычна перастаў існаваць і праваліберальны "Саюз 17 кастрычніка".

Канстытуцыйна-дэмакратычная партыя (Партыя народнай свабоды – ПНС), застаючыся прыхільніцай мірных, прававых шляхоў змянення дзяржаўна-палітычнага ладу, тым не менш прыняла рэвалюцыйнае звяржэнне царызму як здзейснены факт і з апазіцыйнай ператварылася ў правячую. Праграмнае палажэнне аб канстытуцыйнай манархіі партыя замяніла пажаданнем устанаўлення ў Расіі рэспубліканскага ладу. Але прапановы абвясціць Расію федэрацыяй аўтаномных нацыянальна-тэрытарыяльных адзінак (Украіны, Беларусі, Літвы і г.д.) кадэты рашуча адхілілі, цвёрда адстойвалі унітарную будову дзяржавы. Адначасова ПНС выступіла за ліквідацыю двоеўладдзя і спроб розных арганізацый канкурыраваць з Часовым урадам, а таксама за працяг вайны да поўнай перамогі.

У Беларусі ўтварыліся арганізацыі ПНС у Віцебску, Мінску, Магілёве, а таксама ў Гарадоцкім, Горацкім, Гомельскім, Чавускім паветах[2]. Мелі месца спробы партыйнага будаўніцтва і на Заходнім фронце, але салдаты ў большасці насцярожана, а часам і агрэсіўна ставіліся да кадэтаў. У канцы мая 1917 г. у беларускіх губернях функцыянiравалі толькі сем кадэцкіх арганізацый (з 183 па Расіі ў цэлым), у канцы чэрвеня – 10[3]. Арыентацыя ПНС на заходнееўрапейскі ўзор развіцця (прававая дзяржава, развітая грамадзянская супольнасць, рынак як спосаб функцыяніравання эканомікі) не знаходзіла шырокай падтрымкі ў масе замучаных вайною нядаўніх царскіх падданых,

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1973. Т. 3. С. 29–30.

[2] Вестник Партии народной свободы. 1917. № 8/10. С.34; №11/13, С.25–26. 36; №14/16. С.43, 45; №26/27. С.16–17.

[3] *Шардыка І.У.* Да пытання аб колькасным і сацыяльным складзе арганізацый кадэцкай партыі на Беларусі ў 1917 г. // Вестнік Бел. дзярж. ун-та. Сер. 3: Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. 1992. №3. С.3.

якія ўсё больш спакушаліся на ўраўняльныя лозунгі сацыялістаў. У выніку ПНС паступова адцяснялася з вядучага месца на палітычнай арэне левымі партыямі.

Неанародніцкая Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (ПСР) актыўна ўдзельнічала ў рэвалюцыйных падзеях, яе прадстаўнікі амаль паўсюдна ўтваралі новыя органы ўлады, саветы, прафсаюзы. У маі 1917 г. эсэры ўступілі ва ўрадавую кааліцыю. ПСР выказвалася за адмену прыватнай уласнасці на зямлю і пераход яе без выкупу ва ўсенародны набытак (сацыялізацыю) для ўраўняльнага працоўнага карыстання, а таксама за усталяванне ў Расіі федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі з тэрытарыяльна-нацыянальнай аўтаноміяй для кампактна пражываючых народаў (украінцаў, беларусаў, літоўцаў, эстонцаў і інш.) і персанальна-нацыянальнай – для народаў без тэрыторыі (яўрэяў)[1].

За кароткі тэрмін ПСР стала самай шматлікай партыяй. На працягу сакавіка–чэрвеня 1917 г. арганізацыі эсэраў узніклі ў Мінску, Віцебску, Оршы, Полацку, Магілёве, Мазыры, Вілейцы, Бабруйску, Слуцку, іншых гарадах і мястэчках Беларусі. Да ліпеня 1917 г. у беларускіх губернях (без уліку Заходняга фронту) дзейнічалі не менш чым 22 эсэраўскія арганізацыі[2]. У партыйных арганізацыях Заходняга фронту налічвалася прыблізна 30 тыс. членаў[3]. Ужо ў маі 1917 г. у Мінску была склікана I канферэнцыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў Заходняга фронту і прылеглых губерняў, на якой быў выбраны абласны камітэт ПСР[4]. Асаблівасцю мясцовых эсэраўскіх арганізацый было тое, што ўразрэз з установкамі свайго партыйнага цэнтра яны катэгарычна пярэчылі супраць аўтаноміі Беларусі, згаджаліся толькі на аб'яднанне беларускіх губерняў у адміністрацыйную вобласць.

Разам з эсэрамі шырокай папулярнасцю пасля Лютаўскай рэвалюцыі карысталіся сацыял-дэмакраты розных плыняў: група "Адзінства", меншавікі-абаронцы, меншавікі-інтэрнацыяналісты, "міжраёнцы", бальшавікі-ленінцы. У Беларусі моцную сацыяльную апору меў Бунд, які прымыкаў да меншавіцкага крыла РСДРП. Большасць сацыял-дэмакратаў лічыла, што перад Расіяй стаяла задача ўмацоўваць і развіваць буржуазна-дэмакратычны лад на аснове шырокай кааліцыі ўсіх прагрэсіўных сіл, уключаючы буржуазію. Толькі бальшавікі ўзялі ультрарадыкальны курс на неадкладны пераход ад буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі да сацылістычнай.

У першыя месяцы рэвалюцыі на перыферыі паўсюдна ўзнікалі аб'яднаныя арганізацыі РСДРП: у Віцебску, Магілёве, Мінску, Гомелі, Рагачове, Полацку, Оршы, Бабруйску, Слуцку, іншых гарадах, а таксама ў арміях Заходняга фронту. У іх уваходзілі меншавікі, бундаўцы, бальшавікі, польскія і латышскія сацыял-дэмакраты. Аднак з цягам часу ў аб'яднаных арганізацыях узнікалі ўнутраныя непаразуменні, акрэсліваўся міжфракцыйны падзел. Ужо ў сакавіку 1917 г. з іх пачалі выходзіць і аднаўляць уласныя арганізацыйныя структуры бундаўцы. Да лета 1917 г. буйныя арганізацыі Бунда дзейнічалі ў Мінску, Бабруйску, Віцебску, Гарадку, Полацку, Парычах і г.д.

---

[1] Резолюции, принятые на III съезде Партии социалистов-революционеров в Москве 25 мая – 4 июня 1917 г. М., 1917. С.15–16; *Брюллова-Шаскольская Н.В.* Партия социалистов-революционеров и национальный вопрос. Пг., 1917. С.21.

[2] *Липецкий Э.А.* Борьба большевистских орзанизаций Белоруссии с мелкобуржуазными партиями в период подготовки и проведения Великой Октябрьской социалистической революции (март 1917 – янв.1918 гг.): Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1973. С.13.

[3] *Казлякоў У.Я.* З гісторыі барацьбы бальшавікоў Беларусі і Заходняга фронту супраць эсэраў (сакавік–чэрвень 1917 г.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1980. №4. С.63.

[4] Фронт. 1917. 25 мая.

У пачатку чэрвеня ў Мінску адбылася I канферэнцыя Бунда Паўночна-Заходняга краю. У ёй удзельнічалі дэлегаты ад 26 арганізацый Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Смаленскай і Чарнігаўскай губерняў, якія прадстаўлялі каля 7,7 тыс. членаў партыі.

Пад націскам свайго кіраўніцтва, якое не падзяляла ідэю агульнанацыянальнай згоды, пачалі выходзіць з адзіных сацыял-дэмакратычных арганізацый і бальшавікі. Яшчэ ў красавіку стварылі самастойную арганізацыю бальшавікі Гомеля, затым афарміліся Мінская арганізацыя РСДРП(бальшавікоў), Віцебская арганізацыя РСДРП (інтэрнацыяналістаў) і Полацкая арганізацыя РСДРП (аб'яднаных інтэрнацыяналістаў). На пачатак ліпеня 1917 г. лінію бальшавіцкага цэнтра на выхад з аб'яднаных арганізацый падтрымлівалі каля 4 тыс. сацыял-дэмакратаў Беларусі і Заходняга фронту, за захаванне адзінства сацыялістычных сіл выступалі 14 тыс. чалавек[1].

Акрамя агульнарасійскіх, у Беларусі і на Заходнім фронце функцыяніравалі польскія, яўрэйскія, літоўскія, украінскія, латышскія і іншыя нацыянальныя партыі і арганізацыі.

**Ажыўленне беларускага нацыянальнага руху**. Значна актывізаваўся ў гэты час і беларускі нацыянальны рух. Перамога рэвалюцыі стварыла магчымасці для яго поўнай легалізацыі, ідэйнага і арганізацыйнага афармлення.

25–27 сакавіка 1917 г. у Мінску адбыўся з'езд беларускіх арганізацый, скліканы Мінскім аддзелам Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. З'езд вітаў перамогу Лютаўскай рэвалюцыі і заявіў аб падтрымцы Часовага ўрада. Галоўнае праграмнае патрабаванне, выпрацаванае з'ездам, – дзяржаўна-тэрытарыяльная аўтаномія Беларусі ў складзе Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі. Ядром беларускай тэрыторыі вызначаліся Мінская, Магілёўская, Віцебская, Гродзенская і Віленская губерні. Аўтаномная Беларусь павінна была мець свой прадстаўнічы орган з заканадаўчымі функцыямі – Беларускую краёвую раду, выбраную ўсімі жыхарамі краю. З'езд выказаўся за рэформу народнай адукацыі, адкрыццё ў Беларусі універсітэта, выкладанне ў навучальных установах беларускай мовы. У якасці выканаўчага органа быў выбраны Беларускі нацыянальны камітэт у складзе 18 асоб (П.Аляксюк, А.Смоліч, Я.Канчар, І.Краскоўскі, В.Гадлеўскі, З.Жылуновіч і інш.). Старшынёй БНК стаў былы дэпутат I Дзяржаўнай думы, нашчадак старадаўняга шляхецкага роду Р.Скірмунт[2].

У дні працы з'езда аднавіла легальную дзейнасць Беларуская сацыялістычная грамада. Выпрацаваная ёю палітычная платформа была блізкай да курсу расійскіх эсэраў і меншавікоў. БСГ выступіла ў падтрымку Часовага ўрада, выказалася за агульнанародную ўласнасць на зямлю і перадачу яе сялянам у адпаведнасці з працоўнай нормай, заявіла аб неабходнасці для Беларусі аўтаноміі ў складзе Расійскай федэратыўнай рэспублікі[3]. Арганізацыі БСГ узніклі ў Мінску, Петраградзе, Маскве, Бабруйску, Слуцку, Віцебску, Буда-Кашалёве, сярод беларускіх бежанцаў і вайскоўцаў. Часовы

---

[1] *Башко П.К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии. С.50, 230; Фронт. 1917. 6 июня; Новое Варшавское утро. 1917. 4 и 7 июня; Победа Советской власти в Белоруссии. С.115–116, 134–136; Шестой съезд РСДРП (б). Протоколы. М., 1958. С.36.

[2] Пратакол з'езду беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску 25–27 марта 1917 г. // Спадчына. 1990. №4. С.29–33.

[3] Революционное движение в России после свержения самодержавия. С.736–737; Чаго хоча Беларуская сацыялістычная грамада: Прэкт праграмы. Мн., 1917.

ЦК БСГ, выбраны ў чэрвені 1917 г. партыйнай канферэнцыяй у Петраградзе, узначалілі З.Жылуновіч (старшыня), П. Бадунова, К. Дуж-Душэўскі, А. Барысёнак, В. Лузгін[1].

Вясной 1917 г. былі заснаваны таксама Беларуская народная партыя сацыялістаў, Беларуская народная грамада, Хрысціянска-дэмакратычная злучнасць беларусаў (з 1920-х гг. – Беларуская хрысціянская дэмакратыя) і іншыя нацыянальныя згуртаванні. У аснове іх праграм таксама ляжала патрабаванне аўтаноміі Беларусі, свабоднага развіцця беларускай мовы і культуры.

Аднак гэтыя ідэі пракладвалі сабе дарогу з вялікімі цяжкасцямі. Часовы ўрад, выходзячы з эканамічных і геапалітычных інтарэсаў Расіі ў Беларусі, не падтрымаў аўтанамісцкай платформы, прадстаўленай яму Беларускім нацыянальным камітэтам. Не адразу гэта праграма знайшла падтрымку і ў грамадскай думцы самой Беларусі. Сялянства – у патэнцыяле асноўная масавая база беларускага руху – было захоплена самым надзённым для сябе пытаннем аб зямлі і не выказвала выразных адносін да нацыянальнага самавызначэння. Адмоўна адбівалася на папулярнасці БНК і звязаных з ім арганізацый знаходжанне на чале кіруючага органа руху Р.Скірмунта, які меў рэпутацыю цвёрдага прыхільніка памешчыцкага землеўладання.

Тым часам у асяроддзі цэнтралісцкіх сіл, прадстаўленых у Беларусі шматлікім чыноўніцтвам, нізавымі арганізацыямі агульнарасійскіх партый, а таксама мясцовымі групоўкамі, што кіраваліся дактрынай "заходнерусізму", былі ажыццёўлены арганізацыйныя і ідэалагічныя захады ў процівагу БНК. У красавіку 1917 г. у Гомелі па ініцыятыве П.Каранкевіча (знаходзіўся тут у эвакуацыі пасля захопу Вільні немцамі) тутэйшыя прыхільнікі "заходнерусізму" аб'ядналіся ў так званы Саюз беларускай дэмакратыі, які заявіў аб намеры "процідзейнічаць імкненню некаторых беларусаў да аўтаноміі"[2]. Аналагічную пазіцыю заняў і ўтвораны ў маі 1917 г. у Віцебску Беларускі народны саюз (БНС). БНС паспрабаваў перахапіць ад Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску ініцыятыву па кіраўніцтве нацыянальна-вызваленчым рухам, падмяніўшы барацьбу за нацыянальнае самавызначэнне клопатамі аб захаванні "мясцовых асаблівасцей". 25– 26 чэрвеня 1917 г. у Віцебску адбыўся з'езд прадстаўнікоў БНС, Саюза беларускай дэмакратыі, Заходне-Рускага таварыства (дзейнічала з 1911 г. у Петраградзе) і іншых аналагічных згуртаванняў, які выступіў супраць "сепаратных і шавіністычных імкненняў, што зыходзяць ад імя невялікай групы насельніцтва Беларусі"[3].

Падзеі сведчылі, што к лету 1917 г. у Беларусі разам з супярэчнасцямі і канфліктамі, агульнымі для ўсёй тагачаснай Расіі, абвастрылася супрацьстаянне і па нацыянальным пытанні.

**Рэвалюцыя на фронце**. Ход палітычнай барацьбы, далейшы лёс Беларусі ў значнай ступені вызначаўся знаходжаннем на яе тэрыторыі войскаў расійскага Заходняга фронту. На 1 лютага 1917 г. у яго арміях налічвалася

---

[1] Известия Петроградского Совета рабочих и солдацких депутатов. 1917. 14 июня.

[2] *Коронкевич П.В.* Белорусы. Исторический очерк с обзором деятельности Союза белорусской демократии. Гомель, 1917. С.4–5; НА РБ, ф.60, воп.3, спр.81, арк.12–14; Известия Петроградского Совета рабочих и солдатских депутатов. 1917. 27 июля.

[3] *Рудовіч С.* Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе. Мн., 2001. С.108–109.

1620,6 тыс. салдат, афіцэраў і ваенных чыноўнікаў, больш за 100 тыс. вайскоўцаў праходзілі службу ў тылавых гарнізонах фронту[1].

Вызначальным фактарам развіцця палітычных працэсаў у расійскім войску стала яго дэмакратызацыя, пачатая загадам № 1 Петраградскага савета ад 1 сакавіка 1917 г. Ён прадпісваў неадкладна выбіраць ва ўсіх падраздзяленнях салдацкія камітэты і ўводзіў паралельнае падпарадкаванне воінскіх часцей у палітычных выступленнях савету і сваім камітэтам. Ротным і батальённым салдацкім камітэтам перадавалася распараджэнне зброяй. Па-за службай і строем салдаты ўраўноўваліся ў правах з астатнімі грамадзянамі[2]. Моцны штуршок стварэнню паралельнай камандаванню сістэмы ўлады на Заходнім фронце даў Мінскі савет, які 8 сакавіка прадубліраваў загад № 1 Петрасавета. Вярхоўнае галоўнакамандаванне паспрабавала ўзяць пад кантроль стварэнне салдацкіх арганізацый шляхам ўвядзення ў іх склад афіцэраў. Пры гэтым з-за праяўленай нягнуткасці камандуючы Заходнім фронтам А. Эверт быў звольнены ў адстаўку, яго месца заняў генерал В.Гурка[3]. Загад па фронту ад 16 сакавіка нацэльваў на стварэнне аб'яднаных салдацка-афіцэрскіх арганізацый.

Аднак поўнасцю ажыццявіць кантроль над вайсковымі камітэтамі не ўдавалася. Тыя з іх, што ўтварыліся явачным парадкам, не падпарадкоўваліся камандаванню. Абараняючы грамадзянскія правы салдат, камітэты пастаянна ўмешваліся ў дзейнасць камандзіраў, часта выказвалі ім недавер. Да ліпеня 1917 г. у арміях Заходняга фронту такім спосабам былі адхілены ад пасад 45 камандзіраў і начальнікаў, 10 з іх арыштаваны.

У сакавіку–маі 1917 г. у часцях і злучэннях фронту прайшлі сходы прадстаўнікоў салдацкіх арганізацый, адбыліся армейскія з'езды, на якіх былі выбраны камітэты армій. Стварэнне сістэмы вайсковых арганізацый аформіў I з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронту, праведзены ў Мінску 7–17 красавіка 1917 г. Гэта быў першы ў расійскай арміі франтавы з'езд, таму ён стаў свайго роду пробай сіл палітычных лагераў у барацьбе за войска. 850 дэлегатаў з рашаючым голасам і 350 з дарадчым прадстаўлялі ўсе арміі Заходняга фронту і шэраг населеных пунктаў Беларусі. На з'езд прыбылі прадстаўнікі камандавання, Часовага ўрада, Петраградскага савета, асноўных палітычных партый. Старшынёй з'езда быў выбраны старшыня Мінскага савета Б.Пазерн.

Большасць дэлегатаў пайшла за эсэрамі і меншавікамі. Рашэнні з'езда (аб вайне, аб адносінах да Часовага ўрада, па рабочым і сялянскім пытаннях, аб арганізацыі войска) з невялікімі мадыфікацыямі перказвалі асноўныя дакументы Петраградскага савета[4].

---

[1] *Гаврилов Л.М.* Численность русской действующей армии в период Февральской революции // История СССР. 1972. №3. С.198–202; *Андреев А.М.* Солдатские массы гарнизонов русской армии в Октябрьской революции. М., 1975. С.22.

[2] Войсковые комитеты действующей армии. Март 1917 – март 1918 г. М., 1982. С.17–18; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т.1. С.91–92; *Миллер В.И.* Солдатские комитеты русской армии в 1917 г. (Возникновение и начальный период деятельности). М., 1974. С.62–63.

[3] Войсковые комитеты действующей армии. Март 1917–март 1918 г. С.29–30; Победа Советской власти в Белоруссии. С.108–109; *Миллер В.И.* Солдатские комитеты русской армии в 1917 г. (Возникновение и начальный период деятельности). С.77; Революционное движение в русской армии в 1917 г. (февраль – октябрь). М., 1968. С.217–221.

[4] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т.1. С.194–230; *Спирин Л.М.* Россия, 1917 год: Из истории борьбы политических партий. М., 1987. С.223–226; Победа Советской власти в Белоруссии. С.123.

Дэлегаты з'езда заклікалі ўсіх салдат, рабочых і сялян не выходзіць за межы наяўных законаў, і ажыццяўленне ўласных рэзалюцый лічылі магчымым толькі пасля ўнясення адпаведных змен у заканадаўства. Радыкальныя лозунгі нешматлікай бальшавіцкай фракцыі аб рэвалюцыйных пераўтварэннях явачным парадкам, па-за законам, не знайшлі адчувальнай падтрымкі з боку дэлегатаў.

У сфарміраваны з'ездам Выканаўчы камітэт Заходняга фронту (Франтавы камітэт) увайшлі 75 дэлегатаў, сярод якіх былі 32 эсэры, 29 сацыял-дэмакратаў (у тым ліку шэсць бальшавікоў), 14 беспартыйных. Старшынёй камітэта стаў эсэр У.Падвіцкі. Франтавы камітэт размясціўся ў Мінску і атрымаў вялікія магчымасці ўплываць на ход падзей у Беларусі.

Значная частка афіцэраў, пазбаўленая ранейшых прывілеяў, ва ўмовах нагнятання варожасці з боку салдат, лічыла дэмакратызацыю арміі недапушчальнай, разбураючай асновы армейскага ладу. Аналагічную пазіцыю заняў і генерал В.Гурка, вымушаны ў маі 1917 г. пайсці ў адстаўку з пасады галоўнакамандуючага Заходнім фронтам[1]. На фронце і ў тылавых гарнізонах пачалі ўзнікаць карпаратыўныя афіцэрскія арганізацыі. У маі 1917 г. у Магілёве адбыўся Усерасійскі з'езд афіцэраў арміі і флоту, які запатрабаваў аднавіць дысцыпліну і аўтарытэт камандзіра, замяніць "угаворы" салдат "самымі вышэйшымі крымінальнымі пакараннямі"[2].

У той жа час радыкальна настроеныя пласты салдат пад уздзеяннем рэвалюцыйнай агітацыі дамагаліся поўнай адмены ўсіх абмежаванняў у правах – непазбежных у армейскіх умовах, тым больш падчас вайны.

Адной з праяў дэмакратызацыі стала разгортванне ў этнічна стракатым расійскім войску нацыянальных рухаў. На Заходнім фронце ў першыя месяцы рэвалюцыі ўзніклі літоўскія, украінскія, польскія, беларускія і іншыя культурна-асветныя і палітычныя суполкі. У красавіку-маі 1917 г. на з'ездах воінаў літоўцаў, палякаў Заходняга фронту ў Мінску былі аформлены агульнафрантавыя нацыянальныя арганізацыі, выбраны іх каардынацыйныя органы[3]. Пэўную ўвагу вайсковым праблемам надаваў Беларускі нацыянальны камітэт. У канцы сакавіка ім была ўтворана спецыяльная камісія для выпрацоўкі праекта беларускага народнага апалчэння. 15 мая ў Мінску заснавана Ваенная беларуская арганізацыя, якая ставіла мэту аб'яднаць беларусаў-вайскоўцаў для вылучэння сваёй праграмы ва Устаноўчым сходзе. Паступова ў асяроддзі нацыянальных арганізацый пачала выспяваць ідэя аб вылучэнні воінаў адной нацыянальнасці ў асобныя часці. У канцы мая 1917 г. гэта пытанне двойчы абмяркоўваў Выканаўчы камітэт Заходняга фронту. Прадэклараваўшы права нацый на самавызначэнне, Франтавы камітэт у той жа час выказаўся супраць рэарганізацыі арміі па нацыянальнай прыкмеце[4].

Узнікненне на фронце сістэмы салдацкага самакіравання падрывала агульнапрынятыя дысцыплінарныя асновы войска. Класава-палітычная палярызацыя расійскай арміі, зараджэнне тэндэнцыі да яе распаду на асобныя нацыянальныя групы разладжвала дысцыпліну, зніжала кіруемасць і

---

[1] НА РБ, ф.60, воп.242, арк.223; Новое время. 1917. 27 мая (9 июня).

[2] *Деникин А.И.* Очерки русской смуты // Вопросы истории. 1990. №9. С.118.

[3] НА РБ, ф.60, воп.2, спр.69, арк.16; спр.70, арк.151; воп.3, спр.276, арк.1–2, 3–4; Вестник Минского губернского комиссариата. 1917. 26 и 28 апр.; Новое Варшавское утро. 1917. 4 июня; Минский голос. 1917. 31 марта; Вольная Беларусь. 1917. 11 чэрв.

[4] Вестник Минского губернского комиссариата. 1917. 26 мая; Фронт. 1917. 30 мая; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т.1. С.326–327.

баяздольнасць узброеных сіл. Масавай з'явай станавілася дэзерцірства. Шырокі размах набыло братанне з нямецкімі салдатамі, нярэдка інсціраванае камандаваннем праціўніка[1]. Разлажэнне фронту ператварала яго ў сур'ёзны фактар грамадскай нестабільнасці, крыніцу павышанай небяспекі для цывільнага насельніцтва краю.

**Палітычная сітуацыя ў вёсцы**. Рэвалюцыйныя перамены ў беларускай вёсцы пачаліся пазней, чым у гарадах, мястэчках і на фронце. Сюды марудней пранікалі звесткі пра падзеі ў краіне, да таго ж яны нярэдка былі ўрывачныя і недакладныя. Аднак паступова пад уздзеяннем новых органаў улады, саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, дэмакратычных партый беларуская вёска абуджалася да грамадскай актыўнасці.

Сярод шматлікіх палітычных сіл краю адным з першых ужо ў пачатку сакавіка звярнуў увагу на неабходнасць прапагандысцкай і арганізацыйнай работы сярод сялян Беларускі камітэт у Мінску (Мінскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны)[2]. Неўзабаве пазначылася супрацоўніцтва ў гэтым напрамку беларускіх адраджэнцаў з рэвалюцыйна-дэмакратычнай часткай служачых мясцовых устаноў УЗС, губернскага земства і настаўнікаў у межах створанага ў Мінску Камітэта прапаганды на вёсцы асноў новага дзяржаўнага ладу (старшыня У.Марзон). Беларускі камітэт і Камітэт прапаганды пачалі сумесную падрыхтоўку прызначанага на 4 красавіка краёвага сялянскага з'езда.

Аднак у гэты ж час быў утвораны Мінскі губернскі сялянскі камітэт (спачатку лічыў сябе падраздзяленнем Усерасійскага сялянскага саюза), які пад кіраўніцтвам бальшавіка М. Фрунзе заняў канфрантацыйную пазіцыю ў адносінах да беларускага руху[3]. Губернскі камітэт абвясціў аб скліканні 20 красавіка 1917 г. з'езда сялян Мінскай губерні, чым ускладніў падрыхтоўку агульнакраёвага з'езда.

Задуманы як дэмакратычны форум сялян усёй Беларусі, краёвы сялянскі з'езд пад старшынствам А.Смоліча сабраў 4 сакавіка толькі 52 дэлегатаў[4]. З-за слабай прадстаўнічасці і процідзеяння Мінскага губернскага сялянскага камітэта гэты форум не змог істотна паўплываць на далейшыя падзеі ў беларускай вёсцы.

Практычна манапольным уплывам на беларускае сялянства завалодалі ў першыя месяцы рэвалюцыі агульнарасійскія сацыялістычныя партыі, галоўным чынам эсэры. Яны абапіраліся на створаны за гады вайны разгалінаваны апарат розных устаноў па абслугоўванні Заходняга фронту, а таксама новыя ўрадавыя і грамадскія арганізацыі, што густой сеткай пакрылі раён дыслакацыі фронту і яго тыл пасля Лютаўскай рэвалюцыі.

Асноўны палітычны напрамак працы расійскіх сацыялістаў сярод беларускіх сялян быў нададзены I з'ездам ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронту. Яго рэзалюцыя па аграрным пытанні патрабавала выключыць зямлю з гандлёвага абароту і перадаць яе ў карыстанне сялянам на аснове працоўнай нормы, а таксама прыпыніць дзеянне закона ад 14 чэрвеня 1910 г. аб выхадзе з абшчыны. Для абароны класавых інтарэсаў сялян

---

[1] *Смольянинов М.М.* Революционное сознание солдат Западного фронта в 1917 г. С.76–84.

[2] Минский голос. 1917. 14 марта; НГАБ у г. Мінску, ф.700, воп.1, спр.383, арк.23–24, 56; Вестник Минского губернского комиссара. 1917. 23 и 24 марта; Минская газета. 1917. 24 марта.

[3] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т.1. С.138, 159–160, 168–169.

[4] Минская газета. 1917. 8 апр.

з'езд заклікаў неадкладна ўтвараць сялянскія саветы, якія павінны былі ўступіць у арганізацыйную сувязь з саветамі рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Вайсковым камітэтам прадпісвалася накіраваць у вёску ў якасці агітатараў мабілізаваных у войска сельскіх інтэлігентаў[1].

Важную ролю па ўцягненню сялянства ў вір рэвалюцыйных падзей адыграла падрыхтоўка і правядзенне губернскіх сялянскіх з'ездаў, што адбыліся ў Беларусі ў красавіку–чэрвені 1917 г. Найбольшы рэзананс атрымаў I з'езд сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў, які прайшоў у Мінску 20–23 красавіка пад старшынствам М.Фрунзе. У цэнтры ўвагі 800 дэлегатаў з'езда знаходзілася пытанне аб зямлі. Прынятая рэзалюцыя ў цэлым паўтарала эсэраўскія палажэнні аб скасаванні прыватнай уласнасці на зямлю, абвяшчэнні яе ўсенародным набыткам і аб перадачы ў карыстанне сялянам у памерах працоўнай нормы. Як і франтавы, з'езд сялян Мінскай і Віленскай губерняў прызнаў недапушчальным да Устаноўчага сходу гвалтоўныя захопы зямлі і ўгоддзяў, разбурэнне маёнткаў і іншыя самачынныя дзеянні.

Вострую дыскусію выклікала на з'ездзе праблема дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага самавызначэння беларусаў. Пад уплывам старшыні з'езда і яго аднадумцаў дэлегаты прагаласавалі за рэзалюцыю, якая асуджала ідэю палітычнай аўтаноміі Беларусі. Адначасова яна ўтрымлівала пажаданне аб'яднаць беларускія губерні ў адміністрацыйна-гаспадарчую адзінку – вобласць, арганізаваную на прынцыпах земскага самакіравання.

З'ездам быў створаны Выканаўчы камітэт сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў, які ўзначаліў М. Фрунзе[2].

З рэзалюцыямі з'езда сялян у Мінску пераклікаліся рашэнні Магілёўскага (3–4 мая) і Віцебскага (10–15 чэрвеня) губернскіх, а таксама павятовых з'ездаў сялянскіх дэпутатаў.

У аналагічным напрамку прайшоў у маі 1917 г. і I Усерасійскі з'езд сялянскіх дэпутатаў у Петраградзе. Беларускае сялянства прадстаўлялі на ім 77 дэлегатаў, пераважна неанародніцкіх поглядаў. Па ўсіх абмеркаваных пытаннях з'езд прыняў эсэраўскія рэзалюцыі. У сфарміраваны з'ездам Выканаўчы камітэт Усерасійскага савета сялянскіх дэпутатаў на чале з эсэрам М. Аўксенцьевым ад беларускіх губерняў увайшлі дзевяць чалавек, ад Заходняга фронту – 18[3].

Праведзеныя ў першыя месяцы рэвалюцыі пад пераважным уплывам эсэраў шматлікія сялянскія з'езды і ўтвораныя імі саветы сялянскіх дэпутатаў арыентавалі вяскоўцаў на вырашэнне аграрнага пытання ў прававым рэчышчы, шляхам дамаганняў адпаведных рэформаў ад Часовага ўрада і будучага Устаноўчага сходу. У рэчаіснасці, аднак, непісьменная сялянская маса нярэдка ігнаравала апеляцыі сваіх дэлегатаў на з'ездах, у саветах і камітэтах да законнасці, а ўхваленыя імі рэзалюцыі аб перадачы зямлі народу часта трактавала як санкцыю на неадкладныя самачынныя дзеянні. Паводле няпоўных даных, з 1 сакавіка да 25 ліпеня 1917 г. у Беларусі адбылося 266 аграрных правапарушэнняў, а паводле іншых звестак – нават 364[4]. Гэта неўтаймаваная стыхія падтрымлівалася бальшавікамі, якія штурхалі грамадства да новых ўзрушэнняў.

---

[1] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т.1. С.197–200.

[2] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т. 1. С. 245–247. *Круталевич В.А.* Рождение Белорусской Советской Республики (На пути к провозглашению республики. Октябрь 1917 – декабрь 1918 г.). С.101–102.

[3] *Башко П.К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии. С.37–38, 116–118.

[4] *Башко П.К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии. С. 118; *Малявский А.Д.* Крестьянское движение в России в 1917 г.: март–октябрь. М., 1981. С.374–375 (табл.).

## 5. Нарастанне сацыяльна-палітычнай нестабільнасці ў ліпені–кастрычніку 1917 г.

**Ліпеньскі крызіс**. Галоўным пунктам палітычнага процiборства пасля Лютаўскай рэвалюцыі стала пытанне аб далейшым удзеле Расіі ў вайне. Часовы ўрад, захоўваючы вернасць саюзнікам па Антанце, трымаўся курсу на працяг вайны. Абурэнне такой палітыкай з боку антываенна настроеных салдат і рабочых прывяло ў красавіку 1917 г. да першага крызісу Часовага ўрада, у выніку якога найбольш цвёрдыя прыхільнікі гэтай палітыкі – міністры П.Мілюкоў (кадэт) і А. Гучкоў (акцябрыст) вымушаны былі пайсці ў адстаўку. Але сфарміраваны ў маі з прадстаўнікоў ліберальна-буржуазных колаў і эсэра-меншавіцкага блока кааліцыйны ўрад не змяніў знешнепалітычнага курсу краіны.

З мэтай умацавання сувязі новага рэжыму з заходнімі дэмакратыямі і кансалідацыі грамадства на платформе "рэвалюцыйнага абаронніцтва" ўрад і камандаванне арміі актывізавалі падрыхтоўку наступлення на фронце. Разам з ваенна-арганізацыйнымі захадамі вялася шырокая прапаганда, каб пераканаць салдат, што найкарацейшы шлях да міру – гэта канчатковая перамога над праціўнікам.

Адначасова актывізавалася апазіцыйная дзейнасць бальшавіцкай партыі, якая даводзіла, што дасягненне міру магчыма толькі пасля пераходу ўсёй улады ў рукі Саветаў. У выніку было справакавана чарговае абвастрэнне ўнутрыпалітычнай сітуацыі. 18 чэрвеня ў Петраградзе і на перыферыі (у тым ліку ў Мінску, Віцебску, Магілёве, Бабруйску, Полацку, Замір'і), у вайсковых часцях і гарнізонах адбыліся масавыя акцыі як у падтрымку, так і з выказваннем недаверу Часоваму ўраду.

Паспяхова пачатае ў той жа дзень наступленне войскаў Паўднёва-Заходняга фронту на кароткі час аслабіла напружанасць. Аднак імклівыя атакі расійскіх армій хутка былі спынены, а неўзабаве германцы і аўстрыйцы перайшлі ў контрнаступленне.

Няўдачы на Украіне не адмянілі прызначанага наступлення Заходняга фронту (камандуючы генерал А. Дзянікін) у Беларусі. Галоўны ўдар тут павінна была нанесці 10-я армія генерала П. Ламноўскага ў напрамку на Слонім і Вільню, што ў выпадку поспеху стварала пагрозу тылу германскай арміі і дало б магчымасць расійскім войскам выйсці на рубеж р. Нёман – г. Брэст. На ўчастку галоўнага ўдару ўдалося забяспечыць трохразовую перавагу над праціўнікам у артылерыі і шасціразовую – у жывой сіле[1]. 9 ліпеня расійская пяхота пад прыкрыццём артылерыйскага агню рушыла ў атаку. Аднак і на Заходнім фронце наступленне не мела поспеху. Амаль не сустрэўшы супраціўлення, часці 10-й арміі прайшлі дзве-тры лініі акопаў, пабывалі на непрыяцельскіх батарэях, знялі прыцэлы з гармат і вярнуліся назад. Нежаданне салдат працягваць вайну, масавае дэзерцірства, а таксама ажыўленне дзеянняў праціўніка вымусілі Стаўку спыніць 10 ліпеня наступальную аперацыю Заходняга фронту. 10-я армія страціла забітымі і прапаўшымі без вестак 6–7 тыс. чалавек, параненых налічвалася 30 тыс., што разам складала каля паловы ўсіх уведзеных ў бітву войскаў[2].

Звесткі аб правале наступлення і панесеных стратах, а таксама намер урада вывесці з Петраграда найбольш неспакойныя воінскія часці зноў абвастрылі ў пачатку ліпеня 1917 г. палітычнае становішча ў сталіцы. Другім кампанентам ліпеньскага крызісу стала барацьба па пытанні аб цэласнасці

---

[1] *Ростунов И.И.* Русский фронт первой мировой войны. М., 1976. С.363.

[2] *Керсновский А.А.* История русской армии. М., 1999. С.749–751; Победа Советской власти в Белоруссии. С.165.

шматнацыянальнай краіны, лёсе старой імперскай дзяржаўнасці, што засталася ў спадчыну ад царызму. Адстойваючы непарушнасць імперыі, Часовы ўрад усё глыбей уцягваўся ў канфлікт з нацыянальна-вызваленчымі рухамі. У авангардзе іх ішлі Украіна і Фінляндыя. З-за рознагалоссяў па ўкраінскай праблеме міністры-кадэты выйшлі 2 ліпеня са складу кабінета, учыніўшы новы ўрадавы крызіс. 5 ліпеня фінляндскі сейм без санкцыі расійскага ўрада абвясціў аўтаномію Фінляндыі. Патрабаванне аўтаноміі ўсё гучней раздавалася і ў іншых нацыянальных рэгіёнах, у тым ліку ў Беларусі.

Выхад кадэтаў з урада стаў апошняй іскрай, якая выклікала выбух напаўстыхійнага паўстання ў Петраградзе 3–4 ліпеня 1917 г. Узбуджаныя напярэдадні антыўрадавай прапагандай бальшавікоў і анархістаў салдаты, матросы і ўзброеныя рабочыя выйшлі на вуліцы з патрабаваннем адхілення Часовага ўрада і перадачы ўсёй улады саветам. Сутычкі з вернымі ўраду часцямі прывялі да чалавечых ахвяр.

Крывавыя падзеі ў сталіцы трывожным рэхам адгукнуліся на месцах. У Мінску амаль бесперапынна ішлі пасяджэнні савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, Выканаўчага камітэта Заходняга фронту, губернскага савета сялянскіх дэпутатаў, праводзіліся нарады з прадстаўнікамі партый і груп. Найпершым памкненнем большасці мясцовага палітычнага актыву (эсэраў, меншавікоў, нацыянальных арганізацый) было захаваць адносны спакой, не дапусціць паўтарэння петраградскіх эксцэсаў. У адозвах, звернутых да насельніцтва і салдат Заходняга фронту, рэкамендавалася ўстрымацца ад усялякіх масавых выступленняў[1]. Бюро Франтавога камітэта асудзіла і спробу кадэтаў дэзарганізаваць уладу шляхам дэманстратыўнага выхаду з кабінета, і спробу бальшавікоў аказаць узброены націск на цэнтральныя органы саветаў[2]. Мінскі савет, дзе большы ўплыў мелі бальшавікі, ухіліўся ад ацэнкі паўстання, выказаўся супраць пакарання яго ініцыятараў і выступіў за пераход улады да саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. З мэтай прадухілення контррэвалюцыйных вылазак і неарганізаваных анархічных выступленняў у Мінску быў створаны надзвычайны кааліцыйны орган – Камітэт рэвалюцыйных арганізацый. У яго ўвайшлі прадстаўнікі мясцовых саветаў, Франтавога камітэта, прафсаюзаў, партый эсэраў, меншавікоў, бальшавікоў (апошнія неўзабаве адмежаваліся ад блока), яўрэйскіх, латышскіх, украінскіх сацыялістаў, Беларускай сацыялістычнай грамады.

У Віцебску, Полацку, Оршы, Рагачове, Гомелі, іншых гарадах Беларусі на сходах і мітынгах, пасяджэннях саветаў, а таксама ў вайсковых камітэтах Заходняга фронту, як правіла, асуджалася і контррэвалюцыя "справа", і анархія "злева". Для захавання парадку на месцах ствараліся кааліцыйныя камітэты рэвалюцыйнай аховы, камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй і інш. Спробы бальшавіцкіх груп навязаць свой пункт гледжання пакуль не знаходзілі сур'ёзнай падтрымкі[3].

Развіццё падзей дазволіла Часоваму ўраду прыняць шэраг захадаў па нейтралізацыі апазіцыі злева, выступленне якой у Петраградзе засталося без падтрымкі фронту і перыферыі. 9 ліпеня ўрад, узначалены напярэдадні блізкім да эсэраў А.Керанскім, быў аб'яўлены цэнтральнымі органамі саветаў "урадам выратавання рэвалюцыі" з шырокімі прэрагатывамі. На фронце

[1] Дело народа. 1917. 7 июля.

[2] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Док-ты и мат-лы Т.1. С.456–457, 460–461, 465–469.

[3] *Башко П.К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии (март – октябрь 1917 г.). С.122–124, 135–138; *Смольянинов М.М.* Революционное сознание солдат Западного фронта в 1917 г. С.140–143, 161–162.

ўводзіліся смяротная кара і ваенна-рэвалюцыйныя суды. Нядобранадзейныя часці падлягалі расфарміраванню. Каб не дапусціць ланцуговай рэакцыі вызвалення нацыянальных рэгіёнаў з-пад кантролю цэнтра, мяцежны фінляндскі сейм быў разагнаны.

Адначасова дэкларацыяй ад 8 ліпеня ўрад паабяцаў абмеркаваць з саюзнікамі меры па хутчэйшаму спыненню вайны, правесці ў верасні 1917 г. выбары ва Устаноўчы сход і падрыхтаваць для яго праект зямельнай рэформы. Таксама прадугледжвалася паскорыць працу па арганізацыі абласнога (краёвага) самакіравання, для чаго пры ўрадзе арганізоўвалася пастаянна дзеючая Асобая нарада па абласной рэформе, а пры Міністэрстве ўнутраных спраў – аддзел па нацыянальных пытаннях[1].

**Выбары ў органы мясцовага самакіравання**. Адзін са шляхоў стабілізацыі ўнутрыпалітычнага становішча кіруючыя колы бачылі ў фарміраванні дэмакратычна выбраных органаў гарадскога і земскага самакіравання. Яны былі закліканы замяніць сабой існуючыя цэнзавыя думы і земствы, а таксама пераняць кіруючыя функцыі ад створаных у першыя месяцы рэвалюцыі камітэтаў грамадскай бяспекі, саветаў і г.д.

У беларускіх губернях выбары ў гарадскія думы адбыліся ў ліпені-жніўні 1917 г., у земствы – пачаліся ў жніўні і расцягнуліся да канца года. Упершыню ў Беларусі, як і ва ўсёй імперыі, уводзілася ўсеагульнае, роўнае, прамое і тайнае галасаванне. Насельніцтва далучалася да практыкі заходнееўрапейскага палітычнага жыцця з перадвыбарнай барацьбой партый, партыйнымі спісамі кандыдатур і г.д.

Права ўдзелу ў выбарах атрымлівалі ўсе грамадзяне, пачынаючы з 20 гадоў, якія на момант складання спісаў выбаршчыкаў пражывалі ў адпаведным горадзе ці земскай адзінцы (воласці, павеце). Для прыфрантавой Беларусі вельмі істотным было тое, што вайскоўцы бралі ўдзел у выбарах на агульных падставах[2].

Гарадское насельніцтва Беларусі паказала прыкметную зацікаўленасць у муніцыпальных выбарах. Падчас выбарчай кампаніі яшчэ больш ажывілася дзейнасць партый і груп, абвастрылася барацьба паміж імі. Найбольш выразная партыйна-палітычная дыферэнцыяцыя выявілася ў буйных гарадах: у Віцебску было вылучана 20, у Гомелі – 16 спісаў кандыдатур, у Мінску і Магілёве – па 14. Некаторыя партыі ішлі на выбары самастойнымі спісамі (кадэты ў Мінску, Віцебску, Магілёве, эсэры ў Мінску). Аднак часцей заключаліся кааліцыйныя пагадненні: сацыялістычныя блокі ў Віцебску, Магілёве, Гомелі, Рэчыцы, Рагачове, Нясвіжы (аб'ядноўвалі эсэраў, сацыял-дэмакратаў, бундаўцаў), сацыял-дэмакратычны блок у Мінску (меншавікі, бальшавікі, бундаўцы) і г.д. Ствараліся таксама нацыянальныя блокі: польскія, яўрэйскія. Беларускі камітэт у Магілёве выставіў "Спіс магілёўскага прагрэсіўнага насельніцтва ўскраін і Беларускага нацыянальнага камітэта"[3]. Самастойным спісам ішоў на выбары Беларускі народны саюз у Віцебску[4]. У Мінску і Бабруйску Беларуская сацыялістычная грамада і Беларуская народная партыя сацыялістаў блакіраваліся з украінскімі, літоўскімі і яўрэйскімі сацыялістамі[5].

---

[1] Революционное движение в России в июле 1917 г. Июльский кризис. М., 1959. С.295–297; Дело народа. 1917. 11 авг.

[2] Вестник Временного правительства. 1917. 16 апр., 25 мая.

[3] Могилевская жизнь. 1917. 29 июля; Аддзел рукапісаў Цэнтр. б-кі АН Літвы, ф.21, спр.2218, арк.22–24.

[4] Известия Витебского Совета крестьянских, рабочих и солдатских депутатов. 1917. 20 авг.

[5] НГА Б у Мінску, ф.24, воп.1, спр.3666, арк.36–36 адв.; Вестник Минского губернского комиссариата. 1917. 29 июля.

У невялікіх гарадах назіралася змяншэнне колькасці партыйных спісаў і павелічэнне беспартыйных. У асобных выпадках (Сураж, Себеж) наогул адсутнічалі спісы палітычных партый або іх блокаў.

Паводле вынікаў галасавання, большасць месцаў у гарадскіх думах Беларусі атрымалі агульнарасійскія сацыялістычныя партыі, сярод якіх першынствавалі эсэры. У Мінску за эсэраў галасавала 32,9 % выбаршчыкаў, што забяспечыла ім 33 месцы ў думе (з агульнай колькасці 102 гласных). Другое месца заняў блок аб'яднаных сацыял-дэмакратаў – 21,5 % галасоў і 22 месцы ў думе. У Віцебску перамог блок памяркоўных сацыялістаў, які сабраў 36,9 % галасоў і атрымаў 37 месцаў; наступнымі аказаліся бальшавікі і інтэрнацыяналісты (16 % галасоў, 16 месцаў). Пераканаўчай перамогі дасягнуў сацыялістычны блок у Магілёве, які атрымаў 45,9 % галасоў і 30 месцаў у думе з 64. Паспяховым для сацыялістаў аказаліся выбары ў Гомелі, Бабруйску, Оршы, Полацку, Нясвіжы, Рагачове і большасці іншых гарадоў Беларусі.

У той жа час выбары засведчылі невысокую папулярнасць ліберальнай Партыі народнай свабоды: у Магілёве за кадэтаў галасавалі 15,6 % выбаршчыкаў, у Віцебску – 7,8, у Мінску – 3,2 %.

Значную колькасць галасоў сабралі ў гарадах нацыянальныя партыі, асабліва яўрэйскія, што тлумачылася колькаснай перавагай яўрэяў сярод гарадскога насельніцтва. Пэўнае прадстаўніцтва атрымалі ў думах беларускія арганізацыі – шэсць месцаў у Магілёве, сем – у Віцебску, па аднаму–два месцы – у іншых гарадах[1].

Асаблівасць земскіх выбараў 1917 г. (у параўнанні з ранейшымі) заключалася не толькі ў іх дэмакратычнасці, але і ў з'яўленні ніжэйшага звяна земскага самакіравання – валаснога земства. Сфарміраванае на падставе ўсеагульнага выбарчага права, валаснае земства (як і вышэйстаячыя земскія ўстановы) мусіла стаць усесаслоўным і заняць месца дарэвалюцыйных саслоўных органаў сялянскага кіравання – валасных сходаў і праўленняў. Усесаслоўны прынцып адчыняў дзверы ў валаснае земства не толькі членам сялянскай грамады, але і хутаранам, адрубнікам, служачым, сельскай інтэлігенцыі, святарам.

Тым часам якраз гэта акалічнасць выклікала з боку сялян вялікі недавер да новых земскіх устаноў. Памножаны на сялянскую інертнасць і недасведчанасць, ён спарадзіў на вёсцы глухую апазіцыю дэмакратычнай земскай рэформе. Неспрыяльную ролю адыграла і супадзенне выбарчай кампаніі з восеньскімі палявымі работамі. У выніку ў адрозненне ад гараджан большасць вяскоўцаў фактычна праігнаравала выбары, абсентэізм дасягаў 60–90 %.

У мясцовасцях, блізкіх да фронту, у ходзе галасавання з удзелам салдат нярэдка ўчыняліся гвалтоўныя акцыі, а то і крывавыя эксцэсы. Выбаршчыкі, якія з падазронасцю ставіліся да тайнай працэдуры галасавання, адбіралі ў камісій скрынкі, ускрывалі іх і знішчалі бюлетэні, збівалі і арыштоўвалі членаў выбарчых камісій[2].

Першы тур выбараў у большасці валасцей Мінскай губерні быў сарваны. У Віцебскай і Магілёўскай губернях руплівасць выбаршчыкаў была вышэйшай, але і там значная частка валасных земстваў змагла прыступіць да пра-

---

[1] Вестник Минского губернского комиссариата. 1917. 2 авг.; Витебский листок. 1917. 30 авг., 1 сент.; Молот (Могилев). 1917. 15 авг.; Вольная Беларусь. 1917. 28 жн.

[2] Крестьянское движение в 1917 году. М.; Л., 1927. С.302–304; *Герасименко Г.А.* Земское самоуправление в России. М., 1990. С.133, 136, 138, 145, 150.

цы толькі позняй восенню. Паўторныя галасаванні ў валаснос земства, а таксама выбары павятовага земства давалі яшчэ больш сумныя вынікі.

Ва ўсіх беларускіх губернях ні адзін партыйны спіс на выбарах у земствы не атрымаў большасці. Выбраны склад гласных быў слаба дыферэнцыраваны ў палітычных адносінах. Калі партыйная прыналежнасць усё ж фіксавалася, часцей за іншых згадваліся эсэры.

Выбары ў органы мясцовага самакіравання не апраўдалі надзей на стабілізацыю сітуацыі. Перавага на выбарах у гарадскія думы левых партый на фоне нізкага рэйтынгу лібералаў адлюстравала трывожную тэндэнцыю да радыкалізацыі настрояў значнай часткі насельніцтва, распаўсюджанасць спрошчана-утапічных уяўленняў аб шляхах пабудовы "справядлівага ладу". Сялянства выявіла неразуменне прававых працэдур, схільнасць да экстрэмізму.

**Карнілаўшчына.** З мэтай спынення дэструктыўных працэсаў кансерватыўныя і ліберальныя колы (дваранства, генералітэт, гандлёва-прамысловыя, фінансавыя групы і інш.) патрабавалі згортвання рэвалюцыйных пераўтварэнняў, ліквідацыі саветаў і вайсковых камітэтаў, задушэння нацыянальна-вызваленчых рухаў. У якасці правадніка гэтай лініі і магчымага будучага дыктатара разглядаўся генерал Л.Карнілаў, прызначаны ў ліпені на пасаду Вярхоўнага галоўнакамандуючага.

Ва ўмовах узросшага ціску справа на Часовы ўрад і пагаршэння становішча на фронце Керанскі згадзіўся на ўвядзенне больш жорсткага цывільнага і ваеннага кіравання, абмежаванне палітычных свабод і ажыццяўленне некаторых мер, прапанаваных Вярхоўным галоўнакамандуючым. У трэцяй дэкадзе жніўня Карнілаў з ведама міністра-старшыні накіраваў з фронту на Петраград часці 3-га коннага корпуса і Туземнай ("Дзікай") дывізіі.

Аднак неўзабаве Керанскі западозрыў, што планы Карнілава выходзяць за межы ўзаемных дамоўленасцей і ўяўляюць пагрозу для асабістай улады міністра-старшыні. 26 жніўня ён аб'явіў Карнілава мяцежнікам, запатрабаваў і атрымаў ад Часовага ўрада надзвычайныя паўнамоцтвы. Карнілаву было загадана здаць пасаду і неадкладна выехаць з Магілёва ў Петраград. Але генерал у сваю чаргу абвінаваціў урад у здрадзе і адмовіўся падпарадкоўвацца. 27 жніўня ён абвясціў, што бярэ ўладу ў свае рукі. У зваротах да насельніцтва і войскаў былі сфармуляваны асноўныя пастулаты карнілаўскай ідэалогіі, прасякнутыя вялікадзяржаўным шавінізмам, мілітарызмам і адначасова не пазбаўленыя папулізму[1]. Магілёў і 10-вёрстная зона вакол яго пераводзіліся на асаднае становішча.

Значная частка вышэйшага каманднага саставу засведчыла сваю лаяльнасць Карнілаву. Галоўнакамандуючы Заходнім фронтам П.Балуеў пасля непрацяглых ваганняў заявіў, што згодзен з пазіцыяй Карнілава і лічыць яго адыход з пасады "гібеллю для арміі і Расіі"[2]. Па загаду Карнілава конныя часці Заходняга фронту павінны былі заняць Оршу і Віцебск, каб блакіраваць магчымы праход войскаў на дапамогу Часоваму ўраду.

Адкрытае выступленне ваенных прывяло да рэзкай палярызацыі сіл у краіне і арміі. Барацьбу рэвалюцыйнага лагера супраць карнілаўшчыны ўзначалілі саветы і вайсковыя камітэты. 28 жніўня ў Петраградзе пачаў дзейнічаць надзвычайны орган – Камітэт народнай барацьбы з контррэвалюцыяй, створаны ЦВК саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў і Выканко-

---

[1] *Иоффе Г.З.* "Белое дело": генерал Корнилов. М., 1989. С.124–125.

[2] Дело народа. 1917. 5 сент.; *Иоффе Г.З.* "Белое дело": генерал Корнилов. С.130.

мам саветаў сялянскіх дэпутатаў. У яго ўвайшлі эсэры, меншавікі і бальшавікі (апошнія з агаворкай, што супрацоўнічаюць толькі ў тэхнічных і інфармацыйных пытаннях, пры захаванні самастойнай палітычнай лініі)[1].

Месца Беларусі ў барацьбе супраць карнілаўшчыны вызначалася знаходжаннем тут, у тыле Заходняга фронту, цэнтра мяцяжу – Стаўкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага, а таксама важным стратэгічным размяшчэннем краю, па якім пралягалі чыгункі, што звязвалі Стаўку з франтамі, а франты – з Петраградам, Масквой, іншымі прамысловымі цэнтрамі. Перад антыкарнілаўскімі сіламі Беларусі стаялі задачы ізаляваць Стаўку ад фронту і затрымаць эшалоны войскаў, што па загаду Карнілава рухаліся на Петраград. Па прыкладу сталічнага камітэта барацьбы ў гарадах і на чыгуначных станцыях Беларусі з прадстаўнікоў саветаў, вайсковых камітэтаў, прафсаюзаў, сацыялістычных партый сталі ўтварацца аналагічныя органы: рэвалюцыйныя камітэты, ваенна-рэвалюцыйныя бюро, надзвычайныя пяцёркі і г.д.[2]

Арганізацыйным цэнтрам барацьбы супраць карнілаўшчыны ў Беларусі і на Заходнім фронце стаў створаны ў Мінску Часовы рэвалюцыйны камітэт, у які ўвайшлі прадстаўнікі Выканаўчага камітэта Заходняга фронту, Мінскага савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, савета сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў, Мінскай гарадской думы. Камітэт дзейнічаў сумесна з камісарам Часовага ўрада на Заходнім фронце У. Ждановым. Пасланцы камітэта выехалі ў Оршу, Гомель, Бабруйск, Жлобін і іншыя населеныя пункты для кіраўніцтва дзеяннямі мясцовых саветаў і гарнізонаў. Быў устаноўлены кантроль над паштова-тэлеграфнай сувяззю, перамяшчэннем па чыгунцы воінскіх часцей. Толькі на лініі Гомель–Жлобін было затрымана 30 эшалонаў. Некалькі дзесяткаў карнілаўскіх афіцэраў-агітатараў апынуліся пад арыштам[3].

На фронце ў многіх часцях і злучэннях вайсковымі камітэтамі былі заняты сродкі сувязі, устаноўлены нагляд над камандзірамі і штабнымі работнікамі, узяты пад кантроль іх распараджэнні, перапіска і тэлефонныя перагаворы. У раёнах дыслакацыі часцей выстаўляліся пасты на дарогах, фарміраваліся зводныя атрады для барацьбы з мяцежнікамі.

Прыкметную ролю ў барацьбе супраць карнілаўшчыны адыграў на тэрыторыі Беларусі рэвалюцыйны атрад, сфарміраваны ў Оршы членам Выканаўчага камітэта Заходняга фронту палкоўнікам А.Каратковым. Намаганнямі саветаў Оршы, Віцебска, Смаленска, вайсковых камітэтаў агульная колькасць атрада дасягнула 3 тыс. штыкоў і 800 сабель пры трох батарэях артылерыі і 30 кулямётах. Атрад блакіраваў ст. Орша, вёў разведку[4].

На барацьбу з карнілаўшчынай былі мабілізаваны чыгуначнікі. Дзякуючы ім многія эшалоны з мяцежнымі часцямі апынуліся ў чыгуначных тупіках. Пад уплывам рэвалюцыйнай агітацыі карнілаўскія палкі сталі адмаўляцца працягваць марш на Петраград. Стаўка аказалася ізаляванай ад фронту.

---

[1] *Рабинович А.* Большевики приходят к власти: Революция 1917 года в Петрограде. М., 1989. С.154–164.

[2] *Сяменчык М.Я.* Карнілаўшчына на Беларусі: на шляхах да гістарычнай праўды // Пытанні гісторыі і метадалогіі гістарычнай навукі: Зб. артыкулаў. Мн., 1997. С.135–146.

[3] *Иоффе Г.З.* "Белое дело": генерал Корнилов. С.148; Фронт. 1917. 3 сент.; Дело народа. 1917. 3 и 10 сент.; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Док-ты и мат-лы. Т.1. С.608, 611–615.

[4] *Иоффе Г.З.* "Белое дело": генерал Корнилов. С.146–147; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Док-ты и мат-лы. Т.1. С.668–670.

30 жніўня пасаду Вярхоўнага галоўнакамандуючага заняў А. Керанскі. Карнілаў з групай генералаў-паплечнікаў быў арыштаваны і змешчаны ў турму ў Быхаве.

Сумеснымі скаардынаванымі намаганнямі саветаў, вайсковых камітэтаў, органаў мясцовага самакіравання і іншых дэмакратычных арганізацый дзеянні мяцежнікаў былі паралізаваны, спроба антыўрадавага выступлення ліквідавана хутка і практычна бяскроўна. Гэта было вынікам таго, што перад небяспекай узурпацыі ўлады справа адзіным блокам выступілі вядучыя левыя сілы, за якімі ішла большасць насельніцтва.

**Пашырэнне беларускага нацыянальнага руху.** Ва ўмовах нарастаючай сацыяльна-палітычнай нестабільнасці найбольш разважлівая, патрыятычна настроеная частка беларусаў прыходзіла да ўсведамлення, што нельга пакідаць лёс роднага краю на волю гістарычнай стыхіі, патрэбна самім паклапаціцца аб тым, каб засцерагчы яго ад непрадказальных катаклізмаў. У рэзалюцыях беларускіх мітынгаў і сходаў, згуртаванняў вайскоўцаў, бежанскіх, вучнёўскіх арганізацый усё часцей выказвалася пажаданне пабудовы ўласнай дзяржаўнасці, якая ўяўлялася пакуль у выглядзе тэрытарыяльна-палітычнай аўтаноміі Беларусі ў складзе агульнарасійскай федэрацыі.

Між тым спробы Беларускага нацыянальнага камітэта ўвасобіць ідэю аўтаноміі ў жыццё не мелі поспеху. Гэтым было абумоўлена скліканне 8–10 ліпеня 1917 г. у Мінску новага з'езда беларускіх арганізацый. Цэнтральным на з'ездзе стала пытанне аб будучым статусе Беларусі. Пасля дыскусіі дэлегаты з'езда пацвердзілі праграму дзяржаўна-палітычнай і нацыянальна-культурнай аўтаноміі. Былі прыняты рэзалюцыі аб дапамозе беларускім бежанцам, навучанні ў школах на роднай мове, адкрыцці ў Беларусі універсітэта і г.д., а таксама рашэнне скасаваць Беларускі нацыянальны камітэт і ўтварыць новы каардынацыйны орган – Цэнтральную Раду беларускіх арганізацый. У адпаведнасці з дамінуючымі ў грамадстве настроямі было абвешчана, што яна грунтуецца на прынцыпах поўнага дэмакратызму, перадачы ўсёй зямлі без выкупу працоўнаму народу і абароны інтарэсаў рабочых[1].

Дэмакратызацыя цэнтральнага органа паспрыяла далейшаму пашырэнню беларускага руху. Адной з формаў далучэння да яго прадстаўнікоў розных сацыяльных груп былі культурна-асветныя, літаратурныя, тэатральна-мастацкія арганізацыі і суполкі. Такія згуртаванні дзейнічалі сярод выхаванцаў эвакуіраванага ў Яраслаўль Мінскага настаўніцкага інстытута, а таксама Ковенскай камерцыйнай школы (знаходзілася ў эвакуацыі ў г. Багародзіцк Тульскай губерні), сярод сялян в. Кутнева Слуцкага павета, моладзі і настаўнікаў у мястэчках Ігумен і Касцюковічы, студэнтаў з Беларусі, якія навучаліся ў Кіеве, і г.д. Выдатным калектыўным прапагандыстам нацыянальнай ідэі, роднага слова было створанае ў красавіку 1917 г. Першае беларускае таварыства драмы і камедыі, якое гастралявала па ўсім краі[2].

Сярод настаўнікаў усё большае разуменне знаходзіла ідэя беларусізацыі школы. Такую мэту ставіў перад сабой заснаваны ў ліпені ў Мінску Беларускі настаўніцкі хаўрус[3]. У жніўні 1917 г. праведзеная ў Магілёве педагагічная нарада выкладчыкаў сярэдніх школ Віленскай навучальнай акругі ўхваліла рэзалюцыю аб неабходнасці навучання на беларускай мове ў па-

---

[1] Вольная Беларусь. 1917. 21, 26, 30 ліп., 3, 8, 11 жн.; *Турук Ф.* Белорусское движение: Очерк истории национального и революционного движения белорусов. М., 1921. Прилож. 10. С.88–89.

[2] НГАБ у г. Мінску, ф.478, воп.1, спр.49, арк.70; спр.83, арк.22; НА РБ, ф.4, воп.1, спр.108, арк.23–23 адв.; Вольная Беларусь. 1917. 26 ліп.; Гісторыя беларускага тэатра. Т.1. С.453–455.

[3] Вольная Беларусь. 1917. 3 жн.

чатковых школах, а таксама аб пажаданасці вывучэння нацыянальнай мовы і краязнаўчых дысцыплін у сярэдніх навучальных установах[1]. У пачатку 1917/1918 навучальнага года ўслед за Заходняй Беларуссю і з усходняга боку фронту прабіліся першыя парасткі беларускага школьніцтва.

З лета 1917 г. пры падтрымцы віленскага біскупа Э. Ропа нацыянальна арыентаваныя ксяндзы – беларусы пачалі рэгулярна карыстацца беларускай мовай у дадатковым набажэнстве[2].

Сур'ёзным набыткам нацыянальнага руху з'явілася далучэнне да яго беларусаў-вайскоўцаў. На фронце, у тылавых гарнізонах, флоцкіх экіпажах салдаты і афіцэры беларускай нацыянальнасці аб'ядноўваліся ў культурна-асветныя гурткі, грамадска-палітычныя суполкі, нацыянальныя секцыі пры вайсковых камітэтах. Найбольшых маштабаў гэты працэс дасягнуў на Балтыйскім флоце, у 12-й арміі Паўночнага фронту, на Румынскім фронце[3]. Сярод нацыянальных вайсковых арганізацый усё большую прыцягальнасць набывала ідэя стварэння воінскіх фарміраванняў па нацыянальна-тэрытарыяльнай прыкмеце. Пэўныя колы расійскага камандавання гатовы былі скарыстаць гэтыя памкненні, разлічваючы, што таварысцкая згуртаванасць вайскоўцаў-землякоў дапаможа спыніць падзенне дысцыпліны і баяздольнасці войска.

У такіх умовах беларускі нацыянальны рух у войску здолеў аформіцца арганізацыйна. 18–24 кастрычніка 1917 г. у Мінску адбыўся з'езд воінаў-беларусаў Заходняга фронту з удзелам прадстаўнікоў беларускіх арганізацый 12-й арміі, Балтыйскага флоту і Румынскага фронту. З'езд заклікаў гуртаваць сілы для барацьбы за тое, каб беларускі народ "змог заняць месца ў вялікай расійскай федэратыўнай (саюзнай) дэмакратычнай рэспубліцы як роўны з роўнымі". Каб прадухіліць расчляненне Беларусі суседнімі дзяржавамі і не дапусціць небяспечных наступстваў дэмабілізацыі расійскай арміі, дэлегаты з'езда прызналі крайне неабходным утварэнне беларускага войска[4]. Для кіраўніцтва гэтай справай была выбрана Цэнтральная беларуская вайсковая рада (ЦБВР) на чале з С. Рак-Міхайлоўскім. Падобныя рашэнні былі прыняты пазней на з'ездах воінаў-беларусаў Паўночнага (лістапад 1917 г., Віцебск), Паўднёва-Заходняга (снежань 1917 г., Кіеў), Румынскага (снежань 1917 г., Адэса) франтоў. Іх прадстаўнікі папоўнілі склад ЦБВР.

Узніклая перспектыва з'яўлення ўзброенай апоры ўзмацніла настроі на арганізацыю ў Беларусі аўтаномнай сістэмы кіравання. На II сесіі Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый (яе дэлегаты прадстаўлялі 27,7 тыс. удзельнікаў руху) і III з'ездзе Беларускай сацыялістычнай грамады (налічвала ў гэты час 10 тыс. чалавек)[5], якія праходзілі ў Мінску ў кастрычніку 1917 г. паралельна са з'ездам воінаў-беларусаў, прэваліравала думка аб неабходнасці ўвядзення аўтаноміі "знізу", явачным парадкам, без санкцыі агульнарасійскай улады[6]. Для гэтага Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый была пераўтворана ў Вялікую Беларускую раду (ВБР), у склад якой увайшоў і выканком ЦБВР. Выканаўчы камітэт ВБР узначаліў В. Ада-

---

[1] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Док-ты и мат-лы. Т.1. С.723.

[2] *Stankiewicz A.* Rodnaja mowa u świątyniach. Wilnia, 1929. S.98–108.

[3] *Савіцкі В.* Беларускае войска: ад ідэі да спроб рэалізацыі (1917 г.) // Беларускі гістарычны часопіс. 1994. №4. С.57–58.

[4] НА РБ, ф.4, воп.1, спр.96, арк.165–166.

[5] Минская жизнь. 1917. 19 окт.

[6] Вольная Беларусь. 1917. 8 лістап.

мовіч. Мелася на ўвазе, што новая структура папоўніцца прадстаўнікамі ад гарадскіх дум, земстваў, нацыянальных меншасцей краю і стане, такім чынам, зародкам вышэйшага органа ўлады аўтаномнай Беларусі.

Аднак размах і ўплыў беларускага нацыянальнага руху былі яшчэ недастатковыя для таго, каб ён мог выканаць патэнцыяльна ўласцівую яму ролю кансалідуючай сілы грамадства, якое гуртавалася б у межах уласнай дзяржаўнасці на прынцыпах нацыянальнай згоды. Лакальныя нацыянальна-дзяржаўніцкія памкненні Беларусі з яе размытай этнакультурнай ідэнтычнасцю і глыбокай інтэграванасцю ў агульнаімперскі арганізм пакуль што патаналі ў грандыёзным супрацьстаянні сацыяльна-палітычных сіл і інтарэсаў у маштабах усёй ахопленай татальным крызісам Расійскай дзяржавы.

**Рост сацыяльнай напружанасці. Барацьба за ўладу ў верасні-кастрычніку 1917 г.** У аснове крызісу ляжаў эканамічны заняпад. Непамерныя ваенныя выдаткі прывялі гаспадарку да поўнага знясілення. Пашырэнне за гады вайны дзяржаўнага рэгулявання, цэнтралізацыя паліўна-сыравінных галін прамысловасці, дзяржаўныя гандлёвыя манаполіі і цвёрдыя цэны скоўвалі прадпрымальніцкую ініцыятыву. Эканоміка велізарнай краіны не паддавалася кіраванню зверху. Да восені 1917 г. у параўнанні з 1916 г. прадукцыя фабрычна-заводскай прамысловасці па Расіі ў цэлым скарацілася больш чым на трэць. Хранічна не спраўляўся з перавозкамі транспарт. Прыйшлі ў разлад фінансы, інфляцыя знізіла рэальны ўзровень заработнай платы да 40 % ад даваеннага. Расійская сельская гаспадарка пацярпела менш, але гэта не датычылася прыфрантавой Беларусі. Вялікім цяжарам для беларускай вёскі сталі прымусовыя работы па абслугоўванні фронту. Працягвалася скарачэнне пасяўных плошчаў, ураджайнасць знізілася на 25 – 30 %. З-за транспартнай разрухі і нежадання сялян здаваць збожжа па цвёрдых цэнах паглыбіўся харчовы крызіс у гарадах. У пачатку кастрычніка 1917 г. у Мінску хлебны паёк складаў 3 фунты на чалавека на два тыдні. Усе беларускія і шэраг прылеглых паветаў суседніх губерняў былі ўключаны Міністэрствам харчавання ў пералік раёнаў з безнадзейным харчовым становішчам. Заходні фронт у кастрычніку забяспечваўся мукой на 25–30 %, фуражом – на 40–50 %[1].

Эканамічны крызіс выклікаў небывалую напружанасць у грамадстве, сацыяльна-класавыя канфлікты станавіліся ўсё часцейшымі і зацяжнымі. Восенню 1917 г. на прадпрыемствах Мінска, Віцебска, Гомеля, Магілёва, Бабруйска і іншых гарадоў пракацілася хваля забастовак.

У жніўні – кастрычніку 1917 г. у беларускіх губернях, паводле няпоўных даных, зафіксавана 206 сялянскіх выступленняў[2]. Самавольныя высечкі лесу, гвалтоўны захоп зямлі, рабаванні, разгром і падпалы маёнткаў набывалі ўсё больш зацяты і жорсткі характар[3].

Самы моцны імпульс спантаннага гвалту зыходзіў ад масы прызвычаеных да яго салдат. Адарваныя ад дома, паўгалодныя, знявераныя ў жаданні дэмакратычнай улады спыніць вайну, салдаты не падпарадкоўваліся баявым загадам, адмаўляліся заступаць на пазіцыі, учынялі самасуды. З новай

---

[1] *Булдаков В.П.* На повороте. 1917 год: революции, партии, власть // История Отечества: люди, идеи, решения. М., 1991. С.35–38; Фронт. 1917. 5, 24 окт.; Дело народа. 1917. 4 окт.

[2] *Малявский А.Д.* Крестьянское движение в России в 1917 г. (март–октябрь). С.374–375. (табл. 1).

[3] Дело народа. 1917. 27 сент.; Фронт. 1917. 13 окт.; Крестьянское движение в 1917 году. С.318.

сілай разгарнуліся братанні з праціўнікам. Натоўпы ўзброеных салдат, сярод якіх траплялiся і прызваныя ў пачатку вайны крымінальныя злачынцы, пакідалі фронт і разыходзіліся найперш па прылеглых тэрыторыях. Ахвярамі салдацкага гневу, які часам разрастаўся да ірацыянальнай лютасці, станавіліся не толькі камандзіры, але і ваенныя ўрачы, чыноўнікі, функцыянеры вайсковых камітэтаў і саветаў, цывільнае насельніцтва[1].

Ачагом перыядычных эксцэсаў заставаўся Гомельскі размеркавальны пункт. У другой палове верасня 1917 г. тут успыхнула чарговае масавае выступленне. Больш за 8 тыс. салдат адмовіліся накіроўвацца на фронт і пад пагрозай расправы запатрабавалі ад мясцовага савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў паслаць Часоваму ўраду патрабаванне аб неадкладным заключэнні міру. На ст. Гомель узбунтаваныя салдаты спрабавалі захапіць эшалоны. Адзін з членаў Выканаўчага камітэта Заходняга фронту, што прыбылі для ўціхамірвання натоўпу, быў жорстка збіты. Усе фракцыі Гомельскага савета, у тым ліку бальшавікі, заклікалі да спынення буянстваў. Але толькі з дапамогай казакоў і драгунаў удалося спыніць беспарадкі[2].

Разрастанню анархічнай стыхіі спрыяў параліч цэнтральнай расійскай улады, у якім яна апынулася пад восень 1917 г. Карнілаўскае выступленне, да якога мела дачыненне вярхушка кадэтаў – адной з партый урадавай кааліцыі, прывяло да чарговага крызісу Часовага ўрада. У грамадстве адбыўся яшчэ большы зрух улева. Кадэты атаясамліваліся цяпер з ворагамі дэмакратычных пераўтварэнняў і вымушаны былі адысці ў цень. Галоўная роля на палітычнай сцэне цалкам перайшла да сацыялістычных партый (эсэраў, меншавікоў і бальшавікоў). Але ўнутры сацыялістычнага лагера разгарнулася вострая барацьба адносна прынцыпаў фарміравання ўлады. У залежнасці ад ацэнкі далейшых перспектыў рэвалюцыі і ўласных партыйных інтарэсаў вызначыліся два асноўныя падыходы. Большасць эсэраў і меншавікоў, разглядаючы ў якасці вяршыні рэвалюцыі скліканне Устаноўчага сходу, выступіла за фарміраванне ўладных структур на шырокай дэмакратычнай аснове. Бальшавікі, кіруючыся пастулатам аб дыктатуры пралетарыяту, бачылі шлях да яе праз пераход усёй улады ў рукі саветаў.

У канцы верасня 1917 г. А. Керанскі, перакананы ў тым, што без падтрымкі прамыслова-фінансавых колаў і аграрыяў аднародны сацыялістычны ўрад (г. зн. складзены толькі з сацыялістаў) не справіцца з эканамічнымі цяжкасцямі, сфарміраваў новы (і апошні) склад кабінета на прынцыпе кааліцыі.

Чарговае пагадненне з "буржуазіяй" на фоне даведзеных да крайнасці сацыяльных антаганізмаў дало падставу бальшавікам узмацніць нагнятанне рэвалюцыйнай нецярплівасці і антыўрадавых настрояў. Падтрымку ў гэтым бальшавікі, паводле іх уласных прызнанняў, знаходзілі найперш сярод салдат, мілітарызаваных рабочых, збяднелай часткі сялянства[3], г. зн. сярод пазбаўленых устойлівага эканамічнага і сацыяльнага грунту, маргінальных пластоў насельніцтва. За кошт гэтага асяроддзя восенню 1917 г. імклівымі тэмпамі сталі расці бальшавіцкія арганізацыі Заходняга фрону і прылеглых губерняў.

На І Паўночна-Заходняй абласной канферэнцыі РСДРП(б) у Мінску (15–18 верасня) было прадстаўлена 9,2 тыс. членаў партыі і спачувальнікаў, на ІІ канферэнцыі (5–7 кастрычніка) – ужо 56,4 тыс. Пры гэтым паказальна,

---

[1] Дело народа. 1917. 27 сент., 3 окт.; Фронт. 1917. 19 октября; *Смольянинов М.М.* Революционное сознание солдат Западного фронта в 1917 г. С.228–245.

[2] Фронт. 1917. 23 сент.; Молот (Мн.). 1917. 24 сент.; Могилевская жизнь. 1917. 26 сент.; Дело народа. 1917. 27 сент.

[3] *Мясников А.Ф.* Избранные произведения. М., 1985. С.49–51.

што з 88 дэлегатаў I канферэнцыі 61 чалавека (69 %) паслаў фронт, і толькі 27 чалавек (31 %) – Заходняя вобласць; на II канферэнцыі з 353 дэлегатаў ад фронту былі 332 прадстаўнікі (94 %), а ад вобласці – усяго 21 (6 %). Але прафесійны склад дэлегатаў сведчыць, што нават і нефрантавыя арганізацыі ў большасці былі прадстаўлены вайскоўцамі[1].

У адрозненне ад іншых партый, якія спрабавалі растлумачваць народу выключную складанасць, неаднамернасць наспелых праблем, бальшавікі прапаноўвалі масам простыя рашэнні, фармулюючы іх у выглядзе кідкіх лозунгаў (мір – народам, зямля – сялянам, фабрыкі – рабочым). Гэтыя ўстаноўкі ў найбольшай ступені адпавядалі ментальнасці выштурхнутых рэвалюцыяй на палітычную арэну людзей з нізкім адукацыйным узроўнем, адсутнасцю цывілізаваных навыкаў грамадскай барацьбы, схільнасцю да падсвядомых, інтуітыўных дзеянняў[2].

Робячы стаўку на саветы як арганізацыйную форму для захопу ўлады, бальшавікі дамагліся прыняцця некаторымі з іх (Петраградскім, Маскоўскім і інш.) рэзалюцый з патрабаваннем пераходу ўлады ў рукі саветаў, а затым сталі настойваць на іх перавыбарах. Аднак спадзяванні на хуткую "бальшавізацыю" саветаў аказаліся занадта аптымістычнымі. У Беларусі толькі ў Мінскім савеце ў пачатку кастрычніка бальшавікі атрымалі абсалютную большасць (54,6 %). Адносна моцнымі пазіцыямі яны карысталіся таксама ў саветах Нясвіжскага гарнізона, Слуцка, Рэчыцы. У іншых саветах рабочых і салдацкіх дэпутатаў уплыў бальшавікоў пашырыўся нязначна. У сялянскіх саветах дамінуючая большасць трывала заставалася ў руках эсэраў і часткова народных сацыялістаў[3].

Слабасць сваіх пазіцый у мясцовых саветах бальшавікі разлічвалі кампенсаваць на II Усерасійскім з'ездзе саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які па іх настаянню быў прызначаны на канец кастрычніка 1917 г. і які павінен быў легітымізаваць перамогу запланаванага на тыя ж дні бальшавіцкага ўзброенага паўстання.

Такім чынам, сацыяльна-палітычныя ўзрушэнні лета-восені 1917 г. засведчылі няздольнасць гіганцкай, крайне неаднароднай Расійскай дзяржавы, якая даўно перасягнула аптымальныя для эфектыўнага кіравання памеры, функцыяніраваць у дэмакратычным рэжыме. Ва ўмовах вайны Часовы ўрад не змог стабілізаваць эканамічную сітуацыю, склікаць Устаноўчы сход, трансфармаваць унітарную цэнтралізаваную імперыю ў дэмакратычную федэратыўную рэспубліку. Краіну захліснула ўсёсакрушальная анархічная стыхія. Спроба ўтаймаваць яе шляхам усталявання правааўтарытарнага рэжыму правалілася, і Расія няўхільна пакацілася да леварадыкальнай дыктатуры. Перад кожным народам краіны патэнцыяльна існаваў іншы шлях выратавання з бездані агульнарасійскага крызісу – шлях пабудовы ўласнай прававой дзяржавы і свабоднай грамадзянскай супольнасці. Найбольш дальнабачная частка беларускай палітычнай эліты спрабавала скіраваць на гэты шлях і беларусаў. Але ўмовы для рэалізацыі такой перспектывы ў Беларусі былі яшчэ надзвычай неспрыяльныя.

---

[1] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Док-ты и мат-лы. Т.1. С.686–687, 830–831.

[2] *Кутузова Н.А.* Партийная пропаганда и ментальные комплексы революционного народа (март 1917 – июнь 1918) // Веснік Бел. дзярж. ун-та. Сер.3. Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. 1993. №1. С.6–10.

[3] *Башко П.К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии. С.175–185.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

У канцы XVIII ст. у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай беларускія землі апынуліся пад уладай Расійскай імперыі. Аднак гэта не стала канцом іх палітычнай гісторыі. У XIX – пачатку XX ст. на тэрыторыі Беларусі адбываліся падзеі агульнарасійскага, еўрапейскага і нават сусветнага маштабу. Тры паўстанні (1794, 1830 – 1831, 1863 – 1864 гг.), якія мелі яскрава вызваленчы характар, недвухсэнсоўна напаміналі царызму аб неабходнасці па іншаму, чым у так званых "велікарускіх" губернях, будаваць свае адносіны з "нованабытымі землямі". Нярэдка гэта адбывалася праз увядзенне надзвычайных і абмежавальных законаў, якія закраналі ўсе бакі сацыяльнага, нацыянальнага, рэлігійнага, культурнага і эканамічнага жыцця краіны.

У часы Расійскай імперыі працэсы трансфармацыі ахапілі ўсе слаі грамадства. Для былога набілітэту Рэчы Паспалітай няпросты працэс уваходжання ў склад расійскага дваранства, які суправаджаўся так званым "разборам шляхты", супаў з нялёгкім пошукам свайго месца ў эканоміцы ў новых гаспадарчых умовах, асабліва пасля адмены прыгоннага права. Беларускія сяляне, якія набылі ў выніку рэформы 1861 г. асабістую свабоду, працягвалі сваю спрадвечную барацьбу за зямлю і лепшую долю. Гарадскія саслоўі трапілі пад жорсткі дыктат расійскай бюракратыі. Беларускае грамадства пастумова пазбаўлялася рыс традыцыйнага аграрнага ладу і набывала аблічча грамадства індустрыяльнага.

Эканамічнае развіццё Беларусі, як і ўсёй Еўропы, адчула на сабе відавочныя ўплывы прамысловага перавароту. Яго звёнамі былі новыя паліўна-энергетычныя крыніцы, у першую чаргу паравыя рухавікі, узнікненне фабрык і заводаў, значнае паляпшэнне шляхоў зносін, працэсы урбанізацыі. Да новых формаў эканамічнай актыўнасці адносіліся банкі і іншыя крэдытна-фінансавыя ўстановы, акцыянерныя таварыствы і гандлёвыя дамы. На беларускай гістарычнай арэне ў якасці самастойнай часткі грамадства сталі прыкметны прадпрымальнікі і рабочыя, тэхнічная інтэлігенцыя, чыноўніцтва.

XIX стагоддзе пачыналася як век пары, а завяршалася як век электрычнасці. Чыгункі, параходы, тэлеграф, тэлефон, аўтамабілі, грамадскі транспарт і камунальная гаспадарка ў гарадах – усё гэта прыйшло да нас з XIX ст. і таксама з'яўляецца часткай беларускай гісторыі. Такім чынам, пашыралася камунікацыйная прастора, на якой разгортваліся падзеі айчыннай гісторыі. У параўнанні з папярэднімі эпохамі ў гэты час значна ўзраслі патокі інфармацыі, пачала працаваць рэгулярная пошта.

У складаных умовах працякала рэлігійнае жыццё ў Беларусі. За гады знаходжання беларускіх зямель у складзе Расійскай імперыі канфесійнае становішча тэрыторыі значна змянілася. Каталіцкі касцёл саступіў сваё пануючую ролю праваслаўнай царкве, якая была інкарпаравана ў палітычную сістэму Расіі, з'ўлялася структурным элементам яе сацыяльна-эканамічнага ладу. Зыходзячы з гэтага, яна сваімі спецыфічнымі метадамі аказвала вялікі ўплыў на ўсе бакі жыцця грамадства. Новая ўлада забараніла уніяцкую (грэка-каталіцкую) царкву на беларускіх землях. З адносінамі царызму да іудзейскай рэлігіі былі звязаны абмежавальныя законы для яўрэйскага насельніцтва. Разам з тым дзейнічала і агульнасусветная гістарычная

тэндэнцыя – свецкае жыццё значна парушыла рэлігійныя асновы грамадства.

Навука, мастацтва, літаратура, тэатр таксама змагаліся за "валоданне людскімі душамі". На час далучэння да Расійскай імперыі Беларусь мела багатую культурна-гістарычную спадчыну і сталыя культурныя традыцыі. Уключэнне ў новы дзяржаўны арганізм не магло не паўплываць на далейшае культурнае развіццё Беларускага краю. Гэтыя ўплывы былі далёка не адназначныя. Але прагрэсіўныя тэндэнцыі пастунова перамагалі. Узрос узровень адукаванасці насельніцтва. Вядома, што магчымасці атрымаць адукацыю былі неаднолькавымі для прадстаўнікоў розных саслоўяў, але ж, нягледзячы на гэта, нават у сялянскім асяроддзі пісьменны чалавек перастаў быць выключнай з'явай.

Развіццё капіталістычных адносін запатрабавала ўдасканалення прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Да пачатку XX ст. сетка сярэдняй і ніжэйшай спецыяльнай і прафесійна-тэхнічнай адукацыі складалася з сярэдніх і ніжэйшых вучылішч, рамесных вучылішч і школ, настаўніцкіх і духоўных семінарый. Асобнае месца ў сістэме прафесійна-тэхнічнай адукацыі займалі сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы – фельчарскія школы, настаўніцкія семінарыі і інстытуты. Пры адсутнасці вышэйшых навучальных устаноў яны з'яўляліся мясцовымі цэнтрамі падрыхтоўкі кадраў спецыялістаў.

Далучэнне беларускіх зямель да Расійскай імперыі дало імпульс развіццю гуманітарных навук. Абумоўленае палітычнымі і эканамічнымі інтарэсамі расійскіх улад, распачалося комплекснае даследаванне гісторыі, мовы, матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага этнасу. Ужо з канца XVIII ст. з'яўляюцца першыя навуковыя публікацыі пра Беларусь.

Асновай духоўнага, нацыянальна-культурнага развіцця беларусаў з'яўляліся найбагацейшы фальклор і гісторыя краю, якія прыводзілі да высновы аб існаванні самастойнага беларускага народа, а мастацкая апрацоўка вуснай народнай творчасці садзейнічала зараджэнню новай беларускай літаратурнай мовы і станаўленню нацыянальнай літаратуры. Нягледзячы на цэнзурныя забароны царскіх улад, з кожным дзесяцігоддзем пашыралася кнігадрукаванне. У пачатку XX ст. узнікла нацыянальнае кнігавыданне, пачалі выходзіць газеты, часопісы, разлічаныя на беларускага, галоўным чынам вясковага, чытача.

Сацыяльная мадэрнізацыя грамадства на рубяжы XIX–XX стст. прывяла да абвастрэння палітычнай барацьбы, з'яўлення шматлікіх палітычных партый, арганізацый, агульнага ўздыму грамадскага руху. У сацыяльна-палітычных умовах беларускай рэчаіснасці эканамічныя пытанні былі цесна звязаны з нацыянальнымі праблемамі. Так званае "польскае пытанне", а потым і яўрэйскае, і беларускае вызначалі асноўныя кірункі палітычнага крызісу расійскага самадзяржаўя.

Новыя з'явы ў грамадска-палітычным жыцці пачатку XX ст. абумовілі з'яўленне новых ідэй і вобразаў у нацыянальнай літаратуры. Галоўнымі тэмамі беларускай літаратуры гэтага перыяду былі сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, барацьба супраць самадзяржаўя, адраджэнне Бацькаўшчыны і роднай мовы, сцвярджэнне чалавечай годнасці, правоў народа на вольнае гістарычнае развіццё.

Разбуральнымі войнамі адзначаны пачатак і канец знаходжання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. Спачатку гэта была эпоха напалеонаўскіх войнаў, а потым – Першая сусветная вайна, якая прывяла да краху царызму ў ходзе Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Беларусь, знясіленая вайною, пасечаная лініяй фронту, апынулася перад новымі гістарычнымі выпрабаваннямі.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

*Абезгауз З.Е.* Развитие промышленности и формирование пролетариата Белоруссии во второй половине XIX века. Мн., 1971.

*Авербах О.И.* Законодательные акты, вызванные войною 1914 года с Германиею, Австро-Венгриею и Турциею: законы, манифесты, указы Правительственному Сенату, распоряжения и постановления министров и др. Вильно, 1915.

Акты и грамоты об устройстве и управлении римско-католической церкви в империи Российской и Царстве Польском. СПб., 1849.

Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов: В 39 т. Вильно, 1865 – 1915. Т. 16, 1889; Т. 31, 1906; Т. 37, 1912.

Алфавитный указатель действующих и руководственных канонических постановлений, указов, определений и распоряжений Св. Прав. Синода (1721 – 1901 гг. включительно) и гражданских законов, относящихся к духовному ведомству православного исповедания. СПб., 1902.

*Анищенко Е.К.* Черта оседлости. Мн., 1998.

*Анішчанка Я.К.* Беларусь у часы Кацярыны II. Мн., 1996.

*Анішчанка Я.К.* Генеральнае межаванне на Беларусі. Мн., 1996.

*Анішчанка Я.К.* Інкарпарацыя. Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Мн., 2003.

Архитектурные памятники Белоруссии. Мн., 1982.

Асвета і педагагічная думка ў Беларусі са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985.

*Башко П.К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии (март – октябрь 1917 г.). Мн., 1987.

Бежанства 1915 года. Беласток, 2000.

*Бейлькин Х.Ю.* Аграрный кризис конца XIX века и структурная реконструкция сельского хозяйства Беларуси. Мн., 2001.

*Белоголов И.* Акты и документы, относящиеся к устройству и управлению римско-католической церкви в России. Пг., 1915. Т. 1.

Белоруссия в эпоху феодализма: В 4 т. Мн., 1979. Т.4.

Белоруссия в эпоху капитализма: В 2 т. Т.1. Мн., 1983; Т.2. Мн., 1990.

*Бич М.О.* Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883–1903 гг. Мн., 1973.

*Бич М.О.* Рабочее движение Белоруссии в 1861–1904 гг. Мн., 1983.

*Блинова Т.Б.* Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990.

*Блинова Т.Б.* Иезуиты в Белоруссии. Роль иезуитов в организации образования и просвещения. Гродно, 2002.

*Бобровский П.О.* Русская греко-униатская церковь в царствование Александра I. СПб., 1890.

*Богданович М.И.* История Отечественной войны 1812 года по достоверным источникам. СПб., 1859–1860. Т. 1–3.

*Болбас М.Ф.* Промышленность Белоруссии. 1860–1900. Мн., 1978.

*Болбас М.Ф.* Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861). Мн., 1966.

*Бурмистрова Т.Ю.* Ленинская политика пролетарского интернационализма в период образования РСДРП (1894 --1903 гг.). Л., 1962.

*Бутурлин Д.П.* История нашествия императора Наполеона на Россию в 1812 году. СПб., 1823–1824. Ч. 1–2.

*Бухбиндер Н.* История еврейского рабочего движения в России. Л., 1925.

Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Док-ты и мат-лы. Мн., 1957. Т.1.

*Вержбовский Ф.* К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819–1923. Варшава, 1898.

*Весялкоўскі Ю.* Беларусь у Першай сусветнай вайне (Гістарычны нарыс). Беласток; Лондан, 1996.

*Военский К.А.* Вильна в 1812 году. Из воспоминаний графа Гогендорпа, бывшего генерал-губернатора Великого княжества Литовского и генерала Рох-Годара, Виленского военного губернатора в 1812 году. СПб., 1912.

Восстание в Литве и Белоруссии 1863 – 1864гг.: Сб. документов. М., 1960.

*Гарбацкі А.А.* Стараабраднiцтва на Беларусі ў канцы XVII – пачатку XX ст. Брэст, 1999.

*Гарбачова В. В.* Паўстанне 1830 – 1831 гг. на Беларусі. Мн., 2001.

*Гессен Ю.* История евреев в России. СПб., 1914.

Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Мн., 1989. Т. 3.

Гісторыя беларускага тэатра: У 3 т. Т. 1. Беларускі тэатр ад вытокаў да кастрычніка 1917 г. Мн., 1983.

Гісторыя беларускай літаратуры XX ст.: У 4 т. Мн., 1999. Т. 1.

Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1972. Т.1–2.

Гісторыя сялянства Беларусі. Т. 1 Са старажытных часоў да нашых дзён. Мн., 1997; Т.2. Ад рэформы 1861 г. да сакавіка 1917 г. Мн., 2002.

*Гневко В.Г.* Рабочий класс Белоруссии в борьбе за победу Октября. Мн., 1973.

*Горбацкий А.А.* Старообрядчество на белорусских землях. Брест, 2004.

*Горизонтов Л. Е.* Парадоксы имперской политики: поляки в России и русские в Польше. М., 1999.

*Горючко П.С.* Из истории воссоединения униатов в Белоруссии. Киев, 1902.

*Дробов Л.М.* Живопись Белоруссии XIX – начала XX в. Мн., 1974.

*Довнар-Запольский М.В.* Народное хозяйство Белоруссии в 1861–1914 гг. Мн., 1926.

*Дубнов С.М.* Новейшая история еврейского народа: В 3 т. Рига, 1937–1938.

*Думін С. У., Канапацкі І.Б.* Беларускія татары. Мінулае і сучаснасць. Мн., 1993.

*Евсеев Н.Ф.* Свентянский прорыв (1915 г.): Военные действия на восточном фронте мировой войны в сентябре – октябре 1915 г. Мн., 1936.

*Жытко А.П.* Дваранства Беларусі перыяду капіталізму. 1861–1914 гг. Мн., 2003.

*Забайскі М.М.* Расійская Дзяржаўная дума ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі (1906–1917 гг.). Мн., 1999.

*Зайончковский П.А.* Правительственный аппарат самодержавной России в XIX в. М., 1978.

Записки Василия Лужинского архиепископа Полоцкого. Казань, 1885.

Записки Иосифа митрополита Литовского, изданные Императорской Академией наук по завещанию автора: В 3 т. СПб., 1883.

Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Беларуси (дооктябрьский период). Мн., 1972.

Идеи материализма и диалектики в Беларуси (дооктябрьский период). Мн., 1980.

*Игнатенко И.М.* Беднейшее крестьянство – союзник пролетариата в борьбе за победу Октябрьской революции в Белоруссии (1917 – 1918 гг.). Мн., 1962.

*Игнатенко И.М.* Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии. Мн., 1986.

История рабочего класса Белорусской ССР: В 4 т. Т. 1. Рабочий класс Белоруссии в период капитализма. Мн., 1984.

*Калиновский К.* Из печатного и рукописного наследия. Мн., 1988.

*Канапацкі І.Б., Смолік А.І.* Гісторыя і культура беларускіх татар. Мн., 2000.

Канфесіі на Беларусі (канец XVIII–XX ст.). Мн., 1998.

*Капилов А.Л., [illegible] Е.И.* Музыкальная культура Беларуси XIX – начала XX веков. Мн., 2000.

*Кацер М.С.* Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Мн., 1969.

*Киприанович Г.Я.* К истории женского образования в Западной России. Вильно, 1910.

*Козляков В.Е.* Национальный вопрос и неонароднические партии. Начало XX в. – конец 20-х гг. (На материалах России, Беларуси, Украины). Мн., 2001.

*Корелин А.П.* Дворянство в пореформенной России. 1861–1904 гг. М., 1979.

*Корнейчик Е.* Белорусский народ в Отечественной войне 1812 г. Мн., 1962.

*Корф С.А.* Дворянство и его сословное управление за столетие 1762–1855 годов. СПб., 1906.

*Краснянский В.Г.* Минский департамент Великого княжества Литовского. СПб., 1902.

*Крук У.П.* Сялянскі рух на Беларусі 1864–1900 гг. Мн., 1993.

*Кузняева С.А.* Еврейские общины Беларуси в конце XVIII – начале XX века. Мн., 1998.

*Лемке М.* 250 дней в царской Ставке. Пг., 1920.

*Липинский Л.П.* Крестьянское движение в Белоруссии в 1914–1917 гг. Мн., 1975.

*Липинский Л.П., Лукьянов Е.П.* Крестьянское движение в Белоруссии в период между двумя революциями (июнь 1907 – февраль 1917 г.). Мн., 1964.

*Лосинский Н.Б.* Революционно-народническое движение Белоруссии (1870–1884). Мн., 1983.

*Луговцова С.Л.* Политика российского самодержавия по отношению к дворянству Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX века. Мн., 1997.

*Лушчыцкі I.* Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі Беларусі ў другой палове XIX ст. Мн., 1958.

*Луцкевіч А.* Да гісторыі беларускага руху: Выбраныя творы. Мн., 2003.

*Луцкевіч А.* За дваццаць пяць гадоў (1903–1928): Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацыяў. Мн., 1991.

*Лыч Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. 2-е выд. Мн., 1997.

*Людендорф Э.* Мои воспоминания о войне 1914–1918 гг.: В 2 т. М., 1923–1924.

*Люты А.М.* Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі ў другой палове XVIII – першай палове XIX стагоддзя. Мн., 2004.

*Лютый А.М.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. Мн., 1987.

*Марозава С.* Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596–1839). Гродна, 2002.

*Мигун Д.А.* Германия и Беларусь: Уроки истории (1914 – 1922 годы). Мн., 2001.

*Миронов Б.Н.* Социальная история России: В 2 т. СПб., 1999.

*Мохнач Н.Н.* Идейная борьба в Белоруссии в 30–40-е годы XIX века. Мн., 1971.

*Мохнач Н.* От просвещения к революционному демократизму (Общественно-политическая и философская мысль Белоруссии конца 10-х – начала 50-х гг. XIX в.). Мн., 1976.

Музыкальный театр Белоруссии: Дооктябрьский период. Мн., 1990.

*Мухлинский А.* Исследование о происхождении и состоянии литовских татар. СПб., 1857.

Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Мн., 1994. Ч. 1.

*Никотин И.А.* Столетний период (1778 –1872) русского законодательства в воссоединенных от Польши губерниях и законодательство о евреях (1649–1876): В 2 т. Вильно, 1886.

*Ольшанский П.* Декабристы и польское национально-освободительное движение. М., 1959.

*Оршанский И. Г.* Русское законодательство о евреях. СПб., 1877.

Очерки истории науки и культуры Беларуси. Мн., 1996.

*Подорожный Н.Е.* Нарочская операция в марте 1916 г. на русском фронте мировой войны. М., 1938.

Публицистика белорусских народников: Нелегальные издания белорусских народников (1881–1884): Сб. док. Мн., 1983.

*Пузыревский А.К.* Польско-русская война 1831 г.: В 2 т. СПб., 1890.

*Ратч В.* Сведения о польском мятеже 1863 года в Северо-Западной России. Вильно, 1867.

*Романович-Словатинский А.* Дворянство в России. Киев, 1912.

*Рудовіч С.* Час выбару. Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе. Мн., 2001.

*Рункевич С.* История Минской архиепископии (1793–1833 гг.). СПб., 1893.
*Савицкий Э.М.* Революционное движение в Белоруссии (август 1914 – февраль 1917 гг.). Мн., 1981.
*Самбук С.М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века. Мн., 1980.
*Самбук С.М.* Общественно-политическая мысль Белоруссии во второй половине XIX века. Мн., 1976.
Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792–1796). Вильно, 1903.
*Семашкевіч Р.М.* Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX - пачатак XX ст.). Мн., 1971.
*Смалянчук А.Ф.* Палякі Беларусі і Літвы ў рэвалюцыі 1905–1907 гг. Гародня, 2000.
*Смалянчук А.Ф.* Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй: польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864–1917 г. 2-е. изд. СПб., 2004.
*Смірноў А.* Франц Савіч. З гісторыі беларуска-польскіх рэвалюцыйных сувязей. 30–40-я гады. Мн., 1961.
*Смит Ф.* История польского восстания и войны 1830–1831 годов: В 3 т. СПб., 1863–1864.
*Смольянинов М.М.* Революционное движение солдатских масс на Западном фронте в 1917 г. Мн., 1981.
*Снапкоўская С.В.* Адукацыйная палітыка і школа на Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст. Мн.,1998.
*Соколова М.А.* Общественные объединения и движения в Беларуси в конце XVIII – начале XX века: проблемы становления гражданского общества. Мн., 2002.
*Солодков Т.Е.* Борьба трудящихся Белоруссии против царизма (1907–1917 гг.). Мн., 1967.
*Сосна У.А.* Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. Мн., 2000.
*Сяменчык М.Я.* Грамадска-палітычнае жыццё на Беларусі ў перыяд Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый (сакавік 1917 – сакавік 1918 г.): У 2 ч. Мн., 2001.
*Тихомиров Л.А.* Монархическая государственность. СПб., 1992.
*Токць С.М.* Беларуская вёска на мяжы эпох: змены этнічнай самасвядомасці сялянства ва ўмовах распаду традыцыйнага аграрнага грамадства (на матэрыялах Гарадзеншчыны XIX – першай трэці XX ст.). Гродна, 2002.
*Трещенок Я.И.* История Беларуси. В 2 ч. Ч. 1. Досоветский период. Могилев, 2004.
*Тройницкий А.П.* Крепостное население России по X народной переписи. СПб., 1861.
*Улащик Н.Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. М., 1965.
Философская и общественно-политическая мысль Беларуси и Литвы: Дооктябрьский период. Мн., 1987.
*Филяков В.Г.* Революционные связи Белоруссии и России в конце XIX – начале XX в. М., 1982.
Французска-руская вайна 1812 г.: еўрапейскія дыскурсы і беларускі погляд. Мн., 2003.
*Цьвікевіч А.* "Западно-руссизм". Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Мн., 1993.
*Чепко В.В.* Города Белоруссии в первой половине XIX века. Экономическое развитие. Мн., 1981.
*Швед В.В.* Паміж Польшчай і Расіяй: грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863 гг.). Гародня, 2001.
*Шавельский Т.* Последнее воссоединение с православной церковью униатов Белорусской епархии (1833–1839 гг.). СПб., 1910.
*Шыбека З.В.* Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX стагоддзяў). Мн., 1997.
*Юхо Я.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992.
*Яблочков М.* История дворянского сословия в России. СПб., 1876.
*Яніцкая М.М.* Беларускае мастацкае шкло: XIX – пачатак XX ст. Мн., 1984.
*Яноўская В.В.* Хрысціянская царква ў Беларусі ў 1863–1914 гг. Мн., 2002.

Archiwum filomatow. Cz. 2: Materialy do historii Towarzystwa filomatow: W 3 t. Kraków, 1920–1934. T. 1. 1920; T. 2. 1921; T. 3. 1934.

*Bairasanskaite T.* Lietuvos totarial XIX amziuje. Vilnius, 1995.

Bitwy i potyczki stoczone przez wojsko polskie w r. 1831 zestanie E.Callier. Poznan, 1887.

Bitwy i potyczki. 1863–1864 opracjwal S.Zieliński. Rapperswilu. 1913.

*Chmielowski P.* Liberalism i obskurantysm na Litwie i Rusi (1815– 1823). Warszawa, 1898

*Dangel S.* Rok 1831 w Mińszczyźnie. Warszawa, 1925

*Fajnhaus D.* Ruch konspiracyjny na Litwie i Bialorusi. 1846–1848. Warszawa,1965.

*Gach P.P.* Kasaty zakonow na ziemiach dawniej Rzeczypospolitej i Sląska. 1773 – 1914. Lublin, 1984.

*Giller A.* Historia Powstania Narodu Polskiego w 1861–1864 r. T.1. Paryż, 1867;

*Glaser S.* Okupacja niemiecka na Litwie w latach 1915–1918: Stosunki prawne. Lwów, 1936.

*Klier J.* Russia gachers her Jews. The origins of the "jewish question" in Russia. 1772 – 1825. Illinois, 1988.

*Kryczynski S.* Tatarzy litewscy: Proba monografii historycno-etnograficnej. Warszawa, 1938.

*Kumor B.* Ustroj i organizacja kosciola polskiego w okresie niewoli narodowej. 1772–1918. Kraków, 1980.

*Morawski S.* Kilka lat młodościi w Wilnie (1818–1825). Warszawa, 1924.

*Moscicki H.* Projekty polaczenia Litwy z Krolestwem Polskim, 1813–1830. Warszawa, 1928.

Powstanie 1831 r. na Litwie. Wilno, 1931.

Problem Litwy podczas wojny: Zbiyr dokumentyw, uchwai, odezw i t.p. / Zebrai i do druku przygotowai J. A. Warszawa, 1918.

*Sikorska-Kulesza J.* Drobna szlachta w zachodniej Bialorusi na Litwie w XIX w. Warszawa, 1990.

*Stanislawski M.* Tsar Nicolas I and the Jews. The transformation of Jewish society in Russia. 1825–1855. Philadelphia, 1983.

*Tokarz W.* Wojna polsko-rosyjska 1830 i 1831. Warszawa, 1930.

*Tyszkiewicz J.* Z historii tatarow polskich. 1794–1944. Pultusk., 1998.

Z Guntherów Gabriela Puzynina. W Wilnie i w dworach Litewskich. 1815– 1843. Warszawa, 1928.

Z filareckiego światla. Warszawa, 1924.

*Żytkowicz L.* Rządy Repnina na Litwie w latach 1794–97. Wilno, 1938.

# ХРАНАЛОГІЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ Ў СКЛАДЗЕ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ

**1762–1833 гг.** Жыццё і дзейнасць Войцэха Пуслоўскага, прадпрымальніка, заснавальніка першых беларускіх фабрык у Косаве і Хомску.
**1772 г.** Першы падзел Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй, Аўстрыяй і Расіяй. Далучэнне ўсходняй часткі тэрыторыі Беларусі да Расійскай імперыі.
**1772 г., 3 лістапада.** Указ Сената аб утварэнні Пскоўскай і Магілёўскай губерняў.
**1772 г.** Пачатак пацвярджэння шляхтай свайго паходжання.
**1772–1774 гг.** Складанне камеральных апісанняў: агульнага – на далучаную тэрыторыю Беларусі і спецыяльнага – на казённыя вёскі.
**1773 г.** Стварэнне Беларускай каталіцкай епархіі з цэнтрам у Магілёве.
**1774–1780 гг.** Дзейнасць Беларускага дэпартамента (створаны пры Юстыц-калегіі ліфляндскіх, эстляндскіх і фінлядскіх спраў Сената для найвышэйшай апеляцыі).
**1775 г.** Пачатак будаўніцтва Дняпроўска-Бугскага канала.
**1775 г.** Прынята "Устанаўленне кіравання губерняў Усерасійскай імперыі".
**1776 г., 24 жніўня.** Стварэнне Полацкай губерні.
**1778 г.** Пераіменаванне Магілёўскай і Полацкай губерняў у намесніцтвы.
**1780 г.** Пераклад на рускую мову Статута ВКЛ 1588 г.
**1782 г., 17 студзеня.** Указ аб заснаванні Магілёўскага каталіцкага архіепіскапства.
**1783 – 1785 гг.** Генеральнае межаванне ў Магілёўскай і Полацкай губернях скасавала ранейшыя правы на валоданне зямлёй і афарміла правы новай улады на далучаныя землі.
**1784 г.** Заканчэнне будаўніцтва канала Агінскага (Нёман–Прыпяць).
**1785 г.** Прынята "Даравальная грамата дваранству".
**1791 г., 23 снежня.** Указ Кацярыны II аб дазволе яўрэям жыць толькі ў Беларусі і ў Наварасійскім краі, забароне запісвацца ў купецтва ва ўнутраных расійскіх гарадах, пачатак фарміравання "мяжы аселасці" яўрэйскага насельніцтва.
**1793 г.** Другі падзел Рэчы Паспалітай паміж Расіяй і Прусіяй.
**1793 г., 3 мая.** Указ Сената аб заснаванні Мінскага намесніцтва.
**1793 г.** Заснаванне Мінскай праваслаўнай епархіі.
**1794 г., 22 красавіка.** Указ аб ліквідацыі ўсялякіх перашкод да вяртання уніятаў у праваслаўную веру.
**1794 г., 23 верасня.** Указ аб дазволе яўрэйскаму насельніцтву пражываць і займацца купецка-мяшчанскімі заняткамі ў 10 новаўтвораных губернях.
**1795 г.** Трэці падзел Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй.
**1795 г., чэрвень.** Стварэнне ў Гродне часовага органа кіравання тэрыторыяй Літвы і Заходняй Беларусі – Вярхоўнага праўлення Літвы.
**1795 г.** Заснаванне Інфлянцкай і Пінскай каталіцкія епархій.
**1795 г., 14 снежня.** Падзел навадалучаных земель на Віленскую і Слонімскую губерні.
**1796 г., жнівень.** Пераіменаванне Віленскай і Слонімскай губерняў у намесніцтвы.
**1796 г., 12 снежня.** Утварэнне Беларускай, Мінскай і Літоўскай губерняў.
**1796–1840 гг.** Выданне газеты "Kurier Litewski" ў Гродне і Вільні (з 1834 г. выдаваўся і на рускай мове – "Литовский вестник").
**1797–1805 гг.** Будаўніцтва Бярэзінскага канала, які злучыў басейны Дняпра і Заходняй Дзвіны
**1798–1870 гг.** Жыццё і дзейнасць А. Скірмунта, палескага прадпрымальніка, вынаходніка, фабрыканта-рэфарматара.
**1798 г.** Утварэнне Мінскай і Віленскай каталіцкіх епархій.

**1798 г.** Утварэнне Брэсцкага уніяцкага епіскапства.

**1801 г.** Новы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел: Беларуская губерня падзелена на Магілёўскую і Віцебскую (абедзве ўвайшлі ў склад Беларускага генерал-губернатарства); Літоўская – на Віленскую і Гродзенскую губерні (увайшлі ў склад Літоўскага ваеннага губернатарства).

**1803 г., 4 ліпеня.** Забарона пераходаў уніяцкіх вернікаў у каталіцтва.

**1803 г. – 1832 гг.** Адкрыццё і дзейнасць Віленскага універсітэта.

**1804 г., 9 снежня.** Прынята Палажэнне аб уладкаванні яўрэяў.

**1807–1884 гг.** Жыццё і творчасць В.І.Дуніна-Марцінкевіча.

**1807 г.** Тыльзіцкі мір. Стварэнне з польскіх зямель, якія належалі Прусіі, Вялікага герцагства Варшаўскага.

**1807–1809 гг.** Паўстанне сялян Кашалёўскага староства Магілёўскай губерні.

**1810 г.** Утварэнне ваенных пасяленняў у Беларусі.

**1810 г., 8 жніўня.** Указ аб тэрміне даўнасці (з 1798 г.) для тых, хто пакінуў уніяцтва.

**1810–1820 гг.** Будаўніцтва Бабруйскай крэпасці.

**1812 – 1820 гг.** Дзейнасць езуіцкай акадэміі ў Полацку.

**1812 г., 12 / 24 чэрвеня.** Пачатак вайны Расіі супраць нашэсця Напалеона І.

**1812 г., 19 чэрвеня /1 ліпеня.** Загад Напалеона аб стварэнні Часовага ўрада Вялікага княства Літоўскага.

**1812 г., 9–11 / 22–23 ліпеня.** Бой каля в. Салтанаўка (Магілёўскі раён).

**1812 г., 14–16 лістапада/26–28 лістапада.** Пераправа французскай арміі праз р.Бярэзіну.

**1812 г., 3 / 15 лістапада.** Бой пад Койданава паміж расійскім корпусам К.Ламберта і французска-польскім Ф. Касецкага.

**1812 г., 10 снежня.** Маніфест Аляксандра І аб абвяшчэнні амністыі жыхарам Літвы – Беларусі, што ўдзельнічалі ў вайне на баку Напалеона, пры ўмове іх вяртання на радзіму.

**1815 г.** Венскі кангрэс.

**1817 г.** Стварэнне асобнага Літоўскага корпуса з ураджэнцаў беларуска-літоўскіх і украінскіх губерняў.

**1817–1823 гг.** Дзейнасць тайных студэнцкіх таварystваў у Віленскім універсітэце.

**1818 г.** Выйшаў першы нумар часопіса "Miesiecznik Polocki".

**1820 г.** Выгнанне езуітаў з Расійскай імперыі.

**1823 г.** Заканчэнне будаўніцтва шашы Брэст–Варшава (177 вёрст).

**1824 г.** Выпрабаванне першага ў Беларусі парахода, пабудаванага А.Смітам у Гомельскім маёнтку графа М. Румянцава.

**1824–1839 гг.** Будаўніцтва Аўгустоўскага канала, які злучыў басейны Нёмана і Віслы.

**1825 г., снежань.** Адмова Літоўскага піянерскага батальёна прысягаць імператару Мікалаю І.

**1826–1841 гг.** Дзейнасць у г. Віцебску Беларускага вольнага эканамічнага таварыства.

**1828 г., 28 красавіка.** Заснаванне асобнай грэка-уніяцкай духоўнай калегіі. Стварэнне замест чатырох уніяцкіх епархій дзвюх (Беларускай і Літоўскай).

**1829 г., 1850 г.** Дзейнасць Беларускай навучальнай акругі.

**1830–1831 гг.** Шляхецкае паўстанне ў Польшчы, Беларусі, Літве і Правабярэжнай Украіне.

**1831 г., студзень.** Стварэнне Віленскага цэнтральнага паўстанцкага камітэта (у склад увайшлі С.Шумскі, А.Гарэцкі, М.Балінскі, В.Пяткевіч, Л.Замбржыцкі, Э.Рамер, Ю.Грабніцкі).

**1830–1918 гг.** Жыццё і дзейнасць мастака Н. Сілівановіча.

**1831 г., люты.** Уведзена забарона выкарыстоўваць у справаводстве Гродзенскай і Віленскай губерняў польскую мову.

**1831 г., 22 сакавіка.** Сенатам быў зацверджаны парадак "Аб ажыццяўленні і выкананні прысуду над бунтаўшчыкамі".

**1831 г.** Скасаванне Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г. у Віцебскай і Магілёўскай губернях.
**1831–1848 гг.** Дзейнасць Камітэта па справах заходніх губерняў.
**1832 г.** Закрыццё Віленскага універсітэта.
**1833 г.** Стварэнне Полацкай праваслаўнай епархіі.
**1833–1900 гг.** Жыццё і дзейнасць мастака А. Гараўскага.
**1833–1842 гг.** Будаўніцтва Брэсцкай крэпасці.
**1836 г.** Забаронена выкладанне ў навучальных установах польскай мовы як самастойнага прадмета.
**1836 г.** Стварэнне сакрэтнага камітэта па уніяцкіх справах.
**1836 г.** Утварэнне Ф. Савічам нелегальнага студэнцкага "Дэмакратычнага таварыства" ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі.
**1837 г.** Віленскі дваранскі сход выступіў з праектам адмены прыгоннага права.
**1838 г., 23 лютага.** Памёр апошні уніяцкі мітрапаліт І. Булгак.
**1838–1917 гг.** Выданне "Губернских ведомостей" у губернскіх гарадах Беларусі.
**1838–1864 гг.** Жыццё і дзейнасць К. Каліноўскага
**1839 г., 12 лютага.** Полацкі царкоўны сабор.
**1839 г., снежань.** "Палажэнне аб люстрацыі дзяржаўнай маёмасці заходніх губерняў і Беластоцкай вобласці".
**1840–1900 гг.** Жыццё і творчасць Ф. Багушэвіча
**1840 г., 27 жніўня.** Адкрыццё ў мястэчку Горы-Горкі земляробчай школы (з 1848 г.– земляробчы інстытут).
**1840 г.** Скасаванне Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г. у Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях.
**1840–1850 гг.** Дзейнасць у Мінску тэатра, арганізаванага В.Дуніным- Марцінкевічам.
**1841–1916 гг.** Выданне газеты "Виленский вестник".
**1844 г.** Перавод дзяржаўных сялян на аброчную сістэму.
**1844 г.** Стварэнне дваранскіх інвентарных камітэтаў у заходніх губернях.
**1844–1857 гг.** Перавод дзяржаўных сялян на аброчную сістэму.
**1845 г.** Пачатак увядзення ў дзеянне абавязковых інвентароў заходніх губерняў.
**1846 г.** Увядзенне ваеннага становішча ў Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губернях у сувязі з рэвалюцыйнымі выступленнямі ў Польшчы і Галіцыі.
**1846–1849 гг.** Дзейнасць у Беларусі падпольнай арганізацыі "Саюз свабодных братоў".
**1847 г., сакавік–май.** Масавыя выступленні сялян Віцебскай губерні.
**1849 г.** Заканчэнне будаўніцтва шашы Брэст–Масква (999 вёрст).
**1851–1897 гг.** Жыццё і дзейнасць Янкі Лучыны (І. Неслухоўскага).
**1851–1915 гг.** Жыццё і дзейнасць А. Стульгінскага, дырэктара Добрушскай папяровай фабрыкі, выдатнага інжынера, заснавальніка Саюза папяровых фабрыкантаў у Расіі.
**1852 г., 21 лютага.** Пастаноўка ў Мінску тэатральным калектывам В.Дуніна-Марцінкевіча першай беларускай оперы "Ідылія" С. Манюшкі і К. Кжыжаноўскага.
**1855 г.** Заканчэнне будаўніцтва шашы Віцебск–Смаленск (286 вёрст).
**1856–1881 гг.** Жыццё і дзейнасць беларускага рэвалюцыянера І. Грынявіцкага.
**1857 г., 20 лістапада.** Рэскрыпт Аляксандра II віленскаму генерал-губернатару У. Назімаву аб стварэнні губернскіх камітэтаў па сялянскаму пытанню.
**1857 г., 3 студзеня.** Утварэнне Сакрэтнага камітэта па сялянскай справе для падрыхтоўкі рэформы.
**1858 г., 8 студзеня.** Пераўтварэнне Сакрэтнага камітэта ў Галоўны камітэт па сялянскай справе.
**1858–1859 гг.** Выданне ў Пецярбургу газеты "Slowo".
**1859 г.** Увод у эксплуатацыю тэлеграфнай лініі Мінск–Бабруйск.
**1861 г., 19 лютага.** Маніфест аб адмене прыгоннага права ў Расіі.
**1861–1863 гг.** Уздым сялянскага руху ў сувязі з правядзеннем сялянскай рэформы 1861 г.

**1861–1864 гг.** Дзейнасць Мінскай падпольнай арганізацыі напярэдадні і ў час паўстання 1863–1864 гг.

**1861–1917 гг.** Жыццё і дзейнасць І. Буйніцкага.

**1861–1931 гг.** Жыццё і дзейнасць Я.Карскага – заснавальніка беларускага мовазнаўства.

**1862 г., чэрвень – 1863 г., май.** Выданне К. Каліноўскім газеты "Мужыцкая праўда" – першай нелегальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай беларускай газеты.

**1862 г.** Стварэнне Камітэта руху (Літоўскага правінцыяльнага камітэта) у Вільні.

**1862 г.** Адкрыццё руху па чыгунцы Пецярбург – Варшава (1207 вёрст), якая прайшла праз Гродна.

**1863 г., студзень –1864 г.** Паўстанне ў Польшчы, Беларусі, Літве і Правабярэжнай Украіне.

**1863 г., 20 студзеня.** Маніфест Часовага правінцыяльнага ўрада Літвы і Беларусі аб надзяленні сялян зямлёй.

**1863 г., 1 лютага.** Захоп паўстанцамі г. Пружаны.

**1863 г., 27 лютага.** Захоп "белымі" кіраўніцтва ў Літоўскім правінцыяльным камітэце

**1863 г., 1 сакавіка.** Указ царскага ўрада аб увядзенні абавязковага выкупу сялянскіх надзелаў у Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай губернях і ў інфлянцкіх паветах Віцебскай губерні з 1 мая 1863 г.

**1863 г. вясна.** Найвышэйшы ўздым паўстання на тэрыторыі Беларусі і Літвы.

**1863 г., 1 красавіка.** Закон аб найме сельскагаспадарчых рабочых.

**1863 г., 24 красавіка.** Захоп паўстанцамі г. Горкі.

**1863 г., 24 красавіка.** Бітва паміж паўстанцамі і царскімі войскамі каля в. Мілавіды Слонімскага павета.

**1863 г., 18 кастрычніка.** Цыркуляр аб выдзяленні трохдзесяціннага сямейнага надзелу сялянам, якія былі абеззямелены ў 1846–1856 гг., і аб вяртанні надзелаў сялянам, абеззямеленым пасля 1857 г.

**1863 г, 2 лістапада.** Цыркуляр аб пашырэнні ўказа ад 1 сакавіка 1863 г. на Магілёўскую губерню і астатнія паветы Віцебскай губерні з 1 студзеня 1864 г.

**1864 г., 1 студзеня.** Палажэнне аб земскіх установах (земская рэформа).

**1864 г., 29 студзеня.** Арышт К. Каліноўскага (пакараны смерцю 10 сакавіка 1864 г.).

**1864 г., 5 сакавіка.** Палажэнне аб ільготах пры куплі зямлі ў заходніх губернях асобам рускага паходжання.

**1864 г., май.** Заканчэнне ўвядзення ўстаўных грамат у Беларусі.

**1864 г., 10 ліпеня.** Забарона яўрэям купляць зямлю па-за гарадамі і мястэчкамі Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны.

**1864 г., 14 ліпеня.** Палажэнне аб пачатковых народных вучылішчах. Новы статут гімназій (школьная рэформа).

**1864–1876 гг.** Адкрыццё настаўніцкіх семінарый у Маладзечне, Нясвіжы, Свіслачы і Полацку.

**1864 г.** Заканчэнне будаўніцтва шашы Кіеў–Брэст (1864 вярсты).

**1865 г., 10 снежня.** Забарона асобам польскага паходжання купляць і арандаваць зямлю ў Беларусі, Літве і Правабярэжнай Украіне.

**1866 г.** Адкрыццё Дзвінска-Віцебскай чыгункі (245 вёрст).

**1867 г., 16 мая.** Закон аб пазямельным упарадкаванні дзяржаўных сялян Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны.

**1868 г., 19 лютага.** Палажэнне аб скасаванні аднадворцаў у Беларусі і Літве.

**1869–1878 гг.** Будаўніцтва Маскоўска-Брэсцкай чыгункі.

**1869–1894 гг.** Жыццё і дзейнасць А. Гурыновіча.

**1870 г., 1 мая.** Адкрыццё Гомельскага гарадскога банка, першага ў беларускіх губернях.

**1871 г., 16 лістапада.** Увод у эксплуатацыю чыгуначнай магістралі Смаленск – Мінск – Брэст; афіцыйная дата адкрыцця Беларускай чыгункі.

**1872 г.** Увядзенне ў Беларусі міравых судоў.

**1872–1918 гг.** Дзейнасць у Полацку настаўніцкай семінарыі.
**1873 г.** У Мінску пачаў дзейнічаць вадаправод.
**1873 г.** Пачатак эксплуатацыі лініі Вільна–Мінск–Гомель Лібава-Роменскай чыгункі.
**1873 г.** Адкрыццё чыгунак Брэст–Граева (199 вёрст) і Брэст–Кіеў (985 вёрст).
**1873 г.** Адкрыццё Мінскага камерцыйнага банка.
**1873 г., 11 мая.** Палажэнне аб спыненні судовых спраў па канфіскацыі маёнткаў удзельнікаў паўстання 1863–1864 гг. у Беларусі і Літве.
**1874 г., 1 студзеня.** Ваенная рэформа – увядзенне ўсеагульнай воінскай павіннасці.
**1874 г.** Адкрыццё першых у Беларусі таварыстваў узаемнага крэдыту (Мінск, Магілёў, Віцебск).
**1875 – 1877 гг.** Дзейнасць гуртка Я. Хургіна ў Мінску.
**1875 г., 29 красавіка.** Гарадская рэформа ў заходніх губернях.
**1876 г., 7 сакавіка.** Забастоўка рабочых Мінскіх чыгуначных майстэрань – адно з першых выступленняў рабочых у Беларусі.
**1876 г., 15 ліпеня –**
**1916 г., 17 лютага.** Жыццё і творчасць Цёткі (А.С. Пашкевіч).
**1878 г.** Утварэнне ў Магілёве народніцкага гуртка "Зямля і воля".
**1878 г., 4 красавіка.** Скасаванне інстытута міравых пасрэднікаў у Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губернях.
**1879–1880 гг.** Прыезды ў Мінск Г. Пляханава з мэтай арганізацыі выдання газеты "Черный передел".
**80-я – першая палова 90-х гг.** Аграрны крызіс у Расійскай імперыі.
**1881 г., 1 сакавіка.** Забойства нарадавольцамі імператара Аляксандра II.
**1881 г.** Утварэнне ў Пецярбургскім універсітэце нелегальнага беларускага студэнцкага зямляцтва.
**1881–1882 гг.** Утварэнне паўночна-заходняй арганізацыі "Народная воля".
**1881 г., 28 снежня.** Закон аб абавязковым выкупе часоваабавязаных сялян расійскіх, паўночна- і паўднёваўкраінскіх губерняў з 1 студзеня 1883 г.
**1882 г., 9 студзеня.** Прыняцце закона аб абавязковым выкупе зямлі сялянамі і спыненне часоваабавязаных адносін сялян з памешчыкамі з 1883 г.
**1882 г., 3 мая.** Забарона яўрэям сяліцца па-за гарадамі і мястэчкамі "мяжы аселасці" (за выключэннем яўрэйскіх земляробчых паселішчаў).
**1882 г., 18 мая.** Заснаванне Сялянскага пазямельнага банка.
**1882 г., 18 мая.** Закон аб паступовай адмене саслоўнага падушнага падатку.
**1882 г., 1 чэрвеня.** Выданне закона ад забароне на фабрыках, заводах і мануфактурах працы дзяцей да 12 гадоў, абмежаванні працоўнага дня падлеткаў (12–15 гадоў) і вызваленні іх ад работы ў начны час і ў святочныя дні.
**1882 г., 3 чэрвеня.** Палажэнне аб пазямельным упарадкаванні вольных людзей у Беларусі і ў Літве.
**1882 г., 7 ліпеня – 1942 г., 28 чэрвеня.** Жыццё і творчасць Я.Купалы.
**1882 г., 3 лістапада – 1956 г., 13 жніўня.** Жыццё і творчасць Я.Коласа.
**1882 г.** Забарона яўрэям пражываць у вёсках, на тэрыторыі, уключанай у так званую мяжу яўрэйскай аселасці.
**1882–1887 гг.** Будаўніцтва Палескіх чыгунак (1408 вёрст).
**1884 г.** Выданне нелегальнага часопіса "Гомон" – органа беларускіх нарадавольцаў.
**1884 г.** Выданне ў Вільні "Праграмы рабочых, членаў партыі "Народная воля" ў Паўночна-Заходнім краі".
**1884 г.** Хваляванні сялян у 12 валасцях Бабруйскага, Ігуменскага і Слуцкага паветаў у сувязі са спробай самавольнага перасялення ў Сібір.
**1884–1889 гг.** Дзейнасць у Мінску першых рабочых гурткоў марксісцкага кірунку.
**1885 г., 21 красавіка.** Заснаванне Дваранскага пазямельнага банка.
**1885 г., 3 чэрвеня.** Выданне закона аб забароне начной працы жанчын і падлеткаў (да 17 гадоў).
**1886–1902 гг.** Выданне газеты "Минский листок".
**1886 г.** Закон аб абавязковым пераводзе дзяржаўных сялян на выкуп.

**1886 г., 9 чэрвеня.** Палажэнне аб пазямельным упарадкаванні сельскіх чыншавікоў у Беларусі, Літве і Правабярэжнай Украіне.

**1886 г., 12 чэрвеня.** Палажэнне аб найме сельскагаспадарчых рабочых.

**1886 г.** Закон аб абавязковым пераводзе дзяржаўных сялян расійскіх, паўночна- і паўднёваўкраінскіх губерняў на выкуп.

**1886 г., 11–20 ліпеня.** Забастоўка рабочых Гомельскіх чыгуначных майстэрань.

**1882–1887 гг.** Будаўніцтва Палескіх чыгунак (1408 вёрст).

**1887–1894 гг.** Дзейнасць у Гродне падпольнага рэвалюцыйнага гуртка пад кіраўніцтвам М. Дзем'яновіча і С. Галюна.

**1887 г.** Адкрыццё чыгункі Брэст – Холм (107 вёрст).

**1889 г.** Закон аб земскіх начальніках у Расіі (у Беларусі ўведзены ў 1900 г.).

**1889 г.** На Добрушскай папяровай фабрыцы пачала дзейнічаць першая ў Беларусі электрастанцыя.

**1889–1890 гг.** Выступленні сялян у шэрагу валасцей Чэрыкаўскага, Клімавіцкага і Гомельскага паветаў Магілёўскай губерні ў сувязі са спробамі самавольнага перасялення ў Сібір.

**1890 г.** Земская контррэформа. Новае палажэнне аб земскіх установах.

**1890 г., 5 чэрвеня.** Адкрыццё ў Мінску гарадского тэатра.

**1891 г., 9 снежня –**
**1917 г., 25 мая.** Жыццё і творчасць М.Багдановіча.

**1892 г., 10 мая.** У Мінску пачала дзейнічаць конка.

**1893 г., 8 ліпеня.** Закон аб абмежаванні зямельных перадзелаў у сельскай абшчыне.

**1893 г., 14 снежня.** Закон аб абмежаванні права распараджэння надзельнымі землямі.

**1894 г.** Утварэнне партыі "Народнае права".

**1894 г., сакавік.** Забастоўка рабочых Гомельскіх чыгуначных майстэрань.

**1894–1897 гг.** Дзейнасць у Мінску падпольнай арганізацыі рамесных рабочых.

**1894 г., май.** На Добрушской папяровай фабрыцы ўпершыню ў Расійскай імперыі ўведзены 8-гадзінны працоўны дзень.

**1895 г., студзень, сакавік.** Забастоўка рабочых Мінскіх чыгуначных майстэрань пад кіраўніцтвам сацыял-дэмакратычный групы С.Трусевіча.

**1895 г., 1 мая.** Першае святкаванне рабочымі Мінска 1 Мая.

**Канец 1895 г.–1897 г.** Масавыя хваляванні сялян Магілёўскай і Віцебскай губерняў у сувязі са спробамі самавольнага перасялення ў Сібір.

**1896 г.** Утварэнне Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі.

**1896 г.** У Мінску пачала дзейнічаць першая ў Беларусі тэлэфонная сетка агульнага карыстання.

**1896 г., май.** Утварэнне Рабочага саюза Літвы.

**1897 г.** Першы ўсеагульны перапіс насельніцтва ў Расійскай імперыі.

**1897 г.** Утварэнне Таварыства ўзаемнай дапамогі настаўнікаў і вучаніц Віцебскай губерні.

**1897 г., 1 студзеня.** Грашовая рэформа ў Расіі (закон аб увядзенні залатога грашовага абарачэння).

**1897 г., 2 чэрвеня.** Выданне закона аб абмежаванні рабочага дня на фабрыках і заводах 11,5 гадзіны.

**1897 г., верасень.** Першы з'езд прадстаўнікоў яўрэйскіх сацыял-дэмакратычных арганізацый у Вільні. Утварэнне Бунда.

**1898 г., 1–3 сакавіка.** Першы з'езд РСДРП у Мінску.

**1898 г., 18 чэрвеня.** Бельгійскае акцыянернае таварыства пачало эксплуатацыю трамвая ў Віцебску.

**1899 г.** Пабудавана чыгунка Гродна–Сувалкі–Оліта (185 вёрст).

**1899 г., май.** Забастоўка рабочых Гомельскіх чыгуначных майстэрань пад кіраўніцтвам камітэта РСДРП.

**1899 г., верасень.** Забастоўка работніц тытунёвай фабрыкі ў Гродне.

**1900 г.** Утварэнне таварыства дапамогі настаўнікам і навучэнцам народных вучылішч Магілёўскай губерні.

**1900 г., студзень.** З'езд прадстаўнікоў Рабочага саюза Літвы ў Мінску. Аб'яднанне яго з сацыял-дэмакратыяй Каралеўства Польскага, утварэнне СДКПіЛ.
**1900 г., 12 чэрвеня.** Увядзенне інстытута земскіх участковых начальнікаў у Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губернях.
**1900 г., 25 снежня.** Адкрыццё публічнай бібліятэкі імя А.С. Пушкіна ў Мінску.
**1901 г., 1 мая.** Першамайская дэманстрацыя рабочых у Віцебску і Гомелі.
**1901–1903 гг.** Дзейнасць у Мінску Яўрэйскай незалежнай рабочай партыі.
**1901 г. (канец) –**
**пачатак 1902 г.** Утварэнне Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў).
**1901 г.** Масавыя хваляванні сялян пры размежаванні зямлі ў Дзісенскім павеце і Вішнеўскай воласці Ашмянскага павета Віленскай губерні ("Ашмянскі бунт").
**1902–1907 гг.** Будаўніцтва чыгункі Полацк–Сядлец (590 вёрст).
**1902 г., сакавік.** Масавыя выступленні сялян у Харкаўскай і Палтаўскай губернях.
**1902 г., верасень.** Утварэнне Польскай сацыялістычнай партыі ў Літве.
**1902 г., снежань.** Утварэнне Беларускай сацыялістычнай грамады (Першы з'езд адбыўся ў Вільні).
**1902 г., 24 снежня.** Адкрыццё руху на чыгунцы Віцебск–Жлобін (262 вярсты).
**1902–1905 гг.** Выданне ў Мінску газеты "Северо-Западный край".
**1902 г.** Усерасійскі з'езд сіяністаў у Мінску.
**1903 г., 12 сакавіка.** Указ аб скасаванні кругавой парукі сялян пры спагнанні казённых, земскіх і мірскіх падаткаў і збораў.
**1904 г.** Увядзенне інстытута земскіх участковых начальнікаў у Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губернях.
**1904 г.** Адкрыццё руху на чыгунцы Пецярбург – Віцебск (347 вёрст).
**1904 г., студзень.** Утварэнне Палескага камітэта РСДРП.
**1904 г., сакавік.** Утварэнне Паўночна-Заходняга камітэта РСДРП.
**1904 г., 11 жніўня.** Маніфест аб адмене цялесных пакаранняў сялян па прысудах валасных судоў.
**1905 г., 9 студзеня.** "Крывавая нядзеля" ў Пецярбургу – пачатак першай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі.
**1905 г., вясна–лета.** Буйныя хваляванні сялян у Рэчыцкім, Навагрудскім, Слуцкім, Мінскім і іншых паветах Мінскай губерні.
**1905 г., 17 чэрвеня.** Расстрэл царскімі войскамі сялян у в. Кіпчыцы (Шклоўскі раён), забіта 8, цяжка паранена 15 чалавек.
**1905 г., чэрвень.** Агульная забастоўка парабкаў і сялян у Навагрудскім павеце Мінскай губерні.
**1905 г., 6 жніўня.** Падпісанне Маніфеста аб увядзенні ў Расіі "законадарадчай Дзяржаўнай думы".
**1905 г., кастрычнік.** Усерасійская палітычная стачка.
**1905 г., кастрычнік.** Утварэнне буржуазнай Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі (кадэтаў).
**1905 г., 17 кастрычніка.** Маніфест аб скліканні заканадаўчай Думы і аб канстытуцыйных свабодах.
**1905 г., 18 кастрычніка.** Курлоўскі расстрэл у Мінску, у выніку чаго больш за 80 чалавек забіта і некалькі соцень паранена.
**1905 г., 18 кастрычніка.** Расстрэл дэманстрацыі ў Віцебску.
**1905 г., 3 лістапада.** Маніфест аб адмене выкупных плацяжоў з сялян 1 студзеня 1907 г.
**1905 г., 6–12 лістапада.** II з'езд Усерасійскага сялянскага саюза ў Маскве.
**1905 г., 15 лістапада –**
**15 снежня.** Усерасійская стачка работнікаў пошты і тэлеграфа.
**1905 г., лістапад.** Узнікненне буржуазнай партыі "Саюз 17 кастрычніка" (акцябрысты).
**1905 г., 22–25 лістапада.** Паўстанне салдат у Бабруйскім дысцыплінарным батальёне.
**1905 г., 2 снежня.** Адмена крымінальнага пераследу за ўдзел у эканамічных стачках.

**1905 г., снежань.** Усерасійская палітычная стачка.

**1905 г., 11 снежня.** Апублікаванне новага выбарчага закона ў І Дзяржаўную думу.

**1905 г., снежань.** Узброенае супраціўленне сялян паліцыі ў Аршанскім і Сенненскім паветах Магілёўскай губерні ў час прымусовага вяртання памешчыкам захопленых сялянамі лесу, зямлі і інш.

**1905 г., снежань.** Узброеныя выступленні сялян Кобрынскага павета Гродзенскай губерні з патрабаваннем перадаць ім панскія землі.

**1905 г., снежань – 1906 г., студзень.** Паўстанні сялян, якія суправаджаліся разгромам сядзіб памешчыкаў і захопам іх маёмасці, у Чэрыкаўскім і Клімавіцкім паветах Магілёўскай губерні.

**1906 г., пачатак года.** Стварэнне Мінскай акруговай сялянскай арганізацыі пры РСДРП.

**1906 г., 4 сакавіка.** Выданне закона аб легалізацыі прафсаюзаў.

**1906 г., 27 красавіка – 8 ліпеня.** Дзейнасць І Дзяржаўнай думы.

**1906 г., 18 мая.** Заснаванне ў Пецярбургу беларускай выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца".

**1906 г., май–жнівень.** Уздым сялянскага руху ў Расійскай імперыі.

**1906 г., лета.** З'езд прадстаўнікоў сялянскіх камітэтаў, скліканы Магілёўскай акруговай арганізацыяй РСДРП.

**1906 г., лета.** Забастовачны рух сялян Навагрудскага, Слуцкага, Пружанскага і Брэсцкага паветаў Мінскай і Гродзенскай губерняў, які суправаджаўся сутычкамі з паліцыяй.

**1906 г., 19 жніўня.** Выданне "Палажэння аб ваеннапалявых судах".

**1906 г., верасень –**
**1907 г., студзень.** Выданне першай легальнай беларускай газеты "Наша доля".

**1906 г., 9 лістапада.** Указ аб выхадзе сялян з абшчыны. Пачатак правядзення сталыпінскай аграрнай рэформы.

**1906 г., 10 лістапада – 1915 г., 7 жніўня.** Выданне газеты "Наша ніва" ў Вільні.

**1907 г., 20 лютага – 2 чэрвеня.** Дзейнасць II Дзяржаўнай думы.

**1907 г., май.** З'езд народных настаўнікаў у Вільні, стварэнне Беларускага настаўніцкага саюза.

**1907 г., 3 чэрвеня.** Роспуск II Дзяржаўнай думы, дзяржаўны пераварот.

**1907 г., 1 лістапада – 1912 г., 9 чэрвеня.** Дзейнасць III Дзяржаўнай думы.

**1910–1915 гг.** Выданне Таварыствам мінскіх урачоў штомесячнага часопіса "Минские врачебные известия".

**1910–1913 гг.** Дзейнасць першага беларускага прафесійнага тэатра пад кіраўніцтвам І. Буйніцкага.

**1910 г., 14 чэрвеня.** Закон "Аб змяненні і дапаўненні некаторых пастаноў аб сялянскім землеўладанні" (зацвярджэнне царом закона аб выхадзе з пазямельнай абшчыны).

**1911 г.** У Вільні ўтварыўся Беларускі музычна-драматычны гурток.

**1911 г., 14 сакавіка.** Увядзенне земстваў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях.

**1911 г., 29 мая.** Закон аб землеўпарадкаванні на сялянскіх надзельных землях.

**1912 г., 27 студзеня.** Першая пастаноўка п'есы Я.Купалы "Паўлінка" ў Вільні.

**1912 г., вясна.** Пачатак выдання літаратурнага і грамадска-палітычнага альманаха "Маладая Беларусь" у Пецярбургу.

**1912 г., 15 лістапада – 1917 г., 25 лютага.** Дзейнасць IV Дзяржаўнай думы.

**1914 г., 19 і 24 ліпеня / 1 і 6 жніўня.** Аб'яўленне Германіяй і Аўстра-Венгрыяй вайны Расіі. Пачатак Першай сусветай вайны

**1915 г., 27 жніўня / 9 верасня – 19 верасня / 2 кастрычніка.** Свянцянскі прарыў германскімі войскамі расійскага фронту.

**1915 г., жнівень – кастрычнік.** Акупацыя войскамі Германіі тэрыторыі Беларусі да лініі Дзвінск–Паставы–Смаргонь–Баранавічы–Пінск.

**1915 г., лістапад.** Акрыццё ў Вільні першай беларускай пачатковай школы.

**1915 г., 9 лістапада.** Пачатак эксплуатацыі чыгункі Жлобін – Калінкавічы – Оўруч – Шапятоўка.
**1916 г., люты – 1918 г.** Выданне газеты "Гоман" (Вільня).
**1916 г., 5/18–15/28 сакавіка.** Нарачанская аперацыя расійскіх войскаў.
**1916 г., 19 чэрвеня/2 ліпеня– 16/24 ліпеня.** Баранавіцкая (Скробава-Гарадзішчанская) аперацыя расійскіх войскаў.
**1916 г., 22–26 кастрычніка.** Паўстанне салдат на размеркавальным пункце ў Гомелі.
**1917 г., 27 лютага.** Перамога Лютаўскай рэвалюцыі ў Петраградзе.
**1917 г., 2 сакавіка.** Адрачэнне ад трона імператара Мікалая II.
**1917 г., 2 сакавіка – 25 кастрычніка.** Дзейнасць Часовага ўрада Расіі.
**1917 г., 25–27 сакавіка.** З'езд беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску. Утварэнне Беларускага нацыянальнага камітэта.
**1917г., 7–17 красавіка.** І з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў Заходняга фронту ў Мінску.
**1917 г., май – 1918 г., лістапад.** Выданне газеты "Вольная Беларусь" (Мінск).
**1917 г., 8–10 ліпеня.** З'езд беларускіх нацыянальных арганізацый і партый у Мінску. Заснаванне Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый.
**1917 г., ліпень.** Адкрыццё Слуцкай беларускай гімназіі.
**1917 г., ліпень – снежань.** Першыя дэмакратычныя выбары ў органы земскага і гарадскога самакіравання.
**1917 г., 25–31 жніўня.** Узброенае выступленне на чале з Вярхоўным галоўнакамандуючым расійскімі ўзброенымі сіламі Л.Карнілавым супраць Часовага ўрада (карнілаўшчына).
**1917 г., 18– 24 кастрычніка.** З'езд воінаў-беларусаў Заходняга фронту ў Мінску. Заснаванне Цэнтральнай беларускай вайсковай рады.
**1917 г., кастрычнік.** Рэарганізацыя Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый у Вялікую беларускую раду.

## ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁНАЎ

# ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

## ЗМЕСТ

Навуковае выданне
**Біч** Міхаіл,
**Яноўская** Валянціна,
**Рудовіч** Станіслаў і інш.

**Гісторыя Беларусі**
У шасці тамах

Чацвёрты том
**БЕЛАРУСЬ У СКЛАДЗЕ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ**
**(канец XVIII– пачатак XX ст.)**

Рэдактар *Л. Салаўёва*

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 23.12.2004. Фармат 70 x 100/16.
Друк афсетны. Папера афсетная. Гарнітура Petersburg. Ум.друк.арк. 42,25. Ул.-выд.арк. 47,7.
Тыраж 3030 экз. Заказ № 22.

Унітарнае прадпрыемства «Экаперспектыва». Ліцэнзія ЛВ № 2330/0133393 ад 19.07.2004 г.
220043, г. Мінск, праспект Ф.Скарыны, 95.

Надрукавана на ўчастку аператыўнай паліграфіі ФТІ НАНБ.
Ліцэнзія ЛП № 2330/0133131 ад 30.04.2004 г.
220141, Мінск, вул. Купрэвіча, 10.

